АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

## У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»

1982

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

ТОМ 3

М—П

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»

1982

ББК 81.2Бел-4
С 48

Укладальнікі:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, Т. В. БАРОДЗІЧ, Г. У. АРАШОНКАВА,
В. Д. СТАРЫЧОНАК, П. А. МІХАЙЛАЎ, С. ГЛІНКА,
Я. ПЕТРУЧУК, Э. СМУЛКОВА, А. БАГРОЎСКА,
Т. ЯСІНСКА-СОХА, Я. ГЛУШКОЎСКА

Рэдакцыйная калегія:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, Ф. Д. КЛІМЧУК

Рэдактар тома Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

С 48 **Слоўнік** беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5-ці тамах. Т. 3. М—П / [Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч].— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.— 536 с.

У пер.: 2 р. 40 к.

Дадзены том змяшчае звыш сямі тысяч слоў на літары М—П.

С $\frac{4602020000-140}{М316-82}$ 104—82

ББК 81.2Бел-4
4Бел(03)

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Ва ўкладанні трэцяга тома ўдзельнічалі: Я. М. Рамановіч (літара М), А. І. Чабярук (літара Н), Т. В. Бародзіч (літара О), Г. У. Арашонкава (Па — пам), В. Д. Старычонак (Пан — пая), П. А. Міхайлаў (Пе — по). Польскія адпаведнікі ўносіліся ўкладальнікамі тома і дапаўняліся рэдактарам тома Ю. Ф. Мацкевіч. А. І. Грынавецкене распрацавала балтыйскія і германскія адпаведнікі. С. Глінка прыняў удзел у рэдагаванні літар М і Н.

У дадзены том уключаны матэрыялы, якія дадаткова былі сабраны ў 1980—1981 гг.

## СПІС НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ, МАТЭРЫЯЛЫ З ЯКІХ ПАСТУПІЛІ Ў 1980—1981 гг., ПРОЗВІШЧЫ ЗБІРАЛЬНІКАЎ І ГОД ЗАПІСУ МАТЭРЫЯЛАЎ

**БССР**

*Астравецкі раён*

Малі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1980

*Ашмянскі раён*

Гальшаны — Я. М. Despite Рамановіч, А. І. Чабярук, 1980
Плябанцы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1980
Чуркі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук

*Браслаўскі раён*

Опса — В. Д. Старычонак, 1980

*Верхнядзвінскі раён*

Буды — Т. В. Бародзіч, 1980
Вялікае Сяло — Т. В. Бародзіч, 1980
Чапаеўскі — Т. В. Бародзіч, 1980

*Гродзенскі раён*

Васілевічы — Ф. Д. Клімчук, 1981
Вулька — Ф. Д. Клімчук, 1981
Сонічы — Ф. Д. Клімчук, 1981

*Кобрынскі раён*

Ушкавіца — П. А. Міхайлаў, 1980

*Лідскі раён*

Збляны — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1981
Мыто — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1981
Навасёлкі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1981

*Мядзельскі раён*

Вузла — Ю. Ф. Мацкевіч, 1981

*Навагрудскі раён*

Валеўка — С. Г. Лобач, 1981

**ЛатССР**

*Дайгаўпілскі раён*

Дэмене — В. Д. Старычонак, 1980
Медумі — В. Д. Старычонак, 1980

**ЛітССР**

*Шальчынінскі раён*

Руднікі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1980

# М

МАГА'. У выразе: *Як мага* — як можна хутчэй; колькі хапае сілы. *Як мага бяжыш.* Малахоўцы Бар. *Як мага паляцеў.* Жылі Іўеў. *Я нясу і вязу як мага.* Раўбічы Мін.; *парайн.* літ. *smagiai* 'хутка'.

МАГАЗІ'Н, МАГА'ЗЫ'Н, МАКАЗЫ'Н *м.* 1. Магазін. *Хацела схадзіць у магазін.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас магазін ёсць.* Груздава Паст. *Ішчэ ў магазіне поўна людзей.* Альхоўка Навагр. *У нас тут магазын, амбуляторыя ёсць.* Солы Смарг. *Куплялі ў магазыне.* Беняконі Воран. *У восем часоў магазын аткрываецца.* Парэчча Гродз. *Магазын мураваны.* Быстрыца Астр. *У маказын ідзе па хлеп.* Вострава Маст. 2. *устар.* Будынак, дзе захоўвалася грамадскае зерне. *Некалі дабро давалі, магазін быў.* Груздава Паст. *Магазын быў, у ім зярно хранілася.* Кураполле Паст. *Бальшыя магазыны былі.* Паляцкішкі Воран. *Былі магазыны такія: каму трэба збожжа, едуць у воласць і даюць. Вясной давалі, а ўвосянь ужо аддавау.* Цепленъ Уздз. *Колесь буў магазын абшчэственный, туда ссыпалі по пудовэ. Мый дыд буў сторожом коло того магазына.* Дзмітравічы Кам. *У маказын ссыпалі зярно.* Азяраны Раг.

МАГАЗЫНО'ВЫ *прым.* Магазінны. *Былі саганы магазыновыя, пабяляныя.* Старыя Трокі Трак. *Магазыновае сукно.* Грыкені Вільн. *Магазыновы сыр люблю.* Кудзялянцы Шальч.

МАГІ'ЛА *ж.* Месца пахавання каго-н. *Апкапалі магілу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пахавалі і зрабілі магілу харошую.* Баброўнікі Гарад.

МАГІ'ЛКА *ж.* 1. Яма, у якой хаваюць памёршага. *Труну апусцілі ў магілку.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і м а г і л а. *Нада аправіць магілку.* Кураполле Паст. *Вянцы на магілках па маладых.* Дзераўное Стаўб.

МАГІ'ЛКІ, МАГІЛКЕ' толькі *мн.* 1. Могілкі. *Магілкі нідалёка.* Солы Смарг. *На магілкі на тройцу ці хадзіла?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пабілі людзей за магілкамі. Магілкі новыя найпроці старых.* Малахоўцы Бар. *Булкі выберу, тады пайду*

*на магілкі.* Ракаўскія Швянч. *На магілкі хадзіла.* Альхоўцы Лях. *Ужо павязлі яго на магілке хаваць.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Агароджа на могілках. *Пойдзем магілкі маляваць.* Ракаўскія Швянч.

МАГІ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і м а г і л к і 1. *Магільнік у нас нідалёка, праз гарот прайсці. Магільнік у нас апушчаны. Магільнік тут у нас, і капліца там.* Магуны Паст. *Наша вёска даўней была раздзеленая на дзве вёскі магільнікам, ну, гэдык расказывалі старыкі.* Баяры Мядз. *Магільнік бліска, у ляску, на высокам месці.* Асавец Віл. *За цэркваў магільнік.* Ністанішкі Смарг. *На магільніку адна магілка стаіць не абложаная.* Рагулішкі Даўг. *Магільнік убірала. Спісок склаў, хто магільнік убіраў. Каля магільніку насыпана жвіру.* Ракаўскія Швянч. *На магільніку хавалі.* Старыя Трокі Трак. *Хадзілі на магільнік.* Кемялішкі Астр.

МАГІ'ЛЬНІЧАК *м. памянш.* да м а г і л ь н і к. *Пахавалі на магільнічку.* Талейкі Швянч.

МАГЛА' *ж.* Імгла. *Магла ідзе, дождҗык мгліць.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. *miglà* 'тж'.

МА'ҐЛІ толькі *мн.* Качалка для бялізны. *Скручвалі на маґлі, на тоўсту качалку, і маґлююць.* Дакудава Лід. *Маґлі былі. На маґлі навернем і маґлюем — так прасавалі бялізну.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *magiel* 'тж'.

МАГЛЯВА'ЦЬ *незак.* Качаць бялізну. *Скручвалі на маґлі бялізну і маґлявалі.* Дакудава Лід. *Маґлявалі* [бялізну], *главкая палучаяцца.* Мсцібава Ваўк. *Маґлявалі бяллё на маґлях.* Вузла Мядз. *Маґлявалі бялізну, так прасавалі яе.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *maglować* 'тж'.

МАГЛЯЎНІ'ЦЫ' *мн.* Прыстасаванне ў кроснах, па якім ідзе палатно на навой. *Магляўніцы ў варстаце, прыдзержваць вытканае палатно, яно ідзе па ім, на магляўніцах, уецца на навой.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* м а́ ґ л і.

МАГНА'ТЫ *прым.* Вялікі. *Сава крычыць усякім голасам, у савы галава магнатая.* Саланое Віл.

МАГНА'ЧКА *ж.* Багачка. *Глядзі, магначка якая!?* Магуны Паст.

МАГУ'ЛІНА *ж.* 1. Што-н. малаважнае. *Па каждай магуліне сама і сама: то ў Мір едзь, то ў мельніцу.* Новіны Нясв. 2. Невялікая дэталь у кроснах. *Трэба каб не збытацца: хай аднае магуліны не будзя, не пайдзёт.* Альхоўцы Лях.

МАГУ'ЛІНКА ж. *памянш.* Кавалачак. *Дай мне кусочак хлеба і магулінку сала.* Кіралі Шчуч.

МАГЧЫ', МАХЧЫ' *незак.* 1. Мець сілы выканаць што-н. *Рабі як можыш.* Саланое Віл. *Не махчымеш працаваць.* Парэчча Гродз. *Я ня буду махчы рабіць.* Старое Сяло Зэльв. *Кап магла — лётала бы, аш брынды курэлі п.* Малі Астр.

*I гаварыць не махчымець. Махчымеце прыехаць?* Баброўнікі Гарад. *Яна ні мажэ, слабая сястра.* Азяраны Раг. 2. Абазначае верагоднасць дзеяння. *Можа сто гектараў гэта возера магло быць.* Швэды Вільн. *Перанэрвавалася за яго, мох п'яны быць.* Солы Смарг. *Мажэ і так быць.* Вецярэвічы Пух. 3. Быць здольным цярпець. *Яна не магла таго паветра ў горадзе.* Дзераўное Стаўб. ∇ *Як ня еў, то ня мох, а як пад'еў, то ні рук ні нох.* Вузла Мядз.

МАДЗҐАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Паставіла нагу, ён не хацеў, але мадзґануў шчоткай добра.* Раўбічы Мін.

МАДЛІ'ТВА *гл.* МАЛІ'ТВА

МАДЛІТЭ'ЎКА *ж.* Малітва. *Я мадлітэўкі ўмела.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* польск. *modlitwa* 'тж'.

МАДЛІ'ЦЦА *незак.* Маліцца. *Некаторыя модляцца, а некаторыя не.* Парэчча Гродз. *Яны мадліліся доўга.* Кудзяльянцы Шальч. *Мадлюся за яго, каб даў бох здароўя.* Стральцы Шальч.; *параўн.* польск. *modlić się* 'тж'.

МАДНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш модны. *Я буду маднейшая.* Лісна В.-Дзв.

МАДЫГАВА'ЦЦА *незак.* 1. Убірацца. *От, мадыгуецца, як пані.* Пацаўшчына Дзятл. *Вот ужо доўга мадыгуецца!* Альхоўцы Лях. 2. Важнічаць. *Во мадыгуецца, ідзе і ганарыцца.* Вецярэвічы Пух.

МАДЫРАВА'ЦЦА, МАДЭРАВА'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і м а д ы г а в а́ ц ц а 1. *Мадыруецца, на танцы пойдзіць. Яны мадыруюцца.* Магуны Паст. *Чаго ты мадыруесся, німа табе чаго мадыравацца.* Кіралі Шчуч. *Што ты мадыруесся, досць табе мадэравацца.* Гемзы Шальч. 2. Манернічаць, крыўляцца. *Што ты мадыруясся?* Быстрыца Астр. *Мадыруецца ідзець.* Ракаўскія Швянч. *Мадэруюцца, як строяцца, выстаўляюцца, галавой круцяць.* Вялікія Баяры Шчуч.

МАДЭРАВА'ЦЬ *незак.* 1. Уладжвацца. *Лягу на печ і мадэрую, кап на самае гарачае лехчы, і гэта памагае.* Гемзы Шальч. 2. Дагаджаць. *Яна яму мадэруе: робіць лепшую яду, кап хаця еў, а ён пакаштуе туды-сюды, яйко з'есь, кубак кавы.* Гемзы Шальч. 3. Імкнуцца ўцячы. *Даходная карова, не пільнюя стады, а так і мадэруе ў кусты.* Ракаўскія Швянч.

МАЕ'-СВАЕ' *у зваротку.* Дарагія. *Мае-свае, ён давёў дзяўчыну да такого, як яна жыць будзя?* Магуны Паст.

МаЁВЫ ЖУК *м. заал.* Хрушч. *Маёвыя жукі паявіліся.* Саланое Віл.

МАЁНТАК, МАЁНТЭК *м.* 1. Панскі двор, сядзіба. *Буў тут і дзе-та бліска каля нас маёнтак, бо ў маёнтак хадзілі ў заработкі.* Ёдлавічы Брасл. *Маёнтак — панскі двор.* Рыбчына Віл. *Маёнтак у Мільчы быў.* Саланое Віл. *Пан папродаваў зямлю, маёнтак, павырубаваў лясы.* Паляцкішкі Воран. *Два-*

*ры былі, а за польскім маёнткі.* Граўжышкі Ашм. *Хадзілі на заробаткі ў маёнтак Ксенця.* Стральцы Гродз. 2. Дом. *На табе маёнтэк, а я табе камяніцу.* Грыкені Вільн. 3. Зямельныя ўладанні пана. *Ад маёнтка зямля куплена.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *majątek* 'маёмасць, панскі двор'.

МАЁНТНІК *м. устар.* Пан. *Як у маёнтніка, быў сат.* Дакудава Лід.

МАЁЎКА *ж.* Тое ж, што і м а ё в ы ж у к. *Маёўку нада лапаць і лячыць барадаўкі.* Кудзялянцы Шальч.

МАЖДЖУ'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Таркаваць. *Мажджуліш і мажджуліш — і не бяроць: мусі тарка тупая.* Малі Астр.

МАЖДЖЭ'Р *м.* 1. Металічная ступа. *Мажджэр — ступа такая, жалезная.* Жодзішкі Смарг. *Мажджэр — ступа жалезная.* Дакудава Лід. *Ступка — з дрэва, а мажджэр — мідзяны.* Солы Смарг. *Перац у мажджэры таўклі.* Беразіно Докш. *Мажджэры былі — перац таўклі, кофію дзелалі з жалудоў.* Індра Красл.; *парайн.* польск. *moździerz* 'тж'. 2. *перан.* Галава. *Не лётай, мажджэр скруціш!* Вялікія Баяры Шчуч.

МАЖДЖЭ'РА *ж.* Тое ж, што і м а ж д ж э́ р 1. *Падайця мажджэру, нада патаўчы перац.* Вузла Мядз. *Ступка драўняная, як мажджэра.* Старыя Трокі Трак.

МАЖНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш рослы, відны. *Ёсць дзяўчата мажнейшыя, а яна шчупленькая.* Ністанішкі Смарг. *Тая мажнейша за гэту, кругламорда.* Кіралі Шчуч.

МАЖНЕ'ЦЬ *незак.* Паўнець, расцвітаць. *Мая дочка шчупленька, ніяк не мажнея, есць дзяўчата мажнейшыя, а яна шчупленькая.* Ністанішкі Смарг.

МАЖНЫ' *прым.* 1. Рослы, моцнага целаскладу. *Хлопец харошы, мажны, мардаты.* Галубы Маст. *Ён мажны такі, дзеўкі за ім бегаюць.* Міратычы Карэл. 2. Высокі, тоўсты. *Яна — мажная кабета!* Вялікія Баяры Шчуч.

МАЗАЛІ'ЦЬ *незак.* Націраць мазоль. *Новы туфяль будзя мазаліць.* Малі Астр.

МА'ЗАНКА *ж.* і *м. экспр.* Брудны (звычайна пра дзяцей). *Вымазалася каля вуха, мазанка ты!* Пацаўшчына Дзятл.

МА'ЗАЦЦА *незак.* 1. Пэцкацца. *Натта мазаюцца ногі.* Парэчча Гродз. 2. *безас. перан.* Хмарыцца. *Мажацца на дошч.* Груздава Паст., Рудня Астравітая Чэрв.

МА'ЗАЦЬ *незак.* 1. Падмазваць. *Целегу мазаць была харашо гэтым жырам.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Намазваць. *Блінчыка атламай і мазай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цяпер мазаюць* [твар]. *Як памазаюць, то вуграке не паяўляюцца.* Кіралі Шчуч. *Жывёлу мазаяць мазяй, каб вугрой не было.* Івашкаўцы Смарг.

МАЗГА' *ж.* Мязга. *З яе абразуецца слой дзерава каждага леса, з мазѓі. Мураўе сядзяць на мазѓе.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЗГАВА'ЦЬ *незак.* Думаць, меркаваць. *Усё мазгуя, як зрабіць лепей.* Пацаўшчына Дзятл.

МАЗГАЎНЯ *ж. груб.* Галава. *Вуш высунуў мазгаўню — забілі, не схаваўса.* Парэчча Гродз.

МАЗГІ', МАЗГЕ', МО'ЗГІ, МЭ'ЗГІ *мн.* Мозг. *Павук ловіць муху і мазгі ей дастаецъ.* Магуны Паст. *Сатрасенне здзелаўся мазок — і ўмер.* Навікі Лудз. *Мазге баляць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мозгі баляць, у мазгах пухне.* Дзяніскавічы Ганц. *Мэзгі ў галаве.* Парэчча Гродз. ∇ *Не ў вушах ум, а ў мазгах.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Круціцца ў мазгох* — старацца ўспомніць пра што-н. *Круціцца ў мазгох, не магу ўспомніць.* Альхоўка Навагр. *Мазгоў ні хватае* — пра някемлівага чалавека. *Мазгоў ні хватая ў яго.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мазок няма* — пра рассеянага чалавека. *Мазок у галаве няма, забываюся прас сябе.* Альхоўцы Лях.

МАЗЁНКА, МАЗО'НКА *ж.* Мазніца. *Пяюць Купалля і мазёнку палюць. Гарыць мазёнка, на дзераве вешалі.* Валынцы В.-Дзв. *Мазонку дзе задзеў — не знайсці.* Мішневічы Шум.

МАЗІ'ДЛА *н.* Мазь. *Волька нейкага мазідла дала.* Рудня Чэрв.; *параўн.* польск. *mazidło* 'тж'.

МАЗНА'Я Я'МА *ж.* Дзягцярня. *Мазная яма — дзе дзёгаць вырабатвалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАЗНІ'К *м.* Дзягцяр. *Мазнік — што дзёгаць гоніць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАЗНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і м а з ё н к а. *У мазніцу квач уткнёны.* Рыбчына Віл. *У мазніцы мась колы мазаць.* Солы Смарг. *Мазніцу куды-та закінуў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мазніца для мазі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

МАЗО'ЛЬ, МАЗУ'ЛЬ, МУЗО'ЛЬ *м.* Мазоль. *Крывавы мазоль, сухі мазоль, набіла мазоль — усякія бываюць. Цесныя туфлі былі: націскала крывавы мазоль.* Ёдлавічы Брасл. *Сухі мазоль на пяце, баліць.* Рыбчына Віл. *Крывавы мазоль раздавіла.* Гемзы Шальч. *Мазоль на пуццы, сухія мазале.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нацёр мазоль крывавы і сухі мазоль.* Малькуны Ігн. *Вадзяны мазоль лопнуў.* Жылі Іўеў. *Мазоль вялікі на пальцы.* Паляцкішкі Воран. *Мазоль на назе баліт і свербіт.* Лука Нараўк. *Крывяны мазуль нахапіўсо.* Дзяніскавічы Ганц. *Мазуле на нагах, на пальцы крывавы мазуль.* Міратычы Карэл. *Па дзевяць музалей на каждай руцэ.* Гемзы Шальч. *Які вялікі музоль!* Любішчыцы Івац. *Міжыпарніца з музаля бывая. Музоль натрэш.* Вецярэвічы Пух. *Сухі музоль.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Гультай — за работу, а мазоль — за рукі.* Малі Астр. *Хлеп з мазаля, не з зямлі.* Вузла Мядз. ◇ *Купіць за мазоль* — купіць за грошы, атрыманыя за працу. *За свой мазоль купіў я гэта.* Малькуны Ігн. *Жыць мазалём* — жыць

на сродкі, атрыманыя за сваю працу. *Чалавек жыў мазалём.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЗО'НКА *гл.* МАЗЁНКА

МАЗУ'Р *м.* Прадстаўнік этнаграфічнай групы палякаў, якая насяляе паўночна-ўсходнюю частку Польшчы. *Тут мазурэ жылі, але выехалі, ніхто вады не дастаў.* Вострава Маст.

МАЗУ'РКА *ж.* Польскі танец. *За маей памяцяй мазурку танцавалі.* Мсцібава Ваўк.

МА'ЗУР-ПО'ЛЬКА *ж.* Польскі танец. *Мазур-польку ўмеў красіва танцаваць.* Ухвала Круп.

МА'ІЦЬ *незак.* Хіліць на сон. *Мне маіць галава, ах ложыць.* Ністанішкі Смарг.

МАЙ *м.* Назва месяца. *У маі ня выганіш кароў.* Магуны Паст. ∇ *Май—каню сена дай, сам на печ уцякай—так холадна бывая ў маі.* Малі Астр. *Як ня сушыць май, то ня будзіць і сушыць сена.* Вузла Мядз.

МАЙДА'Н *м.* 1. Вялікі пляц. *У нас майдан—шырокі пляц.* Смаляніца Пруж. 2. Прадпрыемства, дзе гоняць дзёгаць, шкіпінар. *Майдан — гэта фабрыка, гдзе смалу вараць, там робіцца тэрпатына.* Крынкі Крын. *Капалі пне, вазілі, называлі майдан, аддзялялі дзёгець, тарпатыну.* Калясное Міхал.; *параўн.* польск. *majdan* 'тж'.

МАЙНА' *ж.* Трызненне. *Майна — гэто майначыць, як цемпература, то чалавек майначыць, гаворыць абы-што, абы-як.* Міратычы Карэл.

МАЙНА'ЧЫЦЬ *незак.* 1. Трызніць. *Як цемпература, то чалавек майначыць.* Міратычы Карэл. 2. *пеpан.* Хлусіць. *Ён і зная, што так было, але не хоча сказаць, і майнача і майнача.* Гемзы Шальч. 3. Адмаўляцца ад дадзенага абяцання. *Буду майначыць, калі буду абяцаць, а потым не дам, буду другоя гаварыць.* Граўжышкі Ашм. 4. Не скончыўшы адну работу, брацца за другую. *Майначыш работу: стала на адну, паляцела на другую, усё майначыць і майначыць. Што ты майначыш работу?* Старыя Смільгіні Воран. 5. Ашукваць. *Што майначыш міне!* Мсцібава Ваўк. 6. Думаць, меркаваць. *Ён майначыў: думаў, думаў — прадаць хату ці не?* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *mainýti* 'мяняць'.

МА'ЙСКІ *прым.* Майскі. *Майскія бяроскі кладуць у сена, мышы сена не ядуць.* Рагулішкі Даўг.

МА'ЙСКІ ЖУК *м.* Тое ж, што і м а ё в ы ж у к. *Майскі жук каля ліпаў літае.* Солы Смарг. *Майскіх жукоў на клёнаш кішаць.* Кіралі Шчуч. *Цяпер мала майскіх жукоў.* Рагулішкі Даўг.

МА'ЙСТАР, МА'ЙСЦЕР, МА'ЙСЦЯР *м.* Майстар. *Майстар хату ставіў.* Магуны Паст. *Прышоў майстар, згадзіла хату ставіць.* Паляцкішкі Воран. *Я — майстар плясці кошыкі, нада едлаўцу нарэзаць.* Мсцібава Ваўк. *Майстар дзерава ме-*

*рая мэтрам.* Новікі Гродз. *Майсцер хаты робіць.* Галаўні Воран. *Майсцер — плотнік. Не маглі знайсці майстроў.* Ёдлавічы Брасл. ◊ *На ўсе рукі майсцер. Ён у мяне на ўсе рукі майсцер.* Солы Смарг. *Ён кажа — майсцяр на ўсе рукі.* Квачы Нясв.; *парайн. ням.* *Meister* 'тж', польск. *majster* 'тж'.

МА'ЙСТРА *м.* Тое ж, што і м а́ й с т а р. *Я — майстра сам, але згадзіў майстроў. Майстра прышоў, клікала, кап даць ачапнога.* Гальшаны Ашм. *Майстра дом і вокна робіць. Наняла другога майстра печ перарабляць. Адзін майстра дом робіць, другі майстра печ перарабляя, трэбо заплаціць майстром.* Старое Сяло Зэльв. *Я падышоў да майстры — ён крыя страху — і ўсё пасматрэў: як вяжа жмені, падганяя да прывязі.* Руднікі Шальч. *Хату будуя майстра. Майстры прышлі да Стася.* Гемзы Шальч. *Брат добры майстра. Маю хату ставілі далёкія майстры.* Ракаўскія Швянч. *Прыдзіць майстра і справіць часы.* Малькуны Ігн. *Ён у нас бальшой майстра, усе зробіць сам.* Старыя Трокі Трак. *Майстра з работнікамі злажылі залох.* Грыкені Вільн.

МА'ЙТАЧКІ толькі *мн. памянш.* да м а́ й т к і 1. *Майтачкі с шарака шылі.* Стральцы Шальч. *Шарачкі ткалі і майтачкі хлопчыкам шылі.* Кудзялянцы Шальч.

МА'ЙТКІ толькі *мн.* 1. Верхнія мужчынскія штаны. *Паўсукенныя насілі майткі верхнія.* Быстрыца Астр. [Хлопец плаваў], *а майткі былі на другом боку рэчкі.* Солы Смарг. *Майткі купіў добрыя, сівыя.* Кудзялянцы Шальч. 2. Споднія мужчынскія штаны. *Майткі звалі пры Польшчы, а ў нас — патштанікі.* Ёдлавічы Брасл. *Майткі носяць мушчыны.* Кемялішкі Смарг. *Майткі парваў.* Паляцкішкі Воран. *Злажы майткі, ці споднія порткі.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *majtki* 'тж'.

МАК *м.* Мак. *Як малодая была, многа маку ела, то саліцёр вышаў.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *Сядзець макам* — сядзець ціха, не капрызіць. *Яна будзя плакаць — хай сядзіць макам!* Малі Астр.

МАКАВЕ'Й *м. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 1 жніўня. *Пашоў дошч перад макавеям, у сераду.* Міратычы Карэл. ∇ *Калі хочаш — гавей, а назаўтра — макавей.* Ухвала Круп.

МАКАВЕ'НЯ, МАКОВІЕ'НЯ *зб. н.* Сцяблы і лісце маку. *Макавеня сабраў.* Жылі Іўеў. *Макавеня натта качкі ядуць.* Кіралі Шчуч. *Адно макавеня стаіць.* Стральцы Гродз. *Маковкі позрывалі, а маковіене спалілі.* Курашэва Чыж.

МА'КАВІЦА *ж.* Макаўка хваста. *Па саму макавіцу адрэзаў хваста.* Баброўнікі Гарад.

МА'КАВЫ *прым.* Зроблены з маку. *Макавая малако рабілі.* Гемзы Шальч. ◊ *Макаво зярно з'есці* — крыху з'есці. *Хоць бы макаво зярно з'есці, капялётачку.* Навіны Нясв.

МАКАРО'Н *м.* Макарона. *На малцэ звару макарон.* Лоск Валож.

МАКА'ТКА *ж.* Невялікі вышыты дыван або карціна. *Макатка на сцяну вышытая.* Быстрыца Астр. *Па суравым вышывалі макаткі на сценку.* Солы Смарг. *Дайней макаткі вышывалі шалкавіцай.* Курапoлле Паст. *Макаткі вешаюць і цяпер.* Магуны Паст. *Макаткі вешаліся, на іх вышываліся лялькі, качкі.* Дакудава Лід. *Макаткі вісяць на сцяне.* Кіралі Шчуч. *Дайней ня было такіх макаткой, ня вешалі, а толькі рушнікі віселі.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *makata* 'вышыты дыванок на сцяну'.

МА'КАУКА, МАКО'ЎКА *ж.* 1. Плод маку. *Макайкі ў пук звязала, вісяць.* Альхоўцы Лях. 2. Мак-відук. *Макойка — розава квітніць.* Рагулішкі Даўг. 3. Верхняя частка чаго-н. *Макайка — верхняя частка снапа.* Лісна В.-Дзв. 4. Тое ж, што і м а́ к а в і ц а. *Макайка ў хвасце.* Гемзы Шальч. *Па саму макайку адрэзай хвост у каня.* Сакаляны Сакол.

МА'КАЎНІ'К *зб. м.* Тое ж, што і м а к а в е́ н я. *Ма́кайнік нада сабраць.* Багушэвічы Бярэз. *Макайнік ад маку.* Альхоўка Навагр.

МАКАЦЕ́Р, МАКАЦЕ́РТ, МА'КАЦЕР *м.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак. *Макацёр бралі і мак церлі ці ў чаронцы.* Ухвала Круп. *У макацёру мак цёрлі.* Стральцы Гродз. *Макацёрт быў, у ім церлі мак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Макацёрт — пасудзіна, знізу выжай* [вужай], *а зверху шырай, мак церлі, а я і бапку пякла ў макацёрці, рабы ён, непаліваны.* Дзяніскавічы Ганц. *Макацер — што мак мялі. Гліняны макацер куплялі.* Вецярэвічы Пух.

МАКА'ЦЬ *незак.* Мачаць. *Стрэлка* [страказа] *усё хвост макаіць у ваду.* Рагулішкі Даўг.

МАКЛА'К *гл.* МАКЛЯ'К

МАКЛІНА' *ж.* Нізкае месца, дзе вымакаюць пасевы. *Там, пат Кажанойшчыну, адна макліна, усё жыта вымакла.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *maklýnas* 'гразкае месца'.

МАКЛЫ'ЖЖА *зб. н. перан.* Намоклае адзенне. *Ты ўжо мне прынёс маклыжжа ў хату, а дзе сушыць яга?* Беразіно Докш.

МАКЛЯДДЗЁ *зб. н.* Тое ж, што і м а к л ы́ ж ж а. *Маклялдзё — многа мокрай адзежы.* Рыбчына Віл.

МАКЛЯ'ДЗІНА *ж.* Намоклае палена ў рэчцы. *Маклядзіна — палена, намокшае ў рэчцы.* Саланое Віл.

МАКЛЯ'К, МАКЛА'К, МАЧЛЯ'К, МАХЛЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і м а к л я́ д з і н а. *Такі макляк: дрэва выцягнулі з ракі. Макляк ня будзіць гарэць.* Саланое Віл. *Макляк — намокшае ў балоце ці ў рацэ палена.* Рыбчына Віл. *Дзерава дастаць з вады — гэта макляк, яно не плыве.* Дакудава Лід. *Макляк — дрэва, гадамі мокла ў вадзе. У рэках знаходзяць маклякі.*

Мярэцкія Глыб. *Макляк — моклая палена, што з вады дасталі.* Жылі Іўеў. *Макляк гарэць не будзя — намокшы дзерава ў вадзе, яго і высушы, яно клёку не мае.* Гемзы Шальч. *Зімой прынясеш сырыя дровы і кажа: «Накідала маклякоў у печ!»* Жодзішкі Смарг. *Такіх маклакоў мне прывёз, што і не высыхаюць.* Беразіно Докш. *Вымачаны мачляк дастаў.* Малахоўцы Бар. 2. *перан.* Тое ж, што і м а к л ы́ ж ж а. *У дарозя намок, усе маклякі перамыла.* Альхоўка Навагр. 3. *перан.* Мокрае сена. *От сена цяжола, макляк.* Опса Брасл. 4. Нізкае забалочанае месца. *Макляк — дзе зімля вымакла, нічога не расце.* Гайна Лаг. *Ма́кляк — дзе поля ніская, стаіць вада або так мокрая.* Чуркі Ашм. ∇ *Пад дажджом намок, як макляк.* Рыбчына Віл. *Я так сёня змок, як макляк.* Кіралі Шчуч. *Дзе дровы мокрыя ляжаць пры мокрым мейсцу, дровы, як махлякі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *taklẽkas* 'вымаклае палена'.

МАКЛЯЦЦЁ *зб. н.* Тое ж, што і м а к л ы́ ж ж а. *Ляжыць макляццё, буду мыць.* Багушэвічы Бярэз.

МАКЛЯ'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і м а к л я́ к 4. *Дзе маклячына, там парыннік расце.* Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *taklẽgė//taklẽkė* 'рэдкая гразь'.

МАКОВІЕ'НЯ *гл.* МАКАВЕ'НЯ

МАКО'ТАР *м.* Тое ж, што і м а к а ц ё р. *Макотар быў такі, мак церлі.* Новікі Гродз.

МАКО'ТРА *ж.* Тое ж, што і м а к а ц ё р. *У макотры церлі мак.* Вялікія Баяры Шчуч., Малахоўцы Бар., Масілавічы Сл. *Мак церлі ў макотрах.* Парэчча Гродз., Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *makutra* 'тж'.

МАКО'ЎКА *гл.* МА'КАЎКА

МАКО'ЎНІК *м.* 1. Тое ж, што і м а к а в е́ н я. *Як абмалоцяць мак, астаецца макоўнік, ідзе на патсцёл, кінуць дзе, да парагніе.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Месца, дзе рос мак. *На макоўніку рос мак.* Малькуны Ігн. 3. Печыва з макам. *Макоўнік пяклі на каляды, на пасху.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАКРАДЗІНА' *ж.* Макрата. *Але макрадзіна на падворку! Чаго вас* [дзяцей] *халера па той макрадзіне носіць?* Баброўнікі Гарад.

МАКРАТА' *ж.* 1. Тое ж, што і м а к р а д з і н а́. *Ад макраты гэтыя ябланы ссохлі.* Ністанішкі Смарг. 2. у знач. *прысл.* *макрато́й.* У дажджлівае надвор'е. *Макратой ішоў.* Вузла Мядз.

МАКРАЧО'К-РАБАЧО'К *м. бат.* Кветка ляшчыны. *На ляшчынах макрачкі-рабачкі, яны ўжо пыляць.* Быстрыца Астр.

МАКРАЧЭ'ЧА *ж. экспр.* Тое ж, што і м а к р а д з і н а́. *Макрачэча такая, няма чым падсцяліць.* Пацаўшчына Дзятл.

МАКРАЯ'ЦЬ *ж.* Тое ж, што і м а к р а д з і н а́. *У цялушкі макраяць была.* Кураполле Паст.

МАКРО', МОКРО' *безас.* у знач. *вык.* Мокра. *Макро на сенажаці. Макро ў хляве.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мокро на дворі, бо дошч.* Дзмітравічы Кам.

МАКРУ'ТКІ *прым. экспр.* Прамоклы. *Быў такі дошч, мы ішлі макруткія.* Старыя Трокі Трак.

МАКРУ'ША *ж. заал.* Макрыца, сараканожка. *Макрушы і станошкі — то самая.* Старыя Трокі Трак. *Макрушы — іх цьма цьмушчая бываіць.* Курaполле Паст. *У макрушы многа ног.* Мішневічы Шум.

МАКРУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і м а к р у́ ш а. *У макрушкі нох сорак. Там іх гібель гэтых макрушак.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАКРЫ'ВЫ *прым.* Дажджлівы. *Макрывы гот быў, жыта не ўрадзіла.* Валынцы В.-Дзв. *Макрывы гот сёліта.* Курапол-ле Паст.

МАКРЫНА', МАКРЫНЯ' *ж.* 1. Вільгаць. *Грыб любіць макрыну.* Асавец Віл. 2. Тое ж, што і м а к р а д з і н а́. *Яны* [кураняты] *макрыні баяцца.* Граўжышкі Ашм.

МАКРЫ'ЦА *ж.* 1. *бат.* Макрыца. *Макрыца расце па гародах.* Гемзы Шальч., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Макрыцу свіні ядзяць.* Чарняўскія Лудз. *Як навярэдзіш руку, прыкладвалі макрыцай і жабай.* Плябанцы Ашм. *Макрыца сцеліцца ўюном, не пусціць нічога расці, свіня яе ядуць.* Кіралі Шчуч. *У гародзі ўсю разору скаціла макрыцаю.* Навасёлкі Свісл. 2. Настой раслін. *Макрыца як квітніць, п'юць ад задышкі.* Рагулішкі Даўг. *Макрыца ад кравянога даўлення добра.* Кіралі Шчуч.

МАКРЫЦЦЁ *зб. н.* Тое ж, што і м а к л ы́ ж ж а. *Макрыццё сваё паразвешвай. Наваліў макрыцця на лаўку — і няхай ляжыць.* Беразіно Докш.

МАКРЭ'Й *прысл.* Вельмі мокра. *Лезя* [дзіця], *дзе макрэй.* Малахоўцы Бар.

МАКРЭ'Ц І *м.* Тое ж, што і м а к р ы́ ц а 1. *Макрэц паслаўся па бульбя.* Вялікія Баяры Шчуч.

МАКРЭ'Ц ІІ *м.* Тое ж, што і м а к р у́ ш а. *Макрэц у сырым месці, многа там бывая макрацоў.* Ёдлавічы Брасл.

МАКРЭ'Ц ІІІ *м. вет.* Мокры лішай на нагах у коней і авец. *Макрэц у каня, у стрэлках ззадзі* [у капытах]. Лука Нараўк. *Макрэц убіўся каровя.* Рыбчына Віл. *Макрэц — хвароба авеччая.* Глівін Барыс. *Макрэц у авец ад сырасці, капыты гніюць і между капытоў.* Мельнікі Лудз. *Макрэц — хвароба капыт.* Данілавічы Дзярж.

МАКРЭ'ЦЬ *незак.* Адпацяваць (пра вокны). *Вокна не макрэюць.* Дзяніскавічы Ганц.

МАКРЭ'ЧА *ж.* Тое ж, што і м а к р а д з і н а́. *Макрэча на дварэ. Прошлы гот гуркі з макрэчы гнілі.* Мсцібава Ваўк. *Цяпер макрэча, грась.* Дзяніскавічы Ганц. *Макрэча ў хлеве.* Альхоўцы Лях.

МАКУКА́ гл. МАКУ́ХА́

МАКУЛІ́НАЧКА *ж. перан.* Вельмі малы памерам. *Грып — такая макуліначка, і лезе з зямлі.* Кіралі Шчуч.

МАКУ́ЛІ́НКА, МАКУ́ЛІНЬКА *ж. перан.* 1. Дробязь. *Усякую маку́лінку нада парабіць.* Кураполле Паст. *За малую маку́лінку сварку завялі.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Дробныя рэчы. *Бывала, нада было напрасці на ўсякую маку́ліньку: на анучы, пасцілкі, ручнікі.* Кураполле Паст. 3. Падрабязнасць, дэталь. *Малую маку́лінку і тую раскажа.* Гемзы Шальч. 4. Парушынка. *Маку́лінка папала ў вока і вока засорыла, трэба выбраць маку́лінку з вока.* Малькуны Ігн. 5. Драбок. *Адна маку́лінка* [цукру] *асталася.* Вялікія Баяры Шчуч. *Датаго вышла соль, ані маку́лінкі німа, на рас няма чым пасаліць гаршка.* Гемзы Шальч. 6. Дробныя асколкі. *Акно разбілася на маку́лінкі.* Старыя Трокі Трак. 7. Мінута. *Не заснула ні на маку́лінку.* Пацаўшчына Дзятл. ◊ *На макулі́нку ні есці, макулінкі ні з'есці* — нічога не есці. *Ані на макулі́нку ні еў.* Галубы Маст. *Ані макулінкі ні з'ела.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *makuła* 'пляма'.

МАКУ́Х *м.* Макуха. *Колісь як оліей робілі, то макухом свіні кормілі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *makuch* 'тж'.

МАКУ́ХА́, МАКУКА́ *ж.* Тое ж, што і м а к у́ х. *Алей ціскалі, аставалася маку́ха.* Жодзішкі Смарг. *Алей выжмуць — і маку́ха, як камянь. Маку́ху цялятам запарваюць.* Солы Смарг. *Маку́ха ад алею, як гналі з семеня.* Вялікія Баяры Шчуч. *Маку́ха для свіней.* Рудня Астравітая Чэрв. *Алей рабілі, і маку́ха аставаласа.* Парэчча Гродз. *Ад сем'я маку́ха заставалася, кармілі цялят.* Пацаўшчына Дзятл. *Маку́ха моцна сціснена, бы сакерай сячы.* Дзяніскавічы Ганц. *Маку́ху густа зробіш, і цялята аш блішчаць.* Рагулішкі Даўг. *Выціскі, што выціскаюцца с канапель, называюцца маку́ха, або жмых.* Баброўнікі Гарад. *Макуха́ з лянога семя, як алей ціснулі.* Мсцібава Ваўк. *Алей рабілі з лянога насеня, аставаласа макуха́, яе змочвалі і давалі свіням.* Вострава Маст. *Алей рабілі з лянога семя, аставаласа макуха́.* Старое Сяло Зэльв. *Макукі бярэ і скот кормя.* Быстрыца Астр.

МАКУ́ШКА *ж.* Верхавіна. *Асталася адна макушка с сукамы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Макушку самую ліпы вецер зламаў.* Беразіно Докш. *Самая макушка зламалася.* Рудня Астравітая Чэрв.

МА́ЛА *прысл.* 1. У невялікай колькасці, нямнога. *Мала іх было.* Грыкені Вільн. 2. Нядоўга. *Я быўшы там мала.* Магуны Паст. *У школу мала хадзіла.* Гальшаны Ашм. 3. Рэдка. *Яны* [коні] *мала калі ўграваліся.* Чуркі Ашм. 4. Ледзь. *Я мала не набіла яго.* Парэчча Гродз. *Мала мешкане не спалілосо.* Каменка Стара Сакол. 5. Недастаткова. *Гэта мала, што чалавека ўб'еш рукой, гэта можна і словам убіць.* Ахрэмаўцы

Брасл. ▽ *Хай яму мала будзя пяску на вочы на тым свеця!* Лоск Валож. ◇ *Мала чаго* — што з таго. *Мала чаго прыехалі сваты* [да залоўкі]?! Саланое Віл.

МА́ЛА-ВЕ́ЛЕ *прысл.* 1. Крыху. *Каб гэта тут мала-веле пастараўцца, то немаведама як можна жыць. Мала-веле — і адздаравела.* Пацаўшчына Дзятл. *Хаця б каб мала-веле чым прыляпіць крышу, як той казоў. Мала-веле папратала ў хаце.* Галубы Маст. *Што мала-веле прапалю.* Дакудава Лід. 2. Няцяжка. *Калі мала-веле* [захварэў], *то доктар лечыць.* Малькуны Ігн.

МАЛАДЗБІ́Т *гл.* МАЛАЦЬБІ́Т

МАЛАДЗЕ́Й *прым. выш.* Маладзейшы. *Сястра тры гады маладзей мяне.* Граўжышкі Ашм.

МАЛАДЗЕ́ЙШЫ *прым. выш.* Тое ж, што і м а л а д з е́ й. *Я маладзейшая за Сашу.* Груздава Паст. *Баба за мяне на два гады маладзейшая, яна і слышыць і відзіць. Яна дванацаць гадоў маладзейшая.* Малькуны Ігн. *Мы маладзейшыя, ён* [старэйшы брат] *нам бацька.* Бенякові Воран.

МАЛАДЗЕ́НЬКАЯ *ж.* памянш.-ласк. да м а л а д ы́ 6. *Маладзенькая паехала.* Быстрыца Астр.

МАЛАДЗЕ́НЯЦ *м.* Маладзік. *Скора маладзеняц найдзяцца.* Рагулішкі Даўг.

МАЛАДЗЕ́ЦКІ *прым. перан.* Здаровы. ▽ *Хлеп да вада — маладзецкая яда.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛАДЗЕ́Ш, МАЛАДЗЁШ *гл.* МАЛАДЗЯ́Ж

МАЛАДЗІ́К *м.* 1. Тое ж, што і м а л а д з е́ н я ц. *Нараджаецца маладзік.* Саланое Віл. *Маладзік настае.* Гемзы Шальч., Міратычы Карэл., Дзяніскавічы Ганц. *Маладзік свеціць толькі звечара.* Стральцы Гродз. *Только находзіцца маладзік.* Старыя Трокі Трак. ▽ *Маладзік варожыць на пагоду: калі рошкі апусціўшыся — то не на пагоду.* Малькуны Ігн. *На маладзіку ня хочуць рэзаць парсюка, кажуць, мяса псуецца.* Рагулішкі Даўг. 2. у знач. *прысл. маладзіко́м.* У першую квадру маладзіка. *Ня хоча хату заснаваць маладзіком.* Вецярэвічы Пух. *Маладзіком садзім агуркі.* Мсцібава Ваўк. 3. Тое ж, што і м а л а д ы́ 5. *Маладзік прыехаў у бразгулях.* Ёдлавічы Брасл.

МАЛАДЗІКО́ВАЯ ЗО́РАЧКА *ж.* Вячэрняя зорка. *Маладзіковая зорачка.* Кураполле Паст.

МАЛАДЗІНА́ *ж.* Малады лес. *Знайшлі яго ў лесе ў такой маладзіне.* Вострава Маст. *Што я пайду рэзаць, там адна маладзіна.* Міратычы Карэл.

МАЛАДЗІ́СТЫ *прым.* Малады, сакавіты. *Катора расце, то трава маладзіста.* Навасёлкі Свісл.

МАЛАДЗІ́ЦА *ж.* Маладая замужняя жанчына. *Маладзіца нядаўна прышоўшы.* Ністанішкі Смарг. *Вышла замуш — і маладзіца.* Быстрыца Астр. *Маладзіца прывяла дзіця.* Даку-

дава Лід. *А маладзіца крычыць!* Старыя Смільгіні Воран. *Як толькі замуш выйдзе, то кажуць: «Маладзіца прышла да нас».* Кіралі Шчуч. *Як я за руку яе да й кажу: «Маладзіца, ідзі дадому, спяшайся, бо нешта дома ў цябе неспакойна, і дзеці неспакойныя, і можа кража якая».* Гарэлец Пух. *Хрэн маладзіца прынесла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Маладыя выкупіць жонку, а маладзіцы — гэтые самые завівальніцы — ідуць гуляць.* Семежава Кап. *Маладзіца — як замуш ужэ выйдзе, па шлюбі маладзіца.* Бабро́унікі Гарад. ∇ *Маладзіца зачала выпаліваць рожу: узяла хустку чырвону, палажыла на хустку лёну, патпаліла, і лён згарэў на назе.* Сакаляны Сакол.

МАЛАДЗІЧО'К *м. памянш.* да м а л а д з і к 1. *Маладзічок нарадзіўся.* Ёдлавічы Брасл. *Некалі капусту складаюць на маладзічку.* Лапічы Асіп.

МАЛАДЗЬБА' *ж.* Малацьба. *Кончыцця маладзьбу?* Лісна В.-Дзв.

МАЛАДЗЬБІ'Т *гл.* МАЛАЦЬБІ'Т

МАЛАДЗЯ'Ж, МАЛАДЗЯ'Ш, МАЛАДЗЕ'Ш, МАЛАДЗЁШ, МО'ЛАДЗЕШ *ж.* і *м.* Моладзь. *Маладзяжы было многа.* Груздава Паст. *Цяперашняя маладзяш вучыцца.* Ністанішкі Смарг. *Маладзяш убраўшыся ходзіць. Маладзяш так ня робіць.* Солы Смарг. *Цяперашняга свету маладзяш старых ні ўважаюць.* Дакудава Лід. *Маладзяш на фабрыку ідзе.* Быстрыца Астр. *Ён раўнуя да маладзяжы. Гуляя маладзяш.* Лоск Валож. *Маладзяжу сабралася многа, пашлі сена грапсці.* Бакшты Іўеў. *Маладзяш паехала ў горат.* Ракаўскія Швянч. *Маладзяш збіралася.* Гемзы Шальч. *Маладзеш сабралася.* Паляцкішкі Воран. *Маладзеш пашла ў парцізанку, парцізанамі станавіліся.* Каўняны Гродз. *Дзе маладзеш, там і весела. Што гэто маладзеш думае?!* Альхоўцы Лях. *Маладзеш ідзе ў кіно. Маладзеш будзя смеяцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Маладзеш звялася.* Вялікі Лес Круп. *Да вайны быў маладзеш у вёсцы.* Лоск Валож. *Маладзежу гэтага ў нас няма.* Навасёлкі Лід. *Маладзёш паехаў у Налібакі.* Бакшты Іўеў. *Былі ш мяне забралі ў Германію, бралі гэткі маладзёш, і былі нас прывёшшы да пана.* Альхоўка Навагр.

МАЛАДНЯ' *ж.* Маланка. *Маладня ўзноў, грымоты.* Палік Барыс. *Маладня паела арэхі.* Ухвала Круп.

МАЛАДНЯ'К, МАЛАДНЯ'Х *м.* Тое ж, што і м а л а д з і н á. *Грыбоў многа нашлі ў маладняку.* Ёдлавічы Брасл. *Маладняк загусцеіць.* Істра Лудз. *Адзін маладняк вырас.* Кіралі Шчуч. *Быстра маладняк расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Маладняк парос на прасецы.* Рудня Астравітая Чэрв. *У маладняку і грыбы нараслі.* Беразіно Докш. *Як дзе дзялку выражуць, то кажуць: «Во ўзяўса маладняк».* Дзяніскавічы Ганц. *Маладнях пасадзілі — маладое што: ці пасадзяць, ці расце само. Стары*

*лес і маладнях.* Солы Смарг. *У маладнягу находзяцца грыбэ.* Бакшты Іўеў.

МАЛАДО'СЦЬ, МО'ЛАДАСЦЬ, МО'ЛАДАСЬ *ж.* Маладыя гады жыцця. *З маладосці ён такі.* Саланое Віл. *У гэдакай маладосці засталася адной.* Валеўка Навагр. *Яна ад моладасці такая.* Магуны Паст. *Пражылі моладась.* Лісна В.-Дзв.

МАЛАДУ'ХА *ж.* Маладая, нявеста. *Канфеты маладуха ў хату кідаіць.* Мярэцкія Глыб. *Маладуха пашла.* Солы Смарг. *Ірваць лён маладуха прышла.* Масішкі Красл. *Калісьці маладусе як дадуць бохан, калі ласка, нехай прэ.* Грыкені Вільн.

МАЛАДУ'ШКІ *мн. бат.* Таўстухі. *Маладушкі падобныя да суравешкі, тоўстыя, цвет больш пат карычневы.* Галоўні Воран.

МАЛАДЫ', МАЛО'ДЫ *прым.* 1. Малады. *Чалавека маладога згубіў* [пахаваў]. Ёдлавічы Брасл. *Малады маліц.* Мярэцкія Глыб. *Яна хоча маладая быць. Ён памёр маладым.* Лоск Валож. *Хлапец маладьі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як быў я маладьі, я бы ім даў раду.* Гемзы Шальч. *Маладыя не хочуць са старымі рабіць, ім невыгадна.* Новікі Гродз. *Аднэ — старэя, другі — маладэя і дурэюць.* Любішчыцы Івац. *Быў малоды, здаровы, цяпло было ў вадзе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Малоды дарэктар.* Магуны Паст. *Малоды калхознік і яга жонка малодая.* Груздава Паст. *Я яшчэ малоды быў.* Быстрыца Астр. *Як малоды быў, лёгка было хадзіць і рабіць.* Солы Смарг. *Ён малоды.* Чычалі Швянч. *Бапця і дзядуня памерлі, былі яшчэ малодыя.* Ліпнікі Вільн. *Як малодая была, то гаварыла прас сон.* Малькуны Ігн. *Такі малоды ўмёр!* Стральцы Шальч. 2. Які нядаўна вывеўся, пачаў расці. *Пчолы самі заложаць, і праз пятнаццаць дзён матка маладая выйдзіць. Маладая матка ў пчол астаецца.* Груздава Паст. *Маладьі клён расцець.* Мельнікі Лудз. *Еслі пшчолы малодыя, ані несуць многа мёду.* Опса Брасл. 3. Які нядаўна вырас (пра агародніну). *Маладую бульбу найбольш скрабуць.* Солы Смарг. 4. Свежы. *Маладая смятанка.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. у знач. *назоўніка малады́ м.* Жаніх. *Маладьі паехаў да маладой.* Кіралі Шчуч. *Пайду на васэля, пагляджу маладога.* Малі Астр. *Суседы ідуць выпускаць маладую і маладога, як едуць да шлюбу.* Гемзы Шальч. *Маладьі пашоў.* Баброўнікі Гарад. 6. у знач. *назоўніка малада́я ж.* Нявеста. *Маладая раньш падаркі давала: паясы с кутасамі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Калісьці брала кубёл маладая, як замуш ішла.* Малі Астр. *Ад маладой — друшкі, а хлопцы — закоснікі.* Солы Смарг. *Маладая з гэтай хаты.* Гемзы Шальч. *Ходзіць ужэ маладая, на вяселле пайшла клікаць.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Маладую не хвалі ў тры нядзелі, а пахвалі ў тры рокі.* Мсцібава Ваўк. 7. у знач. *назоўніка малады́я мн.* Жаніх і нявеста. *Глядзі, маладыя прыехалі!*

Стральцы Гродз. *Маладыя сядзелі проціў печы.* Вецярэвічы Пух. 8. у знач. *назоўніка маладая ж.* Нявестка. *Маладая — дужа гаронцая: загадала прапярэня* [перагародку ў хаце] *рабіць.* Малі Астр. ◇ *Гады німаладыя* — сярэднія гады; пажылы. *А гады німаладыя ўжо.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маладыя век, маладыя гады* — юнацкія, маладыя гады жыцця. *Жыл не было відаць у маладым веку.* Вузла Мядз. *З маладых гадоў работалі мы цяжало.* Руднікі Шальч.

МАЛАДЫ′ МЕ′СЯЦ *м.* Тое ж, што і м а л а д з е́ н я ц. *Маладыя месяц у сярпку два-тры дні.* Мсцібава Ваўк. *Маладыя месяц, як сярпок.* Баброўнікі Гарад.

МАЛАДЫ′ НАРО′Т *мн.* Моладзь. *Маладыя нарот ні хоча слухаць старшых.* Навасёлкі Лід.

МАЛАДЫ′Я ДНІ *мн.* Дні, якія прыпадаюць на першую квадру Месяца. *На маладых днёх справедлівейшые дні.* Ялова Пруж.

МАЛАЙЦАВА′ТЫ *прым.* Удалы, спрытны. *Малайцаваты быў чалавек, хлопіц.* Кураполле Паст.

МАЛАКО′ *н.* 1. Малако. *Дай малака!* Груздава Паст. *Утрашняя малако жырнейшая.* Рагулішкі Даўг. *На малацэ звару макарон.* Лоск Валож. *Карова была, пры малацэ мы былі.* Парэчча Гродз. 2. Канаплянае малако. *Малака с калапень нарабілі.* Саланое Віл. *Малако робілі с канапель, каноплі стаўкуць, вытруць у ступі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цёрлі калапні, рабілася малако.* Латыгаль Віл. *Канапляное малако з канапель робяць.* Ухвала Круп. *Малако рабілі з канапель.* Каўняны Гродз. 3. Семявая вадкасць рыб. *Ікра — у самак, у самцоў — малако.* Дакудава Лід. ◇ *Малако ня высахла у губах (у роце, каля зубоў)* — пра маладога, нявопытнага чалавека. *У цябе малако ня высахла ў губах, а ты мяне вучыш.* Кіралі Шчуч. *Малако яшчэ каля зубоў не абсохла, а ўжо хоча жаніцца.* Малі Астр. *Малако на языку ў каровы. У каровы малако на языку: як пакорміш — дасць малака.* Мсцібава Ваўк. *Што малаком абліта* — у вялікай колькасці. *Не было лістоў відаць, што малаком абліта, так было цвету многа* [на яблынях]. Кіралі Шчуч.

МАЛАЛЕ′ТКА *ж.* Падлетак. *Малалетка была, матка хоча набіць, яна ўцячэ.* Гемзы Шальч. *Вышла замуш малалеткай.* Крэва Смарг.

МАЛА′НКА, МАЛЯ′НКА *ж.* 1. Тое ж, што і м а л а д н я́. *Маланка паела арэхі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Гаворадь: маланка паела каласы, папаліла арэхі, яны чорныя, пустыя.* Ністанішкі Смарг. *Маланка без грымот.* Кемялішкі Астр. *Маланка гарэхі папаліла, чорныя яны.* Кіралі Шчуч. *Маланка спаліла арэхі.* Стральцы Гродз. *Маланка бліская.* Старое Сяло Зэльв. *Маланкі свецяць.* Навасёлкі Свісл. *Малянка засвяціла, свеціць маланка, гром далёко, не чуцён.* Дзяніскавічы Ганц. 2.

Чорны арэх. *Тут маланак багата на гэтым кусту.* Рудня Астравітая Чэрв. ◊ *На маланку выскачыць* — быць адзначаным у насценнай газеце за высокія паказчыкі. *На маланку хоча выскачыць!* Мсцібава Ваўк.; *гл.* ДАБМ, карта № 311.

МАЛАНКО'ВЫ *прым.* Чорны [пра арэх]. *Чорныя, маланковыя гарэхі.* Галубы Маст.

МАЛАННЯ', МАЛАНЯ' *ж.* Тое ж, што і м а л а д н я́. *Малання бліскала.* Лісна В.-Дзв. *Асвеціць малання — валасы только дубам.* Асавец Віл. *Малання папаліла арэхі.* Саланое Віл. ∇ *Каб яе малання з'ела!* Белічаны Бярэз. *Рабяты лётаяць, як маланя. Снясло, як маланёй.* Груздава Паст.

МАЛАТА'Р *м.* Малацьбіт. *Малатары цапамі малацілі раней.* Стральцы Гродз.

МАЛАТНЯ' *ж.* Ток. *Малатня глінаю выбіта ў таку, і на гэтай такаўне малоцяць, а дзе такавішча завуць.* Груздава Паст.

МАЛАЦЕ'БНІК *м.* Тое ж, што і м а л а т а́ р. *Малацебнік цэпом молоціць, одна палка прывязана до другэе.* Калясное Міхал.

МАЛАЦЕ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і м а л а т а́ р. *Даўней малацельнікі малацілі цапамі.* Кіралі Шчуч. *Кліч малацельнікаў есці.* Старыя Смільгіні Воран. *Чалавек, які малоціць уручную,— малацельнік. Малацельнікі малацілі.* Вострава Маст. *Цепер усё менш малацельнікаў, машыны малоцяць.* Баброўнікі Гарад. *Тры малацельнікі малоцяць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

МАЛАЦЕ'НЯ *н.* Малацьба. *У гумне пастаронкі заложаны з досак, кап зярнята не ляцелі пат час малаценя ў бакі.* Альхоўка Навагр.

МАЛАЦІ'ЦЬ *незак.* Абіваць. *Цапамі малацілі.* Стральцы Гродз.— *Хадзі малаціць!—Мне галава баліць.— Хадзі есці! — А дзе мая бальшая лыжка?* Ахрэмаўцы Брасл. *На барану малацілі, абівалі жыта на насеня.* Старыя Смільгіні Воран.

МАЛАЦЬБІ'К *м.* Тое ж, што і м а л а т а́ р. *Малацьбікі цапамі малацілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЛАЦЬБІ'Т, МАЛАДЗЬБІ'Т, МАЛАДЗБІ'Т *м.* Тое ж, што і м а л а т а́ р. *Дзе мой малацьбіт? Наймалі малацьбітоў малаціць.* Едлавічы Брасл. *Малацьбіты змалоцюць, змітаюць саломку, каласкі шчышчаваюць.* Саланое Віл. *Малацьбіты ідуць у гумно ў два часа ночы, насцілаюць с тарпа снапы і сцелюць на ток і б'юць цапамі.* Гемзы Шальч. *Маладзьбіты малоцяць.* Рыбчына Віл. *Вот маладзбітоў трэ накарміць.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЛАЧА'Й I *м. бат.* 1. Малачай. *Малачай жоўцянька цвіце.* Граўжышкі Ашм. *Малачай бывая польны* [палявы] *і агародні.* Гемзы Шальч. *Малачай вяснушкі ўністажая.* Плябанцы Ашм. *Малачай і макрыцу свіням даюць.* Пасіене Лудз. *Мала-*

*чай у гарадах расце і на полі, горкі, жоўтым цвіце.* Кіралі Шчуч. *Малачай жоўтым цвіціць.* Малькуны Ігн. *Малачай свіням збіраюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У Плянтоўцы* [назва поля] *малачай парос.* Альхоўцы Лях. *Малачай свіня добро ядзяць.* Пасека Ст.-Дар. *Малачай мякі.* Баброўнікі Гарад. 2. Настой. *Ад жаўцюхі малачай п'юць.* Бакшты Іўеў.

МАЛАЧА'Й II *м.* Тое ж, што і м а л а к ó 3. *Ікра — у самак рып, малачай — у самцоў.* Магуны Паст. *З малачаям сялётка і з ікрой.* Ракаўскія Швянч. *Укроіць нажом і скуру здзіраюць, ікра і малачай у сялётці.* Лайпушкі Ігн. *У рыбя малачай ці ікра, выпуская, калі нярастуя.* Стральцы Гродз.

МАЛАЧА'ЙКА *ж.* Тое ж, што і м а л а к ó 3. *З малачайкай селядзец.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЛА'Я ГАРЭ'ЛКА *ж. абрад.* Заручыны. *П'юць малую гарэлку, як сватаюцца, а калі сагласны, то другі рас п'юць.* Вузла Мядз.

МАЛДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць адно і тое ж, бубніць. *Што ты малдзіш бес канца.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *maldýti* 'паломнічаць'.

МАЛЕ'БЕННЫ *прым.* Набожны. *Такая малебенная старушка!* Навадворшчына Мін.

МАЛЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі малы. *Малезная травічка расце на гліня.* Малі Астр.

МАЛЕ'НАЧКІ, МАЛЕ'НЕЧКІ *прым.* 1. Малалетні. *Маленачкая* [дзяўчынка] *была харашэйша.* Быстрыца Астр. *Дзеці былі маленачкі.* Паляцкішкі Воран., Парэчча Гродз. *Маленачкі хлопчык быў.* Стральцы Шальч. 2. Тое ж, што і м а л é з н ы. *Маленачкі стажок злажылі.* Паляцкішкі Воран. *Маленачкі цабэрак. Маленачкая дошчачка ляжыць.* Быстрыца Астр. *Маленачкая ласіца.* Лісна В.-Дзв. *Маленачкія лампачкі былі, кнаток, карасіны налівалі, пасыпалі попялу, кап карасіна ні так выгарала.* Ракаўскія Швянч. *Кветкі такія, маленачкія галовачкі пры зямлі.* Чычалі Швянч. *Такі беленькі маленечкі цвяток.* Дзераўное Стаўб.

МАЛЕНКО'СЦЬ, МАЛЕНКО'СТЬ *гл.* МАЛЯНКО'СЦЬ

МАЛЕ'ННЯ *н.* Дзеянне паводле знач. дзеяслова м а л í ц ц а. *Пачалося малення за пакойніка.* Вузла Мядз.

МАЛЕ'НСТВА *н.* Дзяцінства. *З майго маленства пілі каўшом.* Рыбчына Віл. *Ад маленства кароў даіла.* Саланое Віл. *Ад маленства хворая.* Груздава Паст. *Ад маленства бывая чалавек негодны. Ад маленства ён нешта нахрамлівая.* Гемзы Шальч.

МА'ЛЕ'НЬКІ, МАЛЕ'НКІ *прым.* 1. Тое ж, што і м а л é н а ч к і 1. *Двоя малéнькіх дзетак.* Лоск Валож. *Як я малéнька была.* Альхоўцы Лях. 2. Невялікі. *Карова добра, да малéнька.* Дзмітравічы Кам. *Якая ношка мáленькая, а сама бальшая.* Рагулішкі Даўг. *Гаспадка маленкага зажнуць, як*

*зажынкі, і ў кут ставяць.* Солы Смарг. *Келбукі — сама грубкая рыба, па маленкіх рыштоках водзіцца. Ат кансерваў пушка* [банка] *маленкая, і ад гароху — пушка.* Старыя Трокі Трак. *Маленка хатка.* Буйвіджай Вільн. *Маленкае азярко.* Грыкені Вільн. *Скварочка маленка.* Беняконі Воран. *Маленка хатка стаіць, няма каморы. Маленкага зайца кормяць.* Кіралі Шчуч. *Мошка маленка.* Парэчча Гродз. *Бондачку маленку спяклі.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Кароткі. *А ноч летам малéнькая.* Гемзы Шальч. 4. у знач. *назоўніка.* Дзіця. *Малéнько ды малéнкого вядзе.* Старое Сяло Зэльв. ▽ *Маленькі, крывенькі ўсё поля абяжыць і дамоў прыбяжыць* — серп. Саланое Віл.

МАЛЕ′НЬЦЯ *н.* Тое ж, што і м а л é н с т в а. *Ад маленьця мама вучыла нас рабіць акуратне.* Солы Смарг. *Я знаў ваўкі ад маленьця.* Руднікі Шальч.

МА′ЛЕЦ, МА′ЛІЦ, МА′ЛЯЦ *м.* Хлопец; юнак. *У нас было чатыры мальцы і адна дзеўка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён быў малец здаровы.* Лісна В.-Дзв. *Малец у яе ад другога мужука. Як яго звалі, таго мальца?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Малец ездзіць на кані.* Якубова Рас. *Тры мальцы былі ды рабыя.* Ухвала Круп. *Мальца і дзеўку сватаюць, звялі ўмесці — вот і зглядзіны.* Індра Красл. *А куда яму, мальцу, дзецца?* Пасіене Лудз. *Мішка — гэта свой маліц.* Валынцы В.-Дзв. *Маліц нівялікі.* Мярэцкія Глыб. *Я думала — маляц ляжыць. Мальцы ўсе жывуць.* Рагулішкі Даўг.

МАЛЕ′ЦЬ *незак.* Дзяцінець. *Людзі старэюць і малеюць.* Рагулішкі Даўг.

МАЛЁДЗІЯ *ж. перан.* Гудзенне. *У яго* [шэршня] *малёдзія такая, як у асвы.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *melodia* ’тж’.

МАЛЁЎКА *ж.* Фарба. *Малёўкі прывёс малявацъ хату.* Ракаўскія Швянч.

МАЛІДАВА′ЦЦА *незак.* Адзначацца. *У вайну хадзіў малідавацца ў паліцыі.* Крэва Смарг.; *парайн.* ням. *sich melden* ’прадстаўляцца’, *melden* ’паведамляць, дакладваць’.

МАЛІ′ЗА, МАЛІ′СА *ж.* 1. *бат.* Меліса. *Малізу я збірала ўвосень, кажуць, нада па бульбе пакідаць, мышы ня будуць бульбу есці.* Магуны Паст. *Маліза ят мае, яе ад грыпы добра.* Плябанцы Ашм. *Маліза, як мята, націралі ўлей у сярэдзіне і зверху, пахучая расліна.* Старыя Смільгіні Воран. *Маліза — пахучая трава, інакш — ванюхá. Ванюхá пахожа на жабрэйку, маліза яшчэ завуць, у гуркі яе кладуць.* Семежава Кап. *Малізу клалі на вуляй, пахуча зелье.* Альхоўцы Лях. *Малісай праціраюць вулей, кап запах быў.* Опса Брасл. *Маліса па гарадах расце, карова ня есць, смярдзіць.* Быстрыца Астр. *Маліса — пахучая трава.* Дакудава Лід. 2. Настой. *Малізу п’юць ад жывата.* Альхоўка Навагр. *Малісу запарваюць і чай п’юць ад галаўной болі.* Пасіене Лудз.

МАЛІМО′НТКА *ж. экспр.* Какетка. *Тут малімонтка такая была.* Валынцы В.-Дзв.

МАЛІ′НАВЫ *прым.* Цёмна-чырвоны колер, падобны на спелыя маліны. *Малінавы колер.* Рыбчына Віл. *Хароша хустка малінава.* Кіралі Шчуч.

МАЛІ′ННІК *зб. м.* 1. Зараснік маліны. *Вырас такі часты malіннік, што не ўлесці.* Кіралі Шчуч. *Маліннік ёсць пат Пярэкамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Убійсо ў маліннік, там маліны.* Альхоўцы Лях. 2. Галінкі маліны. *Малінніку нагатуем, на ноч папіць добра.* Солы Смарг.

МАЛІ′НЫ *мн.* Ягады маліны. *Праз нейкі лес ішлі, малін многа. Набрала вядро малінаў. Хоць малін паядайшы.* Магуны Паст. *Хіба па маліны хадзіла?* Парэчча Гродз. *Там маліны раслі.* Рагулішкі Даўг.

МАЛІНЯ′К *зб. м.* Тое ж, што і м а л і н н і к 1. *Маліняк расцець, маліны тут!* Малькуны Ігн.

МАЛІ′СА *гл.* МАЛІ′ЗА

МАЛІ′ТВА, МАДЛІ′ТВА *ж.* Тое ж, што і м а д л і т э́ ў к а. *Было без малітвы — нікуды.* Стральцы Гродз. *Яшчэ мадлітвы помню.* Жылі Іўеў.

МА′ЛІЦ *гл.* МА′ЛЕЦ

МАЛІ′ЦЦА *незак. перан.* Дагаджаць. *Я ні знаю, каму маліцца — чы мужыку, чы свекру.* Саланое Віл.

МАЛІ′ЦЬ *незак.* Чытаць малітву. *Раней пацяры малілі.* Жодзішкі Смарг.

МАЛНА′ I *ж.* і *м. экспр.* Той, хто многа гаворыць. *Мална ты, дось табе малоць языком. Прышла гэто мална, малола, малола, столькі часу адабрала.* Гемзы Шальч. *Мална ты!* Старыя Трокі Трак. *От мална: зурзіць і зурзіць.* Старыя Смільгіні Воран. *От мална, і меліш языком.* Малькуны Ігн.; параўн. літ. *malnà* 'тж'.

МАЛНА′ II *ж.* Тое ж, што і м а л а д н я́. *Мална бліснула.* Лайпушкі Ігн.

МАЛО′ДЗІВА *н.* і *ж.*, МАЛО′ДЗІВО, МАЛО′ДЗЬВА *н.* Малодзіва. *Малодзіва пяклі і елі, хто любя, а я ні хачу.* Парэчча Гродз. *Малодзіва пякуць, дабаўляюць яёк, малака.* Альхоўка Навагр. *Малодзіва жоўтая, яна маіць верх.* Рагулішкі Даўг. *Як ацеліцца карова, то малодзіво даілі. Да малодзіва дадавалі малака, яек уваб'юць, так, як яешня, смашна было.* Баброўнікі Гарад. *Малодзьва пяклі.* Вялікія Баяры Шчуч.

МАЛО′ДЗІНЬКА СМІТА′НКА *ж.* Смятанка. *Малако пастаіць і зверху збярэцца малодзінька смітанка.* Солы Смарг.

МАЛО′ДУХА *ж.* Маладзіца. *Прыходзіў увесь той род па тую малодуху.* Ялова Пруж.

МАЛО′ДУШКА, МОЛО′ДУШКА *ж.* 1. Авечка, якая ўпершыню акацілася. *Маладую авечку с першым ягнём зовуць малодушка.* Воўкуш Ліпск. *Я купіў котну авечку, малодушку.*

Бброўнікі Гарад. 2. Маладая курыца, якая пачынае несціся. *Молодушка — на курыцю скажуть, а на гусь, качку, гандычку — мало.* Сіманавічы Драг.

МАЛО'ДШЫ, МАЛО'ЧШЫ *прым.* 1. Маладзейшы сярод іншых. *Коля і малочшая Галя выяхалі ў Мінск.* Стральцы Гродз. *Мая малочшая дачка паехала вучыцца.* Паляцкішкі Воран. *Яны малочшыя будуць.* Парэчча Гродз. *Малочшай дзеўцы нада гот вучыцца.* Гальшаны Ашм. 2. *выш.* Маладзейшы за каго-н. *Цётка малочша за тата восем лет.* Мсцібава Ваўк.

МАЛО'ДЫ *гл.* МАЛАДЫ'

МАЛО'ЖА, МАЛО'ЖАЙ, МАЛО'ЖЫЙ, МАЛО'ЖЭ *прым. выш.* Тое ж, што і м а л о́ д ш ы 2. *Маложа яго брат, в Зылупе дом у яго.* Скрыпчына Лудз. *Ён маложай бабы сваёй.* Масілавічы Сл. *Ён маложый міня.* Старыя Трокі Трак. *Вы маложэ за нас.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛО'ЗІВА *н.* Тое ж, што і м а л о́ д з і в а. *У тым стаўбуне не бяры — малозіва.* Філіпаўцы Красл. *З малозіва пякуць яешню.* Малі Астр. *Малозіва напякла мама.* Старыя Трокі Трак.

МАЛО'ЙЦА *м.* Хлопец. ▽ *Сёння Купала, а заўтра Ян — да будзе малойцы ліхо вам. Сколькі ў рэшаце вады есць, такведе ў малойцаў праўды есць.* Валеўка Навагр.

МАЛО'ЦЦА *незак.* Размолвацца. *Мука ячменная меляцца ў млыне.* Солы Смарг.

МАЛО'ЦЬ *незак.* 1. Размолваць зерне. *Верка з Віктосяй малоць прывозілі.* Лоск Валож. *Мелець уночы на хлеп.* Грыкені Вільн. *Меляць* [жыта], *пякуць хлеп.* Старыя Трокі Трак. *Мак малолі ў жорнах, гарох малолі.* Навасёлкі Свісл. 2. Церці. *Бяры качалку і мялі мак. Малолі мак качалкаю.* Кіралі Шчуч. *Мак малолі качалкаю ў церля.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Раздрабняць (пра мяса). *Меліш мяса на мясарубку і калбасы чыніш.* Крэвені Даўг. *Мелім мяса на мясарупку.* Рагулішкі Даўг. ◇ *Малоць языком* — гаварыць недарэчнае. *Яна меля языком, як сука хвастом. Што меліш языком, як варона грагаеш.* Кіралі Шчуч. *Яна меля языком.* Гемзы Шальч. *Меля языком бес толку.* Мсцібава Ваўк.

МАЛО'ЧНІК I *м.* Гарлач. *Малочнік — паліваны без ручкі.* Лайпушкі Ігн.

МАЛО'ЧНІК II, МАЛО'ШНІК *м. бат.* 1. Тое ж, што і м а л а ч а й I, 2. *Малочнік зацвіціць жоўта.* Ахрэмаўцы Брасл. *Малочнік зовіць у нас, свіні яго вот ядуць!* Ёдлавічы Брасл. *Свіні ядуць малочнік.* Мярэцкія Глыб. *Малочніку ў нас на гародзе сколькі хочаш.* Беразіно Докш. *Малошнік па гародах расцець, як атарвеш, малако ідзець, рука чорная, адзежа чорная ад яго.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАЛО'ЧШЫ *гл.* МАЛО'ДШЫ

МА'ЛЫ' *прым.* 1. Невялікі па велічыні. *Малы́ саган.* Вялікія Баяры Шчуч. *Клейка — мáла рыпка.* Воўкуш Ліпск. *Малáя дзеўчына мая.* Крынкі Крын. 2. Нядоўгі, кароткі. *Ноч малáя летам.* Бакшты Іўеў. 3. Нязначны па колькасці. *Малы́ абет — сабе, большы пакідалі фурману, каб бульбу прывёс.* Жодзішкі Смарг. 4. Малалетні. *Якога panяслі малога* [дзіця]*!* Ёдлавічы Брасл. *Адна—і двое дзяцей малы́х.* Саланое Віл. *Дзéўчына была малáя ў грудзях.* Дакудава Лід. *Малоя дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч. *Малы́ ён яшчэ, калі будзе вялікі?!* Альхоўцы Лях. ∇ *А, малое, на лета — другое.* Гемзы Шальч.

МАЛЫ' ВОС *м. астр.* Малая Мядзведзіца. *Вялікі Вос і Малы Вос, і дуга ёсць.* Магуны Паст.

МАЛЬГА' *зб. ж.* Дробная рыбка. *Цяпер шчукам хватаіць мальгі, поўна мальгі. Мальга — дробная рыпка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мальга пападаецца адна.* Мачаск Бярэз. *Каля берага ўсялякай мальгі поўна.* Беразіно Докш.

МАЛЬЁМ у знач. *прысл.* Молем. *Пусцілі лес мальём. Лес мальём гналі, не вязалі: ён ідзець павольна.* Лісна В.-Дзв.

МАЛЬЖЫНА' *ж.* Тое ж, што і м а л ь г á. *А цяпер ні аднэй мальжыны нет у рацэ, хаваецца ў глып.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛЬЖЫНКА' *ж. памянш.* да м а л ь ж ы н á. *Мальжынка клюніцы!* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛЬКА'Ч *м.* Мянтуз. *Малькач — рыба такая, яшчэ завуць налім.* Альхоўка Навагр.

МАЛЬКАЧО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да малькача. *Малькачовыя печані добра ад глас: жырам ат печані закапваяць глаза.* Альхоўка Навагр.

МАЛЬХА'Ч *м.* і *ж.* Ляўша. *Яна левай рукою і жне і картошку чысце, яна мальхач. Мальхач леваю рукою заўшэ штось робіць.* Баброўнікі Гарад.

МАЛЬЧАНЯ' *н.* Хлапчаня. *Я дружыла з мальчаня. Там нейкі мальчаня пашоў незнакомы.* Ёдлавічы Брасл. *Бóльшыі мальчаняты збéруцца, ад'едуць у лоткі і купаюцца.* Поціна В.-Дзв.

МАЛЬЧО'НАК *м.* Тое ж, што і м а л ь ч а н я́. *Крычыць на мальчонка.* Лісна В.-Дзв.

МАЛЬЧО'НАЧАК *м. памянш.-ласк.* да м а л ь ч о́ н а к. *Мальчоначак мой прыбех.* Валынцы В.-Дзв.

МАЛЬЧУ'ГА *м. павел.* Хлапчына. *Мальчуга, абразіна гэта, дай плячыма.* Старыя Смільгіні Воран.

МА'ЛЬЧЫК *м.* Хлопчык. *Маю пяць унукаў, два мальчыкі.* Кемялішкі Астр. *І сын, і ўнук, мальчык ёсць.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *мальчик* 'тж'.

МАЛЬЧЫ'ШКА *м.* Тое ж, што і м á л ь ч ы к. *Мальчышка прышоў.* Валынцы В.-Дзв.

МАЛЮ'ПАНЬКІ *прым.* Вельмі маленькі. *Малюпанькія таблетачкі ў мяне ёсь, прыпісала ўрач.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛЮ'ШЧЫ *прым.* Набожны. *Быў тут малюшчы чалавек.* Ністанішкі Смарг.

МАЛЯВА'ННЕ *н.* Фарбаванне. *Я ўбралася для малявання* [падлогі]. Солы Смарг.

МАЛЯВА'НЫ *прым.* Фарбаваны. *А мая скрыня была маляваная, каваная, а цяпер немаляваная.* Ракаўскія Швянч.

МАЛЯВА'ЦЦА *незак.* Фарбавацца. *Дзеўкі буракамі маляваліся.* Старыя Трокі Трак.

МАЛЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Рысаваць. *Малюяць дзеці на паперы.* Кемялішкі Астр. 2. Фарбаваць. *Буду хату маляваць, бо гразна ўжо.* Солы Смарг. *Пайду плот маляваць.* Крэва Смарг. *Сын прышоў с арміі, маляваў у хаці, усё абдзелаў.* Індра Красл. *Сетку трэба маляваць — ёсць краска, а то саржавела.* Малі Астр. *Папытайця Тодара, які малюя. Маляваў мяшкане. Яна малюіць сцены.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *malować* 'тж'.

МАЛЯВІ'ДЛА *н.* Фарба. *Можа дзе малявідла дастаняш пакрасіць плот?* Малі Астр.; *парайн.* польск. *malowidło* 'тж'.

МАЛЯ'НКА *гл.* МАЛА'НКА

МАЛЯНКО'ВЫ *прым.* У якім многа спарынні. *Малянковае жыта.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЛЯНКО'СЦЬ, МАЛЕНКО'СЦЬ, МАЛЕНКО'СТЬ *ж.* Тое ж, што і м а л е́ н с т в а. *Яна з малянкосці хварэла, яе лячылі.* Кіралі Шчуч. *Ад малянкосці я хварэла.* Паляцкішкі Воран. *Ад малянкосці хварэла, косці баляць.* Гемзы Шальч. *Зналі яго з малянкосці.* Пацаўшчына Дзятл. *Яшчэ ў малянкосці, як я маленька была, маці памерла.* Альхоўцы Лях. *З маленкосці хварэе.* Галубы Маст. *З маленкості догледаю іх.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* польск. *maleńkość* 'тж' (СВ, II, 857).

МАЛЯНЧУ'К *м.* 1. Тое ж, што і м а л а́ н к а 2. *Адны маляну́кі, мала добрых арэхаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Малянчука раскусіла.* Кузьмічы Люб. 2. Спарыння. *У жыце малянчук. Е і на жыце малянчукі.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЛЯНЧУКО'ВАЕ ЗЕ'РНЕ *н.* Тое ж, што і м а л я н ч у́ к 2. *Малянчуковае зерне зверху чорненькае, знізу святлейшае.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЛЯРЭ'Й *м. мед.* Малярыя. *Малярэем там многа балеюць.* Скрыпчына Лудз.

МАЛЯРЭ'Я *ж.* Тое ж, што і м а л я р э́ й. *Жоўтая з ліца, можа, на малярэю хварэе.* Ухвала Круп.

МАЛЯ'ЎКІ *мн.* Малькі. *Маляўкаў многа ў возіры.* Рагулішкі Даўг. *Маляўкі ў рэчцы віюцца. Кучамі маляўкаў ходзя па рэчцы.* Гемзы Шальч. *Маляўкі выводзяцца.* Кіралі Шчуч.

МА'ЛЯЦ *гл.* МА'ЛЕЦ

МА'МА *ж.* Маці (звычайна пры звароце: *мама, мамо, маму*). *У маей мамы трое дзяцей.* Саланое Віл. *Мама гатавіла.*

Гемзы Шальч. *Мама, дзе Вы былі?* Быстрыца Астр. *Мамо, ходзі еж!* Смаляніца Пруж. *Маму, што вы па-просту гадаеце? Маму, я і вам згатавала.* Новікі Гродз. *Маму, ідзіце дахаты!* Вострава Маст.

МАМА'НЯ *ж.* Тое ж, што і м а́ м а. *Я пайду да мамані і раскажу ўсё ей.* Солы Смарг.

МА'МІН *прым.* Які належыць маме. *Бабуля была, маміна мама.* Саланое Віл.

МА'МІС *м. тэкст.* Падкладачная тканіна. *Дай мне мамісу на падбой.* Бакшты Іўеў.

МА'МКА I *ж. ласк.* да м а́ м а. *Мамка маладая памерла.* Гальшаны Ашм.

МА'МКА II *ж. перан.* Гумавая соска. *Сысолку рабілі с хлеба, мамка — рызінава. Дачку паіла праз мамку.* Старыя Трокі Трак. *Дітяті мамку далі, коб нэ плакало.* Курашэва Чыж.

МАМРЫ'СКО *н. экспр.* Маўклівы, негаваркі чалавек. *Ах ты мамрыско!* Баброўнікі Гарад.

МАМУ'СЬКА *ж. ласк.* да м а́ м а. *Мамуська і татусь яго забяруць дзісь.* Паляцкішкі Воран.

МАМУ'СЯ *ж. ласк.* да м а́ м а. *Мамуся сказала.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *mamusia* 'тж'.

МАМУ'ТЫ *мн. бат.* Сорт буракоў. *Мамуты—на буракі так гавораць.* Кураполле Паст.

МАМЭ'НТ *м.* Момант. *А часам такі мамэнт падыйдзе: абы глянуў, так дзіця зракуць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *moment* 'тж'.

МА'НА *ж.* Нектар. *Пчала бярэ самыя маны с кветак.* Альхоўцы Лях.

МАНА' *ж.* Хлусня. *Мана гэта!* Рыбчына Віл. *Гэта мана, што яна гаварыла.* Ністанішкі Смарг. *Жывая мана гэта.* Ухвала Круп. *Не вер — мана ўсё.* Беразіно Докш.

МА'НА' *ж.* 1. Закваска. *У маей дзешцы мана́ прапала.* Мсцібава Ваўк. *Мана́ высахла ў дзешцы, трэба саладуху заладзіць, тада будзя хлеп харошы.* Старое Сяло Зэльв. *Нісмашна мана́ ў дзешцы: зырка, вельмі кісла.* Міратычы Карэл. *У нашага хлеба лепшая мана́, як у шанкавага.* Засецце Дзятл. *Трэбо пакідаць цесто ў дзяжы дзеля ма́ны. Ма́ны німа ў дзяжы.* Альхоўцы Лях. 2. Пах. *Як аччынеш хлебную дзежку — пашла мана́, добра пахне.* Азяраны Раг.

МАНА'РКА *ж.* Пінжак. *Пінжак цяпер, даўней гаварылі манарка, с сукна шылі.* Дакудава Лід. *Мушчыны накладалі манаркі, манаркі шылі с суконнага шараку. Пасцялю манарку і лягу.* Кіралі Шчуч. *Манарка кароткая, але была патклатка, кішане былі.* Стральцы Гродз. *Манаркі сукенныя тканыя насілі.* Стральцы Шальч. *Шылі манаркі сівыя, мушчыны насілі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *marynarka* 'тж'.

МАНДРЭ'Й *прым. выш.* Больш вынослівы. *Жывушчы ча-*

*лавек мандрэй ката.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *mądry* 'тж'.

МАНДРЭ'ЙШЫ *прым. выш.* да м о́ н д р ы. *Мандрэйшы быў.* Гемзы Шальч.

МАНДЭ'ЛЯЧКІ *мн.* Некалькі снапоў льну, пастаўленых у кучкі для прасушкі. *Лён у мандэлячкі ставілі.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* м э́ н д а л ь.

МАНЕ'Ж, МАНЕ'Ш *м.* Конны прывод малатарні. *У гумне манеж быў, там малацілі. Манежы былі такія, малацілі коньмі тады, на таку стаялі.* Опса Брасл. *Аднаго разу рэзалі маняжом сечку.* Маскалі Маст. *Манеш — што сечку рэзаць, закладаюць коні, круцяць і сечку рэжуць.* Галубы Маст.

МАНЕ'ЖЫЦЬ *незак. экспр.* Выпрошваць. *Прыдзе і манежыць, манежыць, бывая выпрасіць рубель і пойдзе.* Мсцібава Ваўк.

МАНЕ'РА *ж.* ◇ *На сваю манеру* — па-свойму. *Начаў ён наварачываць на сваю манеру.* Гемзы Шальч.

МАНЕ'РКА *ж.* Бляшанка. *Гаспадар мыецца з манеркі, папробуй схаваць, крычыць: «Дзе мая манерка?»* Гемзы Шальч.

МАНІ'СТЫ *прым.* Духмяны. *Прасняк пяклі — у халодну воду кідаюць і кісня, і за тры дні харошы маністы хлебны квас.* Мсцібава Ваўк. *Маністы хлеп, бо дабаўляем картоплі.* Альхоўцы Лях.

МАНІ'ЦЦА *незак.* 1. Мець намер. *Я манюся паехаць заўтра ў Паставы.* Кураполле Паст. *Я замуш ні манілася ісці.* Саланое Віл. *Маніліся прывясці.* Рыбчына Віл. *Пайду глядзець, там адна асоба маніцца прыехаць. Маніцца прыехаць у гэтым гаду. Я манілася адчыніць дзверы, але за млекам пашла, а потым куры ганяла.* Солы Смарг. *Ён жа маніўся прыйсці.* Сасноўка Смарг. *Але жыць тут не маняцца.* Крэва Смарг. *Ніткі ёсь, манюся яшчэ выткаць дываны. Я і ноччы не сплю, і не лажуся і не манюся.* Вузла Мядз. *Маніцца паехаць у горат.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Маніцца што ўзяць, што купляць. Маніцца прыехаць.* Чычалі Швянч. *Ён маніцца жаніцца, а не будзя ён жаніцца!* Малькуны Ігн. 2. *безас.* Хацецца. *Мне манецца паехаць к яму.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *manýtis* 'тж'.

МА'НІЦЬ *незак.* Трызніць. *Натта маніла, а потым маніць перастала.* Жылі Іўеў.

МАНІ'ЦЬ, МАНІ'ТІ *незак.* 1. Хлусіць. *Маньцюк ён, усё мане.* Малахоўцы Бар. *Не нада маніць, гавары праўду.* Вецярэвічы Пух. *Не буду маніць, не знаю, як гэта называлі. Ён натта любіць маніць. Ён гаварыў ці ён маніў, не знаю. Што ты маніш!* Вузла Мядз. 2. Прывабліваць, спакушаць. *Сама яго маніла, а тэпэр нэ можэ отчэпітіся.* Курашэва Чыж.

МАНІ'ШКА *ж.* Манішка. *Манішкі накладалі на прарэх*

*у кашулі*. Магуны Паст. *Манішку крамную накладалі ў кашулі*. Старыя Смільгіні Воран. *Манішка накладная*. Рудня Чэрв. *У мушчын вышывалі манішкі ў кашулі*. Вузла Мядз.

МАНКЕ′Т *м*. Манжэта. *Манкет прышыла*. Вострава Маст. *Штабнавалі манішачкі, манкеты*. Магуны Паст. *Манкеты прышыла*. Солы Смарг. *Манкеты прышывалі*. Індра Красл. *У кашулі наплечнікі нашывалі, манкеты паркалёвы*. Старыя Трокі Трак. *У каптанах манкеты*. Малахоўцы Бар.; *парайн*. польск. *mankiet* 'тж'.

МАНКІРАВА′ЦЬ *незак*. Ашукваць. *Яна зладзейка, длугоў пойна, яна манкіруя*. Малі Астр.; *парайн*. фр. *manquer* 'не хапаць'.

МАНКІРА′НТ *м*. Гультай. *Манкірант ён, не хоча рабіць*. Жыдзевічы Іўеў.

МАНКІРУ′ТАЦЬ *незак*. Гультаяваць. *Манкірутая, кап не рабіць, манкірант ён*. Жыдзевічы Іўеў.

МА′НКО *н*. Растрата. *Кажут, што жуонка Романа зробіла в склепі манко*. Курашэва Чыж.

МА′ННА *ж*. Манныя крупы. *Звару манны на малацэ*. Ністанішкі Смарг.

МАНТУ′С І *гл*. МЯНТУ′З

МАНТУ′С ІІ *м*. Вясло, нізка. *Дайней збэрсаіць баранкаў лык і вялікі мантус дахаты нясець*. Ёдлавічы Брасл.

МАНЦЫМО′НКА *ж*. Тое ж, што і м а л і м о́ н т к а. *Манцымонку сабе ўзяў за жонку*. Яцаўляны Сідр.

МАНЫНА′РКА *ж*. Тое ж, што і м а н а́ р к а. *Манынаркі былі раней, іс сукна шылі. Манынарка ад касцюма*. Кемялішкі Смарг. *Манынарка — пінжак*. Солы Смарг. *Манынарка — як пінжак, мушчынская такая*. Чуркі Ашм.

МАНЬЦЮ′К *м*. Хлус. *Маньцюк ты, усё манеш*. Малахоўцы Бар.

МАНЮ′К *м*. Тое ж, што і м а н ь ц ю́ к. *Манюк няпраўду кажа*. Альхоўцы Лях.

МАНЮ′КА *м*. і *ж*. Тое ж, што і м а н ь ц ю́ к. *Манюка ён, маня, абманіў мяне*. Рыбчына Віл. *Астануся манюкай*. Дзевятні Смарг. *От жа ж і манюка ты!* Глівін Барыс. *Што там гэты манюка маніць?* Беразіно Докш. *Манюку ляхчэй салгаць, чым праўду сказаць. Манюка ён, маніць*. Вузла Мядз. 2. *перан*. Кашалёк. *Манюка — кашалёк такі з лучыны пляцецца*. Беразіно Докш. ∇ *Ні давай парожняю сіську — будзіць манюка*. Кураполле Паст.

МАНЮ′НЕЧКІ *прым. памянш*. Маленечкі. *Яна нейкая манюнечкая, куртатая*. Пацаўшчына Дзятл.

МАРАЗІ′ЦЬ *незак*. Падмарожваць. *Увосінь рана стала маразіць, і цяпер марос*. Ахрэмаўцы Брасл. *Плыве шаршэнь, ужо маразіць*. Солы Смарг.

МАРАЗІ'ШЧА *м. павел.* да м а р о́ з. *Ну і маразішча сягодня!* Ёдлавічы Брасл.

МАРАЗЛІ'ВЫ *прым.* Халодны. ▽ *Сухоя лета хоць сушыць, алі семя ня зводзіць, а як маразлівая — дык і семя звядзець.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАРАЗЮ'ГА *м.* Тое ж, што і м а р а з і́ ш ч а. *І маразюга вялікі!* Мярэцкія Глыб.

МАРАЗЯ'НЫ, МАРАЗЯ'ННЫ *прым.* 1. Марозны. *Дзень халодны, маразяны.* Раўбічы Мін. *Зімы натта маразяныя былі, і ён прамёрс, да нас ездзячы. Кажаць, што будзя маразянная зіма.* Гемзы Шальч. 2. Яркі, бліскучы (пра зоркі). *Маразяныя звёзды.* Лоск Валож.

МАРАСІ'ЦЬ, МАРАШЫ'ЦЬ, МАРУСІ'ЦЬ, МАРУШЧЫ'ЦЬ *незак.* Імгліць. *Марасіць дошч.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стаў марасіць дожджык.* Гемзы Шальч. *Дож маросіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дожджык марашыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ужо марашыць дошч, і холадно. Марашыў дошч цэлу раніцу.* Кіралі Шчуч. *Марашыць дошч.* Пацаўшчына Дзятл. *Марусіць дробненькі дошч, дробненько сея.* Мсцібава Ваўк. *Марусіць дошч.* Альхоўцы Лях., Багушэвічы Бярэз. *Марушыць дожджык дробненькі.* Граўжышкі Ашм.

МА'РАЦ *м.* Сакавік. *Халады былі ў марцу.* Чычалі Швянч. *Прабылі немцы ў нас якрас восім месяцаў, а прышлі ў марцы.* Парэчча Гродз. ▽ *Сухі марац, мокры май — будзя жыта, як гай.* Рыбчына Віл. *Марац шчыпая за паляц.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *marzec* 'тж'.

МАРА'ЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Скора мараяцца пліта, то брызня, як варыш.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *мараться* 'тж'.

МАРА'ЦЬ *незак.* Пэцкаць. ▽ *Плахая пціца, што сваё гняздо марае.* Навадворшчына Мін.

МАРАШЫ'ЦЬ *гл.* МАРАСІ'ЦЬ

МАРВА' *ж.* Адходы ад воску. *Марва — то іл, што астаніцца ў торбачкі, як выцясняш мет, ідзе на пераработку.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *marvà* 'усякае смецце'.

МАРҐАВЕ'НЯ *зб. н.* Маркоўнік. *Марґавеня — ад морґвы лісты. Наламала свіням марґавеня.* Кіралі Шчуч.

МАРГА'ЦЬ *незак.* Маргаць. *Многа маргае вокам.* Сакаляны Сакол. *Не трэба маргаць ачыма.* Номікі Бабіц.

МАРҐЕ'ЛЬ *прым.* 1. Рабы (пра масць жывёлы). *На быка гаворацць марґель, на карову.* Гемзы Шальч. *На вала скажаш марґель, ці падласы.* Парэчча Гродз. 2. *м. перан.* Той, хто брудны. *Марґель ты, мурзаты які!* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *márgis* 'стракаты'.

МАРҐЕ'НЬ *ж.* Тканіна ў клетку. *Марґень ткалі ў клетку. Ткалі марґені ў клетку, абложаныя маленькімі клетачкамі.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *margìnė* 'рабая тканіна'.

МАРГО'ЎНІК *гл.* МАРКО'ЎНІК

МАРДА'СТЫ *прым. перан.* Вялікагаловы (пра саву). *Сава — мардастая, як у ката галава.* Бакшты Іўеў.

МАРДА'ЧЫ *прым.* Мардаты. *Мардачы чалавек.* Дакудава Лід.

МАРКАВЕ'НЁ, МАРКАВЕ'НЯ *зб. н.* Маркоўнік. *Часам называюць маркавенё.* Старое Сяло Зэльв. *Маркавенё свіні ядуць.* Вострава Маст. *Сабяры і вынясь маркавеня.* Вялікія Баяры Шчуч.

МАРКАТА', МАРКО'ТА *ж.* Маркота. *Мне такая марката, асталася адна, далёка ад дзяцей.* Солы Смарг. *Нейкыя маркота навалілася.* Якубова Рас.

МАРКАТА'ЦЬ *гл.* МАРКІТА'ЦЬ

МАРКА'Ч *м.* Баран-вытворнік. *Было пяць авечак і маркач, надаелі яны, цяпер не дзяржу.* Дакудава Лід. *Баран невыкастраваны, або маркач.* Баброўнікі Гарад.

МАРКА'ЧЫК *м. памянш.* да м а р к á ч. *Дзве авечачкі і маркачык.* Воўкуш Ліпск.

МАРКІТА'ЦЬ, МАРКАТА'ЦЬ *незак.* 1. Знаходзіцца ў стане цечкі. *Гавечка маркіча, кошка маркіча.* Вострава Маст. *Авечка маркіча.* Парэчча Гродз., Воўкуш Ліпск., Сакаляны Сакол., Лука Нараўк. *Маркочуць авечкі.* Мішневічы Шум. 2. Утвараць характэрныя гукі (пра барана-вытворніка). *Баран маркочыць.* Саланое Віл.

МАРКІТУ'Н *м.* Тое ж, што і м а р к á ч. *Маркітуна загані!* Лука Нараўк.

МАРКО'ТА *гл.* МАРКАТА'

МАРКО'ТНА *прысл.* Сумна, журботна. *Аднэй маркотна.* Магуны Паст. *Пэўна, слухаць стала мяне маркотна?* Оцкавічы Паст. *Ай, як мне сягання маркотна.* Саланое Віл. *Маркотна ў хаця.* Граўжышкі Ашм. *Калі маркотна табе, вазьмі дзіця, на чорта сабака.* Солы Смарг. *Маркотна, слонца няма.* Крэва Смарг. *Нам будзя маркотна, як паедзеця ад нас.* Лоск Валож. *Як ня йдзе ка мне* [унук], *так тады дужа маркотна.* Палік Барыс. *Зімой маркотна тут жыць.* Дэксня Даўг. *Там не будзе маркотна.* Гемзы Шальч. *Як мне маркотна, адна, як воўк, сяджу.* Вузла Мядз.

МАРКО'ТНЫ *прым.* 1. Журботны. *Чаго ты такі маркотны?* Ахрэмаўцы Брасл. *Што ты такі маркотны?* Курраполле Паст. *Матка такая маркотная, што дачка хворая.* Солы Смарг. *Карова ляжала маркотная такая, а я даў ей вядром па здухавіня, яна і ўстала.* Гемзы Шальч. 2. Стомлены. *З мяхамі пацягаліся, маркотныя сталі.* Ракаўскія Швянч.

МАРКО'ЎНІК, МАРГО'ЎНІК, МАРХО'ЎНІК *м.* 1. *зб.* Тое ж, што і м а р к а в é н ё. *Маркоўнік — націна морхвы.* Гемзы Шальч. *Маркоўнік такі густы!* Пасіене Лудз. *Маркоўнік злажылі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *На маркоўніку*

*пасцілі*. Рудня Астравітая Чэрв. *Маркоўнік свіння ні ядуць.* Багушэвічы Бярэз. *Марґоўнік вялікі.* Магуны Паст. *Трусы любяць мархоўнік.* Едлавічы Брасл. *Мархоўнік на морхве пасох.* Солы Смарг. *Мархоўнік вялікі.* Крэва Смарг. 2. *бат.* Травяністая расліна, лісце якой падобна на лісце моркві. *Маркоўнік бела цвіціць і расцець калі скліна і ў лесі, усюды, карова есць, не ўрэдна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маркоўнік каровы не ядуць.* Валынцы В.-Дзв. *Маркоўнік — трава такая.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАРКО'ЦІЦЦА *незак.* 1. Сумавацъ. *Маркочуся біс сям'і.* Лісна В.-Дзв. 2. *безас.* Хіліць на сон. *На дошч маркоціцца.* Альхоўцы Лях.

МАРКО'ЦІЦЬ *незак.* Тое ж, што і м а р к о́ ц і ц ц а 2. *Нешта мне маркоціць паспаць.* Беразіно Докш.

МАРМАТА'НЯ *н.* Мармытанне. *Тваё марматáня мне надаело.* Мсцібава Ваўк.

МАРМАТА'ЦЬ *гл.* МАРМЫТА'ЦЬ

МАРМАТУ'Н *м.* Мармытун. *Марматун мармоча ў нос.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *marmatùkas* 'тж'.

МАРМІ'СКА *ж. кулін.* Кулеш. *Марміска рабілі так: цукру патпалім, кап чырвона было, вадэ, муке і варым.* Парэчча Гродз.

МАРМІТА'ЦЬ *гл.* МАРМЫТА'ЦЬ

МАРМУ'ЗА I, МАРМІ'ЗА, МАРМЫ'ЗА *м.* і *ж.* *экспр.* 1. Той, хто негаваркі. *Мармуза ён, маўчыць і маўчыць.* Старыя Трокі Трак. *Мармуза ты, чаго маўчыш?* Гемзы Шальч. *Марміза — хто мала гаворыць.* Парэчча Гродз. 2. Бурклівы чалавек. *Мармыза — баба сварлівая ці дзет, усё мармыча і мармыча нешта.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *marmūžė* 'морда, рыла'.

МАРМУ'ЗА II *м.* і *ж.* 1. Той, хто запэцканы. *Мармуза ты! Мармуза кажуць на мурзатага.* Азяраны Раг. 2. *ж.* *перан.* Рэдкая нясмачная страва. *Наварыла ты мармузы якойсь, намяшала ўсяго.* Мсцібава Ваўк.

МАРМУ'ЛЬ, МАРМЫ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і м а р м у́ з а I, 1. *Маўчыць, як мармуль.* Лісна В.-Дзв. *Мармуль, чаму не гаворыш?* Рыбчына Віл. *Мармуль гаворань у нас на чалавека, які мала гаворыць.* Дакудава Лід. *Якісь такі мармыль, мармыча толькі.* Каўняны Гродз. *Ад мармыля гэтага слова не даб'ецца.* Беразіно Докш.

МА'РМУР *м.* Мармур. *Труны былі з мармура.* Чычалі Швянч.

МАРМЫ'ЗА *гл.* МАРМУ'ЗА

МАРМЫТА'ЦЬ, МАРМАТА'ЦЬ, МАРМІТА'ЦЬ, МАРМУТА'ЦЬ *незак.* 1. Мармытаць. *Мармыча сам сабе пад нос, нічога не разабраў.* Івашкаўцы Смарг. *Што ты мармычаш у*

*нос?!* Дакудава Лід. *Мармыча і мармыча, як кот.* Пацаўшчына Дзятл. *Што ты там мармычыш?* Мсцібава Ваўк. *Мармочыць, гаворыць і непанятна.* Кураполле Паст. *Што ты мармачыш?* Старыя Трокі Трак. *Мармочыць пад нос.* Чычалі Швянч. *Яна ўсё марміча, нігды ёй ні дагодзіш.* Яцаўляны Сідр. 2. Гугнявіць. *Ён у нос мармыча.* Кіралі Шчуч. 3. Муркаць. *Кот мармыча.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мармыча кот.* Лука Нараўк. *Мармоча кот.* Старыя Трокі Трак. *Котка есці хоча, трэцца і мармочыць да цібе.* Саланое Віл. *Кот мармочыць.* Малькуны Ігн. *Кот мармуча.* Кузьмічы Люб. 4. *перан.* Бурчаць (пра сабаку). *Мармыча сабака.* Альхоўцы Лях. *Сабака мармочыць.* Малькуны Ігн. 5. Ціха мыкаць (пра карову). *Карова будзе мармітаць, а напоіш — перастаня.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* літ. *murmėti* 'невыразна гаварыць, гугнявіць'.

МАРМЫТУ'Н *м.* 1. Той, хто гугнявіць. *Мармытун мармыча ў нос.* Кіралі Шчуч. *Мармытун на нос гаворыць, мармычэ на нос.* Баброўнікі Гарад. 2. Хто сам з сабой гаворыць. *Мармытун — што сам сабе ідзе і мармычэ.* Баброўнікі Гарад.

МА'РНА, МА'РНЯ *прысл.* 1. Бедна апранацца, жыць. *Калісь марна хадзілі.* Стральцы Шальч. *Калісь людзі марня жылі.* Мсцібава Ваўк. 2. Дрэнна выглядаць. *Марня выглядаю.* Новікі Гродз. 3. Дарэмна. ▽ *Ой, біда, біда, што прайшлі марня гада.* Кураполле Паст.

МАРНАВА'ЦЦА *незак.* Марна страчвацца. *У нас нічаго ні марнавалася: ткалі мяхі, дзяружкі.* Дакудава Лід.

МАРНАВА'ЦЬ *незак.* 1. Марнатравіць. *Будуць марнаваць цэлы вечар.* Ністанішкі Смарг. 2. Нішчыць. *Злуе — марнуе ўсё: б'е, ламае.* Старыя Трокі Трак. *Не марнуй ты кветкі!* Пацаўшчына Дзятл. 3. Псаваць. *Шкадую здароўя марнаваць — ня п'ю.* Солы Смарг. 4. Мучыць. *Ні марнуй ногі, ні абувай туфлі гэтыя!* Чапаеўскі В.-Дзв. *Нашто ты марнуяш мяне!?* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *marnować* 'тж'.

МАРНА'К *м. бат.* Свінакроп. *Марнак — як мак, дробны.* Граўжышкі Ашм.

МАРНА'ТКА *ж.* Тое ж, што і м а н а́ р к а. *Марнатка с сукна была.* Пацаўшчына Дзятл.

МАРНАТРА'ВЕЦ *м.* Хто неразумна траціць грошы, маёмасць. *Марнатравец ты!* Жылі Іўеў.

МАРНАТРА'ЎНІЦА *ж.* Гаспадыня, якая марна траціць прадукты. *Мая хазяйка — марнатраўніца, ужо бульбу змарозіла.* Малі Астр.

МАРНАТРА'ЎНЫ *прым.* Які неразумна траціць грошы, маёмасць. *Марнатраўны сын.* Номікі Бабіц.

МА'РНЕ *прысл.* Дрэнна. *Як марне паліцца, то ўтлеіць.* Старыя Трокі Трак.

МА'РНЕНЬКА *прысл. памянш.* да м а́ р н е. *Зямля была*

*пяскаватая, была гліна — ўсё марненька расло.* Крэва Смарг.

МАРНІЕ'ЦІ *незак.* Сохнуць, чахнуць. *Овэс такі гожы показавсе, а тэпэр марніее.* Курашэва Чыж.

МА'РНІНЬКІ *прым. памянш.* да м а́ р н ы 1. *Марнінькую цялушку купіў.* Магуны Паст.

МАРНІТА'ЦЬ *незак.* Мыкаць. *Цялуха марніча і марніча цэлы дзень: і накарміла і напаіла.* Парэчча Гродз.

МА'РНЫ *прым.* 1. Слабы, схуднелы. *Марны такі хлопчык.* Валеўка Навагр. *Марная была дзяўчынка.* Стральцы Шальч. *Марна была карова.* Старыя Смільгіні Воран. *У каго карова марная, мала малака дае, немалочная.* Гемзы Шальч. *Марнага парсюка забілі, сланіна ценькая.* Крэва Смарг. 2. Невялікі па велічыні, памерах. *Часамі марная жыта было, жмяню длушшага выжня, перавясла скруціць.* Гемзы Шальч. *У нас марны лес.* Новікі Гродз. *Марны сноп.* Беняконі Воран. *Сліўкі марныя.* Альхоўка Навагр. *Марная зярнятка.* Старыя Смільгіні Воран. *Марна была хата.* Вострава Маст. 3. Нязначны. *Як марная раса: тут яна ёсь, а тут і няма.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Дрэнны (пра надвор'е). *Вот марна пагода.* Навасёлкі Свісл. 5. Нешчаслівы. *Чаму ў мяне такое марная жыцця? Чаму мой такі марны лёс?* Вузла Мядз.

МА'РНЯ *гл.* МА'РНА

МАРО'З, МАРО'С *м.* 1. Моцны холад. *Цвілі садэ, як даў марос — асыпайса цвет.* Парэчча Гродз. *Марос вялікі за твар бярэць.* Мярэцкія Глыб. *На марос ляцяць крукі ў лес.* Мсцібава Ваўк. 2. у знач. *прысл. маро́зам, маро́замі.* У час марозаў. *Лёхкія застудзіла марозам.* Курaполле Паст. *Марозам у рукі сцюдзіна.* Саланое Віл. *Марозам нагрэем хаты. Марозам павешала* [бялізну] *на двары, дык парвало шчэпкамі.* Альхоўцы Лях. *Там ім шчупакі былі марозамі.* Мсцібава Ваўк. *Пашлі марозам, замерзлі ў сушылцы тры хлапчаке.* Кіралі Шчуч. *Марозам трашчыць плот.* Руднікі Шальч. ▽ *Дурной крапівы і марос не змарозіць.* Збляны Лід.

МАРО'ЗАВЫ *прым.* Шараваты (пра масць). *Чалей — вол марозавага цвету.* Парэчча Гродз.

МАРО'ЗЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і м а р а з я́ н ы 1. *Халодны, марозлівы дзень.* Міратычы Карэл. *Зіма была марозліва.* Дзяніскавічы Ганц., Пацаўшчына Дзятл. *Марозлівы холад нейкі.* Новіны Нясв. *Марозлівая вясна.* Альхоўцы Лях.

МАРО'С *гл.* МАРОЗ

МАРСКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Імгліць. *Марскаціць дошч.* Галубы Маст.

МАРСКА'Я ВАРО'НА *ж.* Чайка. *Прылятаюць марскія вароны: плечы пад жоўтае патходзяць, а скрыдля і брушка белыя.* Каўняны Гродз. *У марскіх варон вайстраватыя скрылы.* Мсцібава Ваўк.

МАРТАПЛЯ′СЫ *мн.* Махры. *Мартаплясы вісяць* [у падраным адзенні]. Міратычы Карэл.

МАРТВЕ′ЦЬ *незак.* Мярцвець. *Мартвея рука.* Быстрыца Астр.

МА′РТВЫ *прым.* Знямелы. *Увесь мартвы.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *martwy* 'тж'.

МАРУ′ГАВЫ *прым.* Мурожны. *Балотняя і маругавая трава.* Відаўцішкі Вільн.

МАРУ′ДА *м.* і *ж.* Хто марудна робіць. *Маруда порыцца, як сляпы ў торбя.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *maruda* 'тж'.

МАРУ′ДНА, МАРУ′ДНЕ, МАРУ′ДНЯ *прысл.* Павольна, няспешна. *Марудна робіць.* Альхоўцы Лях. *Марудне ты тут капаяся, як у попялі.* Кіралі Шчуч. *Піляць лес марудне.* Лоск Валож. *Марудне ткаць.* Жылі Іўеў. *Збіраць макрыцу марудне.* Бакшты Іўеў. *Як хто робя марудне, то кажаць: «Возісся, як дурань з дзвярыма».* Малі Астр. *Марудне ей.* Альхоўка Навагр. *Сякерай марудня часаць.* Граўжышкі Ашм. *Зімою з гумна ў хлеў насілі рэзгінямі, бо як у ворак, то марудня.* Солы Смарг.

МАРУ′ДНІК *м.* Тое ж, што і м а р у́ д а. *Гэты маруднік, але ў яго лепяй выходзіць, лепяй зробіць.* Парэчча Гродз. *Маруднік, як устаня, і кошкаецца.* Гемзы Шальч. *Ес таке людзі, бабы, маруднікі, як стане калупацца, калі яна гэту работу зробіць?!* Баброўнікі Гарад.

МАРУ′ДНЫ *прым.* Марудлівы. *Чалавек марудны зробіць да ладу.* Парэчча Гродз. *Марудны сын.* Альхоўцы Лях.

МАРУСІ′ЦЬ *гл.* МАРАСІ′ЦЬ

МАРУ′ШКІ *мн. бат.* Лісічкі. *Марушкі — жоўценькія, светленькія грыбы, а паднізам, як сыраешке, чарвяк ня есць.* Рыбчына Віл.

МАРУ′ШКІНА ТРАВА′ *ж. бат.* Чабор. *Марушкіна трава, зовюць яе і чомбар.* Рагулішкі Даўг.

МАРУШЫ′ЦЬ *гл.* МАРАСІ′ЦЬ

МАРХА′ТКІ *мн.* Завязь. *Якія тут агуркі: мархаткі толькі завізаліся.* Кураполле Паст.

МАРХАЦЕ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м а р а с і ц ь. *Дошч мархаціць.* Пацаўшчына Дзятл.

МАРХО′ЎНІК *гл.* МАРКО′ЎНІК

МАРЦАВА′ЦЦА *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Гадзюкі марцуюцца, яны віліся, віліся.* Ёдлавічы Брасл. *Вайкі марцуюцца.* Вострава Маст. *Каты марцуяцца.* Малі Астр.

МАРЦАВА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м а р ц а в а́ ц ц а. *Котка марцуя.* Гемзы Шальч. *Каты марцуюць.* Стральцы Гродз. *Кошка марцуіць.* Вузла Мядз.

МАРША′ЛКА *м. абрад.* Маршалак (на вяселлі). *Маршал-*

*ка кіруе на вяселлі.* Ністанішкі Смарг. *Маршалкаві даецца падарак.* Каўняны Гродз.; *параўн.* польск. *marszałek* 'тж'.

МАРШАЛКО'ВА *ж. абрад.* Жонка маршалка. *Маршалка і маршалкова — жонка* [маршалка], *яны ад маладога.* Ністанішкі Смарг.

МАРШЧА'ВЫ *прым.* Маршчыністы. *Увесь маршчавы, хоць і не стары.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Маршчавы ня будзіш, калі біць па ліцу.* Пярэкі В.-Дзв.

МАРШЧАКІ' *мн.* Маршчыны. *Я старая ўжо, маршчакоў многа.* Магуны Паст. *Маршчакі на мордзе.* Паляцкішкі Воран. *Маршчакі на твары, як курыны слядок.* Жылі Іўеў. *Натта твар на маршчакох.* Гемзы Шальч.

МАРШЧА'НЫ *прым.* Сабраны ў зборку. *Маршчана фальбона.* Мсцібава Ваўк.

МАРШЧА'ТЫ *прым.* 1. Тое ж, што і м а р ш ч á в ы. *Губа ягоная маршчатая.* Едлавічы Брасл. *Твар маршчаты.* Жылі Іўеў. 2. *перан.* Які мае зморшчаную паверхню. *Смаршке — маршчатыя грыбэ, кучамі растуць.* Вецярэвічы Пух. *Кішкі маршчатыя варылі.* Малахоўцы Бар. 3. Тое ж, што і м а р ш ч á н ы. *Насілі доўгія спадніцы, маршчатыя.* Навасёлкі Лід.

МАРШЧЛЯ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і м а р ш ч á в ы. *Якая яна маршчлявая, з маладосці такая ёсць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Маршчлявая Танька, хоць і маладая.* Пярэкі В.-Дзв.

МА'РШЧЫ', МО'РШЧЫ *мн.* Тое ж, што і м а р ш ч а к í. *На губе много маршчóў, ужо старая.* Едлавічы Брасл. *Маршчы́ паявіліся.* Мярэцкія Глыб. *Маршчы́ на твары, зморшчыўся твар.* Альхоўцы Лях. *Якія мáршчы ў яго!* Вялікія Баяры Шчуч. *У мяне моршчаў многа, старая ўжо.* Рагулішкі Даўг.

МАРШЧЫ'НЫ, МО'РШЧЫНЫ *мн.* 1. Тое ж, што і м а р ш ч а к í. *Маршчыны ат забот, а не ат старасці.* Курапolле Паст. *Маршчын многа.* Рагулішкі Даўг., Рыбчына Віл. *У яе маршчыны, пакарабаціўся твар. Алі ш і много маршчын!* Міратычы Карэл. *Маршчыны паявіліса на твары, брыткі робіцца чалавек.* Дзяніскавічы Ганц. *Маршчыны на лобе.* Лука Нараўк. *Моршчыны на твары.* Навасёлкі Свісл. *Моршчыны ў цябе на тварэ.* Каўняны Гродз. *Стары чалавек, моршчыны на твары.* Міратычы Карэл. 2. *перан.* Зборкі. *Станікі палатняныя на паясніцы шылі, маршчыны зробім, на шнурочках і зацягвалі.* Старыя Трокі Трак.

МА'РЫ толькі *мн.* Воз з высокімі драбінамі. *Мары — бальшая цілега вазіць снапы. У марах кысякі высокія. Мары — ушыроная цілега вазіць сена. Мары можна рэдалямі назваць.* Індра Красл.

МАРЫНА'РКА *ж.* Тое ж, што і м а н á р к а. *Марынаркі куплялі мушчынам, цяпер пінжак.* Магуны Паст. *Марынарка*

*с сукна шылася, с корту грубейшага шылася.* Жодзішкі Смарг. *Пашыў марынарку. Марынарка парвалася.* Паляцкішкі Воран. *Марынаркі мушчызны насілі. Ужо добра абношана марынарка, старая.* Гемзы Шальч. *Марынаркі насілі на кашулю.* Лоск Валож. *Марынаркі шылі мушчызнам.* Старыя Трокі Трак.

МАРЫ'ЦЦА *незак.* Стамляцца. *Трохі кратаюся, пахаджу — нада аддыхнуць, маруся скора.* Кураполле Паст. *Я маруся.* Лоск Валож.

МАРЫ'ЦЬ *незак.* Хіліць на сон. *Вот сон мора!* Солы Смарг. *Суш, марыць сон.* Альхоўцы Лях. *Натта сон морыць.* Руднікі Шальч.

МАРЭ'ЧНІК *м. бат.* Травяністая расліна. *Марэчнік даюць піць, як сабака шалёны ўкуся, падобны да валяр'янкі.* Жылі Іўеў.

МАРЭШКОВА'ТІ *незак.* Мярэжыць. *Сіета настуольніца гожэ марэшкована, нэбуошчыця мама іе марэшковалі.* Курашэва Чыж.

МАСІЯ'ШЫЦЬ *незак.* Маніць. *Што масіяшыш прыйшоўшы?* Валынцы В.-Дзв.

МА'СКА *ж.* Падмазка. *Дзе мая маска? Котка ўкрала маску.* Саланое Віл.

МА'СЛА *н.* і *ж.* Масла. *Патрымай смятану дома, то будзя велька масла.* Парэчча Гродз. *Бальшоя масла збіла.* Сапоцкіна Гродз. *Яна прыходзіла* [па] *масла.* Альхоўка Навагр. *Маслу добрую зрабіла. Свая масла лепей, як куплёная.* Малькуны Ігн. *Масла жоўтая такая, як воск.* Рагулішкі Даўг. *Масла, як бурлёга, рэткая.* Руднікі Шальч.

МАСЛАБО'ЙКА *ж.* Маслабойка. *Масла б'юць у маслабойкі.* Філіпаўцы Красл.

МАСЛАБО'ЙНЯ *ж.* Маслабойня. *У калхозі есць маслабойня.* Індра Красл.

МАСЛАКІ' *мн.* Сцегнавая косць. *Маслакі ў каровы.* Лісна В.-Дзв.

МАСЛЮ'К *м. кулін.* Страва, прыгатаваная з тоўчанага маку і цукру. *З маку рабілі маслюк, таўклі, сахару дабаўлялі, с хлебам елі.* Кураполле Паст.

МАСЛЮКІ' *мн. бат.* Маслякі. *Маслюкоў прынесла, ні хочацца за іх брацца.* Стральцы Гродз. *Маслюкоў насмажыла. Маслюкамі смазвалі дзеравяны вос.* Лука Нараўк.

МАСЛЯ'К I *м.* Тое ж, што і м а с л ю к í. *Нашла аднаго толькі масляка. Маслякі — грыбы.* Альхоўцы Лях. *Маслякі растуць у нас.* Каўняны Гродз.

МАСЛЯ'К II *м.* Мачанне, прыгатаванае з тоўчаных кана-

пель. *С калапень масляк рабілі: калапні сушылі, таўклі, як алей зробіцца — гэта масляк.* Вузла Мядз.

МАСЛЯ'НАЧКА *ж. бат.* Лотаць. *Лісткі круглыя, квітне жоўтым — найранейшая кветка масляначка.* Солы Смарг.

МА'СЛЯНКА *ж.* Масленіца. *Маслянка — то такое сцякляна купляецца, і туды масло кладзецца.* Баброўнікі Гарад.

МАСЛЯ'НКА *ж.* Маслёнка. *Б'юць масла, астаецца маслянка.* Магуны Паст. *Маслянка — як масла саб'еш.* Ёдлавічы Брасл. *Б'еш масла, і астаецца маслянка. Паі адной маслянкай, і дзіця паправіцца, станя расці. На маслянкі рашчынялі хлеп.* Солы Смарг. *Маслянка после масла.* Пасіене Лудз. *Масла саб'юць, і астаецца маслянка.* Дакудава Лід. *Масла ад маслянкі адлучаю.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Маслянка харошая, напіцца харашо.* Кіралі Шчуч. *Збілі масла, асталаса маслянка, яна добра для здароўя.* Стральцы Гродз. *Маслянка астаецца, як масла саб'еш.* Каўняны Гродз. *Укусная маслянка, са смятаны палучаяцца масла і маслянка. Масла збіваям, а маслянку свіням выліваям.* Малахоўцы Бар.

МА'СЛЯЧКІ *мн.* Тое ж, што і м а с л я́ н а ч к а. *Кветкі жоўтыя, як масла, таму называюць маслячкі.* Солы Смарг.

МАСТАКО'ЛІЦЦА *незак.* Масціцца. *Дзе ты мастаколісся?* Вялікія Баяры Шчуч. *Мастаколіцца, як курыца.* Пацаўшчына Дзятл. *Чаго ты сюда мастаколісся?* Галубы Маст.

МАСЦІ'ЦЦА *незак. перан.* Заляцацца. *Стаў масціцца да мяне хлопяц.* Малькуны Ігн.

МАСЦІ'ЦЬ *незак.* Рабіць кладку. ∇ *Масці клатку, заві ў хатку.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАСЦІ'ШЧА *н.* Памост. *Зделалі масцішча: калы ўбілі, доскі паслалі.* Індра Красл.

МАСЦЬ *ж.* Мазь. *Баліць рука, вопух, масці далі мазаць руку.* Малахоўцы Бар.

МАСЦЯРСКІ' *прым.* Масцеравы. *Масцярскія людзі ачосвалі бальку склютом.* Магуны Паст.

МАСЦЯРЫ'ЦЦА, МАСЦЮ'РЫЦЦА *незак.* Тое ж, што і м а с т а к о́ л і ц ц а. *Масцярыцца курыца, будзя нясціся. Што ты тут масцюрысся, атсуньса далей.* Гемзы Шальч.

МАСЫ'Ш *м. экспр.* Хітрун. *Масыш баба, як чорт, хітрая, масыжа нет такога другога.* Саланое Віл.

МА'ТА *ж.* Пляцёнка з саломы ці травы, якой уцяпляюць дзверы, завешваюць вокны і г. д. *Закутаў дзверы, мату залажыў на дзверы, уцепліў іх.* Крынкі Крын. *Мату зробяць на акно, кап было цяплей.* Баброўнікі Гарад.

МАТАВІ'ДЛА, МАТАВІ'ДЛО *н.*, МАТАВІ'ДЛЫ *мн.* Прыстасаванне для змотвання і размотвання маткоў. *Са шпулі маталі ніткі на матавідла. Матавідла маткі робя, такія чатыры рагі.* Быстрыца Астр. *Матавідла — маталі на яго ніткі.* Жодзішкі Смарг. *На матавідла маткі матаю, а потым і мыю,*

*і сушу.* Солы Смарг. *Матавідла — барабан, матушка, маталі ніткі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Талька напрадзецца і зматаецца на матавідла.* Каўняны Гродз. *Матавідла на два ражке, рукою ўе гэдак.* Галубы Маст. *На матавідла матая, на маток, тады ці фарбуя, ці беліць.* Навасёлкі Свісл. *Матавідла — на маткі матаць, кап фарбаваць.* Гемзы Шальч. *Як прадзем, то матаем на матавідла. Матавідло — круцяшчае, ручное. На матавідлы ніткі матаюць, як спралі.* Ракаўскія Швянч. *Ніці, пражу маталі на матавідлы.* Новыя Мацалі Варэн. *На матавідлы наматвалі ніткі: на палцы рагі такія.* Старыя Трокі Трак. *Матавідла — з маткоў ніткі маталі.* Парэчча Гродз.

МАТАВІ'ЛА, МАТАВІ'ЛО *н.* Тое ж, што і матавідла. *Было матавіла, ніткі маталі.* Саланое Віл. *Маткі маталі на матавіла.* Кураполле Паст. *Матавіла — кантова, а вітушка — кругла. На матавіла маталі, кап скарэй сохлі ніткі.* Малахоўцы Бар. *Прядёш на калаўроце, напрядёш, на матавіла сматаеш і палучаюцца матушкі.* Навікі Лудз. *Матавіло было.* Мсцібава Ваўк. *На матавіло ніткі матаюць.* Альхоўцы Лях. *Рабілі матавіло пражу матаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Матаюць ніткі на матавіло.* Крынкі Крын.

МАТА'НКА *ж.* Кофта. *Некалі казалі матанка, а цяпер — каптан.* Альхоўка Навагр.

МАТАНУ'ЦЦА *зак.* Нахіліцца. *Ён матануўся да мяне.* Малі Астр.

МАТАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Кінуць. *Лось як матануў машыну на касагор, але і сам шыю скруціў.* Рагулішкі Даўг. *Як матанець цябе з возам вол! Строгі ён быў: толькі хлеба ў рукі, а ён як матанець!* Вялікае Сяло В.-Дзв.

МАТАРЗЛЯ'К *м.* Матуз. *Матарзляк, які прывяжаш да дзяругі, звяжаш кутамі, каб бальшая дзяруга была. Прывяжы які-небудзь матарзляк.* Жылі Іўеў.

МАТА'ЦЦА *незак.* Навівацца. *У караўлоце ніткі маталіся на шпулю.* Беняконі Воран.

МАТА'ЦЬ *незак.* 1. Навіваць. *На матавідла маткі матаю.* Солы Смарг. *У калотку застаўлялі душу, тое самае, што вітушка, што бабы ніткі матаюць.* Сасноўка Смарг. *Сукадло — што цэўкі матаюць.* Сасноўка Смарг., Малахоўцы Бар. *Матаюць ніткі на маток, а ўюць на клубок.* Гайна Лаг. *Трэ пражу матаць.* Дзяніскавічы Ганц. *На развітушкі матаюць* [ніткі], *звіваюць.* Крынкі Крын. *На клубок матаюць ніткі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Плесці. *Павук павуціння матая, туды-сюды бегая, сетку пляце.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Круціць педалі ў веласіпедзе. *Сеў на ровар і нагой матая, і так лоўка ў яго палучаяцца.* Малахоўцы Бар. 4. *перан.* Вудзіць рыбу. *Гэты рыбак матаў, матаў, нічога не налавіў, звялася рыба.* Гемзы Шальч.

МАТА'Ч *м.* Тое ж, што і м а т а в і д л а. *Матач — матаць маткі.* Мсцібава Ваўк.

МАТА'ЧКА *ж.* Вялікае верацяно. *Матачка — велька верацяно, на якое звіваюць пражу.* Вострава Маст.

МА'ТАЧНІК I, МА'ТАШНІК *м. бат.* 1. Падбел. *Пайду пашукаю матачніку.* Ёдлавічы Брасл. *Матачнік — лякарства.* Саланое Віл. *Матачнік ат кашлю і ат дыхавіцы.* Рагулішкі Даўг. *Маташнік — ім лечацца.* Ракаўскія Швянч. 2. Настой. *Маташнік жэншчыны п'юць.* Быстрыца Астр.

МА'ТАЧНІК II, МАТЭ'ЧНІК *м. пчал.* 1. Вялікая ячэя ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка. *Матачнік у вулеі, матка выводзіцца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Матачнік — дзе матка выводзіцца. Матачнікаў бывая многа. Рой вышаў, а мы яшчэ дваццаць пяць матачнікаў нашлі.* Мыто Лід. *Пчолы закладаюць матэчнік і матку выводзяць.* Мсцібава Ваўк. 2. Прыстасаванне для адсадкі пчалінай маткі пры раенні. *Дзелаюць вялікі матачнік — такая шышка нападобія жолудзя.* Вецярэвічы Пух.

МА'ТАЧНІЦА *ж.* Тое ж, што і м á т а ч н і к II, 2. *Матачніца — дзе матку саджалі.* Саланое Віл.

МА'ТАЧЫНА *ж.* Тое ж, што і м á т а. *Матачыну на крахелкі* [кроквы] *клалі.* Саланое Віл.

МАТА'ШКА *ж.* Тое ж, што і м а т а в í д л а. *Ніткі пралі на караўлотак, палакалі, іх сушылі, а патом разматвалі на маташкі.* Стральцы Гродз.

МА'ТАШНІК *гл.* МА'ТАЧНІК I

МА'ТІЦА *гл.* МА'ЦІ'ЦА

МА'ТКА *ж.* 1. Маці. *Дзяцём маткі ня будзіць.* Саланое Віл. *Не можа ісці матка.* Каўняны Гродз. *Матка яго падала ў сут, а ён паразбіваў печ.* Кіралі Шчуч. *Аддала сваёй матцэ.* Дзераўное Стаўб. *Я пайду к тваёй маткі. Нада на футар узяць матку.* Пасіене Лудз. *Калісьці ўважалі бацькоў, маткоў. Матка яе сланіны прынясе.* Кудзялянцы Шальч. *Маццы сястра купіла гаці.* Старыя Трокі Трак. *Бралі мяне за матку.* Гальшаны Ашм. *Маладуха падарыла маткай* [матцы] *стан палатна.* Ёдлавічы Брасл. 2. Самка ў пчол. *Другі настольнік нацягніць, знізу глядзіць матку. Біз маткі пчолы жыць не будуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Матка яічкі кладзець на пчолы.* Саланое Віл. *Матка пчол пладная, крэпкая, маладая. Матка пчаліная жывець да пяці гот, яна ня чэрыць, зводзіць сям'ю.* Груздава Паст. *Матка* [у пчол] *шылаватая.* Бакшты Іўеў. *Матку поймуць і дзержуць.* Старыя Смільгіні Воран. *Молодая матка лучші чаріт.* Прэдэ Даўг. 3. Квактуха. *Гэта курыца ўсё маткай была, вадзіла дзяцей.* Рагулішкі Даўг. ∇ *Якая матка, такоя і дзіцятка.* Валынцы В.-Дзв. *Мне дзень — мат-*

*ка, дзень — мачэха, адзін дзень добры, а другі — дрэнны.* Кураполле Паст.

МА'ТКА-І-МА'ЧАХА *ж.* Тое ж, што і м а́ т а ч н і к І, 1. *Матка-і-мачаха—трава, а хто падбел завець.* Пярэкі В.-Дзв.

МАТКЕ'ДНІЦА *ж.* Жаночая кашуля. *Вянчаліся ў маткедніцах. Шылі маткедніцы с тонкага палатна, а рукавы перарыканыя ружнага сорту, як шлячок* [каёмачка], *каўнер выкладаны. У мяне было две маткедніцы.* Бакшты Іўеў.

МАТЛАШЧЫ'ЦЬ *незак. экспр.* Махаць. *Я рукамі матлашу.* Мсцібава Ваўк.

МАТЛЯ'Х *м.* Асінае вісячае гняздо. *Той пузыр на матляху вісіць, а ў ём купкі с чарвямі — гэта дзеці.* Кіралі Шчуч.

МАТНЯ' *ж.* Задняя частка рыбалоўнай снасці ў выглядзе доўгага мяшка. *Матня — мех такі, як зойдзе рыба, то ня выйдзя.* Збляны Лід.

МАТО'К *м.* 1. Нізка. *Маток рыбы і налавіў торбу цэлую.* Валынцы В.-Дзв. *Маток грыбоў насушылі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Начапаць маток грыбоў.* Ухвала Круп. *Над печчу павесіла маток сушаных грыбоў.* Мішневічы Шум. *Маток баравікоў вісіць.* Пасіене Лудз. *Многа маткоў грыбоў. Маток клёну пат хлеп.* Мярэцкія Глыб. *Маток баранкаў купіла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чапалі табаку на маткі і сушылі.* Індра Красл. 2. Пляцёнка. *Цыбулю ў маткі вяжуць. Цыбулю раньшы прадавалі маткамі, а ціпер на вес.* Індра Красл. *Маток цыбулі купіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Бяры маток цыбулі і ўсё.* Беразіно Докш. 3. Пасма. *Наматвалі маткі на клубок. Маткі на клупку.* Старыя Трокі Трак. *Маткі ссунуліся* [з клубка]. Грыкені Вільн. *На матавідла маткі матаюць.* Солы Смарг.

МАТО'Р, МО'ТАР *м.* Матор. *Матор зламаўся.* Стральцы Гродз. *Язык у яго, як на мотары.* Груздава Паст.

МАТО'ЦЫК *м.* Матацыкл. *На матоцыку паткіня.* Магуны Паст. *За матоцык многа аддаў.* Жодзішкі Смарг. *За матоцыкамі цяпер гоняцца.* Навасёлкі Лід.

МАТО'ЧЫК *м. памянш.* да м а т о́ к 1. *Маточык баравікоў насушыла.* Кураполле Паст.

МАТРА'С *м.* Сяннік. *Я матраса наб'ю.* Смаляніца Пруж.

МАТУ'З, МАТУ'С, МО'ТУС *м.*, МАТУЗЫ', МАТУЗЭ' *мн.* 1. Завязка ў фартуху і інш. *Матус прычапіла да фартуха.* Кіралі Шчуч. *Матус да запінка.* Саланое Віл. *Прышывалі да спадніцы матузы. Торбы папашываныя з матузом.* Дакудава Лід. *Зборкі ўверсі, матус прышывалі* [у андарак]. Рудня Астравітая Чэрв. *Матузы папрышывала к хвартуху.* Валынцы В.-Дзв. *Матузы ўшываюцца ў фартух.* Магуны Паст. *Спадніцы шылі з матузамы.* Мярэцкія Глыб. *С полак спадніцы шылі, матузэ ўшывалі і завязвалі, каб не зваліласё.* Пацаўшчына Дзятл. *І да спадніцы і да фартуха матузы прышывалі.* Гемзы Шальч. 2. Повад. *Павёў карову на матузу.*

Едлавічы Брасл. 3. Шнурок, вяровачка. *Матус і шнурок — гэта адно. Вазьмі матус які!* Вялікія Баяры Шчуч. *Матузы прывязуям да дзярушкі.* Бакшты Іўеў. *Чаплялі нітэ на матузэ.* Кузьмічы Люб. *Мотус—у поцязі* [прасніцы] *кудзелю прывязваць.* Альхоўцы Лях. *Мотус з ніцей робяць.* Дзяніскавічы Ганц.

МАТУЗІ'НА *ж.* Тое ж, што і м а т у́ з 3. *Найдзі ты мне матузіну якую завязаць мяшок.* Лісна В.-Дзв.

МАТУЗНІ'ЦА *ж.* Лямка. *На поля бралі калыску, яе на матузніцу с палатна, кап ні рэзала,— і на плечы.* Малахоўцы Бар.

МАТУ'ЛЬКА *ж.* 1. *памянш.-ласк.* да м а т у́ л я. *Матулька мая!* Магуны Паст. *Пашлі сваю матульку ў зялёны сат па рутачку.* Кураполле Паст. 2. Хросная маці. *Матулька — матка хросная.* Лука Нараўк.

МАТУ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і м а́ м а. *Матуля спячэць бліны.* Магуны Паст. *Мая матуля рана памярла.* Саланое Віл. *А вы, матулю, куды?* Новікі Гродз. ∇ *Залвіца—не сястрыца, ятроўка — не матуля.* Солы Смарг.

МАТУ'Н *м.* Хлус. *Матуны праўды не скажуць.* Ністанішкі Смарг.

МАТУ'С *гл.* МАТУ'З

МАТУ'ШАЧКА, МАТУ'ШЫЧКА *ж. памянш.* да м а т у́ ш к а 3. *Купюць матушачку баравікоў і поліўку вараць.* Валынцы В.-Дзв. *Матушычку грыбоў насушыла.* Лісна В.-Дзв.

МАТУ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і м а т а в і́ д л а. *Прадзеш на карайлодак і звіваеш на матушку. З матушкі можна снаваць кросна, з матушкі снуём.* Кіралі Шчуч. *Матушкі былі нароблены, уложыш палку і матаеш.* Старыя Смільгіні Воран. *Матушка — крыжовіна: ставіш чатыры верацяне і наматваяш ніткі.* Малахоўцы Бар. *Ніткі пралі, на матушкі маталі; матушка — такі станок.* Навікі Лудз. *Матушкою ніткі матают.* Курашэва Чыж. 2. Маток. *Накруціш на пальцы ніткі, можна і большы, на растапыраныя пальцы — гэто матушка.* Стральцы Гродз. *На матавіла сматаеш, што напрадзеш. Матушкі спрадзеныя ў залу — і ў печ, выпарацца — і белыя.* Навікі Лудз. *Дзерлі лыкі і на матушкі маталі.* Едлавічы Брасл. 3. Тое ж, што і м а т о́ к 1. *Матушка баранак вісіць.* Лісна В.-Дзв. 4. у знач. *прысл. мату́шкамі.* Спосаб ткання. *Матушкамі дыван тканы.* Мсцібава Ваўк.

МА'ТУШНІК *м.* Тое ж, што і м а́ т а ч н і к II, 2. *Матку* [пчалінную] *у матушнік паставіць у дзіравянны.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МА'ТЧЫН *прым.* Матчын. *Матчыны спаткі асталіся.* Солы Смарг.

МАТЫ'КА *ж.* Матыка. *Матыка з зубцамі.* Рыбчына Віл. *Матыкаю капаюць. Калісьці вярнулі землю матыкаю.* Вялі-

кія Баяры Шчуч. *Матыка з зубамі.* Кіралі Шчуч. *Матыка з зубамі, а другі бок глаткі.* Вецярэвічы Пух. *Матыка — бы сякерка з зубамі.* Дзяніскавічы Ганц. *Пасекчы зёльё матыкаю, як полеш агарот.* Міратычы Карэл. *Матыка — два зубцы, чтэры зубцы.* Лука Нараўк.

МАТЫКАВА'ЦЬ, МАТЫГАВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Трэба матыкаваць агарот.* Саланое Віл. *Матыкай матыкуюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Матыкуям матычкай.* Стральцы Гродз. *Матыкуюць матычкай картофлі.* Старыя Трокі Трак. *Бульбу матыкуюць і абгоруюць.* Ліпнікі Вільн. *Трэба матыґаваць ягады, кусты.* Ракаўскія Швянч.

МАТЫЛЁК *м.* Матыль. *Матылёк заляцеў у хату.* Стральцы Гродз.

МАТЫЛІ', МІТУЛІ' *мн.* Лічынкі стужачных глістоў, якія выклікаюць захворванне ў авечак і коз. *Матылі па печаню ў яе* [авечкі], *бальны печань.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Матылі ў авечак у печані; печань у матылях. Авечкі хварэюць, як зарэзалі, дык матылі па печані.* Кураполле Паст. *Хворая авечка, як зарэжаш — на печанях матылі і жывыя. Бывае печані паточаць матылі.* Гемзы Шальч. *У казы мітулі ў пячонкі, як чэрві, і ў авечак бываюць мітулі.* Валынцы В.-Дзв.

МАТЫЛІ'ЦА *ж. вет.* Захворванне авечак і коз, выклікане лічынкамі стужачных глістоў. *Матыліца ў авец: на печані, як крылячкі, разрэжаш — аш варушацца.* Пацаўшчына Дзятл. *Матыліца ў авечак, матылі рушацца.* Жылі Іўеў. *Матыліца ў авечак на печонцы.* Лука Нараўк.

МАТЫЛІ'ЦЫ *мн.* Тое ж, што і м а т ы л і. *У авечкі матыліцы ў галаве, у мазґох, чарвякі рушацца, рушацца, аж ґіжаць.* Кіралі Шчуч. *Цяшкую вантробу як разрэжаш, то відаць: плоскія, жывыя гэтыя матыліцы.* Мсцібава Ваўк. *Стане кашляць аўца — матыліцы ў яе.* Галубы Маст. *Матыліцы ў лёхкуй былі ў авец. Яны плоскія, як шалупаечкі, яны і кратаюцца, жывыя.* Вецярэвічы Пух. *Напалі матыліцы на вечак.* Кузьмічы Люб.

МАТЫ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і м а т ы л ё к. *Матылка ест. Паляцела матылка.* Новікі Гродз. *Матылка летае.* Смаляніца Пруж. *Бапкі і матылкі лятаюць.* Тухавічы Лях. *Усялякія матылкі бываюць.* Воўкуш Ліпск.

МАТЫ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і м а т ы л ё к. *Матыль вусянь аткладая.* Вецярэвічы Пух. *Матылі белыя на капусту садзяцца.* Дакудава Лід. *Матылі лётаюць.* Лоск Валож. *Матылёў многа лятая.* Малькуны Ігн. ◊ *Матылі напалі* — пазбавіцца здольнасці ясна развражаць. *Нейкія матылі на яго напалі, стаў біцца з дзяцькам.* Вузла Мядз. *Матылі ў вачу* — пра мігценне перад вачамі. *Усе матылі ў вачу лятаюць.* Валеўка Навагр.

МАТЫНА'ЧКА *ж.* Жаночая кофта з фальбонамі. *Матыначкі с фальбоначкамі, такая блюзачка.* Быстрыца Астр.

МАТЫ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і матыка. *Матычка — бяз зупкоў і матычка — грабельцы, што капаюць бульбу, на тры зупкі.* Магуны Паст. *Матычка на чатыры зубы, матычка — і без зубоў — даўнейшая матычка.* Гемзы Шальч. *Матыкуюць матычкай картофлі.* Старыя Трокі Трак. *Матычка с трыма зубамі, што картофлю коплюць.* Каўняны Гродз.

МАТЭ'РСЬКА *ж. мед.* Гной. *Цячэць матэрська — брут са скулы.* Магуны Паст.

МАТЭ'РЫЯ *ж.* Тое ж, што і матэрська. *Выбілася нарыца невядома атчаго, што не раблю — цячэ матэрыя.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *materia* 'тж'.

МАТЭР'Я'Л, МАЦЕР'Я'Л *м.* Матэрыя. *Для красаты ўстаўлялі з другога матэр'ялу.* Солы Смарг. *Мацер'ялу дзешавага купіў, нада пашчытаць грошы.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *материал* 'тж'.

МАТЭ'ЧНІК *гл.* МА'ТАЧНІК

МАЎДУ'К *м. груб.* Маўклівы чалавек. *Маўдук — усё маўчыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Маўдук гэты, маўчыць.* Кураполле Паст.

МАЎКЛІ'ВЫ, МОЎКЛІ'ВЫ *прым.* Негаваркі. *Маўклівы чалавек.* Малькуны Ігн. *Ён неадважны, маўклівы.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Маўклівы — як кум у ворку сядзіць.* Старыя Смільгіні Воран.

МАЎКЛІ'С *м.* Тое ж, што і маўдук. *Маўкліс — хто мала гаворыць.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *mauklỹs* 'хто непрыгожы, нязграбны'.

МА'ЎНУЦЬ *зак.* Ступіць нагой у што-н. *Як маўнула ў плавіну, так і паляцела нагой.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *máuti* 'ляцець, упасці'.

МАЎРА' *ж. бат.* 1. Раска. *Маўра на вадзе, у возеры зарасцець.* Магуны Паст. *Маўра длінная, беляныка зацвітая, нажаруцца яе каровы. Маўра на рацэ, шатаяцца на вадзе.* Быстрыца Астр. *Маўра — трава, лісточкі на дудачках.* Жодзішкі Смарг. 2. Разнавіднасць урэчнікавых. *Маўра ў рэццы расце — трава даўгая. Маўра чэпіцца да нох.* Малі Астр. *У рацэ расце маўра, куды вада, туды маўра ляжыць. Шчупак зарыўся ў маўру.* Гемзы Шальч. *Маўра ў рэццы ест, па маўры ідуць як рыбу ловяць.* Руднікі Шальч. 3. Эладзія. *Маўра расце на вадзе, кветачкі дробненькія, ружаваценькія. Яны як пасыхаюць — шышачкі робяцца, лісточкі дробныя, сцябло ніская.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *maũrai* 'раска'.

МАЎЧА'НАЧКА *ж.* Маўчанне. ∇ *Маўчаначка ня пушыць — усё ліха патушыць.* Курапо́лле Паст.

МАЎЧА'ЦЬ *незак.* Нічога не гаварыць. *Маўчаць, нічога*

*адзін да аднаго не гавораць.* Кіралі Шчуч. *Хто тут маўчацьме?* Старое Сяло Зэльв. *Сядзём і маўчом — гаварыця што! Маўчу, зубы зацяўшы.* Малі Астр.

МАЎЧКО'М, МО'ЎЧКАМ *прысл.* Моўчкі. *Маўчком сядзіць.* Рыбчына Віл. *Маўчком дала назат.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён сядзеў маўчком і слова не сказаў.* Ёдлавічы Брасл. *Стаіць маўчком.* Ністанішкі Смарг. *Біліся маўчком.* Кемялішкі Астр. *Маўчком сядзелі.* Лоск Валож. *Моўчкам пастаў і не бурчы мне!* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЎЧЛІ'ВЫ *прым.* Маўклівы. *Ён маўчлівы.* Лісна В.-Дзв. *Маўчлівая яна была.* Рыбчына Віл. *Алена маўчлівая.* Вецярэвічы Пух. *Маўчлівы чалавек такі.* Лука Нараўк.

МАЎЧУ'Н *м.* Тое ж, што і м а ў д ý к. *Такі чалавек, ён усё маўчыць, як што папытаеш, то аткажа, а то ўсё маўчыць.* Баброўнікі Гарад. *Маўчун, слова не скажа.* Калясное Міхал.

МАХ *выкл.* Ужываецца для абазначэння імгненнага руху. *Яна мах — і памерла.* Саланое Віл. *Ён яе лавіў за плашч, яна плашч мах с плячэй і пабегла да маткі.* Рагулішкі Даўг.

МАХАВІ'К, МАХО'ВІК *м. бат.* Махавік. *Во і махавік сядзіць. Махавікоў было, хоць касой касі.* Кудзялянцы Шальч. *Махавікі растуць, дзе мох.* Вузла Мядз. *Маховікі — харошыя грыбы.* Гальшаны Ашм.

МАХАВІ'ЦА *ж.* Мох. *Махавіца такая і ў лесі, і ў балоці.* Саланое Віл.

МАХАВІЧО'К *м. памянш.* да м а х а в í к. *Махавічкі да буракоў добра.* Кудзялянцы Шальч.

МА'ХАМ *прысл.* ◊ *Махам* — вельмі хутка. *Махам урасла атава. Паук махам зацягуя паучыну.* Граўжышкі Ашм. *Махам накідаяць гною хазяйца.* Малі Астр.

МАХА'ЦЬ *незак.* 1. Матаць нагамі. *Ні махай нагамі!* Магуны Паст. 2. Рабіць узмахі чым-н. *Ідзе яна, махае хусткай.* Кухты Віл.

МАХЛА'К I *м.* Тазасцегнавы сустаў. *Карова выкруціла махлак і храмаіць.* Рагулішкі Даўг.

МАХЛА'К II *м. зневаж.* Ашуканец. *Махлак махлячыў.* Ахрэмаўцы Брасл.

МАХЛЯВА'ЦЬ *незак.* Маніць. *Бапка, не махлюй.* Ёдлавічы Брасл. *Махлюя, умея пагаварыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Я ня буду вам махляваць, не знаю.* Рагулішкі Даўг. *Я не махлюю.* Гемзы Шальч. *Ёсць такіх, што складна махлююць.* Малькуны Ігн. *Усё махлюіць.* Ракаўскія Швянч. *Што ты махлюеш, гавары праўду.* Баброўнікі Гарад.

МАХЛЯ'К *гл.* МАКЛЯ'К

МАХЛЯ'Р, МЭ'ХЛЯР *м.* 1. Тое ж, што і м а х л á к II. *Махлюе махляр.* Вострава Маст. *Махляр махлюя, махляр сваім займаецца.* Старое Сяло Зэльв. *Махляр махлюе.* Альхоўцы Лях. *Махляр махлюіць.* Ракаўскія Швянч. 2. Хлус.

*Махляр ён, там не быў, не відзіў, а змахляваў.* Гемзы Шальч. *Махляр ніпраўду скажэ.* Баброўнікі Гарад.

МАХЛЯ'РКА *ж.* Ілгуння. *Ты — махлярка, бабу зводзіш.* Гемзы Шальч. *Якая махлярка, праўды нігды не скажа!* Малі Астр.

МАХНА'ТЫ *прым. перан.* Пышны. *Махнаты куст, лісця на ём густа.* Жылі Іўеў.

МАХО'ВІК *гл.* МАХАВІ'К

МАХО'Р *м.* Доўгая паласа, ададраная ад тканіны. *Махром якім патпіражацца і так ходзіць.* Верхлессе Крын.

МАХРА'СТЫ *прым.* З махрамі. *Махрастыя хусткі насілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАХРА'ТЫ *прым.* З вялікай колькасцю тонкіх карэньчыкаў, на якіх шмат дробнай бульбы. *Куст бульбы харошы, а ёсць дробненькая і многа на кусту, кажуць бульба махратая.* Солы Смарг.

МАХРА'Ч *м.* 1. Кавалак палатна з канцамі асновы. *Махрачом дзяцей білі, калі не слухалі. Махрач зроблян с канцоў* [палатна], *канцы папляцём у плётачкі. Махрачом дзяцей білі.* Магуны Паст. *Канцы палатна — махрачы.* Жодзішкі Смарг. *Як датыкалі кросны, гэты махрач засцілалі пат картошку, як высыпалі з гаршка.* Вузла Мядз. *Адразалі махрачэ на анучу сцерці са стала.* Малахоўцы Бар. 2. Ручнік з доўгімі махрамі. *Махрач з плёткамі балючы.* Рыбчына Віл. *Махрачом закрывалі дзешку, білі дзяцей.* Мярэцкія Глыб.

МАХРАЧЫ', МАХРАЧЭ' *мн.* 1. Махры. *Махрачы прывязала да пасцілкі.* Саланое Віл. *Махрачы кругом хусткі.* Дакудава Лід. *Махрачы ў хусца, сурвэця.* Мярэцкія Глыб. *Хустка с махрачамі.* Парэчча Гродз. *Махрачы ў скарачы, яны папле- цены. Калісьці матка махрачамы сцягне па спіне!* Івашкаўцы Смарг. 2. Тонкія карэньчыкі. *Якія махрачы ў цыбулі!* Крэва Смарг. *Махрачы ў цыбулі ў зямлю ідуць.* Плябанцы Ашм. *Успот цыбуля пуская махрачы.* Навасёлкі Лід. *Валяр'янка папуская махрачэ.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Расткі, парасткі. *Адрываем махрачэ вясною ў картофлі.* Баброўнікі Гарад.

МАХРЫ' *мн.* Тое ж, што і махрачы́ 1. *Настольнікі з махрамі ткалі.* Валынцы В.-Дзв.

МАХТУ'Н *м. экспр.* Тое ж, што і махля́р 2. *Махтун ты!* Ністанішкі Смарг.

МАХЦЬ *выкл.* Тое ж, што і мах. *Махць — і вады набрала.* Граўжышкі Ашм.

МАХЧЫ' *гл.* МАГЧЫ'

МАЦАВА'ЦЦА *незак.* Адчуваць моц (у нагах). *Не мацуецца ў нагах.* Пацаўшчына Дзятл.

МАЦАВА'ЦЬ *незак.* 1. Прабаваць моц чаго-н. *Як яйка мацуюць, то б'юць наском ці пухом.* Солы Смарг. 2. Нагру-

вашчваецца (пра лёд). *Ішоў лёт па рацэ, мацаваў.* Альхоўцы Лях.

МАЦАТА′ *ж.* 1. Сіла ўздзеяння лекавай расліны. *Травічка мацату мая.* Кіралі Шчуч. 2. Моц. *Гэты матэрыял ужо збутняў, німа ніякай мацатэ.* Кіралі Шчуч.

МАЦАЎНІ′К *м. бат.* Парушэнец парасоністы. *Мацаўнік— сінім цветам цвіце, параць і п'юць, як чалавек зрушыць сябе.* Галубы Маст.

МА′ЦАЦЬ *незак.* Шукаць вобмацкам. *Бульбу не капала, а мацала, намацаў бальшую — і выбраў.* Бакшты Іўеў. *Парасята мацаюць у голы чыгунік.* Пасека Ст.-Дар. ∇ *Што п ты сцешку мацала, што п ты сонца не бачыла!* Кузьмічы Люб.

МАЦЕЖА′НКА *ж. бат.* Душыца. *Мацежанка — пахушча зелечко, пекным сінім цветам цвіце, п'юць замест гарбаты.* Каўняны Гродз.

МАЦЕ′Й *м. абрад.* Веснавое абрадавае свята. *Мацей бывая ў апрэлі месяцы.* Вузла Мядз. ∇ *Ад Мацея сцешка пацея.* Вузла Мядз.

МА′ЦЕРКІ толькі *мн.* Жаночыя асобіны канапель. *Не парвалі яшчэ мацерак. Асталіся мацеркі, у плоскуньках нема зярняці.* Баброўнікі Гарад.

МАЦЕР'Я′Л *гл.* МАТЭР'Я′Л

МАЦЁРА *ж.* 1. Свінаматка. *Мацёра з парасяткамі.* Дакудава Лід. *Свіня апарасілася, прывяла сколькі парасят — мацёра.* Чуркі Ашм. *Мацёра была с парасятамі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мацёра — свіння с парасятамі.* Альхоўцы Лях. *Свінаматка называецца мацёра.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Пасаджаная бульба, з якой вырасла маладая. *Картопля, з якой вырасла новая, называюць мацёра.* Дзяніскавічы Ганц.

МА′ЦІ, МАЦЬ *ж.* Тое ж, што і м а́ т к а 1. *За ўсіх харашэйшая мая маці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паехаў па мацеру. Мая маці была з Якуцёў.* Парэчча Гродз. *Я мацяр тваю сустрэла.* Дзяляцічы Навагр. *Кожна маці свае беражэ дзіця.* Ялова Пруж. *Пошла маці ў жураўліны.* Смаляніца Пруж. *Мацьміне гнала за багатага.* Малі Астр. *Нам маць пасагі не дала.* Руднікі Шальч. ∇ *Свая маці не ўрах дзіцяці.* Вузла Мядз. *Датуль маці я, пакуль за ручку вяду.* Солы Смарг. *Жонка плача да абеду, а маці да веку.* Вецярэвічы Пух.

МА′ЦІ-І-МА′ЧАХА, МАЦЬ-І-МА′ЧАХА, МАЦЬ-МА′ЧЫХА *ж.* 1. Тое ж, што і м а́ т а ч н і к I, 1. *Як у поле ганіла, там расце маці-і-мачаха — жоўценькі цвяток: адзін бок* [ліста] *у яго цёплы — маці, а другі — халодны — мачаха.* Пацаўшчына Дзятл. *Маць-і-мачаха: лістэ лапцяваценькія, зялёненькія, падыспадам — як белянька.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і м а́ т а ч н і к I, 2. *Маць-ма́чыха і багун ад задышкі п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЦІ'НА *зб. ж.* Бульбоўнік. *Маціну можна было жаць.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЦІНЕ'ТКА *ж.* Тое ж, што і м а т ы н а́ ч к а. *Мацінетка с фальбонай, шырокая фальбона.* Мярэцкія Глыб.

МА'ЦІ'ЦА, МА'ТІЦА *ж.* Галоўны корань у дрэве. *Галоўны корань дрэва называяцца маціца, найбольш бывая ў сасне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ма́ціца ў дрэві.* Воўкуш Ліпск. *Ма́тіца — сторчаком ростэ корэнь і нэ достаты.* Горск Бяроз.

МА'ЦІЦА *ж.* Падоўжная бэлька, на якую кладзецца столь у будынку. *Цяпер нет маціцаў, у новых хатах патшываюць — і ўсё.* Ёдлавічы Брасл. *Паадгніваўшы ўсе маціцы.* Ахрэмаўцы Брасл. *На маціцы столь кладуць. У хляве маціца правалі́ўшыся.* Рагулішкі Даўг. *Маціца — сплашная балька. Купілі фінер і прыбілі, а кагда маціцы выпіраюць — некрасіва.* Індра Красл.

МАЦІ'ЦА *ж. анат.* Матка. *Як зрушыш маціцу, то ставілі баньку ці гарнак на жывот, і пуйдзе на мейсца маціца.* Сапоцкіна Гродз. *Маціца выпадае, балея яна.* Паляцкішкі Воран. *У яе запаленя маціцы было.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *macica* 'тж'.

МАЦІ'ЧНЫ *прым.* Галоўны (пра корань дрэва). *Мацічны карэнь.* Старыя Смільгіні Воран.

МАЦНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш моцны. *Бяроза мацнейшая, а ольха мякчэйшая.* Грыкені Вільн.

МАЦО'ХА *ж.* Мачаха. *Мацоха неўзлюбіла яе.* Шамялі Брасл. *Мацоха і ойчым — няродныя бацькі.* Быстрыца Астр. *У адной была матка, а ў другой не было, мацоха была.* Талейкі Швянч.; *параўн.* польск. *macocha* 'тж'.

МАЦУ'НАК *м.* 1. Моц, трываласць. *Ні мая мацунку плот.* Старыя Трокі Трак. *Упоркі для мацунку.* Чычалі Швянч. *Дрэвы склаў у клат, гэту палку трэба ўмацаваць, бо калі яна ня мая мацунку, паваліцца.* Гемзы Шальч. *Німа мацунку ў ём* [матэрыяле], *ірвецца, нямоцна.* Вецярэвічы Пух. 2. Фізічная сіла. *Ніякага мацунку не мае ў нагах.* Пацаўшчына Дзятл. *Не мая мацунку.* Альхоўцы Лях.

МАЦЫКЛЕ'Т *м.* Тое ж, што і м а т о́ ц ы к. *Мацыклет сыну купіла.* Крэва Смарг. *Я сама ездзіла на мацыклеця.* Якшыцы Бярэз. *Былі даўшы мацыклет.* Гемзы Шальч.

МАЦЫРО'ЎКА *ж. кулін.* Цура. *Мацыроўка робіцца з вады, солі, хлеба.* Граўжышкі Ашм.

МАЦЬ *гл.* МА'ЦІ

МАЦЬ-І-МА'ЧАХА *гл.* МА'ЦІ-І-МА'ЧАХА

МАЦЮ'Г, МАЦЮ'Х *м.* Мат. *А гэты мужык мацюга загрэіць.* Валынцы В.-Дзв.

МАЦЮЖО'К, МАЦЮШО'К *м. памянш.* да м а ц ю́ г. ◊ *Мацюшка загнуць. Мацюшка загнуў.* Кураполле Паст.

МАЦЮ'ЖЫЦЦА *незак.* Лаяцца матам. *Мацюжацца мушчыны.* Альхоўка Навагр.

МАЦЯЖА'НКА *ж. бат.* Мацярдушка. *Мацяжанка схожа з чабром.* Мсцібава Ваўк.

МАЦЯРДУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і м а ц я ж а́ н к а. *Мацярдушкі лісцік пахожы, як на мяту.* Быстрыца Астр. *Мацярдушка падобна да мяты, цвяточак сіненькі.* Граўжышкі Ашм. *Мацярдушка цвіце сіненька, дробныя кветачкі, яна памоцна, пасля родаў п'юць.* Кіралі Шчуч. *Рэчная мята называяцца мацярдушка.* Старыя Смільгіні Воран. *Мацярдушка пахучая, як мята.* Рудня Чэрв.

МА'ЦЯРКА *ж.* Насенная бульбіна. *З мацяркі вырас такі корч* [бульбы]. Вострава Маст.

МАЦЯРКІ', МАЦЯРКЕ' *мн.* Жанчыны-маці. *Мацяркі і бацькі нашы пранікам лён абівалі.* Парэчча Гродз. *Сабраліся мацярке.* Старое Сяло Зэльв.

МАЦЯРЫ'НСКІ *прым.* Які належыць маці. ∇ *Мацярынскія кляты на вадзе ня тонуць, на агні не гарацъ, яны збываюцца. Няможна матцы дзяцей клясці, мацярынскія кляты крэпка збываюцца.* Вузла Мядз.

МАЦЯРЫ'НЬШЧЫНА *ж.* Спадчына маці. *Мне асталася мацярыньшчына.* Калясное Міхал.

МАЦЯРЫ'ЦЬ *незак.* Лаяць матам. *Бога мацярацъ.* Граўжышкі Ашм.

МАЧАВІ'К *м.* Мачавы пузыр. *Ягаднік брушнічніка, лісты яго, ад* [хваробы] *мачавіка.* Альхоўка Навагр.

МАЧАВЫ' ПУХІ'Р *м.* Тое ж, што і м а ч а в і́ к. *Мачавы пухір баліць, лячуся.* Альхоўцы Лях.

МАЧА'ЙКА *ж.* Кубак з вадой, у які мачалі пальцы ў час прадзення. *У каго сліны німа, бралі кубачак вады і называлі мачайка, мачае пальцы і прадзе.* Дзяніскавічы Ганц.

МАЧА'ЛА *н.* Тонкія палоскі з лубянога слою ліпавай кары. *Мачала дралі.* Лісна В.-Дзв.

МАЧА'ЛКА I *ж.* Вехаць. *Дайней і мачалку дзелалі з лык, катлы шаравацъ і самі шаруюцца.* Лісна В.-Дзв. *Мачалку с пырніку, с карэння рабілі.* Кіралі Шчуч.

МАЧА'ЛКА II *ж. кулін.* Мачанка. *Робяць так мачалку: пакрышыць скварок, цыбулю тады крышыць, пераэкарыць мукі, разбалтае з вадою ў місаццы і разам гэта звабіць.* Бабpoўнікі Гарад.

МАЧА'Н *м. бат.* Мучан. *У леся мачану нарвуць, у гаршкі накладуць, ён прэя, робіцца чорны, ніткі саджаюць у яго.* Рудня Чэрв.

МАЧА'НКА *ж.* Тое ж, што і м а ч а́ л к а II. *У які саганок сялётку варыш, мукі паткалоціш, алею — і мачанка посная; скаромная таксама, толькі з мясам.* Крэва Смарг. *Мукі, дзве*

*яйцы, замуціш у халодным малацэ, а гарачым залівает — і на гарачую скавараду і пячы мачанку.* Вецярэвічы Пух.

МАЧА'ННЯ *н. кулін.* Мачанка, прыгатаваная з канапель або маку. *Мачання з калапень і мачання з маку рабілі.* Саланое Віл. *Канапляная мачання варылі.* Рудня Астравітая Чэрв.

МА'ЧАХА, МА'ЧЫХА, МА'ЧЧЫХА *ж.* Тое ж, што і м а ц о́ х а. *Усякія мачахі бываюць: і добрыя, і дрэнныя.* Кіралі Шчуч. *Маткі не было, мяне мачаха гадавала.* Старыя Трокі Трак. *У іх мачаха, выраслі дзеці пры мачасе.* Вузла Мядз. *Мама даўно памерла, мачаха нас гадавала.* Малахоўцы Бар. *Мачахай цяшка жыць — чужых дзяцей гадаваць.* Баброўнікі Гарад. *Мачыху маю ні хачу ўспамінаць.* Солы Смарг. *Пры мачысі гадавалася.* Плябанцы Ашм. *Мала ўдасца добра мачыха да чужых дзяцей.* Гемзы Шальч. *У яе маччыха.* Кухты Віл. ∇ *Мачаха — чаха, чортава саха.* Валеўка Навагр.

МАЧА'ЦЬ *незак.* 1. Апускаць у што-н. вадкае. *Я іх* [куры] *націснула і ў ваду мачала, каб не квакталі.* Груздава Паст. *Ні мачая лыч, не есць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мачалі картошку ў алей.* Кіралі Шчуч. *Мачалі бульбу ў жышку селяццовую.* Малі Астр. *Мачалі гарох у вадзе і пражылі. Бліны мачалі ў муртушку.* Старыя Трокі Трак. *Макавая малако рабілі і бліны мачалі.* Гемзы Шальч. *Заваравалі мучальнік, мачалі ў яго, а тады ў гразь — так красілі даўней.* Вузла Мядз. 2. Мачыць. *Каноплі мачалі ў ямя.* Альхоўцы Лях.

МАЧЛІ'ВЫЙ *прым.* Дажджлівы. *Сёліта мачлівый гот.* Лісна В.-Дзв.

МАЧЛЯ'К *гл.* МАКЛЯ'К

МАЧО'НІК *м.* Тое ж, што і м а к л я́ д з і н а. *Мачонік — дрэва, якое на дне ляжала.* Чарняўскія Лудз.

МАЧО'НІКІ *мн. бат.* Ваўнянкі. *Мачонікі мама ніваранья саліла.* Рагулішкі Даўг. *Мачонікі ў нас збіраюць.* Пасіене Лудз.

МАЧО'НІЧКІ *мн. памянш.* да м а ч о́ н і к і. *Па кусціках падасінавікі, ababaчкі, мачонічкі растуць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

МАЧО'НКІ *мн.* Тое ж, што і м а ч о́ н і к і. *Як атломіш лытачку ў мачонак, малако, сівенькія яны, шапачка бальшая, а пасярод — юмачка* [ямачка]. Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАЧО'НЫ у знач. *прым.* Прыгатаваны пры дапамозе мачэння. *У мяне і яблыкі мачоныя ёсь.* Кураполле Паст.

МАЧУ'ЛА, МАЧУ'ЛО *н.* 1. Мачыльня. *Мачула — дзе лён мачылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мачылі ў выкапанай ямя — мачула на пяньку.* Вязынка Маладз. *Мачулы — спецыяльныя ставочкі былі, дзе лён мачылі.* Навікі Лудз. *Мачула—дзе раньше лён мачылі.* Пасіене Лудз. *У мачулах лён мачылі.* Рагулішкі Даўг. *Мачуло — дзе лён мачылі.* Пацаўшчына Дзятл. *Вада стаіць у мачуле, мокрае балота.* Альхоўка Лях. 2. Нізіна, упа-

дзіна. *Жыта ў мачулах вымакла.* Жылі Іўеў. *Мачула папала, дзе вымакла жыта, там лашчына, даліна.* Мсцібава Ваўк. 3. Вымачанае лыка. *Ля возера канава бальшая, у ёй мочаць луцця, як вымачаць, выхожуя мачула. Мачула — ліпавая кара, якую мочуць у стаячай вадзе.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЧУ'ЛІСКО *н.* Тое ж, што і м а ч у́ л а 1. *Мачуліско — дзе лён мочаць.* Мсцібава Ваўк.

МАЧУ'ЛІШЧА *н.* Тое ж, што м а ч у́ л а 1. *У мачулішчы лён мачылі.* Рыбчына Віл. *Мачулішча — стаўкі такія, там лён мочаць.* Індра Красл. *Тое месца, дзе мочаць, называюць мачулішча.* Рудня Астравітая Чэрв.

МАЧУ'ЛО *гл.* МАЧУ'ЛА

МАЧУ'ЛЬНІК *м.* Сноп канапель, прыгатаваны для мачэння. *Пасля абмалоту калапні вязалі ў мачульнікі. Прапалі сёліта саўсём калапні, толькі тры мачульнікі.* Груздава Паст.

МА'ЧЧЫСІН *прым.* Які належыць мачасе. *Маччысіна дзяўчына ўзяла сабе чалавека.* Асавец Віл.

МА'ЧЫХА, МА'ЧЧЫХА *гл.* МА'ЧАХА

МАЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Размочваць. *Мочымо хлеп у малако, крышымо.* Парэчча Гродз. 2. Мачаць. *У цёртыя калапні мачылі бонды і елі.* Вузла Мядз. 3. Вымачыць, каб надаць пэўныя якасці. *Лён мачылі.* Буды В.-Дзв. *Каноплі мачылі, а лён атсцілалі.* Парэчча Гродз. *Нада мачыць лён, у сажалках мачылі, расцілалі на лугах.* Баложы Даўг. *Некаторые мачылі лён, то не слалі тады, а як слалі, тады не мачылі.* Грыкені Вільн.

МАША'РНІК *м. бат.* Махавік. *Машарнік — грып, падобны да казляка. Машарнік ні здаець баравіку, у поліўкі кідаюць. Машарнік — зялёненькі, пат сподам машок.* Кіралі Шчуч. *Машарнікі — сіцістыя касмаценькія паднізом, мясістыя грыбы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Машарнікі — рыжанькіі грыбы, а як сухі — чорны, паднізом гладзенька. Машарнікаў у нас ні бяруць.* Лісна В.-Дзв. *Машарнікі растуць па ўсякіх мястах.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Машарнікі — мы іх ні бяром.* Рагулішкі Даўг.

МАШАСТО'ВЫ, МАШЫСТО'ВЫ *прым.* Пашыты з мошасту. *Машастовыя капоты.* Быстрыца Астр. *Машыстовая пальто ў мяне.* Магуны Паст.

МАШАТА' *зб. ж.* Машкара. *Машата вечарамі нападая. Машата паела лісты.* Бакшты Іўеў.

МАШКА' *зб. ж.* Тое ж, што і м а ш а т а́. *Машка лятая.* Дакудава Лід. *Машка горш, як камар.* Рыбчына Віл. *Машка маленька.* Парэчча Гродз. *Машка секанула ў вока.* Кузьмічы Люб.

МАШКАРА', МАШКІРА' *зб. ж.* Тое ж, што і м а ш а т а́.

*Машкара таўчэцца на дошч.* Рагулішкі Даўг. *Летам у лесі машкіра заесь.* Вузла Мядз.

МАШКАРНЯ′ *зб. ж.* Тое ж, што і м а ш а т а́. *Гарабей абірае машкарню.* Валеўка Навагр.

МАШКАТА′ *зб. ж.* Тое ж, што і м а ш а т а́. *І вот ты скажы, як толькі прарасце расада, дак нападае машката.* Глебкавічы Мін.

МАШНЯ′ *ж. анат.* Машонка. *Машню* [у барана] *атрэжыць на капшук.* Малькуны Ігн.

МАШО′НАЧКА *ж. памянш.* да м а ш о́ н к а 1. *Машоначку ад барана выраблялі, у курцоў яна была.* Солы Смарг.

МАШО′НКА *ж.* 1. Тое ж, што і м а ш н я́. *У барана машонка.* Кураполле Паст. *Барана зарэжуць, машонку абдзяруць, вырабатаюць, увярху прадзенуць нітку, шнурочак с кожачкі — і навярху кутасы — насілі табаку, грошы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *З машонкі капшук на табаку рабілі; гэта ўсё даўно быўшы.* Малькуны Ігн. *З барана выраблялі машонку і рабілі капшук, насілі табак.* Альхоўцы Лях. 2. Кашалёк. *Ох, у яго машонка бальшая грошай!* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Капшук. *Машонка с тытуном.* Старыя Смільгіні Воран.

МАШТАКІ′ *мн.* Тапачкі. *Купляюць маштакі нябошчыку. Нада пашыць маштакі дзіцяці.* Гемзы Шальч.; *гл.* м э́ к ш т ы.

МАШТЭ′ЛЯ *ж.* Брус ці бервяно каля 72 см таўшчынёй. *Маштэля — брус ці бервяно ў дваццаць восім — дваццаць дзевяць цаляў таўшчыні.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *maszt* 'мачта' < ням. *Mast.*

МАШЫ′НА *ж.* 1. Аўтамашына. *Машынаў не было.* Швэды Вільн. *Забралі ўсе на тры машыне.* Вецярэвічы Пух. *Яна сама з машынай ездзя?* Солы Смарг. 2. Сячкарня. *Пашлі машыны сечку кроіць.* Грыкені Вільн. 3. Паравоз. *На машыні робіць, машыністам.* Дакудава Лід. 4. У знач. *прысл. машынай, машынамі.* На машыне. *Ехала машынай.* Жылі Іўеў. *Машынаю вязлі мяне.* Парэчча Гродз. *Тут машынамі ходжана.* Ністанішкі Смарг. *Машынамі будуць ехаць.* Мсцібава Ваўк. *Машынамі ездзят у нас.* Вялікі Краснік Пруж.

МАШЫНІ′СТЫ *м.* Машыніст. *Машыністы ён, на паравозе робіць.* Асавец Віл.

МАШЫ′НКА *ж.* 1. Швейная машына. *Яна маіць машынку і шыіць.* Кемялішкі Астр. 2. Кнопка. *Кнопкі даўней называлі машынкі. Во трэба ў каптан машынкі купіць.* Данілавічы Дзярж. *Ушый у сукню машынкі.* Галубы Маст.

МАШЫНО′ВЫ *прым.* Які прызначаецца для шыцця на швейнай машыне. *Машыновыя ніткі. Дзе машыновыя ніткі?* Альба Нясв.

МАШЫСТО′ВЫ *гл.* МАШАСТО′ВЫ

МГЛА *ж.* Імжа. *Мгла мгліць.* Быстрыца Астр., Жылі Іўеў. *Такая мгла падала!* Малахоўцы Бар.

МГЛІЦЬ *незак.* Імгліць. *Вот якая мгла мгліць.* Малахоўцы Бар. *Мгліць дош.* Кузьмічы Люб.

МДЛЕ *мн.* Ваніты. ∇ *Біз уксусу, як мдле.* Груздава Паст.; *параўн.* польск. *mdłość* 'моташнасць'; *mdlić* 'нудзіць'.

МЕДАБРА'НЯ *н.* Медазбор. *Пасля пятнаццатаго аўгуста закрываяцца медабраня, трэбо старацца на зіму абяспечыць.* Мсцібава Ваўк.

МЕДАВА'Я РАСА' *гл.* МЯДО'ВАЯ РАСА'

МЕДАВУ'ХА, МІДАВУ'ХА *ж.* 1. Вада, засалоджаная мёдам. *Хачу медавухі. Пайду зраблю сабе медавухі.* Мыто Лід. 2. Хмельны напітак з мёду. *Мідавуху рабілі з мёду, як віно.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

МЕДАВЫ', МІДАВЫ' *прым.* 1. Меданосны (пра пчалу). *Медавая пчала доўга не жывець.* Груздава Паст. *Да літала мідавая пчолка па чыстаму полю, да іскала мідавая пчолка сабе пасудзінку. Ды не нашла мідавая пчолка сабе пасудзінку, ды нашла мідавая пчолка горкую асінку* (са жніўнай песні). Лісна В.-Дзв. 2. Багаты нектарам. *Быў медавы рок.* Мсцібава Ваўк.

МЕДА'ЛІК, МІДА'ЛЕК *м.* 1. Медальён. *Я вазьму медалік.* Пасіене Лудз. 2. *памянш.* Медаль. *Ето заслужаны мідалек.* Пасіене Лудз.

МЕДА'ЛІЧАК *м. памянш.* да м е д а́ л і к 1. *Я так етым медалічкам даражу!* Пасіене Лудз.

МЕДАНІ'ЦА *ж.* Падзь. *Меданіца на клён пала, на ліпі, на жыта.* Пацаўшчына Дзятл.

МЕДЗВЕ'ЦЬ *гл.* МЯДЗВЕ'ДЗЬ

МЕДЗВЯДЗІ'ХА *ж.* Мядзведзіца. *Казалі, што медзвядзіха прыходзіла ў вёску.* Лоск Валож.

МЕДЗЯ'НКА *гл.* МЯДЗЯ'НКА

МЕ'ДЗЯНЫ, МЕ'ЗЯНЫ У выразе: *Медзяны, мезяны паляц* — мезенец. *Гэта вялікі паляц, а гэта — медзяны.* Асавец Віл. *Медзяным пальцам разводзяць* [парашок-лякарства]. Пляебанцы Ашм. *Медзяны паляц баліць.* Сакаляны Сакол. *Мезяны паляц крывы.* Лоск Валож. *Мезяны паляц.* Вялікія Баяры Шчуч., Воўкуш Ліпск.

МЕДЗЯ'НЫ, МІДЗЯ'НЫ *прым.* Медны. *Медзянэ рондэлькі былі.* Кемялішкі Астр. *Медзяны кацёл.* Крынкі Крын. *Ступка з дрэва, а мажджэр мідзяны.* Солы Смарг.

МЕ'ДНАЯ ЗМЯЯ' *ж. заал.* Мядзянка. *Медная змяя крэпка едавітая. Медная змяя блісціць, нібы з бляхі.* Рагулішкі Даўг.

МЕ'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і м е д з я́ н ы. *Медныя манеты находзілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЕДО'ВАЯ РАСА' *гл.* МЯДО'ВАЯ РАСА'

МЕЖА' *гл.* МЯЖА'

МЕЖАВА'ЦЦА *незак.* Мець агульную мяжу. *Сенакосы*

*Ліпавіца і Масцішча мяжуюцца цераз раку.* Беразіно Докш.

МЕ'ЖДУ, МЕ'ЖДЫ, МІЕ'ЖДУ *прыназ. з род.* або *тв.* Паміж. *Между сваіх пашла барба.* Груздава Паст. *Между печкі і сцяны лошко стаіць.* Старое Сяло Зэльв. *Между балатоў ляскі былі, невялікі лясок.* Дзяніскавічы Ганц. *Баразёнкі рабілі между гранкамі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Села между іх.* Ністанішкі Смарг. *Міежду ліесом а рыэчкою будэ дорога.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *между* 'тж'.

МЕЗДРА' *ж.* Мязга. *Мездра пат карой, смолкай пахнець.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЕ'ЗЯНЫ *гл.* МЕ'ДЗЯНЫ

МЕ'ЙСЦА *н.* і *ж.* 1. Месца. *На мейсцы сядзіць.* Магуны Паст. *Стой на мейсцы. Мейсца пат стагом.* Жодзішкі Смарг. *Станошкі ў мокрым мейсцы.* Солы Смарг. *Стаўлялі ў цёплая мейсца, кап завялася жытняя кісля.* Ракаўскія Швянч. *Тая мейсца, дзе стол стаяў, накідала сукоў і сена злажыла. Мяйсцоў нет у бальніцы.* Саланое Віл. *Такія мейсца, што вада наплываіць.* Малькуны Ігн. *На лён выбіралі харошыя мяйсцы.* Быстрыца Астр. *Па другіх мяйсцах ёсь лесу многа.* Паляцкішкі Воран. *Есць мейсца, што можна перабрысці.* Лайпушкі Ігн. 2. Мясцовасць. *У такоя мейсца прыехалі.* Рагулішкі Даўг. *Сын на мейсцу тут астаўшыся.* Стральцы Шальч. 3. Пэўны ўчастак цела. *Былі гэтыя мейсца чырванаватыя.* Жылі Іўеў. 4. *мед.* Плацэнта. *Мейсца ў каровы вышла.* Магуны Паст. 5. у знач. *прысл.* *ме́йсцам, ме́йсцамі.* У некаторых месцах, дзе-нідзе. *Сціснула гэтым мейсцам сэрца.* Груздава Паст. *Цякла нага гэтым мейсцам.* Івашкаўцы Смарг. *Яна гэтым мейсцам ляжала.* Малькуны Ігн. *А мейсцамі брады ёсць. Мейсцамі ест сады харошыя.* Жылі Іўеў.

МЕК *гл.* МЕХ

МЕКАШЭ'ЎЯ, МЕКІШЭ'ЎЯ *зб. н.* Мышцы. *Мекашэўя баліць, змярцвела рука.* Рыбчына Віл. *Мекішэўя са сцягна.* Рудня Астравітая Чэрв.

МЕКІТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м а р к і т а́ ц ь 1. *Мякеча авечка.* Чуркі Ашм.; *парайн.* літ. *mekénti* 'бляяць' (пра коз).

МЕКІ'Ш *м.*, МЕКІШЫ' *мн.* Мышца. *У каго цвёрдыя мекішы — сільны чалавек, у каго мякія — слабы чалавек.* Мсцібава Ваўк.

МЕ'ЛІВА *н.* Мліва. *Меліва прывазілі* [з млына]. Магуны Паст.

МЕЛІ'НІС *м.* Млён. *Меленіс у жорнах.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *milinỹs* 'тж'.

МЕ'ЛКА *прысл.* У выразе: *Мелка абуўшыся* — быць абутым у неглыбокі абутак. *Быў снех, а я мелка была абуўшыся.* Альхоўка Навагр.

МЕЛКАВО'ДЗЬ, МЕЛКАВО'ЦЬ *ж.* Мелкаводдзе. *Мелкавоць — дзе брыдуць.* Рыбчына Віл.

МЕ′ЛКІ *прым.* Невысокі. *На Котры мелкі берах.* Стральцы Гродз.

МЕЛЬ *ж.* Неглыбокае месца ў рэчцы. *Ідзі, мель там, і добра паласкаць.* Беразіно Докш.

МЕ′ЛЬНІК *м.* 1. Млынар. *Прывязлі малоць на мельніцу, і мельніка не было.* Ёдлавічы Брасл. *Мельніку падмельшчык памагаў.* Быстрыца Астр. *Паедзем да мліна, кап толькі мельнік быў дома.* Кіралі Шчуч. *Мельнік багато жыў.* Стральцы Гродз. 2. Тое ж, што і м е л і н і с. *У жорнах — сподні і верхні камень, дзюра, верацёна, мельнік.* Лоск Валож. *Мельнік — палачка, што круцілі жорны. Паламаўся мельнік.* Руднікі Шальч. 3. Малая ўкладка снапоў. *Трэба снапы саставіць у мельнікі.* Лоск Валож.

МЕ′ЛЬНІЦА *ж.* Млын. *Маленькія мельніцы былі.* Быстрыца Астр. *Мельніца загарэлася, ад мельніцы ўся вёска загарэла.* Снягяны Смарг. *Каб была мельніца, то мы п узялі, ета тут, ячменю да й змалолі.* Новая Ніва Чэрв. *На мельніцу ездзіла.* Пасіене Лудз. *Валамі араць, а конік — паехаць у мельніцу.* Швэды Вільн.

МЕ′ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і м е́ л ь н і к 3. *Снапы ў мельні састаўлялі.* Лоск Валож.

МЕЛЬЧА′К *м.* Нізіна. *Капаў студню на мельчаку — жвірочак з вадой.* Кіралі Шчуч.

МЕ′ЛЬШЫ *прым.* Малодшы. *Прыехала мельша дачка, сама пасследняя мая.* Галубы Маст.

МЕ′НІ, МЕ′НІЙ, МЕ′НЯЙ *прысл. выш.* Менш. *Катлеты ці пільмені ніхай робіць, у каго работы мені.* Кураполле Паст. *У нас сёлета мені чарніц.* Груздава Паст. *І droў я меній спаліваю.* Масішкі Красл. *Маламу чалавеку меняй усяго трэба.* Малі Астр.

МЕНІ′ННЯ *н.* Мена. *Начорта табе гэта меннiння?!* Лоск Валож.

МЕ′НКІ *прым.* Мяккі. *Вадзянік* [трава] *такі менкі!* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *miękki* 'тж'.

МЕ′ННЯ *н.* Назва. *Далі мення* [вёсцы] *Татарка.* Беразіно Докш.

МЕ′НСА *н.* Мяса. *Менса просіць.* Граўжышкі Ашм. *Будзеш мецьmenso.* Паляцкішкі Воран. *Чы елі вы менсо?* Каўняны Гродз. *Трыбух асобне напіхаям менсам худым.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *mięso* 'тж'.

МЕ′НТА *ж.* 1. Мянташка. *Мента — касу мянціць.* Бакшты Іўеў. *Мента была дзеравяна ў сярэдзіне, косу гастрыць.* Сапоцкіна Гродз. 2. Мешалка. *Дайней была мента мяшаць зацірку, хлеб, бліны замешваць.* Вузла Мядз. *Ментаю свіням мяшалі.* Верхлессе Крын.; *парайн.* літ. *meñtė* 'тж'.

МЕНТУ′С, МЕ′НТУСЬ *гл.* МЯНТУ′З

МЕНША′К *м.* Тое ж, што і м е́ л ь ш ы. *Мой меншак ачкі*

*ня носіць*. Кураполле Паст. *Яшчэ меншак нічога, а старшы чуць быўшы не забіўшы мяне*. Ракаўскія Швянч.

МЕ'НШАНЬКІ *прым. памянш.* да м а́ л ы́ 1. *Слой* [слоік] *быў вялікі, гліняны, быў і меншанькі слой*. Магуны Паст.

МЕ'НШАЦЬ *незак.* Убываць. *Стануць дні меншаць, Пятра будзе*. Пацаўшчына Дзятл.

МЕ'НШЫ, МЭ'НЧЫ, МЭ'НШЫ *прым.* 1. *выш.* да м а́ л ы́. *Ні меншо, а большо вядро*. Міратычы Карэл. 2. *найвыш.* са словам «самы». *Само меншэ барылка*. Судэрва Вільн. 3. Тое ж, што і м а л о́ д ш ы 1. *Меншая дочка скончыла школу. Меншая дочка ў пяты клас ходзіць*. Гемзы Шальч. *Нас було ў бацька двое: я і мэнчы брат*. Обеч Пруж. *А мэнчы больш набраў жураўлін*. Смаляніца Пруж. *Мой хлопец мэншы*. Вялікі Краснік Пруж.

МЕНЬЦЯ', МЭНЦЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Меньця — касу гострацъ*. Кіралі Шчуч. *Меньця дзеравяна была, у тата косу гастрылі. Меньцю з дуба дзелаюць, сто лет можа быць*. Мсцібава Ваўк. *Мэнця — што касу мэньцят*. Смаляніца Пруж. 2. Тое ж, што і м е́ н т а 2. *Яна меньцяю варочая кашу. Была меньця, хлеп рашчынялі і меньцяю мяшалі*. Парэчча Гродз.; *гл.* м е́ н т а.

МЕ'НЯЙ *гл.* МЕ'НІ

МЕ'РА *ж.* 1. Адзінка вымярэння. *Дзесянціна — мера даўнейшая*. Швэды Вільн. *Шастак — мера зямлі*. Стральцы Гродз. 2. Мерка. *Зняць меру нада*. Вялікія Баяры Шчуч. ◊ *Бяз меры* — бязмерна. *Як хазяйство было, мы бяз меры працавалі*. Солы Смарг. *Без меры пілаваць няможна*. Гемзы Шальч. *А ўсяроўна сваруцца і п'юць без меры*. Буды В.-Дзв. *Меры ні знаць* — мець у вялікай колькасці. *Меры ні знаюць грошай*. Чапаеўскі В.-Дзв. *Канца меры не было* — доўгая дарога. *Ехалі — канца меры не было*. Ухвала Круп.

МЕ'РАНЫ *дзеепрым.* Вызначаны пры дапамозе якой-н. меры. *Мо там бураке мераны?* Пацаўшчына Дзятл.

МЕ'РАЦЬ *незак.* 1. Вызначаць велічыню пры дапамозе якой-н. меры. *На далонь мераям сала*. Руднікі Шальч. 2. Прымерваць што-н. *Мерала сукенку*. Вялікія Баяры Шчуч. ◊ *Мераць на свой аршын. Не мерай усіх на свой аршын!* Малі Астр.

МЕРВА' *ж.* Жамерыны. *Мерва астаецца, як воск выціскаюць*. Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *marvà*||*mervà* 'сумесь розных рэчываў'.

МЕРГАВА'ЦЦА *гл.* МІРКАВА'ЦЦА

МЕ'РЗЛЫ *прым.* Мёрзлы. *Мерзлы снех, не правалішся*. Лука Нараўк.

МЕ'РЗНУЦЬ *незак.* 1. Замярзаць. *Мерзніць бульба*. Ністанішкі Смарг. 2. Адчуваць холад. *Мерзнуць рукі, памёрзлі*. Дзяніскавічы Ганц.

МЕ́РКА *ж.* Пасудзіна для мерання чаго-н. сыпкага. *Мерку жыта ўсыпаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Карові давалі па мерцы аўса.* Солы Смарг. *Была мерка дзеравянная, меркай мералі бульбу і дабро.* Вузла Мядз. *Мерка картоплі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

МЕРКАВА́ЦЬ, МЯРКАВА́ЦЬ, МЯРГАВА́ЦЬ, МІРГАВА́ЦЬ *незак.* 1. Думаць. *Меркавалі яны доўга. Мяркуй сама, як лепяй зрабіць.* Кудзялянцы Шальч. *Мяркуеш, каб было бульбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна мярґуя так, а ты — так.* Вецярэвічы Пух. *Мірґуеш так, а выходзіць па-другому.* Кузьмічы Люб. 2. Старацца ўхапіць што-н. *Пахожага* [прозвішча] *курка мяркуіць ухваціць кусок хлеба, алі нашы адганяюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бацян мяркуіць узяць гадзюку за сярэдзіну.* Рагулішкі Даўг.

МЕРКІТАВА́ЦЬ, МІРКІТАВА́ЦЬ, МЯРКІТАВА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м а р к і т а́ ц ь 1. *Гавечка меркітуя.* Кіралі Шчуч. *Авечкі міркітуюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Авечка міркітуя.* Рудня Астравітая Чэрв., Альхоўцы Лях. *Авечка мяркітуя.* Дакудава Лід.

МЕ́РНІЧЫ, МЯРНІ́ЧЫ *м.* Землямер. *Гэта мернічы мерае, надзяляя зямлёй.* Солы Смарг. *Прыехаў мернічы ў сяло мераць землю.* Баброўнікі Гарад. *Мярнічы мерая зямлю. Прыехаў мярнічы, адміраць будзя. Мярнічы і каморнік — тоя ш.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *mierniczy* 'каморнік'.

МЕСЁНЧНЫ *прым.* Месячны. *У Аксінні месёнчная злосць была.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *miesięczny* 'тж'.

МЕ́СТА, МЕ́СЦА *н.* Тое ж, што і м е́ й с ц а 1. *Места пяшчаная, нічога не расцець.* Ёдлавічы Брасл. *Тут і для бабы ёсь места.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гэна места абгарадзіўшы.* Гемзы Шальч. *Там добра месца.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і м е́ й с ц а 2. *Не ўсякім месцам ядуць юноў.* Бакшты Іўеў. *На кожнае свята даўней было пэўная место.* Стральцы Гродз. *Хлебна место, край багаты.* Крынкі Крын. 3. Тое ж, што і м е́ й с ц а 3. *Гэтыя мясца* [на назе] *забольвалі.* Альхоўка Навагр. 4. Тое ж, што і м е́ й с ц а 4. *Места выбіраць нада: у каго добра выходзіць, а ў каго цяшка выходзіць. Места закапаваюць.* Лайпушкі Ігн. *Места выходзіць у каровы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ці вышла места ў каровы?* Беразіно Докш. *Места ў каровы вышла.* Пасіене Лудз. *Места вышла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Месца ў каровы вышла.* Лука Нараўк. 5. у знач. *прысл. ме́стам, ме́сцам, міста́мі, ме́стамі.* Тое ж, што і м е́ й с ц а 5. *Была калыска гэтым местам.* Магуны Паст. *Так чую, ногі гэтым местам баляць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гэтым местам нада было садзіць* [бульбу]. *Яна паказвала, дзе якім местам капаць калодзісь.* Саланое Віл. *У яго гэтым местам горла баліць і цемпература высокая.* Рубяжэвічы Мін. *Сядзела гэтым месцам.* Бакшты Іўеў. *Гэтым месцам крапчэйшая*

*была.* Лоск Валож. *Містамі ёсь брусніцы. Рака містамі глыбокая.* Лісна В.-Дзв. *Містамі шыракавата картошка пасаджана.* Валынцы В.-Дзв. *Яно местамі ягат ёсь.* Старыя Трокі Трак.

МЕ′СЦІ *гл.* МЯСЦІ′

МЕ′СЦІНА *ж.* Мясціна. *Там месціна добрая.* Малахоўцы Бар. *Месціна цвёрдая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Праз раку месціна хароша.* Чычалі Швянч.

МЕ′СЦІЦЦА *незак.* Умяшчацца. *У вядро малако не месцілася.* Жылі Іўеў.

МЕ′СЯЦ *м.* 1. Месяц (планета). *Круглы месяц свеціць.* Гемзы Шальч. *Пойня — пойны месяц, круглы.* Стральцы Гродз. 2. Дванаццатая частка года. *Не знаю месяцоў.* Лоск Валож. *Месяц і адзін дзень ішоў я пешком з Белой Цэркві.* Цяпінцы Віл. *Два месяцы праляжаў.* Кемялішкі Астр.

МЕ′СЯЧНІК *м.* Лунацік. *Німожна, кап месяц свяціў на маленькаго, месячнік будзя, на дрэве хадзіць будзя.* Каўняны Гродз. *Месячнік ходзіць па месяцу* (калі свеціць месяц). Жылі Іўеў.

МЕ′СЯЧНІЦА *ж.* Тое ж, што і м е́ с я ч н і к. *Месячніца па месяцу ходзіць, на яе месяц свяціў.* Жылі Іўеў.

МЕ′СЯЧНО *прысл.* Ясна ад святла Месяца. *Месячно было.* Мсцібава Ваўк.

МЕ′СЯЧНЫ *прым.* Асветлены Месяцам. *Ноч была месячна.* Альхоўцы Лях.

МЕ′СЯЧЫК *м. памянш.* да м е́ с я ц 1 і 2. *Узышоў месячык.* Кухты Віл. *Месячык — як сярпок.* Баброўнікі Гарад. *У калхозя пабуду месячык.* Дакудава Лід.

МЕТ *гл.* МЁД

МЕ′ТКА *ж.* Знак. *Меткі на шнурах стаялі.* Валынцы В.-Дзв. *Кагда сеялі, ставілі меткі, каб знаць, дакуда кончыў учора сеяць.* Індра Красл.

МЕТЛІ′ЦА *ж. бат.* Мятліца. *Метліца рэчная.* Мсцібава Ваўк.

МЕ′ТНЫ *прым.* Назіральны. *Яна метная, замеціць людзей — і помніць, дужа памяць мая.* Рагулішкі Даўг.

МЕ′ТРА *ж.* Метр. *Адна метра ад міне.* Лісна В.-Дзв.

МЕХ, МЕК *м.* 1. Мех. *З мяха бяры ячмень.* Груздава Паст. *Мех фарбавалі і шылі спадніцы.* Гальшаны Ашм. *Цёця трасецьме́х.* Ністанішкі Смарг. *Прышла з мяхом.* Лоск Валож. *На мяхох сядзелі і курылі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мяхе ткалі з канапель.* Міратычы Карэл. *Вярхі і патрап'я пралі і ткалі на мяхі.* Вузла Мядз. *У яму былі мяхі паскідаўшы.* Альхоўка Навагр. *Мяке ткалі.* Парэчча Гродз. 2. Мера, роўная 3—5 пудам. *Мех муке купіў.* Кіралі Шчуч. *Стаяць пры сцяне мяхі жыта.* Стральцы Шальч. ▽ *Прапаў мех — на брата грэх.* Малі Астр.

МЕХАВА'ТЫ *прым. перан.* Нязграбны, непаваротлівы. *Быў мехаваты хлопец.* Граўжышкі Ашм.

МЕХАВЫ' *прым.* Грубы (пра палатно). *Мехавое палатно.* Малахоўцы Бар.

МЕЦЕ'ЛІЦА *гл.* МЯЦЕ'ЛІЦА

МЕ'ЦЦА, МЕ'ЦЦЯ *незак.* 1. Мець намер. *Меліся ў панядзелак ехаць.* Ёдлавічы Брасл. *Не маюся продаць.* Дакудава Лід. *Я маюся сказаць, што ты не ідзі туды.* Граўжышкі Ашм. *Ён меўся атходзіць у парцізаны.* Лоск Валож. *Мелася ў Мінск пісьмо напісаць.* Жылі Іўеў. *На вяселля маюцца ісці. Маюцца прысці да міне.* Кіралі Шчуч. *Мы маемся ў нядзелю ехаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён меўся прыйсці.* Паляцкішкі Воран. *Маюцца прыехаць дачка і зяць.* Старое Сяло Зэльв. *Ён меўся жаніцца.* Ракаўскія Швянч. *Карову маюся здаваць.* Старыя Трокі Трак. *Меліся ў пушчу ехаць. Што я мелася сказаць? Меўся капусту садзіць.* Кудзялянцы Шальч. *Я мелася ехаць.* Гемзы Шальч. 2. Адчуваць сябе. *Як маіцісь?* Груздава Паст. *Ні знаю, як іна цяпер маіцца.* Кураполле Паст. 3. з *інф.* Аб тым, што мяркуецца быць. *Патоп маецца быць.* Старое Сяло Зэльв.

МЕЦЬ *незак.* 1. Мець што-н. у наяўнасці. *Меюць машыну сваю.* Пярэкі В.-Дзв. *Адзін не меў грошы, дык не далі яму мяса. Малака многа мелі. Сягоня маю закас — зрабіць зэдлік карову даіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна добрую работу мела, ён звёў, сцягнуў яе з работы.* Груздава Паст. *Аднаго абруса маю.* Рагулішкі Даўг. *Службу кажды меіць.* Новыя Мацалі Варэн. *Ты тэрас багатая, а помніш, як мела сукенку — і касцельную, і пасцельную.* Малі Астр. *Я травы маю.* Граўжышкі Ашм. *Не маю чаго даць ім. Бедна жыла, кавалка хлеба ня мела. Кручок* [авадзень] *мая жыґала скручаная.* Івашкаўцы Смарг. *Я мела гусі, рабіла падушкі, сваё пер'я. Мела гаспадарку. Мoжа яяк маіця?* Солы Смарг. *Пан меў капіталу немала. Можна ісці рабіць, як мая заняця, то нічога кепскага не думая.* Жылі Іўеў. *Хто мая свае свіня, то і мяса ест. Дырса расце ў жыця, да жыта пахожая, яна шалугі многа мая.* Старыя Трокі Трак. *Мелі людзі куры, хто пасадзіўшы.* Паляцкішкі Воран. *Мела пані камяніцу.* Грыкені Вільн. *Як былі вёскі, то мелі паласамі* [зямлю]. Відаўцішкі Вільн. *Адзін ручнік яшчэ маю, што матка ткала.* Кудзялянцы Шальч. *Яна мея такія дываны! Я меў пасак с кутасамі. Як мецьме на вотку* [грошы], *то паслухая.* Парэчча Гродз. *Дроту не маеце?* Мсцібава Ваўк. *Мая много сукенак.* Альхоўцы Лях. *Мецьмем сячкарню.* Номікі Бабіц. *Я сама маю што пасыпаць курам.* Валынцы В.-Дзв. *Чатыры каровы маіць.* Кемялішкі Астр. *Маю цёлачку ў хляве, буракоў маю, маю авёс. Два кабаны мела з гот.* Крэва Смарг. *Людзям я маю што даць. Мела цёлку і цёлку прадала.* Лоск Валож. *Прадала карову, не мае ка-*

*ровы*. Крынкі Крын. *Мела два сыны, блізняты радзіла.* Ністанішкі Смарг. *Мела многа дзяцей.* Снягяны Смарг. *Жонку мая другую. Мае і там двое ці трое дзяцей. Маю пяць унукаў.* Кемялішкі Астр. *Бабу сабе меў.* Лоск Валож. *Троя мела дзяцей. Я маю ўнукаў. Там яго сям'я, мая дзеўчыну* [дачку]. *Яна мая малоя, гадок яму. Тры дачкі маяць, сына не маяць.* Гемзы Шальч. *Я мела дзіця, кап ношкі былі простыя, повясам упутвала.* Дакудава Лід. *Іх сыны маюць па тры дзеці.* Паляцкішкі Воран. 2. Валодаць чым-н. *Ці ты рук не маіш?* Лоск Валож. *Не маю сілы.* Паляцкішкі Воран. *Хто мая сілу?* Старыя Трокі Трак. *Чалавек павінен рух які мець.* Малі Астр. *Яна дужа мая сілу.* Міратычы Карэл. 3. Мець вольны час. *Калі часу маіш, то сходзіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ну, яшчэ маю часу.* Солы Смарг. *Я ні маю калі мяшаць. Мой чалавек часу ня меў гарадзіць.* Лоск Валож. *Калі бэндзеш мець час, то падыйдзі.* Паляцкішкі Воран. *І абедаць не мецьме калі.* Парэчча Гродз. *Федзік мая час.* Альхоўка Навагр. *Да нядзелі маяш час. Ні маю час сядзець.* Малі Астр. 4. Мець пэўны ўзрост. *Дочка мела дзевяць месяцаў. Шэсць гадоў мела. Ужо маю восімдзісят пяць.* Солы Смарг. *Колькі мая гадоў? Мая многа гадоў.* Граўжышкі Ашм. *Больш чым сто гадоў мея.* Старыя Трокі Трак. *Підзісят гадоў якіх мела.* Гемзы Шальч. *Лет пятнаццаць меў.* Грыкені Вільн. *У чатырнацатым году я меў дваццаць лет.* Швэды Вільн. 5. Прымаць. *Яе ўлюбілі, як за дачку мелі,* Малькуны Ігн. *Ты мяне ні за што маяш.* Лоск Валож. *Паны чалавека за сабаку мелі.* Кіралі Шчуч. 6. Размяшчаць у якім-н. месцы. *Не мела куды палажыць.* Гемзы Шальч. *Не маю месца.* Паляцкішкі Воран. *Чы яны маюць дзе разліцецца?* Жылі Іўеў. 7. Нарадзіць дзіця. *Ты п другоя дзіцятка мела п.* Снягяны Смарг. *Мела хлопчыка. Дома дзіця мела.* Лоск Валож. *Першага сына мела, трудавала, дачку лёганька радзіла.* Лайпушкі Ігн. 8. Мець што-н. супраць каго-н. *Што ты маеш да мяне?* Лоск Валож. 9. У спалучэнні з *він.* і *род.* назоўнікаў азначае: а) дзеянне па значэнню гэтых назоўнікаў: *ахоту мець* — хацець. *Ён ахоту мае рабіць.* Вецярэвічы Пух. *Ахоту меў вучыцца.* Старыя Трокі Трак. *Ахоты ня мела ехаць.* Стральцы Гродз. *Бяду мець* — бедаваць. *Цэлу бяду мела.* Паляцкішкі Воран. *Бяды мела з ей* [каровай]. Лоск Валож. *Гора мець* — гараваць. *Гора меў, палес у доўх.* Ністанішкі Смарг. б) Знаходзіцца ў якім-н. стане. *Маіць адзін цяшкі грэх. Я настрой маю, з усімі паздароўкаюся.* Солы Смарг. *Сколькі мелі страху!* Лоск Валож. *Памяці ні маіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мая сестра не мела шчасця.* Гемзы Шальч. *Яны ня мелі цярплівасці. Жадна* [ні адна сястра] *жызні ня мела.* Кудзялянцы Шальч. 10. У спалучэнні з *інф.* азначае: а) намервацца што-н. рабіць. *Ні маю як атказацца, пашыла дзве кашулі.* Малі Астр. *Я ні маю што гава-*

*рыць.* Курраполле Паст. *Я ні маю што атвічаць.* Рагулішкі Даўг. *У лес маю з'ездзіць дзісь па дрова.* Граўжышкі Ашм. *Маю прадаць* [бульбу]. Солы Смарг. *Я не маю што рабіць.* Ністанішкі Смарг. *Ні маю чаго ісці, у мяне усё ёсь. Не мае чаго ехаць.* Лоск Валож. *Мае прыехаць сястра з Мінску.* Паляцкішкі Воран. *Косцюк меў жаніцца. Дзе яна мела ехаць?* Жылі Іўеў. *Як вы маіця мне малако насіць, я лепі так буду.* Бакшты Іўеў. *Сын мая да войска ісці.* Парэчча Гродз. *Што я маю гаварыць, мне сэрца баліць.* Новікі Гродз. *Вы з гэтай, што мае да вас прыехаць, знакомы па рабоце? Мелі пастроіць машыну за (а)бет. Мелі расходзіцца, але жывуць разам шчэ. Мела ехаць у Валкавыск.* Мсцібава Ваўк. *Што яны маюць рабіць?* Вострава Маст. *Каго я маю любіць?* Барок Стаўб. *Што я маю сказаць: папарабіла за свой век.* Альхоўцы Лях. б) Мець магчымасць. *Ні мела с кім кінуць* [хворага]. Жодзішкі Смарг. *Яны ні маюць, дзе пажычыць грошы.* Ракаўскія Швянч. ▽ *Не мей сто рублей, а мей сто другоў.* Солы Смарг. *Маяш дачку — дзяржы вотку ў глячку. Як дбаяш, так і маяш.* Малі Астр. *Як даглядаяш, так і маяш.* Вузла Мядз. ◊ *Ня мець сэрца* — быць жорсткім. *Яна да міне не мела сэрца. Ня мець голасу* — не мець права выказваць сваю думку. *Ён у яе голасу ня мая, яна ім каруя.* Малі Астр. *Віду ні мець* — быць непрыгожым, непрывабным. *Яна віду ня мая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Меру мець* — устрымлівацца ад лішняга. *Трэба меру мець ва ўсім.* Граўжышкі Ашм. *Харашо мець* — добра зарабляць. *Харашо ён мая: от ён заработая!* Гемзы Шальч. *За грэх не мець* — не любіць, не ўжываць і не мець. *Я гэта масла і за грэх не маю.* Рыбчына Віл. *Мець язык* — быць гаваркім. *Язык то ён мая, толькі брахаць умея.* Жылі Іўеў.

МЕЧ *ж.* Меч. *Вострая меч. Узяў вострую меч.* Талейкі Швянч.

МЕ́ЧЫКІ *мн. бат.* Цюльпаны. *Мечыкі — эта цюліпаны.* Магуны Паст.

МЕ́ШАЛКА *ж.* 1. Прылада для размешвання чаго-н. *Дзе мешалка?* Данілавічы Дзярж. 2. *перан.* Той, хто гаворыць не тое, што трэба. *Гэта дурная мешалка!* Вецярэвічы Пух.

МЕШАНІ́НА *ж.* Поле, узаранае другі раз. *Пайду араць на мешаніну.* Гемзы Шальч.

МЕ́ШАНКА *ж.* 1. Ежа для свіней, прыгатаваная з мукі. *Мешанка з адной мукі — цесто.* Стральцы Гродз. 2. Змешаны пасеў кармавых раслін. *Мешанку свіням носяць.* Малахоўцы Бар. 3. Зводная сястра. *Мае сёстры — мешанкі, бацька ў іх быў другі.* Новіны Нясв.

МЕ́ШАНЫ *прым.* Змешаны. *У нас лес мешаны.* Грыкені Вільн.

МЕ́ШАНЬ *ж.* Тое ж, што і м е ш а н і н а. *Летась была*

*бульба: поля першы рас узаралі, патом пабарануюць на мешань, кап араць другі рас.* Вязынка Маладз. *Мешань пад жыта.* Валынцы В.-Дзв. *Мешань — калі на зіму ўзарана, вясной пабарануяць і другі раз аруць — гэта мешань.* Вузла Мядз. ∇ *Прышоў Барыся, за мешань бярыся.* Вузла Мядз.

МЕША'ЦЦА *незак.* Змешвацца. *Лёхкіе с печэні не мешаюцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЕ'ШКА *м.* і *ж. экспр.* Той, хто непаваротлівы. *Ён—мешка такі, укачаўся ў плавіну, у гразь.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *meškà* 'мядзведзь'.

МЕШКАВА'ТЫЙ *гл.* МЯШКАВА'ТЫ

МЕШКА'НЕ *н.* Хата; жыллё. *Мало мешкане не спаліласо.* Каменка Стара Сакол.; *параўн.* польск. *mieszkanie* 'кватэра'.

МЕШО'К *гл.* МЯШО'К

МЁД, МЁТ, М'ЁТ, МЕТ *м.*, МЯДЫ' *мн.* Мёд. *Мёду ёсь, але сухата. Самы лепшы мёт с палявых цвятоў, ліпавы не так.* Груздава Паст. *Хлеба з мёдам паясі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Салоткі мёт. Мёт с кветачкаў збіраюць пшчолы.* Паляцкішкі Воран. *Зацвіцець грыка, то пах, запах мёду.* Швэды Вільн. *Пшчолы очкі робяць і наліваюць мёт.* Судэрва Вільн. *М'ёт бяруць с кветак.* Рудня Астравітая Чэрв. *М'ёт пчолкі бяруць.* Беразіно Докш. *С кветак пчолкі мет бяруць.* Рыбчына Віл. *Пчолка мяды збірае.* Дзераўное Стаўб.

МЁНТАЧКА *ж.* памянш. да м ё н т к а. *Мёнтачкі былі, размешвалі раўґеню. Мёнтачкай разбіваеш саладуху — аш ідзець пена. Мёнтачка была, як лапатачка, як хлеп рашчынялі, мішалі.* Кураполле Паст.

МЁНТКА *ж.* Прылада для размешвання, узбівання чаго-н. *Мёнткай размешвалі і раўґеню разбівалі; як разводзяць, падаб'ець, станіць пена.* Кураполле Паст.; *гл.* м е́ н т а.

МЁРТВЫ 1. *прым.* Нежывы. *Мёртвыя людзі лежалі.* Рагулішкі Даўг. 2. у знач. *назоўніка.* Мярцвяк, нябожчык. *Што пісана, то все есть: где жывыя ходзяць, там мёртвым нельзя.* Рагулішкі Даўг.

МЁТ, М'ЁТ *гл.* МЁД

МЖА'ВКА *ж.* Тое ж, што і м ґ л а. *Од рана мжавка, в полі роботы нэма.* Курашэва Чыж.

МІГАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Свяціць няроўным бляскам. *Гвязды дзісь мігочуць, аш скачуць на марос.* Граўжышкі Ашм. 2. Пераліваііца рознымі адценнямі. *Цваты проста мігацяць, лялеяць.* Рыбчына Віл.

МІГЛА', МЫГЛА' *ж.* Тое ж, што і м ґ л а. *Мігла мігліць.* Магуны Паст., Старыя Трокі Трак. *Мігла мігліць, будзе дош.* Ракаўскія Швянч. *Начала мігла марасіць.* Гемзы Шальч. *Мігла імгліць.* Мярэцкія Глыб. *Нейкая мыгла марасіць.* Груздава Паст. *Мыгла — густы дробнянькі дошчык.* Магуны Паст. *Мыгла ідзець.* Рыбчына Віл. *Дошч дробны — мыгла.*

Солы Смарг. *Мыгла мыгліць.* Жодзішкі, Крэва Смарг., Міратычы Карэл. *Мыгла такая, не ўзяла парасон.* Граўжышкі Ашм. *Сягонячы мыгла сыпля.* Дакудава Лід. *Мыгла сягоння мыгліць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мыгла — ні дошч, ні пагода.* Лоск Валож. *Туман і мыгла.* Альхоўка Навагр. ∇ *Як мігла, набралася мошак.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *miglà* 'тж'.

МІГЛАВЫ' *прым.* Імглісты. *Міглавы дошч.* Старыя Смільгіні Воран.

МІГЛІ'ЦЬ, МЫГЛІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і мгліць. *Мігла мігліць.* Старыя Трокі Трак. *Снех міглеў.* Саланое Віл. *Мігла мігліць, будзіць дошч.* Ракаўскія Швянч. *Хай бо ш міглеў дошч.* Дзяніскавічы Ганц. *Дош мыгліў.* Саланое Віл. *Дошч дробны мыгліць.* Ёдлавічы Брасл. *Дошч мыгліць.* Крэва Смарг., Жодзішкі Смарг., Гемзы Шальч. *Мыгла сягоння мыгліць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мыгліць мыгла.* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *miglénti* 'тж'.

МІДАВУ'ХА *гл.* МЕДАВУ'ХА

МІДАВЫ' *гл.* МЕДАВЫ'

МІДАГО'НКА *ж.* Медагонка. *Мідагонка ў яго купленая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МІДА'ЛЕК *гл.* МЕДА'ЛІК

МІДЗЯ'НКА *гл.* МЯДЗЯ'НКА

МІДЗЯ'НЫ *гл.* МЕДЗЯ'НЫ

МІДЫГАВА'ЦЦА *незак.* Быць у нерашучасці, вагацца. *Мідыгуецца, хоча зрабіць, але няма рашэння, абдумвае, няма энергіі.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *medytować* 'тж'.

МІЕ'ЖДУ *гл.* МЕ'ЖДУ

МІЖ, МІ'ЖЫ', МЫ'ЖЫ, МІЗ, МІС *прыназ. з род.* 1. Паміж. *Між нох ушчэмя.* Гемзы Шальч. *Міжы пальцаў папрэла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Міжы лесу і поля дарога ідзе. Сельсавет стаіць міжы садам і школай.* Магуны Паст. *Міжы пазурамі ракавіна.* Навасёлкі Свісл. *Міжы лесу дарога.* Жодзішкі Смарг. *Мыжы зубоў набілася мяса.* Альхоўка Навагр. *Сценкі міз вокан.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Сярод. *Міз гэтых святкоў.* Альхоўцы Лях. *Канава пракопаная міс сенажаць.* Гайна Лаг. *Міс калят былі шчодрыя вечары.* Данілавічы Дзярж.

МІЖДЖЭ'ЦЬ *незак. безас.* Карцець. *Аж міжджыць — як хоча жаніцца, браць хоча яе.* Малі Астр.

МІ'ЖДУ, МІ'ЖДЫ *прыназ. з род.* Тое ж, што і між 1. *Плошчадзь парожная міжду лесу.* Дакудава Лід. *Міжду пальцаў папрэла, пірасыпаць нада крахмалам.* Мярэцкія Глыб. *Ціхан сядзеў міжды іх.* Вецярэвічы Пух.

МІЖЛЮ'ДНЫ, МІШЛЮ'ДНЫ *прым.* Прыветлівы; таварыскі. *Ні мішлюдны чалавек, не ўважае другіх, сам сябе любіць тры разы ў року.* Мсцібава Ваўк.

МІЖЫ'ПАРНІЦА I *ж.* Прэласць. *Міжыпарніца бывает ад вады свежай, кагда свярбіт между пальцы, папрэлі пальцы.* Рагулішкі Даўг.

МІЖЫ'ПАРНІЦА II *ж. бат.* Ланцэталісты трыпутнік. *Прылажы лісця міжыпарніцы, можа паліц палепшаіць.* Валынцы В.-Дзв.

МІЗ *гл.* МІЖ

МІЗА'РАЧКА *ж.* Дзяўчына з беднай сям'і. *Не вяліць яму маці мізарачкі браці* (з вясенняй песні). *Мізарачка — бедная дзяўчына, з беднай сям'і.* Талейкі Швянч.; *параўн.* польск. *mizerak* 'бядняк'.

МІЗГА' *гл.* МЯЗГА'

МІЗДРА' *гл.* МЯЗДРА'

МІЗДРА'К *м.* Бядняк. ∇ *Багатыр* [багач] *дзівіцца, чым міздрак жывіцца, а ня ведая таго, што дабром яго — як нічога ні было, то ішоў красці.* Малі Астр.

МІЗІ'ПЕРНІЦА *ж.* Захворванне пальцаў на руках. *Мізіперніца — балесць: разапрэ ўсе пальцы, нарывы на пальцы, на ладоні, купаюць зязюлькінымі карэньмі.* Альхоўцы Лях.

МІЗЭ'РНЫ *прым.* Схуднелы. *Змізарнеў чалавек, мізэрны стаў.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *mizerny* 'худы, чахлы'.

МІ'КАЦЬ *незак.* Мыкаць. *Карова мікала.* Магуны Паст.

МІКІ'ЦЯЦЬ *незак.* Таіцца. *Яны мікіцялі, мікіцялі і сазналіся.* Ёдлавічы Брасл.

МІКІ'Ш *гл.* МЯ'КІШ I

МІКСАВА'ЦЬ *незак.* Нюхаць. *Міксаваў, міксаваў цялёнак і выпіў пойла. Цялюк міксая, не п'е.* Парэчча Гродз.

МІ'ЛА *прысл.* Добра. *Нам тут міла, бо мы тут жывем.* Новікі Гродз.

МІЛАСЭ'РДНЫ *прым.* Міласэрны. *Ён міласэрдны быў, ні мох рабіць пры бальных, пашоў рабіць у завот.* Крэва Смарг. *Ён быў такі міласэрдны, такі клапатлівы.* Парэчча Гродз.

МІЛАТА' *ж.* у знач. *вык.* Пра захапленне, зачараванне чым-н. *Гэта адзіяла — мілата.* Лісна В.-Дзв.

МІЛЕ'Й *прысл.* Дружней. *Калісьці людзі мілей жылі, адны адных уважалі.* Новікі Гродз.

МІ'ЛЕНЬКІ *прым.* 1. Дарагі, любімы. *Ах, мая мамачка міленькая!* Кіралі Шчуч. 2. Ласкавы зварот. *Міленькі, родненькі, замоў за мяне.* Старыя Смільгіні Воран.

МІЛО'СЦЬ *ж.* Ласкавасць. *Кот укусіць з мілосці.* Ёдлавічы Брасл.

МІ'ЛТА, МЫ'ЛТА *ж. кулін.* Ежа, прыгатаваная з аўсянай мукі. *Мілту рабілі з аўса: авес парылі і малолі ў жорны; закалоціш і камкаіш, і камкаіш, яна натта набракала. Напарыш аўса, насушыш і меліш, і высеіш, пасейкі ў рэшаці астаюцца, а мучыцу на стол, яе збіраеш і халоннай вадой размяшаіш ложкай, закалоціш, мішаіш і ясі мілту.* Саланое Віл.

*Мілта з аўсянай мукі, запарвалі авёс, рабілі тугоя цеста і так елі; парылі авёс, сушылі, хто жорны меў, малолі, высяяць пасеі, а муку раскалачаваюць халоднай вадой, і гэта цеста ядуць; тады я сама ела мілту.* Рыбчына Віл. *Мілту рабілі: жарылі авёс, атаўкалі і малолі.* Кухты Віл. *Хто зваў мілта, а хто — талакно, густая мілта натта даўкая. Авёс спарыш, нада добра ўпарыць, высушыць, высяяць, выпалаць* [у начовачках], *малоць, а патом муку прасеіць, вадзічкі ўліў, пасаліў і келтай.* Груздава Паст. *Аўсяна мука, а з яе рабілі мілту.* Быстрыца Астр. *Авёс парылі, сушылі і малолі ў жорнах, вадой сырой разводзілі, мяшалі, яна загусня, бабця па лысцы дасць — і елі.* Солы Смарг. *Авёс парацъ, таўкуць, разводзяць зімной вадой і соллю прысыпяць, забалтаяць — гэта мілта.* Жодзішкі Смарг. *Мілта с аўса, мілту сырую рабілі: вады ўльеш, мяшаяш, гусцея, і камкі такія ляпілі.* Гальшаны Ашм. *Мілту на талокі рабілі з аўса, у кулак во возьмеш і еш. Парылі авёс, сушылі, таўклі і мяшалі з вадой — гэта мілта.* Ракаўскія Швянч. *Елі мілту. Авёс упарыць у сагане, высушыць, змеліць, высеіць на рэшата, вадой размяшаяць — і мілта. Калісь у пост — саладуха, мілта, ад'етку няма.* Гемзы Шальч. *Мілты наробяць: авёс парацъ, высушаць, аптаўкуць, у жорны змеляць.* Бакшты Іўеў. *Мілта і рэткая і густая.* Ухвала Круп. *Мілта з параных аўсяных круп: таўкуць на муку, потым вады халоннай і солі, размешваюць і ядуць.* Мачаск Бярэз. *Мілту размяшаю.* Глівін Барыс. *У посце сама чэсць была мілта. Мілту рабілі з мукі ячменнай, качалі ў галушкі і выносілі астуджваць. У каго сям'я, намяшаюць мілты і пад'ядуць, з суярковай мукі мяшалі мілту.* Вецярэвічы Пух. *Некалі мой папа мілту спаміноў.* Лапічы Асіпов. *Мылта — ат старых чулі такую назву. Мылту з аўсянай мукі рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *miltа* 'яда з кіслага малака і грэчкі'.

МІЛЬКАВА'ЦЬ *незак.* Маніць. *Ды ты ні мількуй!* Навасёлкі Свісл.

МІЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Памыліцца. *Ты мільнула.* Гемзы Шальч.

МІ'ЛЫ *прым.* Дарагі. *Ест усякія калекі і кождаму міла жыцё, рас жыве чалавек на свеці.* Парэчча Гродз.

МІЛЮХНЫ' *прым.* Абаяльны. *Мілюхна кабета была.* Старыя Смільгіні Воран.

МІ'МА *прысл.* Не спыняючыся каля чаго-н. *Я ішоў міма, гляджу, у Янука дым валіць с хаты.* Кураполле Паст.

МІНА'ЦЦА *незак.* Праязджаць, праходзіць міма. *Паязды міналіся.* Стары Свержань Стаўб.

МІНА'ЦЬ *незак.* Абыходзіць. *Парве плыт, бывае, як на камень, ён* [плытагон] *мінае той камень.* Грыкені Вільн.

МІНО'ГА *ж. заал.* Мінога. *Мінегі пахожы на даўгара.* Быстрыца Астр.

МІНТА'ШКА, МІНТА'ЧКА *гл.* МЯНТА'ШКА

МІНТРЭ'ГА *ж.* Перашкода. *Куды-нібуць збіраісся і што-небуць памішаіць, кажуць: «Нейкая мінтрэга, што іна ні прыехала».* Мярэцкія Глыб.; *гл.* м і т р э́ н ґ а.

МІНТУ'С *гл.* МЯНТУ'З

МІНУ'ЛЬКА *ж.* Чмель. *Мінулькі — пшчолкі такія, у зямлі ў пузыры яны.* Старыя Трокі Трак.

МІНУ'ТА *гл.* МІНЮ'ТА

МІНУ'ТНА, МІНУ'ТНЕ *гл.* МІНЮ'ТНЕ

МІНУТО'ВЕ МІНУТО'ВЯ *гл.* МІНЮТО'ВЕ

МІНУ'ЦЦА *зак.* Адысці ў мінулае. *Кап яно не мінулася тое, то не жыла п.* Міратычы Карэл.

МІНУ'ЦЬ *зак.* 1. Прайсці міма. *Яны старога ні мінуць, яны і маладога не мінуць.* Саланое Віл. *Як мінеш мост, павярні налева.* Рагулішкі Даўг. *Усе мінулі, а я падняла.* Гемзы Шальч. 2. Прапусціць. *Ні аднаго дня ні мінула, у лес хадзіла.* Стральцы Гродз.

МІНУ'ШКІ *мн. бат.* Раллявая канюшына. *Мінушкі з жоўценькімі шышачкамі.* Мярэцкія Глыб.

МІНЮ'ТА, МІНУ'ТА *ж.* 1. Мінута. *Мінют пяць трэба пасядзець.* Жодзішкі Смарг. *Адна мінюта прайшла.* Навасёлкі Свісл. *Сорак мінют прайшло, а яе няма.* Старое Сяло Зэльв. *П'яць мінют полежала.* Смаляніца Пруж. 2. Кароткі прамежак часу. *За мінюту прыхоць!* Вялікія Баяры Шчуч. *Мінюта пройдзе і перастаня балець.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падзяржы мінюту ў губе* [у роце] — *каўнеш, як лекарство.* Кузьмічы Люб. *Мінюта слабодная.* Альхоўцы Лях. *Побыла в сельсовеці мінюту.* Смаляніца Пруж. *Ён аднэй мінуты не будзіць сідзець.* Саланое Віл. 3. у знач. *прысл.* Вельмі хутка. *У мінуту зрабіў.* Галубы Маст. ◇ *Такой мінютай* — у такі перыяд, час. *Ён такой мінютай родзіцца.* Жылі Іўеў.

МІНЮ'ТКА *ж. памянш.* да м і н ю́ т а 2. *Я вас на мінютку стрывожу.* Дакудава Лід. *На мінютку забехся.* Навасёлкі Свісл.

МІНЮ'ТНЕ, МІНУ'ТНА, МІНУ'ТНЕ *прысл.* 1. Раптоўна. *Ён мінютне ўмёр, прыехалі хаваць.* Альхоўцы Лях. *Мінутна памёр.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Тое ж, што і м і н ю́ т а 3. *Мінутне зрабіў.* Мсцібава Ваўк.

МІНЮТО'ВЕ, МІНУТО'ВЕ, МІНУТО'ВЯ *прысл.* Тое ж, што і м і н ю́ т а 3. *Ён мінютове зрабіў бязмен.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мінутове зрабіў.* Старыя Трокі Трак. *Апчасаў бервяно мінутовя.* Гемзы Шальч.

МІНЯ'ЦЬ *гл.* МЯНЯ'ЦЬ

МІР І *м.* Свет. *З міру збяруць словы.* Чапаеўскі В.-Дзв.

МІР II *м.* 1. *устар.* Сельская грамада. ▽ *Што будзе міру, тое будзе бабінаму сыну.* Дзераўное Стаўб. 2. у знач. *прысл.* *мірам.* Разам, грамадой. *Усім мірам прыехалі. Мірам памаг-*

*лі мы і яго бацька. Усім мірам у хлеў заганяць нада* [карову]. Чапаеўскі В.-Дзв.

МІРГАВА'ЦЦА *гл.* МІРКАВА'ЦЦА

МІРГАВА'ЦЬ *гл.* МЕРКАВА'ЦЬ

МІ'РГА'ЦЬ *незак.* 1. Маргаць. *Очы не міргаіць.* Малькуны Ігн. 2. Падморгваць. *Што ты міргаеш на мяне, што ты хочаш?* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *mirginti* 'рухаць'. 3. *перан.* Тое ж, што і м і г а ц е ц ь 1. *Міргаюць звёздачкі на небя, пагода, харашо.* Кураполле Паст. *Зоркі міргаяць.* Вязынка Маладз.; *парайн. літ. mirgėti* 'мігацець'.

МІРГІТУ'Н *м. заал.* Бакас. *Міргітун леціць, мірніча — і на зямлю; на балоце, на купіне крышачку пракошчыць* [раскалупае ямку], *гнязда няма, не робіць.* Пацаўшчына Дзятл.

МІРГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Падміргнуць. *Вокам міргнуў.* Талейкі Швянч. 2. *перан.* Адысці ў мінулае (пра падзеі). *Тое даўно міргнула.* Малі Астр.

МІРКАВА'ЦЦА, МІРГАВА'ЦЦА, МЕРГАВА'ЦЦА *незак.* 1. Дамаўляцца. *Міркаваліся неяк: адна пасмотрыць, другая.* Індра Красл. 2. Дзяліцца чым-н. *Іна баба такая — мяргуіцца.* Лісна В.-Дзв. *Як трэба, мергуецца апошняю крохаю са мной.* Беразіно Докш.

МІРКІТАВА'ЦЬ *гл.* МЕРКІТАВА'ЦЬ

МІРО'ЖА, МІРЭ'ЖА, МЯРО'ЖА *ж. рыб.* Мярэжа. *Міро-жа — як буч.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мірожа — сетка рыбу лавіць.* Груздава Паст. *У мірожы застаўляюцца абручы з длінным калком, прыкрапляецца, кап сплыла, абручы што рас, то меншыя.* Кураполле Паст. *У мірожы два жырыла, пасрэдзіне сетка метраў чатыры-пяць. Мірожамі крэпка біруць ліnёў, карасей.* Істра Лудз. *Мірэжамі рыбу лавіць.* Янова Рас. *Мірэжы дзелалі рыбу лавіць. У мярожы дугі, два вусенкі, вусенак і веньцель.* Лісна В.-Дзв. *У мярожы — крыло, дзве душкі і кулькі.* Палік Барыс. *Мярожу на рацэ ставяць.* Беразіно Докш.

МІРО'ЖЫНКА *ж. памянш.* да м і р о ж а. *Мірожынкі нада ў азяро ўторкнуць.* Чапаеўскі В.-Дзв.

МІРТ *м. бат.* Мірт. *Вазон у мяне мірт.* Дзераўное Стаўб. *В мынэ був вазон мірт, такыі гузынькы довгасты лысточкы.* Сіманавічы Драг.

МІ'РТА *ж.* Тое ж, што і м і р т. *Із мірты — вянок, ніс плацця і весь падол міртамі ўбралі.* Ухвала Круп. *Мірту падносяць на талераццы і звіваюць вянок маладой.* Опса Брасл.

МІРЦА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м і г а ц е ц ь 1. *Мірцаюць звёзды на небі.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *мерцать* 'тж'.

МІРЭ'ЖА *гл.* МІРО'ЖА

МІС *гл.* МІЖ

МІ'СА *ж.* Вялікая міска. *Брытваны гліняныя, як місы, але доўгія.* Жодзішкі Смарг. *І нет у нас такіх місаў, а братава*

*прывiзла з Даґды.* Масiшкi Красл. *У дзве мiсы нальюць краснага халаднiку — бурачкi, i бульбу ядуць з бурачкамi.* Гемзы Шальч. *Зачэрпая, як лышкаю, з мiсы.* Альхоўка Навагр. *Цэлу мiсу выела.* Смаляніца Пруж.

МIСАЕ'Т *гл.* МЯСАЕ'Д

МI'САЧКА *ж. памянш.* да м і с к а. *Вун мiсачка ёсь.* Нiстанiшкi Смарг.

МIСI'ЦЬ *гл.* МЯСI'ЦЬ

МI'СКА *ж.* Мiска. *Была дзеравяная мiска, з тофалю зробленая, бо тофаль ня шчопкi.* Ахрэмаўцы Брасл. *Былi мiскi дзеравяныя: мiска вярбовая, мiска лiповая, круглая з ручкай.* Рыбчына Віл. *Мiскi глiняныя пабiлiся.* Лука Нараўк. *Мiска большая за чашку.* Навiкi Лудз. *Мiскi былi глiняныi.* Пасiене Лудз. *Есць яшчэ ў нас мiсак.* Парэчча Гродз.

МIТЛАВI'ШЧА *н.* Дзяржанне ў мятле. *Мiтлавiшча ў мятле.* Валынцы В.-Дзв.

МIТРАНГАВА'ЦЬ *незак.* Непакоiць. *Iдзiця дамой, хваця мяне мiтранґаваць.* Старыя Трокi Трак.; *гл.* м і т р э́ н ґ а.

МIТРЭ'ГА *ж.* Хваляванне. *А сягоння нам мiтрэга была.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* м і т р э́ н ґ а.

МIТРЭ'НГА, МIТРЭ'НКА *ж.* 1. Шум. *Бабы крычаць: «Што там за мiтрэнґа?»* Лiсна В.-Дзв. *Мiтрэнґi нарабiў, чаго крычыш?* Стральцы Гродз. *Мiтрэнка зрабiлася: эта ж напiўся i чуць не ўбiў. «Што тут у вас за мiтрэнка? — Да чуць не пабiў нас».* Малыя Аўцюкi Калiнк. 2. Тое ж, што і м і т р э́ г а. *Мiтрэнґа — недобры выпадак, нешта зрабiлася нiдобрая; мiтрэнґа ёй зрабiлася.* Жыдзевiчы Iўеў. *Мiтрэнґа была велька.* Жылi Iўеў. *Дужа вялiкая мiтрэнґа.* Беразiно Докш. 3. Турбота. *Сколькi ў мяне мiтрэнґi сёння! Сколькi ў мяне мiтрэнґi з гэтымi катамi: лавiла, лавiла i не магла злавiць.* Солы Смарг. *Я хацела карову перавязаць, а прыехаў брат — во мне мiтрэнґа.* Саланое Віл. 4. Неспакой. *Мiтрэнка нейкая на сэрцы.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *mitręga* 'валакiта'.

МIТРЭ'НЖЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і м і т р а н ґ а в а́ ц ь. *Нi мiтрэнш мне!* Старыя Трокi Трак.

МIТУЗI'ЦЦА, МIТУСI'ЦЦА *незак.* 1. Мiльгацець. *Мне ш у вачах мiтузiцца.* Кураполле Паст. *Стала жуке сабiраць, дык мiтусiцца ў вачах. Крушке становяцца то зялёныя, то красныя, то чорныя — мiтусiцца мне ў вачах.* Вецярэвiчы Пух. *Ягады мiтусяцца ў вачах, не ўгледзеш.* 2. Мiтуслiва рухацца. *Цёця мiтусiцца туды-сюды.* Рагулiшкi Даўг.

МIТУЛI' *гл.* МАТЫЛI'

МIТУСНЯ' *ж.* Сварка, звада. *Вечна мiтусня ў iх, нiма толку.* Груздава Паст.

МI'ТУСЬ *прысл.* Легчы галовамi ў супрацьлеглыя бакi, «валетам». *Мiтусь дзецi паклалiся. Мiтусь парасятка палеглi: аднаго — ногi, другого — галава.* Альхоўцы Лях.

МІТУШЫ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і мігацёць 1. *Мітушацца зоркі.* Бакшты Іўеў.

МІТЭ'РКА *ж.* Драўлянае колца для замацавання шпулькі. *Мітэрка прыкрапляецца да шпулькі, яна дзержыць шпульку.* Індра Красл.

МІХІЕ'Р *м.* Мачавы пузыр. *Малы міхіер простудів і до доҳтора возілі.* Курашэва Чыж.

МІХКАВА'ТЫ *прым.* Не вельмі цвёрды. *Міхкаватыі слівы.* Лісна В.-Дзв.

МІХЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і мігацець 1. *Міхцяць звёзды на небі ў марозны вечар.* Валынцы В.-Дзв. 2. Тое ж, што і мітузіцца 1. *Міхціць у вачах.* Гемзы Шальч.

МІЧА'ЦІ *незак.* Мыкаць. *Корова мічыт, як тэліцца.* Смаляніца Пруж. *Карова мічыць.* Сакаляны Сакол.

МІША'ЛКА *ж.* Мяшалка. *Мішалка — як кісель варылі, мішалі: сучкі яловенькія кругом тырчаць.* Саланое Віл.

МІША'НЕЦ *м.* Патомак ад шлюбу людзей рознай нацыянальнасці. *Тут мішанцаў многа — ні латышы, ні беларусы.* Істра Лудз.

МІША'ЦЦА *незак.* Умешвацца. *Не мішайся ў чужую сям'ю, толькі непрыятнасць будзіць.* Валынцы В.-Дзв.

МІША'ЦЬ *гл.* МЯША'ЦЬ

МІШКАВА'ТЫ, МІШКАВА'ТЫЙ *гл.* МЯШКАВА'ТЫ

МІШКАВА'ЦЬ *гл.* МЫШКАВА'ЦЬ

МІШКІ'НІ *мн. бат.* Абабкі. *Мішкіні велькія для чаго прынёс?* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *miškìniai* 'тж'.

МІШКІНЬКІ' *мн. памянш.* да мішкіні. *Белыя мішкінькі.* Кудзялянцы Шальч.

МІШКУЛЯ'НКА *ж.* Змешаны пасеў збожжавых культур. *Мішкулянкай засеяў кавалак поля, дзе нада было сеяць буракі.* Едлавічы Брасл.

МІШЛЮ'ДНЫ *гл.* МІЖЛЮ'ДНЫ

МІШНЯ' *ж.* Замес. ∇ *Мішня табе ў дзяжу,— а табе сто рублей у машну, а калі дзвесці, то будзім дзяліць умесці* — пажаданне таму, хто месіць хлеб. Валынцы В.-Дзв.

МІШЧ *м.* Майстар. *Мяне звалі мішч.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *mistrz* 'тж'.

МЛАДЗЯНКО'ВЫ *прым.* Маладзіковы. *Младзянковая нядзеля.* Граўжышкі Ашм.

МЛАСЬ *ж.* Млосць. *За сэрца млась бярэць.* Груздава Паст.

МЛЕ'ЙКІ *прым.* Які выклікае млявасць (пра лякарства). *Сіетэ лікарство якоесь млейкое.* Курашэва Чыж.

МЛЕ'КА *н.* Малако. *Млека с-пад каровы.* Магуны Паст. *Карова на млека натта добрая.* Груздава Паст. *Каровы німа — млека німа. «Рапуга вылязя з зямлі і высся ў каровы млека»,— так гаворадь.* Солы Смарг. *Тады старушка паста-*

*віла на стол жбан кіслага млека, палажыла булку хлеба.* Мацясы Мядз. *Па млека не прышла.* Граўжышкі Ашм. *Карова не хоча даць яму млека.* Рагулішкі Даўг. *Я млека прыгатовіла ўжо.* Старыя Трокі Трак. *У печца спараўшы млека.* Стральцы Шальч.; *параўн.* польск. *mleko* 'тж'.

МЛЕ'ЎКАСЦЬ *гл.* МЛЯ'ЎКАСЦЬ

МЛЕЦЬ *незак.* Вянуць. *Агуркі ня млеяць, відаць, марос не пашкодзіў.* Солы Смарг.

МЛЕЧА'РНЯ *ж.* Малочная. *Млечарня была, туды малако насілі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *mleczarnia* 'тж'.

МЛЕ'ЧКА *н. ласк.* да м л ё к а. *Млечка налея до бутэлечкі.* Стральцы Шальч.

МЛЕ'ЧНІК I *м. анат.* Страўнік у цяляці. *Млечнік у цялёнка ёсь пака ссець.* Саланое Віл. *У цяляці млечнік; млечнік надула і пасушыла.* Вузла Мядз.

МЛЕ'ЧНІК II *м. бат.* Адуванчык. *У млечніку жоўтыя цвяты.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *mlecz* 'малачай'.

МЛЕ'ЧНЫ I *прым.* 1. Удойны. *Карова млечная бывая.* Руднікі Шальч. 2. Прыгатаваны на малацэ. *Мне млечна яда лепш, яйко, млека.* Альхоўка Навагр. ◇ *Млечная лета* — калі атрымліваюць вялікі надой малака. *Людзі авораць, калі цёмная неба ў куцю — млечная лета, а куры ня будуць добра несціся.* Быстрыца Астр.

МЛЕ'ЧНЫ II *прым.* Які мае семявую вадкасць (пра рыб). *Млечная сялётка.* Лоск Валож.

МЛЁН *м.* Тое ж, што і м е л і н і с. *Млён з дрэва.* Саланое Віл. *Круцяць жорны млёнам.* Мярэцкія Глыб. *Рабілі плыткі млён.* Жодзішкі Смарг. *Шваранок у парпліцу ўстаўляецца, прыбіты млён і меліш.* Чуркі Ашм. *Млён у жарнах.* Вялікія Баяры Шчуч. *Млён — палка круціць у жорнах.* Навасёлкі Лід. *У жорнах ест млён.* Парэчча Гродз. *Млён у жарнох, кій такі.* Новікі Гродз. *Млён у жорнах — палка ўтакаецца ў дзюру.* Гемзы Шальч. *Млён — ручка, якой круцяць.* Дзяніскавічы Ганц. *Паўдоўбалі дзеравіну, адрэжа, зробіць млён.* Альхоўцы Лях.

МЛІН *гл.* МЛЫН

МЛІНО'ВЫ *прым.* Змолаты ў млыне. *Мліновая мука.* Номікі Бабіц.

МЛІНО'К *м.* 1. Флюгер. *Млінок бурчыць, а зямля трасецца, і крот баіцца.* Гемзы Шальч. 2. у знач. *прысл. млінком.* Кругамі. *У заточы вада круціцца млінком.* Гемзы Шальч.

МЛІНЦЫ' *мн.* Аладкі. *Млінцы пякла.* Навасёлкі Свісл.

МЛО'СНА *безас.* у знач. *вык.* Моташна. *Млосна ў грудзях.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЛОСЦЬ, МЛОСЬ *ж.* Тое ж, што і м л а с ь. *Млосць мяне за сэрца бярэць. Аш млосць, як абуіш рызіну.* Саланое

Віл. *Дзісь мяне млосць бярэ.* Старыя Смільгіні Воран. *За сэрца млось бярэць.* Груздава Паст.

МЛЫН, МЛІН *м.* Тое ж, што і мельніца. *Каля млыну стаялі.* Мярэцкія Глыб. *На млыне быў.* Груздава Паст. *У млын паехаў малоць.* Рыбчына Віл. *До млыну нада ехаць.* Кемялішкі Астр. *Вун, за млынам жыве.* Солы Смарг. *Млын— дзе стаў, вада задзержана, вадой малолі.* Гемзы Шальч. *У млыне малолі муку.* Кудзялянцы Шальч. *Быў у млыне.* Чычалі Швянч. *У млын вазілі малоць.* Стральцы Шальч. *Млын — даўней, мельніца — цяпер.* Рудня Астравітая Чэрв. *Быў у млыне. Млыном малолі.* Альхоўка Навагр. *Млін быў.* Мсцібава Ваўк. *Млін быў даўно, цяпер і следа няма.* Збляны Лід. *Быў у нас млін вадзяны, цяпер там пазаростала.* Малахоўцы Бар. *Да мліна паехаў.* Вострава Маст. *Мліны былі, дзе малолі муку.* Пацаўшчына Дзятл. *Млін — дэ мэлют муку.* Смаляніца Пруж. *Павязу ў млін.* Вецярэвічы Пух. *Млін вадзяны.* Малахоўцы Бар. *Патсівалася збожо, которое вязлося ў млін. Млін вадзяны быў, коло вада гнала.* Альхоўцы Лях. *З мліна прыехаў.* Крынкі Крын.

МЛЫНАВЫ′ *прым.* Які мае адносіны да млына. ▽ *Выходзіць замуж — не жарнавы, а млынавы камянь узяць на плечы — такую абязанасць на сябе берыцё.* Солы Смарг.

МЛЯ′НЫ *прым.* Слабы. ▽ *Не касі да Яна, будзе кароўка мляна.* Валеўка Навагр.

МЛЯ′ЎКАСЦЬ, МЛЕ′ЎКАСЦЬ *ж.* Млявасць. *Мляўкасць напала. Мляўкасць, не магу хадзіць.* Альхоўка Навагр. *Яна мучылася доўга, млеўкасць нека была.* Парэчча Гродз.

МЛЯ′ЎНА *прысл.* Млосна. *Вады прынясу, мляўна мне.* Рагулішкі Даўг.

МЛЯЧА′РНЫ *прым.* Прызначаны для малака. *Млячарны збан.* Быстрыца Астр.

МНЕ *гл.* Я

МНЕЙ *прысл.* Менш. *Будзя мней разгавору, калі не ўзная.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *mniej* 'тж'.

МНЕЙ-ДЛУ′ЖАЙ *прысл.* ◇ *Мней-длужай (ляжаць)* — пэўны прамежак часу. *Лён на аблозя слалі, мней-длужай ляжыць.* Старыя Смільгіні Воран.

МНЕ′ЙШЫ *прым.* 1. *выш.* да ма́лы́ 1. *Аса мнейшая ад пчалы. І ў сцяне мнейшае шуло. На мнейшых рэчках парагароткі ставілі.* Быстрыца Астр. 2. Маладзейшы. *Гэты сын мнейшы.* Кемялішкі Астр. *Мнейшыя дзевачкі.* Старыя Трокі Трак. *Мнейшая дачка ў Вільня.* Стральцы Шальч.

МНЕ′Я *ж.* Жанчына, якая мне лён. *Мнея лён мне.* Жыдзевічы Іўеў.; *парайн.* літ. *mynė́ja* 'тж'.

МНО′ГА, МНО′ГО, МНЫ′ГО *прысл.* 1. Шмат. *Многа ўзята* [матэрыялу], *дзве с палавінай мэтры.* Ёдлавічы Брасл. *Тут многа чаго нашоў бы.* Саланое Віл. *А многа ж там трэба?*

Гемзы Шальч. *Зямлі многа меў.* Стральцы Шальч. *Кароў многа імеецца.* Буйвіджай Вільн. *Кала лёну многа работы было.* Канюкай Вільн. *Качок у яго много.* Вострава Маст. *Жыв дід і баба, посіялі воны проса мныго.* Сасноўка Пруж. *На спаса я так була мныго взяла.* Дзмітравічы Кам. 2. Часта. *С пяруна бывая пажару многа.* Магуны Паст. 3. Значна. *Многа вышэй за бацьку.* Пярэкі В.-Дзв. *Мая работа была многа лехча.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там многа ляхчэй пражыць.* Кураполле Паст. ▽ *У бога — дней многа.* Малі Астр.

МНУЖЫЭ′НЬ *ж.* Мноства. *Скуоль вас такая мнужыэнь взяласе?* Курашэва Чыж.

МНУО′СТВО *н.* Тое ж, што і м н у ж ы э́ н ь. *На празнік мнуоство люді прышло.* Курашэва Чыж.

МНЯК *м. заал.* Мянтуз. *Мняк — гэта налім, яе яўрэі ня елі, таму што лускі нету, ні кашырна.* Збляны Лід.

МО І, МО′ЖА, МО′ЖЫ, МО′ЖЭ 1. у знач. *пабоч.* Магчыма. *Мо ні ў тым гаду.* Снягяны Смарг. *Мо тысяча хат.* Солы Смарг. *Мо месяц часу.* Старыя Трокі Трак. *Можа, дзе-нібуць трафіця яяк.* Солы Смарг. *Можа, я не прыеду.* Рагулішкі Даўг. *Можа, сто гактараў.* Швэды Вільн. *Можэ, скуль прыехаўшы.* Канюкай Вільн. *Можэ, будэ і погода.* Смаляніца Пруж. 2. у пытальным сказе з адценнем просьбы. *Можа, малака прынясці?* Старое Сяло Зэльв. *Можы, вы плоха жывіцё із-за нас?* Міцкавічы Смарг.

МО ІІ *займ.* Мы. *Мо тудэ ходэлэ.* Субаты Драг. *Мо йіздылэ вчора в Дорогэчынь.* Таракань Драг.

МО′ВА *ж.* 1. Размова. *От моее мовы ў голове закружылосо.* Смаляніца Пруж. 2. Здольнасць гаварыць. *Мову атняло ей, не атышла, ці яе ветрам схваціла.* Валынцы В.-Дзв. ▽ *Ні мовы, ні гловы: не даб′ессе толку.* Гемзы Шальч.

МО′ВАЧКАМ *прысл.* Моўчкі. *Сядзіць мовачкам.* Мярэцкія Глыб.

МО′ВІЦЬ *незак.* 1. У выразе: *Мовіць пацяры, малітву* — маліцца. *Наш дзет мовіў пацяры.* Груздава Паст. *Даўней малітвы мовілі. Паўначá думала назат ісці, пацяры, якія ўмела, мовіла.* Курaполле Паст. *Пацеры мовіць.* Чычалі Швянч. 2. Гаварыць. ▽ *Яна ёй мовіць: «Соль у вочы, галавешка ў зубы, рох памыш нох!»* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *mówić* 'тж'.

МО′ГАЛЬНІК *м.* Могілкі. *Завярнуўся ён і пайшоў на могальнік.* Дзесятнікі Валож. *На могальніку былі.* Лоск Валож.

МО′ГІЛКІ толькі *мн.* Тое ж, што і м о́ г а л ь н і к. *Там могілкі былі, але там не хаваюць.* Пацаўшчына Дзятл.

МО′ГЛІЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і м о́ г а л ь н і к. *Могліцы ў вёсцы былі.* Саланое Віл. *Прышлі з моглiцаў.* Бакшты Іўеў. *Калі-то там былі моглiцы, мы называям Ахрэмаўскі палетак.* Стральцы Гродз. *Харошыя моглiцы ў нас тут былі,*

*тут капліца стаяла.* Вецярэвічы Пух. *Нашы могліцы нідалёка.* Любішчыцы Івац. *Гай коло могліц.* Смаляніца Пруж. *На могліцах ховают.* Горск Бяроз. *Хаваюць на могліцах. На старых могліцах няма месца хаваці.* Баброўнікі Гарад.

МО′ДА *ж.*, МО′ДЫ *мн.* 1. Мода. *Яны* [андаракі] *з моды вышлі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяпер кажды моды глядзіць, а дайней хадзілі ў простым.* Кураполле Паст. *Пашыла рубашку па модзе, штодзень носіць, цяпер мода такая.* Лоск Валож. *Яна ў модах знаецца.* Малі Астр. 2. Звычка. *Я і моды ні маю так гаварыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяпер добрая мода: лат не лат — бярэ чамадан і ідзе.* Вецярэвічы Пух.

МО′ДЗІЦЬ *незак.* 1. Прытрымлівацца моды. *Маладая модзіць.* Мсцібава Ваўк. 2. Хітрыць. *Модзіла адна там: вады зачэрпнула — і плаці ёй тры рублі!* Беразіно Докш.

МО′ДЛЫ *мн.* Набожныя людзі. *Былі модлы такія, вельмі мадліліся.* Старыя Смільгіні Воран.

МО′ДНЕ, МО′ДНО, МО′ННА *прысл.* Незвычайна, мудрагеліста. *Было модне.* Грыкені Вільн. *Модне кажуць.* Старое Сяло Зэльв. *Модно гаворыць.* Міратычы Карэл. *Неяк монна гаворацъ, у нас кажуць пасцілка.* Дроздзіна Барыс.

МО′ДНЫ *прым.* Незвычайны. *У мяне натта модная шпулька ёсць.* Малі Астр.

МО′ЖА *гл.* МО I

МОЖЛІ′ВОСТЬ *ж.* Магчымасць. *Нэма можлівості лён добрэ высушыті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *możliwość* 'тж'.

МО′ЖНА 1. *безас.* у знач. *вык.* з *інф.* Ёсць магчымасць. *Хлеба можна купіць. Тэрас просы можна купіць.* Канюкай Вільн. *Можна красіва сказаць.* Судэрва Вільн. 2. Дазваляецца. *Не можна так гаварыць.* Паляцкішкі Воран.

МО′ЖНАСЦЬ *ж.* Магчымасць. *Я жыву вэдлуг сваей можнасці, што я буду завідаваць другім!* Солы Смарг.

МО′ЖЫ, МО′ЖЭ *гл.* МО I

МО′ЗАК *м.* 1. Галаўны мозг. *Холадно, аш мозак баліць.* Сакаляны Сакол.; *гл.* м а з ґ і. 2. Касцявы мозг. *Косць гэту разбіваюць, а ў сярэдзіне мозак.* Баброўнікі Гарад.

МО′ЗҐІ *гл.* МАЗҐІ′

МОЙ *займ.* Мой. *Да маго бацькі прыехаў брат.* Паляцкішкі Воран. *Я чую голас маго брата.* Парэчча Гродз. *Выходзіць з лесу парцізан і кліча яго, маго брата, жаны родны брат.* Каўняны Гродз.

МО′КЛЫ *прым.* Мокры. *Моклая палена з вады дасталі.* Жылі Іўеў.

МО′КРАЦЬ *ж.* Макрата. *Мокраць такая, цяжба.* Магуны Паст. *Такая мокраць!* Граўжышкі Ашм.

МОКРО′ *гл.* МАКРО′

МО′КРЫ *прым.* 1. Гразкі. *Мокра дарога.* Вялікія Баяры

Шчуч. 2. Мокры. *Чого ты вышла з мокрою головою?* Смаляніца Пруж. 3. Прамоклы. *Мокрая, мокрая — што з вады.* Саланое Віл. 4. Дажджлівы. *Былі мокрыя гады.* Граўжышкі Ашм. 5. у знач. *назоўніка мо́крае н.* Варанае. *Жывот ужо паўнейшы, мокрага паеўшы.* Альхоўка Навагр. ◇ *Мокрая курыца* — пра нерашучага чалавека. *Ён — мокрая курыца, баіцца. Як мокрае гарыць* — вельмі марудна рабіць. *Ты робіш, як мокрае гарыць.* Малі Астр.

МО'КЦІ *незак.* Мокнуць. *Конь будзіць мокці пасля ночы.* Саланое Віл.

МО'ЛАДАСЦЬ, МО'ЛАДАСЬ *гл.* МАЛАДО'СЦЬ

МО'ЛАДДЗЮ у знач. *прысл.* У маладыя гады. *А прышлося мне моладдзю слёзы ліці.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МО'ЛАДЗЕШ *гл.* МАЛАДЗЯ'Ж

МО'ЛАННЯ *ж.* Маланка. *Моланння спаліла, чорныя арэхі, пустыя.* Мярэцкія Глыб.

МО'ЛАНЬ *ж.* Тое ж, што і м о́ л а н н я. *Молань светавая як жыгніць!* Валынцы В.-Дзв.

МО'ЛАТ *м.* Вялікі цяжкі малаток. *Молатам гоняць прэнт, кап прабіць скалу.* Гемзы Шальч.

МО'ЛАТЫ *дзеепрым.* 1. Змолаты. *На́праста рош молата.* Філіпаўцы Красл. 2. у знач. *прым.* Размолаты. *Гэты молаты перац.* Вялікія Баяры Шчуч.

МОЛО'ДУШКА *гл.* МАЛО'ДУШКА

МОЛОДЫ' *гл.* МАЛАДЫ'

МОЛЬ *ж.* і *м.* Моль. *Моль выляцела.* Стральцы Гродз. *Моль адзежу праядая.* Дзяніскавічы Ганц. *Моль воўну выяў.* Ракаўскія Швянч. *Моль — ён адзежу есць.* Любішчыцы Івац. *Шмат як молі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Многа молей.* Лоск Валож. ▽*Кап цябе моль з'ела!* Руднікі Шальч.

МО'ЛЬКА *ж.* Малёк. *Молька маленька, вывелась із ікры, а вырасце вялікая рыба.* Парэчча Гродз. *Усякая рыба плавая: піскуры, акуньчыкі, плоць, молька.* Стральцы Гродз.

МО'МЛЯ *ж.* і *м.* Той, хто гаворыць вельмі ціха, незразумела. *Момля такая, мурмыча сабе пад нос, не поймяш што.* Мсцібава Ваўк.

МО'НДРЫ *прым.* Мудры, разумны. *Пан падумаў, што іна натта мондрая.* Русакі Паст. *Ён мондры вельмі.* Гемзы Шальч., Міратычы Карэл. *Мондрая дзеўчына, хоць куды!* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *mądry* 'тж'.

МО'ННА *гл.* МО'ДНЕ

МО'НЧКА *ж. устар.* Цукар-пясок. *У нас колісь не казалі цукор, але мончка. Мончку куплялі на фунту.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *mączka* 'мука дробнага памолу'.

МОР *м. устар.* Павальная смерць. ▽ *Ах, кап цябе мор сабраў!* Рыбчына Віл.

МО'РВА *ж. бат.* Шаўковіца. *Морва расце, настойка з яе*

*хароша, ягады морвы растуць на кусце.* Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *mõras* || *morva* 'тж'.

МОРГ, МОРХ, МОРК *м.* Старая зямельная мера (0,71 га). *Адзін — морх гаварый, а другі — гоні, атсюль і Смургоні.* Сасноўка Смарг. *Маргі былі ў паноў, паўтары морга — дзесяціна.* Мсцібава Ваўк. *Морк жыта сажаў.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *morg* 'тж'.

МО'РГАВА *ж. бат.* Морква. *Як тую морґаву палоць? Морґава расце.* Жодзішкі Смарг.

МО'РГАЎКА, МО'РКАЎКА *ж.* Тое ж, што і м о́ р ґ а в а. *Красненькая свойская морґаўка карнаценькая, а ёсь быдловая, жоўтая, светлая.* Курраполле Паст. *Робяць паштэт з морґаўкі ці творагу.* Жодзішкі Смарг. *Па моркаўку палезла ў грады.* Валеўка Навагр.

МО'РГВА *гл.* МО'РКВА

МО'РДА *ж.* 1. Пярэдняя частка галавы ў жывёлін. *У каня морда. Адвярні морду, сена кіну.* Дакудава Лід. 2. *груб.* Твар. *Палучыш ты па мордзе!* Саланое Віл. *Са злосці морда скажут.* Рагулішкі Даўг. *Ясюк, Стасюк, дуй яму ў морду!* Малі Астр. *Твар, морда, ліцо — то всё одно. Морду наставыла!* Дзмітравічы Кам.

МОРК *гл.* МОРГ

МО'РКА *ж.* Тое ж, што і м о́ р ґ а в а. *Некалі лён выполвалі, як морку. Была работка зрабіць: морку выбраць.* Альхоўка Навагр. *Дасць моркі.* Мсцібава Ваўк. *Морка расце добра.* Вострава Маст.; *парайн.* літ. *morkà* 'тж'.

МО'РКАЎКА *гл.* МО'РГАЎКА

МО'РКВА, МО'РГВА, МО'РХВА *ж.* Тое ж, што і м о́ р ґ а в а. *Морква стаяла на полі.* Солы Смарг. *Іду палоць моркву.* Крэва Смарг. *Моркву на градах сеялі.* Стральцы Гродз. *На морґву давай пайдзём.* Груздава Паст. *Морґвы не сею.* Парэчча Гродз. *Сэрца ў морхвы.* Быстрыца Астр. *Два сарты морхвы: кармавая і сталовая. Мышы паелі морхву. Іду палоць морхву.* Крэва Смарг. *Морхва расце.* Гемзы Шальч. *Морхва не парасла.* Старыя Трокі Трак.

МОРХ *гл.* МОРГ

МО'РХВА ПАЛЬНА'Я *ж. бат.* Маркоўнік. *Морхва пальная на морхву пахожа.* Старыя Смільгіні Воран.

МО'РШЧАНЫ *прым. перан.* Сабраны ў зборку. *Моршчаную* [спадніцу] *пашыла, у кліны, шырокая.* Старыя Трокі Трак.

МО'РШЧКІ *мн.* Маршчыны. *Моршчкі на твары.* Старыя Смільгіні Воран.

МО'РШЧЫ *гл.* МА'РШЧЫ'

МО'РШЧЫНЫ *гл.* МАРШЧЫ'НЫ

МО'РШЧЫЦЦА *незак.* 1. Моршчыцца. *Моршчыцца, мар-*

*шчын будзе много.* Сакаляны Сакол. 2. *перан.* Рабаціць. *Вада моршчыцца, як віцярок павеіць.* Валынцы В.-Дзв.

МОСТ *м.* 1. Мост. *Мост добра зроблены. З моста сцешка заверня.* Рыбчына Віл. *Мост на рэцы.* Кемялішкі Астр. *Проста з моста і скінуўся ў воду.* Гемзы Шальч. *Каля моста тую рэку засыпалі.* Альхоўцы Лях. 2. Падлога. *Мосту ў хаці нет.* Лісна В.-Дзв. *Масты ў дамах пакрашаны.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мост мыла і шчэпку ў паліц усадзіла.* Пярэкі В.-Дзв. ∇ *Ты тут патрэбны, як у масце дзюра.* Малі Астр.

МО'ТАК *м.* Маток. *Тры шпулі ніток матаецца ў мотак.* Лука Нараўк.

МО'ТАР *гл.* МАТО'Р

МО'ТАЧКІ *мн.* Анучкі, якімі закручвалі ногі нябожчыка. *Мотачкамі закручвалі ногі мёртваму.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Кап цябе ў мотачкі абулі!* Дзяніскавічы Ганц.

МО'ТАШНА *безас.* у знач. *вык.* Тое ж, што і м л о́ с н а. *Хадзіць моташна.* Рыбчына Віл.

МО'ТУС *гл.* МАТУ'З

МОЎКЛІ'ВЫ *гл.* МАЎКЛІ'ВЫ

МО'ЎЧКАМ *гл.* МАЎЧКО'М

МО'ЎЧЫКАМ *прысл.* Моўчкі. *Мой пашоў моўчыкам.* Бакшты Іўеў.

МО'ХАЦЦА *незак. экспр.* Марудзіць. *Што ты там мохаесся доўга? Я мохаўся, мохаўся, пака сабраўся.* Гемзы Шальч.

МОЦ *ж.* Сіла, здароўе. *Якая ў дзяцей моц!* Ністанішкі Смарг. *Дайней старыя мелі моц.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *moc* 'тж'.

МО'ЦНА, МО'ЦНО, МО'ЦНЭ *прысл.* 1. Вельмі. *Моцна баліць нага, а сена нада грабіць.* Ёдлавічы Брасл. *Моцна вялікіх быкоў няма.* Магуны Паст. *Як моцна вымакла: адаралі і адсейвалі.* Быстрыца Астр. *А ён моцна цікавы, ён дужа любіць гаварыць.* Рагулішкі Даўг. *Рана моцна ў касцёл едзім.* Ракаўскія Швянч. *Моцно ў плячах забалела.* Пацаўшчына Дзятл. *Бліскае моцно, дошч будэ. Так чуць у ногі моцнэ.* Смаляніца Пруж. 2. Гучна. *Закрычэў моцна.* Лоск Валож. *Як нап'юса, то моцно смяюса.* Кнышэвічы Бабіц. 3. З сілай. *Дзядука не моцна білі.* Грыкені Вільн. *Не так моцна сцісня.* Жылі Іўеў. *Я біў моцно цэпам.* Крынкі Крын. 4. Добра. *Моцна паспала пат кустам.* Лоск Валож. *Моцна распісацца ня ўмею.* Жодзішкі Смарг. 5. Нямоцна. *Паляц ня хіляецца моцна.* Рагулішкі Даўг. 6. Цяжка. *Ён хварэў моцна, моцна, думаў — памрэ.* Парэчча Гродз. ◇ *Моцна ў галаву (не) браць. Я моцна ў галаву не бяру.* Гемзы Шальч. *Моцна ў памяці* — запомніць. *Мне гэта моцна не ў памяці.* Рагулішкі Даўг.

МО'ЦНЫ *прым.* 1. Здаровы, дужы. *Ён моцны чэлавек, доўго жые.* Сакаляны Сакол. 2. Крэпкі. *Моцны марос на двары.* Галубы Маст.

МОЧ *ж.* 1. Мача. *Моч пашла па-за скуры.* Кудзялянцы Шальч. 2. Макрата. *Яна не так баяласа мочы.* Дзяніскавічы Ганц.

МО́ЧА *ж.* Тое ж, што і м о ч 1. *Сваёй мочай памыць і перастане балець.* Солы Смарг. *Мочаю сваею прыкладала.* Стральцы Гродз.

МО́ЧАЛА, МО́ЧУЛА *н.* Мачулішча. *Мочала — там лён мачылі, клалі маклякі — палены мокрыя — наверх, націснуць.* Альхоўка Навагр. *Мочула — дзе лён мачылі.* Жыдзевічы Іўеў.

МО́ЧАНЫ у знач. *прым.* Прыгатаваны шляхам мачэння. *Мочаны лён купцы лепяй куплялі на палотны.* Магуны Паст. *Гультаю—гарох мочаны.* Бакшты Іўеў. *Мочаныя грыбы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мочаны і сланы лён.* Мсцібава Ваўк. *Мочаны — белы лён, сланы — сівы лён.* Лука Нараўк.

МО́ШАСТ, МО́ШЫСТ *м.* Плюш. *Бабы шылі з мошасту сабе.* Быстрыца Астр. *Армячкі шылі мошастам абложана ў падале.* Саланое Віл. *Бурнос бабам шылі, мошастам паабшываны.* Мярэцкія Глыб. *З мошысту пашыла пальто.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *māšastas* 'аксаміт'.

МРАЖЫ́ЦЬ *незак.* Імжыць. *Дожджык мражыў.* Альхоўцы Лях.

МРУК *м. экспр.* Маўклівы, негаваркі чалавек. *С такім мруком нэ договорыссе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *mruk* 'бурклівы чалавек'.

МРЭЦ *м.* Нябожчык. *Мрэц у хаця.* Малахоўцы Бар. *Дзе мрэц, не хадзіла глядзець, баюса.* Стральцы Гродз. *Мрэц — умерлы чалавек.* Мсцібава Ваўк. *Не пайду глядзець на мярца, баюса.* Вострава Маст. *Мерца няслі.* Старое Сяло Зэльв. *Я ня пайду, там мрэц, страшна.* Тухавічы Лях.

МСЦІ́ЦЕЛЬНЫ *прым.* Помслівы. *Мсціцельны чалавек усягды мсціцца.* Рыбчына Віл.; *парайн.* руск. *мстительный* 'тж'.

МСЦІ́ЦЦА *незак.* Помсціць. *Ён усягды мсціцца.* Рыбчына Віл. *Сын усё мсціцца.* Валеўка Навагр.

МУГЛА́ТЫ *прым.* Бязрогі. *Муґлата карова — без рох.* Дзяніскавічы Ганц.

МУДА́К *м. лаянк.* Дурань. *Мудака знайдуць якога-небуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вот дзе мудак, гаворыць абы-што.* Ракаўскія Швянч. *Мудак ты! І болей нічога не скажаш.* Пацаўшчына Дзятл.

МУДАРЭ́З, МУДАРЭ́С *м. бат.* Разак. *Мударэс калюшчы, у вазёрах расце, на мочулах. Набрала шмат мударэзу, граблямі цягаюць і свіня кормяць. Мударэс пахош на альяс, і калюшачкі такія, натта свіня елі.* Бакшты Іўеў.

МУДЗІ́ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Што ты мудзіш?* Альхоўцы Лях.

МУДРЭ'Й *прысл.* 1. Лепш. *Цяпер у калхозя людзі мудрэй жывуць.* Крэва Смарг. 2. Больш складана. *Калыскі былі, вага з дзерава, а цяпер мудрэй, ужэ на пружыне.* Чуркі Ашм. *А што ш ты будзіш рабіць мудрэй?* Чапаеўскі В.-Дзв.

МУДУ'К *м.* Капшук. *Мудук рабілі на махорку. У дзеда мудук быў.* Жылі Іўеў.

МУДЫ' толькі *мн. анат.* 1. Машонка. *Бараноў муды выраблялі і табаку сыпалі. Насыпаў табакі паўныя муды.* Малі Астр.; *параўн.* руск., укр. *мудо* 'тж' (Фасм., II, 669—670). 2. Мужчынскія палавыя органы. *Муды ў чалавека, у сабакі, у ката, ува ўсіх.* Вузла Мядз.

МУЖ, МУШ *м.* Муж. *Мужа токам забіла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яна з другім мужам была жаната.* Парэчча Гродз. *Бэз мужа жыю, муш памёр.* Старыя Трокі Трак. ▽ *Муш — то уш, не заб'е, то ўкусіць.* Паляцкішкі Воран. *Няхай будзя муш, як сані, абы я за ім — пані.* Малі Астр. *Муш — не вуш, а кроў выссе.* Рыбчына Віл.

МУ'ЖАВЫ *прым.* Мужаў. *Прыедзя мужава сястра.* Дакудава Лід.

МУ'ЖНІ *прым.* Тое ж, што і м у́ ж а в ы. *Мужнія бацькі мелі зямлю. Радзіцялі мужнія.* Солы Смарг.

МУЖЧЫ'ЗНА, МУШЧЫ'ЗНА *м.* Мужчына. *Мушчызнам шылі штаны самі. Армяк шылі мушчызне на начлех.* Быстрыца Астр. *Мушчызна аткапаў яму.* Граўжышкі Ашм. *У каго былі мушчызны, тым добра было. Каліась мушчызны галіліся, цяпер гавораць брыцца.* Солы Смарг. *Веля мушчызнаў палопала* [памёрла]. Старыя Смільгіні Воран. *Другія мушчызны бапскай работай не займаюцца. Гэты мушчызна здалёк прыехаўшы.* Паляцкішкі Воран. *С кужалю мушчызнам шылі кашулі.* Старыя Трокі Трак. *Яна за мушчызну і за бабу робя.* Гемзы Шальч. *Адзін хворы мушчызна еў гáдзіну, у булёня зварыў.* Руднікі Шальч. *Мушчызны вараць грыбы.* Стральцы Шальч. *Тры мушчызны ў іх было. Тэрас ходзяць* [адзяваюцца] *мушчызны, як баба.* Кудзялянцы Шальч.

МУЖЧЫ'НА, МУШЧЫ'НА *м.* Тое ж, што і м у ж ч ы́ з н а. *Якія мушчыны цяпер пашлі?!* Солы Смарг. *Без мушчыны не зробіш.* Лоск Валож. *Там два мушчыны сядзеўшы.* Паляцкішкі Воран. *Свіня мушчынаў ня любяць.* Новыя Мацалі Варэн. ▽ *Казала тая цыганка: мушчына абы харашэйшы за чорта — то і добра.* Ахрэмаўцы Брасл.

МУЖЫ'К *м.* 1. Тое ж, што і м у ж. *Мужык мой быў благі.* Саланое Віл. *Мужык мой памёр гадоў пяць.* Старыя Трокі Трак. *Жыла бэз мужыка.* Стральцы Шальч. *Сястра майго мужыка мне прыходзіцца залвіца.* Дакудава Лід. *Трэба з такім мужыком жыць, трэбо абмуць і дзяцей пладзіць.* Кузьмічы Люб. *Прыяжджалі жанкі з мужыкамі. Хай прыдзе мужык!* Парэчча Гродз. *Майго мужыка брат прыехаў.* Мала-

хоўцы Бар. *Хведар — мой мужык.* Альхоўцы Лях. *Много выежджывае мужыкоў, жонкі з дзецьмі дома.* Смаляніца Пруж. *Буць маім мужыком. Пайду, а то мужык сядзіць у цёмнуй хаці.* Крынкі Крын. *Трэба сказаць гэто братаві і мужыкеві.* Верхлессе Сакол. *Мужык мой на сем лет ад мяне малочшы. А мужыка маеце?* Баброўнікі Гарад. 2. *устар.* Селянін. *У многіх мужыкоў ня было зямлі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мужыкам мало було зымлі, найбыйш тры гіктар.* Дзмітравічы Кам. 3. Мужчына. *Рукамі раней рвалі лён, абівалі пранікамі, мачылі, мужыкі выцегвалі, расцілалі.* Яніна В.-Дзв. ▽ *Мужык дзяржыць адзін вугал у хаце, а жонка — тры. За харошым мужыком трасець жонка кунбяком. Добры мужык — шануй яго, благі мужык — гадзі яму, яму нада змоўчыць. Хоць мужык, як лапаць, абы за ім не плакаць.* Кураполле Паст. *Усе мужыкі — са днэй мукі.* Саланое Віл. *У добрай жонкі і мужык добры.* Вузла Мя́дз. *Мужыку праўды не кажы і цалай кульшы не пакажы.* Парэчча Гродз. *Вазьмі мужыка — ды прыкусі языка.* Кузьмічы Люб.

МУЖЫКО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і м у́ ж а в ы. *Залоўка — мужыкова сястра.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мужыко́вага брата сын прыходзіў.* Альхоўка Навагр. *Мужыковое сэстрэ дочка.* Смаляніца Пруж.

МУ'ЖЫНА *ж.* Муха. *Сядзелі мужыны, не магу есці хлеп.* ▽ *Сядзяць, як мужыны.* Старыя Трокі Трак.

МУЖЫЧО'К *м. памянш.* да м у ж ы́ к 1. ▽ *Добры ечмянёк — яго трэба жаці, благі* [добры] *мужычок — яго трэба шанаваці.* Саланое Віл.

МУЗА' *ж.* Іл. *Муза, як жыр.* Малахоўцы Бар. *У тую музу сунуў паленам.* Пасека Ст.-Дар.

МУЗДА'К *м.* Вітка. *Змудзіваюць плыт муздаком.* Лісна В.-Дзв.

МУЗДЗІ'ДЛА *н.* Цуглі. *Муздзідла муздаць каня.* Навікі Лудз.

МУЗО'ЛЬ *гл.* МАЗО'ЛЬ

МУЗЫ'КА *м.* Музыкант. *Музыку нанімаюць іграць.* Асавец Віл. *Дайна музыкаў мала было. Тата музыка быў.* Саланое Віл. *На фэст музыкаў адусюль наехала.* Дакудава Лід. *Музыка вот добра іграець.* Ністанішкі Смарг. *На музыку акончыўшы.* Паляцкішкі Воран. *Музыкі граюць марша для іх* [маладых]. Новікі Гродз. *Паехаў на вяселле музыкам.* Пасека Ст.-Дар. ▽ *А музыцы без языцы.* Ахрэмаўцы Брасл.

МУЗЫКА'НТ, МУЗУКА'НТ *м.* Тое ж, што і м у з ы́ к а. *Яны харошыя музыканты.* Гемзы Шальч. *Сын быў музукант.* Індра Красл.

МУКА' *ж.* ◇ [Зроблены] *з адной мукі* — падобны адзін на другога. *Мужыкі — з аднэй мукі.* Саланое Віл.

МУКА'ННАЯ *н. кулін.* у знач. *назоўніка.* Ежа, прыгата-

ваная з кіслага малака і грэцкай мукі. *Бабуля, нясі муканнага! Мы елі муканная: квасная малако і грачысная мука закалбочана. Ой, смачная муканная!* Гемзы Шальч.

МУКЕ'ННЫ *прым.* Мучны. *Клёцкі — з картошкі, зацерка — мукенная.* Дакудава Лід.

МУЛ толькі *адз. м.* Тое ж, што і м у з á. *У рацэ мул.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як торф, мул, то багніста мейсца.* Старыя Смільгіні Воран. *Піскуры ў мулу хаваюцца. Мутная вада, многа мулу.* Стральцы Гродз. *Рукі ў муле, серы мул, дзе зрой.* Новікі Гродз. *Келбукі па маленькіх рыштоках водзяцца, пры думбле — мул такі.* Старыя Трокі Трак. *Улез купацца і папэцкаўся ў мулу.* Гемзы Шальч. *Мул — гдзе вада наганяя усё: і зямлю, і зелё.* Малахоўцы Бар. *У мул страх улесці, бо там піяўкі.* Баброўнікі Гарад. *Мул з глінай змешаны.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *mùlas* 'тж'; польск. *muł* 'тж'.

МУЛА' *ж.* Тое ж, што і м у з á. *Каля рэчкі мулы нагнала. Мула — нагон усякі з ракі, у разліў наганяе.* Дакудава Лід.

МУЛЁН *м.* Тое ж, што і м л ё н. *Два камені, акаваны абручамі, парпліца і мулён у жорнах.* Старыя Смільгіні Воран.

МУ'ЛІК *м. памянш.* да м у л. *У вадзе камянь мулікам прываліла.* Быстрыца Астр.

МУ'ЛІСТЫ *прым.* Ілісты. *Муліста зямля, дзе зрой. Мулісто дно ў прудох.* Новікі Гродз. *Мулісто дно.* Стральцы Гродз.

МУ'ЛІЦЦА *незак.* Муляць. *Пад галаву, пад бок муліцца, як цвёрдая пападзець што.* Саланое Віл.

МУ'ЛІЦЬ *гл.* МУ'ЛЯЦЬ

МУ'ЛКІ *прым.* 1. Які аплывае, апаўзае (пра зямлю). *Зямля мулкая, ямы німожна выкапаць.* Жылі Іўеў. 2. Тое ж, што і м у́ л і с т ы. *Тут дно мулкая.* Стральцы Гродз.

МУ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Брудны, запэцканы. *Яго мульныя рукі ўкачаў у плавіну.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *mùlinas* 'тж'. 2. Каламутны. ▽ *Мульная вада* [у рэчцы] — *на дождж.* Гемзы Шальч.

МУЛЬТ *м. тэкст.* Мультан. *Мульт мы байку завём.* Шамялі Брасл. *Квіцёк* [кнот] *рабіўся з мульту.* Мачаск Бярэз.

МУЛЬТА'Н, МУЛЬТЫ'Н *м.* Тое ж, што і м у л ь т. *Купіла мультану на плаццячя.* Лісна В.-Дзв. *З мультану шапка.* Вецярэвічы Пух. *Мультын быў. Мультыну купілі на сукенку.* Валынцы В.-Дзв.

МУЛЬТА'НАВІНЬКІ *прым. памянш.* Мультанавы. *Мультанавінькія купіла сукеначкі к восені сваім дзіўчатам.* Кураполле Паст.

МУ'ЛЯ *ж.* Гразь. *Абы мулю большу выкідаем. Прышла ў мулі ўся.* Смаляніца Пруж. *Як улез у мулю!* Ялова Пруж.; *гл.* м у л.

МУЛЯ′К *м.* Мазоль. *На падэшве муляк у мяне сядзіць. Крывавы і вадзяны муляк на назе.* Старое Сяло Зэльв.

МУ′ЛЯ′Р *м.* Пячнік. *Печы рабіў му́ляр.* Солы Смарг. *Му́ляр печ рабіў.* Малахоўцы Бар., Альхоўцы Лях. *Мой сын у Беластоку цяпер му́лярам.* Баброўнікі Гарад. *Прышоў красіць спецыяліста — му́ляр.* Гальшаны Ашм. *Муля́р печы складаў.* Быстрыца Астр. *Муля́р робя печы.* Гемзы Шальч.

МУ′ЛЯЦЦА *незак.* Адчуваць шурпатасць. *Харошае днішча ў цябе, тоненькае, не муляецца.* Дзяніскавічы Ганц.

МУ′ЛЯЦЬ, МУ′ЛІЦЬ *незак.* Націраць. *Бот муляя ногу.* Старое Сяло Зэльв. *Шляя муляе, муляецца.* Вострава Маст. *Ня мулюць сандалы.* Саланое Віл. *Туфіль муліць. Хамут муліць.* Мярэцкія Глыб.

МУЛЯ′Ч *м.* Тое ж, што і м у л я́ к. *Мулячоў панацягаў на руццэ.* Номікі Бабіц.

МУ′МРА *ж.* і *м. экспр.* Тое ж, што і м р у к. *Сядзіць, як мумра, і не акажацца.* Баброўнікі Гарад.

МУМРЫТА′ТЫ *незак.* Мармытаць. *Нішо мумрычэ собі пуд ныс.* Сіманавічы Драг.

МУ′МЫ *мн. дзіцяч.* 1. Вошы. *Чаго скрабеш, мо мумы ў галаве?!* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Малыя дзеці. *Мумы — дзеці малыя называюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *параўн.* літ. *mūtas* 'вош'.

МУНДЗІРЫ′, МУНДУРЫ′ *мн.* ◊ *Бульба з мундзірамі (мундурамі)* — звараная з лупінамі бульба. *Наваруць бульбу з мундзірамі.* Лісна В.-Дзв. *Параная* [бульба] *з мундурамі.* Быстрыца Астр.

МУНДУ′Р *м.* Мундзір. *Мундур — мушчынская марынарка, у польскім войску насілі.* Магуны Паст. *Мундур у ваенных.* Кемялішкі Астр. *У мундуры каўнер пат шыю.* Ракаўскія Швянч. *Стойка ў мундуры.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *mundur* 'тж'.

МУНДУ′РАК *м. памянш.* да м у н д у́ р. *Мундурак харошы купіла яму.* Мсцібава Ваўк.

МУНДУРЫ′ *гл.* МУНДЗІРЫ′

МУР *м.*, МУРЫ′ *мн.* 1. Мураваны будынак. *Муры ў Мінску.* Ракаўскія Швянч. *Жывём у зімных мурох.* Гемзы Шальч. *Такій мур вэлікій!* Азарычы Пін. ▽ *Ён сільны, як мур.* Малі Астр. *Баба, як мур, здарова.* Альхоўцы Лях. 2. Цагляная або каменная сцяна вакол чаго-н. [Касцёл] *быў мурам абнесены.* Валынцы В.-Дзв. *Я за муром слыхала, што гаворыць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* ням. *mur,* лац. *murus* 'сцяна'. 3. Руіны. *Муры замка стаяць.* Кудзялянцы Шальч.

МУ′РАВА *ж.*, МУ′РАВО *н.* Мурава. *На гэнай мураві гусі хадзілі.* Саланое Віл. *Мурава зялёная.* Граўжышкі Ашм. *Дай пасядзям на мураві.* Старое Сяло Зэльв. *Па мураві ходзіць.*

Альхоўцы Лях. *Гэдак зелле высыпала, як тая мурава.* Пацаўшчына Дзятл. *На мураві лежыт корова.* Смаляніца Пруж. *Пайду сяду на мураво, харошая зяленянькая мураво.* Міратычы Карэл. *На мураві бабы гаворацЬ седзячы.* Номікі Бабіц.

МУРАВА′НЫ, МУРО′ВАНЫ *прым.* Зроблены з цэглы або каменю і змацаваны цэментам або глінай. *Стаяў слуп мураваны.* Барок Стаўб. *Мурована хата робіцца з цэглы.* Стральцы Гродз.

МУРАВА′ЦЬ *незак.* Будаваць з цэглы, каменю. *Муруе дом.* Грыкені Вільн. *Муляр печ муравау.* Ракаўскія Швянч.

МУРАВЕ′ЙНІК *м.* Мурашнік. *Муравейнікі платом загараджаваюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ні ступі ў муравейнік.* Асавец Віл. *Муравейнік на купінах.* Лоск Валож. *Муравейнік — дзе жывуць мурашкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мураўё нацягало муравейнік.* Малахоўцы Бар. *Не разбурай муравейнік.* Беразіно Докш. *Муравейнік есць высокі, мурашкі надзелаўшы.* Пасіене Лудз.

МУРАВЕ′ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і м у р а в е́ й н і к. *У муравельніку мурашкі.* Солы Смарг. *Мурашкі жывуць у муравельніку.* Стральцы Гродз. *З муравельніку мурашкі бралі — не памагло. У муравельніку мурашкі.* Гемзы Шальч.

МУРАВЕ′ННІК, МУРАВЕ′НІК *м.* Тое ж, што і м у р а в е́ й н і к. *Муравеннік нацягалі* [мурашкі] *высокі.* Мярэцкія Глыб. *Муравеннік мурашкі строяць.* Жодзішкі Смарг. *Муравенік там бальшы.* Рагулішкі Даўг.

МУРАВІ′НЫ *прым.* Мурашыны. ▽ *Муравіны спірт мурашкі выдзяляюць — будзіць дошч.* Рагулішкі Даўг.

МУ′РАВО *гл.* МУ′РАВА

МУРАЖНЫ′ *прым.* Мурожны. *Муражноя сена сама хароша.* Жодзішкі Смарг. *Муражноя сена з лугавога сенакоса.* Саланое Віл.

МУ′РАК *м.* Прымурак. *Мурак пры печы.* Вялікія Баяры Шчуч.

МУРАЎЁ *зб. н.* Мурашкі. *Мураўё рабачке разныя сабіраюць.* Малахоўцы Бар.

МУ′РАЎКА *ж. памянш.* да м у́ р а в а. *Мураўку есь гусь.* Альхоўцы Лях. *Выйду: мураўка кругом, лес.* Пацаўшчына Дзятл.

МУРАЎНІ′К *м.* Тое ж, што і м у р а в е́ й н і к. *Каралі* [мурашкі] *у мураўніку жывуць.* Новікі Гродз.

МУРАЎЦА′ *ж.* Тое ж, што і м у́ р а ў к а. *Зарастая мураўца. Як калі пратоптаваецца, то мураўца ні расце.* Альхоўка Навагр.

МУРА′ШКА *ж.* Мурашка. *Дзе мурашка будзець, змея не будзіць.* Шкаўна Лудз. *Мурашкі апсякуць ногі.* Кудзялянцы

Шальч. *Баравыя мурашкі куслівыя, жгуць проста.* Беразіно Докш.

МУРА'ШКА-ПУМПА'ШКА *ж. заал.* Божая кароўка. ∇ *Мурашка-пумпашка, калі пагода — то пушчу, а калі дошч — то павешу.* Старыя Смільгіні Воран.

МУРА'ШНІК *м.* Тое ж, што і мураве́йнік. *Мурашнік разваліць той ваш.* Баброўнікі Гарад.

МУРАШЭ'ЧНІК *м.* Тое ж, што і мураве́йнік. *Мурашкі ў мурашэчніку, як капец, вялікі.* Дакудава Лід.

МУ'РЗА *м.* і *ж.* Той, хто брудны. *Мурза ты!* Ахрэмаўцы Брасл.

МУРЗАВА'ТО *прысл.* Хмарна. *На небе мурзавато, грудавато.* Стары Свержань Стаўб.

МУРЗАВА'ТЫ *прым.* Бруднаваты. *Мурзаватая цётка прышла.* Малі Астр.

МУРЗА'ТЫ *прым.* 1. Запэцканы, брудны. *Што, я мурзатую дам* [посцілку]!? Ёдлавічы Брасл. *Мурзатыя ногі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каптан чорны, мурзаты. Мурзато ўсё ляжыць. Мурзата лошка.* Альхоўцы Лях. 2. Непрыбраны. *Не была хата мурзата.* Альхоўцы Лях.

МУРЗА'ЦІЦЦА *незак.* Хмарыцца. *Мурзаціцца неба, хмара ўстае с хвойніка, зацягвае хмарамі неба.* Дзяніскавічы Ганц.

МУ'РКАЦЬ *незак.* Ціха вурчаць (пра ката). *Котка муркая, курну вядзе.* Гемзы Шальч. *Котка муркаець, пацеры мувіць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *mur̃kti, murkúoti* 'тж'.

МУРЛА'ТЫ *мн.* Верхні вянок зруба хаты. *А мурлаты ложацца пат страпіла.* Лісна В.-Дзв. *Пад верхам, як ставяцца страпілы, ложаць мурлаты.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мурлаты паследнія кладуцца, а патом — кроклы.* Індра Красл. *Над балькамі мурлаты кладуць.* Беразіно Докш. *Як мурлаты зогніют, то і клуня розваліцце.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *murłat* 'тж'<ням. *mūrenlatte.*

МУРМЕ'ЛЬ *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і мрук. *Такі мурмель, маўчыць. Яна мурмель, усё маўчыць, бывая, скажа цішка, як з мяшка. Тая дачка, як мурмель, галаву ўбіла.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *mùrma* 'хто бурклівы'.

МУ'РНІК *м.* Тое ж, што і му́ля́р. *Ён мурнік харошы.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *mūrinykas* 'тж'.

МУРО'ВАНЫ *гл.* МУРАВА'НЫ

МУРО'Г, МУРО'Х *м.* 1. Сухадольная трава высокай кармавой якасці. *Мурагу накасіў. Хай躯 кося мурох!* Граўжышкі Ашм. *На сухім месці мурох.* Сасноўка Смарг. *Чысты мурох харошы. Сухі мурох нада забіраць.* Гемзы Шальч. *На буі мурогу накасіў.* Беразіно Докш. *Дзе мурох, тое сена даваць каню, то будзе сыты, што ад аўса.* Пацаўшчына Дзятл. *Мурох больш па бугарочку.* Валеўка Навагр. *У нас мураге.*

*Добрая трава расце, пара касіць мурох.* Вецярэвічы Пух. 2. Сена з сухадольнай травы. *За буракі нада даць мурогу.* Ёдлавічы Брасл. *Мурох — сена конская.* Старыя Трокі Трак. *Мурох — сена с поплава.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *І трава — мурох, і дзяўчына, як пірох.* Сасноўка Смарг.

МУРО'ЖНАЯ, МУРО'ЖНАЕ СЕ'НА *н.* Тое ж, што і м у р ó г. *Мурожная сена прывёс.* Граўжышкі Ашм., Быстрыца Астр. *У лашчыні расце асака, а на грудзі расце мурожная сена.* Альхоўка Навагр. *Сена мурожная каля рэчкі.* Гайна Лаг. *Мурожная сена з дзерванов, а з балота — балоціна.* Рагулішкі Даўг. *Мурожнае сена едзят лучшэ каровы.* Скрыпчына Лудз.

МУРО'ЖНЫ *прым.* На якім расце мурог. *Мурожна лонка.* Рыгалоўка Ліпск.

МУРТУ'ШКА *ж.* Мачанне. *Муртушку рабілі: усыпіш у ваду мукі, алівы ўльеш — і бліны мачаем.* Старыя Трокі Трак.

МУРЦО'ЎКА *ж. кулін.* 1. Цура. *Хлеба пакрышуць, цыбулі, солі і халодная вада — гэта мурцоўка; калі ёсь, дабаўлялі поснага масла.* Лоск Валож. *Мурцоўку так робяць: засалодзіць вады, хлеба накрышыць — і мурцоўка.* Вузла Мядз. *Мурцоўка — хлеп, вада, соль.* Масішкі Красл. *У ваду лілі поснага масла, крышылі хлеп і зовім мурцоўка.* Рагулішкі Даўг. 2. Каша з ячных круп. *Мурцоўкай называлі панцакову кашу.* Жылі Іўеў.

МУРЦЫ' толькі *мн.* Тое ж, што і м у р ц ó ў к а 1. *Мурцы салоткія і салёныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мурцы называлі. Мурцы зрабіла і ў апаціт пакушала.* Саланое Віл. *Мурцы робілі ў пост: хлеба накрышыць, солі, вады ўліюць.* Рагулішкі Даўг.

МУРЧА'ЦЬ, МУРЧЭ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і м ý р к а ц ь. *Кошка мурчыць.* Малахоўцы Бар. *Котка мурчыць, каля нох апціраецца.* Саланое Віл. *Мурчыць кот — пацеры мовіць кот.* Чычалі Швянч. *Кот мурчыць, як лашчыцца, есці хоча, трэцца каля нох.* Мсцібава Ваўк.

МУРШАВА'ТЫ *прым.* Гнілаваты. *Муршаватае дзераво, трухлявая, у сярэдзіне згнітая.* Мсцібава Ваўк.

МУРША'ВЫ *прым.* Гнілы. *Гэта дзеравіна муршава, нічого ні зробіш. Гэты гот много картоплі муршавай.* Мсцібава Ваўк.

МУ'РШЧЫК *м.* Тое ж, што і м ý л я́ р. *Добры ён быў муршчык.* Ёдлавічы Брасл.

МУ'РШЫНЫ *мн.* Парахня. *Муршыны разляцеліся з трухлявага дзерава.* Мсцібава Ваўк.

МУС *м.* Прымус. *Пад мусам ехаў.* Навасёлкі Свісл. *Нібы мус быў?* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *mus* 'неабходнасць, патрэба'.

МУ'СІ, МУ'СЕ, МУ'СЯ *пабоч.* Мабыць, відаць. *Брала, му-*

*сі, рубаху*. Кураполле Паст. *Мусі, купіла нешта. Мусі, мокра на дварэ.* Кемялішкі Астр. *Мусі, пяты рок унуцы.* Парэчча Гродз. *Мусі, будзя ўжо дванасця гадзін.* Стральцы Шальч. *Мусі, я мела дзесяць рублёў.* Гемзы Шальч. *Вялікая, мусі, гаспадарка у вас, дзядук?* Буйвіджай Вільн. *У цябе, мусі, е гачка?* Пацаўшчына Дзятл. *Яна хацела паехаць да Манькі, але, мусі, не паедзя.* Альба Нясв. *Немка, мусі, будзе.* Любішчыцы Івац. *Мусі, на пычі буў.* Дзмітравічы Кам. *Грэчку, мусі, мала хто сее.* Лука Нараўк. *Мусе, восемдзесят гадоў.* Старыя Трокі Трак. *Ты, муся, баісся, кап я ні памёрла.* Валынцы В.-Дзв. *Баліць нага, яна, муся, паляжыць.* Вязынка Маладз. *Янак, муся, пачуў.* Лоск Валож.

МУ'СІБЫЦЬ *пабоч.* Тое ж, што і м у́ с і. *Мусібыць, ні вернецца.* Альба Нясв.

МУ'СІЦЬ *незак.* 1. Быць вымушаным, абавязаным зрабіць што-н. *Я хворая мусіла ўставаць і варыць ім есці.* Саланое Віл. *Ён муся ношку завязаць.* Кемялішкі Астр. *Мусіш на прыпале дзяржаць* [дзяцей]. [Жонка] *мусіць служыць мужу, сям'і, дзіцяці.* Граўжышкі Ашм. *Мусілі пакінуць хату.* Гальшаны Ашм. *Ты мусіш купіць і накарміць дзяцей, а ён не глядзіць.* Малі Астр. *Мусіла работаць. Мусіла ўніс ставіць, кап зімноя малако было.* Солы Смарг. *Ён муся кончыць школу. Нешта стала с каровай, я мусіла прадаць яе.* Дакудава Лід. *Мусіць ісці мучыцца.* Лоск Валож. *Мусіць за дзень налажыць стох сена.* Паляцкішкі Воран. *Мусяла хадзіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мусіў і ён ехаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мушу жыць.* Старыя Трокі Трак. *Мусіла памагаць ей. Ты мусіш узяць на кватэру.* Гемзы Шальч. *Яны мусілі ўсё спрадаць.* Кудзялянцы Шальч. *Сані мусяць быць падбітыя, бо дзерава здзярэцца — мусіш паткаваць.* Руднікі Шальч. *Фурман мусе быць на ко́ньцы.* Швэды Вільн. *Я мушу спарыць бульбы.* Парэчча Гродз. *Яшчэ невелькая была, я мусіла паліць, варыць. У мяне ўмярла тэсцявая, я мусіла пахаваць.* Новікі Гродз. *Мусяяш стаці пры іх.* Навасёлкі Свісл. *Ты мусіш гэта зрабіць. Мусіла браць яго с сабой на поле.* Альхоўка Навагр. *Мусяў прыйсці.* Вострава Маст. *Ты мусяш рабіць.* Міратычы Карэл. *Таквеля работы мушу рабіць.* Альхоўцы Лях. *Мусіла развесці куркі.* Пасека Ст.-Дар. *Мы мусілі его выкінуці.* Вялікі Краснік Пруж. *Ні хочучы мусяў зрабіць.* Номікі Бабіц. *Мо якаясь прычына мусяла быць.* Крынкі Крын. *Зварыла страву, мушу з'есці.* Кнышэвічы Бабіц. ∇ *Хто нарадзіўса — уміраць мусіць.* Новікі Гродз. *Кожды чалавек мусіць умерці.* Сакаляны Сакал. *Аднэй бяды мала — муся быць некалькі.* Малі Астр. 2. *пабоч.* Тое ж, што і м у́ с і. *Ён, мусіць, сам гэта здзелаў.* Пярэкі В.-Дзв. *Нада, мусіць, перш курам даць.* Груздава Паст. *Мусіць, яна-воркам бітая.* Солы Смарг. *Мусіць, хлеп ці не прывешшы.* Альхоўка Навагр. *Му-*

*сіць, купляная хустка.* Стральцы Шальч. *Мусіць, учора прывешшы хлеп?* Малі Астр.; *параўн.* польск. *musieć* 'быць вымушаным'.

МУСО'ВА, МУСО'ВО 1. *прысл.* Неабходна. *Мне мусова ўсё вам расказаць.* Кураполле Паст. *Мусово картоплі выкапаць.* Масілавічы Сл. *Бабы мусово стоялі.* Смаляніца Пруж. *Мусово гэтак ее ставіць.* Номікі Бабіц. 2. *дзеепрым.* Вымушаны. *Я мусова гот адбыць.* Асавец Віл.

МУ'СЯ *гл.* МУ'СІ

МУТ *м.* 1. Асадак. *Ваду прыняслі, але настала многа муту на дне.* Ёдлавічы Брасл. *Асеў мут.* Мярэцкія Глыб. *У малаку ўвесь мут.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Аб памутненні ў вачах. *Нейкім мутам зацягнуты вочы.* Кураполле Паст.

МУ'ТА' *ж.* 1. Тое ж, што і м у т 1. *Му́та ваду муціць.* Рыбчына Віл. *Мута́ села на дне.* Лапічы Асіп. 2. Іл. *Калека* [рыба] *жывець у муця і п'яўкі ў муця.* Рыбчына Віл.

МУТАРЭ'С *м. бат.* Разак. *Мутарэс расце на вадзе.* Стральцы Гродз.

МУ'ТКІ *мн.* Капшук. *З бараняй торбачкі* [машонкі] *рабілі муткі. Муткі завязаваліся, хвасток длушшы пакінены ад аўчыны. Дзет выніць муткі і закурыць.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* м у д ы́.

МУТНЕ'ЦЬ *незак.* Станавіцца няясным. ▽ *Зоркі мутнеюць, будзе отліга.* Мсцібава Ваўк.

МУ'ТНЫ' *прым.* Каламутны. *Вада мутна́я.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Саланое Віл., Жодзішкі Смарг., Ракаўскія Швянч., Новікі Гродз. *Фузу многа, вада мутна́я.* Магуны Паст. *Брудная вада, му́тная.* Жылі Іўеў. *Му́тная вада.* Рудня Астравітая Чэрв., Стральцы Гродз. *Му́тны сок.* Беразіно Докш., Багушэвічы Бярэз.

МУ'ТРА *ж.* Жалезная гайка на канцы восі ў коле. *У сярэдзіну ў трупку заганяецца ўтулка, а мутра надзяваецца на канцы.* Магуны Паст. *Мутра закручвая вось.* Жодзішкі Смарг. *Мутра закручваецца, кап калясо дзяржалася.* Солы Смарг. *У вазе мутра закручваяцца на канцэ асі.* Быстрыца Астр. *Мутра на ось накладваецца, кап не спала калясо.* Масілавічы Сл. *Мутра — кап кола не ўпала.* Дакудава Лід. *Мутра кола трымая.* Старыя Трокі Трак. *Мутра закручваецца, кап кола ні скідвалася.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мутра на вось накручуецца, кап кола не звалі́ла.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *mutra* 'гайка'.

МУ'ХА' *ж.* 1. Муха. *Муха́ ўкусіла.* Ёдлавічы Брасл. *Муха́ паляцела, каля воч мільгнула.* Кураполле Паст. *Муху́ ўбачу ў твораху — я і сытая. Муха́ ажыла. Муха́ ўляцела ў млека.* Магуны Паст. *Мой* [муж], *як муха́, па смале лазіць.* Граўжышкі Ашм. *Муха́ ўлезла ў павучынне. Я памалу не хадзіла, а, як муха́, лятаю і лятаю.* Солы Смарг. *Муха́ ля-*

*тая.* Крэва Смарг. *Муху вы закрылі ў слоіку. Забіла муху.* Гемзы Шальч. *Муха ўляцела ў хату.* Кудзялянцы Шальч. *Муха ходзя па назе.* Малі Астр. *Муха ўляцела ў малако.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Муха плавае ў вадзе.* Мярэцкія Глыб. *Бальшыя мухі і жуке — усякіх есць.* Парэчча Гродз. *Муха лезе ў нос.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цяпер мухаў нет.* Лоск Валож. 2. *перан.* Пчала. *Гэта муха такая умная, мядок носіць.* Гемзы Шальч. ▽ *У спасаўку муха, як дзеўка-векавуха.* Ухвала Круп. ◇ *У вачах мухі летаюць* — няясна бачыць. *У вачах усе мухі летаюць.* Пацаўшчына Дзятл.

МУХАБО'ЙКА *ж.* Прыстасаванне, якім б'юць мух. *Нясі, Коля, мухабойку.* Кураполле Паст.

МУХАМО'Р *м.* Мухамор. *Мухамор для мух.* Пасіене Лудз. *Мухамор чырвоны, наверху красачкі белыя.* Гемзы Шальч. *Мухамор красны ў плямах белых.* Беразіно Докш.

МУХАМО'РА *ж.* Тое ж, што і м у х а м о́ р. *Мухамора расцець і тут.* Кураполле Паст. *Мухамора красівая, а есці німожна.* Рыбчына Віл. *Мухамору збій нагой.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мухамору не ядуць.* Парэчча Гродз. *Мухамора — паганы, з'есць — і муха кверху нагам.* Чарняўскія Лудз. *Авечка мухамору есь.* Вецярэвічы Пух. *Мухамора ад мух добра.* Малахоўцы Бар. *Мухамора красная.* Лапічы Асіп., Пасека Ст.-Дар. *Мухамора на стале стаіць ад мух.* Дзяніскавічы Ганц. *Кот з'еў мухамору і атравіўсо, мухамора салоткая.* Баброўнікі Гарад. ▽ *Ён ходзіць, як мухамора.* Вузла Мядз.

МУХАМО'РЫНА *ж.* Тое ж, і м у х а м о́ р. *Мухаморына ад мух. Мухаморына красная, красівая.* Лісна В.-Дзв.

МУХО'ВІКІ *мн. бат.* Махавікі. *Усякія грыбэ ў леся: савячке, бапкі, муховікі.* Малахоўцы Бар.

МУЦЕ'ЛЬ *м. экспр.* Той, хто ўносіць беспарадак, блытаніну. *Ён такі муцель!* Любішчыцы Івац.

МУЦІ'ЦЦА *незак.* Рабіцца мутным, каламуціцца. *Вада ні будзіць муціцца.* Індра Красл. *Крыніца муціцца, вада аттуль выбівая, мут відзен.* Рудня Астравітая Чэрв.

МУЦІ'ЦЬ, МУЦІ'ЦІ *незак.* 1. Каламуціць. *Ні муці ваду!* Быстрыца Астр., Чычалі Швянч. 2. Паласкаць адзенне. *Адзежу панясла на рэчку муціць. Бяз рэчкі муцім. Мучу адзежу.* Асавец Віл. 3. *перан.* Хлусіць. *Пачне муціць ды баламуціць!* Дзяніскавічы Ганц. *Не ўчыса так муціці. Ты гэто муціш.* Смаляніца Пруж.

МУЦЯРЫ'СКО *м.* і *ж.* Ілгун. *Муцярыско, нэ муці!* Смаляніца Пруж. *Муцярыско ты!* Ялова Пруж.

МУ'ЧА'ЛЬНІ'К, МУЧЭ'ЛЬНІК *м. бат.* Талакнянка. *Мучальнік падобен на брусьнічнік, яго ўжывалі пры фарбаванні: клалі ў саган жалеза, мучальнік і фарбавалі адзенне. Бывала, хадзілі ў мучальнік, прыносілі па цэлуй дзярушчы.* Дзяніскавічы Ганц. *Мучальнікам чарнілі адзежу. Стала*

*мучальнік ліць ад задышкі, ад почак, ад сэрца.* Бакшты Іўеў. *Мучальнік — лекарства ад мачавога пузыра.* Вострава Маст. *Мучальнік у лесе рос, як бруснічнік.* Данілавічы Дзярж. *Мучальнік збіралі ў лесі, таўклі на муку, завараналі, мачалі ў яго, а тады ў гразь — так красілі дайней.* Вузла Мядз. *У мучэльніку лісты, як мірта.* Граўжышкі Ашм.

МУ'ЧАЛЬНІЦА *ж.* Мучаніца. *Мучальніца ты, чаго ён пілнуя цябе?* Новіны Нясв.

МУЧА'Н *м.* Тое ж, што і м у́ ч а́ л ь н і к. *Мучан ад мачавога пузыра п'юць. Мучаном фарбуюць. Мучан сушуць, труць, рудовіну дабаўляюць.* Солы Смарг. *Мучан рос у бары, яго насушаць, стаўкуць, бралі ў цабры грась з рыштокі і чэрняць мацерыял.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мучан п'юць ад мачавога і ат почак.* Вецярэвічы Пух.

МУ'ЧАНА *прысл.* Пакутліва. *Але як мучана дзяжурыць!* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *мучительно* 'тж'.

МУЧА'НІК, МУЧА'ННІК *м.* Тое ж, што і м у́ ч а́ л ь н і к. *Мучанік сушылі, таўклі, на рэшата прасеіць, маткі і аснову апсыпаіць мукой — і ў печ.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мучанік у лесі расцець, яго п'юць ат почак.* Кураполле Паст. *Мучанік расце.* Рыбчына Віл. *Мучанік па-нашаму называюць.* Парэчча Гродз. *Мучаннік падобен да бруснічніка, ад мачавога пузыра п'юць.* Рыбчына Віл. *Мучаннік сабіралі, ён як брушнічнік.* Рудня Астравітая Чэрв.

МУ'ЧАНІЦА *ж.* Тое ж, што і м у́ ч а л ь н і ц а. *Гэтыя бабы мучаніцы!* Кураполле Паст. *Жанчына — така мучаніца.* Валеўка Навагр.

МУЧАНІ'ЧНІК, МУЧАНІ'ШНІК *м.* Тое ж, што і м у́ ч а́ л ь н і к. *Калісьці мучанічнік варылі, і ў торфе фарбавалі адзежу — выходзя рудоя, чорная.* Івашкаўцы Смарг. *Мучанішнік завараваім, зялеза ржавая, аржавіння — і хварбуюць.* Саланое Віл.

МУЧАНЫ' *прым.* 1. Мучны. *З жытняй мукі варацъ кашу мучаную.* Крэва Смарг. *Мучаныі бліны.* Лісна В.-Дзв. *Я не люблю мучанога.* Лоск Валож. *Клёцкі елі драныя і мучаныя.* Мярэцкія Глыб. 2. Крухмалісты. *А мая* [бульба] *такая мучаная, смашнейша за яйца.* Баброўнікі Гарад.

МУЧА'РНІК, МЫЧА'РНІК *м.* Тое ж, што і м у́ ч а́ л ь н і к. *Руду вараць умесці с мучарнікам і чэрняць палатно. Мычарнік расце ў леся, як брусніцы, утопчаш яго ў чуган, у печ, а патом фарбавалі палатно, ніткі.* Малахоўцы Бар.

МУЧЫ'ЦКА *ж. памянш.* да м у к а́. *Мне з мучыцкай спякі яечню.* Навікі Лудз.

МУ'ЧЫЦЦА, МУ'ЧЫТЫСЬ *незак.* Пакутаваць. *Я мучылася век, маленькіх гадуючы.* Саланое Віл. *Так я мучыласа!* Парэчча Гродз. *Як Лазор мучыцця!* Дзмітравічы Кам. *Ты не мучсё!* Міратычы Карэл.

МУ'ЧЫЦЬ *незак.* 1. Не даваць спакою. *Яны* [думкі] *мучаюць мяне.* Чычалі Швянч. 2. *перан.* Кепска араць. *Благі артай толькі муча поля.* Івашкаўцы Смарг.

МУЧЭ'ЛЬНІК *гл.* МУ'ЧА'ЛЬНІ'К

МУЧЭ'ННЯ *ж.* Мучэнне. *Ой, якая мучэння!* Рагулішкі Даўг.

МУШ *гл.* МУЖ

МУ'ШАЛЬ *м.* Тое ж, што і мут 1. *Мушаль на дне вядра. Сколько мушалю!* Дакудава Лід.

МУШКЕ'РЫЦЬ *незак.* Муштраваць. *Мушкерыць яго.* Валынцы В.-Дзв.

МУШНІ'К *м.* Тое ж, што і му́ча́льні́к. *Бабы ніці фарбуюць у рудзе, мушнік кладуць.* Старыя Смільгіні Воран.

МУШТРАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і мушке́рыць. *Яна яго муштраваць будзіць.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *musztrować* 'тж'.

МУШТРУКІ' *мн.* Цуглі. *Муштрукі зроблены з жэлеза, пасерэдзіне жалезны прут ўкладвайся ў мызу, па канцах кольца, адзін канец за обратку чэпляўся, а за другі канец зачаплялі лейцы. Як за муштрукі прыціснеш, то на задні ногі падает конь.* Лука Нараўк.

МУШТУ'К, МУШТЫ'К *м.* 1. Муштук. *Муштук — што кураць.* Гемзы Шальч. *Муштык у курцоў. Курыць у муштык. Пасмокча муштык.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *munsztuk* 'тж'<ням. *Mundstück.* 2. Від цугляў. *А такому неспакойнаму каню муштук надзявалі, еслі цуглі не дзяржаць.* Мыто Лід.

МУШЧЫ'ЗНА *гл.* МУЖЧЫ'ЗНА

МУШЧЫ'НА *гл.* МУЖЧЫ'НА

МШЫЦЬ *незак.* Перакладаць мохам бярвенні. *Хату мшыць замест мха добра атходамі ад льну.* Індра Красл.

МШЭ'ННЕ *н.* Перакладванне мохам бярвенняў. *Для мшэння пастрояк добра атходы ад льну.* Індра Красл.

МЫ *займ.* Мы. *Мы адны асталіса.* Стральцы Гродз. *Нам усё папераломлівалі.* Лоск Валож. *Вот тут воўк нам свінню схапіў.* Старыя Смільгіні Воран. *А нам хата магла згарэць.* Паляцкішкі Воран. *Дзіке бульбу парылі нам.* Парэчча Гродз. *Едучы з лесу, паламаліся нам калёсы.* Крынкі Крын.

МЫГЛА' *гл.* МІГЛА'

МЫГЛІ'ЦЬ *гл.* МІГЛІ'ЦЬ

МЫ'ДЛА *н.* Мыла. *Мыдла купі!* Магуны Паст. *Мыдла купіла.* Паляцкішкі Воран., Жылі Іўеў. *Памыўся мыдлам — белы стаў.* Кудзялянцы Шальч. *Рабілі лух, у лугу мылі і мыдлам мылі.* Гальшаны Ашм. *Рызнік мыдла дась кусок.* Канюкай Вільн. *Мыдла было, але мылі ў лугу.* Старыя Трокі Трак. *Мыдла не было, бапку́ накапаюць, яго парацъ, ён шуміць, як мыдла.* Галубы Маст. ∇ *Німатрэбна чорнаму*

*мыдла.* Малі Астр. ◊ *Як мыдла з'еўшы* — у дрэнным настроі (хадзіць). *Ён ходзя, як мыдла з'еўшы, у яго неповоджэнне ў жызні.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *mydło* 'тж'.

МЫ'ДЛІЦЬ *незак.* Мыліць. *Мылам мыдліць трэба доўго, мэрля пабялея.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *mydlić* 'тж'.

МЫ'ДЛЯ *ж.* Малая ўкладка снапоў на полі. *Мыдля жыта стаіць.* Мярэцкія Глыб. *Мыдлі абярнуліся.* Малахоўцы Бар. *Снапы нажатыя пасхлі, і мыдляў з іх ставяць.* Альхоўцы Лях. *Жыто сушылі ў мыдлях.* Смаляніца Пруж.; *гл.* м э́ н д а л ь.

МЫДЛЯ'НЫ' *прым.* Мылкі. *Мыдля́на вада.* Мсцібава Ваўк. *Мыдляны́я бурбалкі.* Гемзы Шальч.

МЫДЛЯ'ЦЦА *незак. экспр.* Падлашчвацца. *Не мыдляйся, бо голены не будзеш. Так кажаць, калі хто падлабуніцца хоча.* Малі Астр.

МЫ'ДЛЯЧКА *ж. памянш.* да м ы́ д л я. *Акуратная мыдлячка палучылася. Гарох добро пасох, авёс у мыдлячках пасхне.* Альхоўцы Лях.

МЫ'ЖЫ *гл.* МІЖ

МЫ'ЗА, МЫ'СА *ж.* 1. Морда (у жывёлы). *У каровы мыза.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ласі ідуць і маленькага вядуць, мызы паўстаўлялі ля гэтага ласянятка.* Вецярэвічы Пух. *Мыза ў каровы.* Малахоўцы Бар. *Мыза каровы.* Міратычы Карэл. *У каровы — мыза, у каня — прыхі. Панаядаліся каровы, адна і мызы ні прытачыла* [дакранула]. Альхоўцы Лях. *Мызу куды ўсадзіла?* Лука Нараўк. *Мыса ў каровы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *груб.* Твар. *Дай у мызу! На мызу саджае ката!?* Альхоўцы Лях.

МЫ'ЛА *н.* 1. Тое ж, што і м ы́ д л а. *Дайней мыла не было, у лугу мылі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Нясмачная ежа. — *Што ясі гэта мыла! — Мыла, ня мыла, а дзеньгі ўплочаны — і есці міла.* Кудзялянцы Шальч. ◊ *Як мыла з'еўшы* — з незадаволеным выглядам (пайсці). *Ён пайшоў, як мыла з'еўшы.* Парэчча Гродз.

МЫЛЕ'Ц *м.* Плывун. *Мылец — чвыр такі.* Данілавічы Дзярж. *Мылец намыляваяцца вадою, меляанькі пясок. Там мылец, нічога ні вырасця.* Стральцы Гродз. *Мылец ні кляісты, ён прамыты вадою, у ём нічога німа. Мылец заплывая, па мыльцы ні ўглубіш яму, шорстка зямля, у ёй мелкія каменьчыкі.* Дзяніскавічы Ганц.

МЫ'ЛІЧКА *ж. памянш.* Планка, якая прыбіваецца зверху дзяржання лапаты. *З мылічкай чарано ў капачы.* Бакшты Іўеў.

МЫ'ЛКІ' *прым.* 1. Тое ж, што і м ы д л я́ н ы. *Вада мы́лкая, мыць адзежу добра.* Жодзішкі Смарг. *Насеім попелу, кап лух мылкі быў.* Дакудава Лід. 2. *перан.* Які не развар-

ваецца (пра бульбу). *Звара бульбу і атцэдзя, яна, як сліва, мылкая.* Гемзы Шальч.

МЫ'ЛТА *гл.* МІ'ЛТА

МЫЛЬ *м.* Тое ж, што і мылёц. *Капаюць калодзясь, ідзе адзін мыль, а патом пойдзя вада.* Малахоўцы Бар.

МЫЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Памыліцца. *Яна нідзе не мыльнёт.* Гемзы Шальч.

МЫЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Памыляцца. *Я мыляюся, як малоцім. Яны мне: «Бі* [цэпам] *у лат!», а я лішні рас удару.* Саланое Віл. 2. Загаворвацца. *Мыляецца чалавек у разгаворы.* Галубы Маст.

МЫЛЯ'ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Не хацеў мыляць адзін аднаму.* Мсцібава Ваўк.

МЫ'РЗА, МЫ'РСА *ж.* 1. Тое ж, што і мы́за 1. *У каровы — мырза.* Пацаўшчына Дзятл. *Мырзу ў добрае вядро карова ўсадзіла.* Галубы Маст. *У каня мырса. Мырсу ўсадзіла карова.* Бброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і мы́за 2. *Дай яму ў мырзу!* Вялікія Баяры Шчуч.

МЫ'СА *гл.* МЫ'ЗА

МЫ'СКА *ж.* Сорт бульбы. *Мыска — сіняя картофля, ямачкі на ёй, наздрата, яна жоўта, але не расла вяліка.* Дзяніскавічы Ганц.

МЫ'СЛІ *мн.* Думкі. *У яго ніякіх мысляў німа, толькі каб выпіць.* Вузла Мядз. ∇ *Мыслі за гарамі, а смерць за плячамі.* Бакшты Іўеў.

МЫЦЕ'НЬЕ, МЫЦЭ'НЯ *н.* Дзеянне паводле знач. дзеяслова *мыць, мы́цца. Вадою без мыла ні мыценье.* Дзяніскавічы Ганц. *Калісь у хаці мыліся, але хіба то мыцэня!?* Мсцібава Ваўк.

МЫ'ЦЦА, МЫ'ЦІСА *незак.* 1. Умывацца. *Мыйцеся ды будзеце снедаць.* Вецярэвічы Пух. *Прышлі Лявонкавы мыцца ўтраіх.* Лоск Валож. *Пойду мыціса.* Смаляніца Пруж. 2. Мыцца (пра бялізну). *Льняна мыяцца ляхчэй.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Котка мыецца — прыдзе чужы.* Гемзы Шальч.

МЫЦЦЁ *н.* 1. Тое ж, што і мыце́нье. *Я занялася гэтым мыццём, няма калі другім займацца.* Солы Смарг. *Якое то мыццё ў руках!?* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Брудная бялізна. *Сколькі мыцця сабралася!* Ністанішкі Смарг.

МЫЦЬ, МЫ'ЦІ *незак.* Мыць. *Сёння хусты мыла, паласкала. У даліне мыем бялізну.* Солы Смарг. *Буду мыць адзежу.* Саланое Віл. *Раней залівалі попял і мылі бялізну.* Стральцы Гродз. *Мылі ў лугу.* Старыя Трокі Трак. *Всюды мыцім: в хаці, в сенях.* Смаляніца Пруж.

МЫЦЭ'НЯ *гл.* МЫЦЕ'НЬЕ

МЫЧА'РНІК *гл.* МУЧА'РНІК

МЫЧЭ'ЦЬ *незак.* Мыкаць. *А чаго гэта цялушка не сваім*

*голасам мычэла?* Кураполле Паст. *Карова мычыць.* Саланое Віл.

МЫШ *ж.* Мыш. ▽ *Мыш у гарудзя не здохня, як кату добра жывецца. Сядзіць, як мыш пад мятлой.* Малі Астр. *Мыш копны не боітся, а жаба вады.* Валеўка Навагр.

МЫ'ША' *ж.* Тое ж, што і м ы ш. *Адна мышá вялікая паляцела. Вадзяная мышá перабегла дарогу.* Ёдлавічы Брасл. *Бываіць мышá ўлезіць у муку.* Кураполле Паст. *Мышá ў вуль залазіць.* Груздава Паст. *Кошка за мышóй пабегла.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кошка мышý злавіла.* Вузла Мядз. *Злавіў мышý.* Лоск Валож. *Котка пільнуя, кап злавіць мышý. У зубах коткі мышá.* Плябанцы Ашм. *Кот цікует мышý, за мышóй ганяецца, мышý злавіў.* Рагулішкі Даўг. *Мы́ша адна залезла ў прымін. У нас мышэй хватая: рудую мы́шу прывалакла котка.* Парэчча Гродз.

МЫШАВА'ТЫ *прым.* Мышасты. *Мышаваты быў у яго конь.* Пацаўшчына Дзятл. *У нас мышавата карова, конь.* Жылі Іўеў.

МЫШАВА'ЦЬ *незак.* Рыць зямлю лычам (пра свіней). *Мышуе, мышуе свіня, носам па зямлі лазіць.* Грыкені Вільн.; *парайн. літ. mišýti* 'мяшаць'.

МЫ'ШАК *м.* Мышасты конь. *Мышакі* [коні], *яны ў парку і ходзяць, яны сібірскія коні.* Гемзы Шальч.

МЫША'РЫНА *ж.* Імшара. *Мышарына мохам парошшая. Логавіско ваўкоў было на мышарыне.* Малахоўцы Бар.

МЫША'СТЫ *прым.* Тое ж, што м ы ш а в á т ы. *Конь мышасты, такой паўсці, як мыш.* Магуны Паст. *Мышаста карова, як мыш.* Быстрыца Астр.

МЫША'ТЫ *прым.* Тое ж, што і м ы ш а в á т ы. *Мышатыя коні.* Гемзы Шальч.

МЫШАХВО'СТЫ *прым.* Тонкі (пра валасы). *У міне каса мышахвоста.* Мсцібава Ваўк.

МЫ'ШКА *ж. памянш.* да м ы ш. *«На табе, мышка, касцяного* [зуба], *а дай мне жалезнаго».* Номікі Бабіц.

МЫШКАВА'ЦЬ, МІШКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Вынюхваць (пра жывёлу). *Сабака нейкі сляды знюхаў — усё мышкуя і мышкуя.* Жылі Іўеў. *Кот мышкуя, сабака мышкуя, нюхам шукая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Котка мышкуя — сляды нюхая. Каровы мышкуюць да ямы і мышкуя, мышкуя цаґелачку.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Шукаць (пра чалавека). *Чаго ты там мышкуяш?* Рудня Астравітая Чэрв. *Мышкуе і мышкуе, дзе п выпіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Мішкуяцё, то пад лошко гляняця.* Міратычы Карэл. 3. *перан.* Выпытваць. *Прышоў, мішкаваў, ні пытаўся, а цішком хацеў уведаць.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* польск. *myszkować* 'падглядаць; рыцца, капацца'.

МЫ'ШКІ *мн. вет.* Хвароба ў каня. *Конь качаецца, баліць*

*яму жывот, мусіць яго мышкі схапілі.* Ністанішкі Смарг. *Мышкі хватаюць каня: качаецца, раптам пакаціцца конь. Кабылу мышкі як хваціліІ* Малькуны Ігн. *Крата жывога злавіць, сатрэць у руках і каня памажыць і мышкі праходзяць.* Лайпушкі Ігн.

МЫШЫ́НЫ ГАРО́ШАК *м. бат.* Мышыны гарошак. *Мышыны гарошак не трэба есці.* Кураполле Паст.

МЭ́БЛЯ *ж.* Мэбля. *Мой тата рабіў мэблі.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *mebel, meble* 'тж'<ням. *Möbel.*

МЭ́БЭЛЬ *м.* Сталярскі інструмент. *Коб міев мэблі, то всю столярку сам зробів бы.* Курашэва Чыж.

МЭ́ВЫ *мн. заал.* Чайкі. *Марскія вароны летаюць, кажуць на іх мэвы, мы іх відзім, як яны ляцяць.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* ням. *Möwen* 'тж'.

МЭДА́ЛЬ *м.* Медаль. *Ён маіць залаты мэдаль.* Рагулішкі Даўг.

МЭДА́РКА *гл.* МЯДА́РКА

МЭ́ДЛІК *м.* Тое ж, што і мы́для. *Жыта і авёс стаўлю ў мэдлікі: жыта дзесяць, а авес — пяць снапоў, шапка кругом абдыме мэдлік.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* мэ́ндаль.

МЭ́ДЛЯ *ж.* Тое ж, што і мы́для. *Мэдля — дваццаць снапоў, клалі крыжыкам, шчыльна. Авёс у мэдлю клалі і ў азярот.* Дзяніскавічы Ганц.

МЭ́ЗГІ *гл.* МАЗГІ́

МЭ́КШТЫ *мн.* Балеткі. *Мэкшты надзівалі пакойніку, чорныя бываюць, с палатна шылі.* Кураполле Паст. *Мэкшты — помняць назву, быў такі абутак, як тапачкі..* Рыбчына Віл. *Мэкшты шылі з матэрыялу.* Быстрыца Астр. *Мэкшты з зрэб'я шылі. Мэкшты шылі с тканіны.* Стральцы Шальч. *Мэкшты насілі, і шылі сваей работы. Вязалі мэкшты з ніцей і шылі з матэрыялу, малым дзецям рабілі, ходзіць, як у камашах.* Старыя Смільгіні Воран. *У мэкштах хадзілі, былі канапляныя ніткі, кручком рабілі мэкшты.* Руднікі Шальч.; *парайн.* літ. *mẽkštas, mãkštas* 'тапачка з нітак'.

МЭ́ЛДАЦЦА *незак. экспр.* Валтузіцца. *Куды будзіш мэлдацца з гэтай бялізнай?!* Граўжышкі Ашм.

МЭЛЬДОВА́ТІ *незак.* Паведамляць. *Нэ буду мэльдоваті, куды іду.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *meldować* 'рапартаваць, дакладваць'.

МЭЛЬДУ́НОК *м.* Данос. *Хтось зложыв мэльдунок, што самогуонку жэнут.* Куращэва Чыж.; *парайн.* польск. *meldunek* 'рапарт, зводка', ням. *Meldung* 'рапарт, данясенне, даклад'.

МЭ́МА *м.* і *ж. экспр.* 1. Гультай. *Такі мэма ён!* Малькуны Ігн. 2. Тое ж, што і му́мы 1. ∇ *Ах, каб цябе мэма з'ела!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *mėmà, mėmė̃* 'зявака, маўчун'.

МЭ'МЛЯТІСЕ *незак. экспр.* Марудна што-н. рабіць. *Ціелы дэнь мэмляеце і ніц нэ зробіла.* Курашэва Чыж.

МЭ'НДАЛЬ, МЭ'НДЭЛЬ, МЭ'НДЫЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і м ы́ д л я. *У мэндлі кладуць дзесяць снапоў.* Асавец Віл. *Мэндаль жыта.* Бакшты Іўеў. *Дзесяць снапоў жыта ставілі ў мэндлі.* Гемзы Шальч. *Жыта ставілі ў мэндлі па дзесяць снапоў. Адзін мэндаль снапоў, шэсць мэндляў — капа. Мэндаль прыкрываўся шапкаю, шапка зроблена с тога самага снапа, і гэдак сохня яно. Авёс ставіўся тожа ў мэндлі.* Альхоўка Навагр. *Упяроч сярпом сажне, у мэндлі паставіць.* Валеўка Навагр. *Жыта жалі і ставілі ў мэндлі.* Вузла Мядз. *Мэндаль — па дзесяць снапоў.* Бенякові Воран. *А в мэндыль ставят трыццять снапов.* Дзмітравічы Кам. 2. Пятнаццаць штук чаго-н. (адзінка ліку). *Пятнаццаць снапоў — мэндаль, пятнаццаць яек — мэндаль.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* ням. *Mandel* 'пятнаццаць-шаснаццаць штук'; польск. *mendel* 'пятнаццаць штук; мэндлік'.

МЭ'НДЛІК *м.* Тое ж, што і м ы́ д л я. *Жыта ставілі ў бабкі ці ў мэндлікі, па дзесяць снапоў.* Вузла Мядз. *Жыта ставілі ў мэндлікі. Мэндлік шапкай накрывалі. Мэндлікі стаялі, ужо жыта пажалі.* Саланое Віл.

МЭ'НДЛЯ, МЭ'НДЛА *ж.* Тое ж, што і м ы́ д л я. *Жыта ставілі ў мэндлі. Мэндля — дзесяць снапоў, дзесятым накрывалі — шапка.* Граўжышкі Ашм. *Мэндля — дзесяць снапоў: ставяць адзін, да яго чатыры, патом яшчэ чатыры, а дзісяты наверх камлём. Дайней мэндлі на полі стаяць, як салдаты.* Солы Смарг. *Стацьма ставілі па дзесяць снапоў — гэта мэндлі. Усе збожжа ставілі ў мэндлі.* Старыя Трокі Трак. *Жыта жнуць і ў мэндлі ставяць.* Ліпнікі Вільн. *Жыта ставілі ў мэндлі.* Кудзялянцы Шальч. *А там пасядзела пад мэндлай і глядзела, як гэны камбайн жне.* Селішчы Ашм.

МЭ'НДРЫКІ *мн. кулін.* Печыва з мукі ці бульбы. *Мэндрыкі: наразалі ў скрыначкі цеста, у мак качаюць і ў печ ставяць. Пяклі мэндрыкі з бульбы, натрэ канапель і качалі.* Бакшты Іўеў.

МЭ'НДЭЛЬ, МЭ'НДЫЛЬ *гл.* МЭ'НДАЛЬ

МЭ'НКА *ж.* 1. Пакута. *Як чалавек хворы, то кажуць: «Вяліка мэнка»* Альхоўцы Лях. *Ён гаравау, якая мэнка была чалавеку. Прас* [на працягу] *сем гадоў мэнку меў. Я мэнку меў, доўга хварэў.* Гемзы Шальч. *Была мэнка.* Грыкені Вільн. *Гэдакая мэнка кароў пасвіць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Фігура распятага Хрыста. *На крыш канцы галавы мэнка прыбіта.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *męka* 'пакута'.

МЭ'НТКА *ж.* Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Мэнтка — дзеравяная, з дубовога дзерава. Поострыш молотком, то можно*

*закаціць гострэй у одну сторону, то мэнтка откачвае.* Лука Нараўк.

МЭНТУ'З *гл.* МЯНТУ'З

МЭНЦЯ' *гл.* МЕНЬЦЯ'

МЭНЧ *гл.* МЭНШ

МЭ'НЧАНІК *м.* Пакутнік. *Мэнчанік ён, два гады хварэя.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *męczennik* 'тж'.

МЭНЧАНІ'СКА *ж.* Пакутніца. *Дачка гэта мэнчаніска.* Гемзы Шальч.

МЭ'НЧЫ *гл.* МЕ'НШЫ

МЭ'НЧЫЦЦА *незак.* 1. Мучыцца. *Мэнчыліся мы з ёю.* Новікі Гродз. *Жыеш і мэнчыся, работы ест, але я не магу рабіць.* Гемзы Шальч. *Што мы мэнчыліса! Мэнчыўса, мэнчыўса і адчыніў дзверы.* Парэчча Гродз. *Як я мэнчылась!* Навадворцы Васільк. *Ты, Стася, цэла жыцця мэнчыся, нічого добраго ні зажыла за сваім мужыком.* Яцаўляны Сідр. 2. Пакутаваць ад хваробы, болю. *Чалавек мэнчыцца ў хваробе.* Магуны Паст. *Мэнчыцца чалавек, хварэя.* Быстрыца Астр. *Яна хварэя пяты гот, мэнчыцца.* Івашкаўцы Смарг. *Стогня чалавек хворы, мэнчыцца ат хваробы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мэнчыўся, мазалёў па дзевяць было на руках.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *męczyć się* 'тж'.

МЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Мучыць. *Ня мэнч яе!* Магуны Паст. *Ні мэнч ката!* Дакудава Лід. *Што ты мяне мэнчыш!?* Паляцкішкі Воран. *Тэрэса, ня мэнч ката!* Вялікія Баяры Шчуч. *Ні бяры ката ў рукі і ня мэнч яго. Ні мэнч кошкі! Яна мэнчыла мяне, кап я на хрысціны пашла.* Кіралі Шчуч. *Так яны і мэнчылі мяне.* Жылі Іўеў. *Не мэнч котку!* Гемзы Шальч. *Ты яго мэнчыш!* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *męczyć* 'тж'.

МЭ'НЧЭНІЧКА *ж. памянш.-ласк.* да м э н ч а н і с к а. *Мэнчэнічкі гэтыя бабы.* Гемзы Шальч.

МЭНШ, МЭНЧ *прысл.* Менш. *Ні заробіш, мэнш будзе.* Ялова Пруж. *Коб сена наробіў, накосіў, то мэнч у голове было п, а то ніц нэ здужаем робіці. Одзін набраў мэнч жураўлін.* Смаляніца Пруж.

МЭ'НШЫ *гл.* МЕ'НШЫ

МЭ'РЛЯ *ж.* Марля. *Старкуям бульбы, выцісням прас мэрлю і варым кашу густую.* Магуны Паст. *Цадзілку рабілі з мэрлі.* Солы Смарг. *З мэрлі рабілі сітцы.* Крэва Смарг. *Цадзілак з мэрлі зрабіла.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *merla* 'тж'.

МЭ'РЛЯЧКА *ж. памянш.* да м э́ р л я. *Хлеба і цукру паложа ў мэрлячку і зробя соску.* Солы Смарг.

МЭ'ТАР, МЭ'ТЭР *м.* 1. Метр. *Адрэш два мэтры на фіранькі.* Быстрыца Астр. *Наткала цэлы мэтар.* Дакудава Лід. 2. Колькасць чаго-н., роўная аднаму кубічнаму метру.

*Прывёс паўтара мэтра, дроў.* Кіралі Шчуч. *У мэтры трэба скласці дровы.* Гальшаны Ашм. *Гадзіна выскачыла с-пад мэтра* [дроў]. Грыкені Вільн. 3. Старая мера вагі, роўная 100 кг. *Він мусыв намолотыты мэтэр жыта.* Вярхі Кам. *Панакупоўвалі пшэніцы по тры, по штыры мэтры.* Смаляніца Пруж.

МЭ'ТРА *ж.* Тое ж, што і м э т а р 1. *Узята дзве с палавінай метры* [матэрыялу]. *Я дакупіла мэтру гіпюру.* Едлавічы Брасл.

МЭ'ТРЫКА *ж.* Метрыка. *Мэтрыку выбірала ў Вільнюсе.* Солы Смарг. *Напішэце спраўку на мэтрыку.* Вялікі Краснік Пруж.

МЭ'ТЭР *гл.* МЭ'ТАР

МЭ'ХЛЯР *гл.* МАХЛЯ'Р

МЭ'ЦАЦЬ *незак.* Мацаць. *Мацаў ракаў гізкай* [прыстасаванне для лоўлі ракаў] — *няма іх нешта.* Глівін Барыс.

МЭ'ЦІЦЬ *незак.* Намервацца. *Воўк мэціць, кап за горла каня схваціць.* Саланое Віл.

МЭ'ШТАЧКІ, МЭШТАЧКЕ' *мн. памянш.* да м э ш т ы 1. *Шшыла баба маломy мэштачкі.* Гемзы Шальч. *Маштачке рабілі дзецям.* Вялікія Баяры Шчуч.

МЭ'ШТЫ *мн.* 1. Тое ж, што і м э к ш т ы. *Мэшты — тапці на смерць, іх куплялі.* Груздава Паст. *Мэшты с сукна старога пашытыя.* Магуны Паст. *Мэшты з брэзенту.* Саланое Віл. *Самі шылі мэшты з ануч.* Крэва Смарг. *Са скуры і с сукна шылі мэшты.* Мярэцкія Глыб. *Насілі мэшты, кручком робляныя з лёну.* Чуркі Ашм. *Мэшты — комнатнікі.* Кіралі Шчуч. *Мэшты — вобой такі, лапцікі. Мэшты малым дзецям з ніцей рабілі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мэшты вязалі з нітак і с кручаных вяровачак. Мэшты — не за маей памяці. С куска матэрыялу пашыла мэшты. Мэшты з нітак зроблены для хлопцаў.* Гемзы Шальч. *Мэшты — проста такія тапкі.* Старыя Трокі Трак. *Мэшты шылі, як чалавек памрэ, іс халста шылі на смерць. Мэшты пакойніку клалі.* Альхоўка Навагр. 2. Тапачкі. *Мэшты — туплі: ніс гумовы, а верх з матэрыялу, куплялі іх.* Саланое Віл. *Мэшты — вобуй с кожы бес шнуркоў.* Груздава Паст. 3. Апоркі. *Мэшты — абутак які-нібуць, абрэзаныя боты ці што.* Жодзішкі Смарг. *Мэшты — уступкі такія: адрэжуць у ботах халявы — і мэшты.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мэшты — плахі абутак.* Парэчча Гродз.; *гл.* м э к ш т ы.

МЯДА'РКА, МЭДА'РКА *ж.* Медагонка. *Мядаркаю мёт выганяюць.* Галубы Маст. *Мэдаркай мёт выдзьмухаюць, воздухам.* Мсцібава Ваўк.

МЯДЗВЕ'ДЗІХА *ж.* Мядзведзіца. *Мядзведзіха і мядзвець.* Альхоўцы Лях.

МЯДЗВЕ'ДЗІЯ ВУ'ШЫ *мн. бат.* Ласі (грыбы). *Мядзведзія вушы — грыбы такія, чорныя зверху.* Дакудава Лід.

МЯДЗВЕ'ДЗЬ, МЯДЗВЕ'ЦЬ, МЕДЗВЕ'ЦЬ, НЕДЗВЕ'ЦЬ *м.* Мядзведзь. *Тут мядзвець хадзіўшы. Ён быў прывёшшы мядзвядзя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не за намі вадзілі гэтых мядзвядзёў. Ні мядзвядзей, ні пчол.* Саланое Віл. *Медзвядзёў, ваўкоў лавілі.* Латыгаль Віл. *За памяццю гаварылі, што скамарошнікі мядзведзяў вадзілі.* Цяпінцы Віл. *Мядзведзяў вадзілі па вёсках.* Гемзы Шальч. *Мядзвядзёў многа ў Сібіры.* Кемялішкі Астр. *Медзведзёў было много.* Грыкені Вільн. *Недзвець мёт любіць.* Быстрыца Астр. ▽ *За дзень аблётаеш свет і кладзесся з медзвядзём, а ўстаняш з зайцам.* Лоск Валож. *Медзведзя сіла, а зайцаў паварот.* Кураполле Паст.

МЯДЗВЕ'ЖЖЫ ВУ'ШЫ *мн.* Тое ж, што і м я д з в е́ д з і я в у́ ш ы. *Мядзвежжы вушы — стаяць па днэй, як вушы, іх завуць і ваўчыныя вушы, воўча вушы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МЯДЗВЯ'НА РАСА' *ж.* Падзь. *Мядзвяна раса ўрэдная, яна на лістах.* Малахоўцы Бар.

МЯДЗІ'НЫ толькі *мн. абрад.* Частаванне ў дзень збору мёду. *Здаўна на мядзіны пойдзям.* Магуны Паст.

МЯДЗЯ'НКА, МЕДЗЯ'НКА, МІДЗЯ'НКА *ж. заал.* Мядзянка. *Мядзянка — едавіта гадзіна.* Валынцы В.-Дзв. *Медзянкі ё. Медзянка жоўта, куслівая, сама паядая дзяцей* [сваіх]. Івашкаўцы Смарг. *Мідзянка самая злая вужака.* Лісна В.-Дзв.

МЯДЗЯ'НЫ *прым.* Медны. *Рондаль мядзяны.* Быстрыца Астр. *Былі мядзяныя ступы.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *miedziany* 'тж'.

МЯ'ДЛІЦА *ж.* Мялка. *Лён мядляць на мядліцы, яго ламаюць, а потым труць на церніцы.* Яцаўляны Сідр.

МЯ'ДЛІЦЬ *незак.* Мяць. *Лён мядляць на мядліцы, а потым яго труць на церніцы.* Яцаўляны Сідр.; *параўн.* польск. *międlić* 'тж'.

МЯДНІ'ЦА I *ж.* 1. Медны таз. *Ключ пад мядніцай ляжыць.* Жодзішкі Смарг. *У мядніцу велькую наржа мёду плястар* [з рамкі], *еш, і кавалачак дасць дамоў.* Солы Смарг. *Мядніцы былі, як кабана разбіралі, мяса клалі ў мядніцу.* Руднікі Шальч. 2. Любы таз. *Мядніца — усякі тазік.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *miednica* 'таз'.

МЯДНІ'ЦА II *ж.* Тое ж, што і м я д з в я́ н а р а с а́. *Мядніца выступаіць на жытніх каласах, на жыту, абліжы — настаяшча салотка, як мет.* Саланое Віл.

МЯДНЫ' *прым.* Мядовы. *Нанашуюць пчолы па дзве кілі, як мядны гот.* Граўжышкі Ашм.

МЯДО'ВАЯ, МЕДО'ВАЯ, МЕДАВА'Я РАСА' *ж.* Тое ж,

7*

што і м я д з в я́ н а р а с а́. *Мядовую расу пчолы не бяруць.* Рыбчына Віл. *Мядовая раса на лісцях.* Мярэцкія Глыб., Старыя Смільгіні Воран. *Медовая раса, когда рож цвіціць.* Шкаўна Лудз. *Медавая раса, а пчолы бяруць.* Граўжышкі Ашм.

МЯДУ'ЛЬКА *ж. бат.* Медуніца. *Завуць яе мядулька, а што гэта за трава, ня ведаю.* Солы Смарг.

МЯДУНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і м я д у́ л ь к а. *Мядуніца бывая сінянькая, чырвонянькая.* Навасёлкі Свісл.

МЯДУ'НКА *ж. бат.* Дзяцеліна. *Мядунка — белы клевір, дзяцлівіна — белая і ружовая.* Мярэцкія Глыб. *Мядунку збіралі і таўклі.* Кураполле Паст. *Як ґаладавалі, то мядунку людзі елі. Мядунка медам пахніць.* Вузла Мядз. *Мядунка жоўтым цвіце.* Парэчча Гродз.

МЯЖА' *ж.* Вузкая паласа неўзаранай зямлі паміж загонамі. *Калі мяжы пракос прагладзіў, пайду сама акашываць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Адзін душою прайдзеш мяжою, а кампаніяй — ня прайдзеш.* Кіралі Шчуч. *Была мяжа шырока.* Дзяніскавічы Ганц. *Вышла на межу. Пашла мяжою.* Вецярэвічы Пух. *Дайней былі межы павыводжаны.* Альхоўка Навагр.

МЯЗҐА', МЯЗГА', МІЗГА' *ж.* 1. Мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай. *Мязґа ў дрэве пат карою, паміз дзерава і кары. Мязґа адышла* [адстала], *можна сок пускаць.* Альхоўцы Лях. *Надзяры мязгі з лыкі, прылажы да скулы, мусар выцягня.* Вецярэвічы Пух. 2. Насенная частка гарбуза. *Унутры ґарбузоў мязґа, дзе семянкі.* Пасіене Лудз. *Мязга ці мякіш у гарбузе ўнутры.* Глівін Барыс. *Мязга ў гарбузох унутры.* Галубы Маст. *Мізга — унутранасць гарбуза.* Гайна Лаг., Масілавічы Сл. *Разбіў гарбуз, і мізга вываліласяю* Беразіно Докш.

МЯЗГРА' *ж.* Тое ж, што і м я з ґ а́ 2. *Мязгру выкінь з гарбуза — расцягнулі па хаця.* Вязынка Маладз.

МЯЗДО' *н.* Гняздо. *Мяздо — дзе куры нясуцца. Парабілі куры мезда.* Парэчча Гродз.

МЯЗДРА', МІЗДРА' *ж.* Тое ж, што і м я з ґ а́ 1. *Мяздра пат карой. Наскрабуць мяздры і даюць карове, як страціць жуйку.* Гемзы Шальч. *Мяздра пат карой.* Рыбчына Віл. *З ліпы мяздра надзіраіцца. Мне сказалі: у малацэ скіпяціць мяздру і парыць руку, як балела рука.* Мярэцкія Глыб. *Пат карою мяздра ў дзераве.* Пацаўшчына Дзятл. *Наскрабе мяздры з дзерава: с крушыны, з рабіны, і гэта яму дапамагая.* Старыя Смільгіні Воран. *Міздра ў дзераві пат карой.* Якубова Рас. 2. Тое ж, што і м я з ґ а́ 2. *Мяздра* [у гарбузе], *дзе семачкі, яе не ядуць. Зверху бадона, а ўнутры мяздра, семкі.* Солы Смарг. *Мяздра ў гарбузе.* Магуны Паст. *Трэба мяздру выдзерці з гарбуза.* Рыбчына Віл. *Гарбузяная мязд-*

*ра.* Старыя Трокі Трак. *Гарбузяніята і мяздра ў гарбузе. Выціскаюць з мяздры зярнята.* Пацаўшчына Дзятл. *Мяздру трэба вычышчаць* [у гарбузе]. Жылі Іўеў. *Трэба выбраць мяздру вон з гарбуза.* Гемзы Шальч. *У гарбузе міздра, дзе семячкі сідзяць.* Саланое Віл. *Міздра ў гарбузох.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У гарбузе ў сярэдзіне міздра.* Мішневічы Шум. *Міздра ў гарбузе, яе не кушают і не варят.* Рагулішкі Даўг. 3. Асяродак у сцябле льну. *У банях сушылі лён, білі мялкамі, выціралі мяздру.* Опса Брасл. *Лён мачылі, глядзяць, ці атстае мяздра, ці атпадая.* Руднікі Шальч. 4. Падскурная клятчатка ў жывёлы. *Мяздру са скуры здзяраюць касой. Мяздру трэба сагнаць, астаецца мяккая аўчынка.* Гемзы Шальч.

МЯЗДРАВА'ТЫ *прым.* Ацеслівы (пра хлеб). *Мяздраваты хлеп — неўмешаны.* Граўжышкі Ашм.

МЯЗДРО' *н.* Тое ж, што і мязга́ 1. *Мяздро ў дрэві.* Вялікія Баяры Шчуч.

МЯЗІ'НЧЫК *м. памянш.* да мязіняц. *Парэзаў мязінчык.* Гемзы Шальч.

МЯЗІ'НЯЦ *м.* Мезенец. *Мязіняц баліць.* Лоск Валож.

МЯЙСЦО'ВЫ *прым.* Стаячы (пра ваду). *У нас бягучая вада, як ручэй, а ў іх мяйсцовая — на мейсцы стаіць.* Кураполле Паст.

МЯК *м. заал.* Мянтуз. *У мяка шырока галава, як у жабы, без лускі. Мякі тут водзяцца.* Парэчча Гродз.

МЯ'КА, МЯ'ХКА *прысл.* 1. Добра пацерці. *Лён мяка вымнеш.* Рагулішкі Даўг. 2. Дробна змалоць. *Не мялі мяхка, свіня ня хочуць мякога, любяць, кап пакрупней было.* Кіралі Шчуч. 3. Лёгка. *Мяка даіць карову.* Лайпушкі Ігн.

МЯКА'НЬКІ', МЯКЕ'НЬКІ *прым. памянш.* да мя́кі 1. *Кісліцу так ядзём, кісленькая, мяканькая.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ткалі ручнікі мяка́нькія.* Рагулішкі Даўг. *Мякенька травічка, аш пахня.* Кіралі Шчуч.

МЯКЕТА'ЦЬ *незак.* Утвараць гукі, падобныя на бляянне баранчыка (пра бакаса). *Казялёк летаіць і мякечыць.* Лайпушкі Ігн.

МЯ'КІ', МЯККІ' *прым.* 1. Мяккі. *Нарасць мяка́я, як вадой наліта.* Саланое Віл. *У яе пальцы такія мякія!* Асавец Віл. *Паліём алеем капусту, мяка́я, і ямо.* Старыя Смільгіні Воран. *Венік бярозавы мякі.* Парэчча Гродз. *Мя́ка зямля.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Няжорсткі (пра мурожнае сена). *Можа, на гарэ сена мякко́я ёсць?* Рыбчына Віл. *Сена мякко́я, цвярдоя сохнаць будзіць.* Мярэцкія Глыб. 3. Які лёгка паддаецца апрацоўцы. *Ольха — мяка́я дзерава.* Грыкені Вільн. 4. Свежы. *Мякі хлеп.* Вострава Маст. 5. у знач. *назоўніка.* Дробны памол (пра муку). *Мялі пакрупней, свіня ня хочуць мякóга.* Кіралі Шчуч.

МЯКІ'НА *ж.* Мякіна. *Мякіна ад усякага зярна. Мякіну свіням даюць.* Груздава Паст. *Даўней елі хлеп з мякінай і былі здаравейшыя.* Ністанішкі Смарг. *Калісь хлеп чорны з мякінаю елі.* Парэчча Гродз. *Мякіна жытняя, пшоная, грэцкая, ляная.* Альхоўка Навагр. *Я буду гэтага вараб'я на мякіня абманываць.* Малі Астр. *Хлеп з мякінай елі.* Мсцібава Ваўк. *Мякіна — самая первая пры веянні.* Пасіене Лудз. *Чорны хлеп даўней з мякінай елі.* Рагулішкі Даўг. *Мякіна была очань жорсткая.* Старыя Трокі Трак. *Там мякіна дамяшана.* Грыкені Вільн. *І багаты, і бедны мякіну ў хлеп дасыпалі.* Латыгаль Віл. *Свіням атпарваюць мякіну. Малоцяць збожа, веюць і атрымоўваюць мякіну.* Баброўнікі Гарад.

МЯКІ'НІЦА, МЯКІ'ННІЦА *ж.* Мякіннік. *Мякініца — дзе мякіну ў таку ссыпалі.* Кураполле Паст. *Для мякіны мякініцу адгараджвалі ў гумне.* Івашкаўцы Смарг. *Мякініца была ў гумне адгароджана, мякіну ссыпалі.* Бакшты Іўеў. *Мякініца — куток у гумне для мякіны.* Лайпушкі Ігн. *Шопку на мякіну называлі мякініца. Цяпер не будуюць тых мякініцаў.* Баброўнікі Гарад. *Мякінніца рабілася ў застаранку.* Гемзы Шальч.

МЯКІ'НКА *ж. памянш.* да м я к і н а. *Пераграбаям бальшыя каласы, а самая мелкая мякінка астаецца.* Вузла Мядз. *Мякінка ест.* Гемзы Шальч.

МЯ'КІШ I, МІКІ'Ш *м.*, МЯКІШЫ', МЯКІШЭ', МІКІШЭ' *мн.* 1. Мышца. *У самум мякішы баліць. Мякіш баліць. Я старая, у мяне мякішаў няма, усё прысохла.* Магуны Паст. *Баляць мякішы на руках.* Альхоўцы Лях. *Мякішы на руках ад локця да рамёна* [пляча]. Жылі Іўеў. *Мякішы баляць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яшчэ цвёрдыя мякішэ, можна жыць на свеці.* Кіралі Шчуч. *Мякішэ мягкія, як порхаўка, атходзяць ат касці.* Каўняны Гродз. *Укола далі ў мякіш. Мікіш каля шыі ў каня. У маладых людзей цвёрды мікіш, у старых — слабыя мікішы, худыя.* Міратычы Карэл. 2. Лытка. *Урэзаў мякіш — нага баліць.* Дзяніскавічы Ганц. *За мікіш укусіў сабака.* Навасёлкі Свісл. 3. Сцягно. *На мякішы села скула, апанавалі скулы.* Вецярэвічы Пух. 4. Кончык пальца. *Знесла паляц, на мякішы дзірка.* Вецярэвічы Пух.

МЯКІ'Ш II *м.* 1. Мяккая частка печанага хлеба. *Мякіш адстае ад скарынкі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і м я з ґ á 2. *Мякіш у гарбузе ўнутры, дзе семкі сядзяць.* Глівін Барыс.

МЯ'ККАЯ, МЯ'ХКАЯ ВАДА' *ж.* Мяккая вада. *Там мяхкая вада, мыць галаву добра.* Груздава Паст.

МЯККІ' *гл.* МЯ'КІ'

МЯКЛІНА' *ж.* Тое ж, што і м я́ к і ш I, 3. *На мякліне села скула, але баліць — ай!* Кіралі Шчуч.

МЯКНЕ'ЦЬ *незак.* Мякчэць. *Як дабаўлялі да рэцькі канопнага малака, яна мякнее і мела смак.* Мсцібава Ваўк.

МЯ'КО *прысл.* Дробна. *Мяко змалоў муку.* Номікі Бабіц.

МЯКО'НЬКІ *прым.* 1. *памянш.* да м я́ к і 1. *Мяконькая трава.* Рыбчына Віл. 2. у знач. *назоўніка.* Сцягно. *Па мяконькім ударыла.* Саланое Віл.

МЯКО'ЦІНА *ж.* Тое ж, што і м я́ к і ш I, 2. *Церас бот сабака мякоціну чуць быў не вырваўшы.* Рагулішкі Даўг.

МЯКУ'ХА *ж. бат.* 1. Мякатніца адналістая. *Нады скасіць мякуху.* Лісна В.-Дзв. *Мякуха расце ў лужах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мякуха — мяккая трава на пожні і ў далінках расцець, біс сцяблоў.* Мярэцкія Глыб. 2. Від асакі. *Бывае асака і мякуха, і разуха.* Мярэцкія Глыб.

МЯКУ'ШКА *ж. бат.* 1. Мурава. *Мякушка пад дзеравамы, дзе цень.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і м я к у́ х а 1. *Мякушка расце ў вадаёме, мяккая.* Старыя Смільгіні Воран.

МЯКЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* да м я́ к і I, 3. *Мякчэйшу* [скарынку] *буду выбіраць.* Малахоўцы Бар. *Падбярэзнікі сіванькія, мякчэйшыя, як падасінавік.* Солы Смарг. *Як загаралі* [зааралі], *зямля стала мякчэйшая.* Вострава Маст. *Бяроза мацнейшая, ольха мякчэйшая.* Грыкені Вільн.

МЯКША' *ж.* 1. Тое ж, што і м я з ґ á 2. *У гарбузох унутры мякша, начай мязга.* Галубы Маст. 2. Мякаць мяса. *Із Ліды аднае мякшэ прывезлі.* Збляны Лід.

МЯ'ЛА, МЯ'ЛО *н.* 1. Драўляны таўкач. *Мялам таўклі бульбу.* Пацаўшчына Дзятл. *Мяла было, ціснулі лён.* Гальшаны Ашм. *Лён абмалоцяць, семя размелям мялам у мяліцы. Мялам кашу таўклі.* Вострава Маст. *Мяла з булдавешачкай, мном семя, мак.* Вецярэвічы Пух. *Мялам мелем мак. Трэбо кашу тоўчы мялам.* Мсцібава Ваўк. *Беры мяло, таўчы кашу. Валок, якім мак малолі ў мяліцы, называлі мяло, ім і картоплю таўклі, кашу таўклі.* Баброўнікі Гарад. 2. *перан.* Аб непаваротлівым чалавеку. *Знаеш, мяло такі, нерухавы, павольны.* Баброўнікі Гарад. ∇ *А запражэ таго каня і едзе, як мяло.* Заполле Скідз. *Які ш я сёння, як мяло, і ўстаць не хачу.* Баброўнікі Гарад.

МЯЛАВА'ТЫ *прым.* Не вельмі паваротлівы. *Але і мялавата яна!* Баброўнікі Гарад.

МЯ'ЛАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да м я́ л і ц а. 1. *Як дзеўкай была, так мялачкамы мялі лён.* Ракаўскія Швянч. 2. *памянш.* да м я́ л і ц а 2. *Мялачка была, мак малолі да куці. Былі мялачкі — пасудзіна такая, мак у іх круцілі.* Мсцібава Ваўк.

МЯЛЁН *м.* 1. Тое ж, што і м е л í н і с. *Мялён у жорнах.* Лісна, Дзёрнавічы В.-Дзв., Рагулішкі Даўг., Янова Рас. *Мялён зламаўсо, абруч утаркавалі.* Валынцы В.-Дзв. *Мялён быў круціць у жорнах.* Пасіене Лудз. *Мялён рухае паўпрыс-*

*ны камень* [у жорнах]. Мачаск Бярэз. 2. *перан.* Балбатун. *Мялён ты пусты.* Лоск Валож.

МЯ'ЛІННЯ *гл.* МЯ'ЛЯННЯ

МЯ'ЛІЦА *ж.* 1. Церніца. *У мяліцы зверху біла, мялі лён уручную.* Мярэцкія Глыб. *Мяліцы былі, лён мялі.* Валынцы В.-Дзв. *Мяліцаю мялі лён. Была мяліца ламака і чысцёха: анна ломе мяліца, другая чысце.* Латыгаль Віл. *Мяліца — што лён мяць.* Чуркі Ашм. *Мяліцай церлі лён: тры дошчачкі, а паверсе вярхнік.* Дзераўное Стаўб. *Мяліца даўгая, як ставіна.* Мачаск Бярэз. 2. Цёрла. *Мялам семя размелям у мяліцы — з гліны пасуда.* Вострава Маст. *Гліняна такая мяліца, насыпля маку і меле. Мяліца шарупавата, у мяліцы мак малолі.* Баброўнікі Гарад.

МЯ'ЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і м я́ л а 1. *Во якія мялкі прынясла, будзе падарак!* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і м я́ л і ц а 1. *Мялка дзеравяная, з лапы яловай, абрабілі тры дошчачкі, а паверсе вярхнік, церлі лён.* Дзераўное Стаўб. *Мялка дзераўная была.* Рагулішкі Даўг. *Былі мялкі, лён мялі.* Лайпушкі Ігн. 3. Жанчына, якая цёрла церніцай лён. *Мялкі гуртам мнуць лён.* Рудня Астравітая Чэрв.

МЯЛКІ' *прым.* Мелкі. *Мялкая канава.* Асавец Віл.

МЯ'ЛО *гл.* МЯ'ЛА

МЯЛЧЭ'Й *прым. выш.* Мяльчэй. *Дзе мялчэй, там купаюцца.* Саланое Віл.

МЯ'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і м я́ л і ц а 1. *У мяльніцы мялі лён.* Груздава Паст. *Мяльніцай цёрлі лён. Есць верхніца ў мяльніцы.* Магуны Паст. *У мяне мяльніца ёсць, што лён мяць.* Вузла Мядз. *Ляны мялі ў сенцах* [пры лазні] *мяльніцамі.* Крэва Смарг. *Мяльніцамі мялі лён.* Солы Смарг. *Мяльніца была, мялі лён.* Гемзы Шальч. *Мяльніцы былі, лён мялі.* Лайпушкі Ігн.

МЯЛЬЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Драбнейшы (пра сетку ў сіце). *Сіта — мяльчэйшая, рэшата — буйнейшая.* Солы Смарг.

МЯ'ЛЯННЯ, МЯ'ЛІННЯ *н.* Адходы ад пацёртага льну. *Мялянне — як мнуць лён.* Рыбчына Віл. *Прызбу каля хаты апсыпалі мяліннем.* Вузла Мядз. *Мяління с-пад мяліцы дробная.* Саланое Віл. *Мяління с-пад мяльніцы.* Мярэцкія Глыб. *Мяління — тое, што кастра. Мяління сыпіцца пат мяліцу.* Гайна Лаг.

МЯ'НДРЫ *мн. бат.* Рагоз шыракалісты. *Мяндры ў балоце растуць, шышкі такія.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *méndrė*||*néndrė* 'чарот'.

МЯНЁ'К *м. заал.* Мянтуз. *Мянёк бес касцей, адно — сярэдзіна. Мянькі растуць велькія.* Пацаўшчына Дзятл.

МЯНТА'ШКА, МЯНТО'ШКА, МІНТА'ШКА, МІНТА'ЧКА *ж.* 1. Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Мянташка — дзяравяная*

*лапатка, надзелаеш пілкай зупцоў, намочыш і пасыплеш мелкім пяском і па касе мянтачыш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мянташка дзераўяна.* Пасека Ст.-Дар. *Колісь мянтошку самі рабілі.* Івашкаўцы Смарг. 2. Лапатка, якой вымаюць патэльню з печы. *Мянташка — такая лапатачка, што патэльню бяруць. Мянташка — драўляная лапатачка, а дзе рукой бяруць,— вузейшая.* Малі Астр. 3. Мешалка. *Мінташкай мішалі, як хлеп рашчынялі.* Парэчча Гродз. *Мінтачкай сметану памешалі.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *meñtė* 'лапатачка'.

МЯНТО'ВЫ *прым.* Мятны. *Мянтовыя канфеты.* Вострава Маст. *Мянтовыя цукеркі мне добра.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *miętowy* 'тж'.

МЯНТО'СІЦЬ *незак.* Мянціць. *Касу мянтошкай калісь мянтосілі.* Івашкаўцы Смарг.; *параўн.* польск. *miętosić* 'мяць, камячыць'.

МЯНТУ'З, МЯНТУ'С, МЕНТУ'С, МІНТУ'С, МАНТУ'С, МЭНТУ'З, МЕ'НТУСЬ *м.* Тое ж, што і м я н ё к. *На мянтуза паставілі шнуры.* Ахрэмаўцы Брасл. *У мянтуза галава, як у жабы, на смак смашны.* Ёдлавічы Брасл. *Мянтус і калека называюць.* Рыбчына Віл. *Мянтус мякі, сліскі.* Рагулішкі Даўг. *Мянтус — такая рыба па-нашаму, а па-руску — налім.* Пасіене Лудз. *Налім па-нашаму — мянтус.* Істра Лудз. *Мянтус — галава жабіна, а сам чорны. Мянтус чорны, мяса яго смачная, скура здзіраецца, ад галавы пачнеш і ўсяго злупіш.* Гемзы Шальч. *У мянтуза адна косць.* Кудзялянцы Шальч. *Мянтус тонкі і сліскі.* Глівін Барыс. *Мянтузы водзяцца ў карчах, у норах.* Вузла Мядз. *Мянтузы вадзіліся ў Котры, няма іх цяпер.* Стральцы Гродз. *Мянтузы бываюць тут.* Кіралі Шчуч. *Мянтузы тэрас выкасаваліся.* Руднікі Шальч. *Мянтусы ўкусныі.* Янова Рас. *Мянтусы водзяцца ў Друці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смашна рыба ментус.* Баброўнікі Гарад. *Ментузы раньшы лавілі.* Шкаўна Лудз. *Мінтус скольскі, рукам ловяць.* Навікі Лудз. *Сом з мантуса, гаварылі, с прыроды.* Дакудава Лід. *Мэнтуз в рэке.* Смаляніца Пруж. *У невудзе ментусь, угорыч, плотка.* Петкуны Брасл.

МЯНТУ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Мянтушкаю менцяць.* Малахоўцы Бар. *Мянтушка была косу менціць.* Валеўка Навагр. *Мянтушка дзераўяна мянціць касу.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і м е́ н т а 2. *Памяшай мянтушкай, хай астыня.* Старыя Трокі Трак.

МЯНТЭ'ШКА *ж.* Тое ж, што і м е́ н т а 2. *Мянтэшкай мяшалі яду свінням. Вазьмі мянтэшку і замяшай свінням.* Мярэцкія Глыб.

МЯНЦЮ'ШКА, МЯНЬЦЮ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Касу менцяць бруском і мянцюшкай.* Дакудава Лід. *Мянцюшка — што мянціць касу. Дай мянцюшку памян-*

*ціць касу.* Старыя Смільгіні Воран. *Мянцюшкай вастрылі касу. Мянцюшка — дошчачка, як брусок. Дошчачку мазалі і налеплівалі дромны жвір — і мянцюшка гатова.* Пацаўшчына Дзятл. *Мяньцюшка — прыбор да касы, каторай гострацъ касу.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і м е́ н т а 2. *Мянцюшка была — лапатачка такая кашу мяшаць.* Кудзялянцы Шальч. *Мянцюшкай добра бліны выбіваць.* Старыя Смільгіні Воран. *Была драўляная мянцюшка, кашу вымяшаць мянцюшкай добра.* Руднікі Шальч. 3. Лапатачка, якой змазвалі калёсы. *Мянцюшка — дошчачка, чым мазалі калёсы.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *От есь, як мянцюшка.* Гемзы Шальч.

МЯНЦЯ′ *ж.* 1. Тое ж, што і м е́ н т а 1. *Мянця касу гострыць.* Кіралі Шчуч. *Менцяць мянцёй.* Навасёлкі Лід. *Мянця менціць касу, а брусок гострыць.* Галубы Маст. 2. Тое ж, што і м е́ н т а 2. *Мянцю прынясу. Мянцёй хлеп мяшаю.* Старыя Смільгіні Воран.

МЯНЬЦІ′ЦЬ, МЯНЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і м я н т о́ с і ц ь. *Меньця меньціць косу.* Мсцібава Ваўк. *Мянтушкаю меньцяць.* Малахоўцы Бар. *Буду касу мяньціць.* Гемзы Шальч. *Асёлкай меньцяць косу.* Кнышэвічы Бабіц. *Косу меньцяць.* Сакаляны Сакол. *Касу меньціць трэба часто, будзе летко касіць.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт. *Я сама мянціла касу.* Крэва Смарг. *Нада касу мянціць.* Кіралі Шчуч. *Бруском менцяць, а клепяць бапкай і малатком.* Чуркі Ашм. *Мянцій косу.* Міратычы Карэл. *Умееш ты, Геню, косу мянціць?* Верхлессе Крын. 2. *перан.* Круціць хвастом. *Цялёнак хвастом менціць.* Парэчча Гродз. 3. *перан.* Біць. *Не панаравіласё, давай яе мянціць.* Новіны Нясв.; *парайн.* літ. *menčiúoti* 'вастрыць'.

МЯНЮ′ШКА *ж.* Мянушка. *Мянюшкі былі, дражніць чалавека.* Валеўка Навагр.

МЯНЮ′ШЧЫЦЬ *незак.* Лаяць. *Мянюшчыць міне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стаіць там і мянюшчыць усіх.* Стральцы Гродз.

МЯНЯ′ЦЦА *незак.* Зменьвацца. *Свет меніцца.* Старыя Смільгіні Воран.

МЯНЯ′ЦЬ I *незак.* 1. Абменьваць. *Мянялі коні.* Мярэцкія Глыб. *Набрала воўны, буду мяняць белую на чорную.* Лісна В.-Дзв. 2. Замяняць. *Я многа маю* [сукенак] *і мяняю часта.* Малі Астр. *Конь мяняя зуба.* Старыя Трокі Трак. 3. Зменьваць. *Цырта пры нэрасце віт мяняя.* Быстрыца Астр. *Чалавек быў быстры і красаты не мянёў.* Парэчча Гродз. ∇ *Бох не гуляе і добрае на дрэннае міняе.* Ухвала Круп. *Хочаш мяняць, будзя хамут гуляць.* Малі Астр. ◇ *Ногі мяняць* — ісці. *Яна ідзе, як спіць, ледва ногі мяняя.* Кіралі Шчуч. *Аслабела, не магу нох мяняць.* Міратычы Карэл. *Ногі не магла мяняць, ногі не мяняліся.* Вецярэвічы Пух.

МЯНЯ'ЦЬ II *незак.* Гаварыць недарэчнае. *Ні мяняй языком. Што ты мяняяш языком?! А мой сядзіць і мяняя. Кладавіся і ні мяняй!* Навасёлкі Свісл.

МЯРГАВА'ЦЬ *гл.* МЕРКАВА'ЦЬ

МЯРДВА' *зб. ж.* Татары. *Некалі ішлі татары — мярдва.* Альхоўцы Лях.

МЯРЗЛЯ'К *м.* Лядзяк. *Мярзлякі звісаяць зімой са страхі.* Крэва Смарг.

МЯРКАВА'ЦЬ *гл.* МЕРКАВА'ЦЬ

МЯРКАТА'ЦЬ *незак.* Бляяць. *Баран стаіць і бляець, конь кажыць: «Мяркачы ні мяркачы, а воўк знаець, кага з'есці».* Ваўкалатка Мядз.

МЯ'РКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кошка мяркаіць і звядзець с чардака кацянёнка.* Валынцы В.-Дзв.

МЯРКІТАВА'ЦЬ *гл.* МЕРКІТАВА'ЦЬ

МЯРЛІ'НЫ *мн.* Пахаванне. *Хадзілі на мярліны. Быў на мярлінах.* Вострава Маст. *Мярліны ў нашай вёсцы.* Навасёлкі Свісл.

МЯРЛО'Г, МЯРЛО'Х *м.* 1. Бярлог. *У мярлозі спіць мядзвець.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Лежня. *Мярлох нашла, верна, тут ліжаў лось ці воўк.* Лісна В.-Дзв. *У мярлозе свіня спіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свіня мярлох дзелаіць, будзіць парасіцца.* Ёдлавічы Брасл. *Свіня мярлох робіць.* Валынцы В.-Дзв. *Свіны мярлох.* Кураполле Паст. *Як пасцеля благая, кажуць: «Як у мярлогу спіць». Свіння ляжыць у мярлогу, трэба ўкінуць у мярлох саломы. Німа ў свінні ў мярлозя саломы.* Саланое Віл. *Свіня робіць мярлох, парасіцца будзя.* Солы Смарг. *Мярлох у свіні.* Груздава Паст. *Мярлох у свіней.* Янова Рас. 3. *перан.* Подсціл. *Паткінь свінням мярлогу. Свіня ўрылася ў мярлох.* Груздава Паст.

МЯРЛО'ГА *ж.* Тое ж, што і м я р л о́ г 1. *Мярлога воўчая.* Індра Красл.

МЯРНІ'ЧЫ *гл.* МЕ'РНІЧЫ

МЯРО'Ж, МЯРО'Ш *м. рыб.* Мярэжа. *Вангор папаўся ў мярош.* Магуны Паст.; *гл.* м і р о́ ж а.

МЯРО'ЖА *гл.* МІРО'ЖА

МЯ'РТВЫ' *прым.* 1. Мёртвы. *Мя́ртвую прывезлі дамоў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Абамлелы. *Я такая мя́ртвая — стаю лі дасок, баюся ў хату зайсці.* Вузла Мядз. ▽ *Ляжала, як мяртвáя, уся, як змярцвеўшы.* Груздава Паст. ◇ *Уцякаў, хто жывы ці мя́ртвы* — у стане вялікага страху. *Да Ляхавіч едзе, нап'ецца і свае дзеці часта біў, уцякалі, хто жывы ці мяртвы́.* Альхоўцы Лях.

МЯРТВЯ'К *м. перан.* Зерне, якое не дае ўсходаў. *Як веялі зерня, веялкамі кідалі, зярня крупнае леціць да дзвярэй, мякіна, мяртвяк не далеціць, дзе буйное.* Пацаўшчына Дзятл.

МЯРЦВЕ'Ц *м.* Мярцвяк. *Мярцвец ляжыць у сяле, павязлі мірцвіца хаваць.* Мярэцкія Глыб. *Мярцвец там ляжыць, ідзём паглядзём.* Гемзы Шальч. *Ваўкі аткопавалі мерцвяцоў на могліцах; камнямі закладалі, кап не аткопавалі.* Саланое Віл. ∇ *Быў, як мярцвец, ды вось краска крышку паявілася.* Валеўка Навагр.

МЯРЦВЕ'ЦЬ, МЯРТВЕ'ЦЬ *незак.* Дранцвець. *Рукі мярцвеюць, я жыхар слабой.* Валынцы В.-Дзв. *Мярцвеюць рукі.* Саланое Віл., Лісна В.-Дзв. *Пальцы мярцвеюць: становяцца белыя і халодныя.* Магуны Паст. *Мярцвеюць ногі, сударга сцягнула нагу.* Рагулішкі Даўг. *Рукі мяртвеюць, колькі копані выкапалі!* Міратычы Карэл.

МЯРЦВІ'К *м.* Тое ж, што і м я р ц в е́ ц. *Мярцвік ляжыць, пакрывала пакрываюць.* Рыбчына Віл. *У сяле мярцвік, нехарашо гулянь ці пець.* Рудня Астравітая Чэрв.

МЯРЦІ' *незак.* Паміраць. *Сталі людзі мярці.* Саланое Віл.

МЯРЭ'Ц *м.* Тое ж, што і м я р ц в е́ ц. *Сёня два мярцэ, ідуць глядзець. Даюць абет па мярцу: як пахаваюць, паклічуць усіх, хто памагаў.* Кіралі Шчуч. *Мярэц у хаце ляжаў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мярэц нядаўна ў іх дзярэўні быў.* Пацаўшчына Дзятл. *У яе хаце мярэц.* Галубы Маст.

МЯ'СА *н.* і *ж.* 1. Мяса. *Худоя мяса не купляй, тлустоя мяса вязі.* Ёдлавічы Брасл. *Яна заверніць мяса ў попіл, і не порціцца.* Рагулішкі Даўг. *Мяса з лося цвёрдае, як дрэва.* Цяпінцы Віл. *Тая мяса ў нядзелю была дзешава.* Ёдлавічы Брасл. *Мая мяса гатова, зварылася. Ты маю мясу з'еў.* Старыя Смільгіні Воран. *Скушай мясу сягоня маю, а заўтра тваю.* Малькуны Ігн. 2. Мякаць гарбуза. *У гарбузу мяса, а потым мяздра, дзе насення.* Плябанцы Ашм. *Мяса з гарбуза вырэзываюць і даюць карові.* Кіралі Шчуч. 3. Тое ж, што і м я з ґ а́ 2. *Выкінь мяса з гарбуза.* Крэва Смарг. *Гарбузікі паўціскаю з мяса.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *У чужой старане і жук — мяса.* Малі Астр.

МЯСАЕ'Д, МЯСАЕ'Т, МІСАЕ'Т *м. рэліг.* Перыяд пасля каляд, калі па закону праваслаўнай царквы дазваляецца есці мяса. *Нарадзіўся ён у мясает.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мясает — ат калят да посту, велькія маразэ тады бываюць.* Кіралі Шчуч. *Патраўку вараць у мясает. У мясает ён быў у нас.* Лоск Валож. *Мясает то после рождзества аж до вялікого посту, а там зноў пост.* Баброўнікі Гарад. *Місает перад масляніцай.* Рыбчына Віл.

МЯСІ'СТЫ *прым.* З вялікай колькасцю мяса. *Угор — такая крупная мясістая рыба.* Мельнікі Лудз.

МЯСІ'ЦЬ, МІСІ'ЦЬ *незак.* 1. Мясіць. *Дайней удзвёх мясілі дзяжу.* Кураполле Паст. *Хазяева рашчынялі* [хлеб], *а я мясіла і прыпявала.* Чуркі Ашм. *Я хлеп мясіла, жаць ішла,*

*свіня карміла.* Малі Астр. *Буду мясіць хлеп.* Бенякові Воран. *Хлеп місілі.* Індра Красл. 2. Таўчы. *Калатовачкай мясілі картошку.* Валынцы В.-Дзв. *Калатоўкай кашу мясілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЯСНА'Я МУ'ХА *ж.* Базарная муха. *Мясныя мухі сядуць — і там кучка рабачкоў.* Старыя Трокі Трак.

МЯСНІ'ЦЫ, МЯСНІ'ЦІ *мн.* Тое ж, што і мясаед. *Сістра перад мясніцамі ішла замуш.* Кураполле Паст. *Найбуольш вэсілюов у сэліе было в мясніці.* Курашэва Чыж.

МЯ'СТА *н.* Горад. *Па мястох цягаўся.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *miasto* 'тж'.

МЯСЦЕ'ЧКА, МЯСТЭ'ЧКА *н.* Мястэчка. *Ездзілі ў мясцечка за гравілем.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тут было мясцечка Вецслабада, а іменіе Істра.* Мельнікі Лудз. *Была ў мястэчку.* Кемялішкі Астр.

МЯСЦІ', МЕ'СЦІ *незак.* 1. Падмятаць. *Мясці буду хату.* Міратычы Карэл. *Нада мясці хату.* Янова Рас. *Месці буду. Наперат мяту.* Гальшаны Ашм. 2. Месці (пра мяцеліцу). *Мяцеліца мяцець у вочы.* Ністанішкі Смарг.

МЯСЦІ'НА *ж.* Мясцовасць. *Мясціна, дзе гэтыя капцы, называяцца Валатоўкі.* Груздава Паст. *Мясціны красівыя.* Чычалі Швянч.

МЯ'ТА *ж.* Мята. *Мяту ад жавата п'юць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Калі вольны жалудак, п'юць мяту.* Солы Смарг. *Бывая мята халодная, мята пуховая.* Рагулішкі Даўг. *Мята проста расце ў гароччыку, есць мята лядоўка, як цукеркі, мятная, параць ад жывата.* Кіралі Шчуч.

МЯТЛА' *ж.* Венік. *Мётлы вяжуць з быльніка і хаты мятуць.* Ёдлавічы Брасл.

МЯ'ТЛІК *м.* Матылёк. *Мятлікаў было поўна дзе калі ракі, над вадой.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мятлікі розныя бываюць.* Рагулішкі Даўг. *Мятлікі белыя на капусці.* Мярэцкія Глыб. *Мятлік нат цвеццем порхаіць.* Якубова Рас. *Мятлікі на капусце сідзяць, жоўценькія, белыя.* Беразіно Докш. *Мятлікі капусныя белыя.* Шкаўна Лудз.

МЯТЛІ'ЦА I *ж. бат.* 1. Мятлюг. *Мятліца высокая, як жыта. Мятліца, як пырнік, выпуская, як авёс.* Быстрыца Астр. *Мятліца пасохла.* Граўжышкі Ашм. *Мятліца ў жыці, яна расце бальшая.* Кіралі Шчуч. *У нашуй пшаніцы адна мятліца парасла.* Яцаўляны Сідр. *Мятліца ў жыце расце.* Дзяніскавічы Ганц. *Мятліца ў жыці расце, у аўсе, у пшаніцы расце.* Баброўнікі Гарад. 2. Метлюжок-мурава. *Мятліца проста расце на санажаці.* Кіралі Шчуч. *Мятліца расце па сенажаці, у полі, усюды.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мятліца — цвёрдая трава, абы чуць пастарэла, яна, як дрот.* Гемзы Шальч. *У лузе мятліца расце.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Мятліца хлебу памачніца — так даўна казалі.* Вузла Мядз.

МЯТЛІ′ЦА II *ж.* Дробная соль. *Дай мне мятліцы!* Жыдзевічы Іўеў.

МЯ′ТЛІЧАК *м. памянш.* да м я́ т л і к. *Мятлічкі лятаюць калі капусты.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЯТЛО′ *н.* Тое ж, што і м я т л а́. *С хвойкі мятло рабілі.* Кудзялянцы Шальч.

МЯТЛЯ′К *м.* Тое ж, што і м я т л і́ ц а I, 1. *Мятляк заканчваецца мяцёлкай.* Альхоўцы Лях.

МЯТЛЯЧО′К *м. памянш.* да м я т л я́ к. *Мятлячок рос з мяцёлкай.* Альхоўцы Лях.

МЯТРО′ВІКІ *мн.* Палены даўжынёй у адзін метр. *Атпіхівалі баграмі мятровікі — драва, што сплаўлялі.* Чарняўскія Лудз.

МЯ′ТЫ ў знач. *прым.* Пазбаўлены пругкасці. *Мяту салому рэжуць у сечку.* Кіралі Шчуч. *Мята салома.* Стральцы Гродз.

МЯ′ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кошка мяўкаіць, ідзі выпусці.* Кураполле Паст. *Кошка мяўкаіць.* Кемялішкі Астр. *Чаго кошка мяўкая?* Кіралі Шчуч.

МЯ′ЎЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і м я́ ў к а ц ь. *Котка мяўчыць.* Воўкуш Ліпск.

МЯ′ХКА *гл.* МЯ′КА

МЯЦЕ′Ж, МЯЦЕ′Ш *м.* Мяцеж. *Быў мяцеш.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Мяцеш быў, пашлі мы проціў мяцежнікаў.* Вялікія Баяры Шчуч.

МЯЦЕЖА′ *ж.* Паўстанне. *Яшчэ як была мяцежа, мой дзет помніў.* Лоск Валож.

МЯЦЕ′ЛІЦА *ж.* 1. Завея. *Мяцеліца курыць.* Мярэцкія Глыб. *Сягання мяцеліца мяцець.* Рыбчына Віл. *Мяцеліца як дась, гоня, што не выйсці.* Граўжышкі Ашм. *Ну і мяцеліца, ну і мяце! Мяцеліца такая, замерс!* Солы Смарг. *Мяцеліца сыпя са страхі ў вочы.* Старыя Смільгіні Воран. *Мяцеліца дуе, снегам мяце, завея дарогі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мяцеліца мяце.* Вострава Маст. *Мяцеліца мяце, нічога не відаць.* Гемзы Шальч. 2. у знач. *прысл. мяце́ліцай.* Хутка. *Згарэў ба ён, кап я мяцеліцай пашла мужа шукаць!* Малі Астр.

МЯЦЕ′ЛЬ *ж.* Тое ж, што і м я ц е́ л і ц а 1. *Мяцель усё замяла, гурбы снегу намяло.* Альхоўка Навагр. *Мяцель мяце.* Старое Сяло Зэльв.

МЯЦЕ′ЛЬНІК *м.* Дзяржанне ў мятле. *На мяцельнік насаджвалася мітла.* Кураполле Паст.

МЯЦЁЛКА *ж.* Доўгія валасы на канцы хваста ў каровы. *На хвасце ў каровы рэпка і мяцёлка.* Вялікія Баяры Шчуч.

МЯЦЕ′Ш *гл.* МЯЦЕ′Ж

МЯЦЦЁ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова *мяць.* *Пасля мяцця трапаем лён.* Вузла Мядз.

МЯЦЬ, М'Я'ЦІ *незак.* 1. Церці (пра лён). *Коньмы мялі лён.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада было лён мяць, трапаць.* Буды В.-Дзв. *Мялі лён мячкі.* Латыгаль Віл. *Хадзіла ў калхос, лён мялі ўручную.* Вузла Мядз. *Лён сушаць і мнуць.* Лоск Валож. *Пойдуць мяць лён.* Гемзы Шальч. *А калі-то казалі: мяць лён.* Стральцы Шальч. 2. Таўчы. *Сыплют у ступу і м'ют. Трэба м'яці мак.* Ялова Пруж. ∇ *Хоць кажух мяць, абы не гуляць!* Кузьмічы Люб.

МЯЦЮ'К *м.* Спакладаны парсючок. *Мяцюк — парсючок вылажаны.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *meičiùkas* 'тж'.

М'ЯЧ *м.* Мяч. *М'ячэм іграе.* Смаляніца Пруж.

МЯЧАЯ' *ж.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў. *Мячая ў жорнах. Насыпай, а то мячая пустая.* Бакшты Іўеў.

МЯ'ЧКА *ж.* 1. Тое ж, што і м я́ л к а 3. *Мячкі лён трэплюць.* Саланое Віл. *Сабралі бап, або мячак. Мячкі лён мнуць.* Рыбчына Віл. *Было адзінаццаць мячкаў.* Гальшаны Ашм. *Збіралі талаку мячак мяць лён. Мячкі мялі лён.* Латыгаль Віл. *Як падбярэш* [лён] *із лежні, у кулі вяжыш. Колькі кулёў паставіў, толькі нада мячак — бабаў браць.* Крэва Смарг. 2. Тое ж, што і м я́ л і ц а 1. *Мячкамі лён мнуць.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Мячкай лён мнуць.* Беразіно Докш. *Німа мячкаў, трэба ісці старацца мячкаў.* Гемзы Шальч.

МЯ'ЧЫК *м.* Тое ж, што і м' я ч. *Яна мячык кідала на страху.* Саланое Віл. *Мячыкам пусціў у плечы, па галаве. У мячыкі гулялі.* Парэчча Гродз.

МЯЧЭ'ЎНІК *м. бат.* 1. Рагоз. *На мячэўніку пухоўкі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Сіт. *Мячэўнік круглы, ткуць палавікі, ніткамі снуюць, а мячэўнікам патыкаюць. Лясны мячэўнік і балотны мячэўнік.* Рыбчына Віл.

МЯША'ЛКА *ж.* Мешалка. *Мяшалкай мяшаюць. Часта замест мяшалкі карыстаюцца секачом.* Гемзы Шальч.

МЯША'НКА *ж.* Мешанка. *Мяшанку рабілі: умесці ссыпяць ячмень, авёс, жыта і пялюшку і малолі для свіней.* Гемзы Шальч.

МЯША'ЦЬ, МІША'ЦЬ I *незак.* 1. Пераворваць паўторна. *Цяпер мяшаць трэба.* Лайпушкі Ігн. *Першы рас аралі, тады мяшалі, трэці рас не аралі.* Мярэцкія Глыб. *Мішалі пад жыта.* Валынцы В.-Дзв. *Нада поля мішаць.* Рагулішкі Даўг. 2. Замешваць. *Свіням мяшаюць.* Паляцкішкі Воран. *Мілту сырую робяць: вады ўльеш і мяшаеш, гусцея — і камкі ляпілі.* Гальшаны Ашм. 3. Змешваць. *Трасянку мяшаюць.* Навасёлкі Лід. 4. Рашчыняць цеста. *Дзешка была, мяшалі хлеп.* Стральцы Шальч. 5. Дабаўляць. *Кроў хто мяшае да вантрабянкі.* Чуркі Ашм.

МЯША'ЦЬ, МІША'ЦЬ II *незак.* Перашкаджаць. *Мяшаець у рабоце.* Груздава Паст. *Такія наглыя куры, адна ку-*

*ра другой мяшая нясціса.* Кузьмічы Люб. *Вам ня будзіць мішаць?* Буды В.-Дзв.

МЯШКАВА'ТЫ, МЕШКАВА'ТЫЙ, МІШКАВА'ТЫ, МІШКАВА'ТЫЙ *прым. перан.* Непаваротлівы. *Памалу робіць, памалу ходзіць — мяшкаваты.* Кіралі Шчуч. *Ён мяшкаваты, хто за яго пойдзя, не будзя жаніцца.* Малькуны Ігн. *Мешкаватый чалавек не дагоніць каровы.* Ёдлавічы Брасл. *І коні, і людзі такія есць мішкаватыя, чуць ідзець.* Кураполле Паст. *Бычонак мішкаватый, елі паварачываецца.* Рагулішкі Даўг.

МЯШКАВА'ЦЬ *незак.* Насыпаць мяхі (зернем). *Мяшкавалі пшаніцу.* Сычэва Нясв.

МЯШО'К *м.* 1. Мех. *Трэба мяшок вытрасці.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мяшкі і коўдры шылі с пакуль.* Гемзы Шальч. 2. Мера чаго-н. сыпкага, роўная 3—5 пудам. *У мястэчке важаць, а мы на мяшке прадаем.* Парэчча Гродз. *У мяшкох тых была мука.* Паляцкішкі Воран. *Як малоцяць — ссыпаюць у мяшкі.* Ліпнікі Вільн. 3. *перан.* Лічынка мурашкі. *Разграбі капец, мурашкі іх мяшке носяць.* Вецярэвічы Пух. 4. *перан.* Хто непаваротлівы. *Вот мяшок пасунуўся, памалу ходзіць, памалу робіць.* Кіралі Шчуч.

МЯШЭ'ЧАК *м. памянш.* да м я ш о́ к 1. *Мяшэчак прынясла.* Жодзішкі Смарг.

# Н

НА І *прыназ.* І з *він.* 1. Пры ўказанні месца, якое з'яўляецца канцавым пунктам руху або месцам знаходжання. На, у. *Вязуць на магілку.* Паляцкішкі Воран. *Пашоў на сяло.* Ністанішкі Смарг. *Даўней трэба дзіця цягнуць на поле.* Канюкай Вільн. *Паехала на Польску.* Гемзы Шальч. *Я даўно была, на вашым Мінску слаба чаго было: ні есці, ні адзецца, цяпер, кажуць, багаты горат.* Крэва Смарг. 2. Пры ўказанні на аб'ект, у бок якога накіраваны рух. На. *Ехала на Полацак.* Валынцы В.-Дзв. *На той лес пашлі.* Ракаўскія Швянч. 3. Пры ўказанні на ўстанову, у якую накіроўваюцца са справай. У. *Думаю падаць на сут.* Номікі Бабіц. 4. Пры ўказанні на аб'ект, на паверхню якога змяшчаюць што-н. На. *На дуткі пасеіў гарох на непаханым полі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гной на воз накідалі, з воза выкідалі.* Паляцкішкі Воран. *Віць на клубок.* Грыкені Вільн. 5. Пры ўказанні на музычны інструмент, на якім іграюць. На. *На дуццы грая.*

Альхоўцы Лях. *Ен на скрыпачку йграў.* Латыгаль Віл. *Даўней ігралі на скрыпу і танцавалі пад гэту музыку.* Вецярэвічы Пух. 6. Пры абазначэнні асобы ці групы асоб, да якіх праяўляюцца адносіны ці дзеянне. На, да ці адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Мы прывыкшы на людзі.* Быстрыца Астр. *Ні чакалі на яе.* Граўжышкі Ашм. *Яна на міне нісславу палажыла.* Рыбчына Віл. 7. Пры ўказанні на асобу, да якой звяртаюцца. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з давальным. *Кажу на яго: «Ні ець, я хворая!» — а ён не захацеў варачацца.* Жодзішкі Смарг. 8. Пры ўказанні на аб'ект, у бок якога накіравана дзеянне. У. *На маму выстраліў, мама пры калысцы былі.* Мсцібава Ваўк. 9. Пры ўказанні на прадмет, на які што-н. абмянялі. На. *Памінялі карову на каня.* Кураполле Паст. 10. Пры ўказанні на аб'ект ці прадмет, для якога што-н. робіцца. Для. *Пакінь каласоў на мышы.* Старыя Смільгіні Воран. *Прыстрою яе на свіня ці на куры.* Стары Свержань Стаўбц. *Я сам на гэту хату вазіў лес з Дукшты.* Грыкені Вільн. 11. Пры ўказанні на орган зроку, слыху і інш. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з творным. *На нос нюхаеш. На вушы чуіш.* Альхоўцы Лях. 12. Пры ўказанні на прызначэнне прадмета. Для, на. *Упранш на выяст.* Быстрыца Астр. *Гаршчок на малако.* Грыкені Вільн. *Кублы на сало.* Судэрва Вільн. *На насеня пакідалася насення жыта.* Рудня Астравітая Чэрв. *У той дзежцы не кратай — гэта на насення.* Азяраны Раг. 13. Пры ўказанні на прадмет, які павінен з'явіцца ў выніку ўздзеяння нейкай з'явы. На. *Дожджык на грыбы.* Ністанішкі Смарг. 14. Пры ўказанні на аб'ект, у які ператварыўся іншы аб'ект. На, у. *На зязюлю абярнулася.* Пяркі В.-Дзв. 15. Пры ўказанні на асобу, якая выконвае пэўныя абавязкі. На. *Почта чыслілася на мяне.* Магуны Паст. 16. Пры ўказанні на аб'ект, аб якім ведаюць або не ведаюць што-н. Аб, пра. *Я на птушкі не знаю.* Ністанішкі Смарг. 17. Пры ўказанні на аб'ект, пра які забыліся, які чакаюць, які клічуць, бачаць. Пра; адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Я і забылася на яе.* Груздава Паст. *Вот мама забылася на мяне.* Гальшаны Ашм. *Забыўся на свой дом.* Кухты Віл. *Гукаю на іх.* Альхоўцы Лях. *Жду на тыбэ.* Дзмітравічы Кам. *Кап тады на міне ўвідзіўшы.* Індра Красл. 18. Пры ўказанні на калектыў, куды накіроўваецца аб'ект. Да. *Яна не прыбралася і так вышла на людзі.* Старыя Смільгіні Воран. 19. Пры ўказанні назвы хваробы. На; адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Хварэў на падучку.* Лоск Валож. *Бальны на зоп. Забалеў на рака. Яна яшчэ дзеўкаю хварэўшы на запаленя мазгоў.* Паляцкішкі Воран. *Там хворыя на заразную хваробу.* Ністанішкі Смарг. 20. Пры ўказанні на орган, які з'яўляецца хворым або здаровым. На. *Хварэў на сэрца і па-*

*мёр.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён хварэя на плюцы.* Магуны Паст. *Мужык на горла хварэў.* Новікі Гродз. *На сэрца балела.* Груздава Паст. *Захварэла на жывот.* Паляцкішкі Воран. *На сэрца хворы. На лёхкія хворы.* Жылі Іўеў. *Яна на сэрца слаба.* Альхоўцы Лях. *Забалела на ногі.* Старыя Трокі Трак. *На сэрца была здаровая.* Лоск Валож. 21. Пры ўказанні на спецыяльнасць, якой авалодваюць. На. *На ніжынера вучыцца.* Дзераўное Стаўб. *Вышла на настаўніцу.* Альхоўка Навагр. *Вын учэвся на кровця.* Дзмітравічы Кам. 22. Пры ўказанні на падабенства каго-н., чаго-н. з кім-н., чым-н. На. *Мацярдушкі лісцік пахожы, як на мяту.* Быстрыца Астр. *Падобная на матку.* Рудня Астравітая Чэрв. 23. Пры ўказанні на становішча ў пэўным асяроддзі. У. *Ён на прымачы* [у прымы] *пашоў.* Саланое Віл. 24. Пры ўказанні на стан прадмета. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Смародзіна на сырога добра.* Быстрыца Астр. *Палячыла ногу — усё пахваталосо на банькі.* Кузьмічы Люб. 25. Пры ўказанні на ўмову, з наступленнем якой адбудзецца дзеянне. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з назоўным. *Як станя на пагодзі, буду касіць.* Альхоўка Навагр. 26. Пры ўказанні на час або перыяд часу, калі адбываецца дзеянне. На, к або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Вясною на подсвят едзем на рэчку ставіць вянцярэ.* Стральцы Гродз. *У іх на нядзелю пяць рас б'юцца.* Ністанішкі Смарг. *На коляды налапаюць рыбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Марыля была баба трывалая, на згон зімы босая хадзіла.* Саланое Віл. *Жыта на зіму сеяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ужо на зорачку займаецца, будзя відняць, неба розавата. Не астаўляя на зіму.* Альхоўка Навагр. *На зіму пакінулі. Занімаецца на зару.* Альхоўцы Лях. *Мы сеялі на мая картошку.* Багушэвічы Бярэз. *Пасы мушчызны насілі і на штодзень.* Старыя Трокі Трак. *Слонца на вечар ужо.* Гемзы Шальч. 27. Пры ўказанні на колькасць. На. *Грабельцы на два зупкі, капаюць бульбу.* Магуны Паст. *На чатыры рогі паставілі.* Старое Сяло Зэльв. 28. Пры ўказанні на колькасную розніцу. На. *На пяць лет старэйшая.* Старое Сяло Зэльв. 29. Пры абазначэнні прадмета, які з'яўляецца мерай падзелу, адзінкай вымярэння. На. *На чалавека па паўкіля дадуць. На рубля набрала зёлкаў.* Гальшаны Ашм. 30. Пры абазначэнні мэты дзеяння. На, у. *Ідзе на лён.* Груздава Паст. *Мой дзет хадзіў на прыгон. Сын прыехаў на госці.* Магуны Паст. *Работнік пашоў на отпуск.* Крэва Смарг. *Пашлі на госці.* Ністанішкі Смарг. *На госці трэба з'ездзіць.* Саланое Віл. *Паехалі на госці. Той, каторы запрасіў на госці, паказаў золата.* Лоск Валож. *На вотведы ідуць, алаткі нясуць, скварохнікі.* Вецярэвічы Пух. *Пайсці на госці трэба.* Рудня Астравітая Чэрв. 31. Ва ўстойлівых зваротах. *Карова на быка паднілася.* Валынцы В.-Дзв.

*На дом пашоў* (у прымакі), *падзёрліся — і прапаў чалавек.* Ёдлавічы Брасл.

II. з *месн.* 1. Пры ўказанні месца, дзе адбываецца дзеянне. На, у. *На падворку нехта слухае радзіва.* Солы Смарг. *Доўга на сяле сядзела.* Лоск Валож. *На млыне быў.* Груздава Паст. *Як скаціна на хлеве, то вучыліся.* Латыгаль Віл. *Бярэ рукою рака на возеры.* Грыкені Вільн. *На нізе спея.* Альхоўка Навагр. 2. Пры ўказанні аб'екта, на паверхні якога што-н. знаходзіцца. На. *На зямлі ляжыць.* Лоск Валож. *На мне была цяплушачка.* Дзераўное Стаўб. 3. Пры ўказанні на прадмет, які служыць сродкам перамяшчэння. На. *На алтобусе прыехаў.* Гемзы Шальч. 4. Пры ўказанні асобы, на якой ляжыць выкананне абавязкаў. На. *На мне была ўся работа.* Валынцы В.-Дзв. 5. Пры ўказанні на частку цела, аб стане якой ідзе размова. У. *Трудна на грудзях.* Паляцкішкі Воран. 6. Пры ўказанні асяроддзя, дзе знаходзіцца аб'ект. На. *Быў на людзях.* Стральцы Шальч. 7. Пры абазначэнні часткі цела, якая з'яўляецца апорай. На. *На каленічках памяцём хату.* Саланое Віл. 8. Пры канкрэтызацыі роду заняткаў. Па. *Была звянавая на льну.* Быстрыца Астр. 9. Пры ўказанні на стан цела, яго часткі ці якога-н. прадмета. У. *Усё цело на сінякох.* Кузьмічы Люб. *А ногі на гузах.* Паляцкішкі Воран. *Уся печань була на гнаі.* Кузьмічы Люб. *Пульхны хлеб на дзірачках.* Беняконі Воран. 10. Пры ўказанні на становішча каго-н. У. *У нас палякі былі толькі на прымах.* Латыгаль Віл. 11. Пры ўказанні на сферу ці вобласць выяўлення прыкметы. На. *На ачах у яе пагіп.* Ністанішкі Смарг. 12. Пры ўказанні на час або адрэзак часу, калі адбываецца дзеянне. Пры. У выразах: *на маёй (нашай) памяці: гл.* па́мяць. *На нашай памяці ўся вёска змёрла* [памёрлі старыкі], *а ўжо і за намі вочарадзь.* Саланое Віл. *Лапці на маей памяці плялі, у лапцёх ганяла ў поля.* Лісна В.-Дзв.

НА II *часц.* Вазьмі, бяры. *На табе чыстыя штаны, Генусь.* Солы Смарг.

НААБА'ПАЛ *прыназ.* з *род.* Абапал. *Сядуць завівальніцы наабапал маладое за сталом і накрыюцца хусткамі.* Семежава Кап.

НААБГО'НКІ *прысл.* Навыперадкі. *Ён бех наабгонкі з мальчышкамі.* Лоск Валож.

НААБІВА'ЦЬ *зак.* Абабіць (усё, многае). *Трэба наабіваць жыта.* Саланое Віл. *Наабіваць трэба жыта, набіць на насення.* Мярэцкія Глыб.

НААДВАРО'Т *пабоч.* Наадварот. *Наадварот, трэба старай матке з уля уйці.* Саланое Віл.

НААТАВА'ЦЬ *гл.* НАГАТАВА'ЦЬ

НАБАБЭ'НІЦЬ *зак.* Уздуць. *Маю карову набабэніла, клеверу наелася.* Вецярэвічы Пух.

НАБА'ВІТІ *зак.* Дабавіць. *Як набавітэ шчэ сто злоты, то поросята оддам.* Курашэва Чыж.

НАБА'ВІТІСЬ *зак.* Заразіцца, набрацца. *Набавівсе хворобы.* Курашэва Чыж.

НАБА'ДРЫ *мн.* Раменная або вяровачная частка вупражы, якая накладваецца на тулава каню. *Нада надзець набадры на каня.* Вецярэвічы Пух.

НАБА'ДРЫКІ *гл.* НАБЕ'ДРЫКІ

НАБАЙСЯ'ЛІЦЬ *зак.* Нагаварыць недарэчнага. *Я набайсялю ім.* Міратычы Карэл.; *гл.* б а й с я́ л і ц ь.

НАБА'КЕР *прысл.* Набакір. *Давнієй хлопці носілі шапкі набакер.* Курашэва Чыж.

НАБАЛО'ЦІЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Набалоцій хату — толькі падлогу пераціёрла, раскірэка ты!* Кіралі Шчуч.

НАБАСЦІ' *зак.* ◊ *Набасці руку* — набраць сабе больш, захапіць. *Хацеў набасці руку.* Груздава Паст.

НАБАСЯКА' *прысл.* Басаནож. *Ідзем набасяка.* Старыя Трокі Трак.

НАБАЯ'ЦЦА *зак.* Нацярпецца страху. *У вайну настрахаласа, набаяласа.* Ванелевічы Кап.

НАБГО'М *прысл.* У выразе: *Набгом піць* — піць з вялікай пасудзіны, нахіліўшы яе; піць нахіліўшыся. *П'е набгом з вядра.* Ухвала Круп. *Вупіў гарэлку набгом, прама з бутылкі.* Пасека Ст.-Дар. *Нагнуўся дай напіўся з лужыны набгом.* Лапічы Асіп.

НАБЕ'ГАЦЦА *зак.* Стаміцца бегаючы. *Я прасіла іх памахчы — наплакалася, набегалася.* Малі Астр.

НАБЕ'ГЧЫ, НАБЕ'ГЦІ, НАБІ'ГТЫ *зак.* 1. Пранікнуць куды-н. *Набягло ў сярэдзіну.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Надысці. *Ужэ старасць набегла, не магу і пабегці.* Кузьмічы Люб. ∇ *Будзем жыць, як набяжыць* — жыць, як прыдзецца. Малі Астр. ◊ *Набегчы на памяць, як каму набяжыць* — успомніцца. *Набяжыць на памяць якое слова і скажаш.* Саланое Віл. *Адны так скажуць, адны так, як каму набяжыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Набегчы кроўю, набігчы кров'ю* — пра стан кровазліцця. *Очы набеглі кроўю з сільнай натугі.* Валеўка Навагр. *Набігло кров'ю око.* Дзмітравічы Кам.

НАБЕ'ГЧЫСЯ *зак.* Збегчыся. *Людзі набегліся.* Міратычы Карэл.

НАБЕ'ДРЫКІ, НАБЭ'ДРЫКІ, НАБА'ДРЫКІ *мн.* Тое ж, што і н а б а́ д р ы. *Набедрыкамі асаджваюць каня назат.* Дакудава Лід. *Хамут з набедрыкамі.* Альхоўка Навагр. *Набэдрыкі на ўсяго каня накладаюцца.* Чуркі Ашм. *Набэдрыкі прынёс.* Навасёлкі Свісл. *Набэдрыкі на каня.* Жылі Іўеў. *Набэдрыкі накладаюць на каня, калі запрагаюць.* Малахоўцы Бар. *Набэдрыкі на каня накласці.* Альхоўцы Лях. *Набэдрыкі скураныя.* Гемзы Шальч. *Набэдрыкі на*

*шпіне і пад хвост заходзят.* Лука Нараўк. *Набэдрыкі — раменная або вяровачная частка вупражы.* Калясное Міхал. *Набадрыкі на каня.* Крэва Смарг.

НАБЕ'ЛО *прысл.* Да белага колеру. *Набело палатно адбеліш.* Малахоўцы Бар.

НА'БЕЛЬНІЦЫ *гл.* НАБІ'ЛЬНІЦА

НА'БЕРАТКІ *мн.* Тое ж, што і н а б а́ д р ы. *Набераткі накладаюцца на каня.* Саланое Віл. *Набераткі — вупраш, якая ўскладаецца каню на тулава.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НА'БЕРКІ *мн.* Набіліцы. *Бёрда саджаюць у наберкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАБІВА'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і н а́ б е р к і. *Берда ў набівальніцэ.* Старыя Смільгіні Воран.

НАБІВА'НКІ *мн.* 1. Посцілкі, палавікі, вытканыя з ануч. *Пасякі — набіванкі ў пасы.* Солы Смарг. *Набіванкі ткалі: надзярэш старызны, і на ходнікі ткалі.* Жылі Іўеў. 2. Дываны з тканіны, на якія фарбай наносіліся малюнкі. *Прадаюць набіванкі — набіваныя каўры.* Стральцы Шальч.

НАБІВА'НЫ *дзеепрым.* 1. *кулін.* Начынены. *Пяклі кішкі, набіваныя дранай бульбай.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Маляваны. *Прадаюць набіваныя каўры.* Стральцы Шальч.

НАБІВА'ТІСЕ *незак. перан.* Настойліва прапаноўваць што-н., напрошвацца. *Збуожа на рынку было так мнуого, што людэ набівалісе, а ніхто купляті нэ хотіев. Як нэ хочэ, то нэ трэба, я нэ буду набіватісе.* Курашэва Чыж.

НАБІВА'ЦЦА *незак.* Збірацца ў вялікай колькасці. *Сільна народу многа набіваецца.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Ставілі бучкі ракаў лавіць, ставілі ў рэку, яны туды набіваліся.* Мыто Лід.

НАБІ'ГТЫ *гл.* НАБЕ'ГЧЫ

НА'БІЛІЦЫ *мн.* Тое ж, што і н а́ б е р к і. *У набіліцы берда ўстаўляецца.* Саланое Віл. *Набіліцы ў ставах. Берда было ў набіліцах.* Кухты Віл. *У набіліцах берда.* Цяпінцы Віл. *Берда ўкладаюць у набіліцы.* Лоск Валож. *Набіліцы ў кроснах.* Альхоўцы Лях., Беразіно Докш., Пасека Ст.-Дар.

НА'БІЛКА *ж.*, НА'БІЛКІ *мн.* Тое ж, што і н а́ б е р к і. *Берда ўстаўляім у набілку.* Ёдлавічы Брасл. *Набілкі — куды ўстаўляюцца бёрда.* Навікі Лудз.

НАБІ'ЛЬНІЦА *ж.*, НАБІ'ЛЬНІЦЫ, НА'БЕЛЬНІЦЫ, НА'БЯЛЬНІЦЫ *мн.* Тое ж, што і н а́ б е р к і. *Набільніца — куды бэрда закладаецца.* Старыя Смільгіні Воран. *Набільніца ў кроснах.* Беняконі Воран., Грыкені Вільн. *Бёрда ў набільніцы ўстаўляюцца.* Солы Смарг. *Набільніцы на лядзе, а другія на вераўко́х.* Вялікія Баяры Шчуч. *У набільніцах знаходзіцца берда.* Асавец Віл. *Набільніцы ў стацівах, а ў варстаці — ляда.* Міратычы Карэл. *Ніжацца набільніцы.*

Стральцы Шальч. *Набільніцы, што берда ўстаўляюцца, набільніцы пудвешваюцца на кросна.* Лука Нараўк. *У кроснах набільніцы.* Канюкай Вільн. *У набільніцы ўстаўлялася берда.* Дзераўное Стаўб. *Набільніцы ў кроснах.* Новікі Гродз. *У набільніцы ўстаўляюцца бёрдо.* Малахоўцы Бар. *Набільніцы — што берда ўкладаюць.* Навасёлкі Свісл. *У варстаце берда ўложаны ў набільніцы.* Дакудава Лід. *Бердо ўстаўляецца ў набільніцы; набільніцы вешаюць за ручкі па краёх.* Баброўнікі Гарад. *Набельніцы — дзе б'ердо ўкладаласа.* Дзяніскавічы Ганц. *У набельніцах бёрда.* Магуны Паст. *Набяльніцы падвешая.* Быстрыца Астр.

НАБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Наліваць. *Набірайця зацІркі.* Малахоўцы Бар. 2. Насыпаць, напаўняць. *У лупку муку набіралі.* Вузла Мядз. 3. Збіраць. *Еслі пчолы пярху нясуць — набіраюць на крылачкі і на лапачкі.* Мыто Лід.

НАБІРУ'ШЧЫ *прым.* Заразны. *Ціф — хвароба набірушча.* Дзяніскавічы Ганц. *Набірушча ангіна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ціф набірушчы, гарачка набірушчая.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАБІ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Убіты ў значнай колькасці. *Гваздзікі набітыя.* Дзераўное Стаўб. 2. Напоўнены. *Сяннікі былі набітыя саломай.* Мыто Лід.

НАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Ударамі прычыніць боль. *Мама набіла мяне.* Саланое Віл. *Ох, я набіла яго моцна!* Гемзы Шальч. *Я мала не набіла яго.* Парэчча Гродз. *Набі яго, дай добро.* Альхоўцы Лях. 2. Нацерці мазоль. *Набіў ботам мазоль.* Магуны Паст. *Мазоль набіў.* Жылі Іўеў. *Набіла сухі мазоль.* Ёдлавічы Брасл. *Набіла мазоль наназе.* Беразіно Докш. 3. Намалаціць. *Нада жыта набіць на насення.* Рыбчына Віл. 4. Накляпаць. *Нада касу набіць.* Кураполле Паст.

НАБІЧКАВА'ЦЦА *зак. экспр.* Напрацавацца. *У Залужжы кажуць набічкаваўся, намучыўся.* Альхоўцы Лях.

НАБЛІ'СКАЦЬ *зак.* Нацерушыцца, насыпацца. *Цягні скавараду, бо набліская попелу на бліны.* Пасека Ст.-Дар.

НАБО'ВТАТІ *зак.* Размяшаць. *Набрав картофлі і мукі і набовтав з водою.* Курашэва Чыж.

НАБО'Й *м.* 1. Мазоль. *Быў набой на назе.* Бакшты Іўеў. *Набой на назе.* Паляцкішкі Воран. *У мяне набой такі жоўты.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Сіняк. *Набой ад моцнага ўдару.* Жылі Іўеў.

НАБОНУ'ЦЦА *зак.* Напароцца. *Набонуласа на проволоку.* Хатынічы Ганц.

НАБО'РКІ *мн.* Посцілкі з узорамі. *Наборкі ткалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАБО'РСУВАТЫСЬ *зак. экспр.* Наесціся, нахлябацца. *Наборсуйся с хлібом капустэ.* Дзмітравічы Кам.

НАБО'СКУ *прысл.* Набасанож. *Набоску разіновыя сапогі надзеў і пошоў.* Хатынічы Ганц.

НАБРА'ЖНІК *м. абрад.* Ручнік, які вешаюць на абразы. *Набражнік вышываны павесіла на кут.* Мішневічы Шум.

НАБРА'КНУЦЬ *зак.* 1. Ацячы. *Набракла рука, вродзе напухла. Во якое тваё ліцо, набракло.* Альхоўцы Лях. 2. Набрыняць. *Набракла вымя ў каровы, нада падаіць.* Саланое Віл.

НАБРАСА'НЫ *дзеепрым.* Накіданы. *Саломы набрасана.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *набросать* 'накідаць'.

НАБРА'ЦЦА *зак.* 1. Набыць. *Дзе ты мяса наберысся?* Валынцы В.-Дзв. 2. Узяць (у нейкай колькасці). *Набяруцца людзі грошай за грыбэ.* Пацаўшчына Дзятл. *На яго казалі, што ён набраўся грошы, як соткі людзям садзіў.* Вузла Мядз. 3. Назбірацца. *Лахманоў набралася, нада памыць. Кажды дзень па дзесяць капеяк — дык наберыцца многа рублёў.* Рагулішкі Даўг. 4. *неадабр.* Нахапацца. *Ніяк ні наберыцца хлеба?!* Магуны Паст. ◇ *Набрацца хваробы* — заразіцца. *Хваробы набраўся.* Плябанцы Ашм. *Набрацца нахальства* — стаць нахабным. *Хто нахальства набярэцца.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

НАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Назбіраць (ягад, грыбоў). *Грыбоў набярэш маленькіх і большых. Наберацъ грыбоў.* Лісна В.-Дзв. *Жэншчына як набрала грыбоў, наелася і памерла.* Гальшаны Ашм. *Ягадаў яна набярэ.* Плябанцы Ашм. *Набрала ягат.* Паляцкішкі Воран. *Пайдзі ў лес, набяры ягат.* Вялікія Баяры Шчуч. *Набяруць дзеці ягат.* Вецярэвічы Пух. *Ягад набярэш для сабе пад'есці.* Кузьмічы Люб. *Набралі малін.* Дзяніскавічы Ганц. *Набраў ягат кароў пасучы.* Ліпнікі Вільн. *Мы мамент набралі малін.* Рагулішкі Даўг. 2. Нарваць. *Я набяру летам зверабою. Набяры шчаўлю жменьку на мяжэ.* Валынцы В.-Дзв. *Яны травы наберацъ.* Кемялішкі Астр. *Набрала карэнняў зёлкаў. На рубля набрала бярэмя зверабою.* Гальшаны Ашм. *Набяру разных траваў і здам.* Плябанцы Ашм. 3. Узяць нейкую колькасць. *Ахапак дроў набераш. Ахрап'я наберуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зонік прыедзіць, наберыць усяго з дому.* Груздава Паст. 4. Накласці, насыпаць у посуд чаго-н. *Рошчыне набярэ ў міску.* Парэчча Гродз. *Наберыш кошык бульбы.* Магуны Паст. 5. Наліць. *Потым знахар узёў бутэльку, вышаў у сені, наброў вады, прынёс і кажа: «Як будзя мужык прыставаць, так ты набяры з бутэлькі вады ў губу, і ён зразу прыціхня».* Дзямянаўцы Дзятл. *Набрала вады.* Лоск Валож. 6. *перан.* Запрасіць. *Набярэ трыццаць бап жаць.* Гальшаны Ашм. ◇ *Набраць вады ў рот* — маўчаць. *Як набрала вады ў рот — да веку дзяржала.* Саланое Віл.

НАБРУСНЕ'ЦЬ *зак.* Зацвярдзець. *У каровы вымя наб-*

*руснела. Еслі вымя набруснеіць — значыць натчараваў нехта.* Валынцы В.-Дзв.

НАБРЫНДО'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць абы-чаго. ▽ *Набрындоліць сем бочак арыштантаў* — нагаварыць неверагодных гісторый. *Набрындоліла сем бочак арыштантаў.* Мсцібава Ваўк.

НАБРЫНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Набракнуць. *Яна* [каша] *яшчэ троху набрыняя, гусцейша зробіцца.* Старыя Смільгіні Воран. *Датаго дзверы набрынялі, не далі рады аткрыць.* Мсцібава Ваўк. 2. Набухнуць. *Набрыняя зерня.* Вострава Маст. 3. Тое ж, што і н а б р а́ к н у ц ь 1. *Рукі набрынялі.* Хатынічы Ганц. *Ногі набрынялі ў мяне ходзячы.* Кузьмічы Люб.; *парайн.* літ. *brĩsti* 'набухаць (пра дарогу); ацячы'.

НАБРЫ'ЦЦА *зак.* Натрапіць. *Набрыўся на грыбы. Набрылася я на ягады.* Магуны Паст.

НАБРЭ'НДАЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а б р ы н д о́ л і ц ь. *Набрэндаю языкам, а яны зложаць смех.* Дакудава Лід.

НАБРЭ'НКНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а б р а́ к н у ц ь 1. *Як штось такое робіш рукамі, яны набрэнкнуць, так як напухнуць. Я учора пахадзіла па ліесі, то рукі чую набрэнкшы, якіесь грубы парабіліс.* Баброўнікі Гарад.

НАБРЭХА'ТІ *зак.* Налгаць, напляткарыць. *Што ты набрэхала, што тэпэр говорыті со мною нэ хочут?* Курашэва Чыж.

НАБУ'БНІЦЦА *зак.* Набухнуць (пра пупышкі раслін). *Ужо набубніўся бірэзнік, будзіць скора распускацца.* Лісна В.-Дзв.

НАБУ'БНІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а б у́ б н і ц ц а. *У міне півонія набубніла, скора будзіць цвіцець.* Валынцы В.-Дзв.

НАБУДЗІ'ЦЬ *зак.* Разбудзіць. *Я думаю, нада набудзіць яго.* Ёдлавічы Брасл. *Набўдзіць мяне каровы даіць.* Канюкай Вільн.

НАБУ'ЛТАНЫ *дзеепрым.* Ускаламучаны. *Набултаная вада — лезя рыба ў сетку.* Старыя Смільгіні Воран.

НАБУРДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Учыніць што-н. благое. *Набурдзіў — нарабіў што-небудь плахоя.* Старыя Трокі Трак.

НАБУ'РЫ'ЦЬ *зак.* Памачыцца. *Набўрыў цэлая мора.* Ахрэмаўцы Брасл. *Набурыла цэлаё поўлітра* [мачы] *і занесла, кабета старая, не ведала, сколькі трэба.* Новіны Нясв.

НАБУ'ЦЬ *зак.* Абуць. *Раней лапці вяровашныя набуеш — і ідзеш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАБУШАВА'ЦЬ *зак.* Накрычаць, насварыцца. *Яна на яго набушавала, дык ён паехаў дахаты.* Малі Астр.

НАБЫВА'ЦЬ *незак.* Апухаць, ацякаць. *Набывае нага.* Мсцібава Ваўк.

НАБЫ'ТАК, НАБЫ'ТОК *м.* 1. Жывёла, статак. *Прыдзя набытак, трэба тою вербачкай выганяць.* Вострава Маст.

*Некалі ў багатых набытку было много.* Альхоўцы Лях.; *гл.* багацтва 2. 2. Купленая рэч. *Маю новы набыток, пружынуовку собіе купів.* Курашэва Чыж.

НАБЫТНЫ' *дзеепрым.* Нажыўны. *Карова — набытная.* Гемзы Шальч.

НАБЫ'ЦЦА I *зак.* Папрацаваць на розных пасадах. *Кім ён ні набыўся, і ўсё не выслужыў.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАБЫ'ЦЦА II *зак.* Прыбавіцца. *Расказвалі, што было ў Вязыні дваццаць чалавек, а цяпер колькі набылося.* Латыгаль Віл.

НАБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Нажыць. *Набыць нечага было.* Буды В.-Дзв. *Набыў сабе харошую вешч.* Альхоўцы Лях. *Як жыў будзеш — усе набудзеш.* Вецярэвічы Пух. 2. Прыбавіцца. *Як малако набудзя ў цыцках, то цячэ.* Мсцібава Ваўк.

НАБЭ'ДРЫКІ *гл.* НАБЕ'ДРЫКІ

НАБЭ'СЦІЦЬ *зак.* Нагадзіць. *Куры зара набэсцяць. Набэсціць дзіця зарас.* Дакудава Лід.

НАБЭ'ХАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і набэ́сціць. *Во, карова набэхала.* Пацаўшчына Дзятл.

НА'БЯЛЬНІЦЫ *гл.* НАБІ'ЛЬНІЦА

НАВАДЗІ'ЦЬ *незак.* Рыхтаваць прылады працы для выканання работ. *У кузьні плугі навадзілі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Кросна ў нас проста, як наводзіш, тады праводзіш панажы.* Ракаўскія Швянч.

НАВАДНЕ'ННЯ *ж.* Паводка. *Два разы была наваднення бальшая.* Быстрыца Астр.

НАВАЁК *м. ткац.* Ніжні навой. *Навой — на каторы аснова навіваіцца, а для палатна — наваёк.* Ракаўскія Швянч.

НАВА'ЖАНЫ *дзеепрым.* Навязаны. *Там наважаны конь.* Чуркі Ашм.

НАВАЖА'ЦЬ *зак., незак.* Навязаць, навязваць. *Нашто карову наважала, ён відзіць, што наважана. Удзень наважаяць.* Груздава Паст. *Цяля наважала.* Ністанішкі Смарг. *Наважалі каля хаты кароўку.* Ракаўскія Швянч. *Куравотку наважаю, кап не капала.* Крэва Смарг. *Нада вясці наважаць.* Мярэцкія Глыб. *Цялушку нада наважаць.* Кураполле Паст. *Прадсядацяль пакінаўшы цялё наважаць.* Граўжышкі Ашм.

НАВА'ЖЫВАЦЬ, НАВА'ЖАВАЦЬ *незак.* Прывязваць. *Кантар — вобраць каня наважываць.* Крэва Смарг. *Наважавалі кароў, цялят.* Кураполле Паст. *Наважаваць сказалі няможна.* Граўжышкі Ашм. *Кароў наважывалі на ланцугах.* Ракаўскія Швянч.

НАВА'ЖЫЦЦА *зак.* Адважыцца. *Я ні наважыўся прасіць.* Малі Астр.

НАВА'ЖЫЦЬ *зак.* Вырашыць. *Не перайначыш чарта— што наважыла, тоя зробіць.* Кураполле Паст. *Наважыў —*

*сказаў і паставіў па-сваему.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сама наважыла, і зрабілі аперацыю.* Вецярэвічы Пух.

НАВАЗІНЯ'ЦЦА *зак.* Наездзіцца. *Навазіняўся па гэтай дарозе.* Ракаўскія Швянч.

НАВАЙЦЯ'ЦЬ *зак.* Аблаяць. *Навайцяў жонку і з хаты вышаў, пашоў вон.* Івашкаўцы Смарг.; *гл.* в а й ц я́ ц ь, в а й д а в а́ ц ь.

НА'ВАЛАКА *ж.* Навалочка. *Трэ купіць навалаку.* Дзяніскавічы Ганц.

НАВА'ЛАМ *прысл. экспр.* Многа. *У яе грошы навалам.* Малі Астр. *Хлеба ў яга навалам, усяга ў яга навалам.* Саланое Віл. *У яго навалам хлеба было, а другому не дасць.* Альхоўцы Лях.

НА'ВАЛАЧ *зб. м.* і *ж. экспр.* 1. Не карэнны жыхар, прыезджы чалавек. *Яна навалач.* Малахоўцы Бар. 2. *пагард.* Зброд. *Навалач ты, убірайся адсюль!* Ухвала Круп.

НА'ВАЛАЧКА *ж.* Тое ж, што і н а́ в а л а к а. *На навалачкі палатно.* Навікі Лудз.

НАВАЛАЧЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Навалачы. *Сама навалачыла тыя дровы.* Парэчча Гродз.

НАВАЛІ'ЦЬ *зак.* Напа́даць у вялікай колькасці. *Снегу навалíла румада.* Парэчча Гродз.

НАВАЛЬНІ'ЦА *ж.* Навальніца. *Ідзець чорная туча, будзіць навальніца. Навальніца велька, дошч.* Новікі Гродз. *Навальніца, вецяр вялікі.* Альхоўцы Лях. *Захапіла мяне навальніца, і я не мох уцячы дзе-коляк да будынку.* Гемзы Шальч.

НАВАЛЬНІ'ЧНЫ *прым.* Які мае адносіны да навальніцы. *Навальнічны дошч бывая, як засуха вяліка бывая.* Дзяніскавічы Ганц. *Навальнічны дошч.* Гемзы Шальч.

НАВА'ЛЬНЫ, НАВА'ЛНЫ, НАВА'ЛНЫЙ *прым.* Праліўны (пра дождж). *Навальны дошч.* Быстрыца Астр., Жылі Іўеў., Сапоцкіна Гродз. *Навальны дошч, навальніца.* Галоўні Воран. *Навальны дошч захапіў мяне ў полі, і я не мог уцячы да будынку.* Гемзы Шальч. *Навальны дож.* Пасека Ст.-Дар. *Навальны дошч, праліўны.* Лука Нараўк. *Такі навалны дошч!* Пацаўшчына Дзятл. *Навалны дошч ідзе!* Галубы Маст. *Навалны дошч ішоў.* Вострава Маст. *Навалны дошч захапіў мяне на дарозе.* Навасёлкі Свісл. *Дошч навалный.* Крынкі Крын.

НАВАНЯ'ЦЬ *зак. груб.* Нарабіць смуроду. ◇ *Наванянь на́ душу* — прычыніць зло, непрыемнасць. *Наша нявестка ня рас наваняла нам на душу: судзілася, разводзілася.* Раўбічы Мін.; *парайн.* руск. *навонять* 'тж'.

НАВАРАЦА'ЦЬ *зак.* Наванітаваць. *Яе тут сарвала, на рукаво наварацала.* Кураполле Паст. *Наварацала гадыня.* Рыбчына Віл. *Кот наварацаў.* Рагулішкі Даўг.

НАВАРАЧА'ЦЬ *незак.* Накрываць пасудзінай, перавярнуўшы яе ўверх дном. *Наварачайця талерку на патэльню.* Крэва Смарг.

НАВА'РВАЦЬ *незак.* Гатаваць у вялікай колькасці. *Шмат наварвая яды, без толку тады вылівая.* Солы Смарг.

НАВАРЫ'ЦЬ *зак.* Згатаваць. *Маму, наварэця кавы.* Парэчча Гродз. *Чаю наварыла, а сама ляту да сусеткі.* Гальшаны Ашм. *Наварылі стравы, страва скісла — паставілі ў печкі.* Ёдлавічы Брасл. *Заўтра зноў наварымо.* Смаляніца Пруж. *Наварымо, накормімо свіне.* Ялова Пруж.

НАВАСТРЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць вострым. *Нада навастрыць касу бруском.* Ёдлавічы Брасл. *Нажа навастры.* Альхоўцы Лях.

НАВАЧЭ'СНЫ *прым.* Новы. *Можна сказаць, што «кухня» — у нас навачэснае слова.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *nowoczesny* 'сучасны'.

НАВАШАВА'ЦЦА *зак.* Напрацавацца. *Навашаваўся, то навашаваўся.* Кураполле Паст. *Вот я сяння навашаваўся, каменне, дрэва вазіў.* Вузла Мядз. *Навашаваўся сена — цэлу ноч вашаваў.* Старыя Смільгіні Воран. *Навашавалася за дзень, гной разбівала.* Мсцібава Ваўк. *Навашаваўся, пакуль насыпаў машыну бульбы. Навашаваўся, пакуль скасіў. Навашаваўся, шчапаючы дровы.* Саланое Віл. *От навашаваўся: вышыня, трудна падаваць* [сена]. Гемзы Шальч.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

НАВАШАВА'ЦЬ *зак.* 1. Нарыхтаваць. *Корму многа навашаваў.* Кіралі Шчуч. 2. Нанасіць, нацягаць. *Навашаваў вады ў бочку, аш надаела мне вашаваць.* Вузла Мядз.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

НА'ВАШЧЫ'ЦЬ *зак.* Наваскаваць. *Нітку навашчыш, дык яна гладзенькая.* Саланое Віл.

НАВЕ'ЗЕНЫ *дзеепрым.* Прывезены ў вялікай колькасці. *З лесу навезена калкоў з сукамы.* Кураполле Паст. *Жыта было навезена.* Саланое Віл. *Абуванне ўсякае было навезена ў магазін.* Чапаеўскі В.-Дзв.

НАВЕ'ІЦЬ *гл.* НАВЕ'ЯЦЬ

НАВЕРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Уверадзіцца. *Натта завіхалася, і рука наверадзілася.* Плябанцы Ашм.

НАВЕ'РХ *прысл.* 1. На знешні бок. *Гунькай ногі накрывалі, калі ехалі далёка, поўсцю наверх.* Солы Смарг. 2. Паверх чаго-н. *Камізэлька наверх на кашулю надзіваіцца.* Солы Смарг. 3. *перан.* На волю. *Я вышла наверх, выпусцілі з турмы.* Гальшаны Ашм.

НАВЕ'РХУ *прысл.* 1. Уверсе. *Наверху дым.* Быстрыца Астр. 2. Наверсе. *У кроснах папярэчка наверху, кап палаценца раўней ішло.* Старыя Трокі Трак.

НАВЕ'С *м.* 1. Навес. *У хлеве пад навесам.* Баброўнікі

Гарад. 2. Падмыты бераг ракі. *Пад навесам злавіў рыбу.* Баброўнікі Гарад.

НАВЕ́СЦІ *зак.* 1. Падрыхтаваць прылады працы для выканання работ. *Бацька мне запражэць каня, плуг навядзець, я і пахала.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Навяла кросна, буду ткаць.* Рудня Чэрв. *Навёў косу, яг брытву.* Номікі Бабіц. 2. Завесці (пра механізм). *Пайду свой навяду гадзіннік, а то стаіць.* Малі Астр. 3. Нарадзіць. *Век пражыла, дзяцей навадзіла.* Вецярэвічы Пух. 4. Выклікаць чараваннем (з павер'яў). *Вядзьмар можа навесці астуду на чалавека.* Каменка Стара Сакол. 5. Распаўсюдзіць. *Звадоў навадзіла яна — барані бог!* Саланое Віл.

НАВЕ́ЯЦЬ, НАВЕ́ІЦЬ *зак.* Нанесці ветрам. *Навеяла снегу на платэ.* Парэчча Гродз. *Дзе навеіць — і многа снега.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАВІВА́ЦЦА *незак.* Намотвацца. *На навой аснова навіваецца.* Ракаўскія Швянч. *На навой навіваецца пража.* Вецярэвічы Пух.

НАВІВА́ЦЬ *незак.* Намотваць. *Трэба навіваць на навой.* Лісна В.-Дзв. *Навойчыкі ёсць: адзін чіткі навіваць, а другі — палатно навіваць.* Малі Астр. *Тады прыносім ставы і навівалі.* Кухты Віл. *З ніцей снуюць аснову на сноўніцы, тады аснуюць, навіваюць на варстат.* Валеўка Навагр.

НАВІДАВО́КУ *прысл.* 1. Прыкметна. *Навідавоку памідоры растуць.* Малахоўцы Бар. 2. Так, што ўсе бачаць. *Навідавоку ляжала сетка, і яна яе ўзяла.* Солы Смарг. *Навідавоку ўзяў і пашоў.* Масілавічы Сл. *Паставіў навідавоку ровар — і пашоў.* Малі Астр. *Навідавоку гуляй!* Лоск Валож. *Стаяў навідавоку.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАВІДАКУ́, НАВІДО́КУ *прысл* Тое ж, што і н а в і д а в о́ к у 2. *Усё навідаку стаіць.* Мярэцкія Глыб. *Навідоку паложаць.* Жылі Іўеў. *Навідоку дом стаіць іх.* Гемзы Шальч.

НАВІДКУ́, НАВІТКУ́ *прысл.* Тое ж, што і н а в і д а в о́ к у 2. *Навітку сядзіць.* Мярэцкія Глыб.

НАВІДНО́ЦЫ *прысл.* Тое ж, што і н а в і-д а в о́ к у 2. *Навідноцы палажыла, каб ты ўбачыла.* Азяраны Раг.

НАВІДО́НЦЫ *прысл.* Тое ж, што і н а в і д а в о́ к у 2. *Навідонцы паставіў.* Саланое Віл.

НА́ВІЗКА, НА́ВІСКА, НАВЯ́СКА *ж.* Нітка, якую завязваюць на пашкоджаную канечнасць чалавека або жывёлы з мэтай лячэння (з павер'яў). *Звіхнула нагу, нада навіску навізаць с суконнай ніткі. Як у каровы, то каля капытка навязваюць найболі.* Саланое Віл. *Як рука баліць ад жніва, навяску з суровай ніткі з лёну рабілі, добра памагая.* Кіралі Шчуч.

НАВІНА́, НО́ВІНА *ж.* 1. Навіна. *Для мяне гэта не навіна.* Магуны Паст. *Залеціць і раскажа навіну.* Вялікія Баяры

Шчуч. *Гэтыя варэнні — ні навіна.* Груздава Паст. *Гэта вада — не навіна.* Саланое Віл. *Не навіна яму кіпячэння.* Гемзы Шальч. *Што за навіну я вам скажу: дзяўчынка пакалечылася.* Солы Смарг. 2. Зямля, якая ўпершыню апрацавана. *У навіне добро расце.* Альхоўцы Лях. *Навіна — поле пасля раскарчоўкі.* Пасека Ст.-Дар. *На новіне сеют жыта. Поле выдэрут і посеют, вуон на новіне посіев і добрэ зародыло.* Горск Бяроз. ∇ *Навіна ў рот — зайца паварот, мядзведзя сіла ў жывот. Гэта такі прыгавор, як навіну якую ясі, дык гэтак кажаць.* Груздава Паст. *Што старана, то навіна.* Новікі Гродз.

НАВІСЕ'ЦЦА *зак.* Правісець доўгі час. ∇ *Новае сітца на кручку навісіцца і на падлавіччу назаляецца.* Ухвала Круп.

НА'ВІСКА *гл.* НА'ВІЗКА

НА'ВІТ *часц.* Нават. *Вера навіт ані ні падобна да бацька. Навіт ні адзыўнуўся, каб не крычэла.* Саланое Віл.

НАВІТКУ' *гл.* НАВІДКУ'

НАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Наматаць. *Ніткі на клубок навіеш. Пачакай, ніткі навію.* Старыя Трокі Трак. 2. Нарыхтаваць вітых вырабаў. *Навіець ён табе разных вяровак, якіх толькі хочыш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Путаў бацька наўець.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 3. Сплесці. *Павук як навія павучыну!* Гемзы Шальч.

НАВО'ДЗІЦЬ *незак.* ◇ *Цень наводзіць* — наўмысна рабіць няясным, заблытваць. *Што ты цень наводзіш?!* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАВО'ДНЫ *прым.* Прыведзены з іншага статку. *Могуць збасці наводную карову.* Лісна В.-Дзв. *Дзяўблі, як курыцу наводную, так у сям'і нявестку заганялі.* Кураполле Паст.

НАВО'З I, НАВО'С *м.* Гной. *Вазілі навос, загорвалі для пасеву.* Дзяніскавічы Ганц. *Навос цялегай вазілі. У нас скажуць навос, а ў Краслаўскім раёне — гной.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *навоз* 'тж'.

НАВО'З II, НАВО'С *м.* 1. Загуменне. *Пабеглі свіня на навос.* Альхоўцы Лях. *Гэта дарога па навозу.* Міратычы Карэл. 2. Загуменная дарога. *Навос — дарога за пляцамі.* Альхоўцы Лях. 3. Поле, якое знаходзіцца за гумном ці прысядзібным участкам. *Поле за гародамі называецца навос, дзе сенакос.* Альхоўцы Лях. 4. у знач. *прысл. навозам.* Загуменнай дарогай. *Навозам паехалі.* Глівін Барыс.

НАВО'ЗНАЯ ДАРО'ГА *ж.* Тое ж, што і н а в о́ з II, 2. *Сценка — дарога ад будынку на поле і з яе паехаў на навозную дарогу.* Вязынка Маладз. *Навозная дарога за гумнамі, па вуліцы не егдзілі.* Пацаўшчына Дзятл.

НАВО'ЗНЫ *прым.* Угноены. *Навознае жыто — вельмі ядронэе, умолотное.* Хатынічы Ганц.

НАВО'Й *м.* 1. Пярэдні валік у кроснах, на які намотваецца аснова, ці задні, на які намотваецца палатно. *Навой на*

*пражу.* Лісна В.-Дзв. *Вялікі навой глаўны, дзе аснова наматваяцца.* Магуны Паст. *У навойчыку зупкамі зроблена і прыбіта жалеска, у наваі — палка.* Быстрыца Астр. *Пражу навіваць — навой.* Пацаўшчына Дзятл. *Нацягвалі на навоі і пачыналі ткаць.* Кухты Віл. *У чыны дошчачкі ўсоўваем і роўна на навой круціцца.* Саланое Віл. *Навой дзеравяны, на каторы накруцілі ніткі.* Дзераўное Стаўб. *На навой навіваецца пража.* Вецярэвічы Пух. *Навой падпражны.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Два навоі: для асновы і палатна.* Гемзы Шальч. *На навой наматывают, на панажы станіш—разявіцца зява.* Баложы Даўг. *Навой — наматваюцца ніткі, як ткаць.* Лука Нараўк. *Навой у ткацкім станку, на што матаюць палатно.* Беняконі Воран. *Навой адзін і другі.* Гемзы Шальч. *Навой малы, на яго палатно наматуецца.* Азяраны Раг. 2. Верхні валік у кроснах, праз які ідзе палатно на задні валік. *Трэці навой — пад грудзі.* Дакудава Лід. 3. Тое, што навіта на навой (мера). *Навой — пяць губак і болей, як выходзіць.* Беразіно Докш.

НАВО'ЙЧЫК *м.* Тое ж, што і ч а в о́ й 1. *На навойчык палатно накручваяцца.* Магуны Паст. *Ніжні — навойчык, верхні — навой.* Быстрыца Астр. *Навойчыкі ёсць: адзін ніткі навіваць, а другі палатно навіваць.* Малі Астр. *Палатно круцяць на навойчык.* Лоск Валож. *Малы навойчык на палатно.* Альхоўцы Лях.

НАВО'ТЛЯ, НАВО'ТЛЮ *прысл.* 1. Наводмаш. *Навотля матая. Як пляснy табе навотля. Як дам табе навотля. Як дам табе навотля па храпя. Злапала за шыю юндыка* [індыка], *пусціла навотлю.* Бакшты Іўеў. 2. На адлегласці. *Навотля нада чытаць.* Бакшты Іўеў.

НА'ВУЗА *ж.* Неператоплены воск. *Грэлі навузу старую, яна ператапляіцца ў воск, даўней рабілі свечкі.* Груздава Паст.; *гл.* н а́ ў з а.

НАВУ'ЗГАЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Навузгаіць яго* [сабаку] — *і драка.* Ёдлавічы Брасл.

НАВУ'РЫЦЦА *зак. экспр.* Наесціся, нахлябтацца. *Кацёл с крупеняй стаіць на лаве ў кухне, к катлу — і навурысся лошкай ці палойнікам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАВУ'СКРЫЖ *прысл.* Накрыж. *Звязаць навускрыж.* Калясное Міхал.

НАВУЧА'ЦЦА *незак.* Вучыцца. *Так яны і навучаяцца.* Лісна В.-Дзв.

НАВУЧА'ЦЬ *незак.* Вучыць. *Кажная маці свайго дзіця навучая.* Вецярэвічы Пух.

НАВУ'ЧНЫ *прым.* Майстравы. *А ў мяне быў першы сын, дык і навучны быў: што ні заглядзіць, дык зробіць.* Багушэвічы Бярэз.

НАВУЧЫ'ЦЕЛЬ, НАЎЧЫ'ЦЯЛЬ *м.* Настаўнік. *Мой на-*

*вучыцель пашоў да нас.* Чычалі Швянч. *Найчыцяль прыбыў вучыць.* Ністанішкі Смарг. *Найчыцяль калісь казалі.* Паляцкішкі Воран., Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *nauczyciel* 'тж'.

НАВУЧЫ'ЦЕЛЬКА, НАЎЧЫ'ЦЕЛЬКА *ж.* Настаўніца. *Мы прывыклі са сваею навучыцелькаю.* Сейлавічы Нясв. *Яго жонка была найчыцелька.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *nauczycielka* 'тж'.

НАВУЧЫ'ЦЦА *зак.* Навучыцца. ∇ *Як намучысся, так навучышся.* Солы Смарг.

НАВУ'ШКА *ж.* Маленькі вулей, які ставяць для прываблівання пчол. *Навушку ставяць, рой каб прыляцеў.* Мачаск Бярэз.

НАВЫДУМЛЯ'ЦЬ *зак.* Навыдумваць. *Нада навыдумляць усяго, ён навыдумляў паабразаць, павырываць усе.* Ёдлавічы Брасл. *Навыдумлялі ўсяго.* Рыбчына Віл. *Навыдумлялі няпраўду.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАВЫЛЁТ *прысл.* Наскрозь. *Зямлю пусціла навылёт.* Нізок Уздз.

НАВЫ'ПЕРАДКІ, НАВЫ'ПЕРАТКІ *прысл.* Старацца перагнаць адзін аднаго. *Бягуць навыператкі.* Альхоўка Навагр. *Бяжы навыператкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Навыператкі лятуць, кто каго папярэдзя.* Гемзы Шальч.

НАВЫ'СКАЧКІ *прысл.* Тое ж, што і н а в ы́ п е р а д к і. *Ляцелі цялухі навыскачкі да вады.* Саланое Віл.

НАВЫ'ЦЯЖКУ, НАВЫ'ЦЯШКУ *прысл.* У выразе: *Стаць навыцяшку* — стаць прама, выцягнуўшы рукі па швах. Міратычы Карэл.

НАВЭ'ДЛУХ *прыназ.* У параўнанні. *Навэдлух первых гадоў, як пачынаўся калхос, цяпер лёгка рабіць.* Вузла Мядз.; *парайн.* польск. *według* 'у адпаведнасці'.

НАВЯ'ЗАНЫ *дзеепрым.* Прывязаны. *Прас плот конь навязан.* Паляцкішкі Воран. *Сабака навязаны.* Лоск Валож., Грыкені Вільн.

НАВЯЗА'ЦЦА *зак.* Напрасіцца. *Яна і сама навяжыцца і дапусціцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАВЯЗА'ЦЬ *зак., незак.* 1. Тое ж, што і н а в а ж а́ ц ь. *Навязай каня!* Саланое Віл. *Навязала цяля.* Солы Смарг. *Навяжу коз, дак як закруцяцца аб дзерава.* Валеўка Навагр. 2. Перавязаць (ніткай). *Будзя ў руцэ грыжа, нада навязаць.* Кіралі Шчуч. 3. Увязаць у што-н. *Навязаў посцілку саломы.* Чуркі Ашм.

НАВЯ'ЗВАЦЬ, НАВЯ'ЗУВАЦЬ *незак.* 1. Замацоўваць прывязваючы. *Панажы навязваюць.* Лоск Валож. 2. Прывязваць. *Дзе шкода блізка, то навязуюць каня.* Азяраны Раг.

НАВЯЛЯ'ДЖВАЦЬ *незак.* Імкнуцца. *Навяляджвае гаварыць са мной, а я не хачу.* Ванелевічы Кап.

НАВЯРАДЗІ'ЦЬ, НАВЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Натрудзіць. *Сярэдзіна баліць, навярадзіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Навярадзіла руку лён іўвучы.* Дзяніскавічы Ганц. *Навярэдзіла нагу, от села бы і сядзела.* Мачаск Бярэз. *Як навярэдзіш руку, прыкладвалі макрыцай і жабай.* Плябанцы Ашм.

НАВЯРНУ'ЦЦА *зак.* Накрыцца. *Адзіялам як навернесся, то і цёпла, спіш харашо.* Кіралі Шчуч.

НАВЯРНУ'ЦЬ I *зак.* Пакласці што-н. цяжкае паверх чаго-н. *Бальшы камінь наверніш на твораг.* Буды В.-Дзв.

НАВЯРНУ'ЦЬ II *зак.* Прымусіць. *Навярні яго вучыць, калі ён не хоча.* Малі Астр.

НАВЯРХУ' *прысл., прыназ.* Зверху. *Швэлі кладуцца навярху, на слупы.* Быстрыца Астр. *Навярху страхі кройка, там ляжыць канёк.* Гальшаны Ашм. ◇ *Калені навярху* — пра кароткае адзенне. Дакудава Лід.

НАВЯ'СКА *гл.* НА'ВІЗКА

НАГА', НОГА' *ж.* 1. Нага. *І з гэтымі нагамі хадзіла. Ах, ногі, ногі, ногі маі! У початцы нага — дзіця калышыць у калысцы і шыіць начамі, апшываіць рукамі ўсіх.* Саланое Віл. *Карова не ідзець да поля — нага баліць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ужэ з нагамі пашоў хлапчыско. Ногу пабіў. На нагах прышчаі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нацёр нагу.* Чычалі Швянч. *Уловэв за ногу.* Дзмітравічы Кам. 2. у знач. *прысл. нагóй.* Па назе. *Нагой пашла пухліна.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *На нагах* — у руху; не ляжаўшы, не хварэўшы. *Весь дзень на нагах.* Валынцы В.-Дзв. *На нагах он умер.* Лісна В.-Дзв. *Ног не чуць* — моцна стаміцца. *Пакуль зайшла — ног не чула.* Пацаўшчына Дзятл. *Не чуць нох перат сабой* — не адчуваць цяжкасці. *От носіца, і нох не чуіць перат сабой.* Саланое Віл.

НАГА'БАТІ *зак.* Сустрэць. *Як його нагабаю, то всю праўду скажу.* Курашэва Чыж.

НАГАБА'ЦЦА *зак.* Натрапіць. *Нагабалася на грыбы, і набрала многа.* Гемзы Шальч.

НАГАВАРЫ'ЦЦА *зак.* Пагаварыць удосталь. *Мы нагаворымся.* Лоск Валож.

НАГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Сказаць многа. *Я нагавару скольксі ўлезя.* Солы Смарг. 2. Данесці на каго-н. *Нагаварылі немцам на яго.* Гальшаны Ашм. 3. Настроіць супраць каго-н. *Нагаварыў яе проці іх.* Міратычы Карэл. 4. Замовіць (з павер'яў). *Схадзі, мама, нагавары, можа, я дзе спужалася.* Саланое Віл.

НАГАВІ'ЦЫ, НАГАВІ'ЦІ толькі *мн.* 1. Верхнія мужчынскія штаны. *Нагавіцы былі суконныя.* Ісерна Слуц. *Вэрхнія ноговіцы з карманамі.* Хатынічы Ганц. *Вэрхні нагавіці.* Курашэва Чыж. 2. Кальсоны. *Нагавіцы — споднія штаны.* Дзяніскавічы Ганц. *За зароблены грошы купів ліетніка і пару на-*

*гавіць*. Курашэва Чыж. 3. Жаночыя панталоны. *Ты нагавіцы зложыла?* Смаляніца Пруж.

НАГАДА'ЦЬ *зак.* Задумаць. *Як нагадаў зрабіць, то зробіць.* Бакшты Іўеў. *Сёдня нагадала, троху парадак навяла.* Жыдзевічы Іўеў.

НА'ГАДЛЕ *прысл.* Хутка, спяшаючыся. *Нагадле папалола.* Старое Сяло Зэльв.

НАГАДО'К *м.*, НАГАТКІ' *мн. бат.* Наготка, нагаткі. *Нагадок — рыжанькі. Нагаткі пад вакном у нас растуць.* Рыбчына Віл. *Нагаткі п'юць ад жалутка.* Солы Смарг.

НАГА'ЙКА *ж.* Бізун. *Еслі не прызнаесся — білі рэзінавымі нагайкамі.* Каўняны Гродз.

НАГАЛДЗІ'ЦЬ *зак.* Нагаварыць (гучна). *Но і нагалдзіў ён многа.* Саланое Віл.

НАГА'ЛЬНЫ *прым.* 1. Напорысты. *Нагальныя людзе на работу.* Ванелевічы Кап. 2. Тэрміновы. *Нагальная робота.* Азарычы Пін. 3. Праліўны (пра дождж). *Нагальны дошч.* Жыдзевічы Іўеў.

НАГАНІ'ЦЬ I *зак.* Надзець на што-н. зверху. *Абруч нагоніш на камень.* Беняконі Воран.

НАГАНІ'ЦЬ II *зак.* Нагнаць. *Наганіла гарэлкі.* Альхоўцы Лях.

НАГАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Настояць, дамагчыся. *Унук нагануў пайсці за грыбамі.* Дакудава Лід. *Наганула ў Ліду паехаць. Ён як нагануў, нагануў — я і аддала яго.* Пацаўшчына Дзятл. *Сама наганула пайсці за яго.* Альхоўка Навагр. *Вот нагануў на сваём.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Вырашыць. *Нагануў, так прадай.* Дакудава Лід. *Я наганула бручку апалоць, і апалола.* Граўжышкі Ашм. *Нагануль вотпуск яму даць. Дачка і наганула і пашла ў салдаты.* Альхоўка Навагр. *Як я наганула, так і паставіла. Як я сказала, як я наганула, так і е.* Альхоўцы Лях. 3. Назойліва патрэбаваць. *Нагануў да мяне — і дай мне.* Дакудава Лід.

НАГАНЯ'ЦЦА *незак.* Набівацца на што-н. зверху. *Капылы ў санях наганяліся.* Дакудава Лід.

НАГАНЯ'ЦЬ I *зак.* Разараць. *Барозны наганяць.* Крэва Смарг.

НАГАНЯ'ЦЬ II *незак.* Даганяць. ▽ *Біда бяду нагаияіць — адна пройдзіць — другая находзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАГА'Р *м.* Нагар. *Нагар на кноце.* Вострава Маст.

НАГАРАВА'ЦЦА *зак.* Нацярпецца гора. *Яна за першым* [мужам] *нагаравалась.* Саланое Віл.

НАГАТАВА'ЦЬ, НААТАВА'ЦЬ *зак.* 1. Наварыць. *Нагатавала стравы.* Лоск Валож. *Ніц не нагатавалі.* Вялікі Краснік Пруж. *Буракоў нагатуя, бульбы, агуркоў.* Старыя Трокі

Трак. 2. Назапасіць. *Маліннікў нагатуем.* Солы Смарг. *Грыпкоў наатаваў.* Быстрыца Астр.

НАГБО'М, НА'ГБАМ *прысл.* У выразе: *Нагбом напіцца — гл.* н а б г о́ м. *З вядра нагбом напіўся.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нагбом піць.* Мішневічы Шум. *Піць ваду нагбам.* Беразіно Докш.

НАГДА' *прысл.* Часам. *Нагда з'ясі — і нічога ат канфет, атмалі не прывыкла іх есці.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *иногда* 'тж'.

НАГЕ'ЛІЦЬ *зак.* Наванітаваць. *Наґеліў кот.* Саланое Віл.; *гл.* ґ е л і ц ь.

НА'ГІ *прым.* 1. Голы. *Ён стаяў нагі.* Чычалі Швянч. *Нагі сядзеў.* Старыя Трокі Трак. 2. *перан.* Бедны. *Быў нагі чалавек, нічога не меў.* Парэчча Гродз. *Нагі — кашулі і той німа.* Гемзы Шальч. *Нагія прышлі і зажыліся.* Курaполле Паст.

НАГІБА'ЦЦА *незак.* Нагінацца. *Мне сказалі не нагібацца.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *нагибаться* 'тж'.

НА'ГЛА, НА'ГЛЕ, НА'ГЛЯ *прысл.* 1. Раптоўна. *Нагла памірая, неажыдана смерць.* Быстрыца Астр. *За месяц памёр муш, нагле памёр зяць.* Крэва Смарг. *Нагле памірая.* Жылі Іўеў. *Памёр нагля.* Солы Смарг. *Нагле прышлося паехаць.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Кап ты нагля пашла* — каб ты раптоўна памёрла. Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *nagle* 'тж'. 2. Напорыста. *Нагля рабіць.* Малахоўцы Бар. 3. Многа. *Ён нагле курыць.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Напралом. *Чаго ты* [сабака] *нагля ляціш на мяне? Куды ты так нагля прэсся ў гэту рыбу?* Солы Смарг. 5. Нахабна. *Ай, нагле прычапілася ўжэ.* Чуркі Ашм.

НАГЛА'ТКА *прысл.* Датла. *Наглатка згарэла будоўля.* Рыбчына Віл.

НАГЛЕ'ДЗІЦЦА *зак.* Убачыць не адзін раз. *У кароў гузы, выдаўліваюць жывых аваднёў, я іх нагледзілася, навідзілася.* Валынцы В.-Дзв.

НАГЛЕ'Ц *м.* Той, хто скупы. *Наглец — гэта жадны чалавек.* Чуркі Ашм.

НАГЛУЗДЗІ'ЦЬ *зак.* Наманіць. *Наглуздзіла — і хопіць, усе бачаць цябе наскрозь.* Пацаўшчына Дзятл.

НАГЛУ'ХА, НАГЛУ'ГО *прысл.* 1. Вельмі моцна. *У ярме ўдаўбана наглуха калочэк.* Гемзы Шальч. 2. Не пакінуўшы адтулін. *Наглуха закрылі.* Груздава Паст. 3. Да краёў (запоўніць). *Яму зробяць скрынкай, і бульву заваляць наглуго.* Номікі Бабіц.

НА'ГЛЫ, НА'ГЛЫЙ *прым.* 1. Раптоўны. *Наглымі смярцямі цяпер людзі мруць.* Стральцы Гродз. *Наглай смерцю памёр.* Магуны Паст. *Наглая смерць — неспадзяваная смерць.* Жодзішкі Смарг. *Наглая смерць: пашоў у клуп і не вярнуўся, нашлі ў балоці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Наглая*

*смерць — нядобра, у нас баба лігла спаць і ні ўстала.* Валынцы В.-Дзв. *Наглая смерць.* Старыя Смільгіні Воран., Старыя Трокі Трак. *Умэр чоловік наглою смэртю.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і н а г а́ л ь н ы 1. *Ён наглы да работы.* Малахоўцы Бар. 3. Нахабны. *Немцы былі наглыя.* Саланое Віл. *Наглы — злы, благі чалавек. Ну і наглы ты!* Рыбчына Віл. *Наглы — ета дрэнны, настойчывы чалавек.* Беразіно Докш. *Наглы — навяшчывы, такі наглы чалавек, ні глядзіць ні на што, усюды ўлезіць.* Мярэцкія Глыб. *Наглы — нахальны, бярэ бяс просу, насільна.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Скупы. *Наглы — жадны, кап у яго усё было.* Малахоўцы Бар.

НАГЛЫКА'ЦЦА *зак.* Наглытацца. *Наглыкоўся, як гусь.* Галубы Маст.

НАГЛЮ'СІЦЬ *гл.* НАГНЮСІ'ЦЬ

НА'ГЛЯ *гл.* НА'ГЛА

НАГЛЯ'ДАМ *прысл.* Назіркам. *Бегла ш наглядам, ганіла яго, каб даганіць, каб было ляхчэй ісці.* Баброўнікі Гарад.

НАГЛЯДА'ЦЬ *незак.* Пільнаваць, сачыць. *Ядзя, наглядай на свіня.* Вострава Маст. *Буду наглядаць сланэчніка, кап дзеці не абарвалі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я буду наглядаць, калі пагоніць.* Рыбчына Віл.

НАГЛЯ'НЦ *прысл. перан. экспр.* Чыста, да бляску. *У яе цёнгля хустачка выпрасавана наглянц. У нас у хаця ўсё было наглянц.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *glanc*<ням. *Glanz* 'глянец, лоск'.

НАГНА'ЦЬ *зак. экспр.* 1. Паўбіваць. *Дашчурачку возьмеш, нагоніш гваздоў пасярод, гваздоў пятнаццаць — дваццаць рашотачка, і лён абдзіраеш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Дагнаць. *Сабака нагноў іх.* Альхоўка Навагр. 3. Нанесці ветрам (пяску, пылу). *Праз вокна нагоня пылу.* Гемзы Шальч. 4. Нарабіць. *Нагоня гэтых лопаўкаў* [у касе]. Сасноўка Смарг. *Нагнаў лапатуноў у касу і не косе.* Відаўцішкі Вільн. *Санкі бярозавыя, аж пакулі нагналі одлігай.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Набыць якую-н. хваробу. *Смагла паробіла і грысь нагнала ў руку.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Нагнаць аскому* — атрымаць абвостранае адчуванне на зубах ад чаго-н. кіслага. *Аскому нагнаў на зубы.* Магуны Паст.

НАГНЕ'СЦІ *зак. экспр.* Набіць. *Нагнятуць у плечы мяне.* Рудня Чэрв.

НАГНЁНЫ *дзеепрым.* Нахілены. *Вядро нагнёна.* Малахоўцы Бар.

НАГНЁТКА *ж.* Тое ж, што і н а б о́ й 1. *Нагнётка здзелана.* Паляцкішкі Воран.

НАГНО'М *прысл.* У выразе: *Нагном напіцца — гл.* н а б- г о́ м. *Нагном з вядра напіўся.* Малахоўцы Бар. *Нагном із вядра напіцца.* Тухавічы Лях. *Нагном з гладышыка чы вэд-*

*ра п'е.* Смаляніца Пруж. *Напіўся нагном.* Калясное Міхал.

НАГНУ'ЦЦА *зак.* Нахіліцца. *Я не нагнуса, мне натта баліць.* Парэчча Гродз.

НАГНЮСІ'ЦЬ, НАГЛЮ'СІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а б э́ с ц і ц ь. *Нагнюсіць, ды бывае сагніе.* Кузьмічы Люб. *Як заставіш кацяня дома, ён наглюсіць.* Ванелевічы Кап.

НАГО'ЛА *прысл.* Без снегу. *Зімля ўстыўшы нагола.* Кураполле Паст.

НАГО'МҐАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Наґомґалася хлеба і пашла.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gomar̀nis* 'абжора'.

НАГО'РЫВАЦЬ *незак.* Разганяць. *Трэба нагорываць бульбу.* Гемзы Шальч.

НАГРАБА'НЫ *дзеепрым.* Нагрэбены. *Лабудзя куча награбана.* Парэчча Гродз.

НАГРАБА'СТАТІ *зак. экспр.* Нахапаць чаго-н. з прагнасці. *Туолезно всякого добра награбастав.* Курашэва Чыж.

НАГРАБЯСТАВА'ЦЬ, НАГРЭБЕСТАВА'ЦЬ *зак. буд.* Прыбіць латы. *Жэрдкамі наґрабяставаў хату. Наґрабяставаў хату ґрэбестам.* Гемзы Шальч. *Ставіш шпары, а патом наґрэбеставаць нада.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. *grebė́stúoti* 'тж'.

НАГРАВА'ЦЦА *незак.* Награвацца. *Награецца хата.* Лоск Валож.

НАГРАДЗІ'ЦЬ, НАГРАДІ'ТІ *зак.* 1. Узнагародзіць. *І мяне нinfградзілі, ксёнжачку далі.* Рагулішкі Даўг. 2. *перан.* Пакараць. *Так рабів, што нградiлі его тюрмою.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Надзяліць чым-н. *Гануля як нградзіла семечкамі, апух язык.* Пацаўшчына Дзятл.

НАГРА'НУЦЬ, НАГРА'НАЦЬ *зак.* 1. Нечакана з'явіцца. *Яны награнулі другі раз і ўнізаметку апкралі.* Чапаеўскі В.-Дзв. 2. Накінуцца на каго-н. з лаянкай, патрабаваннямі. *Агранала на мяне і на сваім паставіла.* Мярэцкія Глыб.

НАГРА'НЫ, НАЙГРА'НЫ *прым.* Аплоднены. *Награна яйцо.* Малахоўцы Бар. *Найгранае ейцо.* Глівін Барыс. *Найграная яйка.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАГРО'ДА *ж.* Узнагарода. *Наґроды давалі за тканіну.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *nagroda* 'тж'.

НАГРУ'ЗКА *ж.* Тое, што даецца прымусова як дадатак да чаго-н. *Батон нагрузкі к хлебу даюць.* Буды В.-Дзв.

НАГРЭБЕСТАВА'НЫ *дзеепрым.* З прыбітымі латамі. *Наґрэбеставана хата, будуць крыць.* Малі Астр.; *гл.* н а ґ р а б я с т а в а́ ц ь.

НАГРЭБЕСТАВА'ЦЬ *гл.* НАГРАБЯСТАВА'ЦЬ

НАГРЭ'ЙЗАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць што-н. неахайна. *«Як ты гараў? — Наґрэйзаў, наґрэйзаў — і пашоў».* Пацаўшчына Дзятл. *Наґрэйзаў, наґрэйзаў. Эх, ты, работнік!* Старыя Трокі Трак. 2. Напісаць неахайна або нежаданае. *Во наґрэйзаў,*

*сам чорт ні разбярэ!* Крэва Смарг. *Так наґрэйзаяш, як пэнсію палучаю.* Парэчча Гродз. *Рас мне ў сшытку наґрэйзала.* Пацаўшчына Дзятл. *Наґрэйзаў, наґрэйзаў, і сам чорт не разбярэ!* Гемзы Шальч., *парайн.* літ. *kreĩzoti,* польск. дыял. *nagreździć* 'тж'.

НАГРЭ′ЦЦА *зак.* Сагрэцца. *Награўся на астатні канец.* Саланое Віл.

НАГУДЗЕ′ЦЦА *зак.* Нагаварыцца. *Бабы забудуцца, што прышлі мыцца, завядуць свае гукі, пакуль нагудзяцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАГУ′ЛА *м.* і *ж.* Той, хто нахабны. *С такою нагулою встыдно до людзі выйті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *nuogũlis* 'той, хто ходзіць у падраным адзенні'.

НАГУМЕ′НІЦА *ж.* Прыгуменне. *Нагуменіца — там сушылі сено.* Альхоўцы Лях.

НАД *прыназ.* 1. з *тв.* Пры абазначэнні адносін да аб'екта. Над. *Збыткуецца над жывёлай.* Грыкені Вільн. 2. з *він.* Пры абазначэнні аб'екта параўнання. За. *Наша карова над усіх кароў лепшая.* Груздава Паст. *Над мёт няма лякарства.* Граўжышкі Ашм. *Яна ў мяне над усімі ў дзярэўні.* Малахоўцы. Бар. *Над яе ш німа брытчэйшых людзей на свеця.* Сакаўшчына Валож. *Я люблю дочку над усе на свеце.* Мсцібава Ваўк. *У вуліцы ні было вады над маей смачнейшай.* Семежава Кап. *Німа над брусніц ягат: і чыстыя, і прыятныя. Карова над усім сялом была.* Вецярэвічы Пух. 3. з *він.* Пры абазначэнні месца. На. *Над гэты берах прывялі.* Івашкаўцы Смарг. 4. з *род.* Пры абазначэнні асяроддзя, адкуль што-н. вылучаецца. З. *Гэты наравіўся над усіх.* Груздава Паст.

НА′ДА, НА′ДЫ у знач. *вык.* 1. Трэба. *Парасяці даць нада.* Гальшаны Ашм. *Валяйся, аля ш нада ісці.* Груздава Паст. *Табе нада ў поле гнаць.* Саланое Віл. *Нада было яго* [лён] *мяць, трапаць.* Буды В.-Дзв. *І старыком нада работаць.* Новыя Мацалі Варэн. *Прасць ні нады, ткаць ні нады.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Міржынкі нада ў азяро ўторнуць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Круг нада круціць.* Навікі Лудз. *Нады паіскаць, дзе курыца нясецца.* Лоск Валож. 2. Тое, што і патрабуецца. *Што нада, то давалі.* Кемялішкі Астр. *Як жывяцё? Можа, нада пастух?* Паляцкішкі Воран. *Бяры сколька нада, пасаджу вечарком. Нада сабака каля хаты.* Рагулішкі Даўг.

НА′ДАБІ у знач. *вык.* Тое ж, што і на́да 1. *Мне туды надабі пайці.* Лісна В.-Дзв. *Мне к некаму прыхінуцца. А мне надабі печку тапіць.* Валынцы В.-Дзв. *Мачонікі—грыбы цімнаватыі, у зіму іх харашо, іх надабі памачыць.* Валынцы В.-Дзв. *Надабі для пчол: грычыха, клевер, лаза.* Мішневічы Шум.

НА′ДАБІЦЦА *незак.* Патрабавацца. *Яна* [вітушка] *надабіцца для пражы.* Кураполле Паст.

НА′ДАБНА у знач. *вык.* 1. Тое ж, што і н а́ д а 1. *Надабна мне купіць мукі ў лаўцы.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і н а́ д а 2. *І надабна гэта дарога, машыны ідуць начыста.* Рагулішкі Даўг.

НА′ДАБНЫ *прым.* Патрэбны. *А гэты камін надабны, каму нада будзіць выкапаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Камуты* [хамуты] *надабны.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *надобный* 'тж'.

НАДАБРА′ЦЬ *зак.* Узяць частку. *Надбяры вады, разальеш!* Номікі Бабіц.

НАДАВА′ЦЦА *зак.* Даць многа разоў. *Сістра добра жыла, а дзе яна надаецца.* Гальшаны Ашм.

НАДАВА′ЦЬ *зак.* Нарабіць уколаў. *Зашчыкаў яму многа надавалі.* Канюкай Вільн.

НАДА′ВЯЧА *прысл.* Нядаўна. *Надавяча не было добро.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *давеча* 'тж'.

НАДАДЗЕ′ЦЬ *зак.* Надакучыць. *Нікому не нададзенеш, як памрэш.* Мсцібава Ваўк.

НАДАЕ′ДЛІВЫ *прым.* Надакучлівы. *Красівая, алі надаедлівая.* Рагулішкі Даўг.

НАДАЕ′ДНЫ *прым.* Тое ж, што і н а д а ё д л і в ы. *Надаедная ваша работа. Надаедны пятух, біда, ляціць да нашага біцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАДАЕ′СЦІ *зак.* Надакучыць. *Іна мне ўжо надаела.* Лісна В.-Дзв. *Стары ўсім надаясі, на цябе будуць коса глядзець, так і неахота жыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Так надаядуць акуляры!* Груздава Паст. *Надаела прадзіва.* Гальшаны Ашм. *Як пачане спрашываць, надаесь адвічаць.* Саланое Віл. *Мне надаелі валасы расчэсаваючы.* Лоск Валож. *Надаесць носячы свінням.* Вялікія Баяры Шчуч. *Надаесь седзячы ў хаці.* Парэчча Гродз. *Нявесткам надаела. Надаесь тут на чужыне жыць.* Альхоўцы Лях. *За зіму надаелі госці.* Вялікі Краснік Пруж. *Надаеў ты, лежачы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ты мне надаела.* Азяраны Раг.

НАДАКУ′ЛІЧНЫ *прым.* Дрэнны. *Мінск быў надакулічны горат.* Крэва Смарг.

НАДАКУЧА′ЦЬ *незак.* Надаядаць. *Хто надакуча, то гаворацъ: «Ай, ад'ела ты мне вантробы!»* Малі Астр.

НАДАКУ′ЧЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і н а д а ё д л і в ы. *Надакучлівыя людзі.* Кемялішкі Астр. *Надакучлівы чалавек дакучая, ня мох зрабіць за ім.* Гемзы Шальч.

НАДАКУ′ЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а д а е́ с ц і. *Надакучыла пісаць.* Рудня Астравітая Чэрв.

НА′ДАЛАБКІ, НА′ДАЛАПКІ *мн.* Намарзні. *Надалапкі надзявалі на капылы.* Малахоўцы Бар. *На капылы надзявалі надалапкі.* Альхоўцы Лях.

НА'ДАЛАБЫ *мн.* Тое ж, што і н а́ д а л а б к і. *Надалабы — бакавыя планкі, якія набіваюць на капылы.* Пухавічы Лях.

НАДАЛУ'ЖВАЦЬ *незак.* Дабаўляць. *Высеўкі грэцкія мелім, надалужвалі, кап больш было.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *'доложить'*; польск. *dołożyć* 'дадаць, кладучы'.

НАДАПАМАГА'ЦЦА *зак.* Дапамагчы многа разоў. *Хто надапамагаецца.* Граўжышкі Ашм.

НАДАРАЖЫ'ЦЦА *зак.* Зрабіць што-н. назло. *Ён мне надаражыўся, прывёў дзяўчыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАДА'РМА *прысл.* Дарэмна. *Надарма схадзіла, нікога ні было.* Вязынка Маладз. *Надарма я сюды прышла.* Талейкі Швянч.

НАДАСТАВА'ЦЬ *зак.* Дастаць у вялікай колькасці. *Што яны надаставаюць гэтых грачоў!* Вострава Маст.

НА'ДА'СЬ *прысл.* Тое ж, што і н а д а́ в я ч а. *Нада́сь быў прыехаў з маткай.* Лісна В.-Дзв. *На́дась прышоў п'яны.* Малыя Аўцюкі Калінк.

НАДА'ТКІ *мн.* Кароткія загоны, дадаткі. *Надаткі — которые покорочэ* [загоны]. Калясное Міхал. *Надаткі — кароценькія загоны, мэтраў дваццаць — трыццаць.* Лука Нараўк.

НА'ДАЎБКІ, НА'ДАЎПКІ *мн.* Тое ж, што і н а́ д а л а б к і. *Надаўбкі ў санях.* Жылі Іўеў, Пацаўшчына Дзятл. *Надаўпкі набіваюць на капылы.* Дакудава Лід.

НАДА'ЦЬ *зак.* 1. Даць у некалькі прыёмаў. *Усялякіх кускоў надам сабаку.* Паляцкішкі Воран. 2. Нанасіць. *Надаў стружак. Свіня ў карыта надась, нада чысціць.* Лоск Валож. 3. Ненаўмысна пырснуць. *Кап у мяса не надала чыхаючы.* Лоск Валож. 4. Пабіць. *Падносіў гарэлку да Гуты, надалі яму.* Альхоўка Навагр. *Я сягання свайму надала.* Беразіно Докш. 5. Нагаварыць, выгаварыць. *«Ты мой гаршчок спаліла?» — Проці сына* [нявестка] *надала, надала.* Старыя Трокі Трак. ◇ *Надаць у каўнер, надаць у каршэнь* — пабіць, пакараць. *Ён за гэта жыта надаў у каўнер ей.* Солы Смарг. *Прыляцеў, набіў майго ўнука, у каршэнь надаў, надаў ні за што ніякая.* Кураполле Паст.

НАДАЯДА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і н а д а к у ч а́ ц ь. *Яму надаядала.* Альхоўцы Лях. *Надаядало мне прадучы і ткучы.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *надоедать* 'тж'.

НАДАЯ'ДЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і н а ц а е́ д л і в ы. *Надаядлівая ты, як муха.* Пацаўшчына Дзятл. *Надаядлівая ваша работа.* Мсцібава Ваўк. *Надаядлівы чалавек.* Рыбчына Віл. *Надаядлівы ты, як муха, адчапіся ад мяне!* Мачаск Бярэз. *Надаядлівы такі!* Калясное Міхал.

НАДАЯ'ДЛЫ *прым.* Тое ж, што і н а д а е́ д л і в ы. *Надаядлы такі, лезе усё.* Рыбчына Віл.

НАДВЕРЭ'НЖЫЦЬ *зак.* Навярэдзіць. *Надверэнжыў*

*руку, нагу — хадзіць не магу.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *nadweręźyć* 'тж'.

НАДВЕ′ЧАР *прысл.* Пад вечар. *Надвечар прыехалі з лесу.* Груздава Паст. *Надвечар прыйшла з ягадаў.* Навасёлкі Свісл. *Надвечар мы пагналі пад лес кароў.* Пацаўшчына Дзятл. *Жалі надвечар, там сонца зашло жнучы. Еў надвечар.* Альхоўка Навагр. *Надвечар уціхаіць, дрэва ня так балтаіцца.* Ракаўскія Швянч.

НАДВЕ′ЧАРКАМ *прысл.* Тое ж, што і н а д в е́ ч а р. *Надвечаркам прышлі дахаты.* Вострава Маст.

НА′ДВІС *м.* Падмыты бераг ракі. *Надвіс — падмыты берах.* Паляцкішкі Воран.

НАДВО′РАК, НАДВУ′РАК *м.* 1. Надворак. *Прывядзі на надворак каня. Стаіць на надворку карова.* Малахоўцы Бар. *А гэта надворак называем.* Парэчча Гродз. *Летая па надворку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Па надворку відаць, што добры гаспадар.* Малі Астр. *На надворку дзеці гуляюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Куры па надворку ходзяць.* Галубы Маст. *Ужо на надворак пусцілі, на прагон, кап паехала.* Дакудава Лід. *Каровы прышлі на надворак.* Альхоўка Навагр. *Сабакі па надвурку бегаюць.* Галубы Маст. 2. *мед.* Стул. *Ужо жывот ні баліць, надворак добры.* Альба Нясв.

НАДВО′Р'Е *н.* Надвор'е. *Надвор'е нядобрае.* Парэчча Гродз., Паляцкішкі Воран.

НАДВО′РКА *ж.* Тое ж, што і н а д в о́ р'е. *Дзісь надворка дрэнная.* Старыя Смільгіні Воран.

НАДВО′РНЫ, НАДВУ′ОРНЫ *прым.* Пакінуты на гадаванне (пра свіней). *Надворныі свінні пускаюць на племя.* Валынцы В.-Дзв. *Надворныя, або племныя свіні.* Груздава Паст. *Надворна свіня горш корміцца.* Мсцібава Ваўк. *Надворная свіння ў племя пушчаная.* Саланое Віл. *Кормны паршук і надворны паршук.* Альхоўка Навагр. *Надворна свіня.* Ялова Пруж. *Надворны кабан. Надворная свіння.* Старыя Трокі Трак. *Надворныя свіня.* Сакаляны Сакол. *Маемо двое надвуорных свіні і два кормнікі.* Курашэва Чыж.

НА′ДВЯЧАР *прысл.* Тое ж, што і н а д в е́ ч а р. *Надвячар немцы падпалілі і паехалі.* Вузла Мядз.

НАДГРО′БКІ, НАДГРО′ПКІ *мн.* Помнікі на могілках. *Цяпер надгропкі ставяць цэментовыя.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *надгробие* 'тж'.

НАДДА′ТКІ *мн.* Тое ж, што і н а д а́ т к і. *Кароткія, нешырокія называюцца наддаткі да паласы.* Беразіно Докш. *Наддаткі — кароткія загоны, упіраліся ў даўгія.* Мачаск Бярэз.

НАДЕ′Л *гл.* НАДЗЕ′Л

НАДЖМУ'ХАЦЬ *зак. безас.* Надзьмуць ветрам. *Гэ холодзіць, наджмухоло.* Хатынічы Ганц.

НАДЗА'ХАД, НАДЗА'ХАТ *прысл.* Перад захадам. *Сонца надзахат, пашла я ў ток.* Рыбчына Віл.

НАДЗВЫЧА'ЙНЫ *прым.* Незвычайны. *Такога капялюша я не відзела, надзвычайны!* Солы Смарг.

НАДЗЕВА'НЫ *гл.* НАДЗЯВА'НЫ

НАДЗЕВА'ЦЬ *гл.* НАДЗЯВА'ЦЬ

НАДЗЕ'ЖА *ж.* Надзея. *Я мала надзежу, што ён прыдзя.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *надежда* 'тж'.

НАДЗЕ'ЖНІК *м.* Кавалак палатна, якім пакрывалі дзяжу. *Надзежнік быў, дзешку накрывалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Надзежнік — канцы асновы з кавалкам палатна.* Рыбчына Віл. *Надзежнік с палатна шылі. Надзежнік называюць, такі абрус быў.* Саланое Віл. *Надзежнік табе дала сваёй работы.* Беразіно Докш. *Надзежнік брудны.* Ухвала Круп. *Надзежнік — закрываюць дзяжу.* Пасека Ст.-Дар., Лапічы Асіп.

НАДЗЕ'І *мн. заал.* Дажджавыя чэрві. *Надзеі — дажджавыя чэрві, у нас так завуць красных чарвей.* Лісна В.-Дзв. *Краснаватыя чэрві — надзеі.* Якубова Рас.

НАДЗЕ'Л, НАДЕ'Л *м. устар.* Участак зямлі, які выдзяляўся каму-н. *Надзел — участак.* Мярэцкія Глыб. *Надзел зямле.* Вялікія Баяры Шчуч. *Надзел зямлі быў, зямлю дзялілі роўнымі надзеламі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Далі ў прыдано надзел зямлі, грошы, каня.* Азяраны Раг. *Надел — петнаццать десетін.* Азарычы Пін.

НА'ДЗЕЛЕНЬ *ж.* Недаспелая садавіна. Міратычы Карэл.

НАДЗЕ'РЦІ *зак.* Надраць. *Дразґаў надзяруць і палящь, бо не было ґазы.* Васілевічы Гродз. *Надзяры лучыны.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАДЗЕ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Нацягнуты на што-н. (чахол і інш.). *На кінжал похва надзета.* Солы Смарг. 2. Добра апрануты. *Сватавалі і багатыя, і надзетыя.* Саланое Віл.

НАДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Надзець. *Дам дочкі надзець халат благі.* Масішкі Красл. *Рубашку надзеніць і ў поля пагоніць.* Валынцы В.-Дзв. *А адну і забыла надзець, найлепшую.* Ахрэмаўцы Брасл. *Надзець кашулю нада, змяніць, еслі гразная.* Ёдлавічы Брасл. *Надзець кашулю.* Мярэцкія Глыб. *Хлодны вецер, трэба надзець хухвайку.* Кузьмічы Люб. *Надзець нельга, адны дзіркі.* Вецярэвічы Пух. *Надзець кашулю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Надзену сукенку.* Грыкені Вільн. *Шкарпеткі надзень — будзя цяплей.* Бакшты Іўеў. *Шапку зімовую надзей.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Уздзець. *Надзень аброць каню.* Рыбчына Віл. *Бывая на нічанку надзе-*

*нуць рыбу.* Чуркі Ашм. 3. Забяспечыць адзежай. *Нас яны надзелі і ўсё ўстроілі.* Саланое Віл.

НАДЗЕ'Я *ж.* Спадзяванне. *Няма надзеі, што ён паправіцца.* Рыбчына Віл.

НАДЗЕ'ЯЦЦА *незак.* Спадзявацца. *Колісь на пеўня надзеяліся. Певень запяе першы — уставалі лён церці.* Вецярэвічы Пух. *Не надзеялася на сваіх, а яны прыехалі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *надеяться* 'тж'.

НАДЗЁЖА *ж.* Тое ж, што і н а д з е́ я. *Надзёжы няма на памідоры.* Вецярэвічы Пух. *Надзёжы нема на папраўку, сільно слабое серцо.* Кузьмічы Люб.

НАДЗЁРЦІ *зак.* Надзерці. *Рэцькі надзяруць, пасоляць, з бульбай наядуцца — і здаровыя былі.* Солы Смарг.

НАДЗІВА'ЦЬ *гл.* НАДЗЯВА'ЦЬ

НАДЗІЛЯ'ЦЬ *гл.* НАДЗЯЛЯ'ЦЬ

НАДЗІРА'ЦЯЛЬ *м.* Назіральнік. *Пагналі нас туды бляндажы дзелаць, надзірацялі круцяца.* Якшыцы Бярэз.

НАДЗЮ'БАЦЦА *зак. перан. экспр.* Напіцца гарэлкі. *Ён надзюбаіцца, зляціць з узвала і будзіць ляжаць пад узвалам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Надзюбаўся нейкай трасцы і на чалавека не падобны.* Беразіно Докш.

НАДЗЮ'ГАЦЬ *зак. экспр.* Набіць. *Прыляцеў, як каршун, надзюгаў у плечы і паляцеў знэў* [пра хлопца]. Кураполле Паст. *Надзюгаю табе!* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *džiūkšt* 'лясь, гах'.

НАДЗЮ'ГЛІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а д з ю́ г а ц ь. *Матка, бывала, надзюгліць, надзюгліць у плечы, і пойдзеш з хаты. Надзюгляць у спіну.* Валынцы В.-Дзв.

НАДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а д з ю́ г а ц ь. *Надзюжыў дзіця і жонку. Плачуць усё.* Бакшты Іўеў.

НАДЗЯВА'НЫ, НАДЗЕВА'НЫ *дзеепрым.* Начынены. *У кнішкі вычытала, як курыца надзявана, рыба фаршыравана.* Гальшаны Ашм. *Кішкі надзеваныя пякуць.* Сапоцкіна Гродз.

НАДЗЯВА'ЦЦА *незак.* Апранацца. *Камізэлька наверх на кашулю надзіваіцца.* Солы Смарг.

НАДЗЯВА'ЦЬ, НАДЗЕВА'ЦЬ, НАДЗІВА'ЦЬ *незак.* 1. Надзяваць, апранаць. *Не надзяю кажух.* Азяраны Раг. *Надзень армячок!* Саланое Віл. *Надзівай кофтачку.* Валынцы В.-Дзв. 2. *кулін.* Начыняць. *Вантробы крышаць, дабаўляюць яйкі і надзяваюць кішкі ці кіндзюк.* Мсцібава Ваўк.

НАДЗЯЖНЕ'Й *прысл.* Больш надзейна. *У горадзі надзяжней, чым у дзярэўні ражаць.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *надёжнее* 'тж'.

НАДЗЯЛІ'ЦЬ *зак.* Надзяліць. *Гэтаю зямлею надзялілі.* Кайшоўка Карэл. *Во, надзялілі буракоў.* Плябанцы Ашм.

НАДЗЯЛЯ'ЦЬ, НАДЗІЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Выдзяляць у

асабістае карыстанне. *Гэта мернічы мерае і надзяляе зямлёй.* Солы Смарг. 2. Даваць падарункі на вяселлі. *Старшы сват дзяліў каравай, а маладых надзіляюць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

НАДЗЯРЖА'ЦЦА *зак.* Пратрымаць працяглы час. *Дзе надзержыся ў руцэ.* Граўжышкі Ашм.

НАДЗЯЎБЦІ', НАДЗЯЎПЦІ' *зак. перан.* Насячы. *Трэ надзяўпці мерзлае капусты.* Дзяніскавічы Ганц.

НАДІВІ'ТІСЕ *зак.* Нагледзецца. *Такая гожа дівчына, што всіе не моглі надівітісе. Кажут, што як груба баба надівіцце на когось, то подуобне дітя ўродіт.* Курашэва Чыж.

НАДІВОВА'ТІСЕ *зак.* Надзівіцца. *Нэ моглі надівоватісе, што такі малы все понімае.* Курашэва Чыж.

НАДКО'СНІК *м.* Шафер. *У маладога два — чатыры надкоснікі, у маладой два — чатыры падручнікі, сколькі ў яго, столькі ў яе.* Талейкі Швянч.

НАДЛЯТА'ЦЬ *незак.* Прыбягаць. *Якраз надлятае яе мужык.* Беняконі Воран.

НАДЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Наляцець. *Як надляцеў самалёт, двух афіцэраў і салдатаў забіла.* Ракаўскія Швянч. 2. Хутка надысці. *Старасць надляцела быстра.* Беняконі Воран.

НА'ДМАЛАЦЬ *м.* Амаладжванне. *Сягання надмалаць пашоў — маладыя зрабіўся.* Саланое Віл.

НАДНЯ'ЦЬ *зак.* Узяць частку чаго-н., каб зменшыць колькасць. *Трэбо бульбы надняць у міску. Можа вам надняць сметаны? Надняць вам малака? Надняла малака ў слоік.* Мсцібава Ваўк.

НАДО'Б'Я *н.* Бяседа. *Справіў надоб'я. У тэй хаця было надоб'я.* Рудня Чэрв.

НАДО'ДНІК *прысл.* Да світання. *Надоднік уставалі і малацілі.* Ністанішкі Смарг.

НАДОЗОЛЯ'ЦЬ *незак.* У выразе: *Надозоляць душу* — прычыняць клопаты, хваляваць. *Ні надозоляй ты мою душу, бо ты ўжо мне напёк своімі розговорамі дурнымі.* Хатынічы Ганц.

НАДО'ІЧ *прысл.* Днямі. *Надоіч былі нашы тамака.* Кураполле Паст.

НАДО'ЙЧЫ *прысл.* Тое ж, што і н а д о́ і ч. *Учора ні вазілі і надойчы ні вазілі.* Асавец Віл. *А надойчы была яна ў мяне.* Азяраны Раг.

НАДО'ЛЬНІК *м.* Пайшчык. *Надольнік — каторого возьмуць на долю: дзіця і старого. Узялі надольніка.* Крынкі Крын.

НАДО'МНІК *м.* Прымак. *Надомнік ідзе ў хату бацькоў жонкі.* Магуны Паст. *Надомнік ідзе ў хату сваёй жонкі.* Быстрыца Астр. *Надомнік — прымака.* Ёдлавічы Брасл. *Надом-*

*нік ідзе ў дом жонкі.* Чычалі Швянч. ▽ *Мой зяць, як надомнік.* Гемзы Шальч.

НАДОРВА′НЫ *дзеепрым.* Надарваны. *Нагавіці надорваны знізу, але шчэ можно наложыті.* Курашэва Чыж.

НАДОРВА′ТІ *зак.* Надламаць. *Стэбла жыта штось надорвало.* Курашэва Чыж.

НАДО′СЯНЬ *прысл.* Пад восень. *Надосянь яна ехала.* Граўжышкі Ашм.

НА′ДПІС, НА′ТПІС *м.* Надпіс. *Натпісу няма там.* Гемзы Шальч.

НАДПІ′ЦЬ *зак.* Адпіць. *Ужо мама надап'е малака.* Крэва Смарг.

НАДРАБІ′ЦЬ *зак.* Нашчапаць. *З сосны лучыны надрэбіш, у пукі павяжыш, на северу пасеверaіць троху, тады на печ, высыхне — і паліш.* Саланое Віл.

НАДРА′ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і н а д р а б і ц ь. *Надраў лучыны, усадзіў у цёску — і гарыць.* Альхоўцы Лях. *Кары надраць.* Ракаўскія Швянч. 2. Нарыхтаваць аддзіраючы. *Лазы надралі кошык плесці.* Пацаўшчына Дзятл. *Слоксняў надраў.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Наскубці. *Трэба надраць пёр на подушку.* Саланое Віл.

НАДРЫГНЁНЫ *дзеепрым.* Узрушаны. *Я так надрыгнёная была, у вобмарак упала.* Ахрэмаўцы Брасл.

НА′ДТА, НА′ТТА, НА′ТА, НА′ТТО *прысл.* 1. Вельмі. *Унук натта шалун.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Гнеды — ні натта чорны.* Быстрыца Астр. *Натта хлеп чорны ад гірсы. Натта ім апходзя, што мая бульба ня баранаваная?!* Малі Астр. *Натта ш запах, пахне хораша. Тата быў натта працавіты.* Гальшаны Ашм. *Натта завіхалася.* Плябанцы Ашм. *Натта біла нявеста дзяцей.* Граўжышкі Ашм. *Я натта ні дбала.* Солы Смарг. *Натта маю сэрца бальноя.* Ністанішкі Смарг. *Натта тваe боты ў балоця.* Крэва Смарг. *Натта бацькоў важных хлопіц. Натта ня піў.* Кураполле Паст *Натта мала яно биваяць. Не гаравала, ні натта, аля ня весяла.* Груздава Паст. *Натта разумна была дзяўчынка.* Парэчча Гродз. *Натта широкі.* Рыбчына Віл. *Калі хлеп натта прэцца, гузы на ём — гэта найлепшы хлеп.* Дакудава Лід. *Ён натта любіў гэтыя хлопцы.* Паляцкішкі Воран. *Натта хітры чалавек. Натта раскрычэліся. Было натта яблак многа.* Лоск Валож. *Натта гора было ім. Удражнілі яго, натта лядачы чалавек. Натта быў сталяр харошы.* Альхоўка Навагр. *Мама, натта мне ногі баляць.* Аксакаўшчына Мін. *Яна натта дзеці любіла. Піць натта хочацца.* Кудзялянцы Шальч. *Натта німа калі, паляту скарэй. Натта сплю, натта сон морыць. Мой сын натта любіў спорт. Шэршні кусаяцца ната.* Руднікі Шальч. *Там ната раслі лапухі.* Гемзы Шальч. *Натто смачна бульба.* Беняконі Воран. *Натто карх балеў. Натто кепско, прывыкшы да*

*гэтого.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Добра. *Яна натта зная месца, дзе грыбы растуць.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАДУВА'НЬЧЫК *м. бат.* Адуванчык. *Надуваньчыкі жоўтым цвітуць, а перацвітуць — пухоўкі.* Пацаўшчына Дзятл.

НАДУ'МАЦЦА *зак.* Задумаць зрабіць што-н. *Надумалася я ісці ў кіно.* Быстрыца Астр. *Мы надумаліся есці зварыць.* Солы Смарг. *Надумалася і пашла.* Гемзы Шальч.

НАДУМЛЯ'ЦЦА *незак.* Надумвацца. *Ні надумляйся, мама, сама сябе глядзі.* Кураполле Паст. *Не надумляйся абычаго, памагай дзеці гадаваць.* Вецярэвічы Пух.

НАДУ'НУЦЦА *зак. перан.* Пакрыўдзіцца, нахмурыцца. *Прыйдзя, надуніцца ды ні гаворыць.* Міратычы Карэл.

НАДУ'НУЦЬ *зак.* 1. Напоўніць паветрам. *Мы надунім пасля мяч.* Альхоўцы Лях. 2. Напружыць. *Ноздры карова надуня.* Альхоўцы Лях.

НА'ДУПКА *ж.* 1. Верхняя планка ў драбінах. Мярэцкія Глыб. 2. Планка, якая замацоўвае галоўкі палазоў. Старыя Смільгіні Воран.

НАДУ'ТІ *зак. перан. экспр.* Падмануць. *Надулі мэнэ на тышчу злоты.* Курашэва Чыж.

НАДУ'ТЫ *прым.* Надзьмуты. *Душа рыбы надутая.* Гемзы Шальч.

НАДУ'ЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Курыца надулася.* Мсцібава Ваўк. *Кура надулася, грэбянь пачарнеў.* Вецярэвічы Пух.

НАДУ'ЦЬ *зак.* 1. Надзьмуць. *Надуло ў кажды вугол.* Ністанішкі Смарг. 2. Натапырыць. *Сабака надуў шэрсць.* Валынцы В.-Дзв.

НАДУШЫ'ЦЬ *зак.* Намуляць. *Надушыў панхера.* Номікі Бабіц.

НАДХО'ДЗІЦЬ, НАТХО'ДЗІЦЬ *незак.* Надыходзіць. *Дош натходзіць.* Саланое Віл. *Натходзіць гарача лета.* Альхоўка Навагр. *Натходзе гараня, не гаруць.* Грыкені Вільн.

НАДХО'ДНЫ, НАТХО'ДНЫ *прым.* Які ідзе з перапынкамі (пра дождж). *Натходны доиіч.* Граўжышкі Ашм.

НА'ДЫ *гл.* НА'ДА

НАДЫ'БАЦЦА *зак. экспр.* Нахадзіцца. *Я ўжо сёння надыбалася каля пліты.* Баброўнікі Гарад.

НАДЫ'БА'ЦЬ, НАДЫ'БАТЫ *зак.* 1. Натрапіць, знайсці. *Надыбаў на грыбы.* Дакудава Лід. *Надыбаў на грыбы, на ягады. Хто надыбáя рой?* Граўжышкі Ашм. *Дыбаў, дыбаў і надыбаў на грыбы.* Старыя Трокі Трак. *Я надыбáў на грыбы.* Альхоўцы Лях. *Надыбáў на воўка. На грыбы надыбáў, поўны кошык набраў.* Жылі Іўеў. *Як вы іх надыбáлі, гэтых грыбоў?* Міратычы Карэл. *Надыбáў грыбоў. От надыбáла ягат.*

Дзяніскавічы Ганц. 2. Сустрэць. *Надыбав я Стыпана коло лавкы.* Сіманавічы Драг.

НАДЫЙСЦІ′, НАДЫСЦІ′, НАДЫЙЦІ′ *зак.* 1. Тое ж, што і н а д ы́ б а́ ц ь 1. *Надышоў на грыбы.* Быстрыца Астр. *Надзярэш травы мяшок, глядзіш, штоб ляснік не надышоў.* Беняконі Воран. *Надышоў ягат.* Галубы Маст. *У трох мясцох надышлі грыбоў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Пачацца. *Як вайна надышла, хлеп з прысыпкаю елі.* Мсцібава Ваўк. *Надышла бура: віхер такі, пясок.* Старыя Трокі Трак. 3. Прыйсці, з'явіцца. *Белыя як надышлі, людзей сагналі і пабілі.* Малышы Лід. 4. Насунуцца. *Надышла хмара і на дарозя забіла бацьку.* Навасёлкі Лід. ◇ *Надыйсці на думку, надысці на памяць* — успомніць. *Надышло на памяць гэта названя.* Гемзы Шальч. *Ні надойдзіць на думкі ніякая песня.* Талейкі Швянч.

НАДЭ′ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Ён нешта надэчыў, яна паверыла і зрабіла так.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* д э́ ч ы ц ь II.

НАЕ′ГДЖЫ *прым.* Прыезджы. *Наегджыя людзі.* Дзяніскавічы Ганц.

НАЕ′ГДЗІЦЦА *зак.* Наездзіцца. *Наегдзілася за жыццё.* Крэва Смарг. *Колькі міліцыя наегдзілася.* Ністанішкі Смарг. *Дзе ш ты находзісся, наегдзісся.* Альхоўка Навагр.

НАЕ′ЖДЖАЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а е́ г д з і ц ц а. *Хваціць, наежджаліся.* Жылі Іўеў.

НАЕ′ЖДЖЫ, НАЕ′ЖЖЫ *прым.* Тое ж, што і н а е́ г д ж ы. *Ксёндз наежджы.* Быстрыца Астр. *Там людзі наежджыя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наежджыя людзі.* Багушэвічы Бярэз. *Тутэйшых мала засталося, наежжыя дамы пастанавілі.* Беразіно Докш.

НАЕ′НЧЫЦЦА *зак.* Настагнацца. *З гары звалілася, наенчылася.* Саланое Віл.

НАЕ′СЦІСЯ *зак.* Насыціцца. *Наясіся халоднай прыкалаткі — пашоў на работу.* Вузла Мядз. *Наясіся і ідзеш.* Беняконі Воран. *Усяго наеліся.* Гальшаны Ашм. *Ну што ты з лася наясіся?* Цяпінцы Віл. *Запускі — ядуць на сем нядзель, кап наеўся, бо пасля пост.* Збляны Лід.

НАЕ′ТЫ *дзеепрым.* Сыты. *Цяпер чалавек наеты, скаціна наетая.* Мярэцкія Глыб. *І ўсе давольныя, і ўсе наетыя.* Альхоўцы Лях. *Ці яно наета?* Навасёлкі Свісл. ∇ *Наеты па галоднаму не спагадае.* Валеўка Навагр.

НАЕ′ХАЦЦА *зак.* Папрыязджаць. *Дзеці як наехаліся!* Жылі Іўеў.

НАЕ′ХАЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а е́ х а ц ц а. *Немцаў наехала, а людзі і разбегліся.* Малышы Лід.

НАЁРЗАЦЦА *зак.* 1. Накруціцца седзячы. *Наёрзаўся на*

*пасцелі.* Малькуны Ігн. 2. *груб.* Нагуляцца. *Наёрзаўся, як сабака.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЁРЗАЦЬ *зак. экспр.* Неахайна напісаць. *Наёрзаў, што і разабраць няможна.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* ё р з а ц ь.

НАЁЎЗАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць неахайна. *Ну, ты і наёўзала, а не памыла падлогу.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Наблытаць. *Наёўзала нітак.* Пацаўшчына Дзятл.

НАЖА'РЫЦЬ *зак.* Напячы. *Нажарыць яёк.* Паляцкішкі Воран.

НАЖАЧО'НЫ, НАЖЫЧО'НЫ 1. *прым.* Нарачоны. *Хлопяц мае нажачону дзеўку.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. у знач. *назоўніка.* Жаніх. *Ён яе нажычоны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яны нажычоны і нажычоная.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* польск. *narzeczony* 'тж'.

НАЖЛО'ПАЦЦА *зак. груб.* Напіцца гарэлкі, нахлябтацца. *Нажлопаўся, што не здоля дахаты дайсці.* Руднікі Шальч.

НАЖЛУ'КЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а ж л о́ п а ц ц а. *Ён ужо нажлукціўся сяганя, напіўся.* Вузла Мядз.

НАЖЛЭ'ХАЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а ж л о́ п а ц ц а. *Нажлэхаўся, як цэп, і бегаў, як шалёны.* Малі Астр.

НАЖЛЮ'ХАЦЦА, НАШЛЮ'ХАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і н а ж л о́ п а ц ц а. *Нажлюхаўся, як цэбар. Нашлюхаўся, як цэбар.* Малі Астр.; *гл.* ж л у́ к т а.

НАЖНІ'ЦЫ толькі *мн.* Нажніцы. *Нажніцы — кроіць палатно, нажны — авечак стрыхчы.* Старыя Смільгіні Воран. *Нажніцы купіла.* Міратычы Карэл. *Так рэзаць — нажніцы, нажні — авец стрыхчы.* Палік Барыс. *Нажніцы, а некаторыя гавораць ножны.* Багушэвічы Бярэз. *Нажніцы — авечкі стрыгчы, і малыя нажніцы.* Грыкені Вільн.

НАЖНЫ' *прым.* Які сцелюць на падлогу. *Яны багата жывуць: у іх вісяць начныя каўры і ляжаць нажныя.* Крэва Смарг.

НАЖО'РЦІСЯ *зак. груб.* Нажэрціся. *Нажорся, наліў лыч — зараза.* Малі Астр.

НАЖРА'ЦЦА *зак. груб.* Тое ж, што і н а ж о́ р ц і с я. *Нажарэцца яшчэ, парой будзіць.* Мярэцкія Глыб.

НАЖУДЗЕ'ЦЬ *зак.* Нагаварыць. *І сыну нажудзіць, і напумпарыць, і зглумяць, і чалавек зробіцца дурны.* Кураполле Паст.; *гл.* ж у д з е́ ц ь.

НАЖУ'ТАЧКА *ж. памянш.* да н а ж у́ т к а 2. *Нажутачку ценянькую надзеня і ідзе гуляць. Нажутачка — блюзачка.* Ракаўскія Швянч.

НАЖУ'ТКА *ж.* 1. Кароткае верхняе жаночае адзенне, жакет. *У мяне ёсць нажутка—кароценькая, з фандачкамі, суконная.* Галубы Маст. *Нажутка—жакет на патклатцы.* Вузла Мядз. *Нажутка леткая накідаецца наверх, без падклаткі.* Новікі Гродз. *Кафтан і нажутка—усё адно.* Крэва Смарг. *Шарач-*

*ковая нажутка.* Старыя Смільгіні Воран. *Нажутка — каптан саматканы.* Лоск Валож. *Нажутка—кароткі каптан з тканага паласукенка, а цяпер куплёную жакетку называюць нажуткай.* Рыбчына Віл. *Нажутка шылася з баю, як свэтар, кяшані, і на падшэўцы былі, і на блюску надзявалі.* Магуны Паст. *Нажутка — кароткая верхняя вопратка на падкладцы.* Мярэцкія Глыб. 2. Кофта, блузка. *Дайней гарнітар шылі — спадніца і нажутка з крамы і з свайго тканага.* Кураполле Паст. *Рубашка жэнская — нажутка, ці кофтачка.* Солы Смарг. *Нада пашыць нажутку. Перш шылі з паркалю, мультынова ў міне.* Ёдлавічы Брасл. *Дачка мая нажуткі шыіць і спанніцы. Нажуткі да стану шылі.* Саланое Віл. *Нажутка — блюска шырокая, без таліі, з свайго палатна.* Жыдзевічы Іўеў. 3. Безрукаўка. *Нажутку насілі, паткладалі вату.* Гемзы Шальч.

НАЖЫ′ толькі *мн.* Прылада для абразання галовак ільну. *Дома нажы ёсць, што лён абразаць, вілы такія: палкай прыцісныць, зубамы дзёргаюць галоўкі.* Курапалле Паст.

НАЖЫ′М *м. мед.* Ціск (крыві). *Нажым кро́ві.* Быстрыца Астр.

НАЖЫНА′ЦЬ *незак.* Зжынаць нейкую колькасць. *Нажыналі памногу.* Быстрыца Астр.

НАЖЫ′ТІСЕ *зак.* 1. Пражыць многа. *Маю восімдесят ліет, ужэ нажывсе.* Курашэва Чыж. 2. Абагаціцца. *Чужою крывдою нажывсе.* Курашэва Чыж.

НАЖЫ′ЦЫ *мн.* Тое ж, што і н а ж н і ц ы. *Што рабіць нажыцамі будзеце?* Пацаўшчына Дзятл.

НАЖЫ′ЦЬ *зак. перан.* Прыдбаць. *Матка нажыла сабе міліцыянера.* Саланое Віл.

НАЖЫЧО′НЫ *гл.* НАЖАЧО′НЫ

НАЖЭ′РЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і н а ж о́ р ц і с я. *Нажаруцца каровы маўры.* Быстрыца Астр.

НАЗАВІВА′ЦІ *незак.* Завязваць пэўным спосабам. *Намэтку назавівалі на голову, і вісіт конэц.* Смаляніца Пруж.

НАЗА′Д, НАЗА′Т *прысл.* Назад. *Павязла назат і распрадала.* Кемялішкі Астр. *Аддай назат вядро.* Крынкі Крын. *Повэрнулася — і назад.* Дзмітравічы Кам. *Эй, варачайця яго назат.* Стральцы Шальч.

НАЗА′ДЗІ *прым.* Ззаду. *Пашукай, госці* [восці] *ляжаць назадзі ў чоўні.* Стральцы Гродз.

НАЗАЛІ′ЦЬ *зак.* Надакучыць. *Назаліў мне.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Назаліць галаву* — затлуміць, надурыць галаву. *Назаліў ты мне галаву.* Мярэцкія Глыб.

НАЗАЛЯ′ЦЦА *незак.* 1. Надакучаць. *Нечага назаляцца і ўезджай.* Курапалле Паст. *Чаго ты назаляесся, назола, атчапіся!* Солы Смарг. 2. Кпіць. *Назаляцца каму — наругацца, гаварыць, кап злавай.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Чаго ты назаляесся, робіш нарошна?* Солы Смарг.

НАЗАЛЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і н а з а л я́ ц ц а 1. *Не назаляй ты мне! Ну і назола!* Рыбчына Віл. *Назаляла яму сваімі справамі.* Малахоўцы Бар. *Не будуць ім і назаляць.* Вецярэвічы Пух. *Адыйдзіся, ні назаляй мне!* Беразіно Докш. *Ні назаляй ты ёй!* Ухвала Круп. *Не назаляй мне, адкажаш, калі хто прыстае.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◇ *Назаляць на душу* — прычыняць душэўны боль. Чуркі Ашм.

НАЗАПА'СІЦЬ *зак.* Нарыхтаваць у запас. *Назапасіў сена і сядзіць, як туз.* Беразіно Докш.

НАЗА'ЎТРА, НАЗА'ЎТРАЕ, НАЗА'ЎТРАЯ, НАЗА'ЎТРЫЯ, НАЗА'ЎТРЭ, НАЗО'ЎТРА *прысл.* На наступны дзень. *Маці расказвала: «Чую назаўтра, Зося карову зачаравала».* Магуны Паст. *Праседзела да вечара назаўтра.* Гальшаны Ашм. *Траву косяць у пракосы, назаўтра пракосы разбіваюць граблімі і, як сена сухоя, яго грабуць у копы.* Альхоўка Навагр. *Назаўтрае утрам ён і памёр.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Назаўтрая прышла.* Лоск Валож. *Назаўтрыя, у панядзелак, на работу пашоў.* Кураполле Паст. *Пойду бульвы скобліці назаўтрэ.* Смаляніца Пруж. *Назоўтра к вечару прыходзяць прыстаў са стражнікам у хату.* Строчыцы Мін. *Назоўтра жаніх прыіжджая па маладуху і тады вядзе дамоў.* Кукарава Бярэз.

НАЗА'ЎШЭ *прысл.* Назаўсёды. *Можэ, раз у жураўліны схожу, раз назаўшэ.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *zawsze* 'заўсёды'.

НАЗБІГА'ЦЦА, НАЗБЯГА'ЦЦА *зак.* Збегчыся ў вялікай колькасці. *Людзі назбігаліся да ямы, а мы засыпаны зямлёй.* Ёдлавічы Брасл. *Гэтыя людзі назбягаліся.* Саланое Віл.

НАЗБІРА'ЦЬ *зак.* Сабраць нейкую колькасць. *Ягадаў многа назбіраў, пойдзім у ягады.* Ёдлавічы Брасл. *Кап я знала, што ёсь ягадаў, пашла п і назбірала.* Ністанішкі Смарг. *Нада свіням травы назбіраць.* Груздава Паст. *Назбірала травы свіням.* Кураполле Паст. *Трэба назбіраць травы свінням.* Лоск Валож., Саланое Віл. *Назбірала малачаю.* Міратычы Карэл. *Шмат ягат назбірала.* Альба Нясв. *Назбірала ягат.* Рудня Астравітая Чэрв.

НА'ЗВА *ж.* Найменне. *Такія назвы балот былі.* Дзераўное Стаўб. *Размаітых назваў было гэтых шнуроў.* Канюкай Вільн.

НАЗВА'НІЯ *н.* і *ж.* Тое ж, што і н а́ з в а. *Яны меліназванія сваё.* Судэрва Вільн. *Пры мне названія была — прыданая.* Індра Красл.; *парайн.* руск. *название* 'тж'.

НАЗВА'НЫ *дзеепрым.* Які атрымаў назву. *Паджукі — так былоназвана.* Старыя Трокі Трак.

НАЗВА'ЦЬ *зак.* Даць імя, назву. *Назвуць і так.* Паляцкішкі Воран. *Як назвеш яго?* Мсцібава Ваўк. *Намалола семян. А як яго назвеш накш?* Вострава Маст. *Назаву яе Аня.*

Мярэцкія Глыб. *Адзін так назовіт, другой так.* Рагулішкі Даўг.

НАЗВІ'СКА *н.* і *ж.*, НА'ЗВІСКО *н.* 1. Тое ж, што і н á з в а. *Накша назвіска ў нас.* Парэчча Гродз. *Чараўнік, гавораць,— назвіска ш гэтакая.* Дакудава Лід. *Усялякія назвіска былі: Прудзішча — балота, Казлова гара — гара.* Валеўка Навагр. *Усяму назвіска новая.* Ракаўскія Швянч. *Назвіска такая «шчыглы» ест.* Старыя Трокі Трак. *Страпіна — назвіско санажаці.* Галубы Маст. *Е много назвіск.* Хатынічы Ганц. 2. Прозвішча. *Назвіска яго — Кавалёў, а імення — Фомка.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *nazwisko* 'прозвішча'.

НАЗЕ'ЛЕНЬ *прысл.* Калі былі зялёнымі. *Летось назелень абабралі слівы.* Міратычы Карэл.

НАЗІРА'ЦЬ *незак.* Сачыць. *З маяку назіралі, с шароў назіралі ў вайну. Самалёт назірае, дзе войска.* Латыгаль Віл.

НА'ЗІРКАМ, НА'ЗЯРКАМ *прысл.* 1. Не спускаючы з вачэй (ісці, бегчы). *Назіркам іці.* Магуны Паст. *Назяркам за ім глядзела ўслед.* Асавец Віл. 2. Паглядаючы час ад часу. *Назіркам сачыў за ўнукам.* Малахоўцы Бар.

НАЗЛО' *прысл.* Наперакор. *Ён так робіць абы-што, як назло.* Саланое Віл.

НАЗНА'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Прызначыць на пасаду. *Яго назначылі быць губэрнатарам.* Гемзы Шальч. 2. Выдзеліць. *Назначылі кажнай жоночыне дзялку.* Хатынічы Ганц.

НАЗО'ЛА *м.* і *ж.* 1. Той, хто дакучае. *Назола ты, атчапіся, не дам і ўсё.* Малахоўцы Бар. 2. Той, хто дастаўляе клопат. *Яна меншанькая, яна ім назола.* Вецярэвічы Пух.

НАЗО'ЎТРА *гл.* НАЗА'ЎТРА

НАЗУБІ'ЦЬ *зак.* Навастрыць (пілу, серп). *Прынясі, я назублю зубы* [пілы]. Ахрэмаўцы Брасл. *Трэ назубіць сярпа.* Дзяніскавічы Ганц.

НАЗЫВА'ЦЦА *незак.* Мець назву. *Цалы воз — кáры называліcь, а вос — па-польску.* Грыкені Вільн.

НАЗЫВА'ЦЬ *незак.* Называць. *Калёсы звінякі называлі.* Швэды Вільн. *Размаіце называюць гэтыя шнуры.* Канюкай Вільн.

НАЗЫ'ВІШЧА *н.* Тое ж, што і н á з в а. *Гэтыя назывішчы палёў былі, як аднасобна жылі.* Вузла Мядз. *Дзяшка — адно назывішча, пояс — другоя.* Палік Барыс. *Што вы збіраеце розныя назывішча?* Мурава Бярэз.

НАЗЯВА'ЦЬ *зак. экспр.* Накрычаць. *Як назяваіць, назяваіць, ад абіды жаль бярэць.* Кураполле Паст.

НАЗЯЛЁНА *прысл.* Які захоўваецца зялёным. *Пялюшка — назялёна скошаны корм.* Магуны Паст.

НА'ЗЯРКАМ *гл.* НА'ЗІРКАМ

НАЗЯРЭ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Закладзены ў азярод для прасушвання. *Былі назярэджаны пярэплаты.* Малі Астр.

НАЗЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Накласці ў азярод для прасушвання. *Двоя азяродаў назярэдзіла травы.* Рыбчына Віл.

НАЙБАГА'ТШЫ *прым. найвыш.* Найбагацейшы. *Усе завідуюць нашаму калхозу, наш калхоз найбагатшы.* Дзераўное Стаўб. *Найбагатшы нарот.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЙБАГАЦЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Тое ж, што і н а й б а г á т ш ы. *Найбагацейшы чалавек.* Чычалі Швянч.

НАЙБЛІ'ШЧЫ *прым. найвыш.* Самы блізкі. *Найблішчы лес быў у Дукштах і Шыланскі лес.* Грыкені Вільн.

НАЙБО'ЛІ, НАЙБО'ЛЕЙ, НАЙБО'ЛЕЕ *прысл.* Найчасцей. *Я найболі дома.* Пярэкі В.-Дзв. *Снегу найболей там насыпля.* Навасёлкі Лід. *Гаворацъ студзінь, але найболее — халоднае.* Ухвала Круп.; *парайн.* руск. *наиболее* 'тж'.

НАЙБЫСТРЭ'Й *прысл.* Найхутчэй. *Гусі найбыстрэй растуць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *быстрее* 'хутчэй'.

НАЙВЕ'НЦЭЙ *прысл.* Найбольш. *Найвенцэй стаякамі звалі. О, веле стаякоў настаўляла.* Беняконі Воран. *Найвенцэй бывае ў стычню.* Грыкені Віле́н.; *парайн.* польск. *najwięcej* 'тж'.

НАЙВІНЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Найбольш вінаваты. *Не ён, а маці найвінейша.* Талейкі Швянч.; *парайн.* польск. *winny* 'вінаваты'.

НАЙВЫ'ШШЫ *прым. найвыш.* Найвышэйшы. *Ён найвышшы ад усіх.* Стральцы Шальч.

НАЙГО'РЫ *прысл.* Найгорш. *Найгоры сэрца станіць балець. Найгоры, што я п'яная раблюся, сляпею.* Асавец Віл.

НАЙГРА'НЫ *гл.* НАГРА'НЫ

НАЙГРУ'ПШЫ *прым. найвыш.* Найтаўсцейшы. *Што найгрупшае дрэва — на сохі, трэба зрэзаць сохаў.* Паляцкішкі Воран.

НАЙДА'ЛЕЙ *прысл.* Не больш як. *Найдалей за два дніе звіно куончымо.* Курашэва Чыж.

НАЙЗАЯ'ДНЕЙШЫ *прым. найвыш.* Самы задзірлівы. *Ляці ты, пабарані свайго пятуха, найзаяднейшыя пятухі.* Гемзы Шальч.

НАЙЗДАРАВЕ'Й *прысл.* Вельмі здорава. *Найздаравей піць малако.* Номікі Бабіц.

НАЙКІСЛЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Самы кіслы. *Я малако найкіслейшая пап'ю.* Пацаўшчына Дзятл.

НАЙКРАПЧЭ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Наймацнейшы. *Зубы з дубу — найкрапчэйшыя.* Парэчча Гродз.

НАЙКРАСІВЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Найпрыгажэйшы. *Найкрасівейшая мая ўнучка.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *красивее* 'прыгажэй'.

НАЙКУСНЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Найсмачнейшы. *Над усе грыбэ найкуснейшые.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *вкуснее* 'смачней'.

НАЙЛА'ДНЕЙШЫ *прым. найвыш.* Тое ж, што і найкрасівейшы. *Маладыя — найладнейшыя. Найладнейшыя хусткі купіла.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *ładny* 'прыгожы'.

НАЙЛЕГЧЭ'Й, НАЙЛЕХЧЭ'Й *прысл.* Найлягчэй. *Найлехчэй говориты.* Горск Бяроз.

НАЙЛЕ'ПІ, НАЙЛЕ'ПЯЙ *прысл.* Найлепш. *Найлепі ў восень глухую купляць парасят, яны добрыя.* Асавец Віл. *Повясам найлепяй завязаць.* Малахоўцы Бар.

НАЙЛЕ'ПШЫ *прым. найвыш.* Найлепшы. *Найлепша выплата на фабрыцы.* Дзераўное Стаўб. *За ўсіх мая дзеўка найлепша.* Сакаляны Сакол.

НАЙМАЛО'ЧЫ *прым. найвыш.* Наймаладзейшы. *Наймалочы сын быў.* Гемзы Шальч.

НАЙМА'ЦЬ *незак.* 1. Арандаваць. *Наймалі сенакосы: хочаш прадзержаць кароў тры-чатыры, трэба сена.* Дзераўное Стаўб. 2. Браць на працу на пэўных умовах. *Пастуха наймалі.* Паляцкішкі Воран. *Пан дзеўку наймаў рабіць.* Гемзы Шальч. *Дайней наймалі, гадзілі пастыра, давалі патпаска.* Ёдлавічы Брасл. *Пан чэляць наймаў.* Плябанцы Ашм.

НА'ЙМІ *прысл.* У выразе: *Наймі відзець* — бачыць сваімі вачамі. *Сам наймі відзіў вайка. Наймі яго відзіла.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *przynajmniej* 'прынамсі'.

НА'ЙМІТКА *ж.* Наймічка. *Астанесся брату за наймітку.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яна ў наймітках была.* Магуны Паст. *У наймітках была.* Крэва Смарг. *Жыць не было за што — і пайшла найміткай у горад.* Беразіно Докш. *Яна наймітка.* Рыбчына Віл. *Наймітка была ў яго.* Вецярэвічы Пух. *Найміткаю ў дзеда была.* Рудня Астравітая Чэрв.

НА'ЙМІЧКА *ж.* Тое ж, што і наймітка. *Парабак і наймічка, а чалядніца, як вучыцца ў крайчыхі.* Міратычы Карэл. *Наймічка была.* Рыбчына Віл., Пасека Ст.-Дар. *Дайней наймічкі дзяржыць.* Альхоўцы Лях. *Поп парапкі, наймічкі дзяржаў.* Дзяніскавічы Ганц.

НА'ЙПЕР *прысл.* У першую чаргу. *Варэця найпер вы.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *najpierw* 'спачатку, раней (за ўсё)'.

НАЙПРАКТЫ'ЧНЕЙ *прысл.* Вельмі практычна. *Найпрактычней гумовыя боты каля ганку.* Гемзы Шальч.

НАЙСТА'РШЫ *прым. найвыш.* Самы старэйшы. *Хто з вас найстаршы?* Ністанішкі Смарг. *Яна ў нашай вёсцы найстарша.* Парэчча Гродз. *Мая мама памярла восем гадоў. Я ў яе найстаршая, першая.* Гемзы Шальч.

НАЙСЦІ', НАЙЦІ' *зак.* 1. Знайсці, адшукаць. *Ён* [хлопчык] *такі, найдзя балота.* Солы Смарг. *Найшлі гэтага Пальчэўскага.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як ішчыш, не найдзіш.* Кіралі Шчуч. *Толькі нашлі малін, а дош як даў.* Кураполле Паст. *Ні*

*найдзеш дражджэй.* Парэчча Гродз. *Я найшоў адзін.* Швэды Вільн. *Пасля бою не нашлі папы, можа, бомбай разарвала яго.* Рагулішкі Даўг. 2. *перан.* Набыць. *Бяду і лёхка найці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе ж ты лепшай жызні найдзіш!?* Буды В.-Дзв. 3. Даць жыццё. *Пятага сына нашоў і задзержаўся.* Саланое Віл.

НАЙСЦІ′СЯ I, НАЙЦІ′СЯ *зак.* 1. Знайсціся. *Нашоўся мяшок.* Лоск Валож. 2. Нарадзіцца. *У Маскве нашлась ім і дзеўка. Дачка нашлася дзесяць лет спусця.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён нашоўся.* Старое Сяло Зэльв. *У іх дзяўчыначка нашлася.* Кураполле Паст. *У іх рабёнак нашоўся.* Лоск Валож. *У яе хлопчык нашоўся.* Бакшты Іўеў. *Як дзіця найдзіцца, тады бапку прыводзілі.* Вострава Маст. *Другі нашоўся рабёнак.* Паляцкішкі Воран. *Нашоўся ў дачкі хлопчык.* Збляны Лід. *Нашоўся хлопчык.* Гемзы Шальч. *Хлапца нашоўся, як пажаніліся, дзевачка нашлася цяпер.* Ракаўскія Швянч. 3. З'явіцца. *Сусетка атабрала малако ў каровы, але як адрабілі, нашлося малако.* Малі Астр. *Дзе тыя мухі нашліся?* Старыя Смільгіні Воран. *Нашлося бяльмо на воку.* Мярэцкія Глыб. *Абадне* [авадні] *найдуцца — хай бог крые, ак укусіць, аш кроў ідзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Нашлася балячка.* Старое Сяло Зэльв. *Нашліся два гузы пат пахай.* Шамялі Брасл. 4. Вырасці. *Пака найдзецца трава ў агародзе, прыдзіцца ісці ў кусты травы шукаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Разводзяць пчолам сахар, яны ядуць сахар, пака цвяты не найдзецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Грып нашоўся, вгніў пол.* Старыя Трокі Трак. *Найдзіцца салата, агуркі — усе чыста елі.* Рагулішкі Даўг. 5. Настаць. *Маладзік нашоўся, сярпок вузенькі.* Старыя Смільгіні Воран. *Скора маладзік, маладзеняц найдзецца.* Рагулішкі Даўг.

НАЙСЦІ′СЯ II *зак.* Зайсці, увайсці. *Замкну, кап які п'яны не нашоўся.* Магуны Паст.

НАЙТРЫВА′ЛЕЙ *прысл.* Найтрывалей. *Трывала, найтрывалей сала з'еўшы.* Рыбчына Віл.

НАЙТРЫВУ′ЛІШЧЫ *прым. найвыш.* Самы трывалы, пажыўны. *Найтрывулішчы гарох ад усяго.* Новікі Гродз.

НАЙХАРАШЭ′Й *прысл.* Найлепш. *Паказваюць па цілівізары вячоркі, найхарашэй паглядзець.* Навасёлкі Лід.

НАЙХО′ДЗІЦЬ *незак.* Надыходзіць. *Як лето найходзіць, скачваюць і выносяць кросна.* Альхоўцы Лях.

НАЙЦІ′ *гл.* НАЙСЦІ′

НАЙЦЯМНЕ′ЙШЫ *прым. найвыш. перан.* Самы цёмны, адсталы. *Найцямнейшая ты, баба.* Жодзішкі Смарг.

НАКА′ЗАВАЦЬ, НАКА′ЗВАЦЬ *незак.* Паведамляць. *Пашла наказаваць на пахаванне.* Лоск Валож. *Яна мне наказавала Іванам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яны наказваюць, кап прыехала.* Гальшаны Ашм. *Егдзіў наказваць, каб на хрэсьбіны прыгджалі.* Валеўка Навагр.

НАКАЗА'ЦЬ *зак.* 1. Паведаміць. *Прасіла, кап наказалі сыну, кап прыехаў.* Валынцы В.-Дзв. *Праз Жука наказала.* Жылі Іўеў. *Кім-небуць накажы мне.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Загадаць. *Прыедзь, накажы, каб хлеб прывязлі.* Саланое Віл. *Накажы маме, хай не пераж*ывае. Валеўка Навагр.

НАКАЗЛАВА'ЦЦА *зак. экспр.* Наванітаваць. *Наказлаваўся ў хаце.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Намалаціць. *Жыта накалоцім.* Старыя Трокі Трак. 2. Натрэсці. *Прышоў накалаціў яблыкаў, папабіраў пашоў.* Гемзы Шальч. 3. Намяшаць (пра кармы). *Накалаціў трушанкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАКАЛБО'ЦІЦЬ *зак.* Намяшаць. *Кварту заціркі, такой калбатухі пан даваў, накалбоціць.* Крэва Смарг.

НА'КАЛЕСКА *ж.* Планка, якая змацоўвае капылы саней. *Накалеска папярэчная, брусок на пяць-шэсць санціметраў, саедзіняет капылы.* Скрудалена Даўг.

НАКАЛІ'ЦЬ *зак.* Моцна напаліць. *Накаліла печ, аж чырвоная.* Беразіно Докш. *Як многа напаліла, кажуць, накаліла печ.* Багушэвічы Бярэз.

НАКАПА'НЫ *дзеепрым.* Насыпаны. *Капец накапаны снегу.* Цяпінцы Віл.

НА'КАПАСЬ *ж.* Напасць. *Нейкая накапась была на мяне.* Ухвала Круп.

НАКА'ПАЦЬ *зак.* Наліць кроплямі. *Бочку трэба паткаціць пат страху, кап вады накапала, нашлося.* Гемзы Шальч.

НАКАПА'ЦЬ *зак.* Накапаць. *Трэба два кашы накапаць бульбы.* Гемзы Шальч.

НАКАРМІ'ЦЬ *зак.* Насыціць. ∇ *Каня ні накорміш, а авечку не напасеш.* Граўжышкі Ашм.

НАКАРЫ'ЦЬ *зак.* Зняць кару. *Каля рэк водзяцца бабры, хітрыя звяры, здзелаюць плаціну, палачак накоруць і робюць хаткі.* Саланое Віл.

НАКАСІ'ЦЦА *зак.* Напрацавацца косячы. *Накасіўся сена ўволь.* Ёдлавічы Брасл.

НАКАСІ'ЦЬ *зак.* Скасіць пэўную колькасць. *Пойдзіць у балота і накосіць.* Саланое Віл. *Сена накасіў.* Мярэцкія Глыб.

НАКАСНІ'ЦЬ *зак.* Адабраць сілы. *Нешчасце накасніло гэтого чалавека.* Ванелевічы Кап.

НАКА'Т *м.* Насціл. *Як ганілі бярвенне, другі накат рабілі на лоўкі.* Вецярэвічы Пух.

НАКАТА'НЫ *дзеепрым.* Зроблены гладкім пры дапамозе катка. *Накатаная дарога, што па маставой хоць каціся.* Лісна В.-Дзв.

НАКАЎЗА'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Старая накаўзае падлогу.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* літ. *kaužóti* 'пакрыцца плесняй'.

НАКАЦІ'ЦЬ *зак.* Скруціць. *Даўней трубак палатна накоціш.* Лоск Валож.

НАКАШАЛІ'ЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць недарэчнага. *Накашаліў, няма што слухаць.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *kašelėti* 'пашкодзіць па глупству'.

НАКАШАМЯ'КАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Сухога накашамякаешся — і ідзеш на работу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАКЕ'РЗАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць абы-як. *Вот нейдалішча: накерзаў, намерзаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Накерзаіць, накерзаіць — такі работнік.* Ракаўскія Швянч. *Накерзаў, накерзаў і паехаў.* Малькуны Ігн. 2. Наблытаць. *Накерзаў нітак.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *гл.* к е́ р з а ц ь.

НАКЕ'ЎЗАЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і н а к а ў з а́ ц ь. *Накеўзала тут поўзаючы.* Кузьмічы Люб. *Вот накеўзала, намазала.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і н а к е́ р з а ц ь 2. *Накеўзаў у нітках, паплёнтаў, налаташыў, нарвоў.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАКІ'Д, НАКІ'Т *м.* Напуск (у адзежы). *Блюска з накідам.* Паляцкішкі Воран.

НАКІ'ДАВАЦЬ *незак.* Накідаць, накладаць на што-н. *Есь каму накідаваць гной.* Кураполле Паст.

НАКІ'ДАЦЬ *зак.* 1. Накласці. *Саша, кашы накідаць?* Малахоўцы Бар. 2. Пасадзіць. *Картопляў накідаў на чыстым полі.* Пасека Ст.-Дар. 3. Скласці. *Прынясуць які ўзор і кажуць: «Калі ты не накідаеш, і мы не накідаем».* Азяраны Раг.

НАКІДА'ЦЬ, НАКІДА'ТІ, НАКІДА'ТЫ *незак.* 1. Тое ж, што і н а к і́ д а в а ц ь. *Пашла накідаць гной.* Вецярэвічы Пух. *Трэбо гной накідаты.* Горск Бяроз. 2 Накідваць. *Я плашч яму накідаю і выпускаю.* Гальшаны Ашм. 3. *ткац.* Уцягваць. *Накідаць трэба ў ніт і бёрдо.* Альхоўцы Лях. *Накідаць ніткі.* Грыкені Вільн. *Трэ кросна снаваць, а посля накідаць у ніт і ў бёрдо.* Дзяніскавічы Ганц. *Накідаюць ніткі ў ніт і бёрда.* Пасека Ст.-Дар. *Накідаюць у берда.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Буду накідаць у нічальніцы і бердо.* Крынкі Крын. 4. *перан.* Дабаўляць. *Як будэтэ накідаті на барыш, то поросята продам.* Курашэва Чыж.

НА'КІДЗЬ *ж.* Насланнё. *Што за накідзь на яе?!* Малі Астр.

НАКІПЯЦІ'ЦЬ *зак.* Заварыць. *Накапаю, накіпячу траву.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Накіпяці гарлянак ад горла.* Пярэкі В.-Дзв.

НАКІ'Т *гл.* НАКІ'Д

НАКЛАДА'ЦЦА *незак.* 1. Уздзявацца. *Колы наклáдуюцца на вось.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Надзявацца (пра вупраж). *Ярмо накладалася.* Жылі Іўеў. *Накладалася ярмо длугае на шыю быку.* Гемзы Шальч. 3. Класці(ся) зверху чаго-н. *Канёк*

*накладаяцца на кройку.* Гальшапы Ашм. *Вязы накладаюцца на капылы.* Чуркі Ашм. 4. Надзявацца (пра адзежу). *Куртачка накладаецца на сукенку.* Стральцы Гродз.

НАКЛАДА'ЦЬ, НАКЛАДА'ТЭ *незак.* 1. Накладваць. *Дроў накладаю ў печ, кап патсохлі.* Лісна В.-Дзв. *У саган трэбо накладаць картофлі.* Мсцібава Ваўк. *Шчоўе ў банкі накладаем.* Вецярэвічы Пух. 2. Надзяваць (адзежу, абутак). *Бурнос з башлыком доўгі, на кажух накладаюць.* Солы Смарг. *Шапачку накладай і ўмыкай!* Малі Астр. *Трэба гаці накладаць.* Паляцкішкі Воран. *Анавіцы накладзі.* Стральцы Гродз. *Гаці накладая.* Старыя Трокі Трак. *Ны накладай комбінзона!* Дзмітравічы Кам. *З лык лапці накладаў.* Мсцібава Ваўк. *Як гразь, то галёшы накладалі. Боты ні хочацца накладаць.* Жылі Іўеў. 3. Надзяваць вупраж. *Накладаюць каню хамут.* Жодзішкі Смарг. *Каню накладаюць аброць.* Вострава Маст. *Накладаць — надзяваць што-н. на каня.* Тухавічы Лях. *Валу ярмо накладаем.* Азяраны Раг. 4. Нашываць. *Сарочкі шылі, абшэўку накладалі паркалёву.* Малахоўцы Бар. 5. Устаўляць. *Навой накладаюць на стацвінні.* Солы Смарг. 6. Прыціскаць. *Каменьмі накладалі.* Вострава Маст.

НАКЛА'ДКА *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе чатырох перакрыжаваных жэрдак, якое кладзецца паверх драбін. *Накладку на цялегу рабілі.* Пасіене Лудз.

НАКЛА'ДНІК *м. устар.* Кіраўнік рыбалавецкай арцелі. *Накладнік хадзіўшы многа, нават біз яго не заложыш.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАКЛА'СЦІ *зак.* 1. Напоўніць чым-н. *Наклаў, як панесці, больш і не возьмеш.* Мсцібава Ваўк. 2. Надзець (адзежу). *Кашулі надзеніць, а хто скажыць накласці кашулю.* Ракаўскія Швянч. *Трэба накласці кашулю чыстую.* Гемзы Шальч. 3. Надзець (вупраж). *Аброць накласці.* Быстрыца Астр. *Накладзі каню аброць!* Жодзішкі Смарг. *Валу ярмо, як хамут накладалі.* Крэва Смарг. *Накладай хамут каню, ды паедзем.* Мсцібава Ваўк. 4. Раскласці агонь. *Накласці агонь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пабеглі ў лес, ды наклалі агню.* Вецярэвічы Пух. *Наклаў цяпло, картоплі напёк.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хлапец наклаў цяпло.* Азяраны Раг. ◇ *Накласці перамотаў* — нарабіць памылак пры тканні. *Глядзі, перамотаў накладзеш.* Малахоўцы Бар. *Накласці, як буслу на гняздо* — накласці абы-як. *Наклаў, як буслу на гняздо.* Мсцібава Ваўк.

НАКЛЕ'СКІ *мн.* Планкі, якія змацоўваюць палазы саней. *Наклескі — планкі, што папарна звязваюць капылы ў санях.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* н а́ к а л е с к а.

НАКЛЁЎВАЦЦА *незак.* Прарастаць. *Наклёўваецца зернета, усходзіць.* Валынцы В.-Дзв.

НАКЛІ'ЧКА *ж.* Клічка. *Наклічка была ў вала.* Рыбчына Віл.

НАКЛО'ПКА *ж.* У выразе: *У наклопку* — паз у паз. *А цяпер у нашай хаце столь у наклопку. Дайней так не рабілі.* Лісна В.-Дзв.

НАКЛЫ'БВАЦЬ *незак.* Накульгваць. *Ідзе і наклыбвае.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* клы́бацьь.

НАКЛЫ'ВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і наклы́бваць. *Наклывая на адну нагу.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАКЛЫ'КАЦЦА, НАКЛЫ'КАЦІСА *зак. экспр.* Нахлябтацца. *Наклыкайса малака.* Кузьмічы Люб. *Наклыкайса, трывалей будзе.* Вялікі Краснік Пруж.; *парайн.* літ. *kliukénti* 'піць з бутэлькі'.

НАКО'Л *м.* 1. Рог хусткі. *Платок завязала на кароткі накол.* Рудня Чэрв. 2. у знач. *прысл. наклы́.* Па вуглах. *Рушнік вышыты наклы, панямношку з аднаго канца і з другога. Абрус вышываяцца зусім не так, як рушнік, а йкрух.* Рудня Чэрв.

НАКО'ЛАВАЦЬ *незак.* Праколваць. *Наколавая іголкай начыненыя кішкі.* Лоск Валож.

НАКО'РАТКА *прысл.* У блізкіх адносінах. *Падружыў накоратка і кінуй, яна на сут падавала.* Груздава Паст.

НАКО'РМЛЕНЫ *дзеепрым.* Накормлены. *Да дзевяці былі накормлены.* Лоск Валож.

НАКОТЛОВА'ТІ *зак.* Наліць. *Воды ціелы колодэсь накотловало.* Курашэва Чыж.

НАКО'ЎЗАЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і накаўза́ць. *Старая накоўзае, памарае падлогу.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Накрэмзаць. *Васіль накоўзаў карандашэм.* Дзяніскавічы Ганц.

НАКРАМЗА'ЦЬ *зак. экспр.* Пакрытыкаваць у друку. *Я не пашла кусты церабіць, і накрамзалі на газету мяне.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАКРАПА'НЫ *дзеепрым.* Напханы. *Сяннік накрапаны саломай ад жыта.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАКРАПА'ЦЬ I *зак.* 1. Напхаць. *Накрапаіць матрас сенам і спіць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Падплесці. *Перак накрапаіш лапаць.* Саланое Віл.

НАКРАПА'ЦЬ II *зак.* Злавіць выпадкова. *Накрапала баба шчупака.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *užkrapìnti* 'наткнуцца'.

НАКРО'ІНЫ *дзеепрым.* Нарэзаны. *Хлеп накроіны.* Мярэцкія Глыб.

НАКРО'ІЦЬ *зак.* Нарэзаць. *Нада хлеба накроіць.* Мярэцкія Глыб. *Малака закіпяціла, часнаку накраіла, лык, лык — і выпіла.* Старыя Трокі Трак. *Грыжыну налупіць, накроіць, зварыць, натайчэць, туды масла — смашна.* Ракаўскія Швянч.

НАКРО'ПІТІ *зак.* Сабраць у вялікай колькасці (пра ўраджай). *Луоньські руок накропілі трыцэть куоп пшэніці.* Курашэва Чыж.

НАКРО'ПСТАЦЬ *зак.* Назбіраць. *І я накропстала ягат.*

Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *krapštà* 'марудная работа'.

НАКРУГА' *прысл.* 1. Навокал. *Накруга пасоляю апсадзіла.* Вецярэвічы Пух. 2. У аб'езд. *Трэба накруга ехаць, паром не ходзіць.* Дакудава Лід.

НАКРУ'ГЛА *прысл.* Вакол чаго-н. *Накругла хустку завязала.* Новікі Гродз.

НАКРУ'ТКА *ж.* Металічны корак з вінтавой нарэзкай. *Накрутка от пляшкі дэсь згінула.* Курашэва Чыж.

НАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Наматаць, навіць. *На качалку накруцяць і валкам качаяць бялізну.* Солы Смарг. *У варстаце навой дзеравяны, на каторы накруцілі ніткі.* Дзераўное Стаўб. *У баране тры ляскі складаецца, накруціць вітку і гоніць зуб.* Відаўцішкі Вільн. *На калоду нада накруціць.* Навікі Лудз. 2. Надзьмуць. *Гурбы снегу накруця.* Гемзы Шальч.

НАКРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Навіваць. *Накручваем ніткі на навой, то ўстаўляем такія дошчачкі, дзе чыны.* Дзераўное Стаўб.

НАКРУШКА' *прысл.* Вакол. *Накрушка магілку апсадзіла.* Ракаўскія Швянч.

НАКРЫВА'ННЯ *н.* Пакрывала. *Дзяругі пашываюць, кудзелю напіхаюць і накрывання ўстрайваюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАКРЫВА'ЦЦА *незак.* 1. Пакрывацца чым-н. зверху. *Накрываецца кажухом.* Рыбчына Віл. *І накрывацца і апратацца радзюшкай.* Тухавічы Лях. *Гжэсь, накрывайся.* Старыя Трокі Трак. 2. Класціся зверху. *Вечацко накрывалосо на лазьбель.* Кузьмічы Люб.

НАКРЫВА'ЦЬ *незак.* Пакрываць зверху. *Накрывай доскай.* Вецярэвічы Пух.

НАКРЫ'ВОЧКА *ж памянш.* Накрывачка. *Накрывочка на бочку.* Горск Бяроз.

НАКРЫ'ВЫ *мн.* Васковая абалонка, якой пчолы закрываюць соты. *Накрывы на каждая вочка* [сота]. Быстрыца Астр.

НА'КРЫ'Ж, НА'КРЫ'Ш *прысл.* Крыжападобна. *Лён жменькамі на́крыш на плот вешалі.* Быстрыца Астр. *У канцох завяжуць на́крыш саломін па 20.* Саланое Віл. *Дранкі даюць накры́ш, такіе рашоткі робяць, кап вапна задзержавалаcа.* Баброўнікі Гарад.

НАКРЫЖАВА'ЦЬ *зак.* Пакласці што-н. у выглядзе крыжа. *Буслы голья накрыжуюць, зяленіва наносяць.* Бакшты Іўеў.

НАКРЫПА'ЦЬ *зак.* Начыніць. *«Нада рыбы накрыпаць».— «Успееш яшчэ, накрыпаіш».* Кураполле Паст.

НАКРЫ'ПЫВАЦЬ *незак.* Напіхваць. *Норат сенам накрыпывалі, конь з нората сена дастаець.* Кураполле Паст.

НА'КРЫЎКА *ж.* 1. Накрыўка. *Карой пакрывалі калодачны вулей — гэта накрыўка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Крышка, века. *Саган накрывалі накрыўкамі.* Новікі Гродз. *Трэба накрыўку на скрыначку. Барэлка — уродзе кадушачкі для квасу, з накрыўкай.* Дакудава Лід. *Накрыўка гліняная.* Рыбчына Віл. *Дзе накрыўка на банку?* Малахоўцы Бар. *Накрыўка на скравадзіцу.* Азяраны Раг.

НАКРЫ'ЦЦА *зак.* Пакрыцца чым-н. *Я коўдрай накрыюся.* Дзераўное Стаўб. *Нада накрыцца коўдрай.* Мярэцкія Глыб.

НАКРЫЦЦЁ *н.* Навес. *У куткеві пад накрыццём гарбузы мусі вырастут.* Лука Нараўк.

НАКРЫ'ЦЬ *зак.* Пакрыць. *Кажух накрыю на сябе. Накрый кажух, холадно!* Дакудава Лід. *Ён прышоў і накрыў хлеп.* Гемзы Шальч.

НАКРЫЧА'ЦЬ, НАКРЫЧЭ'ЦЬ *зак.* Насварыцца. *Не далі былі сена, дык накрычала на іх.* Альхоўка Навагр. *Ён накрычаў на мяне і паехаў.* Веркалы Пух. *Муш накрычэў на мяне.* Ністанішкі Смарг.

НА'КРЫ'Ш *гл.* НА'КРЫ'Ж

НАКРЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і н а́ к р ы ў к а 2. *Хтось каструлю такую вяліку ўзяў, а накрышка засталася ад ее. Накрышкі былі ў кублах, вяленках.* Баброўнікі Гарад. *Накрышку на дзежку дастань.* Мішневічы Шум.

НАКРЫШЫ'ЦЬ, НАКРЫШЫ'ЦІ *зак.* Нарэзаць. *Дала свіням, накрышыла зелья.* Баброўнікі Гарад. *Накрышыла картофель на куліеш.* Курашэва Чыж.

НАКУ'КСІЦЬ *зак.* Набіць, налупцаваць. *Ён табе накуксіў. Я табе накукшу, і накукшыла.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* к у к с і́ ц ь.

НАКУКУВА'ЦЦА *зак. перан.* Нагаравацца. *За сваё жыццё я ўсюды накукувалася, зажыла гора — і сіратой, і ўдавой. Мала накукувалася за сваім мужыком?!* Малі Астр.

НАКУ'ЛЬГАВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а к л ы́ б в а ц ь. *Накульгавая, нага баліць.* Альхоўка Навагр.

НАКУПЛЯ'ЦЬ *зак.* Купіць (многа). *Яблакаў накупляў.* Плябанцы Ашм.

НАКУРЫ'ЦЬ *зак.* Накурыць. *Бацька накурыў, аш горка.* Паляцкішкі Воран.

НА'КУТ *м.* Покуць. *Накут прыбраны.* Кураполле Паст.

НАКУ'ТВАЦЦА *незак.* Накрывацца. *Накутваемса одзіялам, а колісь радзюжкою.* Хатынічы Ганц.

НАКУ'ХЦІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а к у́ к с і ц ь. *Яна табе накухціла ў плечы.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАКШ, НА'КШАЙ *прысл.* Інакш. *Мы гавaро́м накш.* Паляцкішкі Воран. *Там сусём накшай.* Магуны Паст. *Там накшай, а ў нас не так.* Латыгаль Віл.

НА'КШЫ, НА'ЧШЫ *прым.* Іншы. *Усякая рыба мая віт*

*накшы.* Магуны Паст. *Кожная накшая капліца.* Крэва Смарг. *Усё тут накша.* Гальшаны Ашм. *Лаза бывае чырвона і бела, лісця накша.* Пацаўшчына Дзятл. *Накшага колеру.* Рыбчына Віл. *Узор накшы.* Дакудава Лід. *Накшые е швадры.* Дзяніскавічы Ганц. *Лісткі накшыя: гэта крываўнік, а гэта быліца.* Старыя Трокі Трак. *Я накшых не маю.* Гемзы Шальч. *Мая хустка накша.* Стральцы Шальч. *Накша была маладая.* Номікі Бабіц. *Даўнішні разгавор начшы.* Валеўка Навагр.

НАКЭ'ЎЗАЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а к о́ ў з а ц ь 2. *Так накэўзала ў сшытку, узеў ды доў за такое дзела* Мачаск Бярэз.; *гл.* к е́ ў з а ц ь.

НАКЯРАВА'ЦЬ *зак.* Нацэліць. *Ён накяраваў на стаду і сем* [гусей] *забіў.* Гемзы Шальч.

НАЛАВІ'ЦЬ, НАЛОВА'ТІ *зак.* Налавіць. *Рыбалоў добра налавіў рыбы.* Навасёлкі Свісл. *Мне пашчаслівілася, налавіў много рыбы.* Старое Сяло Зэльв. *В прошлом году наловалі рыбы цэлы мэшок.* Азарычы Пін.

НАЛАДАВА'НЫ *дзеепрым.* Нагружаны. *Ужо машына наладавана, з дзеравам.* Каўняны Гродз.

НАЛАДЖА'ЦЬ *незак.* Наладжваць. *Нада наладжаць цільвізар.* Валыцы В.-Дзв.

НАЛА'ДЗІЦЬ, НАЛА'ДІТІ *зак.* 1. Адрамантаваць. *Наладзіў плух і паставіў пат паветку.* Валынцы В.-Дзв. *Былі заламалі санкі, после наладзіў.* Дзяніскавічы Ганц. *Трэба занесті часы наладіті.* Курашэва Чыж. 2. Прыгатаваць. *Наладзіла свінням, буду даваць.* Валынцы В.-Дзв.

НАЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і н а к л а́ с ц і 1. *Мех налажыў бацвіня.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і н а к л а́ с ц і 2. *Налажы спадніцу.* Крэва Смарг. *Аршчок падраны наложаць на голаву* [снежнай бабе]. Парэчча Гродз. *Ты сам умеіш гаці налажыць.* Паляцкішкі Воран. *Цюпы наложыць на ногі.* Мсцібава Ваўк. *Налажы лапці.* Масілавічы Сл. *Налажыў маладым такую сарочку, то ўцяклі п яны.* Малахоўцы Бар. *Каб гэдакі кафтан налажыў.* Валеўка Навагр. *Налажы жакетку.* Старыя Трокі Трак. 3. Тое ж, што і н а к л а́ с ц і 3. *Стальвагі на плечы наложаць валу. Налажыць хамут каню нада.* Крэва Смарг. *Хамут налажыць.* Грыкені Вільн. *Налажыў хамут каню.* Калясное Міхал. 4. Тое ж, што і н а к л а́ с ц і 4. *Налажыць агонь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Налажыла агню вялікаго.* Кузьмічы Люб. 5. *перан.* Назваць. *Клішай налажылі дочку, зачэм?* Скрыпчына Лудз. ◇ *Налох налажыць* — абняславіць. *Налох налажыла на мяне.* Рыбчына Віл.

НАЛАМА'ЦІСА *зак. экспр.* Прызвычаіцца. *Я была наламаласа по-польску говорыці.* Смаляніца Пруж.

НАЛАМА'ЦЬ *зак.* Нарваць. *Рада, што бацвіня наламала.* Ністанішкі Смарг. ◇ *Наламаць галаву* — засвоіць, навучыц-

ца. *Трудна было, пакуль наламалі галовы.* Ністанішкі Смарг.

НАЛАПА́НЫ *дзеепрым.* Налоўлены. *Налапана рыбы.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* л а́ п а́ ц ь.

НАЛАПА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а л а в і́ ц ь. *Налапалі рыбу. Цалютку сумку налапалі.* Вострава Маст. *Рыбу налапалі.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* л а́ п а́ ц ь.

НАЛА́ТАЦЬ *зак.* Прымацаваць латы. *Прыбіваюць кроквы, патом налаталі, трэба крыць.* Гальшаны Ашм.

НАЛАТАШЫ́ЦЬ *зак. экспр.* Нарваць многа, без разбору. *Наляцеў, налаташыў яблык.* Крэва Смарг. *Убіўся, налаташыў яблык.* Быстрыца Астр. *Струкоў налаташыў цэлую запазуху круга сябе.* Кураполле Паст. *Налаташыў яблыкаў, грушаў у суседа, а яго — за вуха.* Пацаўшчына Дзятл. *Налаташыў яблыкаў.* Дакудава Лід. *Ідзі травы налаташы ў гародзі.* Бакшты Іўеў. *От, і налаташыў яблак!* Галубы Маст. *У палісаднік налезлі і налаташылі цюльпанаў.* Мачаск Бярэз. *Налаташыў яблык, налаташыў гуркоў.* Альхоўцы Лях. *Кажаць: «Вот налаташыў яблык!»* Гемзы Шальч.

НАЛБО́М *прысл.* У выразе: *Налбом напіцца* — *гл.* н а б-г о́ м. *З вядра налбом напіўся.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАЛГА́ЦЬ *зак.* Нахлусіць. *Лгун, налгаў мне.* Чуркі Ашм.

НАЛЕ́ВА *прысл.* З левага боку. *Ён жыве налева.* Грыкені Вільн.

НАЛЕЖА́ТІ *зак.* Набыць пролежні ад доўгага ляжання. *Як была хвора, то піхер'е на боках належала.* Курашэва Чыж.

НАЛЕ́ЖАЦЬ *незак.* Быць уласнасцю каго-н. *Там усё належала Патоцкаму.* Паляцкішкі Воран. *Гэта ўсё да калхоза належыць.* Дзераўное Стаўб.

НАЛЕ́ЗЦІ *зак.* Наляцець. *Мух налезя — ногі аб'ядуць.* Малі Астр.

НАЛЕ́ТА *прысл.* На наступны год. *Налета будзіць сушэй.* Лісна В.-Дзв.

НАЛЕ́ЦЦЕ, НАЛЕ́ЦЕ *н.* Наступны год. *Калі дзеўка аткладаіць к налеццю вяселля, значыць ня думаіць замуж ісці.* Кураполле Паст. *Стары малліннік вылóмую, а маладыя астаюцца к налеццю.* Лапічы Асіп. *Аткладала к налецю.* Кураполле Паст.

НАЛЕ́ЯЦЬ *зак.* Наліць. *Вады ў бутылку налеяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Налея сыроваткі.* Азяраны Раг. *Млечка налея до бутэлечкі.* Стральцы Шальч.

НАЛЁПАЦЬ *зак. экспр.* Накласці. *Сухароў налёпала на стол.* Новіны Нясв.

НАЛЁТНЫ *прым.* Раптоўны і непрацяглы. *Налётны дожч — пройдзя і перастаня.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЛЁТЫ *мн.* Напады (самалётаў). *Мост закрылі, як налёты сталі.* Рагулішкі Даўг.

НАЛІВА'ЙКІ *мн.* Крываныя кілбасы. *Налівайкі робяць с крыві і крупы мяшаюць.* Парэчча Гродз.

НАЛІВА'НКІ *мн.* 1. Тое ж, што і н а л і в а́ й к і. *Крываныя кішкі называюць наліванкі.* Альхоўцы Лях. 2. Кішкі, напоўненыя дранай бульбай. *Наліванкі — дранай бульбай начыненыя кішкі.* Бакшты Іўеў.

НАЛІВА'НЫЯ КІ'ШКІ *мн.* Тое ж, што і н а л і в а́ н к і 2. *Мы наліваныя кішкі пяклі — смачныя. Бульбы натаркуям — і пячом.* Малі Астр.

НАЛІВА'ЦЦА *незак.* Наліваццa (пра збожжавыя). *Жыта добрая, вялікая, ужо перакрасаваўшы, налівaіцца.* Савічы Паст. *Налівaіца перш пятка, тады палавіна, тады поўная зерніта.* Мярэцкія Глыб. *Наліваіцца жыта.* Рыбчына Віл. *Каласы наліваюцца.* Беразіно Докш. *Наліваецца зярно.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рож наліваецца.* Істра Лудз. *Цвіціць жыта, наліваіцца колас.* Пасіене Лудз.

НАЛІВА'ЦЬ, НАЛІВА'ТЭ *незак.* 1. Тое ж, што і н а л і в а́ ц ц а. *Жыта выплывае, расуе, налівая, тагда спее і жнуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Жыта красуе, патом налівае, патом спее.* Відаўцішкі Вільн. *Як перакрасуя жыта, налівая.* Гемзы Шальч. *Жыта расуе, потым налівае.* Грыкені Вільн. *Потом налівае жэто.* Дзмітравічы Кам. *Налівае колас.* Лука Нараўк. 2. Начыняць чым-н. *У кішку ў грубую наліваюць, а кілбасы — у ценкую.* Чуркі Ашм. *Кішкі наліваюць кроўю і пякуць.* Міратычы Карэл. *Кішкі налівалі бульбай і дабаўлялі круп.* Янова Рас. *Пшчолы очкі робяць і наліваюць мёд.* Судэрва Вільн. *Кішкі групшыя бульбай наліваяць.* Новыя Мацалі Варэн. 3. Таўсцець. *Кабыла налівая — ужо вымя цвёрдая.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЛІЗА'ЦЦА *зак.* 1. Палізаць уволю. ∇ *Не паеў, то і не наліжашся.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *экспр.* Напіцца (гарэлкі). *Налізаўся, каб цябе пякотка ўзяла.* Мачаск Бярэз.

НАЛІ'М *м.* Мянтуз. *Налімы былі раньшы.* Шкаўна Лудз.

НАЛІ'ТЫ *дзеепрым.* ◇ *Як наліты* — напоўнены здароўем. *Ён, як наліты.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАЛІ'ЎКА *ж.* Настойка з ягад. *Наліўкі панакручувала.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЛІ'ЦЬ, НАЛІ'Ц, НАЛІ'ЦІ *зак.* Напоўніць што-н. вадкасцю. *Я налію трошачка.* Солы Смарг. *Налле вядзьмак якея вады, і плаці яму грошы.* Вязынка Маладз. *Наліем у бутылку малака і калоцім масла, а так—у бойцы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Малака нальюць.* Парэчча Гродз. *Налю воды і вона налле.* Смаляніца Пруж. ∇ *На Пятра баба хлеба напікла, на Ллю — поўну печ наллю — паспее болей.* Валеўка Навагр.

НА'ЛЛЯ *зб. н.* Гурт. *Наляцела налля дзяцей.* Груздава Паст.

НАЛОВА'ТІ *гл.* НАЛАВІ'ЦЬ

НАЛО'Г, НАЛО'Х *м.* Падатак. *Люстра палажыла, абразы, адзёжу на налох.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* руск. *налог* 'тж'.

НАЛО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Накладзены. *Лошкі дзеравяныя, саломай наложаныя.* Гальшаны Ашм.

НАЛО'ЖВАЦЬ *незак.* Рабіць прычоску. *Андыляцыі наложвалі дочкі.* Парэчча Гродз.

НАЛО'ЖЫВАЦЬ *незак.* Напаўняць. *Іх* [кішкі] *наложывалі мясам.* Індра Красл.

НАЛУПІ'ЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *От смашна, налупішся — і сыт.* Лісна В.-Дзв.

НАЛУПІ'ЦЬ *зак.* 1. Аблупіць. *Грыжыну налупіць, накроіць, зварыць, а потым натаўчэць, туды масла — смашна.* Ракаўскія Швянч. 2. Надраць. *Бяросты налупіў.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Набіць. *Пагаляшыну возмя ды налупя добра.* Малі Астр.

НАЛУШЧЫ'ТІ *зак.* Налушчыць. *За вэчур ціело рэшэто бобу налушчыла.* Курашэва Чыж.

НАЛЫГА'ЦЬ I *зак.* Нахлусіць. *Шмат мы налыгалі вам.* Дакудава Лід. *Я яму налыгала.* Альхоўка Навагр. *Зюнік можа налыгоў.* Валеўка Навагр.

НАЛЫГА'ЦЬ II *зак.* Назбіраць (хутка). *Аўтобуснік налыгая вядзёр ягад і паедзя.* Вецярэвічы Пух.

НАЛЫ'ГАЧ *м.* Рэмень для папарнага звязвання валоў пры аранні. *Налыгач — рэмень, што валоў звязваець.* Беразіно Докш.

НАЛЭ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Наліпнуць. *Снегу на кандалы налэпаяцца, ідзеш і куляісся.* Магуны Паст.

НАЛЯ'ТАЦЬ *зак.* Пабегаць. *Я табе налятаю!* Альхоўцы Лях.

НАЛЯТА'ЦЬ *незак.* 1. Прылятаць у вялікай колькасці. *Налятаюць мухі.* Альхоўка Навагр. 2. Прычапляцца. *Аднаму такая балезь налятае, другому — другая.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Прыходзіць на памяць. *Як не трэба, дык усягда гэтых смешных слоў налятае.* Солы Смарг.

НАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак. перан.* 1. Раптам узнікнуць. *Вот апарыла руку, аш байдыр наляцеў.* Кіралі Шчуч. 2. Напасці. *Наляцелі немцы, апкружылі, пасадзілі ў машыну.* Гальшаны Ашм.

НАМАГА'ЦЬ *незак.* Аддаваць перавагу ў ядзе. *У дзерэўнях намагаюць на сваё: картошку едзяць.* Мішневічы Шум.

НАМАЗАЛІ'ЦЬ *зак.* Нацерці мазолі. *Намазаліла ногі.* Старыя Смільгіні Воран. *Намазаліла нагу.* Ракаўскія Швянч. *Я паляц намазаліла.* Малі Астр.

НАМА'ЗАЦЬ, НАМА'ЗАЦ *зак.* 1. Памазаць зверху чым-н. *Намазай хлеп маслам.* Граўжышкі Ашм. *Жырам намазаяш хлеба, матка намазая.* Гемзы Шальч. 2. Нафарбаваць. *Вочы намажуц вэнглем.* Парэчча Гродз.

НАМА'ЛО *прысл.* На кароткі час. *Намало сцелюць лён, ён вылежваецца.* Мсцібава Ваўк.

НАМАНУ'ЦЦА *зак.* Надумацца. *Ён наманиўся на раскляшонкі — і нося.* Малі Астр.; *парайн.* літ. *manýtis* 'надумаць'.

НА'МАРАЖНЯ *ж.*, НА'МАРАЖНІ, НА'МАРЖНІ *мн.* Намарзень. *Намаражні скрапляюць усе капылы. Адна намаражня.* Кураполле Паст. *На капылы накладаліся намаражні з аднаго і з другога боку.* Альхоўка Навагр. *На капылы ў санях нацягваюцца вязы, потым намаражні, збоку.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Намаражні — на капылы.* Беняконі Воран. *Намаражні набіваюцца на капылы.* Глівін Барыс. *На капылох набіваюць намаражні.* Дзяніскавічы Ганц. *Намаражні на капылы. Адна — намаражня.* Судэрва Вільн., Чычалі Швянч., Навікі Лудз. *Намаражні ложацца поперак саней* [для розвальней]. Скрудалена Даўг. *Намаржні ў санях.* Рудня Чэрв.

НА'МАРАЗЕНЬ *м.*, НА'МАРЗНЯ *ж.*, НА'МАРАЗНІ, НА'МАРЗНІ, НА'МЯРЗНІ *мн.* Тое ж, што і на́маражня. *Намаразні на капылы.* Чуркі Ашм. *На капылы накладаецца вяз, а тады — намаразень.* Пацаўшчына Дзятл. *Намарзня на капылы накладаецца.* Гемзы Шальч. *Намаразні на капылы, адна — намарзня.* Рыбчына Віл. *Намаразні — збоку бланкі.* Жодзішкі Смарг. *Намаразні накладаюцца на капылы.* Быстрыца Астр. *У санях намарзні: у палазы стоячкі ўсадзіш і закрапляіш капылы і вязы.* Асавец Віл. *Намарзні ці намярзні, кап сані шырэй былі.* Масілавічы Сл.

НАМА'РШЧАНЫ *прым.* 1. Маршчыністы. *Намаршчаны твар.* Крэва Смарг. 2. Памяты. *Намаршчаную спадніцу надзела.* Быстрыца Астр.

НАМАТА'НЫ *дзеепрым.* Навіты. *Верацяно нітак наматана.* Магуны Паст. *Клубок вялікі нітак наматаны.* Едлавічы Брасл. *Наматана вяроўка, шпагат.* Гемзы Шальч.

НАМАТА'ЦЬ *зак.* Наткаць [павуціння]. *Павукі наматаюць павуціны.* Рагулішкі Даўг.

НА'МАТКА *ж. абрад.* Намітка (галаўны ўбор замужніх жанчын). *Кужэлнэ полотно на наматкі бралі.* Хатынічы Ганц.

НАМАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Падгаворваць. *Ідзі ты, намаўляй!* Паляцкішкі Воран. *Могуць намаўляць красці.* Новікі Гродз.

НАМАХА'ТІСЕ *зак. экспр.* Нарабіцца. *За дэнь косіеня так намахавсе, што чуть додому прышов.* Курашэва Чыж.

НАМЕ'ЛЕТЫ *дзеепрым.* Змолаты. *Мяшок мукі намелетай прывёс.* Паляцкішкі Воран.

НАМЕ'РЗАЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць абы-як. *Цальнікам астаецца* [поле], *накерзаў, намерзаў.* Старыя Смільгіні Воран.

НАМЕ'РЫЦЦА *зак.* Вырашыць. *Ён нічога мне ні гаварыў, і я намерылася іці за другого.* Машэвічы Карэл.

НАМЕ'СТ *прыназ.* Замест. *Картошкі сварыш намест дражжэй — і ў дзежку хлебную, закісаець так.* Скрыпчына Лудз.

НАМЕ′СЦІ, НАМЯСЦІ′ *зак.* Нанесці ветрам. *Намяло гурбы.* Солы Смарг. *Бальшыя гурбы намяло.* Жылі Іўеў. *Намяло поўны складзік снегу.* Малі Астр.

НА′МЕ′ТКА *ж.* 1. Доўгі, вузкі кусок тонкага палатна, звычайна з каймой ці вышыўкай. *На́метка — тонкае палатно. У мяне вісіць дзве на́меткі: і на абразы на́меткі вешалі.* Кузьмічы Люб. *Наме́ткі е з тонкага палатна.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і н а́ м а т к а. *У на́мяццы баба, але як яна завівала, тыя кончыкі вісілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Як умрэ баба, то наме́тку клалі.* Альхоўцы Лях.

НАМЁТ *м.* 1. Тое ж, што і н а́ м е́ т к а 1. 1. *Намёты ткалі — такія рушнікі, як памрэ, то труну абіваюць намётамі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і н а́ м а т к а. *Намёт завязавалі замужнія жанчыны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Намёты ткалі. Бабы намёты закручвалі.* Вецярэвічы Пух. *Бувала, завівалі малодую намётамі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

НАМЁТКА *ж.* Тое ж, што і н а́ м а т к а. *Завяжуць намётку, пазатыкаюць рожкі.* Кукарава Бярэз.

НАМІТРЭ′НЖЫЦЦА *зак.* Натаміцца. *Намітрэнжыўся дзісь і мала спаў.* Гемзы Шальч.; *гл.* м і т р э́ н ґ а.

НАМІ′ТУЗ, НАМІ′ТУСЬ *прысл.* Легчы галовамі ў супрацьлеглыя бакі, «валетам». *Намітуз ліжалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ляглі намітусь.* Мярэцкія Глыб.

НАМІТУСЬКІ′ *прысл.* Адна насупраць другой. *Снулька была, хадзілі па хаця, намітуські ніткі былі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАМО′ВІЦЦА *зак.* Згаварыцца. *Намовіліся і забілі яго, у іх саглась была.* Альхоўцы Лях.

НАМО′ВІЦЬ, НАМО′ВЫТЫ *зак.* 1. Наняць на работу за пэўную аплату. *Намовіў касіць.* Быстрыца Астр. 2. Падгаварыць. *Мусіць, яна цябе намовіла.* Паляцкішкі Воран. *Намовіў яе.* Вострава Маст. *Намовіў яе, кап дзевачку здала ў прыют.* Гемзы Шальч. *Намовыв його, шоб на Кубань іхаты.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *namówić* ’падгаварыць’.

НАМОГТІ′ *зак.* Натрудзіць. *Ціелы дэнь жала серпом і ліевую руку намогла, тэпэр так боліт, што нэ дам рады выпростіті.* Курашэва Чыж.

НАМО′КРА *прысл.* Разбаўляючы вадой. *Талакно рабілі насуха і намокра. Намокра — талакно разводзілі вадой.* Магуны Паст.

НАМО′ТАВАЦЬ *незак.* Навіваць. *Намотуя ніткі на шпульку, буду намотаваць.* Малі Астр.

НАМО′ЎЛІВАЦЬ *незак.* Падгаворваць. *Людзі намоўлівалі яго, кап кінуў жонку.* Вецярэвічы Пух.

НАМРУ′ЖЫЦЦА *зак.* Нахмурыцца. *Віця бах — намружыўсё.* Валеўка Навагр.; *парайн.* польск. *mrużyć* ’жмурыць’.

НАМУ′ЛІЦЬ, НАМУ′ЛЯЦЬ, НАМУ′ЛЯТЭ, НАМУ′ЛЯТЫ

*зак.* Намуляць. *Намуліў нагу.* Быстрыца Астр. *Конь карак намуліў, няможа цягнуць.* Саланое Віл. *Намуліў спіну.* Жылі Іўеў. *Намуліла мазоль.* Азяраны Раг. *Намулів ногу.* Дзмітравічы Кам. *Намуліла мазоль.* Каўняны Гродз. *Намуляла нагу.* Старыя Трокі Трак. *Намулятэ ногу.* Радастаў Драг. *Намуляты ногу.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. *Як хамут неспраўны, то замуля, і намуляў каню плячо.* Гемзы Шальч.

НАМУ'ЛЯ *ж.* Намул. *Намуля — у каня месца сцёртое.* Ухвала Круп.

НАМУ'СІЦЦА *зак.* Прымусіць. *Намусіліся яе аддаць замуш.* Жылі Іўеў.

НАМУ'СІЦЬ *зак.* Прымусіць. *Намусілі бацькі выйсці за яго. Намусіла яна — і разводзіліся. Я намусіла — і накарміла.* Гемзы Шальч.

НАМУЦІ'ЦІ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Намуціла вам цэлу страніцу.* Смаляніца Пруж.

НАМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Нацярпецца. *Я намучылася, чуць прышла.* Гальшаны Ашм. ▽ *Як намучыцца, то і навучыцца.* Солы Смарг.

НАМЫ'ДЛІЦЬ *зак.* Намыліць. *Намыдліў галаву мылам.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *namydlić* 'тж'.

НАМЫ'ЗНІК *м.* Наморднік. *Намызнік робяць цяляці, калючы, кап карова не дапускала да сябе цяля.* Старыя Смільгіні Воран.

НАМЫ'РЗНІК *м.* Вуздэчка. *Надзяюць каню намырзнік.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАМЫ'ЦЬ *зак.* Памыць нейкую колькасць. *Трэбо намыць свіням картофаль.* Міратычы Карэл.

НАМЭ'ТРЫКІ *мн.* Тое ж, што і н а б а́ д р ы. *Намэтрыкі да хамута — церас спінку назад аш пад хвост накладаецца.* Пацаўшчына Дзятл.

НА'МЯРЗНІ *гл.* НА'МАРАЗЕНЬ

НАМЯСІ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Набіць. *Дагнаў Ванячка-дурачок братоў, намясіў іх і паехаў.* Дзесятнікі Валож.

НАМЯСЦІ' *гл.* НАМЕ'СЦІ

НАМЯТА'НКА *ж.* Тое ж, што і н а́ м а т к а. *Па намятанцы сваю матачку пазнаю.* Жыдзевічы Іўеў.

НАМЯ'ЦЬ, НАМ'Я'ЦЬ *зак.* Нацерці. *Нам'ялі канапель.* Дзяніскавічы Ганц. *Намні маку.* Вецярэвічы Пух. *Намнуць семяня і наробяць смятаны.* Пасека Ст.-Дар.

НАМЯША'ЦЬ *зак.* Прыгатаваць. *Трэба гусям намяшаць.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАМЯШКАВА'ЦЬ *зак.* Насыпаць у мех. *Намяшкавалі столькі мяхоў пшаніцы!* Сычэва Нясв.

НА'НАЧ *прысл.* На начлег. *Я па цябе прыду нанач.* Ракаўскія Швянч. *Паехаў нанач.* Пасека Ст.-Дар.

НАНДЗЯ′Ж *м.* Бядняк. *Ціпер у найгоршага нандзяжа вош не найдзеш.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *nędzarz* 'тж'.

НАНЕ′СЦІ, НАНЯСЦІ′ *зак.* 1. Нанасіць у вялікай колькасці. *Яшчэ нанясём вам гразі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вады нанясла.* Магуны Паст. *Вады нанясу.* Гальшаны Ашм. *Нанесла флякаў і есць.* Чуркі Ашм. *Бобр нанясе карэняў, што вазом не павязеш.* Швэды Вільн. 2. Зрабіць што-н., нанасіўшы чаго-н. у вялікай колькасці. *Чмелі наносяць гняздо.* Гемзы Шальч.

НАНІ′З, НАНІ′С *прысл.* На ніжні паверх. *Да сасеткі адвяла наніс.* Гальшаны Ашм.

НАНІ′ЗАВАЦЬ, НАНІ′ЗВАЦЬ *незак.* Нанізваць. *Табаку нанізуям, у папушкі ўвязаям.* Быстрыца Астр. *На драцінку нанізваям кляновы ліст, і цэлу зіму вісіць.* Крэва Смарг.

НАНІЗА′ЦЬ *зак.* 1. Насадзіць на што-н. пратыкаючы. *Наніжуць рыбу на шнюрок ці провалаку.* Мсцібава Ваўк. *Грыбы нанізаць на пруточак.* Дзяніскавічы Ганц. *Рыбу наніжа на кіёчка.* Баброўнікі Гарад. 2. *перан. экспр.* Напоўніць. *Бульбай наніжам жывот.* Бакшты Іўеў.

НАНІ′ЗЕНЬКА *прысл.* Нізенька. *«Можа высока посцілка? Дастаць трудна?» — «Не, нанізенька».* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАНІЗУ′ *прысл.* Унізе. *Нанізу паслана саломы.* Гемзы Шальч. *Стаялі нанізу.* Груздава Паст.

НАНІМА′ЦЬ *незак.* Наймаць. *Пан нанімаў людзей. Багатыя людзі нанімалі.* Збляны Лід.; *парайн.* руск. *нанимать* 'тж'.

НАНО′ВА *прысл.* Нанава. *Давай нанова будавацца.* Альхоўка Навагр. *Мне нада нанова перакладываць.* Гемзы Шальч.

НАНО′С *м.* Тое, што нанесена вадой. *Нанос: там рэчкі сходзіліся і нанясло зямлі.* Кураполле Паст.

НАНУ′ЖАЦЬ *зак.* Прымусіць. *Нанужаў міне паехаць.* Валынцы В.-Дзв.

НАНЯСЦІ′ *гл.* НАНЕ′СЦІ

НАНЯ′ТЫ *дзеепрым.* Узяты на работу на пэўных умовах. *Хто наняты, той называецца чаляднік.* Лісна В.-Дзв. *Пастух наняты.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *А ці яго ўбіта, ці яго нанято, што яго не відаць ні ў будзень, ні ў свята?* Каўняны Гродз.

НАНЯ′ЦЦА *зак.* Пайсці на работу на пэўных умовах. *Што ты, Алена, гусі нанялася пасвіць?* Вецярэвічы Пух. ▽ *Наняўся — як прадаўся, стой, як кат.* Кураполле Паст.

НАНЯ′ЦЬ *зак.* Узяць на работу на пэўных умовах. *Траіх іх наняла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Наймуць машыну і забяруць усё.* Груздава Паст. *Была наняла іх.* Лоск Валож. *Ноймяш касцоў.* Альхоўка Навагр.

НАО′РВАЦЬ *незак.* Наворваць. *Наорваяш бульбы?* Быстрыца Астр.

НАПАБІ'РАЦЬ *зак.* Склікаць. *Напабіраям дванасце бабаў і трымо лён.* Дакудава Лід.

НАПА'ДАК *м.* Прыступ. *Напаткі сэрца прашлі.* Крэва Смарг.

НАПА'ДАЦЬ *зак.* 1. Нападаць. *Нападала трэсак.* Азяраны Раг. 2. Выпасці (пра атмасферныя ападкі). *Столькі снегу нападало.* Стральцы Гродз. *З дому выходзілі, снех нападаў.* Вецярэвічы Пух.

НАПАДА'ЦЬ *незак.* 1. Нападаць. *Не чуваць, кап лось на чалавека нападаў.* Рагулішкі Даўг. 2. Выпадаць (пра атмасферныя ападкі). *Раса ўжо нападая, раса рана — касіць добра.* Альхоўка Навагр.

НАПАДО'БІЯ *прыназ.* Накшталт. *Нападобія лісіцаў расце грып.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *наподобие* 'тж'.

НАПАЗА'ЎТРА *прысл.* Паслязаўтра. *Майго німа. Прасед-зіла назаўтра, напазаўтра.* Гальшаны Ашм.

НАПАЗДЭ'РЫТІ *зак.* Пабіць. *Як нэ будэш слухаті, то напаздэру.* Курашэва Чыж.

НАПАІ'ЦЬ *зак.* Напаіць. *Яна тады напаіла яе лякарствай.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАПАКАВА'ЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Напакуецца індзюк, як бугай, і крыла апусціўшы ходзіць.* Мсцібава Ваўк.

НАПАКАВА'ЦЬ *зак.* Напоўніць. *Міхаль карзіну напакавоў ды нёс.* Вецярэвічы Пух.

НАПАКУ'ТАВАЦЦА *зак.* Нацярпецца пакут. *Чацвёра дзеці вырасціла, напакутавалася вайной.* Ністанішкі Смарг.

НАПАЛА'М *прысл.* На дзве роўныя часткі. *Падзялілі напалам.* Кухты Віл.

НАПА'ЛІВАЦЬ *незак.* Расходаваць у нейкай колькасці (пра электрычнасць). *Заплачу, што мы напалівалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАПАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Нагрэць (пра печ). *Трэба напаліць печ, кап духу хваціла, лён высах.* Збляны Лід. *Я печ напаліла.* Грыкені Вільн. 2. Падняць тэмпературу ў памяшканні. *Як слонца, то напаліць кварціру.* Навасёлкі Лід. *Напаліў лазню.* Гемзы Шальч.

НАПАЛО'ВУ *прысл.* Тое ж, што і н а п а л а́ м. *Вялікія картофлі краіла напалову.* Старыя Трокі Трак.

НАПАМІНА'ЦЬ *незак.* Прымушаць успомніць. *Ніхто не напамінаіць яму.* Груздава Паст.

НАПАМПАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Напаіць. *Напампавалі гарэлкі, ён і п'яны.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАПАМЯНУ'ЦЬ *зак.* Напомніць. *Напамяніцё мне, кап малако паставіла.* Альхоўка Навагр.

НАПАНАВА'ЦЬ *зак.* Апанаваць. *Напанаваў сверб — свербіць.* Гемзы Шальч.

НАПАРО'ЦЬ *зак. экспр.* Адшукаць. *Яец напароў.* Магуны Паст.

НАПА'РСТАК, НАПЭ'РСТОК *м.* 1. Напарстак. *Напарстак на паляц надзяваюць, кап не пракалоцьь, напарсткам шыюць.* Ёдлавічы Брасл. *Напарстак купіла.* Паляцкішкі Воран. *Напарстак надзень, а то пальцы сколеш.* Пацаўшчына Дзятл. *Напарстак надзела, і пальцы не баляць.* Беразіно Докш. *Напарстак надзень на палец.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Альба Нясв., Грыкені Вільн. *Прыбрала напэрстка.* Дзмітравічы Кам. *Напэрстка згубіла.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Малая колькасць чаго-н. *Карова оно напэрсток молока дае.* Курашэва Чыж.

НАПАРТУ'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Няякасна прыгатаваць. *Напартуліла, што і есць няможна.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *partolić* 'рабіць абы-як, рабіць брак'.

НАПА'РЫЦЬ, НАПА'РЫТІ *зак.* 1. Прыгатаваць параннем. *Напарылі асакі і прылажылі да горла, стала ляхчэй.* Рагулішкі Даўг. 2. Накіпяціць. *Напарыла каструлю молока, то не так хутко скісне.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Моцна пабіць. *Стэпан Дэм'яна так напарыв, што аж в больніцу забралі.* Курашэва Чыж.

НАПАСКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Набрудзіць. *Напаскудзіў, набрасаў усяго.* Альхоўцы Лях.

НАПА'СЦІ *зак.* 1. Зрабіць напад на каго-н., што-н. *Напоў на яго.* Міратычы Карэл. *Стада ваўкоў напалі на яго.* Малі Астр. *Той енота на яе напаў.* Валеўка Навагр. 2. Неўзлюбіць. *Як на каго людзі нападуць — то бяда.* Паляцкішкі Воран. 3. Прагна накінуцца на яду. *Куры нападуць і выбяруць да днаго зярна.* Азяраны Раг. 4. З'явіцца. *Кап толькі на вас ні напала такая жысь.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *На бляху нападзе ржа, яе ў печку напаліць нада, ржа атстае.* Старыя Трокі Трак. 5. Асесці на што-н. (пра туман). *Як туман нападзе, бульба пачарнея. Туман напаў, бульба пачарнела.* Бакшты Іўеў. 6. *перан.* Раптоўна ахапіць (пра стан чалавека). *Драмоты напалі, хачу спаць.* Кузьмічы Люб. 7. *перан.* Натрапіць. *Во дзе напалі на ягады, хадзілі зраняя, а с паўдня напалі.* Кураполле Паст. *Напалі на маліны.* Валынцы В.-Дзв. *Напаў на грыбы, так на месцы набраў.* Ракаўскія Швянч.

НАПАСЦІ'СЯ *зак.* Напасвіцца. ∇ *Як у грамніцы пятух нап'ецца, то на Юр'я конік напасецца.* Вузла Мядз.

НАПАТКА'ЦЬ *зак.* 1. Сустрэць. *Напаткала трох моладзеў, трох моладзеў — рыбаловаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Напаткаў ён разбойнікаў.* Талейкі Швянч. 2. Натрапіць. *Пашоў у лес — і напаткаў гняздо с парасятамі.* Малі Астр. *Напаткала грыбоў цэлу кучу.* Галоўні Воран. 3. Спасцігнуць. *Якоя гора напаткаіць.* Груздава Паст.

НАПАТЫКНУ′ЦЬ *зак.* Знайсці. *Мала дзе напатыкнеш добрых ягад.* Старыя Смільгіні Воран.

НАПАЎЗКО′М *прысл.* Паўзком. *Воўк напаўзком падкраўся і схапіў барана, карова за ім і рагамі яму ў хлябы, у хлябы — і 'дабрала.* Кіралі Шчуч.

НАПА′ЧАСАВАЦЬ *зак.* Аддзяліць пачаскі. *Я сягодня напачасавала кужалю тры фунты.* Навікі Лудз.

НАПАШЭ′ЎКУ *прысл.* Блізка, пад рукамі. *Можа, у цябе што-небудзь напашэўку ляжыць? Як нада мне любая рэч!* Кузьмічы Люб.

НАПЕ′КВАЦІСА *незак.* Награвацца. *К сонцу вельмі напекваецца.* Вялікі Краснік Пруж.

НАПЕРАГО′НКІ *прысл.* Навыперадкі. *Бягуць наперагонкі.* Малькуны Ігн.

НАПЕ′РАДЗЕ *прыназ.* Спераду. [У плыце] *жэрдка наперадзе і з тылу. Звошчык наперадзе сядзіць.* Грыкені Вільн. *Кшэсло* [у возе], *што наперадзе.* Судэрва Вільн.

НАПЕРАЙМЫ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п ѐ р а г о́ н к і. *Напераймы по поцяробу побеглі.* Хатынічы Ганц.

НАПЕ′РАД, НАПЕ′РАТ, НАПЕРО′Т *прысл.* 1. Перад сабой. *Наперат мяту.* Гальшаны Ашм. 2. Уперад. *Наперот ідзі, не аставайса.* Крынкі Крын. 3. Загадзя. *Наперат заплаціла.* Гальшаны Ашм. 4. Спачатку. *Наперат пакахаліся, потым бяруць шлюбы. Сады наперат распускаюцца, а потым цвіцяць.* Барок Стаўб.

НАПЕ′РТАЦЬ *зак. экспр.* Нарабіць. *Што ты там напертала?* Старыя Смільгіні Воран.

НАПЕ′РЦІ *зак. экспр.* Нанесці (пра пыл). *Усю вёску запыліць, як напрэ пылу праз вокна.* Альхоўка Навагр.

НАПЕ′РЦІСЯ, НАПЕ′РЦІСА *зак.* 1. Напружыцца. *Грудзі напруцца, укручую цёплым платком.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *груб.* Нажэрціся. *Напёрсо, як конь.* Номікі Бабіц.

НАПЕ′РШО *прысл.* Перш-наперш. *Ён нашой напершо ў горат.* Альхоўцы Лях.

НАПЕХАТУ′, НАПІХАТУ′ *прысл.* Пехатой. *Напехату хадзілі.* Лісна В.-Дзв. *Напехату не дойдзя.* Жылі Іўеў. *Пашла напіхату аш у Кучкі.* Рыбчына Віл. *Не хацела чакаць аўтобуса, ішла напіхату.* Гемзы Шальч.

НАПЕ′ША, НАПЕ′ШАЮ, НАПЕ′ШО, НАПЕ′ШУ *прысл.* Тое ж, што і н а п е х а т у́. *Пашоў напеша.* Альхоўцы Лях. *Збіраецца іці напеша. Назат* [з горада] *напешу хадзілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Напешаю хадзілі да Гродна.* Новікі Гродз. *Прышла — напешо, набывае нага.* Мсцібава Ваўк. *Пашоў напешо.* Навасёлкі Свісл. *А калісь па пуду хлеба насілі, напешу хадзілі.* Вострава Маст. *Хацела ісці напешу.* Альхоўка Навагр. *Напешу туды дваццаць шэсць кілометраў.* Валеўка Навагр. *Напешу хадзіў у Карэлічы.* Міратычы Карэл.

НАПЕШАКА′ *прысл.* Тое ж, што і напехату́. *Напешака пашоў у Карэлічы.* Міратычы Карэл.

НАПІЛАВА′ЦЬ *зак.* Нарэзаць пілой у нейкай колькасці. *Напілаваў дроў.* Лоск Валож.; *парайн.* польск. *pariłować* 'тж'.

НАПІ′ЛЬНІК *м.* Напільнік. *Плоскі напільнік, усе бакі насечаны, паўкруглы напільнік, трохкантовы напільнік. Нож падгастрыць напільнікам можна.* Гемзы Шальч.

НАПІРА′ТІСЕ *незак.* Настойваць. *Вуон нэ даруе, будэ пры сваюём напіратісе.* Курашэва Чыж.

НАПІРА′ЦЬ *незак. экспр.* Настойваць. *Бацькі напіралі, а ён не хацеў жаніцца.* Старыя Смільгіні Воран.

НАПІРТІ′ *зак.* Наваліцца. *Як біда напрэ, то будэш робіті.* Курашэва Чыж.

НАПІ′РЫЦЦА *зак.* Уперціся. *Напірыцца і есь ні дась.* Валынцы В.-Дзв.

НАПІТА′ЦЦА *зак.* Надыхацца свежым паветрам. *Тоя ж ня елі, што на свадзьбі, хоць воздуху напітаісся.* Буды В.-Дзв.; *парайн.* руск. *напитаться* 'набрацца'.

НАПІ′ХАНЫ *дзеепрым.* ◊ *Галава мохам напіхана* — пра неразумнага чалавека. *У яго галава мохам напіхана, ні гэтым, а сівым.* Лісна В.-Дзв.

НАПІХАТУ′ *гл.* НАПЕХАТУ′

НАПІХА′ЦЬ *зак.* Напхаць. *У валлё куры напіхаюць усяго: бульбу, жыта.* Солы Смарг. *Мяса ў трыбух напіхаяць.* Малі Астр. *Сянік саломай напіхаў.* Навасёлкі Лід.

НАПІ′ЦЦА *зак.* 1. Наталіць смагу. *Напіўся нагібам з вядра.* Рыбчына Віл. *Пайду вады нап'юся.* Альхоўка Навагр. 2. *перан.* Увабраць у сябе (пра посуд). *Паліваны збан ні нап'ецца, а гэты напіваецца.* Граўжышкі Ашм. 3. Упіцца. *Нашто напіўсё?* Валеўка Навагр. *Як нап'юса, то моцно сміюса.* Кнышэвічы Бабіц. ∇ *Не плюй у ваду, бо сам нап'ессся.* Малі Астр. *Не плюй у карыцца, бо прыдзецца напіцца.* Вузла Мядз.

НАПІ′ЦЬ *зак.* Выпіць нейкую колькасць. *Ні хоча маладая замуж ісці, тады грошы аддаюць, скольки напілі.* Чуркі Ашм.

НАПЛАДЗІ′ЦЦА *зак.* Распладзіцца. *У нас наплaдзілася дзікіх свіней і ваўкоў напладзілася.* Ёдлавічы Брасл.

НАПЛАДЗІ′ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Зарас дзяцей наплодзюць.* Саланое Віл.

НАПЛА′КАЦЦА *зак.* Паплакаць (многа). *Я прасіла іх памахчы — наплакалася, набегалася.* Малі Астр.

НАПЛЕ′СЦІ *зак.* 1. Сплесці. *Трэба наплесці вянкоў адзінаццаць і патпісаць імя.* Гальшаны Ашм. 2. Нанізаць на што-н. *Наплёў рыбы.* Рыбчына Віл.

НАПЛЕ′ЧНІКІ *мн.* Нашыўка на плячах сарочкі. *У кашулі наплечнікі нашывалі.* Старыя Трокі Грак.

НАПЛЁНТАЦЬ *зак.* Наблытаць. *Наплёнтала ніцей.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *naplętać* 'тж'.

НАПЛЫВА'ЦЬ *зак. перан.* З'яўляцца, знаходзіцца. *Самі словы наплываюць.* Груздава Паст.

НАПЛЫ'Ў *м.* 1. Налёт на паверхні чаго-н. *Наплыў на вадзе, паласкаць плоха.* Мішневічы Шум. 2. Аплывіна. *Не выкапаеш студні, так наплыў с-пад гары прэ, не уставіш гісон — плые, гоня жоўценькі пясок.* Гемзы Шальч.

НАПЛЮГАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Нарыхтаваць. *Ты наплюгавала цыбулі!* Малі Астр.

НАПЛЮ'ТАНЫ *дзеепрым.* Зблытаны. *Наплютаныя ніткі.* Жодзішкі Смарг.

НАПЛЮТА'ЦЬ *зак.* Зблытаць. *Наплютаў ніткі.* Магуны Паст.

НАПНУ'ЦЬ *зак.* Накрыць. *Радюшкой напнула.* Азарычы Пін.

НАПО'ЙВАЦЬ, НАПО'ЯВАЦЬ *незак.* Даваць напіцца. *Напойвая іх вадою.* Вялікія Баяры Шчуч. *Напоявая каня.* Лоск Валож.

НАПОМЭНУ'ТІ *зак.* Напомніць. *Добрэ, што ты напомэнула, бо была б зусім забыла.* Курашэва Чыж.

НАПО'ПЕРАЧ *прысл.* Упоперак. *Папярэчнай пілой напоперач рэжуць.* Збляны Лід.

НАПО'СНА *прысл.* Без тлушчу. *Ячґуры ў кацялок наложаць і напосна тушыць.* Рагулішкі Даўг.

НАПО'ЎНІЦУ *прысл.* На поўны рот. *Корова есть напоўніцу: наелас, нагрызлас.* Горск Бяроз.

НАПО'ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Рука напохніць, як жнеш, баба нітку прывязаваіць ад свянцонай вербы.* Вузла Мядз.

НАПОЧА'ТІ *зак.* Пачаць. *Напочні сіеты бохонок хліеба.* Курашэва Чыж.

НАПО'ЯВАЦЬ *гл.* НАПО'ЙВАЦЬ

НАПРАВА'ДЗІЦЬ *зак.* Накіраваць. *Тут і міліцу направадзіў.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *naprowadzić* 'навесці'.

НАПРА'ВІЦЬ I *зак.* Адрамантаваць. *Трэба направіць плух, барану.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *naprawić* 'тж'.

НАПРА'ВІЦЬ II *зак.* Навесці, нацэліць. *Усіх сагналі — старых і малых, урані паставілі і пулямён на нас направілі.* Каўняны Гродз.

НАПРАДА'ЦЦА *незак.* Прасціся ў нейкай колькасці. *Напрадаецца пража.* Латыгаль Віл.

НАПРАДВЕ'СНІ *прысл.* Перад наступленнем вясны. *Напрадвесні сын памёр.* Кіралі Шчуч. *Напрадвесні, калі вада вялікая, пускаюць дзерава па вадзе.* Валеўка Навагр. *Напрадвесні патсвінака забілі.* Альхоўцы Лях. *Напрадвесні стары лось утапіўся.* Вецярэвічы Пух.

НАПРА′ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Спрадзены і навіты на што-н. *Нітка напрадзена на шпулю.* Грыкені Вільн.

НАПРА′ЖЫЦЬ *зак.* Апрацаваць жарам. *Сяменя лляна напражам, у ступя натаўчом і бонды пяклі.* Старыя Трокі Трак.

НАПРАЛЁТ *прысл.* ◊ *Напралёт ведаць* — добра ведаць. *У нас у Мсцібаві напралёт адзін другога ведаюць.* Мсцібава Ваўк. *Напралёт відзіць* — усё заўважаць. *Як увайду ў хату, то віджу ўсё напралёт.* Валеўка Навагр.

НАПРАМІ′К *прысл.* Напрасткі. *Ідзі напрамік!* Гальшаны Ашм. *Ежджай напрамік!* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *напрямик* 'тж'.

НАПРАМІКЕ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Да Баранавіч хадзілі напраміке.* Малахоўцы Бар.

НАПРАМКІ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Напрамкі паеду.* Валынцы В.-Дзв. *Напрамкі вяла мяне ў лес.* Груздава Паст.

НАПРАМУ′Ю *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Што ж дарогай ісці, пашлі напрамую.* Кураполле Паст.

НАПРАНУ′ЦЬ *зак.* Накрыць. *Напрані яе радном.* Стральцы Гродз.

НАПРА′СНА, НАПРА′СНЕ, НАПРА′СНЯ *прысл.* Дарэмна. *Напрасна схадзіў, магазін быў закрыты.* Ёдлавічы Брасл. *Напрасна схадзіў.* Мярэцкія Глыб. *Схадзіла напрасна.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Напрасна схадзіў, ногі збіў.* Жылі Іўеў. *Напрасне схадзіў, нікога дома не застаў.* Беразіно Докш. *Схадзіла напрасня.* Магуны Паст. *Напрасня схадзіла.* Лоск Валож.; *параўн.* руск. *напрасно* 'тж'.

НАПРА′СНІЦА *ж.* Няпраўда. *Яна злажыла на мяне напрасніцу, нагаварыла.* Альхоўцы Лях.

НА′ПРАСТА *прысл.* На просты памол. *Напраста рош молата, ена с коркой, а перачышчаюць, ена атходзіць ат зірна.* Філіпаўцы Красл.

НАПРАСТКІ′, НАПРАСТКЕ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Ісці напрасткі.* Крэва Смарг. *Напрасткі трэба ісці.* Чуркі Ашм. *Напрасткі ідзі, то будзе бліжа.* Галубы Маст. *Пасвіў каровы, напрасткі гнаў.* Паляцкішкі Воран. *Яна напрасткі ідзе.* Валеўка Навагр. *Гляджу, напрасткі ідзе мая ўнучка.* Гемзы Шальч. *Ідзі не па дарозе, напрастке.* Вострава Маст. *Напрастке пашла.* Алекшыцы Бераст. *Напрасткі пайшоў, а Гена апкружуе.* Солы Смарг.

НАПРАСТУ′, НАПРАСТЫ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Напрасту пашлі ў лес. Павяла ў лес напрасты.* Альхоўцы Лях.

НАПРА′СЦЬ, НАПРА′СЦІ, НАПРА′СЬ *зак.* Напрасці. *Трэба напрасць ніткаў многа.* Старыя Трокі Трак. *Прадзеш і напрадзеш шпульку.* Гальшаны Ашм. *Перад вайну за ноч*

*напрасці нада нітак, наткаць палаценцаў...* Валеўка Навагр. *Штобы тонка і тоўста напрась.* Навікі Лудз. ∇ *Напрала: то пень, то калода.* Гемзы Шальч.

НАПРАСЦЯКА′, НАПРАСЦЯ′К, НАПРАСЦЯКЕ′ *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Бліска, як напрасцяка ісці.* Ністанішкі Смарг. *Пяшком напрасцяк пайшоў.* Чычалі Швянч. *Іду напрасцяке лесам, убілася ў гурбу.* Бакшты Іўеў.

НАПРА′ЎДЫ *прысл.* Сапраўды. *Напраўды, ні паверацъ мне.* Альхоўка Навагр.

НАПРО′КІ *мн.* Папрокі. *Напрокі гаварыў.* Ністанішкі Смарг.

НАПРО′СТА *прысл.* Тое ж, што і н а п р а м і к. *Напроста ідзём. Пайду напроста летнікам.* Магуны Паст. *Напроста пашлі.* Старыя Смільгіні Воран. *Напроста ішлі лесам.* Альхоўка Навагр. *Пашлі напроста.* Альхоўцы Лях.

НАПРО′СТУ *прыназ.* з *род.* Насупраць. *Яна жыве там, напросту гэтага дому.* Дакудава Лід.

НАПРО′ЦІ, НАПРО′ЦІЎ, НАПРО′ЦЬ, НАПРЭ′ЦІ, НАПРЭ′ЦІЎ *прысл.* 1. Наперакор. *Нэ могу сказаці чэловікові напроці.* Смаляніца Пруж. *Яму слова напроціў ні гаворы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вот яна выступала напроць.* Крэва Смарг. *Напрэціў гаворыць адзін другому.* Граўжышкі Ашм. 2. у знач. *прыназ.* з *род.* Тое ж, што і н а п р о́ с т у. *Напроціў нас могліцы.* Збляны Лід. *Жыве напроціў магазіна.* Валеўка Навагр. *Напрэці нас.* Быстрыца Астр. *Сеў напрэціў мяне.* Граўжышкі Ашм.

НАПРУ′ДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а б у́ р ы́ ц ь. *Напрудзіць у пасцель.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАПРУ′ТАМ *прысл.* ◊ *Напрутам стацъ* — выпрастацца. *Гадзіна ўдзірая ў нору, напрутам стала гадзіна.* Альхоўцы Лях.

НАПРЭ′КУР *прысл.* Тое ж, што і н а п р о́ ц і 1. *Адзін другому напрэкур і давай піяць частушкі.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *na przekor* ’тж’.

НАПРЭ′НЖЫВАЦЬ *незак.* Напружваць. *Я мушу напрэнжываць. Напрэнжываю ногі, чую кроў з нох пашла ўгару.* Руднікі Шальч.; *параўн.* літ. *įsprę́sti* ’выцягнуць’, польск. *naprzężać* ’тж’.

НАПРЭ′НТКУ *прысл.* Наспех. *Я выскачыла напрэнтку і хустку не завязала.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *naprędce* ’тж’.

НАПРЭ′ЦІ, НАПРЭ′ЦІЎ *гл.* НАПРО′ЦІ

НАПСОВА′ТІ *зак. перан.* Сапсаваць. *Нэрвуов мніе напсовав.* Курашэва Чыж.

НАПУЗЫ′РЫЦЦА *зак. экспр.* Многа з’есці. *Напузырылася я, цяпер магу ня есці да раніцы.* Малахоўцы Бар-

НАПУНДЫ'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і напузы́рыцца. *Напундырыцца гэтай заціркі.* Мярэцкія Глыб.

НАПУ'РГАЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Куры купаюцца,* [курыца] *напургалася, пёры наставіла.* Ёдлавічы Брасл.

НАПУ'РТАЦЬ *зак. экспр.* Намазаць, накласці (многа). *Напуртала ната масла на хлеп.* Жыдзевічы Іўеў.

НАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Напоўніць чым-н. (пра дым, пару і г. д.). *Дыму напусцілі!* Старыя Трокі Трак.

НАПУХЛІ'ЦЬ *зак. экспр.* Збіць. *Напухліць яго.* Мярэцкія Глыб.

НАПУ'ЧЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і напу́ргацца. *Напучыцца і сядзіць як страшыдла.* Сапоцкіна Гродз.

НАПУШЫ'ЦЬ *зак.* Уздуць. *Маю карову напушыла, нешта з'ела.* Вецярэвічы Пух. *Напушыла карову.* Кузьмічы Люб.

НАПЫДМА'ЦВАЦІ *зак.* Выбраць рукамі асобныя бульбіны з-пад карча. *Напыдмацвала новых картоплёў.* Азарычы Пін.

НА'ПЫРСК *м.* Пахучае рэчыва для прыманьвання пчол. *Напырск — прыманка для іску пчол.* Ухвала Круп.

НАПЭРО'Д *прысл.* Спачатку. *Одна кветка мэняе цвет: напэрод серэневым, зноў зэлёным, зноў белым станэ.* Смалявіца Пруж.

НАПЭ'РСТОК *гл.* НАПА'РСТАК

НАПЯРАДЗІ', НАПЯРЭ'ДЗІ, НАПЯРЭ'ДЗЯ *прысл.* 1. Уперадзе. *Сена зработалі, жыта пажалі, лён парвалі, пабілі, картопля напярадзі.* Лешня Кап. *Яшчэ рок напярэдзі.* Мсцібава Ваўк. 2. Спераду. *Ты бачыла, напярэдзі разарваўса кажух.* Стральцы Гродз. 3. Паперадзе. *Трох мушчынаў было напярэдзя.* Старое Сяло Зэльв.

НАПЯ'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і напе́рціся 2. *Гароху паранага напярымся — і толькі ваду пілі.* Вузла Мядз.

НАПЯ'РЫЦЬ *зак.* 1. Наўбіваць. *Напёрыш гваздзей.* Саланое Віл. 2. Пабіць. *Яна яга і напярыць.* Саланое Віл.

НАПЯХО'ТУ *прысл.* Тое ж, што і напехату́. *Некалі ўсё напяхоту хадзілі.* Бакшты Іўеў. *Напяхоту пайду да Ішчална.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАПЯ'ЦЦА *незак.* Напружыцца. *Напяўсё — і выскачыў.* Валеўка Навагр.

НАП'Я'ЦЬ *зак. экспр.* Нацягнуць. *Вот нап'яла на сябе, бы папудзіло.* Дзяніскавічы Ганц.

НАПЯЧЫ' *зак.* Спячы. *Напякла калбасы, сланіны.* Парэчча Гродз. *Напек алаткаў.* Саланое Віл. ∇ *Седзя на печы бох бліноў не напеча, не дась.* Курапалле Паст.

НАРА', НУРА' *ж.* Нара. *Лісічча нара.* Саланое Віл. *Шашок улес у нару.* Міратычы Карэл. *Дно, а пада дном, яшчэ нара.* Беразіно Докш. *Як у ліса адну нару заткнуць, а ён у другую.* Цяпінцы Віл. *У нары жывуць кролікі.* Грыкені Вільн.

*Жывуць барсукі ў норах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мышы расточылі норы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Норы мышы натачылі.* Азяраны Раг. *Тхор пакапаў норы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Война нура, лісся нура. Кролікі точаць нуры. Ужака не кусаецца, ужакі спаць лезуць пад адзіяла, усё ядуць, сядзяць у зямлі, у нурах.* Рыбчына Віл.

НАРА′БА *прысл.* 1. Няроўна, плямамі. *Нараба пакрасіла: пас чорны, пас белы.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* На змешанай мове. *Ён нараба і будзя гаварыць.* Гемзы Шальч.

НАРАБІ′ЦЦА *зак.* 1. Напрацавацца. *Ні ўставай, мама, ты ўжо нарабілася.* Саланое Віл. *Вот я нарабілася сяння, хочацца аддыхнуць.* Саланое Віл. 2. Нагатаваць. *На вечар зварыла буракі, наробімся халадніку.* Ёдлавічы Брасл.

НАРАБІ′ЦЬ *зак.* 1. Зрабіць што-н. у вялікай колькасці. *Лугу нарабіў.* Тухавічы Лях. *Наўзрэхі нарабіў.* Відаўцішкі Вільн. 2. Набудаваць. *Хатаў наробіш.* Ністанішкі Смарг. 3. Апрацаваць. *Лёну пасеялі і поля нарабілі.* Збляны Лід. 4. Назапасіць. *Запас нарабілі.* Жодзішкі Смарг. *Нарабіў сена.* Стральцы Гродз. *Нарабіў сена на карову.* Малахоўцы Бар., Семежава Кап. *Сена нарабіла.* Збляны Лід., Рудня Астравітая Чэрв. *Трэба сена нарабіць.* Альхоўцы Лях. *Пака сена ні наробяць, ні будуць строіць.* Дзяніскавічы Ганц. 5. Натварыць. *Што ты нарабіла!* Гальшаны Ашм. *Што ты нарабіў!* Гемзы Шальч. *Нарабіў порчы.* Номікі Бабіц. 6. Узняць. *Прыехала жанчына дадому, дак як наробіць крыку: «А божа мой, а дзеткі мае!»* Гарэлец Пух. ∇ *Прышла Ілля — нарабіла гнілля.* Вузла Мядз.

НАРАБО′ТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а р а б і ц ц а 1. *Наработаліся людзі даўней.* Руднікі Шальч.; *параўн.* руск. *наработаться* 'тж'.

НАРАВІ′СТЫ *прым.* Упарты. *Наравісты конь такі, што ён задумаець, стаіць, не падгоніш яго.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Наравісты конь.* Быстрыца Астр., Чуркі Ашм., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар., Старыя Трокі Трак., Гемзы Шальч. *Конь наравісты, не даецца.* Саланое Віл. *Наравісты конь, упрамы.* Дакудава Лід. *Конь такі наравісты.* Беразіно Докш. *Наравістая ў яе свякроў.* Дзераўное Стаўб.

НАРАВІ′ЦЦА *незак.* Упарціцца. *Гэты наравіўся над усіх.* Груздава Паст.

НАРАВІ′ЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Цяпер наравіць ёй.* Альхоўцы Лях. *Свякрыві трэба наравіць.* Дзераўное Стаўб.

НАРА′Д, НАРА′Т *м.* Заданне. *Ідзець ён у нарад, добра прыбрайшысь.* Саланое Віл. *На нарат рассылалі людзей.* Гемзы Шальч.

НАРАДЗІ′ЦЦА *зак.* Радзіцца. *Так вы нарадзіліся ў мяне.* Груздава Паст.

НАРА́ДЗІЦЬ *зак.* Параіць. *Бабы нарадзілі ехаць да дохтара.* Крынкі Крынк. *Нарадзілі мне піць альяш.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *naradzić* 'тж'.

НАРАДЗІ́ЦЬ *зак.* Радзіць. *Нарадзіла дзеці.* Груздава Паст.

НАРАДІ́ТІ *зак.* Надзець пасмяротнае адзенне. *Нябошчыка, покуоль я зайшла, то вжэ нараділі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *нарядить* 'прыбраць'.

НАРА́ЗЕ, НАРА́ЗІ, НАРА́ЗЯ *прысл.* 1. Адразу. *Калбасу зробіць і наразі з'есь.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Спачатку. *Я думала наразе, што ён глухі. Наразе атаслалі, а потым зноў забралі.* Малі Астр. *Наразі не шкода, але после шкода і баліць.* Гемзы Шальч. 3. У пэўны момант. *Наразе яны не будуць удома.* Малі Астр. *У нас таксама была вайна, але як скончыласа наразя, то й ціхо.* Цярэшкі Ваўк. 4. У сучасны момант. *«Дошч ідзе?» — «Не, ціпер наразе не ідзе». Наразе зямля мокра, садзіць німожна.* Мсцібава Ваўк. *Наразе няма дажджу.* Гемзы Шальч. *Яшчэ наразі ня беруцца рабіць апірацыю.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Часова. *Вецер наразе меншы стаў.* Мсцібава Ваўк. 6. Раней. *Як вучыўся, наразе не было як гуляць. У нас наразе не было студні.* Солы Смарг. 7. Пакуль што. *Сіетого хліва наразі хватае, послі нового поставлю.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *naraz* 'нечакана, раптам'.

НА́РАЗНА *прысл.* Па-рознаму. *Усюды наразна гавораць.* Рыбчына Віл.

НАРА́ІЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а р а́ д з і ц ь. *Нехта нараіў гэту траву піць.* Лоск Валож. *Нараіў, што там ёсцяка, ідзі, вазьмі.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАРАКА́ЦЬ *незак.* Наракаць. *Тады будзя наракаць.* Альхоўцы Лях. *Я наракаць на вас не буду.* Руднікі Шальч.

НАРА́НІЦЫ, НАРА́НІЦУ *прысл.* Раніцай. *Пайду па пэнсію нараніцы.* Малі Астр. *Нараніцы ляжаў, ня мох устаць.* Сасноўка Смарг. *Кожны дзень нараніцы прыходзіць пасядзець с табой.* Солы Смарг. *Катлет нараніцы зробіш.* Крэва Смарг. *Вятох — нараніцы сярпок, а маладзік — вечарам. Нараніцы гэта нясе малачко.* Гальшаны Ашм. *Нараніцу заўтра салдацік прачхнуўся, умыўся і пашоў снедаць.* Дзесятнікі Валож.

НАРА́НКІ *прысл.* На раннюю пашу да ўсходу сонца. *Наранкі ганілі кароў.* Кузьмічы Люб., Пасека Ст.-Дар. *Наранкі гоняць, яґ удзень — прыгоняць; а ў нас надзень як паганяць, так да вечара.* Лапічы Асіп.

НАРА́НКУ *прысл.* 1. На досвітку. *Устала наранку.* Паляцкішкі Воран. *Наранку ўстанеш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лепш наранку пайсці.* Вострава Маст. *Наранку ўстала і пашла ў грыбы.* Стральцы Шальч. *Наранку ўстаць не магу.* Кудзялянцы Шальч. 2. Тое ж, што і н а р а́ н і ц ы. *Наранку*

*прыехаў.* Збляны Лід. *Бярэ малако і наранку.* Старыя Трокі Трак. *Наранку пойла цялюку даю.* Кудзялянцы Шальч.

НАРА′НТКА *ж.* Спатканне. *Я іду на нарантку.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *randka* 'тж'.

НАРА′НЬКІ *прысл.* Тое ж, што і н а р а́ н і ц ы. *Наранькі раса, як у хлеў ісці, то ўступлюся ў тапкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Сёння прыехаў наранькі.* Валеўка Навагр.

НА′РАСЛЬ *ж.* Нараст. *У каня нарасль на скуры.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. *narosl* 'тж'.

НАРАСПА′ШКУ *прысл.* Наросхрыст. *Ідзець нараспашку, захварэіш!* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НА′РАСТ *гл.* НЕ′РАСТ

НАРА′СТАВАЦЬ *незак.* Вырастаць. *Што-то знясло лес, патом зноў нараставаў лес.* Дзяніскавічы Ганц.

НАРАСТАВА′ЦЬ *гл.* НЕРАСТАВА′ЦЬ

НА′РАСТАВІНА *ж.* Тое ж, што і н а́ р а с л ь. *Нараставіна — нарост на дрэве.* Быстрыца Астр.

НАРАСТА′ЦЬ, НАРО′СТАЦЬ *незак.* 1. Вырастаць у нейкай колькасці. *Будзіць нарастаць і нарастаіць.* Мярэцкія Глыб. *Нарастала трава.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Пака нарастуць гуркі, цяпер дарошшыя.* Альхоўка Навагр. 2. Вырастаць, з'яўляцца. *Нарасць нарастае.* Малахоўцы Бар.

НА′РАСЦЕНЬ *м.* Тое ж, што і н а́ р а с л ь. *У яе нарасцень на наге, так с курыная яйцо, не балела, як рэзалі.* Валынцы В.-Дзв.

НАРАСЦІ′ *зак.* Вырасці. *У асаке дурной, дзікой нарасце пупышка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НА′РАСЦЬ *м.* і *ж.*, НА′РАСЬ *ж.* Тое ж, што і н а́ р а с л ь. *Губка на бярозе — такі нарасць.* Малі Астр. *Нарасць нарасла.* Мярэцкія Глыб. *Усе хваробы выгнала, нарасць вырас.* Саланое Віл. *Нарасць на назе.* Багушэвічы Бярэз. *Нарасць на руцэ.* Лука Нараўк. *Нарасці нарастаюць на капусця.* Гемзы Шальч. *Нарась на целя.* Рыбчына Віл.

НА′РАТ, НАРО′Т, НЕ′РАТ, НЯРО′Т, НО′РАТ *м.* 1. *рыб.* Нерат, верша. *Рыбныя нараты былі з адным жаралом і з двума жараламі.* Істра Лудз. *Нарот, а да яго крылья насаджваюць, за тычку прывязаваюць.* Ліcна В.-Дзв. *Нарот звужваецца і канчаецца малой дзіркай, як у невыляваючай чарнільніцы.* Альхоўцы Лях. *Нарот — з двум жаралом.* Пасіене Лудз. *Нароты па канавах (жарало дзелалі, рыба ўвойдзе — выхаду нет).* Шкаўна Лудз. *Нараты рабіліся з дупцоў лазы: яны звязаны, і на іх нацягнена сетка.* Жодзішкі Смарг. *Норат — сетка, нацягнута на рэбры, тры рабры, адно бальшоя і два меншыя.* Валынцы В.-Дзв. *Нараты, норат з нітак пплялі.* Мярэцкія Глыб. *Рыбы лезуць у нараты. Норат падобны да буча. Вягалка лезіць у нараты, з дупцоў здзеланы адзін но-*

*рат.* Кураполле Паст. *Нараты з двух абручоў і горла. Норат ставяць каля берагу, у горла ўходзіць рыба.* Саланое Віл. *Нерат с абручамі, вока ў нераце, у вока лезя рыба. Нераты лазовыя вязалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нерат з нітак вяжуць, у жарало ўлезя рыба. У нераце два абручы.* Вецярэвічы Пух. *Нерат плялі з лазы, кругом аплятали.* Азяраны Раг. *Нярот — круглянька сетка, рыба туды ўлазіць, а назат ня вылязя.* Малахоўцы Бар. 2. Плеценая з нітак сетка, пяхцер. *Норат плятуць з вяровачак, сенам накрыпавалі, конь з нората сена дастаець і есь.* Валынцы В.-Дзв.

НАРА'Т гл. НАРА'Д

НАРАТО'К *м. памянш.* 1. да на́рат 1. *З крыламі — венцер, без крыл — нараток.* Беразіно Докш. 2. да на́рат 2. *Напіхаваюць нараток сенам, як куды едуць.* Валынцы В.-Дзв.

НАРАЧО'НАЯ *ж.* Нявеста. *Ты яшчэ пайдзеш да войска, начарта тая нарачоная.* Парэчча Гродз.

НАРВАВА'ЦЦА *незак.* Нервавацца. *Бацькі нарвуюцца, што ён з ей гуляіць.* Кураполле Паст. *Нарвуюся, ужо бульбу ўсе пакапаўшы.* Гемзы Шальч.

НАРВАВА'ЦЬ *незак.* Нерваваць. *Не нарвуй мяне.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна мяне нарвуя сваей работай.* Малі Астр.

НАРВА'ЦЦА *зак. экспр.* Нечакана сустрэць каго-н. або што-н. *Нарвецца на бацьку, дасць добро!* Малахоўцы Бар. *Ты на такого нарвайсё, што не ўступіць.* Новіны Нясв. *Нарвуцца на што-небудзь.* Саланое Віл. *Нарвайся на міну, і нагу, праклятая, мне адарвала.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Еслі нарвуцца, купі мне заушніцы.* Валеўка Навагр.

НАРВА'ЦЬ *зак.* 1. Сарваць нейкую колькасць чаго-н. *Трэба травы нарваць.* Саланое Віл. *Трэба мне бадзюкоў нарваць.* Малі Астр. *Нарваць цыбулі.* Грыкені Вільн. *Нарвала ціелы мішок зіеля.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Нагнаць. *Вялікі вецяр дожджу нарвець.* Магуны Паст.

НАРМА'ЛЬНЫ *прым.* Добры. *Мёт чмялёў — нармальны мёт, як і ў пчол.* Солы Смарг.

НАРО'БІЦЬ *зак.* Набудаваць. *Хатаў наробілі.* Ністанішкі Смарг.

НАРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Зроблены. *У клеці наробленa арудаў: у адзін — гарох, у другі — боб, у трэці — жыта ссыпалі.* Кураполле Паст.

НАРО'Г, НАРО'Х *м.* Частка сахі, якая падразае зямлю. *Нарог жалезны ў сахе.* Пацаўшчына Дзятл. *У сахе адзін нарох.* Парэчча Гродз. *Нарох у сасе, нарох у зямлю ўбіваіць.* Кемялішкі Астр. *Саху рабілі з дрэва, а нарох — з зялеза.* Ністанішкі Смарг. *Е нарох у сасе.* Альхоўцы Лях. *У сасе галоблі, паліца, палазок, нарох.* Відаўцішкі Вільн. *Нарогі — жалезныя, былі ў сохах.* Навасёлкі Свісл. *Добры каваль нарогі робя.* Старыя Смільгіні Воран. *У сасе нарогі жалезныя.* Вя-

лікія Баяры Шчуч. *Прабівалася дырка ў рагачу. Устаўляецца плаха і такія два пальцы. Убіта крэпка і прывязывалі, і насажывалі два нарогі. Адзін рые.* Кайшоўка Карэл. *У сасе нарогі з жалеза.* Старыя Трокі Трак. *Саха была дзеравяная, два нарогі, а ўперод — паліца.* Швэды Вільн. *Нарогі дзеравяныя ў сасе.* Кудзялянцы Шальч. *Соха, нарогі былі стальные. Нарог зэмлю копаў.* Смаляніца Пруж.

НАРО'Д *м.* Людзі. *Народ як нада быць, хадзіў у саматкані, народ даверчывы.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас адналікій народ, прыезных нема тут.* Відаўцішкі Вільн.

НАРО'ЖАК *м. памянш.* да н а р о́ г. *У сасе здзелана паліца і два нарошкі жалезныя.* Дзяніскавічы Ганц.

НАРО'ЖКІ, НАРО'ШКІ *мн.* Сахор. *Нарошкі ўсе дзеравяныя, толькі на канцы насаджана жалезныя нарошкі, імі гной кідалі, як вывозілі с хлява.* Гемзы Шальч.

НАРО'СТАЦЬ *гл.* НАРАСТА'ЦЬ

НАРО'Т *гл.* НА'РАТ

НАРО'ЧНА *прысл.* Знарок. *Радзімы знак нарочна чапілі, красіва было.* Солы Смарг. *Прышлі ў вёску нарочна.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *нарочно* 'тж'.

НА'РТЫ *мн.* 1. Лыжы. *Дзе называюць лыжы, а ў нас — нарты.* Жылі Іўеў., Альхоўцы Лях. 2. *перан.* Абутак вялікага памеру. *Шчо за нарты ты обуў? Ходіш, як Клашын* [сын]. Сялец Бяроз.; *парайн.* польск. *narty* 'лыжы'.

НАРУБА'ЦЬ, НАРУБА'ЦІ, НАРУБА'ТЭ *зак.* Насячы. *Пайду дроў нарубаю.* Мсцібава Ваўк. *Ідзі да калоткі, нарубай дроў.* Альхоўка Навагр. *Нарубай дроў.* Вялікі Краснік Пруж. *Нарубаў дроў на цэлую зіму.* Кудзялянцы Шальч. *Нарубалэ дров.* Дзмітравічы Кам.

НАРУБІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а р у б а́ ц ь. *Пойдзім с мешкамі в лес, нарубім смаляков і добра распаліць печ.* Рагулішкі Даўг.

НАРУГА'ЦЦА *незак.* Рабіць, гаварыць назло. *Скажу, што ты наругаўся.* Валынцы В.-Дзв. *Яны наругаюца, ні слухаюца.* Саланое Віл. *Маладуха — наругаюцца на мушчыну.* Ухвала Круп.

НАРУЖО'ВА *прысл.* Да падрумяненага стану. *Вехаць саломы кіня ў печ, кап хлеп запёкся наружова.* Гемзы Шальч.

НАРУЛЬКАВА'НЫ *дзеепрым.* Завіты. *Дамавік скаціну ганяя, кага палюбя, каню рашчэша грыву — як нарулькавана грыва.* Рыбчына Віл.

НАРУЛЬКАВА'ЦЬ *зак.* Завіць. *Нарулькаваць валасы.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* ням. *Rolle* 'рулон; скрутак'; *rollen* 'качаць; скручваць'.

НАРУША'ЦЬ *незак.* 1. Перапыняць. *Я не нарушаю яго спакою.* Руднікі Шальч. 2. Парушаць. *Што ты закон нарушаіш?* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *нарушать* 'тж'.

НАРУ'ШЫЦЬ *зак.* Зрушыць. *Ён яе нарушыў з мейсца.* Паляцкішкі Воран. *Я не нарушу, няхай ляжыць.* Стральцы Шальч.

НАРХО'З *м. мед.* Наркоз. *Рабілі аперацыю пад нархозам.* Талейкі Швянч.

НА'РЫ *мн.* Насціл з дошчак для спання. *Нары двухэтажныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ад сцяны да сцяны — нары, высока, роўна з печчу. Спіць на нарах.* Рыбчына Віл. *У папа былі нары, дзе парапкі спалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Нары пры печы рабілі, то быў як бы падвойны пол.* Баброўнікі Гарад.

НАРЫПІТАВА'ЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Вось нарыпіталася.* Ішчаняны Шчуч.; *параўн.* літ. *rìpyti* 'прагна есці'.

НАРЫ'Ў *м. мед.* Нарыў. *Я нарывам ляжала ў бальніцы.* Ёдлавічы Брасл. *У році нарыў.* Старыя Смільгіні Воран.

НАРЫ'ЎКА *ж.* Маленькі нарыў. *На дзясня нарыўка.* Лоск Валож.

НАРЫХТАВА'НЫ *дзеепрым.* Падрыхтаваны. *Вёдры нарыхтаваны для свіней.* Лоск Валож.

НАРЫХТАВА'ЦЦА *зак.* Падрыхтавацца. *Нічага не нарыхтаваліcь.* Саланое Віл.

НАРЫ'ЦА, НОРЫ'ЦЯ *ж. вет.* Свішч, нарыў (у каня). *Нарыца ў каня пад гірдзёлкаю.* Каўняны Гродз. *Нарыца ў каня, як хамутом наб'е.* Пацаўшчына Дзятл. *Нек на карку каня штось робіцца — нарыца.* Галубы Маст. *Збіты карк хамутом, паяўляецца нарыў і называецца нарыца. Яно глыбоко нарывая, углып.* Альхоўцы Лях. *Выбілася нарыца, невядома ад чаго. Што не раблю — не знаю, цячэ матэрыя. Нарыца на шыі, як мінеш вуха.* Гемзы Шальч. *Норыця ў коня, тяшко ліечыце.* Курашэва Чыж.

НАРЭ'ДЧАС, НАРЭ'ТЧАС *прысл.* Зрэдку. *Нарэтчас прывозяць рыбу.* Магуны Паст.

НАРЭ'СКА *ж.* Паласа ворнай зямлі. *Нарэска бульбы, аўсу, ячменю.* Парэчча Гродз.

НАРЭ'ШЦЕ, НАРЭ'ШЦІ, НАРЭ'ШЦЯ *прысл.* 1. Напаследак. *Тры дні прарастаюць, нарэшці садзіць.* Навасёлкі Свісл. *Нарэшця садзіла гурке.* Бакшты Іўеў. 2. у знач. *пабоч.* Паказвае меру нецярпення, незадавальнення. *Дайце выспацца нарэшце!* Старыя Трокі Трак.

НАСАБІРА'ЦЬ *зак.* Назбіраць. *Нада свіням травы насабіраць.* Груздава Паст. *Нада насабіраць шчаўлю.* Лоск Валож.; *параўн.* руск. разм. *насобирать* 'тж'.

НАСА'ДЖАВАЦЬ *незак.* Запаўняць снапамі. *Асець нада насаджаваць.* Валынцы В.-Дзв.

НАСА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* 1. Пасаджаны. *Много насаджано кустоў.* Малахоўцы Бар. 2. *перан.* Запоўнены снапамі. *Пойна асець жыта насаджана.* Валынцы В.-Дзв.

НАСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Запоўніць снапамі. *Асець насадзіць*

*снапой, ставілі на цапы.* Валынцы В.-Дзв. *На восець насадзіць снапы.* Беразіно Докш. *Насадзіць ёўню.* Рудня Астравітая Чэрв., Мачаск Бярэз. *Трэба еўню насадзіць і тапіць.* Азяраны Раг.

НАСА'ДКА, НАСА'ТКА *ж.* Вяз у санях. *Насатка ўместа вяза служыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАСА'ЖАНЫ *дзеепрым.* Устаўлены. *У трупку насажаны спіцы.* Істра Лудз.

НАСАРЫ'ЦЬ *зак.* Насмеціць. *Ей ніхто не насорыць у хаці.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *насорить* 'тж'.

НАСА'ТАЧКА *ж. памянш. да* н а с а́ т к а. *Ехалі ў сваты, прыедзе, засцеля насатачкай на стале.* Крэва Смарг.

НАСА'ТКА *ж.* Насавая хустачка. *Насатка — маленачкая хустачка, нос выціраць.* Магуны Паст. *Насатка ёсь у мяне.* Кураполле Паст. *Насатку згубіла.* Быстрыца Астр. *Насатка гразная ўжо, прастудзілася я.* Ракаўскія Швянч., Рагулішкі Даўг.

НАСА'ТЫ *прым.* З вялікім носам. *Насаты — з велькім носам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён насаты, нос, як труба.* Парэчча Гродз. *Насаты — брыткі чалавек, нос натта вялікі.* Гемзы Шальч. *О, кажа, але насіско мае, насаты.* Баброўнікі Гарад.

НАСА'Ч *м.* Чалавек з вялікім носам. *Такога насача ня відзіла.* Лоск Валож. ◊ *Насача палучыць* — атрымаць удар па носе. *Насача палучыла.* Лісна В.-Дзв.

НАСЕ'ІЦЦА *зак.* Пасеіцца. *Насеіцца асот.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАСЕ'ІЦЬ *зак.* Прасеіць. *Насеім попелу, кап лух мылкі быў.* Дакудава Лід.

НАСЕ'КАЦЬ *незак.* Надсякаць. *Насекаюць кору на дзеравіне і цягнуць жывіцу.* Альхоўцы Лях.

НАСЕНАВА'ЦЬ, НАСЯНАВА'ЦЬ *зак.* Нарыхтаваць сена. *Я насенавала на карову.* Кураполле Паст. *Насенавай пошару для каровы.* Чуркі Ашм. *Я ш не насяную, ні ўкашу.* Дакудава Лід. *Мне аднэй трудна насенаваць.* Альхоўка Навагр. *Пака насянуям, дык і восянь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ты насянавала на зіму?* Альхоўка Навагр.

НАСЕ'НІЦА *ж.* Насенная бульба. *Насеніца — насенная картофля.* Вострава Маст.

НАСЕ'НКА, НАСЁНКА *ж.* Тое ж, што і н а с е́ н і ц а. *Насенку ў асобенны катух ссыпаюць.* Гемзы Шальч. *Усю насёнку ў ямы.* Дакудава Лід.

НАСЕ'ННІК *м.* Насенны плод. *Насеннікі* [агуркоў] *учора мелася выбіраць.* Жылі Іўеў. *Насеннікі — гуркі жоўтыя.* Міратычы Карэл. *Насеннік — семянная картошка.* Азарычы Пін.

НАСЕ'ННЯ, НАСЕ'НЬЯ, НАСЕ'НЕ, НАСЕНЁ, НАСЕ'НЯ *зб. н.* 1. Семя. *У гарбузу мяса, а потым мяздра, дзе насення.* Плябанцы Ашм. *Насене льну.* Лука Нараўк. *Насенё з бурака,*

*з брушкі, з моркві.* Міратычы Карэл. *Гэто насенё добраё.* Альхоўцы Лях. *Насеня прарасло, трэба садзіць.* Гемзы Шальч. 2. Насенне. *Будзем малаціць жыта на насення.* Чуркі Ашм. *Насення бульбы.* Рыбчына Віл. *Багато насенья.* Дзяніскавічы Ганц. *Насеня куплялі.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАСЕ'СЦІ *зак.* Сесці ў вялікай колькасці. *Вароны насядуць на бярэзіне, аж цёмна.* Пацаўшчына Дзятл.

НАСЕ'Ч, НАСЯЧЫ' *зак.* 1. Насячы (дроў). *Дроў пайду сама насяку.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Дрыва тапаром насеч. Насячы дроў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён насёк, нарубаў дроў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Скрышыць. *Асоту насікеш свінням.* Лоск Валож.

НАСЁНА *н.*, НАСЁНЫ *мн.* Тое ж, што і н а с е н н я 2. *На сяўбу пакінулі насёны.* Жодзішкі Смарг. *Пакінулі жыта на насёна.* Груздава Паст. *Мы гаром: нашэ насёна, на старане бралі поле.* Беняконі Воран. *Насёна прывязуць з Ліды.* Паляцкішкі Воран. *Насёна гуркоў памачыла.* Старыя Трокі Трак. *Маё поля і маё насёна.* Кудзялянцы Шальч.

НАСЁРБАЦЦА *зак.* Сёрбаючы наесціся. *Учора так насёрбалася, што ўстаць не здолела.* Малі Астр.

НАСІДЗЕ'ЦЦА *зак.* Насядзецца. *Насідзелась я ў лесе.* Саланое Віл.

НАСІ'ДЛА *ж.*, НАСІ'ДЛЫ *мн.* Каромысел. *Дрот адарваўся ад насідлы. Вёдры носяць насідламі.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* польск. *nasidła* 'тж'.

НАСІКА'ЦЬ *незак.* Рабіць насечкі. *Трэба каваць жорна, малатком насікаюць.* Саланое Віл.

НАСІ'ЛІЦЬ *зак.* Натрудзіць. *Ні ламай так костку, тапаром сячы, а то руку насіліш.* Дэгісі, Снягяны Смарг.

НАСІ'ЛКІ *мн.* 1. Тое ж, што і н а с і д л а. *У нас на разе не было студні, так насілкі былі ваду насіць.* Солы Смарг. *Насілкі былі насіць вёдра з вадой.* Старыя Трокі Трак. 2. Насілкі. *Яго на насілках пруць.* Кемялішкі Астр. 3. Дзве жэрдкі, на якіх пераносяць сена. *Дзе мокро, насілкамі выносяць на груд* [сена]. Мсцібава Ваўк.

НАСІ'ЛУ *прысл.* Ледзьве. *Насілу я заехала.* Крынкі Крын.

НАСІ'ЛЫ *мн.* 1. Тое ж, што і н а с і д л а. *Насілы возмя і прынясе мне вады, на насілах няцяшка.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і н а с і л к і 3. *Сено носяць з балота на насілах.* Дзяніскавічы Ганц.

НАСІ'ЛЬНІЦЫ *мн.* Тое ж, што і н а с і л к і 3. *Насільніцы былі, ім сена зносілі, з балота выносілі.* Старыя Смільгіні Воран.

НАСІЛЯ'ЦЬ *незак.* Настойваць. *Я ні насіляла яе рабіць так — замуш ісці за яго.* Альхоўка Навагр.

НАСІ'ЦЦА *незак.* 1. Насіць (адзежу). *Цяпер шырокая адзежа носіцца.* Лоск Валож. 2. *перан.* Хутка рухацца. *От*

*носіца, і нох не чуіць перат сабой.* Саланое Віл. *Хлопец носіцца і носіцца.* Навасёлкі Лід.

НАСІ'ЦЬ, НОСЫ'ТЫ *незак.* 1. Пераносіць. *Насілкі былі ваду насіць.* Солы Смарг. *Сена насілі рэзгінамі.* Руднікі Шальч. 2. Насіць (адзенне, абутак і г. д.). *Мушчызны кажухі насілі, ярмяк.* Малі Астр. *Насілі мэшты, кручком робленыя з лёну.* Чуркі Ашм. *З лазы пасталы ні насілі.* Стральцы Гродз. *С саломы хто ўмеў сплесці капалюшы, то насіў.* Васілевічы Гродз. *Насіла чаравікі, насіла харошую сукенку.* Кухты Віл. *Хадакі насілі.* Швэды Вільн. *Длугія сукенкі насілі маладыя.* Грыкені Вільн. ▽ *Сей на Пахом, будзеш насіць мяхом.* Гальшаны Ашм. *Да пары збан ваду носіць.* Азяраны Раг. *Ён насіў галаву высака, а сеў ніска.* Саланое Віл. ◊ *Чорт нося* — пра непаседлівага чалавека. *Чорт нося яе па хатах.* Солы Смарг. *Як его зымня носыть* — пра подлага чалавека. *Ну й гад, ны чоловік, кылько вын людэй погубыв, як его зымня носыть, чому вона пырыд йім ны росступыцьця.* Сіманавічы Драг. *Насіць сябе* — рухацца. *Сам сябе чалавек нося.* Малі Астр. *Ну ты, Полая, й товста, як ужэ ты сама сыбэ носыш.* Сіманавічы Драг.

НАСКАБЛІ'ЦЬ, НАСКАБЛІ'ЦІ *зак.* Начысціць. *Трэба наскабліць бульбы.* Рыбчына Віл. *Хочу наскабліці бульвы госцем.* Ялова Пруж.

НАСКАВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Нада наскаваць. Сабакам скуюць. Ідзі наскуй на свіню.* Ёдлавічы Брасл. *Наскаваць сабакам.* Альхоўцы Лях. *Наскуй сабакай індыкоў.* Рагулішкі Даўг. *Ён міне сабакай наскаваў.* Номікі Бабіц.

НАСКАПЫТЫ', НАСКАПЫТА' *прысл.* Рыссю. *Наскапыты і паляцеў, уцякая. Ехаў наскапыта.* Альхоўка Навагр.

НАСКВА'РЫЦЬ *зак.* Прыгатаваць скваранием. *Насквар сланіны.* Солы Смарг. *Насквaрыла скварок.* Номікі Бабіц.

НАСКВО'СЬ *прысл.* Наскрозь. *Сабака насквось паліц цапнуў.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *насквозь* 'тж'.

НА'СКІ *займ.* Тутэйшы. *Наскі чалавек, месныя людзі, наскія.* Ёдлавічы Брасл.

НАСКІДА'ЦЬ *зак.* Накідаць у вялікай колькасці. *Наскідала гурту адзежы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАСКО'ЧЫЦЬ *зак.* 1. *перан.* Раптам з'явіцца. *Наскочыла прышчайка, вадыр наскочыў.* Валынцы В.-Дзв. *Вадыр наскочыў.* Рыбчына Віл. 2. Натрапіць. *Скора ў вёску прыехалі парцізаны і наскочылі ў тую хату, дзе былі немцы.* Бобравічы Іўеў.

НАСКРАБА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а с к а б л і ц ь. *Наскрабаіць бульбы.* Груздава Паст.

НАСКРО'ЗЬ *прысл.* Поўнасцю. *Дзверы адкрывая наскрозь.* Гемзы Шальч. ◊ *Наскрозь відзець* — вельмі добра ведаць каго-н. *Я чалавека віджу наскрозь.* Кураполле Паст.

НАСКРЫЛЯ′ЦЬ *зак.* Нарэзаць скрылікамі. *Наскрыляй бульбу!* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* літ. *skrӯlis* ’кружок чаго-н.’

НАСКРЭ′БЦІ, НАСКРАБЦІ′ *зак.* 1. Наскрэбці. *Наскрабаў я гэтай мяздры добра.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і н а с к а б л і ц ь. *Картошкі наскрабуць, упараць.* Старыя Трокі Трак. *Наскрэбіш буракоў, у селядзёўку накідаіш, наверх батвы і квасім.* Крэва Смарг.

НАСКУ′БСЦІ, НАСКУ′ПСЦІ *зак.* Наскубці. *Трэба на падушку наскупсці пер’я.* Лоск Валож.

НАСКУ′РВАЦЬ *незак.* Прыспешваць. *Увесь час наскурваў мяне.* Вострава Маст.

НАСЛА′НЯ *н.* Напасць, няшчасце. *Жукі — гэта насланя.* Старыя Смільгіні Воран. *Што за насланя гэтая балезня невылячымая? Што ня робіць — нічога не памагая.* Гемзы Шальч.

НАСЛА′ЦЬ *зак.* Разаслаць па паверхні. *На ток насцелюць снапоў і цапамі б’юць.* Старыя Смільгіні Воран. *Саломы насцеляш у лошку, дзярушку на сябе — і цёпла было спаць.* Дакудава Лід.

НАСЛЕ′СТВА *н.* Спадчына. *Палучыў ад дзеда наслества.* Істра Лудз.; *парайн.* руск. *наследство* ’тж’.

НАСЛУЖЫ′ЦЬ *зак.* Зарабіць. *Пайшла служыць да паноў. Наслужыла пудоў — пабудавала невелькую хатку.* Валеўка Навагр.

НАСЛУ′ХАЦЦА *зак.* Пачуць многа. *Разных наслухайся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даволі наслухаўсо.* Крынкі Крын.

НАСЛЮ′ЗНУЦЬ *зак.* Пакрыцца сліззю. *Наслюзла мяса.* Гемзы Шальч.

НАСМАЖЫ′ЦЬ *зак.* 1. Прыгатаваць смажаннем. *Цыбулі насмажыла.* Гальшаны Ашм. *Картоплі насмажыла.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Наварыць варэння. *Насмажыла ягат.* Кураполле Паст.

НАСМЕ′ШНІК *м.* Той, хто насміхаецца. *Ён такі насмешнік, усё насмяхаяцца.* Дакудава Лід.

НАСМІХА′ТІСЕ *незак.* Насміхацца. *Вуон з тэбэ насміхаеццe.* Курашэва Чыж.

НАСМО′РГАЦЬ *зак.* Нашморгаць. *Лісту насморгаў.* Пацаўшчына Дзятл.

НАСМЫКА′ЦЬ, НАСМЫКА′ТІ *зак., незак.* Надзець, надзяваць. *Насмыкаў панчохі. Насмыкаць я буду на ногі носкі.* Хатынічы Ганц. *Насмыкаў на очы шапку.* Азарычы Пін.; *парайн.* літ. *smaũkti* ’напінаць’.

НАСМЫ′ЧЫЦЬ *зак.* Напрасці. *Трэба было шпулю насмычыць.* Малі Астр.

НАСМЯЯ′ЦЦА *зак.* Пасмяяцца ўволю. *Сядзім вячэраць і насмяёмся, што прыдумаям.* Солы Смарг. *Насмяяўся, аш бакі*

*забалелі. Ён вёў карову, карова ня йдзе на вяроўцы,— мы насмяяліся на яго.* Малі Астр.

НАСО'К *м.* 1. Пярэдні канец абутку. *Наскѐ пазлазяць, бегаючы.* Вострава Маст. 2. Востры канец яйка. *Як яйка мацуюць, то б'юць наском ці пухам.* Солы Смарг. *Насок і пятка ў яйках.* Пацаўшчына Дзятл. 3. *памянш.* да н о с 1. ∇ *Ужэ насок пазірае ў пясок* — пра наступленне старасці. Мсцібава Ваўк. ◊ *Даць наском* — ударыць пальцамі ступні. Мярэцкія Глыб.

НАСО'ЛІВАЦЬ *незак.* Насольваць. *Бывала, насолівалі бочку грыбоў.* Лоск Валож.

НАСО'РЫЦЦА *зак.* Насмеціцца. *Насорылася на крышку.* Ёдлавічы Брасл.

НАСО'С *м.* Сала, якое соліцца ў расоле. *Сланіну аддзельна солім насуха — тыко соль, а насос соліцца ў расоля і вешаяцца.* Старыя Трокі Трак.

НАСО'Ў *м.* Верхняе адзенне з даматканай тканіны. *Насоў сваёй работы з сукна.* Беразіно Докш. *С палатна белага пашыюць насоў такі бес патклаткі, і носюць бабы і мушчыны.* Янова Рас. *Купіла белі і ткала свайму насоў.* Мачаск Бярэз. *Шылі балахоны, насовы, андракі.* Кукарава Бярэз. ∇ *Сем насавоў, а ўсе без рукавоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАСО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і н а с а́ т к а. *Насоўка — хусточка нос уціраць.* Дакудава Лід. *Гдзе мая насоўка?* Гемзы Шальч.

НАСО'ЎЧЫК *м. памянш.* да н а с о́ ў. *Пашыў хазяін насоўчык і хварсіць: лёгенькі такі.* Мачаск Бярэз.

НАСПАТЫ'ЧКУ *прысл.* Насустрач. *Іду — і мне наспатычку чалавек.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАСПА'ШКІ *прысл.* У здольшчыне. *Робілі на пана, наспашкі пахалі зямлю.* Валынцы В.-Дзв.

НА'СПЕ'Х *прысл.* Паспешліва. *На́спех зрабілі гэту хату.* Ахрэмаўцы Брасл. *Схваціў наспе́х што-небуць.* Мярэцкія Глыб.

НАСПЕ'ЦЬ *зак.* Паспець. *Лён наспея — у вязянічкі вяжам.* Дакудава Лід.

НАСПРА'ЖЫЦЬ *зак.* Напражыць. *Нада бобу, гароху наспражыць.* Ёдлавічы Брасл.

НАСПРАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Набыць многа рэчаў. *Сукенак наспраўляла, накупляла.* Груздава Паст.

НАСПРЫХАВА'ЦЬ *зак.* Уставіць спіцы. *Кола наспрыхаваў.* Бенякoні Воран.

НАСПУШЧА'ЦЬ *зак.* Нарабіць лугу. *Юлька наспушчала лугу.* Саланое Віл.

НАССА'ЦЦА *зак.* Уволю пассаць. *Цялюк нассаўся.* Жылі Іўеў.

НАСТАБУ'РЧЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Настабурчылася курыца, ей нядобра стала.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАСТА'ВА *м. устар.* Наглядальнік. *Настава ў пана стаяў над людзьмі, кап работалі; стаяў у хвасце, папробуй астаў бульбіну: і крык, чуць біцца не кіняцца.* Стральцы Гродз.

НАСТАВА'ЦЬ I *незак.* З'яўляцца. *Ці наставаў маладзік?* Вецярэвічы Пух.

НАСТАВА'ЦЬ II *незак.* Настойліва прасіць. *А тут настаюць, каб засталася ў іх на пару дзён.* Пацаўшчына Дзятл.

НАСТА'ВІТІ *зак.* 1. Падставіць. *Настав жменю, то ядер кроху дам.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Наставіць для пачастунку. *Думаеш, што дармо тобіе наставят?* Курашэва Чыж.

НАСТА'ВІЦЬ *зак.* Паставіць многа. *Наставіў ім новых рамак, і нясуць яны мёд.* Саланое Віл. ◊ *Наставіць пуць* — абраць жыццёвы шлях. *Куда пуць наставіць?* Ахрэмаўцы Брасл.

НАСТАРА'ЦЦА *зак.* Расстарацца. *А хто дроў настараяцца?* Быстрыца Астр. *Кароўка была, настараліся сенаў.* Кудзялянцы Шальч.

НАСТАЎЛЯ'ЦЬ I *незак.* 1. Ставіць. *Настаўлёў капкан на ваўка.* Цяпінцы Віл. 2. Натапырваць. *Конь вушы настаўляіць — страх чуіць.* Саланое Віл.

НАСТАЎЛЯ'ЦЬ II *незак.* Павучаць. *Як выпраўлялі сына ў армію, то настаўлялі, каб былі добрымі, каб добра служылі.* Солы Смарг.

НАСТА'ЎНІК *м.* Настаўнік. *Настаўнік — тры-чатыры класы акончыўшы!* Ахрэмаўцы Брасл. *Быў у нас настаўнік.* Дзераўное Стаўб.

НАСТАЦЁ *н.* Паяўленне. *Настацё — настае месяц.* Малахоўцы Бар.

НАСТА'ЦЬ *зак.* 1. Надысці. *Настала старасць і дзецца німа дзе. Ужэ старыя дні насталі.* Каменка Стара Сакол. 2. Споўніцца. *Ей пятнацаць лет настала.* Кураполле Паст. 3. З'явіцца. *Настаў маладзік.* Міратычы Карэл. 4. Пачацца. *Вецер настаў.* Гемзы Шальч.

НАСТАЯ' *прысл.* Стоячы. *Я колькі ехала настая.* Крэва Смарг.

НАСТАЯ'ЦЦА *зак.* Доўга пастаяць. *Дзе ш ба ты ў калейцы настаяўся б за ўсім.* Кудзялянцы Шальч.

НАСТАЯ'ШЧА *прысл.* 1. Даволі. *Як я ўстаў, ужо было настаяшча светла. Яшчэ настаяшча дзянёк.* Гемзы Шальч. 2. Многа. *Сягоня ён настаяшча ўскапаў. Настаяшча прабалеў і памёр.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Добра. *Травы я дужа настаяшча і ні знаю.* Пярэкі В.-Дзв.

НАСТАЯ'ШЧЫ *прым.* Сапраўдны. *Каб табе вушы выраслі, быў бы настаяшчы асёл.* Малі Астр.; *парайн.* руск. *настоящий* 'тж'.

НАСТО́ІЦЬ I *зак.* Настаяць. *Ён настоіў на сваім.* Кураполле Паст.

НАСТО́ІЦЬ II *зак.* Зрабіць настой. *Каштанавы арэх настояць і мазолі лечаць.* Ухвала Круп.

НАСТО́Й *м.* Выцяжка з траў, раслін. *Настой мухамораў піў і паправіўся. Ад рамацізма настой на спірту, ат рака.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАСТО́ЙЧАВЫ *прым.* Настойлівы. *Настойчавы ты.* Рыбчына Віл. *Дайней не было такіх настойчавых людзей.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *настойчивый* 'тж'.

НАСТО́ЛЬНІК *м.* Абрус. *Настольнікі ткалі. Зберацць рой у лупку, настольнікам накінець, абвяжаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Настольнікі ткалі ў чатыры і восем нітоў.* Малі Астр. *Настольнікі ткала.* Стральцы Шальч. *Настольнікі ткалі.* Лоск Валож., Янова Рас., Чычалі Швянч. *Настольнікі на шэсь нітоў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

НАСТО́ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і н а с т о́ л ь н і к. *Настольніцу адпрасуй.* Пацаўшчына Дзятл. *Яду сабярэ ў настольніцу і нясе касцам.* Малахоўцы Бар. *Настольніца з мохрамі.* Хатынічы Ганц. *Настольніца ільняна.* Дзяніскавічы Ганц. *Помыла настольніцу, хутко высхнэ.* Смаляніца Пруж. *Настольніцы ткалі ў восем нічальніц.* Бакшты Іўеў.

НАСТО́РЧ *прысл.* Старчма. *Сторчак, каторы ідзёт насторч корань у дзераві.* Хатынічы Ганц. ∇ *Кап цябе закапалі насторч галавой на сто мэтраў.* Гарадзея Нясв.

НАСТРАГА́ЦЬ *зак.* Надзерці. *Нада нарэзаць розак, кары настрагаць с крушыны.* Плябанцы Ашм.

НАСТРАХА́ЦЦА *зак.* Нацярпецца страху. *У войну настрахаласа, набаяласа.* Ванелевічы Кап.

НАСТРО́ІЦЦА *зак.* Падрыхтаваць сябе да чаго-н. *Настроілася ехаць і апсела.* Кураполле Паст.

НАСТРО́ІЦЬ *зак.* Адрамантаваць. *Ён настроіў трактар і ехаў.* Малі Астр. *Настрояць камбайн і будзя жаць.* Альхоўка Навагр. 2. Прыгатаваць. *Яна яму есці настроіла.* Груздава Паст. *Пакуль Пецька прыедзе, ты настроіш што-небуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАСТРО́Й *м.* Добры гумор. *Я настрой маю.* Солы Смарг.

НАСТРУГА́ЦЬ *зак.* Абдзерці палосамі. *Лазы трэба настругаць, дупцоў нарэзаць.* Саланое Віл.

НАСТРЭ́НЧЫЦЬ *зак.* Параіць. *Настрэнчылі бабок парыць, як у грудзях баліць.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *nastręczać* 'рэкамендаваць'.

НАСТУПА́ЦЬ *незак.* 1. Надыходзіць. *Наступаіць старасць.* Кураполле Паст. 2. Весці наступленне (пра ваенныя дзеянні). *Былі наступалі немцы.* Саланое Віл. ◊ *Наступаць на пяты* — даганяць каго-н. *Мы на калёнію ўсе вынешшы, а тут рускія немцу на пяты наступаюць.* Кудзялянцы Шальч.

НАСТУПІ'ЦЬ *зак.* ◇ *Наступіць на пропку* — выпіць гарэлкі. *Вечарам быў на сабранні, с сабраня пашоў, наступіў на пропку, прышоў, енчыўся і памёр.* Кураполле Паст.

НАСТУПЛЯ'ЦЬ *незак.* Станавіцца на што-н. *На волчый табак* [порхаўку] *як наступляеш, так і дым.* Пасіене Лудз.

НАСТЫГА'ЦЬ *незак.* Настываць. *Настыгае вядро на холадзе.* Паляцкішкі Воран.

НАСУВА'ЦЬ I *незак.* Напіхваць. *Сянік насувалі саломай або сенам, і спалі на сяніках.* Едлавічы Брасл.

НАСУВА'ЦЬ II *незак. перан.* Надыходзіць. *Насуваіць ужо старасць.* Кураполле Паст.

НАСУ'КА'НЫ *дзеепрым.* 1. Навіты. *На цэўку насукана.* Кіралі Шчуч. 2. Насуканы. *Насукáна нітак.* Грыкені Вільн.

НАСУКА'ЦЬ *зак.* Навіць. *Насукай цэвак мне.* Малі Астр. *Трэба насукаць цэўку.* Саланое Віл., Кіралі Шчуч. *Насукай цэўку.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *sùkti* 'тж'.

НАСУЛІ'ЦЬ *зак.* ◇ *Насуліць на душы* — сапсаваць настрой. *Насуліў на душы.* Жыдзевічы Іўеў.

НАСУЛО'ТАЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Так насулотаў хату, як свіня ў карыце.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *sulà* 'сок'.

НАСУПАВА'ТЫ *прым.* Насуплены. *Насупаваты ён.* Дакудава Лід.

НАСУ'ПІЦЦА *зак.* 1. Нахмурыцца. *Яна насупіцца і я, і не гаворым.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Натапырыцца. *Насупіцца кура адна да аднэй.* Гемзы Шальч. *Курыца насупіцца і стаіць, да яды не бардзо.* Гемзы Шальч. 3. Змеркнуцца. *У той хаці цёмна, насупілася.* Вецярэвічы Пух.

НАСУ'ПРАЦЬ *прысл.* Наперакор. ∇ *Ты яму гавары, а ён табе дагары — усё насупраць.* Малі Астр.

НА'СУ'ХА *прысл.* 1. Да поўнай сухасці. *Нáсуха выцірай талеркі. Нáсуха выцярла падлогу.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. У сухім стане. *Насýха баліць нага, як цячэ — не так баліць.* Руднікі Шальч. 3. Зварыць і ўжываць, зліўшы ваду. *Зварыць бульбу насýха.* Магуны Паст., Крэва Смарг. 4. Прыгатаваць без вадкасці. *Грыбоў стушыць насýха. Насýха пасмажу лісічак.* Альхоўка Навагр. *Ужарыла гусю насýха. Картошку пяклі насýха, без вады.* Гемзы Шальч. 5. Густа, не вадка. *Талакно рабілі намокра і насýха: замесіць туга, паціская — як бульбу ясі.* Магуны Паст. 6. Без дабаўлення прыпраў, толькі з соллю. *Сланіну солім насýха — тыко соль.* Старыя Трокі Трак.

НАСУ'ЧВАЦЬ *незак.* Навіваць. *Насучвалі ніткі на цэўкі.* Навікі Лудз.; *гл.* н а с у к á ц ь.

НАСУЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Навіць. *Ня можыць насучыць цэўку.* Саланое Віл. 2. *перан.* Налавіць. *Сколькі насучыў рыбы, харошыі рыбіны!* Лоск Валож.; *гл.* н а с у к á ц ь.

НАСЦЁБАЦЬ *зак. экспр.* 1. Нахвастаць, набіць. *Насцё-*

*бае, бала, дзіця.* Мсцібава Ваўк. 2. Намасажаваць. *Насцёбаіць перад сном ліцо.* Пярэкі В.-Дзв.

НАСЦІ'ГНУЦЬ *зак.* Дагнаць. *Еслі насцігнець вална і ўдарыць у бок...* Ахрэмаўцы Брасл.

НАСЦІ'Л *м.* Паверхня з дошак. *Насціл на сані.* Дзяніскавічы Ганц. *Ніз калёс — насціл.* Скрудалена Даўг.

НА'СЦЯЖ, НА'СЦЯШ, НА'СЦІШ *прысл.* Тое ж, што і н а с к р о́ з ь. *Дзверы аткрыў насцяш.* Стральцы Гродз. *Дзверы насціш аччынены.* Лісна В.-Дзв.

НА'СЫПА *ж.* Насыпка. *Трэба купіць насыпу на падушку.* Дзяніскавічы Ганц.

НАСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Усыпаць. *Некалі ніці суравыя былі, флёркі насыпіш і беліш.* Чуркі Ашм. 2. Напоўніць ёмкасць чым-н. сыпкім. *Торбу насыпуць гэтай бульбы.* Паляцкішкі Воран.

НАСЫПА'ЦЬ, НАСЫПА'Ц *незак.* 1. Напаўняць ёмкасць чым-н. сыпкім. *Ідзі насыпэй!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кадушке ягад насыпаюц, віно дзелаюц.* Парэчча Гродз. 2. Засыпаць. *Мы насыпалі грэблю там.* Руднікі Шальч.

НА'СЫПКА *ж.* Тое ж, што і н а́ с ы п а. *Пер'я насыпалі ў насыпку.* Солы Смарг. *Нада пашыць насыпку на падушку.* Едлавічы Брасл., Рыбчына Віл.

НАСЫ'ТІТІСЕ *зак.* Тое ж, што і н а е́ с ц і с я. *Такі галодны, што нэ насытіцце.* Курашэва Чыж.

НАСЫ'ЦІЦЬ *зак.* Накарміць. ▽ *Бох ні насыціць людзей ніяк.* Лісна В.-Дзв.

НАСЬКАПА'ЦЬ *зак.* Нашчапаць. *Трэба наськапаць шчэпак. Дайна наськапаюць пукоў лучыны на зіму.* Саланое Віл. *Наськапала трэсак.* Азяраны Раг.

НАСЯВА'ЦЬ *незак.* Сеяць у вялікай колькасці. *Лёну насяюць шмат.* Альхоўка Навагр.

НАСЯ'ДВАЦЬ *незак.* Псавацца. *Вочы насядваюць ад курынай слепаты.* Пацаўшчына Дзятл.

НАСЯКА'ЦЬ *незак.* У выразе: *Насякаць банкам* — ставіць банкі на надрэзаным да крыві целе. *Брытвачкай пашарпаюць* [скуру] *і банкі ставілі, гэта, гаварылі, «насякаць банкам».* Лайпушкі Ігн.

НАСЯЛЕ'НЕЦ *м.* Жыхар. *Адзін наш насяленец быў тут.* Саланое Віл.

НАСЯНАВА'ЦЬ *гл.* НАСЕНАВА'ЦЬ

НАСЯЧЫ' *гл.* НАСЕ'Ч

НА'ТА *гл.* НА'ДТА

НАТАПІ'ЦЬ *зак.* Напаліць. *Натапілі вуглём печку, і ён памёр* [ад чаду]. Масішкі Красл.

НАТАПЫ'РЫЦЦА НАТУПЫ'РЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Натапырылася курыца — спужалася, надулася, як хворая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Натупырыцца індык.* Кураполле Паст.

НАТАРКАВА'ЦЬ *зак.* Нацерці (на тарцы). *Трэ картоплю натаркаваць.* Дзяніскавічы Ганц.

НАТАЎЧЫ' *зак.* Натаўчы. *Натаўчэш льнавое семя — і мачаеш хлебам.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пойдзям натаўчом кuцці.* Тухавічы Лях.

НАТАЧЫ'ЦЦА *зак. перан.* Налезці. *Каб не натачыліся пчолы, я рукаў завяжу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАТАШЧА'К *прысл.* Нашча. *А як наташчак пачуіш зязюлю — будзіш ташчаваць.* Курapолле Паст. *Я наташчак ела антонаўкі.* Валынцы В.-Дзв. *Пашоў наташчак.* Янова Рас.; *параўн.* руск. *натощак* 'тж'.

НАТІЕ'ШЫТІСЕ *зак.* Нацешыцца. *Дітя хутко натіешылосе забавкою.* Курашэва Чыж.

НАТКА'ЦЬ *зак.* Саткаць нейкую колькасць. *Трыццаць перабіранак наткала.* Гальшаны Ашм. *Сястра наткала кужалю.* Солы Смарг. *Наткала рушнікоў у пяць нічальніцаў.* Кудзялянцы Шальч.

НАТКНУ'ЦЦА *зак.* Натрапіць. *Наткнуўся на немцаў.* Саланое Віл.

НАТКО'СНІК *м.* Шафер. *Наткоснік — ад маладой, наметнік — ад маладога.* Мярэцкія Глыб.

НАТЛУМЕ'НЬЕ *н.* Замарока. *Як-то ішлі, якоё натлуменье — ні папалі на сцешку маю, а папалі к суседу на двор, дзе стаю.* Асташына Навагр.

НАТЛУ'ШЧЫЦЬ *зак.* Запэцкаць тлушчам. *Бараду мужык натлушчыць, кап бачылі, што сала есь.* Плябанцы Ашм.

НАТНУ'ЦЬ *зак.* Накусаць. *Мухі натнуць — каравы гізуюць.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *tnący* 'рэжучы'.

НАТО'РКАЦЬ *зак.* Нанізаць. *Грыбы сушылі, шчэпінку вышчапаім і іх наторкаім, і ў печ.* Лісна В.-Дзв.

НА'ТПІС *гл.* НА'ДПІС

НАТРА'НАК *прысл.* Тое ж, што і н а р а́ н к і. *Кароў ганяюць натранак.* Саланое Віл.

НАТРАПА'ЦЦА *зак.* Нарабіцца пры трапанні льну. *Натрапаліся лёну.* Кемялішкі Астр.

НАТРА'ПІЦЬ, НАТРА'ФІЦЬ *зак.* Набрысці. *Багнік не ўвяздзе расце, а мястамі, дзе натрапіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Натрапіў на дарогу.* Гайна Лаг. *Натрафілі на дарогу.* Магуны Паст.

НАТРУДЗІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Я натрудзілася, ездзіўшы ў Свянцяны.* Ракаўскія Швянч.

НАТРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Стаміць, давесці да хваравітасці. *Натрудзіла я нагу.* Саланое Віл. *Паляц натрудзіла.* Лоск Валож.

НАТРУ'САМ *прысл.* Няшчыльна. *Як натрусам сена складзеш, яно ўпадая. Натрусам стох не ўкладзеш.* Бакшты Іўеў.

НАТРУСІ'ЦЦА *зак.* Нацерушыцца. *Натрусілася салома.* Вялікія Баяры Шчуч.

НАТРУСІ'ЦЬ *зак.* Нацерушыць. *Ні лесь, натрусіш!* Вялікія Баяры Шчуч. *Я пяску натрусю.* Жыдзевічы Іўеў. *Адыдзі, натрусіш у малако.* Номікі Бабіц.

НАТРЭ'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Напляткарыць. *Натрэліць, а чалавеку колькі гора.* Быстрыца Астр. *Натрэліў быле-што.* Пацаўшчына Дзятл.

НАТРЭ'НТНЫ *прым.* Напорысты. *Такі натрэнтны быў: як паставіць, так і зробіць.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *natrętny* 'назойлівы, надакучлівы'.

НАТСА'ДНІК *м. бат.* Талакнянка. *Натсаднік — як брусьнічнік, ат почак.* Валынцы В.-Дзв.

НАТСЫ'ПАЦЬ *зак.* Адсыпаць. *Натсып мне мукі.* Номікі Бабіц.

НА'ТТА, НА'ТТО *гл.* НА'ДТА

НАТТАЧЫ'ЦЬ *зак.* Прыбавіць. ∇ *Ганны патскачылі, дня натталылі.* Кураполле Паст.

НАТУ'БЯЛЬ *м. стал.* Затор. *Натублям выбіраюць пазы.* Солы Смарг.

НАТУ'ГА *ж.* Празмернае напружанне сіл. *З натугі аслепла.* Саланое Віл. *З натугі грыжа зрабілася.* Мачаск Бярэз.

НАТУ'ЗАЦЦА *зак. экспр.* Стаміцца. *Я за дзень натузалася і добра спала.* Гемзы Шальч.

НАТУПЫ'РЫЦЦА *гл.* НАТАПЫ'РЫЦЦА

НАТУ'РА *ж.* Характар. *Натура такая, што ўбіў — тоя ўехаў.* Граўжышкі Ашм.

НАТУ'РЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і н а р а в і с т ы. *Натурлівы конь, скінець.* Мішневічы Шум. *Конь натурлівы, дыба становіцца.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Натурлівы конь, не хоча цягнуць.* Лука Нараўк. *Добрэ, што натурлівого коня продав.* Курашэва Чыж.

НАТУ'РЫСТЫ, НАТУ'РАСТЫ *прым.* Тое ж, што і н а р а в і с т ы. *Натурысты конь, ударыць можа.* Хатынічы Ганц. *Вот натурыста дзеўка! Кэнь натурысты.* Азарычы Пін. *Натурасты конь.* Пасіене Лудз.

НАТУ'РЫТІСЕ *незак.* Наравіцца. *Куонь натурыцце і тягнуті нэ хочэ.* Курашэва Чыж.

НАТХО'ДЗІЦЬ *гл.* НАДХО'ДЗІЦЬ

НАТХО'ДНЫ *гл.* НАДХО'ДНЫ

НА'ТША *прысл.* Тое ж, што і н а т а ш ч а́ к. *Натша — як ні еў нічога.* Жылі Іўеў. *Натша нада выпіць малака з часнаком.* Старыя Трокі Трак.

НАТЫ'КАНЫ *дзеепрым.* Устаўлены. *У палазы натыкана капылоў.* Мешкінева Лудз.

НАТЫКА'ЦЬ I *незак.* 1. Ткаць у вялікай колькасці. *Натыкалі палатна, у трупкі скоцяць.* Лоск Валож. *Цэлы куфар*

*натыкалі*. Гайна Лаг. 2. Патыка́ць. *Бавэлна — куплялі ніткі і натыкалі з вoйны*. Швэды Вільн.

НАТЫКА'ЦЬ II *незак*. Пратыкаць. *Калі пякуць паламянку, у цесце пальцамі натыкаюць дзірачкі*. Малахоўцы Бар.

НАТЫ'ЦКАЦЬ *зак*. Праткнуць (многа). *Пальцам натыцкаяш дзюрак і пячэш прасняк*. Крэва Смарг.

НАТЭ'РТЭ *гл*. НАЦЕ'РЦІ

НАЎ *прыназ*. з *він*. Пры ўказанні месца. У. *Наў прымы ідзе. Прымака наў прымы ідзе*. Солы Смарг. *Ягела прышоў наў прымы да Ядвігі*. Крэва Смарг.

НАЎДА' I *ж*. 1. Карысць. *А што мне за наўда з дзяцей? Раз'ехаліся хто куды, разышліся, і няма наўды. Ужо мне наўда будзя*. Старыя Смільгіні Воран. *Якая мне наўда з гэтага будзе? Што з яе за наўда? Якая наўда з яе бацьку і матцы?* Вялікія Баяры Шчуч. *Я і сама на сябе кажу: якая наўда з мяне?* Парэчча Гродз. *А што мне з іх за наўда? — Як хто скажа, ты дзяцей маіш*. Новікі Гродз. *Што за наўда з цібе? А што мне за наўда з гэтых дзяцей?* Каўняны Гродз. *Што за наўда з яго! Што за наўда, што я захварэю?* Кіралі Шчуч. *Німа жаднай наўды с цібе*. Жылі Іўеў. 2. Выгода. *Альбо гэто наўда захварэць, наўда ўпасці*. Альхоўцы Лях.; *парайн*. літ. *паиdà* 'карысць, выгода'.

НАЎДА' II *безас*. у знач. *вык*. Варты, удалы, добры. *Ці наўда яна на морду?* Бакшты Іўеў. *Наўда дзяўчына*. Жыдзевічы Іўеў.

НАЎДА' III *ж. прысл*. Варта. *Чаго пашоў, ці наўда пайці?* Альхоўцы Лях.

НАЎДО'ЛЬКІ *прысл*. У абход. *Наўдолькі ходзячы, будзя вярсты са тры*. Ністанішкі Смарг.

НА'ЎЗА *ж*.; НА'ЎЗЫ *мн*. 1. Вашчына. *Наўза — вашчына такая. Восвы па амшарах, у пні робяць наўзы*. Жодзішкі Смарг. *У калодах былі наўзы. У корань* [каранік] *устаўлялі лісток воску, уздзеты на драбінку — гэта наўзы. Наўзы астаюцца, а мёт ножам рэжуць і ў начоўкі кладуць. Трэба купіць наўзаў*. Саланое Віл. 2. Рамка для вашчыны ў калодачным вулеі. *Наўзы — палачка зацягненая, наўзы з палачак*. Саланое Віл.

НАЎЗДАГО'Н, НАЎЗДАГО'НІ *прысл*. Услед за кім-н. *Наўздагон бегая*. Мярэцкія Глыб. *Ляціць наўздагон. Наўздагоні бегая*. Рыбчына Віл. *Наўздагон пабег за ім*. Беразіно Докш.

НАЎЗНА'К *прысл*. Дагары. *Наўзнак ляжу, не дае набок лехчы*. Новікі Гродз.

НАЎЗРЭ'Х *м*. Агрэх. *Наўзрэхі нарабіў*. Відаўцішкі Вільн.

НАЎКА'С, НАЎКАСЫ' *прысл*. Наўскасяк. *Ні было дайней фіранкаў, як з бежанцаў прыехалі, тады сталі вешаць касавічке́* [шторы] *наўкас*. Малахоўцы Бар. *Кілбасу нада рэзаць*

*наўкас.* Кураполле Паст. *Наўкасы клалі калотку на козлікі.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *па ukos* 'тж'.

НАЎКО'ЛА, НАЎКО'ЛО 1. *прысл.* З усіх бакоў, кругом. *Наўкола паставіўшы жывыя цвяты.* Солы Смарг. *У кошыку наўкола лук. Дзюрачкі наўкола ў хадакох.* Грыкені Вільн. 2. *прысл.* Тое ж, што і н а ў д о́ л ь к і. *Наўкола пойдзеш.* Беняконі Воран. 3. *прыназ.* з *род.* Вакол. *Наўкола хаты паганяць трэба!* Солы Смарг. *Наўкола мураў вада была.* Кудзялянцы Шальч. ◊ *Абыйсці наўкола* — не закрануць каго-н., што-н. *Трэ лепей абыйсці наўкола, чым зачапіць.* Міратычы Карэл.

НАЎКРУ'Х *прысл.* 1. Тое ж, што і н а ў д о́ л ь к і. *Будзем наўкрух ісці.* Мсцібава Ваўк. 2. Ва ўсім наваколлі. *Жывець чалавек, наўкрух яго зналі.* Ністанішкі Смарг.

НАЎЛЕ'ЧКА *ж.* Навалочка. *Наўлечкі мае дзяруцца.* Солы Смарг. *Наўлечку шыюць на падушку.* Жодзішкі Смарг. *Наўлечка на падушку.* Магуны Паст. *Наўлечку на ўсыпку адзяваюць.* Быстрыца Астр. *Даўней — пошва, цяпер — наўлечка.* Малахоўцы Бар. *Нада наўлечку купіць.* Дакудава Лід. *Вязалі ўстаўкі ў наўлечкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Ленка, пашый мне наўлечку!* Вязынка Маладз. *Наўлечка — цяпер, раней — навалка.* Рудня Чэрв. *Наўлечка чыстая. Сваю наўлечку прывязлі?* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Наўлечка чыстая.* Вялікія Баяры Шчуч., Беняконі Воран., Грыкені Вільн. *Наўлечкі куплялі, шкода было свайго палатна.* Старыя Трокі Трак. *Надзену наўлечку чыстую.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *nawlekać* 'надзяваць'.

НАЎМЫ'СНЯ, НАЎМЫ'СНЕ *прысл.* Наўмысна. *Сеялі наўмысня каноплі.* Цярэшкі Ваўк. *Такая апусклістая яблыня, наўмысня нехта абтрос.* Старыя Трокі Трак. *У пупшэ ткана наўмысна.* Пацаўшчына Дзятл.

НАЎПРАМУ'Ю *прысл.* Напрасткі. *Ідзіця наўпрамую — быстрэй будзіць.* Палік Барыс.

НАЎПРАСТА'К *прысл.* Тое ж, што і н а ў п р а м у́ ю. *Ідзі наўпрастак.* Жодзішкі Смарг.

НАЎПРАСТКЕ' *прысл.* Тое ж, што і н а ў п р а м у́ ю. *Наўпрастке пашоў.* Номікі Бабіц.

НАЎПРО'ЦІ, НАЎПРО'ЦЬ, НАЎПРО'ТІВ, НАЎПРЭ'ЦІ 1. *прыназ.* з *род.* Насупраць. *Магілкі новы наўпроці старых.* Малахоўцы Бар. *Яна наўпрэці нас жые.* Малі Астр. 2 *прысл.* Наперакор. *Глядзі, каб слова наўпроць ні сказалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Наўпротів сказал.* Горск Бяроз.

НАЎПЯРЭ'ДЗІ *прысл.* Спераду. *У савы очы наўпярэдзі.* Мсцібава Ваўк.

НАЎРЭ'Д *прысл.* Тое ж, што і н а ў п р о́ ц і 2. *Наўрэд жаніўся.* Буды В.-Дзв.

НАЎС *м.* Тое ж, што і н а́ ў з а 1. *Наўс завём, воск ложым, кап рой прыляцеў.* Быстрыца Астр.

НАЎСКАСЫ′ *прысл.* Тое ж, што і н а ў к а́ с. *Наўскасы вёрст дзесяць да тэй вёскі.* Саланое Віл. *Калотку клалі наўскасы: адзін канец на зямлі, а пад другі — патстаўлялі козлікі.* Мсцібава Ваўк. *Калотку клалі наўскасы* [на козлы]. Альхоўцы Лях.

НАЎСКРЫ′Ж *прысл.* Накрыж. *Наўскрыж ідут дарогі.* Лука Нараўк.

НАЎСЦЯ′Ж, НАЎСЦЯ′Ш *прысл.* Тое ж, што і н а с к р о́ з ь. *Чаго ты дзверы адчыніў наўсцяш?* Стральцы Гродз.

НАЎЦЁКІ, НАЎЦЕ′КІ *прысл.* Бягом, уцякаючы ад каго-н. *Каза дзікая наўцёкі, а ён ізноў за ей.* Дзесятнікі Валож. *Тая наўцекі ды ўбегла ў людзі* [у натоўп]. Кузьмічы Люб.

НАЎЦІКА′ЦЦА *зак. экспр.* Уцячы шмат разоў. *Мы за вайну наўцікаліся, набегаліся.* Валынцы В.-Дзв.

НАЎЦЯКАЧА′ *прысл.* Тое ж, што і н а ў ц ё к і. *Як даў драла, наўцякача.* Альхоўцы Лях.

НАЎЧО′НЫ *дзеепрым.* Выхаваны. *Мы ж былі так наўчоныя.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

НАЎЧЫ′ЦЕЛЬКА *гл.* НАВУЧЫ′ЦЕЛЬКА

НАЎЧЫ′ЦЦА *зак.* Навучыцца. *Я ўжо наўчылася, цяпер ні прасплю.* Дакудава Лід.

НАЎЧЫ′ЦЬ *зак.* Навучыць. *За шофера наўчылі.* Саланое Віл. *Як ноўчыш, так і гавора.* Лоск Валож.

НАЎЧЫ′ЦЯЛЬ *гл.* НАВУЧЫ′ЦЕЛЬ

НАЎШЧЭ′НТ *прысл.* Ушчэнт. *Паварываў загароду наўшчэнт.* Альхоўцы Лях.

НАФРЫЗАВА′ЦЬ *зак.* Завіць. *Трэба нафрызаваць валасэ.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *fryzować* 'рабіць прычоску, завіваць' <ням. *frisieren.*

НА′ФТА *ж.* Газа. *Нафты не было і так палілі* [лучынай]. Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *nafta* 'тж'.

НАХАДЗІ′ЦЦА *гл.* НАХО′ДЗІЦЦА

НАХАДЗІ′ЦЬ I *незак.* 1. Збірацца (быць). *Былі на сенажаці, а находзіць дош.* Солы Смарг. 2. Набліжацца. *Находзя жніво.* Солы Смарг.

НАХАДЗІ′ЦЬ II, НАХО′ДЗІЦЬ *незак.* Знаходзіць. *У школу хадзя дзеньгі нахадзілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Людзі находзілі дзенех.* Саланое Віл. *Як разбіралі зруйнаваныя дамы, у гаршках находзілі злота.* Руднікі Шальч.

НАХА′ЛАМ *прысл.* Нахабна, бесцырымонна. *Яна ўцякала, а ён хадзіў нахалам.* Солы Смарг. *Нахалам ня лезу да вас.* Альхоўцы Лях.

НАХА′ЛЬНЫ *прым.* Вялікі, моцны. *Як пашоў такі дошч нахальны. Дажджэ нахальныя.* Малахоўцы Бар.

НАХАПУ′ *прысл.* Наспех. *Ды, вядома, нахапу.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАХВАЛЯ′ЦЬ *незак.* Усхваляць. *Свадзёбныя песні нявесту нахваляюць.* Пелічава Лудз.

НАХВАТА′ЦЬ *зак.* Нахапаць. *Высупюць у карыта сеч бульбу, нявестка нахватаіць у хвартух і так крадучыся ад свякрыві карміла сваіх дзяцей.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *нахватать* 'тж'.

НАХІЛІ′ЦЦА *зак.* Нагнуцца. *Я нахілюся — і галава баліць.* Солы Смарг.

НАХІ′ЛЫ *прым.* Нахілены. *Нахілая дзерава.* Стральцы Гродз.

НАХЛАПНА′Я БА′ЛКА *ж. буд.* Апошняе суцэльнае бервяно, якое кладзецца над сточанымі бярвеннямі. *Нахлапныі балкі кладуць, а на іх мурлаты.* Лоск Валож.

НА′ХЛЕСТКІ *мн.* Падоўжныя бакавыя планкі, што насаджваюцца на капылы ў санях. *На капылы надзяваліся клямры, поверху шлі нахлесткі.* Пасіене Лудз.

НАХЛІСТА′ЦЦА *зак. экспр.* Напіцца гарэлкі. *Нахлістаўся ўжо, ідзець, шатаецца.* Валынцы В.-Дзв. *Ён так нахлістаўся, што шыбаў, чым папала.* Малі Астр.

НАХЛУСІ′ЦЬ *зак.* Салгаць. *Хоць вы ей нахлусеця.* Бакшты Іўеў.

НАХЛЯ′ПАЦЬ *зак. экспр.* Наліць. *Нахляпаў вады на падлогу.* Мсцібава Ваўк.

НАХЛЯ′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а х л і с т а́ ц ц а. *Калі ён нахляўся?* Мсцібава Ваўк.

НАХМУ′РЫЦЦА *зак. перан.* Зрабіцца пахмурным. *Нахмурылася, аш сцямнела.* Жылі Іўеў. *Як нахмурыцца, так прыпекая.* Альхоўцы Лях.

НАХМУРЭ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а х м у́ р ы ц ц а. *Дажджа німа, нахмурэя, вісіць, як у мяху. Нахмурэла, грыміць.* Рыбчына Віл.

НАХО′ДЗІЦЦА, НАХАДЗІ′ЦЦА *незак.* 1. Знаходзіцца. *Дзе вы находзіліся?* Саланое Віл. *Дзе ты находзісся?* Альхоўка Навагр. 2. Вырастаць. *У першу рату — другую пагоніш каровы, падбел цвіце жоўтым, а потым лістэ находзяцца.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Падняцца (пра тэмпературу). *У жаны находзіцца тэмпература.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Паяўляцца. *Только находзіцца маладзік.* Старыя Трокі Трак. 5. Утварацца. *Ад ячменнай мякіны курдзюк находзіцца ў кароў на языку.* Вузла Мядз. *Бурболкі на вадзе находзяцца.* Старыя Трокі Трак.

НАХО′ДЗІЦЬ *гл.* НАХАДЗІ′ЦЬ II

НАХО′ДНЫ *прым.* 1. Прыблудны. *Находная котка.* Рыбчына Віл. 2. Пазашлюбны. *Двоя дзетак у яе, алі находныя.* Саланое Віл.

НАХОЛО'ДАЦЬ *зак.* Моцна замерзнуць. *Рука нахолодала — пальцы боляць.* Хатынічы Ганц.

НАХО'ПАЦЦА *зак.* Нахапацца. *Па мурашках пойдуць куры, нахопаюцца за дзень.* Валеўка Навагр.

НАХО'ПВАЦЦА *незак.* Надыходзіць. *Зіма нахопваецца.* Хатынічы Ганц.

НАХРА'КАЦЬ *зак.* Напляваць. *Нахракаў, хракі, як плёваюць.* Жылі Іўеў.

НАХРА'МЛІВАЦЬ *незак.* Накульгваць. *Нага нахрамлівала.* Кудзялянцы Шальч.

НАЦАДЗІ'ЦЬ *зак.* Наліць (з крана). *Нацадзіць куфаль піва.* Вузла Мядз.

НАЦВІ'ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Падгаварыць. *Я яе п нацвічыла, кап прыехала.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *cwiczyć* 'навучаць, дрэсіраваць'.

НАЦЕ'ПЛІЦЬ *зак.* Напаліць. *Як хлеп падоймяцца, нацепляць печ і запякаюць хлеп.* Ракаўскія Швянч.

НАЦЕ'РЦІ, НАЦЁРЦІ, НАТЭ'РТЭ *зак.* 1. Пашкодзіць трэннем. *Нацёр нагу.* Чычалі Швянч. *Натэр ногу.* Дзмітравічы Кам. 2. Намазаць чым-н., расціраючы. *Нацёр рукі малісай.* Жылі Іўеў. *Бадзягай нацерла ногі.* Плябанцы Ашм. 3. Ачысціць (ад трасты). *Нацерла дзесяць павёсьмаў лёну.* Міратычы Карэл.

НАЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Нарадавацца. *Я не магу на цябе нацешыцца.* Малі Астр.

НАЦЁГАЦЬ *зак.* Нацягаць. *Нацёгала гразі, натаптала.* Мсцібава Ваўк.

НАЦЁПЛА *прысл.* Каб есці цёплым, не астуджаным. *Зварылі нацёпла, кіслі ўліў — гэта бурачкі.* Чуркі Ашм.

НАЦЁРТЫ *дзеепрым.* да *дзеяслова* н а ц ё р ц і. *Ён прыедзя, глядзіць — як перцам жонка нацёрта, а ў яе — жара.* Малі Астр.

НАЦІ'НА *ж.* Сцябло клубняплодных. *Націну бульбы вырвала.* Валынцы В.-Дзв. *Націна ў бульбі, у бураках.* Янова Рас. *Націна ў морквы.* Лука Нараўк. ∇ *Як націна* — вельмі тонкае. *Як націна, тоненькія бліны.* Новіны Нясв.

НАЦІНА'ЦЬ *незак.* Настойваць. *А бацька націнае, каб сын скончыў школу.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *nacinać* 'надрэзваць, наразаць'.

НАЦІ'НКА *ж. памянш.* да н а ц і н а. *Гаспадар паглядзеў і кажа: «Паеў маркоўку, паеш і націнку».* Старцавічы Слуц.

НАЦІ'НЯ *ж. бат.* Раска. *Націня качкам.* Магуны Паст.

НАЦІРА'ННЕ *н. мед.* Лякарства для расцірання. *Польскім націраннем націрала ногі.* Плябанцы Ашм.

НАЦІРА'ЦЬ I *незак.* Мазаць чым.-н., расціраючы. *Нагу*

*націрала і харашо.* Саланое Віл. *Польскім націраннем націрала ногі.* Плябанцы Ашм.

НАЦІРА'ЦЬ II *незак.* Змятаць з абмалочанага жыта пустыя каласы. *Мятлой націралі жыта.* Палік Барыс. *Націраць, націраць — і каласкі вылятуюць.* Глівін Барыс.

НАЦІРУШЫ'ЦЬ *зак.* Насмеціць. *Націрушылі ў хаці шумы.* Кураполле Паст.

НАЦІ'СКАЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а ц е́ р ц і 1. *Націскала крывавы мазоль.* Ёдлавічы Брасл.

НАЦІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць. *А гаспадар чорта ні падымя, толькі яго націснуў і за хвост круціць і глядзіць угору.* Паляцкішкі Воран. *Сыр націснуў камінем.* Быстрыца Астр. *Трэба націснуць, паціснуць.* Ністанішкі Смарг. *Трэба сыр націснуць.* Старыя Трокі Трак. 2. Пасадзіць пад што-н. (карыта, бочку). *Я іх* [курэй] *націснула і ў ваду мачала* [каб не квакталі]. Груздава Паст.

НАЦІ'ЦЬ *незак.* Уцягваць ніткі ў бёрда. ∇ *Не наці такім днём бэрда — ваўкі нападаюць.* Старыя Смільгіні Воран.

НАЦКАВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Часам прыдуць свіня ў гарот — сабакам нацкуеш.* Жылі Іўеў.

НАЦЫКОВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а ц к а в а́ ц ь. *Нацыковаў сабакой — чуць уцёк.* Хатынічы Ганц.

НАЦЭ'ЛІЦЬ *зак. перан.* Сабрацца. *Я нацэліў на грыбы.* Альхоўцы Лях.

НАЦЭ'ПКА *ж.* Нізка. *Нацэпку рыбы сушанай даў мне.* Глівін Барыс.

НАЦЭ'ПНІЦА *ж.* Памылка пры снаванні красён. *Нацэпніца — калі ў ніту возьмеш дзве кабылкі на 'дным ніту і зацягнеш ніткі асновы.* Дзяніскавічы Ганц. *Нацэпніцу зрабіла, накідаючы ў ніты.* Рудня Астравітая Чэрв.

НАЦЭ'ПУХА *ж.* Тое ж, што і н а ц э́ п н і ц а. *Нацэпуха — у ніту памылка, лішняе прадзенеш у кабылку.* Мала́хоўцы Бар.

НАЦІОЦЮ'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і н а т а п ы́ р ы ц ц а. *Індык нацюцюрыўся.* Пацаўшчына Дзятл.

НАЦЯ'ВІЧ *м.* Прылада, пры дапамозе якой нацягваюць абручы на бочку. *Бацька судзя рабіў, бяз нацявіча абруч не надзеня.* Стральцы Гродз.

НАЦЯ'ГАВАЦЦА *незак.* Напінацца. *Лытка баліць, нацягуяцца жылы.* Малі Астр.

НАЦЯ'ГАВАЦЬ *незак.* 1. Навіваць. *Нацягавалі на навоі* [пражу, палатно]. Кухты Віл. 2. Плесці. *Нацягаваіць павуціну павук.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Павук павучыння нацягаваіць.* Мярэцкія Глыб. 3. Замацоўваць. *На капылы ў санях нацягаваюць вязы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАЦЯ'ГАВІЧ *м.* Тое ж, што і н а ц я́ в і ч. *Нацягавіч — кап абруч надзець на бочку.* Альхоўцы Лях.

НАЦЯГА'ЦЬ *незак.* Уздзяваць. *Нацягаюць шыну* [на кола]. Збляны Лід.

НАЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Настойвацца. *Крапіву заварваюць, нацягуя — і п'юць.* Солы Смарг.

НАЦЯ'ГНЕНЫ *дзеепрым.* 1. Абшыты зверху. *Нацягнены кажух.* Глівін Барыс. 2. Зацягнуты чым-н. *Вока нацягнена.* Малахоўцы Бар.

НАЦЯ'ГУВАЦЬ *незак.* Напінаць. *Гэту вітку нацягуваю туга, каб прыціснуць салому.* Гемзы Шальч.

НАЦЯНЁК, НАЦЯНЬКІ' *прысл.* Кароткім шляхам. *Прабехчы нацянёк нічога, тут прас поле сцяжынка ёсць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Яна прышла рана нацянькі да нас.* Малі Астр. *Ісці нацянькі.* Рыбчына Віл. *Нацянькі ішоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не ідзі дальняй дарогай, а лепш нацянькі, бліжэй будзе.* Глівін Барыс. ▽ *Як пойдзеш нацянькі, будзеш хадзіць тры дзянькі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

НАЦЯНУ'ЦЬ *зак.* 1. Уздзець. *Без каляскі не нацянеш абада.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Наклікаць. *Сам бяду нацянуць можыш.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАЦЯРУШЫ'ЦЦА *зак.* Нацерушыцца. *Еслі нацярушыцца на вялікдзень, то не падмятаюць, каб не дзюбалі куры гародніну.* Малі Астр.

НАЧАВА'ЦЬ, НАЧАВА'ЦІ *зак.* Начаваць. *Дзе ш яна будзіць пры ім начаваць?* Груздава Паст. *Куры на дварэ начуюць.* Паляцкішкі Воран. *У мяне тата начаваў.* Кухты Віл. *Гдзе ты, каток, начуіш?* Гемзы Шальч. *Яны ў нас будуць начаваці.* Парэчча Гродз. ◇ *Не начаваць у бядзе* — не жыць у горы. *У бядзе ён ня начаваў.* Магуны Паст.

НАЧАВІ'ТІ *зак.* 1. Пацерці. *Ягоды начавілі.* Азарычы Пін. 2. Намуляць. *Ногу начавілі.* Азарычы Пін.

НА'ЧАЙ, НА'ЧЭЙ *прысл.* Іначай. *Начай гаворым.* Драглеўцы Ашм. *Начай жыла.* Граўжышкі Ашм. *Жылі начай, і святам рабілі.* Гальшаны Ашм. *Два дзярэўні, і саўсём начай гаворацъ.* Быстрыца Астр. *За Вяллёй начай гаворацъ.* Ністанішкі Смарг. *Усё начай у іх.* Крэва Смарг. *Там начай гаворацъ.* Ёдлавічы Брасл. *У нас так, а можа дзе начай.* Парэчча Гродз. *Цяпер начай жывуць.* Навасёлкі Свісл. *Сэплі са стрэх звісаюць, начай называюць цыплікі.* Галубы Маст. *Як жа начай скажаш?* Лоск Валож. *Начай скажуць.* Альхоўка Навагр. *Начай гаворыць.* Альхоўцы Лях. *Яны, мусіць, начэй былі!* Міцкавічы Смарг.

НАЧА'ЛЬНІК *м.* Кіраўнік. *Я ніколі ні хацела п быць начальнікам, найлепей прасцяком.* Груздава Паст. *Начальнік ёсць?* Ністанішкі Смарг. *Усё хваліцца, што яе сын вялікі начальнік на жалезнай дарозе ў Вільні. І нявестка нейкі начальнік.* Завельцы Астр.

НАЧА'НЫ *дзеепрым.* Пачаты. *Тут начана бульба.* Асавец Віл.

НАЧАПА'ЦЬ *зак.* Нанізаць. *Начапала вясла грыбоў.* Ухвала Круп. *Начапаюць, начапаюць скруткаў і павесяць.* Багушэвічы Бярэз. *Кляновыя лісця на нітку начапая — маток лісця.* Рагулішкі Даўг.

НАЧАСЛЯ'ЦЬ *незак.* Налічаць (грошы на рахунак). *А святам хто робіць, начасляюць падвуйне.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *начислять* 'тж'.

НАЧА'ТАК *м.* Пачатак. *Хоць бы начатак песні ўспомніць!* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчэ начатак таго, як будзе жыта выплываць.* Пацаўшчына Дзятл. *Начатак зімы, во, снех падая.* Малахоўцы Бар.

НАЧА'ЦЦА *зак.* Пачацца. *Як вайна началася, то хварэлі на коклюш.* Крынкі Крын.; *парайн.* руск. *начаться* 'тж'.

НАЧА'ЦЬ *зак.* Пачаць. *Начала, то і канчай.* Навасёлкі Свісл. *Мазоль ноччу як начнець торгаць!* Магуны Паст. *Началі плугамі араць.* Відаўцішкі Вільн. *Начаў мне зуп балець.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *начать* 'тж'.

НАЧАЧУ'РЫНЫ *дзеепрым.* Натапыраны (пра пер'е). *Стаіць курыца, начачурына, як не пагляджу, то яна стаіць.* Мсцібава Ваўк.

НАЧАЧУ'РЫЦЬ *зак.* Натапырыць. *Начачурыў шэрсць сабака, начачурыла шэрсць свіня.* Мсцібава Ваўк.

НАЧКОВА'ТЭ *зак.* Тое ж, што і н а ц к а в á ц ь. *Начкую сабаку.* Дзмітравічы Кам.

НАЧЛЕ'Г, НАЧЛЕ'Х *м.* Пасьба коней ноччу. *Найдуць на начлезе міны, зберуцца — і ў агонь кінуць, і двух мальцоў забіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На начлех збіраіцца чалавек дзесяць, і кажды з канём.* Ахрэмаўцы Брасл. *Увечары на начлех ездзілі, воўк за жарабём у вёску прыбех.* Саланое Віл. *Коні вадзілі на начлех.* Паляцкішкі Воран.

НАЧЛЕ'ГАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і н а ч а в á ц ь. *Начлегаваць дзе будзяця?* Грыцавічы Свісл.

НАЧЛЕ'ЖКІ, НАЧЛЕ'ШКІ *мн.* Вячоркі. *Саберуцца на начлешкі ў адну хату прасці, вязаць — я ня йду.* Азаркі-Пудавінка Мядз.

НАЧЛЕ'ЖНІК, НАЧЛЕ'ЗНІК *м.* Той, хто пасе коней ноччу. *Як на грэх, прышлося аднаму жывёлы пільнаваць, а начлежнікаў другіх нідзе і вокам ні відаць.* Валодзькі Маладз. *Ночы начлезнікі даглідалі коні, а днем акружны — адзін глаўны ад усей дзярэўні.* Кураполле Паст.

НАЧМУРЫ'ЦЬ *зак.* Заганяць. *Пастухе начмураць, пагоняць моцно карову.* Міратычы Карэл.

НАЧНІ'ЦЫ *мн.* Паводле павер'я, злыя духі, якія ў начны час турбуюць дзіця. *Начніцы напалі, калі дзіця ня спіць. Начніцы патпадаюць малому дзіцяці.* Дакудава Лід.

НАЧНЫ′, НО′ЧНЫ *прым.* 1. Прызначаны для начнога часу. *Зацягнуць трэба фіранку, ужо цёмна, гэта начная фіранька. Памыя ночную кашулю.* Солы Смарг. *Ночныя фіранькі белыя, знізу* [акна] *яны.* Старыя Трокі Трак. 2. Які дзейнічае ноччу. *Начная кукушка* [жонка] *як накукуець, так і мейсца ў хаце не будзець.* Кураполле Паст. 3. Які вешаюць каля ложка. *Яны багата жывуць: у іх вісяць начныя каўры і ляжаць нажныя.* Крэва Смарг.

НАЧО′ВАЧКА *ж.*, НАЧО′ВАЧКІ *мн. памянш.* да н а ч о ў к а, н а ч о ў к і. *Начовачка вузенькая і поляць* [палаюць]. Кураполле Паст. *Вазьмі малую начовачку. А былі начовачкі маленькія.* Крэва Смарг. *Начовачка новая.* Старыя Смільгіні Воран. *Начовачкай палолі; пыл ці мякіначка, якая ляціць.* Ракаўскія Швянч. *Поліш* [палаеш] *у начовачках, пыль ляціць вон.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Начовачкі, апалушкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Поліць, поліць і страхнёт начовачкі.* Пасіене Лудз. *Дзве ўжэ папэнкалі начовачкі.* Старыя Трокі Трак.

НАЧО′Й *гл.* НОЧ

НАЧО′ЎКА, НАЧО′ВКА *ж.*, НАЧО′ЎКІ *мн.* Начоўкі. *Аснову збярэш і ў начоўку зальеш варам. Былі дзеравянныя начоўкі.* Солы Смарг. *Начоўку цяслой робюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аджымаям у начоўцы, выкручваям.* Парэчча Гродз. *Бялізну мочым у начоўке.* Старыя Смільгіні Воран. *Бывала, у начоўцы мыліся.* Лоск Валож. *Мая начоўка чыстая, кала шафы стаіць.* Жылі Іўеў. *Начоўка — бяльё мыць.* Гемзы Шальч. *Там пастаўлена начоўка ці мядніца і чурком ліецца.* Старыя Трокі Трак. *Начовку нарежу мёду.* Прэдэ Даўг. *Начоўкі былі, мылі бялізну.* Ёдлавічы Брасл. *Ліповыя начоўкі.* Быстрыца Астр. *Начоўкамі мёд бралі; мёд у начоўкі дзяржалі.* Саланое Віл. *Начоўкі дзеравяныя былі, з дзерава, напалавіну разрублена, далатамі даўбалі.* Рагулішкі Даўг.

НАЧУПЫ′РЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Начупырылась кошка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НА′ЧШЫ *гл.* НА′КШЫ

НАЧЫ′НКО *н.* Пасудзіна. *Клалі ў начынка і ў печ ставілі пірашкі.* Гемзы Шальч.

НАЧЫ′ННЯ, НАЧЫ′НЕ, НАЧЫНЁ, НАЧЭНЁ *н.* 1. Увесь посуд у хаце. *Начыння — талеркі, уся пасуда.* Солы Смарг. *Увесь посуд разам—начыння.* Жодзішкі Смарг. *І начыне памыю.* Беняконі Воран. *Ужо дала свіням, начыня абмыла.* Гемзы Шальч. 2. Інструмент. *Дай мне начынё, ды я зраблю дзверы.* Старое Сяло Зэльв. *Начэнё сталярскае. У бальніцы шпрыцы, нажы—начэнё.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *naczynia* 'посуд'.

НАЧЫНЯ′ЦЬ *незак.* Фаршыраваць. *Ціпер камы с картошкі фаршамі начыняюць.* Валынцы В.-Дзв. *Начынялі рыбу.* Вецярэвічы Пух.

НАЧЫ′СЛІЦЬ, НАЧЫ′ШЛІЦЬ *зак.* Налічыць. *Яму не начысліў плату.* Груздава Паст. *Падаткі начышлілі.* Быстрыца Астр.; *парайн.* руск. *начислить* ’тж’.

НАЧЫ′СТА *прысл.* Вельмі чыста. *Жалезны грэбенчык начыста часаў кудзелю.* Гальшаны Ашм.

НАЧЫСТУ′Ю *прысл.* Ушчэнт. *Упіўся начыстую.* Пацаўшчына Дзятл.

НА′ЧЭЙ *гл.* НА′ЧАЙ

НАЧЭ′НЯ *н.* Начынне, рэчы. *Начэня забраў сваё — і дадому.* Збляны Лід.

НАЧЭ′ПНІЦА *ж.* Тое ж, што і н а ц э́ п н і ц а. *Укінала начэпніцу.* Мярэцкія Глыб. *Начэпніца е ў кроснах, калі на дном ніту возьмеш две кабылкі падрат.* Дзяніскавічы Ганц.

НАЧЭ′РПАЦЬ *зак.* Набраць. *Пайду начэрпаю вады.* Ліпнікі Вільн.

НАЧЭ′ХРАЦЬ *зак.* Начасаць (воўны). *Яшчэ начэхрала воўны.* Ракаўскія Швянч.

НАШАКАЛІНЯ′ЦЬ *зак.* Насмеціць. *Ну і нашакалiняла ў хаці!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *šakalŷs* ’трэска’.

НАШАКАЛЯ′ЦЬ *зак.* Нашчапаць. *Нашакалёў на растопку.* Едлавічы Брасл.; *гл.* н а ш а к а л і н я́ ц ь.

НАШАЛЭ′НДЗІЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Нашалэндзіў і пашоў.* Дакудава Лід.

НАШАМО′РЫЦЦА *зак.* Нахмарыцца. *Я віджу, што нашаморылася, трэба шáтацца.* Ністанішкі Смарг.

НАШАПЕ′РЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Пасхла трава — нашаперылася.* Кузьмічы Люб.

НАШАРАВА′ЦЬ *зак. перан.* Тое ж, што і н а ц е́ р ц і 2. *Наноч нашарую — ні так сярэдзіна баліць.* Дакудава Лід.

НАША′РПАЦЬ *зак.* Наскубці. *Сваіх пярэй нашарпала і далажыла пуху.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *naszarpać* ’нашчыкаць, надзёргаць’.

НАШАТУ′РАНЫ, НАШАТЫ′РАНЫ *дзеепрым.* 1. Натапыраны. ∇ *Наклалі капу, як нашатурана.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Насцярожаны. *Конь нашатыраны, вушы наставіць, чуя, як воўк патходзіць.* Багушэвічы Бярэз.

НАШАТУ′РЫЦЦА, НАШАТЫ′РЫЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і н а ш а п е́ р ы ц ц а. *Сена высахла, аш нашатурылася.* Пацаўшчына Дзятл. *Сено пасхло і нашатырылосё, не ўлягаецца.* Альхоўцы Лях. 2. *перан.* Падняць вушы і напружыцца (пра каня). *Нашатурыўся ён* [конь] *і стаіць.* Дакудава Лід. 3. Ашчацініцца. *Сабака нашатырыўся.* Жыдзевічы Іўеў. 4. *перан.* Прыбрацца. *Я ўжо нашатырылася.* Бакшты Іўеў.

НАШАТЫ′РВАЦЦА *незак.* Натапырвацца. *Сена нашатырваецца, як сохне.* Вецярэвічы Пух.

НАША'ЎКАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Калі ты нашаўкаішся?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *šáukštas* 'лыжка'.

НАШКЛЁНЫ *дзеепрым.* Зашклёны. *Веранда не нашклёная была.* Ёдлавічы Брасл.

НАШКЛІ'ЦЬ *зак.* Зашкліць. *Нада вокны нашкліць.* Мярэцкія Глыб. *Трэба нашкліць шыбіну.* Магуны Паст. *Тады нашклілі вокны.* Ракаўскія Швянч.

НАШЛЮ'ХАЦЦА *гл.* НАЖЛЮ'ХАЦЦА

НАШЛЯ'КАЦЬ *зак.* Нанесці. *Нашлякаў гразі на падлогу.* Мсцібава Ваўк.

НАШЛЯ'ПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і нашля́каць. *Нашляпаў цалу хату брудам.* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *šlèpt* 'шлёп'.

НАШМАРАВА'ЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Намазаць. *Нашмаравала маслам хлеб.* Пацаўшчына Дзятл. *Нашмараваў маслам.* Жылі Іўеў. 2. Тое ж, што і нацёрці 2. *Барсука тлустасцю нашмаруя рукі — не холадна.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *nasmarować* 'намазаць'.

НАШМАРО'ВАНЫ *дзеепрым. экспр.* Намазаны. *Хлеп маслам нашмарованы.* Мсцібава Ваўк.

НАШМОРОВА'ЦЦА *зак. экспр.* Намазацца чым-н. *Нашморуюса, а рука тэ боліць, шчо і не заснуць.* Хатынічы Ганц.

НАШМУ'ЛІЦЬ, НАШМУЛЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і нацёрці 1. *Нашмуліў мазоль, абуўся дрэнна.* Бакшты Іўеў. *Нашмуляў нагу.* Чычалі Швянч.

НА'ШО *займ. н.* Наша. *Нашо дзіця.* Галубы Маст.

НАШО'РЫЦЬ *зак.* Насмеціць. *Нашорылі, націрушылі ў хаці шумы.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *насорить* 'тж'.

НАШО'ЎКА *ж.*, НАШО'ЎКІ, НАШО'ЛКІ *мн.* Ношка. *Баляць ад нашоўкі націсненыя плячакі. Цягая нашоўкі.* Альхоўка Навагр. *Рукі баляць нашолкі цягаючы.* Бакшты Іўеў.

НАШТО' *прысл.* Навошта. *Нашто вы пойдзяця?* Магуны Паст. *Ну, нашто табе гэта трава?* Плябанцы Ашм. *Казала, не трэба, нашто свет уключаць.* Солы Смарг. *Ай, нашто рабіць!* Саланое Віл. *Нашто мне тыя грошы?* Кухты Віл. *Нашто скуру спаліў?* Талейкі Швянч. *Нашто ён нам?* Пасіене Лудз. *Нашто прынясла салому?* Ёдлавічы Брасл.

НАШУ'ЛАЧКА *ж. памянш.* да нашу́лка. *Нашулачкаю не наносіш сена.* Альхоўка Навагр.

НАШУ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і нашо́ўка. *Прынесла дзве нашулкі сена.* Бакшты Іўеў. *У пасцілку сена набярэш — гэта нашулка.* Вязынка Маладз.

НАШУ'ЛКІ *мн.* 1. Тое ж, што і насілкі 2. *Вынеслі яго на нашулках.* Граўжышкі Ашм. 2. Тое ж, што і насілкі 3. *Як сена балотлівая, носім нашулкамі.* Крэва Смарг.

НА'ШЧА, НА'ШЧО *прысл.* Тое ж, што і н а т а ш ч а́ к. *Нашча выпі вады.* Стральцы Гродз. *Нашча яечка з'еш.* Кураполле Паст. *Нашча робіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Паехала нашчо.* Валеўка Навагр.

НАШЧАКО'М *прысл.* Тое ж, што і н а т а ш ч а́ к. *Дзень няеўшы, усё нашчаком.* Пацаўшчына Дзятл.

НАШЧАПА'ЦЬ, НАШЧЭПА'ЦЬ *зак.* 1. Нарыхтаваць шчапаючы. *Трэ нашчапаць дразачак.* Стральцы Гродз. *Нашчапаў лучыны.* Магуны Паст., Гемзы Шальч. *Нашчапай лучынкаў!* Ракаўскія Швянч. *Ножэм цёскі нашчэпаў.* Хатынічы Ганц. 2. Насячы. *Нашчапай дроў.* Магуны Паст. 3. Накрышыць. *Я бульбы нашчапала.* Старыя Смільгіні Воран.

НАШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Наабломвацца. *Лідакі выкідаюць, як пролупку прасікаюць, туды лёду нашчэпіцца.* Кураполле Паст.

НАШЧЫКА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і н а ш а́ р п а ц ь. *Нада пер'е нашчыкаць.* Малахоўцы Бар.

НАШЧЫКІНЯ'ЦЬ *зак.* Паказытаць. *Вот ён яе нашчыкіняў.* Жылі Іўеў.

НАШЧЭ'НТ *прысл.* Ушчэнт. *За дзве нядзелі схудалі нашчэнт.* Ахрэмаўцы Брасл.

НАШЫБА'ЦЬ *зак.* Нагаварыць (хутка і многа). *Нашыбала я столькі слоў!* Кураполле Паст.

НАШЫ'БНУЦЬ *зак. экспр.* Спасцігнуць. *Жыла, жыла і нашыбла старась.* Валынцы В.-Дзв.

НАШЫПУЛІ'ЦЬ, НАШЫПУЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Накрышыць. *Нашыпуліў дробна.* Чычалі Швянч. *Мяса нашыпуляў.* Граўжышкі Ашм. 2. Дробна насячы. *Нашто нашыпуляў дроў?* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *šipulŷs* 'трэска'.

НАШЫ'ШКАЦЦА *зак. экспр.* Набіцца. *Нашышкаліcь мухі ў хату.* Новіны Нясв. *Столькі людзей нашышкаецца ў аўтобус — не прадыхнеш.* Мачаск Бярэз.

НАШЭ'РСЦІЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Нашэрсціўся сабака і стаў брахаць. Нашэрсцілася свіня на сабаку.* Вузла Мядз.

НАЮ'ДЗІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Наюдзіў чалавека і пашоў.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *sujùdinti* 'тж'.

НАЯДА'ЦЦА *незак.* Наталяць голад. *Каровы наядаюцца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Наядайся, яешня смашна.* Альхоўцы Лях.

НАЯ'ДРЫЦЦА *зак.* Набухнуць. *Наядрыліся пупушкі* [на яблыні], *скора будуць распускацца.* Магуны Паст.

НАЯЖДЖО'МЫ *прым.* Наезджы. *Многа наяжджомых было.* Граўжышкі Ашм. *Наяжджомыя больш у нас.* Гальшаны Ашм.

НАЯЗНЫ' *прым.* Тое ж, што і н а я ж д ж о́ м ы. *Наязны, прыяжджалы, не тутэйшы.* Гемзы Шальч.

НЕ, НІ, НЭ, НЫ *часц.* 1. Надае слову адмоўнае значэнне. *Яна не вышэй была сына.* Саланое Віл. *Не доіцца кароўка. Не было нічога есці пры немцах. Так было — есці не было чаго.* Грыкені Вільн. *Я захварэла, мне не да гароду. Не нясець.* Рагулішкі Даўг. *Каждая баба для мужыка ні враг.* Ахрэмаўцы Брасл. *Коло Рожаны гаворацъ нэ по-нашэму.* Смаляніца Пруж. *Нас ны взяв.* Дзмітравічы Кам. 2. Пры адмоўным адказе на пытанне. *Не, німа.* Рыбчына Віл. 3. Пры проціпастаўленні. *Біч, а не — кнут — тое самая.* Быстрыца Астр. 4. У складзе словазлучэнняў, якія з'яўляюцца складанымі злучнікамі: *не то што, не так-то. Яна не то што крэпка красавіца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крушыны не так то шмат.* Грыкені Вільн.

НЕАБХО'ЛЫ, НЕАПХО'ЛЫ *прым.* Які не дае ўсходаў (пра зерне). *Зярно неапхолая. Як прапускаюць зярно прас сушылку, зярно было неапхолая, бо перасушаць. Як згарыцца зярно, як ссыпаюць зярно ў кучу,— тожа неапхолая.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕАДВА'ЖНЫ *прым.* Нясмелы. *Стыдлівы, неадважны хлопяц.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕАДНАКО'ВА *прысл.* Неаднолькава. *Неаднакова гаворыш.* Паляцкішкі Воран.

НЕАДНАКО'ЛЫ *прым.* Неаднолькавы. *Усякія, усякія манеты, неаднаколыя.* Ухвала Круп.

НЕАЖЫ'ДАНАСЦЬ *ж.* Нечаканасць. *Паскудны сон відзіла, будзіць неажыданасць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *неожиданность* 'тж'.

НЕАКУРА'ТНЫ *прым.* 1. Неахайны. *Неакуратную пасцель называлі лаўжо.* Вузла Мядз. 2. Нязграбны. *Брат быў неакуратны трохі.* Збляны Лід.

НЕАКУРА'ТНЯ *прысл.* Няправільна. *Неакуратня гаворыць.* Каўняны Гродз.

НЕАПХО'ЛЫ *гл.* НЕАБХО'ЛЫ

НЕАХА'ЙНЫ *прым.* Неакуратны. *Неахайны, адзежу не шануя.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕАЧО'РКЛІВА *прысл.* Невыразна. *У газэце бывая неачорклівa, не разбярэш буквы.* Гемзы Шальч.

НЕБАЖАНЯ'ТА, НЯБАЖАНЯ'ТА *мн.* Пляменнікі. *Прыехалі даведацца мяне небажанята мае.* Кузьмічы Люб. *Небажанята — майго брата дзеці.* Тухавічы Лях.; *гл.* н я б о́ г а.

НЕ'БАЛАЗЯ *прысл.* Нядобра. *Тады яму небалазя.* Рыбчына Віл.

НЕБАЛЬШЫ'Й *прым.* Невялікі. *Паставяць кроў у небальшым кацялку.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *небольшой* 'тж'.

НЕБАЛЬШЭ'НЬКІ *прым. памянш.* Невялічкі. *Ен небальшэнькі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Верабей небальшэнькі.* Пасіене Лудз.

НЕБАРА'КА, НЯБАРА'КА *м.* і *ж.* Няшчасны чалавек.

*Пчала як укусіць — небарака памірая. Ды ён жа, небарака, малады і памёр.* Вецярэвічы Пух. *Небарака — бедны, гарутны чалавек.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *nieborak* 'бедалага'.

НЕБАРА'ЧКА *м.* і *ж. памянш.* да н е б а р á к а. *Небарачка, яшчэ малады шафёр.* Рудня Астравітая Чэрв.

НЕБАРАЧО'К *м. памянш.* да н е б а р á к а. *Чым ён будзя плываць, небарачок.* Паляцкішкі Воран.

НЕБЕ'СКІ *гл.* НЯБЕ'СКІ

НЕБОЖА'ТА *мн.* Тое ж, што і н е б а ж а н я́ т а. *Небож, як много — то небожата.* Азарычы Пін.

НЕБРАКАЎЛІ'ВЫ *прым.* Непераборлівы. *Ешкі, небракаўлівы да яды.* Ракаўскія Швянч.

НЕБЫВА'ЛЫ *прым.* Незвычайны. *Небывалы выпадак: каршун пабіў вакно і ўляцеў у хату.* Гемзы Шальч.

НЕБЫ'Т *м.* Смерць. *Табе небыт будзя! І галаву атсёк, і скрыгіча.* Жылі Іўеў.

НЕ'ВАД, НЕ'ВАТ *м.* Невад. *Да невада хадзілі не з голымі рукамі* [бралі с сабой посуд для рыбы]. *Там невад не ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Неват — бальшая сетка.* Рыбчына Віл. *Есць неват — цягнуць: сетка без дзеравянай часці, патсподам грус, а зверху плывуны з дрэва вычосываюцца.* Саланое Віл. *Невадам лавілі: жэрткі простыя, па беразе ракі ідзець.* Старыя Смільгіні Воран. *Невадам трэба лавіць, кап тры чалавека былі.* Альхоўка Навагр. *Сетка е і неват вялікі.* Альхоўцы Лях. *Невадам лавілі рыбу; яны мелі невад.* Швэды Вільн. *Невадам, сецямі лавілі рыбу.* Істра Лудз. ∇ *Перад невадам рыб не ловяць.* Мсцібава Ваўк.

НЕВАРО'ЎНЫ *прым.* Неасцярожны. *Косця наш неваройны.* Ёдлавічы Брасл.

НЕВЕЛІ'КІ *прым.* Невялікі (па ўзросту). *Я невелікая была.* Кураполле Паст.

НЕВЕ'ЛЬКІ *гл.* НЯВЕ'ЛЬКІ

НЕВЕ'ЛЬЧАНЬКІ, НЕВЕ'ЛЬЧАНКІ *прым. памянш.* Невялічкі. *Неба грановата, хмаркі невельчанькія.* Кіралі Шчуч. *Невельчанка кабета.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *niewielki* 'невялікі'.

НЕВЕСНЫ' *гл.* НЯВІ'СНЫ

НЕ'ВЕЦЬ *прысл.* Невядома. У выразе: *Невець колько —* безліч, шмат, процьма. *Да Клімоўкі зайшоўшы, ляжыць каштаноў невець колько.* Номікі Бабіц.

НЕВЕ'ЯНЫ *прым.* Нявеяны. *Невеяны ячмень.* Альхоўцы Лях.

НЕВІ'СНЫ *гл.* НЯВІ'СНЫ

НЕВЫГО'ДА *ж.* Адсутнасць выгоды. *Ей невыгода — невыгодная лета для бульбы.* Кураполле Паст. ∇ *Не так шко-*

*да, как невыгода.* Кіралі Шчуч. *Не такое шкоды, як невыгоды* [грэбень згубіла]. Пацаўшчына Дзятл.

НЕВЫНАСІ′МЫ *прым.* Нясцерпны. *Невынасімы боль быў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *невыносимый* 'тж'.

НЕВЫРА′ЗНЫ *прым.* Нядобры (пра пагоду). *Пагода невыразная: слата, дошч.* Малі Астр.

НЕВЯДО′МА *безас.* у знач. *вык.* Невядома. *Невядома, хто пераносіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕВЯЛІ′КІ, НІВЯЛІ′КІ *прым.* Невялікі. *Нівялікая гора.* Мярэцкія Глыб. *Невялікі, нізкі будынак, невялікая хата.* Гемзы Шальч.

НЕГАДЗІ′МЫ *прым.* Непрыгожы. *Негадзіма, ніхто замуж не бярэ.* Мачаск Бярэз.

НЕГАДЗЯ′ВЫ, НІГАДЗЯ′ВЫ *прым.* Паганы. *Негадзявы чалавек: яна набрэша, яна і фігу яму дась. Яны такой прыроды — бацька негадзявы. Нігадзявы чалавек быў. Нігадзявая баба.* Гемзы Шальч.

НЕГАДЗЯ′ШЧЫ *прым.* 1. Тое ж, што і н е г а д з я́ в ы. *Негадзяшчы ён чалавек.* Парэчча Гродз. 2. Непрыгодны. *Негадзяшчая сцякло выкінуць, я нагу прабіла, сколькі я панасілася.* Вецярэвічы Пух.

НЕ′ГДЗЕ, НЕ′ГДЗЯ *прысл.* Недзе. *Негдзе перайсці.* Чычалі Швянч. *Дзявацца негдзя.* Багушэвічы Бярэз.; *параўн.* руск. *негде* 'тж'.

НЕ′ҐЕЛДА, НЕ′ҐАЛДА *м.* і *ж.* 1. Той, хто няўдалы. *Неґелда — такі няўдалы чалавек. Неґелда ты!* Малі Астр. *Неґалда такі гэта піскля. І на чалавека скажуць неґалда.* Саланое Віл. *Усё ў цябе не так, во, неґалда.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Неахайны чалавек. *Неґалда — гэта ніраха.* Саланое Віл. *Неґалда, не можа акуратна зрабіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Неґелда ты неўдалы: хоць што ты там рабіў.* Гемзы Шальч.

НЕГО′ДА *гл.* НЯГО′ДА

НЕДАБО′ЙКІ *мн. жарт.* Старыя хворыя людзі. *У велькуй палаце сабралі ўсіх дрыглячоў, недабойкаў.* Пацаўшчына Дзятл.

НЕДАБО′РНЫ *прым.* Пераборлівы. *Недаборны бывае чалавек у ядзе, нееткі.* Мсцібава Ваўк.

НЕДАБРЫ′ЦЦА, НІДАБРЫ′ЦЦА *незак. безас.* Нездаровіцца. *Недабрыцца мне.* Дакудава Лід. *Недабрыцца мне, маці.* Вецярэвічы Пух. *Вадзіць, нідабрыцца, нешта пашкодзіла.* Рудня Астравітая Чэрв.

НЕДАВІ′ДЗІЦЬ *незак.* Недабачваць. *Мой дзет недавідзіў.* Саланое Віл.

НЕДАГА′РАК *м.* Галавешка. *Галавешка, або недагарак.* Міратычы Карэл.

НЕДАГЛЁТ *м.* Недагляд. Саланое Віл.

НЕДА́ГРЫ'ЗАК *м.* Агрызак. *Чаму валяюцца тут недагрыскі, чаму не даедаеця!* Мсцібава Ваўк.

НЕДАЕ'ДАК, НЭДОІ'ЕДОК *м.* Аб'едкі. *Гэто ўжо раўно — агрызкі, ці недаедак.* Баброўнікі Гарад. *Куонь почті всё жжэр, одны нэдоіеткі осталісе.* Курашэва Чыж.

НЕДАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Неперабарлівы. *Такі недаежлівы, не перабірая, усё есць.* Малахоўцы Бар.

НЕДАЛЁКА, НЕДАЛЕ'КО, НІДАЛЁКА *прысл.* Блізка. *Недалёка возера лес бальшы.* Старыя Смільгіні Воран. *Жыве надалёка іх.* Жылі Іўеў. *Недалёка вёскі жывуць.* Альхоўка Навагр. *Недалёка дарогі агарадамі завуць.* Альхоўцы Лях. *Недалёка вечар.* Гемзы Шальч. *Жыве ён надалеко.* Любішчыцы Івац. *Тут недалеко, дойдзеш, малады чалавек.* Грыкені Вільн.

НЕДАЛУ'ГАНЬКІ *прым. памянш.* Няўдалы. *У суседа конь недалуганькі быў — з'елі ваўкі.* Саланое Віл.

НЕДАЛУ'ГІ, НЕДОЛУ'ГІ, НІДАЛУ'ГІ *прым.* Няўклюдны. *Недалугі — вродзі хворы, няўклюжы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Недолугі мэй хлопэц — всэ хворэе.* Азарычы Пін. *Лунаваты чалавек — плахі, нідалугі, ходзіц і спіц. Чалавек плахі, нідалугі, нічога не вартуе.* Парэчча Гродз. *Стары недалугі, старая нідалугая баба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Парасёначак недалугі.* Валынцы В.-Дзв. *Нідалугая дзеўка, ніякі чалавек, ніякая, ні да чаго нягодная.* Рыбчына Віл.

НЕДАЛЭ'НГА, НІДАЛЭ'НГА *м.* і *ж.* Нязграбны чалавек. *Недалэнґа ідзе.* Каўняны Гродз. *Хто не спраўляецца ў рабоце — капач, недалэнґа скажуць.* Мсцібава Ваўк. *Нідалэнґа — ні да чаго ніспасобны.* Кураполле Паст. *Я сама ўжэ недалэнґа: рукі баляць, зубоў і вушоў не маю.* Парэчча Гродз. *Ах ты недалэнґа, апікула ты!* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *niedołęga* 'расцяпа, надарэка'.

НЕДАЛЭ'НГІ *прым.* Няякасны (пра зерне). *Мёртвае, недалэнґае зярно, не далеціць далёка.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* н е д а л э́ н ґ а.

НЕДАМАГА'ЦЬ, НЭДОМАГА'ТІ *незак.* Адчуваць недамаганне. *Я цэлы дзень недамагаў.* Гемзы Шальч. *Я першая лыгну вады, бо недамагаю.* Рагулішкі Даўг. *Ужэ от тыжня штось на руку нэдомагаю. Гапка ўжэ од двох ліет нэдомагае.* Курашэва Чыж.

НЕДАПА'Л *м.* Тое, што недастаткова апрацавана агнём. *Пан быў у Забеліне, рабіў цэглу і не паліў, недапал, сыроўца.* Грыкені Вільн.

НЕДАПЕ'КЛЫ *прым. экспр.* Не зусім разумны. *Ён трохі недапеклы.* Гемзы Шальч.

НЕДАПЕ'ЧАНЫ, НЕДАПЯЧО'НЫ *прым.* Тое ж, што і н е д а п е́ к л ы. *Яна была такая недапечаная. Дзеці павыра-*

*сталі і харошыя, але якія недапечаныя!* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Учоны, но недапячоны.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕДАПЁКА *ж.* Тое ж , што і н е д а л э́ н ґ а. *Недапёка яна была — усё з рук ляцела.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕДАПІ'ТЫ *дзеепрым.* Не выпіты поўнасцю. *Недапіта малако.* Валынцы В.-Дзв.

НЕДАПО'ШЛЫ *прым.* Хворы. *Жэнька ўсё ўрэмя недапошлая была.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕДАРА'ЙДА, НІДАРА'ЙДА *м.* і *ж.* 1. Неахайны чалавек. *Недарайда — неакуратная, растропаная, гразная, не памыўшыся.* Ёдлавічы Брасл. *Ай ты, недарайда,— усё нос неапціраны!* Малькуны Ігн. *Недарайда ты — не памыўшыся, у хаце гразна.* Гемзы Шальч. *Недарайда пашла неадзеўшыся, забрыдаўшы спаніцы, подал сама сабе не агледзіць.* Бакшты Іўеў. 2. Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. *Узяў недарайду і яшчэ вёс з другой стараны, і скуль такую недарайду выкапаў?* Мсцібава Ваўк. *Нідарайда — ні то спіць, ні то робіць. На паўлодыра скажуць: «Нідарайда ты!»* Дакудава Лід. 3. Не зусім разумны. *Недарайда — хто недапечаны.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *niedorajda* 'расцяпа, няўклюда, непаваротлівы чалавек'; літ. *nederéiva* 'тж'.

НЕДАРА'ЛЬДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. Старыя Трокі Трак.; *гл.* н е д а р а́ й д а.

НЕДАРО'СЛЫ *прым.* Нізкага росту. *Некі недарослы, нерадзь.* Дзяніскавічы Ганц.

НЕДАРЭ'КА, НІДАРЭ'КА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. *Во ідзе недарэка.* Солы Смарг. *Ат, якая нідарэка, нідачэго дзеўка.* Саланое Віл.; *гл.* н е д а р а́ й д а.

НЕДАРЭ'ЧНЫ *прым.* Няўдалы. *Бываіць недарэчны хлеп.* Валынцы В.-Дзв.

НЕ'ДАСАЛЬ, НЕДАСО'ЛЬ *ж.* Недасол. Вострава Маст., Рудня Астравітая Чэрв. *Недасоль — я прысольваю.* Вецярэвічы Пух.

НЕДАСЕ'К, НІДАСЕ'К *м. ткац.* Памылка пры тканні. *Недасек зрабіла ў палатне* [не прыбіла добра аснову]. Мярэцкія Глыб. *Недасек у палатне.* Навасёлкі Свісл. *Ты мне нарабіла недасекаў, як дзяўчынка няўмеючы ччэ.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наткала недасеку такая ткалля.* Мачаск Бярэз. *Нідасекаў, кажа, нарабіла ў палатне, о, як ты яго высцелеш, баба.* Баброўнікі Гарад.

НЕДАСЕ'Ў *м.* Агрэх пры пасеве. *Дрэнны сявец зрабіў недасеў.* Гемзы Шальч.

НЕДАЎМІ'ЦЬ *зак.* Недадумаць. *Маладая, недаўміла, што не трэба было ехаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НЕДАЧУПА'ЛЫ *прым.* Тое ж, што і н е д а п е́ к л ы. Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *čiupáila* 'тж'.

НЕДЗВЕ'ЦЬ *гл.* МЯДЗВЕ'ДЗЬ

НЕ′ДЗЕ, НЕ′ДЗЯ *прысл.* 1. Тое ж, што і н е́ г д з е. *Недзе дзевацъ людзей.* Пасіене Лудз. 2. Дзесьці. *Недзя крупы быўшы.* Малі Астр. *Недзе там.* Чычалі Швянч.

НЕДЗЕ′ЛЯ *гл.* НЯДЗЕ′ЛЯ

НЕДО′БРА *прысл.* Нядобра. *Мне стала недобра.* Саланое Віл.

НЕДО′БРЫ *м.* Чорт, нячысцік. *Недобрыя яму памагаюць.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕДО′ЙДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. *Усе бабы недойды, дзвех толькі добрых.* Новіны Нясв.

НЕДОЛУ′ГІ *гл.* НЕДАЛУ′ГІ

НЕДО′ШЛЫ *прым. экспр.* Слабы, хваравіты. *Недошлае дзіця ў яе.* Галубы Маст.

НЕЕЖДЖО′МЫ, НЕЕЗДЖО′МЫ *прым.* 1. На якім не ездзілі. *Неежджомы конь, пат потам не быўшы.* Руднікі Шальч. 2. Па якім не ездзяць. *Запутная дарога — неезджомая.* Лісна В.-Дзв.

НЕЕ′ЖКІЙ, НЕЕ′ШКІЙ *прым.* Тое ж, што і н е д а б о́ р н ы. *Чалавек какой неешкій.* Рагулішкі Даўг.

НЕЖЫВЕ′ЦЬ, НІЖЫВЕ′ЦЬ *незак.* Траціць прытомнасць. *Як былі прыступы, яна нежывела.* Крэва Смарг. *Я ніжывела, падала рас за разам.* Крэва Смарг. *Я ніжывела ад уколаў.* Дакудава Лід.

НЕЖЫ′ТЫ, НІЖЫ′ТЫ *прым.* Нежылы. *Нежыты дом — дом, у якім яшчэ не жылі.* Масілавічы Сл. *Ведала, хата ніжыта, ніхто ні заходзіць.* Малахоўцы Бар.

НЕЗАКО′ШАНЫ *дзеепрым.* Няскошаны. *Бо з гэтого конца, што былі не закошаны і непадзелены — хто-та скасіў.* Валеўка Навагр.

НЕЗГРА′БНЫ *прым.* Непрыгожы. *На твары незграбная.* Лоск Валож.

НЕЗДА′РА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. *Нездара, нічога не ўмея, недалужная.* Малі Астр.

НЕЗДАРО′ВІЦЬ *незак.* Недамагаць. *Незаздаровіў і пómер.* Кураполле Паст.

НЕЗДАРО′ВЫ *прым.* Хворы. *Увосінь я была нездаровая, дачка пішыць: «Прыець, мама, урач палечыць».* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзяўчына нездарова, худая, шчэ маладая.* Груздава Паст. *У мяне сэрца нездаровая.* Лоск Валож.

НЕЗЛО′ЖНЫ *прым.* Нескладаны. *Незложна работа была.* Парэчча Гродз.; *параўн.* руск. *несложный* 'тж'.

НЕЗЛЮБІ′ЦЬ *зак.* Неўзлюбіць. *Яна незлюбіла яе.* Баброўнікі Гарад.

НЕЗНА′ЙКА *м.* і *ж.* Той, хто нічога не ведае. ▽ *Незнайка ляжыць, а знайка па дарошкі бяжыць.* Валынцы В.-Дзв.

НЕЗРЭ′НЧНЕ, НІЗРЭ′НЧНЯ, НІЗРЭ′ЧНЕ *прысл.* Нязручна. *Незрэнчне капаць. Нізрэнчня мне рубаць, ён мне пат-*

*сунуў пат левую руку. Нізрэчне мне тут рабіць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *niezręcznie* 'няспрытна'.

НЕ'ІК *гл.* НЕ'ЯК

НЕ'ЙДЗЯ *прысл.* Кудысьці. *Нейдзя выяхаў быў.* Магуны Паст. *Пашоў нейдзя.* Малахоўцы Бар.

НЕ'ЙКІ, НЕ'КІ *займ.* 1. Невядома які, незнаёмы. *Парушына нейка папала ў вока.* Солы Смарг. *Бабулька гаворыць, што нейкая Тацьяна памёршы.* Буды В.-Дзв. *Некі з Мінску тут прыехаўшы. Была нека жонка, ды кінула яго. Была некага вучыцеля ўзяўшы, дык прагнала.* Альхоўка Навагр. *Нека баба була.* Горск Бяроз. *Меўся прыехаць — не прыехаў, нека прычына сталася, што ён не прыехаў.* Гемзы Шальч. 2. Няясны, незразумелы. *Нейкая любось была.* Саланое Віл. *Нека сіла ест у іх.* Альхоўка Навагр. 3. Дакладна не вызначаны. *Нейкі зелянейшы.* Магуны Паст. *Некую недзелю ён палежаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пайду, некі радочак займу буракоў.* Саланое Віл. *Нека натта імла сыпле.* Галубы Маст. *Нека была дзірка пад вярхом.* Альхоўка Навагр. 4. Вядомы, але да якога адносяцца з адценнем пагарды. *Наткала некай радабодзіны.* Дакудава Лід. *Кайнер там некі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Бачыш, нейкае замэрлое, а як ругаецца.* Новіны Нясв. 5. Якісьці. *Ён кажэ: «Пазіраю я ў акно і бачу, што начальство неке спалохано».* Малахоўцы Бар.

НЕК *гл.* НЕ'ЯК

НЕ'КАЛІ I у знач. *вык.* Няма калі. *Спі зімой, летам — некалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пашла б з вамі, але ж некалі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Табе некалі аддыхнуць.* Рудня Чэрв.

НЕ'КАЛІ II, НЕ'КАЛІСЬ, НЕ'КАЛІСЬЦІ *прысл.* 1. Даўней, калісьці. *Некалі не было так, як цяпер.* Мярэцкія Глыб. *Некалі нам было, блага бес папкі.* Гальшаны Ашм. *Некалі жылі ні так.* Рыбчына Віл. *Некалі сядзіш і шчалкаіш* [арэхі]. Лоск Валож. *Другая стрэч, трэцяя стрэч — некалі казалі.* Бакшты Іўеў. *Некалі малако злівалі ў збанкі з гліны і паліваныя, з ручкаю і без ручкі. Некалі малацілі цапамі.* Альхоўка Навагр. *Некалі быў хлопяц дурнаваты.* Дзяніскавічы Ганц. *Некалі там вол утапіўся. Некалі чалавек утапіўся ў балоце.* Альхоўцы Лях. *Там некалі панскіе свіня стаялі.* Дзяніскавічы Ганц. *Некалісь купляла блюску атласавую.* Магуны Паст. *Некалісьці вечарыны былі.*. Груздава Паст. 2. Калі-небудзь, у будучым. *Некалі ён скажыць.* Пярэкі В.-Дзв.

НЕ'КАЛЬКІ, НЕ'КУЛЬКІ *займ.* Няпэўная, невялікая колькасць чаго-н. *Некалькі вянкоў грыбоў — вясла.* Рыбчына Віл. *Ажно прышлі немцы цераз некулькі дзён п'яныя ўвечар і патпалілі футар.* Парэчча Пух.

НЕКАНЕ'ЧНА *прысл.* Вельмі многа. ▽ *Бліноў есь неканечна — глухі будзя.* Жылі Іўеў.

НЕ'КАСЬ *м.* і *ж.* Леташняя няскошаная трава. *Некась*

*астаўся, сена благоя. Некасі многа асталася.* Магуны Паст. *Некась — старая трава, па якой расце маладая. Некась стаіць.* Рыбчына Віл. *Некась у балоце.* Галубы Маст.

НЕКАТО′РЫЯ *займ.* Паасобныя. *І цяпер некаторыя ткуць посцілкі.* Парэчча Гродз.

НЕ′КАШ *ж.* Тое ж, што і н е́ к а с ь. *Некаш — няскошаная сухая трава, па якой вырасла маладая.* Старыя Смільгіні Воран. *Некаш — дзе не касілася гот ці два.* Альхоўцы Лях.

НЕ′КІ *гл.* НЕ′ЙКІ

НЕКЛА′ЖАНЫ *дзеепрым.* Непакладаны. Ахрэмаўцы Брасл.

НЕКЛЯМЕ′ЖНЫ *гл.* НЕХЛЯМЕ′ЖНЫ

НЕ′КУЛЬКІ *гл.* НЕ′КАЛЬКІ

НЕЛА′ДНЫ *прым.* Непрыгожы. *Неладна дзеўка была.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *nieładny* ’тж’.

НЕЛЮДЗІ′МЫ *прым.* Які аддае перавагу адзіноце. *Як труцень нелюдзімы.* Хатынічы Ганц. *Нелюдзімы такі.* Калясное Беласт.

НЕЛЮ′ДЗКІ *прым.* Дрэнны. *Зубы мае нелюдзкія.* Курaполле Паст.

НЕ′ЛЮДЗЬ, НЕ′ЛЮЦЬ *м.* і *ж.* Нелюдзім. *Нелюдзь — ні да бога, ні да людзей.* Валеўка Навагр. *Нейка нелюць: сядзіць у хаці, ня выходзіць.* Крэва Смарг. *Нелюць людзей ня любіць.* Малахоўцы Бар. *Нeяк адно вячэр’е і гэты нелюць прыйшоў.* Мачаск Бярэз.

НЕЛЮЦКО′ТА *м.* і *ж. экспр.* Нездаровы чалавек. *Нелюцкота стала — чхаю.* Ёдлавічы Брасл.

НЕ′МА *прысл.* Моцна, роспачна (крычаць). *Крычыць нема. Лёнька нема крычыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Дзеўкі бегалі, нема крыча.* Лісна В.-Дзв. *Крычаў нема.* Рудня Астравітая Чэрв.

НЕМА′ *гл.* НЯМА′

НЕМАВЕ′ДАМА *прысл.* Невядома. *Немаведама, як можна жыць, калі і жонка, і мужык, і дзеці робяць, дый і добра робяць.* Пацаўшчына Дзятл.

НЕМАГЧЫ′ *незак.* Недамагаць. *Як няможыш — усё няміла.* Рагулішкі Даўг.

НЕ′МАМ *прысл.* У выразе: *Сядзець немам* — сядзець моўчкі. *Сяджу немам — аж мне пашчэнькі баляць.* Валеўка Навагр.

НЕ′МАРАСЦІЦЦА *незак.* Нездаровіцца. *Немарасціцца мне — недабрыцца.* Дакудава Лід.; *гл.* н е́ м а р а с ц ь.

НЕ′МАРАСЦЬ *ж.* 1. Роспач, цяжкое становішча. *З немарасці захварэў. Чалавек з немарасці зрабіў сам сабе смерць. Як немарасць, чалавек п’е, з немарасці чалавек с ума сходзіць, як занудзіцца.* Бакшты Іўеў. *У немарасці чалавек, у бядзе.* Чычалі Швянч. 2. Слабасць. *Я з гэтай немарасці не*

*крычала.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* літ. *nērimastis* 'трывога, турбота'.

НЕ'МАЧ *ж. груб.* Д'ябал, чорт. ▽ *Немач яго брау ба.* Ністанішкі Смарг. *А немач іх ведая, як іх выраблялі!* Малі Астр. *Хай цябе немач бярэ!* Парэчча Гродз. *Кап цябе немач узіла! Хай іх немач, курэй, хай ба ішлі пожню дзяўблі, акыш вон!* Кураполле Паст. *Каб цябе немач узяла!* Пацаўшчына Дзятл. *Немач яго ведая.* Граўжышкі Ашм. *Кап цібе немач!* Лоск Валож. *Гаворань: «А немач цябе ведая».* Малахоўцы Бар. *Немач на яго.* Альхоўцы Лях. *Такі неўдалы—немач табе.* Малькуны Ігн. *А хоць яго немач! А немач яго ведая.* Гемзы Шальч. *Кап цібе немач забрала!* Рагулішкі Даўг. *Немач палучыць* — нічога не атрымаць. *Рабіла, рабіла, рабіла, ды немач палучыла.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *nẽmačia* 'злы дух, чорт'.

НЕ'МЕЦ *зб. м.* Немцы. *Немец думаў, што будзе біць-біць і ўсіх паб'е, ажно яго забілі.* Мсцібава Ваўк.

НЕ'МКА *ж.* Нямая жанчына. *Немка, мусі, будзе.* Любішчыцы Івац.

НЕМКІ'НЯ *ж.* Тое ж, што і н е́ м к а. *Адну немкіню судзілі, што перадала рускаму пленнаму есці.* Каўняны Гродз.

НЕМО'ЖНА *гл.* НЯМО'ЖНА

НЕМУ'НІ *мн. бат.* Апенькі. *Немуні — рабенькія галоўкі, растуць на кусты; як бульбу капаіць, немуні ужо.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *nẽmunės* 'апенькі'.

НЕ'МЦЫ *мн.* Германія. *Усе дзерава ад нас ішло ў немцы.* Мсцібава Ваўк.

НЕ'МЫ, НЯМЫ', НЯМЫ'Й *прым.* 1. Пазбаўлены здольнасці гаварыць. *Мае дачку немаю.* Солы Смарг. *У іх адзін немы сын.* Крэва Смарг. *А бывае немы родзіцца.* Парэчча Гродз. *Ён немы, а чуя ўсё.* Быстрыца Астр. *Немы чалавек.* Вострава Маст. *Яна немая.* Дакудава Лід. *Немы чалавек.* Альхоўцы Лях. *Нямы, нямкаты чалавек.* Навасёлкі Свісл. *Нямый чалавек.* Ністанішкі Смарг. ▽ *«Углы цёмныя, а сцены немыя»,— кажаць, як хто адзін жывёт.* Малі Астр. 2. у знач. *назоўніка. Немы на немай жаніўся.* Солы Смарг. 3. Роспачны, дзікі. ◇ *Немым голасам* — вельмі моцна. *Крычыць немым голасам.* Стральцы Гродз. *Немым голасам, страшна крычаў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Немым прарэзлівым голасам шашок крычыць.* Рагулішкі Даўг.

НЕНАДЗЕ'ЙНА *прысл.* Неспадзявана. *Нарваўся чалавек ненадзейна.* Саланое Віл.

НЕНАДЗЁЖНЫ *прым.* Ненадзейны. *Ён ненадзёжны, у яга была другая жонка.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *ненадежный* 'тж'.

НЕПАВАРО'ТКІ *прым.* Непаваротлівы. *Ой, той стары непаваroткі.* Гемзы Шальч.

НЕПАВАРО′ТЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і непаваро́ткі. *Непаваротлівы чалавек.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕ′ПАГАДЗЬ, НЕ′ПАГАЦЬ *ж.* Непагода. *Цыргун цыргаіць, нейкая будзіць непагаць.* Кураполле Паст.

НЕПАГА′ДНЫ *прым.* Да якога няма спагады. *Бапская работа непагадная, непуцёвая.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕПАДО′БНА *прысл.* Не так, як належыць. *Непадобна ядуць.* Ракаўскія Швянч.

НЕПАКО′Й *м.* Турбота, клопат. ▽ *За дурной галавой і нагам непакой.* Малі Астр.

НЕПАЛІВА′НЫ, НЯПАЛІВА′НЫ *прым.* Не пакрыты палівай. *Былі паліваныя гаршкі і простыя, непаліваныя.* Лука Нараўк. *Гаршчок — паліваны, латушка — няпаліваная.* Магуны Паст.

НЕПАЛЮ′ДНІК *м.* Тое ж, што і не́людзь. *Непалюднік нейкі.* Саланое Віл.

НЕПАМЫ′СЛА *прысл.* Неймаверна. *Непамысла жывуць.* Саланое Віл.

НЕПАМЫ′СНА *прысл.* Невыносна. *Непамысна было ей, што сына забілі.* Гемзы Шальч.

НЕПАМЫ′СНАСЦЬ, НЕПАМЫ′СНОСЦЬ *ж.* Непрыемнасць. *Як яка непамыснасць, паплачу — і даўлення.* Галубы Маст. *Непамыснасць ей была, яна згрызлася, аж захварэла.* Малі Астр. *З непамыснасці яна захварэла: сын забіўся, зяць п'яніца.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *niepomyślny* 'няўдалы, неспрыяльны'.

НЕПАМЫ′СНЯ *прысл.* Непрыемна. *Непамысня ей штокольвек, хата вяліка, адна.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *niepomyślnie* 'няўдала, неспрыяльна'.

НЕПАНЯ′ТЛІВЫ *прым.* Някемлівы. *Вяплаваты чалавек, непанятлівы.* Малі Астр.

НЕПАСПЕ′ШНЫ *прым.* Марудны. *Пыклівая работа* [марудная], *пыкаесся на гэтай рабоці, а ўспеху німа; непаспешная работа.* Валынцы В.-Дзв.

НЕ′ПАСЦЬ *ж.* Нечаканасць. У выразе: *З непасці* — нечакана. *З непасці прыехаў.* Галубы Маст.

НЕПАХАРЭ′МНЫ *прым.* Хваравіты і капрызны. *Брыткая, непахарэмнае* [дзіця] — *нейкі няўдалы і нескладны.* Крэва Смарг.

НЕПЕРАБО′РЛІВЫ, НЕПЕРАБІ′РЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і недае́жлівы. *Непераборлівы, есць што папала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Непераборлівая карова, чалавек.* Азяраны Раг. *Непераборлівы ён* [сын] *у мяне, усё есць.* Быстрыца Астр.

НЕПЛО′ХІ *прым.* Нядрэнны. *Ежа неплохая, а не есць.* Хатынічы Ганц.; *параўн.* руск. *неплохой* 'тж'.

НЕПРАХАДЗІ′МЫ *прым.* Непраходны. *І лес такі непра-*

*хадзімы! Лес быў непрахадзімы.* Саланое Віл. *Кагда быў памешчык Бушта, была пушча непрахадзімая.* Бакшты Іўеў. *Непрахадзімы лес там, гусціня.* Беразіно Докш. *Непрахадзімыя лясы былі.* Азяраны Раг.; *парайн.* руск. *непроходимый* 'тж'.

НЕПРАХО'ДНО *прысл.* Непраходна. *Там було непраходно, дрыгва.* Пасека Ст.-Дар.

НЕПРАХО'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і непрахадзімы. *Непраходны лес у Чудніцы.* Ухвала Круп.

НЕПРЫНЯ'ТЫ *прым.* Неаплоднены (пра яйка). *Непрынята яйко.* Вялікія Баяры Шчуч.

НЕПРЫТО'МНЫ *прым.* Які знаходзіцца ў непрытомнасці. *Ен непрытомны быў.* Альхоўка Навагр.

НЕПРЫТУ'ЛЬНЫ *прым.* Непрыхільны. *Ён непрытульны да людзей, атодарам жыве.* Малі Астр.

НЕПРЫЯ'ЦЕЛЬ *м.* Непрыяцель. *Гэта непрыяцель.* Граўжышкі Ашм. *Непрыяцель мой.* Паляцкішкі Воран. *Ён мой непрыяцель.* Старое Сяло Зэльв.

НЕ'РАДЗЬ, НЕ'РАЦЬ, НЭ'РАЦЬ *ж.* 1. *зб.* Машкара. *Нерацъ напала на жывіну.* Навасёлкі Свісл., Міратычы Карэл. *Нейкая нэраць летае. Нэраць — маленькія мухі.* Старое Сяло Зэльв. 2. *перан.* Што-н. дробнае, невялікага памеру, росту. *Дробна картопля — нерадзь. Некі недарослы, нерадзь. Вот нераць гэта* [на куранят кажуць]. *Некі недарослы, нерадзь. Нераць, бы нешто, на маленькае кажуць нераць, нівартыя, малыя.* Дзяніскавічы Ганц. *Былі журайліны на імхох, а цяпер нейкая нераць, дробныя. Мо марос быў ці холат?* Семежава Кап. ▽ *Парасята, бы нерадзь. Ягады, бы нерадзі.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* літ. *nerė̃čia* 'нікчэмнасць, нечысць (пра мух), ненасытны чалавек, пераборлівае ў ядзе парася'.

НЕРАЗБІТНЫ' *прым.* Нябойкі. *Неразбітны чалавек, беднавата жылі, яды не было.* Гемзы Шальч.

НЕ'РАМАСЦЬ *ж.* Турбота. *Як сын ці дочкі не прыходзя дахаты, нерамасць бярэ.* Руднікі Шальч.; гл. нéмарасць.

НЕРАСЛЯ'ВЫ *прым.* Які дрэнна расце. *У міне нераслявыя валасы.* Мсцібава Ваўк.

НЕ'РАСТ, НЕ'РАС, НА'РАСТ, НЭ'РАСТ *м.* Нераст. *Нераст — нерастуя рыба.* Рудня Астравітая Чэрв. *Когда нераст, рыба ідзець кверху. Нерас — рыба нерасуя. Жабі нерас.* Бакшты Іўеў. *Рыба нарастуя — нараст.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Нараст рыб'я, рыбы ў азярэ нарастуюць.* Лісна В.-Дзв. *Нараст — рыба нарастуіць, ідзёт на разлівы, на луга, на зелень.* Валынцы В.-Дзв. *Ва ўрэмя нарасту запрэшчалі лавіць рыбу.* Істра Лудз. *Вангор на нэраст ідзе ад нас.* Магуны Паст. *Цырта пры нэрасце віт мяняя. Выкладаюць тройконьцік с камяня і туды ідзе цырта на нэраст.* Быстрыца Астр.

*На нэраст ідзе рыба.* Чуркі Ашм. *Вясной бывая жабін нэраст.* Руднікі Шальч.

НЕРАСТАВА́ЦЬ, НАРАСТАВА́ЦЬ, НЫРЫСТАВА́ЦЬ *незак.* Нераставаць. *Шчукі нераставаюць.* Мсцібава Ваўк. *Рыба нерастуя вясною.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нерастуе келба 24 іюня.* Альхоўка Навагр. *Ляшчы нарастуюць у маі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шчупакі нарастуюць у раве.* Мярэцкія Глыб. *Рыба ідзе нараставаць на плыткія мяста.* Быстрыца Астр. *Жабы нарастуюць, іхняя ікра — жабурыння.* Солы Смарг. *Падлешчык нарастуіць. Рыба пад кустом нарастуіць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Нарастуюць рыбы.* Беразіно Докш. *Нарастуіць рыба.* Мішневічы Шум. *Нарастуя рыба, выпуская ікру.* Гемзы Шальч. *Нырыставаць шчука ідзець.* Істра Лудз.

НЕ́РАТ *гл.* НА́РАТ

НЕРА́ЎНЫ *прым.* Неаднолькавы. *Кажды чалавек чалавеку нераўны, лес нераўны, так і людзі нераўны.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕРАХАВА́ТЫ *прым.* Неахайны. Малахоўцы Бар. *Нерахаватая баба, у яе ў хаце нідарэчы ні чысто.* Міратычы Карэл.

НЕ́РАЦЬ *гл.* НЕ́РАДЗЬ

НЕРВ, НЕРФ, НЭРВ, НЭРФ *зб. м.*, НЕ́РВЫ, НЭ́РВЫ *мн.* Нервы. *Забалеў увесь нерв, цяпер мучаюся. Дзіва, што ў маладых нэрф бальны.* Крэва Смарг. *Праполіс харашо ат нерфу, ногі націрала ім. Зверабой п'юць ад нерваў, ад жалутка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Твой нерф, як мак рассеяны і галава ад яго баліць.* Пацаўшчына Дзятл. *Нэрв узрушан.* Граўжышкі Ашм. *Хварэю на нэрв.* Гальшаны Ашм. *У мяне нэрв слабы. Нэрвы ўсе трэба.* Солы Смарг. *Скалечылі мяне, нэрв — усё баліць.* Руднікі Шальч. *Нэрф папорчаны. У мяне ўдушша, найгоршы нэрф.* Чуркі Ашм. *У лапках кроў не работала — гэта ад нэрваў.* Рагулішкі Даўг.

НЕ́РМАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і н е́ р а м а с ц ь. *Нермасць напала на міне, не находзіш тады мейсца, галасіла б, раўла б.* Малі Астр. *Нермасць бярэ, нох скора не пацягну.* Кудзялянцы Шальч. *Нермасць цябе мэнча, і чалавек можа ісці ў паля з нермасці.* Гемзы Шальч.

НЕРО́СЛЫ *прым.* Нізкага росту. *Нерослая была, здзічала, глядзела з-за перагародкі.* Пацаўшчына Дзятл.

НЕРО́ЎНЫ *гл.* НЯРО́ЎНЫ

НЕРЎХАНЫ *дзеепрым.* Неараны. *Неруханая земелька, дождзыку не трэбуіць.* Кураполле Паст.

НЕРУХО́МА *прысл.* Без рухаў. *Ляжала нерухома.* Гемзы Шальч.

НЕ́РЫМАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і н е́ р а м а с ц ь. *Нерымасць мяне бярэ.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *nẽrimastis* 'тж'.

НЕСАМАВІ'ТЫ *прым.* Няякасны. *Бульба несамавітая.* Кураполле Паст.

НЕСВЯНЦО'НЫ *прым. рэліг.* Неасвячоны. *Жывёла несвянцоная, мяса казла нямножна было свяціць у царкве, касцёле.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *święcony* 'асвячоны'.

НЕСВЯТО'ВЫ *прым.* Небывалы. *Несвятовы чалавек, на свеця ня быў, нічога не зная.* Гемзы Шальч.

НЕ'СКАЛЬКІ, НЕ'СКУЛЬКО *займ.* 1. Тое ж, што і н é к а л ь к і. *Тэраз быў нескалькі лет.* Швэды Вільн. *Друшко возьме грошы ад маладого і наложыць на тарэлку і накрые іх. Потым аддае старшуй друшцы, а ена паглядзіць, калі мало — аддаюць ему і пяюць песню. Гэто разоў нескулько.* Семежава Кап. 2. Некаторы (час). *Нескалькі врэмя я так маўчала.* Пярэкі В.-Дзв. *На нескулькі дамоў пусцюць.* Буды В.-Дзв.

НЕСКАНЧО'НЫ *прым.* Бясконцы. *Нескончоны быў лес.* Саланое Віл. *Беды несканчоныя, усё пераплáчу.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *nieskończony* 'тж'.

НЕ'СМАК *м.* Непрыемны смак у роце. *Такі несмак у роце.* Івашкаўцы Смарг.

НЕСМАКАВІ'ТЫ *прым.* Нясмачны. *Несмакавітая бульба.* Гемзы Шальч.

НЕСМЯРТЭ'ЛЬНІК *м. бат.* Бяссмертнік. Магуны Паст.

НЕСПАДЗЕВА'НЫ *прым.* Нечаканы. *Госць неспадзеваны.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *niespodziewany* 'тж'.

НЕСПАДЗЯВА'НА *прысл.* Нечакана. *Прыедзя хто неспадзявана, то бывае, што і не чакаеш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прыехалі неспадзявана.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* польск. *niespodziewano* 'тж'.

НЕСПА'ЛЫЙ *прым.* Бяссонны. *Неспалый хлопчык такі.* Галубы Маст.

НЕСПРАВЯДЛІ'ВА *прысл.* Парушаючы справядлівасць. *Несправядліва гаворыш.* Лоск Валож.

НЕСПРАВЯДЛІ'ВЫ *прым.* Які парушае справядлівасць. *Несправядлівы быў бацька.* Вецярэвічы Пух.

НЕСТРА'ЎНАСЦЬ *гл.* НЯСТРА'ЎНАСЦЬ

НЕСУЛА'ДНА *прысл.* Нязладжана. *Несуладна жылі.* Рыбчына Віл. *Несуладна жывуць з бацькамі.* Бакшты Іўеў.

НЕСУЛА'ДНЫ *прым.* Нескладны. *Несуладная было мястэчка, длугая гуліца.* Гемзы Шальч.

НЕ'СЦІ І, НЕСЦЬ, НЯСЦІ', НЭСЦІ', НЫСТЫ' *незак.* 1. Несці. *Зелье звязую несць.* Жылі Іўеў. *Пахне луг, пчолы мед несуць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Нясіма сена!* Граўжышкі Ашм. *Цяжко нэсці воду.* Смаляніца Пруж. *Трэба нысты.* Дзмітравічы Кам. *Замешываю свіням несці.* Кіралі Шчуч. 2. З сілай гнаць. *Снех нясецъ: вецяр падняўся вілікі, і снех панясло.* Ёдлавічы Брасл. ◇*Галава не нясе* — хто дрэнна

разумее, не keміць. *Можа, мая галава не нясе.* Рагулішкі Даўг.

НЕ'СЦІ II *незак.* Класці яйкі (пра курэй). *Куры яйкі нясуць.* Грыкені Вільн.

НЕСЦІХА' *прысл.* Бесперапынна. *Карова несціха рыкая, гэта яна нам не шыкуя.* Мсцібава Ваўк.

НЕСЧЫСЛЁНЫ *прым.* Неймаверны. *Такі боль несчыслёны.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *неисчислимый* 'не поддающийся подсчету'.

НЕТ *безас.* у знач. *вык.* Няма. *Нет места.* Груздава Паст. *Часу нет.* Кемялішкі Астр. *У міне тут бабі нет.* Янова Рас. *Жаднай* [ніякай] *радні там нет.* Стральцы Шальч. *Я прахажу, а там маткі маей нет.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *нет* 'тж'.

НЕ'ТРА *ж.* Тое ж, што і н е́ р а д з ь 1. *Напала на кароў нетра.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* літ. *netyrà* 'нячысты дух (аб жывёле)'.

НЕ'ТУЦІ *безас.* у знач. *вык.* Тое ж, што і н е т. *Сала ў яе нетуці. Нетуці курэй у міне. Фатакартачкі нетуці.* Лісна В.-Дзв. *А розуму нетуці, дзеці дуроныі. Нетуці сына, нявестка жывець адна. Такіх парашкоў нетуці ў нас.* Валынцы В.-Дзв. *Нетуці нічога пець.* Пярэкі В.-Дзв. *У вайну нетуці нічога, а карміць нада дзяцей. Прышлі ў калідор — і нетуці буфетчыцы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Нетуці ціперыча ў Якубові добрых мальцаў.* Якубова Рас. *Вышла, а сабакі нетуці.* Мішневічы Шум.

НЕЎГА'ДНІК *м.* Абманшчык. Навасёлкі Свісл.

НЕЎГА'ДНІНА *ж.* У выразе: *Гаварыць неўгадніну* — гаварыць недарэчнае. Навасёлкі Свісл.

НЕЎДА'ЛІШЧА *м.* і *ж. павел.* Няўдалы, няўмелы чалавек. *Вот неўдалішча, накерзаў-намерзаў.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕЎДА'ЛЫ *гл.* НЯЎДА'ЛЫ

НЕЎДАЛЮ'ГА-ПАВАЛЮ'ГА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е ў д а́ л і ш ч а. *Які ты неўдалюга-павалюга.* Старыя Трокі Трак.

НЕЎДА'ЧА *ж.* 1. Няўдача. ▽ *Каму неўдача, хай той паплача.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і н е ў д а́ л і ш ч а. ▽ *За неўдачу даюць прыдачу* (пасагу). Рудня Астравітая Чэрв., Мачаск Бярэз.

НЕЎДО'БІЦА *гл.* НЯЎДО'БІЦА

НЕЎДО'БІЕ, НЕЎДО'БІЯ *гл.* НЯЎДО'БІЯ

НЕЎДО'БНЫ гл. НЯЎДО'БНЫ

НЕЎЗАБА'ЎКІ *прысл.* Неўзабаве. *Неўзабаўкі сядзя індычка.* Мсцібава Ваўк.

НЕЎЗАМЕ'ТКІ *прысл.* Непрыкметна. *Тыц ён неўзаметкі.* Саланое Віл.

НЕЎЛА'ДНЫ *прым.* Няспрытны. *Мае неўладныя рукі, усе падае з рук.* Новікі Гродз.

НЕ'ЎЛЕДДЗЕ *н.* Тое ж, што і н е́ л ю д з ь. *Ён неўледдзе, непрычча — нялюдскі, і нема проку.* Мішневічы Шум.

НЕЎЛО'ЎНЫ *прым.* Няўлоўны. *Мы неўлоўныя былі, немцы не находзілі нас.* Руднікі Шальч.

НЕЎПАПЯРО'К *прысл.* Наперакор. *Нільзя ей неўпапярок гаварыць.* Новіны Нясв.

НЕЎПО'РНЫ *прым.* Які нарадзіўся раней тэрміну. *Памерло дзіця, неўпорно было. Адно неўпорно дзіця.* Каўняны Гродз. *У яе радзіласё неўпорнае дзіця.* Міратычы Карэл.

НЕЎРАЖА'ЙЛІВЫ *прым.* Неўрадлівы. *Неўражайлівы рок на бульбу.* Гемзы Шальч.

НЕЎРО'ДА *ж.* Неўраджай. *Неўрода такая была.* Чычалі Швянч.

НЕЎСТАВА'КІ *мн. экспр.* Гультаі. *Усе на лён ідуць, нават неўставакі.* Груздава Паст.

НЕЎСТРУ'Й, НЯЎСТРУ'Й *м.* і *ж.* Непаседа. *Такая ты неўструй — не пастаіш. Вот неўструй!* Крэва Смарг. *Так ён жа такі неўструй — усё дзелаіць, лётаіць.* Індра Красл. *Неўструй ты—шустрая ў руху.* Гемзы Шальч. *Няўструй ты!* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *newstrzemięźliwy* 'нястрыманы'.

НЕХ *часц.* Няхай. ▽ *Нех яно вытня!* Вялікія Баяры Шчуч. *Нех цебе немач!* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *nech* 'тж'.

НЕХА'Й *гл.* НЯХА'Й

НЕХАМЯ'ЖЫ, НІХАМЯ'ЖЫ *прым.* Нехлямяжы. *Выбрала сабе мужыка нехамяжага, няўдалага.* Беразіно Докш. *Нехамяжы такі чалавек, няўдалы.* Ухвала Круп. *Ніхамяжа твая жонка, нястройная. Калі на танцах ніхамяжая дзеўка, казалі: «Паліву ні прадала, ніхто не патаргаваў» — ніхто не запрасіў танцаваць.* Груздава Паст. *Ты каня купіла ніхамяжага.* Груздава Паст.

НЕ'ХАЦЯ *прысл.* 1. Без жадання. *Свякроў нехаця пусціць* [паехаць]. Альхоўцы Лях. *Сабраў рой, астаюцца пчолы нехаця, на ёлца яны натта любяць.* Груздава Паст. *Нехаця гаворыць.* Вецярэвічы Пух. *Пры озярэ нехаця будзіш купацца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Незнарок. *Я не знаю, ці ён хаця ці нехаця мне зрабіў.* Рагулішкі Даўг.

НЕХЛЯМЕ'ЖНЫ, НЕКЛЯМЕ'ЖНЫ *прым.* Тое ж, што і н е х а м я́ ж ы. *Нехлямежны чалавек — нехарошы, неакуратны, гаварыць абы-што. Неклямежны чалавек.* Старыя Смільгіні Воран.

НЕХЛЯМЯ'ЖЫ, НЕХЛЯМЬЯ'ЖЫ, НІХЛЯМЯ'ЖЫ, НІХЛІМЯ'ЖЫ, НІКЛЯМЯ'ЖЫ, НІКЛІМА'ЖЫ *прым.* Тое ж, што і н е х а м я́ ж ы. *Нехлямяжы — няўдалы, ні богу свечка, ні чорту качарга.* Масілавічы Сл. *Нехлямяжы — такі ня-*

*дбайны.* Малахоўцы Бар. *Ніхлямяжа скаціна — благая, конь ці карова, і чалавек.* Альхоўцы Лях. *Нехлямьяжы такі чоловек, каравы, нямыты.* Хатынічы Ганц. *Ніхлямяжы — неакуратны чалавек, ні гэдак робіць, як усе людзі, ні чысто робіць, ні адзяецца, як чалавек, пашла баба ніхлямяжая.* Міратычы Карэл. *Ніхлямяжы — неўдалы, непаваротлівы чалавек, жывёла. Конь ніхлямяжы — нізграбны, ніўдалы.* Дзяніскавічы Ганц. *Ніхлімяжы — нікчэмны, нікудышны такі, абы-які. На Толю кажуць: «Ніхлімяжы нейкі ён». Баба, дзеўка ніхлімяжая* [толькі ў адносінах да чалавека]. Мярэцкія Глыб. *Ніклямяжы — нікчэмны, нікудышны.* Мярэцкія Глыб. *Ніклімажы чалавек — хто нізграбны, нісkладны.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕ'ХТА *займ.* Хтосьці. *Мне ікаіцца — успамінаіць нехта.* Валынцы В.-Дзв. *Прышлі немцы, нехта нагаварыў, што муш дэпутат,— і забралі.* Гальшаны Ашм. *Нехта стаяў.* Беняконі Воран. *Нехта прышоў.* Чычалі Швянч.

НЕЦІКА'ВЫ *прым.* Непрыгожы. *Я нецікавая была.* Ёдлавічы Брасл.

НЕ'ЦЕЛЬ, НЕ'ЦЯЛЬ *ж.* Цялушка. *Нецель — два гады цёлка.* Чуркі Ашм. *Нецяль — цялушка, яшчэ двух гадоў няма.* Магуны Паст.

НЕ'ЦЯЛАК *м.* Тое ж, што і н е ц е л ь. *Нецялак — цёлка, якая не цялілася. Нецялак — цёлка на другім годзе.* Груздава Паст.

НЕЦЯРПЛЯ'ЧЫ *прым.* Нецярплівы. *Я такі нецярплячы.* Хатынічы Ганц.

НЕ'ЧАГА *займ.* 1. Няма за што, каб... *За нечага было, дык і ні пілі.* Буды В.-Дзв. 2. Няма чаго. *У бібліятэкі там жа ж робіць нечага.* Чапаеўскі В.-Дзв. 3. Штосьці. *Нечага малочнага зварым.* Крэва Смарг.

НЕ'ЧЫ, НЕ'ЧЫЙ *займ.* Чыйсьці. *Нечу авечку дак чыста збілі.* Дуброўкі Брасл. *Нечый сабака яйка паеў.* Галубы Маст. *Нечый конь.* Чычалі Швянч.

НЕ'ЧЫСЬ I *ж.* Кужэльнае палатно. *Нечысь — тонкае палатно.* Мачаск Бярэз.

НЕ'ЧЫСЬ II *ж.* Нячыстая сіла. *Можа, якая нечысь?* Вострава Маст.

НЕ'ШТА I, НЕ'ШТО, НЕ'ШЧО *займ.* 1. Нейкі прадмет. *Нешта ў ногу ўлезла.* Парэчча Гродз. *Рабакі ружаватыя, прыкрая нешта.* Солы Смарг. *Я па нешта ішла, але забылася.* Лоск Валож. *Нешта ў воку рэжа.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ходзі, Танё, нешчо дам.* Смаляніца Пруж. 2. Штосьці. *Злавілі парцізаны немца, нешто пытаюць у яго, а ён вылупіў вочы, стаіць і маўчыць, як кол.* Заполле Гродз.

НЕ'ШТА II *прысл.* Чамусьці. *Нешта ён маўчыць, нічога ні кажыць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Нешта Шура ні прыехала?* Буды В.-Дзв. *Нешта ні чуваць, кап каровы падалі.* Гальшаны

Ашм. *Кляновыя жукі былі, але нешта слаба відаць іх?* Чуркі Ашм. *Нешта нездалееца, што за прычына?* Вецярэвічы Пух. *Нешта невасолы сядзіць, такі смутны Янук Боўтрук.* Гемзы Шальч. *Колы ня ідуць па каляіня, нешта яны крывыя.* Старыя Трокі Трак.

НЕШЧА'СЦЕ, НЕШЧА'СЦЯ *гл.* НЯШЧА'СЦЯ

НЕШЧЫСЛЁНЯ *прысл.* Незлічона. *Нешчыслёня білі немцы там.* Малі Астр.

НЕ'ЯК, НЕ'ІК, НЕК 1. *прысл.* Чамусьці. *Няма неяк яго доўга.* Крэва Смарг. *Скучна неік аднэй.* Оцкавічы Паст. *Але нядобра нек зрабіласё.* Пяронім Сл. *Было нек інцярэсно.* Валеўка Навагр. 2. Як-небудзь. *Неяк дажывецца да смерці.* Альхоўка Навагр. *Ужо ш неік вудзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Аднойчы. *Нек гавора.* Снягяны Смарг. *Нек ён прыехаў і зайшоў да мяне.* Пацаўшчына Дзятл. 4. у знач. *вык.* Няма як. *Неяк жа казаць — хадзі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тут сказаць і неік.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЕЯ'КІ' *займ.* у знач. *прым.* Нікуды неварты. *Я такая неякая.* Кураполле Паст. *Неякая баба: бяздзетная была.* Гемзы Шальч. *Неякі чалавек, благі.* Чычалі Швянч.

НЁБА *н.* Скляпенне ў печы. *Нёба — верх у печы.* Пасіене Лудз.

НЁВАД, НЁВАТ *м.* Тое ж, што і н е́ в а д. *Нёвадам трэба лавіць, кап тры чалавекі былі* [сетка такая]. Альхоўка Навагр.

НЁХАЦЬ *гл.* НО'ГАЦЬ

НІ *гл.* НЕ

НІАТВА'ГА *ж.* Нясмеласць. *Ні магла адчыніць дзверы, такая была ніатвага.* Стральцы Гродз.

НІАХВО'ЧЫ *прым.* Які не мае жадання што-н. рабіць. *Олясь — ніахвочы, ні памагая.* Ракаўскія Швянч.

НІАЧЭ'КІВАНЫ *прым.* у знач. *назоўніка.* Нечаканы. *Ніачэківаны прыбыў.* Мсцібава Ваўк.

НІБАЛЬШЭ'НЬКІ *прым. памянш.* Невялічкі. *Апаланікі нібальшэнькія, апалаюць насення.* Вязынка Маладз.

НІБАРА'ЧКА *ж. памянш.* Няшчасная. *Яна, нібарачка, цяжко робіла.* Вострава Маст.; *гл.* н е б а р а́ к а.

НІБЛА'ГА *прысл.* Нядрэнна. *Ні с кім ні паваджуся, с усімі ніблага.* Солы Смарг.

НІБЛАГІ' *прым.* Нядрэнны. *Мой хазяін ніблагі.* Крэва Смарг. *Чалавек ніблагі.* Снягяны Смарг.

НІБО'ШЧЫК *гл.* НЯБО'ЖЧЫК

НІ'БЫ 1. *злуч.* Быццам. *Хацеў, кап смашна карміла, нібы ён дзеньгі мне палажыў.* Валынцы В.-Дзв. 2. *часц.* Нібы. *Ужэ гавора нібы па-руску.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *niby* 'тж'.

НІБЫЛІ'ЦА *ж.* Небыліца. *Гаворыць нібыліцу, што німа чаго слухаць.* Жылі Іўеў.

НІ'ВА *ж.* Палетак. *Сколькі яго* [льна] *астаецца на ніві!* Буды В.-Дзв. *Участак апрацаванай зямлі — ніва.* Быстрыца Астр. *Поле, як доўга, то называлі ніва.* Вялікія Баяры Шчуч. *А цяпер прадаюць і ядуць з нівы грыбы* [шампіньёны]. Ракаўскія Швянч. *Ніва — дзе пасеяная дабро.* Гайна Лаг. *Па нівах сеялі.* Чычалі Швянч. *Ніва — пасеяная жыта, авёс, пшаніца.* Лука Нараўк.

НІВА'РТЫ, НІВА'РТНЫ *прым.* Хворы, слабы. *А ты — ніварты, ляжыш, ня можаш хадзіць, рабіць.* Малі Астр. *Ніварты чалавек: балее і балее. Ён хворы, нівартны чалавек, серцо слабое.* Кузьмічы Люб.

НІВЕ'ЛЬКІ *гл.* НЯВЕ'ЛЬКІ

НІВЕ'СТА *гл.* НЯВЕ'СТА

НІВЕ'СТКА *гл.* НЯВЕ'СТКА

НІВІДА'НЫ *прым.* Нябачаны. *Нівіданыя госці ў вас, зайшоў паглядзець.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* руск. *невиданный* 'тж'.

НІВІДНО' *прысл.* Нябачна. *На змянах Месяца нівідно.* Стральцы Гродз.

НІВІДО'НЫ *прым.* Тое ж, што і н і в і д á н ы. *Нівідоны п'яніца, лодар.* Кураполле Паст.

НІВІРУ'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і н і в і д á н ы. *Нівірутны лодар.* Кураполле Паст.

НІВІ'СНЫ *гл.* НЯВІ'СНЫ

НІВО'ДНЫ *займ.* Ніводзін. *Ніводнай* [курыцы] *ні заквакталі.* Солы Смарг. *Ні было ніводнага дзіцёнка.* Ракаўскія Швянч. *Ніводнага роднага.* Чычалі Швянч.

НІВЯЛІ'КІ *гл.* НЕВЯЛІ'КІ

НІВЯРУ'ШКІ *мн. бат.* Вясеннія апенькі. *Нівярушкі — апенькі вясновыя.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *voverùškos* 'лісічкі'.

НІГАДЗЯ'ВЫ *гл.* НЕГАДЗЯ'ВЫ

НІГАДНЫ' *прым.* Тое ж, што і н е г а д з я́ в ы. *Бацька нігадны быў.* Гемзы Шальч.

НІГАЮ'ШЧЫ *прым.* Які не загойваецца. *Балячка нігаючая.* Ністанішкі Смарг.

НІГДЕ', НІГДЗЕ' *гл.* НІДЗЕ'

НІ'ҐДЫ', НІ'ҐДА, НЫ'ҐДЫ, НЫ'ҐДЭ *прысл.* Ніколі. *Ніґды не хварэіць. Ніґда я да цібе не прыду.* Ёдлавічы Брасл. *Ніґды не чула і не відзела.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ніґды мы не гналі алею.* Парэчча Гродз. *Ніґды нашы дзяды ні думалі, што можна жаць і малаціць не сваімы рукамы, а камбаянамі і жняяркамі.* Селішчы Ашм. *Ніґды не насіла доўгай спадніцы.* Граўжышкі Ашм. *Ніґды не біліся хлопцы.* Солы Смарг. *Мы*

*ніґды бульбу ні садзілі.* Стральцы Гродз. *Ніґды не хадзіла ў лес.* Вострава Маст. *Ніґды цябе б не бачыў.* Пацаўшчына Дзятл. *Табе ніґды нема часу.* Мсцібава Ваўк. *Ты да мяне ніґды не падышоў.* Паляцкішкі Воран. *Ніґды не хварэў, пухнуць стаў і памёр.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніґды не быўшы нідзе.* Дакудава Лід. *Ніґды не была там.* Навасёлкі Свісл. *Я адна не люблю, ніґды не была там.* Лоск Валож. *Ніґды мы не сеялі проса.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ніґды яе німа ўдома. Не бачыла ніґды такога.* Старое Сяло Зэльв. *Ніґды ні было дзяцей.* Альхоўка Навагр. *У нас ніґды не было вужа, ніґды не бачылі.* Вялікі Краснік Пруж. *Ніґды не буду рабіці.* Ялова Пруж. *Ніґды не было.* Чычалі Швянч. *Дзеці ніґды ня елі цукеркаў.* Ракаўскія Швянч. *У тэй крыніцы ніґды вада ня замярзая, каля крыніцы снег атпарыўшыся. Дзеці маючы, ніґды не скончыш клопату. Ніґды так не было, як тэрас разбіта гэта дарога.* Гемзы Шальч. *Ніґды не ходжу, сядаю і еду.* Старыя Трокі Трак. *Ніґды ні прыду сюды. Я ніґды пліту ні таплю.* Магуны Паст. *Ныґды ны був.* Сіманавічы Драг. *Ныґдэ нэ говорэла.* Дзмітравічы Кам. ◇ *На святыя ніґды* — ніколі. *Аддасі ты на святыя ніґды, а больш — ніґды.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *nigdy* 'тж'.

НІГЕ'ҐЛЫ *прым.* Няўдалы, непаваротлівы. *Ніґеґлы ты. Ах ты нідарэйша! Ні да чэґо, не ўмее рабіц.* Парэчча Гродз.

НІГО'ДА *гл.* НЯГО'ДА

НІГО'ДЗІН *займ.* Тое ж, што і н і в о́ д н ы. *Ніводзін лепшае не прывёс.* Старое Сяло Зэльв.

НІГО'ДНЫ I *займ.* Тое ж, што і н і в о́ д н ы. *Я ніґоднае змеі не забіла.* Парэчча Гродз. *У нас німа ніґоднае мышы. Гусі — ніґоднае, усе гусакі.* Дзяніскавічы Ганц. *А радні маёй многа, ды ніґоднага тут няма.* Багушэвічы Бярэз. *Ніґоднага свайго дзіцяці німа ў тае бабы.* Вецярэвічы Пух.

НІГО'ДНЫ II *прым.* Дрэнны. *Ніґодная дзіця, плача і плача. Ніґодная нявестка.* Міратычы Карэл.

НІГО'ЖЫ *прым.* Слабы. *Стары ніґожы.* Дзяніскавічы Ганц.

НІДАБО'Й *м.* Памылка пры тканні, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Бывая нідабой — паслабня нітачка.* Дакудава Лід. *Нідабой — слаба збіла бёрдам.* Малахоўцы Бар. *Нідабой зробіцца ў тканіне: гэты бачок туга, а гэты вісіць, дзе вісіць — нідабой.* Магуны Паст.

НІДАБРЫ'ЦЦА *гл.* НЕДАБРЫ'ЦЦА

НІДАЛЁКА *гл.* НЕДАЛЁКА

НІДАЛУ'ГА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е д а л э́ н ґ а. *Кап быў нідалуга, а то такі хлопяц!* Крэва Смарг. *Нідалуга, старая дзеўка.* Парэчча Гродз.

НІДАЛУ'ГІ *гл.* НЕДАЛУ'ГІ

НІДАЛУ'ЖНЫ *прым.* Тое ж, што і н е д а л у́ г і. *Ніда-*

*лужны ён некі.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *niedołężny* 'нядужы; няўмелы'.

НІДАЛЭ'НГА *гл.* НЕДАЛЭ'НГА

НІДАРА'ЙДА *гл.* НЕДАРА'ЙДА

НІДАРЭ'ЙША *м.* і *ж.* Тое ж, што і н і д а л у́ г а. *Нідарэйша — нелюцкі такі чалавек, і на цяля, парася скажаш нідарэйша. У канаву ўпаў нідарэйша.* Парэчча Гродз.; *гл.* н е д а р а́ й д а.

НІДАРЭ'КА *гл.* НЕДАРЭ'КА

НІДАСЕ'К *гл.* НЕДАСЕ'К

НІДАСО'УЛЬ *ж.* Недастаткова пасоленая страва. ▽ *Нідосоуль на стоул, а пієрасоуль пат стоул — вось так.* Баброўнікі Гарад.

НІДБА'ЙНІЦА *ж.* Жанчына, якая абыякава ставіцца да выканання абавязкаў. *Ах ты нідбайніца, ідзі рабіць!* Мярэцкія Глыб.

НІДБА'ЙНЫ *прым.* Які абыякава ставіцца да выканання абавязкаў. *Такі чалавек нідбайны.* Вялікія Баяры Шчуч.

НІДБА'ЙСТВО *н.* Абыякавыя адносіны да справы. *Нідбайство, занідбала гарот, запусціла.* Навасёлкі Свісл.

НІДБА'ЛІЦА *гл.* НЯДБА'ЛІЦА

НІДБА'ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і н і д б а́ й н ы. *Нідбальны чалавек, ён аб работу ні рупіцца.* Гемзы Шальч.

НІДЗЕ', НІГДЗЕ', НІГДЕ' *прысл.* 1. Нікуды. *Нідзе ня подзіця цяпер?* Крэва Смарг. *Мы нідзе не йдзём.* Лоск Валож. *Я нігдзе ні іду.* Быстрыца Астр. 2. Нідзе. *Всюду шукав, але нігде нэ нашов.* Курашэва Чыж.

НІДЗЕ'ЛЯ *гл.* НЯДЗЕ'ЛЯ

НІДО'ЙШЛЫ *прым.* Хранічны. ◇ *Хвароба нідойшлая* — хвароба хранічная. *Хвароба ты нідойшлая.* Вялікія Баяры Шчуч.

НІДО'ЛЯ *гл.* НЯДО'ЛЯ

НІДО'ЎНА *прысл.* Нядаўна. *Нідоўна памёр, сказалі, што так.* Пацаўшчына Дзятл.

НІДУ'ЖЫ, НЭДУ'ЖЫ *прым.* Слабы, хваравіты. *Ён хварэя, яна нідужая.* Малі Астр. *Ондрэй вэлізорны, але нэдужы. Старая Макаруха ўжэ нэдужа, мусіт хутко умрэ.* Курашэва Чыж.

НІЖА'ДНЫ *займ.* Тое ж, што і н і в о́ д н ы. *Ніжаднай хусткі німа.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ніжаднаго німа каля сябе. Я ніжаднага ўдабрэння не кладу.* Старыя Трокі Трак. *Там ніжадна мука не даецца.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *żaden* 'тж'.

НІ'ЖАЙ *прысл.* Ніжэй. *Рука баліць ніжай локця.* Паляцкішкі Воран. *Каб гарот ніжай быў.* Малахоўцы Бар.

НІЖА'ЦЬ, НІЖЭ'ЦЬ *незак.* Зніжацца (пра сонца).

*Сонца ніжала.* Альхоўка Навагр. *Сонца ўжо ніжэіць.* Кураполле Паст.

НІ'ЖНЫ *прым.* Ніжні. *У драбінах ляжаткі верхнія і ніжныя.* Дакудава Лід.

НІЖО'ДНЫ *займ.* Ніводны. *Ніжоднага тут чалавека не было.* Навасёлкі Лід.; *гл.* н і ж á д н ы.

НІЖЫВЕ'ЦЬ *гл.* НЕЖЫВЕ'ЦЬ

НІЖЫНА' *ж.* Нізіна. *Дзе якая ніжына, там і расце яна.* Альхоўка Навагр.

НІЖЫ'ПАРНІЦА I *ж. бат.* Гусялапка. *Ніжыпарніца — длінная, еслі нарывы, прыкладаецца, адзін ліст вузенькі длінны, шышачка чорная, па канавах расцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ніжыпарніцу параць у кіпятку і прыкладаюць, як нага напухніць.* Пярэкі В.-Дзв.

НІЖЫ'ПАРНІЦА II *ж. мед.* Прэласць. *Ніжыпарніца прыстала — болька такая между пальцаў, мокніць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НІЖЫ'РКІ *гл.* НЯЖЫ'РКІ

НІЖЫ'ТЫ *гл.* НЕЖЫ'ТЫ

НІЗ, НІС *м.* 1. Падол. *Ніс вопраткі абрубляюць і падхіляюць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Тое ж, што і н і ж ы н á. *На нізе нават спея.* Альхоўка Навагр. *Жураўліны на нізе растуць.* Дзяніскавічы Ганц.

НІЗАДА'ШНЫ *прым.* Няўдалы. *Хоць гэты і нізадашны хлеп, а ўсё лучшы магазіннага.* Масішкі Красл.

НІ'ЗАЛКА *ж.* Нізка. *Пабіралі восенню на нізалкі ліст.* Быстрыца Астр.

НІЗА'НКА *ж.* Тое ж, што і н í з а л к а. *Бывая, на нізанку надзенуць рыбу.* Чуркі Ашм.

НІ'ЗА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і н а н í з а в а ц ь. *Тутун нізалі на нітку.* Стральцы Гродз. *Нізáў лісты* [тытуну] *на шнурочкі. Вырве нітку і ніжа рыбу.* Солы Смарг. *Нізáлі на шнурок дубовыя лісты і сушылі.* Мсцібава Ваўк. *Ніжыць тытун на ніці. Ніжуць яблыкі, як хочуць пасушыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ліст дубовы нізáлі на шнурке.* Міратычы Карэл. *Сушоныя грыбы на шнурочак ніжаць.* Гемзы Шальч. *Пацюркі нізáла.* Курашэва Чыж. 2. Плесці, сплятаць. *Цыбулю на зіму ў вянке нізáлі.* Бакшты Іўеў. 3. Вешаць. *Ніжаць бэрды.* Новыя Мацалі Варэн. 4. Бадаць. *Адна адну карова ніжа, пора.* Вецярэвічы Пух.

НІЗВАРО'ТКІ *прым.* Непаваротлівы. *Нізвароткая, а грубая баба.* Гемзы Шальч.

НІЗВАРО'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і н і з в а р ó т к і. *Гавэла — няўдалы, нізваротны чалавек.* Дакудава Лід.

НІЗГРАБЭ'ЙЛА *м.* і *ж.* Нязграбны чалавек. *Нізграбэйла ты, неакуратны.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *nezgrabáila* 'тж'.

НІЗДАРО'ВА, НЯЗДАРО'ВА *прысл.* Шкодна для здароўя. *Старому натта ніздарова такая пагода.* Магуны Паст. *Няздарова грысці цукар.* Ракаўскія Швянч.

НІЗДАРО'ЎЯ *н.* Нездароўе. *Ён ніздароўя, яна нарвуецца.* Малі Астр.

НІЗДА'ТНЫ *прым.* Непрыгодны. *Ён нікуда ніздатны.* Малі Астр.

НІ'ЗЕНЬКО *прысл.* Нізенька. *Дзе нізенько, наламай* [галінак]. Валеўка Навагр.

НІ'ЗЕНЬКІ *прым. памянш.* Нізкі. *Напудрыла падушкі, а то яны нізенькія.* Саланое Віл. *Рамка нізенькая, шырокая, круглая.* Судэрва Вільн.

НІЗІ'НА' *ж.* Тое ж, што і н і ж ы н á. *Там нізіна, вада стаіць. Сядзім у самай нізіне.* Магуны Паст. *У нізіне быў хмызняк, няможна прайсці.* Ёдлавічы Брасл. *Нізіна на полі, а лагчына бы ў лузі.* Тухавічы Лях. *Дзе луг вусахне, а нізіна — абразуецца ўжар.* Кузьмічы Люб. *Ліпняком зарастая нізіна.* Азяраны Раг. *Дзе нізіна́ — грась.* Мярэцкія Глыб. *Лес багаты, непрахадзімы лес, зарошшы дрэвамі — самая нізіна́ гэта.* Груздава Паст. *Асталася хата ў нізіне́.* Малі Астр. *Нізіна́ там, балота, макрата.* Старыя Смільгіні Воран. *Нізіна́, там вымакла.* Саланое Віл. *Нізіна́ тут.* Жылі Іўеў. *Нізіна́ там.* Быстрыца Астр. *У нізіне́ вадой аптопіць.* Ракаўскія Швянч. *Дзе нізіна́ на поле, не гадзіцца.* Гемзы Шальч.

НІЗІ'ПЕРНІК *м.* Тое ж, што і н і ж ы́ п а р н і ц а I. *Дасталі нізіперніку, аблажылі руку, тады заснула.* Граўжышкі Ашм.

НІЗІ'ПЕРНІЦА *ж.* Тое ж, што і н і ж ы́ п а р н і ц а I. *Трэба нізіперніцы лясной—і как рукой. Нізіперніца звялася, а расла на нашых лугах.* Гемзы Шальч.

НІЗІ'ПІРСНІЦА *ж. мед.* Нарыў. *Нізіпірсніца — назва хваробы, як рука нарывая.* Граўжышкі Ашм.

НІ'ЗКА, НІ'СКА *ж.* Тое ж, што і н í з а л к а. *Купіла абаранкаў ніску.* Дзяніскавічы Ганц. *Ніска сушаных грыбоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нізка рыбы, на палачку нізалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

НІЗКАВА'ТЫ, НІСКАВА'ТЫ *прысл.* Даволі нізкі. *Ніскавата столь у хаці.* Лоск Валож.

НІ'ЗКІ', НІ'СКІ' *прым.* 1. Невысокі. *Ніская гара.* Альхоўка Навагр. *Ніскі чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ніска́я хата, ніскі мост. Ніскога росту.* Ёдлавічы Брасл. *Мая хата ніска.* Смаляніца Пруж. 2. Нізінны. *Макляк — дзе поля ніская.* Чуркі Ашм. *Падліпавікі* [баравікі] *растуць па ніско́му месту, дзе ліственныя лясы.* Вузла Мядз. 3. *перан.* Пакаты. *Страха ніска.* Стральцы Гродз. *Стрэха бывая ніская і стромая.* Малахоўцы Бар. 4. *перан.* Дрэнны па якасці. *У нас ніска́я зямля.* Ністанішкі Смарг. *У нас зімля ніска́я, часта жыта вымыка-*

*ла*. Вузла Мядз. *Хата ніская*. Мярэцкія Глыб. *Ніскі зрок у яе*. Гемзы Шальч. 5. У спалучэнні са словам *вочы*. Блізарукі. *Ён ніскі на вочы*. Граўжышкі Ашм., Вецярэвічы Пух. *Ніскі на вочы*. Малахоўцы Бар. *Хто ніскі на вочы, той не бачыць далеко*. Вялікія Баяры Шчуч. *Яна ніска на вочы*. Вострава Маст. *Зрын яго ні свеціць, ніскі на вочы*. Дакудава Лід. *Яна ніска на вочы*. Альхоўка Навагр. *На вочы ніска была*. Тухавічы Лях. *Ніска на вочы, акуляры ёй прыпісалі*. Мачаск Бярэз. *Ніскі на очы*. Номікі Бабіц.

НІЗМІРО'НЫ *прым. перан*. Неймаверны. *Нізміроны п'яніца, лодар*. Кураполле Паст.

НІЗНАВІ'ДЗЕЦЬ *зак*. Зненавідзець. *Нявесткі нізнавідзялі*. Ахрэмаўцы Брасл.

НІЗНА'ЧНА *прысл*. Нязначна. *Ачнуўся — а ўжо світая нізначна*. Валодзькі Маладз.

НІЗО'ВІНКА *ж. памянш*. Нізінка. *У канцы маго шнурка нізовінка есць*. Дакудава Лід.

НІЗРО'ДАК *м.* і *ж.* Вырадак. *Нізродак: стары, а малы*. Номікі Бабіц.

НІЗРЭ'НЧНЯ *гл.* НЕЗРЭ'НЧНЕ

НІЗРЭ'ЧНЕ *гл.* НЕЗРЭ'НЧНЕ

НІЗЫ'ПІРНІЦА *ж.* Тое ж, што і н і ж ы́ п а р н і ц а I. *У нізыпірніцы з малаком трэба паляц папарыць*. Гемзы Шальч.

НІЗЬ *ж.* Тое ж, што і н і ж ы н а́. *Дзе нізь, там зямля падзолістая*. Вузла Мядз.

НІЗЯ'ЛЬНЯ *ж. павел.* да н і з і н а́. *Каля яго нізяльня такая, дак ланцугі былі абмёршы*. Ёдлавічы Брасл.

НІКАГУ'СЕНЬКА узмацняльная форма да н і к о́ г а. *Нікагусенька німа*. Крынкі Крын.

НІКАГУ'ТКО узмацняльная форма да н і к о́ г а. *Нікагутко ні было ўчора*. Алекшыцы Ваўк.

НІКАНЧО'НЫ *прым*. Незакончаны. *Ніканчоная дыктанда*. Гемзы Шальч.

НІКАРА'ПЛА *м.* і *ж. экспр*. Няўклюда. *Ой, нікарапла ты, нікарапла: што не зробя, так усё па-ярундоўскаму*. Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kerėpla* 'нязграбная істота'.

НІ'КАЦЬ *незак*. Прыглядацца. *Нада хадзіць, нікаць*. Кураполле Паст.

НІКЛІМА'ЖЫ *гл.* НЕХЛЯМЯ'ЖЫ

НІ'КЛЫ *прым*. Кволы. *Якіесь такіе ніклы буракі выраслі, зелье іх забіло*. Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *nikły* 'бледны, слабы'.

НІКЛЯМЯ'ГА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н і к а р а́ п л а. *Ніклімажы чалавек — хто нізграбны, нейкі ніклямяга*. Старыя Смільгіні Воран.

НІКЛЯМЯ'ЖЫ *гл.* НЕХЛЯМЯ'ЖЫ

НІ'КНУЦЬ *незак.* Знікаць, гінуць. *Я помню, у нас былі пчолы, цяпер каждь гот нікнуць — паўміраюць за зіму.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *niknąć* 'тж'.

НІКО'ГА *займ.* Ніводнага чалавека. *Нікога не было бліска.* Крэва Смарг. *Нікога ні пазваў.* Палік Барыс.

НІКУДЫ'ШНЫ, НІКУДЫ'ЧНЫ, НІКУДА'ШНІ, НЫКУДЭ'ШНЫЙ *прым.* Нікчэмны. *Нікудышныя здзелаў памідоры.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Такое загавайло, саўсім праційны — нікудычны чалавек.* Валеўка Навагр. *Купів слабого, нікудашнёга коня.* Курашэва Чыж. *Ныкудэшный чоловік.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* руск. *никудышный* 'тж'.

НІКЧЭ'МНА *прысл.* Вельмі мала. *Нікчэмна плацілі — дваццаць капеяк за дзень.* Ахрэмаўцы Брасл.

НІКЧЭ'МНЫ, НІКЧО'МНЫ *прым.* 1. Тое ж, што і н і к у д ы́ ш н ы. *Нікчэмны чалавек.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Збалаваны. *Нікчэмны рабёнак.* Кураполле Паст. *Нікчомны рабёнак, ні зрук.* Валынцы, Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *nikczemny* 'благі, подлы'.

НІЛЮДЗЯ'НЫЙ *прым.* Тое ж, што і н е л ю д з і́ м ы. *Нілюдзяный чалавек, жывець асобна.* Рагулішкі Даўг.

НІЛЮ'ЦКІ *гл.* НЯЛЮ'ДСКІ

НІМА' *гл.* НЯМА'

НІМАГУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Слабы. *Німагушчы ён, ведама бальны.* Малахоўцы Бар.

НІМА'Ш *гл.* НЯМА'ШАКА

НІМА'ШАКА, НІМА'ШУКА, НІМА'ШЫКА *гл.* НЯМА'ШАКА

НІМІЖЛЮ'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і н е л ю д з і́ м ы. *Німіжлюдны чалавек.* Мсцібава Ваўк.

НІМІРУ'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і н і з м і р о́ н ы. *Німірутны гультай.* Мярэцкія Глыб.

НІМО'ЖНА, НІМО'ЖНО *гл.* НЯМО'ЖНА

НІНАВО'ШТА *прысл.* Ні для чаго. *Нінавошта свіннакроп не рвуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НІНАДАЛУ'ЖЫЦЬ *зак.* Не зразумець. *Нінадалужыць, ні дарадзіць, як зрабіць. Нінадалужыць, не зрабіў як трэба, не дайшоў.* Міратычы Карэл.; *парайн.* польск. *niedołężnieć* 'рабіцца бездапаможным'.

НІ'НІШНІ *прым.* Сягонняшні. *Вчорашне молоко скісло, а нінішне шчэ солотке.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *нынешний* 'цяперашні'.

НІ'НЯ, НІ'НІ *прысл.* Зараз. *У нас калхос ніня. Ніня парабіласо много вучоных.* Заполле Гродз. *Чого нэ зробілі вчора, то зробімо ніні.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *ныне* 'тж'.

НІПАВАРО'ТКА *ж.* Нязграбная жанчына. *Яна такая ніпаваротка, як дубіна, нісkладная.* Малі Астр.

НІПАМЯРКО'ЎНЫЙ *прым.* Непамяркоўны. *Ніпамяркоў-*

*ныя вайкі, адзін з другім дабычай не падзеляцца.* Рагулішкі Даўг.

НІПАНІМА′ЮШЧЫ *прым.* Які не разумее. *Ніпанімаюшча баба.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* руск. *понимающий* 'які ўсё разумее'.

НІПАЧЫНА′ТЫ *дзеепрым.* Непачаты. *Ніпачынаты бохан хлеба.* Номікі Бабіц.

НІПО′РНЫ *прым.* Тое ж, што і н е ў п о́ р н ы. *Дзеці ніпорныя былі.* Старое Сяло Зэльв.

НІПРАХАЖА′ЛЫ *прым.* Тое ж, што і н е п р а х а д з і́ м ы. *Ніпрахажалае балота.* Саланое Віл.

НІПРЫЛЮ′ДАК *м.* Тое ж, што і н е́ л ю д з ь. *Ніпрылюдак нейкі яе маліц.* Валынцы В.-Дзв.

НІПРЫЛЮ′ДНЫ *прым.* Тое ж, што і н е л ю д з і́ м ы. *Непрылюдны, дундук.* Мярэцкія Глыб.

НІПУЦЁВЫ *прым.* Шалапутны. *Ніпуцёвы зяць саўсім.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *непутевый* 'тж'.

НІРАСХО′ДНЫ *прым.* Эканомны. *Людзі ёсць ніраходныя, скупыя.* Жодзішкі Смарг.

НІРА′ХА *м.* і *ж.* Неахайны чалавек. *А гэна баба ніраха, сама ходзя зафлюндрыйшыся, лышкі нямытыя, закарэўшы.* Гемзы Шальч. *Ён такі ніраха зрабіўся. Хто неакуратна робіць, карэла адзейшыся — тая баба ніраха.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *неряха* 'тж'.

НІРА′ХЛІВЫ *прым.* Неахайны. *Ніряхліва была Палуся, і прышла да хлопцаў з раскрытай распоркай у андараку.* Стральцы Гродз. *Ніряхлівая нявеста.* Ёдлавічы Брасл.

НІРЭ′ХА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н і р а́ х а. *Ты нірэха.* Мiратычы Карэл.

НІС *гл.* НІЗ

НІСАЛО′НЫ *прым.* Несалёны. *Нісалоная сала.* Рыбчына Віл.

НІ′СКА *гл.* НІ′ЗКА

НІСКАВА′ТЫ *гл.* НІЗКАВА′ТЫ

НІСКАНЧО′НЫ *прым.* Бясконцы. *Нісканчоны быў лес.* Саланое Віл.

НІ′СКІ′ *гл.* НІ′ЗКІ′

НІСКЛАДУ′ХА *ж.* Недарэчнасць. *Нісклядуха такая, пішуць нейкую нісклядуху.* Руднікі Шальч.

НІСМА′ШНЫ *прым.* Нясмачны. *Нісмашная капуста.* Асавец Віл.

НІСПАГА′ДНЫ *прым.* Неспагадлівы. *Наш чалавек ніспагадны: ты рабі на каленках, ён не пашкадуя.* Малі Астр. *Сям'я вялікая ніспагадная.* Талейкі Швянч.

НІСПАДЗЕ′ЎКІ *прысл.* Нечакана. *Ніспадзеўкі прыехаў.* Мярэцкія Глыб.

НІСПАДЗЯВА′НА, НІСПАДЗЯВА′НЕ *прысл.* Тое ж, што

і н і с п а д з е́ ў к і. *Яны прыехалі ніспадзявана, мы не спадзяваліся, што яны прыедуць.* Гемзы Шальч. *Ніспадзявана прышоў.* Старыя Трокі Трак. *Прыехалі госці ніспадзяване.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *niespodziewanie* 'тж'.

НІСПАДЗЯ'НЫ *прым.* Нечаканы. *Ніспадзяны прыбыў.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *niespodziany* 'тж'.

НІСПАКАІ'ТА *прысл.* Неспакойна. *Ніспакаіта на душы!* Саланое Віл.

НІСПЯ'ШЧЫ *прым.* Які не спіць. *Дзеці ніспяшчыя, ім хочыцца ўночы пагукаць.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *спящий* 'які спіць'.

НІСТРА'ЎНАСЦЬ *гл.* НЯСТРА'ЎНАСЦЬ

НІСТРА'ЎНАСЬ *гл.* НЯСТРА'ЎНАСЦЬ

НІСХАДЗІ'МЫ *прым.* Тое ж, што і н і с к а н ч о́ н ы. *Нісхадзіма пушча, канца німа.* Дзяніскавічы Ганц. *Лес буў нісхадзімы.* Кузьмічы Люб. *Там града нісхадзімая дуба.* Ухвала Круп.

НІСЯДЗЯ'ЛЫ *прым.* Непаседлівы. *Я баба нісядзялая.* Магуны Паст.

НІТ *м.*, НІТЫ', НІТЭ' *мн. ткац.* 1. Ніцяныя петлі ў ткацкім станку для падымання нітак асновы. *У ніт кідаем, а тады ў берда.* Саланое Віл. *Кідаюць у ніт.* Лоск Валож. *Ніты ў ткацкім станку.* Чычалі Швянч. *Кідалі ў ніты.* Мішневічы Шум. *У ніты зводзяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ніты і жалезныя бёрды, а дзе дзіравянныя.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *На пруточках ніты надзеты.* Лоск Валож. *Ніты ў нічальніцы кідаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Накідаю ў ніты.* Рудня Астравітая Чэрв. *У ніты накідаюць.* Мачаск Бярэз. *У ніты кідаць.* Салады Лудз. *Ніты ў кроснах.* Навікі Лудз. 2. У выразе: *У два (тры...) ніты (ткаць)* — ткаць пэўным спосабам. *Белыя спадніцы насілі ў восем нітоў тканыя.* Вузла Мядз. *Ткалі ў два ніты.* Лоск Валож. *Ткала ў восім нітоў, а звязана ў шэсць паначжоў. І ў два ніты ткалі, і ў чатыры.* Ёдлавічы Брасл. *У мяне былі выбіраанькі ў трыццаць шэсць нітоў.* Малахоўцы Бар. *Ткалі ў тры ніты (у палоску).* Мачаск Бярэз.; *парайн.* літ. *nýtys* 'тж'.

НІ'ТКА, НЫ'ТКА *ж.* 1. Нітка. *Нітка адна, завяжы ніткаю.* Дзяніскавічы Ганц. *На клубка матают ныткі.* Горск Бяроз. 2. Нізка. *Нітку грыбоў пацапіла.* Вялікі Лес Круп. *Нітку грыбоў насушылі.* Беразіно Докш. ◊ *Да ніткі* — наскрозь. *Дошч зліў да ніткі, прамок да ніткі.* Ёдлавічы Брасл. *Прамок да ніткі.* Рудня Астравітая Чэрв.

НІ'ТРА *ж.* Парашок для мыцця бялізны. *Даўней нітра была — такі парашочак, у вар сыпалі і бяльё мылі.* Рагулішкі Даўг.

НІТУ'БІЧ *м. бат.* Бяссмертнік. *Нітубіч памоцны ад печані.* Мсцібава Ваўк.

НІЎДА'ЛЫ *гл.* НЯЎДА'ЛЫ

НІЎДО'БІЦА *гл.* НЯЎДО'БІЦА

НІЎДО'БІЯ *гл.* НЯЎДО'БІЯ

НІЎЁ *зб. н.* Ніва. *Па ніўю растуць сучкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НІЎЛА'Д *прысл.* Не так, як трэба. *Яшчэ ніўлад яму.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НІЎМІРУ'ШЧЫ *прым.* Неўміручы. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл.

НІЎРО'ДА *ж.* Неўраджай. *Лонскі рок была ніўрода.* Крынкі Крын.

НІЎЦЯ'М *прысл.* Няўцям. *Апшылацяць старыка на базары, а яму і ніўцям.* Мярэцкія Глыб.

НІХАДЖА'ЛЫ *прым.* Які рэдка прыходзіць. *Ніхаджалы гось.* Валынцы В.-Дзв.

НІХА'Й *гл.* НЯХА'Й

НІХАМЯ'ЖЫ гл. НЕХАМЯ'ЖЫ

НІХАРЧО'ЎНЫ *прым.* Які мала есць. *Мой кватарант ніхарчоўны.* Альхоўка Навагр.

НІХВА'ТКА *ж.* Недахват. *У нас ніхватка людзей.* Стральцы Гродз.

НІХЛІМЯ'ЖЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і н е х а м я́ ж ы. *Ніхлімяжлівая дзеўка.* Валынцы В.-Дзв.

НІХЛЮ'ДНЫ *прым.* Неахайны. *Ніхлюдная, няўхлюда ты!* Солы Смарг.

НІХЛЯМЯ'ГА *ж.* Няўдалы чалавек. *Ніхлямяга нейкая.* Белы Бераг Іўеў.

НІХЛЯМЯ'ЖА *прысл.* Няўдала. *Ніхлямяжа пашыта, спорчана.* Рагулішкі Даўг.

НІХЛЯМЯ'ЖНЫ *прым.* Тое ж, што і н е х а м я́ ж ы. *Ніхлямяжны — няўдалы, нілюцкі.* Вялікія Баяры Шчуч.

НІХЛЯМЯ'ЖЫ, НІХЛІМЯ'ЖЫ *гл.* НЕХЛЯМЯ'ЖЫ

НІХО'ЧАЧЫ *прысл.* Тое ж, што і н е́ х а ц я 1. *Есць яна ніхочачы.* Дакудава Лід.

НІ'ХТО *займ.* Нехта. *Ніхто прыіхав до Лэвка.* Відзібар Стол.

НІХТО' *займ.* Ніводзін чалавек. *Ніхто так не ткаў!* Навікі Лудз.

НІЦ I *прысл.* Уніз (тварам). *Слугі падалі ніц перат царом.* Лісна В.-Дзв. *Клаўся ніц. Паваліўся ніц галавой.* Мярэцкія Глыб. *Спаць лёх ніц.* Рыбчына Віл. *Лёг ніц.* Пасека Ст.-Дар. *Лехчы ніц.* Рудня Чэрв.

НІЦ II, НЫЦ, НЭЦ *займ.* 1. Нічога. *Для мілэго — ніц труднэго.* Ністанішкі Смарг. *Яна ніц не адзене. Ён бэз яе ніц не азьме.* Парэчча Гродз. *Ніц яму не зробіцца.* Галубы Маст. *Рабіць ня хоча ніц.* Жылі Іўеў. *Ніц нема трудней, як чалавек неўчоны, дурачок.* Мсцібава Ваўк. *Ніц няма.* Старое Сяло

Зэльв. *Ні ветру, ніц, як у гаршке* [пра надвор'е]. Вялікія Баяры Шчуч. *За гэ ніц не робіцца. Я не рваў ніц яму.* Хатынічы Ганц. *Ніц ні ела.* Дзяніскавічы Ганц. *І нэ носілі ветэ ніц. І ніц мэнэ нэ ўкусіло. То ж ветэ ніц ні елі. Ніц мого нэ ўкрадэтэ.* Смаляніца Пруж. *Ніц не бракуе.* Ялова Пруж. *Ніц не заробіш. Але ніц не чую. Мусіт, ніц не наготовілі.* Вялікі Краснік Пруж. *Ніц ні ест. До бородяшкі ніц не прыложыш. Ніц нэ брау.* Азарычы Пін. *Але батько так схотіеў, то ныц ужэ не зробыш.* Горск Бяроз. *Нэц ны маю. Нэц ны булет. Шчо тэ нэц ны кажэш до його?* Дзмітравічы Кам. *Поіехав і ніц с собою нэ взяв. Століе роботы, ніц нэ будэ.* Курашэва Чыж. 2. Зусім. *Ніц німа вады і німа рэкі.* Мсцібава Ваўк. ∇ *Ён ні б'е, ні лая — і ніц не дая.* Малі Астр. ◇ *Німа ніц* — нішто. *Яму мама — німа ніц.* Каўняны Гродз. *Як ніц* — як нічога і не рабіў. *Работу куончу — як ніц.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *nic* 'нішто'.

НІ'ЦАМ *прысл.* Тое ж, што і н і ц І. *Ён ляжаў ніцам. Ніцам ляжаў, ялінка мяне спасла.* Ёдлавічы Брасл. *Пала ніцам. Як банькі паставіць трэба, ніцам лехці трэба.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сабака як хватануў — ніцам пала.* Рагулішкі Даўг.

НІЦЕ'ЦЬ *незак.* Рабіцца тонкім, кволым (пра расліны). *Картошка ніцеіць, нада палоць.* Валынцы В.-Дзв.

НІЦЁВАНЫ *дзеепрым.* Пераніцаваны. *Ніцёвана спудніця выгледае як нова.* Курашэва Чыж.

НІ'ЦІ *мн.* Ніткі. *Ніцей купіла.* Паляцкішкі Воран. *Клубок, што ніці матаюць. Ніцьмі шыла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нада ўвадзіць ніці ў берда.* Кіралі Шчуч. *Ніцéй маю.* Граўжышкі Ашм. *Выцягаваіць ніці.* Ністанішкі Смарг. *Куплю ніці, німа ніцéй.* Паляцкішкі Воран. *Купіш белы ніці.* Мсцібава Ваўк. *Дзе чорныя ніці? — Няма ніцей.* Міратычы Карэл. *Крутыя ніці.* Жылі Іўеў. *Шпулька ніцей.* Старое Сяло Зэльв. *Ніці прынесла.* Альхоўцы Лях. *Ніці свае і купіла ніці, німа ніцéй.* Дзяніскавічы Ганц. *Ёсць невад, сплецены з ніцей.* Кудзялянцы Шальч.

НІ'ЦІМА *прысл.* Тое ж, што і н і ц І. *Я ніціма ўпала.* Парэчча Гродз.

НІЦКІ' *прым.* Нелюдзімы. *Ён ніцкі, сядзіць адзін.* Ісерна Слуц.

НІЦКО' *м.* Тое ж, што і н е́ л ю д з ь. *Глядзі, ніцко ідзе.* Ісерна Слуц.

НІ'ЦМА *прысл.* Тое ж, што і н і ц І. *Ён ніцма лёх.* Плябанцы Ашм. *Ляжаў ніцма.* Граўжышкі Ашм., Малахоўцы Бар. *Ляжыць ніцма на пасцелі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ніцма ляжыць.* Альба Нясв. *Выпрудзіласё дзіця, ніцма легла.* Навіны Нясв. *А я дзіця ніцма перавярнула!* Валеўка Навагр. *Забалела я і ўсе суставы, ляжу ніцма, на дзяругі выняслі мяне.* Альхоўцы Лях. *Ляжала ніцма.* Дзяніскавічы Ганц. *Мае моду*

*класціська цёнгля ніцма.* Гемзы Шальч. *Некоторы сп'ят ніцма.* Курашэва Чыж.

НІ'ЦЫ *прым.* 1. Ніцы (пра вярбу). *Ніцая лаза, у яе лісточак дробненькі, яна бальшая не расцець, сукаватая і бахматая. Ніцая лаза нягожа ні на дровы, ні на мацер'ял.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ніцая лаза. Ніца лазіца расце кусцікам кала зямлі.* Рыбчына Віл. 2. *перан.* Тое ж, што і н е л ю д з і м ы. *Ніцы, як і гэта вярба.* Ісерна Слуц. 3. Пахмурны. *Учора была добрая пагода, а сёння дзень ніцы, неба зацягнула хмарамі.* Акцябр Акцябрскі; *парайн.* руск. *ницый* 'нізкі, паніклы'.

НІЦЯ'НІКІ *мн.* Лапці, зробленыя з нітак. *Ніцянікі звязалі з канапляных ніцей, проў каноплі. Кручком вязалі.* Пацаўшчына Дзятл.

НІЧАВО' *прысл.* Нядрэнна. *Сэрца б'ецца нічаво.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *ничего* 'тж'.

НІЧАГО' *займ.* Тое ж, што і н і ц II, 1. *Нічаго мне не прыгатаўляў.* Пасіене Лудз.

НІЧАГУ'СЬКІ *займ.* узмацняльная форма да н і ч ó г а. *Нічагуські ня рабіла.* Кураполле Паст.

НІЧАГУ'СЯНЬКО *займ.* узмацняльная форма да н і ч ó г а. *Цэлу зіму ні маглі нічагусянько ўзяць у рот.* Тупічаны Ваўк.

НІ'ЧАЛЬНІЦА *ж.*, НІ'ЧАЛЬНІЦЫ *мн. ткац.* 1. Тое ж, што і н і т 1. *Нічальніца ў кроснах.* Крэва Смарг. *У нічальніцы ўводзім ніткі.* Быстрыца Астр. *У нічальніцы і бёрда кідалі.* Гальшаны Ашм. *Будзям кідаць у нічальніцы.* Солы Смарг. *Да нічальніц на вяроўках прывязваюць панажэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Нічальніцы рабілі з ніцей.* Старыя Смільгіні Воран. *Нічальніцы — што ўкідаць ніці асновы.* Навасёлкі Свісл. *Нічальніцы есць і бёрдо.* Міратычы Карэл. *Ніткі ў нічальніцы ўводзяць.* Беразіно Докш. *У нічальніцы ўводзяць.* Новыя Мацалі Варэн. *Нічальніцы, у іх аснову заводзіш.* Кудзялянцы Шальч. *Нічальніцы ў краснах.* Гемзы Шальч. *Аснова накідаецца ў нічальніцы і бёрдо, а тагды завязваецца на пруток.* Лука Нараўк. *Буду накідаць у нічальніцы і бердо.* Крынкі Крын. *Будзем ніці кідаць у нічальніцы, а патом у бердо.* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і н і т 2. *У восім нічальніцаў ткалі.* Альхоўка Навагр. *Ткала на тры нічальніцы.* Гемзы Шальч. *Ткалі ў две нічальніцы.* Стральцы Шальч. *Наткала рушнікоў у пяць нічальніцаў.* Кудзялянцы Шальч.

НІ'ЧАНІЦЫ, НІ'ЧЭНІЦІ *мн.* 1. Тое ж, што і н і т 1. *Нічаніцы ў кроснах.* Швэды Вільн. 2. Тое ж, што і н і т 2. *Выткала плахту в тры нічэніці.* Курашэва Чыж.

НІЧАПА'НЫ *дзеепрым.* Некрануты. *Нічапаныя пакосы ляжаць.* Ністанішкі Смарг.

НІЧА'СТА *прысл.* Нячаста. ▽ *Нічаста ходзіць, німнога просіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

НІЧАСТЫ′ *прым.* Нячасты. *Гэта госці нічастыя.* Ахрэмаўцы Брасл.

НІЧКО′М *прысл.* Моўчкі. *Я ня пыю, сяджу нічком.* Кузьмічы Люб.

НІЧО′ГА, НІЧО′ГО, НІЧЭ′ГО, НЫЧО′ГО *займ.* 1. Нічога. *Нічога не было.* Чычалі Швянч. *Нічога няма.* Грыкені Вільн. *Нічога ні даюць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *прысл.* Тое ж, што і нічавó. *Яны жывуць нічога. За партніху вучылася, навіт яна нічога* [краўчыха]. Валынцы В.-Дзв. *Яны нічога жывуць. Пагода ніхмура, нічога.* Солы Смарг. *Нічога жые, каровы хавае.* Стральцы Шальч. 3. Дрэнна. *Пазаўчора напісала, а ўчора нічого було. Нічого нам було буті без поля.* Азарычы Пін. *Мні було вельмы нычого.* Батарэя Бяроз. ∇ *Ні бяры нічога — ня бойся нікога.* Вузла Мядз. ◇ *До нічэго* — ні на што не прыгодны. *Ён до нічэго.* Кемялішкі Астр.

НІЧО′ГІ, НЫЧО′ГІЙ, НЫЧО′ГЫЙ *займ.* у знач. *прым.* 1. Нядрэнны. *Яна баба нічога.* Малі Астр. *Так ён нічогі мужык?* Мішневічы Шум. 2. Дрэнны. *Ён нічогі чалавек.* Тухавічы Лях. *О, ён такі нічогі, не зладзіш з ім.* Хатынічы Ганц. *Нічогі замок. Нічогі чоловек.* Азарычы Пін. *Вон чалавек нічогі, сердзіты, суровы, ты да яго падыйдзеш!* Ялова Пруж. *Мужык буў нычогій. Вона вэльмі нычога.* Дзмітравічы Кам. *Много гарэхаў нічогіх. Ечмень гэты будзе нічогі.* Вялікі Краснік Пруж. *Нычогі бэрэг, нэма доброго бэрэга.* Горск Бяроз. 3. Слабы здароўем. *Нічогі чалавек.* Пасека Ст.-Дар.

НІЧОГУ′ОТЭ у знач. *назоўніка.* Нікчэмнасць. *Мае сімнацэть ліет, ашчэ такое нічогуотэ, зусіем слабы.* Курашэва Чыж.

НІЧУ′ЦЬ *прысл.* Нікольк. *Расце, дзяўчатка, усё: гурке, вот бачыця, якія, а морква вот нічуць, кап зямля жырней, так ляпей было п.* Пяронім Слон.

НІ′ЧЫЙ *займ.* Чыйсьці. *Нічый серп лыжыть.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

НІ′ЧЭНІЦІ *гл.* НІ′ЧАНІЦЫ

НІЧЭ′САНЫ *дзеепрым.* Нячэсаны. *Лён нічэсаны. Лён яшчэ не часала.* Гемзы Шальч.

НІ′ШКАМ, НІ′ШКОМ *прысл.* 1. Тое ж, што і нічкóм. *Нішкам сядзіць баба ў хаце. Васіль нішкам ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Сядзіць нішкам.* Пасека Ст.-Дар. *Сядзеце нішком!* Кузьмічы Люб. 2. Употай. *Я нішком паплáчу, як яна злае мяне.* Кузьмічы Люб.

НІШКАРА′ДЗІНА *м.* і *ж.* Тое ж, што і нікарáпла. *Нішкарадзіна тая хазяйка і хазяін.* Дакудава Лід.

НІШКАРЭ′ЙДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і нікарáпла. *Нішкарэйда такая!* Мсцібава Ваўк.

НІШТО′ *прысл.* Тое ж, што і нічавó. *Нам ніщто ў хаці.* Саланое Віл. *«Ну, ці нішто яна дзяўчына?» — «Ласка-*

*вая, і ветлая, спрытная».* Ахрэмаўцы Брасл. *Скажы, Марылька, ці нішто яна дзяўчына?* Кураполле Паст.

НІШЧАСЛІ'ВЫ *прым.* Няшчасны. *Дзе сыны раджаюцца, тая хата нішчаслівая.* Саланое Віл.

НІШЧА'СЦЯ *ж.* Няшчасце. *Ведае, што ў мяне такая нішчасця.* Новыя Мацалі Варэн.

НІШЧА'ЦЬ *незак.* Худзець. *Чалавек нішчаіць, ня есць, нешта нездаровы.* Груздава Паст. *Дзіця нішча (нішчаіць).* Рыбчына Віл.

НІШЧАЧКО'М, НІ'ШЧЫЧКОМ *прысл.* Тое ж, што і н і ч к о́ м. *Нішчачком пасядзім.* Семежава Кап. *Мы нішчачком пастаім.* Вецярэвічы Пух. *Нішчычком сэдзітэ.* Смаляніца Пруж.

НІШЧО'ГА *прысл.* Нічога. ◇ *Без нішчога* — без прычыны. *Без нішчога забілі.* Збляны Лід.

НІ'ШЧЫ *м.* Жабрак. *Бывала, нішчых было многа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён у нішчага торбу выпрасіць іс кускамі.* Азяраны Раг.; *парайн.* руск. *нищий* 'тж'.

НІШЧЫ'МНІЦА *ж.* Посная ежа. *Нішчымніца, пасната была.* Старыя Смільгіні Воран. *Страдаць аб нішчымніцы.* Міратычы Карэл. *Нішчымніца сёня ў мяне, грыбка ўкінула і то смашней.* Пасека Ст.-Дар. *Нішчымніца — калі німа скораму.* Дзяніскавічы Ганц. *Нішчымніца — як усё ўрэмя німа нічога скаромнага.* Лапічы Асіп. *Еш сама сваю нішчымніцу,* Ухвала Круп. *Заеліся нішчымніцай.* Мачаск Бярэз.

НІШЧЫ'МНО *прысл.* Посна. *Елі нішчымно.* Малахоўцы Бар.

НІШЧЫ'МНЫ *прым.* 1. Посны. *Калі нада пасціць, яда нішчымна.* Малахоўцы Бар. *А каша нішчымна.* Альхоўцы Лях. *І вара нішчымна, бо німа ў ей нічога.* Дзяніскавічы Ганц. *Нішчымная яда, як німа чым запраўляць.* Багушэвічы Бярэз. *З нішчымным куском зачалі рабіць.* Вецярэвічы Пух. *Нішчымнай кавы напілася і пабегла. Нішчымных гурочкаў паеў.* Дакудава Лід. 2. Пусты, не запоўнены. *Вядро пустое, нішчымнае.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Які не ўтрымлівае сокаў. *Як стаяць каласы, то кажаць нішчымнае жыто.* Дзяніскавічы Ганц. *Жураўліны навэсне, бы можонкі, станут нішчымные.* Смаляніца Пруж.

НІШЧЭ'МНІНЬКІ *прым. памянш.* Худасочны. *Ён нішчэмнінькі, худы.* Дакудава Лід.

НІШЧЭ'МНЫ *прым.* Няякасны. *Самыя нішчэмныя драва асінавыя.* Ахрэмаўцы Брасл.

НІ'ШШЫ *прым. выш.* Ніжэйшы. *А поля то многа. Гэта нішшы, гэта вышшы* [участак]. Драглеўцы Ашм. *Там нішшо место, а там вышшо — гэто грудок.* Малахоўцы Бар. *Полка то вышша, то нішша.* Пацаўшчына Дзятл.

НІЯДЗІ'МЫ *прым.* Неядомы. *Ніядзімыя грыбы, ваўчыныя грыбы.* Саланое Віл.

НІЯДО'МЫ *прым.* Тое ж, што і ніядзімы. *Смарчкі ў нас ніядомыя грыбы.* Дакудава Лід.

НІЯ'К *прысл.* Тое ж, што і нічу́ць. *Груш нія́к німа.* Парэчча Гродз.

НІЯ'КА *прысл.* Дрэнна. *З сэрцам саўсем ніяка.* Лісна В.-Дзв.

НІЯ'КІ, НЫЯ'КЫЙ *займ.* 1. Ніякі. *І кіслі ніякай німа. Дзела ніякага не робіць. Ніякага лекарства німа.* Кураполле Паст. *Ні было ніякога мыла.* Ракаўскія Швянч. *Ні падойдзіць на думкі ніякая песня.* Талейкі Швянч. 2. у знач. *прым.* Тое ж, што і нічо́гі 2. *Паша ў нас ніякая.* Валынцы В.-Дзв. *Жызь была ніякая.* Буды В.-Дзв. *Такі ўжо — ніякі чалавек.* Едлавічы Брасл. *Ніякая серца, але нада дажываць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баба ніякая: няхлюя, гразная, ніраха.* Мярэцкія Глыб. *Яго Юзік ніякі, гультай і п'ець.* Вузла Мядз. *А гэты саўсім ніякі лён — руды.* Кураполле Паст. *Жонка яга ніякая.* Груздава Паст. *Баба ніякая.* Рыбчына Віл. *Гарэлкі як вып'іць, тады ніякі робіцца.* Асавец Віл. 3. у знач. *прым.* Неразумны. *Ён ніякі чалавек.* Магуны Паст. 4. у знач. *прым.* Слабы, кволы. *Саўсім ніякія, робіць ня можым* Буды В.-Дзв. *Была саўсім ніякая, у нас ёй палучшала.* Юркава В.-Дзв. *У яе сэрца ніякая.* Лісна В.-Дзв. *Твой брат ніякі.* Валынцы В.-Дзв. *Была саўсім ніякая баба, жаўтачка была.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маё сэрца ніякая.* Кураполле Паст. *Моя баба вжэ зусім ныяка.* Сіманавічы Драг. 5. *пагард.* Невялікі. *Мая грамата — ніякая.* Лісна В.-Дзв.

НОВІНА' *гл.* НАВІНА'

НОВУ'СЬКІ *прым. памянш.* Новенькі. *Колошыкі ўжэ новуські.* Дзмітравічы Кам.

НО'ВЫ *прым.* 1. Новы. *Вядро новае купіла.* Груздава Паст. *У новуй хаці жывуць.* Парэчча Гродз. *Новы касцюм, нова сукенка. Новыя сукенкі.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *Новым годам* у знач. *прысл.* На Новы год. *Новым годам дамоў ішоў.* Кураполле Паст. *Прышоў дамоў Новым годам і ня дома?* Груздава Паст.

НОГА' *гл.* НАГА'

НО'ГАЦЬ, НО'ХАЦЬ, НО'КАЦЬ, НЁХАЦЬ *м.* Ногаць. *Ногаць баліць.* Альхоўка Навагр. *Задзёрла пад нахцём.* Лоск Валож. *У мяне зубоў нет, так нохці за зубы служаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зацвілі нохці.* Дзяніскавічы Ганц. *З нохцям атрэзала паліц.* Кураполле Паст. *Нохаць нада абрэзаць.* Валынцы В.-Дзв. *За нахці зашло с холаду.* Каўняны Гродз. *Нохці ў чалавека.* Багушэвічы Бярэз. ◇*С-под нёхця кроў выцягнуць* — прычыніць гора каму-н. *С-под нёхця кроў выцягнула, каб цябе бог наказаў за муку да маю покуту, я цераз*

*цябе жысць страдаю.* Хатынічы Ганц. *На нокаць* — мала, у невялікай колькасці. *Сваімы рукамы зробіў, на нокаць ніхто ні памох.* Ахрэмаўцы Брасл.

НО'ГЦІК *м. памянш.* да н о́ г а ц ь. *Ногцікі грызу да крыві, а малчу.* Саланое Віл.

НО'ДЫ *прысл.* 1. Тое ж, што і н а д о́ і ч. *Ноды выходной, пойдзеш на охоту.* Хатынічы Ганц. 2. Іншы раз. *Ноды прыдзе, ноды нет.* Хатынічы Ганц.

НОЖ, НОШ, НЫЖ *м.* Ножык. *Ножам луску здзіраюць.* Солы Смарг. *А я табе нажом.* Лоск Валож. *Нажа хоча ўзяць.* Альхоўцы Лях. *Нажэм прасадзі дзвера.* Ялова Пруж. *Ныж гострый.* Дзмітравічы Кам. *Ехалі пакравамі, стаў мароз і як ножам адрэзалася, стала зіма без зазімкаў.* Вузла Мядз.

НО'ЖАНЦЫ толькі *мн.* Нажніцы. *Ножанцы шукаю.* Стральцы Гродз.

НО'ЖАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да н а г а́. ∇ *«Хто ходзіць без ножачак?» — «Вада».* Ахрэмаўцы Брасл.

НО'ЖКА, НО'ШКА *ж. пчал.* Ножка. *Пчолы ліцяць, на ношках касмаценькіх мядок.* Дзёрнавічы В.-Дзв

НО'ЖНІ толькі *мн.* Вялікія нажніцы. *Так рэзаць — нажніцы, ножні — авец стрыхчы.* Палік Барыс.

НО'ЖНІЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і н о́ ж а н ц ы. *Ножніцы вострыя, добра стрыхчы мацер'ял.* Едлавічы Брасл. *Авечча ножніцы, імі стрыгуць авечак: жвых-жвых.* Івашкаўцы Смарг. *На́ ножніцы, хай матка адрэжыць на хвальбонку.* Асавец Віл. ∇ *«Пад лёдам ножніцы?» — «Рак».* Саланое Віл.

НО'ЖНЫ, НО'ЖНА толькі *мн.* 1. Тое ж, што і н о́ ж н і. *Ножны — авечак стрыгчы.* Старыя Смільгіні Воран. *Авеч'я ножна.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Тое ж, што і н о́ ж а н ц ы. *Адрэш ножнамі.* Дакудава Лід. *У мене есь крайцоўскіе ножна.* Каменка Стара Сакол.

НО'ЖЫЦІ толькі *мн.* Тое ж, што і н о́ ж а н ц ы. *Стрышчысе можна машынкаю і ножыцямі. Овечы ножыці.* Курашэва Чыж.

НО'ЗДРАВАЛЫ *прым.* Наздраваты. *Ноздравалы хлеп.* Номікі Бабіц.

НО'ЗДРАЧКІ *ж. памянш.* да н о́ з д р ы 2. *Здор увесь на ноздрачках.* Малахоўцы Бар.

НО'ЗДРЫ *мн.* 1. Ноздры. *У каня ноздры.* Сакаляны Сакол. 2. Поры ў харчовых прадуктах. *Мяккі хлеб на наздро́х.* Альхоўцы Лях.

НО'КАЦЬ *гл.* НО'ГАЦЬ

НО'НЕЧНЫ *прым.* Сяголетні. *Нонечны цялёнка ў яе.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *нынешний* 'тж'.

НО'НІЧЫ, НО'НЬЧЫ *прысл.* Сяголета. *Нонічы здесь нет ягад, марозам абхватала ягаднік.* Пасіене Лудз. *Как ноньчы*

*снегі былі, разліваецца возера крэпка.* Чарняўскія Лудз.; *парайн.* руск. *нынче* 'цяпер, сёння'.

НО'РАСТ *м.* 1. Ікра (рыб, жаб). *Нораст рыба пускаіць па ціне. Нораст жаба пусціць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і н е р а с т. *Пачайся жабскі нораст, жабы квокчуць.* Ахрэмаўцы Брасл.

НО'РАТ *гл.* НА'РАТ

НОРТ, НУ'ОРТ *м.* 1. Цячэнне. *Норт — берах закруцісты, рака ідзе ў лукаткі, дзе крута паварочваецца, на норт зацягвае.* Рыбчына Віл. 2. Паглыбленне, вір на павароце ракі. *Норт — глыб, яма, выбітая вадой. У заломя норт выбіты.* Жылі Іўеў. *Чэрэз нуорт нэ можна пэрэіехаті, бо мнуого воды.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *nurt* 'цячэнне, фарватэр'.

НОРЫ'ЦЯ *гл.* НАРЫ'ЦА

НОС, НЫС *м.* 1. Нос. *Велькі нос, насаты.* Вялікія Баяры Шчуч. *У насе кніціць — катар.* Малі Астр. *Ныс свэрбэт. На носу.* Дзмітравічы Кам. 2. Лыч. *Мышуе свіня носам па зямлі.* Грыкені Вільн. 3. Вострая частка яйка. *Доўгінькі* [у яйку] — *нос.* Малахоўцы Бар. *Нос яйца востры.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нос і пушка ў яйцэ.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Нос і пуха* [у яйку]. Лука Нараўк. 4. Вузкая частка ляза касы. *Нос — востры канец касы.* Істра Лудз. ∇ *З носу па грошу, а з бальшога і два* (жарт.). Ахрэмаўцы Брасл. *Нос — на двух рос, але аднаму прышлося насіць.* Малі Астр. *З носу кап — у рот хап* — пра скупога чалавека. Вецярэвічы Пух. ◇*Нос апусціўшы (павесіўшы)* — засмуціцца. *Нос апусціўшы і ходзіць.* Саланое Віл. *Пашоў нос павесіўшы.* Саланое Віл. *Не па насу (пад нос, у нос)* — не даспадобы. *Мне не па насу было пры маццы жыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гэта яму не пад нос.* Азяраны Раг. *Яму не ў нос.* Кіралі Шчуч. *Яму гэта не ў нос.* Саланое Віл. *Ат наса патсунуць* — даць другому аб'едкі. *Ат наса яму патсунулі, як нядобра зрабілі.* Саланое Віл. *Носа не высунуць (вытнуць)* — нельга выйсці з-за дрэннага надвор'я ці іншых прычын. *Дошч — і носа не высуніш нікуды.* Малі Астр. *Насў не вытыкай с хаты.* Солы Смарг. *Такая завея, ня можа вытнуць носа.* Жылі Іўеў. *Нос высока нясці* — ганарліва сябе паводзіць. *Ён высока нос нясе — гунуровы натта.* Малі Астр. *Паваліцца носам* — упасці тварам уніз. *Паваліўся носам у зямлю.* Гемзы Шальч. *На носе* — блізка. *Была смерць на носе, мне потым адышло.* Паляцкішкі Воран. *Пад насом* — побач, перад вачыма. Талейкі Швянч. *Бліны пад носам ліжаць і ня відзіў.* Валынцы В.-Дзв.

НО'САЛЬ *м.* Тое ж, што і н а с á ч. *Носаль ты, велькі нос у цябе.* Вялікія Баяры Шчуч.

НО'СІК *м. памянш.* Тое ж, што і н о с 3. *У яйцэ е носік і п'ятка.* Дзяпіскавічы Ганц.

НО'СКІЯ *прым. мн.* Нясучыя (куры). *Бахурчыкі — куры носкія.* Кудзялянцы Шальч.

НО'СНАЯ *прым.* Цяжарная. ▽ *Як жэнісся, то жонка: то сосная, то носная* [жарт.]. Ахрэмаўцы Брасл.

НОСЫ'ТЫ *гл.* НАСІ'ЦЬ

НОСЭ'СКО *м. павел.* Вялікі нос. *От носэско!* Дзмітравічы Кам.

НО'ТА *ж.* Голас. *Яна маіць добрую ноту.* Асавец Віл.

НОЎ *м.* Маладзік. *Заўтра ноў.* Мсцібава Ваўк.

НО'ХАЦЬ *гл.* НО'ГАЦЬ

НОЧ *м.* 1. Ноч. *Ночы не спаў.* Лісна В.-Дзв. *Многа начэй ня спала.* Едлавічы Брасл. *Ноч — апоўнач ідзе ў адну пору.* Бакшты Іўеў. *Ноч і сплю, і сяджу, і малюся доўгай ноччу зімовай.* Саланое Віл. *Гэтымі начамі мне нешта ня спіцца.* Ністанішкі Смарг. 2. у знач. *прысл. ночай, ноччу, ночы, начой.* Ноччу. *Дзяжурыць ночай.* Магуны Паст. *Ночай прачнулася.* Дзевятні Смарг. *Аттуль мы праехалі ноччу.* Пасіене Лудз. *Ночы сукно валілі.* Рудня Чэрв. *У вайну ня мыліся, начой рукамі галаву дзяром.* Быстрыца Астр.

НО'ЧВАЧКІ *мн. памянш.* да н о́ ч в ы. Вялікія Баяры Шчуч.

НО'ЧВЫ *мн.* Начоўкі. *Ночвы велькія.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ночвы з дрэва выдзяўбаныя.* Пацаўшчына Дзятл. *Я выбіраю ў ночвы, у ночвах апару* [агурке]. Вецярэвічы Пух. *Ночвы зрабіў.* Дзяніскавічы Ганц. *Мы ў ночвах мылі белізну.* Малыя Аўцюкі Калінк.

НО'ЧНЫ *гл.* НАЧНЫ'

НОШ *гл.* НОЖ

НО'ША *ж.* 1. Тое ж, што і н а ш о́ ў к а. *Пошу папёр ахрап'я.* Валынцы В.-Дзв. *Ноша на плячах, храп'я насілі, бабоўнік.* Пасіене Лудз. *Як хто ношу бярэ, кажаць: «Вашуя і вашуя цэлы дзень».* Малі Астр. 2. *пчал.* Ношка. *Пчала нясе ношку.* Саланое Віл.

НО'ШКА I, НЫ'ШКА, НЭ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і н а ш о́ ў к а. *Ускінуў ношку на плечы — і панёс дадому.* Беразіно Докш. *Ускінула на плечы ношку сена і ідзе сабе.* Глівін Барыс. *Набраў ношку і панёс.* Багушэвічы Бярэз. *Ношку несла перат сабою.* Вецярэвічы Пух. *Ношка сена.* Палік Барыс., Пасека Ст.-Дар. *Панесла ношку травы.* Вецярэвічы Пух. *Ак у радзюшку вьязалі сено — ношка.* Хатынічы Ганц. *Маленька нышка.* Дзмітравічы Кам. *Нэшка — в'язка сена, бобэўніку. Всэ звязала в нэшку, дай прынэслá.* Азарычы Пін. 2. Тое ж, што і н о́ ш а 2. *Пчала ношку нясець, пыльцу.* Груздава Паст. *Пашлі пчолы з ношкамі. Пчала нясець ношку на лапках.* Саланое Віл.

НО'ШКА II *гл.* НО'ЖКА

НО'ШТА *ж.* Тое ж, што і н а ш о́ ў к а. *Ношты візалі, на*

*вяройку два-тры пуды сена. Прынясёць дзве ношы і выдуіць* [з'есць карова] *праз ноч.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тры ношты будуць, за тры разы і прынясе.* Кіралі Шчуч. *Прынёс ношту сена, саломы.* Рагулішкі Даўг. *Вялікую ношту чуць прыцягнула.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *naštà* 'ноша'.

НО'ШЫ *мн.* Тое ж, што і н а с і л к і 3. *Ношы — дзве палкі, на якія кладуць пластамі сена і нясуць двох чалавек.* Пацаўшчына Дзятл.

НРА'ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Ён мне нравіўся не красатой.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *нравиться* 'тж'.

НУ *часц.* 1. *узмацняльная.* Ну. *Ну, яшчэ маю часу!* Солы Смарг. *Ну, паехаў я.* Груздава Паст. 2. *пытальная.* Ці. *Ну, хадзіў у Вілейку?* Рыбчына Віл. 3. *сцвярджальная.* Так. *«Ты Платона дзеўка?» — «Ну». «Тата ў хаця?» — «Ну».* Стральцы Гродз.

НУДА' *ж.* 1. Сум. *Нейкая нуда напала на чалавека.* Вузла Мядз. ∇ *У міне ні ліжала ні біда, ні нуда на плячах.* Саланое Віл. *З нуды стала нехароша.* Кузьмічы Люб. 2. Той, хто назойлівы. *Муся гэта нуда ходзя — пятух.* Солы Смарг.

НУДЗЕ'ЦЬ, НУ'ДЫТЫ, НУДЫ'ТЭ *незак.* Нудзіцца. *Дачка вышла замуш, я нудзіў па даццэ. Укралі плуг, вот я і нуджу, патрэбны — і няма, і будзеш нудзець.* Гемзы Шальч. *Вдова нудыт, шчо ўмёр мужык, батько. Як якое горэ, то нудыш, местя нэ находыш.* Горск Бяроз. *Нудыт по дому.* Дзмітравічы Кам.

НУ'ДЗІЦЦА *незак.* Адчуваць нуду. *Робіш і нудзісся, няма пользы ад работы.* Быстрыца Астр.

НУ'ДЗІ'ЦЬ *незак. безас.* 1. Пра млосны стан перад рвотай. *Я натащчак ела антонаўкі, мяне нўдзіць.* Вальцы В.-Дзв. *Нўдзіць, сліну гоніць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ташніць, нўдзіць, зле.* Пацаўшчына Дзятл. *Нўдзіць мяне, стаіць пад грудзьмі.* Крэва Смарг. *Мяне нўдзя.* Быстрыца Астр. *Нўдзя мяне.* Дакудава Лід. *Тошна: нўдзя, блажыць.* Рыбчына Віл. *Нўдзіць, пыд грудзіма боліць.* Хатынічы Ганц *Нўдзіць, занудзіла, ташната.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не гаварыця пра жап, мяне нўдзя.* Гемзы Шальч. *Нудзіць мяне.* Магупы Паст. 2. Ныць, балець. *Нешта жывот нўдзіць.* Саланое Віл. *Як мне пальцы нудзяць.* Кураполле Паст.

НУДЛІ'ВЫ *прым.* 1. Які выклікае сум, нуду. *Нудлівая ваша работа. Нудлівая работа воўну прасці, нудліва на грудзях і ў галаве.* Кураполле Паст. *Нудлівая работа.* Старыя Трокі Трак. 2. Неспакойны. *Я нудлівая, не сплю, кручуся, як гадзюка.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Які мае дрэнны характар. *Жонка яго нудлівая, муся яна пагрысціся, пераесціся.* Гемзы Шальч.

НУ'ДНО *прысл.* Сумна. *Будзіць нудна нам жыць на ху-*

*тары*. Саланое Віл. *Як прыдэ вэчор, то мне нудно, нудно*. Смаляніца Пруж. *Вам нудно ў нас*. Ялова Пруж.

НУ'ДНЫ *прым*. 1. Сумны. *Сядзіць адзін нудны, нуда яго сцягнула*. Ёдлавічы Брасл. 2. Які наганяе нуду. *Нудная работа ваша*. Малі Астр. *Нудна работа, бясконцая*. Мсцібава Ваўк. 3. Няўтульны. *Паязда там нудныя, гразныя*. Малі Астр.

НУДЫ'ТЫ, НУДЫ'ТЭ *гл*. НУДЗЕ'ЦЬ

НУ Ж, НУ Ш *пабоч*. Дапусцім. *Ну ш прыедут, а мы нэ будэмо прыготовляны*. Курашэва Чыж.

НУ'ЖА *ж*. Тое ж, што і н у д а̀ 1. ▽ *Сніла вужа, будэ нужа*. Азарычы Пін.

НУЖДА' *ж*. Нястача, беднасць. *Вяліка нужда была*. Альхоўцы Лях. *За ніемцуов в вэлікуой нуждіе жылі*. Курашэва Чыж.; *парайн*. руск. *нужда* 'тж'.

НУЖДА'ЦЦА *незак*. Мець патрэбу. *Нуждоўся рускімі кнігамі*. Альхоўцы Лях.; *парайн*. руск. *нуждаться* 'тж'.

НУЖО'Н у знач. *вык*. Патрэбны. *Каму ён нужон*. Лоск Валож. *Каму ты нужон?!* Ялова Пруж.; *парайн*. руск. *нужный* 'тж'.

НУОРТ *гл*. НОРТ

НУРА' *гл*. НАРА'

НУРКО'М *прысл*. Нырцом. *Я нурком іду ў рэку, нурком дасі — і выплыіш*. Руднікі Шальч.

НУ'РТАМ *прысл*. Тое ж, што і н і ц 1. *Лех нуртам і заснуў*. Мсцібава Ваўк.

НУРЦАВА'ЦЬ *незак*. Ныраць. *Хто нурцуе, як дасць пат кампа* [падмыты бераг] *нурца: там усё есць — ракі, ментузы*. Солы Смарг.

НУРЦА'ЦЬ *незак*. Тое ж, што і н у р ц а в а̀ ц ь. *Нурцаіць у воду, быў вялікі чалавек, с пайчаса пад вадой мох быць*. Саланое Віл.

НУРЫ'ЦЬ *незак*. ◇ *Нурыць носам* — падаць тварам аб зямлю. *Носам нурыць — папіраецца п'яный*. Рыбчына Віл.

НУРЭ'Ц *м*. 1. Той, хто нырае. *Быў харошы нурэц, час у вадзе можа быць, і ўтапіўся*. Азяраны Раг. 2. Скачок у ваду. ◇ *Нурца біць* — ныраць; *нурца даць, пайсці нурца* — нырнуць. *Б'юць нурца. Нурца біць ні ўмея*. Вострава Маст. *Нурца дай і схавайся пад вадой*. Лоск Валож. *Нурца даець*. Саланое Віл. *Пашоў нурца*. Номікі Бабіц.

НУТРА' *ж*., *мн*., НУТРЫ' *мн*. Нутро. *Уся нутра балела. Нутра — усе, што е ў чэраве*. Дзяніскавічы Ганц. *На нутрох я здарова*. Граўжышкі Ашм. *Вантрабянкі рабілі: выбярыць нутры, зварыць і пасякая вантробкі: сэрца, пячонкі і ў кішкі — і ў печ*. Старыя Трокі Трак. *Нутры парэжым і ў коўбык*. Малыя Аўцюкі Калінк.

НУТРА'К *м*. *вет*. Нутрэц. *Нутрак — кнюр з адным яйцом*. Лука Нараўк.

НУТРАНЕ'Ц *м.* Тое ж, што і н у т р а́ к. *Нутранец — кныр з адным ядром.* Пацаўшчына Дзятл.

НУТРАНЫ', НУТРЭННЫ' *прым.* Выняты з нутра. *Нутраноя сала.* Мярэцкія Глыб., Груздава Паст. *Адбіраюць сала нутраное, тады жэбрачкі і кумпяк асобня.* Чуркі Ашм. *Сала нутраноя.* Гальшаны Ашм. *Нутраное сала топім.* Навікі Лудз. *Сланіна асобна, а садла — нутраноя.* Руднікі Шальч. *Нутраное сало звязвалі.* Лука Нараўк. *Сало нутрэнное перэтапліваецца.* Крынкі Крын.

НУТРЭ'Ц *м.* Тое ж, што і н у т р а́ к. Быстрыца Астр. *Кнур асобне, а нутрэц з адным яйком у сярэдзіне.* Чуркі Ашм. *Нутрэц — парсюк, не пускаюць у племя нутраца.* Саланое Віл.

НУ Ш *гл.* НУ Ж

НУ'ШКАЦЬ I *незак. экспр.* Вынюхваць, вышукваць. *Чаго ты нушкаіш — ходзіш па кутках?* Груздава Паст.

НУ'ШКАЦЬ II *незак.* Прымушаць. *Нушкай і нушкай, ня хоча вучыцца сын — і канец.* Саланое Віл.

НЫ *гл.* НЕ

НЫВЫ'СТКА *гл.* НЯВЕ'СТКА

НЫ'ГДЫ, НЫ'ГДЭ *гл.* НІ'ГДЫ'

НЫГО'ДА *гл.* НЯГО'ДА

НЫ'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і н у́ д з і́ ц ь 1. *Ныдзіт мяне.* Лука Нараўк. 2. Тое ж, што і н у́ д з і́ ц ь 2. *Пуд ложачкай ныдзіт.* Лука Нараўк.

НЫЖ *гл.* НОЖ

НЫ'ЗГРЫ *мн.* Пыса. *Нызгры — у каровы, храпа — у каня.* Мярэцкія Глыб.

НЫКУДЭ'ШНЫЙ *гл.* НІКУДЫ'ШНЫ

НЫ'РКАЦЬ *незак. экспр.* Пазіраць. *Ныркаю што поўгадзіны на часы. Ныркаю ў вакно, ці гонюць кароў у поле.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НЫ'РКІ *мн.* 1. Ныркі. *Кроіцца трыбушок, ныркі, язык у вантрабянкі.* Солы Смарг. *Вантробы — гэто печань, ныркі, каса.* Малахоўцы Бар. *Ляжаць ныркі ў здоры.* Міратычы Карэл. *Ныркі ў садле.* Новыя Мацалі Варэн., Старыя Трокі Трак. *Ныркі баляць.* Стральцы Шальч. 2. *перан.* Свежына. *У нас гаворацъ: «Ідзём на ныркі», хто скажа і «на свежыніну».* Дакудава Лід.

НЫРКО'М *прысл.* Тое ж, што н у р к о́ м. *Ныркомбабухнула і захліпнулася Янучыха.* Гемзы Шальч.

НЫРНУ'ЦЬ *зак.* Нырнуць. *Як ныр нуў — і ўтануў.* Гемзы Шальч.

НЫРЫСТАВА'ЦЬ *гл.* НЕРАСТАВА'ЦЬ

НЫС *гл.* НОС

НЫСТЫ' *гл.* НЕ'СЦІ I

НЫ'ТКА *гл.* НІ'ТКА

НЫ'ТКО *прысл.* Сумна. Тое ж, што і н у́ д н о. *Нытко мне.* Каменка Стара Сакол., Стральцы Гродз.

НЫ'ХЛЯЦЬ *незак.* Марнець, чахнуць. *Ныхляў ды памёр.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* літ. *nyklà* 'той, хто марны'.

НЫЦ *гл.* НІЦ

НЫ'ЦКАЦЬ *незак. экспр.* Наракаць. *Як купяць у сваім сяле парасят, то будуць ныцкаць, што парасяты не ядуць.* Вузла Мядз.

НЫЦЬ *незак.* 1. Балець (пра адчуванне тупога, працяглага болю). *Рукі ноюць, а цяпер пірасталі ныць.* Лісна В.-Дзв. *Ні магу: ныя і ныя.* Старыя Смільгіні Воран. *Чырвоная мурашка як укуся, аж ныя каля сэрца.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Надакучліва гаварыць, скардзіцца *Што ноіш бяс толку.* Лісна В.-Дзв. *Я ня ныю, сяджу нічком.* Кузьмічы Люб. *Яна ныя, ныя — выганя вон яго.* Малі Астр. 3. *перан.* Марнець. *Картопля ныя на прыгорку.* Альхоўцы Лях.

НЫЧО'ГІЙ, НЫЧО'ГЫЙ *гл.* НІЧО'ГІ

НЫЧО'ГО *гл.* НІЧО'ГА

НЫ'ШКА *гл.* НО'ШКА I

НЫЯ'КЫЙ *гл.* НІЯ'КІ

НЭ *гл.* НЕ

НЭБО'ГА *гл.* НЯБО'ГА

НЭБО'Ж *гл.* НЯБО'Ж

НЭВЕ'СНА *ж.* Нявеста. *Которую засваталі, то нэвесна.* Горск Бяроз.

НЭ'ГЕР *м.* Негр. ▽ *Чорны, як нэґер.* Парэчча Гродз.

НЭГО'ДА *гл.* НЯГО'ДА

НЭДОБІ'ТОК *м. экспр.* Той, хто не знішчаны поўнасцю. *Шчэ німэцькі нэдобіткі былі в лядах, як совіеты прышлі.* Курашэва Чыж.

НЭДОІЕ'ДОК *гл.* НЕДАЕ'ДАК

НЭДОМАГА'ТІ *гл.* НЕДАМАГА'ЦЬ

НЭДОХВА'ТКА *ж.* Адсутнасць неабходнай колькасці. *Вэсною і хліеба нэдохватка была.* Курашэва Чыж.

НЭДОЧУВА'ТЫ *незак.* Недачуваць. *Я трохе нэдочуваю.* Горск Бяроз.

НЭДОЧЭКА'НЕ *н.* У выразе: *Нэдочэкане ёго* — не дачакаецца ён. *Нэдочэкане ёго, коб я сама прышла.* Курашэва Чыж.

НЭДО'ШЛЫ *прым.* Які хацеў стаць кім-н., але не стаў. *Нэдошлого зятя бачыла в Гайновці.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *niedoszły* 'былы кандыдат на якое-н. месца'.

НЭДУ'ГІ *прым.* Нядужы. *Стэпан такі нэдугі, довго ўжэ нэ пожывэ.* Курашэва Чыж.

НЭДУ'ЖЫ *гл.* НІДУ'ЖЫ

НЭМА'ШЫКА *гл.* НЯМА'ШАКА

НЭ'НДЖА *ж.* Той, хто пераборлівы ў ядзе. *Нэнджа некая,*

*усё перабірая: таго ня хоча, гэтаго чя хоча.* Малахоўцы Бар. *Нэнджа кажуць на чалавека і на скаціну, як хто ў ядзе недаборны.* Мсцібава Ваўк.

НЭ'НДЗА *ж.* 1. Нуда. *Нэндза міне заесць.* Бакшты Іўеў. *Такая нэндза!* Нізок Уздз. *Мне парасяты пахварэлі, мне нэндза.* Парэчча Гродз. *Нэндза напала на чалавека.* Кудзялянцы Шальч. 2. Ныцік. *От такая нэндза, што глядзець не хочацца на яе.* Валеўка Навагр. *Сам сабе не можа — гэга нэндза і нікуда!* Гемзы Шальч. *Кап такі час цяпер, яґ быў, то іх нэндза паела.* Баброўнікі Гарад. 3. Той, хто жадны. *О, некая нэндза.* Галубы Маст. 4. Неспакойны чалавек. *Такая нэндза: ні магу, калі потна, памылася і ляхчэй стала.* Дакудава Лід. 5. Тое ж, што і н э́ н д ж а. *Нэндза ты! Еш ужо.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Іхай іх нэндза возьмя, гэтых курэй!* Мсцібава Ваўк. ◇ *Упасці ў нэндзу* — занудзіцца. *Упа́дзя ў нэндзу.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *nędza* 'патрэба, беднасць'.

НЭ'НДЗІЦЦА *незак.* Капрызіць. *Што ты нэндзішся, еш!* Дакудава Лід.

НЭ'НДЗНЫ *прым. перан.* Дробны. *Нэндзныя ягады.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *nędzny* 'варты жалю, убогі, мізэрны'.

НЭ'НЗА *ж.* 1. Тое ж, што і н э́ н д з а 1. *Такая нэнза на душы.* Малахоўцы Бар. 2. Тое ж, што і н э́ н д з а 2. *На судзя была беда з нэнзаю.* Граўжышкі Ашм. 3. Капрызнік. *Гэта дзіця нэнза.* Дакудава Лід.

НЭ'НЗЛЫ *прым.* Пераборлівы. *Ну ш і нэнзлае дзіця, нічога есці не хоча.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* н э́ н д з н ы.

НЭ'РАСТ *гл.* НЕ'РАСТ

НЭ'РАЦЬ *гл.* НЕ'РАДЗЬ

НЭРВ, НЭРФ *гл.* НЕРВ

НЭРВАВА'ЦЦА, НЭРВОВА'ТІСЕ *незак.* Нервавацца. *Я нэрвуюся, што хворы ляжыць.* Кемялішкі Смарг. *Нэрвуюся цэлы дзень — сэрца баліць.* Груздава Паст. *Не нэрвуйся, гаварыла.* Гальшаны Ашм. *Як маю іті до гміны, то нэрвуюсе.* Курашэва Чыж.

НЭ'РВІЦА *незак.* Тое ж, што і н э р в а в а́ ц ц а. *Чаго ён нэрвіца?* Старыя Трокі Трак.

НЭРВО'ВЫ *прым.* Нервовы. *Нэрвова я, але не злавала.* Старыя Смільгіні Воран. *Така нэрвова.* Паляцкішкі Воран. *Нэрвовы чалавек скарэй пулю дастаня. Не нэрвовы чалавек усюды выйграя.* Жылі Іўеў. *Дочка нэрвовая.* Гемзы Шальч. *Наша маті нэрвова, буть чого нэрвуецца.* Курашэва Чыж.

НЭ'РВУС *м.* Нервовы чалавек. *Вот нэрвус які.* Гемзы Шальч.

НЭ'РВЫ *гл.* НЕРВ

НЭ'РКІ *мн.* Тое ж, што і н ы́ р к і 1. *Матка з нэрак памярла.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *nerki* 'тж'.

НЭСЦІ′ *гл.* НЕ′СЦІ I

НЭЦ *гл.* НІЦ

НЭ′ШКА *гл.* НО′ШКА I

НЮ′НІ *мн.* ◇ *Распусціць нюні* — расплакацца. *Нюні распусціў, а яшчэ мужык!* Мачаск Бярэз.

НЮ′НЬКА *м.* і *ж. экспр.* Негаваркі чалавек. *Такі нюнька быў, сядзецьме надзьмуўшысе, не адзыўнецца.* Вецярэвічы Пух.

НЮ′НЯ *м.* і *ж.* Тое ж, што і нюнька. *Нюня — хто неразгаворчывы.* Валынцы В.-Дзв.

НЮРК *выкл.* 1. Пра рэзкі і хуткі рух рукі. *Толькі нюрк у крайш* [рукой за ракамі]. Малькуны Ігн. 2. Пра міжвольны ківок галавой. *Мама сядзіць і нюрк галавой* [засынае седзячы]. Ёдлавічы Брасл.

НЮРКАВА′ЦЬ *незак.* Ныраць. *Нюркуюць дзеці.* Саланое Віл.

НЮРО′К *м.* Тое ж, што і нурэц 2. ◇ *Даць нюрка* — нырнуць. *Нюрка дае.* Саланое Віл. *Дзеці нюркі даюць у воду.* Старыя Смільгіні Воран.

НЮРЧА′ЦЬ *незак.* Бурчаць. *Чаго ты нюрчыш?!* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *niurnėti* 'тж'.

НЮХ *м.* 1. Здольнасць успрымаць пахі. *Нюх-та бальшы ў лісіцы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Драбок. *Вазьмі з нюх солі.* Рыбчына Віл. *Нюх, нюшок солі, перцу.* Мярэцкія Глыб. ◇ *На нюх табакі* — трошкі. *Дай мне на нюх табакі.* Азяраны Раг.

НЮ′ХАЎКА *ж. экспр.* Нос. *Нюхаўку разбілі яму.* Малі Астр.

НЮ′ХАЦЬ *незак. перан.* Высочваць, шукаць. *Чаго ты нюхаіш па кутках?* Рыбчына Віл. ◇ *Ні нюхаць пораху* — не быць на вайне. *Каторыя пораху ні нюхалі, нічаго ні знаюць.* Саланое Віл.; *гл.* нўшкаць I.

НЮ′ХКАЦЦА *незак. экспр.* Мець намер. *Нюхкайся дадому ісці.* Новіны Нясв.

НЮХТО′К *м. бат.* Наготка. *На пасвіску нюхткуов нарвала.* Курашэва Чыж.

НЮХЦЕ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і нюхаць. *Сабака нюхціць.* Вострава Маст.

НЮЧО′К *м. памянш.* Тое ж, што і нюх 2. *Ні бяры много солі, нючок.* Быстрыца Астр.

НЮ′ШКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і нюхаць. *Чага ты нюшкаеш?!* Груздава Паст.— *Чаго ты нюшкаеш? — Панюшкаю і пайду.* Ёдлавічы Брасл. *Нюшкаіць кошка па ўглах.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЮШО′К *м. памянш.* Тое ж, што і нюх 2. *Нюшок солі, перцу.* Мярэцкія Глыб. *Дай нюшок солі.* Кураполле Паст.

*Там нямножка, адзін нюшок.* Мішневічы Шум. *Дай мне нюшок перцу, солі.* Гемзы Шальч.

НЮШО'ЧАК *м. памянш.* да н ю ш о́ к. *Дай адзін нюшочак маку.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЮ'ШЧЫЦЬ *незак.* Муркаць. *Кошка ляжыць і не нюшчыць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *niáukšėti* 'тж'.

НЮ'ШЫТЫ *незак.* Нюхаць. *Кобэла нюшыт.* Дзмітравічы Кам.

НЯБАЖАНЯ' *н.* Пляменнік (звычайна малы па ўзросту). *Нябажаня прышоў да мяне — гэта сястры сын.* Тухавічы Лях.

НЯБАЖАНЯ'ТА *гл.* НЕБАЖАНЯ'ТА

НЯБАРА'КА *гл.* НЕБАРА'КА

НЯБЕ'СКА *прысл.* Блакітна. *Цёмна так было, а потым светла стала, так нябеска кругом.* Солы Смарг.; *гл.* н я б е́ с к і.

НЯБЕ'СКІ, НЕБЕ'СКІ *прым.* Блакітны. *Ка́па была нябеская, а цяпер во якая.* Солы Смарг. *Нябескі — як неба.* Мярэцкія Глыб. *Небескім лён цвіце.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *niebeski* 'тж'.

НЯБЛА'ГА *прысл.* Нядрэнна. *Няблага відзя.* Граўжышкі Ашм.

НЯБО'ГА, НЭБО'ГА *ж.* 1. Пляменніца. *Дачка брата — нябога.* Альхоўцы Лях. *Нябога прыходзіла, помогла копаць бульбу.* Хатынічы Ганц. *Нябога прышла, прынесла малако.* Семежава Кап. *Нябога расказавала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ты паглядзі, што твая нябога робіць, старую ні к місцы не пушчая.* Вецярэвічы Пух. *Нэбога — дочка сэстры або брата.* Азарычы Пін. 2. Небарака. *Олька, нэбога, нэ мае дэ на старость подіетісе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *niebogа* 'гаротніца'.

НЯБО'Ж, НЯБО'Ш, НЭБО'Ж *м.* Пляменнік. Лапічы Асіп., Пасека Ст.-Дар. *Нябош — сын брата.* Альхоўцы Лях., Рудня Астравітая Чэрв. *Нэбож — сын сясгры або брата, як мнэго,* то нэбожата. Азарычы Пін. ∇ *Які куст, такія отраслі, які дзядзька — такі нябож.* Пасека Ст.-Дар.

НЯБО'ЖА *м.* 1. Пляменнік. *Нябожа заходзіў, хлеп прынёс.* Тухавічы Лях. 2. Пры звароце да малодшых па гадах, да дзяцей. *А, нябожа, што вы там дзелаеце?* Ухвала Круп. 3. Бядак. *Старыя гаворацъ: «От нябожа, гаруя».* Малахоўцы Бар. ∇ *Трудзіся, нябожа, дык і бог паможа.* Мачаск Бярэз.

НЯБО'ЖЧЫК, НЯБО'ШЧЫК, НІБО'ШЧЫК *м.* Памёршы чалавек. *Памінаюць нябошчыка.* Быстрыца Астр. *Калі сасніць, што цвяты садзіш, то на нябошчыка.* Малі Астр. *Нябошчыка хаваюць.* Магуны Паст. *Казалі, што ў По́ставах сягання трох нябошчыкаў.* Груздава Паст. *Баялася нябошчыка.* Паляцкішкі Воран. *Як пахаваюць нібошчыка, даюць вячэру.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нібошчык — як памрэ.* Старыя Трокі

Трак. *Ляжыць нябошчык, а тут стаіць мяса, вотка.* Гемзы Шальч. *Яна нябошчыку шапку зняла — страх не паказаўся.* Кудзялянцы Шальч. *Мы гаворым аб нябошчыкі.* Руднікі Шальч. *Мой нябошчык яшчэ жыў быў, калі Генусь вярнуўся з арміі.* Солы Смарг. *Як мой нябошчык казаў.* Парэчча Гродз.

НЯБЭ'СЬ *пабоч.* Нябось. *Але як сталі крычаць людзі: «Цюга, цюга вайка!» Дык, нябэсь, пацяўся назат у лес.* Адамава Валож.

НЯВА'ЛА *м.* і *ж. экспр.* Гультай. Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *nẽvala* 'тж'.

НЯВЕ'ЛЬКІ, НЕВЕ'ЛЬКІ, НІВЕ'ЛЬКІ *прым.* Невялікі. *Наш лес нявелькі.* Паляцкішкі Воран. *Усе дзеткі нявелькія. Матка росту нявелькага.* Стральцы Шальч. *У яго невелька комната.* Альхоўка Навагр. *Наша невелька вёска.* Відаўцішкі Вільн. *Ест нівелькія гáдзіны.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *niewielki* 'тж'.

НЯВЕ'СТА, НІВЕ'СТА *ж.* 1. Тое ж, што і н э в е́ с н а. *А нявеста тутэйшая?* Парэчча Гродз. *Жанік і нявеста паехалі да шлюба.* Магуны Паст. *Едуць к нівесты, у нівесты адгуляют, забіраюm нівесту, у цэркву — венчаюцца і едуць к жаніху.* Пелічава Лудз. 2. Нявестка. *Нявеста пагнала каровы.* Парэчча Гродз. *Мая нявеста добрая, сынова і нявеста — адно і тоя ш.* Быстрыца Астр. *Я казала сыну: «Давай раздзелімса. Мая нявеста на той свет адвядзе мяне».* Стральцы Гродз. *Сынова больш с польскага, а нявеста с прастога.* Магуны Паст. *Тут нявеста* [кажуць], *па-польску — сынова.* Старыя Трокі Трак. *Нявеста дрэнная, сын ня глядзіць.* Ракаўскія Швянч. ∇ *Хлеп — ні нівеста, з'есца, другі будзіць.* Масішкі Красл.

НЯВЕ'СТКА, НЯВЯ'СТКА, НІВЕ'СТКА, НЫВЫ'СТКА *ж.* Тое ж, што і н я в е́ с т а 2. Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Хоць знала, якая нявестка.* Груздава Паст. *У мяне тры нявесткі.* Асавец Віл. *Мая нявестка перадавая.* Саланое Віл. *Сын з нявесткай прыехаў у госці.* Лоск Валож. *З нявесткай не паладзілі.* Валеўка Навагр. *Мая нявестка, большага сына жонка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У сем'ях па пяць нявесткаў было.* Альхоўка Навагр. *Нявестка — чужая дзіця* [свякрові]. Кузьмічы Люб. *Нявестку прывёс.* Ракаўскія Швянч. *У яе нівясткі ест. Нівестка добрая.* Солы Смарг. *Я нівестка, а іна свікроўка.* Пасіене Лудз. *Нывыстка е.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Нявестка — ні дачушка, сяннік — ні падушка.* Кукарава Бярэз.

НЯВІ'СНЫ, НЕВІ'СНЫ, НЕВЕСНЫ', НІВІ'СНЫ *прым.* Сляпы. *Нявісны ён, нічога ня бачыць.* Быстрыца Астр. *Дзверы шырока адчыніла — невісная была, не відзела на глаза.* Малі Астр. *Чалавек невісны.* Паляцкішкі Воран. *Былі і здаровыя хлопцы, а былі і невесны; сын ёсць, але невесны: не даў*

*бог яму ачэй.* Гемзы Шальч. *Ён нівісны, нізкі зрок.* Руднікі Шальч.

НЯВО'ЛЬНА *безас.* у знач. *вык.* Нельга, няможна. *Некалі гаварылі старыя людзі: «Нявольна дзеткі на ілляніічы мачыцца, бо кнаток у свечку робіцца з ільну».* Кураполле Паст. *Нявольна хадзіць на ўсе пахароны — і не пусціла яго. Нявольна бажыцца, а я пабажылася.* Рагулішкі Даўг.

НЯВЯ'СТКА *гл.* НЯВЕ'СТКА

НЯГО', НЯГО'Ж, НЯГО'Ш *часц.* Няўжо, хіба. *«Няго немцы спалілі? — Парцізанскі быў край».* Дзёрпавічы В.-Дзв. *Нягож, як ідзеш і зайдзешся на раку?* Юркава В.-Дзв. *Нягош гэта яны ні прыгналі? Цямнея.* Альхоўка Навагр. *Нягош пагоды ня будзіць?* Ласвіцкія Шум.; *парайн.* літ. *піаїgі, піаїgи* 'тж'.

НЯГО'ДА, НІГО'ДА, НЕГО'ДА, НЫГО'ДА, НЭГО'ДА *ж.* 1. Непагадзь. *Нягода! Як цяпер будзе што ўбраць?!* Малахоўцы Бар. *Нягода на дварэ.* Альхоўцы Лях. *Нягода пабракавала картоплі. На дварэ такая нягода!* Тухавічы Лях. *За нягодай неяк ссушыць сена.* Азяраны Раг. *Нігода на дварэ.* Вострава Маст. *Нігода, дошч ідзе.* Старое Сяло Зэльв. *А куды негодой Анна пошла.* Азарычы Пін. *Будэ ныгода.* Дзмітравічы Кам. *Мы з вамі попосідзелі б, коб была нэгода.* Смаляніца Пруж. 2. Дрэнны настрой. *Як нягода ей, яна будзя пець.* Вецярэвічы Пух.

НЯГО'ДНА *прысл.* 1. Нязручна, дрэнна. *Нягодна на кірасінцы варыць. Нягодна жаць, як палягло жыта.* Валынцы В.-Дзв. *Сколькі жмень у сноп кладзеш? Многа не кладзі, бо абіваць нягодна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Няварта. *Адной у лес хадзіць нягодна, ваўкі ёсь, рысі, дзікія свіні, выдра.* Лісна В.-Дзв.

НЯГО'ДНЫ, НЯГО'ННЫ, НЯГО'НЫ *прым.* 1 Дрэнны па характару ці паводзінах. *Былі нягодныя людзі, бацька страшны чалавек, напіўся, азвярэў.* Валынцы В.-Дзв. *Брат нягодны і братавая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Матка яе нягодная.* Дакудава Лід. *Помню быў у нашай дзярэўні багацей. Такі ш нягодны чалавек быў, калом бы яму зямля.* Бобравічы Іўеў. *Іш ты, нягодная стварэня.* Кураполле Паст. *Мой першы мужык благі быў, нягодны, да бап да чужых хадзіў. Яна такая нягоная.* Саланое Віл. *Такоя нягодная дзіця!* Ракаўскія Швянч. *Нягодная курыца лезіць у хату, кыш! Нягонны кот — разам з мышамі есць, не ловіць мышэй.* Вузла Мядз. 2. Дрэнны па стану. *Як пагода нягодная — боты адзівай. Дарога нягодная.* Валынцы В.-Дзв. 3. Непрыгодны. *Палка нягонная, кінь яе.* Асавец Віл. 4. Непрыгожы. *Нягодна, нераха, і хто цябе замуш возьме?* Пацаўшчына Дзятл.

НЯГО'ЖЫ *прым.* 1. Тое ж, што і н я г о́ д н ы 1. *У яе дзіцятко нягожэ.* Кузьмічы Люб. 2. Тое ж, што і н я г о́ д н ы 2.

*Яблыкі ў прошлым гаду былі нягожыя, рабыя.* Рагулішкі Даўг.

НЯГО′Ш *гл.* НЯГО′

НЯДБА′ЙЛА *м.* і *ж.* Нядбайны чалавек. *Нядбайла сваё валіць.* Кураполле Паст. *Ну, нядбайла! Буракі зараслі і ня пеліць.* Ёдлавічы Брасл.

НЯДБА′ЛІЦА, НІДБА′ЛІЦА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н я д б а́ й л а. *Нядбаліца — ні дбая: як ест, так добра.* Жылі Іўеў. *Нядбаліца нічога не дбае, гультай.* Малахоўцы Бар. *Нідбаліца — нідбалы чалавек, у яго нічого німа, ён не дбая.* Міратычы Карэл. *Мой мужык нідбаліца.* Альхоўка Навагр.

НЯДЗЕ′ЛЬКА *ж.* 1. *памянш.* да н я д з е́ л я 1. *Зачынаецца вятох нядзельку, тада нядзельку маладзік.* Гальшаны Ашм. 2. у знач. *прысл. нядзелькаю.* У нядзелю. *Нядзелькаю прыедзям да вас.* Вялікія Баяры Шчуч.

НЯДЗЕ′ЛЯ, НЕДЗЕ′ЛЯ, НІДЗЕ′ЛЯ *ж.* 1. Тыдзень. *Боля чым тры нядзелі гумно гарэла. Дзве нядзелі рабій, а дзве нядзелі ні работай.* Гальшаны Ашм. 2. Нядзеля (дзень). *У нідзелю туда заедзя.* Солы Смарг. *Я ў недзелю паеду.* Саланое Віл. 3. у знач. *прысл. нядзе́ляю.* У нядзелю, на гэтым тыдні. *Вазьмеш ты нядзеляю касцюмчык. Нядзеляю должан быць мёт.* Вялікія Баяры Шчуч.

НЯДО′БРА *прысл.* Млосна. *Што-та мне нядобра.* Гемзы Шальч.

НЯДО′БРЫ *прым.* Дрэнны. *Нядобра пагода, баляць ногі.* Стральцы Гродз.

НЯДО′ЛЯ, НІДО′ЛЯ *ж.* 1. Бяда. *Муся, на гэту нядолю конь спужайся, мяне выкінуў з воза.* Руднікі Шальч. 2. *м.* і *ж. перан., экспр.* Той, хто непрыемны. *Няўдалы чалавек. Нідоля сядзіць — як каго ні любяць, на дзіця абрыдлае кажуць.* Жылі Іўеў. *«Ах ты нідоля кармазава!» — так у нас ругаяць, бо былі Кармазы ніўдалыя.* Малі Астр.

НЯЕ′ШЧЫ *прым.* Неядомы. *Трава ўсё няешчая, адна разуха.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НЯЖЫЛЫ′ *прым.* Тое ж, што і н е ж ы́ т ы. *Няжылая хата.* Палік Барыс.

НЯЖЫ′РКІ, НІЖЫ′РКІ *прым.* Тое ж, што і н е д а б о́ р н ы. *Няжыркая карова, пераборлівая, няешчая.* Лайпушкі Ігн. *Ніжыркія свіня — то сухую рыпугу, муку з яе, даюць у яду свіням.* Гемзы Шальч.

НЯЗБО′ЖНІЦА *ж.* Бязбожніца. *Нязбожніца ты!* Дакудава Лід.

НЯЗБО′ЙЧЫСТЫ *прым.* Непатрабавальны, сціплы ў сваіх патрэбах. *Нязбойчысты чалавек. Як ёсь, так добра, яму хоць трава ні расці.* Лісна В.-Дзв.

НЯЗГО′ДА *ж.* Разлад. *Яны жывуць у нязгодзі.* Саланое Віл.

НЯЗДАРО'ВА *гл.* НІЗДАРО'ВА

НЯЛЮ'ДНІК *м.* Тое ж, што і н е л ю д з ь. *Ні з кім не хоча жыць — нялюднік нейкі.* Беразіно Докш.

НЯЛЮ'ДСКІ, НЯЛЮ'ЦКІ, НІЛЮ'ЦКІ *прым.* 1. Няўдалы. *Нялюцкі ён.* Дакудава Лід. *Нейкое нялюцкае цялё.* Пацаўшчына Дзятл. *Нялюцкая баба.* Лоск Валож. 2. Бесчалавечны. *У яго ўзгляд нілюцкі, зверскі.* Сакаўшчына Валож.

НЯМА', НЕМА', НІМА' *безас.* у знач. *вык.* Няма. *Няма ёй дзе дзецца.* Гальшаны Ашм. *Нема мамы?*Ністанішкі Смарг. *Нема што с табой гаварыць.* Кураполле Паст. *Нема сынавои, не прышла. Няма таты?* Стральцы Шальч. *Німа як рабіць.* Мярэцкія Глыб. *Німа, і бяды німа.* Саланое Віл. *Німа с кім гаварыць.* Лоск Валож.

НЯМА'ШАКА, НІМА'ШАКА, НІМА'ШУКА, НІМА'ШЫКА, НІМА'Ш, НЭМА'ШЫКА *безас.* у знач. *вык.* Тое ж, што і н я м а́. *Нідзе нічога нямашака: і салаўі не пяюць у галешніку і зязюлькі дзе падзеліся?* Пацаўшчына Дзятл. *Садзік маладыя, але цяпер нямашака яблык.* Пяронім Слон. *Свету нямашака.* Малахоўцы Бар. *У каго мушчын нямашака, у першую вочарацъ соткі пасеюць.* Якшыцы Бярэз. *Сабак німашака.* Лоск Валож. *Німашака акучніка.* Саланое Віл. *Німашака ў нас грыбоў. Німашука саломы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Німашака дроў.* Міратычы Карэл. *І зязюляў і каршуноў цяперука ёсціка, толькі гусей німашака дзікіх — тут німа такіх балатоў.* Мятлічыцы Лаг. *Сена німашыка.* Саланое Віл. *Німаш хлопцаў.* Старое Сяло Зэльв. *Сегоні одное курыцы нэмашыка.* Смаляніца Пруж.

НЯМА'ШАЧКА *безас.* у знач. *вык.* Тое ж, што і н я м а́. *Разніцы нямашачка.* Пацаўшчына Дзятл.

НЯМІЛАСЛІ'ВЫ *прым.* Непрыязны. *Я на свайго няміласлівая: чаму ён ні даў крыві, як сын балей.* Валынцы В.-Дзв.

НЯМКІ'НЯ *ж.* 1. Немка. *Фронтам ішоў, з нямкіняй сышоўся.* Малі Астр. 2. Нямая жанчына. *Нямко будзя, з нямкінямі папрыягджалі.* Вострава Маст.

НЯМКО' *м., ж.* і *н.* Нямы чалавек. *Нямко ён, ні гаворыць.* Малахоўцы Бар. *Яна ня чуе, нямко.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нямко будзя, з нямкінямі папрыягджалі.* Вострава Маст.

НЯМО'ГЛЫ *прым.* Тое ж, што і н і д у́ ж ы. *Ён нямоглы.* Рыбчына Віл. *Нямоглыя людзі былі пасля вайны. Стары нямоглы быў. Я хворая, нямоглая саўсём.* Саланое Віл.

НЯМО'ЖНА, НЯМО'ЖНО, НЕМО'ЖНА, НІМО'ЖНА, НІМО'ЖНО *безас.* у знач. *вык.* Тое ж, што і н я в о́ л ь н а. *А што дзе ёсь, дык і прыдумаць няможна. Няможна ш у хату было зайці.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Увяс вос у балота і выцянуць няможна. Груда, аш ісці няможна.* Магуны Паст. *Сеня снуць няможно: пеліва.* Быстрыца Астр. *Змярцвеіць нага, што і стаць няможна.* Ракаўскія Швянч. *Прайсці няможна.* Старыя

Трокі Трак. *Няможна ш было агня раскласць — істрабіцілі ляцелі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Цэлу нядзелю маладая ня йдзе ў сваю хату, кажуць, няможно. Як пост, скаромного німожно есці.* Малахоўцы Бар.

НЯМЧУ'ЖКА, НЯМЧУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і н я м к о́. *Хазяйка — нямчушка.* Солы Смарг.

НЯМЫ', НЯМЫ'Й *гл.* НЕ'МЫ

НЯ'НЧЫЦЬ, НЯ'НЬЧЫЦЬ *незак.* Даглядаць, песціць. *Нянчыла, нянчыла сваіго хлопца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пашла п у горад дзеці няньчыць, можа, і лучай, ня трэба цягацца.* Ністанішкі Смарг.

НЯ'НЬКА *ж.* Нянька. *Адну дзяўчыну за няньку азялі.* Вузла Мядз. *Яе за няньку ўзялі.* Бакшты Іўеў ▽ *Гэта будзя нянька, а та будзя лялька.* Гемзы Шальч.

НЯПАЛІВА'НЫ *гл.* НЕПАЛІВА'НЫ

НЯПРЫЛЮ'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і н е л ю д з і́ м ы. *Няпрылюдны, дзікі чалавек.* Ёдлавічы Брасл. *Няпрылюдны той, хто стараніцца людзей.* Ракаўскія Швянч.

НЯРО'Т *гл.* НА'РАТ

НЯРО'ЎНЫ, НЕРО'ЎНЫ *прым.* Неаднолькавы. ▽ *Лес няроўны — так і людзі няроўныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як нарот нероўны, так і лес нероўны.* Руднікі Шальч.

НЯРО'ЦІК *м. памянш.* да н я р о́ т. *Цэлы няроцік рыбы выцягнуў.* Малахоўцы Бар.

НЯРУ'ПНЫ *прым.* Неклапатлівы. *Нярупны, нядбайлівы мой чалавек.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *rūpnùs* 'клапатлівы'.

НЯРУ'ЧНЫ *прым.* Неручны, дзікі. *Курыца дзікая, няручная, няможна злавіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЯСЛА'ЎНЫ *прым.* Які не стрымлівае слова. *Няслаўны — майначыць слова.* Старыя Смільгіні Воран.

НЯСТА'ТАК *м.* Нястача. *Нястатак, калі няма чаго.* Старыя Трокі Трак.

НЯСТРА'ЎНАСЦЬ, НЕСТРА'ЎНАСЦЬ, НІСТРАЎ'НАСЦЬ, НІСТРА'ЎНАСЬ *ж. мед.* Дрэннае засваенне ежы. *Нястраўнасць, пякотка, пячэць міне, соду п'ець.* Ёдлавічы Брасл. *Я думала: або нястраўнасць, або перасіленне, або вантроба. Калі нястраўнасць, п'юць зёлкі.* Солы Смарг. *У самай копцэ* [ямцы пад грудзьмі] *мне баліць — нека нестраўнасць.* Гемзы Шальч. *Ністраўнасць — калі ж жалуткам нядобра, нудзіць.* Малахоўцы Бар. *Ністраўнась — еў непамысная.* Ахрэмаўцы Брасл.

НЯСУМЫ'СЛЯ *прысл.* Незнарок. *Зрабіў нясумысля.* Мярэцкія Глыб.

НЯСУ'ШКА *ж.* Курыца, якая добра нясецца. Мярэцкія Глыб., Багушэвічы Бярэз.

НЯСУ'ШЧАЯ *прым.* Якая добра нясецца (пра птушак).

*Нясушчая курыца, хароша.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Нясушчая курыца.* Рыбчына Віл. *Нясушчая кура.* Рудня Астравітая Чэрв. *Зладзюкі* [куры, якія вывеліся ўпотай] — *сільна нясушчыя.* Руднікі Шальч. ∇ *Ясная неба ў куцю — куры нясушчыя.* Быстрыца Астр.

НЯСЦІ′ *гл.* НЕ′СЦІ I

НЯСЦІ′СЯ *незак.* Несціся (пра птушак). *Курыца ў гушця нясецца.* Малі Астр. *Куры нясуцца.* Кіралі Шчуч. *Качкі нясуцца.* Мсцібава Ваўк. *Курыца будзіць нясціся.* Вузла Мядз.

НЯЎДА′ЛІНА *м.* і *ж.* Тое ж, што і н е ў д á л і ш ч а. *Няўдаліна ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

НЯЎДА′ЛЫ, НЕЎДА′ЛЫ, НІЎДА′ЛЫ *прым.* 1. Няўмелы, няўклюдны. *Я няўдалая, не магу рабіць.* Кудзялянцы Шальч. *Няўдалы чалавек.* Чычалі Швянч. *Хоць неўдалы муж, а ўсё троха ляпей. Яе сын неўдалы, як рэзгіні.* Малі Астр. *Я такая неўдалая: то за гэта, то за гэта зачаплюся — паабівала ногі за лета.* Солы Смарг. *Дзеці такія неўдалыя, не хочуць есці.* Вецярэвічы Пух. *Я сама ніўдалая такая.* Пасіене Лудз. 2. Які не ўдаўся. *Няўдалы хлеб.* Грыкені Вільн.

НЯЎДО′БА *н.* Няўдобіца. *Дзе-якоя няўдоба, там людзям даюць касіць.* Ракаўскія Швянч.

НЯЎДО′БІЦА, НЕЎДО′БІЦА, НІЎДО′БІЦА *ж.* Тое ж, што і н я ў д ó б а. *Няўдобіца — непрыгодная зямля.* Мярэцкія Глыб. *Няўдобіца — няўдобная, выдзерлі пожню і зрабілі ніву.* Малькуны Ігн. *Неўдобіца — пустая зямля.* Рудня Астравітая Чэрв. *«Што там за поле?» — «Ніўдобіца адна!» На той ніўдобіцы нічога не вырасціш.* Ухвала Круп.

НЯЎДО′БІЯ, НЕЎДО′БІЯ *ж.*, НЕЎДО′БІЕ, НІЎДО′БІЯ *н.* Тое ж, што і н я ў д ó б а. *Дзе благая зямля — няўдобія звалі.* Солы Смарг. *На няўдобіі ні сеюць.* Малахоўцы Бар. *Няўдобія, благая зімля.* Мярэцкія Глыб. *Няўдобія — зімля, кар'ер такая; ён там залажыў дом.* Вялікія Баяры Шчуч. *Няўдобія — зімля непрыгодная. Неўдобія была, непрахадзімая балота, а ваду спусцілі і зімля харошая стала.* Індра Красл. *Неўдобія — дзе не засяваюць поле.* Вострава Маст. *Там неўдобія была, пустая зямля.* Жылі Іўеў. *Неўдобіе, кінутая зямля там.* Беразіно Докш. *Ляжыць ніўдобія, не гаруць.* Солы Смарг.

НЯЎДО′БНА *прысл.* Нязручна. *Скора, но няўдобна: нямоцны кош.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *неудобно* тж'.

НЯЎДО′БНІЦА *ж.* Тое ж, што і н я ў д ó б а. *Няўдобніца — да пасеву няўдобная зямля.* Гемзы Шальч.

НЯЎДО′БНЫ, НЕЎДО′БНЫ *прым.* Непрыгодны для пасеваў. *Няўдобная зямля, пустая зямля.* Рыбчына Віл. *Неўдобная зямля, не рабілі яе, нічога не расло.* Пацаўшчына Дзятл.

НЯЎЖО′ *часц.* Тое ж, што і н я г ó. *Няўжо пойдзім заўт-*

*ра касіць?* Альхоўка Навагр. *Няўжо ш яна ішла дзевятнаццатым годам?* Вецярэвічы Пух.

НЯЎЗДО'ЛЕЦЬ *зак.* Не змагчы. *Няўздолюю хадзіць.* Рагулішкі Даўг.

НЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кот няўкая.* Вялікія Нястанавічы Лаг., Крынкі Крын. *Кошка хадзіла, няўкала.* Навадворшчына Мін.

НЯЎКЛЮ'ДА, НЯЎХЛЮ'ДА *м.* і *ж.* Той, хто няўдалы. *Няўклюда ты!* Граўжышкі Ашм. *Ніхлюдная, няўхлюда ты!* Солы Смарг.

НЯЎМЕ'КА *м.* і *ж.* Няздатны да работы чалавек. *Няўмека, як зварыла, так і з'ела.* Вузла Мядз. ∇ *Тады і няўмека пячэць, як з засека цячэць.* Вузла Мядз.

НЯЎМЕ'ЛЫ *прым.* 1. Які зроблены без належнага ўмення, не прафесійна. *Папэнкала пры няўмелым кляпанні.* Сасноўка Смарг. 2. Які не ўмее што-н. рабіць. *Вычыла танцаваць тых, каторыя няўмелыя.* Саланое Віл.

НЯЎМІРУ'ШЧЫ *прым.* Непрымірымы. *Ён няўмірушчы чалавек, не зтаджаецца ні с чым.* Жодзішкі Смарг.

НЯЎРО'ДЛІВЫ *прым.* Неўрадлівы. *Няўродлівыя гады былі.* Ракаўскія Швянч.

НЯЎСТРУ'Й *гл.* НЕЎСТРУ'Й

НЯЎСТЫ'ДНІК *м.* Бессаромны чалавек. *Эх, ты няўстыднік, напіўся.* Збляны Лід.

НЯЎСХО'ЛЫ *прым.* Які не дае ўсходаў, не прарастае. *Няўсхолае жыта такое.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Няўсхолая жыта.* Янова Рас.

НЯЎТО'ЎЧАНЫ *дзеепрым.* Не растоўчаны. *Няўтоўчаная бульба, кусочкамі.* Быстрыца Астр.

НЯЎХЛЮ'ДА *гл.* НЯЎКЛЮ'ДА

НЯХА'Й, НЕХА'Й, НІХА'Й *часц.* Тое ж, што і н е х. *Няхай прыедзе, згадае* [паспачувае]. Сасноўка Смарг. *Калісьці маладусе як дадуць бохан, калі ласка, нехай прэ. Ніхай адстыгне.* Грыкені Вільн. ∇ *Ніхай іх зямля пабярэ! Няхай іх жывых пабярэ!* Вецярэвічы Пух. *Ніхай ідзе ў божы час!* Малі Астр.

НЯХАЦЯ' *прысл.* Незнарок. *Няхаця я цябе піхнуў.* Ракаўскія Швянч.

НЯХВІ'ЛЯ *ж.* Мяцеліца. *Захадзіласа няхвіля.* Семежава Кап.

НЯХЛЮ'Я *м.* і *ж.* Тое ж, што і н я ў к л ю д а. *Няхлюя такая, і замуш пашла.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *niechluj* 'тж'.

НЯЧЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Нечапаны. *Сколько капіцаў нячэпана.* Стральцы Гродз.

НЯШЧА'СЦЯ, НЕШЧА'СЦЕ, НЕШЧА'СЦЯ *н.* Няшчасце. *Першы рас такоя няшчасця было: чуць гром Зіню не забіў.*

Кіралі Шчуч. *Сабака выіць на нешчасце.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нешчасця чалавеку бывая, як прападая жывёла.* Гемзы Шальч.

НЯ́ШЫ толькі *мн.* Тое ж, што і н а с і д л а. *Насілы, або няшы — насіць імі ваду. На няшах нясла два вядры п'яніцаў* [дурніц]. Магуны Паст.; *парайн.* літ. *nẽšiai* 'тж'.

# О*

О *часц.* 1. *указ.* Вось. *Абдзірець гэто о?* Малахоўцы Бар. 2. *узмацняльная.* О. *О, які голад быў!* Канюкай Вільн.

ОБА́ВА *ж.* Боязь. *Нэма обавы, ніц нэ станэцце.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *obawa* 'тж'.

ОБАВЛЯ́ТІСЕ *незак.* Перажываць, хваляваціца. *Я нэ обавляюсе, бо знаю, што выйдэ по-моёму.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *obawiać się* 'тж'.

О́БАД, О́БАТ, О́БОД *м.* Вобад. *Обад і шына ў калясу, обад с куской.* Мешкінева Лудз. *Обад — у коле.* Беняконі Воран. *Ест обад суцэльны і обад часцічны.* Судэрва Вільн. *Обад, калотка, шпіцы — у колясе.* Лука Нараўк. *Абадоў не было, а былі звінякі.* Грыкені Вільн. *Не каваныя колы, на абадах ездзілі.* Гемзы Шальч. *На спіцы надет обат.* Рагулішкі Даўг. *Обат зверху кола.* Быстрыца Астр. *Обат зверху каляса.* Ракаўскія Швянч. *Обат у машыні, у калясе — абруч жалезны і дзеравяны.* Альхоўцы Лях. *Круглы накладаецца обат.* Дзяніскавічы Ганц. *Еслі гнецца з ясэна, то называецца обод, а як з кавалкаў, то звончакі.* Калясное Міхал.; *гл.* в о́ б а т.

ОБА́ДВА *ліч.* Абодва. *Воны обадва такіе самы.* Курашэва Чыж. *Вчора обадва хлопці прыходылы, а тыпэр оно Косця.* Сіманавічы Драг.; *гл.* а б а́ д в а.

О́БАЛАК *гл.* О́БЛАК

О́БАЛКА *ж.,* О́БЛЫКІ *мн.* Воблака. *Обалка плыла — і прапала. Облыкі на небе светлыя.* Беразіно Докш.; *гл.* в о́ б л а к.

ОБА́ЧЫЦЬ, ОБА́ЧЫЦІ, ОБА́ЧЫТІ *зак.* 1. Убачыць. *Йіедучы назад обачыў я дієўчыну, шчо вэльмы любыў.* Горск Бяроз. *Баба-яга глянула на печ, обачыла Грышку і кінулас до ёго.* Рэчыца Бяроз. *Мы обачылі, як з-за горэ нємцы едут—*

---

* Словы на літару О, якія змешчаны ў слоўніку, у асноўным адлюстроўваюць палескія гаворкі і маюць адпаведнікі на літару А ў іншых гаворках.

*все розбегліса.* Смаляніца Пруж. 2. Паглядзець. *Вчора обачыла Коліну жуонку.* Курашэва Чыж. *Пуойдэм, обачым, як тая корова выгледае.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *zobaczyć* 'тж'.

ОБГОВА'РУВАТЫ *гл.* АБГАВА'РАВАЦЬ

ОБГОВОРЭ'ТЭ *зак.* Абгаварыць. *Обговорэле йійі.* Дзмітравічы Кам.

ОБГРЫ'ЗУВАТЫ *гл.* АБГРЫ'ЗАЦЬ

ОБГРЫ'СТЫ *гл.* АБГРЫ'СЦІ

ОБДЭ'РТІСЕ *зак.* Абнасіцца. *До того обдэрсе, што нэ мей чого на плечы натягнуті.* Курашэва Чыж.

ОБЕ'Д *м.* Снеданне. *У нас зайтрак зовут обед. Будэмо варыці обед.* Смаляніца Пруж.

ОБЕ'ДАЦІ *незак.* Снедаць. *Ты ніц нэ обедала. Вона ніц нэ обедала.* Смаляніца Пруж.

ОБЕ'ДЗВІ, ОБІ'ЕДВІ *ліч.* Абедзве. *Обедзві е хусткі.* Смаляніца Пруж. *Обіедві дівчынята зосталісе на нуч.* Курашэва Чыж.; *гл.* а б е́ д з в і.

ОБЕ'ДНО *прысл.* Крыўдна. *Обедно, як ожэныш сына.* Горск Бяроз.; *гл.* а б і д н о.

ОБЕ'ЧКА *ж.* Вобад века і інш. *Обечка — на дэжэ около покрышкі дошчэчка.* Смаляніца Пруж.; *гл.* а б е̂ ч а к.

ОБЖО'РЫСТЫЙ *прым.* Абжорлівы. *От обжорыста корова.* Сіманавічы Драг.

ОБІ'РАНЫЙ *гл.* АБІРА'НЫ

ОБІЦЯ'ТІ *зак.* і *незак.* Абяцаць. *Обіцяв, што взавтра прыдэ.* Курашэва Чыж.

ОБІЧА'ЙКА *ж.* Тое ж, што і о б е̂ ч к а. *Обічайкі робілі з ліпового дэрэва.* Курашэва Чыж.; *гл.* а б і ч а́ й к а.

ОБЛА'ВА *ж.* Паляванне. *Колісь цар до Біловіежы на облаву прыйжджав.* Курашэва Чыж.

О'БЛАК, О'БАЛАК, О'БОЛОК *м.*, О'БЛАКІ, О'БОЛОКІ *мн.* Тое ж, што і о́ б а л к а. *Облак пайшоў на сонца, і сонца не відаць.* Валынцы В.-Дзв. *Обалак малы, обалакі на небе.* Дзяніскавічы Ганц. *Цёмныі облакі.* Валынцы В.-Дзв. *На небі было мнуого оболокуов.* Курашэва Чыж.

ОБЛІЗНІ'ТІСЕ *зак.* Нарадзіць блізнят. *Біела овэчка облізніласе.* Курашэва Чыж.

ОБЛО'ГОМ у знач. *прысл.* Аблогай. *Почті всё поле облогом зоставів.* Курашэва Чыж.

ОБЛУ'ДА *гл.* АБЛУ'ДА

ОБЛЫГТЫ' *зак.* Злегчы. *Ны дай, божэ, облыгты, то й жыта ны пожну.* Сіманавічы Драг.

ОБЛЫ'ЖНЫЙ ДОШЧ *м.* Аблажны дождж. *Облыжный дошч.* Сіманавічы Драг.

О'БМАЛЬ *прысл.* Малавата, нямнога. *Вэсною картопэль обмаль было.* Курашэва Чыж.; *гл.* в о́ б м а л ь.

О′БМАРАК *м.* Непрытомнасць. *Обмарак, не магу пераносіць, у обмарак упала.* Мсцібава Ваўк.

О′БМЕШКА *ж.* Вотруб'е. *Свіняи обмешка нада.* Асавец Віл. *Кідаю обмешку.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* в о́ б м е ш к а.

ОБМІНЯ′ТІ *зак.* Памяняць. *Обміняла качку на курку.* Курашэва Чыж.

ОБМОРО′КА *ж.* У выразе: *Бэз обморокі* — без хітрыкаў. *Люблю, бэз обморокі, свіжу рыбу купляты.* Дзмітравічы Кам.

ОБМОЧА′ТІ *незак.* Памачаць.∇ *Йіештэ, йіештэ, обмочайтэ, а на рэшту выбачайтэ.* Курашэва Чыж.

О′БНАЖ *м. пчал.* Абножка. *З обнажжу ідзе пчала.* Пасека Ст.-Дар.

ОБОБРА′ТЫ *гл.* АБАБРА′ЦЬ

ОБОГНА′ТІСЕ *зак.* Абараніцца. *Туолькі комаруов налетіело, што трудно обогнатісе.* Курашэва Чыж.

О′БОД *гл.* О′БАД

ОБО′ЕЧНЫ *прым.* Шатраваны. *Купі хоць обоечнай мукі.* Мачаск Бярэз.

ОБО′ІЕ *ліч.* Тое ж, што о б а́ д з а. *Обоіе хотіелі іті.* Курашэва Чыж.

О′БОК *прысл.* Побач. *Ён обок ідзе.* Гемзы Шальч.

О′БОЛОК *гл.* О′БЛАК

ОБОЛО′НЫСТЫЙ *гл.* АБАЛО′НІСТЫ

ОБОЛО′НЬ *гл.* АБАЛО′НА

О′БОЛОЧОК *гл.* АБАЛАЧО′К

ОБОЛОЧЫ *зак.* Апрануць бялізну. *Оболочы свіежу сорочку і нагавіці спуодні.* Курашэва Чыж.

ОБОПЭРТЫ′СЬ *зак.* Абаперціся. *Обопруся плічамэ.* Дзмітравічы Кам.

ОБОП'Я′ТЫ *гл.* АБАПНУ′ЦЬ

ОБО′РА *ж.* Кароўнік. *Обора була ў пана, там стояла скотына. У нас оборы нэма.* Горск Бяроз.; *параўн.* польск. *obora* 'тж'; *гл.* а б о́ р а І.

ОБО′РВАЦІ *незак.* Абворваць. *Сохою нэ оборвалі.* Смаляніца Пруж.

ОБОРОЗНІ′ТІ *зак.* Зрабіць барозны на ўзараным полі. *Ужэ зорав, осталосе шчэ оборозніті.* Курашэва Чыж.

ОБО′РСЫ *мн.* Аборы. *В постолах оборсы часто рвалісе.* Курашэва Чыж.

ОБО′РУВАТІ, ОБО′РУВАТЭ *незак.* Абганяць. *Взяв суошку і поіехав картоплі оборуваті.* Курашэва Чыж. *Оборуют картопле.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *oborać* 'тж'.

ОБОРУ′ОГ *м.* Абарог. *Сіено в оборуог положылі.* Курашэва Чыж.

ОБРОБІ′ТІ *зак.*, ОБРОБЛЯ′ЦІ, ОБРОБЛЯ′ТЭ *незак.* Апрацоўваць. *Мы ўжэ старые і всёіе зэмліе нэ дамо рады обробіті.* Курашэва Чыж. *Пойду оброблящі градкі на капусту.*

Смаляніца Пруж. *Однэю лошадью обробляле.* Дзмітравічы Кам.

ОБРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Запэцканы. *Нагавіцы оброблены ў мулі.* Смаляніца Пруж.

ОБРОДЫ'ТЫСЬ *гл.* АБРАДЗІ'ЦЦА

ОБРО'К, ОБРЫ'К *м.* Корм для каня. *Оброк — овёс конёві.* Смаляніца Пруж. *Врано даецця обрык лошадям.* Дзмітравічы Кам.

ОБРО'ТЬКА *ж. памянш.* да о́ б р у ц ь. *Наложы конёві обротьку.* Курашэва Чыж.

ОБРУБА'ТЫ *гл.* АБРУБА'ЦЬ

ОБРУ'СОК *м.* Настольнік. Калясное Міхал.; *гл.* а б р у́ с.

О'БРУЦЬ, ОБРЫ'ЦЬ *ж.* Аброць. *Обруць накласці.* Жылі Іўеў. *Обрыць рэменна.* Смаляніца Пруж.

ОБРЫ'К *гл.* ОБРО'К

ОБСІ'В *гл.* АБСЕ'Ў

ОБСКУ'БСТЭ *зак.* Абскубці. *Трэба обскубстэ стога, обэтэ і огрібсты.* Дзмітравічы Кам.

ОБСМЫКА'ТІ *незак.* Абрываць. *Зэлень обсмыкают.* Азарычы Пін.

О'БУЙ *м.* і *ж.*, О'БУЎ *ж.* Абутак. *Обуй такі быў.* Грыкені Вільн. *Мякі обуй нося.* Граўжышкі Ашм. *Дзе той обуй быў яшчэ, лапці былі.* Крэва Смарг. *Обуй пад зэдлям.* Гемзы Шальч. *Обуй мая знасіласа. Добрая обуй, обую купіла.* Дзяніскавічы Ганц. *Обуй на нагах.* Быстрыца Астр. *Обуй старую выкінула.* Беразіно Докш.; *парайн.* руск. *обувь* 'тж'.

ОБУ'ОЕЦЬ *м.* Абшыўка каўняра. *В сороцці найхучыей обуоець брудіцце.* Курашэва Чыж.

ОБУ'ОЙ *м.* Абоі. *Тут обоя нэ трэба, можна гоздзя вбіті.* Курашэва Чыж.

ОБУ'ОЙЧЫК *м. анат.* Ключыца. *Ніц вэлікого, обуойчык пэнк.* Курашэва Чыж.

ОБУ'ТЫ *зак.* Абуць. *Тыпэр я обув чоботы.* Сіманавічы Драг.

О'БУЎ *гл.* О'БУЙ

ОБЦІЛОВА'ТІ *зак.* Расцалаваць. *Як обачыла мэнэ Гапка, то опціловала.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *obcałować* 'тж'.

ОБЦЭ'НЬҐІ, ОПЦЭ'НЬКЫ толькі *мн.* Абцугі. *Обцэньґамі выймают ґозді.* Курашэва Чыж. *Дэ опцэнькы? Гвоздя трэба выйняты.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.; *гл.* а п ц э́ н г і.

О'БШІВКА *ж.* Паясніца (у адзежы). *Обшівка в штанах, спуднэці.* Дзмітравічы Кам.

О'БШЧЫМ *прысл.* Увогуле. *Обшчым, два ўдавольствія: і рыба, і сонца.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *в общем* 'тж'.

ОБЫРА'ТЫ *гл.* АБІРА'ЦЬ

О′Б’ЯДЗЬ *ж. бат.* Плюшнік. *Об’ядзь была міз дарогу, каровы аб’ядаліса.* Дзяніскавічы Ганц.

О′БЯРАТКА *ж.* Луста. *Аткроіла обяратку хлеба.* Дзяніскавічы Ганц.

О′БЯРЦЬ *ж.* Тое ж, што і о́ б я р а т к а. *Обярць хлеба.* Дзяніскавічы Ганц.

О′ВАД, О′ВАТ *м. заал.* Авадзень. *Оводы на коня напалі.* Курашэва Чыж. *Ават вялізны, большы за майскага жука.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. *овод* ’тж’.

О′ВАЧЫ толькі *мн.* Агародніна. *На зельна свята свенцяць яблыкі і овачы.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *овощи* ’тж’.

ОВЕЧА′РНЯ *ж.* Аўчарня. *Овечарня — хлеў для авечак.* Кемялішкі Смарг.

ОВЁС, ОВЭ′С *м.* Авёс. *После оўса оўсяніско.* Смаляніца Пруж. *Овэс в торбу бэрэш, як ідэш оратэ.* Дзмітравічы Кам.

ОВСЯ′НКА *ж.* Аўсяная салома. *Добыткові мішают мієшанку з овсянкі і сіена.* Курашэва Чыж.; *гл.* а ў с я́ н к а 2.

ОВСЯ′НЫЙ *гл.* АЎСЯ′НЫ

ОВЭДЭ′НІЕ *н. царк.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 21 лістапада ст. ст. *До овэдэнія в полі нэ вправімсе.* Курашэва Чыж.

ОВЭ′С *гл.* ОВЁС

ОВЭ′ЧКА *ж.* Авечка. *Овэчкі і коровы ў хлеве.* Смаляніца Пруж.

ОГА′РОЧОК *м. памянш.* Агарачак. *Свіечка згорыела, остав оно огарочок.* Курашэва Чыж.

О′ҐЕР *м.* Жарабок. *Даў оґера ў пасазі.* Вострава Маст. *Оґер — невыкладаны.* Старое Сяло Зэльв. *Оґер — жарабец.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* в о́ ґ і р.

ОГЛЁНДАЦЬ *незак.* Бачыць. ▽ *Нех его не оглёндаць* — каб яго не бачыць. Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *oglądać* ’аглядаць’.

О′ГЛЯДКІ, ОГЛЯ′ТКІ толькі *мн.* ◇ *Ісці на оглядкі (огляткі)* — ісці даглядаць жывёлу, гаспадарку. *Хачу ісці на оглядкі: парасяткі мо ўжо ў другом канцы дзярэўні! Ідзіця падрабіця трохі, а я на оглядкі пабегла.* Крэва Смарг. *Утікаті бэз огляткі* — хутка ўцякаць. Курашэва Чыж.

ОГЛЯ′ДНЭ *н. абрад.* Агледзіны. *Оглянэ ужэ было, хутко вэсіеле будэ.* Курашэва Чыж.

ОГНІВО′ *н.* Крэсіва. *Колісь огнівом крэсалі огонь.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *ognіwo* ’тж’.

О′ГНІК *м. мед.* Хвароба, якая выклікае высыпку на губах. *Патпаўшы огнік.* Жылі Іўеў. *Падбел огнік выцягая.* Вострава Маст.; *гл.* в о́ г н і к.

О′ГНІСКО *н.* 1. Касцёр. *Ідзем пакладзем агню, разложым огніско.* Навасёлкі Свісл. 2. Вогнішча. *Огніско — дзе гарэлі дрова.* Дзяніскавічы Ганц. *Пасуць каровы і склалі агонь,*

*огніско астаецца.* Стары Свержань Стаўб.; *гл.* а г н і с к а.

О'ГНІШЧА *н.* Пажарышча. *Огнішча — папялішча, дзе згарэла будоўля.* Курaполле Паст.; *гл.* в о́ г н і ш ч а 3.

ОГОЛІ'ТІ *зак.* 1. Пагаліць. *Трэба наострыті брытву і оголіті бороду.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Усё забраць. *Зусім його оголілі, в однуой сороцці оставсе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ogolić* 'агаліць'.

ОГОРЫ'ЕТІ *зак.* 1. Абгарэць. *Дрова в печые звэрху огорыелі і погаслі.* Курашэва Чыж. 2. Стаць смуглым, загарэць. *Тэпэр ліетом кажны хочэ огорыеті.* Курашэва Чыж.

ОГОТА'ТІ *незак. абрад.* Хадзіць па хатах і выказваць навагоднія пажаданні шчасця, поспеху. *Васілёва маті пушла оготаті.* Курашэва Чыж.

ОГОТУ'ХА *ж.* Вечар напярэдадні Новага года. *Колісь ходілі пэрэд Новым роком на оготуху і співалі: «Сіею, сіею, посіваю, з Новым роком поздравляю, роді, божэ, жыто на новое ліето, звэрху колосістэ, с споду корэністэ».* Курашэва Чыж.

ОГРЫБА'ТІ *незак.* Абграбаць. *Огрэбіетэ сіено, коб нэ роскідалосе.* Курашэва Чыж.

ОГРЫЗА'ТІСЕ *незак. перан.* Груба адказваць на чыю-н. заўвагу. *Воны згуодно нэ жывут, всэ огрызаюцца.* Курашэва Чыж.

О'ГУЛОМ *прысл.* Цалкам, агулам. *За ячміень огулом петнацэт тысяч взяв.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ogól* 'тж'.

ОД I *м.* Год. *Два ады дачка ні жыве тут.* Быстрыца Астр.

ОД II *прыназ.* з *род.* Ад. *Хоч на ґанку од дошчу схавай-мось.* Сіманавічы Драг.; *гл.* а д 4.

ОДБРЭ'ХУВАТІСЕ *незак. перан.* Тое ж, што і о г р ы з а́ т і с е. *Я ему говорыв, а вуон, сморкач, одбрэхувавсе.* Курашэва Чыж.

ОДВА'ЖНІК *м.* Гіра. *Подай мніе Колёвого одважніка.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odważnik* 'тж'.

О'ДВІЛШ *ж.* Адліга. *Одвілш стала — на санках катаюцца.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *odwilż* 'тж'.

О'ДГАВ *м.* ◇ *Одгаву не даваць* — не даваць каму-н. спакою. *Діеті одгаву не дают.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *ãtgaivas* 'асвяжэнне'.

ОДГАНУ'ТЫ *гл.* АДГАДНУ'ЦЬ

ОДГУ'СКІ *мн.* 1. Камель. *З одгускуов выходят найліепшы дошчкі.* Курашэва Чыж. 2. толькі *мн.* Частка снапа ніжэй перавясла. *Одгускі ў снопове. В одгусках много колостія.* Дзмітравічы Кам.

О'ДДЗЯЛ *м.* Клас. *Сёдмы оддзял скончыў. Сын ходзіць до школы, сёдмы оддзял.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *oddział* 'аддзел, аддзяленне'.

ОДДІЛІ'ТІСЕ *зак.* Аддзяліцца. *Брат одділівсе од мэнэ сорок ліет тому назат.* Курашэва Чыж.

ОДДІЛЯ'ТІ *незак.* Аддзяляць. *Віелка одділяе збуоже от половы.* Курашэва Чыж.

ОДДЫ'ХАТЫ *гл.* АДДЫ'ХАЦЬ

ОДЁН *ліч.* Адзін. *Одён моток.* Дзмітравічы Кам.

ОДЖО'РЫТЫ *зак. перан. экспр.* Моцна пабіць. *Я гэту халеру оджору.* Сіманавічы Драг.

ОДЖЫВЛЯ'ТІСЕ *незак.* Харчавацца. *Як хто мало робіт і добрэ оджывляецце, то здоровы будэ.* Курашэва Чыж.

ОДЗЕВА'ЦІСА *незак.* Апранацца. *Согонні і одзеваюцца, і едзят смачно.* Смаляніца Пруж.

ОДЗЕ'ТЫ *дзеепрым.* Забяспечаны адзеннем. *Моя Таня і одзета, і обута.* Смаляніца Пруж.

ОДЗЕЯ'ЛО *н.* Коўдра. *Одзеяло ватнэ купйу.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *одеяло* 'тж'.

ОДКЛА'Д *м.* Адтэрміноўка. ∇ *Одклад нэ ідэ в лат.* Курашэва Чыж.; *гл.* а т к л а́ т.

ОДЛЕЖА'ТІ *зак.* Вылежаць. *Хворы повінён одлежаті туолько, кулько трэба.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odleżeć się* 'праляжаць'.

О'ДЛІ'ГА, ОТЛІ'ГА *ж.* 1. Тое ж, што і о́ д в і л ш. *На дварэ о́дліга.* Каменка Стара Сакол. *Зоркі мутнеюць, будзе отліга.* Мсцібава Ваўк. 2. у знач. *прысл. о́длігай.* У час адлігі. *О'длігай паішлі лісіц страляць. О'длігай цяшка ехаць.* Старое Сяло Зэльв.

ОДЛІГТІ' *зак. безас.* Пацяплець. *На дворыэ кроху одлігло.* Курашэва **Чыж.**

ОДЛЮ'ДЕ *н.* Бязлюддзе. *Жывэ на одлюді і люді нэ бачыт.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odludzie* 'тж'.

ОДЛЮ'ДОК *м. асудж.* Нелюдзім. *З ёго такі одлюдок, ані вуон до люді, ані людэ до ёго.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odludek* 'тж'.

ОДМОЛІ'ТІСЕ *зак. экспр.* Адхрысціцца. *Прычэпівсе, што нэ можна одмолітісе.* Курашэва Чыж.

О'ДМУТ *м. мед.* Кровапусканне. *Такі одмут крові сдзелалі.* Старыя Трокі Трак.

ОДМЭ'НТІТІ *зак. экспр.* Моцна набіць. *Я тэбэ добро одмэнтю.* Азарычы Пін.; *гл.* а д м я н ц і ц ь.

ОДНА' *ж.*, ОДНЭ' *н. ліч.* Тое ж, што і а д н а́ 1. *Вчора одну гыбу выткала. Одным гоком глянуў.* Сіманавічы Драг.

ОДНО'ВА *ж.* Абнаўленне. *У вас у хаті якаясь однова, штось змінілосе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odnowa* 'тж'.

ОДНОГО'ДКЫ *мн.* Аднагодкі. *Муй Болік і Лэвкова Ева — одногодкы.* Відзібар Стол.

ОДНЯ′ТЭ *зак. безас.* Паралізаваць. *Було одняло руку.* Дзмітравічы Кам.

ОДПА′РЫТІ *зак.* Адлежыць. *Хвора довго лежала і отпарыла буок.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odparzyć* 'намуляць'.

О′ДРА *ж. мед.* Адзёр. *Одра — балезня ні страшная, але послі яе асложненія.* Стары Свержань Стаўб. *На одру хварэла.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *odra* 'тж'.

ОДРА′ПАТІ *зак.* Абадраць. *Куот сваволів і одрапав твар дітяті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *odrapać* 'тж'.

ОДРІ′ЗУВАТЫ *незак.* Адразаць. *Одрізуйіш окрайчыка.* Сіманавічы Драг.

ОДРОБЛЯ′ЦІ *незак.* Адрабляць. *Одроблялі пану.* Калясное Міхал.; *гл.* а д р а б л я́ ц ь.

ОДРУ′ОБОК *м.* Адработак. *Дав пара мішкуов картохель на одруобок.* Курашэва Чыж.

ОДРЫ′НЯ *ж.* Адрына. *Сена складаюць до одрынюв, іс страхой одрыня.* Кемялішкі Астр.

ОДСАДІ′ТІ *зак.* Адняць (адвучыць ссаць). *Тэля отсаділі от коровы, як мае штыры або п'ять нэдіель.* Курашэва Чыж.

ОДСТУ′ПНІК *м.* Адступнік. *Коля одступніком нэ будэ, до косцёла нэ пуойдэ віенчатісе.* Курашэва Чыж.

ОДСТУ′ПНЭ *н.* Адступнае. *Дав ёму пара злоты отступного.* Курашэва Чыж.

ОДХЛУ′ДІТІ *зак.* Тое ж, што і о д м э́ н т і т і. *Барозіною одхлуділа.* Азарычы Пін.

ОДХО′ДІТІ *незак.* Адыходзіць. *Пэкаэс* [аўтобус] *отходіт в штыры часа.* Курашэва Чыж.

ОДЧЭПІ′ТІСЕ *зак.* Адчапіцца. Курашэва Чыж.

ОДЧЫ′ЭПНЭГО *н.* Тое ж, што і о д с т у́ п н э. *Дай ёму на отчыэпнэго два злоты — нэхай собіе ідэ.* Курашэва Чыж.

ОДЫЙЦІ′ *зак.* Адысці. *Ты одыйдэш от окна?* Смаляніца Пруж.

ОДЫНА′К *гл.* АДЗІНА′К
ОДЫНА′ЧКА *гл.* АДЗІНА′ЧКА
ОДЫНЫ′ЦЯ *гл.* АДЗІНІ′ЦА
ОДЫЯ′ЛО *гл.* АДЗІЯ′ДЛА

О′ДЭ *прысл.* Тут. *Зобач, нуож одэ лежыт.* Курашэва Чыж.

ОДЭ′ЖА *ж.* Адзенне. *Колісь у кубёл одэжу клалі. Вон у доброй одэжы ходзіт.* Смаляніца Пруж.

О′ДЭКА *прысл.* Тое ж, што і о́ д э. *Лёшка одэка лежыт.* Курашэва Чыж.

ОДЭРЭВЭНІ′ЕТІ *зак.* Адзеравянець. *Такі морос, што рукі мніе одэрэвэніелі.* Курашэва Чыж.

ОДЯГНУ′ТІ *зак.* Надзець, апрануць. *Як ідэш до люді, то*

*одягні костюма. Ідучы на двуор, тэпло одягнісе, бо морос.* Курашэва Чыж.

ОДЯ'ЖКА, ОДЯ'ШКА *ж.* Тое ж, што і о д э́ ж а. *За пэршу выплату купів собіе штось-нэштось з одяшкі.* Курашэва Чыж.

О'ЖУХ *м.* Кіёк, якім мяшаюць вуголле ў печы, дровы. *Возьмі ожуха і жар выгорні.* Курашэва Чыж.; *гл.* в о́ ж а х.

О'ЖЫ толькі *мн.* Лейцы. *Ожы былі вераўчаныя.* Мсціба-ва Ваўк.; *парайн.* руск. *вожжи* 'тж'.

ОЗА'ДЕ, ОЗА'ДДЕ *зб. н.* Пазадкі. *Добрэ збуоже будэ на насіене, а озаде оддам конёві або змелю на осыпку свіням.* Курашэва Чыж. *Озадде — гыршы сорт.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* руск. *озадки* 'тж'; *гл.* а з а́ д з і, а з а́ т к і.

О'ЗЕРА, О'ЗІРА, О'ЗЯРА *н.* Возера. *Каля озера трансавіца.* Руднікі Шальч. *Заарэндуюць озера і ловяць рыбу.* Істра Лудз. *К озяру прыцягнуў.* Саланое Віл. *Там азяроў многа кала Ігналіны.* Чычалі Швянч. *Угры ў другіх азірах.* Мельнікі Лудз.

О'ЗЯРКА *н. памянш.* да о́ з е р а. *Небальшоя озярка.* Рыбчына Віл.

ОЙ *выкл.* Вой. *Ой, камотная бапка!* Старыя Трокі Трак.

О'ЙКАЦЬ *незак.* Войкаць. *Ойкнеш адразу.* Старое Сяло Зэльв.

О'ЙЧЫМ, О'ЧШЫМ *м.* Айчым. *У его нэма бацькі, ойчым.* Смаляніца Пруж. *Мацоха і ойчым — няродныя бацькі.* Быстрыца Астр. *У яе няродны бацька, ойчым.* Ёдлавічы Брасл. *Ойчым у яе.* Солы Смарг. *Бацька даўно памёр, расла пры ойчымя.* Магуны Паст. *У мяне быў очшым.* Мярэцкія Глыб.

О'КА, О'КО *н., ж.*, О'ЧЫ *мн.* 1. Вока. *Ліпень — красівая рыба, ока да сэрца пахожа.* Быстрыца Астр. *Адна малая ока, мнейша правая ока.* Старыя Смільгіні Воран. *Што табе і другое око зацягіваіць?* Саланое Віл. *Аш очы блішчаць. Ты очы жмурыш.* Малі Астр. *Очы балят.* Лука Нараўк. 2. Бездань, прорва. *Ні хадзі, там ока, там калышацца.* Быстрыца Астр. *Каля озера ёсць ока, там берагу няма, каровы баяцца там хадзіць.* Руднікі Шальч. ∇ *Очы — ямы, рукі — граблі —* кажаць аб зайздросных людзей. ◇ *Відзець на свое очы* — самому бачыць. *А ей, я гэта відзела на свае очы. Благія очы дыму не баяцца.* Малі Астр. *Мець або не мець ока* — паважаць або не паважаць каго-н. *Я на яго ока не маю.* Гемзы Шальч. *На оку* — на віду. *Кругом хаты, усё на оку было.* Вецярэвічы Пух.

ОКАДІ'ТІ *зак. перан. экспр.* Пабіць, надаваць. *Як окадів його в плечы, то вуон чуть до хаты зайшов.* Курашэва Чыж.

ОКАНТОВА'ТІ *зак. перан. экспр.* Ашукаць каго-н. *Цваного* [зухаватага] *нэ окантуеш.* Курашэва Чыж.

ОКАНТУ'ЖЫТІ *зак.* Кантузіць. *Снарад розорвавсе і па-*

*ра чоловіек окантужыло, але нэ забіло нікого.* Курашэва Чыж.

О'КАП *м.* Падстрэшша. *Дошч ідэ, пуд окапом сховайсе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *okap* 'тж'.

О'КАРАК *м.* Кумпяк. *Окарак копцім.* Навікі, Пасіене Лудз. *Упякалі окаркі на бляхах у печы.* Гальшаны Ашм.; *гл.* а́ко́рак I.

О'КІЦЬ *ж.* Слата. *Зімой бывае окіць, як пойдзе снех мокры.* Мсцібава Ваўк.

О'КЛІНА *ж.* Тое ж, што і о́ка 2. *Окліна на балатох ест, на граскіх, каля рэкаў, туды правальваюцца. Карова заваліласяў окліну. Конь заваліцца ў окліну — адна галава відаць.* Мсцібава Ваўк.

ОКНІ'СКО *н.* Тое ж, што і о́ка 2. *Окніско бывая ў багне.* Каўняны Гродз.

О'КО I *н.* 1. Ляток. *Око — куды пчолы ўлятаюць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Лаз у склеп, на гару. *В склеповэ око е. Око на гору* [на хату]. Дзмітравічы Кам.

О'КО II *н.* Выплеценае перакрыжаванне вобадаў у кошыку. *Умею плясці око, але так лепш рэбры ўстаўляць.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* во́чкі.

ОКОВЗНА'ТІ *зак.* Закілзаць каня. *Оковзнай кобылу, бо самохода боіцце.* Курашэва Чыж.

ОКОЛЕДА'Х, ОКОЛЯ'ДАХ *прысл.* У час каляд. *Околедах жэніўса. Околядах прывйос. Околядах тато прыедэ.* Смаляніца Пруж.

ОКО'ЛО *прыназ.* Пры абазначэнні асобы, да якой праяўляецца якое-н. пачуццё. *Таня смэецца около мэнэ.* Смаляніца Пруж.

ОКОЛО'Т *м.* Акалот. *Цыпом околочуе, вытрасэ і называют околот. Трі снопа зв'язаны, трі околотэ называют. Скінь два околотэ на сычку.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* акало́т.

ОКОЛЫ'ШНОСЬЦЬ *гл.* АКАЛІ'ЧНАСЦЬ

ОКОРЭ'НЬКОВАТЫ *прым.* Прысадзісты. *Саша нэвэлікі, але окорэньковаты, дужы.* Курашэва Чыж.

ОКРА'ВОК *м.* Акравак. *З окравкув ляльку пошыла.* Відзібар Стол.

ОКРА'ЙЧЫК *гл.* АКРА'ЙЧЫК

ОКРА'СІТІ *зак. кулін.* Прыправіць. *Пэрэд войною біедны людэ нэ міелі чым навэть стравы окрасіті.* Курашэва Чыж.

ОКРА'ШАНЫ *дзеепрысл. кулін.* Прыпраўлены. *Картохлі окрашаны скваркамі ліепшы от постовых.* Курашэва Чыж.

ОКРО'ПНЕ, ОКРО'ПНЯ *прысл.* Надта, вельмі. *То окропне добра было.* Канюкай Вільн. *Гэтым канём няма як гарацъ, ён окропне ў плузе шыпка ходзя. Окропня смашны гарбус.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *okropnie* 'жахліва, жудасна'.

ОКРЫЯ'ТІ *зак.* Акрыяць. *Начала буольш йесці і кроху ўжэ окрыяла.* Курашэва Чыж.

О'КСЦІ толькі *мн. рыб.* Восці. *Оксці, што рыбу лаваць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* в о с ц і; *параўн.* літ. *ãkstė* 'ражон'.

ОКУЛЯ'РЫ *гл.* АКУЛЯ'РЫ

О'КУНЬ *м.* Акунь. *Окунь бароша рыба, натта смашна.* Кіралі Шчуч. *Рыба окунь.* Чычалі Швянч., Шводы Вільн., Пасіене, Мельнікі Лудз.

ОКУРА'ТНО *прысл.* Акуратна. *Пішы акуратно, шчоб учыцельніца похваліла.* Смаляніца Пруж.

ОКУ'ТАТЫ *зак.* Ухутаць. *Добрэ окутала дытыну, коб ны змэрзла.* Сіманавічы Драг. *Окутай его* [дзіця] *да вынысь на двур.* Відзібар Стол.; *гл.* а к у́ т а ц ь.

ОКЫ'ДАТЫ *гл.* АБКІ'ДАЦЬ

ОКЫ'НУТЫ *зак.* Азірнуць. ◊ *Як гоком окынуты* — колькі можна ўбачыць. Сіманавічы Драг.

О'ЛАВА *ж.* Галава. *Атсек олаву, курам олавы паатсікаў. Накладала кучу олаваў.* Стральцы Шальч.

О'ЛАТ *м.* Голад. *І ў оладзе была.* Быстрыца Астр.

ОЛЁС *м.* Забалочанае месца, зараслае хмызняком. *Олёс — зарошое болото бэрэзіною, ольшыною і орэшніком.* Смаляніца Пруж. *Ліс ольсовый. В ольсы грузолевыны. Шчо багно, шчо олёс — одінаково.* Дзмітравічы Кам. ∇ *В багно ны вжінеш чорта і в олёс.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* а л ё с.

ОЛІ'Й *м.* Алей. *В вэлікі пуост людэ нэ красілі скваркамі, але оліём льняным.* Курашэва Чыж.

О'ЛЫ *прым.* Голы. *Олы паежджая на кані.* Старыя Смільгіні Воран.

О'ЛЬХА *ж.* Вольха. *Ольха — мякая дзерава.* Быстрыца Астр. *Бяроза твардая, а ольха мякчэйшая. На ольсе светлая кара. Лазою, ольхаю пплялі частакол.* Грыкені Вільн. *Ольха, альховае дзерава.* Навікі Лудз. *Тут ольха, бяроза, асіна расцець.* Істра Лудз. *З ольхі выраблялі дзяравяшкі ў клюмбах.* Крэва Смарг. *Наскобліш ольхі, насушыш і красіш — што нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *гл.* в о́ л ь х а.

ОЛЬШЫНА' *ж.* Алешнік. *Болото зарошшы ольшыною.* Смаляніца Пруж.

ОЛЯ' *выкл.* Гэй. *Оля, маму! Зрабі сёння на вячэру бармухі.* Навасёлкі Свісл.

О'ЛЯК *м.* Лёк. *Тагды і оляк быў смашны.* Новікі Гродз.

О'МУТ *м.* Вір. *Омут там.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *омут* 'тж'.

О'МШАР *м.* Амшара. *Омшар на балоці ў лесе.* Галубы Маст.

ОМЭ'ТЫ *гл.* АМЕ'ЦІ

О'НДЗЯ, О'НДЭ *часц.* Вунь. *Ондзя ляжыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Ондэ ў нас.* Дзмітравічы Кам.

ОНО' I *гл.* АННО'

ОНО' II *прысл.* Толькі. *Ты оно нэ забуть хліеба і булок*

*купіті. Вуон оно раз быв.* Курашэва Чыж. *Чорт думаў: «Дам выдро золота, оно ны чыпайтэ ны мынэ, ны плэмнянныка».* Сасноўка Пруж. ∇ *Гэтого полотна оно кыці на ганавыці* — вельмі мала. Сіманавічы Драг.

ОНУ'ЧЫ *мн.* Анучы. *Колі мне прышлосо жэніціса, то бацько мой сплёў мне постолы, маці дала белые онучы, і поехаў я по свою жонку.* Смаляніца Пруж.

О'НЫ толькі *мн.* Старая мера ворнай зямлі, поле каля пяцідзесяці — ста метраў даўжыні. *Онаў шэсць у дліну.* Быстрыца Астр.; *гл.* г о́ н і.

О'ПАДЗЬ *ж. мед.* Эпілепсія. *Опадзь кідае чалавека.* Галубы Маст.

ОПА'ЛКІ *мн.* Абгарэлыя палены дроў. Азарычы Пін.

ОПАЛКОВА'ТІ *зак.* Тое ж, што і о д м э́ н т і т і. *Кажут, што Тімохвіеі жуонку опалковав.* Курашэва Чыж.

ОПА'РЫЦЦА *зак.* Апарыцца. ∇ *Каб ты ў горачу брагу опарыласа!* Хатынічы Ганц.

ОПЕРЫ'ЭСТІТІ *зак. экспр.* Ударыць. *Кійіском корову оперыэстів.* Курашэва Чыж.

ОПОВДНІ' *гл* АПАЎДНІ'

ОПОВІВА'ТІ *незак.* Спавіваць. *Оповізалі детей, коло боку ручке положылі. Спросонка оповіла голову не ногі.* Азарычы Пін.

ОПО'ЗДЫВАЦІ *незак.* Адставаць. *Воны* [часы] *опоздывают.* Смаляніца Пруж.

ОПОЛО'НІК *м.* Апалонік. Дзмітравічы Кам.

ОПОЛО'ТЫ *гл.* АПАЛО'ЦЬ

ОПОЛУ'ШКІ толькі *мн.* Апалушкі. *Ополушкі — шчо ополаем крупы, маленькі ночовочкі.* Смаляніца Пруж.

ОПОМЭТА'ТЫСЬ *зак.* Апамятацца. *Тогды я трошкі опомэталась, і мы сталы іты хучый додомы.* Ляскавічы Бяроз.

ОПО'НА *ж.* Велакамера. *В опоні дырка зробіласе, трэба заклейіті.* Курашэва Чыж.; *гл.* а п о́ н а.

ОПО'РА *ж. перан.* Падтрымка, дапамога. *Якая опора ў вас?* Дзмітравічы Кам.

ОПОЧНУ'ТЭ, ОПОЧЫ'НУЦІ *зак.* Адпачыць. *Опочынь ты. Віте ідіте опоченьте.* Дзмітравічы Кам. *Опочыньтэ, заўтра кончытэ.* Смаляніца Пруж.

ОПРАВЛЯ'ТЫ *незак.* Упарадкоўваць. *Градку пойду оправляты.* Горск Бяроз.

ОПРАНУ'ТЫСЬ *гл.* АПРАНУ'ЦЦА

ОПРАНУ'ЦІСА *зак.* Апрануцца. *Опраніса, чому нэ опранэсса?* Смаляніца Пруж.

ОПРАТА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і о п р а н у́ ц і с а. *Трэба опратацца. Опратайса ў пальто.* Смаляніца Пруж.

О'ПРАТКА *ж.* Вопратка. Семежава Кап.

О'ПРАЧ *прыназ.* з *род.* Апрача. *Як пост, то опрач алея нічым не засквары̆ш.* Канюкай Вільн.

О'ПРЫЧ *гл.* АПРЫ'Ч

ОПРЯ'ТАТЫСЬ *гл.* АПРА'ТАВАЦЦА

ОПТЯГТЭ' *зак.* Абшыць што-н. тканінай. *Сукном оптях.* Дзмітравічы Кам.

О'ПУХ *м. мед.* Пухліна. *Опух падняўся.* Старыя Смільгіні Воран. *Опух на целе.* Каўняны Гродз. *Яму опух мозгу, перш бедаваў галавой.* Малахоўцы Бар. *У яе як опухамі якімі.* Крэва Смарг.

ОПУ'ХА *ж. крав.* Апуха. *Опуха да кажуха прышывалася, наверх воўна.* Грыкені Вільн.

ОПЦЭ'НЬКЫ *гл.* ОБЦЭ'НЬГІ

О'ПШЧЫ *прым.* Агульны. *Тады ім калхоз опшчы дом пастроіць і будуць жыць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.; *парайн.* руск. *общий* 'тж'.

О'ПЫТНЫЙ *прым.* Вопытны. *Опытный адзін быў, не баяўся іх.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *опытный* 'тж'.

ОПЭРА'ЦЫЯ *ж. мед.* Аперацыя. *Молочша хвора була, трэба на опэрацыю.* Дзмітравічы Кам.

ОРАБЫ' *мн. бат.* Рабіны. *На полі орабы выраслі.* Курашэва Чыж.

ОРА'ННЕ *н.* Дзеянне паводле знач. *дзеясл.* о р á т э. *Пэршэ оранне. Пырыд ораннем чорнухі кладэм, гный.* Дзмітравічы Кам.

ОРА'ТЭ, ОРА'ЦІ *незак.* Араць. *Пэршый раз орэмо попара. Сама і орала. Плугом орут.* Дзмітравічы Кам. *Колісь коньмі нэ оралі, а воламі.* Смаляніца Пруж. *Ораў і ўрэх зробіў.* Навадворцы Васільк.

ОРГІ'НЯ *гл.* ВЯРГІ'НЯ

О'РДЭН *м.* Ордэн. *Ордэн ваенны атрымаў.* Беняконі Воран.

ОРІ'ЧНЫК *м. бат.* Зверабой. *Орічнык жовтым цвітом цвэтэ.* Дзмітравічы Кам.

О'РКІ *прым.* Горкі. *Оркі перац, оркі, пахнюшчы.* Быстрыца Астр.

О'РЛА *н.* Горла. *Орла баліць.* Быстрыца Астр.

О'РНЫ *прым.* Ворны. *Орная зямля.* Жодзішкі Смарг.

О'РЧЫК *м.* Ворчык. *Стальвага і орчыкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Орчык кароценькі, на пара коні.* Гемзы Шальч. *Да дышля прыкрэпляўся орчык; орчык па-польску, а папросту брункта.* Грыкені Вільн. *Орчык у плузе.* Калясное Міхал. *Орчык пры плугу.* Старыя Трокі Трак.

О'РШЫ *прым.* Горшы. *Ці не мох оршыя штаны надзець.* Быстрыца Астр.

ОРЫЭ'ХВА *ж.* Металічнае кальцо для прымацавання ка-

сы да тронка. *Орыэхва пэнкла і нэма як косіті.* Курашэва Чыж.

ОРЫ'ЭШНЯ *зб. ж.* Арэшнік. *Орыэшня вэлізёрна, а орыэхуов нэма.* Курашэва Чыж.

ОРЭ'Х *м.* Арэх. *Ато орэха ей роскусі.* Смаляніца Пруж.

ОСА' *ж.* Аса. *Пут стрыэхою осы гнiздо зробілі. Злы, як оса.* Курашэва Чыж. *Осы злыя.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* аса́.

ОСАДІ'ТІ *зак.* Замацаваць касу пад пэўным вуглом. *Косу, коб добрэ косіла, трэба ўміеті осадіті.* Курашэва Чыж.

О'СЕЛКА *ж.* Асялок. *Оселка — тачыць брытву.* Старыя Смільгіні Воран.

О'СЕМ, О'СІМ *ліч.* Восем. *По осем рублей центнер картошкі.* Старыя Трокі Трак. *Осем баразёнак.* Беняконі Воран. *Маладзік — осім дней поўнаго. Стаўбоў осім паставіў.* Быстрыца Астр. *Осім гадоў і ня можа гаварыць.* Старыя Смільгіні Воран.

О'СЕНІ *прысл.* Восенню. *Авечка бывае вясною і осені прывядзе ягнят.* Грыкені Вільн.

О'СЕНЬ, О'СЭНЬ *ж.* Восень. *Прышла осень.* Паляцкішкі Воран. *Ужэ і осень, свята осенне.* Вялікі Краснік Пруж. *Ужэ осэнь.* Смаляніца Пруж.

О'СЕЦЬ, О'СЯЦЬ *ж.* Асець. *Осець, а па-латышскі рэй.* Філіпаўцы Красл. *Осець — прыстройка да гумна. У осеці ставілі ячмень ці жыта. У осеці білі цапамі, малацілі.* Опса Брасл. *Осяць насаджавалі і дрывамі тапілі і сушылі снапы.* Лісна В.-Дзв. *Осяць — сушня.* Жыдзевічы Іўеў.

О'СІЛКО, О'СЯЛКА *н.* Дужка ў вядры, кашолцы і г. д. *У вэдрэ осілко.* Смаляніца Пруж. *Осілко ў ведрэ.* Мсцібава Ваўк. *Почапка, осялка.* Жылі Іўеў.; *гл.* во́сілка.

О'СІМ *гл.* О'СЕМ

О'СІННЮ *прысл.* Тое ж, што і о́сені. *Агнішчы раскладваюць осінню.* Істра Лудз.

ОСКО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Аскоблены. *Картошка цэла аскоблена і заварана с цыбулею, зовут со́ленка.* Смаляніца Пруж.

ОСКО'МА *гл.* АСКО'МА

ОСКУ'БАТІ *зак.* Абскубці. *Як курку зарыежут, то оскубают.* Курашэва Чыж.

ОСЛЫ'Н *м.* Услон. *Вытры ослона.* Сіманавічы Драг.

О'СМАЛА *прысл.* Смалой. ◇ *Осмала чапіцца* — назойліва прыставаць. *Дзеўчаты ідуць да гэтых хлопцуў, осмала чэпяцца, і што ты зробіш?* Малі Астр.

ОСОВІ'ЕТІ *зак.* Засумаваць, сцішыцца. *Чого ты так особієв?* Курашэва Чыж.

ОСО'ВЫЙ *прым.* Асінавы. *Осовы дрова. Осовый ліс.* Сіманавічы Драг. *Осовым дэрэвом кепсько в печые паліті, бо нэ хочэ добрэ горыэті і мало тэпла дае.* Курашэва Чыж.

ОСОЧЫ'ТЫ *зак.* Высачыць. *Осочыла курыцю, дэ нысэцьця.* Сіманавічы Драг.; *гл.* а с а ч ы́ ц ь 1.

О'СПА *ж.* 1. Прышчэпка супрацьвоспеннай вакцыны. *Шчэпя оспу.* Быстрыца Астр. 2. Шрамы і ямкі, якія застаюцца пасля воспы, або на месцы яе прышчэпкі. *Оспа — рудая.* Малькуны Ігн. *Оспа пабіўшы твар.* Малі Астр.

ОСТА'НОК *м.* Акравак тканіны. *Шэ останок матеры остався, ны знаю, шо з іі пошыты.* Сіманавічы Драг.

ОСТА'РКУВАТЫЙ *гл.* АСТАРКАВА'ТЫ

ОСТА'ТНЕ *прысл.* У апошні час. *Я остатне меў на званчаках воза.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *ostatnio* 'тж'.

ОСТА'ЦЦА, ОСТА'ТЫСЬ *зак.* Застацца. *Чэрвы осталіса.* Горск Бяроз. *Стога забралы, осталось вырхов'е. Булку одрізуйіш, окрайчыка, і остаецьця окрайчык.* Сіманавічы Драг.

ОСТРАКО'Л *м.* Сукаватая палка. *Я загарадзіў плот остраколам.* Гемзы Шальч.

О'СТРАЎ *м.* Востраў. *Там харошы остраў. І лес на остраве рэдкі, адно кустарнікі. На балоце е вялікі остраў, сярод балота, і на ём косяць.* Дзяніскавічы Ганц.

ОСТРЫ'ЭЛЮВАТІ *незак.* Абстрэльваць. *Ніемцы началі острыэлюваті ціелэ сёло.* Курашэва Чыж.

ОСТРЫЁ *н.* Вастрыё. *Острыём косы ўдарыў об камэнь.* Курашэва Чыж.

О'СТУПАМ *прысл.* Разам. *Мы ўсе оступам крычалі.* Жылі Іўеў.

ОСТЭПЭНІ'ТІСЕ *зак.* Сцішыцца. *Дошч кроху остэпэнівсе, і можна іті додому. Так біех, што нэ муох остэпэнітісе.* Курашэва Чыж.

ОСУ'НУТЫСЯ *зак.* Асунуцца. *Осунулася шпуля.* Дзмітравічы Кам.

О'СЦІ І толькі *мн. рыб.* Прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы. *Осці — што рыбу ловіць, такая палка длугая і жэлезны на канцы кручочкі.* Грыкені Вільн. *Осці, што рыбу ловяць.* Гемзы Шальч. *Осці — закалываець рыбу, шчупакі.* Чычалі Швянч.; *гл.* о́ к с ц і.

О'СЦІ ІІ *мн.* Госці. *Осці прыхадзілі. Осці прышлі ў адветкі.* Быстрыца Астр.

ОСЫПА'ТЫСА *незак.* Асыпацца. *Ліст осыпаецца з бэрозы, з дуба.* Горск Бяроз.

ОСЫПА'ЦІ, ОСЫПА'ТЫ *незак.* Акучваць. *Дзве нэдзелі осыпалі бульву.* Смаляніца Пруж.; *гл.* а с ы п а́ ц ь.

О'СЫПКА *ж.* Вобмешка. *Намалоў свіням осыпкі, змяшаў усё дабро разам: гавёс, ячмень, жыта, паслет.* Кіралі Шчуч.

ОСЬ І *ж.* Вось. *Ось е ў возе.* Дзяніскавічы Ганц. *Прывязаў до осе.* Смаляніца Пруж. *Осі ў возе.* Старыя Смільгіні Воран. *Былі дзеравянные і жалезные осі.* Мешкінева Лудз. *Деравянныя осі былі, патом сталі зялезные.* Скрудалена Даўг. *Гумо-*

*выя осі* [шыны] *на колах.* Старыя Трокі Трак. *Дзеравяныя осі.* Грыкені Вільн. *Загваздка ў асях. Калёсы былі на дзерэвяных асях.* Грыкені Вільн.

ОСЬ II *часц.* у знач. *прысл.* Зараз. *Крошку пождіетэ, вуон ось прыдэ.* Курашэва Чыж.

О'СЬМЫ *ліч. парадк.* Восьмы. *Да осьмай гадзіны.* Беняконі Воран.; *парайн.* польск. *ósmy* 'тж'.

ОСЭ'ЛІЦА *ж.* Сенажаць за гародамі. *Осэліца — за городамі болото, узка полоска.* Смаляніца Пруж.

О'СЭНЬ *гл.* О'СЕНЬ

О'СЭРЭДОК *м.* Асяродак садавіны. *Яблыко йіелі, а осэрэдок выкідаецце.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *środek* 'тж', *ośrodek* 'асяродак, цэнтр'.

О'СЯЛКА *гл.* О'СІЛКО

О'СЯЦЬ *гл.* О'СЕЦЬ

ОТ 1. *прыназ.* З. *Вовна от молодых ягнятов.* Дзмітравічы Кам. 2. *часц.* Вось. *От набіў яго, от аджарыў.* Чычалі Швянч. *От гарáча!* Грыкені Вільн. *От есць, як мянцюшка.* Гемзы Шальч.

ОТВОРА'ЧВАЦІ *незак.* Адварочваць. *Поліца отворачвала зэмлю, закідала зэмлю.* Смаляніца Пруж.

ОТГАНУ'ТЭ *зак.* Адгадаць. *Нэ отганэ загатку.* Дзмітравічы Кам.

О'ТГЛАСКІ толькі *мн.* Рэха. *Пазваць — бліска, а гукаць — гэта отгласкі ідуць ужо.* Магуны Паст.

О'ТДАЛЬ *прысл.* Асобна. *Купіла я ім хату, каб яны отдаль ад мяне былі.* Малі Астр.

О'ТДЫХ *м.* Водпуск. *Якой отдых узялі?* Жылі Іўеў.

ОТЁСА *гл.* АТО'СА

ОТКЛАДНЯ' *ж.* Акладня. *Сушнік крáе зэмлю, а откладня кладэ скібу.* Курашэва Чыж.

ОТКО'СЫ *мн.* Косы (пясчаныя). *Откосы в рэцэ.* Горск Бяроз.

ОТЛІ'ГА *гл.* ОДЛІ'ГА

ОТЛЯ'ТУВАТЭ *незак.* Адпадаць. *Кавалкамэ отлятуе мыло.* Дзмітравічы Кам.

ОТО'ЧЫНЫ толькі *мн.* Нутраное сала. *Оточыны — до йіх кішке трымаюцца.* Азарычы Пін.; *гл.* а т ó ч ы н ы.

ОТПАЛЯНТОВА'ТІ *зак. экспр.* Адрэзаць вялікі кавалак чаго-н. *Отпалянтовав кусіло солоніны і хліеба і взяв с собою до ліеса.* Курашэва Чыж.

ОТПА'СУВАТЫ *гл.* АТПА'САВАЦЬ

ОТПЫНЫ'ТЫ *гл.* АТПЫНІ'ЦЬ

ОТРО'К *м.* Падлетак. *Вэчором прышлі отрокі і каваліеры. Муой Сэргіей пушов до отрокуов.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *отрок* 'тж'.

О'ТРУБЯ *зб. н.* Вотруб'е. *Калі малоцяць, пры азатках са-*

*біраюць свіням отрубя, дзе дробнянькая.* Ракаўскія Швянч.

ОТРЭ′ПЙЕ *зб. н.* Адходы пры трапанні льну. *Отрэпйе отходзіт, когда трэплем.* Смаляніца Пруж.

ОТСЕ′ЯЦЬ *зак.* Адсеяць. *Я пойду отсею картофлю.* Калясное Міхал.

ОТСЫЛА′ЦІ *незак.* Адсылаць. *Ты мне будэш отсылаці пісьма.* Смаляніца Пруж.

ОТСЭ′ЛЯ *прысл.* Адсюль. *Жінка отсэля. Всі отсэля.* Дзмітравічы Кам.

ОТЧЫПЫ′ТЫСЬ *гл.* АТЧАПІ′ЦІСА

ОТШРУБОВА′ТІ *зак.* Адшрубаваць. *Отшрубуй тую мутэрку.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *odśrubować* ’тж’.

ОЎСЯ′НІСКО *н.* Аўсянішча. *Оўсяніско после оўса.* Смаляніца Пруж.

ОЎСЯ′ННЫ *прым.* Аўсяны. *Оўсянна пожня.* Воўкуш Ліпск.

ОФІЦЭ′РКІ толькі *мн.* Кароткія гумовыя боцікі з адваротамі. *Офіцэркі мама ў цэркву носіла. Воны такіе маленькіе, коротэнькіе, с отворотікамі, на каблучках. У іх туфлі ўстаўляют. Носят офіцэркі і зімой, і осэнню, і так у непогоду.* Сялец Бяроз. *Бабы в офіцэрках ходілі.* Курашэва Чыж.

ОХВАРБЫ′ТЫ *зак.* Афарбаваць. *Вася взяў і вырэзаў звэзду з дыхты, охварбыў чэрвоною хварбою.* Обеч Пруж.

О′ХВАТ, О′ХВАЦЬ *м. вет.* Апой (конская хвароба). *Охват бывая, конь змораны і напоіш вадою, вада паза скураю і на серца пойдзя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Охватіў охват коня, йак холодною водою напоіш.* Азарычы Пін. *Охваць — як каня ўпрэўшага напаіць; як у ход — нічога, а як напаіць — і стаіць ці напроціў ветру — то застыня.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* в о́ х в а т.

ОХВАТІ′ТІСЕ *зак.* Захварэць на апой. *Куонь охватівсе і здох.* Курашэва Чыж.; *гл.* а х в а ц і ц ц а.

ОХОЛО′ДАТІ *зак.* Астыць. *Снедайтэ, бо охолодае.* Азарычы Пін.

ОХО′ТА *ж.* Жаданне. *Всша охота, хочэтэ жыветэ, хочэтэ нэ жыветэ.* Смаляніца Пруж.

ОХО′ТНІК *м.* Паляўнічы. *Іх бацько охотнік.* Смаляніца Пруж., Калясное Міхал.; *параўн.* руск. *охотник* ’тж’.

О′ЦАТ, О′ЦОТ *м.* Воцат. *Оцат раньша казалі, а цяпер кажуць уксус.* Стары Свержань Стаўб. *Оцат разведзены.* Паляцкішкі Воран. *Оцот для кіслоты.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *ocet* ’тж’.

ОЦЕЛІ′ЦІСА *зак.* Ацяліцца. *Покуль оцеліцца корова!* Калясное Міхал.

О′ЧАРАДЗЬ, О′ЧАРЭДЗЬ *ж.* 1. Чарга. *Па очарадзі пасуць.* Кемялішкі Астр. *Усе памярлі, ужо і за намі очарэдзь.*

Саланое Віл. 2. Статак. *У нашай очарадзі ест карова бэз рох, бэзхвоста.* Мсцібава Ваўк.

О'ЧКА *н. памянш.* да о́ к а 2. *Жэртку суніш у очка і дна не дастаніш.* Гемзы Шальч.

О'ЧКІ *пчал.* толькі *мн.* Соты. *Пшчолы очкі робяць і наліваюць мёд.* Судэрва Вільн.

О'ЧШЫМ *гл.* О'ЙЧЫМ

О'ЧЫНЬ, О'ЧЭНЬ *прысл.* Вельмі. *Страшна, очынь страшна было.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Но там очынь трудна на азярэ днём будзіць. Людзей жа очынь многа, усё ў сельсавет. У мяне часта даўленне быває́ць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Очэнь харашо жыюць.* Новыя Мацалі Варэн.; *параўн.* руск. *очень* 'тж'.

ОЧЭ'ПА *ж.* Ачэп. Азарычы Пін.; *гл.* а ч а п н і ц ы.

ОШАБРОВА'ТІ *зак. экспр.* Абакрасці. *Злодіе ошабровалі хату, як нікого в дома нэ было.* Курашэва Чыж.

ОШАРА'ШЫТІ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць каго-н. *Як ошарашыв Стэпана колком в голов, то чуть выжыв, в больніці двіе нэдіелі лежав.* Курашэва Чыж.

О'ШВА *ж.* Тое ж, што і о ч э́ п а. *Прав'юоз круглякуов на ошвы.* Курашэва Чыж.

ОШЛА'ПІТЬ *зак.* Тое ж, што і о ш а б р о в а́ т і. *Ну і ошлапілі вашу кватерантку.* Азарычы Пін.

ОШУКА'ТЫ *гл.* АШУКА'ЦЬ

О'ШУСТ *м.* Ашуканец. *Ошуст — каторы ошуквае. Зладзеі і ошусты.* Мсцібава Ваўк. *Нейкія ошусты хадзілі.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *oszust* 'тж'.

О'ШЧУПКАМ *прысл.* Вобмацкам. *Ошчупкам выйдзя маці на двор.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *ощупью* 'тж'.

ОШЧЭ'НДНО *гл.* АШЧА'ДНО

ОШЧЯ'ДНО *гл.* АШЧА'ДНО

# П

ПА, ПО *прыназ.* І. з *дав.* 1. Указвае на размеркаванне. Па. *Па паўкіля дадуць.* Гальшаны Ашм. *Стораж даў хлапчукам па яблыку, па грушцы, каб толькі ў сад ні лазілі.* Альба Нясв. 2. Для ўказання на прычыну дзеяння. З прычыны. *Не ўсігда па гору плакаць.* Саланое Віл. ІІ. з *він.* 1. Пры абазначэнні прадмета, асобы як мэты руху ці перамяшчэння. Па. *Па карову прыехаў.* Ёдлавічы Брасл. *Іду па грыбы.* Кемялішкі Астр. *Сходзіш па цялушку.* Ністанішкі Смарг. *Пойдзям па каровы!* Граўжышкі Ашм. *Валоцька сходзя па Улляну. Сходзі*

*па дзеда!* Лоск Валож. *Пайду па карову. Пайду па свіноя вядро. Тады пойдзім па венік.* Груздава Паст. *Баба па траву пашла.* Кіралі Шчуч. *Пайду па воду.* Старое Сяло Зэльв. *Пашлі па ягады. Я пашла па гной.* Альхоўка Навагр. *Пайду па зелья.* Навасёлкі Свісл. *Лісіца па куры ходзіць.* Малахоўцы Бар. *Пашла па журавіны.* Вялікі Краснік Пруж. *Ідзі па бацьку!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Хадзілі па маліны.* Старыя Трокі Трак. *Іду па каня.* Гемзы Шальч. *Я ішла по Аркадзя.* Смаляніца Пруж. *Ходзе по ваду.* Новыя Мацалі Варэн. *По воду трэба іці.* Смаляніца Пруж. *Іды по булкі.* Дзмітравічы Кам. 2. Для абазначэння паслядоўнасці дзеяння (у выразе *раз пораз*). *Рас па рас страляе.* Солы Смарг. III. з *месн.* 1. Пры абазначэнні месца, прасторы, у межах якіх адбываецца дзеянне. Па. *Снуячка была, і сную, бегаю па хаця.* Солы Смарг. *Яго карова хадзіла па пашы.* Альхоўка Навагр. *Каровы пасля абеду пахадзілі па ржышчы, трохі наскублі травы.* Альба Нясв. 2. Пры ўказанні на рад аднародных прадметаў, асоб, у адносінах да якіх адбываецца дзеянне. Па. *Сразу пашлі па свінях.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па хазяінах пленых разаслалі.* Шведы Вільн. 3. Пры ўказанні на прадмет, на паверхні якога адбываецца дзеянне або размяшчаецца што-н. Па, на. *Ліпень — красівая рыба, пярына на цэлым хрыпце.* Быстрыца Астр. *Латы па саломе.* Грыкені Вільн. *Па сухў ідзеш і ўсё адно анучы мокрыя і ногі мокрыя.* Ракаўскія Швянч. *Пакаціласа імгла па лонках.* Сакаляны Сакол. 4. Пры ўказанні месца, дзе што-н. знаходзіцца. Па, у. *Па кустах падзяржалі карой і прыгналі.* Груздава Паст. *Па верасе баравікі растуць.* Багушэвічы Бярэз. *Ляшчына расце па кустах.* Грыкені Вільн. 5. Пры ўказанні на асобу, месца, якое хто-н. часта наведвае або там знаходзіцца. Па. *Па хатах будзіця хадзіць.* Кемялішкі Астр. *Па панох служыла.* Рыбчына Віл. *Па памешчыках былі чаляднікі.* Лоск Валож. *Манька любіць па хатах бегаць, зранку ўжэ пабегла.* Альба Нясв. *Служыла за хлеп па панох, па ксяндзох.* Старыя Трокі Трак. 6. Пры абазначэнні пэўнага часу, перыяду, пасля якіх што-н. адбываецца. Пасля. *Па вайне прыехаў сюды.* Паляцкішкі Воран. *Прыехала па вайне сюды. Па абедзе будзе ў хаце.* Гальшаны Ашм. *Толькі па шостае кладуся спаць. І да вайны і па вайне з плаценкі насілі. Я па вайне перастроілася. Сястра паехала ў Віцябск па вайне.* Крэва Смарг. *Па смерці і плахога хвалюць.* Саланое Віл. *Па маю яны растуць.* Новікі Гродз. *Па нядзелі ва ўторак рáдаўніца.* Нізок Уздз. *Па смерці мужа я сюды перайшла.* Дзераўное Стаўб. *Па нядзелі буду садзіць.* Вецярэвічы Пух. *Па абедзе буду браць. Па абедзя паедзяця ў горат. Прыехала ў Мінск ужо па першаму часу ночы.* Ракаўскія Швянч. *Па целюку дае мая карова дваццаць пяць літраў.* Старыя Трокі Трак. *Шчэ па гэтуй вайне*

*малолі.* Каменка Стара Сакол. 7. Пры абазначэнні пэўнага часу, калі адбываецца дзеянне. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з *тв. Я казала, што па лету ты прывязеш свой лісафет.* Вецярэвічы Пух. *Ездзілі па дню.* Старыя Трокі Трак. 8. Пры абазначэнні з'явы, працэсу і пад., час існавання якіх заканчваецца ў выніку якога-н. дзеяння. Па. *Ужо па касьбе.* Груздава Паст. *Сказала, што ўжэ па чалавеку.* Кураполле Паст. *Вот і па дажджы.* Саланое Віл. *Зарэзалі, і па карове.* Гемзы Шальч. ∇ *Па часе розум прыбудзіць, а ў час ня будзіць.* Кураполле Паст. 9. Пры абазначэнні асобы, прадмета, аб якіх сумуюць, плачуць і пад. Па. *Па чужых плачуць, па мёртвым.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яму галава ні па чым баліць.* Кураполле Паст. *Па нас яны плакалі; так я па ей плакала.* Саланое Віл. *Плакалі па ёй.* Дакудава Лід. 10. Для ўказання колькасці. Па. *Па чом прадавала?* Груздава Паст. *Шыпшыннік па адным кусце расце.* Галоўні Воран. 11. Пры абазначэнні способу дзеяння. ◇ *Па сабе* — асобна. *Жылі ў адной хаці, алі па сабе.* Бакшты Іўеў. *Жывуць па сабе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дваццаць гадоў па сабе жывуць. Яны то жывуць па сабе.* Альхоўка Навагр. *Па луне хадзіць* — пра лунаціка. *Тут адзін па луне ходзіць.* Саланое Віл. *Па часе* — позна. *Ужо позна, па чася сталі лячыць.* Кураполле Паст.

ПААБАРВА'НЫ *дзеепрым.* Абарваны. *Усё паабарвана, ні аднаго расліка нет.* Лоск Валож.

ПААБГРЫЗА'ЦЬ *зак.* Абкусаць (усё, многае). *Блохі ночу паабгрызалі мяне ўсю.* Малахоўцы Бар.

ПААБДЗЕ'ЛЬВАЦЬ *зак.* Абдзяліць (усіх, многіх), надзяліць. *Як іх* [гусей] *паабдзельваць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПААБДЗІРА'ЦЬ *зак.* Абадраць з усіх бакоў. *Паабдзірала ногі — у адных пасках, усе ў струпох.* Кіралі Шчуч.

ПААБДЗЯЛА'ЦЬ *зак.* Падправіць. *Паабдзялаеш раўней грады.* Азяраны Раг.

ПААБІВА'ЦЬ *зак.* 1. Ababiць (усё, многае). *Паабівалі яблыкі дзеці.* Мсцібава Ваўк. 2. Параніць, нарабіць сінякоў. *Я паабівала ногі за лета.* Солы Смарг.

ПААБІРА'ЦЬ *зак.* 1. Абабраць (усё, многае). *З дзвёх яблынь паабіраў яблыкі.* Альхоўка Навагр. 2. Абчысціць (лупіну). *Паабіралі картофлі.* Мсцібава Ваўк.

ПААБКО'ПВАЦЬ, ПААПКО'ПВАЦЬ *зак.* Абкапаць з усіх бакоў. *Паапкопваць магілкі нада.* Ракаўскія Швянч.

ПААБКРАДА'ЦЬ, ПААПКРАДА'ЦЬ *зак.* Абакрасці. *Цябе паапкрадалі, усёнка твэ пабралі.* Кудзялянцы Шальч.

ПААБЛО'МАЦЬ *зак.* Абламаць (усё, многае). *Пааблoмаю картоплі.* Ванелевічы Кап.

ПААБЛУПА'ЦЬ *зак.* Абламаць. *Пааблупай храсткі.* Кузьмічы Люб.

ПААБНЯ'ЦЬ *зак.* Абняць (усіх, многіх). *Ён прыедзіць і нас паабніміць бывала.* Буды В.-Дзв.

ПААБРАЗА'ЦЬ *зак.* Сцерці да крыві скуру. *Калыватая палатно, так яны ўсё паабразаюць гэтымі рупцамі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПААБРАСТА'ЦЬ, ПААБРО'СТАЦЬ, ПАБРО'СТАЦЬ *зак.* Абрасці (расліннасцю, валасамі). *Вуллі паабрасталі, трэба павырываць траву.* Пацаўшчына Дзятл. *Паабро́стало дзераво мхом.* Дзяніскавічы Ганц. *Цяпер хлопцы паброслалі валасамі.* Вецярэвічы Пух.

ПААБСТРЫГА'ЦЬ *зак.* Абстрыгчы (усё, многае). *Ножніцы нада паабстрыгаць кусты.* Пацаўшчына Дзятл.

ПААБТЫКА'ЦЬ, ПААПТЫКА'ЦЬ *зак.* Абаткнуць з усіх бакоў. *Паразгамі паатыкаяш, кап куры не капа́лі.* Парэчча Гродз.

ПААБХО'ДЗІЦЬ, ПААПХО'ДЗІЦЬ *зак.* Паўзыходзіць (пра расліны). *Ні паапходзіла бацвіння.* Солы Смарг.

ПААДЗЕ'ЛЬНА *прысл.* Паасобку. *«Ці іх разам саджаць,— пытаюць,— ці паадзельна?»* Веркалы Пух.

ПААДЗЕ'ЛЬНАСЦІ *прысл.* Тое ж, што і п а а д з е́ л ь н а. *У гару́ды паадзельнасці сыпалі зярно.* Солы Смарг.

ПААДМЫКА'ЦЬ *зак.* Адамкнуць (усё, многае). *Тры хлопцы паадмыкалі замкі.* Солы Смарг.

ПААДПАДА'ЦЬ *зак.* Павымірацьь (пра пчол). *Пчолы паадпадалі — вулії пустыя.* Масілавічы Сл.

ПААДПЛІКА'ЦЬ, ПААТПЛІКА'ЦЬ *зак.* Паадшпільваць. *Гузікі паатплікала.* Рудня Чэрв.

ПААДПУСКА'ЦЬ, ПААТПУСКА'ЦЬ *зак.* Пашырыць. *Паатпускала рупцы.* Дакудава Лід.

ПААДРЫВА'ЦЬ *зак.* Адарваць (усё, многае). *Паадрывала ёй пальцы на правай руцэ.* Пацаўшчына Дзятл.

ПААДСЕ'КАЦЬ, ПААТСЕ'КАЦЬ *зак.* Паадсякаць. *Ногі паатсекаў і ў балею панамачваў.* Альхоўка Навагр.

ПААДЫХНУ'ЦЬ *зак.* Адпачыць (пэўны час). *Сын паадыхнець кусок.* Асавец Віл.

ПААПАЛА'ЦЬ *зак.* Правеяць апалушкамі (усё, многае). *Шчаўе паапалаць, крупы.* Старыя Трокі Трак.

ПААПЕ'КАЦЬ *зак.* Паапякаць. *Кіслатой паапекаў ногі.* Кузьмічы Люб.

ПААПКО'ПВАЦЬ *гл.* ПААБКО'ПВАЦЬ

ПААПКРАДА'ЦЬ *гл.* ПААБКРАДА'ЦЬ

ПААПТЫКА'ЦЬ *гл.* ПААБТЫКА'ЦЬ

ПААПХО'ДЗІЦЬ *гл.* ПААБХО'ДЗІЦЬ

ПА-АСО'БЕННАМУ *прысл.* Паасобку. *Па-асобеннаму жывуць.* Азяраны Раг.

ПААСЫПА'ЦЬ *зак.* Паабсыпаць. *Паасыпай картофлі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПААТПЛІКА'ЦЬ *гл.* ПААДПЛІКА'ЦЬ

ПААТПУСКА'ЦЬ *гл.* ПААДПУСКА'ЦЬ

ПААТСЕ'КАЦЬ *гл.* ПААДСЕ'КАЦЬ

ПААЧУ'РВАЦЦА *зак.* Адрачыся (ад усяго). *Паачурваліся ношак у хаці — ды ў акопы.* Азяраны Раг.

ПААЧЭ'ПЛІВАНЫ *дзеепрым.* Адчэплены (пра ўсё, многае). *Вёдры паачэпліваны.* Жодзішкі Смарг.

ПААШЧЫ'КВАЦЬ *зак.* Адрэзаць (шляхам хірургічнай аперацыі). *У дзевачкі було шэсь пальцы на ножках, трэба було паашчыкваць у бальніцы.* Пасека Ст.-Дар.

ПАБА'БІЦЦА *зак.* Зморшчыцца (пра скуру). *Рукі пабабіліса ў вадзе.* Семежава Кап.

ПАБА'БЛЕНЫ *прым.* Зморшчаны (пра скуру). *Рукі пабабіліса ў вадзе. Як мокрыя, то пабабленыя, а як высахнуць, то шорстка робіцца рука.* Семежава Кап.

ПАБА'БЯЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б а́ б і ц ц а. *Рукі пабабялі, доўга плацця сцірала ў вадзе.* Азяраны Раг.

ПАБАВЕ'ШКА, ПАБАЕ'ШКА *ж.* 1. Доўбня. *Калі рашчэпліваць калотку, пабавешкай б'юць. Пабавешкаю калацілі лён, і пранікам абівалі.* Магуны Паст. *Пабавешкай тры раза стукнуць, ножыкам прырэжут борова.* Крэвені Даўг. *Пабаешка — камні біць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан. экспр.* Някемлівы чалавек. *Ну, пабаешка ты!* Крэвені Даўг.

ПАБА'ВІЦЬ *зак.* Забавіць (дзіця). *Ні прыйшла, ні пабавіла дзіцё.* Жылі Іўеў. *Павядзе, на дварэ пабавіць.* Старыя Трокі Трак. *Ты сядзі, пабаў яго так.* Ракаўскія Швянч. *У бацькоў дзяцей пабавіла.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *pobawić* 'тж'.

ПАБАГА'ТА *прысл.* Многа. *Бобу ні пабагата садзілі.* Азяраны Раг.

ПА-БАГА'ТАМУ *прысл.* Тое ж, што і п а б а г а́ т а. *Німа па-багатаму малака.* Азяраны Раг.

ПАБАЕ'ШАЧКА *ж. памянш.* Качалачка. *Пабаешачка была разгладжваць бялізну.* Рагулішкі Даўг.

ПАБАЕ'ШКА *гл.* ПАБАВЕ'ШКА

ПАБАЖЫ'ЦЦА *зак.* Паклясціся, ужываючы слова «бог». *Пабожыцца, што больш ні будзя так рабіць, а потым зноў за сваё.* Карцэвічы Нясв. *Нявольна бажыцца, а я пабажылася.* Рагулішкі Даўг.

ПАБА'ІЦЬ *зак.* Пагаварыць. *Ён прыдзя, пабая і пойдзя.* Граўжышкі Ашм.

ПАБА'ЛІВАЦЬ, ПАБО'ЛЬВАЦЬ, ПАБО'ЛЯВАЦЬ *незак.* Пабольваць. *Усё пабаліваіць спіна. Ей самой галава пабаліваіць.* Валынцы В.-Дзв. *Штось галава пабольвае.* Мсцібава Ваўк. *Мне пабольвае права око.* Каўняны Гродз. *Паболявая даўно ўжо рука.* Лоск Валож.

ПАБАЛТЭ'ХАЦЬ *зак. экспр.* Разбоўтаць. *Пабалтэхая муку яна — і мілта.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАБАРАЗНІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць барозны. *Трэба пабаразніць жыта.* Жылі Іўеў.

ПАБАЯ'ЦЦА *зак.* Не адважыцца. *Пабаяўся послі арміі паступаць.* Буды В.-Дзв.

ПАБВА'РЫВАЦЦА *зак.* Апарыцца. *Свіні паелі калатуху, пабварываліся, з ляпаў назат вылівалі.* Валынцы В.-Дзв.

ПАБЕ'ГАЦЦА *зак.* 1. Стаць цельнай. *Карова пабегалася.* Лука Нараўк. 2. Стаць котнай. *Пабегалася з бараном авечка.* Пасіене Лудз.

ПАБЕ'ГАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 1. *Карова пабегала.* Малахоўцы Бар.

ПАБЕ'ГЧЫ, ПАБЕ'ХЧЫ, ПОБІЕ'ЖЧЫ *зак.* 1. Пабегчы. *Пабёх у хату.* Паляцкішкі Воран. *Пабёх ды пугі даў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Хутка пайсці. *Побіжы до склепу і купі хліеба і цукру.* Курашэва Чыж. 3. Пераліцца цераз край пры кіпенні. *Пабех макарон. Бульба пабегла, нада адставіць.* Валынцы В.-Дзв. ▽ *Маці — таўстуха, дочка — красуха, а сын — перабор, пабех на двор* — печ, агонь, дым. Ухвала Круп.

ПАБЕ'Л *м. бат.* Падбел. *Пабел прыкладаюць ад ранаў.* Мсцібава Ваўк.

ПАБЕЛЯ'НЫ, ПАБЕЛЯ'НЫЙ *гл.* ПАБЯЛЯ'НЫ

ПАБЕЛЯ'ЦЬ *гл.* ПАБЯЛЯ'ЦЬ

ПАБЕ'ХЧЫ *гл.* ПАБЕ'ГЧЫ

ПАБІВА'ЦЬ *зак.* і *незак.* 1. Неаднаразова набіць; папабіць. *Ой, ён яе пабіваў.* Асавец Віл. 2. Быць найлепшым па гучанню. *Ягоная скрыпка пабівала ўсе скрыпкі, была з белай елі.* Якубова Рас.

ПАБІЛЯ'НЫ *гл.* ПАБЯЛЯ'НЫ

ПАБІ'НЬВАЦЬ *зак.* Аб'інець. *Пабіньвало дзерава, пабіньвае галье.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАБІРА'ЦЦА *незак.* Жабраваць. *Пабіраліся людзі.* Жылі Іўеў.

ПАБІРА'ЦЬ І, ПАБІРА'ЦІ *незак.* 1. Падымаць (пра пасланы лён). *Пашле пабіраць лён.* Жылі Іўеў. *Выцягуем лён з ракі і сцелім, пабіраем лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Лён адлежыцца, тады пабіраеш.* Беняконі Воран. *Як лён адлежыцца, пабіраям у кулі.* Дакудава Лід. *Лён паляжыць, тагды пабіраям і вязём у лазню.* Новыя Мацалі Варэн. *Лён паслалі, ляжыць, а тады пабіраям і ў лазні сушылі.* Старыя Трокі Трак. 2. Вязаць у снапы. *Матка старая, я пашла жыта пабіраць.* Малькуны Ігн. 3. Збіраць (бульбу) за плугам. *Пабірай бульбу і майчы.* Лоск Валож. *Яна тожа прыхожая, картошку пабірала.* Старыя Трокі Трак. 4. Зносіць, збіраць у адно месца. *Прачысцяць, паубіваюць часць, тады пабіраім убітых.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Нага пакрышана была, мы костачкі*

*пабіралі. Кашолкамі накідаям уюноў на сухоя і пабіраям потам.* Парэчча Гродз. 5. Есці, падбіраючы з зямлі (пра карову). *На капуснішча наважаюць кароў, яны лісця пабіраяць.* Крэва Смарг. 6. Дзяўбці. *Галуп зярно пабірая.* Крэва Смарг.

ПАБІРА'ЦЬ II *незак.* Жывіцца, засвойваць. *Авёс пабірае адно аджыўлене, а жыта — другое.* Лука Нараўк.

ПАБІ'ТЫ *дзеепрым.* у знач. *назоўніка.* Забіты. *І раненыя, і пабітыя лежаць.* Гальшаны Ашм.

ПАБІ'ЦЦА I *зак.* Разбіцца. *Сцякло пабіласо.* Ванелевічы Кап. ◇ *Не пабіцца лбом* — прымірыцца. *Лазня згарэла — і лён згарэў — што зробіш, лбом не паб'есся.* Малі Астр.

ПАБІ'ЦЦА II *зак.* 1. Стаць жарэбнай. *Кабылу случаў, ужэ пабіласа.* Рагулішкі Даўг. 2. Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Як баран ест, то паб'ецца авечка.* Грыкені Вільн.

ПАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Паламаць, сапсаваць. *Я і тапары пабіў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Забіць. *Упёрадзь немцы прыехалі і дзевяць сямей пабілі.* Ухвала Круп. 3. Пашкодзіць пасевы градам. *Быў велькі грат, пабіў жыта і ляжыць, бабы серпамі жнуць.* Кіралі Шчуч. *Град пабіў збожа.* Сакаляны Сакол. 4. Абабіць (семя). *Сена зработалі, жыта пажалі, лён парвалі, пабілі, картопля напярадзі.* Лешня Кап. 5. Зрабіць шурпатым, агрубелым. *Вецер паб'е скуру, на нагах скура патрэскаецца.* Мсцібава Ваўк. 6. *перан.* Сканапаціць (пра твар). *Воспа паб'е ліцо на ямачкі.* Каўняны Гродз.

ПАБЛАЖА'ЦЬ *зак.* Пахудзець. *Паблажала дачушка мая, хворая.* Альхоўка Навагр.

ПАБЛАЖНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б л а ж а́ ц ь. *Чыста паблажнеў твой хлопчык.* Пацаўшчына Дзятл. *Паблажнеў хлопяц, якія там харчэ?! Як ты паблажнеў!* Малахоўцы Бар.

ПАБЛЁНТАНЫ *прым.* Паблытаны. *Я кіну гэтыя ніткі паблёнтаныя, бо я ім рады не дам.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *poplątać* 'пераблытаць'.

ПАБЛІ'ЗУ *прысл.* Непадалёк. *Тут паблізу была гаць.* Альхоўка Навагр.

ПАБЛУ'ТАНЫ *прым.* Тое ж, што і п а б л ё н т а н ы. *Лён паблутаны.* Азяраны Раг. *Паблутаныя ніткі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАБЛУ'ТАЦЦА *зак.* Паблытацца. *Паблуталіся ніткі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАБЛУ'ТАЦЬ, ПАБЛЮ'ТАЦЬ *зак.* Паблытаць. *Паблутаў ніткі.* Дакудава Лід. *Паблутаў ты мне ніткі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Паблютаю ўсе ніткі, пакручу, расплутаю цяпер.* Солы Смарг. *Паблютаў ніткі.* Старыя Трокі Трак.

ПАБЛЭ'НТАЦЦА *зак. экспр.* Лежачы паперабіраць нагамі (пра дзіця). *Дзіцяці хочацца паблэнтацца нагамі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАБЛЯ'КНУЦЬ *зак.* Выцвісці. *Белае не паблякне, а гэта*

*нябескае было — паблякла.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *blaknąć* 'выцвітаць, бляквуць'.

ПАБО'ЙНЯ *ж.* 1. Тое ж, што і п а б а в е́ ш к а 1. *Пабойня — дровы біць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пабойняй дровы б'юць.* Мярэцкія Глыб. *Нядаўна пабойня бадзялася пад нагамі.* Малькуны Ігн. *Пабойняй дровы б'юць, заганяюць тапор.* Крэвені Даўг. 2. Тоўстая качалка. *Скачаў трупку* [палатна] *і пастукаў пабойняй.* Рагулішкі Даўг.

ПАБО'ЛЬВАЦЬ *гл.* ПАБА'ЛІВАЦЬ

ПАБО'ЛЬШАСЦІ *прысл.* Часцей. *Пабольшасці па ніўю растуць ваўчкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАБО'ЛЬШАЦЬ, ПАБО'ЛЬШЫЦЬ, ПОБУО'ЛЬШАТІ *зак.* 1. Падрасці. *Ніхай пабольшаіць дзяўчына.* Груздава Паст. *Пабольшала дзяўчына — ляхчэй стала мне. Пабольшылі дзеці, паразумнілі.* Лоск Валож. *Мы пабольшылі, прышла весна, усю работу панімалі.* Кураполле Паст. ▽ *Дзеткі мае маленькія, слёзкі ў мяне драбненькія, як дзетачкі пабольшалі, дык слёзачкі пагоршалі.* Ухвала Круп. 2. Стаць больш працяглым у часе. *Дзень ужэ пабольшаў.* Карцэвічы Нясв. *Ноч пабольшыла.* Кураполле Паст. 3. Прыбавіцца ў аб'ёме. *По дошчо́ві воды́ побуольшало.* Курашэва Чыж.

ПАБО'ЛЬШЫ *прысл.* Больш. *Мяне б туды, дзе старыкоў пабольшы.* Пярэкі В.-Дзв.

ПАБО'ЛЯВАЦЬ *гл.* ПАБА'ЛІВАЦЬ

ПАБО'ЦНІ *мн.* Ручкі ў вузгалаўі воза. *Пабоцні з двух палак, устаўляецца драбінка.* Азяраны Раг.

ПАБО'ЧЫНА *ж.* 1. Абочына. *Пабочыну дарогі скасіў.* Лоск Валож. 2. Бакавіна (тушы). *Пабочыну зрэш с кабана, патпуззя і сюды кладзі.* Ухвала Круп.

ПАБРАДЗІ'ЦЬ, ПАБРО'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Пратаптаць сцежку. *Пабродзіла постаць.* Жылі Іўеў. 2. Стаптаць. *Куры пабрадзілі ячмень.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАБРАЗА'ЦЬ *зак.* Паабразаць. *Сукі пабразалі.* Мярэцкія Глыб. *Пабразала канцы нітак.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАБРА'ЗГАВАЦЬ *незак.* Пабразгваць. *Дзверы пабразґаваюць.* Лісна В.-Дзв.

ПАБРА'ЗГАЦЬ, ПАБРА'ЗКАЦЬ *зак.* 1. Пастукаць. *Пабразкаў у вакно.* Пасека Ст.-Дар. 2. Пляскаць чым-н. металічным. *Пабразґаў клямкаю і пашоў.* Малева Нясв. *Пабразґала ключамі.* Лоск Валож. *Касой пабразґаў і пашоў — нема каво касіць.* Малькуны Ігн.; *гл.* б р а́ з ґ а ц ь.

ПАБРАКАВА'ЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Нігода пабракавала картоплі.* Тухавічы Лях.

ПАБРА'НЫ *дзеепрым.* Забраны. *Секліся салдаты толькі пабраныя да войска.* Быстрыца Астр.

ПАБРА'ЦЦА, ПОБРА'ТЫСЬ І *зак.* Пажаніцца. *Калі вы любіцеся, то і пабярэцеся.* Кіралі Шчуч. *Ну, вядома, як воны́*

*жылы, колы ны по соглассю побралысь.* Вярхі Кам.; *параўн.* польск. *pobrać się* 'тж'.

ПАБРА'ЦЦА II *зак.* Зліпнуцца. *Пабралася ў пліты сена і спляснела.* Жылі Іўеў. *Зямля грузалкамі пабралася.* Беразіно Докш.

ПАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Узяць у рукі (пра ўсіх, многіх). *Пабéруць багры — і да ракі.* Беразіно Докш. 2. Забраць (усё, многае). *Усё маё пабралі.* Гальшаны Ашм. 3. Сабраць за плугам. *Ідзі бульбу пабяры.* Белы Бераг Іўеў. ∇ *Няхай яе гарончка пабярэ!* Пацаўшчына Дзятл.

ПАБРО'ДЗІЦЬ *гл.* ПАБРАДЗІ'ЦЬ

ПАБРО'СТАЦЬ *гл.* ПААБРО'СТАЦЬ

ПАБРЫ'ДЗІЦЦА *зак.* Падражніцца. *Гэта цёця хацела пабрыдзіцца з маей Ленкай.* Малі Астр.

ПАБРЫДЗІ'ЦЬ *зак.* Папсаваць. *Машыны парэжуць бураке папалам, пабрыдзяць.* Новіны Нясв.

ПАБРЫ'ЗГАЦЦА *зак.* Абшарпацца. *Вяровачка пабрызґалася, вісяць матузы. Каўнер пабрызґаўся, нада адняць ці папрaвіць.* Гемзы Шальч.; *гл.* б р ы́ з ґ а ц ц а.

ПАБРЫ'ЗГАЦЬ *зак.* Папырскаць. *Пабрызґала мост.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Перасохла бялізна, трэба пабрызґаць, а потым гладзіць.* Карцэвічы Нясв.

ПАБРЫ'НДАЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і п а б р а д з і́ ц ь 2. *Качкі, гусі пабрындалі ячмень.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Папсаваць. *Во нажала, пабрындала толькі.* Крэва Смарг.; *гл.* б р ы́ н д а ц ь I.

ПАБРЫ'НЬГАЦЬ *зак.* 1. Пабрынкаць. *Пабрыньґай гэтай цацкай.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Пастукаць. *Пабрыньґаю ў дзверы, можа, хто дома.* Галубы Маст.

ПАБРЫНЯ'ЦЬ *зак.* Набрыняць. *Трэба гарох намачыць, каб ён пабрыняў, тады яго прыжыць.* Кіралі Шчуч.

ПАБРЭ'НДЗІЦЦА *зак. экспр.* Здохнуць. ∇ *Штоб вы пабрэндзіліся!* [на мышэй]. Новіны Нясв.

ПАБУДАВА'НЫ *дзеепрым.* Пабудаваны. *Усе хаты былі пабудаваны.* Грыкені Вільн.

ПАБУДАВА'ЦЦА *зак.* Пабудаваць сабе хату. *Там лужок быў, пабудаваўся чалавек, і лўжок назвалі Крашэвік.* Вострава Маст. *Даў брат ім кавалачак зямле, і яна пабудавалася пры нас.* Кіралі Шчуч. *Цяпер пабудавалісо гэттам.* Лоск Валож. *Людзі пабудавалісе.* Дзераўное Стаўб. *Пабудаваліся ў Судэрве.* Швэды Вільн.

ПАБУ'ТНЯЦЬ *зак.* Збуцвець. *Пасадзіла гурке, гарбузэ, да пабутнялі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАБУ'ХАЦЬ *зак. экспр.* Папаласкаць. *Пабухаць у халоднай вадзе.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАБУЯ'ЦЬ *зак.* Вырасці ў націну. *Пабуяла бульба, націна па пояс.* Азяраны Раг.

ПАБЫДЛАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 1. *Карова пабыдлавала.* Лука Нараўк.

ПА-БЫ'СТРАМУ *прысл.* Хутка. *Па-быстраму рабіла сэрвэту.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *быстро* 'тж'.

ПАБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прабыць дзе-н. нейкі час. *Яшчэ пабудзіце тут?* Малі Астр. 2. *безас.* у складзе *вык.* Працягвацца ў пэўным стане (пра пагоду). *Пабуло пару дзён цёпло.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАБЭ'ЙДАЦЦА *зак. экспр.* Папасвіцца (пра жывёлу). *Цялуха пацягнула на брыўку, хай пабэйдаіцца.* Саланое Віл.

ПАБЭ'РСАНЫ *прым.* Тое ж, што і п а б л ё н т а н ы. *Нітак пабэрсаных у пудэлку многа, трэба іх разблытаць.* Малева Нясв.

ПАБЭ'РСАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б л у́ т а ц ь. *Пабэрсалі ніці.* Бакшты Іўеў. *Пабэрсала ўсе ніткі, цяпер толькі па кусочку можна адрываць.* Малева Нясв.

ПАБЭ'РХАЦЬ *зак. экспр.* Няроўна зжаць. *Постаць у цябе няроўная, пабэрхала, пабрадзіла, то вышэй, то ніжэй.* Жылі Іўеў.

ПАБЭ'СЦІЦЬ *зак.* Зглуміць. *Так елі сала, пабэсцілі ўсё!* Дакудава Лід.

ПАБЭ'ХАЦЬ *зак. экспр.* Пабаранаваць абы-як. *Пабэхаў па картоплі, па мокрым месцы.* Вецярэвічы Пух.

ПА-БЯЗБО'ЖНАМУ *прысл.* Вельмі многа. *Зяць п'ець пабязбожнаму.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПАБЯЛІ'ЦЬ, ПАБЯЛЯ'ЦЬ, ПАБЕЛЯ'ЦЬ *зак.* Пабяліць (вапнай). *Нада печ пабяліць.* Кіралі Шчуч. *Пабялі печ.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Печ даўней рабілі з гліны, білі печ, пабяляюць яе і добра было.* Ракаўскія Швянч. *Пабеляць печку; вапнай пабеля́еш.* Чычалі Швянч.

ПАБЯЛЯ'НЫ, ПАБЕЛЯ'НЫ, ПАБЕЛЯ'НЫЙ, ПАБІЛЯ'НЫ *прым.* Палуджаны. *Былі саґаны маґазыновыя, пабяляныя.* Старыя Трокі Трак. *Ест пабеляны саґанок.* Гемзы Шальч. *Саґан пабеляны з ушыма.* Номікі Бабіц. *Кацёл пабіляны быў.* Валынцы В.-Дзв. *Чугун пабеляный у срэдзіне.* Навікі Лудз.

ПАБЯСЕ'ДАВАЦЬ *зак.* Пагутарыць. *Пайдзём пабяседуям.* Навасёлкі Свісл. *Пабяседавалі і пашлі.* Рыбчына Віл.; *парайн.* руск. *побеседовать* 'тж'.

ПА'ВА' *ж.* Паўлін. *У паві́ пер'я файна.* Жодзішкі Смарг. *Паны па́вы хавалі.* Кудзялянцы Шальч. ∇ *Змок, як па́ва.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ходзіш, як пава́.* Бакшты Іўеў.

ПАВАҐА'ЦЬ, ПАВАҐАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б а р а з н і ц ь. *Паваґаць жыто трэбо.* Тухавічы Лях. *Як пасее і пабаранує, тады паваґае. Як жыто пасеюць, забарануюць, после плугам паваґаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Паваґуеш жыта, і лепей.* Гемзы Шальч.

ПАВА′ДЗІЦЦА I *зак.* Пасварыцца. *Павадзілася яна са мною.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ні с кім ні паваджуся, с усімі ніблага.* Солы Смарг. *Баба з бабай павадзіліся.* Крэва Смарг. *С каждым павадзіцца ён.* Жодзішкі Смарг. *Павадзіліся, ізноў сышліся.* Магуны Паст. *Мы павадзіліся добра.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна і павадзіца, бывала, з залоўкамі.* Саланое Віл. *Яны пасварыліся, павадзіліся.* Дакудава Лід. *Яны павадзіліся і не гавораць.* Чычалі Швянч. *Павадзіцца с кім і не гаворыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* літ. *vaidy-tis* 'тж'.

ПАВА′ДЗІЦЦА II *зак.* Унадзіцца. *Каровы павадзіліся хадзіць у клевір.* Лісна В.-Дзв. *Бываіць, павадзюцца ў шкоду хадзіць каровы.* Саланое Віл.

ПАВАДЗЭ′НЯ *н.* Паводзіны. *Даўней, як сватаецца, пыталіся, які ён чалавек, якога павадзэня чалавек, якія былі бацькі.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *powodzenie* 'удача, поспех'.

ПАВАДО′К *м. памянш.* Невялікая вяровачка. *Зачапіла павадок, кап лягчэй было ўставаць з пасцелі хвораму. Надвязаваюць пасцілкі паватком.* Саланое Віл. *Паваткі ад уздэчкі ўдзяюцца ў колца ў дузе.* Гемзы Шальч.

ПАВАДЫ′ *мн.* Павады. *Павады бярэш і вядзеш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аброць, да яе павады прыкрапляюцца.* Рыбчына Віл. *Уздэчка з павадамі.* Малі Астр.

ПАВАДЫ′Р *м.* Той, хто водзіць сляпога. *Павадыр водзіць старца.* Пасека Ст.-Дар. *Павадыр вадзіў старцоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я аслепшы саўсем, мне нада павадыр.* Пасіене Лудз.

ПАВАЖЫНЯ′ЦЦА *зак.* Пакатацца. *Паважыняюся паеду.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *važinėtis* 'катацца'.

ПАВАЖЫНЯ′ЦЬ *зак.* Пакатаць. *Паважыняй мяне.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* п а в а ж ы н я́ ц ц а.

ПАВАЗІ′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а в а ж ы н я́ ц ц а. *Давай на саначках павозімся.* Кураполле Паст.

ПАВАЙЦЯ′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а в а́ д з і ц ц а I. *Моцна павайцяліся.* Гемзы Шальч.; *гл.* в а й ц я́ ц ь, в а й д а в а́ ц ь.

ПАВА′Л I *м.* Накат з бярвення. *Пад страхой быў павал у свірня.* Магуны Паст. *Павал рабілі, шчыт забіваяцца.* Быстрыца Астр.

ПАВА′Л II *м.* 1. Спілаваны лес. *Павалу густа наклалі.* Бакшты Іўеў. 2. Лесасека. *Павал — гэта дзе валяць лес.* Бакшты Іўеў.

ПАВА′ЛАК *м.* Сенажаць каля нівы. *У канцы нівы выкацішся на павалак.* Магуны Паст.

ПАВАЛАКА′НКА *ж.* Кароткі кажух, пацягнуты зверху сукном. *Хутэрка* [на кажуху], *павалочаная сукном, звалі па-*

*валаканка.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *powlekać* 'надзяваць, пакрываць'.

ПАВАЛАКЦІ', ПАВАЛАЧЫ' *зак.* Павалачы. *Ссекла і павалакла цераз двор.* Альхоўка Навагр. *Не мог павалакці.* Азяраны Раг.

ПАВАЛА'ЦЬ *зак.* Паклікаць. *Павалай яго.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *wołać* 'клікаць, заклікаць'.

ПАВА'ЛАЧАК *м. памянш.* да п а в а́ л а к. *Нада пасядзець на павалачку.* Магуны Паст.

ПАВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Упасці. *Слізата была такая, павалілася — і нагу ў клубе́ паламала.* Малі Астр. *У бульбу павалілася.* Гемзы Шальч. *Той таго папхнуў, той паваліўся.* Грыкені Вільн. 2. *перан.* Радзіць. *Станьчыха ўжо павалілася.* Гемзы Шальч.

ПАВАЛО'ДАЦЦА *зак.* Паварушыцца. *Ён не ўстаніць, не павалодаецца.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАВАЛО'ЖЖА *н.* Зграя. *Воўча паваложжа, ваўкі рышчацца.* Азяраны Раг.

ПАВАЛО'ЖЫЦЬ *зак.* Намазаць тлушчам. *Блін паваложыць, зложыць і так ядуць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАВАРАЖЫ'ЦЬ *зак.* Паваражыць. *Яна ўмея паваражыць.* Гальшаны Ашм.

ПАВАРА'ЧА'ЦЬ, ПАВАРО'ЧАЦЬ *зак.* Паварочаць. *Нада павара́чаць сена.* Лоск Валож. *Наша паварача́ла сена.* Ністанішкі Смарг. *Нада сена паварочаць, а тады ў валкі зграбаць, у копкі.* Кураполле Паст.

ПАВАРА'ЧВАЦЦА *незак. безас.* Мяняцца (пра пагоду). *Паварачваяцца на воду.* Стральцы Гродз.

ПАВАРО'НІЦЬ *зак. экспр.* Паглядзець. *Пойдам гуртам паваронім. Пайду павароню.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАВАРО'Т *м.* 1. Паваротка (дарогі). *Паварот дарогі там управа.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Месца ў канцы загона, дзе араты паварочваецца з плугам. *На павароце заварачаваліся і парэзалі пожню.* Мярэцкія Глыб. 3. Паварот (дзеянне). *Шворань — жалязяка, ператыкаецца, кап паварот быў каню.* Мыто Лід.

ПАВАРО'ТАК *м.* Тое ж, што і п а в а р о́ т 2. *Такі паваротак на полі, з места не здвінеш.* Мішневічы Шум.

ПАВАРО'ЧАЦЬ *гл.* ПАВАРА'ЧА'ЦЬ

ПАВАРСА'ЦЬ I *зак.* Забарсаць (аборы). *Трэба лапці паварсаць. Паварсай лапці.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАВАРСА'ЦЬ II *зак.* Замахнуцца рагамі. *Я табе паварсаю рагамі.* Азяраны Раг.

ПАВАРЭ'ШКА *ж.* Апалонік. *Раньшы звала палоўнік, а ціпер — паварэшка.* Пасіене Лудз. *Паварэшкі папа дзелаў.* Навікі Лудз. *Паварэшка дзеравяная — бальшая лошка для кароў мякіну мяшаць, і налівалі для ската.* Рагулішкі Даўг.

ПАВЕ'Й *м. бат.* Пушыца. *Павей — белянькі пушок на санажаці.* Магуны Паст.

ПАВЕ'ЙКІ *мн.* Вейкі. *Павейкі вялікія.* Крэва Смарг. *Натта на вачах павейкі вялікія.* Гемзы Шальч.

ПАВЕ'ЙНІК *м. бат.* Тое ж, што і п а в е́ й. *Павейнік у балоце расце, як вата вісіць, калісці свенцілі.* Малі Астр.

ПАВЕ'ЛЕНО *дзеепрым. безас.* Дазволена. *Дзікоў не павелено біц(ь).* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. устар. *повеление* 'наказ, указ'.

ПАВЕ'РХУ *прысл.* Зверху. *Папругаю паверху патпяражыся.* Малахоўцы Бар. *Казляк паверху рудзенькі.* Грыкені Вільн. *У жорнах камень паверху круціца.* Швэды Вільн.

ПАВЕ'СІЦЦА *зак.* Навіснуць. *Хмара павесілася, можа быць дошч.* Магуны Паст.

ПАВЕ'СІЦЬ, ПОВЕ'СІЦІ *зак.* 1. Надаць чаму-н. вісячае палажэнне. *На шыю павесе.* Грыкені Вільн. *Повесіла хустку на пэчэ.* Смаляніца Пруж. 2. Пакараць смерцю праз павешанне. *Прывязлі тых паўстанцаў у Вільню — і павесілі.* Малі Астр.

ПАВЕ'СМА, ПАВЕ'СМО, ПАВЕ'СЬМА, ПАВЕ'СЬМО, ПОВІЕ'СМО, ПОВЫ'СМО *н.* Мера ільноваланна. *Чатыры ручайкі — павесма лёну.* Вялікія Баяры Шчуч. *Павесма — жменя лёну.* Мярэцкія Глыб. *Шэсць ручэек — павесма.* Саланое Віл. *Павесма, ілі жменя — адно і тое ж самае.* Мішневічы Шум. *Дзве жмені зложано — павесма.* Лука Нараўк. *Павесма — ці тры ці шэсць ручаяк.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Намяла дзесяць павесм.* Мачаск Бярэз. *Паве́смо — дзве жмені.* Мсцібава Ваўк. *Паве́смо — дзве-тры жменькі.* Крынкі Крын. *Некалькі павесьмаў бяруць і вяжуць. Адно павесьма.* Валынцы В.-Дзв. *Павесьма — шэсць ручэяк.* Вязынка Маладз. *Лён мнуць і скручваюць у павесьма.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чэшуць лён, то лічуць на павесьмы. Павесьма — дваццаць жмень.* Каўняны Гродз. *Павесьмо — шэсь жмень цёртага лёну.* Міратычы Карэл. *Павесьмо — восім тропанак лёну, ці шаснаццаць жмень.* Семежава Кап. *Потрут, потрэпают пучэчок льну — то повіесмо.* Горск Бяроз. *Кілька повіесом льну начэсала.* Курашэва Чыж. *Повысмо льну маю.* Дзмітравічы Кам.

ПАВЕ'СМЕНЁ *н.* Тое ж, што і п а в е́ с м а. *Павесменё — дзве жмені ільнавалакна як абняць рукой.* Старое Сяло Зэльв.

ПАВЕ'СТКА *ж.* 1. Паведамленне. *Павестку прыне́слі.* Мярэцкія Глыб. *Павестка прышла нам.* Салано́е, Рыбчына Віл. 2. Позва (у суд). *Павестка прышла явіцца ў сут.* Лоск Валож. *Павестку палучыў, у міліцыю вызываюць.* Ёдлавічы Брасл. *Павестка прышла явіцца ў воласць на сут.* Гемзы Шальч.

ПАВЕ'СЦІСЯ *зак.* Даць добры прыплод. *Табе павялася*

*карова, рукою пашла.* Альхоўка Навагр. ∇ *Красці няльзя — пчолы не павядуцца.* Груздава Паст.

ПАВЕ'ТКА *ж.* Павець. *Сабакі паўцікалі ў паветку.* Дзесятнікі Валож. *Ля хлева рабілі паветкі — крыша і сцяна была. Паветка магла быць збоку і перат хлевам. Крыша ішла адным тонам на паветку і на хлеў.* Груздава Паст. *Пат паветку ссыпалі мякіну.* Курaполле Паст.

ПАВЕ'ТРА *н.* Паветра. ∇ *А паветра яго ведае, хто ён!* Ухвала Круп.

ПАВЕ'ТРЫЦЬ *зак. безас.* Праветрыць. *Ніхай агуркі паветрыіць трохі, хай дзверы аткрыты будуць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПАВЕ'ТША, ПАВЕ'ТШЭ *н.* Тое ж, што і п а в е́ т р а. *Паветша харошае.* Граўжышкі Ашм. *Паветшэ азыраватэ.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *powietrze* 'тж'.

ПАВЕ'ЧКА *н.* Павека. *Павечкі прыжмураўшы, не падымаецца.* Ёдлавічы Брасл. *Павечка — над вокам расніцы.* Рагулішкі Даўг.

ПАВЕ'ШАНЫ *дзеепрым.* да п а в е́ с і ц ь 1. *Двайнюкі радзіліся — дзве калыскі павешаны.* Ракаўскія Швянч.

ПАВЕ'ШАЦЦА *зак.* Павесіцца. *Яна павешалася, але людзі адратавалі.* Малі Астр. *Павешаўся на дзяшку. Тут два павешаліся.* Ракаўскія Швянч.

ПАВЕ'ШАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а в е́ с і ц ь 2. *Павешайця во на той кручок, што вас калыхала!* Граўжышкі Ашм.

ПАВЕ'ЯЦЬ *зак.* Падзьмуць (пра вецер). *Вецер павеець.* Паляцкішкі Воран.

ПАВЁРТКІ, ПАВЯРТКІ' *прым.* Рухавы. *Мой Юзюк быў павёрткі — туды-сюды, такі нахоччывы.* Мярэцкія Глыб. *Вот ён павёрткі.* Рыбчына Віл. *Ён такі чалавек павярткі.* Саланое Віл.

ПАВІВА'НКА *ж.* Вяроўка, сплеценая ў тры столкі. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАВІ'ВАЧ *м.* Спавівіч. *Павівач — спавіваць дзіця.* Лука Нараўк.

ПАВІ'ДЗІЦЦА *зак.* Пабачыцца. *Хочыць ён павідзіцца, пад восінь прыедзець.* Валынцы В.-Дзв.

ПАВІ'ДЗЯЦЬ *зак.* Пабачыць. *Яна павідзіць свету.* Магуны Паст.

ПАВІ'ДЛІВЫ *прым.* 1. Прагны. *Есь, як ніколі ні бачыў, павідлівы — усё п забраў і з'еў.* Рудня Чэрв. *Павідлівая карова.* Багушэвічы Бярэз. 2. Зайздросны. *Павідліва папова вока.* Рудня Чэрв. *Павідлівы ён чалавек.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* літ. *pavỹdas* 'зайздрасць'.

ПАВІДНУ' *прысл.* Як будзе відно. *Я нават павідну ні ўцягну іголку.* Асавец Віл.

ПАВІ'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і п а в і д л і в ы 2. *Павідная*

*дзіця — абы-што ўгледзела і просіць, хочыць, штоб у яго было.* Пацаўшчына Дзятл. *Павідны, яму шкода, што ў другога відзіць, што ёсць, а ў яго німа.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *pavỹdas* 'зайздрасць'.

ПАВІЛЁНЫ *мн.* Шырма. *Там за павілёнамі стаіць прас.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *pawilon* 'від полага над ложкам'.

ПАВІЛІ'ЦА *ж. бат.* Павітуха (пустазелле). *Павіліца, як бяроска.* Валынцы В.-Дзв., Лоск Валож.

ПАВІЛЯ'ЦЬ *зак.* Прынадзіць. *Ці можна вашага сабачку павіляць? Павіляй сабаку. Павіляць рабёнка цукеркай.* Кураполле Паст. *Карову бульбай, хлебам павіляюць. Ідзі павіляй парасят, кап прышлі ў хлеў; нада хоць трошачку малака ўліць, кап прышлі за табой. Пайду павіляю курыцу.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *vilióti* 'тж'.

ПАВІ'НЕН у знач. *вык.* 1. Быць абавязаным што-н. рабіць, ведаць. *Ён не малы, павінен усё сам знаць.* Кіралі Шчуч. 2. Аб тым, што можа быць. *Павінна пагода быць.* Навасёлкі Свісл.

ПАВІ'РАЧ *м.* Дэталь у кроснах, якой замацоўваюць палатно на навоі. *У кроснах павірач быў.* Беразіно Докш.

ПАВІ'СЕЦЬ *зак.* Павісець. *За шафай павесця, хай павісіць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАВІТА'ЦЦА *зак.* Прывітацца. *Сустрэліся і павіталіся.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *powitać się, przywitać się* 'тж'.

ПАВІТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і павіліца. *Павітуха віецца.* Граўжышкі Ашм. *Павітуха мы завём, расце каля плоту.* Солы Смарг. *Павітуха ў льне расце, сцягуя лён.* Малі Астр. *Павітуха завялася.* Гемзы Шальч.

ПАВІХА' *ж. бат.* Від асакі. *Павіха рэжацца.* Пасека Ст.-Дар.

ПАВІ'ЦЬ *зак.* Звіць (вяроўку). *Верайкі паўе, на калы ў полі павесіць калыску.* Дакудава Лід.

ПАВІЮ'ШКА *ж.* Тое ж, што і павіліца. *Павіюшка расцець ахотне.* Кураполле Паст.

ПАВО'ДАК *м.* Вялікая вада пасля дажджу. *Паводак пасля дажджу.* Беразіно Докш. *Паводак вялікі пасля дажджу.* Саланое Віл.

ПАВО'ДЗЯ, ПАВО'ЦЬ *ж.* Паводка. *Паводзя бывая вясной.* Новікі Гродз. *Павоць бальшая была вясной.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *powódź* 'тж'.

ПАВО'ДКА, ПАВО'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і паво́дзя. *Вада разлілася, павотка бальшая.* Рыбчына Віл. *Бальшая павотка стала.* Жылі Іўеў. *У гэтым гаду велька павотка.* Кіралі Шчуч. *Павотка была гэты гот.* Рудня Астравітая Чэрв. *Снех тае, павоткі пашлі.* Багушэвічы Бярэз. 2. Тое ж, што і паво́дак. *Пасля дажджу павотка была.* Рыбчына Віл.

ПАВО'ЗАЧКА АЛІЯШО'ВА *ж. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Чатыры колцы і ручачка — аліяшова павозачка.* Солы Смарг.

ПАВО'ЗНІК *м.* Той, хто водзіць каня. *Павознік — хто коні вадзіў, як гной вазілі.* Кураполле Паст.

ПАВО'Й *м.* Род. *Яны ўсе благія, іх павой такі.* Малі Астр.

ПАВО'ЙНІК *м.* Тое ж, што і п а в і л і ц а. *Павойнік уецца, беленькія цвяточкі.* Быстрыца Астр.

ПАВО'ЛІ *прысл.* Павольна. *Ідзе яна паволі, памаленьку.* Дзяніскавічы Ганц. *Паволі ўгарваецца на пліце.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *powoli* 'тж'.

ПАВО'ЛЬНЫ *прым.* Марудны. *Другая баба павольная, халатная.* Кураполле Паст. *Павольны ён быў, будзіш стаяць за прылаўкам, покуль сядзіш.* Гемзы Шальч. *Ганульчына карова павольная, жвіру баіцца, колецца ў ногі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАВО'РЫСТЫ *прым.* Нахілены. *Бывае, бура выверне дзераво, але яно вярхом зачэпіцца і так расце; можна на паворыстае дзераво сысці, можна збехчы на дзераво.* Дзяніскавічы Ганц. *Паворыстае дрэва наклон мае.* Тухавічы Лях.; *параўн.* літ. *veȓsti* 'валіць, зваліць, пераварочваць', *veȓstas*||*išverstas* 'звалены, вывернуты'.

ПАВО'ТКА *гл.* ПАВО'ДКА

ПАВО'ЦЬ *гл.* ПАВО'ДЗЯ

ПАВО'Я *ж. бат.* Павой. *Павоя расце кругом плота, як садзяць, яна круціцца.* Вецярэвічы Пух.

ПАВРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Паврадзіла жылкі на руках, апаліла рукў.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *повредить* 'тж'.

ПАВРУ'З *м.*, ПАВРО'ЗЫ *мн.* Матуз. *Завяжы паврозы ў фартуху.* Галубы Маст.; *параўн.* польск. *powróz* 'вяроўка'.

ПАВУ'ЖАНЫ *дзеепрым.* Палуджаны. *Гаршчок павужаны белым.* Саланое Віл.

ПАВУ'ЗІЦЬ *зак.* Зрабіць больш вузкім. *Павужў рукавы.* Ёдлавічы Брасл.

ПАВУ'ЗРАБНЫ *прым.* Зроблены з грубых нітак. *Павузрабная пасцілка.* Мярэцкія Глыб.

ПАВУ'ЗРАБ'Я *н.* Палатно, вытканае з адходаў ільноваλакна. *Павузраб'я танчэй ад зрэб'я.* Мярэцкія Глыб.

ПАВУ'К *м.* 1. Павук. *Тчэць павук павуцінне.* Беразіно Докш. *Павук павуценя ўе.* Кіралі Шчуч. *Павук павуціну тчэ.* Дакудава Лід. 2. *перан.* Злы, дрэнны муж. *Выцягваіць сілы такі павук.* Саланое Віл.

ПАВУСЯКА'ЦЬ *зак.* Павысякаць. *Павусякалі кусты, балота паасушвалі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАВУЦЕ'ННЕ, ПАВУЦЕ'НЬЕ, ПАВУЦЕ'НЯ, ПАВУЦІ'НЁ, ПАВУЧЫ'ННЕ, ПАВУЧЫ'ННЯ, ПАВУЧЫ'НЯ *зб. н.* Па-

вуцінне. *Павуценне, здавалася, лётала.* Пацаўшчына Дзятл. *Павуценья багато.* Дзяніскавічы Ганц. *Павук робіць павуценя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Павук павуцінё ўе.* Альхоўка Навагр. *Павук снуець павучынне.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Павук павучынне круціць.* Мішневічы Шум. *Павук пляце павучынне.* Мачаск Бярэз. *Павучыння не вісела над вачыма ў хаце.* Груздава Паст. *Павучыння трэба зняць. Павучыння павук снуець. Павучыння многа ў хаце.* Мярэцкія Глыб. *Павучыння многа.* Рыбчына Віл. *Муха ўлезя ў павучыння — і ўсё.* Солы Смарг. *Цяпер дарох, як павучыня.* Жодзішкі Смарг.

ПАВУЦІ'НА, ПАВУЧЫ'НА *ж.* Павуціна. *Павуціна па кутках.* Кураполле Паст. *Павук павуціну тчэ.* Дакудава Лід. *Павучына вісіць.* Жодзішкі Смарг.

ПАВУЧКІ' *мн. бат.* Катахі. *Павучкі беленькія на вербі.* Валынцы В.-Дзв.

ПАВУЧЫ'ЦЦА *зак.* Вучыцца некаторы час. *Мачыха не пусціла павучыцца.* Плябанцы Ашм.

ПАВЫБО'ЛЬВАЦЬ *зак.* Выбалець у многіх месцах. *Нага ямамі павыбольвала.* Малі Астр.

ПАВЫ'БРАЦЬ *зак.* Выбраць (усё, многае). *Павыбралі ўсю гару, жвір бяруць.* Дзераўное Стаўб.

ПАВЫВА'ЛЬВАЦЬ *зак.* Павысякаць. *Лясы павывальвалі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАВЫВАРО'ЧВАЦЬ *зак.* Вывернуць (усё, многае). *Шулы жалезныя павыварочвоў.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАВЫ'ВУЧЫЦЦА *зак.* Павывучвацца. *Тожа другі павывучыўся.* Гальшаны Ашм.

ПАВЫВЯ'ЗЫВАЦЬ *зак.* Адпаведна існаваўшаму павер'ю, вылечыць шляхам перавязвання ніткамі. *Мама ґрыжу павывязывала.* Гемзы Шальч.

ПАВЫГРАЗА'ЦЬ *зак.* Выскубці. *Усё павыгразала цялушка за канавай.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАВЫ'ДЗЕРЦІ *зак.* Выдзерці. *Павыдзерлі ячмень куры.* Парэчча Гродз.

ПАВЫДЗІРА'ЦЦА *зак.* Насварыцца. *Павыдзіралася на Анюту.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАВЫДУ'МАВАЦЬ *зак.* Навыдумляць. *Павыдумаваў усякае.* Рыбчына Віл.

ПАВЫ'ДЫМЛЕНЫ *прым.* Непрыгодны для пасеву. *Павыдымлена цыбуля, у стрэлкі пашла.* Альхоўка Навагр.

ПАВЫ'ІХАЦЬ *зак.* Выехаць (пра ўсіх, многіх). *Мы павыіхалі абратна.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПАВЫ'КАЧАЦЬ *зак.* Разгладзіць качаннем (усё, многае). *Павымыла ўсё, павыкачала.* Быстрыца Астр.

ПАВЫ'КІДАЦЬ *зак. безас.* Павысыпаць. *Скуламі павыкідала.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАВЫКО'ЛАВАЦЬ *зак.* Павыколваць. *Павыколаваюць людзі вочы.* Лоск Валож.

ПАВЫКО'ПАВАЦЬ, ПАВЫКО'ПАЦЬ, ПАВЫКО'ПЛЮВАЦЬ *зак.* Павыкопваць. *Павыкопавалі ўсё камення.* Груздава Паст. *Павыкопаваць трэба кусты.* Рыбчына Віл. *Нада бульбу павыкопаць.* Кураполле Паст. *Бульбу трэба павыкоплюваць.* Паляцкішкі Воран.

ПАВЫКРУ'ЧЫВАЦЬ *зак.* Павыкручваць. *Думала, што рукі яму павыкручываюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАВЫКУ'ПАВАЦЬ *зак.* Выкупаць (усіх, многіх). *Павыкупавала дзяцей.* Лоск Валож.

ПАВЫЛЕГА'ЦЬ *зак.* Качаючыся памяць што-н. *Гнёздамі павылегалі коні жыто.* Мсцібава Ваўк.

ПАВЫЛІ'НАВАЦЬ *зак.* Памяняць пер'е. *Павылінавалі куры, як драчэ.* Бакшты Іўеў.

ПАВЫЛЯ'ТАЦЬ *зак.* Павыпадаць (пра валасы). *Валасы павылятаюць.* Альхоўцы Лях.

ПАВЫМАКА'ЦЬ *зак.* Прапасці ад празмернай вільгаці. *Як такое лето будзе, то ўсе павымакая.* Мсцібава Ваўк.

ПАВЫМЕ'ТАЦЬ *зак.* Павымятаць. *Мяцеліца ўсхадзілася, павыметала паля, кучамі снех ляжаў.* Бакшты Іўеў.

ПАВЫ'МУЧЫЦЦА *зак.* Доўга памучыцца. *Я павымучылася — ад маленства ногі пакалечыўшы.* Малі Астр.

ПАВЫ'МЫЦЬ *зак.* Павымываць. *Павымыла ўсё, павыкачала.* Быстрыца Астр.

ПАВЫНАСІ'ЦЬ *зак.* Павыносіць. *Я павынасіла вядры.* Старыя Смільгіні Воран. *Нада столькі травы павынасіць з гарода.* Рагулішкі Даўг.

ПАВЫ'НЬКА *м. памянш.-ласк.* да п а в у́ к 1. *Павынька ў павучыні.* Якубова Рас.

ПАВЫ'НЯЦЬ *зак.* Павымаць. *Павыняю бляхі з печы.* Асавец Віл.

ПАВЫ'ПАКЛАДАНЫ *дзеепрым.* Спакладаны. *Жарабец павыпакладаны.* Альхоўка Навагр.

ПАВЫПА'ЛАВАЦЬ, ПОВЫПО'ЛВАЦІ *зак.* Павыполваць. *Ей некалі, яна сваё не павыпалаваіць.* Валынцы В.-Дзв. *Чэсноку было много, але повыполвала.* Ялова Пруж.

ПАВЫПА'ЛЬВАЦЬ *зак.* Спаліць (усё, многае). *Дзярэўні каля лесу немцы павыпальвалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАВЫПО'РВАЦЬ *зак. перан.* Пазнаходзіць. *Павыпорвалі ўсё на свеце яе дзеці, як папрыяжджалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Павыпорвалі яблыкі і паелі.* Галубы Маст.

ПАВЫРО'СТАЦЬ *зак.* Павырастаць. *Дзеці павыросталі.* Альхоўка Навагр.

ПАВЫ'РЫСАВАЦЬ *зак.* Панарысоўваць. *Так добра павырысавай.* Гальшаны Ашм.

ПАВЫ'СТРАЛЯЦЬ *зак.* Пастраляць (усіх, многіх). *Валкоў павыстралялі.* Чычалі Швянч.

ПАВЫСЫЛА'НЫ *дзеепрым.* Сасланы (пра ўсіх, многіх). *Хто ведая, хто жыў! Мо павысыланыя людзі.* Стральцы Гродз.

ПАВЫХО'ДЗІЦЬ *зак.* Выйсці замуж (пра ўсіх, многіх). *Усе павыходзілі, а яна засталася.* Ністанішкі Смарг.

ПАВЫЦІРА'ЦЬ *зак.* Сцерці (пра лён). *З восені павыціраюць лён.* Кудзялянцы Шальч.

ПАВЫЦЯ'ГАЦЦА *зак. груб.* Падохнуць (пра ўсіх, многіх). ∇ *Каб вы гібелі, павыцягаліся* [на мух]. Ухвала Круп.

ПАВЫЧЫ'ШЧАВАЦЬ *зак.* Павычышчаць. *Павычышчавала ўсе куткі.* Лоск Валож. *Павычышчуя ўсе.* Рыбчына Віл.

ПАВЫШТЫ'РХАВАЦЬ *зак.* 1. Павыганяць, павыпіхаць. *Павыштырхавала дзяцей с хаты.* Міратычы Карэл. 2. Павылазіць (пра парасткі). *Шмат павыштырхавала з галовак і цвіце.* Міратычы Карэл.

ПАВЫ'ШЧУЛУҐАЦЦА *зак.* Павылузгвацца. *Боп павышчулуґаўся.* Саланое Віл.

ПАВЫЯЗДЖА'ЦЬ *зак.* Выехаць (пра ўсіх, многіх). *Сыны павыязджалі, а дочкі павыхадзілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАВЭ'ДЛУҐ, ПАВЭ'ДЛУХ *прыназ.* з *род.* 1. Для. *Вадаём павэдлух пажару капаны.* Старыя Смільгіні Воран. 2. У параўнанні з кім.-н., чым.-н. *Павэдлух нас там добра людзі жывуць.* Кіралі Шчуч. *Павэдлух нас не зайсці ў хату.* Міратычы Карэл. *Павэдлуґ суседаў не гонар.* Гемзы Шальч. 3. Паводле. *Павэдлух яго слоў, яны самі будуць касіць.* Міратычы Карэл.; *парайн.* польск. *według* 'адпаведна, у адпаведнасці'.

ПАВЭ'НДЖАНЫ *дзеепрым.* Павэнджаны. *Павэнджана сланіна ня псўяцца.* Ракаўскія Швянч.; гл. в э́ н д ж а н ы.

ПАВЭ'НДЗІЦЬ *зак.* Павэндзіць. *Кумпяк павэндзіў.* Пацаўшчына Дзятл. *Павэндзіла каўбасы.* Вострава Маст. *Давай павэндзім два кумпякі і сала.* Кіралі Шчуч.; *гл.* в э́ н д з і ц ь.

ПАВЯВА'ЦЬ *незак.* Падзімаць. *Вецер веіць і павяваіць.* Ністанішкі Смарг. *Ветрык павевае.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАВЯ'ЗАВАЛЬНІК *м. ткац.* Кавалак палатна з канцамі нітак, да якога прывязваецца аснова. *Быў павязавальнік да красён; як зачыналі ткаць палатно, рабілі так: атразаюць кусок палатна іс канцамі нітак, плёткі з гэтых нітак паплятуць, робяць петлі і тады затыкаяць з гэтым і канчаюць з гэтым.* Груздава Паст.

ПАВЯЗЦІ', ПАВЯСЦІ' *зак. безас.* Пашанцаваць. *Яга Вольцы не павязло, казалі, што памярла.* Груздава Паст. *Кардзючыхі ні павязло. Ні павізець з ягонай рукі, ні расцець парасёнак, як кажан, сыць ні бірэць, а другі як на дражджах ідзець.* Лісна В.-Дзв. *Вышла замуш і не павязло.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* руск. *повезти* 'тж'.

ПАВЯЗЦІ'СЯ *зак.* Павезці. *Мы да мамы павязліся. Узяла мальчыка ў возік і павязлася.* Ракаўскія Швянч.

ПАВЯЛЁН *м.* Млён. *Павялён — палка ад жарон.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАВЯНДЛІ'ЦЫ *мн.* Паляндвіца. *На поўсхрыбетніку мяса,— казалі павяндліцы. Павяндліцы вешаюць.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *polędwica* 'тж'.

ПАВЯ'НУЦЬ *зак.* Звяць. *Расты папушчала і павяла бульба.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАВЯРА'ЦЬ *незак.* Верыць. *Нам ня будуць павярацъ, што людзей кідалі ў печ.* Рыбчына Віл.

ПАВЯРНУ'ЦЦА I *зак.* 1. Змяніць напрамак. *Павярнуўся вецяр з цёплага боку.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Зрабіць нейкую работу. *Дзе мужчына паверніцца, там і пазнаць.* Кураполле Паст.

ПАВЯРНУ'ЦЦА II *зак.* Ператварыцца ў што-н. *Мяса трушой павярнулась.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАВЯРНУ'ЦЬ I *зак.* 1. Перавярнуць на другі бок. *Павярні бліна.* Альхоўка Навагр. ∇ *Як пайкалупіць ціхая свіня, так і сэрца павярнець.* Саланое Віл. 2. Паварушыць. *Нада ісці сена павярнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сено павернуць і грабуць падвечар.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Цяшка языка павярнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Перавесці. *Чатыры-пяць злотых павярнуць на хлеб — гэта чатыры-пяць пуда.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАВЯРНУ'ЦЬ II *зак.* Вярнуць назад. *Паверніць сабака карой.* Рагулішкі Даўг.

ПАВЯРТКІ' *гл.* ПАВЕРТКІ

ПАВЯРХО'ЎНЯ *прысл.* Тое ж, што і п а в е́ р х у. *Сталі нейкія колькі па жываце, павярхоўня.* Малі Астр.

ПАВЯРХУ' *прысл.* Тое ж, што і п а в е́ р х у. *Павярху пасыпана пяском.* Асавец Віл.

ПАВЯРШЫ'ЦЬ *зак.* Перамагчы каго-н. *Я стараюся яго павяршыць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *viršyti* 'тж'.

ПАВЯСЦІ' *гл.* ПАВЯЗЦІ'

ПАВЯСЦІ'СЯ *зак.* Павесці каго-н. *Павядуся с каровай на ўколы.* Рагулішкі Даўг.

ПАВЯЧЭ'РЫЦЬ *зак.* З'есці вячэру. *Павячэрыла і спаць лягла.* Саланое Віл.

ПАГАБЛЁВАНЫ *дзеепрым.* Пагабляваны. *У шчыкету досачкі парэзаны, пагаблёваны.* Малахоўцы Бар.

ПАГАБЛЯВА'ЦЬ *зак.* Габлюючы зрабіць гладкім. *Дваццаць пяць дасок пагаблявалі.* Малі Астр.

ПАГАВО'РКА *ж.* Звычка гаварыць. *Як хто мае пагаворку: хто — дзісяй, а хто — дзісяка.* Крынкі Крын.

ПАҐАВЭ'НДАЦЬ, ПАҐАВЭ'НДЗІЦЬ *зак.* Пагутарыць. *Паґавэндала трохі.* Пацаўшчына Дзятл. *Вы там паґавэндзіце.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *pogawędzić* 'тж'.

ПАГА'ДАВАЦЬ *незак.* Спагадаць. *Ціпер маладыі не пагадаваюць старым.* Валынцы В.-Дзв. *Ён пага́даіць другому.* Лоск Валож.

ПАГАДАВА'ЦЬ *зак.* Пазабаўляць, папільнаваць. *Пагадуй маё дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАГАДА'НКА *ж.* Байка. *Такая пагаданка была: дзеці асталіся ў хаця, выходзя баранчык с патпечы і гуляя з дзецьмі...* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *pogadanka* 'гутарка'.

ПАГАДА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а г а́ д а в а ц ь. *Ён пагадаіць другому.* Лоск Валож. ∇ *Сыты галоннаму ні пагадаіць.* Асавец Віл.

ПАГА'ДЗІЦЦА *зак.* Зрабіцца брудным. *Карман пагадзіўся. Каб мост не пагадзіўся, дык салому падсцілалі.* Азяраны Раг.

ПАГАДЗІ'ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Пагадзі, я не такая паседа, пабягу. Пагадзі, я ўкладу табе салянкі.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. разм. *погоди* 'тж'.

ПАГАЙДАВА'ЦЬ *зак.* Пагайдаць. *На, пагайдуй калубель.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАГА'ЛІЦЦА *зак.* Паквапіцца. *На багаства пагаліўся.* Лоск Валож.

ПАГАЛО'САК *м.* Рэха. *Пагалосак адгукаецца па лесу.* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *pogłoska* 'чутка'.

ПАГАЛО'СКА *ж.* Чутка. *Ідуць пагалоскі, што яна замуш пойдзіць за яго.* Мярэцкія Глыб. *Пагалоскі ідуць па сяле, што ты жэнішся.* Ухвала Круп. *Пагалоскі пусцілі.* Багушэвічы Бярэз. *Ну, цяпер пашла пагалоска па ўсей вёскі, што ён хадзіў вешацца.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *pogłoska* 'тж'.

ПАГАЛО'ЎШЧЫНА *ж.* Свежына, якою частавалі суседзяў. *З якой стаці я буду яму пагалоўшчыну даваць? Як кабана заколюць і прынясе мне сусед сала, мяса — на гэта ў нас кажуць пагалоўшчына.* Беразіно Докш. *На пагалоўшчыну прыхоць.* Магуны Паст.

ПАГАЛЯ'ШКА *ж.* Палка. *Палучыш ты пагаляшкай.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *pagalŷs* 'тж'.

ПАГАЛЯ'ШЧЫНА *ж.* Тое ж, што і п а г а л я́ ш к а. *Яна пагаляшчынай выганя мяне.* Малі Астр.

ПАГАЛЯ'ШЫНА *ж.* Тое ж, што і п а г а л я́ ш к а. *Пагаляшыну возьмя і будзя паганяць і налупя.* Малі Астр.

ПАГАМАНІ'ЦЬ *зак.* Пагутарыць. *Сабраліся, пагаманілі троха.* Магуны Паст.

ПАГА'НЕЦ *м. перан. экспр.* Балаўнік. *Паганец ты!* Граўжышкі Ашм.

ПАГА'НІН *м.* Нехрысціянін. *Хто не хрышчоны — паганін даўней называлі.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *poganin* 'тж'.

ПА'ГАНІНА *ж.* Мярцвячына. *Паганіны накідаюць.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* польск. *poganin* 'язычнік'.

ПАГА'НІЦЬ *незак.* Ганіць. *Ніхто ні паганіць ягá.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніхто свайго не паганіць.* Вецярэвічы Пух. ◊ *Свет паганіць* — прычыняць людзям няшчасце. *Трэ́бо яго ў яму піхануць, ніхай света ні паганіць.* Номікі Бабіц.

ПАГАНІ'ЦЬ *зак.* 1. Пагнаць. *Паганілі кароў.* Старое Сяло Зэльв. *Ізноў паганіў стадо.* Масілавічы Сл. 2. Абагнаць (плугам). *Картоплю трэ паганіць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАГА'НКА *ж. неадабр.* Непаслухмянае дзіця. *Ой, паганкі, капаюцца абы ў чым.* Мішневічы Шум.

ПАГА'НО *прысл.* Дрэнна. *Здаецца до́бро гаворыш — усеадно пагано. Яґраст пагано абіраць.* Кузьмічы Люб.

ПАГА'НЫ *прым.* 1. Дрэнны, злы. *Харошы быў чалавек, а яна паганая. Баба была пагана.* Кіралі Шчуч. *Яна і паганая баба.* Ёдлавічы Брасл. *Такая дачка паганая.* Лоск Валож. *Ён сільна паганы — ваюя і ваюя.* Малі Астр. 2. Неахайны. *Ён такі паганы чалавек, неакуратны, сапляке цякуць.* Парэчча Гродз. *Паганы чалавек, неўдалы.* Кузьмічы Люб. 3. Непагодны (пра надвор'е). *Пагана пагода, не можна іці.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Неядомы (грыб). *Паганаі грыбы, не бе́рым іх.* Пасіене Лудз. *Паганыі грыбы.* Янова Рас.

ПАГАНЬБАВА'ЦЬ *зак.* Пагрэбаваць (кім-н.). *Ніколі не паганьбуіць мяне.* Саланое Віл.

ПАГАНЯ'ЦЬ І *незак.* Прымушаць ісці панукаючы. *Валоў паганялі.* Грыкені Вільн.

ПАГАНЯ'ЦЬ ІІ *незак.* Веславаць. *Вёсламі паганяюць раку, горня вяслом, значыць, паганяя вяслом, човянь паганяя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАГАНЯ'ЦЬ ІІІ *зак.* Зрабіць баразну на засеяным полі. *Трэба жыта паганяць, каб вада сцякала.* Саламір'е Віл. *Трэба паганяць барозны, каб вада сцякала.* Івашкаўцы Смарг. *Паганяць барозны на жыці.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАГАРА'ЦЬ *зак.* Паараць. *Пагараць трэба.* Солы Смарг. *Тры разы пагарай — будзяш мець тры мяшкі жыта, а два разы — два мяшкі.* Жылі Іўеў. *Пагараць картошку трэба.* Старыя Трокі Трак.

ПАГАРНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а в я р н у́ ц ь І, 2. *Пагарнуў сена, хай сохня.* Дакудава Лід.

ПАГА'РЫСКА *н.* Пажарышча. *На пагарыску толькі асмалкі.* Кіралі Шчуч.

ПАГАРЭ'ЛІШЧА *н.* Тое ж, што і п а г а́ р ы с к а. *Пагарэлішча — дзе пажар быў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАГА'СНУЦЬ *зак.* Патухнуць. *Адвярнуўся — свечкі пагаслі.* Плябанцы Ашм. *Агонь на камінку гарыць, бывала, а не падложаць дрэвак — можа пагаснуць.* Вецярэвічы Пух.

ПАГАСТРЫ'ЦЬ *зак.* Павастрыць. *Дзе сякера ці малаток, я сякач пагастру.* Малі Астр.

ПАГАСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Пачаставаць. *Чым жа вас пагасціць?*

Кураполле Паст. 2. Пабыць у гасцях нейкі час. *Выпілі, пагасцілі.* Плябанцы Ашм.

ПАГАТАВА'ЦЬ *зак.* Пакіпяціць. *Люблю белае, яго пагатавай, памый — яно і белае, не паблекне.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *gotować* 'варыць, кіпяціць'.

ПАГАЧКАВА'ЦЬ *зак.* Акапаць матыкай. *Зразу пагачкаваць, як маленька травічка.* Крэва Смарг.

ПАГЕ'РЗАЦЬ *зак.* 1. Зрыць. *Свіня паґерзалі бульбу.* Бакшты Іўеў. *Паґерзалі ячмень дзікі.* Кіралі Шчуч. 2. *экспр.* Зрабіць неахайна. *Паґерзала збольшага, пакінула каласы. Паґерзая абы-як.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *iškeverzóti* 'крыва зрабіць (узараць)'.

ПАГІ'БА'НЫ, ПАГБА'НЫ *прым.* Пагнуты. *Пагібáна пасуда.* Мсцібава Ваўк. *Пагібáная вядро.* Тухавічы Лях., Дакудава Лід. *Пагбаная пасуда.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гэта банка пагібана.* Кіралі Шчуч.

ПАГІБА'ЦЦА *зак.* Пагнуцца. *Пагляджу, ці дзюп пагібайся.* Пацаўшчына Дзятл. *Пагібалася вядро.* Дакудава Лід. *Пагібалася банка, што малако зліваю.* Кіралі Шчуч.

ПАГІБА'ЦЬ *незак.* 1. Гінуць. *Пагібаць ішоў.* Асавец Віл. 2. Выміраць. *Пагібаюць пшчолы.* Швэды Вільн.

ПАГІ'БЛЯНЫ *дзеепрым.* Пагнуты. *Зусім пагібляно вядро.* Стральцы Гродз.

ПАГІ'БНУЦЬ, ПАГІ'БЦІ *зак.* Загінуць. *Адзін сын пагіп на вайне.* Міратычы Карэл. *Сын пагіп у войну.* Новыя Мацалі Варэн. *Муш пагіп на вайне.* Груздава Паст. *Нада было пагібці.* Рыбчына Віл.

ПАГІЛЯВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 1. *Пагілявалі каровы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *gyliúoti* 'гізаваць'.

ПАГІ'НУЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і п а г і́ б н у ц ь. *Пагінулі хлопцы ў войну.* Пасека Ст.-Дар. *Як гналі назат, многа французаў пагінула.* Саланое Віл. *Пагінаў на вайне.* Рыбчына Віл. 2. Звяць. *У жару такую пагіне ўсё.* Альхоўка Навагр. *Мае гуркі пагінулі, вушы папускалі.* Вецярэвічы Пух. 3. Прапасці. *У мяне пагінулі і сарочкі, і спадніцы, і хусткі.* Вецярэвічы Пух.

ПАГЛА'ДЗІЦЬ *зак. перан.* Пашкадаваць. *Яна паб'ець і после пагладзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАГЛО'СКІ *мн.* Тое ж, што і п а г а л о́ с а к. *Адбіваюцца паглоскі, а я не знаю, у якім баку ты есь. Паглоскі, а па-польску эха.* Магуны Паст.

ПАГЛУ'БАЦЬ *зак.* Пахадзіць. *На ржэўніку паґлубалі каровы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАГЛЯ'Д *м.* Выгляд. ∇ *Зялёненькі вінаград, удайся ты на пагляд.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАГЛЯ'ДА'ЦЬ *незак.* Паглядваць. *Стаіць і паглядая на*

*дзяцей.* Міратычы Карэл. *Я ўсё паглядáла на іх, куды яны паедуць.* Малі Астр.

ПАГЛЯДЗЕ'ЦЦА *зак.* Паглядзець на сябе. *У люстэрка не магу паглядзецца.* Солы Смарг.

ПАГЛЯДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Зірнуць на каго-н. *Яна на міне паглядзела.* Малі Астр. 2. Панаглядаць за кім-н. *Станім і паглядзём, хто там ідзе. Пайду паглядзець маладога. Сходзім на васэля: паглядзім на ўборы, на людзі, на сватоў.* Малі Астр. 3. Агледзець, выслухаць. *У шпіталю два дне паглядзелі* [дактары], *і не памагая.* Сакаляны Сакол.

ПАГНА'ЦЦА *зак.* Пагнаць. *Я пагнаўся с канём.* Ёдлавічы Брасл.

ПАГНА'ЦЬ I *зак.* Тое ж, што і п а г а н і ц ь 1. *Пагналі ўжо каровы.* Кіралі Шчуч. *На ўвесь дзень пажануць кароў.* Малахоўцы Бар. *Я не паганю — сама гані.* Малі Астр. *Пагнаў каровы.* Альхоўка Навагр. *Паганю каройку папасу.* Дзераўное Стаўб. *Пажане каравэ, з Мікодаю пажануць.* Старое Сяло Зэльв. *Ён у поле даўна пагнаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Разам пажанем пасвіць.* Новікі Гродз. *Пажэнуць пасвіць.* Азяраны Раг. *Пожэнуць коровы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пагноў каровы.* Вецярэвічы Пух.

ПАГНА'ЦЬ II *зак. безас. мед.* 1. Выклікаць расстройства страўніка. *Не давай лебяды, бо пагоніць тваіх парасят; гэта трава вельма жырная.* Мсцібава Ваўк. *Як грыбоў паелі, усіх пагнала на жывот.* Кураполле Паст. 2. Прымусіць выдзяляцца. *Лякарства мачу пагнала.* Малі Астр.

ПАГНЁНЫ *прым.* Пагнуты. *Пагнёная вядро.* Жодзішкі Смарг., Магуны Паст., Рыбчына Віл.

ПАГНО'ЙНІКІ, ПАГНО'ЙКІ *мн. бат.* Шампіньёны. *Пагнойнікі растуць.* Кіралі Шчуч., Галоўні Воран. *Пагнойнікі па выганах растуць.* Дакудава Лід. *Пагнойнікі на кучах растуць.* Малі Астр. *Пагнойнікі і за хлявамі могуць расці.* Галубы Маст. *Белыя грыбы пагнойнікі, па полю растуць.* Старыя Трокі Трак. *Пагнойкі растуць на палях.* Гемзы Шальч.

ПАГНО'ЙНЫ *прым.* Угноены. *Пагнойна поля.* Дакудава Лід. *Пагнойная зямля.* Бакшты Іўеў. *Пагнойная зямля, гной клалі.* Лука Нараўк.

ПАГНЮ'СІЦЬ *зак.* Дрэнна апрацаваць. *Пагнюсіў поля.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАГО'ДА, ПОГО'ДА *ж.* 1. Пагода. *Былі людзі практыкі, зналі па пагодзе, калі сеяць грачыху.* Гемзы Шальч. *Пагода бывае размаіта.* Грыкені Вільн. *Тапер сухая пагода.* Істра Лудз. 2. Добрае, цёплае надвор'е, без дажджу. *Вот і касі, калі пагоды нет.* Валынцы В.-Дзв. *Зямля пяскавая: як пагода — высмаліць, выпаліць.* Ракаўскія Швянч. *Раніцай час дош ідзе, увесь дзень пагода.* Латыгаль Віл. *Будзя вецер і пагода, мароз.* Гемзы Шальч. *Бох пагоды не дае.* Жылі Іўеў. *Пагода*

*была.* Рудня Астравітая Чэрв. *Можэ, будэ і погода.* Смаляніца Пруж. ∇ *Бусел-калода, што заўтра будзе: ці дошч ці пагода?* Кнышэвічы Бабіц.

ПАГО'ДЛІВЫ, ПОГО'ДЛІВЫ *прым.* Пагодны. *Дзень натта пагодлівы — кудэ хочаш, тудэ ідзі.* Кіралі Шчуч. *Пагодлівы дзень.* Рыбчына Віл., Тухавічы Лях., Ёдлавічы Брасл., Рудня Астравітая Чэрв. *Погодлівы дзень.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАГО'ДНІ *прым.* Кучавы (пра воблакі). *Пагоднія хмары.* Новікі Гродз.

ПАГО'ДНІКІ *мн.* Равеснікі. *Пагоднікі яе ўжо ў школу ходзюць.* Лоск Валож.

ПАГО'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і п а г о́ д л і в ы. *Пагодны дзень.* Номікі Бабіц.

ПАГО'ЙДАЦЬ *зак.* Пагушкаць. *Пагойдай дзіця, бачыш, як просіць.* Стральцы Гродз.

ПАГО'ЙКАЦЬ *зак.* Пагукаць. *Пагойкай у лесі, кап не заблудзілась.* Валынцы В.-Дзв.

ПАГО'Н I *м.* Статак. *Пагон кароў пагналі на пасвіско.* Лука Нараўк.

ПАГО'Н II *м.* Дарога, па якой ганяюць жывёлу. *Каровы пашлі пагонам.* Масілавічы Сл.

ПАГО'НІСТЫ *прым.* Гонкі. *А ў цяні пагоністыя дзеравы растуць.* Кузьмічы Люб.

ПАГО'РАК *м.* Узгорак. *Сядзелі на пагорку.* Ёдлавічы Брасл.

ПАГО'СЦІЦЬ *зак.* Пагасціць. *Хаця пагосціць там.* Альхоўцы Лях.

ПАГРАБА'ШКА *ж.* Палка, якой выграбаюць што-н. з агню. *Як пякуць картоплі на полі, то паграбашкай выграбаюць.* Кузьмічы Люб.

ПАГРАБЕ'НАСЦЬ *ж.* Пахаванне. *Хадзілі на паграбенасць.* Міратычы Карэл.

ПАГРАБЕ'НЁ *н.* Тое ж, што і п а г р а б е́ н а с ц ь. *За паграбенё заплаціла людзям.* Альхоўка Навагр.

ПАГРАБІ'НЫ толькі *мн.* Тое ж, што і п а г р а б е́ н а с ц ь. *Я быў на паграбінах.* Старое Сяло Зэльв.

ПАГРАБЫ' *мн.* Ямы ў рэчцы, возеры. *Паграбы ў возіры, дзе мель, былі на адзін мэтр.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАҐРАБЯ'ЗДАВАЦЬ *незак.* Лаціць. *Паґрабяздаваць здавалі дах.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* ґ р а б я с т а в а́ ц ь.

ПАГРАНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б а р а з н і́ ц ь. *Паграняў жыта.* Магуны Паст.

ПАГРАСА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а г а ч к а в а́ ц ь. *Паґрасаць гарод.* Вострава Маст.

ПАГРО'Б, ПАГРО'П *м. бат.* Грузд. *Пагроп белы. Пагробы растуць, дзе ліпняк.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАГРЫ'ЗЦІ *зак.* Патачыць. *Чарвяк пагрыз дзёраво ў дым.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАГРЭ'БІНЫ толькі *мн.* Рэшткі згрэбенага сена. *Пагрэбіны, як падгрэбаюць стога, воза.* Альхоўка Навагр.

ПАГРЭ'БКІ, ПАГРЭ'ПКІ толькі *мн.* Тое ж, што і п а г р э́ б і н ы. *Пагрэпкі — сена дзе падграбаюць.* Граўжышкі Ашм. *Звезлі рамашку, асталіся пагрэпкі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАГРЭ'БЦІ, ПАГРЭ'БСЦІ *зак.* Згрэбці. *Сена пагрэбла, каб не згніло лежачы.* Альхоўка Навагр. *Зара дошч будзя, трэба пагрэпсці сена.* Бакшты Іўеў. *Паграбу граблямі.* Навасёлкі Свісл.

ПАГРЭ'ДЗІНЬ *м.* Месца на печы каля сцяны, дзе сушаць дровы. *На печке пагрэдзінь.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *pagrėdinỹs* 'тж'.

ПАҐРЭ'ЙЗАЦЬ *зак.* Зрабіць неахайна. *Паґрэйзала падлогу, паґрэйзала — і пайшла.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *gráistėti* 'тж'.

ПАГУБІ'ЦЬ *зак.* 1. Знішчыць, спаліць. *Многа пагубілі хатаў вайной.* Ракаўскія Швянч. 2. Разладзіць. *Ты сям'ю пагубіў.* Малі Астр.

ПА-ҐУДА'СКІ *прысл.* Па-беларуску. *Па-ґудаскі пуга, а па-літоўску бізун. Па-ґудаскі гаворыць.* Малькуны Ігн.; *гл.* ґ у д.

ПАГУ'ДЗІЦЬ, ПАГУ'ДЗІЦІ, ПОГУ'ДЗІЦІ *зак.* Абсмяяць. *Нізашто пагудзілі дзеўку.* Ухвала Круп. *Пагудзіці каго — недобро судзіт, обсмеяці.* Ялова Пруж. *Людэй погудзіці. На уліцу вышоўшы, нэ погудзіш вас.* Смаляніца Пруж.

ПАГУЖА'ВІЦЬ *зак.* Зрабіцца мяккім, вялым. *Чаму ты картошку не забрала? Яна пагужавяла, зрабілася, як ануча.* Вецярэвічы Пух.

ПАГУ'КАЦЬ *зак.* Стаць пароснай. *Наша свіня пагукала.* Альхоўка Навагр. *Пагукала свіня.* Лука Нараўк., Воўкуш Ліпск., Крынкі Крын.

ПАГУКА'ЦЬ *зак.* 1. Паклікаць. *Пагукай Ліду.* Мішневічы Шум. *Сяменіху пагукала.* Вецярэвічы Пух. 2. Пагукаць. *Пагукэй — по лесу голас ідзе.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАГУЛЯ'НЕ *н.* Гулянка. *Панясём паўлітра, будзе пагуляне.* Беняконі Воран.

ПАГУЛЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і п а г у л я́ н е. *Хадзілі на пагулянку.* Парэчча Гродз.

ПАГУЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Не працаваць нейкі час. *Задумаў пагуляць, не робіць.* Гальшаны Ашм. 2. Прагуляцца. *Аспадыня пусціць пагуляць.* Гальшаны Ашм.

ПАГУ'Р *м.* Сенажаць на ўзвышаным месцы. *Паґур — сухая санажаць.* Рыбчына Віл.

ПАГУ'РАК, ПАГУ'РАК, ПУГУ'РАК *м.* Тое ж, што і п а-

г о́ р а к. *Пагурак невялікі.* Мярэцкія Глыб. *Пагурак — невысокая горка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гумно стаіць на пагурку.* Магуны Паст. *Пагуркі ў лесі ёсь.* Валынцы В.-Дзв. *Паґурак — дзе выжэй. Даліна, а тут паґурак.* Солы Смарг. *Нада сена з лахчыны вынясці на паґурак.* Рыбчына Віл. *Паґурак, а тады дол, даліна.* Чычалі Швянч. *Пуґурак там, у лесе.* Пасіёне Лудз.; *парайн.* польск. *pagórek* 'тж'.

ПАГУ'РАЧАК, ПУГУ'РАЧАК *м. памянш.* да п а г у́ р а к. *Пагу́рачак, а кругом балота.* Мярэцкія Глыб. *Пагурачак быў, мы сядзелі і гаварылі.* Саланое Віл. *Пуґурачак непаханы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАГУ'РЗАНЫ *прым.* Стаптаны, змешаны з граззю. *Купа венкшая, а купіна невялікая, але тут усё паґурзана.* Саланое Віл.

ПАГУРЫ'НАЧАК *м. памянш.* да п а г у́ р а к. *Дзе пагурыначак, я там і пасеіў, а ён усё падрат — дзе лох і ніс.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАГЭ'МТАЦЬ *зак.* Пакамячыць. *Бумагу пагэмтала.* Вецярэвічы Пух.

ПАГЭ'ТУЛЬ *прысл.* Да гэтага месца. *Пагэтуль во ўлезла ў балото.* Малахоўцы Бар. *Ей рукі памарозіла пагэтуль.* Пацаўшчына Дзятл.

ПА'ГЯЛБА *ж.* Хуткая дапамога. *Паґялба прыехала — і зашчыкі, і туды, і сюды — і памерла.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. дыял. *pāgelba* 'тж'.

ПАД *прыназ.* I. з *род.* Пры выражэнні прыблізнага часу. *Васэля будзя недзя пад мая.* Магуны Паст. II. з *він.* 1. Пры абазначэнні месца, прасторы, да якіх накіроўваецца хто-н., што-н. *У гэты бок, пад Ліду ішлі.* Альхоўка Навагр. *Мы пад лес пагонім.* Стральцы Гродз. *Учора хадзілі пад Ніну.* Нізок Уздз. ∇ *Вялік, аш пад неба, а дурны, як ні трэба.* Малі Астр. 2. Пры абазначэнні часу, перад якім адбудзецца дзеянне, праявіцца стан. *Пад вечар мяне аспадыня пусціць пагуляць.* Гальшаны Ашм. *Пад весну захварэла.* Альхоўка Навагр. *Патом пад вечар гудзіць германскі самалёт.* Швэды Вільн. 3. Пры ўказанні на прыбліжэнне да пэўнай колькаснай мяжы. *Гадоў пад підзісят.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Пры ўказанні на прыладу, з дапамогай якой адбываецца дзеянне. *Пад машыну картошку садзяць.* Стральцы Гродз. *Мы сваю картофлю пад лапатку пасадзілі.* Малева Нясв. *Сеялі пад барану.* Істра Лудз. 5. Пры ўказанні на сходнасць па колеру. *Цялушка рыжа, як пад бурая.* Магуны Паст. 6. Пры ўказанні на прызначэнне чаго-н. *Дом таго пана забралі пад школу.* Дзераўное Стаўб. 7. Супраць. *Яна* [хмара] *пад вецяр не пашла.* Чуркі Ашм. 8. У. *Сталі пад адзін рат.* Быстрыца Астр. III. з *тв.* 1. Пры абазначэнні месца, прасторы, паблізу якіх знаходзіцца што-н. *Зямля была пад лесам.* Альхоўка Навагр. *Ста-*

*іць яго ровар пад ганкам.* Крэва Смарг. *Пад горкай добрае поле. Пад бярэзнікам пасла карову.* Чычалі Швянч. ▽ *У сябе не відзя пад вокам, а ў другога пад лесам відаць.* Солы Смарг. *Адно пад адным дзяцей.* Гальшаны Ашм. 2. Пры абазначэнні стану, палажэння, пры якім што-н. здзяйсняецца. *Пад прымусам рабілі.* Шведы Вільн. *Конь пат потам.* Ракаўскія Швянч.

ПАДАБА'БКА, ПАДАБА'ПКА *ж. бат.* Падбярозавік. *У бярозавых прысадах падабапкі пракідаюцца.* Мачаск Бярэз.

ПАДАБА'ЦЦА *незак.* Выклікаць сімпатыю. *Малады* [жаніх] *мне не падабаяцца. Адзін другому падабаліся.* Малі Астр.

ПАДАБЕ'ДАК *м.* Падабед. *Памаш хлеба маслам і вазьмі на падабедак.* Старыя Трокі Трак.

ПАДАБІ'ЦЬ *зак.* Падшыць (пра падкладку). *Я гэтым падаб'ю.* Жылі Іўеў.

ПАДАБНЮ'ТКІ *прым. памянш.* да п а д о́ б н ы. *Да бацькі падабнюткі.* Кемялішкі Астр.

ПАДАБРА'ЦЦА, ПАДАБРА'ЦА *зак.* 1. Сабрацца. *Пакуль касіць падбе́рыцца.* Груздава Паст. 2. Управіцца. *Як падбе́рысся, тады паглядзіш.* Груздава Паст. *Работы німа, падабралася ўжо.* Мярэцкія Глыб. *Мы падабраліся п, кап ні пікла булкі.* Саланое Віл. *Падбяруся, тады адзенуся.* Масішкі Красл. *Падбе́рымся з работай — паеду.* Індра Красл.

ПАДАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Падняць сланы лён. *Падабралі лён увесь.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і п а д а б р а́ ц ц а 2. *Нады работу падабраць.* Лоск Валож. 3. Навесці парадак. *Трэба ў хаці падабраць.* Саланое Віл. *Трэба ў хаця трохі падабраць.* Крэва Смарг. 4. Выбраць мёд з вулея. *Трэба падабраць пшчолы.* Старыя Смільгіні Воран. *Рас падабраў шэсдзісят кіль мёду з аднэй скрынкі.* Паляцкішкі Воран. ◇ *Падабраць крошкі* — быць вельмі падобным на каго-н. *Усе крошкі падабраў бацькі.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДАВА'ЦЦА *незак.* Слабець. *Такого німа ўхватку, тыя разы туды-сюды павярнуса, падаесса ужэ, старэеш.* Кузьмічы Люб.

ПАДАГНА'ЦЬ *зак.* Прымусіць хутчэй рухацца. *Гасён — валоў падганялі, прамы прут лясковы, заб'е гвост яшчэ, вала іначай не паджанеш.* Масілавічы Сл.

ПАДАДЗЕЯ'ЛЬНІК *м.* Чахол на коўдру. *Пададзеяльнік нацягнеш папрасованы, ды ён ізноў пакамячаны.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* руск. *пододеяльник* 'тж'.

ПАДАІ'ЦЬ *зак.* Падаіць. *Я цёлку падаіла: рас падаіла — сыраватка, два — сыраватка, а тры — і малачко, раздаіла.* Гальшаны Ашм.

ПАДАЙЖА'ЦЬ *незак.* Падазраваць. *Падайжалі, што ён*

*данёс немцам на партызан.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *podejrzewać* 'тж'.

ПАДАЙСЦІ' *зак.* Падысці. *Да рэчкі блізка і не падэйдзеш — такое там балота.* Ухвала Круп. *Да студні ніхай падайдуць.* Кемялішкі Астр. ∇ *Харошы, як сціць — з палкай можна падайсці.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДАЙЦІ' *зак.* Падняцца (пра цеста). *Кагда хлеп не падойдзіць, ён плахі, а то падо́міцца — харошы.* Масішкі Красл.

ПАДАКЛЯРО'ЎВАЦЬ *зак.* Паабяцаць. *Падакляроўваў даць яблык, ды ні даў.* Міратычы Карэл.; *парайн.* польск. *deklarować* 'прапанаваць што-н'.

ПАДАКО'НКА *н.* Падаконнік. *Вазоны на падаконку пастаў.* Мачаск Бярэз.

ПАДА'ЛЕЦ, ПАДА'ЛЯЦ *м. заал.* Верацённіца. *Падальца ўвідзіш і то страшна. Змяя такая, падалец блішчасты, ён кусаецца.* Каўняны Гродз. *Падалец, як вуж.* Мсцібава Ваўк. *Падаляц, як рыба, але лазіць па зямле.* Навасёлкі Гродз.; *парайн.* польск. *padalec* 'медзяніца, верацённіца'.

ПА'ДАЛІЦА *ж.* Валакністыя адходы пры апрацоўцы льну. *Як лён трапаеш, трэш і дзярэш на грэбяне́, калоціш верацяном — падаліца падая.* Вецярэвічы Пух.

ПАДАЛЬНІ'ЦА *ж.* Падол. *Падальніца парвалася.* Ністанішкі Смарг. *Хоць і другім матэрыялам патшываецца, усераўно падальніца.* Быстрыца Астр.

ПАДАМЛЕ'ЦЬ *зак.* Замарыцца. *Вы падамлелі праз ноч ні спя́.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДА'НЁ, ПАДА'НЯ *н.* Заява пісьмовая. *Паданё напіша ў ґміну.* Альхоўка Навагр. *Хто на цябе паданя падаў?* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *podanie* 'тж'.

ПА'ДАНІЦА *ж.* Апад. *Паданіцы сабяры.* Дакудава Лід.

ПАДАПА'СЦІ *зак.* Прыйсці ў заняпад. *Падапалі пасля пажару.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАДАРАВА'ЦЬ *зак.* Падарыць. *Я падараваў маладой сто рублей.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *podarować* 'тж'.

ПАДАРА'ЦЬ *зак.* Заараць. *Гал — сенакос быў, цяпер падаралі.* Ухвала Круп.

ПАДАРВА'ЦЦА *зак.* Падарваць здароўе. *Рабіў-рабіў і падарваўся, німа ніякага здароўя.* Кіралі Шчуч.

ПАДАРВА'ЦЬ *зак. безас.* Адняцца. *Спужайся, аш ногі падарвала, стаяць не можа на нагах.* Магуны Паст.

ПАДАРО'ЖНАЯ ТРАВА' *ж. бат.* Спарыш. *Падарожная трава сцеліца.* Гальшаны Ашм.

ПАДАРО'ЖНІК *м. бат.* 1. Тое ж, што і падаро́жная трава́. *Ат печань падарожнік п'юць.* Гальшаны Ашм. *Падарожнік з дробнымі лісточкамі.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Падарожнік свінні і куры любяць.* Беразіно Докш.

*У падарожніка дробнае лісце.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Падарожнік у нас на падворку расце, лісточкі дробныя, ён сцеліцца па зямлі.* Солы Смарг. *Падарожнік — дробненькі, сцеліца.* Сасноўка Смарг. *Падарожнік сцеляцца.* Быстрыца Астр. *Падарожнік дробненькі, і ён па дарозе ляжыць.* Кіралі Шчуч. *Падарожнік з мелкімі лісточкамі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падарожнік ад аслабнення.* Азяраны Раг. *Падарожнік расцілаецца па зямлі.* Малькуны Ігн. *Падарожнік ест.* Гемзы Шальч. *Падарожнік ад горла.* Навікі Лудз. 2. Трыпутнік. *Падарожнік да раны кладуць.* Рудня Чэрв. 3. Пласцінчатыя грыбы, падобныя на лісічкі. *Нападобія лісіцаў растуць грыбы падарожнікі.* Дакудава Лід.

ПАДАРО′ЖНЫ *прым.* Прыдарожны. *Бульбу садзяць на падарожным пасе.* Гемзы Шальч.

ПАДАРЫ′ЦЬ *зак.* Даць міласціну. *Падары жабрака.* Рыбчына Віл. *Падарыла старца.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* руск. *подарить* 'тж'.

ПАДАРЭ′ШАЎНІК *м. бат.* Трава, падобная на хвошч. *Падарэшаўнік расце пад арэшнікам, шорсткая трава.* Рыбчына Віл.

ПАДАСІ′НАВІК *м. бат.* Падасінавік. *Падасінавік слізкі, пад асінай расцець.* Лоск Валож. *Падасінавікі больш дзе асіннік растуць, каля поля, дзе канавы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Падасінавікі растуць пад асінай.* Рыбчына Віл. *Падасінавікаў назбіраў кошык.* Малева Нясв. *Падасінавікі, як бапкі, яны на пажарышчах растуць, карычневыя.* Вецярэвічы Пух. *Падасінавікі, дзе сіна большы.* Пасіене Лудз. *Падасінавік бяруць.* Галоўні Воран., Чычалі Швянч., Істра Лудз.

ПАДАСІ′НАВІЧАК *м. памянш.* да падасінавік. *Падасінавічкаў можаш знайсці ў асінніку.* Вялікі Лес Круп.

ПАДАСІ′НІК *м.* Тое ж, што і падасінавік. *Падасінікі ў асініку і ў бярэзніку растуць.* Ёдлавічы Брасл. *Падасінікі красныя.* Рагулішкі Даўг., Грыкені, Швэды Вільн.

ПАДАСПЕ′ЦЬ *зак.* Паспець. *Вішні праз дзён два падаспеюць.* Альхоўка Навагр.

ПАДАЎБА′ЦЬ *зак. перан.* Акапаць матыкай. *Падаўбеш бураке, цёмна ў вачах зробіцца.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДАЎКІ′ I *прым.* Даспадобы. *Цвет падаўкі.* Граўжышкі Ашм.

ПАДАЎКІ′ II *прым.* Нядаўкі. *У нас сыр такі падаўкі, а як ператопіцца — сухі.* Дакудава Лід.

ПА-ДА′ЎНАМУ *прысл.* Па-даўнейшаму. *Па-даўнаму — мост нада мыць.* Пярэкі В.-Дзв.

ПАДА′ЦЦА I *зак.* 1. Пайсці. *Старуха з гэтай хаты падалася да буракоў.* Ёдлавічы Брасл. *Відаць, у лес падаўся.* Пльбанцы Ашм. 2. Пайсці вучыцца на каго-н. *Скончылі школу і падаліся за настаўніцу.* Вецярэвічы Пух.

ПАДА′ЦЦА II *зак.* Паддацца. *Я малая была, а каб не падацца большым — прыду с поля — і каровы доіш, і свіня корміш.* Малі Астр.

ПАДА′ЦЦА III *зак.* Здохнуць. *Адзін год у нас усе парасятка падаліса.* Стральцы Гродз.

ПАДА′ЦЦА IV *зак.* Паказацца. *Мне горкі падаўся агурок.* Жылі Іўеў. *Падалося нам, што дзіця плача.* Кіралі Шчуч.

ПА′ДАЦЬ *незак.* 1. Падаць (пра снег, дождж). *За́ра снех будзя падаць. Дошч падая, грыбы будуць расці.* Вялікія Баяры Шчуч. *Снех падая.* Кіралі Шчуч. *Дошч начыная падаць.* Мсцібава Ваўк. *Туча чорная ідзе, снех падая.* Альхоўка Навагр. *Грат падае.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Звальвацца, скідацца, адрываючыся ад чаго-н. *Падаюць грушы з дрэва.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Бегаць, насіцца. *Падаіць курыца, шукаіць, дзе знясціся.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *Падаць жыватом* — мучыцца ад болю. *Конь падае жыватом.* Стральцы Гродз. *Падаць духам* — клапаціцца. *Вельмі* [ён] *за дзяцьмі падае духам.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДА′ЦЬ *зак.* 1. Даць есці. *Хазяйскі чалавек, ён быдлу падась, сена прынясець. Асталося толькі парасёнку падаць — і ўся работа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не магла хадзіць, свіня́м падала — і на лошка.* Паляцкішкі Воран. *Пайду свіням падам.* Кіралі Шчуч. *Свіня́м пададуць і прыедуць.* Рагулішкі Даўг. *Пайду падам паршучку́.* Малькуны Ігн. 2. Звярнуцца з заявай у суд. *Падалі міне ў сут.* Бакшты Іўеў. *Падалі ў суд на яго.* Альхоўка Навагр. *Падала на аліменты.* Гальшаны Ашм. 3. Даць. *Глядзеця, а то адрас вам няправільна падам.* Магуны Паст. ∇ *Як бог дась, то і ў акно падасць.* Кузьмічы Люб.

ПАДА′ЧКА *ж. мед.* Эпілепсія. *На падачку хворы, абуміраяя.* Жылі Іўеў. *Са спужання падачка яе кіда́іць.* Магуны Паст. *Падачка кіда́я.* Быстрыца Астр. *У каго падачка, чалавек абмірая.* Гемзы Шальч.

ПАДАШВА′ *ж.* Ступня. *Падашва баліць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Падошвы забалелі ад хады.* Альба Нясв.

ПАДАШВІ′ЦА *ж. шав.* Вусцілка. *У ботах падашвіцу падхіляюць, тады ложаць бяросту, а тады падэшву.* Магуны Паст.

ПАДБА′ВІЦЬ *зак.* Прыбавіць. *Падбаў вады ў саґанік, а то выкіпела.* Альба Нясв. ∇ *Як будзіш гарэць — а я смалы падбаўлю, хай большы агонь будзя.* Малі Астр.

ПАДБА′ГНУЦЬ *зак.* Пахудзець. *Карова падбагла.* Стральцы Гродз.

ПАДБА′ЛАШНАЕ БРАЎНО′ *н.* Бэлька з апошняга вянка зруба. Глівін Барыс.

ПАДБАРА′ДАВІЧ, ПАДБАРО′ДАВІЧ *м.* Падбародак.

*Падбарадавіч вялікі адвісая.* Рыбчына Віл. *Наеў падбарадавіч.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДБАРО'ДДЗЯ, ПУДБАРО'ДДЗЕ *н.* Тое ж, што і п а д б а р а́ д а в і ч. *Падбароддзя вісіць у яе.* Кіралі Шчуч. *Пудбароддзе нарасло.* Лука Нараўк.

ПАДБА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д б а́ г н у ц ь. *Карова мая чыста падбала.* Пацаўшчына Дзятл. *Карова падбая бяс корму, падарваныя баке ў яе.* Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Падбаць ачэй* — захварэць ад замоў. *Конь падбаў ачэй. Вочы апцягнулі ад урокаў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДБЕ'ЖКАМ, ПАДБЕ'ШКАМ *прысл.* Подбегам. *Ён ішоў падбешкам.* Крынкі Крын.

ПАДБЕ'Л, ПУДБІЕ'Л *м. бат.* 1. Крываўнік. *Падбел прыкладай, як руку парэжаш.* Беразіно Докш. *Падбел кажуць, трава, белым цвіце.* Асавец Віл. *Падбел, кроў унімаіцца, пячэ, як ёт, выпалюя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падбел белым цвіце.* Рудня Чэрв. *Падбел кроў сунімая.* Пасека Ст.-Дар. *Падбел белы, кагда белі ідуць — тапіць і піць.* Вялікі Лес Круп. *Падбел — ад жалутка цвяты.* Навікі Лудз. *На рану добрэ лісток пудбіелу положыті, то хучіей заговіцце.* Курашэва Чыж. 2. Маташнік. *Падбел — такіі лісцінкі шырокія, як якая боль, чырай, можна прыкладаць. У падбела круглы ліст, ліст разрэзаны: матка і мачыха, адзін цёплы, другі халодны.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Падбел ад кашля.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *podbiał* 'тж'.

ПАДБІВА'ЦЬ *незак.* Разгойдваць (гушкалку). *Дзеці падбіваюць адзін аднаму і калышацца.* Рыбчына Віл.

ПАДБІ'ЛКА *ж.* Подбіўка. *Падбілка — што патхінаецца адзежа ўнізе. Падбілку прышыла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАДБІРА'ЦЦА *незак.* Упраўляцца з работай. *З работай падбірацца. Я ўжо падабралася, а ты яшчэ падбіраісся.* Мярэцкія Глыб.

ПАДБІРА'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і п а б і р а́ ц ь I, 1. *Лён слалі, а потым падбіралі.* Каўняны Гродз. *Як абабілі лён, павязалі ў большанькія пучкі, слалі, ляжыць шэсць нядзель лён; як дажджэ ідуць, то пяць нядзель; тады падбіраям і зноў вяжам у пучкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Лён рвём рукамі, падбіраям, у пучкі вяжам.* Малахоўцы Бар. 2. Тое ж, што і п а б і р а́ ц ь I, 3. *Падбіраць картофлю за капалкай.* Валынцы В.-Дзв. *Падбіраю бульбу седзячы, старая стала.* Лоск Валож. 3. Выбіраць мёд з вулея. *Пчол нада падбіраць.* Кураполле Паст. *Падбіраць мёт.* Граўжышкі Ашм. *Трэба падбіраць пшчолы.* Старыя Смільгіні Воран. *Хазяін падбірая мёт.* Старыя Трокі Трак.

ПАДБІРА'ЦЬ II *незак.* Размяшчаць у пэўным парадку па якой-н. агульнай прыкмеце. *Падбірала пасы, калі ткала ход-*

*нікі. Лахманы падбіраяш, кап ходнікі ў пасы былі.* Старыя Трокі Трак.

ПАДБІ'ЦЕ *н.* Падкладка. *Пакуляныкі шылі, клалі падбіце. Шапка на падбіці, і камузэлька на падбіці. Парвалася падбіце, трэба новая.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *podbicie* 'тж'.

ПАДБІ'ЦЬ *зак.* Падлажыць (падол). *Падол падаб'ю другім.* Магуны Паст. *Даўней казалі падбіць подбійку, а цяпер — загнуць. Падбіць подбійку і то не ўмееш.* Мачаск Бярэз.

ПА'ДБІШЧА *н.* Паша. *У нас падбішча даліко.* Істра Лудз.; *параўн.* руск. *пастбище* 'тж'.

ПАДБО'Й *м.* Тое ж, што і п а д а л ь н і ц а. *Трэба падбой падбіць.* Альхоўка Навагр. *Падбой — гэто ніс сукенкі.* Дакудава Лід.

ПАДБО'ЙКА *ж.* Тое ж, што і п а д а л ь н і ц а. *Падбойку трэба падбіваць, тая абрындалася.* Галубы Маст.

ПАДБО'ЙКІ *мн.* Планкі пад тармазамі ў санях. *Пад нізом пад тармазамі падбойкі, доскі такія.* Мешкінева Лудз.

ПАДБО'ЛЬШЫЦЬ *зак.* Падрасці. *Як падбольшым, так і пашлі гуляць. Падбольшылі парасята.* Альхоўка Навагр.

ПАДБО'РШНІК *м. бат.* Снітка. *Падборшнік малады свіня ядуць.* Жылі Іўеў.

ПАДБО'ЧНАЯ ПО'СЦІЛКА *ж.* Прасціна. *Посцілка падбочная, прасціралда цяпер.* Магуны Паст.

ПАДБРУ'ССЯ, ПАДБРУ'СЯ *н.* Падчарэўе. *Падбрусся зразаем.* Каўняны Гродз. *Падбруся.* Быстрыца Астр. *Падбруся выразаюць.* Новыя Мацалі Варэн.

ПАДБРУ'ШКА *н.* Тое ж, што і п а д б р у́ с с я. *Дзве пальці і падбрушка.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДБРУ'ШКІ *мн.* Воўна з падчарэўя авечкі. *Падбрушкі — самая плахая воўна, з яе не ткалі, дзелалі рукавіцы.* Рагулішкі Даўг.

ПАДБРУ'ШНІК *м.* Падбрушнік. *Падбрўшнік ідзе пад брух каня.* Быстрыца Астр.

ПАДБРУ'ШША, ПАДБРУ'ША, ПАДБРУ'Ш'Е, ПУДБРУ'ШЭ *н.* Тое ж, што і п а д б р у́ с с я. *Падбрушша капцілі.* Мярэцкія Глыб. *Падбрушша тонкае.* Рыбчына Віл. *Знялі падбрушша, скруцілі, шпагатам закруцілі.* Малі Астр. *Падбрушша — яго трэба добра пячы, яго крышаць у вантрабянку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падбруша пакапчоная і як худое — добрая, гэта сала са слаямі мяса, смачная, скварыстая і капчоная.* Ёдлавічы Брасл. *Падбруша пад брухам у парсюка.* Ракаўскія Швянч. *Падбруш'е худоя.* Магуны Паст. *Сланіна с падбруш'я. Падбруш'е завеца.* Чуркі Ашм. *Падбруш'е я салю, скручу, прыцісну, як свежае потым.* Солы Смарг. *Пудбрушэ вэндзят і едзят.* Лука Нараўк.

ПАДБРУ'ШЫНА *ж.* Тое ж, што і п а д б р у́ с с я. *Падбрушыну скапцілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДБРЫ'НДАЦЦА *зак.* Абтрапацца. *Падбрындалася спадніца, транты вісяць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* б р ы́ н д а ц ц а.

ПАДБРЮ'ЖВІНА *ж.* Тое ж, што і п а д б р у́ с с я. *Дань мне прынесла: падбрюжвіны.* Мішневічы Шум.

ПАДБУНТО'ЎЛІВАЦЬ *незак.* Падахвочваць. Гемзы Шальч.

ПАДБУ'РВАЦЬ *незак.* Брадзіць. *Саладуха з аржаное мукі: стаіць дзён тры, яна падбурвая, і тады варацьі.* Малахоўцы Бар.

ПАДБУХТО'РЫЦЬ *зак.* Падахвоціць. *Каторы падбухтора яго.* Граўжышкі Ашм.

ПАДБЯГЧЫ' *зак.* Падбегчы. *Баёмся падбягчы.* Лоск Валож.

ПАДБЯРО'ЗКА, ПАДБЯРО'СКА *ж. бат.* Бярозка (трава). *Падбярозка ўецца, што гарох.* Пацаўшчына Дзятл. *Падбяроска сцеліцца па зямлі, квітніць, такія грамафончыкі.* Солы Смарг.

ПАДБЯРЭ'ЗНІК *м. бат.* Падбярозавік. *Падбярэзнікі сіванькія.* Солы Смарг. *Падбярэзнікаў многа.* Галоўні Воран.

ПАДБЯРЭ'ЗНІЧАК *м. бат. памянш.* да п а д б я р э́ з н і к. *Падбярэзнічкі можна спячы на скарвадзе.* Гемзы Шальч.

ПАДВАДЗІ'ЦЬ *незак.* Абманваць. *Як ня стыдна падвадзіць!* Малі Астр.

ПАДВАЙЧА'СТЫ *прым.* Раздвоены. *Падвайчасты грэбянь у пятуха.* Парэчча Гродз.

ПАДВАЛІ'НА, ПУДВАЛІ'НА *ж.* 1. Бервяно, на якое кладуць падлогу. *Падваліна пад падлогу.* Мсцібава Ваўк. *Падлога ляжыць на падвалінах.* Вострава Маст. *Падваліны — броўны, на якія кладуць падлогу.* Пацаўшчына Дзятл. *Падваліны палажылі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падваліны пад падлогу кладуць.* Вецярэвічы Пух. *Падваліны клалі на штандары, а на падваліны падлогу лажылі.* Кузьмічы Люб. *Пудваліны клалі пад падлогу.* Сапоцкіна Гродз. 2. Ніжні вянок зруба. *Падрубы чылі падваліны клалі.* Лука Нараўк.

ПАДВАЛО'КА *ж. рыб.* Від сеткі. *Падвалока лавіць рыбу.* Янова Рас. *Падвалокаю лавілі рыбу.* Лоск Валож.

ПАДВАРО'ТНІК *м. бат.* Конскае шчаўе. *Падваротнік — як шчаўе, сцімбур у ім ёсць.* Плябанцы Ашм.

ПАДВАРО'ТНІЦА *ж.* Падваротня. *Закладзі падваротніцу.* Беразіно Докш. *Сабакі ці ваўкі пад падваротніцу падрываліся.* Ёдлавічы Брасл. *Падваротніцу залажы.* Мярэцкія Глыб. *Брама з дасок і падваротніца.* Рыбчына Віл. *Падваротніцай застаўляюць знізу вароты.* Магуны Паст. *Пад дзвярыма падваротніца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Залажэця падваротніцу,*

*а то куры прыдуць на надворак.* Кіралі Шчуч. *Падваротніца наша цяшкая, чуць падняць.* Рудня Чэрв. *Падваротніцу ставяць пад вароты.* Малахоўцы Бар. *Падваротніца каля парогу ў адрыне закладалася.* Воўкуш Ліпск.

ПАДВА'САЛІНЫ толькі *мн. абрад.* Узаемнае наведванне бацькоў маладой і маладога пасля вяселля; пярэзвы. *Нядзелю перабудуць, і бацькі маладой едуць да бацькоў маладога на падвасаліны.* Гемзы Шальч.

ПАДВЕ'ЗЦІ, ПАДВЕ'СЦІ *зак.* Давезці да якога-н. месца. *Да Ашмяны Косця падвязе. Болюсь, падвязі!* Гальшаны Ашм. *Кала рыбхоза дагнаў Ванька на кані і падвёз да Нясвіжа.* Альба Нясв.

ПАДВЕ'Й *м. мед.* Хвароба ад скразняка; параліч. *У цябе ці падвей ці кайтун?* Беразіно Докш. *Падвей схопіць.* Кураполле Паст. *Падвей — хвароба такая.* Малі Астр. *Чалавека падвеяла, падвей яго хапіў, ані рукой, ані нагой не варушыць.* Жылі Іўеў. *Падвей мучаіць і дзяцей, і сталых. Відзела сама гэты падвей на свае вочы: вочы пераверня белым наверх, рукі гне, ногі, заверне рот набок. Падвей з віхроў.* Рыбчына Віл. *Як падвей патхопіць, то губы скарожыць.* Кіралі Шчуч. *Як прастыне і баляць ногі, і кажуць: «Падвей у цібе». Шэпча шаптун ад падвея.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАДВЕ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і п а д в е́ й. *Ад падвейкі яму ліцо скруціла.* Паляцкішкі Воран.

ПАДВЕ'РХАМ *прысл.* Уверсе. *Падверхам, як ставяць страпілы, ложаць мурлаты.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАДВЕ'СЦІ *гл.* ПАДВЕ'ЗЦІ

ПАДВЕ'ЧАРА *прысл.* Пад вечар. *Ужо падвечара прышла Оля.* Кузьмічы Люб.

ПАДВЁНЗКА, ПАДВЁНСКА *ж.* Падвязка. *Дзе мае падвёнскі, недзі я лажыла, дзе яны падзеліся?* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *podwiązka* 'тж'.

ПАДВІ'ЛКА *ж.* Павека. *Падвілка з валаскамі.* Парэчча Гродз.

ПАДВІ'Р *м.* Вір. *Падвір у азяры.* Янова Рас.

ПАДВІТУ'ХА *ж.* Кавалачак паперы і інш., на які павіваюць ніткі. *Я то более без падвітухі раблю клубок.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДВІ'ЎКА *ж.* Тое ж, што і п а д в і т у́ х а. *Ёсць падвіваны клубок і клубок бес падвіўкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вазьмі падвіўку пат клубок: ці паперу, ці ганучку.* Кіралі Шчуч.

ПАДВІ'ЧКА *ж.* 1. *этнагр.* Абруч, на які накручвалі намітку. *Як замуш пойдзя, носіць падвічку.* Альхоўка Навагр. 2. Пасма льну, што падкладвалі пад валасы, каб зрабіць прычоску. *Ручку лёну паложыць пад валасэ — гэта падвічка, і зробіць куклу бальшую.* Кіралі Шчуч.

ПАДВІ'ЯЦЬ *зак.* Абдаць ветрам. *Вецяр падвіяў — гэта падвей, хвароба такая.* Малі Астр.

ПАДВО'З *м.* Фурманка. *Нада было даць каня ў падвос.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДВО'І *мн.* Вяроўка, якой прымацоўваюць нарогі сахі да ручкі. *Падвоі — гэта вяроўка, акручаная за рагач і за саху, кап саха ня вываліваласе з рагача.* Гемзы Шальч.

ПАДВО'Й *м.* Тое ж, што і п а д а л ь н і ц а. *Падвой адарвоўся, падшый.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДВО'ЙКІ *мн.* Падвойныя вокны. *Падвойкі ўставіў.* Мішневічы Шум.

ПАДВО'ЙНЕ *прысл.* Удвая. *Падвойне заплаціў.* Граўжышкі Ашм.

ПАДВО'ЙНЫ, ПОДВУО'ЙНЫ *прым.* Двайны. *Падвойныя вокны ўставілі.* Рыбчына Віл. *Падвойныя вокны на зіму ўстаўляюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дубэльты, або падвойныя* [вокны]. Жодзішкі Смарг. *Пара ўжо падвойныя окны застаўляць.* Гемзы Шальч. *Возьмі подвуойного шнурка, то муцнiейшы будэ.* Курашэва Чыж.

ПАДВО'Р *м.* Двор. *На падвору воўк свіню з'еў.* Паляцкішкі Воран.

ПАДВО'РАК, ПУДВУО'РОК *м.* Тое ж, што і п а д в ó р. *На падворку нехта слухае радзіва.* Солы Смарг. *Паставіў казла ў падворку.* Крэва Смарг. *Ён быў на падворку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Падворак вымела.* Вострава Маст. *Як ехаў, па ўсяму падворку сено раскідаў.* Стральцы Гродз. *Падграбаяш падворак.* Парэчча Гродз. *У яго падворак велькі, можна акручваццa.* Гемзы Шальч. *Дієті по пудвуорку біегают.* Курашэва Чыж. ◇ *На падворку — не ў хаце, на вуліцы, на адкрытым паветры. На падворку слонца.* Крэва Смарг. *С падворка мухі лятуць.* Гемзы Шальч. ▽ *На звеставанне будзеш рабіць, гадзіна прыпаўзе на падворак.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *podwórko* 'тж'.

ПАДВО'Р'Е *н.*, ПАДВО'Р'Я *н.* і *ж.* 1. Тое ж, што і п а д в ó р. *На падвор'е выйшаў — і штось доўга няма.* Мачаск Бярэз. *Старае падвор'е, дзе колісь хата стаяла.* Азяраны Раг. *Падмяла ж я падвор'я.* Рыбчына Віл. *Дрэва раскідаў па ўсёй падвор'і.* Лоск Валож.; *параўн.* польск. *podwórko* 'двор'. 2. Тое ж, што і п а г ó д а 1. *Падвор'е вліяет на здароўе чалавека.* Мсцібава Ваўк.

ПАДВО'РКА *н.* 1. Тое ж, што і п а д в ó р. *Падворка падмяла.* Лоск Валож. *Быў на падворку.* Вялікія Баяры Шчуч. *На падворка ідзі. Падворка замяла.* Паляцкішкі Воран. *Мы падворка падмяцём.* Солы Смарг. *Зайшлі на падворка.* Сасноўка Смарг. *Сядзяць на падворку мушчыны.* Гемзы Шальч. *На падворку качай.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *podwór-*

*ko* 'тж'. 2. Тое ж, што і п а д в о́ р'е 2. *Слата — паскудна падворка.* Кудзялянцы Шальч.

ПАДВО'РЫШЧА *н.* Тое ж, што і п а д в о́ р. *На падворышча воўк забег. Па падворышчу ні расцягвай сена. З падворышча выяхаў.* Жодзішкі Смарг.

ПАДВО'СНІКІ *мн.* Падосак. *На падвосніке вось прывінчана.* Дакудава Лід.

ПАДВО'ЧНІКІ *мн.* Вочныя зубы. *Падвочнікі — цяшкія зубы.* Рыбчына Віл.

ПАДВУЗГНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Падбухторыць. *Яшчэ матка яго не падвузґнець яго, то гэта добра.* Ёдлавічы Брасл.

ПАДВУ'ЙНЕ *прысл.* Тое ж, што і п а д в о́ й н е. *А святам начысляюць падвуйне.* Груздава Паст. *Падвуйне хай заплаціць.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *podwójnie* 'тж'.

ПАДВУ'ЙНЫ *прым.* Двайны. *Гэта паедынчыя кросны, а гэта падвуйныя.* Солы Смарг. *Падвуйныя вокны адчыняюцца.* Ёдлавічы Брасл. *Падвуйныя вокны былі.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *podwójny* 'тж'.

ПАДВЫ'СКАДЗЬ *ж.* Вывернутае бурай дрэва. *Ліса выскачыць с падвыскадзі, а то воўк.* Азяраны Раг.

ПАДВЫ'ШЫЦЬ *зак.* Зрабіць падрубы пад хату. *Хату нада падвышыць.* Гемзы Шальч.

ПАДВЯ'НЯ *н. мед.* Лунацізм. *Падвяня яго схваціўшы — так кажуць на чалавека, які ходзіць ноччы.* Граўжышкі Ашм.

ПАДВЯРНУ'ЦЬ *зак.* Падкласці. *Пад вугол* [хаты] *падверняш камянь.* Магуны Паст.

ПАДВЯРО'ДНІК, ПАДВЯРЭ'ДНІК *м. бат.* Уварэднік. *Падвяроднік цвіце ружовенькім цветам. Кажуць і падвярэднік, уварэднік. Насенё таўкуць з жырам і ўкладаюць ім. На мшарынах расце падвярэднік.* Альхоўка Навагр.

ПАДВЯСЁЛКІ *мн. абрад.* Тое ж, што і п а д в а́ с а л і н ы. *Праз нядзелю едуць на падвясёлкі ад маладога ўпярот.* Чуркі Ашм. *Прыехаў на падвясёлкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Пасля вяселя — падвясёлкі: радня едзя да радні.* Дакудава Лід.

ПАДВЯСЦІ' *зак.* Паставіць зруб. *Ужо хату пат крышу падвялі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДВЯЧО'РАК *м.* Падвячорак. *Перад вячэрай малака вып'яш, скварку з'ясі — гэта падвячорак.* Асавец Віл.; *параўн.* польк. *podwieczorek* 'тж'.

ПАДВЯЧО'РКАВАЦЬ *незак.* Есці падвячорак. *Будзім падвячоркаваць.* Лоск Валож.

ПАДГАЛІНЯ'СТЫ *прым.* Галінасты. *Падгаліністае дзе́рава.* Беразіно Докш.

ПАДГА'ЛІСТЫ *прым.* Гонкі. *Падгалістае дзе́рава.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАДГА′ЛЫ *прым.* Тое ж, што і п а д г а́ л і с т ы. *Падгало дзёраво.* Вострава Маст.

ПАДГАНЯ′ЦЬ *незак.* Раўняць. *Падганяя салому да прывязіны, як крыя страху.* Руднікі Шальч.

ПАДГАРДЗЕ′ЛЁ, ПАДГАРДЗЕ′ЛЯ *н.* 1. Тое ж, што і п а д г а́ р л я 2. *Падгардзелё ў каровы. Альхоўка* Навагр. 2. Нарасці пад дзюбай у пеўня. *Падгардзеля ў пятуха.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *podgardlica* 'зоб у птушкі'.

ПАДГА′РДЗЕЛЬ *м.* Тое ж, што і п а д б а р а́ д а в і ч. *Падгардзель, як у пеўня.* Альхоўка Навагр.

ПАДГА′РЛЯ *н.* і *ж.* 1. Тое ж, што і п а д б а р а́ д а в і ч. *Падгарля вісіць.* Жылі Іўеў. 2. Ніжняя частка шыі ў жывёлы. *Падгарля ў каровы велькая.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *podgardle* 'тж'.

ПАДГАТАЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Рыхтавацца. *Падгатаўляіцца, каб паступіць у інсцітут.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДГАТО′ЎКА *ж.* Падрыхтоўка. *Падгатоўку дзелаюць к свадзьбі.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* руск. *подготовка* 'тж'.

ПАДГІ′БАЛКІ толькі *мн.* Цяглі. *Падгібалкі баляць.* Кураполле Паст.

ПАДГІ′БЛІВАЦЦА *незак.* Падгінацца. *Ногі падгібліваюцца, падгібляюцца.* Бакшты Іўеў.

ПАДГІ′БЛІЦЬ *зак. крав.* Падшыць ніз чаго-н. *Кафтан пашыю с хлясцікам і падгіблю яго.* Дакудава Лід.

ПАДГІРДЗЕ′ЛЬ *м.* Тое ж, што і п а д б а р а́ д а в і ч. Малахоўцы Бар.

ПАДГЛЕ′ДЗІЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а д а б р а́ ц ц а. *Пакуль ён коні ўправя, зара я падгледжуся.* Лоск Валож.

ПАДГЛЯДА′ЦЬ, ПАДГЛІДА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а д б і р а́ ц ь 3. *Падглядаяш пчол.* Рыбчына Віл. *Падглядаць пчол.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пашоў падглядаць пчол.* Дзяніскавічы Ганц. *Будам падглядаць пчол.* Азяраны Раг. *Падглідаць пчол, а вясною падчышчаць.* Ухвала Круп.

ПАДГЛЯНУ′ЦЦА *зак.* Спадабацца. *Не падглянуўся ён нам.* Ёдлавічы Брасл.

ПАДГО′ЛЕНЫ *прым.* Які без галін. *Дзерава падголено стаіць у лесі, яго падцярэбліваюць лапкі ды плот гародзяць.* Міратычы Карэл.

ПАДГО′НІК *м.* Памочнік галоўнага плытагона. *Падгонікі на плытах былі.* Бакшты Іўеў.

ПАДГРО′БНІЧАК *м. бат.* Грузд. *Падгробнічкі ў нас растуць.* Кураполле Паст.

ПАДГРО′БЫ *мн. бат.* Грузды. *Падгробы крохкія, растуць, дзе более ліпняк.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДГРЭ′БІНЫ *мн.* Тое ж, што і п а г р э́ б і н ы. *Падгрэбіны — зграбаяш астаткі сена.* Міратычы Карэл.

ПАДГРЭ́БКІ *мн.* Тое ж, што і п а г р э́ б і н ы. *Укінь пад свіня і пад карову падгрэпкаў.* Мсцібава Ваўк.

ПАДГУ́ЗЫ толькі *мн.* Набедрыкі. *Конь у падгузах, як у сарочцы. Як падгузы накладзеце каню, дык ён як у сарочцы.* Мачаск Бярэз.

ПАДДАБРЫ́ЦЬ *зак.* Падкарміць угнаеннямі. *Нада яблыны паддабрыць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДДА́ЦЦА *зак.* Змяніцца пад знешнім уздзеяннем. *Яна к лячобе не паддалася.* Мачаск Бярэз.

ПАДДА́ЦЬ *зак.* 1. Падсунуць. *Можа, тата паддасць у карыто салому.* Мсцібава Ваўк. 2. Павялічыць сілу, колькасць чаго-н. *У лазні быў коўшык духу паддаць.* Малі Астр.

ПАДДЗЕ́НЬ *прысл.* На досвітку. *За мухамі паддзень не адпачыняш — шу-шу.* Кудзялянцы Шальч.

ПАДДУ́БНІК *м. бат.* Паддубовік. *У паддубніка чырвона галоўка, а пад нізам жоўты.* Васілевічы Гродз.

ПАДДУВА́ЙЛА *н.* Паддувала. *Паддувайла ў пліце для цягі.* Ністанішкі Смарг.

ПАДДУДО́РЫЦЬ *зак. экспр.* Падхапіць пад пахі. *Паддудорыла пат паху дзіця і мчу яго.* Міратычы Карэл.

ПАДДЫ́ХАВІЦА *ж. анат.* Дыхавіца. *Ударыў у паддыхавіцу.* Мярэцкія Глыб.

ПАДДЫХНУ́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а а д ы х н у́ ц ь. *Паддыхну ўдзень.* Саланое Віл. *Трошкі паддыхну, тады дзебялей хаджу.* Азяраны Раг.

ПАД'Е́СЦІ, ПУД'Е́СЦІ *зак.* 1. Наесціся. *Мы пад'елі і пашлі далей.* Мацясы Мядз. *Пад'есці дасыта.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бывала, як пад'есць рэцькі...* Старыя Трокі Трак. *Коровы пуд'елі і ляглі спаті.* Курашэва Чыж. ∇ *Дзякуй за бет, што пад'еў дармает.* Малі Астр. *Ак не еў — то не мог, ак пад'еў — то не рук, не ног.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Сапсаваць (пра здароўе). *Пад'елі яму матылі сэрца, вантробы.* Старыя Трокі Трак.

ПАД'Е́ТЫ *дзеепрым.* Сыты. *Пад'етыя, надзетыя, што дзецям трэбо?* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДЖА́ГЛІСТЫ *прым.* Сухарлявы, тонкі. *Які конь паджаґлісты.* Стральцы Гродз.

ПАДЖАЛЕ́ЦЬ, ПАДЖА́ЛЯЦЬ *зак.* 1. Падпражыцца. *Паджалée семя канапляна, таўклі ў ступі і мачалі бульбай.* Мачаск Бярэз. *Як паджаляя ячмень, яго ў вузлік і ў квас кладуць.* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і п а д ж а́ л і ц ц а. *Паджаляла бульба.* Азяраны Раг.

ПАДЖА́ЛІЦЦА *зак.* Падсмажыцца. *Паджалілась рыба на скравадзе.* Азяраны Раг.

ПАДЖА́РЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж а́ ґ л і с т ы. *Паджары конь — каторы танкавы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДЖА́РЫСТЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж а́ ґ л і с т ы.

*Конь, карова бытта жываты падцягнуўшы, і мураўі паджарыстыя, і сабака паджарысты.* Ёдлавічы Брасл.

ПАДЖА'ЦЬ *зак.* ◊ *Паджаць вуды* — схуднець. *Паджаў вуды зусім.* Сасноўка Смарг.

ПАДЖГА'ЦЬ *зак. экспр.* Пабегчы. *Лявонішыны гускі паджгалі дамоў.* Вецярэвічы Пух.

ПАДЖО'ГА *ж.* Падпалка. *Нашчыпа́й паджогі.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *поджог* 'падпал'.

ПАДЖЫДА'ЦЬ *незак.* Чакаць. *Будзім вас паджыдаць дома.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *поджидать* 'тж'.

ПАДЖЫ'ЛКІ *мн.* Тое ж, што і п а д г і б а л к і. *Паджылкі падарвала.* Кураполле Паст. *Сабака як хватануў у паджылкі.* Рагулішкі Даўг. *Шваркі насілі да паджылак.* Лайпушкі Ігн.

ПАДЖЫ'ЛЫ, ПУДЖЫ'ЛЫ *прым.* Пажылы. *Паджы́лая дзеўка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паджылы кавалер, ужо многа гадоў, а ён ні жанаты.* Быстрыца Астр. *Ён ужэ паджылы.* Номікі Бабіц. *Паджылы чалавек памёр.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пуджылы чалавек, трохі сагнуты.* Лука Нараўк.

ПАДЖЫ'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж ы́ л ы. *Яна ў вашых гадох, паджытая.* Альхоўка Навагр.

ПАДЖЫ'ЎШЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж ы́ л ы. *Матка ні старая, алі ўжо паджыўшая была.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДЖЭ'ГЛЕНЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж а́ ґ л і с т ы. *Дзеўка, як паджэглена — ні жывата, худая.* ◊ *Бегчы, як паджэглены* — бегчы вельмі хутка. *Сабака бегае, як паджэглены.* Слабада Смал.

ПАДЗАНЯ'ЦЦА *зак.* Заняцца. *Гэта нада падзаняцца мне, паглядзець, дзе вудачкі.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПА'ДЗЕВЫ, ПА'ДЗЯВЫ' *прым.* Які мае адносіны да падзі. *Падзевая раса — мядовы сок, што з цвятоў бярэць пчала.* Мішневічы Шум. *Па́дзявая раса выступая.* Бакшты Іўеў. *Па́дзявая раса. Падзявы́ мёт урэдзен для пчол.* Вецярэвічы Пух.

ПАДЗЕ'Л *м.* Дзяльба. *Ей с падзелу ла́ва* [зямлі] *прышлася, а яму далі вала.* Вецярэвічы Пух.

ПАДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Зрабіць. *У лісах падзелалі зімлянкі. Будачкі падзелалі на сваіх гародах і жылі там.* Вялікае Сяло В.-Дзв.; *параўн.* руск. *сделать* 'тж'.

ПАДЗЕ'ЛЯ *прыназ.* з *род.* Дзеля. *Аддам я вам падзеля бога. А падзеля зубоў не саблюдалі.* Бакшты Іўеў.

ПАДЗЕ'НІК, ПАДЗЕ'ННІК, ПАДДЗЕ'ННІК, ПАДЗЁНІК, ПАДЗЁННІК *м.* 1. Падзёншчык. *Падзенікі — хто наймайся на дзень; дзень пажынаіць — і яму заплацяць, а на другі дзень пакінуць або другога возьмуць.* Кураполле Паст. *Падзёнік — які дапамагае.* Вялікія Баяры Шчуч. *Па падзёніках хадзілі жаць.* Валынцы В.-Дзв. *Падзённікаў трэба бы-*

*ло карміць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Памочнік пастуха. *Падзеннік с пастухом пасуць быдла.* Галубы Маст. *Пастух гоніць кажды дзень карой, а яму даюць па калейцы паддзенніка.* Дакудава Лід. *Ужо падзёнік выгнаў каровы. Падзёнік— пастух, па тыдню пасе.* Кіралі Шчуч.

ПАДЗЕ'НІЦА *ж.* Падзёншчыца. *Падзеніцай служыла ў пана.* Мішневічы Шум.

ПАДЗЕ'НЬ *прысл.* Цэлы дзень. *Яна падзень храпе.* Гемзы Шальч.

ПАДЗЕРВЯНЕ'ЦЬ *зак.* Здранцвець. *Забалела ў плячах, пальцы падзервянеюць.* Кузьмічы Люб.

ПАДЗЕ'РЦІ *зак.* 1. Падраць. *Як ён падзерыць што, дык трэба штопаць.* Груздава Паст. 2. Пачасаць. *Падзярэця плечы, вот свярбіць тут каля лапаткі.* Кіралі Шчуч.

ПАДЗЕ'ЦІСЯ *зак.* Падзецца. *Нема дзе падзеціся.* Ялова Пруж.

ПАДЗЕ'ЦЬ, ПАДЗЕ'ЦІ *зак.* 1. Схаваць. *Дзе падзець грошы?* Паляцкішкі Воран. 2. Знайсці для чаго-н. месца. *Назносіў усякай ерунды, і куды ты гэта ўсё падзенеш?* Альба Нясв. ∇*Дзеці, дзеці, дзе вас падзеці?* Альба Нясв. ◇ *Вачэй німа дзе падзець* — вельмі сорамна. Вялікія Баяры Шчуч.

ПАДЗЁЖ *ж.* Паморак. *Такая падзёж была.* Старыя Трокі Трак.

ПАДЗЁМКІ *мн.* Суніцы. *У нас не вараць варэня — прынёс падзёмкі і з'еў.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *poziomki* 'тж'.

ПАДЗЁНІК, ПАДЗЁННІК *гл.* ПАДЗЕ'НІК

ПАДЗІВАВА'ЦЦА *зак.* Здзівіцца. *Мы падзіваваліся, што малый рабёнак і так васпітаны.* Ёдлавічы Брасл. *Ідалька падзівавалася, што іна столькі есь: і рыбу, і вантрабянкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДЗІ'ВЕЦ *м.* Хвароба ад замоў. *У дзіцяці майго падзівец — плача і плача.* Пасека Ст.-Дар.

ПАДЗІВІ'ЦЦА, ПОДЗІВІ'ЦЦА, ПОДЗІВІ'ЦІСА, ПОДЫВІ'ТЫСЬ, ПОДІВІ'ТІСЕ *зак.* Паглядзець. *Подівісе, дэ вуон пушов.* Курашэва Чыж. *Коб нашэ дыдэ́ подывылісь.* Дзмітравічы Кам. *Вон прышоў, подзівіўса.* Ялова Пруж. *А топе́рэчка як подзіўюса на вас, молодых, то аш завідно станэ, як вам до́брэ жыці.* Смаляніца Пруж. *Маці падзівілася на бязрукага, і дзіця ўрадзілася без рукі.* Сапоцкіна Гродз.; *параўн.* укр. *подивитися* 'тж'.

ПАДЗІ'ЛБА *м.* і *ж. экспр.* Той, хто цішком кусае. *На сабаку кажаць падзілба. Сабака такі падзілба, ні брэша, ходзя галаву спусціўшы. І на чалавека могуць сказаць так.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *padìlba* 'тж'.

ПАДЗІРА'НЫ *прым.* Падраны. *Падзіраны мяшок, трэба залатаць.* Кузьмічы Люб.

ПАДЗІШАВЕ'ЦЬ, ПАДЗЯШАВЕ'ЦЬ *зак.* Патаннець. *На базары ўсё падзішавела.* Мярэцкія Глыб. *Падзішавея летам малако.* Рыбчына Віл. *Падзяшавелі ягады.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *подешеветь* 'тж'.

ПАДЗО'ЙНЫ, ПАДЗО'ЛНЫ *прым.* Падзолісты. *Падзойная наша зямля.* Старыя Трокі Трак. *Землі ў нас падзолные.* Чычалі Швянч.

ПАДЗО'ЛІЦА *ж.* Падзол. *Дзе падзоліцы, нічога не вырасціць — ніская халодная зімля, к ніскім мястам.* Саланое Віл. *Падзоліца — халодная зімля.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДЗО'ЛЬ *ж.* Тое ж, што і п а д з о́ л і ц а. *Падзоль — запушчаная зямля.* Беразіно Докш.

ПАДЗО'РНІК *м.* 1. Шырокія карункі, якія прышываюць да прасціны. *Падзорнікі візала.* Лоск Валож. 2. Прасціна з карункамі ці вышыўкай па краі. *У яе падзорнікі красівыя, сама вязала, вышывала.* Альба Нясв.

ПАДЗЫ'ГАЦЬ *незак.* Падскокваць. *Падзы́гая, як мячык.* Вострава Маст.

ПАДЗЬ *ж.* Падзь. *Падзь — гэто мядовая раса.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАДЗЮ'БАНЫ *прым.*Васпаваты. *Оспа была, твар, як падзюбаны — копкі, пегі.* Малі Астр.

ПАДЗЮРКАВА'ЦЬ *зак.* Нарабіць дзірак. *Падзюркавалі цырату, адны дзіры.* Граўжышкі Ашм.

ПА'ДЗЯВЫ' *гл.* ПА'ДЗЕВЫ

ПАДЗЯ'КАВАЦЬ *зак.* 1. Сказаць «дзякуй». *Падзякуе ўсім.* Паляцкішкі Воран. 2. Аддзякаваць. *Хто табе падзякуя за тваё труды.* Вецярэвічы Пух. *Яна яго падзякуя, як ён ей паможа.* Руднікі Шальч.

ПАДЗЯЛІ'ЦЦА *зак.* Зрабіць падзел маёмасці. *Купіла хату іх, далі карову — тут яны падзяліліся.* Малі Астр.

ПАДЗЯЛЯ'НКІ *мн. бат.* Падзялёнкі (грыбы). *Зялянкі зялёныя, падзялянкі сталёвыя.* Солы Смарг. *Падзялянкі добрыя грыбы. Падзялянак тэраз многа.* Галоўні Воран. *Падзялянкі ўвосянь растуць.* Малі Астр. *Падзялянак — хоць гарні рукой.* Руднікі Шальч.

ПАДЗЯМЕ'ЛЬНІЦА *ж. лаянк.* Падкалодная змяя. ▽ *Падзямельніца ты старая!* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДЗЯНКАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д з я́ к а в а ц ь 1. *Падзянкуй пані за цукеркі.* Стральцы Шальч.; *параўн.* польск. *podziękować* 'падзякаваць'.

ПАДЗЯРЖА'ЦЬ *зак.* Патрымаць. *Курыцу за хвост маю падзяржыця!* Малі Астр.; *параўн.* руск. *подержать* 'тж'.

ПАДЗЯЎБА'ЦЬ *зак.* Падзяўбці. *Варыла квашаніну — недаварыла, вынесла і кажу: «Падзяўбайця, куры!»* Малі Астр.

ПАДЗЯЎБСЦІ'СЯ *зак. экспр.* Павольна пайсці. *Я с тор-*

*бай падзіўблася ціханька, пірадачу нада было пірадаць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДЗЯШАВЕ́ЦЬ *гл.* ПАДЗІШАВЕ́ЦЬ

ПАД'ІЛДЫ́КНУЦЬ, ПАД'ІЛКНУ́ЦЬ *зак.* Падсмяяцца. *Ён любіць пад'ілдыкнуць.* Мсцібава Ваўк. *Ён хочыць пад'ілкнуць яе.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДКАЗА́ЦЬ *зак.* Парадзіць. *Падкажы, што рабіць?* Дакудава Лід.

ПАДКА́ЛАНКА *ж.* Спіца для падплятання лапцей. *Падкаланкай лапці падплітаюць — як карандаш, такая палачка. Падкаланка з косткі авечай абчосанай, вышафлююць яе.* Ухвала Круп.

ПАДКАЛА́ТКА *ж.* Суп з бульбы, падкалочаны мукой і забелены малаком. *Я рана заўсюды варыла падкалатку.* Альба Нясв.

ПАДКАЛА́ЧВАЦЬ, ПАТКАЛО́ЧВАЦЬ *незак.* Запраўляць мукой, ільняным семем. *Падкалачваць суп, калаціць кулеш, шчáвель калатоўкай.* Мішневічы Шум. *Сяканку паткалочвалі пшоннай мукою.* Дакудава Лід. *З капусты бяруць расол і паткалочваюць семянем.* Міратычы Карэл.

ПАДКАЛО́ТКА, ПАТКАЛО́ТКА *ж.* Мачанне. *Паткалотку рабілі с семя.* Малахоўцы Бар.

ПАДКАЛУПНУ́ЦЬ *зак.* Падчапіць. *Голкай падкалупнула і йголішчу выдрала з нагі.* Малі Астр.

ПАДКАПА́ЦЦА, ПАТКАПА́ЦЦА *зак.* Падрыцца. *Рапуга пат хату паткапаяцца, чыркая.* Солы Смарг.

ПАДКАПА́ЦЬ *зак.* Накапаць (дадаткова). *Пайду бульбы падкапаю.* Стральцы Шальч.

ПАДКАПЦІ́ЦЦА, ПАТКАПЦІ́ЦЦА *зак.* Падвэндзіцца. *Сала паткапцілася.* Лоск Валож.

ПАДКАРМІ́ЦЬ, ПАТКАРМІ́ЦЬ *зак.* Угнаіць. *Цыбулю чым паткарміць?* Валынцы В.-Дзв.

ПАДКАЧА́ЦЬ *зак.* Падкасаць. *Падкачай рукоў.* Пацаўшчына Дзятл.

ПА́ДКІ *прым.* Ласы. *Падка, шкодліва корова, звыкла ходзіць у шкоду.* Хатынічы Ганц.

ПАДКІ́НУЦЬ, ПАТКІ́НУЦЬ *зак.* 1. Даць корм у невялікай колькасці. *Пойдзіць уночы паткініць каню.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Аказаць матэрыяльную дапамогу. *Хто п паткінуў пару капеек?* Гальшаны Ашм. 3. Падвезці. *На матоцыку вас паткіня.* Магуны Паст.

ПАДКІ́СНУЦЬ, ПАТКІ́СНУЦЬ *зак.* Укіснуць. *Калі хлеп патколваяцца — ён ні паткіс.* Дакудава Лід.

ПАДКЛА́ДЗІНА *ж.* 1. Прадмет, які падкладаецца пад што-н. *Падкладзіна пад спот.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што і падваліна 1. *На падкладзіны падлога кладзецца.* Малахоўцы Бар.

ПАДКЛА'ДКА, ПАТКЛА'ТКА *ж.* Тое ж, што і падбілка. *Патклатка абарвалася.* Гайна Лаг.

ПАДКО'ВА-БЯЗМЕ'Н *м.* Вага. *Падкова-бязмен: вешалі сено, на пут і два пуды, ён круглы.* Малахоўцы Бар.

ПАДКО'ПАВАЦЬ *незак.* Выкопваць. *Падкопавалі карэні і з карэняў рабілі кош.* Быстрыца Астр.

ПАДКО'ПАЦЬ, ПАТКО'ПАЦЬ *незак.* Абкопваць. *Прызвы паткопаць вясной трэба.* Вецярэвічы Пух.

ПАДКО'ПВАЦЦА, ПАТКО'ПВАЦЦА *незак.* Падкопвацца. *Вайке хадзілі каждую ноч, паткопваліся ў хлеў.* Вецярэвічы Пух.

ПАДКО'СНІКІ, ПАТКО'СНІКІ *мн.* Нязжатыя сцяблы збожжавых. *Бываіць нячыста жнець, то кажуць: «Паткоснікі стаяць ззаду».* Груздава Паст.

ПАДКРАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Дабаўляць спіртное. *Я не падкрапляла наліўкі, паткраплю чым-небудзь.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *подкреплять* 'падмацоўваць'.

ПАДКРУ'ПНІЦА *ж.* Высеўкі. *Як жыта ці іншае дабро крупна змелена, прасеюць яго, і астаецца падкрупніца.* Вецярэвічы Пух.

ПАДКУВА'ЦЬ *зак.* Падкаваць. *Чатыры нагі* [у каня] *падкувалі.* Асавец Віл.

ПАДКУРА'Ч, ПАТКУ'РА'Ч *м.* Дымар. *Паткура́ч — ім укуравалі пчол парахнёй.* Бакшты Іўеў. *Паткура́ч — паткурваць пчол.* Быстрыца Астр. *Патку́рач — пчол паткурваць.* Мсцібава Ваўк.

ПАДКУ'РЧЫЦЬ *зак.* Пакамячыць. *Я падкурчыла прастыню.* Парэчча Гродз.

ПАДКУРЫ'ЦЬ, ПАТКУРЫ'ЦЬ *зак. пчал.* Абкурыць. *Падкурыць пчол.* Мішневічы Шум. *Як падглядаюць пчол, паткурыць трэба.* Рыбчына Віл. *Бралі гнілоя дзерава, парцяначку запаляць, пусцяць дым — і падкураць пчол.* Азяраны Раг.

ПАДКЯРАВА'ЦЬ, ПАТКЯРАВА'ЦЬ *зак.* Накіраваць у патрэбны бок. *Пайду яе паткярую сюды.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *kierować* 'тж'.

ПАДЛАБУ'НІЦЦА *зак.* Паддобрыцца. *Ён так хоча падлабуніцца да Івана.* Малі Астр.; *гл.* лабу́ніць.

ПАДЛАБУ'НІЦЬ *зак.* Задобрыць. *Ты і сваю хазяйку падлабуніць умееш.* Гемзы Шальч.; *гл.* лабу́ніць.

ПАДЛАВІ'ЦЦА *зак.* ◊ *Падлавіцца пад рукі* — трапіць пад рукі. *Як ей падлавіўся ножык пад рукамі.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПАДЛА'ВІЧЧА *н.* Месца пад лавай. ▽ *Новае сітца на кручку навісіцца і на падлавіччу наваляецца — на працягу жыцця ўсяк бывае — добра і блага.* Ухвала Круп.

ПАДЛАГО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да падлогі. *Дошка падлаґова.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДЛА'ДЖАВАЦЬ, ПАДЛА'ДЖАЦЬ *незак. пчал.* Падглядаць пчол. *Падладжаваць пчол.* Рыбчына Віл. *Нада падладжаваць пчол.* Лоск Валож. *Падладжаць пчол буду.* Мярэцкія Глыб.

ПАДЛА'ДЗІЦЬ *зак. пчал.* Падгледзець пчол. *Трэба падладзіць пчол.* Саланое Віл. *Нада падладзіць пчол, вымаць рамкі з мёдам.* Валынцы В.-Дзв. *Нада пчол падладзіць.* Лоск Валож.

ПАДЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пакласці. *Ён падлажыў грошы пат скацер.* Гальшаны Ашм. *Я падлажыла пад галаву сваіх лáтаў.* Малі Астр. 2. Дабавіць. *Німа агню, трэба дроў у печ падлажыць.* Малі Астр. *Падлажыла дроў у печ яшчэ, а то холадна будзе.* Альба Нясв.

ПАДЛА'ЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д л á д з і ц ь. *Падлазіць мёд восенню.* Беразіно Докш.

ПАДЛА'СІВЕНЬКІ *прым. памянш.* Падласы. *Тут красненько, а тут падласівенько — гэто чуць бялейшо.* Малахоўцы Бар.

ПАДЛА'СІЦА *ж. заал.* Ласка. *У нас гэтага звярка падласіцай звалі.* Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАДЛАСО'ВІК *м. бат.* Пеўнік стракаты (грыб). *Падласовікі — грыбы такія, ядуць у нас.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАДЛЕ'ЖАЦЬ *зак.* Вылежацца (пра пасланы лён). *Расцілалі лён, каб падлежаў.* Васілевічы Гродз.

ПАДЛЕ'ЗЦІ, ПАДЛЕ'СЦІ *зак.* Падлезці пад каго-н. *Я падлезу, падаю і маю паўлітра малака.* Гальшаны Ашм.

ПАДЛЕ'ТАЦЬ *незак. перан.* Хутка падбягаць. *Падлетая да міне чалавек і пытая.* Бакшты Іўеў. *Падлетаў бык да кароў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАДЛЕ'ШЧЫК *м.* Падлешчык. *Падлешчык меншы, ні дарос да ляшча.* Магуны Паст. *Лешч — вялікі, падлешчык — маленькі.* Быстрыца Астр. *Падлешчыкі — небальшэнькія рыбкі.* Шкаўна Лудз.

ПАДЛЕ'ЯЦЬ *зак.* Падліць. *Нечага падлеяў у малако.* Багушэвічы Бярэз.

ПАДЛЁЧКА *ж.* Тое ж, што і п а д б р ý ш н і к. *Пасак прышпыляецца каню вакол тулава, падлёчка трэба, кап каня запрэхчы.* Мсцібава Ваўк.

ПАДЛІ'ВА *ж. кулін.* Соус. *Падліва — шкваркі, вады і мукі, размяшаць, зажарыць.* Грыкені Вільн.

ПАДЛІ'ПАВІК *м. бат.* Махавік (грыб). *Падліпавікі ва мху растуць, жоўценькія.* Ухвала Круп.

ПАДЛІ'ПКА *ж. бат.* Зялёнка. *Падліпкі знізу зелянаватыя, зверху цёмныя.* Грыкені Вільн.

ПАДЛІ'ЦА *ж.* Пляма карычневага колеру на скуры. *Падліца ў бярэмянных, і так бываіць. Баба грубая, у яе на ліцу падліца.* Ёдлавічы Брасл.

ПА′ДЛО *н. лаянк.* Той, хто благі. *А вуон падло і нэ подумав, што з дітьміма станэцце.* Курашэва Чыж.

ПАДЛО′ГА, ПАДЛО′ГА, ПОДЛО′ГА *ж.* Падлога. *Ліжаць дошкі на падлогу. Бэлькі кладуць пат падлогу.* Гальшаны Ашм. *Калісь у жаднай хаце падлогі не было.* Паляцкішкі Воран. *Трэба падлогу памыць.* Ністанішкі Смарг. *Папурскай падлогу, пылу многа.* Солы Смарг. *На голай падлозя ляжыць.* Малі Астр. *Падлогу выбрудзіў.* Галубы Маст. *У нас мала хто меў падлогу, так па землі хадзілі раней.* Ракаўскія Швянч. *На падлодза сядзела.* Груздава Паст. *Падлоґа чыстая.* Альхоўка Навагр. *Памыім падлоґу.* Кураполле Паст. *Усе падлоґі яна пакрасіла, яна рабацяга. Не сядзі на падлодзы, бо падлоґа халодна.* Кіралі Шчуч. *Подлоґі ны мыла.* Дзмітравічы Кам. *Нэ было шчэ подлоґі.* Смаляніца Пруж. *Нэ було подлоґі.* Горск Бяроз.; *параўн.* польск. *podłoga* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 336.

ПАДЛО′ЖЫНА *ж.* Масніца. *Замяніў адну падложыну.* Беразіно Докш.

ПАДЛО′МВАЦЬ *незак.* Першы раз баранаваць. *Ужо ты падломвай свае поле, а дале баранавалі, калі раўнаваць поле.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДЛУГАВА′ТЫ *прым.* Прадаўгаваты. *Сцірта падлуґаватая.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *podłużny* 'тж'.

ПАДЛУГАВА′ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да п а д л у ґ а в а́ т ы. *Падлуґаваценькі ліст.* Быстрыца Астр.

ПАДЛУЖЭ′ЦЬ *зак.* Стаць больш працяглым у часе. ∇ *Як у арэху брандўк расце — ночы падлужэюць.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *podłużyć* 'падоўжыць'.

ПАДЛЯМАВА′ЦЬ *зак.* Падшыць ніз чаго-н. *Трэба падлямаваць лямку.* Крэва Смарг.

ПАДЛЯЧЫ′ЦЬ *зак.* Падлячыць. *Піла альвас і мёт — печань падлячыла.* Пլябанцы Ашм.

ПАДЛЯША′НКА *ж.* Паляшучка. *Волька-падляшанка ткала перабіранкі: такія ўзоры!* Малахоўцы Бар.

ПАДЛЯШЧО′УКА *ж.* Тое ж, што і п а д л ё ш ч ы к. *Падляшчоўка ценькая, а лешч тоўсты.* Дакудава Лід. *Падляшчоўкі меньшыя, чым ляшчы.* Ухвала Круп.

ПАДМА′ЗАЦЦА *зак. экспр.* Паддобрыцца. *Сястра хочыць падмазацца.* Саланое Віл.

ПАДМА′ЗКА, ПАДМА′СКА *ж.* Подмазка. *Кот падмаску з'еў.* Лоск Валож. *Падмаска — сала кусок у трапачку і, бывала, патрэць, патом жарыць бліны.* Рагулішкі Даўг.

ПАДМА′НВАЦЦА *незак.* Дражніцца. *Дзеці падманваюцца з яе.* Масілавічы Сл. *Яна падманвалася. Ён падманваўся с табою.* Міратычы Карэл.

ПАДМАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Падгаворваць. *Чужыя людзі да-*

*вай падмайляць дзяўчынку, каб з імі ехала.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *podmawiać* 'тж'.

ПАДМЕ'ЛЬШЧЫК *м.* Памочнік млынара. *Падмельшчык меля, а млынар мае мельніцу. Мельніку падмельшчык памагаў.* Быстрыца Астр. *Быў млынар і падмельшчык у млынé.* Ністанішкі Смарг.

ПАДМЕ'СЦІ *зак.* Падмесці. *Трэба падмесці хату.* Лоск Валож. *Падмяла хату.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАДМЕ'ТАЦЬ, ПУДМЕ'ТАЦЬ *незак.* Падмятаць. *Я падметаю хату.* Вецярэвічы Пух. *Пудметам я, не буду мыць.* Хатынічы Ганц.

ПАДМІША'ЦЬ *зак.* Зааpаць другі раз пасля баранавання. *Падмішалі жыта.* Беразіно Докш.

ПАДМО'ВІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Падмовіла яго так зрабіць.* Паляцкішкі Воран.; *гл.* п а д м а ў л я́ ц ь.

ПАДМО'Р *м. пчал.* Вымерлыя за зіму пчолы. *Падмор выграбаюць, як падглядаюць пчолы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *У калодзя падмор — памёршыя пчолы, кусочкі вашчыны.* Лапічы Асіп.

ПАДМО'СЦЕ *н.* Яма ў хаце пад падлогай. *У падмосце бульбу засыпаў, ды рана, хоць бы не папацела.* Мішневічы Шум.

ПАДМО'ШНІК *м.* Тое ж, што і п а д л і п а в і к. *Падмошнікі сушаць.* Тухавічы Лях.

ПАДМУ'РАК *м.* Падмурак. *Нада паткаціць падмурак пат хату.* Мярэцкія Глыб. *Нашлі камень той с падковы выбіты ў падмурку ў аднаго чалавека.* Латыгаль Віл. *Падмурак новы зрабілі.* Рыбчына Віл. *Падмурак асеў.* Палік Барыс. *Камні ў падмурку мокрыя робяцца на дошч.* Рагулішкі Даўг.

ПАДМУРО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і п а д м ý р а к. *Падмуройку зрабілі ўжо.* Беразіно Докш. *Калісь не было падмуровак, апсыпалі прызбу. Падмуройка заліваяцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падмуройку кладзём, сохі ставім.* Гемзы Шальч. *Падмуройку зрабілі.* Грыкені Вільн. *Вянок на камянь кладуць, аблепліваюць падмуройку.* Старыя Трокі Трак. *Каб зрабіць падмуройку, то додаюць цыманту.* Крынкі Крын.; *парайн.* польск. *podmurówka* 'тж'.

ПАДМЯЗІ'НЯЦЬ *м.* Безыменны палец. *Падмязіняць парэзала, як крышыла бацвіня.* Лоск Валож.

ПАДМЯ'ЛКІ толькі *мн.* Адходы льну пры апрацоўцы церніцай. *С падмялак путы вілі.* Курапoлле Паст.

ПАДМЯ'ЛЛЯ *н.* Кастрыца. *Падмялля ад лёну многа насыпалася.* Жодзішкі Смарг.

ПАДМЯРКАВА'ЦЬ *зак.* Прыстасавацца. *Вы так падмяркуйцця, калі мяне ня будзя.* Крэва Смарг.

ПАДМЯТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а д м é т а ц ь. *На*

*вялікдзень не падмятаюць, каб куры не дзюбалі агародніну.* Малі Астр.

ПАДНАВЕ′С *м.* Павець. *Паднавес — дошкамі абабіта вялікая пуня, сена складалі, і цяпер есь паднавес.* Груздава Паст. *У хляве — паднавес, каб дровы скласці.* Жодзішкі Смарг.

ПАДНАГАТАВА′ЦЬ *зак.* Назапасіць. *Паднагатуем журавіну.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДНАДО′ЛАК *м.* Подбіўка. *Падшый паднадолак.* Магуны Паст. *Нада паднадолак патшыць.* Рагулішкі Даўг.

ПАДНАДО′ЛІК *м.* Тое ж, што і п а д н а д о́ л а к. *Я патшываю паднадолік.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДНАЖА′ЙКІ *мн. ткац.* Панажы. *Паднажайкі і дзве, і чатырэ бываіць у кроснах.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДНАРА′Ў *прысл.* Даспадобы. *Ён мне паднараў.* Рыбчына Віл.

ПАДНЁТКА *ж. шав.* Падносак. *Нада падбіць паднёткі ў ботах.* Грыкені Вільн.; *парайн.* руск. *подмётка* 'тж'.

ПАДНІБЕ′НЯ *гл.* ПАДНЯБЕ′ННЕ

ПАДНІМА′ЦЦА *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кароў. *Карова паднімаіцца да быкоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДНО′ГАЦЬ *м.* Ногаць. *Цяпер кажуць падногаць, падноxці, а раней— капцюр, капцюры.* Мярэцкія Глыб.

ПАДНО′ЖКА, ПАДНО′ШКА *ж. ткац.* Понаж. *Як на чваранiт — чатыры падношкі.* Старыя Трокі Трак.

ПАДНО′ЖКІ, ПАДНО′ШКІ толькі *мн.* Воўна, астрыжаная з ног авечкі. *Падношкі на рукавіцы пралі.* Кураполле Паст. *Падношкі — воўна з ног, яна самая плахая.* Рагулішкі Даўг. *У нас з падношкаў нічога не робяць.* Малькуны Ігн.

ПАДНО′СКА *ж.* Тое ж, што і п а д н ё т к а. *Падноска ў абутку адарвалася.* Грыкені Вільн.

ПАДНЯБЕ′ННЕ, ПАДНЯБЕ′НЕ, ПАДНЯБЕ′НЬЕ, ПАДНЯБЕ′ННЯ, ПАДНЯБЕ′НЯ, ПАДНЯБЕ′НЁ, ПАДНІБЕ′НЯ, ПУДНЕБЕ′НЕ, ПУДНЯБЕ′ННЕ *н.* 1. *анат.* Паднябенне. *Паднябенё ў роце.* Альхоўка Навагр. *Баліць паднябенё.* Альба Нясв. 2. *перан.* Скляпенне ў печы. *Паднябенне ў печы, под.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У печы паднябенне.* Беразіно Докш. *Паднябенне ў печы скора абваліцца.* Вялікі Лес Круп. *Паднябенне ў печы развальваецца.* Багушэвічы Бярэз. *Паднябенне ў печы.* Бенякові Воран. *У печы е паднябенье.* Пацаўшчына Дзятл. *Паднябення ў печы ўваліласся.* Магуны Паст. *Паднябення вываліласся.* Рудня Астравітая Чэрв. *У печы паднябення.* Старыя Трокі Трак. *Вываліласся паднябення.* Кіралі Шчуч. *Паднябеня ў печы, дзе полам б'ець.* Жодзішкі Смарг. *Увярху* [у печы] *паднябеня.* Солы Смарг. *У печы пелюсці, ток, паднябенё.* Малахоўцы Бар. *У пячэ ўвярху паднібеня.*

Грыцавічы Свісл. *Пуднебене ўнутры печы.* Лука Нараўк. *Пуднябенне ў печы.* Пасека Ст.-Дар.

ПАДНЯДЗЕ'ЛІЦЦА *зак.* Прыбрацца па-святочнаму. *Пашла, паднядзелілася. Куды так паднядзелілася?* Малі Астр.

ПАДНЯ'ЦЦА, ПАДНЯ'ЦА *зак.* 1. Узняцца (пра вецер, пыл і г. д.). *Падняўся вецір бальшой.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такі вецяр паднёўся.* Вецярэвічы Пух. *Паднялася бура.* Ванелевічы Кап. *Пыл падняўсо.* Крынкі Крын. 2. Падысці (пра цеста). *Як падоймецца хлеб у дзежцы.* Талейкі Швянч. *Як хлеп падоймецца, нацепляць печ і запякаюць хлеп.* Ракаўскія Швянч. *Кагда хлеп не падойдзіць, ён плахі, а то падоміца — харошы.* Масішкі Красл. 3. Устаць. *Я не падымуся с кашом высыпаць.* Лоск Валож. 4. Падрасці. *Як я паднялася, хадзіла з маткай жаць.* Кураполле Паст. 5. Уздуцца. *Жылы падомяцца.* Магуны Паст. 6. *мед.* Актывізавацца. *Падняліся рабакі ў мальчонка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Падняліся чэрві яму, ташніла ад сладасці нядзель дзве таму.* Пацаўшчына Дзятл. 7. Пра перыяд палавой актыўнасці (у жывёлін). *Паднялася карова на быкоў.* Лоск Валож. *Карова паднялась у бикі, у валы.* Рагулішкі Даўг. *Свіння пад кнуры паднялася, нада пат кнуры гнаць.* Саланое Віл.

ПАДНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Падабраць што-н. з зямлі. *Каласочак падоймяш.* Быстрыца Астр. *Як асвецяць* [электрычнасцю] *горат, голку падыміш.* Гальшаны Ашм. 2. Утрымаць што-н. цяжкае, аддзяліўшы ад зямлі. *Ты ш ні падоймяш, гэта цяшка.* Ракаўскія Швянч. *Падымяш цяшка і забаліць унутры — гэта парушэня.* Старыя Трокі Трак. 3. Надаць стаячае палажэнне таму, што ўпала набок. *Яны падомяць бярозу.* Асавец Віл. 4. Тое ж, што і п а д а б р а́ ц ь 1. *Мы падоймям лён.* Жодзішкі Смарг. *Лён сцелям, а потым падоймям.* Быстрыца Астр. 5. Узараць (цаліну, папар). *Дзірван паднялі.* Кураполле Паст.

ПАДО'БІЕ *н.* Падабенства. *Гусцёрына падобіе плоткі. Гусцёрка падобіе падлешчыка. Уклейка падобіе плоткі.* Істра Лудз.; *параўн.* руск. *подобие* 'тж'.

ПАДО'БНЫ *прым.* Падобны. *Адзін да другога падобны.* Кураполле Паст. *А сын, што капелька вады, падобны да маткі.* Груздава Паст. *Падобна пад мухамор.* Гальшаны Ашм. *Ён да скатá падобны. Яны абодва падобны.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён да мацяры падобны.* Парэчча Гродз. *Яна падобна пад мацяру.* Альхоўка Навагр. *Падобны на бацьку.* Малькуны Ігн. *Сын да бацькі падобны.* Новыя Мацалі Варэн. *Гілі падобны да пчалы.* Кудзялянцы Шальч.

ПАДО'БРЫЦЦА *зак.* Памірыцца. *Мы пасварыліся і зноў падобрыліся.* Малі Астр. *Падобрыліся з дачкой.* Гемзы Шальч.

ПАДО'Л, ПОДО'Л *м.* 1. Прыпол. *Насыпала яблыкаў у*

*падол*. Ёдлавічы Брасл. 2. Падол. *Парвау сабака падол у сукенцы*. Ёдлавічы Брасл. *Замачыла ўвесь падол, як палола*. Багушэвічы Бярэз. *Я так робіла, што падол мой ат поту нада было круціць*. Рагулішкі Даўг. 3. Тое ж, што і паднадолак. *У спадніцы — падол, у кашулі падол падкладаю*. Рыбчына Віл. *Падол адарваўся, прычапі падол*. Солы Смарг. *Пыдложы подола!* Хатынічы Ганц. 4. Абалона. *Падол каля рэчкі*. Масілавічы Сл. *На падол насілі мыць бяллё. На падолі палотны слалі, памочуць ды пасцелюць, выпякая сонца сурўйку*. Азяраны Раг.

ПАДО'ЛАК *м*. 1. Тое ж, што і падол 1. *Пашла ў садок і набрала яблык у падолак*. Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і падол 2. *Падолак у спадніцы*. Масілавічы Сл. *Смяцё ўсенька падмятая падолкамі*. Руднікі Шальч. 3. Тое ж, што і паднадолак. *Падолак патшыць у сукенцы, у спадніцы*. Міратычы Карэл. *Патхілі падолак. Выехаў падолак. Патшый падолак*. Старыя Смільгіні Воран. *Падолак у спадніцы зарублены*. Кіралі Шчуч. *Падолак у спадніцы атпароўся, нада прышыць*. Вялікія Баяры Шчуч. *Патхіліць падолак*. Дакудава Лід. *Шчоткі падшывалі да падолкаў спадніцы*. Старыя Трокі Трак.

ПАДО'ЛКІ *мн*. Тое ж, што і падол 2. *Абрызгала падолкі і ходзіць*. Быстрыца Астр.

ПАДО'ЛЯЦ *м*. Тое ж, што і падалец. *Падоляц — як стушка красная. Падоляц — красны, раз у год вылазуя з зямлі, як некага ўкусіць, то дзерава ўкуся, і дзерава высыхая*. Руднікі Шальч.

ПАДО'НКІ толькі *мн*. Рэшткі вадкасці з асадкамі на дне пасудзіны. *Я паглядзеў — там толькі падонкі на дне асталіся*. Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДО'РАВАЦЬ *незак*. Абганяць. *Картоплю трэба падораваць*. Вецярэвічы Пух.

ПАДО'САК *м*. Падосак. *Падосак у коля, да восі прыкрапляяцца*. Малахоўцы Бар.

ПАДО'СКА *ж*. Тое ж, што і падосак. *Падоска была пад воссю жалезнаю*. Мешкінева Лудз.

ПАДО'ЎЖНА ПІЛА' *ж*. Падоўжная піла. *Падоўжна піла — распілоўвалі броўна на доскі*. Дакудава Лід.

ПАДО'ХЦІ *зак*. Здохнуць. *Сабачка паеў, брык-брык — і падох*. Кудзялянцы Шальч.

ПАДПАДО'ЛАК *м*. Тое ж, што і паднадолак. *Падпадолак абрубліваю*. Беразіно Докш. *Падпадолак буду загінаць, дзе іголка?* Мішневічы Шум.

ПАДПАЛІ'ЦЬ, ПАТПАЛІ'ЦЬ *зак*. Запаліць. *Яны патпалілі гумно*. Гальшаны Ашм.

ПАДПА'ЛКА, ПАТПА'ЛКА *ж*. Падпалка. *Падпалку ка-*

*ля печы пакладзі.* Беразіно Докш. *Прынёс трэсак на патпалку.* Альба Нясв.

ПАДПА′САК, ПАТПА′САК *м.* Памочнік пастуха. *Пастыр кароў ганяў, у яго быў патпасак.* Плябанцы Ашм.

ПАДПА′СВІЧ, ПАТПА′СВІЧ *м.* Тое ж, што і падпа́сак. *Патпасвіч памагаў пастуху.* Малахоўцы Бар.

ПАДПА′СУВАЦЬ *зак.* Дапамагаць пасціць. *Падпасувалі па калейцы.* Быстрыца Астр.

ПАДПА′СЦІ *зак.* Падкінуцца (пра хваробу). *Занямох, падпаў рак і памёр.* Гемзы Шальч.

ПАДПАЯ′СЫВАЦЬ *незак.* Падпяразваць. *Нада падпаясываць рубашку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДПЕРАЗА′ЦЦА, ПАДПАРАЗА′ЦЦА *зак.* Падперазацца. *Падперазацца дзяжкой.* Грыкені Вільн. *Падпаразацца попругою.* Хатынічы Ганц.

ПАДПЕ′РЦІ *зак.* Спыніць. ▽ *Калі пойдзіць дош — ні падапрэш.* Лоск Валож.

ПАДПЕ′РЦІСЯ *зак.* Атрымаць падмогу. *Слаба гэтым сынам падапрэсся, ён ня ўмеіць ганяць бульбу.* Кураполле Паст.

ПАДПЕ′Ч, ПАТПЕ′Ч *м.* Падпечак. *Патпеч — там куры сядзелі.* Гальшаны Ашм.

ПАДПЕ′ЧАК, ПАТПЕ′ЧАК *м.* Тое ж, што і падпе́ч. *Выпускай куры с патпечка.* Стральцы Гродз. *Я курэй не трымала ў патпечку.* Альба Нясв.

ПАДПЕ′ЧКА *ж.* Тое ж, што і падпе́ч. *Падпечка — дзе куры сядзелі.* Гемзы Шальч.

ПАДПЕ′ЧНІК *м.* Тое ж, што і падпе́ч. *Падпечнік быў, куры зімой дзяржалі.* Пасіене Лудз.

ПАДПЕ′ЧЧА *н.* Тое ж, што і падпе́ч. *У падпечча загanялі курэй.* Ухвала Круп.

ПАДПІ′НАК, ПАТПІ′НАК *м.* Церассядзёлак. *Падпінак падгінаць аглоблю.* Старыя Смільгіні Воран. *Патпінак ідзе павярху патсядзёлка да аглабе́нь.* Рыбчына Віл. *Кульбачка наверх на спіну накладаяцца патпінкам.* Дакудава Лід. *Гэту скуру рэжа на падпінкі.* Гемзы Шальч.

ПАДПІНА′ЦЬ I, ПАТПІНА′ЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Патпінка — што патпінаюць падсядзёлак.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *podpinać* 'тж'.

ПАДПІНА′ЦЬ II *незак. перан.* Падкусваць. *Што яны патпінаюць мне сына?!* Дакудава Лід.

ПАДПІ′НКА, ПАТПІ′НКА *ж.* Тое ж, што і падпі́нак. *Падпінка з вупражы, пад жывот.* Беняконі Воран. *Верхняя і сподняя падпінкі; верхняя — чэраз падсядзёлак, а сподняя — знізу.* Чычалі Швянч. *Падпінка — рэмень пад жывот каню.* Грыкені Вільн. *Патпінка ідзе чарас патсядзёлак.* Быстрыца Астр. *Патпінка ідзе праз падсядзёлак і падвязвае галоблі.*

Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *podpinka* 'чахол на коўдру', 'прышпіленая падкладка ў паліто'.

ПАДПІСА'ЦЬ, ПАТПІСА'ЦЬ *зак.* 1. Паставіць подпіс пад якім-н. дакументам. *Рабочыя патпісалі, што ён блага не рабіў.* Гальшаны Ашм. 2. Зрабіць надпіс. *Трэба наплесці вянкоў адзінаццаць і патпісаць імя.* Гальшаны Ашм.

ПАДПЛЕ'СЦІ *зак.* Падплесці. *Нада падплесь лапці спіцай.* Мішневічы Шум.

ПАДПЛЁТКА *ж.* Тое ж, што і падка́ланка. *Падплётка — лапці падплетаюць.* Беразіно Докш.

ПАДПО'ЎНЯ, ПАТПО'ЎНЯ, ПАДПО'ЎНЯЕ *н.* Другая квадра месяца. *Патпоўня кап было, гной вазіць добра.* Гальшаны Ашм. *Маладзік вечарам, тада ідзе патпоўня, цэлы тыдзянь.* Чуркі Ашм. *Ужо падпоўняе.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДПРА'ЖНЫ *прым. ткац.* Які прызначаны для пражы. *Адзін падпражны, другі падпалатняны навой.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАДПУ'ЗЗЯ *н.* Тое ж, што і падбру́сся. *Падпуззя парэзаць засталося.* Ухвала Круп.

ПАДПУ'РЫЦЬ *зак.* Узбіць. *Падпурыла падушку, а то ляжыць, як блінок.* Саланое Віл.

ПАДРАБІ'ЦЦА *зак.* 1. Управіцца. *Выпалю ў печы, падраблюся і сплю.* Саланое Віл. *Ужо трохі падрабіліся.* Навасёлкі Свісл. 2. Напрацавацца. *Як падробісся — усё смачна.* Альхоўка Навагр.

ПАДРАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і падрабі́цца 1. *Троха падраблю ў хаце.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Папрацаваць. *Ідзіця падрабіця трохі, а я пабягу на оглядкі.* Крэва Смарг. 3. Падрабіць (дакументы). *Зладзюга ён: падрабіў дакумянты.* Дакудава Лід. 4. Зачараваць. *Ён мог падрабіць — і конь не ідзе.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДРАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Чараваць. *Як падрабляць, то дрэнна жывуць.* Кудзялянцы Шальч.

ПАДРАБЯ'ЖЖА *зб. н.* Унутранасці жывёліны. *Усё падрабяжжа кладзецца ў трыбушок, зашываюць яго і варуць.* Лоск Валож.

ПАДРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Згадзіцца што-н. зрабіць. *Нехта падрадзіўся яму памахчы.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* руск. *подрядиться* 'тж'.

ПАДРА'ДУ *прысл.* Падрад. *Усіх катоў корміць падраду.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДРА'ДЧЫК, ПАДРА'ЧЧЫК *м. устар.* Падрадчык. *Пачыталі мы пракламацыю, назоўтра яшчэ ў другім сяле й кінулі работу ў падраччыка на мельніцы.* Строчыцы Мін.

ПАДРА'ЖНІВАЦЦА *незак.* Дражніцца. *Не падражнівайся з дзе́цям.* Міратычы Карэл. *Я думаю, ён падражніваецца.* Альхоўка Навагр.

ПАДРА'ЖНІВАЦЬ *незак.* Дражніць. *Яе бабы падражніваюць.* Альхоўка Навагр.

ПАДРАНТВЕ'ЦЬ *зак.* Здранцвець. *Рукі падрантвелі — у далоні коля.* Жылі Іўеў. *Падрантвелі ногі, пакуль картофлі начысціла.* Альба Нясв.

ПАДРА'ПАЦЬ *зак.* Разгрэбці. *Куры грады не падрапалі.* Кемялішкі Астр. *Не дагледзеў, быў дома, а куры грады падрапалі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *podrapać* 'паабдзіраць'.

ПАДРАСТА'К *м.* Падлетак. *Падрастак — выцягнуўся на рост, падрос.* Гемзы Шальч.

ПАДРАСТА'ЧКА *ж.* Дзяўчынка пераходнага ўзросту. *Мы былі падрастачкі.* Старыя Трокі Трак.

ПАДРАСЦЯ'К *м.* Тое ж, што і п а д р а с т а́ ч к а. *Я падрасцяк ужо была, як брат жаніўся.* Малі Астр.

ПАДРА'ЦЬ *зак.* 1. Разарваць на часткі. *Кашулю падзяруць і дзяцей укручваюць.* Гальшаны Ашм. 2. Аб'есці. *Кляновыя жукі падралі ўсе лісточкі на дзеравах.* Рагулішкі Даўг. 3. Тое ж, што і п а д р а́ п а ц ь. *Куры чыста агарот падралі.* Кіралі Шчуч.

ПАДРА'ЧВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п а д р а́ ж н і в а ц ц а. *Усё падрачваецца з дзецьмі.* Вострава Маст.; *гл.* д р а ч ы́ ц ь.

ПАДРА'ЧЧЫК *гл.* ПАДРА'ДЧЫК

ПАДРАШЧУ'К *м.* Тое ж, што і п а д р а с т а́ к. *Стаім мушчыны і падрашчукі.* Гальшаны Ашм.

ПАДРАШЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Рашчыніць. *Нада мне падрашчыніць бліноў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАДРАШЭ'ТНІК *м. бат.* Падрашэтнік. *Падрашэтнікі растуць жоўценькія.* Вецярэвічы Пух. *Усякія грыбэ ў леся: савячке, бапкі, падрашэтнікі.* Малахоўцы Бар.

ПАДРО'СЛЫ *прым.* Дарослы. *Там рабята падрослыя.* Кіралі Шчуч.

ПАДРО'СТАЦЬ *незак.* Падрастаць. *Падростая зуп угору.* Альхоўка Навагр.

ПАДРО'ЧВАЦЬ *незак.* Дражніць. *Давай падрочваць яго. Падрочваюць дзяцей.* Вострава Маст. *Дзеці падрочваюць старога.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск. *droczyć* 'дражніць', 'мучыць, прыгнятаць' (СВ, I, 557).

ПАДРУ'БА, ПОДРУ'БА *ж.*, ПАДРУ'БЫ *мн.* Тое ж, што і п а д в а л і́ н а 2. *Падруба — першы вянок, які кладзецца на камні.* Дакудава Лід., Глівін Барыс., Стральцы Гродз. *Падруба — ніжні вянок хаты.* Пацаўшчына Дзятл. *Хата ставіцца на падрубах, бяросту клалі на падрубу.* Кузьмічы Люб. *Падруба кладзецца на каменя, калі зруп робяць.* Малахоўцы Бар. *Подруба — первый венец.* Дзяніскавічы Ганц. *Паложылі падрубы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАДРУБІ'ЦЬ *зак.* Падшыць ніз адзення. *Спадніцу падрубіла.* Палік Барыс. *Дай, падрублю табе сукенку, а ты шый другое.* Альба Нясв.

ПАДРУГА'ЦЬ *незак.* Папракаць. *Яна мне падругаіць чымнібуць: ты тоя і тоя рабіла; ні нада мяне падругаць.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* руск. *ругать* 'лаяць'.

ПАДРУ'ЖКА *ж. абрад.* Дружка. *Хто падружкамі ў яе?* Кіралі Шчуч.

ПАДРУ'ЧНІК *м. абрад.* Хлопец, удзельнік вяселля з боку маладой. *У маладой два — чатыры падручнікі.* Талейкі Швянч.

ПАДРУЧЫ'ЦЦА *зак.* Абавязацца, згадзіцца зрабіць што-н. *Ты ш падручылася дагледзець скот, то і даглядай.* Вецярэвічы Пух.

ПАДРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Укараціць, адрэзаўшы частку чаго-н. *Падрэзаць андарак.* Номікі Бабіц. 2. *пчал.* Дастаць частку мёду з вулея. *Нада падрэзаць пчол.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДСА'ДА, ПАТСА'ДА *ж.* У выразе: *Даваць падсаду* — кусціцца. *Як добрая зямля — жыта патсаду дае.* Солы Смарг. *Ячмень падсаду дае.* Івашкаўцы Смарг. *Жыта даёт падсаду: адно каліва даёт атуросці.* Рагулішкі Даўг.

ПАДСА'НКІ, ПАТСА'НКІ толькі *мн.* Каркі. *Каня запрáг, а падсанкі ззадзі.* Беразіно Докш. *Падсанкі на трох капылах, галоўкі раўняюцца з нáмаражнямі.* Мішневічы Шум. *Патсанкамі балькі возяць.* Навікі Лудз. *Падсанкі — як дзерава вязуць дліннае.* Чычалі Швянч.

ПАДСАСНО'ЎКІ *мн. бат.* Тое ж, што і п а д р а ш э́ т н і к *Падсасноўкі жоўценькія, чысценькія, у маху.* Беразіно Докш.

ПАДСВІ'НАК *м.* Падсвінак. *Падсвінак ні падрошшы, ні сусім свіня.* Дакудава Лід.

ПАДСКАЗА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д к а з á ц ь. *Ніхто не падсказаў, што гэдак.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАДСКАЧЫ'ЦЬ *зак. мед.* Раптоўна ўзнікнуць. *Яму бяркулёз падскачыў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДСКІ'КВАЦЬ *незак.* Падскокваць. *Падскіквала я, што дахаты ідзём.* Магуны Паст.

ПАДСКО'ЧЫЦЬ, ПАТСКО'ЧЫЦЬ *зак.* Узысці (пра сонца). *Слоняйка патскочыла — слонца на прызбе.* Гальшаны Ашм.

ПАДСКРО'БАК, ПАДСКРЭ'БАК *м. перан. экспр.* Апошняе дзіця ў бацькоў. *Падскробак — паследняя дзіця.* Быстрыца Астр. *Апошняя дзіця — падскрэбак у нас.* Дакудава Лід.

ПАДСКРЭ'БАШ *м.* Паскрэбак. *Хлеп пякуць, маленькая булачка с астатка — гэто падскрэбаш.* Малахоўцы Бар.

ПАДСМЕТА'НІК *м.* Слой сыракватшы, які мяжуе са смятанай. *Там сметана, там падсметанік.* Кураполле Паст.

ПАДСМЯЯ'ЦЬ *зак.* Высмеяць. *Любіць ён падсмяяць.* Малахоўцы Бар.

ПАДСНЕ'ЖНІК *м. бат.* Ветраніца. *Падснежнік белым цвеціць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАДСПО'Д, ПАДСПО'Т *прысл.* Падыспад. *Лук* [абруч] *у каша адзін ідзе падспот і ўверх, другі — кругом.* Быстрыца Астр. *Падспот трэбо купіць галубенька на спадніцу.* Малахоўцы Бар. *Юпкі с фальбонамі шылі падспот спадніцы.* Старыя Трокі Трак.

ПАДСТА'ВЫ толькі *мн.* Тое ж, што і п а д с а́ н к і. *Кары і падставы шлі.* Ухвала Круп.

ПАДСУКА'ЦЦА *зак. экспр.* Пасватацца. *Падсукайся да гэнай дзеўчыны такі добры. Падсукайся другі і нічуць не лепшы.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *sùktis, pasisùkti* 'падмазацца'.

ПАДСУНДЭ'ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Падстроіць. *Нехта табе падсундэчыў.* Слабада Смал.

ПАДСУ'НУЦЬ *зак.* Наблізіць да каго-н., чаго-н. *Падсунеш пальцы, так рак уґнібне моцна.* Старыя Смільгіні Воран. *Падсунуў калоду.* Грыкені Вільн. ◇ *Падсунуць наса́* — пакрыўдзіць. *От яму наса падсунулі!* Саланое Віл.

ПАДСУ'СЯДАК *м.* Падсусед. *Падсусядак нічога ня меў, жыў на падсусядзях.* Малахоўцы Бар.

ПАДСУ'СЯДЗІ *мн.* ◇ *Жыць на падсусядзях* — не мець сваёй хаты. *Ён жыў на падсусядзях.* Малахоўцы Бар.

ПАДСУФІ'ТКА, ПАТСУФІ'ТКА *ж.* Падшыўка столі. *Патсуфітка — абліцоўка, пад бэлькі падбіваюцца дошкі.* Гальшаны Ашм.

ПАДСЦЁЛ *м.* Подсціл. *Балотна асака, як пастарэе, косяць на падсцёл.* Кузьмічы Люб.

ПАДСЫ'ТА *ж. кулін.* Сыта. *Падсыту робім на свята: на куцю, каляды, робяць яе з вады і мёду.* Старыя Трокі Трак.

ПАДСЯДЗЁЛАК *м.* Падсядзёлак. *Упранш на выяст: хамут і шлеі, падсядзёлак, узда.* Быстрыца Астр. *Падсядзёлак чаму ты не заклаў?* Мачаск Бярэз.

ПАДТАРНУ'ЦЬ *зак. безас.* Паралізаваць. *Падтарнула яму ногі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАДТАЎЧЫ', ПАТТАЎЧЫ' *зак.* Заправіць (салам). *Капусту паттаўчом салам, ясі і хваліш.* Малахоўцы Бар.

ПАДТО'ЧКА, ПАТТО'ЧКА *ж.* Кашуля, у якой прышыты падол з грубейшага палатна. *Патточку пашыла, і цяпер патточкі надзяваюць.* Магуны Паст.

ПАДТО'ЧЫНА, ПАТТО'ЧЫНА *ж. крав.* Палоска тканіны, якою падшываюць ніз вопраткі. *Патточыну прышыла знізу сукенкі.* Магуны Паст.

ПАДТРАІ'ЦЬ *зак. с.-г.* Заараць трэці раз пасля барана-

вання. *Падтраіў сяга́ння кусок поля, што за лесам.* Беразіно Докш.

ПАДУБЕ′ЦЬ *зак.* 1. Змерзнуць (пра ўсіх, многіх). *Падубелі каровы і пастухе.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан. экспр.* Акалець. *Паны падубелі.* Грыкені Вільн.

ПАДУЖЭ′ЦЬ *зак.* Набрацца сілы. *Як свайго хлеба печанага з'ем — падужэю.* Лоск Валож.

ПАДУ′ЗДА *ж. заал.* Падуст. *Падузда — красівая, белая, бальшая рыба, пат сподам як бы абрэзана.* Быстрыца Астр.

ПАДУ′ЗРАПКІ толькі *мн.* Адходы пасля другога часання льну. *Лён другі рас чэшуць шчоткаю са свіной шэрсці, палучаюцца падузрапкі. Штаны насілі мушчыны з падузрапкаў.* Стральцы Гродз.

ПАДУ′МКА *ж.* Думка. *Дажы і падумкі не было, што могуць нахадзіцца сівыі валасы.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДУ′НДЗІЦЬ I *зак.* Пагаварыць. *Падундзілі добра.* Гемзы Шальч.

ПАДУ′НДЗІЦЬ II *зак. экспр.* Пассаць (грудзі). *Рабёнак захацеў падундзіць і плача.* Гемзы Шальч.

ПАДУПА′СЦІ *зак.* 1. Захварэць, страціць сілы. *Падупала са здароўем.* Якубова Рас. *Падупаў Вінцук зусім.* Малі Астр. *На кастылёх дзеўчына, год як так падупала.* Альхоўка Наваг. 2. *перан.* Страціць аўтарытэт. *Ты так падупаў у маіх квацерантаў.* Малі Астр.

ПАДУ′РКІ толькі *мн.* Дураслівасць. *Пройдуць дзеўцы падуркі.* Ухвала Круп.

ПАДУРО′СТАК *м.* Тое ж, што і п а д р а с т а́ к. *Пасынак ягá падуростак, шчэ тры гады ў школе вучыцца.* Беразіно Докш. *Ён быў шчэ падуросткам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДУСІ′ЦЬ *зак.* Падушыць. *У нас курэй падусілі шашкі.* Ёдлавічы Брасл. ∇ *Хай іх падусіць халера, гэтых качок.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *zadusić* 'задушыць'.

ПАДУСО′КАЦЦА *зак. экспр.* Падражніцца. *Падусокаюцца, падусокаюцца з ім — і пойдуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *гл.* **п а д р а́ ч в а ц ц а.**

ПАДУ′СТА *ж.* Тое ж, што і п а д у́ з д а. *Падуста — рыба, форма сялёдкі, адна з іх жаўтаватая, а другая форма — белая, савершэнно рот у яе пад рыльцам.* Мішневічы Шум.

ПАДУСТА′ЦЬ *зак.* Прыўзняцца. *Падустань, я слон падсуну.* Стральцы Гродз.

ПАДУ′СЦІНА *ж.* Тое ж, што і п а д о́ с а к. *Пад вось падусціну кладуць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАДУФА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д у п а́ с ц і 1. *Сапаня брак, духу брак, нешта падуфала. На грып забалела, падуфала і падуфала.* Быстрыца Астр.

ПАДУ′ЧАЯ ХВАРО′БА (БАЛЕ′ЗНЬ) *ж.* Тое ж, што і п а д а́ ч к а. *Каго кідая падучая балезнь, і доктар не выле-*

*чыць.* Мсцібава Ваўк. *Падуча хвароба кідая.* Вострава Маст.

ПАДУ'ЧКА *ж. мед.* Тое ж, што і п а д а́ ч к а. *Хварэў на падучку.* Лоск Валож.

ПАДУ'ШКА *ж.* 1. Падушка. *Я падушкі з гусінага пера рабіла.* Гальшаны Ашм. *Падушак у дзеўкі многа.* Альба Нясв. 2. Вузгалаўе (у возе). *На ось падушка задняя і пірэдняя. Ручкі ў падушку ўходзяць.* Істра Лудз. *Падушка — дзе ўстаўлялі ручкі.* Пасіене Лудз. *На вось дзеравяная падушка.* Мешкінева Лудз. *Крэсла на пярэднія колы, наверх падушка накладалася. На падушку шворань.* Старыя Трокі Трак. 3. Падаконнік. *Нанізе акна — падушка.* Пацаўшчына Дзятл. *Падушка прагніла.* Ухвала Круп.

ПАДУ'ШНІК *м.* Навалочка. *На падушку надзеваецца падушнік.* Вострава Маст.

ПАДУ'ШЧАЯ ХВАРО'БА (БАЛЕ'ЗНЬ) *ж.* Тое ж, што і п а д а́ ч к а. *Падушчая балезнь, ён абмёр.* Рыбчына Віл. *Ат падушчай хваробы памагала зелля, расцець тут.* Валынцы В.-Дзв. *Падушчая балесць тарнуя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Падушчая балесь у яго.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Падушча хвароба, чалавек падае і абніжывея.* Кіралі Шчуч.

ПАДУШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і п а д у с і ц ь. *Падушыў усе куры шашок.* Лоск Валож. *От пацаў яна падушыла* [котка]. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Раструшчыць. *Можно падушыць гузікі, як качаеш бялізну.* Мсцібава Ваўк.

ПАДФАРСАВА'ЦЬ *зак.* Упрыгожыць. *Мая братава была ў Канадзе, там пэпці рабіла, там падфарсавалі, і плацілі па дзесяць даляраў.* Старыя Трокі Трак.

ПАДХА'ДЖВАЦЬ, ПАТХА'ДЖВАЦЬ *незак.* Заходзіць. *Ён патхаджваў і назначаў свідання.* Гальшаны Ашм.

ПАДХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Падыходзіць (пра цеста). *Хлеп замесяць, ён падходзіць, і ў печ садзюць.* Янова Рас.

ПАДХАДЗЯ'ШЧЫ, ПАТХАДЗЯ'ШЧЫ *прым.* 1. Падобны. *Вол падхадзяшчы пад карову.* Навасёлкі Гродз. 2. Прыгодны. *Ліпу дралі, патхадзяшча на лапці.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *подходящий* 'адпаведны, добры'.

ПАДХАПІ'ЦЬ, ПАТХАПІ'ЦЬ *зак.* Узяць з сабою каго-н. *Яны ўжо патхапілі іх.* Гальшаны Ашм.

ПАДХВА'ТКА, ПАТХВА'ТКА *ж.* Прынада. *Білі жабу, аблуплівалі, у сетачку клалі — патхватка такая для ракаў.* Чуркі Ашм.

ПАДХІЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а д р у б і ц ь. *Нада падхіліць паднадолак, натта длугі.* Магуны Паст.

ПАДХО'ДЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і п а д х о́ д н ы I. *Ён такі падходлівы.* Магуны Паст.

ПАДХО'ДНЫ I *прым.* Ветлівы. *Яна такая к людзям падходная была.* Саланое Віл.

ПАДХО'ДНЫ II *прым.* Які добра падыходзіць (пра це-

ста). *Падходнае цеста, удалося, можна булкі пякці.* Галубы Маст.

ПАДЦЕ'ПЛІЦЬ, ПАТЦЕ'ПЛІЦЬ *зак.* Падпаліць. *Пліту падцепліць трэба.* Дварчаны Паст. *Бяс цябе патцепляць печ.* Магуны Паст.

ПАДЦЁЛАК *м.* Пярэзімак. *Падцёлак гладкі, хоць зіму ў хляве стаяў.* Беразіно Докш.

ПАДЦІ'СКАВАЦЦА *незак.* Шчыльна прымацоўвацца. *Засаўка падціскаваяцца.* Быстрыца Астр.

ПАДЦІСКА'ЦЬ, ПАТЦІСКА'ЦЬ *незак.* Рабіць умяціны вакол буханкі. *Пяклі даўгаватыя булкі і патціскалі іх пальцамі.* Дакудава Лід.

ПАДЧАРО'ВАК *м.* Падчарэўе. *Падчаровак сабе пакінула, а рэшту дзецям у горад адаслала.* Пацаўшчына Дзятл. *У першую чаргу здымаюць падчаровак, а пасля выразаюць грудзінку.* Альхоўка Навагр. *С кабана шэсць сланін выходзіць і патчаровак.* Дакудава Лід.

ПАДЧАРО'ЎЕ, ПАДЧАРЭ'ЎЁ, ПО'ЧЧЭРОВЕ *н.* Тое ж, што і п а д ч а р о́ в а к. *Сала знізу — падчароўе.* Пасека Ст.-Дар. *Падчарэўё — знізу сала.* Малахоўцы Бар. *О, кажа, на маё почэрове, которо сыто, а которо худое.* Баброўнікі Гарад.

ПА'ДЧЫРКА *ж.* Падчарыца. *Падчырка ад іх пайшла.* Ухвала Круп.

ПАДШТА'НІКІ, ПАТШТА'НІКІ толькі *мн.* Кальсоны. *Падштанікі як палошчыш, гоніць вадой.* Саланое Віл. *Падштанікі ў мушчызнаў. Патштанікі — споднія.* Солы Смарг.

ПАДШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Расшчапіцца. *Падшчапіўся капыт у каровы, гніець.* Беразіно Докш.

ПАДШЫ'ТЫ *дзеепрым.* ◇ *Падшыты ветрам* — легкадумны. *Ён разадзеты, алі ветрам падшыты, на ім скура гарыць.* Малі Астр.

ПАДШЭ'ЎКА, ПАТШЭ'ЎКА *ж.* Падшыўка. *Трэба падшэўку другую, палезла.* Солы Смарг. *Нажутка шылася з баю і на падшэўцы была.* Магуны Паст. *Падшэўка новая падшыта.* Грыкені Вільн. *Патшэўку трэба прышыць, а то абарвалася знізу.* Альба Нясв.

ПАДЫЙСЦІ' *зак.* 1. Падысці. *Падэйдзеш, увесь пень абсоджаны апенкамі.* Ухвала Круп. 2. Надысці (пра час). *Ужо гады падышлі, ужо восемдзесят два гады.* Дзераўное Стаўб. 3. З'явіцца. *Мне апэтыт падыйшоў.* Руднікі Шальч.

ПАДЫЛЕ'ЦЬ, ПАДЫЛІ'ЦЬ *зак.* Пацерушыць. *Дожджык падылеў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пароша, як сняжок падыліць увосень маленькі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАДЫМА'ЦЦА *незак.* 1. Узыходзіць (пра сонца). *Падымаецца слонца.* Швэды Вільн. 2. Надыходзіць. *Туча пады-*

*маяцца.* Магуны Паст. ◊*Падымацца на дубы́*—стаць дыбам. *Конь на дубы падняўся с пугу.* Пасіене Лудз.

ПАДЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п а б і р а́ ц ь. *Падымаюць лён, як выляжыцца.* Лоск Валож. *Сцялілі лён, тады падымалі.* Малі Астр. 2. Выпрамляць, адкінуўшы зямлю (пра расліны пасля апрацоўкі плугам). *Пайду бульбу падымаць.* Вострава Маст. ∇ *Стаіць у кутку ком, што ні падыміць і конь — печ.* Саланое Віл.

ПАДЫ'МКІ *мн.* Падыманне. *Трэба асцерагацца з падымкамі, не паднімаць цяжка.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАДЫ'СПАДАМ, ПАДЫСПО'ДАМ *прысл.* Падыспадам. *Шворан усаджаны падыспадам воза.* Дакудава Лід. *Другі ліст халодны, падыспадам белы* [у падбела]. Пацаўшчына Дзятл. *Зажнуць снапок, яго ў гумне першы ложыцца, на яго снапэ, ён паследні малоціцца — ён падысподам.* Малахоўцы Бар.

ПАДЫХА'ЦЬ *незак.* Павяваць. *Вецярок падыхая.* Вострава Маст.

ПАДЫХО'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і п а д х о́ д н ы II. *Падыходныя блінэ на кіслым малацэ і содзе.* Кіралі Шчуч.

ПАДЭ'ШВА *ж.* 1. Ніжняя частка абутку пад ступнёй. *На дзеравяннай падэшве хадзіла.* Гальшаны Ашм. *Падэшву падбі.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і п а д а ш в а́. *Падэшвы баляць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Падэшву пракалоў, няможна ісці. Коліцца ў падэшвы.* Ёдлавічы Брасл. *Баляць падэшвы— многа папахадзіў.* Альба Нясв. *Падэшвы баляць.* Дзяніскавічы Ганц. *Падэшва пашчапалася.* Сакаляны Сакол.; *параўн.* польск. *podeszwa* 'тж'.

ПАД'Ю'ДЗІЦЬ *зак.* Падгаварыць, падбухторыць на што-н. *Бабы пад'юдзяць.* Магуны Паст. *Пад'юдзіць хоча мяне.* Крэва Смарг. *Пад'юдзіў яе.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* польск. *Judzić* 'дражніць, цкаваць, падбухторваць' (Фасм., IV, 528).

ПАД'Я'ДАЦЬ *незак.* Наядацца. *Ранняй вясной каroўкі ні пад'я́даюць.* Альхоўка Навагр.

ПАД'ЯЛЕ'НЕЦ *м.* Ядловец. *Лыка дралі з ліпы, лазы, з пад'яленцу.* Асавец Віл.

ПАД'ЯЛО'ВІЦ *м.* Тое ж, што і п а д'я л е́ н е ц. *Пад'яловіц расцець.* Саланое Віл.

ПАД'Я'СНІВАЦЦА *незак. метэар.* Раз'яснівацца (пра пагоду). *Пад'яснівaіцца, мога пагода будзіць.* Саланое Віл. *Пад'яснівaіцца, будзіць пагода.* Груздава Паст. *Пад'яснівaецца, можа разжэня па палудню.* Мсцібава Ваўк.

ПАД'Я'СНІЦЦА *зак. метэар.* Раз'ясніцца (пра пагоду). *Пад'яснілась — марос будзіць.* Лоск Валож.

ПАЕДЫ'НЧЫ *прым.* Азіночны. *Гэта паедынчыя кросны, а гэта падвуйныя.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *pojedynczy* 'тж'.

ПАЕ'ЖДЖАЦЬ *зак.* Паездзіць. *Паежджае, паежджае і абедае.* Солы Смарг. *Узялі паежджалі па санажаці.* Жылі Іўеў.

ПАЕНДЫ'НЧА *прысл.* Па аднаму. *Тэрас паендынча выяжджалі.* Паляцкішкі Воран.; *гл.* паедынчы.

ПАЕ'РКА *ж.* Круглы чыгунны кружок, якім закрываецца адтуліна ў пліце. *Паеркі — гэта крушкі ў пліце.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *fajerka* 'тж'.

ПАЕ'СЦІ *зак.* 1. Пад'есці. *Рана як паеў, то вечарам ня хочацца есці.* Жылі Іўеў. *Я ўжо паела.* Альхоўка Навагр. 2. З'есці пэўную колькасць чаго-н. *Хай дзет паесць.* Паляцкішкі Воран. *Хадзі, можа паядзём?* Малі Астр. *Міша, хадзі паямо кашы.* Кіралі Шчуч. *Яна была грыбоў паела, ад грыбоў ёй стала.* Альхоўка Навагр. *Паеў бы бурачкоў трохі.* Паляцкішкі Воран. 3. *перан.* Пашкодзіць. *Малання паесь арэхі.* Валынцы В.-Дзв. *Гавораць — маланка паела каласы.* Ністанішкі Смарг.

ПАЕ'ХАЦЬ *зак.* Паехаць. *Я ў Вільнюс паехала — там васалей.* Гальшаны Ашм. *У Нясвіж паехаў, можа купіць парасята.* Альба Нясв.

ПАЁДЗГАЦЬ *зак. экспр.* Пабаранаваць абы-як. *Думаеш, ён пабарануе? Паёдзгае і ўсё.* Сасноўка Смарг.

ПАЁНКІ *мн.* Упрыгожанне з саломы ў выглядзе павука. *Я паёнкі раблю с саломы жытняй.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *pająk* 'павук'.

ПА'ЖА *ж.* Паша. *Ву можаце с пажы ехаць на дарогу. На пажы здохла карова.* Кузьмічы Люб.

ПАЖА'БІЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а б á б і ц ц а. *Пажабіліся рукі, бялізну мыла.* Саланое Віл.

ПАЖА'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Няроўны, з выпукласцямі. *Касу білі на бапцы. Пры няўмелым кляпанні пажаблена каса.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАЖАБРАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Папрасіць. *Пайду пажабрую перцу.* Альхоўка Навагр.

ПАЖАГА'Ч *м.* Прут. *Добра, што нашла пажагач, я гэты пажагач у рукі і пажагачом баранілася і адбіла сабакі. Калі гэтым пажагачом выжагала кáчара, ён бы ніколі не пашоў да гусей.* Кіралі Шчуч.

ПАЖАЛЕ'ЦЬ *зак.* Пашкадаваць. *Матка пажалея дзіця адняўшы, другі раз грудзю дасць, то той будзя ўракаць. Бедны чалавек — можна і пажалець.* Малі Астр. *Пажалелі народу.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Пажалеў воўк кабылу, аставіў хвост ды грыву.* Ухвала Круп.

ПАЖА'ЛІЦЦА *зак.* Паскардзіцца. *Яна пажаліцца мне. Каму яна пажаліцца?* Саланое Віл. *Набілі хлапчукі малую, а яна пажалілася бацьку.* Карцэвічы Нясв.

ПАЖАНІ'ЦЦА *зак.* 1. Уступіць у шлюб (пра мужчыну і

жанчыну). *Пажаніліся Новым годам.* Кураполле Паст. 2. Ажаніцца (пра ўсіх, многіх). *Сыны абодва пажаніліса.* Парэчча Гродз.

ПАЖАРНЯ′ *ж. бат.* Шматгадовая расліна сямейства злакавых з суквеццем у выглядзе мяцёлкі, коласа. *Пажарня цвіціць веткай, як ячмень, ядуць коні, каровы. Пайду адкашу пажарню.* Мішневічы Шум.

ПАЖА′РЫСКА, ПАЖА′РЫ′СКО, ПАЖА′РНІСКО *н.* Тое ж, што і п а г а́ р ы с к а. *Згарэла хата, толькі асталося пажа́рыска.* Кіралі Шчуч. *Згарэў будынак, пажа́рыско асталося.* Вялікія Баяры Шчуч. *Згарэла гумно, згарэла арфа, сячкарня, лом ляжыць на пажары́ску.* Гемзы Шальч. *Пажары́ско, пажа́рніско — дзе хата згарэла.* Мсцібава Ваўк. *На пажары́ску ўгалі і попел.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЖА′РЫ′ШЧА, ПОЖАРЫ′ШЧЭ, ПАЖА′РНІШЧА *н.* Тое ж, што і п а г а́ р ы с к а. *Жылі мы на пажа́рышчы.* Руда Яварская Дзятл. *Пажа́рышча засталося.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пажары́шча — дзе выгарэў лес.* Пацаўшчына Дзятл. *Пожары́шчэ од войны.* Азарычы Пін., Сіманавічы Драг. *Пажа́рнішча — месца, дзе згарэў будынак, дзе быў пожар.* Альхоўка Навагр.

ПАЖА′ЦЬ *зак.* Зжаць. *Пажалі жыта, пшаніцу.* Альба Нясв. *Дажынкі рабілі, калі пажнуць.* Старыя Трокі Трак.

ПАЖДА′ЦЬ, ПАЖДА′ЦІ, ПОЖДА′ЦІ, ПОЖДА′ТЭ *зак.* Пачакаць. *Пажджы трохо. Пажджэш і пойдзяш.* Стральцы Гродз. *Пажджы мяне, пастой!* Навасёлкі Свісл. *Пажджы тро́хо, прыдзя.* Крынкі Крын. *Паждаці трэба. Пажджэце, не выганяйце гусі.* Вялікі Краснік Пруж. *Посэдзе́тэ, мэне́ пожджэ́тэ.* Смаляніца Пруж. *Чы пожды́тэ, коб вонэ̂ прышле́.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* руск. *пождать* ’тж’.

ПАЖЛУБІНЯ′ЦЬ *зак. экспр.* Перакусіць. *Трошкі пажлубіняйця.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *žlĕbanoti* ’тж’.

ПАЖМА′ЦЬ *зак.* Памыць бялізну. *У цёплай вадзе пажмаў, пажмаў і выняў.* Граўжышкі Ашм.

ПАЖМЯ′КАНЫ *дзеепрым.* Раструшчаны. *Ляжаць косці пажмяканы.* Крэва Смарг.

ПАЖНЯВЫ′ *прым.* Сухадольны. *Лугавая трава лучшы, пажнявую траву скот ня будзіць так есці, як лугавую.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЖО′НДАК *м.* Парадак. *Кап пажондак быў.* Старое Сяло Зэльв. *Пажондак добры быў у яе на вяселі.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *porządek* ’тж’.

ПАЖУ′ПІЦЬ *зак.* Пагаварыць. *Пасядзелі б у нас, пажупім з вамі.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЖУ′ХЛЫ *прым.* Жухлы. *Пажухлыя лісця.* Масюкоўшчына Мін.

ПАЖЫ'ВА *ж.* Корм. *Німа курам пажывы, тут сеюць рамашку.* Кіралі Шчуч.

ПАЖЫВЕ'НЯ *н.* 1. Тое ж, што і п а ж ы в а. *Зайшоў дахаты, не пажывіўся, не далі яны яму, не было пажывеня яму.* Гемзы Шальч. 2. Лоўля. *Пашла ваўчыца на пажывеня, а ваўчанята асталіся ў нарэ.* Кіралі Шчуч. *Пашоў воўк на ўловы, пашоў на пажывеня.* Гемзы Шальч. *Ваўчыца ходзіць на пажывеня.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *pożywienie* 'тж'.

ПАЖЫВІ'ЦЦА *зак.* 1. Здабыць (пра ежу). *Як пашла, то і пажывілася.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Паласавацца. *Дайця троха пажывіцца.* Дакудава Лід.

ПАЖЫВІ'ЦЬ *зак.* Накарміць. *Зайшлі да бабы, якая нас пажывіла.* Гальшаны Ашм.; *параўн.* польск. *pożywić* 'тж'.

ПАЖЫГА'ЧЫК *м. памянш.* да п а ж а г а́ ч. *У міне такі пажыгачык добры з гарэшыны, тры разы пацягну, то забаліць.* Кіралі Шчуч.

ПАЖЫ'ЛІНА *ж.* 1. *буд.* Кладзь. *Пажыліна, на яе чапляюць шпары.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пажыліна — браўно, якое кладзецца на вяршыну крышы.* Груздава Паст. *Пажыліна кладзецца на дзет.* Курапольё Паст. 2. *ткац.* Шнурок, які прывязваецца да канцоў дошчачак, што раздзяляюць скрыжаванне нітак асновы («чыны»). *Пажыліна ў кроснах, каб чыноўка не выехала вон.* Лісна В.-Дзв.

ПАЖЫ'ЛЫ *прым.* Тое ж, што і п а д ж ы л ы. *Пажылая баба.* Старыя Смільгіні Воран. *Пажылы чалавек.* Міратычы Карэл. *Бацька пажылы быў.* Лоск Валож. *Пажылая дзеўка.* Парэчча Гродз.

ПАЖЫ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і п а ж ы л і н а 1. *Пажыльнік — бервяно, якое кладуць на сохі.* Беразіно Докш.

ПАЖЫНА'ЦЬ *зак.* Пажаць нейкі час. *Нядзелю пажынаем.* Быстрыца Астр. *Бульбашніку зяцю пажынала.* Асавец Віл. *Пайду з дзеўкамі пажынаю.* Вецярэвічы Пух.

ПАЖЫ'НЬКІ толькі *мн.* Дажынкі. *Пажынькі робім: высока сажнуць, звяжуць саломай, кветку ўложаць — і спявалі.* Малькуны Ігн.

ПАЖЫ'ТАК *м.* Пажыва. ∇ *Які дзень, такі пажытак.* Саланое Віл.

ПАЖЫ'ЦЬ *зак.* Пабыць нейкі час. *Пажыві тут, я скора прыду.* Навасёлкі Свісл.

ПАЖЫ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Пазычыць каму-н. *Пажыч мне тры рублі.* Альба Нясв. *Мама, пажыч грошай.* Старыя Трокі Трак. 2. Узяць у каго-н. у доўг. *Яна пажычыла ў яе грошы, ды не аддае.* Малі Астр. *Яны ні маюць дзе пажычыць грошы.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *pożyczyć* 'тж'.

ПАЖЭ'ГАЦЦА *зак.* Апячыся (крапівою). *Так пажэгалася крапівою, аш пякла, пажэгала сярэдзіну.* Кіралі Шчуч.

ПАЖЭ′НЯНЫ *дзеепрым.* Жанаты. *У яе сыны пажэняны.* Малахоўцы Бар.

ПАЖЭ′РҐАЦЬ *зак. экспр.* Прайсці. *Пажэрґаў бальшымі шагамі.* Малі Астр.; *гл.* ж э́ р ґ а ц ь.

ПАЗ, ПАС *м.* 1. Прадаўгаватае паглыбленне ў чым-н. *Гоняць сок бярозавы, кляновы, то прадзіраюць пáзы.* Малахоўцы Бар. *Есць такі разец, выразалі пазы.* Чуркі Ашм. *У вянцах робяцца пазы і закладаюцца бярвеня.* Гальшаны Ашм. 2. Шрам. *Бадушча карова пáза выдрала на баку.* Навасёлкі Свісл.

ПА-ЗА *прыназ.* з *месн.* Ужываецца для абазначэння месцазнаходжання, руху або дзеяння па той бок чаго-н. *Стаю па-за парозі. Па-за гумнах паедзем. Па-за кладбішчы сдзеланы плыт. Па-за кары сок разліваецца ў дрэве.* Руднікі Шальч.

ПАЗАБІРА′ЦЬ *зак.* Забраць (усіх, многіх). *Кароў, свіней пазабіралі немцы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЗАВЕ′СІЦЬ *зак.* Занавесіць (усё, многае). *Вокна пазавесяць.* Кемялішкі Астр.

ПАЗАВІ′ДАВАЦЬ *зак.* Пазайздросціць. *Трэба прыбрацца, хадзіць у чыстым, каб вам людзі пазавідавалі.* Солы Смарг.; *параўн.* руск. *позавидовать* 'тж'.

ПАЗАГАДО′ЎВАЦЬ *зак.* Адрасціць (пра валасы). *Ціпер усе пазагадоўвалі валасы.* Мсціба́ва Ваўк.

ПАЗАГАНЯ′ЦЬ *зак.* Загнаць. *Пазажану карову і грыбоў дваццаць — трыццаць назбіраю.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЗАГА′РВАЦЬ *зак.* Загарэць (пра ўсіх, многіх). *Прыяжджаюць з Ліды — і на гак, пазагарваюць.* Дакудава Лід.

ПАЗАГО′РВАЦЬ *зак.* Заараць (усё, многае). *Пазагорвалі, німа дзе пасвіць.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЗАГУМЕ′ННЕМ, ПАЗАГУМЕ′ННЮ, ПАЗАГУМЕ′НЬЮ *прысл.* За гумнамі. *Ехаў пазагуменнем.* Мачаск Бярэз. *Пазагуменню побег.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ішоў пазагуменью.* Міратычы Карэл. *Пазагуменью пасе каровы.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЗАГУ′МЯНЯ *н.* Загуменне. *Пазагумяня — дарога за гумнамі, па ёй вязуць у гумно.* Малахоўцы Бар.

ПАЗА′ДДЗЯ, ПАЗА′ДЗЯ, ПАЗА′ДЗЕ *зб. н.* Пазадкі. *Пазаддзя — дробные пушчэйшые зерні.* Саланое Віл. *Пазаддзя — як малоцяць.* Груздава Паст. *За пазаддзем ляжала палова.* Лука Нараўк. *Пазадзя курам даюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калі веялі, самая мелкая — пазадзя.* Асавец Віл. *Пазадзе — лёгкое зерне, смецце, зелле. Пазадзе — насеня з зеля і дробныя зярнята шло курам і свіням на кармы.* Альхоўка Навагр.

ПАЗА′ДКІ, ПАЗА′ТКІ, ПОЗА′ДКІ толькі *мн.* Тое ж, што і п а з á д д з я. *Пазадкі — слабыя зёрнушкі.* Пасека Ст.-Дар. *Курам пазаткі.* Рыбчына Віл. *Пазаткі астаюцца, як веюць*

*збожа, самае благое збожа — пазаткі.* Альхоўка Навагр. *Пазаткі пры малацьбе ляжаць бліска.* Палік Барыс. *Позадкі — пустэе зерне.* Хатынічы Ганц.

ПАЗА'ДНОЕ *н.* Тое ж, што і п а з а́ д д з я. *Як веялі, дробныя адходы — пазадное.* Мачаск Бярэз.

ПАЗАДЫХА'ЦЦА *зак.* Задыхнуцца без паветра (пра ўсіх, многіх). *Шчукі пазадыхаліся.* Быстрыца Астр.

ПАЗАЛІВА'ЦЦА *зак.* Утапіцца (пра ўсіх, многіх). *Многа ў возіры нашым пазалівалася.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПА'ЗАЛКІ, ПАЗО'ЛКІ толькі *мн.* 1. Луг. *Пазалкі з попелу без мыла.* Рыбчына Віл. *Зложвалі плацця ў жлукта, сыпалі попел і лілі вар, і цеклі пазолкі; так зolілі плацця.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Вада пасля мыцця бялізны. *Пазалкі, як плацця мыюць.* Рудня Чэрв. *Пазалкі выносілі на сметнік.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пазалкі выліла.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЗАЛО'НІ *прысл.* Пазалетась. *Пазалоні дачка з цаліны прыяжджала.* Вострава Маст.

ПАЗАЛУ'ПВАЦЬ *зак.* Падняць уверх (усё, многае). *Пазалупалі каровы хвасты.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЗАМА'РЫВАЦЦА *зак.* Змарыцца (пра ўсіх, многіх). *Сягоння людзі пазамарываліся.* Лоск Валож.

ПАЗАНАВО'ЗЗЮ *прысл.* Тое ж, што і п а з а г у м е́ н н е м. *Ішоў пазанавоззю.* Міратычы Карэл. *А ён бег пазанавоззю.* Альхоўка Навагр.

ПАЗАПАЛІ'ЦЦА *зак.* Загарэць. *Вы пазапаліліся ў нас.* Быстрыца Астр.

ПАЗАПАМІНА'ЦЬ *зак.* Забыць (усё, многае). *Пазапамінаў я ўсё, што па-беларуску гаварылі.* Відаўцішкі Вільн. *Я цяпер дужа пазапамінаў.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *zapomnieć* 'тж'.

ПАЗАПІНА'ЦЬ *зак.* Занавесіць (усё, многае). *Вокны пазапіналі і сядзелі.* Вецярэвічы Пух.

ПАЗАПЛЕ'ТАЦЬ *зак.* Заплесці (усё, многае). *Пазаплетаюць косы дзеўчаткі.* Альхоўцы Лях.

ПАЗАПЛЮСКА'ЦЬ *зак.* Пазаплюшчваць. *Пазаплюскаюць вочы, кругá сталá стаяць.* Курaполле Паст.

ПАЗАРАСТА'ЦЬ, ПАЗАРО'СТАЦЬ *зак.* 1. Зарасці якой-н. расліннасцю. *У гародзі пазарастала.* Саланое Віл. *Лясы пазарасталі.* Альхоўка Навагр. *Пазаростала бульба.* Вецярэвічы Пух. *Картопля пазаростала.* Кузьмічы Люб. *Быў у нас млін вадзяны, цяпер там пазаростала. На магілках пазаростало ўсё.* Малахоўцы Бар. 2. Зацягнуцца абалонкай, зажыць, зарубцавацца. *Вушы ў мяне паколаныя, я завушніцы ні нашу, вушы пазарасталі.* Малахоўцы Бар.

ПАЗАСТАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Пакінуць (усё, многае). *Пазастаўлялі землі і выехалі.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *pozostawić* 'тж'.

ПАЗАТАКРО'К *прысл.* Тое ж, што і п а з а л о́ н і. *Пазатакрок прыяжджаў сын у госці.* Вострава Маст. *Пазатакрок.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гэта было пазатакрок.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *rok* 'год'.

ПАЗАТАКРО'ШНІ *прым.* Пазапрошлы. *Пазатакрошні год прадаў я карову.* Галубы Маст.

ПАЗА'ТКІ *гл.* ПАЗА'ДКІ

ПАЗАЎГО'ЛЛІЮ *прысл.* За вугламі. *Лынды біць пазаўголлю.* Якубова Рас.

ПАЗА'ЎТРА *прысл.* Паслязаўтра. *Зробіш — на пазаўтра будзе.* Крэва Смарг. *Пазаўтра прыедзя ўпраўляючы* [саўгаса]. Ракаўскія Швянч.

ПАЗА'ЎТРАМУ *прысл.* Тое ж, што і п а з а́ ў т р а. *Пазаўтраму паедзяш.* Асавец Віл.

ПАЗАЎЧО'РА *прысл.* Два дні назад. *Пазаўчора мядзвéдзя бачыў.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЗАХІ'ЛІВАЦЬ *зак.* Зазубіць (усё, многае). *Узяла пазахілівала касу.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *chylić* 'нахіляць, схіляць'.

ПАЗАХО'ДЗІЦЬ I *зак.* Азябнуць. *Пазаходзілі рукі с пáры.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЗАХО'ДЗІЦЬ II *зак.* Выйсці замуж (пра ўсіх, многіх). *Пазаходзілі замуш залоўкі.* Саланое Віл.

ПАЗАЦЯГА'ЦЬ *зак.* Уцягнуць. *Мая дзеўка пазацягала завушніцы.* Малахоўцы Бар.

ПАЗАЦЯКА'ЦЬ *зак.* Стаць тонкім, кволым. *Пазацякаюць буракі ў зеллі.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЗБЕ'РАЦЬ *зак.* Пазбіраць. *Пазберам усе грыбы.* Ністанішкі Смарг.

ПА'ЗБІСКО, ПА'ЗВІСКА *н.* Тое ж, што і п á ж а. *На пазбіску каровы ходзяць.* Галубы Маст. *Пазбіско ў нас добрая.* Альхоўка Навагр. *Пазвіска ў нас німа.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *pastwisko* 'тж'.

ПА'ЗБІШЧА, ПА'СБІШЧО, ПА'ЗВІШЧА *н.* Тое ж, што і п á ж а. *Кароў пагналі на пазбішча.* Пасека Ст.-Дар. *Пазвішча далёка.* Крэва Смарг. *На пасбішчо жануць карові.* Малахоўцы Бар. *Пазвішча — дзе кароў пасуць.* Чуркі Ашм.; *парайн.* руск. *пастбище* 'тж'.

ПАЗВАЛЯ'ЦЬ *незак.* Дазваляць. *Бацькі не пазваляюць, кап ён з ей гуляў.* Курапалле Паст.

ПАЗВА'ЦЬ *зак.* 1. Паклікаць. *Пазаві, дык ён і прыдзіць.* Груздава Паст. *Пазвеш яго ў хату.* Жылі Іўеў. *Ідзі пазві, нехай прыдзіць.* Лоск Валож. *Пазвуць хлопцы, ён і пабяжыць.* Старыя Трокі Трак. *Пазвалі цівуна.* Грыкені Вільн. *Нада пазваць у хату іх.* Малькуны Ігн. 2. Запрасіць куды-н. *Нада дзядзьку Міхала пазваць у госці.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЗВО'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Звесціся (пра ўсіх, многіх).

*Былі коні добрыя ў нас. За вайну пазводзіліся.* Заполле Гродз. 2. Перастаць ужывацца. *Пазводзіліся скарачы.* Гемзы Шальч.

ПАЗВО'ДЗІЦЬ *зак.* Знішчыць (усё, многае). *Пазводзілі лясы і німа гэтулькі птаства.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЗВО'ЛІЦЬ *зак.* Дазволіць. *Толькі пазволь, дык я буду карміць і карміць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПА-ЗВЯРЫ'НСКІ *прысл.* Заўзята. *Крэпка рабілі дайней, па-звярынскі рабілі.* Саланое Віл.

ПАЗДАРО'ЎКАЦЦА *зак.* Прывітацца. *Паздаройкаецца са мной.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна паздаройкалася і села.* Граўжышкі Ашм. *Паздаройкаліся дзеці.* Солы Смарг. *Паздаройкацца трэба.* Пасека Ст.-Дар. *Юрка паздаройкаўся са мною.* Вецярэвічы Пух.

ПАЗДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Здзельная работа. *Паздзельніцу эту робіць — хужэ німа.* Хатынічы Ганц.

ПА'ЗДЗЕРКІ толькі *мн.* Дубцы, расшчэпленыя на дзве часткі, з якіх плятуць кашы. *Нагатовіў паздзеркаў на кош.* Мсцібава Ваўк.

ПАЗДРА'СТВАЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а з д а р о́ ў к а ц ц а. *Ці паздраствайся ты?* Саланое Віл.

ПАЗДРАЧЫ'ЦЬ *зак.* Утварыць гукі, падобныя на гудзенне аваднёў. *Паздрачы на каровы, і яны пашлі.* Вецярэвічы Пух.

ПАЗДРЫКОВА'ТІ *незак.* Біць. *Як не будэш слухатісе, то буду тэбэ паздрыковаті.* Курашэва Чыж.; *гл.* д р а ч ы́ ц ь.

ПАЗДУМО'ЎВАЦЬ *зак.* Успомніць. *Усе не паздумойваеш.* Альхоўка Навагр.

ПАЗЕ'МКІ, ПАЗЁМКІ, ПАЗЮ'МКІ, ПОЗІ'НКІ *мн. бат.* Суніцы. *Паземкі маленькія.* Груздава Паст. *Па паземкі хадзілі.* Мярэцкія Глыб. *Пайдзём паземак набяром.* Кіралі Шчуч. *Паземкі ў нас растуць у лесі, красненькія.* Солы Смарг. *Паземкі — аж бела цвету!* Плябанцы Ашм. *Паземкі на пасецы растуць.* Гальшаны Ашм. *Мы паземкі збіралі, і мяне гадзіна была ўкусіўшы за костачку.* Малі Астр. *Ест паземкаў, брушніцаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Паземкі паспелі.* Галоўні Воран. *Паземкі ў нас растуць.* Альхоўка Навагр. *Паземкі тут растуць.* Гемзы Шальч. *У лесі, дзе лонка, можне пазёмкі збіраць.* Кіралі Шчуч. *Пазёмкі збірала.* Чычалі Швянч. *Пазёмкі чырвоныя.* Грыкені Вільн. *Пазюмкі, але мала іх есць.* Малькуны Ігн. *Позінкі ест.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* польск. *poziomka* 'тж'.

ПАЗЕ'МНІК *м.* Сунічнік. *На паземніку растуць паземкі.* Кіралі Шчуч.

ПА-ЗІМО'ВАМУ *прысл.* Па-зімоваму. *Я па-зімоваму адзелася.* Жыдзевічы Іўеў.

ПАЗІ'ЦЬ *незак.* Пазаваць. *Пазіць нада шулі.* Скрудалена Даўг.

ПАЗЛАМА'ЦЬ *зак.* Паламаць (усё, многае). *Сады цвіцяць — праз дзярэўню прайдзёш, а патом сады паспілілі, пазламалі.* Скрыпчына Лудз.

ПАЗЛЮ'ЗНУЦЬ, ПАСЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Пакрыцца слізззю. *Паслюзлі агуркі ў боццы, паплесняли.* Альба Нясв. *Пазлюзнуць яблыкі; паслюзлі на печы.* Гемзы Шальч.

ПАЗЛЯТА'ЦЬ *зак.* Зляцець (пра ўсіх, многіх). *Пазляталі куры з седала.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЗМІРА'ЦЬ *зак.* Паўміраць. *Усе пазміралі.* Рыбчына Віл. *Пазміраць могуць пчолы.* Нізок Уздз. *Братоў няма, усе пазміралі.* Гальшаны Ашм. *Пазміралі старыя.* Быстрыца Астр. *Усе старыя людзі пазміралі ў нашай вёсцы.* Саланое Віл. *Калісьці ў мамы нашай усе дзеці пазміралі.* Ністанішкі Смарг. *Пазміралі дзеткі малыя.* Солы Смарг. *Даўней часта на ціф хварэлі, пазміралі мушчыны.* Міратычы Карэл.

ПАЗМЫВА'ЦЬ *зак.* Змыць (усё, многае). *Улеўны дошч, так уліў, што пазмывала гарот.* Малі Астр.

ПАЗНА'ЦЦА *зак.* Пазнаёміцца. *Раскажу, як з бацькам вашым пазналася.* Курапалле Паст. *Яны ў Лідзя пазналіся.* Старыя Смільгіні Воран. *Перад вайной яны пазналіся.* Снягяны Смарг. *Пазналася з ім і пашла замуш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яны пазналіся там, у горадзі, і пажаніліся.* Кіралі Шчуч. *Пазнайся ён там з ёю.* Альхоўцы Лях. *Паехалі і пазналіся, ён быў дружбанта, а яна — друшкай.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *poznanie* 'знаёмства'.

ПАЗНА'ЦЬ *зак.* 1. Прызнаць у кім-н. знаёмага. *Ён пазнаў і ні ўдаў.* Гальшаны Ашм. *Я не пазнала яго, а Васіль пазнаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Там і не пазнаеш яго.* Гемзы Шальч. ▽ *Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў.* Малі Астр. 2. Распазнаць па якіх-н. прыкметах што-н. *Ён можа пазнаць слет яго.* Міратычы Карэл. *Не пазнаеш, што ён выпіў.* Гемзы Шальч. 3. Узяць за жонку. *Ён быў у горадзе і там масквічку пазнаў.* Жылі Іўеў. 4. Атрымаць уяўленне аб чым-н. *Пазнала, што такоя почта.* Быстрыца Астр.

ПАЗНА'ЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць метку. *Ляснічы пазначыў, каторыя* [дрэвы] *рубіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ты пазначыла свайго барана?* Малькуны Ігн.

ПАЗНО'ГАЦЬ, ПАЗНО'ГЕЦЬ, ПАЗНО'ГЭЦЬ, ПАЗНО'КАЦЬ, ПАЗНО'ХАЦЬ *м.* Тое ж, што і п а д н о́ г а ц ь. *Адзін пазногаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пазногаць зганяіць.* Магуны Паст. *Аж пазногці пазалуплівай.* Гемзы Шальч. *Пазногець на пальцу. Жывец каля пазногця.* Старыя Смільгіні Воран. *Пазногэць зрэзаў.* Воўкуш Ліпск. *Стрэмку загнала ў пазнохаць.* Беразіно Докш. *Пазнохці — дзе не абразаюцца.* Солы Смарг. *Пазуры і пазнокці на нагах.* Малькуны Ігн.

ПАЗНО'СІЦЬ *зак.* Пазрываць. *Сільныя вятрэ былі, пазносілі цвет.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЗНЯЧКО′М *прысл. экспр.* Позна. *Учора мой пазнячком пабех і рыбы налавіў.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПАЗО′ЛКІ *гл.* ПА′ЗАЛКІ

ПАЗО′РВАЦЦА *незак.* Раз'юшвацца. *Была курыца, што пазорвалася і біла куранят.* Старое Сяло Зэльв.

ПАЗО′РНЫ *прым.* Які непрыстойна сябе паводзіць. *Пазорны — некультурны, злодзяй, гуляшчы.* Альхоўка Гродз.

ПАЗРЭ′ПЦЫ толькі *мн.* Пачаскі. *Калі чэшуць на танчэйшыя цвікі,— гэта пазрэпцы.* Дакудава Лід.

ПАЗУ′БІЦЦА *зак.* Прарасці. *Пазубіліся гуркі.* Дакудава Лід.

ПАЗУ′Р *м.* 1. Кіпцюр. *Пазур велькі.* Міратычы Карэл. *Пазуры ў птушкі.* Дакудава Лід. *Кот пазуром гадрапаў мне руку.* Карцэвічы Нясв. *У курэй пазуры. Каршун дзярэ пазурамі.* Гемзы Шальч. *Куры драпаяць зямлю пазурамі.* Ліпнікі Вільн. *Пазурэ ў птушок.* Лука Нараўк. *Пазурэ ў ката.* Сакаляны Сакол. 2. Тое ж, што і п а д н о́ г а ц ь. *Абрэжи свае пазуры.* Ёдлавічы Брасл. *Пазур атлупіўся.* Старыя Смільгіні Воран. *Пат пазурамі гразна, хоць бульбу садзі.* Жылі Іўеў. *Пазурэ выраслі.* Вострава Маст. *Пазурэ на пальцах.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пазурэ адгадавай велькія.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *pazur* 'кіпцюр'.

ПАЗУРКІ′ *мн. памянш.* да п а з у́ р 1. *Гэта — лапкі, пазуркі — у канцы.* Чуркі Ашм.

ПА′ЗУХА *ж.* Частка кашулі, якая закрывае грудзі; грудзіна. *Пазуху дзярэ: «Давай грошы!»* Дакудава Лід. *Сарочкі шылі, абшэўкі накладалі на паркалёву пазуху.* Малахоўцы Бар. ◊ *Як у бога за пазухай* — бесклапотна. *Сядзіць, як у бога за пазухай — чаму яму нядобра!* Малі Астр.

ПАЗЫВА′ЦЬ *зак.* Запрашаць у госці. *Мяне пазывалі, як у каго свадзьба.* Чуркі Ашм.

ПАЗЫ′ЧЫЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і п а ж ы́ ч ы ц ь 1. *Я пляменіку пазычыла грошы, а ён не аддаець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пазычыла суседу грошы, а ён і хвастом накрыўся, у той бок не глядзіць.* Малі Астр. *Яна дзесяць кагеек не пазычыць.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і п а ж ы́ ч ы ц ь 2. *Хустачку пазычыла, сваёй ня мела.* Саланое Віл. *Пазычыла грошы і ня адносіць.* Жодзішкі Смарг. ∇ *Людзі кажуць: як пазычыць — саколі вочы, як аддаваць — савіны вочы.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *У сабакі вочы пазычыўшы* — згубіць пачуццё сораму. *Што я пайду вочы ў сабака пазычыўшы?* Саланое Віл.

ПАЗЮ′МКІ *гл.* ПАЗЕ′МКІ

ПАЗЯ′БЛІЦЬ *зак.* Узараць пад зябліва. *Ужэ пазябліў ён на зіму.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЗЯВА′ЦЬ *незак.* Зяваць. *Нешта ёсць у вашай кнішкі соннага: як вазьму — сразу пазяваю.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *poziewać* 'тж'.

ПАЗЯМЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а з я́ б л і ц ь. *Увосянь хазяін зямлю пазямліць.* Малахоўцы Бар.

ПАЗЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Паазярэдзіць. *Трэба жыта пазярэдзіць. Гарох пазярэдзіла.* Мачаск Бярэз. *Пазярэдзіць гарох, снапы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАІСКА'ЦЬ *зак.* Пашукаць. *Нады паіскаць, дзе курыца нясецца.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *поискать* 'тж'.

ПАІ'ЦЬ *незак.* 1. Даваць піць каму-н. *Паіла я цялушку.* Саланое Віл. *Клінчыкі* [жмыха] *ад алею ў ваду — і цяляткі паялі.* Малі Астр. 2. Даваць піць спіртныя напіткі. *Яна яго поя, грошы пазычая.* Солы Смарг. 3. Выкормліваць малаком. *Паі адным малаком, і дзіця паправіцца, станя расці.* Солы Смарг.

ПА'ЙКА, ПЭ'ЙКА *ж.* 1. Частка чаго-н., выдзеленая ў адпаведнасці з устаноўленай нормай. *Пайку ўзяла буракоў, а чаму ты паек не ўзяла?* Кузьмічы Люб. *Нэ дэлят сено на пайкі.* Азарычы Пін. 2. Надзел зямлі. *Пайкі, пэйкі — гэто чацвярціна зямлі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЙМА'ЦЬ, ПАЙНЯ'ЦІ *зак.* 1. Злавіць. *Пойм*я *птушку.* Старыя Смільгіні Воран. *Сабака паймаў зайца.* Старое Сяло Зэльв. *Паймаць курыцу.* Грыкені Вільн. *Кот пайняў мыш.* Вялікі Краснік Пруж. *Трэба пайняці курыцу. Я яе пайму.* Ялова Пруж. 2. Затрымаць. *Яго паймалі, у салдаты ўзялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паймі яго!* Ялова Пруж.

ПА'ЙМАЧКА *ж. памянш.* Пучок. *Бяру паймачку льну, паламаю, еслі кайстра высыпаецца, то лён гатоў — падымаем і ставім у бабкі.* Мішневічы Шум. *У маленькія паймачкі павежў і павешаю. І лён ірвуць у паймачкі.* Шамялі Брасл.

ПАЙСЦІ', ПАЙЦІ' *зак.* 1. Пайсці. *Чы пойдзеш ты?* Гальшаны Ашм. *Пашла лесам.* Малі Астр. *Ну, пашлé!* Вялікія Баяры Шчуч. *Падзём дáлей.* Барок Стаўб. 2. Накіравацца куды-н. па што-н. *Пайду ў варыва.* Солы Смарг. *Ты пойдзіш вады.* Ністанішкі Смарг. *Пашла ў магазін, купіла кніжачку. Пашла купіла парасёнка. Пашла да маткі.* Гальшаны Ашм. *Пайду па хлеп.* Кіралі Шчуч. *Пашле на работу.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Адправіцца ў пэўны момант. *Скора пайдзé машына.* Парэчча Гродз. *Аўтобус пойдзя да Нясвіжа ў сем часоў.* Альба Нясв. *Чэрэз гадзіну пойдзе аўтобус назад.* Грыкені Вільн. 4. Працячы. *Праз ліпу мёт пойдзя.* Жылі Іўеў. 5. Пацячы. *Рэкá Істра з Глубокага пашла ў Сінюху.* Істра Лудз. 6. Сплавіць. *Лес зрубілі, і ўсё ў Германію пашло.* Грыкені Вільн. 7. Вылецець. *Пабяліла вокна — пайшлі ўсе мухі з хаты.* Кузьмічы Люб. 8. Пачаць прымяняцца. *Паявіліс плугі дзірывяные, патом жалезныя пашлі.* Істра Лудз. *Драўляныя абароны, потым пашлі плушкі.* Грыкені Вільн. 9. Распаўсюдзіцца, пакрыць сабой што-н. *Лядок пашоў па возяры.* Магуны Паст. *Ногі — чорныя, панхіры пайшлі.* Гальшаны Ашм.

10. Дасягнуць пэўнай мяжы. *Гангрына аж да сэрца пашла.* Гемзы Шальч. 11. З інф. Пачаць рабіць што-н. *Пойдзем сена грабіць.* Латыгаль Віл. *Хто пайдзе шукаць мне іх.* Старое Сяло Зэльв. *Сталі ўдабрэня даваць, пашлі багацець. Я пайшоў з малых гот рабіць.* Дзераўное Стаўб. *Пашлі жаць жыта.* Відаўцішкі Вільн. *Пашлі машыны сечку кроіць, і рукамі кроілі.* Грыкені Вільн. 12. Пачаць расці. *Маладая трава пашла па старой, яе касіць плоха, яна зляжа, як кудзеля.* Кіралі Шчуч. *Пашоў цвет у стаўбуны.* Старыя Трокі Трак. *Пшаніца ў галаўню пашла.* Відаўцішкі Вільн. 13.Ператварыцца ў што-н. *Волкая сена ў пліты пашло.* Парэчча Гродз. 14. Быць падобным на каго-н. *Я па мамі пашла, пахожа на яе.* Валынцы В.-Дзв. ◊ *Пайці к манаху* — стаць непрыгодным. *Цэгла размокла і пашла к манаху.* Грыкені Вільн.

ПАЙТУХА′ *ж.* Тое ж, што і павіліца. *Пайтуха — трава такая ў лёне, лён сушыць, чапляецца за рукі.* Галубы Маст.

ПАК *м.* Скрыня для захоўвання мукі, круп. *Пак стаяў у каморцы суцэлны, у адной праварынцы мука, у другой — крупы.* Груздава Паст. *Пак у каморцы быў, у паку і мука, і крупы.* Альба Нясв. *Пакі пароблены ў адрынцы ці свірня.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *paka* 'тж' (СВ, IV, 12).

ПАКА′ *прысл.* Пакуль. *Сяць, пака места ёсь.* Буды В.-Дзв.; *парайн.* руск. *пока* 'тж'.

ПАКАВЕ′НЧЫЦЦА *зак.* Памучыцца. *Кап мяса з'еў, то пакавенчыўся чалавек.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАКАЁЎКА *ж. устар.* Служанка, якая прыбірала ў пакоях. *Яе сястра пакаёўкай была ў пана.* Груздава Паст. *Рузя была пакаёўкай у пані, у пакоях чысціла, і з панічом калі малым пабудзя.* Альба Нясв.; *парайн.* польск. *pokojówka* 'тж'.

ПАКАЗА′ЦЕЛЬНЫ *прым.* Указальны. *Як малы быў, адарвала ў яго тоўсты і паказацельны пальцы.* Ванелевічы Кап.

ПАКАЗА′ЦЦА *зак.* Наведаць. *У нядзелю туда заедзя паказацца.* Солы Смарг.

ПАКАЗА′ЦЬ, ПАКАЗА′ЦІ *зак.* Паказаць. *Я вам пакажу, а вы людзям пакажаця.* Парэчча Гродз. *Я пану паказаў бы тыя хадачкі.* Швэды Вільн.

ПАКА′ЗВАЦЬ, ПАКА′ЗАВАЦЬ, ПАКА′ЗУВАЦЬ, ПАКА′-ЗЫВАЦЬ *незак.* 1. Рухам, жэстам вызначаць кірунак. *Пальцам паказуя і крычыць.* Паляцкішкі Воран. *Звыкла, каб у вакно паказуваў.* Азяраны Раг. 2. Паказваць. *Вядзець бап паказаваць сваё падаркі.* Саланое Віл. 3. Вучыць каго-н. рабіць што-н. *Яна добра шыя, але не паказавая мне.* Лоск Валож. 4. Выяўляць нейкія якасці. *Сілу сваю паказывала.* Саланое Віл. 5. *безас.* Указваць на пэўныя прыкметы. *Зранку на цёплы дзень паказвала.* Мсцібава Ваўк. *Ні паказуя на*

*дошч.* Альхоўка Навагр. *Зранку паказвала на дошч.* Вялікі Краснік Пруж. *Паказвае нібы заўтра на пагоду.* Гемзы Шальч. ◊ *Паказваць вочы* — прыходзіць. *Яна мала калі вочы паказвая сюды.* Малі Астр. *Паказваць віламі* — паклёпнічаць. *Ні нада паказаваць віламі ў чужы агарот.* Рыбчына Віл.

ПАКАЗЛІ'ЦЦА *зак.* Пусціць парасткі (пра збожжа). *Жыто паказлілосо, парасткі папускала; і просо паказлілосо, і ячмень паказліўса. С аднаго каліва выйдзя штук восем парасткаў.* Кузьмічы Люб.

ПАКАЗУ'ХА *ж.* Тое, што разлічана на знешні эфект. *Паказуха адна.* Лоск Валож.

ПАКАЛАСАВА'ЦЬ *зак.* Ачысціць ад асцюкоў. *Ячмень пакаласавоў — згроп салому.* Малахоўцы Бар.

ПАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Ababіць. *Тут вецір аднаго разу быў пакалаціў усе памідоры.* Чапаеўскі В.-Дзв. 2. Выбраць. *Нехта пакалаціў маю крутню.* Мішневічы Шум.

ПАКАЛБА'ЦЬ *зак.* Раскалаціць. *Пакалбай бліны.* Быстрыца Астр.

ПАКАЛЕ'НЕ *н.* Продкі. *Пакалене прад намі — і дзяды, і прадзяды.* Швэды Вільн. ◊ *Быць у трэцім пакалені* — не быць пачэсным, ставіцца на апошняе месца. *Як дзеці* [сыны] *жанатыя, то матка — ў трэцім пакалені: першая — жонка, другія — дзеці, а тады — матка.* Граўжышкі Ашм.

ПАКАЛЕ'ЦЬ *зак.* Змерзнуць (пра ўсіх, многіх). *Загналі на двор, часа паўтара нас там дзяржалі, а мы пакалелі, пачарнелі.* Ляды Чэрв.

ПАКАЛЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Скалечыць (усіх, многіх). *Прышоў кабан і людзей пакалечыў.* Мсцібава Ваўк. *Сек дровы і пакалечыў паляц.* Альба Нясв.

ПА'КАЛІСКА *ж.* Перакладзіна. *Пакаліскі ложаць на сані дровы вазіць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *pagalỹs* 'шост, кол'.

ПАКАЛО'ЦЦА *зак.* Патрэскацца, пашчапацца. *Ногі пакалоліся.* Дакудава Лід. *Дойкі ў каровы пакалоліса.* Парэчча Гродз. *Паколюцца ногі ад вады, слонца і баляць.* Каўняны Гродз. *Пакалоліся пяты, як ральл́я.* Кіралі Шчуч. *Пакалоліся ногі.* Рудня Астравітая Чэрв., Мачаск Бярэз. *Пяты пакалоліса.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАКАЛО'ЦЬ *зак.* Пасекчы на часткі. *Трэба калоткі пакалоць папалам, на чатэры часці і дось.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *поколоть* 'тж'.

ПАКАЛУПА'ЦЬ *зак.* Абагнаць (плугам). *Можа, вам бульбу пакалупаць?* Ёдлавічы Брасл.

ПАКАЛЫХА'ЦЬ *зак.* Калыхаць нейкі час. *Пакалышы дзіцятя. Пакалышы ты мяне, баба!* Граўжышкі Ашм.

ПАКАЛЫ'ХВАЦЬ *незак.* Калыхаць з перапынкамі. *Пакалыхвай яго.* Альхоўка Навагр.

ПАКА́МІСЬ *прысл.* Пакуль што. *Пакамісь падніміся.* Маствілішкі Ашм. *Пакамісь асвабадзілі нашу цірыторыю.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* руск. *покамест* 'тж'.

ПАКАПА́НЫ *дзеепрым.* Пракапаны. *Як лух заліўны, там канавы пакапаны.* Кураполле Паст. *Там была шаша, равы пакапаныя.* Грыкені Вільн.

ПАКАПЦІ́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а в э́ н д з і ц ь. *Пакапцём, а не пакапцём, і так з'ядзём кумпяк.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *покоптить* 'тж'.

ПАКАРАНІ́ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а к а з л і́ ц ц а. *Боп пакараніўся.* Рыбчына Віл.

ПАКАРА́ЦЬ *зак.* 1. Падвергнуць пакаранню. *Пакаралі яго.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Трэба пакараць дзіця.* Міратычы Карэл. *Пакараць яго трэба. Так даўней казалі, а цяпер кажуць наказаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цяпер жонца няма як гаспадара пакараць.* Вецярэвічы Пух. 2. Асудзіць. *Пакаралі яго — судзілі і атправілі ў цюрму.* Кіралі Шчуч.

ПАКАРАЧЭ́ЦЬ *зак.* Стаць карацейшым у часе. *Ужо раніца пакарачэла, ужо раніца каротшая.* Альхоўка Навагр.

ПАКА́РМ *м.* Прадукты жыўлення раслін. *Кажная расліна мела свой пакарм.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *pokarm* 'ежа, корм'.

ПАКАРМІ́ЦЬ *зак.* Накарміць. *Я сама рас укушу, а чалавека пакармлю.* Кузьмічы Люб.

ПАКАРО́ЧАЦЬ *зак.* 1. Стаць карацейшым. *Сукенка пакарочая.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і п а к а р а ч э́ ц ь. *Дзень пакарочаў.* Альхоўка Навагр.

ПАКАРПА́ЛЫ *прым.* Каржакаваты. *Пакарпалае дзерава, папусціла атожылкі, німа яму ніякай зрошчы.* Кіралі Шчуч.

ПАКАРПА́НЫ, ПАКО́РПАНЫ *прым.* 1. З няроўнай, зморшчанай паверхняй. *Смаршкі пакорпаныя і лісічкі пакарпаныя, як растуць з нероўнай шапачкай.* Сапоцкіна Гродз. *Смаршке чорненькія, пакорпаныя.* Новікі Гродз. *Ліст пакорпаны, не прасты.* Гемзы Шальч. 2. Маршчыністы (пра твар). *У яе пакорпаны твар.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* к а р п а́ т ы.

ПАКАРПА́ЦЦА *зак.* Паморшчыцца. *Ліцо пакарпалася.* Дакудава Лід.; *гл.* к а р п а́ т ы.

ПАКАРЧАВА́ЦЬ *зак.* Выкарчаваць (усё, многае). *Там пакарчавалі пні.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАКАСІ́ЦЬ *зак. перан.* Вычысціць. *На ганку гразь: касіла, касіла, чуць пакасіла.* Саланое Віл.; *гл.* к а с і́ ц ь II.

ПАКАТНАВА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Авечка пакатнавала.* Саланое Віл.

ПАКАТО́ *н.* Кола. *Даўней пакато звалася, а ціпер калясо.* Янова Рас. *Пакато паламалася. Пакато злецела з восі; за пакоты сцягаіцца атосы. Пакоты здзелай.* Лісна В.-Дзв.

ПАКАТО'ЧАК *м. памянш.* Круглая кароткая палка. *Пад ухват пакаточак клалі — і каціцца.* Пасіене Лудз.

ПАКАТЦО' *н. памянш.* Драўляная падстаўка круглай формы пад патэльню. *Вун пакатцо вісіць.* Пярэкі В.-Дзв. *Пастаў на пакатцо скавароду; пакатцо — калі кругленькае.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАКАЎЗНУ'ЦЦА *зак.* Паслізнуцца. *Пашла накідаць гной, пакаўзнулася і зламала руку.* Вецярэвічы Пух.

ПАКАХА'ЦЦА *зак.* Пакахаць адзін аднаго. *Пакахаліся і шлюб бралі.* Барок Стаўб.

ПАКАЦІ'ЦЦА *зак.* Паваліцца. *Пакаціўся я два разы.* Парэчча Гродз. *Вушла карова на пажу і пакацілаcа.* Кузьмічы Люб.

ПАКАЧА'ЦЦА *зак.* Качацца нейкі час. *Дзе конь пакачаіцца, там поўсць астаніцца.* Кураполле Паст.

ПАКАЧА'ЦЬ *зак.* Разгладзіць з дапамогай качалкі. *Пакачаем абрусы.* Саланое Віл. *Трэба пакачаць ручнікі.* Альба Нясв. *Валак і валкаўніца, імі я пакачаю кашулі, гаці.* Кудзялянцы Шальч.

ПАКА'ШАВАЦЬ *незак.* Касіць нейкі час. *Хацеў пакашаваць.* Рыбчына Віл.

ПАКАШАРЫ'ЦЬ *зак.* Прыбраць. *Нада пакашарыць кухню.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *koszerować* 'чысціць' (СВ, II, 494).

ПАКАШТАВА'ЦЬ *зак.* 1. Паспытаць яду, піццё на смак і г. д. *Нада пакаштаваць солі, ці досыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Варэнне пакаштуй, паспытай!* Рыбчына Віл. *Пакаштую, ці смачна. Натта смачна, пакаштуй.* Паляцкішкі Воран. *Дай пакаштаваць!* Солы Смарг. *Пакаштуйце яблыкаў.* Латыгаль Віл. 2. Выпіць, з'есці чаго-н. крыху. *Як жнеш, пакуль не пакаштаваў вады — нічога, як пакаштаваў — п'еш і п'еш.* Солы Смарг. *Ён наругаўся, а я ніводнага яблыка не пакаштавала.* Ністанішкі Смарг. *Не пакаштуюць людзі і гурка сяголета.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *pokosztować* 'тж'.

ПАКВА'ПІЦЦА *зак.* Спакусіцца. *Я пакваліласяі паехала. Пакваліласяна багацця. Паквапілася купіць што-небудзь.* Саланое Віл. *Паквапілісі на зямлю.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *kwapić się* 'спяшацца'.

ПАКВА'ПНЫ *прым.* Спакуслівы. *Паквапна дзеўчына.* Дакудава Лід.

ПАКВЭ'ЦАЦЬ *зак. экспр.* Памыць не зусім добра, з большага. *Троху пахвэцала бялізну.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАКВЯЦІ'ЦЦА *зак.* Пакрыцца ўзорамі. *Марос, аш вокны пакваціліся.* Ністанішкі Смарг.

ПАКЕ'НЬДЗІЦЦА *зак. экспр.* Пахварэць. *Троху кот пакеньдзіўся з лапкаю, паскакоў на трох, ды больш не пашоў пылянят лавіць.* Вецярэвічы Пух.

ПАКЕ'ЎЗАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б л ý т а ц ь. *Пакеўзаў ніткі, паплёнтаў ніці.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАКЕ'ЎКАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п а к é н ь д з і ц ц а. *Пакеўкае ды паправіцца.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Пакідаць. *Не пакідай яе ў хаця.* Солы Смарг. *Пакідаю малыша маме.* Гальшаны Ашм. 2. Прыберагаць з якой-н. мэтай. *Хлеп пакідалі на жніво.* Паляцкішкі Воран. *Як пярэзімка не палявала, яе на зіму не пакідаюць.* Чуркі Ашм. ∇ *Пакідай хлеп на бабовы цвет, а боп цвіце перат самым Пятром!* Кіралі Шчуч.

ПАКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Прыберагчы з якой-н. мэтай. *Таго паўлітра рэшту пакінула.* Дакудава Лід. *Было чацвёра, адно кацянё пакінулі.* Плябанцы Ашм. *Пі і пакінь мне напіцца.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Кінуць каго-н., што-н. *Чэцвера дзяцей пакінуў.* Дзераўное Стаўб. *Ён дзеці пакінуў.* Лоск Валож. *Бацька ўмёр і пакінуў дачку малою.* Сакаляны Сакол. *Пры кім яна іх* [дзяцей] *пакіня.* Стральцы Шальч. 3. Спыніць якое-н. дзеянне. *Хварэла яна, хварэла доўга і пакінула хадзіць да школы.* Альба Нясв. *Дóбро грала, і пакінула граць.* Номікі Бабіц.

ПАКІ'НЯНЫ *дзеепрым.* Пакінуты. *Сяло пакіняно.* Кайшоўка Карэл.

ПАКІРЗА'ЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п а д з я ў б с ц і с я. *Тудэ нехта пакірзаў.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *kiřzinti* 'павольна ісці'.

ПАКЛАДА'ЦЬ *незак.* Пакладаць. *Пакладаюць парасят.* Граўжышкі Ашм. *Пакладаюць барани і жарабца.* Пацаўшчына Дзятл. *Пакладаць кнюра.* Лука Нараўк.

ПАКЛАДА'Ч *м.* Чалавек, які пакладае жывёлу. *Пакладач свіней пакладае, чысціць.* Воўкуш Ліпск.

ПАКЛАДУ'Н *м.* Паленцы, якія клалі ў чалесніках. *Пакладун клалі з дроў у пачатку печы, коп хлеп запякоўся.* Дакудава Лід.

ПАКЛАДЭ' *мн.* Насціл з бярвёнаў. *Нашы ямы на пакладох. Картофля зрасла аш пат пакладэ.* Кіралі Шчуч.

ПАКЛА'СЦА *зак.* Нанесці яек, каб вывесці патомства. *Тут пціца не можыць пакласца.* Пасіене Лудз.

ПАКЛА'СЦІ *зак.* 1. Паваліць. *Паклалі дажджы пасевы, палёгліцы много.* Мсцібава Ваўк. 2. Размясціць дзе-н. *Пакладзі там сумку.* Лоск Валож. *Хачу лошку пакласці, не маю дзе.* Мсцібава Ваўк. *Паклала ў хаце.* Новікі Гродз. 3. Размясціць пэўным чынам. *Не так пакладзе нітку, як снуе кросна, і перамот.* Альхоўцы Лях.

ПАКЛА'СЦІСЯ *зак.* Палегчы (пра ўсіх, многіх). *Каровы пакладіся — і я заснула.* Кіралі Шчуч. *Каты пакладіся.* Саланое Віл.

ПА́КЛА′Т *м.* ◊ *У паклат ляжаць* — покатам. *Гляджу — а яны ўсе ў паклат ляжаць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАКЛЕ′НЧЫЦЬ *зак.* Стаць на калені. *А як страляюць, дак яны* [паліцэйскія] *аш пакленчаць.* Веркалы Пух.; *параўн.* польск. *uklęknąć* 'тж'.

ПАКЛЕПА′ЦЬ *гл.* ПАКЛЯПА′ЦЬ

ПАКЛІКА′ЦЦА *незак.* Гукаць. *Ідуць, паклікаюцца адна на адну.* Вецярэвічы Пух.

ПАКЛІ′КАЦЬ *зак.* 1. Голасна пазваць. *Трэба яго паклікаць; пакліч яго ў хату, хай ідзе.* Кіралі Шчуч. *Пайду паклічу бабу: «Ідзі, баба, дахаты!»* Паляцкішкі Воран. *Ідзі паклікай, стаў клікаць.* Мярэцкія Глыб. *Пакліч яго, хай ідзе ў хату.* Азяраны Раг. *Ідзі яго пакліч.* Гемзы Шальч. 2. Запрасіць з якой-н. мэтай. *Ідзі пакліч у госці.* Кіралі Шчуч. *Увечар паклічуць.* Альхоўка Навагр. *Зразу паклікалі мяне ў кантору.* Лоск Валож. 3. Падазваць (пра жывёлін, птушак). *Ідзі пакліч сучку і ідзі на зайцы. Пакліч свіней, сабаку.* Паляцкішкі Воран. *Курыца паклікала куранят — і прыляцелі.* Парэчча Гродз.

ПА′КЛЫ *мн.* Пачаскі. *Лён чэсалі, тады паклы заставаліся.* Грыкені Вільн.; *параўн.* літ. *pãkulos* 'пакля'.

ПАКЛЫ′БАЦЬ, ПАКЛЫ′ВАЦЬ, ПАКЛЫ′ПАЦЬ *зак. экспр.* Пайсці кульгаючы. *Як качка паклыбаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Паклывая ўжо.* Вялікія Баяры Шчуч. *Карова паклыпала памалу, нага балела.* Жылі Іўеў.; *гл.* к л ы́ б а ц ь.

ПАКЛЫПНУ′ЦЬ *зак.* Спатыкнуцца. *Паклыпнуў, чуць не паваліўся, і кошык с пліча паляцеў да канавы, і яйкі ўцалелі.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *klìpti* 'аступіцца'.

ПАКЛЫ′ЧЫЦЦА *зак.* Прарасці. *Пасадзіла часнок, паглядзела — ужо паклычыўся.* Масюкоўшчына Мін.

ПАКЛЯВА′ЦЬ *зак. экспр.* Паматычыць *Паклёваеш матыкай бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАКЛЯІ′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а к л ы́ ч ы ц ц а. *Насёны пакляіліся.* Мярэцкія Глыб.

ПАКЛЯПА′ЦЬ, ПАКЛЕПА′ЦЬ *зак.* Адбіць малатком лязо касы. *Ідзі пакляпай касу.* Граўжышкі Ашм. *Касу пакляпаў, стала гострая.* Вострава Маст. *Ён, можа, паклепля.* Ляхавічы Навагр. *Паклéпля касу і косіць.* Альхоўка Навагр. *Трэба косу пакляпаць.* Міратычы Карэл. *Трэба паклепаць касу.* Відаўцішкі Вільн., Гемзы Шальч.

ПАКЛЯ′ПЛЫ, ПАКЛЯ′ПШЫ *прым.* Нахілены, крывы. *Пакляплая дрэва, нахілілася ў адзін бок. Пакляпшая дрэва, крывоя.* Мярэцкія Глыб. *На пакляпшая дрэва і козы скачаць.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *klỹpti* 'крыўляцца'.

ПАКНІ′СА′ЦЬ, ПАКНЫ′САЦЬ, ПАКНО′ЙСАЦЬ, ПАКНЭ′ЙСАЦЬ *зак.* 1. Зрыць. *Свіні пакнісалі дзярнý.* Старыя Смільгіні Воран. *Пакнісáлі свіня зямлю, бульбу пакнісáлі.*

Кудзялянцы Шальч. *Свіня бульбу пакнысала, пакнэйсала.* Жылі Іўеў. *Пакнойсала свіня гной.* Малькуны Ігн. *Свіня пакнойсала, пакнойсала і пашла.* Гемзы Шальч. 2. *экспр.* Пабоўтаць пераборліва лыжкай яду. *Пакнэйсала ў місца і пашла.* Жылі Іўеў. 3. Парваць. *Пакнысалі свіня мяшок.* Парэчча Гродз. *Дзікі чалавека могуць пакнысаць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *knáisioti* 'рыць'.

ПАКНУРАВА'ЦЬ *зак.* Стаць пароснай. *Свінbackspace пакнуравала.* Саланое Віл. *Свіня пакнуравала.* Кураполле Паст., Малькуны Ігн.

ПАКОЙ I *м.* Асобнае, адгароджанае памяшканне ў доме. *Пакой — асноўная частка хаты, святліца.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *pokój* 'тж'.

ПАКО'Й II *м.* Спакой. ∇ *За дурною галавою і нагам няма пакою — саб'еш ногі і няма карысці.* Малі Астр.

ПАКО'ЙНІК *м.* Нябожчык. *Паняслі пакойніка на магілкі.* Ёдлавічы Брасл. *Як пакойніка відзіш ува сне, яны не гаворань, хочаш, кап пагаварыць з ім.* Кураполле Паст. *Абет па пакойніку.* Рыбчына Віл. *Пакойнік ацец.* Ністанішкі Смарг.

ПАКО'ЙНІЦА *ж.* Нябожчыца. *Хустка мамы-пакойніцы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пакойніца-матка пабудзя нас.* Гемзы Шальч.

ПАКО'ЙНЫ *прым.* Які памёр. *Мой дзед пакойны жыў сто пятнаццаць гады.* Пасека Ст.-Дар.

ПАКО'ЙЧЫК *м. памянш.* Невялікі пакой. *Яна пакойчык мае.* Малькуны Ігн.

ПАКО'ЛАВАЦЬ *незак. безас.* Паколваць. *Паколавая мне ў баку.* Лоск Валож. *Мне так баліць галава, паколуюць грудзі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАКО'ЛАК *м.* Палка. *Паколак на вуліцы ляжыць. Дзеці гуляюць і шыбаюць паколкамі.* Вецярэвічы Пух.

ПАКО'ЛАНЫ *дзеепрым.* Праколаты. *Вушы ў мяне пако-ланыя, я завушніцы ні нашу.* Малахоўцы Бар.

ПАКО'ЛЬ *прысл.* Тое ж, што і п а к а́. *Паколь яна насцігнець, мы ўспеім пераплыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАКО'МКАЦЬ *зак.* Пажаваць бяззубым ротам. *Пакомкай троха кашу.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАКО'МШКАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а к о́ м к а ц ь. *Пакомшкаю хлеба і добра.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАКО'ПАЦЬ *зак.* Пакапаць нейкі час. *Як бульбы пакопаяш — рукі шуршавыя.* Малі Астр.

ПАКО'ПІШЧА I *н.* Месца, дзе стаяла капа. *Падграбі пакопішча.* Пасека Ст.-Дар.

ПАКО'ПІШЧА II *н.* Бульбянішча. Істра Лудз.

ПАКО'РНЫ *прым.* Паслухмяны. *Такія пакорныя дзеці.* Вострава Маст.

ПАКО'РПАНЫ *гл.* ПАКАРПА'НЫ

ПАКО'РПАЦЦА *зак.* Зморшчыцца. *Пакорпаўся твар, старая ўжо.* Кіралі Шчуч. *У яе пакорпаўся твар, на маршчынах увесь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як стары чалавек, уміраць мая — пакорпаецца твар.* Новікі Гродз. *Твар пакорпаўся, много закарпіц.* Старое Сяло Зэльв. *Твар пакорпаўся ў старога.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kárpa* 'барадаўка'.

ПАКО'РЧЫЦЬ *зак. безас.* Пакурчыць. *Пакорчыла яму ногі.* Кіралі Шчуч.

ПАКО'С, ПОКУ'ОС, ПОКЫ'С *м.* 1. Сенажаць. *Ад дарогі добрыя пакосы.* Ністанішкі Смарг. *Окала рэчкі луга, пакос.* Пасіене Лудз. 2. Касьба. *Падзялілі сена на пакос.* Лоск Валож. 3. Сенакос. *Ужо пакос, будзіце касіць.* Валынцы В.-Дзв. *Касілі балота, был пакос.* Рагулішкі Даўг. 4. Пракос. *Пакос за пакосам кладуцца, акуратна, роўненька.* Беразіно Докш. *Косяць у пакосы. Пакосы нада разбіваць.* Груздава Паст. *Скасіў адзін пакос.* Жодзішкі Смарг. *Пакос доўгі.* Рыбчына Віл. *Прагнаў адзін пакос.* Лоск Валож. *Два пакосы такія.* Грыкені Вільн. *Пакосы — радкі сена.* Лука Нараўк. *Траву трэбо згоняты косою ў покуос. Як шыроко займэ косою, то шырокі покуос.* Горск Бяроз. *Покыс. Одного покоса прошоў. Розбэ́тэ покосы.* Дзмітравічы Кам.

ПАКО'Т *м. буд.* Жэрдкі для ўмацавання саломы на страсе. *Верх стрэхі высцілаецца саломай мятай і кладуцца казлы, а на казлы кладуцца дручкі, каторыя прыдзержуют салому — і называют пакот. Нацягнуў пакот.* Лука Нараўк.

ПАКО'ЎЗАЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Старая пакоўзае падлогу.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАКО'ЎШАЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць абы-як. *Пакоўшаў, пакоўшаў і пашоў. Во нарабіў!* Крэва Смарг.

ПАКО'ША *ж.* Скошаная сенажаць. *Бывала, ідзеш, пакоша роўная.* Вецярэвічы Пух.

ПАКРАВА' *гл.* ПАКРО'ВЫ

ПАКРА'КА *м.* і *ж. абразл.* Недарэка. *Ні такі, ні сякі — пакрака.* Мсцібава Ваўк.

ПАКРАМЯНЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца больш крамяным. *Пакрамянея вада.* Вецярэвічы Пух.

ПАКРАПА'НЫ *прым.* Тое ж, што і п а б л ё н т а н ы. *Пакрапаныя ніткі.* Мярэцкія Глыб.

ПАКРАПІ'ЦЬ, ПАКРО'ПІЦЬ *зак.* 1. Папырскаць. *Пакрапі вадой.* Малахоўцы Бар. *Дулькі лятуць, чэшучы лён. Як пакрэпіш вадою, то пыла асядае.* Альхоўка Навагр. *Я пакраплю вадой і прасую.* Кудзялянцы Шальч. 2. Пакрапаць (пра дождж). *Толькі пакропіў дош.* Курapолле Паст. *Пакропіў дош.* Лісна В.-Дзв. *Дочш пакропіць і перастаня.* Альба Нясв.; *параўн.* польск. *pokropić* 'акрапіць, апырскаць'.

ПАКРАПЛЯ'СТЫ *прым.* Плямісты. *У змяі зубы, як загнёныя, а гадзюка пакрапляста.* Малахоўцы Бар.

ПАКРАПЧЭ'ЦЬ *зак.* Паздаравець. *Муш пакрапчэў пасля хваробы.* Ністанішкі Смарг.

ПАКРАСЦІ'ЦЦА *зак.* Тое ж што і п а к л ы ч ы ц ц а. *Буракі пакрасціліся.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАКРА'ТАЦЦА *зак.* 1. Паварушыцца. *Пойдзіш у бой, пакратаішся і рана апяць назат.* Саланое Віл. 2. Пахадзіць. *Ногі зыбяць, пакратаюся.* Жодзішкі Смарг.; *гл.* к р а́ т а ц ц а.

ПАКРА'ТАЦЬ *зак.* 1. Паварушыць. *Пакратай яго, можа заснуў?* Асавец Віл. 2. Падрыхліць. *Агурке́ пакратую, капусту.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* к р а́ т а ц ь.

ПАКРА'ЎКІ *мн.* Зубы ў каня на трэцім годзе. *Ужэ конь пакраўкі мая: яму тры з паловай года.* Гемзы Шальч.

ПАКРА'ШАНЫ *прым.* Пафарбаваны. *Санкі такія пакрашаныя.* Судэрва Вільн.; *парайн.* руск. *покрашенный* 'тж'.

ПАКРО'ВЕЦ *м.* Чахол на коўдру. *Пакровец на колдру, на пярыну.* Лайпушкі Ігн.

ПАКРО'ВЫ, ПАКРАВА' *мн.*, ПАКРО'ВА *ж.*, ПАКРО'Ў *м. рэліг.* Свята, якое адзначаецца праваслаўнай царквой 1 кастрычніка па ст. ст. *Калі будзя да палудня пагода на пакровы, то да Пятра будзя пагода, а пасля Пятра дошч будзе. Пакрова — свята 1.X.* Лука Нараўк. *Кірмаш на пакрову. Пат пакраву падзяржыць карову ды прадасць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скора пакроў.* Мярэцкія Глыб. *На пакроў і бацька памёр.* Ухвала Круп. ∇ *На пакровы заганяйця ў хлеў каровы, астатня свята.* Кіралі Шчуч. *Пакроў усё белым снегам пакрыў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАКРО'ІЦЬ *зак.* Парэзаць на часткі. *На плыткую талерку пакроіш мяса.* Солы Смарг. *Ніхто ні абдзіраіць трыбух, пакроіць і бульбу тушыць.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *pokrajać* 'тж'.

ПАКРО'ПІЦЬ *гл.* ПАКРАПІ'ЦЬ

ПАКРО'ПШТАЦЬ *зак.* Пакорпаць. *Мне засвярбела ў носе, і я ўзяў пальцам і пакропштаў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pakrapštýti* 'тж'.

ПАКРУХАТА'ЦЬ *зак.* Расшчапіць на часткі. *Дуп сукшысты быў, стрэліўшы пярун, пакрухатала гэны дуп на кавалкі, на шчэпкі паламала.* Гемзы Шальч.

ПАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Скруціць (усё, многае). *У сувоі пакруціла палатно, і ўхадзілася баба.* Дакудава Лід. 2. Стаптаць. *Пакруцілі куры ячмень.* Мсцібава Ваўк.

ПАКРУЦЯ'СТЫ *прым.* Кучаравы (пра валасы). *Пакруцястыя валасы.* Ністанішкі Смарг. *Якія пакруцястыя валасы.* Альхоўка Навагр.

ПАКРУ'ЧАНЫ *дзеепрым.* 1. Туга звіты адзін з другім. *Атосы з вітак пакручаны.* Грыкені Вільн. 2. *перан. мед.* Скрыўлены. *У мяне пальцы ад рамацізмы пакручаны. Ма-*

*рына не спрацаваўшыся, а ўсе пальцы пакручаны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАКРУ'ЧЫВАЦЬ *незак. экспр.* Гуляць. *Пакручывая ўдавец з дзеўкай.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАКРЫ'ВА *ж. бат.* Крапіва. *Пакрыва расце.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *pokrzywa* 'тж'.

ПАКРЫВА'ЦЦА *незак.* 1. Распаўсюджвацца на паверхні. *Дзе нецякуча вада — там расою пакрываецца.* Кузьмічы Люб. 2. Накрывацца. *Дванастка снапоў пакрываецца трыма снапамі.* Крынкі Крын. 3. Апладняцца (пра жывёлін). *Цёлкі-пярэзімкі пакрываюцца.* Паляцкішкі Воран.

ПАКРЫВЕ'ЦЬ *зак.* Скрывець. *У яе пальцы ад работы пакрывелі. У яе рамацізма.* Кураполле Паст. *У мяне ногі пакрывелі.* Груздава Паст.

ПАКРЫЁМА *прысл.* Тайком. *Баранілі пакрыёма вучыць па-руску.* Дзераўное Стаўб.

ПАКРЫПА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б р а д з і́ ц ь 2. *Пакрыпалі куры ячмень, збрадзілі.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *trýpti* 'таптаць'.

ПАКРЫСЕ' *прысл.* Патроху. *Я сама пасадзіўшы пакрысе. Пакрысе будзім аддаваць.* Бакшты Іўеў.

ПАКРЫ'ТЫ *дзеепрым.* Накрыты. *Жалобай* [чорным покрывам] *коні пакрыты.* Гальшаны Ашм.

ПАКРЫ'ЎКА *ж.* 1. Накрыўка. *Пакрыўка на рондаль.* Быстрыца Астр. *Дзе падзелася пакрыўка ад каструлі?* Альба Нясв. 2. *абрад.* Палатно, жалобнае покрыва. *Пакрыўкай пакрываюць труну; нада на ўбогія аддаць пакрыўку.* Мярэцкія Глыб.

ПАКРЫ'ЦЦА *зак.* Апладніцца (пра жывёлу). *Карова, свіння пакрылася.* Лоск Валож. *Мая кароўка пакрылася ў маі.* Альба Нясв.

ПАКРЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць дах над будынкам. *Пакрылі хату. Сабраліся глядзець, як пакрыў страху.* Гальшаны Ашм.

ПАКРЫ'ЧЫВАЦЬ *незак.* Пакрыкваць. *Дзеці і пакрычываюць на нас.* Магуны Паст.

ПАКРЫ'ШАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і п а ж м я́ к а н ы. *Нага пакрышана была, мы костачкі пабіралі.* Крэва Смарг.

ПАКРЫШЫ'ЦЬ, ПОКРЫШЫ'ТЫ *зак.* 1. Парэзаць на дробныя кавалкі. *Пакрышаць баравічок і начыняць.* Кураполле Паст. *Трэбо покрышыты зелье.* Горск Бяроз. 2. Раскрышыць. *Пакрышыў хлеба курам.* Альба Нясв.

ПАКРЭ'МСАЦЬ, ПАКРЭ'МЗАЦЬ *зак. экспр.* 1. Узараць абы-як. *Як ён там параў — пакрэмсаў поле.* Ёдлавічы Брасл. 2. Неахайна напісаць. *Пакрэмзаў, пакрэмзаў на паперы, папробуй разбярыся.* Альба Нясв.

ПАКРЭ'ПНУЦЬ *зак.* Здранцвець ад холаду. *Пакрэплі*

*рукі, трэба ў халодную ваду апусціць, памягчыць.* Саланое Віл.

ПАКТ *м.* Малачарня. *Пакт — памяшчэня, там усё выраблялі з малака.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *pacht* 'арэнда пераважна малочных кароў'.

ПА'КТАР *м.* Кіраўнік малачарні. *Пактар пакт трымаў.* Номікі Бабіц.; *парайн.* польск. *pachciarz* 'арандатар пераважна малочных кароў'.

ПАКУДЛА'ЧАНЫ *прым.* Растрапаны. *Валасы пакудлачаны.* Мсцібава Ваўк. *Устала с пасцелі і ходзіць пакудлачаная — кудла ты!* Альба Нясв.

ПА'КУЛА *ж.* Пакулле. *С пакулы вязалі кручком чуні.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пакула — адтрэпкі ата льна, нікаму негодныя — там адна кастра.* Лісна В.-Дзв. *Пакула з вярхоў льна.* Кураполле Паст. *Як чэшаш на шчэтку, то пакула, дулька ляціць.* Груздава Паст. *Пакула ад лёну; як трэпіш лён, дык ляціць пакула; пакулу прадуць.* Саланое Віл. *Пакула — як чэшаш лён на грабушкі.* Быстрыца Астр. *З пакулы наткала.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pãkulos* 'тж'.

ПА'КУЛІ, ПА'КУЛЫ *мн.* 1. Тое ж, што і п а́ к у л а. *На мяшке пакулі с-пад рэдкай шчоткі. Пакуляў наверх палажыць.* Жылі Іўеў. *Пакулі пралі.* Беняконі Воран. *На грэбушках пакулі.* Стральцы Шальч. *Пакулі на рэткую шчотку атходзяць.* Рагулішкі Даўг. *Пакулы — адходы ад лёну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як чэшаш лён на шчэтку з вялікіх цвякоў, апчэсаваюцца пакулы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пакулы атходзяць, як чэшыш лён; пралі пакулы на воркі.* Малі Астр. *Пакулы ад лёну, як чэшуць, іх прадуць.* Галоўні Воран. *Чэшам лён: першыя — патрапі, другія — пакулы — гэта ўсё атходы. С пакулаў шылі колдры.* Старыя Трокі Трак. *Пакулы — што пралі з лёну, каторыя шчэсвалі, як часалі лён.* Чычалі Швянч. *Туды лятуць пакулы; пакулы пралі і ткалі.* Гемзы Шальч. *Па́кулы льны́я і канапляныя былі.* Руднікі Шальч. *Дайней пакулы пралі на патшанікі. Пакулы крапчэйшыя былі за кужаль.* Рагулішкі Даўг. 2. Пража з пачасся. *Пакулі — горшыя, с пакуляў дываны рабілі, воркі ткалі.* Новыя Мацалі Варэн. *С пакуляў кастрывых коўдры ткалі.* Кудзялянцы Шальч. *Пакулы — на шара́к.* Гемзы Шальч. *С пакулаў ткалі дываны.* Ракаўскія Швянч. *З лепшых пакулаў ходнікі ткалі.* Грыкені Вільн.; *гл.* п а́ к у л а.

ПА'КУЛЛЯ, ПА'КУЛЯ, ПА'КУЛЕ *зб. н.* 1. Тое ж, што і п а́ к у л а. *Коўдра с пакулля.* Жодзішкі Смарг. *Пакулля атходзіць з жалезнай шчэткі.* Кураполле Паст. *Пакулля палучаяцца, калі лён труць.* Малахоўцы Бар. *Пакулля адходзіць, як лён грэбням абдзіраем.* Азяраны Рэг. *Ачэсвалі перш рэткім грэбням — гэта пакуля.* Магуны Паст. *Пакуля — што на жалезных шчотках астаецца.* Вялікія Баяры

Шчуч. *Пакуля ідзе с-пат трапачкі.* Қаўняны Гродз. *Пакуля с-пат шчэтак атходзіць.* Парэчча Гродз. *Лён труць, на карэня гаварылі пакуля.* Стральцы Гродз. *Як чэшам лён, пакуля атходзя.* Старыя Трокі Трак. *Першая пакуля — мяхі ткалі, а з другога пакуля — штаны мушчынам.* Малькуны Ігн. *Як став'ят дэрэвяну хату, то міжы дыліе кладут пакуле, коб віетёр нэ дув.* Курашэва Чыж. 2. Грубае палатно. *Гарсет шылі з пакуля.* Кіралі Шчуч.; гл. п а́ к у л а.

ПА'КУЛЬ *ж.* Скручаная анучка, якой падпальваюць што-н. *Пакуль зрабіў і запаліў; накруціць трапку і памочыць у газу і запаліць, доўга будзя гарэць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *pãkulos* 'тж'.

ПАКУ'ЛЬ *прысл.* Пакуль. *Вот грубая, можна баранку з'есці, пакуль кругом абойдзяш.* Малі Астр.

ПАКУ'ЛЬГАВАЦЬ *незак.* Пакульгваць. *На ногу пакульгавая.* Альхоўка Навагр.

ПА'КУЛЬКА *ж. памянш.* Пакуліна. *На шчотку вычэсуя, кап ні аднэй пакулькі ні было.* Быстрыца Астр.; *гл.* п а́ к у л а.

ПА'КУЛЬНІК *м.* Палатно з пакулля. *Пакульнік ткуць у два ніты.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* п а́ к у л а.

ПА'КУЛЬНІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і п а́ к у л а 1. *Пакульніцу прадзеш, тчэш пасцілкі і мяшкі.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і п а́ к у л ь н і к. *Пакульніца ткалася з пакулаў на мяшкі.* Быстрыца Астр. *Наткала пакульніцы. С пакульніцы воркі шылі.* Старыя Смільгіні Воран. *Выткала пакульніцы тры сцяны.* Жылі Іўеў. *З пакульніцы шылі падштанікі мужчынам.* Азяраны Раг. *Пакульніца — такі шарак, выткань з пакулаў.* Гемзы Шальч. *Пакульніца — грубейшая палатно.* Руднікі Шальч. *Андарак з пакульніцы. З пакульніцы кашулькі шылі.* Малькуны Ігн. *Пакульніца — горшы сорт палатна. Пакульніцу ткалі з пакулаў. З пакульніцы штаны шылі мушчынам.* Ракаўскія Швянч. *Пакульніца — палатно з пакулаў.* Чычалі Швянч. *Пакульніца — на мяшкі.* Гемзы Шальч. 3. Аснова з грубых, зрэбных нітак. *Пакульніцу снавалі, кужаль снавалі на снуйлях і на сцяне.* Едлавічы Брасл.; *гл.* п а́ к у л а.

ПА'КУЛЬНЫ *прым.* Вытканы з пакулля. *Ануча пакульная.* Бакшты Іўеў. *Пакульная посцілка грубая, кастрывая.* Быстрыца Астр. *Пакульные на порткі ткёш.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *pãkulinis* 'з пакулля'.

ПАКУЛЯ'НІК, ПАКУЛЯ'ННІК *м.* 1. Сяннік, набіты кулявой саломай. *Пакулянік — гэта сянік, куды кулявую салому клалі.* Крэва Смарг. 2. Цёплая коўдра з кудзелі. *Пакуляннік — посцілка, падшытая другой і між імі кудзелю пасцілалі. Дайна шылі пакулянік і ім накрываліся.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* п а́ к у л ь н ы.

ПАКУЛЯ'НКА, ПАКУЛЯ'НЬКА *ж.* Тое ж, што і пакуля́нік 2. *Была пакулянка: дзяруга пад сподам, насцілаюць пакуля і зверху другая дзяруга, перашываюць удоўш і поперак; пакулянкай накрываюцца. Пакулянькі шылі: дзве дзяругі, па́куля стуліў уместа і цёпла.* Кіралі Шчуч.; *гл.* па́кульны.

ПАКУ'НАК *м.* Пакет з чым-н. *Пакункі панапакаваўшы.* Малі Астр. *Прышоў з Нясвіжа, пакункі разлажыў на стале, хваліцца, што купіў.* Альба Нясв. *Пакунак завярнулі. «Што там за пакунак?» — «Налажылі хлеб, сахар».* Гемзы Шальч. *Пашоў устрачаць мяне с пакункамі.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *pakunek* 'тж'.

ПАКУПА'НЫ I *дзеепрым.* Выкупаны. ◇ *Пакупаны ў гарачай вадзе* — хто вельмі шустры. *Яна нейкая — у гарачай вадзе пакупаная — дужа быстрая.* Малі Астр.

ПАКУПА'НЫ II *дзеепрым.* Куплены. *Начоўка цяпер пакупана, а раньша цяслом выраблялі.* Дакудава Лід.

ПАКУПА'ЦЦА *зак.* Пагрэбацца ў пяску (пра птушак). *Курыца пакупалася ў пяску.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАКУПА'ЦЬ *незак.* Купляць. *Я і каровіцы пакупаў на базары, добрую каровіцу выбраў.* Малі Астр.

ПАКУПЕНЕ'ЦЬ *зак.* Выбраць мёд. *Пакупенець, падабраць пшчолы.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kopinė́ti* 'браць мёд'.

ПАКУПІ'ЦЬ *зак.* Купіць. *Пакупілі парасяткі па підзісят рублей пару.* Магуны Паст. *У нас не дазвалялі садзіць табаку, должан быў усё пакупіць.* Казлы Міёр. *Старшы́я сказалі, кап дом пакупіла.* Снягяны Смарг. *Мы сваю зямлю пакупілі. У Мінску паку́піце* [апельсіны]. Солы Смарг. *Сястра прасіла пакупіць ёй пакрывала.* Быстрыца Астр. *Пакупеця смятаны і рабеця са смятанай.* Паляцкішкі Воран. *Нада пакупіць фіранькі.* Дакудава Лід. *Учора пакупіў мяса чалавек мой.* Парэчча Гродз. *Пакупім тры пуда ячменю. Пліткy пакупіць нада. Яна цыгарэтаў пакупіла. Дроў, салому пакуплю. Хату пакупіў прад смерцю мужа.* Старыя Трокі Трак. *Пакупім леса, павыдзіраем пе́нькі.* Лука Нараўк.

ПАКУПЛЯ'НЫ *прым.* Фабрычнага вырабу. *Андаракі ткалі ценянькія, як пакупляныя.* Ракаўскія Швянч.

ПАКУПЛЯ'ЦЬ *зак.* Купіць што-н. (пра ўсіх, многіх). *Пакуплялі па мяху панцаку.* Магуны Паст.

ПАКУПНЫ'Й *прым.* Тое ж, што і пакупля́ны. *Было пакупное пальто, а пінжак із свайго сукна.* Навікі Лудз.

ПАКУ'РАЦЬ *зак.* Абкурыць. *Я мушу выдраць іголішчу і пакураць адымáчкай, як пакураш — не нарывая рана.* Малі Астр.

ПАКУ'РСТАЦЬ, ПАКУ'РСТАЦ *зак.* 1. Падварушыць. *Як у печы не гарыц, то вазьмі ражном і пакурстай дровы, то*

*будзе гарэц.* Парэчча Гродз. *Пакурстай агонь у печы. Пакурстай дровы, лепей будзя паліцца.* Руднікі Шальч. 2. *перан.* Пакратаць. *Я пакурстала цялюка — падняўся і зноў лёг.* Жылі Іўеў. *Пакурстала, ён і прачнуўся.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Пакурстай, няхай устаець.* Старыя Трокі Трак. 3. Павэндзіць. *Пакурсталі троха кунпякі.* Саланое Віл.; *гл.* к у́ р с т а ц ь.

ПАКУ'РЧЫЦЦА *зак.* Пакамячыцца. *Папала я пад дошч, змокла ўся, потым села, а сукенка так пакурчылася, папробуй пагладзь!* Альба Нясв.

ПАКУ'РЧЫЦЬ *зак.* Пакамячыць. *Пакурчыла спадніцу — села абы-як.* Альба Нясв. *Пакурчыла хустку.* Альхоўцы Лях.

ПАКУ'РШКАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а к у́ р с т а ц ь 1. *Пакуршкай галавешку качаргой у печы, каб яна скарэй згарэла.* Малі Астр.; *гл.* к у́ р с т а ц ь.

ПАКУРЫ'ЦЦА *зак.* ◇ *Толькі пыл пакурыўся* — хутка пабегчы, паехаць. Малькуны Ігн.

ПАКУРЫ'ЦЬ *зак.* Абкурыць. *Пакуру карову ад урокаў.* Жылі Іўеў.

ПАКУ'ТА *ж.* Мучэнне. *Ногі скурчаны, яму пакута вяліка.* Альхоўка Гродз. *Гэдакая пакута мне авец пасвіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Такую пакуту над дзевачкай зрабілі.* Старыя Трокі Трак. *Німа горшай пакуты, як бяссоніца.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *pokuta* 'пакаянне'.

ПАКУ'ТАВАЦЬ, ПАКУ'ТВАЦЬ *незак.* 1. Мучыцца ад болю. *Пакутуя небарака, балея і не памірая.* Вецярэвічы Пух. 2. Выконваць нялёгкую работу. *Буду ў гародзі пакутаваць.* Старыя Смільгіні Воран. *Пакутавая дзіця, калейку нада атпасаваць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *pokutować* 'каяцца'.

ПАКУ'ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая пакутуе. *Такая яна пакутніца: хата згарэла, мужыка забілі.* Галубы Маст. *О, якая ж яна пакутніца: трох дзетак схараніла.* Пацаўшчына Дзятл. *Але ш яна пакутніца, дзень і ноч пакутуе, яна цяшка хворая.* Кіралі Шчуч. *Ясючыха — пакутніца, яна пакутавая.* Гемзы Шальч.

ПАКУЦІНЯ'ЦЬ *зак.* Паказытаць. *Яна яго пакуціняя.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kutinė́ti* 'казытаць'.

ПАКУ'ШАЦЬ *зак.* Паесці. *Ма́цэ* [маці] *харашо: часта ў кухні, і пакушала.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *покушать* 'тж'.

ПАКУ'ШКА *ж.* Смачная яда. *Радi пакушкі іх сабрала, апенькі.* Мішнeвічы Шум.

ПАКЦЯ'РКА *ж.* 1. Развалы (у санях). *Пакцярку накладалі на сані, спод выкрыжуе, каб салома не выпадала, вяроўкі звіе, наверх пакцярка.* Бeнякoні Воран. 2. Вазок. *Ро-*

*біца пакцярка для лёгкай выязды: на палазы ляжэйкі, драбіны, шчэблы насаджаны, на санкі надзяюцца драбіны і пакцярка называюць. Паложа саломы ляшкі дзве-ры, засцеля дываном, сядзя і едзя ў Тургелі.* Гемзы Шальч.

ПАКЭ'ЎГАЦЦА *зак. экспр.* Паездзіць. *Пакэўгаюцца, пастаяць машыны на полі, паломяцца, бо мокра.* Новіны Нясв.

ПАЛ *м.* Гарачка. *У яго пал такі быў!* Гальшаны Ашм. *Схапіла пал, пачало трасці. Пал падняўся, паліць у скабах. Упаў і ў гразі ляжыць, ці няма палу?* Паляцкішкі Воран. *Карова пал мая, сапе.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *upał* 'спёка, спякота, гарачыня'.

ПАЛА' *ж.* Крысо. *Сабака адарваў палу пальта. Палу замачыў.* Кіралі Шчуч. *Пала.* Мярэцкія Глыб. *Ідзе, сваё полы раскідае.* Кухты Віл. *Пала ў пальце. Атхіляіцца пала.* Солы Смарг. *Я палу падгіблю.* Дакудава Лід. *Адна пала карацей, трэба адпусціць трохі ўнізе.* Альба Нясв. *Палу парвала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пала падраная.* Грыкені Вільн. *Пала ў адзенні.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *пола* 'тж'.

ПАЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Які мае светла-жоўты колер. *Гігель палаваты.* Гемзы Шальч. 2. Буланы (пра масць коней). *Кабыла палаватая.* Гемзы Шальч.

ПАЛАВА'ЦЬ *зак.* Палавіць. *Мо што палавало качкі?* Пасека Ст.-Дар.

ПАЛАВЕ'ЦЬ *незак.* Набываць палавы колер. *Ужо жыта палавеіць.* Мярэцкія Глыб.

ПАЛАВІ'К *м.* Палавік. *Палавік кароткі.* Мярэцкія Глыб. *Даўней палавікі ткалі з лык.* Лоск Валож. *Я палавікі ткала.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Палавікі с трапык ткалі.* Навікі Лудз.; *параўн.* руск. *половик* 'тж'.

ПАЛАВІ'НА *ж.* 1. Палавіна. *Ужо палавіну пастроіўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палавіну грошай вярнулі.* Гальшаны Ашм. *Палавіна поля пасеяна збож'я.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Сярэдзіна якой-н. адлегласці. *Вада ў палавіны лыткі, лёт плавае па вадзе, а я іду.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. *мн.* Палавіна зямельнага надзелу. *У нас былі палавіны, трацяке, чацьвярціны зямлі.* Міратычы Карэл. ▽ *Як памрэ бацько — палавіна сіраты, а маці памрэ — кругла сірата.* Малахоўцы Бар.

ПАЛАВІ'НКА *ж. памянш.* да п а л а в і н а 1. *Палавінка качана.* Мярэцкія Глыб. *Рэжам качан на палавінкі.* Рыбчына Віл. *Палавінка капусты.* Рудня Астравітая Чэрв. *Разрэж яблыка на дзве палавінкі.* Альба Нясв.

ПАЛАВІ'ННЕ *зб. н.* 1. Апілкі. *Палавіння прынясі.* Мярэцкія Глыб. 2. Палова. *Як палаеш — палавінне адлятае ў сторану.* Глівін Барыс.

ПАЛАВІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і п а л а в і н а 1. *Палавіцу жыта спасуць.* Мсцібава Ваўк. *Палавіца мне і табе.* Мярэц-

кія Глыб. ∇ *Калі гірсіца — хлебу палавіца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Грамніцы — зімы палавіцы.* Солы Смарг.

ПАЛАВІ'ЧНІК *м. устар.* Арандатар. *Як арандавалі зямлю, то палавічнік,— хто арандаваў, сабе браў палавіну ўраджаю.* Чычалі Швянч.

ПАЛАВУ'МНЫ *прым.* Псіхічна хворы. *Палавумная — ні жывець, ні ўміраіць.* Кураполле Паст.

ПАЛАВЫ' *прым.* 1. Тое ж, што і п а л а в а́ т ы 2. *Палавая кабыла — светленькая, рыжая, а цёмная — гнядая.* Жодзішкі Смарг. *Кабыла палавая.* Гемзы Шальч. 2. Цёмна-буры. *Хмара цёмная, палавая, будзя вэлькі дошч.* Кіралі Шчуч. *Палавая хмара — слонца свецця, а яна аш сіняя такая, дошч будзя.* Крэва Смарг. *Хмара чорная, палавая, злая, а воблака харошая.* Дакудава Лід. *Палавая хмара, з палавой хмары дож вялікі.* Пасека Ст.-Дар. *Хмары палавыя, і белыя.* Вецярэвічы Пух. 3. Светла-буры (пра кроў). *Палавая кроў ішла, не красна, а палавая.* Кузьмічы Люб.

ПАЛАГАВА'Я *прым.* Цяжарная. *Палагавая баба чакая дзіця.* Крэва Смарг.; *параўн.* польск. *połogowy* 'радзільны'.

ПАЛА'ДЗІЦЦА, ПОЛА'ДІТІСЯ *зак.* 1. Панадзіцца. *Вот паладзіўся хадзіць да яе, ідзець і йдзець.* Рагулішкі Даўг. 2. Памірыцца. *Кажут, што Васіль з жуонкою ўжэ поладіліся.* Курашэва Чыж. 3. Наладзіцца. *Коврóдок якось сам поладівсе.* Курашэва Чыж.

ПАЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Ужыцца. *Не паладзілі яны, пасварыліся.* Дварчаны Паст. 2. Адрамантаваць. *Паладзіць саху трэба і іншыя прылады.* Рыбчына Віл. 3. Тое ж, што і п а л а́ д з і ц ц а 1. *Паладзіла карова хадзіць у шкоду.* Мярэцкія Глыб.

ПАЛАЖНІ'ЦА *ж.* Парадзіха. *Палажніца нібы ў обмарак упала.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *położnica* 'тж'.

ПАЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Легчы (адпачыць, спаць). *Палажылася, не магу ляжаць.* Быстрыца Астр. *Палажыўся ў хаце.* Паляцкішкі Воран. *Палажыся на пол. Гэнась спаць палажыўся.* Ністанішкі Смарг. *Як дасць у голаву, я палажуся і засну.* Новікі Гродз. *Мы палажыліся і ляжом, як ніжывыя.* Старыя Трокі Трак. *Адна карова палажылася. Каровы папілі, цяпер палажылісе.* Малькуны Ігн. *Палажуся спаць. Палажыўся і заснўу.* *Пагнала свае дзеці спаць і сама палажылася спаць.* Паляцкішкі Воран. *Палажылася і заснула.* Рагулішкі Даўг. *Лошкі паставілі п і палажыліся п.* Стральцы Шальч. *Яны палажыліся спаць.* Гемзы Шальч. *Прыехала сястра — і няма дзе палажыцца. На гаспадарцы рана ўстанеш і позна паложышся.* Кудзялянцы Шальч. *Палажуся звечара і сплю да дня. Днём палажыўся — і заснўу.* Руднікі Шальч. 2. Легчы ў бальніцу. *Я палажылася ў маі* [у бальніцу]. Кемялішкі Астр. 3. Прывыкнуць. *Хто як палажыўся, так і га-*

*ворыць.* Беразіно Докш.; *парайн.* польск. *położyć się* 'легчы, прылегчы'.

ПАЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пакласці дзе-н. *А дзе ты палажыла нош?* Ністанішкі Смарг. *Што паложу, то няма.* Кемялішкі Астр. *Дзе палажу што, там ляжыць.* Лоск Валож. *Палажылі чатыры камені.* Грыкені Вільн. 2. Улажыць спаць. *Нас на лубін немалочаны палажылі.* Гальшаны Ашм. 3. Зрабіць грашовы ўклад (у банк, ашчадную касу). *Палажыла грошы на ўнучку. Палажыла сямсот на карову.* Гальшаны Ашм. 4. Зрабіць кампрэс. *На танцах нагу ахваціла, вышла — ні стану. Мама пашла ў гарот па макрыцу, палажыла, добра атцягнула.* Солы Смарг. 5. *буд.* Закласці. *Палажыў подруб.* Грыкені Вільн. ◇ *Палажыць галаву* — загінуць. *Ён сам галаву палажыў.* Саланое Віл. *Палажыць перамот* — зрабіць памылку пры снаванні красён. *Снавала, палажыла перамот.* Лоск Валож.

ПАЛАЗА' *ж.* Палоса. *Свету ні бачыў, усё корпаўся на сваёй палазе.* Якубова Рас.

ПАЛАЗАВІ'НЫ *мн.* Сляды ад палазоў. *Палазавіны на дарозі; ідзець па палазавінах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палазавіны па снягу відацца.* Кураполле Паст.

ПАЛАЗІ'НЫ *мн.* Тое ж, што і палазавіны. *Часамі прарэжуць сані глыбокія палазіны.* Малахоўцы Бар.

ПАЛАЗО'К *м.* Дэталь плуга, якая слізгаціць па зямлі. *Палазок у плузе.* Відаўцішкі Вільн.

ПАЛАКА'ЦЬ *незак.* 1. Паласкаць (пра бялізну). *Адзення нясу палакаць.* Быстрыца Астр. *Máмо! Я пайду палакаць.* Навасёлкі Свісл. *Аджымаем, а потым палакаць.* Парэчча Гродз. *На Котру вазілі палакаць мяшкі. Мы вазілі палакаць лён у рэчку.* Стральцы Гродз. *Пла́цё мыць у цёплай вадзе, палакаць у халоднай. На рэчку ідуць палакаць пла́цё.* Старое Сяло Зэльв. *Палакаць бяльё.* Вострава Маст. *Трэба палакаць у халоднай вадзе.* Кіралі Шчуч. *Мыла і палакала хусткі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Палакаць буду.* Малахоўцы Бар. *Палакаць пайду на рэчку.* Пасека Ст.-Дар. *Кажны рас трэба палакаць. Я не палакала.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Прамываць (пра масла). *Гэта лошка палакаць масла.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *płukać* 'тж'.

ПАЛАМА'ЦЦА *зак.* Разламацца. *Калясо паламаласо.* Ванелевічы Кап.

ПАЛАМА'ЦЬ *зак.* 1. Разламаць. *Паломіш дзверы.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Пакалечыць. *У клубе́ нагу паламала.* Малі Астр. ▽ *У хаце так, што каб чорт ляцеў бы, так рогі і ногі паламаў.* Саланое Віл.

ПАЛАМЯ'НІЦА *ж. экспр.* Нягодніца. *«Паламяніца!» — казала свякроўка на сваю нявестку. Во паламяніца, есці не даець.* Мярэцкія Глыб.

ПАЛАМЯ'НКА *ж.* Скавароднік з кіслага цеста. *Паламянка пячэцца на скварадзе с хлебнага цеста: топіцца здор, пальцамі натыкаюцца дзірачкі.* Малахоўцы Бар.

ПАЛА'НАЧКІ, ПАЛА'НІЧКІ *мн. памянш.* да п а л а́ н к і. *У паланачках зерне палаім.* Беразіно Докш. *Нада стаўчы крупы, а тады ў паланачкі і палаюць, выпалаюць мякіну. Паланачкі прынясі, нада жыта папалаць.* Мярэцкія Глыб. *Паланачкамі палалі крупы.* Жодзішкі Смарг. *Паланачкі—крупы палалі.* Рудня Чэрв. *Паланічкі былі.* Рыбчына Віл.

ПАЛАНЕ'З *м.* Паланез (танец). *Паланеза ўмела танцаваць і венгерку.* Ухвала Круп.

ПА'ЛАНКА *ж.* Палонка. *Паланку прасек рыбу лавіць.* Мачаск Бярэз.

ПАЛА'НКІ толькі *мн.* Апалушкі. *Паланкі — палаць крупы.* Мішневічы Шум. *Паланкі былі.* Саланое Віл. *Былі б паланкі, крупы б спалала.* Глівін Барыс. *Паланкі ёсць, трэба палаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паланкі — начовачкі такія, як палаеш, пыл угору ідзе.* Мачаск Бярэз. *Як проса таўклі, то палалі ў паланках, пыл з проса спалаеш.* Азяраны Раг.

ПАЛАННЯ', ПАЛАНЯ' *ж.* Тое ж, што і п а́ л а н к а. *Палання бываіць на рэчкі — прагалінь незамершы сярот ракі.* Валынцы В.-Дзв. *Палання, як замерзніць рака, а пасярэдзіні не.* Лоск Валож. *Паланя не замярзае.* Галубы Маст.

ПАЛАПА'ЦЬ *зак.* Злавіць (усіх, многіх). *Коршак палапа́ў куры.* Сакаляны Сакол. *Палапалі тых бандытаў.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *połapać* 'тж'.

ПАЛА'ПАЦЬ *зак.* Набіць. *Акыш, пятух, я табе палапаю баке.* Кіралі Шчуч.

ПАЛА'ПЛЯНЫ *прым.* Узорысты. *Фіранькі ні аднаго цвету, палапляныя.* Малахоўцы Бар.

ПАЛАСА' *ж.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Паласа́мі зямля ў полі.* Тухавічы Лях. *Як былі вёскі, то зямлю мелі поласамі.* Відаўцішкі Вільн. *Зямля была паласамі.* Істра Лудз.

ПАЛАСА'СТЫ *прым.* У палоску. *Паласастае плацце.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЛАСА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а с а́ с т ы. *Жмей паласаты.* Парэчча Гродз. *Купіла паласатага мацерыялу на сукенку.* Едлавічы Брасл. *Паласаты мацерыял.* Рыбчына Віл. *Як укусіць гадзюка, паласатая цела паробіцца.* Вецярэвічы Пух.

ПАЛАСІ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а с а́ с т ы. *Паласістыя пасцілкі ткалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЛАСКАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а с а́ с т ы. *Шэршаль паласкаваты, жоўты, ён кусаецца.* Новікі Гродз.

ПАЛАСКА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і п а л а к а́ ц ь 1.

*Раскажу, як мне было: пашла паласкацца і ўтанула, чуць ратавалі.* Кураполле Паст.

ПАЛАСКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а л а к а́ ц ь 1. *Сёння хусты мыла, паласкала.* Солы Смарг. *Палошчам, пранікам атпіраям бялізну.* Паляцкішкі Воран. *Ідзі палашчы!* Ністанішкі Смарг. *Буду бяльё паласкаць, крухмаліць і весіць.* Малі Астр. *Паласкала на рэцы бялізну і застудзіла ногі, скулянкі на нагах.* Альба Нясв. *Палошча адзене.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛАСКУ'ХА *ж. бат.* Брыца. *Паласкуха, яе сільна скот любіць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛАСНЫ' *прым.* Падзелены на палосы. *Раней зямля была паласная.* Малахоўцы Бар.

ПАЛАСЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а с а́ с т ы. *Зялёная, паласястая жаба.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Паласястая плаценка, шылі спадніцы, кофты.* Кіралі Шчуч. *У яе паласястая сукенка.* Галубы Маст. *Была ў міне паласястая сукенка, белы пасак, сіні пасак, белы, сіні.* Альба Нясв. *Пасцілкі ткалі паласястыя. Я ад гэтых паласястых чуць атказалася.* Ракаўскія Швянч.

ПАЛА'ТАНЫ *прым.* Залатаны. *Гэта рубашка палатана, полы парваліся.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЛАТА'ЦЦА *зак. перан. экспр.* Пажывіцца. *Ні палатаесся каля іх.* Кураполле Паст.

ПАЛА'ТКІ толькі *мн. устар.* 1. Палаці. *Палаткі былі роўна з печаю, захочыш на печы спіш, захочыш — на палатках.* Саланое Віл. *Пад'еў ды лёх на палаткі.* Рудня Астравітая Чэрв. *На палатках людзі спалі.* Лука Нараўк. 2. Падстаўка пад вулей. *Палаткі пад вулей строілі.* Саланое Віл. *Палаткі на дрэве рабілі для вулля.* Глівін Барыс. *Ад мядзведзя палаткі дзелалі ў чатыры-пяць дашок.* Ухвала Круп. 3. Насціл з дошак у гумне, лазні. *Адзін парабак падавоў салому ў сячкарню, а я насіў сечку на палаткі ў гумне.* Маскалі Шчуч. *На палаткі кладуць гарох, сено.* Воўкуш Ліпск. *Палаткі былі, на палатках параліся.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЛАТНО' *н.* 1. Льняная белая тканіна. *Палатно ў кублы складалі — гэта пасах.* Солы Смарг. *Васмінітнікі — палатно на падушкі.* Буды В.-Дзв. *С першага грэбня — зрэбніца, з другога — палатно.* Гальшаны Ашм. *Палатно ў пасы.* Чуркі Ашм. *З лёну палатно ткалі.* Малі Астр. *Палатно канчаяш ткоць і рабілі скарач.* Дакудава Лід. *Бялілі палатно.* Дзераўное Стаўб. *Палатно бяліць трэба.* Дзяніскавічы Ганц. *Было цянейшае, групшае і грубое палатно.* Канюкай Вільн. *Палатно выбралі з кроснаў, раскроілі, злажылі, намачылі ў цэбар, у вадзе, попелу і залілі на палатно; мокне дзень, і два, і тры дні, потым на ваду і пранікамі выпраць.* Грыкені Вільн. *Палатно на дзве ніткі на кашулі ішло.* Стральцы Шальч. *Мочаны лён купцы лепяй куплялі на палотны.* Магуны Паст. *По-*

*латны ткуць.* Паляцкішкі Воран. *Трэба палотна бяліць.* Міратычы Карэл. 2. Мера палатна (5 губак). *Палотна былі на п'яць губак. Дзесяць губак — дзве палатне, а як пятнаццаць губак, то тры палатне.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Сувой. *Вот палацён багáто.* Дзяніскавічы Ганц. 4. *рыб.* Сплеценая сетка для рыбалоўнай снасці. *Палатно на сецъ звязаў.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. *спец.* Плоская тонкая частка якога-н. інструмента, прылады. *Палатно пілы, у касе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палатно ў касе.* Парэчча Гродз., Пасіене, Істра Лудз.

ПАЛАТНЯ'НКА *ж.* 1. Пінжак з палатна. *Палатнянку са льна шылі, нядоўгая такая была.* Ухвала Круп. 2. Калыска. *Палатнянка — палатном абшытая калыска, вешалі на тры калочкі, як хадзілі жаць у поля.* Рыбчына Віл.

ПАЛАТНЯ'НЫ *прым.* Зроблены з палатна. *Усё палатняно насілі.* Міратычы Карэл. *Станікі палатняныя на паясніцы шылі, на шнурочках і зацягвалі.* Старыя Трокі Трак.

ПАЛАТУ'ХА *ж.* Жанчына, якая займаецца полівам. Номікі Бабіц.

ПАЛА'ТЫ *мн.* Тое ж, што і п а л á т к і 3. *Палезім парыцца на палаты.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЛАЎКІ' *мн.* Плáхі. *Палаўкі з паловы бервяна, плахі.* Мсцібава Ваўк.

ПАЛАЎНІ'К *м.* Тое ж, што і п а л а в í к. *Палаўнік ткала.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЛАЎНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і п а д·л ó ж ы н а. *Адну палаўніцу палажыў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЛАХАТА'ЦЬ *зак. экспр.* Паламаць. *Увесь забор палахаталі каровы, як ідуць, усе бокам труцца.* Солы Смарг.

ПАЛАХА'ЦЦА *незак.* Палохацца. ▽ *Ні палахайся, што дзеньгі згубіш, не радуйся, як нойдзеш.* Вецярэвічы Пух.

ПАЛАХЛІ'ВЫ *прым.* Баязлівы. *Воўк і палахлівы.* Старыя Смільгіні Воран. *Палахлівы конь.* Чуркі Ашм. *Палахліво дзіця.* Альхоўка Навагр., Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЛАЦЕ'НКА *н.* 1. Ручнік. *Рушнік, палаценка і трапкачэ бываюць. Рушнік — на абразах, палаценкам твар выціраюць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. У выразе: *Ткаць у палаценку* — ткаць у клетку. *Ткалі ў палаценку: ніткі фарбавалі, выхадзілі клетачкі, як ткалі.* Старыя Трокі Трак.

ПАЛАЦЕ'НЦА, ПАЛАЦЕ'НЦО *н.* 1. *памянш.* да п а л а т н ó 1. *Адзін навой, што ніткі дзержыць, на другі навіваяцца палаценца.* Старыя Трокі Трак. 2. Ручнік. *«Пойдзям на раку,— кажа яна свайму мужыку,— вазьмі с сабою палаценцо».* Мікалаеўшчына Стаўб.

ПАЛАЦЕ'НЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а т н я́ н ы. *Кашулі былі палаценыя.* Гемзы Шальч.

ПАЛАЦЁ *н.* Поліва. *Якоя твае палацё, ты больш зелья пакідаяш, як споліш.* Кіралі Шчуч.

ПАЛА'ЦІ *мн.* 1. Тое ж, што і п а л а́ т к і 1. *Палаці робім высокія, на ўзроўні печы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Тое ж, што і п а л а́ т к і 3. *Палаці ў бані.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЛАЦКІ' *прым.* Полацкі. *Аўтобус пашоў палацкі полвасьмога.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛА'ЦЬ I *незак.* Палымнець. *Дрова палаюць, трэба сырых дроў укінуць.* Кіралі Шчуч. *Палаюць дровы.* Саланое Віл. *Дровы палаюць, полымя велькая.* Альхоўка Навагр. *У печы агонь палая.* Солы Смарг.; параўн. польск. *pałać* 'тж'.

ПАЛА'ЦЬ II *незак.* Ачышчаць абмалочанае ці абтоўчанае зерне ад мякіны апалушкамі. *Паланачкамі палалі крупы.* Жодзішкі Смарг. *Палалі зярно, крупы, як таўклі ў ступі.* Саланое Віл. *Крупэ палалі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Палала семя на дварэ.* Альба Нясв. *Палаеш у начовачках зерне — пыл угору ідзе.* Мачаск Бярэз. *Палаць трэба крупы.* Палік Барыс. *Крупы палалі, у начовачках апалаюць.* Гайна Лаг.

ПА'ЛАЧКА *ж. памянш.* Тонкі кіёк. *У бойца на палацца кружок, і б'юць масла.* Малахоўцы Бар. *Палачка — што кулі вязаць.* Гемзы Шальч.

ПАЛЕ'ГЛІЦА, ПАЛЁГЛІЦА *ж.* Палеглыя збожжавыя (расліны). *Палегліцы нарвала на палегшым іржышчы.* Бакшты Іўеў. *Як дошч дась, то жыта паляжа — і палегліца.* Парэчча Гродз. *Палегліца — палеглы пасеў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Палегліца там, палёг ячмень.* Кузьмічы Люб. *Пустая палёгліца, у ёй каласы пустыя.* Вецярэвічы Пух. *Палёгліца там.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Палёгліцу цяшка ўбіраць. Такрок быў харошы ўражай, але палёгліцы много было.* Мсцібава Ваўк.

ПАЛЕ'ГЛЫЯ *мн.* Загінуўшыя. *Палеглым памятнік паставілі.* Латыгаль Віл.

ПАЛЕ'НА *н.* 1. Палена. *Адно палена грубая прывёс, папілую, то будзя на печаў дзве дроў.* Кіралі Шчуч. *Адно палена дроў прынёс.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я там палена палажыўшы.* Паляцкішкі Воран. *Схадзі прынясі з будкі паленаў у печ.* Альба Нясв. *У стаяку запалю дзве паленя.* Вецярэвічы Пух. 2. Кругляк. *Палена — вялікая палка, а нашчапаныя палкі — палена дроў.* Ёдлавічы Брасл. *Кінуўся с паленам да мяне.* Міратычы Карэл. *Клалі на лён палены мокрыя, цяшкія, націскалі.* Альхоўка Навагр. *Длугая палена вязі.* Беняконі Воран.

ПАЛЕНАВА'ЦЦА *зак.* Паленавацца. *Паленавалась варыць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЛЕНДВІ'ЦА *гл.* ПАЛЯНДВІ'ЦА

ПАЛЕНДРЫ'ЦА *гл.* ПАЛЯНДВІ'ЦА

ПАЛЕ'ННЫ *прым.* Драўляны. *Пачопку чапалі на паленныя вёдры.* Ухвала Круп.

ПАЛЕ'НЦА *н. памянш.* да п а л е́ н а 1. *Прынясі мне па-*

*ленца дроў.* Граўжышкі Ашм. *Можа, паленца якоя памагу перапілаваць.* Малі Астр. *Трэба ўкінуць паленца дроў, каб дагарэлі тыя канчарэ.* Кіралі Шчуч. *Ні паленца дроў німа.* Альба Нясв.

ПАЛЕ'ПШАЦЬ, ПОЛЕ'ПШАТЫ *зак.* 1. Паздаравець. *Кароўка нагу прабіла, ці палепшая кароўка.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *безас.* Зрабіцца лягчэй. *Колька колола, як поставылі банкі — так і полепшало.* Горск Бяроз.

ПАЛЕ'СЦІ *зак.* Палезці. *Палёс на гару.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЛЕ'ТАК, ПОЛЕ'ТОК, ПОЛІ'ТОК, ПОЛІЕ'ТОК *м.* 1. Участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы. *На гэтым палетку ні вырасла нічога.* Саланое Віл. *Палетак пад бульбу, палетак пад ячмень.* Рыбчына Віл. *Рабілі палеткі: у адным жыта, у другім ярына.* Жылі Іўеў. *Палетак аўса, палетак жыта, ячменю.* Мярэцкія Глыб. *Палетак пахаты.* Рудня Астравітая Чэрв. *Просты палетак процій вёскі.* Стральцы Гродз. *Той палетак засеялі жытам.* Альхоўцы Лях. *У мяне застаўся палетак незагараны.* Гемзы Шальч. *Полеток быў панскі, дзе колхозскі двор.* Хатынічы Ганц. 2. Адна з трох частак ворнай зямлі пры трохполлі. *Зямля дзеліласа на тры палеткі: угор, ярына́ і жы́то азіма.* Рыгалоўка Сувалк. *Падзялілі на палеткі зямлю. У адным палетку садзят бульбу, сеюць авёс, чылі мяняют кажны год.* Лука Нараўк. *Було трэ політкі: одін політок було жэто, дру́гій було ярово́е, а трэтій політок буў попар.* Дзмітравічы Кам. *Як была шаховніца, то одін поліеток лежав параніною, на дру́гум сіеялі озіміну, на трэ́тюм ярыну.* Курашэва Чыж.

ПАЛЕТА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Палеталася авечка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЛЕ'ТАЦЬ *зак.* Хутка пабегаць. *Палетаю па полю.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЛЕ'ТКА *ж.* Тое ж, што і п а л е́ т а к 1. *Адну палетку пасадзіла.* Магуны Паст. *Во гоні, а карацей — палетка. Палетка болей, як чэцверціна.* Чуркі Ашм.

ПАЛЕ'ХЧЫ *зак.* Загінуць. *Мае браты на вайне паляглі.* Валынцы В.-Дзв.

ПА'ЛЕЦ, ПА'ЛІЦ, ПА'ЛЯЦ *м.* 1. Палец. *Так сціснеш у пальцах.* Грыкені Вільн. *Па шэсць пальцаў — такія аброды* [уроды] *былі.* Быстрыца Астр. ▽ *Ніхто слова не скажы, пальца не выстаў.* Мішневічы Шум. *Жыву адзін, як паляц.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жыла адна, як паляц.* Саланое Віл. *Я такую бяду і пальцам разгвяду.* Малі Астр. *Закаляц — на паляц.* Гальшаны Ашм. 2. Ручка ў касільне. *Паліц — ручка ў касе, кароценькая.* Істра, Пасіене Лудз. ◇ *На паляц* — вельмі мала. *На паляц яму ўліў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЛЕ'ЦЕЦЬ, ПАЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Хутка пабегчы, пайсці.

*Палецім у той канец. Ужо палеціў хлапец. Палеціла ў магазін.* Вялікія Баяры Шчуч. *Палечу шукаць.* Альхоўка Навагр. *Хоць ні могучы палеціў.* Міратычы Карэл. *Палецяў на сяло.* Жылі Іўеў.

ПАЛЕ'ЧВАЦЦА *незак.* Лячыцца час ад часу. *Колькі яна палечвалася.* Дакудава Лід.

ПАЛЕ'ЧЫЦЦА *зак.* Вылечыцца. ▽ *Ні палечылася, а накалечылася.* Саланое Віл.

ПАЛЕ'ШКА *ж.* Паляшучка. *О, як гэта палешка спявае!* Малахоўцы Бар.

ПАЛЕ'ШНЯ *ж.* Паляванне. ▽ *Ні тады сабаку кормюць, як ідуць на палешню.* Лоск Валож.

ПАЛЕ'ЯЦЬ *зак.* Паліць. *Трэба іці агурке палеяць.* Вецярэвічы Пух. *Палеяш малаком мухамору і мухам паставіш.* Азяраны Раг.

ПАЛЁГЛІЦА *гл.* ПАЛЕ'ГЛІЦА

ПАЛЁГЛЫ *прым.* Палеглы. *Палёглае жыта ля лесу.* Пацаўшчына Дзятл. *Ідзеця пажнеця тоя жыта палёглая!* Кіралі Шчуч. *Усей лён палёглы.* Міратычы Карэл. *Жыта палёглая гуштамі.* Малі Астр.

ПАЛЁЖАВАЦЬ *незак.* Ляжаць час ад часу. *Дачка палёжаваіць, ей можна палёжаваць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛЁНЦЫ *прым.* Пякучы. *Кал гусінны натта палёнцы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *palący* 'тж'.

ПАЛЁНЫ *прым. ганч.* Абпалены. *Гаршкі былі чорныі палёныі.* Лісна В.-Дзв.

ПАЛЁТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Авечка палётала з баранамі.* Малькуны Ігн.

ПАЛЁЎКА *ж. плыт.* Драўляная палка, раздвоеная па канцы, для тармажэння плыта. *Палёўкай задзержаваюць згон; як саха, дупцовы крук, арэ, як сахою.* Вецярэвічы Пух.

ПАЛІ'ВА *ж.* Шклопадобная маса, якой пакрываюць керамічныя вырабы. *Гаршчок, місачкі палівай палівалі.* Магуны Паст.

ПАЛІВА'ННЕ, ПАЛІВА'ННЯ *н.*, ПАЛІВА'НЯ *ж.* Паліўка. *Паліванне памагло, ігрушы ні панэндзіліся.* Рудня Астравітая Чэрв. *За палівання што напісалі?* Магуны Паст. *Якоя тваё палівання, зямлі ні змачыў!* Мярэцкія Глыб. *Якоя тваё палівання, ты дзе плюхнеш, а дзе не!* Кіралі Шчуч. *Якая твая паліваня!* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЛІВА'НЫ *прым.* Пакрыты палівай. *Гаршчок паліваны, латушка няпаліваная.* Магуны Паст. *Збаны былі гліняныя, паліваныя.* Дакудава Лід. *Паліваны ладыш.* Рудня Астравітая Чэрв. *У мяне ўсе збанкі паліваныя.* Альба Нясв. *Гляк з чорнай гліны, паліваны.* Ухвала Круп.

ПАЛІВА'ЦЦА *незак.* Абліваць сябе вадой. *Чоп у лазні, з яго чэрпалі і паліваліся.* Быстрыца Астр.

ПАЛІВА'ЧКА *ж.* Лейка. *З палівачкі лье воду.* Пацаўшчына Дзятл. *Палівачку вазьму і палівацю гуркі.* Дзераўное Стаўб. *О, я сам зрабіў палівачку, велькая, больш як вядро вады ўлезя.* Альба Нясв.

ПАЛІВЕ'НЬ *м.* Лівень. *Бальшы палівень, абложныя даждэкы пашлі.* Рыбчына Віл.

ПАЛІЖА'ТАК *м.* Тое ж, што і п а л е́ г л і ц а. *Трудна яго ўбіраць, чыста не ўбяруць, многа паліжатку; містамі можа палеч жыта, пшаніца.* Валынцы В.-Дзв.

ПА'ЛІК *м.* Калок. *Ці вы будзеце палікі біць?* Хатынічы Ганц. *Палікі, калочкі дубовенькія, заганялі ў зямлю пры падзелу ўчасткаў.* Азяраны Раг.

ПАЛІ'К *м.* Гестка. *Мушчынам шылі сарочкі, цвіклы ўстаўлялі, а на плячуках палікі.* Рудня Чэрв. *Палікі нашывалі у сарочцы і каўнярцы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЛІКМА'ХЕР *м.* Цырульнік. *Пайду да палікмахера, хай астрыжэ.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *парикмахер* 'тж'.

ПАЛІНА' *ж.* 1. Пала, крысо. *Паліну малаком абліла!* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і п а д л о́ ж ы н а. *Паліна прагніла, замяніць нада.* Глівін Барыс.

ПАЛІНДВІ'ЦА *гл.* ПАЛЯНДВІ'ЦА

ПАЛІСА'ДА *ж.* 1. Дрэвы, якімі абсаджана дарога. *Апсаджана палісадай дарога.* Магуны Паст. *Палісадай апсадзілі дарогу.* Граўжышкі Ашм. 2. Алея. *Палісада была такая ў маёнтку.* Чычалі Швянч.

ПАЛІСА'ДНІК *м.* Кветнік. *Пад акном у нас палісаднік.* Багушэвічы Бярэз.

ПАЛІСКА'ЦЦЯ *незак.* Блішчаць. *Вот гэта сукенка хароша, аш паліскаецца. Як насыплеш бутылкі і цукрам засыплеш, то сок аш паліскаецца, такі харошы, як лікёр.* Кіралі Шчуч.

ПА'ЛІТА *н.* Паліто. *Паліта дала надзець.* Граўжышкі Ашм.

ПАЛІТНЯ'НАЧКА *ж.* Тое ж, што і п а л а т н я́ н к а 2. *Бралі тры калочкі і падвешвалі на вяровачках у полі, называлі палітняначка.* Рыбчына Віл.

ПАЛІТУРАВА'НЫ *прым.* Паліраваны. *Шафа палітураваная.* Солы Смарг. *Гэты стол палітураваны. Я сам рабіў, і палітурай пакрыў.* Альба Нясв.

ПА'ЛІЦ *гл.* ПА'ЛЕЦ

ПАЛІ'ЦА *ж.* 1. Дошка, прымацаваная да сцяны, для размяшчэння пасуды, кніг і інш. *Майго хлопца паліца, сам зрабіўшы.* Солы Смарг. *Паліца над дзвярмі.* Саланое Віл. *Паліца — дзе пасуда стаіць.* Міратычы Карэл. *На паліцы бутэлькі стаяць. Пасуда на паліцы стаіць.* Кіралі Шчуч. 2. *с.-г.* Частка плуга, сахі, якая адразае і пераварочвае скібы зямлі. *У сахе паліца і два нарашкі.* Івашкаўцы Смарг. *Паліца переварачавала зямлю.* Саланое Віл. *Паліца ў плузе адварачавае зямлю.*

Кемялішкі Астр. *У сахе паліца адвальвая зямлю.* Парэчча Гродз. *Пат нарогі ўстаўляна паліца, і зямля аткідаяцца набок.* Кайшоўка Карэл. *У ёй* [сасе] *была ўверсе паліца, у верхнюм нарозі, у сподню̂м нарозі — прыполак.* Касцюкі Уздз. *Паліца ў плузе, што зямлю сцеле.* Дзяніскавічы Ганц. *Саха была дзеравяная, два нарогі, а ўперод—паліца.* Швэды Вільн. *Паліца да сахі, былі беразовыя.* Кудзялянцы Шальч. *Паліца — частка сахі, плуга.* Грыкені Вільн.

ПАЛІ'ЦКА *ж. памянш.* да п а л і ц а 1. *Была над ямкай паліцка сушыць лапці.* Курaполле Паст. *Зрабі мне паліцку.* Кузьмічы Люб.

ПАЛІ'ЦЦА I *незак.* 1. Паліцца. *Паліцца мой печ.* Старыя Сміьгіні Воран. *Паліцца ў печэ на ранку.* Вострава Маст. 2. Свяціцца. *Свету няма, лямпа паліцца.* Малахоўцы Бар. *Лямпа ўжэ ў іх паліцца.* Альба Нясв. *Лямпа праз ноч паліцца.* Стральцы Шальч. 3. Мець высокую тэмпературу ў час хваробы. *Усенька палюся.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *palić się* 'гарэць'.

ПАЛІ'ЦЦА II *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кабылы. *Кабыла паліцца.* Альхоўка Навагр., Магуны Паст., Малі Астр., Сакаляны Сакол. *Кабыла паліцца да жарапцоў.* Рагулішкі Даўг. *Кабыла паліцца.* Чуркі Ашм.

ПАЛІЦЫЯ'НТ *м.* Паліцэйскі. *Зара я вам раскажу, як рас біліся ў нас парцізаны с паліцыянтамі.* Абрамаўшчына Смарг.; *параўн.* польск. *policjant* 'тж'.

ПАЛІ'ЦЬ I, ПАЛІ'ЦІ *незак.* 1. Спальваць. *Беларусь немцы палілі, толькі дымы відзіш, не было людзям пакою.* Рагулішкі Даўг. 2. Падтрымліваць агонь у чым-н. *Манька паліла ў печы.* Саланое Віл. *Печку палю.* Граўжышкі Ашм. *Печку я кажды дзень палю, звару сабе, парасятам. А ты паліш?* Лоск Валож. *Усе людзі печы паляць.* Альхоўка Навагр. *Пара печ паліць.* Парэчча Гродз. *Ішчэ паляця печ?* Альхоўка Навагр. *Будзеш паліць печ?* Мачаск Бярэз. *Ест меншчызны — печы паляць.* Гемзы Шальч. *Трэба печку паліці.* Парэчча Гродз. 3. Абаграваць (памяшканне). *Дзісяй палям лазню, будзім мыцца.* Старыя Трокі Трак. *Паляць лазню.* Грыкені Вільн. 4. Прымушаць гарэць з мэтай асвятлення. *Лучыны палілі.* Гальшаны Ашм. 5. Грэць. *Трэба крыш паліць цэґлай. Я паліў спіну электрычэскай грэлкай, трэба ногі паліць.* Гемзы Шальч. 6. Моцна пячы. *Паліць жара, німа чым дыхаць.* Стральцы Гродз. 7. Тэмпературыць. *Гарачка паліла да сарака, як схопіцса яна, на сцену лезла.* Крынкі Крын. *Жога ў твар паля.* Малі Астр. *Рабёнка паліць, і ён плачыць.* Малькуны Ігн. 8. Абпальваць. *Пан быў у Забеліне, рабіў цэглу і не паліў, недапал, сыроўца.* Грыкені Вільн. 9. Бліскаць, біць (пра маланку, пярун). *Паля і паля пярун.* Солы Смарг. *Як пачала паліць маланка!* Кіралі Шчуч. *Маланка паліць. Маланка*

*б'е.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* польск. *palić* 'спальваць, паліць у печы, курыць'.

ПАЛІ'ЦЬ II *зак.* 1. Пачаць ліць. *Як дош паліў, зачарнелі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Так дошч паліў, што рыштокі пацяклі.* Чычалі Швянч. 2. Увільгатніць. *Паліў дошч добро зямлю, паліў грады.* Дзяніскавічы Ганц.

ПА'ЛІЧАК *м. памянш.* да п á л і к. *Пожні аддзяляліся палічкамі.* Азяраны Раг.

ПАЛІ'ЧКА *ж. памянш.* да п а л í ц а 1. *У шафачку ставім пасуду, а бывала, былі палічкі.* Магуны Паст.

ПАЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Падлічыць. *Палічыла грошы.* Паляцкішкі Воран. *Давай палічым грошы.* Ністанішкі Смарг. *Трэба грошы палічыць.* Кіралі Шчуч. *Трэба палічыць грошы.* Вострава Маст. *Палічы грошы!* Рудня Астравітая Чэрв.

ПА'ЛКА I *ж.* 1. Палка. *Злізай с печы, палкі нада добрай.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я на палцы хаджу.* Плябанцы Ашм. 2. Дэталь якой-н. прылады. *Вітуха была, пяць палак, у сцяне была дзірка, на палку надзяеш вітуху.* Латыгаль Віл. ∇ *Як спіць, можна с палкай перайсці.* Курапoлле Паст.

ПА'ЛКА II *прысл.* Жарка. *Палка гарaць дровы.* Граўжышкі Ашм.

ПА'ЛКІ *прым.* Гарачы. *Пліта такая палкая.* Бакшты Іўеў.

ПАЛКНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Палкнула адзін раз.* Граўжышкі Ашм. *Адзін глыток палкнуў.* Быстрыца Астр. *Палкне, палкаў яду.* Вострава Маст. *Не магу палкнуць, так горла баліць.* Новікі Гродз. *Чуць палкнула трохі вады.* Старыя Трокі Трак. *Узяў таблетку палкнуў. Сліну не магу палкнуць.* Руднікі Шальч. *Палкнуў і пашло.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *połykać* 'глытаць'.

ПАЛНАУ'МНЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а в ý м н ы. *Яна палнаумная ад раджэння.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЛО'ВА I *ж.* Тое ж, што і п а л а в í н а 1. *Палова яблыка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Маладзічок дарасце да паловы.* Гемзы Шальч.; *парайн. польск. połowa* 'тж'.

ПАЛО'ВА II, ПОЛО'ВА *ж.* Мякіна. *Палова — гэта мякінка, даўней елі паловы хлеп, дабаўлялі мякіну.* Лісна В.-Дзв. *Палова — мякіна.* Мярэцкія Глыб. *Палова ат саломы.* Лука Нараўк. *Раней палову елі, у хлеб клалі.* Скрыпчына Лудз. *Паловай называлася мякіна; паловы хлеб, палоўка.* Лісна В.-Дзв. *Трэба віятэ, полову одныматэ от жэта.* Дзмітравічы Кам. *Віеялі збуожэ і полову збіралі в мішкі. Грэчыну полову свіні добрэ ідят, а овсяноі нэ хочут.* Курашэва Чыж.

ПАЛО'ВАЛАК *м. устар.* Паўвалокі. *Паловалак зямлі.* Вострава Маст.

ПАЛО'ВІК *м.* Тое ж, што і п а л а в í к. *Паловік пасланы, два паловікі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЛО'ВІНКА *ж.* Тое ж, што і п а́ л а н к а. *Паловінку прасеклі і ўкінулі ў рэку забітага чалавека.* Альхоўка Навагр.

ПАЛО'ВЫ I толькі *мн.* Тое ж, што і п а л а́ н к і. *Палаем зерне ў паловах.* Глівін Барыс.

ПАЛО'ВЫ II, ПАЛО'ВЫЙ *прым.* Нявеяны. *Паловы хлеп.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паловы хлеп елі нявеяны, з мякінай. Паловы хлеп укусны, там зёлкі розныі; людзі ад яго былі здаровыі.* Валынцы В.-Дзв. *Паловы хлеб — што ў зярно дабаўлялі мякіну. Хлеп паловый, жыта з мякінай малолі і пяклі хлеп.* Лісна В.-Дзв.

ПАЛО'ГІ *прым.* Адхоністы. *Палогі берах.* Альхоўцы Лях.

ПАЛО'ДНІК *м.* Палонік. *Палоднік быў дзеравяны.* Малі Астр.

ПАЛО'ЖЫСТЫ *прым.* Пахілены. *Паложыстая дзерава.* Жылі Іўеў.

ПАЛО'З *м.* Полаз. *Палазы ў санях, у санках, а як адзін, то — палоз.* Судэрва Вільн. *Палоз зламаўсе ў гэтых санях.* Навадворцы Васільк.

ПАЛО'Й *м.* 1. Лівень. *Палой той захваціў, думала, забіў палой куранят. Палой — як дошч, то па зямлі коціць; даў дошч палоям. Палой — вялікі дошч, як наглы, з навальніцаю, пакладзе ўсё дабро, размывая.* Альхоўцы Лях. *Палой моцны.* Тухавічы Лях. 2. Тое ж, што і п а в о́ д з я. *Палой — калі вада на рэчцы ідзе паверху лёду.* Масілавічы Сл.

ПАЛО'ЙКА I, ПАЛУ'ЙКА *ж.* 1. Жменя або некалькі жмень ільновалакна. *Палуйка — жменя лёну, возьмеш вялікую палуйку і шчэшаш, астанецца малая.* Бакшты Іўеў. *Возьмяш жмень дзве, тры — гэто палойка — і трэпяш.* Малахоўцы Бар. *Палуйку лёну натрапала. Тады гэтыя палуйкі скручваяш у скрутак, сорак палуяк — сарачня.* Міратычы Карэл. 2. Скрутак з некалькіх жмень абтрапанага або ачэсанага льну. *Чэшаш і круціш у скрутак лён — гэта палойка.* Тухавічы Лях. *Сцірачак чатыры і ўжэ палойка — жменя вяліка, аскубеш, завяжаш цесно. Ільну палойка.* Альхоўцы Лях. *Ручайку с палойкі напрадзеш. Палойка — тропанку дзеляць на дзве-тры часткі.* Семежава Кап. 3. Палавіна. *Згарэла палойка хлева. Качан парэзалі на палуйкі. Палуйкамі складалі ў бочку.* Слабада Смал. *Палуйка гарбуза. Нарэзала палуйкі гарбузоў. Палуйка качана, на дно кладом.* Азяраны Раг.

ПАЛО'ЙКА II *ж.* Невялікая рэчка, якая цячэ праз балота. *Между балот працякаюць рачушкі, іх называюць палойкі.* Палік Барыс.

ПАЛО'ЙКА III *ж.* Праполка. *Як пасеюць лён, як расце, шчэ лён не полан, палойку трэба рабіць.* Мачаск Бярэз.

ПАЛО'ЙНІК I, ПАЛО'ЎНІК *м.* Тое ж, што і п а л о́ д н і к. *Крупеню зачэрпіць палойнікам і есць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Палойнік быў.* Янова Рас. *Палойнік — вялікая лышка.* Магу-

ны Паст. *Палойнік — бальшая лошка.* Груздава Паст. *Палойнік быў дзеравяны.* Кураполле Паст. *Суп ліюць палойнікам, а цяпер чарпаком.* Ёдлавічы Брасл. *Палойнікам наліваюць суп.* Навікі Лудз. *Дзеравяны палоўнік у нас быў. Зачэрпай палоўнік мне крупені.* Пасіене Лудз.

ПАЛО'ЙНІК II, ПАЛО'ЎНІК *м.* Хвастатая лічынка жабы. *Палойнікі з хвосцікамі, жапкі з іх палучаюцца.* Асавец Віл. *Палойнікі з ікры жабей.* Лісна В.-Дзв. *Палойнікі ў лужах водзяцца. От палойнікаў было — і з хвасткамы, з хвасткамы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палойнікаў поўна, аш кішыць.* Лоск Валож. *З палоўнікаў жабы выводзяцца.* Рагулішкі Даўг.

ПАЛО'К *м.* 1. Тое ж, што і п а л а́ т к і 1. *Перш быў палок зроблены, я на палку з дзецьмі спала, саломы пакладзена патспот, дзяругі, падушка.* Кіралі Шчуч. *Палок быў каля печы, на козлах.* Малахоўцы Бар. *Палкі былі, спалі на іх.* Магуны Паст. *Палкі былі, спалі там. Трох братоў было, мы спалі на палку.* Гальшаны Ашм. *Палкі былі каля печы, вышыні, як лошка, трошка выжай.* Гемзы Шальч. *Калісьці палке́ рабілі спаць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Тое ж, што і п а л а́ т к і 3. *Палезім парыцца на палок.* Ёдлавічы Брасл. *Палок у лазні, дух ішоў.* Саланое Віл. *У лазні палок, лезуць на палок парыцца.* Солы Смарг. *Палок, палкі ў лазні.* Жылі Іўеў. *З жордачак* [у ёўні] *палок ставілі.* Азяраны Раг. *Палок у лазні.* Гемзы Шальч. *На палкох сушылі лён.* Крэва Смарг.

ПАЛО'М *м.* Пералом. *Крэпка страшны быў палом рукі.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЛО'МІНА *ж.* Тое ж, што і п а́ л а н к а. *Паломіну ў рэцы вырубіў.* Багушэвічы Бярэз.

ПАЛО'МКА *ж.* Тое ж, што і п а́ л а н к а. *Паломка за ноч замерзла.* Багушэвічы Бярэз.

ПАЛО'МЛІНЫ *дзеепрым.* Паламаны. *Паломліны шуфіль.* Лоск Валож.

ПАЛО'НІК *м.* Тое ж, што і п а л о́ д н і к. *Палонік дзеравяны быў, цяпер жалезныя купляюць.* Солы Смарг. *Палонік драўляны.* Рыбчына Віл. *Палонік—велькая лышка.* Быстрыца Астр. *Палонік велькі быў.* Кудзялянцы Шальч. *Дзе хто дзеў мой палонік?* Граўжышкі Ашм. *Я палонікам не бяру стравы.* Крэва Смарг. *Палонікам наліваюць.* Гемзы Шальч.

ПАЛО'НЬКА *ж.* Тое ж, што і п а́ л а н к а. *Рыба выходзіць з палонькі, і ловяць рыбу.* Альхоўка Навагр.

ПАЛО'ПАЦЦА *зак.* Лопнуць у многіх месцах. *Браўно палопалася, шчэлкі ёсь.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛО'ПАЦЬ *зак.* Патрэскацца. *Палопаяць зямля ад сухаты.* Груздава Паст. *Мала што ашурплі мае рукі, но і палопалі — вот больна!* Гемзы Шальч.

ПАЛО'СА *ж.* 1. Паласа. *Пасцілкі ткалі ў палосы.* Саламір'е Віл. 2. Вузкі, доўгі след ад чаго-н. *Нага сінія, палосамі*

*станіць, як змія ўкусіць.* Валынцы В.-Дзв. 3. Тое ж, што і п а л а с á. *На палосе куст арэшніку.* Пасека Ст.-Дар. *Да дваццаць восьмага года палосы былі.* Навікі Лудз. 4. Участак, які займае жаць жняя. *Адна жняя заняла палосу шыроку, а другая — вуску.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛО'САВЫ *прым.* Які робіцца з палос. *Палосавыя лапці плялі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛО'СІНА *ж.* Доўгі, вузкі кавалак чаго-н. *Адрэжаш палосіну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Палосіны лыка надраў.* Жылі Іўеў. *Выдзяруць палосіну з вязу. Ліповая, вязовая палосіна.* Бакшты Іўеў.

ПАЛО'СІЦА *ж.* Тое ж, што і п а л а с á. *Палосіцы былі ускія: сабака ляжыць на сваём — хвост на чужом.* Алекшыцы Бераст.

ПАЛО'СКА I *ж. памянш.* да п а л ó с а 3. *Многа палоскаў зямлі было.* Дзераўное Стаўб.

ПАЛО'СКА II *ж.* Скрутак з лыка, лазы. *Палоска — скручанае лыка, лаза.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЛО'СНА *прысл.* Падзелена на палосы (пра зямлю). *Да дваццаць восьмага года палосна, палосы былі.* Навікі Лудз.

ПАЛО'СНЫ *прым.* Падзелены на палосы. *Раней была палосная зямля.* Малахоўцы Бар. *Зямля была палосная, патом хутарная.* Мельнікі Лудз.

ПАЛО'ССЕ, ПАЛО'ССЁ, ПАЛО'СЬЕ *зб. н.* 1. Вузкія, доўгія кавалкі лыка. *З палосся плялі лапці.* Пацаўшчына Дзятл. *Плялі лапці з палосся, палоссе дралі з ліпы.* Альхоўцы Лях. *З ліпы палосся дроў.* Галубы Маст. 2. Тонкія дубцы, з якіх плялі кашы. *Палоссё — дупчыкі на дубовыя кошыкі.* Альхоўцы Лях. *Пук палосься нясе з ільмаку.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛО'СЬМІНАК *м. устар.* Мерны посуд, роўны палавіне асьміны. *Палосьмінак — палавіна асьміны, картошку мерылі.* Старыя Трокі Трак.

ПАЛО'ЎКА I *ж.* 1. Тое ж, што і п а л ó в а II. *Палоўка — атходы жытнія.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як пераарфаванае зярно — чысценькая, палоўка атлетáла.* Масішкі Красл. 2. Мука, у якой ёсць палова. *Елі хлеп с палоўкі, змелюць з мякінай і пяклі хлеп.* Ахрэмаўцы Брасл. *Намалоў палоўкі, будуць пячы палові хлеп.* Валынцы В.-Дзв. 3. Хлеб з нявеянага жыта. *Палоўка — печаны хлеб з нявеянага жыта.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛО'ЎКА II *ж. памянш.* да п а л а в í н а 1. *С палоўкаў яблакаў выкалупліваю гэтым ножыкам. Палоўку* [халадніку] *січас, палоўку заўтра з'есць.* Солы Смарг.

ПАЛО'ЎНІК I *гл.* ПАЛО'ЙНІК I

ПАЛО'ЎНІК II *гл.* ПАЛО'ЙНІК II

ПАЛО'ХАЛО *н.* Пужала. *Палохала на вераб'ёў.* Старое Сяло Зэльв.

ПАЛО'ХАЦЦА *незак.* Баяцца. *Палохаюся і палохаюся ўсяго.* Граўжышкі Ашм.

ПАЛО'ХАЦЬ *незак.* Страшыць. *Дзіця не палохай!* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЛО'ЦЬ I, ПЕ'ЛЯЦЬ, ПОЛО'ТЫ, ПОЛО'ТЭ *незак.* Ачышчаць ад пустазелля. *Пайду буракі палоць.* Лоск Валож. *Пашла грады палоць.* Альба Нясв. *Мяка палоць, да пажэчкаў дапалола.* Рагулішкі Даўг. *Трэба палоць поля, грады.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён поліць на какарэчках. Бабушка бульбу поліць.* Саланое Віл. *Зіна ўсё поля і поля.* Кіралі Шчуч. *Лён палолі.* Дзераўное Стаўб. *Палолі лён, траву выбіралі.* Канюкай Вільн. *Палолі лён.* Грыкені Вільн. *Буду палоць, ніхай ідуць пеляць буракі.* Кемялішкі Астр. *Пялю гарады.* Гемзы Шальч. *Я пялю буракі.* Рагулішкі Даўг. *Як пеліш — мурашкаў многа.* Малькуны Ігн. *Буракі пеля.* Паляцкішкі Воран., Жылі Іўеў. *Мама буракі пеля.* Руднікі Шальч. *Бронюсь сам пеліць. Я сама пялю. Колькі яны пелюць разоў? Пяць чалавек пеліць буракі.* Ёдлавічы Брасл. *Трэба полоты буракі.* Горск Бяроз. *Полют градке, гратку.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *pleć* 'тж'.

ПАЛО'ЦЬ II *незак.* Тое ж, што і п а л а́ ц ь II. *Поліш ў начовачках.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сухі авёс поліш чэраз карыцца, сеіш праз рэшата.* Скрыпчына Лудз. *Нада палоць ячмень, штоб не было вусоў.* Янова Рас. *А тады былі палоць начовачкі. Палолі, пыл ляціць.* Магуны Паст. *Начовачкай палолі, пыл ці мякіначка якая ляціць.* Ракаўскія Швянч. *Поліць, поліць і страхнёт начовачкі.* Пасіене Лудз.

ПАЛУ'БНІК *м.* Засек для мякіны. *Палубнік — засек на мякіну.* Жылі Іўеў.

ПАЛУ'БНІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і п а л у́ б н і к. *Палубніца — месца ў гумне, дзе мякіну ссыпаюць.* Жылі Іўеў. 2. *перан. лаянк.* Вядзьмарка. *«Ах ты палубніца!» — так калісьці ругаліся.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛУ'ВАЛКІ *мн.* Тое ж, што і п а л о́ в а л а к. *У багатшых называліся палувалкі.* Вострава Маст.

ПАЛУ'ДЗЕНЬ, ПАЛУ'ДЗІНЬ, ПАЛУ'ДЗЯНЬ, ПОЛУ'ДЫНЬ *м.* 1. Прыём ежы ў сярэдзіне дня. *У вас абет, а ў нас палудзень, абет ранніцай.* Асавец Віл. 2. Ежа для спажывання ў абедзенны час. *Зрабі палудзень.* Крынкі Крын. *Палудзень зварыла. Пападполуднаваў і палудзінь з'еў.* Лоск Валож. *Палудзянь гатовы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Такій полудынь.* Дзмітравічы Кам. 3. Абедзенны перапынак. *Я шыла ў палудзінь.* Лоск Валож. *А мае дзяўчатачкі палудням папрыхадзілі.* Кураполле Паст. 4. Падвячорак. *Быў абет, елі добро, а палудзень слабінькі, што ад абеда асталася.* Стральцы Гродз. *Даўней палуднавалі палудзянь, а як дзень паменшыў, казалі:*

*«Знялі жураве́ палудзень».* Кураполле Паст. 5. Поўдзень. *Да палуння заедзіць.* Саланое Віл.

ПАЛУ'ДЗІЎКА, ПАЛУ'ДЗЯЎКА *ж. лаянк.* Жанчына нядобрых паводзін. *Палудзіўка ты!* Лісна В.-Дзв. *Адна адну вызываюць: «Палудзяўка ты!»* Кураполле Паст.

ПАЛУ'ДНАВАЦЬ, ПАЛУ'ДНЯВАЦЬ, ПОЛУ'ДНОВАТЬ, ПОЛУ'ДНОВАТЭ *незак.* Абедаць. *Полудзень не кажуць цяпер, а некалі полудзень, хадзілі палуднаваць.* Малахоўцы Бар. *Трэба ўжэ палуднаваць.* Крынкі Крын. *У паўдзён палуднавалі.* Янова Рас. *Палуднаваў Міша.* Старое Сяло Зэльв. *Прынясла жонка палудняваць.* Кухты Віл. *Пара́ палудняваць.* Кнышэвічы Бабіц. *Победать ранком, а в обед полудновать.* Азарычы Пін. *Ходэ́ полудноватэ.* Дзмітравічы Кам.

ПАЛУЖАВА'НЫ *дзеепрым.* Палуджаны. *Конаўка медная, у сярэдзіне палужаваная, з яе ваду пілі.* Рыбчына Віл.

ПАЛУЗА'ЦЬ *зак.* Злузаць (усё, многае). *Гарэхі ў торбу палужаць, сушаць і ядуць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛУ'КАШ *м.* Плецены кораб, які ставіцца на воз, сані. *Палукаш буў у нас, як едзям на кірмаш, у воз ставілі, з ракіціны плялі.* Пасека Ст.-Дар.

ПАЛУ'КАШАК, ПАЛУ'КАЧАК *м.* Тое ж, што і п а л у́ к а ш. *Палукашак у нас не плялі.* Чуркі Ашм. *Палукашак плялі і ставілі ў вос.* Вялікія Баяры Шчуч. *Палукашак — з вярбы карзіна на воз.* Старое Сяло Зэльв. *Палукашак — сена, салома не растрасаецца, нічога не згубіш.* Пацаўшчына Дзятл. *Палукашак быў, як заставяц палукашак, што не ўкінь, усе не валіцца, як едзе куды ў млын, у Вільню.* Гемзы Шальч. *Палукашкі былі велькія, з лазэ плялі, уставіш у гнаёўкі і паехаў, нічого не валіцца.* Кіралі Шчуч. *Два палукашкі як уставіш у вос, нічога не валіцца.* Граўжышкі Ашм. *У палукашкі картоплі насыпалі.* Кузьмічы Люб. *Палукачак плятуць з жылґуцей, устаўлялі ў вос.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЛУ'НІЯ *ж. мед.* Лунацізм. *Палунія ў дзіцяці будзіць, як у першых чыслах на* [ціжарную] *матку свеціць месяц.* Саланое Віл.

ПАЛУПІ'ЦЦА *зак.* Пахвастацца. *Палупіліся венікам у лазні.* Малькуны Ігн.

ПАЛУПІ'ЦЬ *зак. экспр.* Парваць. *Палупіў адзежу.* Дзяніскавічы Ганц.

ПА'ЛУПКА *ж.* Драўляная аправа ў жорнах. *Кругом камяня палупка была апстаўлена, а ўнізе дзюрка была, куды мука сыпалася.* Магуны Паст.

ПАЛУПЦАВА'ЦЬ *зак.* Моцна набіць. *Хочацца палупцаваць гэтага хлопца.* Саланое Віл.

ПАЛУУ'МНЫ *прым.* Тое ж, што і п а л а в у́ м н ы. *Палуумнага чалавека не научыш — ён не трэбуіць савета другіх.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЛУ'ЦВІЦА *ж. бат.* Медуніца. *Палуцвіца, або мядуніца, яе натта каровы ядуць.* Альхоўка Навагр.

ПАЛУЧА'ЦЦА *незак.* Атрымліваецца. *Так масла не саб'еш, не палучаецца такое.* Мсцібава Ваўк. *Абдзіралі лён, палучоўся кужэль і зрэб'е.* Латыгаль Віл.; *парайн.* руск. *получаться* 'тж'.

ПАЛУЧА'ЦЬ *незак.* Атрымліваць грашовую ці іншую плату за працу. *Добра палучая.* Кемялішкі Астр. *Палучаю сорак два рублі пенсіі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Палучалі па пуду збожа.* Альхоўка Навагр.

ПАЛУ'ЧКА *ж.* Заработная плата. ▽ *Пасля палучкі спіць на канфетах.* Мішневічы Шум.; *парайн.* руск. *получка* 'тж'.

ПАЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Зрабіцца. *Што яму палучылася, забалеў раптам.* Валынцы В.-Дзв. *Зліяніе палучылася і памёр.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПАЛУЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Атрымаць. *Кап палучыць муку.* Лоск Валож. *Грошы палучыла і жыві!* Малі Астр. 2. Купіць. *Траціну зямлі палучыў более за сто грошы.* Саланое Віл. 3. Аказацца пабітым. *Палучыла ў косці добра.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *получить* 'тж'.

ПАЛУ'ШАЧКІ *мн. памянш.* да п а́ л у ш к і. *Асіну зрэжуць, скобляй выбяруць мусар — палучаліся палушачкі і начоўкі дзеравяныя.* Дакудава Лід. *Палушачкі былі, крупэ палалі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Для пячанёўкі пячонку сечкай у палушачкі крышылі.* Дакудава Лід.

ПА'ЛУШКІ *мн.* Тое ж, што і п а л а́ н к і. *У палушках полаць ячмень.* Хатынічы Ганц.

ПАЛУШУ'БАК *м.* Кароткі кажух. *Палушубак пашылі.* Пасека Ст.-Дар. *Я меў добры палушубак, Качура пашыў с Карцэвіч.* Альба Нясв.; *парайн.* руск. *полушубок* 'тж'.

ПАЛУ'ШЧЫЦЬ *зак.* 1. Злушчыць (усё, многае). *Палушчыла пасоль сідзя́.* Лісна В.-Дзв. *Палушчылі фасолю ўсю, такая белая, чыстая.* Альба Нясв. 2. *перан. экспр.* Падушыць. *Шашок палушчыў трыццаць курэй.* Малі Астр.

ПАЛЫ' *мн.* Тое ж, што і п а л а́ т к і 1. *У нас былі палы ад печы да сцяны, і там спалі, гарошын паложаць, дзярушкаю засцеляць, і так спалі.* Альхоўцы Лях.

ПАЛЫГА'ЦЬ *зак.* 1. Нанізаць. *На дупчык палыгалі рыбу.* Нізок Уздз. 2. Палавіць. *Палыгаюць сарокі пыляната і гусяната. Як абнадзіцца варона, дык палыгая гэтыя пыляната.* Вецярэвічы Пух.

ПАЛЫКА'ЦЬ *незак.* Глытаць. *Ні палыкаю вады.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палыкай таблеткі, паможа не паможа, а горш не будзя.* Старыя Смільгіні Воран. *Назбірае за шчоку і не палыкае.* Мсцібава Ваўк. *Палыкаць баліць горла.* Грыкені Вільн. *Не магу палыкаць, горла баліць.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *połykać* 'тж'.

ПАЛЫКНУ'ЦЬ *зак.* Глытнуць. *Хоць напітку дай палыкнуць.* Малі Астр. *Палыкнуць дзевяцьсіл, кап жывот не балеў.* Быстрыца Астр.

ПАЛЫ'Н *м. бат.* 1. Палын. *Палын горкі.* Мярэцкія Глыб. *Палын расце ў нас, лякарства ад жывата.* Навасёлкі Свісл. *Палын горкі і ванючы; палыну нарвала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Палын сівы.* Дзяніскавічы Ганц. *Палын расце на мяжы.* Талейкі Швянч. *Палыну нарвала, добра ад жывата.* Пасека Ст.-Дар. *Такі куст палы́ну.* Рагулішкі Даўг. 2. Адвар палыну. *Палын ад жывата п'юць.* Валынцы В.-Дзв. *Горкі палын ад усяго: жывот баліць, абрыў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Палын на апэтат. Палын папей, дык і кушаць хочацца, у нас яго многа расце.* Солы Смарг. *Палын горкі, п'юць, як жывот баліць.* Рыбчына Віл. *Як жывот баліць, палын п'юць.* Ёдлавічы Брасл. *Палын ад жывата п'юць, ён сівянькі.* Кіралі Шчуч. *Палын ад жывата п'юць.* Рудня Чэрв. *Палын ат паносу.* Гемзы Шальч. 3. Чарнобыль. *Горкі палын ядуць каровы.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЛЫСКАВА'ЦЦА *незак.* Ільсніцца. *Красіва, аш палыскуіцца.* Рыбчына Віл. *Усё палыску́еацца ў яе ў хаце, бліщыць.* Беразіно Докш. *Палыску́еацца падлога.* Солы Смарг. *У пана ў хаце ўсё палыску́еацца, усё было харошае.* Глівін Барыс.; *параўн.* польск. *połyskiwać* 'тж'.

ПАЛЫХНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Прагнаць. *Палыхнулі немцаў атсюль, толькі струганіна ішла, рэльсы рэзалі.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЛЬ *м.,* ПАЛІ'Е *мн.* Кол. *Мірнічы ходілі і паліе позабівалі в зэмлю. Моя зэмля до сіетого паля.* Курашэва Чыж.

ПАЛЬГА' *ж.* Пылок. *Пчолы нясуць пальгу на лапках — хлеп такі для расплоду чарвей; чэрві пальгу ядуць, а патом іх мёдам падкормуюць.* Парэчча Гродз.

ПАЛЬНІ'К *м.* Гарэлка (у пры́мусе). *На пальнікові курку осмалілі.* Курашэва Чыж.

ПАЛЬМО'ВА НЯДЗЕ'ЛЯ *ж. рэліг.* Вербніца. *Пальмова нядзеля скора.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *Palmowa Niedziela* 'тж'.

ПАЛЬНА'Я МЫ'ШКА *ж.* Палявая мыш. *Пальная мышка на полі.* Дакудава Лід.

ПАЛЬНІ'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і п а д л о́ ж ы н а. *Пальнічына прагніла.* Мачаск Бярэз.

ПА'ЛЬНУЦЬ, ПА'ЛЬНУТІ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Як пальнула ў галаву!* Новіны Нясв. *Стіхні, бо як пальну в зубы. Куонь пальнув задом, то чуть чоловіека нэ забів.* Курашэва Чыж.

ПАЛЬНЫ' *прым.* 1. Палявы. *Пальны мак чырвоненькі, яго збіраюць, толькі я не знаю ад чаго.* Кіралі Шчуч. *Пальная крапіва ад белых плаваў, п'юць жанчыны.* Жылі Іўеў. *Рамулькі пальныя прымаюць у аптэкі.* Ракаўскія Швянч. 2. Які жы-

ве ў бязлеснай мясцовасці. *Тыя, што на полі жывуць,— пальныя людзі.* Парэчча Гродз.

ПА′ЛЬТА *н.* і *ж.* Тое ж, што і п а́ л і т а. *Зялёна пальта.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пальта грубая была і мне зімна.* Малькуны Ігн. *Дзеці летаюць па надворку бес пальтаў.* Альхоўка Навагр.

ПАЛЬТА′К *м.* Паўпаліто. *Пальтак апрані.* Навасёлкі Свісл.

ПАЛЬТО′ *н.* і *м.* Тое ж, што і п а́ л і т а. *Пальто адно.* Саланое Віл. *Доўгае пальто.* Дзяніскавічы Ганц. *Пала́ ў пальце.* Солы Смарг. *Дзе мой пальто?* Малькуны Ігн. *Па́льты шылі.* Саланое Віл. *Па́льты красівыя.* Старыя Трокі Трак. *Прывезлі па́льта зімавыя.* Гальшаны Ашм.

ПАЛЬТО′ЦІК *м.* Жаночае верхняе адзенне з фалдамі ззаду. *У тры фалды да таліі, такоя паліто пальтоцік звалі.* Крэва Смарг.

ПАЛЬЦЬ, ПАЛЬЦ *ж.* Вялікі кавалак сланіны. *Адна пальць — палавіна тушы свініны.* Старыя Смільгіні Воран. *Сколькі пальцаў сланіны зрабіў? Парсюка закалолі, яго разберуць, сланіну разрэжуць на пальцы.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *połeć* 'тж'.

ПАЛЬЦЮ′К *м.* Тое ж, што і п а л ь т о́ ц і к. *На пакулях пашыты пальцюкі насілі.* Лайпушкі Ігн.

ПАЛЬЧА′ТКА *ж.* Пальчатка. *Пальчаткі з пальцамі.* Кемялішкі Астр. *Кажуць, у тым слупу замураваны шапка, шабля і пальчаткі.* Барок Стаўб.

ПАЛЭ′НГАЦЬ *зак. экспр.* Пажаваць. *Палэнґаў кот сала і не з'еў.* Мсцібава Ваўк.

ПАЛЮБІ′ЦЦА *зак.* Пакахаць адзін аднаго. *Мала мы і палюбіліся, але ведалі добра адзін другога.* Жукойні Астр. *Палюбіліся і пажаніліся.* Гемзы Шальч.

ПАЛЮДНЕ′ЦЬ *зак.* Стаць прыгажэйшым. *Мой сын палюднеў.* Саланое Віл.

ПАЛЮ′К *м.* Тое ж, што і п а́ л е ц 2. *Палюк у касе.* Саланое Віл.

ПАЛЮРЫ′НКА *ж.* Аборка. *Палюрынка; палюрынкаў панашывала к кофці.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* п а л я р ы́ н а.

ПАЛЮ′Х *м.* Тое ж, што і п а́ л е ц 2. *Палюх* [у касе] *зламаўся. Як касіў, палюхом нацёр мазоль.* Дварчаны Паст.

ПАЛЮ′ХА *ж.* Выпалатая трава. *Іду з рэзґінамі па палюху. Пайду па сваю палюху; прынясу палюхе.* Парэчча Гродз.

ПАЛЮ′ШКА *ж. бат.* Віка. *Такі гарох чорны, сеюць для каня, называюць палюшка.* Альхоўцы Лях.

ПАЛЮШО′К *м. кулін.* Праснак. *На сніедане палюшкуов напэкла, будэмо йіесті з молоком.* Курашэва Чыж.

ПА′ЛЯ *ж.* Бервяно, якое служыць апорай для розных пабудоў. *Заганяюць палю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ат палі на палю*

*дзыгаў*. Стары Свержань Стаўб. *Па́лі былі ў мосце*. Рыбчына Віл. *Па́лі пазабівая*. Альхоўка Навагр. *На палях бэлькі, аткосы, слупы*. Малахоўцы Бар. *Па́лі — як мост робяць, стаўбы ўбіваюць у зямлю, а на іх броўна, насцілаюць мост*. Дзяніскавічы Ганц. *Абарог с чатырох паляў — брусоў*. Лука Нараўк.; *параўн*. польск. *pal* 'паля, кол'.

ПАЛЯВА'ННЕ, ПАЛЯВА'ННЯ, ПАЛЯВА'НЕ, ПАЛЯВА'НЯ *н*. Паляванне. *На паляванне хадзілі*. Кухты Віл. *Палявання было на ваўкоў*. Мярэцкія Глыб. *Пашоў на палявання*. Ністанішкі Смарг. *Пашлі мушчыны на паляване*. Ёдлавічы Брасл. *Тата хадзіў на паляваня на ваўке*. Кіралі Шчуч. *Кот с паляваня вяртаецца*. Дварчаны Паст. ∇ *Ні тады сабак карміць, як на паляваня ісці*. Кураполле Паст.; *параўн*. польск. *polowanie* 'тж'.

ПАЛЯВА'ЦЬ I *незак*. 1. Займацца паляваннем. *Ён зайцы палюя*. Лоск Валож. *Ахотнікі на сваём сенакосе маглі паляваць*. Дзяніскавічы Ганц. 2. Шукаць здабычу, корм (пра ката). *Кот на мышэй палюе*. Дварчаны Паст.; *параўн*. польск. *polować* 'тж'.

ПАЛЯВА'ЦЬ II *незак*. Пра перыяд палавой актыўнасці ў жывёлін. *Палюя карова*. Гальшаны Ашм., Рудня Астравітая Чэрв., Гемзы Шальч., Альба, Карцэвічы Нясв. *Кабыла палюя*. Кіралі Шчуч.

ПАЛЯВА'ЦЬ III *незак. плыт*. Тармазіць плыт. *Палюй, задзержывай згон!* Вецярэвічы Пух.

ПАЛЯВА'Я ЖА'БА *ж. заал*. Рапуха. *Палява́я жаба — вялікая, рабая*. Мярэцкія Глыб.

ПАЛЯВА'Я МУШКА'ЦІНА *ж. бат*. Гусіныя лапкі. Скрудалена Даўг.

ПАЛЯВЫ' *прым*. 1. Тое ж, што і п а л ь н ы́ 1. *Есь палявая асака і вадзяная асака*. Ахрэмаўцы Брасл. *Палявая трава, палявы цвет*. Ёдлавічы Брасл., Кемялішкі Астр. *Палявая, як дзікія кветкі*. Кіралі Шчуч. *Найлепшая для каровы трава палявая, а не лясная*. Мсцібава Ваўк. 2. Звязаны з работай у полі. *За палявога стоража быў*. Лоск Валож.

ПАЛЯВЫ' ХВОШЧ *м. бат*. Палявы хвошч. *Палявы хвошч ад нырак п'юць*. Мярэцкія Глыб.

ПАЛЯВЫ' ХМЕЛЬ *м. бат*. Хмель звычайны. *Палявы хмель збіралі, квас з ім рабілі*. Саланое Віл.

ПАЛЯВЫ' ЦЫТВА'Р *м. бат*. Піжма. *Палявы цытвар, як запарыш, горкі. П'юць, як жывот баліць*. Пасека Ст.-Дар.

ПАЛЯГЧА'НЫ *дзеепрым*. Спакладаны. *Вол палягчаны*. Гемзы Шальч.

ПАЛЯДЗЕ'ЦЬ *зак*. Пагледзець. *Палядзі карункі!* Магуны Паст. *Ідзі палядзі!* Дзяніскавічы Ганц. *Палядзём, што будзіць*. Лісна В.-Дзв. *Пойдзям палядзім нашу выгоду*. Ракаўскія Швянч. *Палядзіцё на гэту дочку. Палядзіцё, какой па-*

*радак там.* Гемзы Шальч. *Палядзелі парсюка.* Саланое Віл.

ПАЛЯЖА′ЦЬ *зак.* Паляжаць. *Мы паляжом пат кусцікам.* Малі Астр.

ПАЛЯ′К *м.* 1. Паляк. *Прышлі палякі.* Паляцкішкі Воран. *Палякі былі.* Альхоўка Навагр. 2. Католік. *Я выхажу замуш, а ён паляк, і я пайду на польску веру.* Гальшаны Ашм.

ПАЛЯЛЕ′ЦЬ *зак. перан.* Пакрасавацца. *Вот дык паляліла, схапіла шчасця!* Рыбчына Віл.

ПАЛЯНДВІ′ЦА, ПАЛЕНДВІ′ЦА, ПАЛІНДВІ′ЦА, ПАЛЯНГВІ′ЦА, ПАЛЯМБІ′ЦА, ПАЛЕНДРЫ′ЦА, ПАЛЯНДРЫ′ЦА, ПАЛЯНІ′ЦА *ж.* Тое ж, што і п а в я н д л і ц а. *Ну, як паляндвіца, не вельмі салёная?* Солы Смарг. *Кілбаса смачней, як паляндвіца.* Груздава Паст. *Паляндвіца доўгенькая.* Малахоўцы Бар. *Паляндвіцы адрэжу.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Паляндвіцы кавалак засталося.* Альба Нясв. *У лета пакідаем паляндвіцу.* Каўняны Гродз. *Палендвіцу адварыў.* Лука Нараўк. *Паляндвіцы былі і ёсць.* Чуркі Ашм. *Дзве палендвіцы выдзярым, у кішку гладкую — і ўкусна.* Гемзы Шальч. *Паліндвіцы выразаюць, перчыку, лучку, трапачкай укруціш.* Рагулішкі Даўг. *Палянґвіца такой даўжыне, паложаць на лаву, вытруць солью, часнаком, перцам, і качалкай б'юць і ў капроня павесяць.* Кіралі Шчуч. *Палянґвіцы длінныя зразаюць.* Малькуны Ігн. *Палямбіца — смашная мяса.* Азяраны Раг. *Мо возьмеш палендрыцы ў дарогу? Палендрыца ў кабана велька.* Пацаўшчына Дзятл. *Паляндрыцу выразаюць і ў лета пакідаюць.* Кураполле Паст. *Паляндрыца, паляндрыцы.* Мярэцкія Глыб. *Паляндрыца, яе выразаюць, прыправы дадаюць.* Саланое Віл. *Паляндрыца — зрэзаная мяса каля спіны ў свінні на лета пакідаюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паляндрыца, палямбіца паўз хіб ідзе, мяккая мяса.* Азяраны Раг. *Паляніца, паляніцы ў лета пакідалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЛЯНДВІ′ЧКА *ж. памянш.* да п а л я н д в і ц а. *Укручую паляндвічкі.* Граўжышкі Ашм. *Паляндвічку засольваюць улета.* Кудзялянцы Шальч.

ПАЛЯНДРАВА′ЦЬ *незак. экспр.* Хадзіць без справы. *Паляндравала цэлы дзень па сялу.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЛЯНДРЫ′ЦА *гл.* ПАЛЯНДВІ′ЦА

ПАЛЯНІ′СКА, ПАЛЯНІ′СКО *н.* 1. Вогнішча. *Агонь паляць пастухі, паляніска астаецца.* Старыя Смільгіні Воран. *Як дзеці паляць агонь у лесе, астаецца паляніско.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і п а г а́ р ы с к а. *Паляніско — дзе згарэла хата.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *palenisko* 'стопка'.

ПАЛЯНІ′ЦА I *гл.* ПАЛЯНДВІ′ЦА

ПАЛЯНІ′ЦА II *ж.* Бязлесная мясцовасць. *У нас паляніца, лес ад нас далёка.* Кухты Віл.

ПАЛЯНІ'ЦА III *ж.* Печыва з мукі. *Хлебная цеста качалі ў муку, на лапату пакладзе і ў печ, гэта — паляніцы, к святу пяклі.* Азяраны Раг. ▽ *Паўбочкі грэчкі на перапечкі, бочка пшаніцы на паляніцы.* Крывічы Салігі.

ПАЛЯНІ'ЦЦА *зак.* Паленавацца. *Паляніўся і не пашоў у байню.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЛЯ'НКА *ж. памянш.* Невялікая паляна. *Палянка — німа лесу, німа кустоў.* Сасноўка Смарг. *Палянка ў леся, там чыста, чысцяк.* Мярэцкія Глыб. *Дзе выпалена, там палянка, адлажок — нявелька мейсца.* Старыя Смільгіні Воран. *Узаралі палянку і пасеялі жыта.* Мачаск Бярэз. *Пойдзім пасядзём на палянкі.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЛЯ'НТ *м. спарт.* Лапта. *Хлопці іграют у палянта.* Курашэва Чыж.

ПАЛЯ'НУЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а л я д з е́ ц ь. *Пайду паляну, што ён там робіць.* Мсцібава Ваўк. *Пайсці палянуць, гэто ш халадно ёй* [карові]. Калядзічы Ваўк. *Так весела пайсці палянуць.* Старое Сяло Зэльв. *Палянуў і паехаў да яе роду ў Сібір.* Вострава Маст. *Паляньце! Сто пяць гот!* Масілавічы Сл.

ПАЛЯ'НЦЫ *мн.* Людзі, якія жывуць у бязлеснай мясцовасці. *Палянцы называлі нас панізоўцы, а мы іх — панізоўцамы. Палянцы на градзе жывуць.* Кураполле Паст.

ПАЛЯ'НШЧЫНА *ж.* Тое ж, што і п а л я н і́ ц а II. *А дзе лясоў не было, паляншчынай звалі.* Кураполле Паст.

ПАЛЯНЯ'КА *н. экспр.* Палена. *Ён палянякам забабэніў па спіне скаціне.* Крэва Смарг.

ПАЛЯ'ПАЦЬ *зак. перан. экспр.* Пабалбатаць. *Пойдзеш паляпаеш, што запісалі.* Кіралі Шчуч.

ПАЛЯ'РУШ *м. мед.* Параліч. *У палярушу добра кроў спускаць. Паляжала на зямлі — у палярушу, не магу хадзіць цяпер.* Жодзішкі Смарг. ▽ *Бадай цябе паляруш!* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *паралич* 'тж'.

ПАЛЯРЫ'НА *ж.* Шырокі каўнер. *Палярына была на рукаўкі, каб закрывала рукі.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *pelerупа* 'тж'.

ПАЛЯРЫ'НКА *ж.* Тое ж, што і п а л ю р ы́ н к а. *Палярынка была прышыта, тасемачкай апшыта ў падале скрось.* Рыбчына Віл. *Як ты была малая, у цябе была сукеначка нябеская, а каля шыі палярынка. Палярынкі і дзеўкі прышывалі, рукава німа, а палярынка руку ўверсе закрыя.* Альба Нясв.

ПАЛЯ'СКАЦЬ *зак. перан.* Папляскаць. *Трэба гразіцца на дзіця, па попцы паляскаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЛЯТА'ЙКА *ж. экспр.* Жывёліна, якая ходзіць абы-дзе. *Палятайка ляціць галаву задраўшы.* Ракаўскія Швянч.

ПАЛЯЎКІ' *мн. вет.* Свінка. *Паляўкі біваяць у парасят,*

*пахварэлі ўсе свіня паляўкамі — такія гручолы.* Кудзялянцы Шальч. *Паляўкі ў свіней — такія гружолы, горла спухне, і свіня не ест, і зват паляўкі.* Гемзы Шальч. *На паляўкі хварэюць свіня, вольны жалудак робіцца.* Руднікі Шальч. *Парсюкі на паляўкі захварэлі.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *paliáukiai* 'тж'.

ПАЛЯЎНІ'К *м.* Паляўнічы. *Паляўнік забіў воўка.* Кіралі Шчуч. *Паляўнік, ці паляўнічы, страляіць на зайцы.* Ністанішкі Смарг. *Паляўнік ён.* Паляцкішкі Воран.

ПАЛЯЎНІ'ЧЫ *м.* Тое ж, што і паляўнік. *Наш паляўнічы пашоў на паляванё.* Старое Сяло Зэльв. *Паляўнічыя пашлі са стрэльбамі.* Гемзы Шальч. *Паляўнічы быў у нас.* Грыкені Вільн.

ПАЛЯЎЦЫ' *мн.* Тое ж, што і паля́нцы. *Паляўцы жывуць на полі, а хто за лесам, тых звалі запушчані.* Мярэцкія Глыб. *У паляўцоў яшчэ плаценкі носяць. Паляўцы — дзе німа лесу бліска.* Бакшты Іўеў.

ПАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Паляцець. *Паляцеў бусел.* Барок Стаўб. *Мігла была. Думаю, не паляцім, але падняліся.* Солы Смарг. 2. *перан.* Хутка пайсці. *Ён паляцеў у кантору.* Ахрэмаўцы Брасл. *На танцы хочацца паляцець.* Малі Астр. *Кумпанка мая, я паляту да яе босая.* Магуны Паст. *Паляту карову даіць.* Крэва Смарг. *Паляту па кроп.* Ністанішкі Смарг. *Паляту ў лес, нарву травы, накармлю каровіцу.* Беняконі Воран. *Быстра паляцеў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У грыбы паляцеў.* Солы Смарг. *Я паляцела босая шукаць чаравічкі.* Гальшаны Ашм. *Мышуе, мышуе свіня носам па зямлі — і паляцела так мышуючы.* Грыкені Вільн. *Цёлачка паляцела.* Старыя Трокі Трак. 3. Паваліцца. *Паляцела, як сосна, чуць ачуняла.* Старыя Трокі Трак.

ПАЛЯШВА' *ж.* Палессе. *Мы ездзілі ў Паляшву сена рабіць.* Малахоўцы Бар.

ПАЛЯШУ'К *м.* Жыхар Палесся. *Паляшукі жывуць на Палессі.* Мсцібава Ваўк.

ПАЛЯШЫ'ЦЬ *зак.* Абазначыць мяжу засеянай палоскі. *Нада сеіць, але хто можа мне паляшыць.* Індра Красл. *Нада жыта паляшыць.* Малькуны Ігн.

ПАМАГА'ЙЛА *м.* і *ж.* Памочнік. *Рыбу бяруць чарпаком, збераца памагайлаў, і ўсім па чарпаку дадуць рыбы.* Янова Рас.

ПАМАГА'ЛЬНІЦА *ж.* Памочніца. *Памагальніца ты мая!* [да дзіцяці]. Номікі Бабіц.

ПАМАГА'ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Прыду памагаць садзіць капусту.* Буды В.-Дзв. *Калі ты мне памагаеш?* Мсцібава Ваўк. *Як паглядзіш — дзіцям усё памагаюць. Сярожа бацьку памагаіць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Усё памагаяць гэтай бабя.* Снягяны Смарг. *Дзеці нам памагаяць.* Гемзы Шальч.

*Памагалі ўчыць дзяцей.* Вялікае Сяло В.-Дзв. ∇ *Добраму і слова памагая, а благому — і палка не паможа.* Малі Астр.

ПАМАГЧЫ′, ПАМАХЧЫ′, ПАМАГЦІ′, ПАМАХЦІ′ *зак.* 1. Дапамагчы. *Трэба яму памахчы пілаваць дрова.* Кіралі Шчуч. *Дакляравоў памахчы, а ня прышоў.* Дакудава Лід. *Трэба памагці яму хату паставіць.* Кузьмічы Люб. *Трэба памагці.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Памахці яму трэба.* Багушэвічы Бярэз. *Памагла яна мне.* Грыкені Вільн. *Ідзі ты паможы.* Лоск Валож. *Алена, хадзем ды паможыма ей лён іrваць.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Паможы божа вам! Бох не памох.* Гемзы Шальч. 2. Аказаць патрэбнае дзеянне. *Памахці ці паможа, а пашкодзіць не павінна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яму нічога не памагая.* Гемзы Шальч. ∇ *Паможа, як кашаль у хваробе.* Гемзы Шальч. *Мяртваму кадзідла не паможа.* Ністанішкі Смарг. *Як бічам па вадзе, так ты мне памох.* Малі Астр.

ПАМАЗА′НЯЦ *м. кулін.* Прыпраўлены тлушчам праснак. *Памазаняц пякуць. Нада ўзяць памазаняц у дарогу.* Кураполле Паст.

ПАМА′ЗАЦЬ *зак.* Пакрыць паверхню слоем чаго-н. *Памажуць бліны пірыной, угрэяць і з'ядуць.* Кураполле Паст. *Я памазаю нагу масцю.* Малі Астр. *Памазаў блін маслам і з'еў.* Вецярэвічы Пух. *Памаш маслам блін і еш.* Альба Нясв. *Ідзі памазай колы, бо будуць скрыпець, даўно немазаныя. Раны памазаю. Мы памазаям.* Гемзы Шальч. *У люстэрка глядзіць, памазая, брытвай аскрабе — і пагаліўся.* Старыя Трокі Трак.

ПАМАЗГАВА′ЦЬ *зак.* Падумаць. *Не памазгуіць галавой.* Ёдлавічы Брасл.

ПАМАЗГАТА′ЦЬ *зак. экспр.* Пабіць. *Памазгатаў усю пасуду.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАМАЗО′К *м.* Невялікі пэндзаль. *Памазок памочыць і змазаваіць вось.* Валынцы В.-Дзв.

ПАМА′К *м.* 1. Дрэва, якое доўгі час ляжала ў вадзе. *Памак — намокшае дзерава.* Беразіно Докш. *Памак цяжкі.* Мярэцкія Глыб. *У рэчцы дзерава як крэпка намокня, то — памак. Кажуць — намок, як памак.* Рудня Чэрв. *Памак цяжкі такі, у вадзе доўга ляжаў.* Ухвала Круп. *Памак — кусок дзерава, які доўга ляжаў у вадзе.* Лапічы Асіп. *Памак — дзерава, каторая доўга ў вадзе ляжала.* Азяраны Раг. 2. Калода, якой прыціскаюць лён, каноплі, калі мочаць. *Памак — цяжкое мокрае палена, чым прыціскаюць лён і каноплі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Памак, памаком прыціснуць лён, і ён мокня.* Мярэцкія Глыб. *Памакі асінавыя, прыціскаюць лён у сажэлку.* Кураполле Паст. *Памакі, што лён мачыць,— дзерава цяжолая, тоўстая, кідаюць наверх.* Жыдзевічы Іўеў. *Сначала лён ложаць, патом—пашына* [хворост], *патом накачваліся памакі, каб не паплыў лён.* Мішневічы Шум. *Памаке — такія*

*палены, імі каноплі накрывалі, калі мачылі.* Парэчча Гродз. *Лён всігда мачылі, памакамі прыціскалі. Памакі — тоўстыя броўны.* Валынцы В.-Дзв. 3. *перан.* Гультай. *Ну і памак ён, непаваротлівы, лянівы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАМАЛА'ЧАВАЦЬ *зак.* Папамалаціць. *Ой, я цапамі памалачавала.* Рыбчына Віл.

ПАМАЛЕ'НЬКУ, ПАМАЛЕ'НКУ *прысл. памянш.* Паціху. *Хаджу памаленьку.* Валынцы В.-Дзв. *Памаленьку пайсці.* Груздава Паст. *«Як жывеш?— Вот памаленьку кратаюся».* Малі Астр. *Галава балючая, памаленьку ішла.* Рыбчына Віл. *Чаго ты ідзеш так памаленьку, трэба быстрэй.* Каўняны Гродз. *Цяня памаленьку, як утоміцца.* Азяраны Раг. *Памаленку дойдзеш. Памаленку будзіш варыць.* Гальшаны Ашм.

ПАМАЛЕ'ЦЬ *зак.* Стаць ніжэй ростам. *Ён гарбаты стаў і памалеў.* Рагулішкі Даўг.

ПАМАЛЕ'ЧКУ *прысл. памянш.* 1. Тое ж, што і п а м а л е́ н ь к у. *Памалечку робяць, гаворяць.* Вецярэвічы Пух. 2. Асцярожна. *Памалечку, не упадзь.* Старое Сяло Зэльв.

ПАМА'ЛІ *прысл.* Не спяшаючыся, ціха. *Ідзі памалі, не бяжы.* Курраполле Паст.

ПАМА'ЛІЦЬ *зак.* Зменшыць. *Іна ім гады памаліла.* Саланое Віл.

ПАМА'ЛУ, ПАМА'ЛУЙ *прысл.* 1. Тое ж, што і п а м а́ л і. *Я памалу не хадзіла.* Солы Смарг. *Мама старая, дзе памалу, дзе бягом туды прышла.* Саланое Віл. *Яна памалу ідзець.* Ёдлавічы Брасл. *Як прыдзецца, памалу робіць.* Кураполле Паст. *Во ідзе памалу, ледва рухаецца.* Кіралі Шчуч. *Памалу едзе, ідзе.* Мсцібава Ваўк. *Памалуй ідзі.* Альхоўцы Лях. 2. Асцярожна. *Памалу, ня лесь!* Рыбчына Віл.

ПАМАЛЯВА'ЦЬ *зак.* Пафарбаваць. *Памалявала ў той комнаце сцены, бо мне лепш памыць, чым бяліць.* Солы Смарг. *Падлогу памалюе сама Серафіма.* Мсцібава Ваўк.

ПАМАМРЫТА'ЦЬ *зак. экспр.* Ціха праспяваць. *Я сама старая, а памамрычу песню.* Дзераўное Стаўб.

ПАМАНІ'ЦЬ *зак.* Падазваць. *Паманіла свіней, курэй, гусей.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАМА'НКА *ж.* Прынада. *Паманку даю.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАМА'НІВАЦЬ *незак.* Падзываць. *Паманівай курэй.* Вецярэвічы Пух.

ПАМАРАНЧО'ЎКА *ж.* Сорт груш. *Памаранчоўка — грушы вялікія, жоўтыя, алі нітрывалыя, скора гніюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАМАРА'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Ты памараеш сукенку.* Вецярэвічы Пух.

ПАМАРГАЗІ'ЦЬ *зак.* Памарасіць. *Паласінка ідзёт, памаргазіць дошч.* Скрыпчына Лудз.

ПАМАРКІТА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Авечка памаркітала.* Лука Нараўк.

ПАМАРНАВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Хаця п ні памарнавала.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *pomarnować* 'тж'.

ПАМАРО'ЗІЦЬ *зак. безас.* Абмарозіць. *Ёй ногі памарозіла.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАМАРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Забавіцца. *Я памарудзіла там троху.* Валынцы В.-Дзв.

ПАМА'РШЧАНЫ, ПАМО'РШЧАНЫ *прым.* 1. Сабраны ў зборку. *А станікі шылі накшыя, зашпіляныя і памаршчаныя станікі.* Крэва Смарг. 2. Пакамечаны. *Бумага памаршчана.* Лоск Валож.

ПАМА'РШЧЫЦЬ *зак.* Сабраць у зборку. *Пашыла спадніцу, шырокі пасак, і ўсю памаршчыла.* Альба Нясв.

ПАМАРЫ'ЦЬ *зак. перан.* Замучыць. *Памарылі нашых салдат.* Валынцы В.-Дзв.

ПАМАСНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і п а д л о́ ж ы н а. *Памасніца гніе.* Пасека Ст.-Дар.

ПАМАСНІ'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і п а д л о́ ж ы н а. *Памаснічыны дзве замяніў.* Багушэвічы Бярэз.

ПАМАТРЫ'ЦЬ *зак.* Гаварыць адно і тое ж. *Вот паматрыў адно і адно.* Чуркі Ашм.

ПАМАТЫКАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а г а ч к а в а́ ц ь. *Паматыкую трохі памідоры, капусту, траву вырву, лепей пойдзе расці.* Альба Нясв. *Паматыкуе картофлі, каб лепшые былі.* Баброўнікі Гарад.

ПАМАЎЗА' *м.* і *ж.* 1. Шкоднік, сваволыйк. *Памаўза ты!* Асавец Віл. 2. Маўклівы чалавек. *Памаўза—хто маўчыць і мала гаворыць. Маўчыць, як памаўза.* Граўжышкі Ашм.

ПАМАЎЗЛІ'ВЫ, ПАМАЎЗЛІ'ВЫЙ *прым.* Шкадлівы. *Памаўзлівая карова ўсюдых залезіць, навязваем на цэп.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Памаўзлівы кот, такі дахадзячы.* Мярэцкія Глыб. *Памаўзлівы кот.* Рудня Астравітая Чэрв. *От, памаўзлівы кот!* Ухвала Круп. *Памаўзлівы такі кот — усю смятану з'еў.* Пацаўшчына Дзятл. *Кот памаўзлівый, лыкаіт смітану, толькі аблізваецца.* Рагулішкі Даўг. *Памаўзлівая целуха, ніяк няможна ўпільнаваць.* Саланое Віл.

ПАМАЎКЛІ'ВЫ *прым.* Маўклівы. *Бацька памаўклівы.* Граўжышкі Ашм.

ПАМАХА'ЦЬ *зак.* Пакалыхаць чым-н. *Як памахаю — ляхчэй назе.* Малі Астр.

ПАМАХЛЯВА'ЦЬ *зак.* Падмануць. *Вы яе памахлюйця: скажыця, што адзінасця гадзін, пара ісці, яна пойдзя.* Ракаўскія Швянч. *Памахляваў ён на сваім вяку: і жонцы, і суседу, усім, усім. І ніхто цяпер старому ні верыць.* Альба Нясв.

ПАМАХЦІ' *гл.* ПАМАГЧЫ'

ПАМАХЧЫ' *гл.* ПАМАГЧЫ'

ПАМАЦАВА'ЦЬ *зак.* Праверыць на моцнасць (яйка). *Мой бацька арай і выгарай чатэры яйке вужа, хацей памацаваць, прама сыкала слінай гэта яйко і не мох памацаваць.* Гемзы Шальч. *Дай памацую яйко. Памацуй на зубы, адразу пазнаяш, чы моцнае, чы не.* Альба Нясв.

ПАМА'ЦАЦЬ *зак.* Памацаць. *Злаві куру і памацай, ці з ейцом.* Глівін Барыс. *Ідзі памацай куру!* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАМАЦНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да п а м о́ ц н ы. *Чыжма* [піжма] *яшчэ памацнейшая для бруха.* Ракаўскія Швянч.

ПАМАЦНІ'К *м.* Тое ж, што і п а м а г а́ й л а. *Такіх памацнікоў я слухаць не хачу.* Малі Астр.

ПАМАЧА'ЦЬ *зак.* Памачаць. *Памачаюць перапечкі ў малако, у печ ставілі.* Латыгаль Віл.

ПАМА'ЧКА *ж. кулін.* Мачанне. *Памачка — смятана з маслам, адтаплялі ў печы і мачалі бліны ці булку і елі: добрая памачка была. Я любіла есці, як мама памачку зробіць.* Мярэцкія Глыб.

ПАМАЧНІ'К *м.* Тое ж, што і п а м а г а́ й л а. *Памачнік ёсць.* Старыя Смільгіні Воран. *Нам памачнік расце* [пра сына]. Саланое Віл.

ПАМАЧНІ'ЦА *ж.* Памочніца. *У мяне ўжо памачніца дома есць.* Саланое Віл.

ПАМАЧНІ'ЧКА *ж. памянш.* да п а м а ч н і́ ц а. *Памачнік ёсць, памачнічка будзіць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАМАЧУ'ШКА *ж. кулін.* Верашчака. *У пост у памачушку заміш мяса селяццы дабаўлялі.* Дакудава Лід.

ПАМАЧЫ'ЦЬ *зак.* Замачыць. *Нады памачыць палатно.* Лісна В.-Дзв. *Памачу трохі бялізну, а потым, па абедзе, буду мыць.* Альба Нясв. *Насёна гуркоў памочыш.* Старыя Трокі Трак.

ПАМЕ'ЖДЫ *прыназ.* з *род.* Паміж. *Памежды радных пражывець.* Шатрова Дрыс.

ПАМЕ'ЛІХІ *мн.* Завознікі. *У мельніцы многа наехатчы памеліхаў, завозу многа, не змалоў.* Янова Рас.

ПАМЕ'НДЗЫ *прыназ.* з *род.* Тое ж, што і п а м е́ ж д ы. *Зламала карова капыт, паменздзы капытоў.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *pomiędzy* 'тж'.

ПАМЕ'НШАЦЬ *зак.* Зрабіцца меншым. *Паменшала хата.* Лоск Валож.

ПАМЕ'РАЦЬ *зак.* Прымерыць. *Памераям плацця.* Лоск Валож. *Цёця Броня шыя табе сукенку, пойдзям памераям.* Альба Нясв.

ПАМЕ'РЗНУЦЬ *зак.* Загінуць ад марозу. *Марос удэрыў і памерзлі памідоры.* Плябанцы Ашм.

ПАМЕРКІЧАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а б е́ г а ц ц а 2. *Гавечка ўжо памеркічавала.* Кіралі Шчуч.

ПАМЕРНО′САМ *прысл.* Ніц. *Памерносам — лехчы носам на зямлю.* Дакудава Лід.

ПАМЕ′РЦІ, ПАМЁРЦІ, ПАМЁРЦЬ, ПАМЯРЦІ′, ПОМЫРТІ′, ПОМЭРТІ′ *зак.* Памерці. *Кап нам разам памерці.* Кураполле Паст. *А калі я і памру — свет не зрыганецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Можа памру прэнтко.* Канюкай Вільн. *Памрэш—і будзяш ляжаць.* Кудзялянцы Шальч. *Так і жыццё чалавека, строіцца, будуецца. Каўры купляя, а памрэ — нічога не нада.* Солы Смарг. *Памер сын.* Рыбчына Віл. *Чахотка ў яго была, памер.* Лука Нараўк. *Марыля памерла — кума наша.* Рыбчына Віл. *Памерла матка.* Міратычы Карэл. *Коліна сестра памерла.* Вецярэвічы Пух. *Матка памерла.* Альхоўцы Лях. *Што за дзіва памёрці.* Валынцы В.-Дзв. *Ад угару можна памёрці, як учадзеш.* Кураполле Паст. *Хацела памёрці.* Саланое Віл. *Памёр мой бацька.* Грыкені Вільн. *У Камынці лыжяв, там і памёр.* Дзмітравічы Кам. *І мама мая ў мяне памёрла.* Саланое Віл. *Бацькі памёрлі.* Мярэцкія Глыб. *Маіх крэўных нікога няма, памёрлі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Памёрць ні страшна, алі хварэць цяшка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Можыць ён памярці.* Магуны Паст. *Луччы памярці, чым такой нядолі прычакаць.* Кіралі Шчуч. *Учадзіш і можаш памярці.* Лоск Валож. *І малады можа памярці, а стары, бывая, хоча, і смерць не бярэ.* Малі Астр. *Можаш памярці, на дном дні розна бывая.* Парэчча Гродз. *Хачу памярці, ды смерць не прыходзіць.* Новікі Гродз. *Блёкатам атруціўся мальчык, кішку ўставілі пампаваць, а ён памяр.* Старыя Трокі Трак. *Памярла жонка.* Груздава Паст. *Яна рана памярла, дзеці былі малыя.* Асавец Віл. *Памярла матка.* Ністанішкі Смарг. *Памярла жонка, дзяцей многа ў іх.* Солы Смарг. *У яе памярла маці.* Жодзішкі Смарг. *Клёк атрос жонца — і памярла.* Малі Астр. *Памярла жонка.* Лоск Валож. *Прышоўшы да ейнага дому, яна памярла. Ракоў пяць, як Ганна памярла.* Стральцы Гродз. *Памярла жонка аднаму чалавеку.* Парэчча Гродз. *Памярла маладая, мало жыла.* Старое Сяло Зэльв. *Памярла зімою мая мама.* Вялікія Баяры Шчуч. *Старуха памярла.* Старыя Трокі Трак. *Памірла ў тот год.* Пасіене Лудз. *Яны даўно памярлі.* Магуны Паст. *Два браты памярлі.* Івашкаўцы Смарг. *Бацькі яго памярлі, змярлі.* Ністанішкі Смарг. *Нашы дзядэ і прадзяды ўсе памярлі.* Кіралі Шчуч. *Одна сэстра помырла.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Як памрэш, хоць і плот падапрэш.* Саланое Віл.

ПАМЕ′ЦІЦЦА *зак.* Нацэліцца. *Воўк на дзіця памеціўся.* Кудзялянцы Шальч.

ПАМЕ′ЦІЦЬ *зак.* Пацэліць. *Кінуў качалко, але ні памеціў у яе.* Вострава Маст.

ПАМЕ′ШАВАЦЬ *зак. перан. экспр.* Збіць. *Яе* [жонку] *як пакаціў, памешаваў яе, яна бяз памяці была.* Асавец Віл.

ПАМЕ'ШАНЫ I *прым.* Змешаны. *Памешаны лес.* Быстрыца Астр.

ПАМЕ'ШАНЫ II *прым.* Тое ж, што і п а л а в у́ м н ы. *Не ўсі ў яго дома, памешаны ён.* Мішневічы Шум.

ПАМЕ'ШЧЫК *м.* Памешчык. *Памешчык там на памешчыку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАМЕ'ШЧЫЦКІ *прым.* Які належыць памешчыку. *Гдзе памешчыцкія былі землі, забралі.* Солы Смарг. *Лясы бальшые ўсё былі памешчыцкія, фольваркі тожэ памешчыцкія.* Мельнікі Лудз.

ПАМЁТ *м.* Няўдобіца. *Памёт — несеяны ўчастак.* Мішневічы Шум. *Памёт будзеце запахіваць, што там вырасцець? Лён слалі на памёце.* Беразіно Докш.

ПАМІ'Ж, ПАМІ'Ш *прыназ.* з *род.* Тое ж, што і п а м е́ ж д ы. *Паміж пален.* Беняконі Воран. *Паміж хатаў пойдзіця.* Ністанішкі Смарг. *Паміш сена злажылі.* Груздава Паст. *Паміш лех баразна.* Мярэцкія Глыб. *Паміш хаты і хлева.* Асавец Віл.

ПАМІ'ЖДУ *прыназ.* з *тв.* Тое ж, што і п а м е́ ж д ы. *Імшарынка паміжду полем.* Мішневічы Шум.

ПАМІ'З, ПАМІ'ЗЬ, ПАМІ'С *прыназ.* з *род.* Тое ж, што і п а м е́ ж д ы. *Балота, у нас зямля паміз балот.* Гарэлец Пух. *Пагурачак паміз балота.* Багушэвічы Бярэз. *Паміз лесу.* Пасека Ст.-Дар. *Яма* [палянка] *памізь лесу.* Дзяніскавічы Ганц. *Паміз бобу. Паміс хат прагаліна.* Рыбчына Віл. *Паміс брот высыпалі дарогу, німа дарогі, садралі дарогу на поле.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАМІНА'ЛЬНЫ ДЗЕНЬ *м. абрад.* Памінкі. *Памінальны дзень правілі, памінальныя дні.* Мярэцкія Глыб.

ПАМІ'ННЫ ДЗЕНЬ *м. абрад.* Тое ж, што і п а м і н а́ л ь н ы д з е н ь. *Дзяды ўвосянь — памінны дзень.* Малахоўцы Бар.

ПАМІНУ'ЦЬ *зак.* Абагнаць. *Ён раней вышаў з дому, але я яго памінуў.* Дакудава Лід.

ПАМІ'НЬКІ *мн.* Тое ж, што і п а м і н а́ л ь н ы д з е н ь. *На памінькі паехалі, прайшло сорак дзён, як памёр ён.* Кіралі Шчуч.

ПАМІРА'ЦЬ *незак.* Паміраць. *Паміраць пачала!* Граўжышкі Ашм. *Людзі ні знаюць, калі будуць паміраць.* Груздава Паст. *Дзядукі паміраюць.* Відаўцішкі Вільн. ∇ *Паміраць збірайся, а жыта сей!* Малі Астр.

ПАМІРҐАВА'ЦЦА, ПАМЯРҐАВА'ЦЦА *зак.* Памеркавацца. *С табой ні памярґуіссё.* Міратычы Карэл. *Трэба ж неяк і памірґавацца адно з другім.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* польск. *miarkować* 'разлічваць, узважваць'.

ПАМІРҐО'ЎНЫ, ПАМЯРҐО'ЎНЫ *прым.* Памяркоўны. *Добры, памірґоўны сусед.* Беразіно Докш. *Прасты такі ён,*

*паміргоўны.* Глівін Барыс *Працяк мой сусед, паміргоўны такі.* Мачаск Бярэз. *Памірганая сусетка была.* Альхоўка Навагр. *Памяргоўны, дабрахвочы ён.* Рыбчына Віл. *Памяргоўны чалавек, мажэ памяргавацца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАМІРКАВА'ЦЦА *зак.* Падзяліцца. *Паміркуецца з паследнім, ад роту дасць.* Ухвала Круп.

ПАМІРНУ'ЦЬ *зак.* Паслізнуцца. *Скочыў, памірнуў, чуць ні паваліўся.* Магуны Паст.

ПАМІРЫ'ЦЦА *зак.* Прыйсці да згоды. *Паб'юцца і паміраццa.* Груздава Паст. *Яны памірыцца меж сабой.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАМІШКАВА'ЦЬ *зак.* Тайком выведаць. *Прышоў, памішкаваў, ні пытаўса, а цішком хацеў уведаць.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* польск. *myszkować* 'падглядваць, рыцца, капацца'.

ПАМКНУ'ЦЦА *зак.* Намерыцца што-н. зрабіць. *Памкнулася сказаць, але смоўчыла пра гэты дзялкі.* Кіралі Шчуч.

ПАМНО'ГУ *прысл.* Шмат. *Нясуць памногу хлеба.* Магуны Паст.

ПАМО'Л *м.* Спосаб, якасць раздрабнення зерня. *Ячмень і пшаніцу ашатруюць і меліць — прасты памол.* Солы Смарг.

ПАМОЛО'ДОК *м.* Парастак. *Старая груша ўсохла, але пусціла памолоткі.* Курашэва Чыж.

ПАМО'Р *м.* Мор. *У бежанцах былі, у тую вайну такі памор пашоў.* Магуны Паст. *Прышоў памор на людзей.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Кап цябе памор схваціў!* Бакшты Іўеў.

ПАМО'РАК *м.* Тое ж, што і п а м о́ р. ▽ *А хай яго паморак!* Каўняны Гродз. *Паморак іх зная!* Альхоўка Навагр. *Паморку на іх німа, на гэтых куранят.* Альба Нясв. *Куды яе паморак занёс*?! Навасёлкі Свісл.

ПАМО'РШЧАНЫ *гл.* ПАМА'РШЧАНЫ

ПАМО'СТ, ПОМО'СТ *м.* 1. Падлога. *Памост новы ў хаце.* Пасека Ст.-Дар. *А ў хаці ні памоста, нічога.* Паплавы Бярэз. *Памост памыла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Заметаці памост трэба.* Вялікі Краснік Пруж. *Пуд памостам мышы.* Лука Нараўк. *Тэпэр ужэ току в хаті ніхто нэ робіт, всэ ўкладают помосты.* Курашэва Чыж.; *гл.* ДАБМ, карта № 336. 2. Насціл. *У хляве памост пагніў.* Вецярэвічы Пух. *Памост кладзецца ж жардзя пад тарпу.* Рыбчына Віл. *Памост пат сціpту.* Саланое Віл. 3. Кладка. *Памост праз канаву.* Беняконі Воран. 4. Тое ж, што і п а л а́ т к і 2. *Вуляй ставяць на памост.* Мачаск Бярэз.

ПАМО'ЦНЫ, ПАМО'ЦНЫЙ *прым.* 1. Лекавы. *Сухі мак памоцны, я многа ела яго.* Ахрэмаўцы Брасл. *Палын горкі, алі ён памоцны ад многіх балезней.* Кіралі Шчуч. *Сенціян памоцны ад хвароб.* Міратычы Карэл. *Ліповы цвет памоцны ат кашлю.* Номікі Бабіц. *Тубачнік ад пуду памоцный.* Рагулішкі Даўг. *Я ні знаю, ці яно памоцная.* Кураполле Паст. *Па-*

*моцная нізыпірніца, я не набрала.* Гемзы Шальч. *Хвошка памоцна, кажуць, ад початк. Войкі натта ад пярэпалахаў памоцны.* Навасёлкі Свісл. *Зелё бадзяга памоцнаё ад радзікуліту.* Міратычы Карэл. *Цытвор, піжма памоцны ад рабакоў.* Плябанцы Ашм. *Ажыны памоцны ад раўмацізма.* Кіралі Шчуч. *Памоцныя зёлкі.* Магуны Паст. *Пупшэ з хвоі памоцныя ад кашлю.* Пацаўшчына Дзятл. *Карэня памоцныя для бальных людзей.* Дакудава Лід. 2. Карысны. *Гэты дошч памоцны, трава паднялася.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *pomocny* 'тж'.

ПАМО'ЧКА I *ж. кулін.* Тое ж, што і п а м а́ ч к а. *З мукі варылі памочку, бліны мачалі.* Кемялішкі Астр.

ПАМО'ЧКА II *ж.* Пасудзіна з вадой для ўвільгатнення ніткі ў час прадзення. *Як пралі, мала сліняк, нітка касмацілася, с памочкай прадзець, паставіць кружачку з вадой, таркель пальцы — і прадзеш, нітачка гладзейшая.* Курапалле Паст.

ПАМО'ЧНІК, ПОМО'ШЧНІК *м.* Тое ж, што і п а м а ч н і к. *Твае памочнікі памагаюць дровы складаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сын шчэ молоды, слабы з ёго помошчнік в господарці.* Курашэва Чыж.

ПАМО'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і п а м о́ ц н ы 1. *Дзермеза памочная ад радзікуліту.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАМПАВА'ЦЬ, ПОМПОВА'ТІ *незак.* Пампаваць. *Блёкатам атруціўся мальчык, кішку ўставілі пампаваць, а ён памяр.* Старыя Трокі Трак. *Пампаваў, пампаваў ваду — рукі баляць, а агарот паліць трэба.* Альба Нясв. *Помпкою ровэра помповаў.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *pompować* 'тж'.

ПАМПАВІ'НА *ж.* Пупок. *Пампавіна кругом шэйкі закруціўшысь бываіць. Кажуць, нельга пераходзіць вяроўкі.* Лайпушкі Ігн. *Пампавіна кругом шэйкі закруціўшысь.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *pępowina* 'тж'.

ПАМПУ'ШАЧКА *ж. бат.* Пупышка. *Пампушачка на дрэве распусцілася.* Мсцібава Ваўк.

ПАМПУ'ШКА *ж.* 1. Скрутак (тытуню). *Пампушка — скручваюць табаку лісты — адзін з адным.* Пацаўшчына Дзятл. *Цэлую пампушку насушыў табакі.* Бакшты Іўеў. *У пампушках тытунь.* Дакудава Лід. 2. Булачка. *Пампушкі пяклі, картофлю мялі і мукі патсыплюць і пякуць.* Каўняны Гродз. 3. Пончык. *Пампушкі гатуюцца ў каструлі на жырэ, у алею, у масле.* Бaброўнікі Гарад.

ПАМСЛІ'ВЫ *прым.* Помслівы. *Памслівы чалавек сколькі гадоў будзіць помства вясці.* Курапалле Паст.

ПАМУ'ВІЦЬ *зак.* Пагаварыць. *Трэба памувіць з вамі.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* польск. *pomówić* 'тж'.

ПАМУЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Як памулісса, то зробіш памылак. Можна памуліцца.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАМУ'РЗАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Хустка чорна, усё па-*

*мурзалася.* Альхоўка Навагр. *Памурзалася дзіця, трэба памыць.* Альба Нясв.

ПАМУ'ЦЦА *зак.* Памыцца. *Вы памуліся?* Ракаўскія Швянч.

ПАМУ'ЦЬ *зак.* Памыць. *Мне памуць трэба што ў вядры.* Кузьмічы Люб.

ПАМЫ'ВАК *м.* Анучка, якой мыюць посуд. *Памывак — шмата, якой мыюць пасуду, з трапкі робяць.* Мсцібава Ваўк.

ПАМЫВА'ЦЬ *зак.* Папамыць. *Сколькі я бiльля памывала.* Лоск Валож.

ПАМЫВА'ЧКА *ж. абразл.* Пляткарка. *Памывачка ходзіць і абгаворвая другіх.* Мсцібава Ваўк.

ПАМЫ'ДЛІ'НЫ толькі *мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну. *Добрыя памыдліны, можна памыць атымалкі, сціркі ў памыдлінах.* Ёдлавічы Брасл. *Памыдліны, мачай у памыдліны.* Рыбчына Віл. *Памыдліны.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Памыдлін было наліта.* Ахрэмаўцы Брасл. *Памыдліны выліць трэба.* Мярэцкія Глыб. *Вылі гэтыя памыдліны пат плот.* Кіралі Шчуч. *Памыдліны вылі.* Старыя Трокі Трак. *Памыдліны трэба выліваць вон. Нада памыць у памыдлінах адымачкі.* Гемзы Шальч. *Памы́дліны яшчэ добрыя, можна што памыць.* Лапічы Асіп.; *параўн.* польск. *pomydlić* 'памыліць'.

ПАМЫ'ДЛЯНЫ *дзеепрым.* Памылены. *Памыдляныя ніткі добра шыюць боты.* Магуны Паст.

ПАМЫ'І толькі *мн.* Памыі. *Памыі вынясці каровя піць.* Груздава Паст. *Памыі трэба выліць.* Мярэцкія Глыб. *Вылі памыі!* Солы Смарг. *Памыі выліла.* Рыбчына Віл. *Памыі выляй!* Паляцкішкі Воран. *Памыі для свіней, што зліваем зупу і іншую яду.* Новікі Гродз. *Памыі выліла карові.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вылі памыі ў свіноя вядро, вечарам занясу ў хлеў.* Альба Нясв. *Памыі свінем даём.* Старыя Трокі Трак. *Зліла памыі парсюку, пакармлю.* Малькуны Ігн. *Пасуду мылі, памыі.* Гемзы Шальч.

ПАМЫ'ЙКІ толькі *мн.* Тое ж, што і п а м ы́ і. *Памыйкі даем цяляці.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАМЫ'ЙНІК *м.* Памыйная яма. *На памыйніку нашлі лышку. Памыі злівалі на памыйніку.* Ёдлавічы Брасл.

ПАМЫ'ЙНІЦА *ж.* 1. Пасудзіна, у якую зліваюць памыі. *Памыйніца — вядро на памыі.* Рыбчына Віл. *Памыйніца — ваду зліваць, дзежачка была.* Бакшты Іўеў. 2. Месца каля печы, дзе гаспадыня мые посуд. *Памыйніца — куток, дзе ўсё мыецца, патходжваяцся, дзе чыгунэ стаяць.* Міратычы Карэл.

ПАМЫ'ЛАК *м. ткац.* Памылка пры снаванні красён. *Гэто памылак лічыцца, калі накідаеш раччуху, зрабіла памылка. Накідала памылкаў.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАМЫЛІ′ЦЦА *зак.* Зрабіць памылку. *Лічачы, памылюся.* Паляцкішкі Воран. *Памыліўся ты.* Навасёлкі Свісл. *Памыліўся, не так сказаў.* Альхоўцы Лях. *Памылілася, зрабіла памылку.* Малькуны Ігн.

ПАМЫ′ЛЛЯ *мн.* Тое ж, што і п а м ы́ і. *Шмат памылляў тут назбіралі.* Альхоўка Наваґр.

ПАМЫ′ЛЬНІЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і п а м ы́ д л і́ н ы. *Памыльніцы ад бялізны.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАМЫСЛЕ′НЯ *н.* Думка, задума. *У нас нават с памысленя няма прагнаць духаў. І ў памыслені німа, што будуць грыбы ў такі холат.* Кіралі Шчуч. *На гэта ня трэба імець памысленя.* Малі Астр.

ПАМЫ′СНА *прысл.* З намерам. *Таму ш не памысна зрабіў.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *pomyślnie* 'добра, шчасліва, паспяхова'.

ПАМЫ′ТЫ *дзеепрым.* Вымыты. *Памытыя кашуле.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзяўчына ў яе, што тыдзянь памыта* [у хаце]. Лоск Валож.

ПАМЫ′ЦЬ *зак.* Вымыць. *Я сама памыю падлогу.* Солы Смарг. *Сабе лахман памыя.* Малі Астр. *Памыя ночную кашулю. Памыла талеркі с адной вады.* Солы Смарг. *Памыла падлогу, чыста ў хаці.* Кіралі Шчуч.

ПАМЭ′НДЗАЙ *прыназ.* з *род.* Тое ж, што і п а м е́ ж д ы. *Памэндзай хвойніка хадзілі.* Быстрыца Астр.; *гл.* п а м е́ н д з ы.

ПАМЭ′ЦАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а м а́ ц а ц ь. *Ідзі памэцай курэй!* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАМЯЛА′ *ж.* Памяло. *Памяла — з сасны венік. Памялой мялі ў печы перат тым, як садзіць хлеп.* Ёдлавічы Брасл.

ПАМЯЛО′, ПОМЫЛО′ *н.* Тое ж, што і п а м я л а́. *Памяло новае.* Мярэцкія Глыб. *Памяло стаіць каля печы.* Рыбчына Віл. *Ліс руды, хвост, як памяло.* Малі Астр. *Памяло старое, трэба наламаць на новая.* Альба Нясв. *На памяльнік пасадзі памяло.* Беразіно Докш. *Памяло вяжуць і с сосны.* Саланое Віл. *Памяло рабілі з сосны ці хвоі і ёлкі.* Івашкаўцы Смарг. *На памяло трэба наламаць.* Лоск Валож. *Рабілі памяло с хваявых лапак вымясці печ.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзе б колік знайсці памяло навязаць?* Мачаск Бярэз. *Помыло зв'яжут.* Дзмітравічы Кам. *Памялом у печы замяталі.* Лука Нараўк.

ПАМЯЛЬНІ′К, ПОМЭЛЬНІ′К *м.* 1. Палка, на якую прывязваюць памяло. *Памяльнік зламаўся ў памяле.* Рыбчына Віл. *Памяльнік новы зрабіў.* Мярэцкія Глыб. *Трэба помэльніка набіці, вымэсці печ, будэмо хлеб саджаці.* Смаляніца Пруж. *Трэба памяло прывязаць да памяльніка.* Малькуны Ігн. *На памяльнік насаджваюць памяло.* Жодзішкі Смарг. *Памяльнік кароткі зрабіў.* Пасека Ст.-Дар. *Мужыке даўней*

*жонкам малолі памяльнікам па баку.* Бакшты Іўеў. *Памяльнікі былі да памяла.* Кудзялянцы Шальч. 2. Качарэжнік. *У памяльніку памёлы былі, качарга.* Магуны Паст. *Змыць нада ў памельніку рабёнка, як уракуць.* Валынцы В.-Дзв. *Шчамялькі, ухват, чапяла стаяць у памяльніку.* Ракаўскія Швянч.

ПАМЯЛЬНІКІ′ *мн.* Тое ж, што і памяльнік 2. *Памяльнікі — месца, дзе стаяць вілкі, качарга.* Альхоўка Навагр.

ПАМЯ′ЛЯ, ПАМЯ′ЛЬЯ *зб. н.* Дробная кастрыца. *Памяля — дробная кастрыца, як мнуць лён.* Жыдзевічы Іўеў. *Благі лён, пашоў у памялья.* Бакшты Іўеў.

ПАМЯНІ′ЦЦА *зак.* Памяняцца. *Мы з Лёнькам памяніліся ручкамі.* Міратычы Карэл.

ПАМЯНІ′ЦЬ *зак.* Памяняць. *Тваі ручкі памяніла я.* Саланое Віл. ∇ *Не памяніць слова* — не адступіцца ад сказанага. *Ён як сказаў — не паменіць слова.* Малі Астр.

ПАМЯНТА′ТЫ *незак.* Помніць. *Я мало памянтаю того магазына.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *pamiętać* ’тж’.

ПАМЯНЦІ′ЦЬ *зак.* 1. Навастрыць касу мянташкай. *Мянцюшка — што памянціць касу.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *экспр.* Пабіць. *Трэба памянціць бака жане.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* ме́нціць.

ПАМЯНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і памяніцца. *Цётко, паменяймо курыцамі.* Паляцкішкі Воран. *Хусту памяняла с падругаю.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і памяніць. *Хату памянялі.* Старое Сяло Зэльв. *Памяняць пражу.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАМЯРҐАВА′ЦЦА *гл.* ПАМІРҐАВА′ЦЦА

ПАМЯРҐАВА′ЦЬ *зак.* Памеркаваць. *Памярґую, мо паеду.* Малахоўцы Бар.

ПАМЯРҐО′ЎНЫ *гл.* ПАМІРҐО′ЎНЫ

ПАМЯРКАВА′ЦЬ *зак.* 1. Параіцца. *Яны памяркуяць з сенакосам.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і памярґава́ць. *Нада памяркавацца. Пашла я пазычыць хлеба, яна памяркавала, хоць мала мела, пазычыла.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *miarkować* ’разлічваць, меркаваць’.

ПАМЯРКО′ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і памірґо́ўны. *Памяркоўна сусетка.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАМЯРЦІ′ *гл.* ПАМЕ′РЦІ

ПА′МЯТА′ЦЬ *незак.* Помніць. *Ні па́мятую, як яго называлі.* Валынцы В.-Дзв. *Па́мятая ўсё, каміць.* Рыбчына Віл. *Я памята́ю ўсё.* Граўжышкі Ашм. *Не памята́ю я.* Альхоўцы Лях. *Тапер ніц не памята́ю.* Ялова Пруж. *Памята́я ўсе чысто.* Альхоўцы Лях. *Кацярына памята́ла доўга.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *pamiętać* ’помніць, памятаць’.

ПА′МЯТКА *ж.* Тое, што служыць напамінкам пра каго-

н., што-н. *Адзін ручнік яшчэ маю, што матка ткала — памятка.* Кудзялянцы Шальч.

ПА'МЯТКІ *мн.* Помнікі. *Памяткі ставяць на могілкі.* Рыбчына Віл.

ПАМЯТКІ' *прым.* Памятлівы. *Ён добра помніць, памяткі. Памяткое дзіця.* Дзяніскавічы Ганц.

ПА'МЯТЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і памяткі. *Па́мятлівы ён.* Кіралі Шчуч. *Па́мятлівы — памяць харошая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён па́мятлівы ўчанік.* Малькуны Ігн. *Па́мятлівая яна.* Азяраны Раг. *Я па́мятліва і цяпер помню, што калісь было.* Альхоўцы Лях. *Я памятлі́вая, добро помню.* Міратычы Карэл.

ПА'МЯТНІК *м.* Помнік. *Палеглым памятнік паставілі.* Латыгаль Віл.; *парайн.* руск. *памятник* 'тж'.

ПА'МЯТНЫ *прым.* Тое ж, што і памяткі. *Такая людзіна памятная.* Магуны Паст. *Памятная дзеўка, урокі мала робіць.* Жодзішкі Смарг.

ПАМЯТУ'ШЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і памяткі. *Памятушліва дзяўчына, хоць і малая.* Мачаск Бярэз.

ПА'МЯТУ'ШЧЫ, ПА'МЯТУШЧЫЙ *прым.* Тое ж, што і памяткі. *Па́мятушчы ён быў.* Мярэцкія Глыб. *Ой, які ён па́мятушчы.* Рыбчына Віл. *Хлопяц па́мятушчы.* Дакудава Лід. *Па́мятушчая бапка.* Курапolle Паст. *Я малая крэпка была па́мятушчая: запіялі — я злавіла песню.* Саланое Віл. *Ён такі памяту́шчы! Памяту́шчы ён, многа чаго помніць.* Асавец Віл. *Натта яна памяту́шчая.* Бакшты Іўеў. *Я ні памяту́шчая, многа гора пережыла.* Саланое Віл. *Па́мятушчый чалавек.* Ністанішкі Смарг.

ПА'МЯЦЬ *ж.* 1. Здольнасць запамінаць. *Памяць добрая.* Кузьмічы Люб. *Памяці нет, ніц не помню.* Новікі Гродз. *Вот я добру памяць маю, усё помню, як я жыла на свеці.* Кіралі Шчуч. 2. Запас уражанняў, якія захоўваюцца ў свядомасці. *Ці асталося ў памяці, ці помніш, як гэта называлі.* Валынцы В.-Дзв. *Мне ўсё ў памяці.* Альхоўка Навагр. ◊ *На памяці чыёй; пры памяці чыёй; за памяццю чыёй* — у перыяд жыцця каго-н., калі ён сам быў сведкам чаго-н. *За маю памяць этага не было.* Старыя Смільгіні Воран. *За памяццю гаварылі, што скамарошнікі мядзведзяў вадзілі.* Цяпінцы Віл. *За нашай памяццю гадавалі не так, як цяпер, было не так, як цяпер.* Лоск Валож. *За маёй памяццю пуд хлеба восімдзесят рублёў быў.* Кіралі Шчуч. *Дайней канаву капалі, не за нашай памяццю.* Парэчча Гродз. *За нашай памяцю была тут школа.* Малахоўцы Бар. *За маей памяццю так рабілі.* Рагулішкі Даўг. *За маёй памяццю пышны хлеб пяклі.* Кудзялянцы Шальч. *За маей памяцяй ён акцызнікам.* Гемзы Шальч. *Ні на нашай памяці гэта было.* Валынцы В.-Дзв. *Гэта не пры маёй памяці було.* Парэчча Гродз. *Ні ў памяці* — не пом-

ніць. *Ні ў памяці мне, як даўна рабілі.* Саланое Віл. *Мне не ў памяці, як завуць.* Жылі Іўеў. *Не ў памяці, што так называюць.* Галоўні Воран. *Ад памяці адбіла* — *забылася, не помніць. Ат памяці адбіла.* Номікі Бабіц. *З памяці выйсці* — забыць. *Мне із памяці вышла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не купіла табе папірос, с памяці вышла.* Саланое Віл. *Вышла з памяці слова.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кароткая памяць* — дрэнная, слабая памяць. *У яго памяць кароткая.* Рагулішкі Даўг. *Памяць шалёная* — вельмі добрая памяць. *Памяць была ў мяне шалёная — рас прачытала і запомніла.* Гальшаны Ашм. *Кап ты без памяці пашла!* Кураполле Паст. *Ляжаць без памяці* — страціць прытомнасць. *Бяс памяці ляжыць.* Старыя Трокі Трак. *Без памяці* — забываючы аб усім. *Бэс памяці ляцела.* Гальшаны Ашм.

ПАМЯ′ЦЬ, ПАМ'Я′ЦІ *зак.* Стаўчы. *Дзе мой вяртуль, нада бульбу памяць.* Ёдлавічы Брасл. *Я вам пам'ю бульву добрэнько.* Ялова Пруж. *Суп памяў лышкай.* Кіралі Шчуч.

ПАН *м. устар.* Памешчык. ∇ *Пан на базары сказаў: «Што мужык стаіць, то свіня на вазе ляжыць»,— а мужык адказаў: «Што пан, то сабака».* Кураполле Паст. ◊ *Сабе пан* — гаспадар. *У сваёй хатцэ жыву сабе пан, пакуль не памру.* Дзераўное Стаўб.

ПАНАБРУ′ДЖВАЦЬ *зак.* Набрудзіць у вялікай колькасці. *Дзеці так панабруджваяць, што цэлы дзень прыбіраю.* Крэва Смарг.

ПАНАБРЫ′НІВАЦЬ *зак.* Набрыняць. *Панабрынівалі ногі, чуць боты зняла.* Вецярэвічы Пух.

ПАНАВА′ЦЬ *незак.* Жыць у раскошы. ∇ *Каму панаваць, а каму век гараваць.* Малі Астр.

ПАНАВІВА′ЦЦА *зак.* Навіцца. *Клубкі бальшыя панавіваюцца.* Грыкені Вільн.

ПАНАВУЧЫ′ЦЬ *зак.* Навучыць чаму-н. (усіх, многіх). *Яна букваў панавучвала сваіх унукаў.* Саланое Віл.

ПАНАГАНЯ′ЦЬ *зак.* Намесці. *Гурбы снегу панаганяла.* Лісна В.-Дзв.

ПАНА′ДА *ж.* і *м. экспр.* Хто пранырлівы. *Вось ты панада дык панада, улезіш усюды.* Солы Смарг.

ПАНАДВО′РАК *м.* Двор каля хаты. *Панадворак каля хаты.* Ахрэмаўцы Брасл. *На панадворку пяском высыпалі.* Арэхаўна Уш. *Панадворак між застрояк. Па-нашаму панадворак, а так дварышча.* Магуны Паст. *У панадворку доўга бавілася.* Малі Астр. *Панадворак абышла і ў крапіву папала.* Ракаўскія Швянч.

ПАНАДЗЕ′ЛЬВАЦЬ *зак.* Падзяліць што-н. на многа частак. *Многа панадзельвалі буракоў.* Вострава Маст.

ПАНАДЗІРА′ЦЬ *зак.* Надраць чаго-н. у вялікай колькасці. *Панадзярэць карчоў — і гэта дровы.* Саланое Віл.

ПАНА'ДЗІЦЦА *зак.* Набыць звычку да чаго-н. непажаданага, прывучыцца. *Да суседкі панадзіўся яе мужык хадзіць.* Беразіно Докш. *Мужык панадзіўся да бабы хадзіць.* Мсцібава Ваўк. *Хлапчук панадзіўся да аднэй дзеўкі, то ходзіць і ходзіць.* Малахоўцы Бар. *Панадзіўся хадзіць у шкоду.* Саланое Віл. *Карова панадзілася хадзіць у шкоду.* Рудня Астравітая Чэрв. *Панадзілася карова ў ячмень, рады ня можна даць.* Ёдлавічы Брасл.

ПАНА'ДЗІЦЬ *зак.* Зарупіць. *Яму панадзіла сёння выпіць.* Малькуны Ігн.

ПАНАДЗЯ'ЛАЦЬ *зак.* Нарабіць у вялікай колькасці. *Панадзялаюць рукавіц усім. Столькі вышывання панадзялалі.* Азяраны Раг.

ПАНАДО'БІЦЦА *незак.* Спатрэбіцца. *Можа што панадобіцца вам?* Галубы Маст.

ПАНАДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. *Панадумаю табе іх* [песень]. Саланое Віл.

ПАНАДЫМА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а н а г а н я́ ц ь. *Гурбы панадымалі снегу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАНА'Ж, ПАНО'Ж, ПО'НАЖ, ПО'НАШ, ПАНАЖ'АЙ *м.*, ПАНАЖЫ', ПАНАЖЭ', ПАНАЖАЕ', ПАНАЖАІ' *мн.* *ткац.* Понаж. *Панаж у кроснах.* Беразіно Докш. *Панож у кроснах.* Грыкені Вільн. *Адною нагою на адзін понаж, другою — на другі.* Стральцы Гродз. *Панажай у кроснах.* Жылі Іўеў. *Панажы ў кроснах.* Івашкаўцы Смарг. *Панажы чэпяцца за нічальніцы.* Малі Астр. *Панажы навязваюць.* Лісна В.-Дзв. *Панажы — што наступаюць.* Навасёлкі Свісл. *Трэба начапіць ніты, падвязаць панажы.* Саланое Віл. *Да нічальніц на вяроўках прывязвалі панажы.* Магуны Паст. *Панажы трэба, каб зявы былі.* Кухты Віл. *Панажы дзеравяныя ў варстаці.* Дзераўное Стаўб. *Е два, а е і чатыры панажы, як якія кросна.* Альхоўцы Лях. *У кроснах панажы, ніты, бёрда.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Панажы ў ткацкім станку.* Нізок Уздз. *За нічальніцы вешаюць панажэ.* Лука Нараўк. *Панажэ — што ходзім нагамі, як ччом.* Вялікія Баяры Шчуч. *Панажае ў кроснах.* Гальшаны Ашм. *Вяроўкі ідуць ад панажаёў.* Кіралі Шчуч. *Ткалася ў шэсць панажаёў.* Альхоўка Навагр. *Панажаі ў ткацкім станку.* Беняконі Воран.

ПАНАЖА'ЙКА *ж.* Тое ж, што і п а н а́ ж. *На панажайку нагамі ступаеш.* Старыя Смільгіні Воран. *Ткалі ў дванасця панажайкаў.* Стральцы Шальч.

ПАНАЖО'К *м. памянш.* да п а н а́ ж. *Панажок усаджваецца ў ношкі, на панажок ставіцца нага.* Вецярэвічы Пух.

ПАНАЗБІ'РВАЦЬ, ПАНАЗБІ'РУВАЦЬ *зак.* Назбіраць у вялікай колькасці. *Паназбірвалі каласкоў.* Вялікі Краснік Пруж. *Па вядру паназбірвалі ягад.* Альхоўцы Лях. *Паназбірувалі дошчак.* Азяраны Раг.

ПАНАЗДРЫ'ЦЦА, ПАНО'ЗДРЫЦЦА *зак.* Стаць пульхным. *Хлеп харошы, паназдрыўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хлеп на ноздрах, паназдрыўся, але больш заскалец на паляц.* Дзяніскавічы Ганц. *Паназдрыўся пірог, аш падышоў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Хлеп пышны, паноздрыўся. Паноздраны хлеп харошы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАНАЙХОДЗІЦЬ *зак.* Пазнаходзіць. *Як яны панайходзяць іх?* Альхоўка Навагр.

ПАНАКАРМЯ'ЦЬ, ПАНАКАРМЛЯ'ЦЬ *зак.* Накарміць (усіх, многіх). *Панакармяла свіня. Трэба ўсю жывёлу панакармляць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАНАКА'ЧВАНЫ *дзеепрым.* Накочаны ў вялікай колькасці. *Баляк панакачвана.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАНАКО'ЎЗВАЦЬ *зак. экспр.* Панакрэсліваць. *Панакоўзвае карандашом на паперы.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАНАКУ'ПЛІВАЦЬ *зак.* Панакупляць. *Панакуплівалі людзі ўсяго.* Лісна В.-Дзв.

ПАНАЛО'ЎЛІВАЦЬ *зак.* Налавіць многа чаго-н. *Паналоўлівалі торбу віюноў.* Гемзы Шальч.

ПАНАМА'ТВАЦЬ *зак.* Панамотваць (усё, многае). *Клупке панаматваем па дзесяць хунтаў.* Вецярэвічы Пух.

ПАНАМАЛУ'ЧВАЦЬ *зак.* Намалаціць у вялікай колькасці. *Панамалучвалі хлеба.* Азяраны Раг.

ПАНАМЕ'ТВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а н а г а н я́ ц ь. *Панаметвало снегу.* Альхоўка Навагр.

ПАНАПІКО'ЎВАЦЬ *зак.* Панапіхаць. *Панапікоўваюць поўныя шкапы адзення.* Азяраны Раг.

ПАНАПІ'СВАЦЬ *зак.* Панапісваць. *Панапісваеце так, шчо і не разберуцца.* Вялікі Краснік Пруж.

ПАНАПРАДА'ЦЬ *зак.* Напрасці ў вялікай колькасці. *Панапрадаіць пачынкі.* Дакудава Лід.

ПАНАПУГА'ЦЬ *зак.* Напужаць (усіх, многіх). *Людзей гусі панапугалі.* Паляцкішкі Воран.

ПАНАРАБІ'ЦЬ *зак.* Панабудаваць. *Панарабілі многа новых хатаў.* Ністанішкі Смарг.

ПАНАРА'ВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Панаравіліся маладыя людзі адзін другому.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Панаравілася ёй тут, зноў прышла.* Старое Сяло Зэльв. *А другому мальцу я панаравілася.* Пярэкі В.-Дзв.

ПАНАРА'ВІЦЬ *зак.* 1. Спадабаць. *Хто не прыедзіць, таму тут і панаравіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Пакахаць. *Дзевушка панаравіла яго.* Валынцы В.-Дзв.

ПАНАРА'Д *м.* Калёсы без драбін. Кураполле Паст. *Панарад з дасок.* Чычалі Швянч.

ПАНАРАКА'ЦЬ *зак.* Адчытаць. *Панаракайце добра яго, каб знаў, што не трэба гэтакага дзелаць.* Крэва Смарг.

ПАНАРА'ЎНЫ *прым.* Прыемны. *Кап панараўная работа, то рабіў бы.* Мярэцкія Глыб.

ПАНАРЭ'ЗВАЦЬ *зак.* Нарэзаць многа чаго-н. *Калі ччэш палавіке, столькі старызны панарэзваеш.* Малахоўцы Бар.

ПАНАСТАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Прызначыць на пасаду (пра ўсіх, многіх). *Многа начальства панастаўлялі.* Жодзішкі Смарг.

ПАНАСЫПА'ЦЬ *зак.* Насыпаць (пра ўсё, многае). *Панасыпалі мяшкі жыта.* Мярэцкія Глыб. *Панасыпалі мяшкі бульбы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАНАТАКА'НЫ *дзеепрым.* Захламлены. *Хаты панатаканы ломам, масты пакрашаны.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАНАТЫКА'ЦЬ *зак.* Многа наткаць. *Прадзем, бывало, панатыкаям усяго-ўсякага.* Калядзічы Ваўк.

ПАНА'ЎЧЫВАЦЬ *зак.* Навучыць чаму-н. (усіх, многіх). *Панаўчывалі танцаваць усіх дзевак і хлапцоў.* Саланое Віл.

ПАНАФІ'НА *ж. царк.* Служба па нябожчыку. *У сорак дзён закупліваласяі імша па памёршаму, і называлась яна панафіна. Трэба закупіць панафіну на ўсе святыя, на правады ці к Новаму году. Як панафіна, то бацюшка спісвае душы і моліцца за іх.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *понихида* 'тж'.

ПАНАХВА'ТВАЦЦА *зак.* Паўскакваць. *Панахватваліся мазулі на нагах ад цеснага абутку.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАНАХІ'ДА *ж.* Тое ж, што і п а н а ф і н а. *Будуць панахіду па ём спраўляць.* Бакшты Іўеў.

ПАНАХІТРАВА'ЦЦА *зак.* Стаць больш дасведчаным. *Цяпер людзі панахітраваліся.* Кухты Віл.

ПАНАЦЯГА'ЦЬ *зак.* Панаціраць (пра мазалі). *Мулячоў панацягаў на руццэ.* Номікі Бабіц.

ПАНАЧАВА'ЦЦА *зак.* Начаваць многа разоў у каго-н. *Па суседзях паначавалася.* Дакудава Лід.

ПАНАФУРГО'ЎВАЦЬ *зак.* Панакладаць. *Панафургоўваюць посцілкі травы ды й нясуць.* Вецярэвічы Пух.

ПАНАЯДА'ЦЦА *зак.* Наесціся (пра ўсіх, многіх). *Куры панаядаюцца ды сядзяць. Панаядаліся каровы.* Альхоўцы Лях. *Панаядаліся ўсе.* Міратычы Карэл.

ПАНАЯЖДЖА'ЛЫ *прым.* Прыезджы. *Я жыцелка якубоўская, а суседзі мае ўсе панаяжджалыя.* Якубова Рас.

ПАНДРА'КІ *мн. заал.* 1. Лічынкі хрушча. *Пандракі — белыя, грубыя чэрві, тэрас картошку жруць.* Старыя Трокі Трак. 2. Шашаль. *Пандракі — такія чарвякі, што дзерава ядуць.* Парэчча Гродз.

ПАНЕ'НКА I, ПАНЕ'НЬКА *ж. устар.* Маладая дзяўчына. *Знашоў паненку, зачаў хадзіць да паненкі.* Жылі Іўеў. *Паненькі да нас прышлі.* Стральцы Шальч.

ПАНЕ'НКА II *ж. бат.* Паганка. *Грыб называецца па-*

*ненка, бо ён тонелькі, доўгі. Паненка смярдзіць, як падліна, расце ў аўгусце.* Граўжышкі Ашм.

ПАНЕ́СЦІ, ПАНЯСЦІ́ *зак.* 1. Панесці. *Маці панясла малака. Адзежу панясла на рэчку муціць.* Асавец Віл. 2. Пацягнуць. *Сучка торбу панесла.* Лісна В.-Дзв. 3. *перан.* Перажыць (гора, бяду). *Я панёс гора.* Чычалі Швянч. *Сколька гора панясла, дзевяць дзяцей выгадавала.* Кіралі Шчуч.

ПАНЕ́СЦІСЯ *зак.* 1. Знесціся (пра птушак). *Качкі ў мяне ў панадворку панесліся.* Магуны Паст. 2. *экспр.* Хутка пабегчы. *Панёсся па вёсцы, як шалёны.* Малі Астр.

ПАНЕ́ТІ *незак.* Багацець. *Колісь пэрэд войной жыв, як діет, а тэпэр по войне почав панеті.* Курашэва Чыж.

ПАНЕ́ХТУВАЦЬ *зак.* Зганьбіць. *Панехтувала гэту рыбу.* Азяраны Раг.

ПАНІВЕ́РЫЦЬ *незак.* 1. Паклёпнічаць. *Паніверыў на мяне, нападаў.* Жылі Іўеў. 2. Недаяраць. *Вы мяне панівераеце.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *poniewierać (kogoś)* 'трэціраваць'.

ПАНІЖА́ЦЬ *незак.* Зневажаць. *Ён маць паніжаў нашу.* Саланое Віл.

ПАНІ́ЖЫЦЬ *зак.* Паніжэць. *Была высокая гара, распахалі, паніжыла гара.* Мішневічы Шум.

ПАНІЗА́ЦЬ *зак.* Нанізаць. *Паніжа на лычыну вяртушак і нясе.* Малахоўцы Бар.

ПАНІЗО́ЎЕ *н.* Нізіна. *Наша меснасць у панізоўі.* Кураполле Паст.

ПАНІЗО́ЎЦЫ *мн.* Жыхары вёсак, якія размешчаны ў нізінах. *Панізоўцы жылі ў Дзеткаве, Русаках, Васілінах, Кудрах.* Кураполле Паст.

ПАНІКА́ЦЬ *незак.* Апускацца. *Малькі нанач панікаюць ніжэй, днём ходзяць к сонцу.* Азяраны Раг. *Канцы аставаліся ў палатне, яно не панікала.* Кухты Віл.

ПАНІ́КЛІВЫ *прым.* Блізарукі. *Ён панікліва.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мужык панікліва.* Кураполле Паст., Ністанішкі Смарг. *Панікліва на вочы.* Мярэцкія Глыб., Груздава, Магуны Паст. *Паніклівая баба.* Рыбчына Віл.

ПАНІ́КЛЫ *прым.* Тое ж, што і панікліва. *Вочы паніклыя.* Якубова Рас.

ПАНІ́КНІЦА *ж.* Блізарукая. *Панікніца яна, без акуляраў нічога ня бачыць.* Магуны Паст.

ПАНІ́КНУЦЬ *зак.* Знікнуць. *Камары можа цяпер і паніклі.* Груздава Паст.

ПАНІМА́ЦЬ *незак.* 1. Разумець. *Ён панімаў нямецкую гаворку.* Швэды Вільн. *Ён як панімаіць, так і робіць. Кто панімаюць чытаючы, а кто і не панімаюць.* Саланое Віл. *На вясох не панімаю.* Альхоўка Навагр. *Ён нічога не панімая.*

Лісна В.-Дзв. *Жывёла і тая панімая: як зацьменя было, то коні ржалі, каровы рыкалі.* Рудніке Шальч.; *параўн.* руск. *понимать* 'тж'. 2. Умець. *Дзіця не панімая гурка есці.* Альхоўка Навагр.

ПАНІ'СТЫ *прым. жарт.* Пераборлівы ў ядзе. *Паністы цялюк.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАНІМУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Кемлівы. *Панімушчы хлопчык такі.* Галубы Маст.

ПАНІ'ЦЕЦЦА *зак.* Стаць кволым. *Гуркі паніцеліся.* Мішневічы Шум. *Гародніна паніцелася.* Мачаск Бярэз. *Паніцеліся гуркі, як густа пасаджаны.* Багушэвічы Бярэз.

ПАНІЦЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а н і ц е́ ц ц а. *Паніцеюць буракі ў траве.* Гайна Лаг. *У траве паніцела агародніна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паніцелі буракі, морква.* Рыбчына Віл. *Гуркі паніцелі.* Глівін Барыс.

ПАНІ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Знішчаны. *Прышоў іс пляну, панішчана было ўсё.* Быстрыца Астр.

ПАНІ'ШЧЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Вайна ўсё панішчыла. Ці мала панішчылі людзей.* Крэва Смарг.

ПАНІШЧЭ'ЧКУ *прысл.* Ціха. *Стаіць панішчэчку.* Ялова Пруж.

ПА'НКА *ж.* Корань аеру. *Панка з касамі сядзіць каля рэчкі ззеляненьшы.* Старое Сяло Зэльв.

ПА'ННЫ *мн. бат.* Аер. *Панны ля ракі растуць.* Пасека Ст.-Дар.

ПАНО'ЗДРЫЦЦА *гл.* ПАНАЗДРЫ'ЦЦА

ПАНО'С *м.* Панос. *Як боп варыцца — ваду п'юць ат паносу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як панос, то носіць.* Саланое Віл.

ПАНО'ШЧЫ толькі *мн.* Цяжарнасць. *Нехарошыя паношчы ў цяжарнай жанчыны.* Мачаск Бярэз.

ПАНСАЧО'К *м. памянш.* да п а н ц а́ к 1. *З пансачку варэць кашу: у ступе аттаўчэш шалупіну і варыш.* Ракаўскія Швянч.

ПА'НСТВА *н. гіст.* Паншчына. *Ва ўрэмя панства, када быў пан.* Істра Лудз.

ПА'НСТВО *н. жарт.* Паважаныя людзі. *Усё тут панство сабраласё.* Вецярэвічы Пух.

ПАНТО'ФЛІ *мн.* Туфлі. *Пантофлі мужчынскія.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *pantofle* 'тж'.

ПАНУ'РЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і п а н у́ р ы 1. *Панурлівы чалавек.* Вецярэвічы Пух.

ПАНУ'РО *прысл.* Хмурна. *Чалавек не говорыт, цішком седзіт, пануро.* Ялова Пруж.

ПАНУ'РЫ *прым.* 1. Хмурны. *Пануры чалавек панура глядзіць на другіх.* Мсцібава Ваўк. *Панура баба глядзіць з-пад лоб'я.* Мсцібава Ваўк. 2. Хваравіты. *Карова панура была ўчора, смутна.* Жылі Іўеў.

ПАНУ'РЫЦЦА *зак.* Нахмурыцца. *Панурыўся чалавек, стаў моўчкі.* Вецярэвічы Пух.

ПАНХЕ'Р, ПАНХІ'Р *м. мед.* Пухір. *Надушыў панхера.* Номікі Бабіц. *Панхер выскачыць.* Парэчча Гродз. *Сеў мокры на гарачую цэглу, панхіры былі, потым сталі пэнкаць, закарэлі.* Гемзы Шальч. *Абварыўшы цела, найлепей аблажыць каровім калам, перасмыліць цела і панхіроў не будзе.* Граўжышкі Ашм. *Панхіры, ці лопаўкі.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *pęcherz* 'тж'.

ПАНЦА'К, ПАНСА'К, ПЭНЦА'К *м.* 1. Ячныя крупы. *Панцак доўга варыцца.* Беразіно Докш. *З панцаку кашы варылі.* Пацаўшчына Дзятл. *Панцак таўклі ў ступах.* Ахрэмаўцы Брасл., Саланое Віл. *Купі панцаку.* Петрашунцы Валож., Міратычы Карэл. *Крупная крупа — панцак, а мелкая — крупеня.* Навікі Лудз. *Панцак — гэта вялікія крупы з ячменю, луску абтаўчэш.* Грыкені Вільн. *Панцак — крупа з ячменю.* Індра Красл. *Панцак таўклі, чысты ячмень сыпят, вадзічкай палівалі, лузга аттаўкецца, а патом цераз сіта, і каноплю таўклі.* Пасіене Лудз. *Вазьму пансаку і кашу звару на абед.* Глівін Барыс. *Пансак — ячменны, цяпер груца называюць.* Ракаўскія Швянч. 2. Страва з панцаку. Валынцы В.-Дзв., Тухавічы Лях. *Панцаку пасярбаю.* Груздава Паст. *Панцак згатуем з гарохам і ядзём.* Новікі Гродз. *Панцаку зварылі і малаком разбялілі.* Кіралі Шчуч. *Наварыла панцаку з малаком. Панцак з ячменных круп.* Малахоўцы Бар. *Пансак — с круп ячменных булён.* Жодзішкі Смарг. *Пансак — зупа з ячменных круп.* Солы Смарг. *Крупы — пэнцак.* Крынкі Крын.; *парайн.* польск. *pęcak* 'тж'.

ПАНЦАКО'ВЫ, ПАНЦЭКО'ВЫ *прым.* Прыгатаваны з ячнай крупы. *Каша панцаковая.* Груздава Паст. *Панцаковую кашу варылі на куццю.* Стральцы Шальч. *Панцэкова каша смашна.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАНЦЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Моцна хацець. *Чого ты панціш?* Хатынічы Ганц.

ПАНЦІ'НА, ПЕНЦІ'НА *ж.* Костка ў ніжняй частцы нагі каня ля капыта. *Панціна ў каня.* Сакаляны Сакол. *Пенціна задняя раскрываецца ў каня, разрэзана.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *pęta* 'путы', *pętać* 'спутваць, завязваць', літ. *pentinas* 'шпора'.

ПАНЧО'ХА, ПАНЧАХА', ПОНЧО'ХА *ж.* Панчоха. *Панчоху надзень, каб аржышча не калолася.* Груздава Паст. *Зрабіла адну панчоху.* Паляцкішкі Воран. *Панчохі надзену, цюпкі і пайду хадзіць.* Парэчча Гродз. *Панчохі маці повязала мне.* Смаляніца Пруж. *Панчохі рабілі раней пруткамі з лёну, с простых нітак.* Кухты Віл. *Панчаха парвалася.* Ёдлавічы Брасл. *Ногі ў панчасе.* Граўжышкі Ашм. *Пончоха вязана.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* польск. *pończocha* 'тж'.

ПА'НЧЭРЫЦА *ж.* Падчарка. *А панчэрыца як нэ годыть, ныйым нэ ўгодыть — усё нэ так, усё не добрэ.* Каўняцін Пін.

ПА'НШЧЫ'ЗНА, ПА'НШЧЫНА, ПА'НЬШЧЫНА, ПАНЧЫ'ЗНА *ж. гіст.* Паншчына, прыгон. *Паншчызна была.* Стральцы Гродз., Ністанішкі Смарг., Чычалі Швянч. *Тут па́ншчызна хадзіла.* Відаўцішкі Вільн. *Бабуля прышла на работу, і слонца ўзышло — двацаць пяць розак далі, што спазнілася, бо паншчызна была. На паншчызну хадзілі людзі.* Граўжышкі Ашм. *Як была паншчызна, то пяць дней работалі пану, а шосты сабе.* Быстрыца Астр. *На па́ншчызне цівун быў, ён выганяў на работу ў поле і крычаў.* Малі Астр. *Хадзілі на паншчызну: шэсць пану, а адзін сабе дзянёк.* Магуны Паст. *Паншчызну служылі.* Мсцібава Ваўк. *Два хазяіна былі, паншчызна як была. На паншчызну хадзілі рабіць.* Старыя Трокі Трак. *За паншчызнай работнік дармовы быў.* Жылі Іўеў. *Некалі паншчызну адбывалі. Бабунька расказвала, што яе матка на паншчызну хадзіла.* Солы Смарг. *Ён пачне расказваць праз па́ншчызну, як бувало жылі.* Кіралі Шчуч. *За паншчынай так было: як хароша дзеўка ідзе замуж, то трэба каб пераначавала з панам.* Альхоўка Навагр. *Паньшчыну робілі ў дварэ.* Калясное Міхал. *Бацько жаніўся ў паньшчыне.* Пасека Ст.-Дар. *Панчызна была.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАНЫ'ГАЦЬ *зак. экспр.* Пашукаць, пашнырыць. *Паныгала па хаце і не нашла нічога.* Груздава Паст.

ПАНЫ'ДЗГАЦЬ *зак. экспр.* Перабіраць страву, е́сці з неахвотай. *Паныдзгаў, распэцкаў і не еў нічога.* Мсцібава Ваўк.

ПАНЫ'ПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а н ы́ г а ц ь. *Яны паныпалі па хатах.* Азяраны Раг.

ПАНЮ'РА *м.* і *ж. экспр.* Нелюдзімы. *Панюра ты!* Парэчча Гродз.

ПАНЮ'ШКАЦЬ *зак. экспр.* Пашукаць. *Пайду панюшкаю матачніку* [травы]. Ёдлавічы Брасл.

ПА'НЯ *ж. устар.* Жанчына. *Гэтая паня грыбоў набраўшы многа, працавіта.* Стральцы Шальч. ◊ *Паняй быць* — жыць заможна, без асаблівага клопату. *Яна цэлы век паняй была. Яна паняй за гэтым мужам была.* Малі Астр. *Паней ззяць* — быць багата ўбранай. *Скрыпнулі дзвэра, оччыніліса, нэсуть куфэр высокый, важкый, ідэ панчэрыца — паня паней ззяе.* Каўняцін Пін.

ПАНЯДЗЕ'ЛАК *м.* 1. Панядзелак. ∇ *Панядзелак — дзень нешчаслівы.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл.* *панядзе́лкам.* У панядзелак. *Панядзелкам не пачынаюць нічога.* Кіралі Шчуч.

ПАНЯДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і п а н я д з е́ л а к 1.

*У панядзельнік я ездзіла да яго, а ўчора ізноў паехала.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *понедельник* 'тж'.

ПАНЯДЗЁГА *м.* і *ж.* Жывёліна, якая нарадзілася ў панядзелак. *Панядзёга радзілася ў панядзелак.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАНЯСЦІ' *гл.* ПАНЕ'СЦІ

ПАНЯ'ЦІЯ *н.* Паняцце. *Ён ніякага паняція не мая.* Солы Смарг.

ПАНЯ'ЦЦА *зак.* Навучыцца. *Як туркі вучыліся, дык трохі паняліся.* Якшыцы Бярэз.

ПАНЯ'ЦЬ, ПОНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Зразумець. *Як матка памярла, я паняла, што на свеці ест бяда.* Парэчча Гродз. *Не поймеш іх.* Кемялішкі Астр., Альхоўка Навагр. *Вы не панялі, што я сказала.* Вецярэвічы Пух. 2. Знайсці. *Каб якога паняць чалавека, а то не.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Злавіць. *Кошка паняла вераб'я.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Затрымаць. *Яна нашу маму паняла на вуліцы і павяла.* Навасёлкі Свісл. *Ляснік угару як пухнуў, то яны ўцякаць, алі іх панялі.* Кудзялянцы Шальч. *Яго панялі і павялі, ён ідзець як склют.* Кураполле Паст. 5. Усмакаваць. *Каровы панялі лубін.* Вецярэвічы Пух. 6. Паглынуць. *Вада паняла іх, грыбы пашлі на спод, а вада наверх, вот і кажуць: вада паняла іх.* Вецярэвічы Пух. ◊ *Паняць моду* — увайсці ў звычай. *Яны панялі моду вянкі рабіць.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *понять* 'зразумець'.

ПА'ПА *м.* Бацька. *Мой папа кавалём быў.* Альхоўка Навагр. *Папа работал за работніка ў іменіі.* Пасіене Лудз. *Папу ўзялі на вайну.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *папа* 'тж'.

ПАПАБАЛО'ХАЦЦА *зак. экспр.* Паплюхацца. *Папабалохайся ў ямі.* Альхоўцы Лях.

ПАПАБІВА'ЦЬ *зак.* Пабіць (пра ўсіх, многіх). *Папабівалі людзей, бо фашыстаў дужа многа было.* Дакудава Лід.

ПАПАБО'ХАЦЬ *зак. экспр.* Збіць (пра масла). *Другі рас папабохаеш, а другі рас поўна бойка масла за пяць мінут.* Масілавічы Сл.

ПАПАБЫ'ЦЬ *зак.* Пабыць нейкі час. *Вот на вёсцы папабудзеце.* Галубы Маст.

ПАПАВАЛАЧЫ'ЦЬ *зак.* Панасіць (пра ўсіх, многіх). *Маці папавалачыла свае дзеці.* Гемзы Шальч.

ПАПАГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* Нагаварыцца. *Ужэ папагаворацъ бабы, як сабяруцца.* Альхоўцы Лях.

ПАПАГАЛАДА'ЦЬ *зак.* Нагаладацца. *Як прыехалі, то ўжэ папагаладалі.* Вялікі Краснік Пруж.

ПАПАГАЛАСІ'ЦЬ *зак.* Нагаласіцца. *Папагалашу, як прыеду дахаты, ды маткі няма.* Альхоўцы Лях.

ПАПАГАРАВА'ЦЬ *зак.* Нагаравацца. *Нямала папагаравала ў маладосці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАПАГРА'ЗНУЦЬ *зак.* Пагразнуць шмат разоў. *Вот папаграс я на гэтай дарозе.* Тухавічы Лях.

ПАПАГРЫ'ЗЦІСЯ *зак. перан.* Пасварыцца многа разоў. *Папагрызліся мы з ім.* Гемзы Шальч.

ПАПАГУБІ'ЦЬ *зак.* Вынішчыць. *Папагубілі качак, ды што яны папашукалі іх.* Вецярэвічы Пух.

ПАПА'ДАЦЬ *зак.* Выпасці. *Пападаў град.* Дзяніскавічы Ганц. *Пападая дошч, падмёрзня — галалёт тагды станя.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАПАДА'ЦЬ *зак.* 1. Пацэліць. *Трэба пападаць на касячок, каб лязо гастрылася.* Малі Астр. 2. Трапіць. *Не пападала мне там быць.* Гемзы Шальч. 3. Пранікнуць унутр чаго-н. *Абвесім, каб вецер не пападаў.* Чуркі Ашм.

ПАПАДЖО'ГАЦЬ *зак. экспр.* Касіць (доўга, неаднаразова). *Вот паπаджогаў ён сягоння касою.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПАДКО'ЛВАЦЦА, ПАПАТКО'ЛВАЦЦА *зак.* Патрэскацца. *Калі хлеп папатколваяцца, ён ні паткіс.* Дакудава Лід.

ПАПАДПІРА'ЦЬ *зак.* Падперці што-н. *Пападпіралі хлеў, бо схіліўся на бок.* Азяраны Раг.

ПАПАДРАСТА'ЦЬ, ПОПОДРОСТА'ЦІ *зак.* Вырасці. *Дзеці пападрасталі.* Вецярэвічы Пух. *Дзеці пападрасталі і пажаніліса.* Кудзялянцы Шальч. *Хлопцы поподросталі.* Смаляніца Пруж.

ПАПАДРЭ'ЗВАЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а п а д к о́ л в а ц ц а. *Пальцы пападрэзваліся знізу.* Галубы Маст.

ПАПАЕ'ЖДЖЫВАЦЬ *зак.* Папаездзіць. *Колькі трэба было папаежджываць, каб яе аддалі за мяне, бедны быў.* Вязынка Маладз.

ПАПАЕ'ЗДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п а ё ж д ж ы в а ц ь. *Ваша Марыля папаездзіла па свету.* Вецярэвічы Пух.

ПАПАЕ'ХАЦЬ *зак.* Паехаць (пра ўсіх, многіх). *Папаедуць усе дзеці.* Ністанішкі Смарг. *Папаедуць у суботу.* Азяраны Раг.

ПАПАЁДАЦЬ *зак.* Паесці ў вялікай колькасці. *Папаёдаў ягат.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАПАЙСЦІ' *зак.* Павыходзіць. *Усе папайшлі з хаты.* Ністанішкі Смарг.

ПАПАКАСІ'ЦЬ *зак.* Пакасіць на працягу доўгага перыяду і ў вялікай колькасці. *Памалацiла я і папакасіла за свой век.* Альхоўцы Лях.

ПАПАКО'ШВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п а к а с і́ ц ь. *Папакошвалі лугоў.* Альхоўка Навагр.

ПАПАКУ'ЛІЦЦА *зак.* Раскудлачыцца. *Папакуліліся ніткі. Папакуліўся лён, нада яго падымаць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *pākulotis* 'тж'.

ПАПАЛАКА'ЦЬ *зак.* Папаласкаць. *Папалакала бялізну.*

Новікі Гродз. *Перш памыла ў цёплай вадзе, а ў халоднай папалакала.* Старое Сяло Зэльв.

ПАПАЛА'М *прысл.* Напалам. *На папалам нада рашчапіць.* Лісна В.-Дзв.

ПАПАЛАСКА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і папалака́ць. *Адзежу прайнікам як нададуць, тады нада папаласкаць.* Груздава Паст. *Занясі папаласкаць адзежу.* Кураполле Паст.

ПА ПАЛАЎНІ' *прысл.* У другой палавіне дня. *Па палаўні ні пойдуць, дзе яны пойдуць, на полі душа вылятая ад холаду.* Мсцібава Ваўк.

ПАПАЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Хутка пайсці. *Дзет у хату папалецеў.* Лоск Валож.

ПАПАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Выпаліць (печ). *Мне рупіць, кап печку папаліць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Спаліць. *Многа дамоў папалілі ў вайну.* Істра Лудз. 3. Высушыць. *Слонца папаліла пасевы.* Старыя Трокі Трак.

ПАПАЛО'ЦЬ *зак.* 1. Палоць доўгі час. *Папалола за сваё жыццё.* Галубы Маст. 2. Правеяць. *Нады папалоць зярняты.* Лісна В.-Дзв.

ПАПАЛЯВА'ЦЬ *зак. біял.* Аппладніцца. *Папалявала неяк карова.* Старыя Трокі Трак. *Пярэзімка не папалявала.* Чуркі Ашм.

ПАПАЛЯЖА'ЦЬ, ПАПАЛЕ'ЖАЦЬ *зак.* Паляжаць доўга і многа. *Папаляжала зімой на печы.* Дзяніскавічы Ганц. *Я папалежала ў бальніцы.* Галубы Маст.

ПАПАМАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Памалаціць многа і доўгі час. *Я папамалаціла і пакасіла за свой век.* Альхоўцы Лях.

ПАПАМА'НАВАЦЦА *зак.* Часта сварыцца. *Я лыгу* [лгу], *што мужык з жонкаю не папаманаваюцца.* Міратычы Карэл.

ПАПАМЫВА'ЦЬ *зак.* Вымыць (пра ўсё, многае). *Каструлі папамывала, пасуду.* Граўжышкі Ашм. *Папамывала дранды.* Кураполле Паст. *Палы папамываю.* Лісна В.-Дзв.

ПАПАМУ'ЧЫЦЦА *зак. перан.* Намучыцца. *Бедна жыла, папамучылася бядняга.* Вецярэвічы Пух.

ПАПАНАЯДА'ЦЦА *зак.* Наесціся (пра ўсіх, многіх). *Каровы папанаядаліся.* Азяраны Раг.

ПАПА'Р, ПОПА'Р, ПУПА'Р *м. с.-г.* Папар. *На папар ганялі кароў.* Магуны Паст., Беразіно Докш. *Папар, дзе каровы пасуцца.* Груздава Паст. *Увосень папар аруць пад жыта, а летам каровы ходзяць.* Ёдлавічы Брасл. *Папар — дзе нічога не сеяна, летам там кароў пасуць.* Солы Смарг. *Папар астаўлялі, папар атпачывае.* Беняконі Воран. *Папар — пад рош зімля.* Індра Красл. *Цепер німа таго папару.* Баброўнікі Гарад. *Ізораты попар, на ёму сыят лубын.* Дзмітравічы Кам. *Пупар — поле, дзе скот пасцілі.* Валынцы В.-Дзв. *Пупар* —

*коб зямля оддыхала, адзін год раньшы не сеялі.* Лука Нараўк.

ПА'ПАРАТНІК, ПА'ПАРАТНЯК *м.* 1. Папараць. *Хлеба не было, жменю мукі ўсыплюць і папаратняк ды й патаўкуць у ступе.* Паляцкішкі Воран. 2. Настой папараці. *Вялікі папаратнік ад паносу п'юць.* Солы Смарг.

ПАПАРКАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п а л я в а́ ц ь. *Гайца папаркавала з бараном.* Мсцібава Ваўк.

ПА'ПАРНІК *м.* Тое ж, што і п а́ п а р а т н і к 1. *Папарнік у леся расце.* Жодзішкі Смарг. *Папарнік цяпер раступаецца* [распускаецца]. Кіралі Шчуч. *Папарнік расцець у лесі.* Кураполле Паст.

ПАПАРО'ЎВАЦЬ *зак. экспр.* Паплакаць. *Мала ты папароўвала за сваё жыццё.* Вецярэвічы Пух.

ПАПАРЦЕ'Й *м.* Тое ж, што і п а́ п а р а т н і к 1. *Папарцей расцець.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *papartis* 'тж'.

ПАПАРЦЕЛЯВА'ЦЬ *зак. экспр.* Абхадзіць усё навокал. *Усю вёску папарцелявалі.* Гемзы Шальч.

ПА'ПАРЦЬ, ПА'ПАРТЬ, ПА'ПРУТЬ, ПА'ПАРОЦЬ *ж.* Тое ж, што і п а́ п а р а т н і к 1. *Даўней с папарці пяклі хлеп, сушылі, таўклі.* Ёдлавічы Брасл. *Папарть в лесу растет, хорошо утепляет на зіму.* Прэдэ Даўг. *Папруць у лесі.* Кураполле Паст. *Папароць для плоту добра была.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *papar̃čiai*, дыял. *papar̃ciai* 'тж'.

ПАПА'РЫЦЬ *зак.* Апарыць. *Папарыла руку, ужо злезла.* Лука Нараўк.

ПАПАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Папілаваць доўгі час. *Я што папарэзаў дасок, я знаў, як накладаць, з якой сілай.* Азяраны Раг.

ПАПА'САВАЦЬ *зак.* Папасціць. *Папасавала скаціну.* Саланое Віл. *Нада папасаваць карову.* Валынцы В.-Дзв.

ПАПАСЕ'ЯЦЬ *зак.* Сеяць доўга, неаднаразова. *Столькі папасеяў траў.* Жодзішкі Смарг.

ПАПА'СІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п а́ с а в а ц ь. *Вывеў папасіць карову.* Гемзы Шальч.

ПАПАСПАМІНА'ЦІ *зак.* Успомніць неаднаразова. *Як ад нас аграномча паехала, папаспаміналі мы яе.* Гемзы Шальч.

ПАПА'СЦІ, ПАПА'СЦЬ *зак.* 1. Запарушыць. *Парушына папала ў вока.* Солы Смарг. 2. Напа́даць. *На казыркі ў санках зачаплялі сеткі такія, штобы пану не папала.* Судэрва Вільн. 3. Натрапіць. *Людзі куплялі жыта, мы ня папалі купіць.* Ракаўскія Швянч. 4. Даводзіцца. *Яны хадзілі ў школу, а мне не папала.* Гемзы Шальч. 5. Трапіць. *У вялікае нішчасця сын папаў.* Асавец Віл. *Папоў мой сын у бяду.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. *перан.* Дастацца. *І толькі за што той бабе папало?* Беразіно Докш. ◊ *Папасці хваробу* — захварэць. *Так папасці хваробу можна.* Ракаўскія Швянч.

ПАПА'СЦІСЯ *зак.* 1. Быць затрыманым. *Вы некалі пападзіцёся ў міліцыю.* Кудзялянцы Шальч. *Як ты папаўся?* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Трапіць на кручок. *Якая рыба пападзёцца.* Руднікі Шальч.

ПАПА'СЦІЦЬ *зак.* Папасвіць. *Папасі каня на ўзваллі.* Рыбчына Віл. *Яны папасцілі кароў.* Чычалі Швянч. *Папасціць нада курэй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паганю кароўку папасу.* Дзераўное Стаўб.

ПАПАСЯДЗЕ'ЦЬ, ПОПОСІДЗЕ'ЦЬ *зак.* Насядзецца. *Вайной папасядзелі ў бункеры.* Галубы Маст. *Папасядзела я над гэтай работай, як прала ды ткала.* Мсцібава Ваўк. *Вот попосідзелі мы з вамі.* Смаляніца Пруж.

ПАПАТРУДЗІ'ЦЦА *зак.* Напрацавацца. *Папатрудзіўся на свеце.* Гемзы Шальч.

ПАПАЎЗА' *м.* і *ж.* Тое ж, што і п а н а́ д а. *Папаўза — скаціна як якая, лезе ў шкоду.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАПА'ХА *ж.* Высокая футравая шапка. *Папахі насілі барашковыя.* Старыя Трокі Трак. *Мехавыя папахі ў старыну былі.* Навікі Лудз.

ПАПАХАВА'ЦЬ *зак.* Схаваць (усё, многае). *Папахавалі зярно ўсё.* Азяраны Раг.

ПАПАХАДЗІ'ЦЬ, ПАПАХАДЗІ'ЦІ *зак.* Пахадзіць доўга, неаднаразова. *Папахадзіў у лесе, ахвоту сагнаў ходзячы.* Азяраны Раг. *Папахадзіў па лесу, шукаў грыбоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Што я папахадзіла па картоплях, шукала, а яна здохла.* Кудзялянцы Шальч. *Папахадзі дзень няеўшы.* Вецярэвічы Пух. *Як папахадзілі, як папакурылі хлопцы, то мы мусілі яго выкінуці* [вазон]. Вялікі Краснік Пруж.

ПАПАХА'ЦЬ *зак.* Узараць (пра ўсё, многае). *Вывязеш на зіму гной, папашыш.* Старыя Трокі Трак.

ПАПАЦЕ'РЦІ *зак.* Пацерці ў вялікай колькасці. *Калісь я папатру льну, то шпіна балела.* Сапоцкіна Гродз. *Сколькі я папацерла лёну.* Мсцібава Ваўк.

ПАПАЦЁГАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і п а п а х а д з і ц ь. *Немец папаліў нашу дзярэўню, папацёгаліса мы з села ў село.* Вялікі Краснік Пруж.

ПАПАЦЁГАЦЬ *зак.* Нанасіць. *Папацёгаў дроў.* Навасёлкі Свісл.

ПАПАЦЯ'ГАВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п а ц ё г а ц ь. *Папацягавала лясёнак.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАПЕ'КАЦЬ *зак.* Апячы. *Папекала рукі.* Міратычы Карэл. *Папекаў пальцы.* Альхоўка Навагр.

ПАПЕ'ЛЕТЫ *дзеепрым.* Выпалаты. *Усе буракі папелетыя.* Паляцкішкі Воран.

ПАПЕ'ЛІШЧА *н.* Пажарышча. *Адны папелішчы асталіся, як прышлі дамоў.* Багушэвічы Бярэз.

ПАПЕЛЯ'ТЫ *прым.* Сіваваты. *Вароны папелятыя.* Сапоцкіна Гродз.

ПАПЕ'ЛЯЦ *м. рэліг.* Першы дзень посту. *Першы дзень посту называецца папеляц: бярэц ксёндз попял і чуць-чуць сыпля на галаву.* Солы Смарг.

ПАПЕ'Р, ПАПЯ'Р *м.* Папера. *Папер кончыўся, няма ў што закручваць.* Пацаўшчына Дзятл. *Калі адзін папер, кладу ў папяросу; а калі некалькі, то яно пруткая.* Цярэшкі Ваўк. *Папер бялейшы за снег.* Сакаляны Сакол. *Унучачка, прынясі мне папер, будзям пісаць пісьмо.* Стральцы Гродз. *Дзе тут папер ляжаў?* Гемзы Шальч. *Падымі папер!* Вялікія Баяры Шчуч. *Папяр куплялі.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *papier* 'тж'.

ПАПЕРАДЗЕ'НЬ *ж.* Вяроўка, прымацаваная спераду воза, якой уціскаюць сена, салому. *Папярадзень уперадзе воза.* Магуны Паст. *Папярадзень, каб ужымаць сена.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* п о п е р а д з е н ь.

ПАПЕ'РАДЗЬ *прысл.* Спачатку. *Папярадзь ніхто труны не дзелаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАПЕ'РАДУ, ПОПЕ'РАДУ *прысл.* 1. Наперадзе. *Ідзі ты паперады.* Рудня Чэрв., Палік Барыс. *Гароччык попераду хаты.* Лука Нараўк. 2. Спачатку. *Паперады прыслалі такую бумагу, пісьмо, ці прыміця мяне ў школу.* Вецярэвічы Пух. 3. Раней. *Мая матка паперады памёрла.* Вецярэвічы Пух.

ПАПЕ'РАЖ *прыназ.* Тое ж, што і п а п é р а д у 1. *Пайшоў паперадж яга.* Беразіно Докш.

ПАПЕРАЛЯТА'ЦЬ *зак.* Пераляцець (пра ўсіх, многіх). *Яны паперлятаюць у гарох.* Вецярэвічы Пух.

ПАПЕРАПУ'ЖАВАЦЬ *зак.* Напалохаць (усіх, многіх). *Паперапужаваў дзяцей.* Саланое Віл.

ПАПЕ'РВАСЦІ *прысл.* Спачатку. *Папервасці мне выпісалі гэта лікарства.* Валынцы В.-Дзв. *Папервасці еш сушаныя яблыкі, яны добрыя. Гаварылі старыя людзі такія словы: «Папервасці мне далі такога зеля».* Кураполле Паст.

ПАПЕ'РХАЦЬ *зак. экспр.* Пакашляць. *Паперхаю і перастану, і ты перхаеш.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАПЕ'РХНУЦЬ *зак.* Пасівераць. *Рукі паперхлі, вецяр пасёк.* Масілавічы Сл.

ПАПЕ'РЦІ *зак. безас. экспр.* Панесці. *Чаго яго паперла ў такі дошч?* Малахоўцы Бар.

ПАПЕ'РЦІСЯ *зак. экспр.* Пайсці, накіравацца. *Паперлася наперад.* Альхоўка Навагр. *Я паперлася ў Мінск.* Ракаўскія Швянч.

ПАПЕ'РЫЦЬ, ПАПІ'РЫЦЬ, ПАПЯ'РЫЦЬ *зак.* Папрыць бялізну. *Сяджу, а хто бяллё паперыць?* Мачаск Бярэз. *Паперыць палатно.* Семежава Кап. *Папірым бяллё пранікам.* Кіралі Шчуч. *Пранікам папірыла плаце, кужаль.* Га-

лубы Маст. *Нада добра папярыць палатно.* Солы Смарг. *Трэба адзежу папярыць.* Крэва Смарг. *Папярыла палатно.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПЕЯ'ЦЬ *зак.* Паспяваць. *Сабраліся, бала, і папеём.* Саланое Віл.

ПАПІКА'ЦЦА *зак.* Апекаваць каго-н. *Ты маім сынам папікайся.* Вецярэвічы Пух.

ПАПІКНУ'ЦЬ *зак.* Упікнуць. *Папікнуў мяне за грошы.* Ракаўскія Швянч.

ПАПІЛАВА'ЦЬ *зак.* Папілаваць. *Усе дровы папілавалі.* Ракаўскія Швянч.

ПАПІЛЬНАВА'ЦЬ, ПАПІЛЬНЯВА'ЦЬ *зак.* 1. Павартаваць. *Пасяджу і папільную хату.* Новікі Гродз. *Я хоць хаты папільную.* Кудзялянцы Шальч. 2. Пасачыць. *Трэбо папільняваць, куды яна* [курыца] *ходзіць.* Малахоўцы Бар. 3. Папасціць. *Заўтра нада ўстаць папільнаваць парасятаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАПІ'НЬКА *ж.* Сорт яблыкаў. *Папінька жоўтая, красная.* Кіралі Шчуч.

ПАПІРА'ШКА *ж.* Кій. *Дзед пайшоў, а папірашку заставіў.* Ухвала Круп.

ПАПІРГА'ЦЦА *зак.* Паштурхацца. *Дзеці папіргаюцца, паштурхаюцца.* Саланое Віл.

ПАПІРХНУ'ЦЦА *зак.* Спатыкнуцца. *Папірхнуўся конь з мяжы, і чалавек зваліўся, а конь падковай наступіў на нагу.* Гемзы Шальч.

ПАПІ'РЫЦЬ *гл.* ПАПЕ'РЫЦЬ

ПАПІ'ЦЬ *зак. перан.* Увабраць у сябе. *Робім кілбасы, ульем вады, і мяса пап'е ваду.* Крэва Смарг.

ПАПЛАВІ'НЫ *мн.* Багна. *Асцярожна нада хадзіць, ёсць вокны ў паплавінах і каля возераў па балотах.* Лайпушкі Ігн.

ПАПЛАВУ'ХА *ж. бат.* Мякотніца адналістая. Азяраны Раг.

ПАПЛАВУ'ШКА *ж. памянш.* да п а п л а в ý х а. *Паплавушку коні, каровы ядзяць, расце, дзе мелкая вада, як асочка, мякінькая, цялёнку дала б, каб дзе блізка была.* Азяраны Раг.

ПАПЛАВЫ' *мн.* Багністае месца каля рэк. *На паплавах косяць сена, выносяць яго ў кашалях на сухое места.* Кураполле Паст. *Не ідзі пат паплавы, утопішся!* Лісна В.-Дзв.

ПАПЛАТА'НЫ *дзеепрым.* Парэзаны. *Усё ліцо было ў Галі паплатана.* Крэва Смарг.

ПАПЛАТА'ЦЬ *зак.* 1. Падзерці. *Паплатаў сабака посцілку, хустку сцягнуў з плоту і паплатаў.* Жылі Іўеў. 2. Пачысціць. *Рыбу нада паплатаць.* Кураполле Паст. 3. Укруціць. *У посцілку паплатаў дзіця.* Граўжышкі Ашм.

ПАПЛАЎКЕ′, ПАПЛАЎКІ′ *мн.* Два звязаных пучкі з сіту, пры дапамозе якіх вучацца плаваць. *Рэжуць рачную цыбулю, звязваюць два пучке, тоўстых такіх, і называюць гэта паплаўке — дзеці вучацца плаваць.* Вецярэвічы Пух. *З сітніка паплаўкі робяць, лазой звяжуць і вучацца плаваць.* Стральцы Гродз.

ПАПЛАЎНІ′К *м. бат.* Тоўсты сітнік. *Паплаўнік у рацэ расце.* Бакшты Іўеў.

ПАПЛЕ′НТАЦЦА *зак.* Зблытацца (пра ніткі). *Папленталіся ніці.* Каўняны Гродз.; *параўн.* польск. *poplątać* 'зблытаць, спутаць'.

ПАПЛЕ′Т *м. буд.* Жэрдкі, пры дапамозе якіх салома прывязваецца да лат. *Паплеты клалі і дупцамі прыўвязвалі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПЛЕ′ЦІНА *ж.* Доўгая палка. Рудня Астравітая Чэрв.

ПАПЛЁТ *м.* 1. *зб. буд.* Тое ж, што і п а п л е́ т. *Паплёт для саломенай страхі.* Глівін Барыс. *На салому паплёт кладуць, як крыюць стрэхі.* Беразіно Докш., Мачаск Бярэз. *Паплёт прывязвалі лазой, як крышы крылі саломай.* Валынцы В.-Дзв. 2. Тое ж, што і п а п л е́ ц і н а. Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *Секлі паплёт.* Лісна В.-Дзв.

ПАПЛЁХАЦЦА *зак.* Паплюхацца. *Паплёхаюся ў халоднай вадзе і добра.* Саланое Віл.

ПАПЛІ′СКА *ж.* Палка. Альхоўцы Лях. *Каб узяць добру папліску, ды даць табе.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПА′ПЛІЦЬ *зак. экспр.* Марудна есці. *Што ты папліш? Назбірае за шчаку і папліе.* Мсцібава Ваўк.

ПАПЛЫВА′ЦЬ *зак.* Паплаваць. *Троха паплываў.* Жылі Іўеў.

ПАПЛЫТА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п л а́ т а ц ь 1. *Сабака хустку паплытаў.* Жылі Іўеў.

ПАПЛЫ′ЦЬ *зак.* 1. Паплысці. *Глубока было, мы паплылі.* Янова Рас. *Па астраву пахадзілі і паплылі назад.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Распаўсюдзіцца (пра пагалоску). *Па вёсцы паплыло, што будзя васэля.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАПЛІО′ТАНЫ *дзеепрым.* Паблытаны. *Паплютаны ніткі.* Магуны Паст.

ПАПЛЯ′МІЦЬ *зак.* Запляміць. *Папляміў касцюм.* Паляцкішкі Воран. *Петнамі папляміла плацё.* Малахоўцы Бар.

ПАПЛЯСКА′ЦЬ *зак.* Пастукаць па чым-н. *Мы гадзіну на пень палажылі, папляскалі, і гадзяняткі пасыпаліся.* Едлавічы Брасл.

ПАПЛЯТА′ЦЬ *зак.* Сплесці. *Канцы палатна папляталоць у пляцёнкі.* Грыкені Вільн.

ПАПО′ЙСАВАЦЬ, ПАПО′ЯСАВАЦЬ *зак.* Абмалаціць. *Ячмень нада папойсаваць.* Кураполле Паст. *Ячмень папояса-*

*валі: па зярну ходзіш і б'еш цапамі, адбівалі восі. Нада ячмень папоясаваць.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *paisýti* 'тж'.

ПАПО'КАЦЦА *зак.* Палопацца (пра скуру). *Папокалася шкура на ём ад жару.* Азяраны Раг.

ПАПО'ЛАВАЦЬ *зак.* Папалоць нейкі час. *Пайду папалаваю гадзінку якую.* Малі Астр.

ПА-ПО'ЛЬСКУ *прысл.* Па-польску. *Па-польску добра гаварыў.* Гальшаны Ашм.

ПАПО'НА *ж.* 1. Гунька. *Папонай накрывалі каня.* Гемзы Шальч. 2. Мул. *Папона пакрыла ўвесь лух, трава не праходзіць.* Глівін Барыс.

ПАПО'НЬКА, ПАПУ'НЬКА *ж. памянш.* да п а п о́ н а 1. *Папонькай каня накрываюць, яна ў дзве столкі, па рагох ушыта, с петлямі.* Гемзы Шальч. *Папунька для каня.* Рагулішкі Даўг.

ПАПО'ХЛЫ *прым.* Апухлы. *Рукі папохлыя.* Саланое Віл.

ПАПО'ЧАК *м. памянш.* Пасма. *Адзін папочак як уведзеш, так і не абрываеш.* Ракаўскія Швянч.

ПАПРАБАВА'ЦЬ *зак.* Паспрабаваць. *Папрабую яшчэ схадзіць.* Быстрыца Астр.

ПАПРАБІВА'ЦЬ *зак.* Прабіць у некалькіх месцах. *Ножам не папрабівай колы.* Крэва Смарг.

ПАПРА'ВІЦЬ *зак.* Адрамантаваць. *Адныя калёса паправілі.* Малахоўцы Бар. *Паправіць нада сані, воз, плух.* Ёдлавічы Брасл. *Нада паправіць калёсы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нада паправіць барану.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як сыночак паправіў акно, то як каты лазілі, то сабакі сталі лазіць.* Жылі Іўеў.

ПАПРАДАВА'ЦЬ *зак.* Прадаць (усё, многае). *Папрадавалі цыпляты.* Кураполле Паст. *Гэтыя пісклята папрадавала.* Саланое Віл.

ПАПРАДА'ЦЬ *зак.* Папрасці нейкі час. *Трохі папрадала — і рука баліць.* Магуны Паст. *Дзе мне папрадаць, каб гэты клок спрасці?* Кураполле Паст.

ПАПРА'ДУ'ХА, ПОПРАДУ'ХА *ж.* Папрадуха. *Якая з яе папрадýха, яна больш раскідае, як прадзе.* Кірал Шчуч. *Хадзілі папрáдухі.* Асавец Віл. *Як папрáдуха; адна прадзе ніроўна, а адна роўна.* Дакудава Лід. *Папрáдухі сабраліся на вячарушкі.* Ракаўскія Швянч. *Сабярэцца восем — дзесяць папрáдух на вячаркі.* Гемзы Шальч. *Папрáдухі пралі вечарамі.* Альхоўцы Лях. *Якая з цябе папрáдуха, адно гора.* Мачаск Бярэз. *Дайней як хадзілі папрáдухі, то мяшочкі шылі і надзівалі на паліц, каб не прыпрадаліся пальцы і скурка не злазіла.* Кураполле Паст. *Прыдзя папрáдуха і як станя расказваць, то толькі слухай.* Калядзічы Ваўк. *Папрáдухі лён пралі.* Ахрэмаўцы Брасл., Грыкені Вільн., Галейкі Швянч. *Як мая*

*чарада збіраць папрáдух, дык гарох жару.* Пярэкі В.-Дзв. *Попрадýха прадзе.* Калясное Міхал.

ПАПРА′ДУШКІ *мн. памянш.* да п а п р á д ý х а. *Пайду ў папрадушкі: ка мне чарада—боб жару, смаркачка гарыць—і прадзем.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАПРА′ЖЫЦЬ *зак.* Спражыць. *Трэба папражыць гарох на патэльні, памачыў і папражыў, ён тады смачнейшы.* Жылі Іўеў.

ПАПРАРО′СТАЦЬ *зак.* Папрарастаць. *Кажуць, гуркі папрарасталі і пазубіліся.* Азяраны Раг.

ПАПРАСТАВА′ЦЬ *зак.* Выпрастаць. *Матка ні папрастуя ногі.* Жылі Іўеў.

ПАПРА′ТАНЫ *дзеепрым.* Вымыты. *Стаканы папратаныя.* Альхоўцы Лях.

ПАПРА′ТАЦЬ *зак.* 1. Схаваць. *Іголкі папрачуць, каб не было нічога наверсе.* Кіралі Шчуч. 2. Прыбраць у хаце. *Папрач у хаце, замяці, памый, прыбяры.* Кіралі Шчуч. *Папрач у хаце, госці зараз прыедуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Папрачам у хаця.* Дакудава Лід. *Папратаць трэба ў хаце.* Малахоўцы Бар. *Ні было каму папратаць.* Жылі Іўеў. *Нада папратаць хату.* Старыя Трокі Трак. *Ты і ў хаце папратала ўжо.* Галубы Маст. 3. Упарадкаваць. *Папратаць сама не магу, памагаюць краўнякі.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *sprzątnąć* 'прыбраць'.

ПАПРА′ЎДЗІ *прысл.* На самай справе. *Гэта было папраўдзі.* Старое Сяло Зэльв.

ПАПРА′ЎКА, ПО′ПРАЎКА *ж.* Папраўка. *Папраўкі ня будзіць яму.* Ахрэмаўцы Брасл. *Німа попраўкі мальчыку.* Бакшты Іўеў. *Ні будзя попраўкі яму.* Азяраны Раг.

ПАПРАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Рабіць заўвагі. *Яго ні папраўлялі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАПРА′ЦЬ *зак.* Паперыць. *Аснову нада адмаіаць, папраць, пасўшыць і пацягнуць.* Магуны Паст.

ПАПРАШМУ′ЛЬВАЦЬ *зак. экспр.* Працерці. *Папрашмульваў паўзуны.* Навасёлкі Свісл.

ПАПРО′ДАВАЦЬ *зак.* Папрадаваць. *Папродавалі ўсё.* Паляцкішкі Воран.

ПАПРО′ДАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п р ó д а в а ц ь. *Папродалі коні.* Альхоўцы Лях. *Ён парасята папродаў.* Парэчча Гродз.

ПА-ПРО′СТАМУ *прысл.* Гаварыць на мясцовай гаворцы. *Гавора па-простаму.* Граўжышкі Ашм., Парэчча Гродз. *Папростаму завуць яе Марыля.* Дакудава Лід. *У нас па-простаму — бракуя: ёй бракавала гадоў.* Стральцы Гродз. *Я гавару па-простаму, а ты круціш язык.* Малі Астр.

ПАПРО′СТУ *прысл.* Тое ж, што і п а - п р ó с т а м у. *Папросту — хата, а так — дом.* Кемялішкі Астр. *Ён папросту*

*гаварыў.* Гальшаны Ашм. *Ён папросту не гавора.* Гемзы Шальч. *Ты гаворыш папросту.* Руднікі Шальч.

ПАПРУ'ГА *ж.* 1. Рэмень, пасак. *Папругаю паверху патпяражыся.* Малахоўцы Бар. *Папругай патпяразацца.* Пасека Ст.-Дар. 2. Папруга. *Папруга апаясавала каня і закрапляла падсядзёлак.* Гемзы Шальч.

ПАПРУ'ДЗІЦЦА *зак.* Паздыхаць. ▽ *Хай гэтыя гусі папрудзяцца, енчаць і енчаць, ці іх кармі ці не кармі.* Кіралі Шчуч.

ПАПРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Прапарыць. *Папрудзіла сарочку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дай пары, трэба папрудзіць адзення, кашулі.* Старыя Смільгіні Воран. *Адзёжу трэба папрудзіць, у лазне вешаюць на жэрдачкі, каб вашэй не было.* Гемзы Шальч.

ПАПРЫВО'ЖВАЦЬ *зак.* Панавозіць. *Папрывожвалі шыферу.* Парэчча Гродз.

ПАПРЫКО'РЧЫВАЦЬ *зак.* Скурчыць. *Папрыкорчывало пальцы, так і засталася. Папрыкорчывала мне рамацізма пальцы, і гэтымі кукарэкамі трэба рабіць.* Саланое Віл.

ПАПРЫПЛЁСКАВАЦЦА *зак.* Палегчы (пра лісце агуркоў). *Папрыплёскаваліся гурке і сядзяць.* Вецярэвічы Пух.

ПАПРЫХО'ЎВАЦЬ *зак.* Схаваць (пра ўсіх, многіх). *Папрыхоўвалі кароў па лясох.* Галубы Маст.

ПАПРЫ'Ч, ПАПРЫ'Ш *прысл.* Асобна. *Мушчын папрыч, а бабаў папрыч паставілі.* Галубы Маст. *Ляжаць папрыш парасятка ат свіньі.* Азяраны Раг. *Папрыш качалкі ляжаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПРЫ'ШЧЫЦЦА *зак.* Пакрыцца прышчамі. Пасека Ст.-Дар. *Папрышчылосё дзіцё, прышчайкі на твары высыпалі.* Альхоўцы Лях. *Як прышчы селі, то твар папрышчайся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Усё цела папрышчалася.* Беразіно Докш.

ПАПРЫЮ'ЧВАЦЬ *зак.* Прыюціць (усіх, многіх). *Папрыючвалі дзяцей.* Малахоўцы Бар.

ПАПРЫЯЗДЖА'ЦЬ *зак.* Прыехаць (пра ўсіх, многіх). *Былі абадва зяці папрыязджалі.* Гемзы Шальч.

ПАПРЭ'НЬКАМУ *прысл.* Спрытна. *Усё робіць папрэнькаму.* Галубы Маст.

ПАПРЭ'ЦЬ *зак.* Сапрэць. *Папрэло дзіця.* Галубы Маст. *Пат пахаю папрэло, скура прагніла, і сказалі купаць у лісце ў бярозавым.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПСАВА'ЦЦА *зак.* 1. Сапсавацца. *Папсуліся дрожджы.* Кемялішкі Астр. *Лён мачылі так, кап вада не патхадзіла свежая, бо папсуецца лён.* Курапалле Паст. 2. Стаць горшым. *Мо і папсуецца, а цяпер вучыцца добра.* Плябанцы Ашм.

ПАПСАВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Моду папсула, не так пакроіла.* Малі Астр.

ПАПСУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і папсава́цца 2. *Некаторыя людзі папсуліся.* Кудзялянцы Шальч.

ПАПУ'ГА *гл.* ПАПУ'ЖА

ПАПУ'ДА *ж.* Падгон. *Папуду давалі валу, пад хвост калолі.* Азяраны Раг.

ПАПУ'ДЗІЛО *н.* Пудзіла. *Вот напяла на сябе, бы папудзіло.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАПУ'ДРЫЦЬ *зак.* Узбіць (пра падушку). *Трэба падушкі папудрыць.* Саланое Віл.

ПАПУ'ЖА, ПАПУ'ГА, ПАПУ'ХА, ПАПУ'ША *ж.* 1. Скрутак якога-н. лісця. *Папужу тытуню скруцій.* Рудніні Шальч. *Нізай лісты на шнурочкі, а потым скручвай у папугі, прасавай.* Солы Смарг. *Папуха лісця.* Рыбчына Віл. *Папуша — то скручана лісця.* Рыбчына Віл. 2. Пачак (паперы). *Папуша бумагі.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *papūžà* 'тж'.

ПАПУ'КАЦЦА *зак.* Палопацца. *На дрэвах папукалася пуччо.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАПУ'КАЦЬ *зак.* Пастукаць. *Як прыдзе, папукае ў дзверы.* Масілавічы Сл. *Папукаю ў дзверы, мо хто дома.* Старое Сяло Зэльв.; *парайн.* польск. *pukać* 'стукаць'.

ПАПУ'НЬКА *гл.* ПАПО'НЬКА

ПАПУ'РГАЦЦА *зак.* Натапырыцца (пра курыцу). *Папургалася курыца, ходзіць як пава, хвост папусціўшы.* Едлавічы Брасл.

ПАПУ'РСКАЦЬ *зак.* Папырскаць. *Папурскай падлогу, кап ні было пылу.* Солы Смарг.

ПАПУСКА'ЦЬ *незак.* 1. Кідаць. *Хлопец папускае, чым папало.* Альхоўцы Лях. *Папускае трэскамі на мяне.* Дзяніскавічы Ганц. *Не папускай, пападзеш у голаў.* Малахоўцы Бар. 2. Пускаць карэнні, парасткі. *Карані папускае жывасіл.* Вецярэвічы Пух. *Валяр'янка папускае махрачэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бяроза папусціла косы, то бапска бяроза.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАПУ'СКЛІВА *прысл.* Слаба скручана. *Папускліва звій вяроўку.* Паляцкішкі Воран.

ПАПУ'СКЛІВЫ *прым.* 1. Пакаты. *Папусклівы берах.* Альхоўцы Лях. 2. Слабкі. *Папусклівыя ніткі.* Магуны Паст.

ПАПУСЦІ'ЦЦА *зак.* Апусціцца. *Як я папушчуся, як буду маме і папе ў вочы глядзець.* Кураполле Паст.

ПАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Выпусціць. *Кашулю папусціць паверху, поясам с кутасамі патпяражацца і ходзіць.* Магуны Паст.

ПАПУ'ТНІК *м.* Спадарожнік. Малахоўцы Бар. *Папутнік мой прытаміўся.* Беразіно Докш. *Папутнік нашоўся.* Рудня Астравітая Чэрв. *Папутнікі будзям с табой.* Быстрыца Астр.; *парайн.* руск. *попутчик* 'тж'.

ПАПУ'ХА *гл.* ПАПУ'ЖА

ПАПУ'ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Папухлі рукі, ногі.* Паляцкішкі Воран., Жылі Іўеў.

ПАПУ'ЦІ *мн. устар.* Тапкі з нітак, саломы і інш. Старое Сяло Зэльв. *З нітак кручком вязаныя папуці.* Жодзішкі Смарг. *Папуці с саломы, з нітак папуці, маленькія як былі, то насілі іх.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *papuć*, дыял. *papeć, kapeć* 'тапачкі з сукна', літ. *papùčiai, papùtės* 'тапачкі з палатна'.

ПАПУ'ЧЧЫК *м.* Тое ж, што і папу́тнік *Папуччык ідзе з папуччыкам. Папутны чалавек, бо ідзе пуцёй.* Баброўнікі Гарад.

ПАПУ'Ш *м.* Тое ж, што і папу́жа 1. *Лісця пат хлеп клалі, вязалі ў вясла, або папушу. Лісця ў папушы павяжуць.* Рыбчына Віл.

ПАПУ'ША *гл.* ПАПУ'ЖА

ПАПУ'ШКА I *ж.* Прышчык. *Папушкі былі на тварэ, як балваны.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pupuškà* 'тж'.

ПАПУ'ШКА II *ж. памянш.* да папу́жа 1. *У папушкі круцілі тытун.* Жылі Іўеў. *Табаку ў папушкі ўвязалі.* Быстрыца Астр. *Папушка з лістоў тытуна, лістоў дваццаць.* Солы Смарг. *Папушкі тытуну навязалі.* Кудзялянцы Шальч.

ПАПУ'ШКА III *ж.* Клін у штанах. *Папушка ў штанах.* Парэчча Гродз.

ПАПУШЫ'ЦЬ *зак.* Правеяць. *Папушыла жыта, з гарчыка сыпім на вецір.* Мярэцкія Глыб.

ПАПЫ' *мн, буд.* Апорныя слупы. *На папах далжнік ляжыць, слупы такіх тры-чатыры, далжнік на шулы.* Лайпушкі Ігн.

ПАПЫЛІ'ЦЬ *зак.* Папырскаць. *Дош толькі папыліў.* Паляцкішкі Воран.

ПАПЫРХНУ'ЦЦА *зак.* Папярхнуцца. *Папырхнулась картофляй.* Мсцібава Ваўк.

ПАПЫТА'ЦЦА *зак.* Спытацца. Рудня Астравітая Чэрв. *Хачу папытацца ў вас.* Кемялішкі Астр. *Трэ папытацца ў суседаў.* Міратычы Карэл. *С касою пайду ў магазін, папытаюся, ці будзе хлеп.* Альхоўка Навагр. *Ідзі ў мамы папытайся, што купіць.* Саланое Віл.

ПАПЫТА'ЦЬ *зак.* 1. Спытаць. *Папытаў бы каго-небудзь, дзе яна жыве.* Мачаск Бярэз. *Купі мукі, як папытаў, то і купляй.* Міратычы Карэл. 2. Пазычыць. *Папытаў бы хлеба.* Старое Сяло Зэльв. *Пайду папытаю масла.* Міратычы Карэл. 3. Папрасіць дазволу. *Нікога не папытала і паехала.* Дакудава Лід.

ПАПЫ'ШКАЦЦА *зак. экспр.* Папоркацца. *Ён папышкаецца і пайдзёць, нічаго не здзелаець па-людзку.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pýškintis* 'хлопацца, біцца'.

ПАПЫ'ШКАЦЬ *зак. экспр.* Папоркаць. *Свіня папышкала ўсё* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pýškinti* 'біць, хлопаць'.

ПАПЭ'НДЗАЦЬ *зак.* Паганяць. *Яна папэндзала перад сабою, і кухталёў надавала ў плечы.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *popędzać* 'падганяць, панукваць'.

ПАПЭ'НКАЦЬ *зак.* 1. Патрэскацца. *Папэнкалі ногі, яны патрэскаліся.* Быстрыца Астр. *Папэнкаяць ногі — натта смыліць, як мыдлам пачнеш іх мыць, ноч не заснеш тады.* Малі Астр. *Летам ногі, асобенна падошвы, папэнкаюць.* Лука Нараўк. *Папэнкалі ногі.* Гемзы Шальч. *На назе струпы былі вялікія, папэнкалі струпы.* Груздава Паст. 2. Пашчапацца. *Дзве ўжо папэнкалі начовачкі.* Старыя Трокі Трак. *Бачкі ў пладах папэнкаюць.* Солы Смарг. 3. Даць трэшчыну. *Лопаўкі на касе папэнкалі пры няўмелым кляпанні.* Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* польск. *pękać* 'тж'.

ПАПЯЛЬНІ'К *м.* 1. Паддувала. *Брыкет падае праз граткі ў папяльнік і дыміць.* Мсцібава Ваўк. 2. Кавалак тоўстай тканіны для працэджвання лугу. *Папяльнік — проста кусок палатна, клалі на дзешку, абвязвалі вяроўкай, сыпалі попял і лілі кіпяток.* Груздава Паст. *Папяльнік засцелям, насыплем попелу і льём ваду гарачу.* Альхоўка Навагр. *Трэба шукаць, дзе папяльнік, працадзіць луг.* Ністанішкі Смарг. 3. Рэшткі мокрага попелу. *Папяльнік — астатак мокрага попелу. Вынясь папяльнік.* Рыбчына Віл.

ПАПЯ'Р *гл.* ПАПЕ'Р

ПАПЯРАДЗЕ'ЛАВАЦЬ *незак.* Перарабляць некалькі разоў. *Некалькі раз папярадзелавалі печку.* Саланое Віл.

ПАПЯРО'ВЫ *прым.* Паркалёвы. *Калісьці насілі папяровыя хустачкі.* Старыя Трокі Трак.

ПАПЯРО'К, ПОПЭРЭ'К *прысл.* у знач. *прыназ.* Упоперак. *Лёг папярок краваці.* Кухты Віл. *Плахту можна положыті на луошку в подовш або попэрэк.* Курашэва Чыж.

ПАПЯРО'ЧКА, ПАПЯРЭ'ЧКА, ПУПЯРЭ'ЧКА *ж.* 1. Папярочны загон. *Дзе з плугам паварочваюцца, гето папярочка, і градусы папярочак.* Дзяніскавічы Ганц. *Баразён шэсць па папярочцы было.* Кіралі Шчуч. *Папярочкі картофляй засадзілі.* Пацаўшчына Дзятл. *Кончылі садзіць картошку, а папярочкі яшчэ не пасадзілі.* Лапічы Асіп. *На папярочках і бульба не ўзышла, бо вымакла ад дажджу.* Глівін Барыс. *Пупярэчкі дзелалі, картошку сеялі.* Пасіене Лудз. 2. Папярочная перакладзіна ў ткацкім станку. *Наверсе ў варстаці папярочкі, а ўперадзе варстаць змацавана, такія папярочкі там.* Дзераўное Стаўб. *Папярэчка ў кроснах ёсць наверху, каб палаценца раўней ішло.* Старыя Трокі Трак.

ПАПЯРУ'ВКА *ж.* Сорт яблыкаў. *Папярувак многа сёлета.* Паляцкішкі Воран.

ПАПЯ'РЫЦЬ *гл.* ПАПЕ'РЫЦЬ

ПАПЯРЭ′ЧНІКІ *мн.* Тое ж, што і п а п я р ó ч к а 1. *Есць яшчэ і папярэчнікі.* Едлавічы Брасл. *Папярэчнікі бульбай засаджаныя.* Лука Нараўк.

ПАПЯРЭ′ЧНЯК *м.* Тое ж, што і п а п я р ó ч к а 1. *На папярэчнякові пасадзілі картохлі ў радкі.* Баброўнікі Гарад.

ПА′РА I *ж.* 1. Двое (коней). *Пара коней была.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пара конікаў.* Швэды Вільн. 2. Злучаныя ў пару дзве верхнія адзежыны. *Армяк надзівалі на кажух і називалі пара.* Валынцы В.-Дзв. 3. Два аднародныя прадметы. *Хадзі дам табе пару яец.* Баброўнікі Гарад. *Пара хатаў стаяла.* Старыя Трокі Трак.

ПА′РА II *ж.* Пара. *Трэба вадэ ўліць на каменя, і пара пойдзе.* Кіралі Шчуч. *Як доўга пара ідзе з хлеба, хлеб недапечаны.* Дакудава Лід.

ПАРА′, ПОРА′ *ж.* 1. Час. *Заўтра гэтай парой будзяця мець грошы.* Паляцкішкі Воран. *Гэтай парой прыехала дахаты.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлеп ужо пара вымаць.* Ністанішкі Смарг. *У такую пару я радзілася.* Талейкі Швянч. *Гэтай самай парой пачалася свярбець рана на назе.* Граўжышкі Ашм. *Невядома, якой парой тыя прыедуць у панядзелак.* Солы Смарг. *Я пойду, пора даваці свіням, сем часоў.* Смаляніца Пруж. *У пору не накарміла.* Навасёлкі Свісл. 2. Сезонны перыяд. *Самая пара цяпер рыбу лавіць.* Ухвала Круп. *Зімняя пара.* Крынкі Крын. *Самая пара касіць, жаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У зімнюю пару лён трапаць.* Навікі Лудз. 3. Пэўны час, перыяд. *Такой парой памёрла, свет не здрыганецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гэтай парой ён памёр.* Гемзы Шальч. *Скрыпіш да каторай парэ, а калі ўміраюць, хто яго ведае.* Саланое Віл.

ПА′РАБАК, ПАРАБО′К, ПАРО′БАК *м. устар.* Наёмны сельскагаспадарчы рабочы. *Парабак у пана.* Вялікія Баяры Шчуч., Галубы Маст. *Парабак як ахходзіў на каляды, то давалі булку хлеба, кумпяка трохі — гэта бонда.* Плябанцы Ашм. *Парабкі аралі, усё рабілі.* Магуны Паст. *Калісьці ў багатых парабкі былі.* Кудзялянцы Шальч. *Парабкоў даўно няма.* Гайна Лаг. *Ты будзіш парабком.* Малі Астр. *Паробак служыць у пана.* Груздава Паст. *Матка нас ў паробкі аддала.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пан сабаку жалеў лепей, як паробка.* Ракаўскія Швянч.

ПАРАБІРА′ЦЦА *зак.* Перабірацца. *Парабіраліся ў горат.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАРАБІРА′ЦЬ *зак.* Чысціць. *Кішкі парабіраем і с крупою пячэм.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАРАБЛЯ′НЫ *дзеепрым.* Пароблены. *Белыя зубы парабляныя.* Старыя Трокі Трак.

ПАРАБЛЯ′ЦЬ *зак.* 1. Папрацаваць. *Трохі парабляем, а потым аддыхаям.* Жодзішкі Смарг. *Я як параблю, тады ў*

*мяне коліць, баліць.* Асавец Віл. *Кап тую работу парабляць, да якой навык маеш.* Саланое Віл. *Я дзе параблю — славы зазнаю.* Кураполле Паст. *На гэтай зямлі сколькі я параблял*а. Лоск Валож. 2. Рабіць. *Што там Марына парабляяць?* Магуны Паст.

ПАРАБЧУ'К *м.* Тое ж, што і п а́ р а б а к. *Парабчук паша і арэ.* Плябанцы Ашм.

ПАРАВІ'УКІ *мн.* Вітка. *На паравіўкі жэрдкі кладуць.* Галубы Маст.

ПАРАВЯ'СЛА *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПАРАГАРА'ДЖВАЦЬ *зак.* Перагароджваць. *Пляцянікам рэку парагараджвалі, лазою, галём.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАРАГАТА'ЦЬ *зак. экспр.* Пасмяяцца. *Парагатала і пашла.* Граўжышкі Ашм.

ПАРАГО'Н *гл.* ПЕРАГО'Н

ПАРА'ДА I *ж.* Парада. *Стары з пуця не звядзець, а параду дась.* Кураполле Паст.

ПАРА'ДА II *ж.* Павага, пашана. *С парадай, харашо прывязлі яго і пахавалі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *paradà* 'ўрачыстасць'.

ПАРА'ДАК *м.* Парадак, лад. *Якія парадкі ў нашай маткі?!* Солы Смарг.

ПАРАДАЎНЯ' *ж.* Беспарадак. *Парадаўня — усё, што панастаўляла, панакідала.* Нізок Уздз.

ПАРА'ДАЧНЫ, ПАРА'ДАШНЫ *прым.* Даволі вялікі. *Парадачны хлапчук.* Каменка Стара Сакол. *Парадашная была дзевачка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пірапёлачкі парадашныя, шэранькія.* Пярэкі В.-Дзв. *Баня парадашная была, хлявок паставілі з бані.* Валынцы В.-Дзв.

ПАРА'ДАШНА *прысл.* Даволі многа. *Парадашнаската ёсь.* Лісна В.-Дзв.

ПАРАДЗІ'ХА, ПАРАДУ'ХА *ж.* Парадзіха. *Парадзіху прывезлі і маленькая дзіця.* Рудня Астравітая Чэрв. *Парадзіха — калі дзіця нарадзіла.* Малахоўцы Бар. *Над парадзіхаю дванаццаць дзён яма зеўрая.* Вецярэвічы Пух. *Парадуха — як дзіця прывяла.* Лука Нараўк. *У цэркву прывозяць парадуху з дзіцём чэрас шэсць нядзель, да ў воду.* Стральцы Гродз.

ПАРА'ДЗІЦЦА *зак.* Параіцца. *Яна не парадзіцца з ім.* Саланое Віл. *Пайду ў Шалтэны да Міхала парадзіцца, што рабіць, як хлеў ставіць.* Едлавічы Брасл. *Я пашла парадзілася з мамай, як зрабіць.* Кудзялянцы Шальч. *Трэба парадзіцца, што зрабіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Парадзімся, што рабіць.* Талейкі Швянч. *Парадзіліся паны.* Грыкені Вільн. *Мы з ім парадзімся.* Руднікі Шальч.

ПАРА'ДЗІЦЬ *зак.* Параіць. *Я вам нічога не параджу.* Парэчча Гродз. *Я табе параджу добрае зелля.* Граўжышкі Ашм. *Як ты парадзіш мне, ці можна мне на гэтым кавалку*

*сеяць пшаніцу ці садзіць бульбу.* Гемзы Шальч. *Яна што і парадзіць Галі.* Крэва Смарг. *Не магу табе парадзіць, як выходзіць, так і рабі.* Старыя Смільгіні Воран. *Парадзі нам.* Талейкі Швянч. *Парадзілі ей паехаць да сына.* Лісна В.-Дзв. *Матка не патрафіла парадзіць.* Руднікі Шальч.

ПАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Парадзіла дзеўчыну.* Альхоўка Навагр.

ПАРА'ДКАВАЦЬ *незак.* Размяркоўваць. *Палучку парадкуюць.* Магуны Паст.

ПАРА'ДНЯЯ *прым.* Які можа параіць. *Парадняя бапка.* Граўжышкі Ашм.

ПАРАДУ'ХА *гл.* ПАРАДЗІ'ХА

ПАРАЖАНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і п а р а д з і х а. *Паражаніца ляжыць, дзіця нарадзіла.* Кіралі Шчуч. *Іду да паражаніцы ў адведкі.* Баброўнікі Гарад.

ПАРАЖА'ЦЬ *зак.* Жаць працяглы час. *Цэла лета паражну, і ні баліць спіна.* Дакудава Лід.

ПАРАЖО'К *м.* Педаль у калаўроце. *Паражок у калаўроце, нагой наступалі.* Гемзы Шальч.

ПАРАЖЭ'ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і п а р а д з і х а. Дзяніскавічы Ганц.

ПАРАЗБІРА'НЫ *дзеепрым.* Разабраны (пра ўсё, многае). *Хаты былі паразбіраныя.* Быстрыца Астр.

ПАРАЗБУДО'ЎВАЦЦА *зак.* Разбудавацца. Малахоўцы Бар.

ПАРАЗВАРО'ЧЫВАЦЬ *зак.* Паразварочваць. *Дзікі капцы зімою паразварочываюць.* Саланое Віл.

ПА'РАЗГІ *мн.* Розгі. *Паразгамі грады пайтыканы, каб куры не капалі.* Парэчча Гродз. *Прынёс паразгаў.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pãraizgas* 'розга'.

ПАРАЗУВА'ЦЬ *зак.* Разуць (усіх, многіх). *Была зіма, немцы нас паразувалі, пасцёгвалі ўсё.* Малахоўцы Бар.

ПАРАЗЯЎЛЯ'ЦЬ *зак. перан.* Парасчыняць. *Паразяўлялі ўсе дзверы насцяж.* Малі Астр.

ПАРА'ІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а р а́ д з і ц ь. *Парай, што рабіць.* Дакудава Лід.

ПАРАЛЮ'Ш *м. мед.* Параліч. ∇ *Кап цябе паралюш узёў!* Вецярэвічы Пух.

ПА'РАНІНА *ж.* Папар. *Параніна цяпер там, пустое поле.* Ухвала Круп. *Паралі параніну.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПА'РАНІЦА *ж.* 1. Параная бульба ў лушпінах. *Трэба патаўчы параніцу свіням.* Жылі Іўеў. 2. Пар ад зямлі пасля дажджу. *Дош перастаў, параніца пашла.* Рыбчына Віл.

ПАРА'НІЦЬ *зак.* 1. Параніць. *Пуля мяне параніла.* Малі Астр. 2. *перан.* Неданасіць. *Многа дзяцей паранілі бабы, як стражнікі секлі людзей.* Саланое Віл.

ПА'РАНКА, ПА'РЫНКА *ж.* 1. Дробная бульба. *Дробная*

*паранка свіням.* Ністанішкі Смарг., Галубы Маст. *Паранка ідзе свінням, самая дробнянькая бульба.* Магуны Паст. *Парынка — асобна складаем для скаціны.* Быстрыца Астр. 2. Завараная кіпнем мякіна, сечка. *У цаброх каровам паранку парым.* Пасека Ст.-Дар.

ПАРАНКО́ВАЯ ЗАРА́НАЧКА *ж. памянш.* Заранка. *Паранковая заранаачка святлейшая за другія.* Рагулішкі Даўг.

ПАРА́НЬША *прысл.* Раней. *Назаўтра ўжо чалавек устаў параньша, каб прадаваць бычанка.* Слабада Смал.; *параўн.* руск. *пораньше* 'тж'.

ПАРАПЭ́ТА *ж.* Падаконнік. *У нас парапэта звуць.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *parapet* 'тж'.

ПАРАСЁ *н.* Парася. *Парасё купіла, так і жывём.* Саланое Віл. *Трэба якога парасё купіць.* Солы Смарг.

ПАРАСЁНАК *м.* Тое ж, што і п а р а с ё. *Парасёнак ужо падрос. Парасяты дужа дарагія.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яна прыехала за парасятамы: двух парасёнкаў купіла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паехала парасёнка продаць. Столькі работы, сваё парасёнка закідаяш.* Дакудава Лід.

ПАРАСЁТКА, ПАРАСЯ́ТКА, ПОРОСЯ́ТКА *н. памянш.* да п а р а с ё. *Малое парасётка ёсь і двоя большых.* Асавец Віл. *Двое парасяткаў задушыла.* Тухавічы Лях. *Закололе маленького поросятка, шчо дыд дав.* Дзмітравічы Кам.

ПА́РАСКА *ж.* Парастак. *Выпусціла дзерава параску.* Мсцібава Ваўк.

ПАРАСКВА́РЫЦЬ *зак.* Пераскварыць. *Параскварыла старое сала.* Дакудава Лід.

ПАРАСКІДА́ЦЬ *зак.* Раскідаць (усё, многае). *Яна падушкі параскідаяць.* Лоск Валож.

ПАРАСКО́ЎЗАЦЬ *зак.* Раскоўзаць (усё, многае). *Параскоўзваюць дарогу, ні можна ісці.* Малахоўцы Бар.

ПА́РАСЛЯ *зб. ж.* Малады хваёвы лес. *Я грыбоў назбірала на парaслі.* Кузьмічы Люб. *На дзялянках парасля пашла.* Пасека Ст.-Дар.

ПА́РАСНІК *м.* Маладый лес (звычайна хваёвы). *Параснік густы вырас.* Ухвала Круп. *Параснік найболей яловы і хваёвы.* Азяраны Раг. *Маладыы параснік пашоў.* Багушэвічы Бярэз. *Параснік маладыы, а дзе густа, дык зарасля.* Мярэцкія Глыб. *Параснік густой зарос.* Рагулішкі Даўг.

ПАРАСО́Н *м.* Парасон. *Добра, што занесла яму парасон, а то змок бы ўвесь чыста.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *parasol, parasolka* 'тж'.

ПАРАСПІ́РВАЦЬ *зак. экспр.* Уздуць. *Каб вас параспірвала!* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *spìrti* 'душыць'.

ПАРАСПУЖО́ЎВАЦЬ *зак.* Распужаць (усіх, многіх). *Параспужоўвалі ваўкоў, пашлі па свету.* Мсцібава Ваўк.

ПАРАСПУСКА'ЦЦА *зак.* Распусціцца (пра ўсё, многае). *Бярэзнік параспускоўся.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАРАСТРАСА'ЦЬ *зак.* Растрэсці (усё, многае). *Усё парастрасаў, не знайсці нічога.* Маствілішкі Ашм.

ПАРАСТРЭ'САВАНЫ *дзеепрым.* Парастрасаны. *Парастрэсавана салома па дарозі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАРАСЦІ' *зак.* 1. Вырасці. *Параслі хвойкі на пяску.* Мачаск Бярэз. 2. Зарасці. *Страха старыя, мохам парасла.* Солы Смарг.

ПАРАСЦІ'ЦЬ, ПАРО'СЦІЦЬ *зак.* 1. Вырасціць. *Парасціла дзеткі, а жыве адна.* Вецярэвічы Пух. *Паросціла дзяцей.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Прарасціць насенне. *Трэба жыта парасціць.* Жылі Іўеў. *Парасціць нада буракі.* Ёдлавічы Брасл.

ПАРАСХО'ДЗІЦЦА *зак.* Рассяліцца. *Парасходзіліся па хутары.* Паляцкішкі Воран.

ПАРАСЮ'К *гл.* ПАРСЮ'К

ПАРАСЮЧО'К *гл.* ПАРСЮЧО'К

ПАРАСЯ'ТКА *гл.* ПАРАСЁТКА

ПАРА'ХВА *ж. царк.* Парафія. *Парахва моя валіка.* Хатынічы Ганц.

ПАРАХНЯ' *ж.* Гніляк. Азяраны Раг. *Парахні старай сабярэць і ў дымакур паложыць і дыміць пчол.* Лісна В.-Дзв. *Парахні запаліць, дым смаліць с парахні.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАРАХНЯ'ВЫ *прым.* Трухлявы. *Пень парахнявы, яго крані — мурашачкі будуць бегці.* Азяраны Раг.

ПАРАШО'РХАЦЦА *зак. экспр.* Разбрысціся. *Усе дзеці парашорхаліся: мальца немцы забілі, ад другога ніякай атэзвы німа, нівядома, дзе ён дзеўся.* Мярэцкія Глыб.

ПАРАШЧАНЯ'ЦЬ *зак.* Парасчынянць. *Парашчанялі дзверы ў хаці.* Мярэцкія Глыб.

ПАРАШЫ'НА, ПАРУШЫ'НА' *ж.* Парушынка. *Запарошыў вока, глядзі якая тут парашына.* Саланое Віл. *Парашына ўвалілася ў вока.* Рыбчына Віл. *Нека парушына папала ў цукар.* Дзяніскавічы Ганц. *Парушына ў вока папала.* Беразіно Докш. *Зацярушыў вока, парушына папала.* Малахоўцы Бар. *Зацярушыў вока, парушына нейка папала.* Солы Смарг.

ПАРАШЫ'ЦЬ *зак.* Выраныць. *Ты парашыў сегодня атkладаць.* Гемзы Шальч.

ПАРВА'НЫ *дзеепрым.* Натруджаны. *Кап рукі не парваныя былі, яна п работала.* Рагулішкі Даўг.

ПАРВА'ЦЦА *зак.* Парвацца. *Нітка парвалася.* Ванелевічы Кап.

ПАРВА'ЦЬ, ПОРВА'ЦЬ *зак.* 1. Вырваць. *Парвімо лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Лён парвалі, павізалі і абівалі, высушыўшы.* Новыя Мацалі Варэн. *Я ўжо цыбулю парвала.* Кураполле Паст. *Ты мне цыбулю парвай.* Груздава Паст.

2. Разарваць. *Двух мальцаў на мінах парвала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Адзін рас пашоў чалавек у стох саломы, а дзікія свіні там спалі, і парвалі чалавека.* Рагулішкі Даўг. *Воўк карову парваў, усё чэрава вырваў.* Вецярэвічы Пух. *Колькі коні парвалі ваўкі.* Саланое Віл. *Тэбэ собака порвэ.* Смаляніца Пруж. 3. Разбурыць. *Як дож ідзе, то парве плыт, бывае.* Грыкені Вільн. 4. Парваць. ▽ *Бацькі парвуць карманы дзіцям няся, а дзеці, хаваючы ад бацькоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАРГА'Н *гл.* ПАРКА'Н

ПАРКАЛЁВЫ *прым.* Паркалёвы. *У кашулі наплечнікі нашывалі, манкеты паркалёвыя.* Старыя Трокі Трак. *Сарочкі шылі, абшэўку накладалі паркалёву.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* польск. *perkalowy* 'тж'.

ПАРКА'ЛЬ, ПЭРКА'ЛЬ, ПЯРКА'ЛЬ *м. тэкст.* Паркаль. *Паркаль куплялі на абшэўку.* Малахоўцы Бар. *З пэркалю тэж шылі станікі. Пэркаль куплялі, бархат, тыгер.* Старыя Трокі Трак. *Пяркаль куплялі на сукня.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *perkal* 'тж'.

ПАРКА'Н, ПАРГА'Н *м.* 1. Агароджа з штыкецін. Мярэцкія Глыб. *Паркан — агарожа з кійкоў.* Рыбчына Віл. *Паркан — плот з пруццяў.* Груздава Паст. *Абгарадзіў шастаколам, ілі парканам, сад.* Асавец Віл. *Елку абцярэбіш і кладзеш па тры жэрдкі, іх пяравівалі — так паркан робяць.* Крэва Смарг. *Парган з пераплёту галін, абгарожана каля гумна.* Мяжэрачы Сл. 2. Каменная агароджа. *Паркан — каменна агарожа вакол касцёла ці цэрквы.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* ДАБМ, карта № 246.

ПАРКАНІ'НА *ж. экспр.* Порканне. *Сваё жніва скора будзіць, а я ш хвора, то не жніва, а парканіна будзіць.* Мярэцкія Глыб.

ПАРКАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Паркануць. *Калі я парканула — кашуля мая ляжыць.* Лісна В.-Дзв.

ПА'РКІ *мн.* Два звязаныя разам снапкі, якія выкарыстоўваюцца пры крыцці ніжняга рада страхі. *Стрэха робіцца с паркаў. Прывязаў застрэшваннікі, далей паркі, то ўжо капіш.* Рыгалоўка Ліпск.

ПАРКЛІ'ЦА, ПАРЛІ'ЦА *ж.* Жалезная пласцінка, якая ўздзяецца на шпянёк верхняга каменя жорнаў. *Парkліца ў верхнім камяні ўстаўлена.* Магуны Паст. *Парліца ў жорнах.* Быстрыца Астр.

ПАРЛО'ЎКА *гл.* ПЯРЛО'ЎКА

ПА'РНАСЦЬ, ПА'РНОСЦЬ *ж. метэар.* Павышаная вільготнасць паветра. *Парнасць, дыхаць цяжка.* Рудня Чэрв. *Парнасць была ў лесі.* Паляцкішкі Воран. *Парыць будзіць, парнасць на дош.* Ністанішкі Смарг. *Парнасць такая, ні ветру німа.* Бакшты Іўеў. *Там бы парносць, зверху пячэ.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАРО'БІЦЬ *зак.* Управіцца. *І дома нада паробіць, і к дачке памагчы.* Валынцы В.-Дзв.

ПА'РОБОК *гл.* ПА'РАБАК

ПАРО'Г *м.* Парог. *Села я на парозе.* Кухты Віл.

ПАРО'ДЫ *мн. мед.* Роды. *Калісь с народаў многа жэншчын умірало.* Мсцібава Ваўк.

ПАРО'ЖНІ, ПАРО'ЖНЫ, ПОРО'ЖНІ *прым.* 1. Пусты. *Парожняя вядро.* Быстрыца Астр. *Парожны саган.* Вецярэвічы Пух. *Вядро порожне.* Калясное Міхал. *Карзіна стаіць парожня, ці пуста.* Вялікі Краснік Пруж. *Парожныя капцы.* Навасёлкі Свісл. *У парожных калёсах ехаў.* Асавец Віл. 2. Нічым не засеяны. *Плошчадь парожная міжду лесу.* Дакудава Лід. 3. Апошнія дні чацвёртай квадры месяца. *Парожныя дні, не можна парсюка калоць.* Гемзы Шальч.

ПАРО'ЗНІ *прысл.* Асобна. *Парозні паставілі хату.* Кураполле Паст.

ПАРО'НІКІ *мн.* Тое ж, што і п а́ р а н і ц а 1. *Паронікі добро есці з варанай кіслай капустай.* Любішчыцы Івац.

ПАРО'НКА *ж.*, ПАРО'НКІ *мн.* Тое ж, што і п а́ р а н к а 1. *Паронку свінням варацъ.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сягоніка і паронка стаіць у печы.* Кураполле Паст. *Аддзяляюць самую горшую бульбу і ссыпаюць свінням варыць — гэта паронкі.* Гайна Лаг.

ПАРО'СЛЫ *прым.* Які парос, пусціў расткі. *У кашэ парослая бульба.* Навасёлкі Свісл.

ПАРО'СНАЯ *прым.* Цяжарная (пра некаторых жывёлін). *Паросная свіня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паросна сука.* Стральцы Гродз. *Паросна котка.* Сакаляны Сакол.

ПА'РОСТОК *м.* Парастак. *Паросток от кортопле.* Дзмітравічы Кам.

ПАРО'СЦІЦЬ *гл.* ПАРАСЦІ'ЦЬ

ПАРО'СЬ *прысл.* Тое ж, што і п а р о́ з н і. *Мы парось паставілі хаты.* Вецярэвічы Пух.

ПАРОЎНЕ' *прысл.* Пароўну. *Пры паляках зямлі хапала толькі ў памешчыкаў, а цяпер ад іх аднялі зямлю і параўнялі ўсім пароўне.* Чыжуны Воран.

ПАРО'ЦІСА *незак. экспр.* Корпацца. *Будзеш пароціса доўго.* Вялікі Краснік Пруж.

ПАРО'ЦЬ *незак.* 1. Бадаць. *Карова пора і коля.* Быстрыца Астр. 2. Разбураць. *Хату паролі, комін, мурнік — і нашлі грошы.* Ёдлавічы Брасл. *Птушкі пораш, затое і рабаццё.* Солы Смарг. 3. Выклікаць востры калючы боль. *Вот мяне калацё і пора ў бок.* Кіралі Шчуч. 4. *перан.* Паказваць. *Пальцамі паролі, як яна ішла.* Гальшаны Ашм.

ПАРО'ША *ж.* Снег, які толькі што выпаў. *Вупала пароша.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пароша, як снег пацяруша і не відаць слядоў старых.* Азяраны Раг.

ПАРПЛІ′ЦА *ж.* Тое ж, што і п а р к л і ц а. *Парпліца прамалолася.* Мярэцкія Глыб. *На парпліцы камянь круціцца.* Асавец Віл. *Парпліца з зялеза зроблена.* Саланое Віл. *Парпліца ў верхнім камні.* Жылі Іўеў. *У парпліцу верацяно ўстаўляецца.* Дакудава Лід. *Парпліца — такая жалязяка ляжыць, каб камень не зваліўся.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Парпліца ў жорнах робіцца.* Беразіно Докш. *Парпліца ў камяні, абруч на камянь надзяецца, малоць у жорны.* Рыбчына Віл. *Парпліца — жалезная, што падымая камень. Парпліца ў верхнім камяні, у ёй дзюрачка, верацяно ўткнута ў парпліцу.* Гемзы Шальч. *Парпліца — у ніжнім камяні, на парпліцы падымаяш камень.* Мельнікі Лудз. *Парпліца ў жорнах.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У камені выдлубана, там парпліца ўстанаўляецца.* Солы Смарг.

ПАРСВАДАВА′ЦЬ *незак.* Угаворваць. *Я парсвадаваў, а ён не хацеў.* Жылі Іўеў.

ПАРСЮ′К, ПАРАСЮ′К, ПАРШУ′К *м.* Кабан. *Вялікі парсюк.* Галоўні Воран. *Парсюк заколаты на свята.* Жылі Іўеў. *Прошлы год мы мелі парсюка і свінку.* Гемзы Шальч. *Рабы парсюк, выляшшы з хлева.* Груздава Паст. *Я і карову, і парсюка аддала.* Лісна В.-Дзв. *Парсюка закалолі, разабралі, сланіну разрэзалі на шэсць пальцаў.* Ракаўскія Швянч. *Парасюк чышчаны.* Вецярэвічы Пух. *Калолі паршукі, кілбасы рабілі.* Кудзялянцы Шальч. *Пахавай месяцаў шэсць паршука. Скормлены паршук быў, сланіна добрая.* Паляцкішкі Воран. *Паршук велькі быў.* Парэчча Гродз. *А паршук сыты, сыцянькі, кругленькі, як аточаны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Паршук свінку заядая.* Номікі Бабіц. *У прошлым гаду былі закалоўшы паршука пудоў шаснаццаць.* Альхоўка Навагр. *Паршука забілі.* Смаляніца Пруж. *Як паршук храпе, і я храпу.* Старыя Смільгіні Воран. *Шчэ паршуку далью.* Старое Сяло Зэльв. *Кінь зеля паршуку.* Стральцы Гродз. *Паршука велькага забілі пад весну.* Пацаўшчына Дзятл. *Такога паршука выкарміла, што ого!* Галубы Маст. *Хачу даці паршукеві есці.* Вялікі Краснік Пруж.; *параўн.* літ. *paršiùkas* ’тж’.

ПАРСЮЧО′К, ПАРАСЮЧО′К, ПАРШУЧО′К *м.* 1. *памянш.* да п а р с ю к. *Паршучка кармім к вэлікодню.* Смаляніца Пруж. *Маладога паршучка закалоў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Парася. *Парсючок і парасёначак.* Груздава Паст. *Парсючком нада даць есці.* Старыя Трокі Трак. *Парасючок меншы, узяла б большага парасючка.* Вецярэвічы Пух. *Пакуплялі парсючкоў нідарагіх.* Лісна В.-Дзв. *Здаецца, глядзела добра, прышла паглядзець, а паршучок здох.* Кіралі Шчуч. *Пйаць паршучкоў было.* Гемзы Шальч.

ПАРСЯ′НІЦА *ж. бат.* Брыца. *Парсяніца ўвялася, трава такая з мяцёлкай, як у проса.* Рыбчына Віл.

ПАРТКІ′ толькі *мн.* Штаны. *Парткі споднія.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Парткі парваліся.* Міратычы Карэл.

ПАРТНІ′ХА *ж.* Краўчыха. *Яна ўчылася за партніху.* Кураполле Паст.

ПАРТНЫ′ I *прым.* Зроблены з ільну. *Партная хамуціна ў яжджомага хамута, і кожаная ў аромым.* Мельнікі Лудз. *Партную спадніцу сама шыю.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАРТНЫ′ II *м.* Кравец. *Гэты, што на станцыі жыве, партны?* Лісна В.-Дзв.

ПАРТЫЗА′НКА, ПАРЦІЗА′НКА, ПАРЦІЗА′НТКА *ж.* 1. Партызанка. *Парцізантку забілі немцы і паехалі шляхам з гумён.* Ухвала Круп. 2. Партызанскі рух. *Партызанка тады была.* Дзераўное Стаўб. *Алі ш скора прышлі немцы, тады стала партызанка.* Пронькі Мядз. *У нас сама парцізанка была, былі і связістыя.* Альхоўцы Лях.

ПАРУБА′ЦЬ *зак.* Пасячы. *Тэрас маю церліцу і караўлотак, нада іх парубаць, для чаго цяпер яны.* Старыя Трокі Трак.

ПАРУБЕ′НЬ *м.* Рубель. *Парубнем уціскаюць снапы.* Асавец Віл.; *гл.* ДАБМ, карта № 289.

ПАРУ′БІНА *ж.* Лата. *Ад парубіны да парубіны накладаецца дахоўка.* Стральцы Гродз.

ПАРУ′БКА *ж.* Высечка. *Тут парубка велька была.* Кіралі Шчуч.

ПАРУГАВА′ННЕ *н.* Папрок. *Ты мне ўжо ўпёкся з гэтым паругаваннем.* Рыбчына Віл.

ПАРУГАВА′ЦЬ *зак.* Папракаць. *Ён мне паругуе, а чаму? Ня муся ён паругаваць.* Рыбчына Віл.

ПАРУГА′ЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Яны паругаліся, падраліся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паругаўся, а тады ў сабакі воч пазычыў і прышоў.* Кураполле Паст.

ПАРУ′ПІЦЦА *зак.* Паклапаціцца. *Нада парупіцца, устаць раней.* Кураполле Паст., Кіралі Шчуч. *Ён парупіўся, каб рана ўставаць.* Саланое Віл. *Парупіўся б ты.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *rūpintis* 'рупіцца, клапаціцца'.

ПАРУ′ПІЦЬ *зак.* Патурбаваць. ∇ *Як усё парупіць, дык і вочы пралупіць* — як работа рупная, дык і сон не бярэ. Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *rūpėti* 'тж'.

ПАРУ′ХАЦЬ *зак.* Пабаранаваць. *Раллю парухаеш бараной.* Старыя Трокі Трак.

ПАРУЧЫ′ЦЦА *зак.* 1. Павесціся. *Кабанчыкі так і не паручыліся.* Вецярэвічы Пух. 2. Пашанцаваць. *Не паручылася яму, беднаму, жаніўся і развёўся.* Ёдлавічы Брасл.

ПАРУЧЫ′ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Не паручыла ей.* Груздава Паст.

ПАРУШО′К *м.* Тое ж, што і п а р а ш ы′ н а. *Парушок у вока папаў.* Пасека Ст.-Дар.

ПАРУШЫ́НКА *ж. памянш.* да п а р а ш ы́ н а. *Як запарушыў вока, то стала рэзаць, уляцела парушынка ў вока.* Рудня Астравітая Чэрв. *Парушынка ў воку.* Пасека Ст.-Дар.

ПАРУШЫ́НЯЦ *м. бат.* Парушэнец. *Парушыняц, як бруснічнік, ягад німа на ём, цвіце разаватым цветам. У халодным трымаў парушыняц, мазаў тым сокам.* Рудня Чэрв. *У парушынца лістэ круглыя і карабаністыя, зялёныя і ружовыя кветачкі ўгарэ.* Кіралі Шчуч.

ПАРУ́ШЫЦЦА *зак.* Пачаць падыходзіць (пра цеста). *Хлеб замесіш, парушыцца, расце.* Стральцы Шальч.

ПАРУШЭ́ННЕ, ПАРУШЭ́ННЯ, ПАРУШЭ́НЯ *н.* Захворванне ад празмерных намаганняў, надрывання. *Калі парушэнне, то натта жывот баліць. Яна замаўляла парушэнне.* Гальшаны Ашм. *Дзевясіл расце ат парушэння, ат пячонькі.* Чуркі Ашм. *Хапіла парушэння.* Крэва Смарг. *Падымеш цяшка што, і забаліць унутры — гэта парушэня.* Старыя Трокі Трак. *На сахару загаварыць ад парушэня.* Гемзы Шальч. *Дзівясіл п'юць ад парушэня.* Малі Астр.

ПА́РХІ *мн.* Перхаць. *Пархі на валасах былі.* Быстрыца Астр.

ПАРХНА́ТЫ *прым.* Спарахнелы. *Кручка пархнатая.* Солы Смарг.

ПАРЦЁНКА *ж.* Парцяная посцілка. *Парцёнка — посцілка з порту.* Солы Смарг.

ПАРЦІЗА́Н *м.* 1. Партызан. *Сын быў парцізан. Мы былі связныя с парцізанамі.* Мельнікі Лудз. *Былі мы связаны с парцізанамі.* Істра Лудз. 2. Тое ж, што і п а р т ы з а́ н к а 2. *Бацька ў парцізаны пашоў, мяне ў цюрму пасадзілі, мая згарэла хата.* Валынцы В.-Дзв. *Пасля два гады былі ў парцізанах.* Саланое Віл.

ПАРЦІЗА́НСТВА *н.* Тое ж, што і п а р т ы з а́ н к а 2. *Парцізанства тут пачыналася, буды тут былі.* Ухвала Круп. *Началі ў парцізанства ездзіць.* Саланое Віл.

ПАРЦЫЛЯ́ЦЫЯ *ж.* Выдзяленне зямельных участкаў у час хутарской сістэмы. *Парцыляцыя — гэта дзяленне зямлі.* Солы Смарг.

ПАРЦЭЛЕВА́ЦЬ *зак.* Дзяліць зямлю на ўчасткі. *За Польскай парцэлявалі, куском зямлю давалі, а даўней была зямля шнурамі пацята.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *parcelować* 'тж'.

ПАРЦЭЛІНАВА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а р ц э л е в а́ ц ь. *Парцэлінуе соткі.* Быстрыца Астр.

ПАРЦЭ́ЛЬ *м.* Участак зямлі. *Вёска раскінута парцэлямі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *parcela* 'тж'.

ПАРЦЭ́ЛЬКА *ж. памянш.* да п а р ц э́ л ь. *Маёнтак распарцалявалі, далі асаднікам парцэлькі.* Жылі Іўеў.

ПАРЦЯ́НІК *м.* Даматканы парцяны матэрыял у клетку.

*Парцянік з парту ткалі ў клетку.* Азяраны Раг.; *параўн.* п о р т я́ н і к.

ПАРЦЯ'НІКІ толькі *мн.* Штаны з даматканага матэрыялу. *Парцянікі насілі раней.* Азяраны Раг.

ПАРЦЯ'НЫ *прым.* Льняны. *Сподніца парцяна.* Смалянiца Пруж. *Парцяное палатно, са льну тканае, а цяпер кажуць льняное.* Дзяніскавічы Ганц. *Як ішлі жаць, бралі калубель парцяную.* Кіралі Шчуч.

ПАРШНІ' *мн. устар.* Скураныя лапці. *Даўней пакупаюць кожы, выражуць, загнуць і галовачку прыш'юць, дырачкі ад галоўкі і ззадзі па канцах падзелаюць, ззадзі аберану возьмуць, зажмуць цераз нагу хрэсьцікам і завяжуць. Пахары паршні дзелалі.* Навікі Лудз. *Паршні з кожы дзелалі, галоўкі кожаныя.* Шкаўна Лудз.

ПАРШУ'К *гл.* ПАРСЮ'К

ПАРШУЧО'К *гл.* ПАРСЮЧО'К

ПАРШЧА'ЦЬ *зак.* Скрыпець. *Бярозавы грып паршчыць.* Лісна В.-Дзв.

ПА'РШЫ *мн.* Тое ж, што і п а́ р х і. *Паршы ў галаве, сыпка такая.* Кураполле Паст. *Паршы ў галаве.* Вялікія Баяры Шчуч. *Паршы ў каровы.* Малькуны Ігн.

ПАРЫЖО'ВАНЫ *прым.* Паралізаваны. *Як ляжала парыжована, нічым не варушыла.* Крэва Смарг.

ПАРЫ'ЛА *ж. бат.* Вятроўнік. Рудня Чэрв. *Вужы баяцца парыла, у балоце яна расце па купінах.* Азяраны Раг. *Парыла расце на балоце, лісця як у арабіне.* Вецярэвічы Пух.

ПАРЫ'ЛЬНІК, ПАРЫ'ННІК, ПАРЫ'ЎНІК *м.* Тое ж, што і п а р ы́ л а. *Парыльнік збіраем свіням.* Белы Бераг Іўеў. *Парыннік у балоце.* Кураполле Паст. *Цвет парыўніка пахніць матта.* Саланое Віл. *Парыўнік — трава такая.* Рыбчына Віл.

ПАРЫ'НА *ж.* Пярына. *У нас парыны прадают.* Вялікі Краснік Пруж.

ПА'РЫНКА *гл.* ПА'РАНКА

ПАРЫ'ННІК *гл.* ПАРЫ'ЛЬНІК

ПАРЫ'ПАЦЬ *зак.* Няўмела пайграць на чым-н. *Парыпаў троха музыкант.* Малі Астр.

ПАРЫСАВА'НА *дзеепрым. перан.* Пакрыта пісагамі. *Парысавана карова, шнары на ёй.* Быстрыца Астр.

ПАРЫСАВА'ЦЬ *зак.* Парэзаць плугам сенажаць у канцы загона. *Плугам сенажаць як парысую, касіць будзя дрэнна.* Гемзы Шальч.

ПАРЫ'ЎНІК *гл.* ПАРЫ'ЛЬНІК

ПАРЫ'ХЧЫЦЦА *зак.* Апладніцца. *Сучка парыхчылася.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПА'РЫЦЦА *зак.* Парыцца. *Паруцца ў байні венікамі, а маскалі кажуць — хвошчуцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто хацеў — парыўся ў байні.* Лайпушкі Ігн.

ПА'РЫЦЬ *незак.* 1. *кулін.* Кіпяціць. *Бывая, малако парым, але я п'ю свежа малако.* Дакудава Лід. *Буду парыць малако.* Ракаўскія Швянч. *Малако пастaвіш у печ парыць.* Малахоўцы Бар. *Парыш малако ў печы.* Солы Смарг. 2. *кулін.* Парыць у закрытай пасудзіне. *Боп парылі і цыбулькай аблівалі, ён патрэская, становіцца смачны.* Кіралі Шчуч. *Боп парылі і елі.* Новікі Гродз. *Парыць боп у печы.* Мачаск Бярэз. 3. Апрацоўваць парай. *Попіл сыпалі, парылі палатно, атпіралі пранікам.* Стральцы Шальч. *Снуём, сабіраем у пляцёнку, парым, б'ём пранікам ніткі.* Дзераўное Стаўб. 4. *метэар.* Вылучаць пару пад уздзеяннем цяпла. *Сегодня жара, парыць так.* Скрудалена Даўг. *Сільна парыць.* Рагулішкі Даўг. 5. Праграваць. *Дзве цагліны грэюць і параць спіну.* Рыбчына Віл. *Багуном парыў нагу.* Руднікі Шальч.

ПАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Разбурыць. *Нада парыць старую хату.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Зрыць (усё, многае). *Дзікі парылі увесь лес.* Малі Астр.

ПА'РЫШ *м.* Каша з сумесі жыта, ячменю і грэчкі. *Варыла парыш, ярыцу, ячмень, грэчку цёплой водою рошчынаті, а чэрэз нэч трэбо вaрыті, потом можно есті.* Азарычы Пін.

ПАРЭ' *м.* Мянушка пярэстага вала. *Парэ — так называюць парэстого вола.* Хатынічы Ганц.

ПАРЭ'З *м. бат.* Крываўнік. *Парэз на дзірване рос.* Навікі Лудз.

ПАРЭ'ЗАНЫ *дзеепрым.* 1. Падзелены на часткі. *Лугі былі парэзаныя на часткі.* Дзераўное Стаўб. 2. Паранены. *Парэзана шыя.* Гальшаны Ашм.

ПАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Параніць чым-н. вострым. *Ён мне руку парэзаў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Падзяліць. *У дзірэўні дайней былі землі парэзаны на шнюры. Землі парэзалі на шнюры.* Індра Красл.

ПАРЭ'НЧЫ *мн.* 1. Поручні. Малахоўцы Бар. *Парэнчы около моста.* Галубы Маст. *Парэнчы ставяць на мосце.* Гемзы Шальч. 2. Спінка ў лаве. *Лава робіцца з парэнчай.* Вострава Маст. 3. Падаконнік у сенцах. *Мыла ў сенцах на парэнчах ляжыць.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *poręcz* 'поручань'.

ПАРЭ'НЧЫНА *ж.* Поручань. *Парэнчыну робяць, каб скаціна ў раку не ўвалілася.* Магуны Паст.

ПАРЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Патрэсканы. *Ногі парэпаныя.* Малахоўцы Бар.

ПАРЭ'ПАЦЦА, ПАРЭ'ЙПАЦЦА *зак.* Патрэскацца. *Парэпаліся пяты, вялікія на ёй расколіны.* Рудня Астравітая Чэрв. *На лытках ногі парэпаюцца, бы кара дубовая становяцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Парэпаліся ногі.* Малахоўцы Бар. *Як па расе паходзіш босы — парэпаюцца пяты.* Солы Смарг. *Парэйпаліся пяты.* Мсцібава Ваўк.

ПАРЭ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Паматычыць. *Пальцамі парэпай агурке, калі не маеш драпкі.* Вецярэвічы Пух.

ПАРЭ'СІЦЦА *незак.* Парасіцца. *Парэсіцца свіня.* Галубы Маст.

ПАРЭ'СТЫ *гл.* ПЯРЭ'СТЫ

ПАРЭСЯ'ТКО *н. памянш.* Парася. *Зеля занясе парэсятку.* Альхоўцы Лях.

ПАРЭ'ЧКІ, ПАРЭ'ЦКІ, ПУРЭ'ЧКІ, АПАРЭ'ЧКІ *мн.* Парэчкі. *Парэчкі красныя.* Чычалі Швянч. *Парэчкі былі чырвоненькія, былі як жар.* Вецярэвічы Пух. *Красныя, дробныя, лісавыя, садавыя парэцкі буйныя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У мяне першы гот пурэчкі.* Воўкуш Ліпск. *Апарэчкі і чарніцы разам вараць.* Крэва Смарг.

ПАС *м.* Фаска. *У пас ссыпалі жыто, квасілі капусту.* Навасёлкі Свісл. *У пасу ўсё ссыпалі.* Кіралі Шчуч.

ПА САБЕ' *прысл.* Паасобку. *Я па сабе, яна па сабе, так і жывём.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАСАБЕ'ЙКУ *прысл.* Тое ж, што і п а с а б é. *Як абдзіраюць лён, кауць* [кажуць]: *абзіркі, галаўкі, каранкі — усё пасабейку.* Пасека Ст.-Дар.

ПАСАБІ'ЦЬ, ПАСОБІ'ЦІ, ПОСОБЫ'ТЫ *зак.* Дапамагчы. *Чаму ён не пасабіў табе?* Груздава Паст. *Трэба пасабіць.* Альхоўка Навагр. *Ты бы мне пособіў.* Вялікі Краснік Пруж. *Пособ кросна наладытэ.* Дзмітравічы Кам. *Трэба пособыты.* Відзібар Стол.

ПАСАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Людзі пасаблялі мне.* Парэчча Гродз.

ПАСАВА'ЦЬ, ПАСАВА'ЦІ *незак.* Падыходзіць, адпавядаць. *Маладым усё пасуе.* Гемзы Шальч. *Яна нам ні пасуе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маргарын пасуе да цеста.* Солы Смарг. *Не узнаю чалавека, не пасуе мне.* Новыя Мацалі Варэн.; *параўн.* польск. *pasować* 'тж'.

ПАСАВЕ'ТАВАЦЦА *зак.* Параіцца. Багушэвічы Бярэз. *Пасаветуюсь з жаной.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *посоветоваться* 'тж'.

ПАСАВЕ'ТАВАЦЬ *зак.* Параіць. *Пасаветавалі бярозавы грып піць.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *посоветовать* 'тж'.

ПАСА'Г, ПАСА'Х *м.* 1. *устар.* Пасаг. *Гэта мне тата пасагу даў.* Крэва Смарг. *Пасаг дадзём, корову, куфар.* Малі Астр. *У пасаг карову даюць, трыста-чатыраста злотых.* Чуркі Ашм. *У пасаг давалі авечку, карову, палатно.* Грыкені Вільн. *Пасаг дачцэ.* Судэрва Вільн. *У хаце нас было шасцёх, і бэз пасагу бралі.* Альхоўка Навагр. *С пасагам бралі і брыдых дзяўчат.* Мсцібава Ваўк. *У пасазя каня давалі, ручнікі.* Кудзялянцы Шальч. *У пасах давалі карову, куфар адзеня, авечку, свіню, а было такіх, што пра пасах не сышліся, і ўсё пропала.* Альхоўка Навагр. *Некалі пасах давалі: карову, каня,*

*грошы.* Дакудава Лід. *Пасах давалі дачцэ.* Старое Сяло Зэльв., Вялікія Баяры Шчуч. *Дай у пасах карову, авечку, свінню, шнур зямлі.* Рыбчына Віл. *Што ты ў пасах узяў? Свіню, карову, авечку?* Альхоўцы Лях. *Церас нядзелю посля вяселя бацька дае карову — пасах.* Малахоўцы Бар. *Бацькі далі пасах.* Быстрыца Астр. *Даюць ёй велікі пасах.* Пукава Кап. *У пасах прывяла карову, але пасажна не ручыць, дзяржаць не можно.* Ёдлавічы Брасл. *Дайней давалі карову ў пасах.* Ракаўскія Швянч. *Авечку ў пасах давалі.* Старыя Трокі Трак. *Пасах давалі бацькі дачцэ, што ўмайляюцца сваты: карову, говечку, скрыню с палатном, падушкі, коўдру, пасцель.* Гемзы Шальч. *Карову, свіню, пару парасяткаў, авечку і двоя ягнёнкаў, кажух і бурнос — усё пасах.* Солы Смарг. *Кублэ былі бальшыя для пасаху.* Кіралі Шчуч. *Пасаху не было, я веку дажыла.* Саланое Віл. 2. *перан.* Парада, настаўленне. *Матка два пасагі дала: «Дзетачкі, уважайце людзей — людзі вас будуць уважаць».* Руднікі Шальч.

ПАСА'ГА, ПАСА'ГА, ПОСА'ГА *ж.* Тое ж, што і п а с а́ г 1. *Карову давалі ў пасагу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трэба пасагу даць.* Саланое Віл. *Пасага адна чаго стоіць!* Беразіно Докш. *Маладой давалі пасагу. З бацькам не сышліся с пасагай.* Магуны Паст. *Пасага — карова, свіння, авечка, курыца.* Ухвала Круп. *Пасагі не было.* Талейкі Швянч. *Пасагу давалі с скрыняю таей.* Судэрва Вільн. *Пасаґу бальшую давалі: дзвюх кароў, каня і деньгі.* Рагулішкі Даўг. *Давалі ў пасаґу зямлю.* Солы Смарг. *Я ім пасаґу не выдавала.* Парэчча Гродз. *Мне посагу далі.* Смаляніца Пруж.

ПАСА'Д, ПАСА'Т *м.* 1. Рад снапоў, пакладзеных на ток для абмалоту. *Да снядання дайней змалоціш два пасады.* Старыя Трокі Трак. *Пасад абмалоцім жыта і кулі выбіраем.* Азяраны Раг. *У пасат лезець пайкапы.* Казлы Міёр. *Клалі на ток пасат па дзесяць—пятнаццаць снапоў у два рады.* Лісна В.-Дзв. *Пасат наслаў ці змалаціў.* Альхоўка Навагр. *Аспадара перш ложаць на пасат.* Быстрыца Астр. *Дзесяць снапоў — пасат.* Малахоўцы Бар. *Пасат — раскладзеныя снапы для малацьбы.* Дзяніскавічы Ганц. *У пасат садзяць і тады малоцяць.* Цеплень Уздз. *Ужо пасат абабілі.* Кемялішкі Астр. *Вымалацілі пасат жыта.* Гемзы Шальч. *Пасат на адну старану і на другую.* Стральцы Шальч. 2. Месца ў таку для абмалочвання снапоў. *У таку пасат быў выбіты глінай.* Кураполле Паст. 3. *абрад. устар.* Пасад. *Станавіся, радзімачка, уся ў рат, будзя нявестачка ісці на пасат.* Вялешына Кап.

ПАСА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Пасаджаны. *Там памідоры пасаджаны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цыбуля была пасаджана, як узяўся, і так гэту цыбулю папалоў.* Кураполле Паст. *Яму бульба дарма пасаджана.* Паляцкішкі Воран.

ПАСАДЖА'ЦЬ *зак.* Пасадзіць. *Я буду есці, але пайду пасаджаю буракоў.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАСА'ДЖВАЦЬ *незак.* Садзіць. *Пасаджвала бульбу, а ў мяне левая вока свярбіць.* Крэва Смарг.

ПАСАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Пасадзіць на пэўнае месца (у час частавання). *Яго аднаго пасадзілі ў кухню.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзядука пасадзілі там.* Грыкені Вільн. 2. Асудзіць. *Правініцца, і ў турму пасадзяць.* Кудзялянцы Шальч. *Чалавека угробя, як пасодзяць у цюрму.* Лісна В.-Дзв. 3. Змясціць. *Пасадзіў рой у домік.* Груздава Паст. 4. Тое ж, што і п а с а д ж á ц ь. *Галіня картошку пасадзя.* Кудзялянцы Шальч. *Еслі бульбу пасадзіць, лепей у хацэ ляжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *За метраў пяць-шэсць пасажэныя ёлачкі.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Пасадзіць за сцякло* — спесціць. *Яна гатова яё пасадзіць за сцякло — пестаіць дачку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАСА'ДКА, ПАСА'ТКА, ПОСА'ДКА, ПУСА'ДКА *ж.* 1. Дзеянне паводле значэння дзеяслова *садзіць* (пра лес). *Дзейкі ходзяць на пасадку, садзілі лес.* Азяраны Раг. *Пачалі пасадку лесу.* Галубы Маст. *Ходылы на посадку, ліс садылы.* Сіманавічы Драг. *Дівчынята ходілі на посадку.* Курашэва Чыж. *Худэла на пусадку, ліс садэла.* Радастаў Драг. 2. Малады саджаны лес. *Ты глядзі, кароў не пусці ў пасадку.* Рыбчына Віл. *Як маладьі лес, то называюць пасатка.* Альхоўцы Лях. *На пасатках бапкі збіраюць.* Ёдлавічы Брасл. *Коло старого ліса була посадка.* Сіманавічы Драг. *Выіхалэ с пусадкэ в стары ліс.* Радастаў Драг.

ПАСА'ЖАЯ *прым.* Дадзеная ў пасаг. *Пасажая карова.* Крынкі Крын.

ПАСА'ЖНА, ПАСА'ЖНАЯ *прым.* Тое ж, што і п а с á ж а я. *Пасажну карову, авечку, свіню ўзяў, вялікі пасах.* Паляцкішкі Воран. *Пасажна карова.* Вялікія Баяры Шчуч., Пасека Ст.-Дар., Альхоўцы Лях., Кемялішкі Астр., Номікі Бабіц. *Пасажная карова.* Мярэцкія Глыб., Малахоўцы Бар., Індра Красл.

ПАСА'ЖНІЦА *ж.* Пасажная карова. *Пасажніцу далі ў пасаг.* Пасека Ст.-Дар.

ПА'САК *м.* 1. Пояс. *Я меў пасак з кубасамі.* Старыя Трокі Трак. *Плаця насілі з паскам.* Дакудава Лід. *Паскі клалі, кап чулкі трымалі.* Гальшаны Ашм. *Спадніца і фартух паскамі звязваецца.* Альхоўцы Лях. *Пасак — кап ганавіцы патпіразаць.* Новікі Гродз. 2. Папруга. *На кульбачку пасак накладаецца.* Малахоўцы Бар. *Пасак ідзе ад падсядзёлка, патпінаецца пад трыбухом.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. *мн.* Палоскі. *Усе паршучкі былі ў паскі, чорныя і рудыя.* Кіралі Шчуч. 4. Узор на тканіне ў палосы. *Пасцілкі і сяльнікі ў паскі.* Мярэцкія Глыб. *У паскі выткана коўдра.* Магуны Паст. *У пала-*

*ске ткалі пасакі па шпульках войнай.* Баброўнікі Гарад. 5. Посцілка. *Паскамі прыкрывалі ложка.* Баброўнікі Гарад. 6. Кавалак сала прадаўгаватай формы. *Пасак сала праз весь яшчык кладуць.* Вецярэвічы Пух.

ПАСАЛЕ'НЯ *мн.* Сцяблы і лісце фасолі. *Пасаленя ядуць каровы, іх парацъ ад почкаў.* Кіралі Шчуч.

ПАСАЛО'МШЧЫК *м. рэліг.* Псаломшчык. *Пасаломшчыкам дайней наш сусед быў.* Крэва Смарг.

ПАСАЛУ'ХА, ПАСЯЛУ'ХА *ж. зневаж.* Хто без справы ходзіць па хатах. *Пасалуха, каторая ходзіць па вёсцы.* Малькуны Ігн. *Пасялуха без дзела бегае па сяле.* Палік Барыс. *Я сплетняў не важу і пасялухай не была.* Валынцы В.-Дзв.

ПАСАЛЮБАВА'ЦЦА *зак.* Палюбавацца. *Пасалюбуйся, дзяўчо.* Курапо̧лле Паст.

ПАСАЛЯВА'ЦЬ *зак.* Пасыпаць соллю. *Пасалююць кроў, як запяклася.* Азяраны Раг.

ПАСАЛЯВЕ'НЯ *н.* Тое ж, што і п а с а л е́ н я. *Занясі ў хлеў пасалявеня.* Навасёлкі Свісл. *Пасалявеня добра на сечку каровам.* Міратычы Карэл.

ПАСАМЛЕ'ЦЬ *зак.* Памлецъ. *Чуць не пасамлелі.* Мішневічы Шум.

ПАСАСІ'ЦЬ *зак.* Пакарміць дзіця грудзьмі. *Нада пасасіць дзіця.* Беразіно Докш. *Яна пасасіла і ліцом у падушку палажыла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАСАСТА'ВІЦЬ *зак.* Саставіць (пра ўсё, многае). *Нам нада ведамасці пасаставіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАСАСЯЧЫ' *прым.* Паласаты. *Якая ж пасасячая свіня.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАСА'Т *гл.* ПАСА'Д

ПАСА'ТКА *гл.* ПАСА'ДКА

ПАСА'ТЧЫК *м. памянш.* да п а с а́ д 1. *Пойдзім пасатчык змалоцім.* Ністанішкі Смарг.

ПАСА'Х *гл.* ПАСА'Г

ПАСА'ЦКА *н.* 1. Под. *Пасацка выдрало ў печы.* Паляцкішкі Воран. 2. Ток. *Пасацка — дзе малоцяць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *pasadzka* 'паркетная падлога'.

ПА'САЧАК *м.* 1. Тое ж, што і п а́ с а к 1. *Пасачак прасівы.* Солы Смарг. *Сукенкі шылі с пасачкамі.* Гемзы Шальч. 2. *памянш.* да п а́ с а к 4. *Плаценячкі шылі, ткалі цяненькія, у клетачкі і ў пасачкі.* Ракаўскія Швянч. *Пацірыкі ткалі ў пасачкі.* Жодзішкі Смарг.

ПА'САЧКА *ж. памянш.* да п а с. *Пасачка — на масла, нападобіі вядзерка з вушкамі і крышкай.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАСАЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Быць падобным на каго-н., што-н. *Калі пасоча бацьку, то будзя дзяўчына гаравацъ. Нехта з дзяцей пасоча і бацьку, не толькі матку.* Рыбчына Віл. *Яны*

*ні пасачылі бацькоў, пашлі самі па сабе.* Саланое Віл. *Дачка пасачыла матку.* Гемзы Шальч. *Еслі зіма пасочыць лета, то будзіць сорак градусаў мароза.* Мярэцкія Глыб. *Курыца петуха пасачыла і не нясецца.* Гемзы Шальч. 2. Папільнаваць. *Нада пасачыць курыцу, дзе іна нясецца.* Лісна В.-Дзв. *Нада пасачыць курыцу, у які бок іна пойдзіць.* Кураполле Паст. 3. Пашукаць. *Яня, пасачы піва.* Рагулішкі Даўг.

ПА-СВАЕ'МУ *прысл.* Па-свойму. *Ні дадзём грошы, ад дзіцяці адбярэць, па-сваему зробіць.* Ністанішкі Смарг.

ПАСВАРЫ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а р у г а́ ц ц а. *Пасварыліся бабы.* Кіралі Шчуч., Паляцкішкі Воран. *Мы жылі і ніколі не пасварыліся.* Саланое Віл. *Пасварыліся яны, трэба іх пагадзіць.* Івашкаўцы Смарг.

ПАСВАРЫ'ЦЬ *зак.* Палаяць. *Пасварыця вы яго, ён мяне напужаўшы.* Рагулішкі Даўг.

ПАСВЕ'НЦІЦЬ *зак. царк.* Пасвянціць. *Пасвенцюць масла, сыр, мяса і начынаюць есць з яйца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Бывала, гэтую травачку пасвенціць.* Дзераўное Стаўб.

ПАСВЕ'РЫЦЬ, ПАСВЯРЭ'ЦЬ *гл.* ПАСЕ'ВЕРЫЦЬ

ПАСВІРО'НАК *м.* Засек. *У пасвіронку ён лёг.* Старыя Смільгіні Воран.

ПА'СВІСКО *н.* Паша. *Пасвіско, ці выган, адно і тож.* Масілавічы Сл. *Пагон кароў пагналі на пасвіско.* Лука Нараўк. *На пасвіску коні.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *pastwisko* 'тж'.

ПА'СВІЦЬ *зак.* Пасціць. *Пайду пасвіць з дзіцем.* Паляцкішкі Воран. *Брат пашоў пасвіць.* Рагулішкі Даўг. *Пастух пасвіць кароў.* Дакудава Лід. *Німа як касіць, як ён пасвіў, то добра было.* Альхоўка Навагр. *Унук пасвіў кароў.* Старое Сяло Зэльв. *Пасвіў авечкі.* Альхоўцы Лях. *Я волы пасвіла.* Стральцы Шальч. *Свіня пасвіла на выганя.* Жылі Іўеў. *Пастыр пасвіў кароў.* Плябанцы Ашм.

ПАСВЯНЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а с в е́ н ц і ц ь. *Пробаш магілу пасвянціць.* Пасіене Лудз.

ПАСВЯ'ТЧЫЦЬ *зак.* Пасведчыць. *Святка пасвятчыў.* Лісна В.-Дзв.

ПАСВЯЦА'ЦЬ *зак. царк.* Тое ж, што і п а с в е́ н ц і ц ь. *Як паску пасвяцалі, бралі саўбітку.* Ухвала Круп. *Зажыналі вялікі сноп, прыносілі дамоў, ставілі на кут, а як сеяць жыта, абівалі, пасвяцалі і жыта засявалі.* Рудня Чэрв.

ПАСВЯЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а с в я́ т ч ы ц ь. *Светка, вот, нядобра пасвяціў на судзе.* Рыбчына Віл.

ПАСЕ'ВЕРЫЦЬ, ПАСІ'ВЕРАЦЬ, ПАСЕ'ВЕРАЦЬ, ПАСВЕ'РЫЦЬ, ПАСВЯРЭ'ЦЬ, ПОСІ'ВЕРАЦЬ *зак.* Пасівераць. *Пасеверылі ногі, ад вады і ветра пасеверылі.* Валынцы В.-Дзв. *Пасеверелі ногі.* Мачаск Бярэз. *Ногі і рукі пасеверэлі ад ветру.* Рудня Чэрв. *Босая хадзіла, ногі пасівералі.* Веця-

рэвічы Пух., Жыдзевічы Іўеў. *Пасівералі рукі ад холаду.* Альба Нясв., Крупіца Мін. *Як ногі пасевяраюць, то кажуць: бацян рэпу пасеяў.* Саланое Віл. *Рукі шурпатыя сталі, пасверылі.* Лісна В.-Дзв. *Ногі пасвярэлі, на нагах кроў. Пасвярэла скура, шурпатая стала ад ветру, вады.* Мярэцкія Глыб. *Посіверала ліцо.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАСЕ′І толькі *мн.* Высеўкі. *Пасеі курам мяшалі.* Рыбчына Віл. *Пасеі свінням замешвалі.* Беразіно Докш. *Пасеі ад круп астаюцца.* Гайна Лаг. *Ссыпай пасеі ў гэты мяшок.* Ухвала Круп. *Пасеі грацковыя.* Саланое Віл.

ПАСЕ′Й *м.* Тое ж, што і пасе́і. *Куды сыпаць пасей?* Мачаск Бярэз.

ПАСЕ′ЙКІ толькі *мн.* Тое ж, што і пасе́і. *Муку сеялі і пасейкі ад мукі — курам, свінням замешвалі.* Солы Смарг.

ПА′СЕК *м.* Пчаляр. *Той дзед пасек, і мёд у яго павінен быць.* Мачаск Бярэз.

ПА′СЕКА, ПА′СІКА *ж.* 1. Высечаная дзялянка лесу. *Пасека — высечаны лес.* Кемялішкі Астр. *Пасека — выкарчаваны лес.* Солы Смарг. *Пасіка — дзе выціраблены лес.* Вялікія Баяры Шчуч., Дакудава Лід. *На пасіке малиннік нарос.* Беразіно Докш. *Пасека вяліка.* Альхоўка Навагр. *Чалавек памучаецца, але на пасецы годы тры ўражай харошы.* Гемзы Шальч. *Трэба ціррабіць пасеку.* Саланое Віл. 2. *пчал.* Пчальнік. *У каго вульёў багато — пасека.* Дзяніскавічы Ганц. *Пасікі есць у людзей.* Навікі Лудз.

ПАСЕ′КЧЫ *зак.* 1. Высечы. *Пасеклі бярэзнік, поле там цяпер.* Ухвала Круп. 2. Рассячы. *Пасячы заднюю косць.* Солы Смарг. 3. Папсаваць. *Мышы пасеклі маё сена.* Магуны Паст.

ПАСЕНКОВА′ТІ *зак.* Пасынкаваць. *Помідоры трэба пасенковаті.* Курашэва Чыж.

ПАСЕ′РДЗІЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Бабы пасердзіліся.* Рагулішкі Даўг.

ПАСЕ′СЦІ *зак.* 1. Сесці (пра ўсіх, многіх). *Паселі куры.* Альхоўцы Лях. 2. Высыпаць. *Прышчы паселі на руках.* Мішневічы Шум.

ПАСЕ′ЎРАЦЬ, ПАСЕ′ЎРЭЦЬ *зак.* Тое ж, што і пасе́верыць. *Пасеўраюць ногі, як будзе па расе халоднай хадзіць.* Ухвала Круп. *Пасеўрэлі рукі, баляць, ні магу каровы даіць.* Прошыка Круп.

ПАСЕ′Ч *зак.* Пасячы. *Пасёк плот сякераю, усе балясткі пасёк.* Кіралі Шчуч.

ПАСЕ′ЯЦЬ *зак.* 1. Пасадзіць. *Бульбу пасеім на сотках.* Саланое Віл. 2. Пасеяць. *Пасеяла буракі, так красіва абышлі флянцы, можа ў цябе густа сахарнікі.* Рагулішкі Даўг.

ПАСЁЛАЧНЫ *прым.* Прасёлачны. *Пасёлачна дарога.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАСЕ́ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пасёльніца лётае па хатах.* Рудня Чэрв.

ПАСІ́ВЕРАЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а с е́ в е р ы ц ь. *Пасівераліса ногі, сырадоям цёпленькім памажам — і ўсё.* Пасека Ст.-Дар.

ПАСІВЕ́ЦЬ *зак.* Зрабіцца сівым. *У яго галава пасівела ад багацтва.* Стральцы Шальч.

ПА́СІКА *гл.* ПА́СЕКА

ПАСІЛА́ЙКА *ж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Ну і жонка ў цябе, нейкая пасілайка, як ты яе трымаеш? Толькі па хатах і бегаіць.* Ухвала Круп.

ПАСІ́ЛІЦЦА *зак.* Напружыцца. *Пасіліўся, падняў цяжкае.* Гемзы Шальч.

ПАСІ́ЛІЦЬ *зак.* Падняць. *Халера з гэтымі вёдрамі, не пасіліш.* Жылі Іўеў. *Дзевачка пасіліла дзіця.* Вецярэвічы Пух.

ПАСІЛКАВА́ЦЦА *зак.* Пад'есці. *Хіба я пасілкуюся, што з'ем сухога.* Навасёлкі Свісл.

ПАСІ́ЛКІ *мн.* Патугі. *Пасілкі не бяруць.* Альхоўцы Лях.

ПАСІНЯ́ЧЫЦЬ *зак.* Збіць. *Пасінячыў ён чалавека.* Жылі Іўеў.

ПАСІЎКА́Я *прым.* Адабраная для пасеву (бульба). *Пасіўкая бульба спорная.* Кураполле Паст.

ПА́СІЦЬ *зак.* Пасціць. *Пасіў свіней, кароў.* Гемзы Шальч.

ПА́СКА I *ж.* Тое ж, што і п а́ с а к 4. *Палатно ткана ў паскі.* Вязынка Маладз. *Пакрывала ў кветкі, а дыван у паскі.* Дакудава Лід.

ПА́СКА II *ж.* Тое ж, што і п а с. *Масла складалі ў паскі.* Кураполле Паст. *Паска дубовая ідзе на сланіну.* Дакудава Лід. *Паска з накрыўкай.* Альхоўка Навагр. *Сала складалі ў паску. Яна знізу вузкая, з дошчачак, а зверху драўляная крышка.* Груздава Паст. *Мяса, кілбасы, сала — усё ляжыць у пасцы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПА́СКА III *ж.* Пастка. *Паскай лавілі мышэй.* Ёдлавічы Брасл. *Паскай мышэй лопаць.* Парэчча Гродз. *Купіў паску мышэй лавіць.* Кудзялянцы Шальч. *Паска на шашка — такая клетка.* Малі Астр.

ПА́СКА IV *ж.* Пасьба. *Учора ганяў кароў на паску.* Ухвала Круп.

ПА́СКА V *ж. рэліг.* 1. Вялікдзень. *Дайнеў на паску булкі пяклі, а цяпер булкі кожды дзень ем.* Парэчча Гродз. *Паска — гето свято.* Баброўнікі Гарад. 2. Пасвянцоныя прадукты. *Хрыстовай паскай мы разгайляемся, свянціцца сыр і калбаса.* Баброўнікі Гарад. 3. Пірог, які пякуць к вялікадню. *Спяку паску, што адразу з'ядуць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАСКАВА́ТЫ *прым.* Плоскі. *Паскаватыя п'явіцы.* Новікі Гродз.

ПА′СКАВІЦА *ж. анат.* Сківаца. *Паскавіца баліць адна.* Альхоўцы Лях.

ПАСКАПА′ЦЬ *зак.* Пашчапаць (дровы). *Нада паскапаць дроў.* Асавец Віл.

ПАСКАРО′ДЗІЦЬ *зак.* Пабаранаваць. *Картошку трэба паскародзіць.* Багушэвічы Бярэз.

ПА′СКІ *мн.* Гадавыя кольцы на папярочным зрэзе дрэва. *Дуп у паскі.* Кіралі Шчуч.

ПАСКІДА′ЦЬ I *зак.* 1. Скінуць (пра ўсё, многае). *Паскідаюць адзеня і ходзяць голыя.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Разуць. *Нашто ты паскідала з ношкаў, яму зімна.* Лісна В.-Дзв.

ПАСКІДА′ЦЬ II *зак.* Апарасіцца раней тэрміну. *Свіня паскідала парасята.* Кіралі Шчуч., Саланое Віл.

ПАСКІПА′ЦЦА *зак.* Патрэскацца. *Пяты паскіпаліся, пашчапаліся, равы на пятах.* Мярэцкія Глыб. *Ногі паскіпаліcь.* Ухвала Круп.

ПАСКІПА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а с к а п á ц ь. *Дровы нада паскіпаць.* Мярэцкія Глыб. *Паскіпаю дровы і пайду касіць.* Мачаск Бярэз.

ПАСКІРУ′С *м.* Дакумент. *Яму прэцедацель скора здзелаіць паскірус.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *paskyrà,* дыял. *paskyraĩ* 'від размеркавальнага дакумента'.

ПАСКЛАДА′ЦЬ *зак.* Скласці (пра ўсё, многае). *І песні паскладаны для маладых.* Саланое Віл.

ПАСКРАБА′ЦЬ *зак.* 1. Паскрэбці. *Лапатай паскрабаць падлогу.* Мярэцкія Глыб. 2. Пачысціць (рыбу). *Рыбу паскрабуць і жараць.* Быстрыца Астр.

ПАСКРАБСЦІ′ *зак.* Пачухаць. *Паскрабі, свярбяць плечы.* Быстрыца Астр.

ПАСКРО′БАК, ПАСКРЭ′БАК *м.* і *ж.* 1. Маленькая булачка хлеба з рэштак цеста. *Паскробак з цеста, як яно астаецца.* Лука Нараўк. *Паскрэбак — апошняя буханачка хлеба.* Чуркі Ашм. *Я ўжо хлеб усадзіла, закіну паскрэбак за засланку.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Апошняе дзіця ў бацькоў. *Дома паскробак адзін.* Солы Смарг. *Паскрэбак — апошні хлопяц, пасля яго ні было дзяцей.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Паскрэбак я была.* Саланое Віл. *Во гэта ўжо паскрэбак.* Жылі Іўеў., Беняконі Воран. *Усе раз'ехаліся, дома адзін паскрэбак астаўся.* Кіралі Шчуч.

ПАСКРУ′ЧВАНЫ *дзеепрым.* Скручаны ў некалькі столак. *Путы паскручваны.* Жодзішкі Смарг.

ПАСКРЭ′БАЧАК *м. памянш.* да п а с к р ó б а к 1. *Паскрэбачак — маленькі хлябок.* Альхоўка Навагр.

ПАСКРЭ′БАЧКА *ж.* Тое ж, што і п а с к р э́ б а ч а к. *Паскрэбачку з цеста пяклі.* Янова Тал.

ПАСКРЭ′БІШ *м.* Тое ж, што і п а с к р ó б а к 2. *Паследня дзіця — паскрэбіш.* Стральцы Гродз.

ПАСКУДДЗЁ *зб. н.* Насякомыя і гады. *Паскуддзя многа ў лесе.* Рудня Чэрв.

ПАСКУ'ДНІЦА *ж. лаянк.* Хто неакуратны. *Ана будзіць казаць: «Паскудніца ты».* Кураполле Паст.

ПАСКУ'ДНЫ *прым.* Дрэнны. *Стала расказваць паскудны, нехарошы сон.* Лісна В.-Дзв. *Уже от трох дён такая паскудна погода.* Курашэва Чыж. *Паскудны язык мае.* Гальшаны Ашм.

ПАСКУ'СТВА, ПАШКУ'СТВА, ПАШКУ'ЦТВА *н.* 1. *зб.* Тое ж, што і п а с к у д д з ё. *Пашкуства ў лесе много.* Кіралі Шчуч. *Казюлькі, машка — усякага пашкуства хапая.* Дакудава Лід. *Пашкуства ўсялякае.* Старое Сяло Зэльв. *Пашкуцтва па лесе водзіцца.* Альхоўка Навагр. 2. *лаянк.* Хто дрэнна паводзіць сябе. *Пашкуства, пяском сыплюць!* Галубы Маст. *Ты — пашкуства, мяне ні вучы.* Кіралі Шчуч. 3. Няякаснае насенне. *Пашкуства гэта сеялі, бо не было другога пасля вайны.* Малькуны Ігн.

ПАСЛАБАДНЕ'ЦЬ *зак.* Адчуць сябе лепш. *Мне паслабаднела, як тую дзеўку выцягнулі.* Саланое Віл.

ПАСЛА'БНУЦЬ *зак. ткац.* Паслабнуць. *Бывая нідабой: паслабня нітачка.* Дакудава Лід.

ПА-СЛАВЯ'НСКУ *прысл.* Па-царкоўнаму. *За царом вучылі па-славянску.* Дзераўное Стаўб.

ПАСЛА'НЕ *н.* Сцелішча. *Лён ляжыць на паслане.* Альхоўка Навагр.

ПАСЛА'НЫ *дзеепрым.* 1. Засланы. *Пасцель паслана.* Альхоўцы Лях. *Пасланая лошка.* Гемзы Шальч. 2. Замошчаны. *На бэлечкі пасланыя дошкі.* Гемзы Шальч. 3. Разасланы. *Салома на нарах паслана.* Азяраны Раг.

ПАСЛА'ЦЦА *зак.* 1. Распаўсюдзіцца па паверхні чаго-н. *Паслаўся па даліне туман.* Альхоўцы Лях. 2. Паслаць сабе пасцель. *Пасламіся ўжо спаць.* Лісна В.-Дзв. *Ложку яна паслалася.* Талейкі Швянч. ∇ *Як пасцеліцца, так і выспіцца* — як зробіш, так і атрымаеш. Солы Смарг. 3. Разрасціся (пра ўсё, многае). *Макрэц паслаўся па картоплі.* Вецярэвічы Пух.

ПАСЛА'ЦЬ I *зак.* 1. Падрыхтаваць пасцель. *Яна пасцеля лошку і кладзецца спаць.* Солы Смарг. ∇ *Як пасцелеш, так і выспісся.* Малі Астр. 2. Падаслаць пад ногі. *Трапачку паслала ў парозе, каб ногі абціраць.* Саланое Віл. 3. Разаслаць (лён). *Пасцелім лён.* Кухты Віл. *Абілі, паслалі лён на лонку.* Канюкай Вільн.

ПАСЛА'ЦЬ II *зак.* 1. Выправіць. *Паслала набраць шчаўё.* Пляўбанцы Ашм. *Паслала дзеўку ў лес па ягады.* Кухты Віл. ∇ *Пашлі дурнога, а за ім другога трэба паслаць.* Малі Астр. *Ён цябе пашле туды, дзе радзіўся.* Латыгаль Віл. 2. Адправіць па пошце што-н. *Дзецям паслала пасылку.* Лісна В.-Дзв. *Як лішку зарабіў — дамоў не пашлеш, мусіш тут патраціць.* Рагулішкі Даўг.

ПАСЛЕ′ *гл.* ПО′СЛЕ

ПАСЛЕ′Д, ПАСЛЕ′Т, ПАСЛЯ′Т *м.*, ПАСЛЯ′ДЫ′ *мн.* Адходы пры малацьбе ці веянні. *Паслед астаецца пасля веяння.* Пацаўшчына Дзятл. *Само буйно зерне адлятало, мелка — паслет, астаецца пры мякіне. Паслет з аўса.* Малахоўцы Бар. *Жыта — першы сорт, а паслет адбіраюць свінням.* Кіралі Шчуч. *Паслят — азадлівае зярно.* Мсцібава Ваўк. *Ат травы астаюцца пасля́ды.* Курaполле Паст. *Пасляды́ астаюцца ад аўса. Самыя пасляды́ нічаго не вартыя, няхай курыцы пераграбуць.* Гемзы Шальч.

ПАСЛЕ′ДНІ *прым.* Апошні. *Паследні дзень апрэля.* Гемзы Шальч. *Ці ш гэта паследні дзень жывеш?* Малі Астр. *Паследняга кабана прадалі.* Гальшаны Ашм. *У бальніцу яна паследнімі сіламі ідзець.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *последний* 'тж'.

ПАСЛЕ′Й *прысл.* Пасля. *Унучка паслей прыехала, аблётаіць, абгледзіць усё, як тая пчала.* Курaполле Паст.

ПАСЛЕ′ПНУЦЬ *зак.* Аслепнуць. *Паслепла, ня віжу нічога.* Дакудава Лід.

ПАСЛІЖАВА′ЦЬ *зак.* Пашліфаваць. *Дзерава пасліжаваць трэба.* Рыбчына Віл.

ПАСЛІЗНУ′ЦЦА *зак.* Ацяліцца раней тэрміну. *Каб карова не паслізнулась, трэба нагаткаў даць.* Гемзы Шальч.

ПАСЛУГА′Ч *м. устар.* Слуга (у касцёле). *Паслугачоў было ў касцёлі многа.* Малі Астр.

ПАСЛУПЕ′ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Усе паслупелі, як я нябошчыка нёс.* Руднікі Шальч.

ПАСЛУХМЯ′НЫ *прым.* Паслухмяны. *І такой паслухмяны ён.* Саланое Віл.

ПАСЛУ′ШНЫ *прым.* Тое ж, што і п а с л у х м я́ н ы. *Паслушная дзіця, што скажаш, то і зробіць.* Кіралі Шчуч. *Ён у мяне паслушны.* Солы Смарг.; *парайн.* руск. *послушный* 'тж'.

ПАСЛУШЭ′НСТВА *н.* Паслухмянасць. *Пан прыказаў, каб за паслушэнства, што сам прышоў і лёг, дваццаць пяць удараў розкамі ізьням.* Анкуды Ашм.

ПАСЛЫ′ *мн.* Сваты. *Як буду жаніцца, то паслы прышлю да цябе.* Барок Стаўб.

ПАСЛЮ′ЗНУЦЬ *гл.* ПАЗЛЮ′ЗНУЦЬ

ПАСЛЯ′ *гл.* ПОСЛЕ′

ПАСЛЯ′Т *гл.* ПАСЛЕ′Д

ПА′СМА *ж. ткац.* Пасма (нітак). *Шаснаццаць пасам — шыракосць палатно, у пасме трыццаць нітак.* Кіралі Шчуч. *Пасма — трыццаць нітак.* Вялікія Баяры Шчуч., Малахоўцы Бар., Грыкені Вільн. *Пасма — трыццаць нітак.* Солы Смарг. *У пасмя трыццаць пар нітачак.* Магуны Паст. *Пасма — трыццаць шубоў.* Янова Рас. *Сколькі пасам, столькі і трацім нітак.* Крэва Смарг. *Сматры, чтобы пасма не сваліласъ.* Рагу-

лішкі Даўг. *Пасмы ў кроснах.* Беняконі Воран., Груздава Паст. *Губіца на даўжыню снуецца, і вяжуцца пасмы.* Лука Нараўк. *Пасмы перакладаюць, як снуюць кросны.* Рудня Астравітая Чэрв. *У пасмі маем трыццаць нітак. Ходнік тчэм з дзевяці пасам.* Баброўнікі Гарад. *Было бёрда ў пяць пасм.* Лісна В.-Дзв. *Талькі па дваццаць пасам, а пасма па дваццаць нітак, тры талькі — адзін кілаграм.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАСМАКАВА'ЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *Пасмакую суп.* Чычалі Швянч.

ПАСМАТРЭ'ЦЬ *зак.* Паглядзець. *Я яшчэ пасматру, можа, і куплю.* Кемялішкі Астр. *Можа, кніжкаў пасмотрыш.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* руск. *посмотреть* 'тж'.

ПАСМЕ'ЛІЦЬ *зак.* Пасмець. *Іна не пасмеліла дажэ языка разняць.* Мішневічы Шум.

ПАСМЕЯ'ЦІСА *зак.* Пасмяяцца. *Воны пасмяяліса з яе.* Гемзы Шальч.

ПАСМІ'ХА *м.* і *ж.* Насмешнік. *Ён такі пасміха — сам на сябе не глядзіць, а любіць другога падсміяць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАСМІХА'ЦЦА *зак.* Насміхацца. *Пасміхацца друг з друга.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПА'СМО *н.* 1. Тое ж, што і п а́ с м а. *Тры ніткі — чыслінка, іх трэбо дзесяць — гэто одно пасмо.* Стральцы Гродз. 2. Пасма валасоў. *Пасмо кос.* Горск Бяроз.

ПАСМЯ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Пасмагнуць. *Губы пасмяглі, як цемпература ці гарачка.* Альхоўцы Лях. 2. Пасохнуць. *Ягады пасмягнуць, пераспеюць.* Азяраны Раг.

ПАСНАТА' *ж.* Поснае. *Пасната была кругавая, бульбы зварыць у кіслі, рашчыніць мукі на сырой вадзе, і усё.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пасната пачалася.* Ёдлавічы Брасл.

ПАСНЕ'ДАЦЬ *зак.* Паесці раніцай. *Паснедалі да дзесятай гадзіны.* Крынкі Крын.

ПАСНЕ'ЙШАЕ *прым. выш.* Паснейшае. *У каторай каровы паснейшае малако?* Груздава Паст.

ПАСНО'ЎДАЦЬ *зак. экспр.* Пасланяцца. *Пасноўдаў і ідзець дамоў.* Кураполле Паст.

ПАСНУ'ЦЬ *зак.* Заснуць (пра ўсіх, многіх). *Хай мае дзеці паснуць.* Кухты Віл.

ПАСНЫ' *гл.* ПО'СНЫ

ПАСНЯКА'ЦЬ *зак.* Вычысціць нос. *Ня мог паснякаць, нос быў заложаны.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *siąkać* 'смаркацца'.

ПАСО'БІЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Чым бы табе пасобіць?* Галубы Маст. *Пасобіця мне выкінуць, бо я не выкіну сама.* Парэчча Гродз.

ПАСО'БІЯ *н.* Грашовая дапамога. *Пасобія палучыла.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *пособие* 'тж'.

ПАСО'ІЦЬ *зак.* Пакарміць дзіця грудзьмі. *Дзіця пасоіць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПА'СОК *м.* Тое ж, што і п а́ с а к 2. *Як джыгне мне паском по шыі.* Азарычы Пін.

ПАСО'КА *ж.* Свіная кроў. *Бульбачкі здзярэш сырой і круп дробненькіх усыпеш, і пасоку ўліеш, жыру дабавіш, у чараво налівай і ў печ стаў. Як заб'юць кабана, пасоку збіралі ў пасудзіну.* Саланое Віл. *Дайней варылі поліўку з пасокай.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *пасока* 'сок дрэва'.

ПАСО'ЛІШЧА, ПАСО'ЛІШЧО *н.* Тое ж, што і п а с а л е́ н я. *Пасолішча ў кучу згроб і панёс да ямы.* Галубы Маст. *Пасолішчо — лісты ад пасолі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАСО'ЛЬ *м.* Фасоля. *Благі пасоль. Мой пасоль гібнуў.* Саланое Віл.

ПАСО'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і п а с а л е́ н я. Рыбчына Віл. *Пасольнік зжалі.* Беразіно Докш.

ПАСО'ЛЬНІСКА *зб. н.* Тое ж, што і п а с а л е́ н я. *Пасольніска выносяць у хлеў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАСО'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і п а с о́ л ь. *Боб лушчаць і пасолю.* Кіралі Шчуч. *Пасоля, моркаў павысыпала.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАСО'НЧЫЦЬ *зак.* Працадзіць. *Нада ш пасончыць малако.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *sączyć* 'сачыць, цягнуць', *sączyć się* 'сачыцца'.

ПАСО'ПКУ *прысл.* Паасобку. *Разам жывяце ці пасопку?* Вецярэвічы Пух. *А яны пасопку ядуць.* Гемзы Шальч. *Трэба авечак пасціць пасопку.* Саланое Віл.

ПАСО'РАВАЦЬ *зак.* Заараць. *Па межах суніцы раслі, цяпер межы пасаравалі.* Рыбчына Віл.

ПАСО'РХЦІ *зак.* Пакрыцца намаразззю. *Зямля на ранку аш пасорхла, нейкая сівая стала.* Кіралі Шчуч.

ПАСО'ХНУЦЬ *зак.* Засохнуць (пра ўсё, многае). *Пойна дрэваў пасохла.* Солы Смарг.

ПАСО'ХЦІ *зак.* Тое ж, што і п а с о́ х н у ц ь. *Трава можэ пасохці і не так.* Азяраны Раг.

ПАСПАКАЙНЕ'ЦЬ *зак.* Стаць спакайнейшым. *Ён ветраны, цяпер аптушыўся, паспакайнеў.* Малі Астр.

ПАСПАСІ'БАВАЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Яна паспасібавала крэпка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Паспасібаваў, што я яму ўгадзіў, савет даў.* Лісна В.-Дзв. *Піражочык спяку і дам, іна паспасібаваіць.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *спасибо* 'дзякуй'.

ПАСПА'ЦЬ *зак.* Паспаць. *Пасплю і ўночы седзячы.* Саланое Віл.

ПАСПЕ'КАЦЦА *зак.* Пасохнуць ад спёкі. *Паспекаюцца буракі на градах.* Альхоўцы Лях.

ПАСПЕ'ШКА *ж.* Скараспелка. *У нас паспешка харошая.* Лісна В.-Дзв. *Паспешка — бульба, што садзіш рано.* Кемя-

лішкі Астр. *Паспешка добра разварваяцца.* Магуны Паст. *Паспешка, ды такая разваркая.* Крэва Смарг.

ПАСПЕ'ШНЫ *прым.* Спрытны. *Ён такі паспешны ў рабоце.* Ісерна Слуц.

ПАСПІЛІ'ЦЬ *зак.* Паспілоўваць. *Хазяіны сады паспілілі.* Скрыпчына Лудз.

ПАСПО'ЛЬКА *ж.* Рэчка, якая працякае праз поле. *Паспoлька — рэчка, што выцякае і ўпадае ў Нарву, паўз поле цячэ.* Лука Нараўк.

ПАСПО'РАВАЦЬ *незак.* Прыспешваць. *Паспоравай мяне карову даіць.* Альхоўка Навагр.

ПАСПО'РЫЦЬ *зак.* Паспрачацца. *Мы з ім паспорылі. Яны спорацъ пастаянна.* Кураполле Паст. *Мы паспорылі і памірыліся.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *поспорить* 'тж'.

ПАСПРАБАВА'ЦЬ *зак.* Папрабаваць. *Узяў адно зерне і паспрабавай на зубы, ці сухое.* Гемзы Шальч.

ПАСПРА'ТАВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а п р а́ т а ц ь 2. *Я быстра комнаты паспратаю.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *posprzątać* 'прыбраць'.

ПАСПРАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Накупляць. *Яна ўбралася, адзежу паспраўляла.* Асавец Віл. *Паспраўляла і каўры.* Кураполле Паст.

ПАСПУШЧА'ЦЬ *зак.* Апусціць (пра ўсіх, многіх). *Стаяць яны, вочы паспушчалі.* Саланое Віл.

ПАСПЫТА'ЦЬ, ПАСПУТА'ЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *Асмакавалася, мукі паспытала.* Азяраны Раг. *На, алатку паспытай.* Лапічы Асіп. *Калі зварыўся суп, баба паспытала.* Паплавы Бярэз. *Хто хоча, хай ідзе на лазбіны мёду паспытаць.* Солы Смарг. *Паспутай трохі баршча.* Пасека Ст.-Дар.

ПАСПЯВА'ЦЬ *зак.* Магчы паспяваць (гаварыць). *Ён як выпіць, не паспяваіць па-літоўску гаварыць.* Ёдлавічы Брасл.

ПАСПЯШНЫ' *прым.* Ранні. *Паспяшная капуста расце.* Дакудава Лід.

ПАССА'ЦІ *зак.* Пассаць. *Парасята пассаці хочут.* Гемзы Шальч.

ПА'СТА *ж.* 1. Паша. *Пастыр ганяў кароў на пасту.* Жодзішкі Смарг. *На пасці была карова.* Ухвала Круп. *На пасту гнаць абула лапці.* Валынцы В.-Дзв. *Пагнаў кароў на пасту.* Мачаск Бярэз. 2. Чарга пасціць жывёлу. *Рат, што пасту адбыў.* Ністанішкі Смарг. *Паста патпадзець, нада ў поле гнаць кароў.* Груздава Паст. *За пасту палучаюць многа.* Малахоўцы Бар.

ПАСТА'ВІЦЦА *зак.* Арганізавацца. *А як калгас паставіўся, дык я і сюды.* Якшыцы Бярэз.

ПАСТА'ВІЦЬ *зак.* 1. Пабудаваць. *Трэба хату новую паставіць.* Кіралі Шчуч., Лісна В.-Дзв. *Паставілі хату ўжо не так лоўко.* Крынкі Крын. *Ні магла хаткі паставіць.* Курапол-

ле Паст. *Трэба паставіць новую хату, бо ўжо старая хата.* Ліпнікі Вільн. *Хлява паставіў.* Дзяніскавічы Ганц. *Хлявы паставілі.* Парэчча Гродз. *Трэба было за колькі часу гэну царкву паставіць.* Івашкаўцы Смарг. 2. Назначыць на пасаду. *Яе ўчылі за агранома, а паставілі за брыгадзіра.* Асавец Віл. *Паставяць яга прадсядацялям.* Груздава Паст. *Служыць сястру паставілі к рускім, а міне к латышам.* Індра Красл. *Бронюся паставілі брыгадзірам.* Ністанішкі Смарг. 3. Натапырыць. *Сабака паставіў шэрсць.* Вецярэвічы Пух. 4. Даць адпачыць. *Гараў валамі дзядук і паставіў валы аддыхнуць.* Грыкені Вільн. 5. Падаць на стол. *Частавала ўсім, так масла паставя, так сыр паставя.* Лоск Валож. 6. Аддзякаваць чым-н. *Панок, я пастаўлю бутэльку, не хачу дарам.* Гемзы Шальч. 7. Змясціць куды-н. *Яны коні паставілі ў гумно.* Ахрэмаўцы Брасл. 8. Пакласці на што-н. *Паставіў салядэру ў ракеты сушыцца.* Жылі Іўеў. 9. Узвесці (помнік). *Палеглым памятнік паставілі.* Латыгаль Віл. ◊ *Паставіць на сваім* — дабіцца свайго. *Усё роўна яна паставіць на сваім.* Саланое Віл.

ПАСТАВЫ′ *прым. рэліг.* Пасніцкі. *За тыдзень перад вялікадням — вербная нядзеля, гэта паставое свята.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАСТАЛАВА′ЦЦА *зак.* Паесці. *Пасталаваліся на краі сяла.* Вецярэвічы Пух.

ПАСТАЛЕ′ЦЬ *зак.* Стаць дарослым. *Каторыя пасталеюць дзяўчыны, то і трудна.* Гемзы Шальч.

ПАСТАЛЫ′, ПАСТАЛЭ′, ПОСТОЛЫ′ *мн. устар.* Лапці. *Пасталы з ліповай кары плялі і сукном потшывалі.* Мсцібава Ваўк. *Калісьці хадзілі ў пасталах.* Навасёлкі Свісл. *Каліcь хадзілі ў пасталох.* Парэчча Гродз. *Пасталы — лапці, у Латвіі так называюць.* Саланое Віл. *Некалі пасталэ шылі з рамено.* Галубы Маст. *Я пасталэ плёў.* Крынкі Крын. *Постолы — лапці, што з лозы плетуць.* Хатынічы Ганц. *Колісь ходзілі ў постолах, плелі постолы з лозы.* Смаляніца Пруж. *Свободно ў постолах.* Азарычы Пін. *Тэпэр постолуов ніхто нэ обувае.* Курашэва Чыж.

ПАСТАНАВІ′ЦЬ *зак.* Паставіць. *Я ваду пастанавіла ў печ.* Стральцы Гродз.

ПАСТАНО′ЎКА *ж.* Падстаўка. *У матавідлу дзве пастаноўкі.* Магуны Паст.

ПА′СТАР, ПА′СТЫР, ПА′СТЭР, ПАСЦІ′Р *м. устар.* Пастух. *Пастара ў дзярэўню бяруць.* Валынцы В.-Дзв. *Пастара па чарадзе кармілі, адзявалі тожа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Адзін гот пастар утапіўся.* Янова Рас. *Пастара нанімалі, пастар устаець і трубіць, а мы — прыпаскі.* Ёдлавічы Брасл. *Пастыр ганяе ў поле на пашу.* Рыбчына Віл. *Пастыр іх агледзіў, тых кароў.* Латыгаль Віл. *У нас быў раней пастыр, ён старшы, яму памагалі пастухі.* Асавец Віл. *Пасвіў пастыр каровы.* Крэва

Смарг. *Пастыр — хто кароў пасвіць. Сходзі да пастыра і скажы, што яму падпасавіча зиашлі.* Беразіно Докш. *Пастыр стары, а пастух малады. Ён пабуджая рашком. Пастыр і скердзь — тожа самае.* Старыя Трокі Трак. *Пастыр быў каровячы, авечы, свінны.* Альхоўка Навагр. *Пастыр жэне стадо.* Смаляніца Пруж. *Пастыр затрубіць у трубу, і бабы на ногі.* Малькуны Ігн. *Пастыр пасець кароў.* Плябанцы Ашм. *Пастыр быдла ганяў.* Малі Астр. *Пастыр пас наш скот.* Кураполле Паст. *Як пастыры былі: выйдзіць на вуліцу і трубіць, каб выганялі кароў.* Груздава Паст. *Пастыра наймалі, бедны чалавек ішоў за пастыра. Пастыр быў і хлопцы былі пастухі.* Ракаўскія Швянч. *Пастыра згаджалі, а памагалі па калейцы.* Крэва Смарг. *Нанімалі пастыра, а падпасак хадзіў па вочарадзі.* Рыбчына Віл. *Ля кароў пастыр.* Ністанішкі Смарг. *Пастыру пастухі памагалі.* Быстрыца Астр. *Трэба пастыру лусту даваць.* Саланое Віл. *Галоўнага пастуха пастэр называлі.* Кудзялянцы Шальч. *Пасцір — як стары, а так пастух.* Гемзы Шальч.

ПА'СТАРАВЫ, ПАСТЫРО'ВЫ *прым.* Які належыць пастуху. *Пастарава торба.* Мярэцкія Глыб. *Пастырова труба.* Саланое Віл.

ПА-СТАРАДРЭ'ЎНЕМУ *прысл.* Па-старому. *Па-старадрэўнему гаворапь, што некалі лясы былі страшныя.* Падлессе Лях.

ПАСТАРАНІ'ЦЦА *зак.* Саступіць убок. *Троху пастаранецеся, мне трэбо саган паставіць.* Мсцібава Ваўк.

ПА'СТАРАНКІ *гл.* ПАСТРО'НКІ

ПА-СТАРАСВЕ'ЦКУ *прысл.* Тое ж, што і п а - с т а р а д р э́ ў н е м у. *Я гавару па-старасвецку.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Па-старасвецку так піялі гэту песню.* Пярэкі В.-Дзв.

ПА'СТАРКА, ПА'СТЫРКА *ж.* Пастушка. *Я ні была за пастарку.* Валынцы В.-Дзв. *Пастырка была галаўнейшая.* Ністанішкі Смарг.

ПАСТАРНА'К *м.* Галоўны корань яблыні. *Пастарнак пайшоў у зямлю, яблыня яблыкаў не дае.* Мачаск Бярэз.

ПАСТАРУ'НАК *м.* Пост. *Быў тут міліцэйскі пастарунак.* Альхоўцы Лях., Кураполле Паст. *Нідалёка быў пастарунак, там дзяжурылі.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* польск. *posterunek* 'тж'.

ПАСТАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Пабудаваць. *Пастаўляць хаты.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Направіць. *Пастаўлялі сохі з віламі.* Гемзы Шальч.

ПАСТАЎНІ'К *м.* Загон. Быстрыца Астр. *За дзедам* [пры жыцці] *пастаўнік выгараджаны аш да рэчкі быў.* Жылі Іўеў. *Там каровы пасцілі, і там пастаўнік быў.* Кураполле Паст.

ПАСТА'ЦІЯ *ж.* Постаць. *Яго пастація стаіць у мяне ў вачах.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *postać* 'тж'.

ПАСТА́ЦЬ I *ж.* Паласа, якую займае жняя ў час жніва. *Ты заняла бальшую пастаць, не сажнеш.* Мішневічы Шум.

ПАСТА́ЦЬ II *зак.* 1. Натапырыцца. *У сабакі пастала шэрсць на хрыпце.* Рыбчына Віл. 2. Утварыцца. *Дошч вялікі, аш лужыны пасталі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАСТАЯ́ЛКА, ПАСТОЯ́ЛКА *ж.* 1. Смятанка. *Можа вам уліць пастаялкі, яна окропне смашна?* Гемзы Шальч. *Пастаялку зняла з банкі.* Паляцкішкі Воран. *Малако пастаіць, зверху атстаіцца малодзенькая смятанка — гэта пастаялка. Стакан пастаялкі выпіў. Пастаялка — первая лякарства ад абжога.* Солы Смарг. *Пастоялка — салотка смятанка.* Дакудава Лід., Старыя Смільгіні Воран. *Пастоялкі выпіў.* Нізок Уздз. 2. Малако, якое пастаяла некалькі гадзін пасля даення. *Я ш забяліла пастаялкай.* Крэва Смарг.

ПАСТАЯ́НЦЫ *мн.* Пастаянныя рабочыя. *Пастаянцы лес вазілі.* Азяраны Раг.

ПА́СТВА *ж.* Тое ж, што і п а́ с т а 1. *Гонім кароў на пастваа.* Янова Рас. *З паствы свінні бягуць.* Беразіно Докш.

ПА́СТКА *ж.* Мышалоўка. *Пасткі для мышэй ставяць.* Лісна В.-Дзв. *Пасткамі лавілі пацукоў.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Папаўся, як мыш у пастку.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *spąstai* 'тж'.

ПАСТО́Й *м.* Тое ж, што і п а с т а ў н і к. *Пастой — место на пасвіску, стада на пастою.* Воўкуш Ліпск.

ПАСТОЯ́ЛКА *гл.* ПАСТАЯ́ЛКА

ПАСТРАЛЯ́ЦЬ *зак.* Расстраляць (усіх, многіх). *Немцы іх пастралялі.* Саланое Віл.

ПАСТРАМІ́ЦЦА *зак.* Пасаромецца. *Хай і яна пастраміцца, брыдко ёй будзе.* Пасека Ст.-Дар. *Я пастрамілася пасціць, служыць пашла.* Старыя Трокі Трак.

ПАСТРАМІ́ЦЬ *зак.* Застраміць. *Можна рукі пастраміць кастрыцаю, як матаеш ніткі.* Кіралі Шчуч. *Пастраміла пальцы асотам.* Кудзялянцы Шальч.

ПАСТРАШЭ́НСТВА *н.* Застрашванне. *Людзям нада якое пастрашэнства даваць, бо людзі распусціліся ў боскі кій.* Ёплавічы Брасл.

ПАСТРО́ІЦЬ, ПОСТРО́ІЦЬ *зак.* 1. Пабудаваць. *Я купіў стары свіран і пастроіў кузню.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каб я мела золата, я б пастроіла камяніцу.* Дзераўное Стаўб. 2. Направіць. *Трэба пастроіць плух, барану.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плух трэба несці да каваля і пастроіць.* Кіралі Шчуч. *Пастроіў студзент часэ.* Вецярэвічы Пух. *Усё пастрою сама, і сапажкі, і ўсё астатняе.* Пасека Ст.-Дар. *Трэба построіць колёсы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Прыгатаваць ежу. *Вечне некалі, нада пастроіць цялушцы.* Курапалле Паст. *Пастрой ты мне абедаць.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *построить* 'пабудаваць'.

ПАСТРО'ЙКА *ж.* Пабудова. *Атышла іна ат пастройкі.* Пасіеңе Лудз.; *парайн.* руск. *постройка* 'тж'.

ПАСТРО'НКІ, ПАСТРО'НЬКІ, ПАСТРО'МКІ, ПА'СТАРАНКІ *мн.* Пастронкі. *Пастронкі віе с канапель.* Альхоўцы Лях. *Пастронкі ў варомым хамуце.* Валынцы В.-Дзв. *З валакна рабілі лейцы, пастронкі.* Галубы Маст. *У нас гаворань пастронкі, гужэ ў хамуце.* Малахоўцы Бар. *Як каня ў плух запрагаюць, да брункты пастронкі прычэпляюць.* Кемялішкі Астр. *Пастронкі на каня.* Жодзішкі Смарг., Рагулішкі Даўг. *У аровага каня — пастронкі, у яжджомага — ужы.* Быстрыца Астр. *Пастронкі араць, гужы да хамута.* Крэва Смарг. *Пастронькі, як аруць.* Грыкені Вільн. *Пастромкі — кагда запрагаеш лошадзь.* Навікі Лудз. *Пахавай пастаранкі, залезныя і верайчаныя.* Магуны Паст.

ПАСТРЫ'Ч *зак.* Парэзаць на палоскі. *Пастрыгла паперу на касніkі.* Гемзы Шальч.

ПАСТУ'КАЦЦА *зак.* Чокнуцца. *Пастукаемся чаркамі.* Азяраны Раг.

ПАСТУ'МАНТ, ПАСТУ'МЭНТ *м.* 1. Каркас (плуга, калаўрота). *Пад нізом плуга — пастумант.* Гемзы Шальч. *Пастумант астайся, каладке папэнкалі, спіцы выпадаюць, вобад, праўдо, цэлы.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Аснова печы. *У яго печ пастаўлена на пастуманце.* Гемзы Шальч. 3. Пастамент. *Стаіць на пастумэнце.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *postument* 'пастамент'.

ПАСТУПІ'ЦЦА *зак.* Пасунуцца. *Пастуліся на лаўку, я сціраць буду.* Граўжышкі Ашм.

ПАСТУПІ'ЦЬ *зак.* 1. Уладкавацца. *Яна была пастуліла піва прадаваць.* Гемзы Шальч. 2. Пастуліць. *Пастуліў учыцца за слесара.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Уступіць. *У калхоз пастулілі са старыком.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *поступить* 'тж'.

ПАСТУ'Х *м.* Пастух. *Падпасак памагае пастуху.* Рагулішкі Даўг. *Пастух авечы, конскі і кароўскі.* Старое Сяло Зэльв. *Пастух дапамагая пастыру.* Рыбчына Віл. *Пастух пасе кароў.* Дакудава Лід., Пасека Ст.-Дар. *Пастух пасвіў быдла.* Кіралі Шчуч. *Цяпер пастуха трудней найсці, як пісара, ні хочуць іці за пастуха.* Азяраны Раг. *Мы пастуха згадзілі.* Парэчча Гродз. ∇ *Пастухова хата ня крыта.* Кураполле Паст.

ПАСТУ'ШАЧКА *ж. заал.* Пліска. *Як пасём каровы, пастушачка насупраць круціцца.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАСТУ'ШКА *ж.* Пастушка. *Я за пастушку была ў яго.* Малі Астр.

ПАСТЫДА'ЦЦА *зак.* Пасаромецца. *Пастыдайся ты людзей.* Лісна В.-Дзв.

ПА'СТЫР *гл.* ПА'СТАР

ПАСТЫРА'НКА *ж.* Пастухова пуга. *Стафук даў пасты-*

*ранку. Пастух спляце з лазы пастыранку.* Магуны Паст.

ПА'СТЫРКА *гл.* ПА'СТАРКА

ПАСТЫРО'ВЫ *гл.* ПА'СТАРАВЫ

ПА'СТЭР *гл.* ПА'СТАР

ПАСУ'ДА *ж.* Посуд. *Трэба пасуду памыць.* Кіралі Шчуч. *Пасуда — ложкі і латушкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАСУ'ДАК *м.* Тое ж, што і пасу́да. *Усё разам: міскі, талеркі называюцца пасудак.* Малахоўцы Бар. *Пасудак трэба памыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАСУДЗІ'ЦЬ *зак.* Асудзіць. *Яго пасудзілі.* Мішневічы Шум.

ПАСУ'ДЗЯ *зб. н.* Драўляны посуд. *Бондар рабіў пасудзя.* Дакудава Лід.

ПАСУ'ДНІК *м.* Паліца, куды ставяць пасуду. *Пасуднік гразны.* Груздава Паст.

ПАСУЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Прапанаваць паесці. *Я яму пасуліў есці, ён ня еў.* Рудня Чэрв. *Будзіць дзень сідзець чалавек — не пасуліць есці.* Саланое Віл. *Пасулі яму што з'есці.* Солы Смарг. *Кукшыну і сала, і сліўкі, а гэтаму і есці не пасуліць.* Лісна В.-Дзв. *Не пайду да цябе, ты не пасуліш гарэлкі.* Ністанішкі Смарг. *Пасуліла яму есь, а ён ня еў.* Валынцы В.-Дзв. *Ён мне есці пасуліў, ды не даў.* Рыбчына Віл. 2. Паабяцаць. *Я яму пасуліў пазычыць грошы.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Прапанаваць большую цану. *Я карову купляла, а другі падышоў і пасуліў шмат боляй.* Гемзы Шальч.

ПАСУЛО'ТАЦЦА *зак. экспр.* Запэцкацца. *Пасулоталіся дзеці ў гразі.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *sulótis* 'сачыцца'.

ПАСУЛО'ТАЦЬ *зак.* 1. Палізаць. *Карова карманы пасулотала.* Кураполле Паст. 2. *перан.* Зрабіць абы-як. *Пасулотала троху і папаласкала.* Кураполле Паст.

ПАСУ'НУЦЦА *зак. перан. экспр.* Пайсці. *Яна пасунулася дахаты.* Малі Астр.

ПАСУ'НУЦЬ *зак. перан. экспр.* Пайсці. *І дзікі падалі ў вокна, вады захоча і пасуня туды.* Кузьмічы Люб.

ПА-СУСЕ'ЦКІ *прысл.* Па-суседску. *Жыў ён па-сусецкі.* Альхоўцы Лях.

ПА-СУСЕ'ЦТВУ *прысл.* Тое ж, што і па-сусе́цкі. *Пасусецтву ён жыве.* Пярэкі В.-Дзв.

ПА'СУХА *ж.* Засуха. *Такая пасуха была, што ніц нэ росло.* Курашэва Чыж.

ПАСУЧЕ' *прысл.* Пасучы. *Учора пасуче разбірала клубкі.* Вецярэвічы Пух.

ПА'СУШ *м.* Няскошаная, засохлая трава. *Пасуш сохня на пні.* Азяраны Раг.

ПА'СХА *ж. рэліг.* Вялікдзень. *На пасху пірагі пяклі, яйцы красілі.* Ухвала Круп.

ПАСХВА'ТВАЦЦА *зак. мед.* Высыпаць (аб прышчах). *Пасхватваліся прышчаткі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАСХНУ'ЦЬ *зак.* Пасохнуць. *У азяродах пасхнуць снапы.* Кузьмічы Люб. *У печы дрэвы пасхлі.* Гарэлец Пух.

ПАСХО'ВАНЫ *дзеепрым.* Пахаваны. *Майго дзеда бацькі пасхованыя тут.* Нізок Уздз.

ПАСХО'ДЗІЦЬ *зак.* Паўзыходзіць. *Ні пасходзілі гуркі, пачалі сходзіць, як дошч прайшоў.* Навасёлкі Свісл.

ПАСЦЕ'ЛІШЧА *н.* Тое ж, што і п а с л а́ н е. Рыбчына Віл.

ПАСЦЕ'ЛКА *ж.* Посцілка. *Пасцелка свае работы, на ёй спалі.* Лапічы Асіп.

ПАСЦЕ'ЛЬ I *ж.* Пасланы ложак. *На пасцелю залегла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Лягла спаць на пасцель, дык жа разбудзілі.* Опса Брасл. *Спаць на пасцелі.* Якубова Рас. ◊ *Боская пасцель* — смяротнае ложа. *Ляжаў на боскай пасцелі.* Малі Астр.; *гл.* б о́ ж а я п а с ц е́ л ь.

ПАСЦЕ'ЛЬ II *ж.* 1. Тое ж, што і п а с а́ д 1. *Змалацілі дзве пасцелі.* Азяраны Раг. *Пасцель слалі і цапамі малацілі.* Валынцы В.-Дзв. *До дня вымалацілі дзве пасцелі.* Груздава Паст. *З восіці тры-чатыры пасцелі выходзіла.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Разасланае валакно, падрыхтаванае для скручвання ў кудзелю. *Раскалачвалі верацяном ізрэб'я і рабілі пасцель, круцілі кудзелю.* Вецярэвічы Пух. *З пасцелі круцілі кудзелю.* Кіралі Шчуч. 3. Месца ў хляве, дзе ляжыць карова. *Гуньку бралі, каб травы прынесці, саломы падграпці ў пасцель карове.* Груздава Паст.

ПАСЦЕ'ЛЬ III *ж. анат.* Паслед. *Пасцель выходзіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ужо карова шчысцілася, пасцель вышла.* Кіралі Шчуч. *Бабка пасцель даставала.* Жылі Іўеў. *Пасцель у каровы вышла.* Дакудава Лід. *Карова шчысцілася, вышла пасцель.* Быстрыца Астр. *У каровы пасцель вышла, як ацялілася.* Малахоўцы Бар. *Пасцель выходзіць у каровы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ужо пасцель у цялухі вышла.* Саланое Віл. *Нада пільнаваць пасцель, пакуль шчысціцца карова.* Гемзы Шальч. *Пасцель вышла, шчысцілася карова.* Альхоўцы Лях., Пацаўшчына Дзятл. *Ціляча пасцель вышла.* Чуркі Ашм.

ПАСЦЕ'ЛЬ IV *ж.* Суцэльны слой сала з усёй тушы. *Як разбярэ кабана, павымая косці, астаецца пасцель, як сала рэжуць на палосы, а палосы на кускі, большыя ці малыя, як нада.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАСЦЕ'ЛЬКА *ж. памянш.* да п а с ц е́ л ь III. *Месца ў каровы — пасцелька.* Рыбчына Віл.

ПАСЦЕ'ЛЬНІК *м.* Дашчаны насціл у возе, санях. *Пасцельнік на калёсах і санях.* Рыбчына Віл.

ПАСЦЕ'ЛЯ I *ж.* Тое ж, што і п а с ц е́ л ь I. *Пайду пасцелю сцяліць.* Саланое Віл.

ПАСЦЕ́ЛЯ II *ж.* Тое ж, што і пасцéль III. *Пасцеля пашла, карова шчысцілася.* Мярэцкія Глыб.

ПАСЦЕ́ПАЦЬ *зак.* Пакляпаць (касу). *Пасцепаць касу нада.* Беразіно Докш.

ПАСЦЁБАЦЬ, ПАСЦІБА́ЦЬ, ПАСЦЯБА́ЦЬ *зак.* 1. Пасцябаць. *Такі благі, віткай пасцёбала. Матка пасцёбала віткай, каб па дарозя ня ездзіў.* Ракаўскія Швянч. *Вітачкай нада яго пасцібаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Павастрыць. *Пасцёбай касу.* Глівін Барыс. *Сцябачкай пасцябаў касу.* Жодзішкі Смарг.

ПАСЦЁГВАЦЬ *зак.* Пасцягваць. *Усё пасцёгвалі ў кучу.* Малахоўцы Бар.

ПАСЦЁНКА *ж.* Мата. *Віш расце ў лесі, мяхкі такі, шчоткі з яго рабілі і пасцёнкі. Пасцёнкамі дзверы абівалі, ці вешалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАСЦІ́ I *зак.* 1. Упасці. *Снег ідзець, падае, дзе ш ён дзеніцца, падзець.* Палік Барыс. 2. Захварэць. *Грыпа пала на плуцы.* Магуны Паст. *Ёй пала на лёхкія.* Рагулішкі Даўг.

ПАСЦІ́ II *незак.* Тое ж, што і пáсціць 1. *Ізноў подзяш пасці, як учора.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я гусей пасла.* Пасіене Лудз. *Не пасі на канюшыне, карова абадзмецца.* Саланое Віл.

ПАСЦІЛА́ЦЦА *зак.* Слаць, падсцілацца. *Пасцілаліся дзярушкамі.* Дакудава Лід.

ПАСЦІ́ЛКА *гл.* ПО́СЦІЛКА

ПАСЦІНА́ЦЬ *зак.* Пазразаць. *Нядобра скасіў, толькі вяршкі пасцінаў.* Рыбчына Віл. *Трэба клыкі пасцінаць парасятам, каб свінню не кусалі.* Мсцібава Ваўк. *Пасцінала зелля.* Галубы Маст.

ПАСЦІ́Р *гл.* ПА́СТАР

ПА́СЦІСЯ *зак.* Кінуцца. *Сабака паўся да старой.* Старыя Смільгіні Воран.

ПА́СЦІЦЦА *зак.* Пасвіцца. *Каровы пасуцца.* Паляцкішкі Воран., Груздава Паст.

ПА́СЦІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і пáсвіць. *З арміі прышоўшы, узяўся пасціць каровы.* Кураполле Паст. *Трэба пасціць каровы.* Кемялішкі Астр. *Нам выгада пасціць кароў.* Магуны Паст. *Ідзёт пасціць кароў.* Рагулішкі Даўг. *Буду пасціць пылянята.* Вецярэвічы Пух. *Свіні пасціла.* Канюкай Вільн. *Пасціў карову.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як ён пасець кароў, ніхто не заменіць.* Кемялішкі Астр. *Не пасціў карову.* Саланое Віл. *Мальчык пасець кароў.* Ёдлавічы Брасл. *Кароў пасцілі.* Магуны Паст. *Пасцілі кароў на гэтым сенакосе, а цяпер яго ўзаралі, сеюць.* Паложына Бярэз. *Пасцілі ад самай пасхі.* Старыя Трокі Трак. *Пасцілі кароў на папары.* Быстрыца Астр. *Маладняк пасцяць пастухі.* Асавец Віл. *Там*

*выган, пасцюць карой.* Беразіно Докш. 2. *перан.* Пільнаваць. *Ён уцёк, а партызаны яго пасуць.* Альхоўка Навагр.

ПАСЦІ'ЦЬ, ПО'СЦІЦЬ *зак. рэліг.* Устрымліваццa ад скаромнай ежы. *Я пашчу ў пятніцу, суботу і сараду.* Ахрэмаўцы Брасл. *Калісь больш пасцілі.* Стральцы Шальч. *Пасты пасцілі, а малако злівалі ў цэбар. Выпасцяць увесь пост.* Саланое Віл. *Дайней пасцілі посты.* Ёдлавічы Брасл. *Перад калядамі шэсць нядзель пасцяць, перад вялікаднем — сем нядзель, піліпаўскі пост яшчэ і вялікодны.* Рыбчына Віл. *Яны больш посцяць як мы.* Паляцкішкі Воран. *Мы посцілі без мяса.* Мсцібава Ваўк.

ПА'СЦЯ *ж.* Пасьба. *З ёй я на пасця была.* Груздава Паст.

ПАСЦЯБА'ЦЬ *гл.* ПАСЦЁБАЦЬ

ПАСЦЯКА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца кволым. *Гуркі ў зеллі пасцякалі.* Пасека Ст.-Дар.

ПАСЦЯЛІ'ЦЬ *зак.* Рассцяліць (лён). *Лён пасцяліла на Паддзічы* [урочышчы]. Рыбчына Віл.

ПАСЫ' *мн.* 1. Узоры на тканіне. *Ткала дыван у пасы.* Рудня Чэрв., Старыя Трокі Трак. *Кашуля ў адны пасы.* Груздава Паст. *У пасы шылі спадніцы.* Крэва Смарг. 2. Палатняныя рамяні. *Пасы мушчызны насілі і на што дзень.* Старыя Трокі Трак. 3. Вузкія палоскі з кары, тканіны. *Шмат вускіх пасоў надраў.* Солы Смарг. 4. *плыт.* Плыт. *Пасы доўгія, на кіламетр, як адсюль да кароўніка.* Мсцібава Ваўк.

ПА'СЫН *м.* Парастак. *Каля пня многа пасынаў парасло.* Пасека Ст.-Дар.

ПА'СЫНАК *м.*, ПА'СЫНКІ, ПА'СЫНЬКІ *мн.* 1. Няродны сын. *Пасынка мачыха атлупіць, самы гаратнік бываіць.* Ёдлавічы Брасл. *Малы астаўся пасынкам.* Гемзы Шальч. *Пасынак — няродны сын.* Рыбчына Віл., Багушэвічы Бярэз., Мярэцкія Глыб. *Мачыха выгадавала пасынка.* Кіралі Шчуч. *Пасынак — гето ўже як мачаха прыдзе, а ў яго есць сын, то той мачасе прыходзіцца ўжэ пасынак.* Баброўнікі Гарад. *Пасынак з ёю жыве.* Солы Смарг. 2. Тое ж, што і па́сын. *Трэба было зрэзаці маладога пасынка і пасадзіць.* Смалянііца Пруж. *Пасынкі як паўзунэ ат клубнікі пашлі, іх трэба абрываць.* Вецярэвічы Пух. *Як высадкі пасадзім раччэй, то разрастаюцца ў пасынкі.* Мсцібава Ваўк. *Дуб пасынкаў не пускае, ён з кораня не расце.* Вецярэвічы Пух. *Пасынкі адраслі.* Дакудава Лід. *Пасынькі папускала дзерава.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Адростак ро́га ў лася. *У лася рогі з пасынкамі, у год адзін выростая.* Вецярэвічы Пух.

ПА'СЫНКАВАЦЬ *незак.* Пікіраваць. *Ты пасынкавала бураке?* Вялікія Баяры Шчуч.

ПА'СЫННЕ *зб. н.* Параснік. *На дзялянках парасьля, а*

*еслі пабольшало, метры два — пасынне; а патом зарасля.* Пасека Ст.-Дар.

ПА'СЫНЬКІ *гл.* ПА'СЫНАК

ПАСЫПА'ЦЬ *зак.* Рассцілаць. *Аерам пасыпаюць па хаці.* Солы Смарг.

ПАСЫ'ПКА *ж.* Вотруб'е. *Пасыпкі для свіней дастаў бы.* Мішневічы Шум.

ПАСЫ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Пасыпаны. *Сахарам пасыплены.* Крэва Смарг.

ПАСЫРВА'ЦЬ *зак.* Пазрываць. *Сільна бура была, пасырвала ветрам увесь цвет прама з галлём.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАСЫ'СКАВАЦЬ *зак.* Пазнаходзіць. *Пашоў да суседзяў, пакуль усё пасыскаваў, у каго аброць, у каго хамут — усё параздавана.* Саланое Віл.

ПАСЬ *ж.* Пашча. *Пась звіря.* Мішневічы Шум.

ПА'СЬБІСКА *н.* Тое ж, што і п á с т а 1. *На пасьбіска пагнаў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *pastwisko* 'тж'.

ПА'СЬБІШЧА *н.* Тое ж, што і п á с т а 1. *Кароў пасуць на пасьбішчы.* Гемзы Шальч.

ПАСЬКАПА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а с к і п á ц ц а. *Ногі паськапаліся.* Рыбчына Віл.

ПАСЯДА'ЦЬ *зак.* Паасядаць. *Пасядалі другія, тыя паехалі да Польскі.* Грыкені Вільн.

ПАСЯДЗЕ'НЯ *н.* Пасяджэнне. *Трэба ісці на пасядзеня.* Гемзы Шальч.

ПАСЯДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пасядзець. *Заедзімця да аграномкі ў хату ды пасядзём.* Лісна В.-Дзв. *Пасядзіма тут.* Рудня Чэрв. *Пасядзіця і пагаманіця што-небудзь.* Лайпушкі Ігн. *Пасядзімо і пагаворымо.* Парэчча Гродз.

ПАСЯ'К *м.* Посцілка, вытканая ў шырокія палосы. *Пасякі выткала.* Лука Нараўк. *Пасякі — набіванкі ў пасы.* Солы Смарг.

ПА'СЯКА *ж.* Пасека. *Пасяка — дзе дзялянку раскарчуюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пасяка — тое, што выкарчавана.* Дакудава Лід. *Пасяка — выкарчаваны лес.* Солы Смарг.

ПАСЯКА'ЦЬ *зак.* Парэзаць на дробныя кавалкі. *Вантрабянкі рабілі: выбяруць нутры, звараць і пасякае вантробкі: сэрца, пячанкі, усё ў кішкі і печ.* Старыя Трокі Трак.

ПАСЯКІ' *мн.* Тое ж, што і п á с а к 4. *Дыван тканы ў пасякі.* Мсцібава Ваўк.

ПАСЯЛДА' *м.* і *ж.* *зневаж.* Тое ж, што і п а с а л ý х а. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАСЯЛЕ'НЕЦ *м.* Тое ж, што і п а с а л ý х а. *Пасяленец ходзіць па хатах.* Груздава Паст.

ПАСЯЛЕ'НЬ *м.* і *ж.* Тое ж, што і п а с а л ý х а. *Пайшла*

*рана па хатах, пасялень, а не баба.* Беразіно Докш. *Вочы яшчэ не прадзёр, а ўжо цягнецца да суседзяў пасялень гэты.* Ухвала Круп. *Ідзі лепей ногі памый, а то лазіш па хатах, пасялень ты!* Мачаск Бярэз.

ПАСЯЛО'К *м.* Пасёлак. *Пашлі людзі ў пасялкі.* Ракаўскія Швянч. *Па пасялку жылі.* Паляцкішкі Воран.

ПАСЯЛУ'Н *м.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пасялун — хто часта бегае па сяле.* Вострава Маст.

ПАСЯЛУ'ХА *гл.* ПАСАЛУ'ХА

ПАСЯЛУ'ШКА *ж. памянш.* да п а с а л у́ х а. *Пасялушка на сяло любіць хадзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАСЯЛУ'ШНІЦА *ж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. Рыбчына Віл. *Пасялушніца ходзіць па хатах.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПА'СЯРАБАК *м.* Пасынак. *Пасярабак — ні аднаго бацькі ці ні адной маці.* Быстрыца Астр.

ПА'СЯРБІЦА *ж.* Падчарыца. *Пасярбіца — няродная дзеўка.* Быстрыца Астр. *Пасярбіца жыве ў Вільні. Мая пасярбіца.* Старыя Трокі Трак. *Пасярбіца ёсь у мяне.* Малькуны Ігн.

ПАСЯРО'ДКУ, ПАСЯРО'ДКІ *прысл.* Пасярэдзіне. *Гэты корань паміж вілачак выдзяўбаеш пасяродку.* Касцюкі Уздз. *Пасяродкі была калодка, дзве папярэчкі.* Старыя Трокі Трак.

ПАСЯРЭ'ДНЯ *прысл.* Усярэдзіне. *Творах разводзіць смятанай, а пасярэдня паложыць масла.* Рагулішкі Даўг.

ПАСЯ'ТЫ *прым.* Паласаты. Альба Нясв. *Пасятыя посцілкі выткаў.* Жылі Іўеў.

ПАСЯЎНА'Я *ж.* Пасяўная. *Мы пасяўную кончылі, гуляне было.* Кузьмічы Люб.

ПАТ *гл.* ПАД

ПАТАЕ'МНЕ *прысл.* Употай. *Ён людзей патаемне лячыў.* Крэва Смарг.

ПАТАЁМНЫ *прым.* Патаемны. *Ён чалавек патаёмны, праўды ні скажа, саўсём не гавора.* Гемзы Шальч.

ПАТА'ЙКІ *прысл.* Употай. *Мы патайкі сядзем у лесі.* Азяраны Раг.

ПАТАЙНІ'К *м.* 1. *мед.* Эпілепсія. *Патайнік у яе, прыпадашная яна.* Мачаск Бярэз. 2. Камень, пакрыты зямлёй, парослы мохам. *Патайнік — камень, які скрыты, не відаць.* Жылі Іўеў.

ПАТАЙНЫ' *прым.* Тое ж, што і п а т а ё м н ы. ▽ *Ні бойся злога, а бойся патайнога, злы атпусця, а патайны можа ўкусіць.* Бакшты Іўеў.

ПАТАКА'ЦЬ *зак.* Ткаць іншым матэрыялам. *Патакалі ад драчкі і хушшым, як лён не ўрадзіў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТАЛАЧЫ'ЦЦА *зак. экспр.* Павалачыцца. *Паталачыліся, паталачыліся, і зноў бы сышліся.* Новіны Нясв.

ПАТАМІ'ЦЦА, ПАТОМІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *А мы патаміліся.* Рудня Чэрв. *Патоміліся, і нішто на ўме.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАТАНУ'ЦЬ *зак.* Утапіцца. *Некаторага году хацеў хлапец пакупацца, ды патануў.* Дзяніскавічы Ганц. *Патанеш, як глыбокая рэка.* Навасёлкі Свісл.

ПАТА'ПЦЫ *мн.* Цура. *Патапцы, як у халодну воду пакрышаць хлеба, цыбулькі, солі і ядуць.* Дзяніскавічы Ганц. *Налле вады, накрыша хлеба—і патапцы есці можна.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАТАПЫ' *мн.* Грузіла. *Патапы раньша былі гліняныя.* Дакудава Лід.

ПАТАРҐАВА'ЦЬ *зак.* Нацерці (бульбы). *Патарґуям картошкі, як на бліны, сяменя на слой і накрыям картошкай — гэта бонды так рабіліся.* Старыя Трокі Трак.

ПАТАРЧА'КА *ж.* Стрэмка. *Закалола патарчаку.* Мярэцкія Глыб.

ПАТАСКУ'ХА *ж. бат.* Парушэнец. *Патаскуха ад парушэня, як маціца зрушылася, я і папіла месяц і выздаравела.* Малькуны Ігн.

ПАТАЎШЧЭ'ЦЬ *зак.* Патаўсцець. *Яшчэ патоўшчая маё цялё.* Ністанішкі Смарг.

ПАТАХЦІ'ЦЬ *зак. экспр.* Упіхнуць. *Лыжкай патахціў хлеб у ваду.* Гемзы Шальч.

ПАТАЧЫ'ЦЦА *зак. экспр.* Пайсці. *Не баіцца мужыка п'янага, патачылася туды.* Ухвала Круп.

ПАТАЧЫ'ЦЬ *зак.* Павастрыць. *Не ўмеючы не паточыш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТГУМЕННЫ *прым.* Прыгуменны. *Патгумённы лох, каля гумна.* Мачаск Бярэз.

ПАТКАЛАВУ'РЫЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Паткалавурыў яго, як ён сена браў.* Курапалле Паст. *Ён яго паткалавурыў і забіў.* Лісна В.-Дзв. *Адбубоніў яго добра, як паткалавурыў.* Валынцы В.-Дзв.

ПАТКА'ЛАНКА *ж.* Завостраная палачка для пляцення лапцей. *Паткаланкай лапці падплітаюць.* Ухвала Круп.

ПАТКАЛАТА'ЦЬ *зак.* Падкалаціць. *Паткалатухі паткалатала.* Старыя Смільгіні Воран.

ПА'ТКАЛАТКА *ж.* Падкладка. *Нада паткалатку падлажыць другую.* Ракаўскія Швянч.

ПАТКАЛАТУ'ХА *ж.* Страва, падкалочаная мукой. *Паткалатухі паткалатала.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАТКАЛО'ТКА *ж.* Тое ж, што і паткалату́ха. *Накрышыш картофлі, паткалоціш мукой — гэто паткалотка.* Малахоўцы Бар. *Паткалотка з бульвай.* Вялікі Краснік Пруж. *Паткалотку варылі, як і зацірку.* Старыя Смільгіні Воран. *Грэцка мука і квасна малако раскалоцяць, і называ-*

*еција паткалотка.* Жылі Іўеў. *Капусту рабілі, як паткалотку — ні то зацірка, ні то капуста.* Вецярэвічы Пух.

ПАТКАЛО'ЧВАЦЬ *гл.* ПАДКАЛА'ЧВАЦЬ

ПАТКАЛО'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і п а т к а л а т у́ х а. *Будзім варыць паткалочыну, бульбу пакрышым, як на суп, мукой паткалоцім і забелім.* Кіралі Шчуч.

ПАТКАЛУПІ'ЦЬ *зак. экспр.* Укалоць. *Як ён паткалупіў мяне пат сэрца.* Крэва Смарг.

ПАТКАПА'ЦЦА *гл.* ПАДКАПА'ЦЦА

ПАТКАПЦІ'ЦЦА *гл.* ПАДКАПЦІ'ЦЦА

ПАТКАРМІ'ЦЬ *гл.* ПАДКАРМІ'ЦЬ

ПАТКАРМЯ'ЧКА *ж.* Падкормка для пчол. *Паткармячка для пшчол.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАТКАРПА'ЦЬ *зак. экспр.* Прапалоць. *Адзін радок агуркоў паткарпала.* Вецярэвічы Пух.

ПА'ТКІ *прым.* Шкадлівы. *Паткая была курыца, ляцела ў грады, мы адрэзалі і крыла, і хвост.* Кузьмічы Люб.

ПАТКІДА'ЦЦА *гл.* ПАДКІДА'ЦЦА

ПАТКІ'НУЦЬ *гл.* ПАДКІ'НУЦЬ

ПАТКЛА'ТКА *гл.* ПАДКЛА'ТКА

ПАТКЛЭ'ДАЦЬ *незак.* Падкладаць. *Палатно патклэдаюць. Подбійку патклэдаюць.* Масілавічы Сл.

ПАТКНУ'ЦЦА *зак. перан.* Пайсці. *Вот і паткніся!* Плябанцы Ашм.

ПАТКО'ПАЦЬ *гл.* ПАДКО'ПАЦЬ

ПАТКО'ПВАЦЦА *гл.* ПАДКО'ПВАЦЦА

ПАТКО'РПЛІВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а т к а р п а́ ц ь. *Трэба паткорплівацъ агурке.* Вецярэвічы Пух.

ПАТКО'СНІКІ *гл.* ПАДКО'СНІКІ

ПАТКРУ'ЖВАЦЬ *незак.* Правейваць. *Зярно паткружвалі рэшатам, скружыць, увесь мусар зыходзіць наверх.* Індра Красл.

ПАТКРУ'ПНІЦА *ж.* Высеўкі. *Як жыта ці іншае дабро крупна змелена, прасеюць, і астаецца паткрупніца.* Вецярэвічы Пух.

ПАТКУ'РАЧ *гл.* ПАДКУ'РАЧ

ПАТКУ'РЧЫЦЬ *зак. безас.* Паралізаваць. *Рукі паткурчыла мне.* Новікі Гродз. *Паткурчыла нагу.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАТКУРЫ'ЦЬ *гл.* ПАДКУРЫ'ЦЬ

ПАТКЯРАВА'ЦЬ *гл.* ПАДКЯРАВА'ЦЬ

ПАТО'К *м.* Под у печы. *Памялом памёў, садзі булкі на паток чысціенькі.* Багушэвічы Бярэз.

ПАТО'ЛЯ *ж.* Воля, свабода. *Вот даў дзіцяці патолі, робіць, што само хоча.* Альхоўцы Лях. *Як далі дзіця патолю, куды хоча, туды ідзе, што хоча, то і робіць.* Кіралі Шчуч.

ПАТО'М *прысл.* Потым. *Свінча разрезаецца, збіраецца*

*зверху сало, а патом кішке да балеі кладзем.* Бабрроўнікі Гарад. *Патом ужо ў Лаўрынішкі паехалі.* Швэды Вільн. *Жыта красуе, патом налівае, патом спее.* Відаўцішкі Вільн. *Хадакі насіла, анучамі акруціш да калени, патом аборамі.* Канюкай Вільн.

ПАТО'МСТВА *зб. н.* Патомкі. Рудня Астравітая Чэрв. *Наша патомства.* Мярэцкія Глыб. *Патомства наша астаецца.* Рыбчына Віл.

ПАТО'НІ *мн.* Тое ж, што і п а т а п ы́. *Там патоні папрывязаны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТО'НУЦЬ *зак.* Затапіцца. *Гавораць, што цэркаў там была — і патонула.* Беразіно Докш. *Патонула мая бульба.* Лісна В.-Дзв.

ПАТО'П *м.* Стаптаны агарод. *Я бачыла той патоп.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТО'ПА *ж.* Патоп. *Байка такая ест, патопа была і патапіла людзей, кароў.* Старыя Трокі Трак.

ПАТО'ПАЦЬ *зак.* 1. Пахадзіць. *Папробай патопаць, можа перастаніш балець.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Нахадзіцца. *Яна патопаіць, пакуль гарод засадзіць, а пасля паедзіць да дачкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТО'ПІЧ *м.* Тое ж, што і п а т а п ы́. *У трыгубцы патопіч з волава.* Рыбчына Віл.

ПАТО'ПІЧЫ толькі *мн.* Багна. *Патопічы — дзе падымаецца балота.* Вецярэвічы Пух.

ПАТО'РГАЦЬ *зак.* Пацягаць. *Паторгаяш аснову, яна раўней станя.* Асавец Віл.

ПАТО'РКАЦЬ, ПАТУ'РКАЦЬ *зак.* Пасадзіць. *Буракі не абышлі, я ўзіла і паторкала капусты.* Рагулішкі Даўг. *Расаду паторкала, а моркву ў радочкі сеюць. Патуркала абы-як.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы паторкалі ў ліху цыбулю.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТО'РНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а т о́ р к а ц ь. *Цыбулю паторнілі ў ліху.* Якубова Рас.

ПАТО'РХАЦЬ *зак.* Пакалыхаць. *Паторхай дзіця, каб заснула.* Ухвала Круп.

ПАТПАВЕ'ТКА *ж.* Навес. *Патпаветка пры адрыне.* Парэчча Гродз.

ПАТПАДА'ЦЬ *зак.* У выразе: *Начніцы патпадаюць* — пра бяссонніцу і капрызы дзіцяці ўначы. *Начніцы патпадаюць маломy дзіцяці.* Дакудава Лід.; *гл.* н а ч н і ц ы.

ПАТПА'ЛАК *м.* Аглобля ў сасе. *Патпалак у каваля робіцца, або дзеравяны, у ім кручок, рагач.* Касцюкі Уздз.

ПАТПАЛАЦЯ'НЫ *прым.* Прызначаны для навівання палатна. *Патпалацяны навой ёсць і пражавы навой.* Глівін Барыс.

ПАТПАЛІ'ЦЬ *гл.* ПАДПАЛІ'ЦЬ

ПАТПА'ЛКА *гл.* ПАДПА'ЛКА

ПАТПА'ЛЬШЧЫК *м.* Падпальшчык. *Думала, што патпальшчык патпаліў суседа.* Асташына Навагр.

ПАТПА'Р *м.* Месца ў рацэ, якое зімой не замярзае. *Ня лесь, а то ўвалісся ў патпар. Патпар ні замярзае.* Рыбчына Віл. *Дзе цёплае места, не замярзаіць, то патпар кажуць.* Мярэцкія Глыб.

ПАТПАРА'ЦЦА *незак.* Станавіцца цяплейшым пад уздзеяннем пары. *Апарыстая места, дзе патпараецца і не замярзае.* Нізок Уздз.

ПАТПА'РЫСТЫ *прым.* Які вылучае пару. *Патпарысты берах, дзе с-пад зямлі цёплы воздух не дае замярзаць.* Рыбчына Віл.

ПАТПА'САВІЧ *м.* Памочнік пастуха. *Патпасавіч памагаў пастуху.* Альхоўцы Лях.

ПАТПА'САК *гл.* ПАДПА'САК

ПАТПА'СВІЧ *гл.* ПАДПА'СВІЧ

ПАТПА'СІЧ *м.* Тое ж, што і п а т п а́ с а в і ч. *Патпасіч пас кароў.* Дзяніскавічы Ганц. *Патпасіч памагая пастуху.* Міратычы Карэл.

ПАТПАХА'ЦЬ *зак.* Падмесці. *Нада патпахаць хату, ізбу.* Кураполле Паст.

ПАТПА'ШАК *м.* Ахапак сена. *Патпашак сена.* Номікі Бабіц.

ПАТПА'ШКІ *мн.* Цвікля. *Ушывалі патпашкі ў кашулі.* Ракаўскія Швянч.

ПАТПЕ'Ч *гл.* ПАДПЕ'Ч

ПАТПЕ'ЧАК *м.* Падпечак. *Патпечак і пячурка ў печы.* Рагулішкі Даўг. *У патпечак раньша заганялі куры, а цяпер дрова ляжаць.* Кіралі Шчуч. *Патпрыпячак — вышэй, патпечак — ніжэй.* Солы Смарг. *Патпечак — дзе куры сядзелі.* Груздава Паст. *Патпечак рубілі, вянцы тры зруюць і тады цэглу кладуць і печ робюць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАТПЕ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і п а т п е́ ч а к. *Патпечка — дзе куры сідзяць.* Янова Рас.

ПАТПІ'НАК *гл.* ПАДПІ'НАК

ПАТПІНА'ЦЦА *гл.* ПАДПІНА'ЦЦА

ПАТПІНА'ЦЬ *гл.* ПАДПІНА'ЦЬ I

ПАТПІ'НКА *гл.* ПАДПІ'НКА

ПАТПІ'РЫСКА *ж.*, ПАТПІ'РЫСКО *н. перан.* Дапамога, падтрымка. *Німа мне патпірыскі, німа сына, усё сам і сам рабі.* Кіралі Шчуч. *На гэдаку сям'ю патпірыско добро меў.* Старое Сяло Зэльв.

ПАТПІСА'ЦЬ *гл.* ПАДПІСА'ЦЬ

ПАТПЛЁТ *зб. м.* Палоскі лыка для падплятання лапцей. *Тоўсценькі патплёт іспіцай патпляталі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТПЛЁТАНКА, ПАТПЛІТА'НКА *ж.* Тое ж, што і

п а т к а́ л а н к а. *Патплётанка была лапці патплятаць.* Кузьмічы Люб. *Патпліганка с касці.* Саланое Віл.

ПАТПЛЁТКА *ж.* Тое ж, што і п а т к а́ л а н к а. *Патплётку рабілі с касці, такая шылаваценькая палачка.* Рыбчына Віл. *Патплёткай лапці падплітаюць. Патплётка — спіца з касці.* Беразіно Докш.

ПАТПЛЯТА́ЦЬ *зак.* Падплятаць. *Іспіцай патплятылі лапці.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТПО́РКА *ж.* 1. Падпорка. *Прынясі патпоркаў, а то паламаецца сук.* Жылі Іўеў. *Як яблыкаў многа, то даюць патпоркі.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Памочніца. *Ідаля ў нас патпорка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТПО́РЫ *мн.* Апорныя слупы ў будынку. *Патпоры — слупы, якімі патпіралі рашэціны з двух бакоў, бярвіно сасновае.* Рудня Чэрв.

ПАТПО́ЎНЯ, ПАТПО́ЎНА *ж.* Другая фаза месяца. *Ужо не маладзік, ідзе к патпоўню.* Стральцы Гродз. *Патпоўна, тады споўна.* Саланое Віл.

ПАТПРА́ЖАВАЦЬ *незак.* Падпражваць. *Цёрлі, патпражавалі.* Малі Астр.

ПАТПРА́ТАЦЬ *зак.* Прыбраць у хаце. *Нада хату патпратаць.* Жылі Іўеў. *Я тут патпрачу.* Міратычы Карэл.

ПАТПРО́СТУ *прысл.* Пад поўдзень. *Слонца патпросту — скора будзя поўня.* Стральцы Гродз.

ПАТПРУ́ГА *ж.* Тое ж, што і п а п р у́ г а 2. *Патпруга пад жыватом завязваецца.* Жылі Іўеў.

ПАТПРЫ́ПЕЧАК, ПАТПРЫ́ПЯЧАК *м.* Выемка пад прыпекам. *У патпрыпечку збанкі сушылі.* Саланое Віл. *Патпрыпячак — вышэй, патпечак — ніжэй.* Солы Смарг. *Патпрыпячак — дзе катлы, гаршкі, кацялок.* Груздава Паст. *Старая гаршке ставіла ў патпрыпячак.* Баброўнікі Гарад.

ПАТПРЫ́ПЯШНІК *м.* Тое ж, што і п а т п р ы́ п е ч а к. *Патпрыпяшнік — дзе гаршкі ставяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАТПЯ́ЦЬ *зак.* Падцягнуць. *Патсядзёлак патпяць.* Крэва Смарг. *Патпяла два фартухі.* Азяраны Раг.

ПАТРАБЯ́СКІ *мн.* Косткі, з якіх абрэзана мяса. *Патрабяскі — косткі абрэзаныя, у іх шпік; куплялі патрабяскі і самі варылі.* Малахоўцы Бар.

ПАТРА́ВА, ПОТРА́ВА I *ж.* Вадкая страва. *Зварыш патравы — астаняцца, ведамо, я адна.* Малахоўцы Бар. *Патрава ўкусная.* Навікі Лудз. *Кап мне патравы трошкі.* Валынцы В.-Дзв. *Ці многа патраў варыш?* Рыбчына Віл. *Патравы зварыш: ці капусту, ці буракі.* Янова Рас. *У патраве гарох да пасоля і куці ўкінута.* Масілавічы Сл. *Потрава — то, што есці.* Азарычы Пін.

ПАТРА́ВА II *ж.* Стаптаныя пасевы. *Патрава, як скаціна*

*паб'е.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Спасціў ячмень, патраву зрабіў.* Валынцы В.-Дзв.

ПАТРАВІ'ЦЬ *зак.* Стаптаць пасевы. *Каровэ патравілі жыта.* Лука Нараўк.

ПАТРА́ПА'ЦЬ *зак.* Патрапаць (лён). *Патрапі пасля абеду троху лёну.* Старыя Трокі Трак. *Патрэпім лён.* Кухты Віл.

ПА'ТРАП'Е, ПАТРЭ'П'Я, ПА'ТРУПЯ *зб. н.* Атрэп'е. *Патрап'е аш ляціць с-пад трапачкі.* Рагулішкі Даўг. *Патрап'е, як трэпяць лён.* Кураполле Паст. *Патрэп'я — з хушшай кудзелі ччэцца зрэбная.* Солы Смарг. *З патрэп'я мяхі шылі.* Азяраны Раг. *Патрупя на воркі ішло.* Старыя Трокі Трак.

ПАТРА'ПІЦЬ *зак.* 1. Натрапіць. *Ты не мог дзвярэй патрапіць.* Саланое Віл. 2. Змагчы. *Я ні патраплю так сказаць, як яны гаворуць.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* п а т р а́ ф і ц ь.

ПАТРАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Дагаджаць. Кураполле Паст.∇ *Мужыку трэба патрапляць і праўды не казаць, толькі да калена.* Саланое Віл.

ПАТРАСА'ЦЬ *незак.* Пасыпаць. *Чоснык ядзём, па салу патрасаю, то сала ўкуснейшае.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТРАСЦІ' *зак.* Падаслаць. *Нади мне ісці патрасці хлеў саломай.* Ёдлавічы Брасл.

ПАТРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Скласці ў дзве ніткі. *Нада ніткі патрасціць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТРА'ЎКА *ж.* Рэдкая страва з мясам, падкалочаная мукой. *Накрышаць мяса, падкалоцяць — гэто патраўка.* Малахоўцы Бар. *Курыцу зарэжаш, нарэжаш мяса, зварыш, нямношка мукі паткалоціш — ета патраўка.* Лапічы Асіп. *Патраўку вараць у месает.* Лісна В.-Дзв. *Паварыцца костка, туды мукі раскалаціўшы ўліць — гэта патраўка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Патраўку елі: вады закіпяцяць, мйаса ўкінуць, паткалоцяць мукой, перцу.* Дзяніскавічы Ганц. *Патраўку варылі з грыбамі.* Альхоўцы Лях.

ПАТРА'ФІЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і п а т р а́ п і ц ь 1. *Як быў ты п'яны, ня мох дзвярэй патрафіць.* Саланое Віл. 2. Ужыцца. *Мы баяліся, думалі, з братавою не патрафім.* Мілейкі Міёр. *Ты патрафь з маткай, і тады будзэ аспадыня.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *potrafić* 'змагчы'.

ПАТРАФЛЯ'ЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Яна думае, як вам патрафляць.* Гемзы Шальч.

ПАТРАХТАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Пачаставаць. *Пачакайце, патрахтаваць вас нада яблакамі.* Старыя Трокі Трак.

ПАТРА'ЦІЦЬ *зак.* Страціць. *Валы патраціла ў полі.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *stracić* 'тж'.

ПАТРО'НУЦЬ *зак.* Паварушыць. *Яна і рук не патронула.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *тронуть* 'крануць'.

ПАТРО'ПКІ *мн.* Тое ж, што і п а́ т р а п 'е. *Патропкі на мяшкі шлі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАТРО'СІ *прысл.* Патроху. *Патросі выпілі.* Галубы Маст. *Патросі зробіш.* Номікі Бабіц.

ПАТРО'ХУ *прысл.* Тое ж, што і п а т р о́ с і. *Малако здаю патроху.* Вецярэвічы Пух. *А ты, матка, рабі патроху.* Гемзы Шальч.

ПАТРУ'БКІ *мн.* Тое ж, што і па́ т р а п' е. *Патрубкі самыя колчэйшыя, прадуць на мешкі, на дзеругі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПА'ТРУБЛЯ *мн.* Вотруб'е. *Абдзяркуюць муку, ячмень, пшаніцу — і патрубля.* Малькуны Ігн.

ПАТРУДА'ЦЬ *зак.* Перахварэць. *Патрудала, моцна пабалела.* Магуны Паст.

ПАТРУІ'ЦЬ *зак.* Патруціць. *Мух патруіла, а цялё пырхая, і ластаўка ў хлеў заляцела ды назад.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *truć* 'труціць'.

ПАТРУ'ЛЬ *м.* Вартавы. *Нас узялі і арэставалі патрулі літоўскія.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТРУПЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Патрупелі ў леся, як ног не паламалі ўцякаючы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён сказаў, яны аш патрупелі.* Івашкаўцы Смарг.

ПА'ТРУПЯ *гл.* ПА'ТРАП'Е

ПАТРУПЯШЫ'ЦЬ *зак.* Пагнісці. *Патрупяшылі буракі ў зямле.* Мсцібава Ваўк.

ПАТРУСІ'ЦЬ *зак.* Растрэсці. *Павёс гной, патрусіў па дарозе.* Гемзы Шальч. *Там салома патрушана.* Кіралі Шчуч. *Троха патрушу гной.* Бакшты Іўеў.

ПАТРУ'ТЫ *дзеепрым.* Атручаны. *Рыба патрутая, у ей жыру нет.* Старыя Трокі Трак.

ПА'ТРУХА *ж.* Пацяруха. *Усё сена забралі, асталася толькі патруха.* Кіралі Шчуч. *Патруха — цёртае сена.* Груздава Паст. *Пацёрлосё сено на патруху.* Міратычы Карэл. *Патрухі шмат.* Жылі Іўеў. *Патруха астаецца ад сена.* Жодзішкі Смарг. *Патруха ад сена.* Малахоўцы Бар. *Мышы сена пацярушылі, адна патруха асталася.* Ёдлавічы Брасл. *Адна патруха засталася.* Беразіно Докш. *Парым патруху ад сена.* Быстрыца Астр. *Патруха — дробная сена.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сена нет, адна патруха асталась.* Рагулішкі Даўг. *На патруху клевір стаптаў.* Валынцы В.-Дзв. *У пуні адна патруха асталася.* Саланое Віл. *Мышы сена сасякуць, то патрухі многа.* Ракаўскія Швянч. *Кончылася сена, адна патруха асталася.* Івашкаўцы Смарг.

ПАТРУЦІ'ЦЦА *зак.* Атруціцца (пра ўсіх, многіх). *Бочка аміяку аткаркнулася, і патруцілася рыба.* Ракаўскія Швянч.

ПАТРУШЧЭ'ЛІЦЬ *зак.* Паламаць у многіх месцах. *Нагу ей патрушчэліла, лытку, ей хацелі адняць, не дала, лытка караценькая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТРУШЫ'ЦЬ *незак.* Патрашыць. *Нада апскубаць і*

*апсмаліць, а тагда мыць і патрушыць курыцу.* Рагулішкі Даўг.

ПАТРЫБУ'ШНІЦА *ж.* Сала з падчарэўя. *Патрыбушніцу вешалі на лета, гэта сала з падчэрава.* Парэчча Гродз.

ПАТРЭ'БА, ПОТРЭ'БА *ж.* 1. Патрэбнасць. *Як выдзіць дачка замуш, то больш пісаць будзіць да маткі, бо больш патрэбы будзя: «Мама, памажы гадаваць дзеці, мамачка, парасёнка выгадуй».* Мсцібава Ваўк. *Ён за патрэбай ідзець.* Ністанішкі Смарг. *На потрэбу ўсяку пойдзе.* Хатынічы Ганц. *Чаго без патрэбы хадзіць па хатах?* Кіралі Шчуч. *Ёсць патрэба мне на сукенку купіць.* Мярэцкія Глыб. *Німа канца патрэбы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мне патрэба ёсць купіць што.* Жылі Іўеў. *У мяне патрэба там ёсць.* Магуны Паст. 2. Просьба. *У міне да цібе была вялікая патрэба — нада пашыць сукенку к выпуску.* Ёдлавічы Брасл. *У мяне такая патрэба да цябе — купі мне хлеба.* Солы Смарг. 3. Госці. *Быў у патрэбя. Патрэбаў спраўляць німа каму.* Рыбчына Віл. *Я куплю і пастаўлю на сваю патрэбу.* Гемзы Шальч. *У патрэбе і частуемся.* Лісна В.-Дзв. *У патрэбя з ім добра.* Асавец Віл. *На патрэбу толькі вотка трэба.* Магуны Паст. *Патрэба, можа, будзя, так куплю гарэлкі.* Гайна Лаг.; *парайн.* польск. *potrzeba* 'патрэба'.

ПАТРЭ'БЕН *безас.* у знач. *вык.* Неабходны. *Тут ты патрэбен. Сын быў патрэбен, а нявестка не патрэбна.* Лісна В.-Дзв.

ПАТРЭ'БІНА *ж.* Тое ж, што і п а т р э́ б а 1. *Грошы на якую патрэбіну нада зарабіць.* Рагулішкі Даўг.

ПАТРЭ'БНА *безас.* у знач. *вык.* Неабходна. *Каб мне было патрэбна, я яго б і глядзеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я замуш не йшла, мне сватоў не патрэбна.* Малі Астр. ∇ *Ні патрэбна чорнаму мыдла, уміраёнцаму кадзідла, а лысаму грэбянь — ніколі не патрэбен.* Малі Астр.

ПАТРЭ'БНЫ *прым.* Неабходны. *Яна яшчэ з гонарам кажа, нашто ён мне патрэбны.* Малі Астр. ∇ *Ты тут патрэбны, як у масце дзюра.* Малі Астр.

ПАТРЭВА'НЫ *дзеепрым.* Паадрываны. *Вушы ў шапцы патрэваны.* Старое Сяло Зэльв.

ПАТРЭ'П'Я *гл.* ПА'ТРАП'Я

ПАТРЭ'СКАЦЦА *зак.* Пасівераць. *Патрэскаліся ногі, баляць.* Беразіно Докш.

ПАТРЭ'СЦІ *зак.* Употай узяць рыбу з чужой рыбалоўнай снасці. *Вот мае нехта патрос каробачкі, пойну каробачку ўюноў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАТРЭ'Т *м.* Партрэт. *Патрэт так і не ўспелі здзелаць.* Талейкі Швянч.

ПАТСАБІ'ЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Табе матка патсабіць.* Альхоўка Навагр. *Матка патсабіла.* Жылі Іўеў.

ПАТСА'ДА *гл.* ПАДСА'ДА

ПАТСА'НКІ *гл.* ПАДСА'НКІ

ПАТСВІ'НАК *м.* Падсвінак. *Патсвінка далі.* Міратычы Карэл. *Патсвінак ужэ падрос.* Лісна В.-Дзв. *Патсвінак большы.* Жылі Іўеў.

ПАТСВЯРО'НАК *м.* Частка хлява перад свірнам. *Паткінь мех у патсвяронак.* Парэчча Гродз.

ПАТСЕ'КАЦЬ *зак.* Адарваць. *Ногі былі патсеканы. Ногі яму патсекала ў вайну.* Альхоўка Навагр.

ПАТСЕ'КЧЫ *зак.* Падсячы. *Не патсеклі дзерава.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТСІ'ТАК *м.* Падсітак. *Патсіткам сеюць муку.* Вецярэвічы Пух.

ПАТСІ'ТАЧАК *м. памянш.* да п а т с і т а к. *Патсітачак аддала мне.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАТСКА'КАЦЬ *незак.* 1. Падскокваць. *Буду патскакаць.* Альхоўка Навагр. *Котка патскакая і дастае.* Альхоўцы Лях. *Патскакае, каб дастаць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *экспр.* Пабегчы. *Патскакаў за ёй.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТСКА'КВАЦЬ, ПАТСКІ'КАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п а т с к а́ к а ц ь 1. *Патскаквая, як мячык.* Міратычы Карэл. *Курыца патскікаваіць.* Мярэцкія Глыб.

ПАТСКАЧЫ'ЦЬ, ПАТСКО'ЧЫЦЬ *гл.* ПАДСКО'ЧЫЦЬ

ПАТСКРЭ'БУШКА *ж.* Тое ж, што і п а с к р о́ б а к 1. *Патскрэбушка з астаткаў цеста.* Масілавічы Сл.

ПАТСКРЭ'БЫШ *м.* Тое ж, што і п а с к р о́ б а к 1. *Патскрэбыш, як маленькі кусочак цеста спякёш.* Скрыпчына Лудз.

ПАТСЛА'БЛІВАЦЬ *незак.* Слабець. *Як стаў бацька патслабліваць, дык сюды і прывязлі да дачкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАТСМІ'ХАВАЦЬ *незак.* Насміхацца. *Глаша патсміхаваіць міне.* Валынцы В.-Дзв. *Яе патсміхавалі, што хадзіла замазаная.* Кураполле Паст.

ПАТСНЕ'ЖАНЫ *прым.* Белавалосы. *Патснежаны хлопец.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАТСНЯДА'НАК *м.* Падсілкоўванне перад снеданнем. *З'еў патсняданак і не хачу есці.* Старыя Трокі Трак.

ПАТСО'ЧКА *ж.* Падсочка. *Там патсочка, цягнуць смалу, дзерава не апсыхае, смала выцекае.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТСТА'ВЫ толькі *мн.* Каркі. *Кары і патставы ішлі далей.* Ухвала Круп.

ПАТСТА'ЎКА *ж.* Прышыты ніз кашулі з больш грубага матэрыялу. *Рубашку з патстаўкай насілі, ніс з грубейшага, а танейшае наверх.* Янова Рас.

ПАТСТА'ЦЬ *зак.* Пачацца. *Парэзаў паліц, потым ґанґрына патстала.* Кураполле Паст.

ПАТСТРУНАВА'ТЫ *прым.* Жылісты (пра жывёлу). *Патструнаватая карова, як бык.* Кураполле Паст.

ПАТСТРЭ'ШАК *м.* Падстрэшак. Мярэцкія Глыб.

ПАТСТРЭ'ШАНЁ *н.* Тое ж, што і патстрэ́шак. *У патстрэшанё дровы ляжаць.* Альхоўка Навагр.

ПАТСТРЭ'ШНІК *м.* Тое ж, што і патстрэ́шак. *Страха і патстрэшнік, там злажылі дровы.* Валынцы В.-Дзв.

ПАТСТУПІ'ЦЦА *зак. экспр.* Падступіцца. *Салдату сказалі, што ё багатая баба, але пад яе ніхто ні патступіцца: у яе многа грошай.* Паплавы Бярэз.

ПАТСУКА'ЦЦА *незак. экспр.* Падступацца. *Як ён да дзеўкі патсукайся!* Кураполле Паст.

ПАТСУСЕ'Т, ПАТСУСЯ'Д *м.* Кватарант. *Жыву я ў патсуседзях.* Семежава Кап., Тухавічы Лях., Рудня Астравітая Чэрв. *У патсусядах быў доўго.* Дзяніскавічы Ганц. *У патсусядах жыў, не меў свае хаты.* Альхоўцы Лях.

ПАТСУ'ФІТКА *гл.* ПАДСУ'ФІТКА

ПАТСЦЁЛ, ПАТСЦІ'Л *м.* Подсціл. *Кап дзе саломы на патсцёл ўзяць.* Альхоўцы Лях. *На патсціл салома.* Альхоўка Навагр. *Нада патсцёлу карові прынесць.* Мсцібава Ваўк.

ПАТСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Падсцілаць. *Шыльнікам патсцілаюць скаціну цэлу зіму, і гной добры.* Кіралі Шчуч.

ПАТСЫ'ТА *ж.* Ежа, прыгатаваная з падсалоджанай вады і цёртага маку. *Рабілі патсыту, мак цёрлі, патсыпалі цукру і разводзілі вадой, елі с кашай-грачанкай. Як не было мёду, патсыту саладзілі цукрам.* Стральцы Шальч.

ПАТСЯВА'ЦЬ *зак.* Правейваць рэшатам. *Збожа патсяюць дзеравяннымі рэшатамі і ссыпаюць у мяшкі.* Альхоўка Навагр.

ПАТСЯДЗЁЛАК *м.* Сядзёлка. Крэва Смарг. *Патсядзёлак накладаецца каню.* Вялікія Баяры Шчуч. *Падпруга ідзець кругом, зашпільваецца патсядзёлкам.* Скрудалена Даўг. *Патсядзёлак, і патпруга, і патбруш'я зашпіляецца спрошкай. Патпруга прыводзіцца прас патсядзёлак і да аглоблі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Патсядзёлак з папругаю.* Альхоўка Навагр.

ПАТТАРГНУ'ЦЬ *зак.* Падвярнуць. *Паттаргнула ногу.* Мсцібава Ваўк., Вялікія Баяры Шчуч. *Паттаргнула ногі.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Каб табе язык паттаргнула, як ты брэшаш!* Пацаўшчына Дзятл. ◇ *Паттаргнуць, паттарнуць вуды* — схуднець. *Яму паттаргнула вуды, падцягнуў жывот.* Кіралі Шчуч. *Як худая карова, то кажуць: «Паттарнула вуды, перад здыхатою».* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАТТАЎЧЫ' *гл.* ПАДТАЎЧЫ'

ПАТТАЧЫ'ЦЬ *зак.* Надтачыць. *Паттачыла спадніцу, а то каротка была.* Кіралі Шчуч.

ПАТТО'ПАК *м.* Палена. *Нада ў печку падкінуць паттопкі.* Лісна В.-Дзв.

ПАТТО'ЧКА *гл.* ПАДТО'ЧКА

ПАТТО'ЧЫНА *гл.* ПАДТО'ЧЫНА

ПАТТУЛІ'ЦЬ *зак.* Падціснуць. *Той дзет і пашоў, хвост паттуліў.* Вецярэвічы Пух.

ПАТТУРА'ЎЛІВАЦЦА *зак.* Спяшацца. *Нада паттураўлівацца ў поля гнаць кароў, а то апаздаіш.* Лісна В.-Дзв.

ПАТУ'ГІ то́лькі *мн.* Родавыя патугі. *Патугі схвацілі бабу, будзіць раджаць скора.* Ёдлавічы Брасл. *Як патугі бяруць, то напінайся сільна, сілься.* Саланое Віл. *Патугі схапілі бабу.* Беразіно Докш. *Патугі бяруць.* Рыбчына Віл. *Як карова цялё вядзе, то яе патугі бяруць.* Гемзы Шальч. *Патугі ў каровы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАТУ'ЗАЦЦА *зак.* Павалтузіцца. *З дзіцяці нада патузацца.* Гемзы Шальч.

ПАТУ'ЗАЦЬ *зак.* Паторгаць. *Замкні хату і яшчэ за замок патузай, ці добра замкнуў.* Кураполле Паст.

ПАТУ'КАВАЦЬ *зак.* Патураць. *Ты ім патукавай, дык спалюць хату.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *potucha* 'патуранне'.

ПАТУ'ПІЦЦА *зак.* Узлавацца. *Патупіцца і не ідзе есці.* Вецярэвічы Пух.

ПАТУ'РАЦЬ *зак. экспр.* Пагнаць. *Пастухі быстра патурацъ.* Альхоўцы Лях.

ПАТУРА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а т у́ к а в а ц ь. *Нядобра патураць дзіцяці.* Рыбчына Віл. *Нада будзіць мне патураць, як ёй нравіцца.* Кураполле Паст. *Дзіцям патураць люблю.* Лісна В.-Дзв. *Ты мне не патурай.* Вецярэвічы Пух. *Я патураю яму.* Солы Смарг. *Не патурай дзіця.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ні патурай, песціш дзіця.* Дакудава Лід. *Не трэба патураць, а то заўсёды будзе такім, цёнгля будзе такім.* Кіралі Шчуч. *Каб ім не патураў.* Лоск Валож. *Свякроў ёй патурае, робіць так, як нравіцца нявесце.* Груздава Паст. *На тоя стары, каб малых патураў.* Ністанішкі Смарг.

ПАТУ'РКАЦЬ *гл.* ПАТО'РКАЦЬ

ПАТУРЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Пагнаць. *Я як хаплю яе, як патуру з хаты на вуліцу.* Малі Астр.

ПАТУХА'ЦЬ *незак. перан.* Затухаць. *Такая любоў ні патухаіць да самай смерці.* Саланое Віл.

ПАТУ'ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Патухлі мае ногі.* Парэчча Гродз.

ПАТУШЫ'ЦЬ *зак.* Пагасіць. *Патушэця лампу. Трэба патушыць папіросу, не кідай са гнём.* Кіралі Шчуч.

ПАТХАДЗІ'ЦЦА, ПАТХО'ДЗІЦЦА *зак.* Управіцца. *Вы даўно патхадзіліся.* Міратычы Карэл. *Трэба мне патходзіцца.* Альхоўка Навагр.

ПАТХАДЗЯ'ШЧА *прысл.* Многа. *У мяне патхадзяшча малака дае карова.* Парэчча Гродз.

ПАТХА'ДЖВАЦЬ *гл.* ПАДХА'ДЖВАЦЬ

ПАТХАПІ'ЦЬ *гл.* ПАДХАПІ'ЦЬ

ПАТХВА'ТКА *гл.* ПАДХВА'ТКА

ПАТХЛЯ'БІСТЫ *прым.* Худы, з упалымі бакамі. *Патхлябіста карова, як бы і не карміў яе век.* Мачаск Бярэз.

ПАТХО'Т *м.* Падыход. *Ён хітры, як ліс, такі мае патхот.* Мсцібава Ваўк. *А ён такі с патходам.* Малі Астр.

ПАТХО'ДЗІЦЦА *гл.* ПАТХАДЗІ'ЦЦА

ПАТХО'ДЛІВЫ *прым.* Падыходлівы. *Як патходліва баба, ладзіць з людзьмі.* Кузьмічы Люб.

ПАТХО'ДНЫ *прым.* 1. Плыткі. *Патходны бераг, патходная рака.* Малькуны Ігн. *Патходны берах і круты берах.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і патхо́дліві. *Патходная наша маладая.* Саланое Віл. *Я была патходная к каждаму.* Рыбчына Віл. 3. Які падыходзіць (аб цесце). *Патходны хлеп, файны.* Галубы Маст. *Як добра рашчыніць, хлеп будзе патходны.* Крэва Смарг.

ПАТЦЕ'ПЛІЦЬ *гл.* ПАДЦЕ'ПЛІЦЬ

ПАТЦЁЛАК, ПАЦЁЛАК *м.* Пярэзімак. *Два гады патцёлку.* Груздава Паст. *Два кабаны, пацёлка дзяржу.* Асавец Віл.

ПАТЦІСКА'ЦЬ *гл.* ПАДЦІСКА'ЦЬ

ПАТЦЭ'П *м.* Пасад. *Я змалаціў тры ці чатыры патцэпы.* Кіралі Шчуч.

ПАТЦЯПЛЯ'ЦЬ *незак.* Запальваць. *Гас нада патцяпляць.* Магуны Паст.

ПАТЧАРЭ'ВІНА *ж.* Сала з падчарэўя. *Здымаюць патчарэвіну.* Альхоўка Навагр.

ПАТЧЫНЁНЫ *прым.* Падпарадкаваны. *Яна яму патчынёная.* Груздава Паст.

ПАТЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Рашчыняць. *Цесто патчынялі.* Галубы Маст.

ПАТЧЫ'СТКА *ж.* Ачыстка. *Хадзілі ў патчысткі, груды скідавалі і палілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цалу дзялку аддалі на патчыстку і ўсё там выцерабілі.* Кіралі Шчуч.

ПАТЧЫШЧА'ЦЬ *зак.* Ачышчаць. *Вясной патчышчаюць пчол.* Ухвала Круп.

ПАТЧЭ'РХНУЦЬ *гл.* ПАТШО'РХНУЦЬ

ПАТШКРО'БАК *м.* Тое ж, што і паскро́бак 1. *Патшкробак — маленькая буханачка хлеба.* Азяраны Раг.

ПАТШО'РХНУЦЬ, ПАТШУ'РХНУЦЬ, ПАТЧЭ'РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім слоем лёду. *Галашчока, як слізка, як марозік, крышку патшорхне.* Галубы Маст. *Патшурхла троху вада.* Вострава Маст. *Патчэрхла трошкі лужына і пакрыецца зараз лёдам.* Мачаск Бярэз.

ПАТШТА'НІКІ *гл.* ПАДШТА'НІКІ

ПАТШТУКАВА'ЦЬ *зак.* Выправіць. *Усё зрабілі, каб патштукаваць нагу, уставілі костку.* Крэва Смарг.

ПАТШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а с к і п а́ ц ц а. *Патшчапіўся капыт у каня.* Беразіно Докш.

ПАТШЫ'БНУЦЬ *зак.* Напаткаць. *Старасць глыбокая патшыбла, трэбо жыць. Толькі слава богу, што бачу.* Галавачы Гродз.

ПАТШЫ'КНУЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Як хто патшыкне, яна яшчэ і горш вырабляе.* Вецярэвічы Пух.

ПАТШЫЛАВА'ЦІЦЬ *зак.* Завяршыць (стог). *Патшылаваціш стох.* Рыбчына Віл.

ПАТШЫ'ЦЬ *зак. буд.* Абшыць. *Цякла хата, столь патшыў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАТШЫ'ЯК *м.* Ашыек. *Кабан сыты, патшыяк трасецца.* Мярэцкія Глыб.

ПАТЫКА'ЦЦА *незак.* Зал. да *патыка́ць* 1. *Пасцілка шэрсцю патыкаяцца.* Жодзішкі Смарг.

ПАТЫКА'ЦЬ *зак.* 1. Ткаць па аснове рознакаляровым утком. *Гэту дзярушку патыкаюць другім.* Дакудава Лід. *Шарачак аснову красілі, а белым патыкалі.* Латыгаль Віл. *Палоскамі наснуеш і патыкаяш другім — наччэш у клетку.* Малахоўцы Бар. *Патыкаюць і елавым* [фіялетавым], *і вішнёвым ветам.* Мішневічы Шум. *Андаракі ткалі па бавэлне і патыкалі суконымі ніткамі.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і п а т у́ к а в а ц ь. *Некаторыя і патыкаюць ёй, паддзяржываюць, гаворацъ так, як і яна.* Вецярэвічы Пух.

ПАТЫ'ЛІЦА *ж.* Патыліца. *Затылак ніжэй, патыліца вышэй.* Рыбчына Віл. *У патыліцу надуло.* Лука Нараўк. *У нас называюць патыліца, а можа, дзе начай.* Парэчча Гродз. *Зляцела і патыліцай гахнулася.* Магуны Паст. ∇ *Забаліць патыліца і на тым свеце лежа.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАТЫХА'ЦЦА *незак. экспр.* Наведваць. *Дачка каіцца, што пашла за яго, ні патыхаіцца да нас цяпер.* Асавец Віл.

ПАТЫ'ЦКАЦЬ *зак.* Папоркаць. *Патыцкала, патыцкала і пашла.* Старыя Трокі Трак.

ПАТЭ'ЛЬКА *ж.* Прарэшак. *Гузікі і патэлькі былі на паясніцы штаноў, спадніцы.* Старыя Трокі Трак. *Патэлькі з вузкага шнурочка ці тасмы.* Гемзы Шальч.

ПАТЭ'ЛЬНЯ, ПАТЭ'ЛЬНА, ПАТЭ'ЛІНА, ПЭТЭ'ЛЬНЯ, ПЯТЭ'ЛЬНЯ *ж.* Скаварада. *Патэльня з ручкай і без ручкі.* Ёдлавічы Брасл. *На патэльні бліны пякуць.* Малькуны Ігн. *На патэльні спякла яйка з салам. На сталє патэльня стаяла.* Кураполле Паст. *Скаварада, а папросту — патэльня.* Крэва Смарг. *Палажы тлушчу на патэльню.* Стральцы Шальч. *На патэльні скваркі скварацъ.* Баброўнікі Гарад. *Гарачыя бліны с патэльні з маслам — німа смачней.* Ністанішкі Смарг. *Бульбачнікі на патэльні патпякалі.* Жодзішкі Смарг. *На патэльні прэсняк пеклі.* Лука Нараўк. *Патэльна стаіць. Смажам садла, сланіну.* Быстрыца Астр. *Скаварада звалася, цяпер патэлінай.*

Дзёрнавічы В.-Дзв. *Какорыну пяклі: картошкі садраць, мукі на патэліну кладуць і пяклі на смітане.* Валынцы В.-Дзв. *Патэліна, а ціпер скаварада.* Лісна В.-Дзв. *Зачяв сало на пэтэльні пэчы.* Дзмітравічы Кам. *Пэтэльня з дэржаком.* Смаляніца Пруж. *Спячы на пэтэльні сало.* Калясное Міхал. *Гарох і боп напражыш, як цепліцца печ, на пятэльні пражыш.* Ракаўскія Швянч.

ПА'ТЭРКІ *гл.* ПА'ЦЕРКІ

ПАУ'К *м.* Павук. *Пауке пауценя снуюць.* Новікі Гродз. *Спускаецца паук — будзе новасць.* Мсцібава Ваўк.

ПАУМІРА'ЦЬ *зак.* Памерці (пра ўсіх, многіх). *Маі бацькі пауміралі маладыя.* Саланое Віл.

ПАУМНЕЦЬ *зак.* Паразумнець. *Пастарэла, дык паумнела.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *поумнеть* 'тж'.

ПАЎАСМІ'НАК *м. устар.* Мера зямлі, палавіна восьмай часткі надзелу. *Паўасмінак зямлі.* Малахоўцы Бар.

ПАЎБАЦЬКО'ВІК *м.* Айчым. *У яго паўбацьковік.* Рыбчына Віл.

ПАЎБІВА'ЦЬ *зак.* Павыбіваць. *Паўбівалі ямкі.* Азяраны Раг.

ПАЎБІРА'НЫ *дзеепрым.* Добра апрануты. *Цяпер дзеці паўбіраныя ходзюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна паўбіраная ходзіць.* Гальшаны Ашм.

ПАЎБЛІ'Н *м.* Палавіна бліна. *Паўбліна з'ела.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЎБУРНО'СІК *м.* Кароткі бурнос. *Бабы паўбурносік шылі.* Кураполле Паст.

ПАЎБУТЭ'ЛЕК *м.* Паўбутэлькі. Вецярэвічы Пух.

ПАЎВАЛО'КА *ж. устар.* Палавіна надзелу зямлі. *Паўвалока, траціна і чацвярціна зямлі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎВАЛО'ЧКА *ж. памянш.* да паўвало́ка. *Паўвалочка зямлі.* Ракаўскія Швянч.

ПАЎВАЛО'ЧЧА *н.* Тое ж, што і паўвало́ка. *Валока зямлі — дваццаць чатыры дзесяціны, палова валокі — паўвалочча.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЎВАРО'ЧЫЦЬ *зак.* Павывернуць (пра ўсё, многае). *Паўварочыла сцены ўсе.* Малахоўцы Бар.

ПАЎВО'РВАЦЬ *зак.* Узараць (пра ўсё, многае). *Паўворвалі балата, расце ўсё харашо.* Альхоўцы Лях.

ПАЎВЯРСТА' *ж.* Паўкіламетра. *Прайшоў с паўвярсты.* Паляцкішкі Воран.

ПАЎВЯ'ЦЬ *зак.* Павяць. *Паўвялі гэтыя буракі.* Кузьмічы Люб.

ПАЎГАДАВА'ЦЦА *зак.* Павыгадавацца. *Паўгадаваліся дзеці, цяпер мне спакайней стала.* Малахоўцы Бар.

ПАЎГАЛО'ДВАЦЦА *зак.* Выгаладацца (пра ўсіх, многіх).

*Трохо за дзень пайгалодваліса, павыходжваліся.* Вялікі Краснік Пруж.

ПАЎГАНЯ'ЦЬ *зак.* Павыганяць. *Ён іх пайганяў.* Вецярэвічы Пух.

ПАЎГІНА'НЫ *дзеепрым.* Пагнуты. *Пайгінаная бляшанка, вядро.* Мярэцкія Глыб.

ПАЎГІ'Р *м.* Пухір. *Пайгір ускочыў на руцэ.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЎГЛЯДА'ЦЦА *зак.* Углядацца. *Пайглядалася ты.* Старое Сяло Зэльв. *Пайглядалася курыца на курыцу.* Граўжышкі Ашм. *Пайглядайся, як яна піша.* Вецярэвічы Пух. *Я пайглядайся, як яна ідзе.* Мсцібава Ваўк. *Глядзі, каб пайглядайся ў вакно, увідзіш, як едуць, то скажаш.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЎГРА'ЖВАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Дома рушнікі ўсе пайгражваюць.* Вецярэвічы Пух.

ПАЎДЗЁН *м.* Поўдзень. *Карой гоняць дамой у пайдзён.* Валынцы В.-Дзв. *Ужо пайдзён, нада гнаць карой у хлей.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЎДНЁМ *прысл.* У поўдзень. *Пайднём паедзіць у Полацк.* Валынцы В.-Дзв. *Прышоў пайднём дамой.* Саланое Віл.

ПАЎДНЯ' *н.* Тое ж, што і п а ў д з ё н. *На пайдня прыганяюць карой, па кустах падзержаць трохі і ўсё.* Груздава Паст. *Да пайдня рабіла.* Жодзішкі Смарг. *Слонца прастаіцца — пайдня.* Гальшаны Ашм.

ПА'ЎЗ, ПА'ЎС *прыназ.* з *він.* 1. Каля. *Усягды ягады пайз балота растуць.* Азяраны Раг. *Пайз дарогу канавы, а некалі загразалі машыны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Руддзё — сенажаць, пайз рэчку, а там алешнік, ельнік, топкае месца.* Мачаск Бярэз. *Пойдзя пайз рэчку.* Багушэвічы Бярэз. 2. Праз. *Толькі адна дзяўчына вылезла. Вышла ды пайс плот.* Ачыжа Чэрв.; *гл.* ДАБМ, карта № 221.

ПАЎЗІРА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а ў г л я д а́ ц ц а. *Пайду пайзіраюся, хто ідзе.* Жылі Іўеў. *Пайду пайзіраюся, ці гоняць карой.* Кіралі Шчуч. *Пайду пайзіраюся на бульбу.* Старыя Смільгіні Воран. *Пайду ў акно пайзіраюся. Лепш у цілівізар пайзірацца.* Дакудава Лід. *Інцярэсно пайзірацца, як робяць.* Цярэшкі Ваўк. *Сходзіця, дзяўчата, на вечарынку, пайзірайцеся, што там робіцца.* Пяронім Сл. *Пайзірайся сабака і ўцёк.* Бакшты Іўеў. *Пайзірайся, вун кветкі яна ломіць.* Альхоўка Навагр. *Яна ідзе, пайзірайся.* Навасёлкі Свісл.

ПАЎЗЛА'ЗІЦЬ *зак.* Узлезці (пра ўсіх, многіх). *Пайзлазяць на заборы і глядзяць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПАЎЗРАСТА'ЦЬ, ПАЎЗРО'СТАЦЬ *зак.* Вырасці (пра ўсіх, многіх). *Як дзеці пайзрасталі, то ляхчэй стала.* Кіралі Шчуч. *А дзеці як пайзросталі, то паехалі хто куды.* Малахоўцы Бар.

ПАЎЗУ'Н I *м. заал.* Земляная жаба. *Ёсць жаба пайзун, яна не скача, а пайзе.* Лісна В.-Дзв.

ПАЎЗУ'Н II *м.* Плывун. *Пайзун — зямля такая, не дзержыцца, як вада.* Чычалі Швянч.

ПАЎЗУ'ХА *ж. бат.* Павітуха. *Пайзуха па зямле пайзець.* Мішневічы Шум.

ПАЎЗЦІ', ПАЎСЦІ' *незак.* 1. Паўзці. *Пайзе дзіця.* Солы Смарг. *Гадзюка пайзла шчэ.* Рагулішкі Даўг. 2. *перан.* Спаўзаць. *Шкарпэткі ня дзержацца, пайзуць.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЎКА'ДАК *м.* Бочка, выдзеўбаная з калоды. *Пайкадак вышэй цэбара, а кадзь — вялікая бочка.* Рыбчына Віл.

ПАЎКАЛУПІ'ЦЬ *зак.* У выразе: *пайкалупіць ціхая свіня*— сказаць што-н. непрыемнае, укалоць. *Як пайкалупіць ціхая свіня, так і сэрца павярнець.* Саланое Віл.

ПАЎКІДА'ЦЬ *зак.* Павыкідаць. *У нас быў файны сад, грушы, пчолы былі. Як напаў гнілец, дык пайкідала парэчкі.* Мсцібава Ваўк. *Вобуй пайкідала на двор. Гарэла хата, успела адзежу пайкідаць.* Малахоўцы Бар.

ПАЎКО'ПАНЫ *дзеепрым.* Выкапаны (пра ўсё, многае). *Шулля пайкопаны.* Крэва Смарг.

ПАЎКО'ПАЦЬ *зак.* Павыкопваць. *Пайкопалі слупы.* Старое Сяло Зэльв. *Пайкопалі бярвення дайнія, яны былі занесены ў віры і засыпаны пяском.* Альхоўцы Лях. *Пайкопалі карчы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎКО'ШЫК *м.* Палавіна кошыка. *Набрала пайкошыка гнілое картошкі.* Малахоўцы Бар.

ПАЎКУ'ПВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а ў к о́ п а ц ь. *Куры пайкупвалі ямы.* Мсцібава Ваўк., Вецярэвічы Пух.

ПАЎКУ'РАК *м.* Хто не курыць. *Пайкурак, кажуць, той, хто ні курыць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЎЛА'ЗІЦЬ *зак.* Павылазіць. *З хат пайлазілі.* Вецярэвічы Пух.

ПАЎЛІ'ЗВАЦЬ *зак.* Павылізваць. *Кап усё паелі, пайлізвалі.* Любішчыцы Івац.

ПАЎЛУ'ШЧВАЦЦА *зак.* Павылушчвацца. *Гарэхі пайлушчваліся.* Малахоўцы Бар.

ПАЎЛЮ'К *м. заал.* Слімак. *Пайлюкі паелі сыравешкі.* ▽ *Пайлюк, пайлюк, выстаў рогі, дам тры грошы на пірогі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЎМАКА'ЦЬ *зак.* Павымакаць. *Паймакала картошка.* Багушэвічы Бярэз.

ПАЎМІРА'ЦЬ *зак.* Памерці (пра ўсіх, многіх). *Яны паймірапі.* Швэды Вільн. *Многа лет пажылі і паймірапі тутака.* Гемзы Шальч. *Паймірала многа салдат ад ран на фронце.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У нас пшчолы паймірапі.* Руднікі Шальч.

ПАЎМЫВА'ЦЬ *зак.* Павымываць. *У каго дочкі ёсць,*

*паўмываюць усё, а мне трэба давеку самой мыць, ніхто мне не памые.* Вецярэвічы Пух. *Я паўмывала коўдру. Скінула кашулю і паўмывала.* Дакудава Лід.

ПАЎМЯРЗА'ЦЬ *зак.* Павымярзаць. *Паўмярзалі яблыні.* Альхоўцы Лях.

ПАЎНО'СІЦЬ *зак.* Павыносіць. *Усё паўносілі, у хаця пуста.* Малахоўцы Бар.

ПАЎНЮ'СЬКІ *прым.* Поўны. *Стаіць вада, паўнюськія грады.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЎНЯ *ж.* Тое ж, што і п а ў д з ё н. *Слонца пат просту — скора будзя паўня.* Стральцы Гродз.

ПАЎПАДА'ЦЬ *зак.* Упасці (пра вочы). *Вочы паўпадалі.* Альхоўцы Лях., Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎПА'ДУВАЦЬ *зак.* Паўвальвацца. *Не напасціў кароў, галодныя, бы на пашы не былі, паўпадувалі бокі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЎПАЛЬТО' *н.* Паўпаліто. *Паўпальто адзену.* Малахоўцы Бар.

ПАЎПЕ'Ч *м.* Лаўка каля печы. *Паўпеч — дзе можна сесці.* Чычалі Швянч.

ПАЎПЕ'ЧАК *м.* Тое ж, што і п а ў п е́ ч. *Паўпечак — шырокі, можна паляжаць, а вускі — кап на печ залезці.* Магуны Паст. *Паўпечак — даска такая.* Кураполле Паст.

ПАЎПІНА'ЦЦА *зак.* Выпнуцца. *Паўпінаюцца жылы на руках.* Кузьмічы Люб.

ПА'ЎПРЫСНЫ *прым.* Які мае адносіны да паўпрыцы. *Верхні камень, ці паўпрысны, у жорнах.* Мачаск Бярэз.

ПАЎПРЫ'ЦА *ж.* Металічная пласцінка, на якой трымаецца верхні камень жорнаў. *Паўпрыца ў камені, і на ёй камень круціцца. Паўпрыца — залеско такое.* Дзяніскавічы Ганц. *Паўпрыца ў жорнах.* Гайна Лаг., Тухавічы Лях. *Пракруцілася паўпрыца, яна зялезная, яе надзяюць на пнічок, як шапачка.* Рудня Астравітая Чэрв. *На той паўпрыцы задзержываіцца шпень.* Альхоўцы Лях. *Верацяно ў ніжнім камяні. У гэтым камяні паўпрыца. Верацяно ідзе ў паўпрыцу.* Крэва Смарг. *Паўпрыца жалезна ў жорнах.* Кудзяляниы Шальч. *На паўпрыцы камянь круціцца. Паўпрыца — жалеска такая, па паўпрыцы камянь круціцца.* Парэчча Гродз. *На паўпрыцы камень верхавы круціцца, а сподні не круціцца.* Кіралі Шчуч.

ПАЎПУСКА'ЦЬ *зак.* Павыпускаць. *Пайду перш куры паўпускаю.* Мсцібава Ваўк. *Паўпускалі кароў, трэба бехці за імі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎРО'ЗЫ, ПАЎРУ'ЗЫ *мн.* Матузы. *Паўрозы ў хвартуха.* Тухавічы Лях., Ісерна Слуц. *К андаракам паўрузы.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* польск. *powróz* 'вяроўка, канат'.

ПАЎРО'С *м.* Повад. *Ніводнага паўроса не было ў каровы, а цяпер паўрос навязаны на шыі.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЎРЭ'СКА *ж.* Палавіна надзелу зямлі. *Паўрэска зямлі — палавіна надзела.* Старыя Смільгіні Воран.

ПА'ЎС *гл.* ПА'ЎЗ

ПАЎСЕ'КУВАЦЬ *зак.* Насячы (пра ўсё, многае). *Паўсекувалі і паўрэзувалі дроў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЎСЕ'ЎРЫЦЬ *зак.* Пасівераць. *Паўсеўраюць рукі, патрэскаюць.* Палік Барыс.

ПАЎСКА'КАВАЦЬ *зак.* Паўскакваць. *Прышчыкі паўскакавалі на руках.* Беразіно Докш.

ПАЎСКА'ПУЦЬ *зак.* Ускапаць. *Паўскапула зямлю на грады.* Азяраны Раг.

ПАЎСЛУ'ХАЦЦА *зак.* Паўслухоўвацца. *Народ паўслухаецца.* Старое Сяло Зэльв. *Пайду паўслухаюся, што яны гаворацьь.* Галубы Маст. *Пакруці часы і паўслухайся, ці ідуць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Паўслухайся, як яна спявае, што яна гаворыць.* Кемялішкі Астр. *Люблю паўслухацца.* Альхоўка Навагр. *Паўслухаяссся, дзе як ткаць.* Дакудава Лід.

ПАЎСПЯВА'ЦЬ *зак.* Паспець (пра ўсё, многае). *Паўспявалі гарбузы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎСТАВА'ЦЬ *зак.* Устаць (пра ўсіх, многіх). *Паўставалі ўжэ, агне ест.* Номікі Бабіц.

ПАЎСТА'НЦЫ *мн.* Паўстанцы. *Паўстанцы хадзілі.* Кудзялянцы Шальч.

ПАЎСТА'ЦЬ *зак.* 1. Набухнуць. *Паўсталі жылы на руках, у старога рукі жылаватыя.* Кіралі Шчуч. 2. Узнікнуць. *Як свет паўстаў, так яно ідзе.* Гемзы Шальч. 3. Узмацнець, узнавіцца. *Мястэчка не магло паўстаць дзеля адных пажараў.* Дзераўное Стаўб.

ПАЎСТРЭ'ССЮ *прысл.* Пад стрэхамі. *Паўстрэссю пахаваліся.* Ухвала Круп.

ПАЎСТЫДА'ЦЦА *зак.* Засаромецца. *Паўстыдалася яна.* Галубы Маст.

ПАЎСУКЕ'НАК *м.* Паўсукно. *Аснова мляная, а шэрсцяй паўтыкаяш — паўсукенак.* Чуркі Ашм.

ПАЎСУКЕ'ННІК *м.* Спадніца з паўсукна. *Паўсукеннік суннком патыкалі, паўсукенная спадніца.* Мярэцкія Глыб.

ПАЎСУКЕ'ННЫ *прым.* Паўсуконны. *Паўсукенныя майкі.* Быстрыца Астр.

ПАЎСУКНО' *н.* Тое ж, што і п а ў с у к е́ н а к. *Пацягавалі кажух, корту, набіралі паўсукна.* Рудня Чэрв.

ПАЎСУКЯНКО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і п а ў с у к е́ н н ы. *Паўсукянковая спадніца.* Саланое Віл., Гемзы Шальч.

ПАЎСУ'ШВАЦЬ *зак.* Асушыць (пра ўсё, многае). *Паўсушвалі балоты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАЎСХАДЗІ'ЦЬ *зак.* Паўзыходзіць. *Не ўзышлі буракі, не паўсхадзілі буракі.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЎСЦІ' *зак. экспр.* Ісці. *Нада памаленьку паўсці і рабіць.* Груздава Паст. *Стаў паўсці к лесу.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЎСЫХА'ЦЬ, ПАЎСЫХА'ЦІ *зак.* 1. Павысыхаць. *Ужо паўсыхала бялізна.* Дакудава Лід. 2. Тое ж, што і паўпа́дуваць. *Паўсыхалі мае кумпякі.* Кемялішкі Астр.

ПАЎСЯКА'ЦЬ *зак.* Павысякаць. *Не ўспелі паўсякаць лес.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАЎСЯНО'ЎВАЦЬ *незак.* Назапашваць сена. *Паўсяноўвалі ўжо сена.* Альхоўка Навагр.

ПАЎТАРНІ'К *м.* Сорт льну. *Лён бываіць паўтарнік, гэта харошы лён. Адзін і нулявы— плахі лён, а другі — самы луччы.* Мішневічы Шум.

ПАЎТРАЦІ', ПАЎТРАЦЯ' *ліч.* Дзве, два з палавінай. *За паўтраці гадзіны памёр. Далі паўтраці сотні, каб патынкаваць хату.* Старыя Смільгіні Воран. *Паўтраця дзісятка яёк купіў.* Альхоўка Навагр.

ПАЎТРАЦІ'НА *ж.* Тое ж, што і паўтрацí. *З паўтраціны палучаяцца дзве палы і палавіна трэцяй, шылі андаракі.* Ракаўскія Швянч.

ПАЎТРЕ'ХВАЦЬ *зак. перан.* Патраціць. *Тады много грошай паўтрехвалі.* Любішчыцы Івац.

ПАЎХО'ДЗІЦЬ *зак.* Павыходзіць. *Паўходзяць усе на работу, а ты сядзі, як воўк.* Ахрэмаўцы Брасл. *Усе паўходзілі.* Кузьмічы Люб.

ПАЎЦАГЕ'ЛКА *ж.* Палавіна цагліны. *Паўцаґелкі ліжаць, як рухнула печ.* Лісна В.-Дзв.

ПАЎЦАЛЁВЫ *прым.* Які адпавядае палавіне цалі. *Цвек паўцалёвы.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *cal* 'цаля'.

ПАЎЦЕ'НЁ, ПАЎЦЕ'НЯ *зб. н.* Павуцінне. *Павук паўценё пляце.* Малахоўцы Бар. *Паўценя з пылу бывая.* Парэчча Гродз.

ПАЎЦЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Пакачаць (бялізну). *А ў мяне качалка так добра паўцюжыла.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* руск. *поутюжить* 'папрасаваць'.

ПАЎЦЯГА'ЦЬ *зак.* 1. Павыцягваць бялізну пасля яе сушкі. *Усе памыла, паўцягала, паўцюжыла.* Малахоўцы Бар. ◊ *Ногі паўцягаць* — памерці. *Яны скора ногі паўцягаюць.* Малахоўцы Бар.

ПАЎЧВАРТА' *ліч.* Тры з палавінай. *Паўчварта рока жыла тасцявая са мной, у міне і ўмёрла.* Новікі Гродз.

ПАЎЧЫ'НА *ж.* Тое ж, што і паўцéнё. *Усюды паўчына вісіць.* Крэва Смарг.

ПАЎЧЫ'НКА *ж. памянш.* да паўчы́на. *Паўчынка плыве.* Быстрыца Астр.

ПАЎЧЫ'ННЯ *зб. н.* Тое ж, што і п а ў ц е́ н ё. *Павук віець паўчыння.* Магуны Паст.

ПАЎШАСТА' *ліч.* Пяць з палавінай. *Прынёс на плячах паўшаста пуда.* Альхоўка Навагр.

ПАЎШО'РКІ *мн.* Шлеі ў вупражы. *На лошадзь кладуцца раменныя паўшоркі і пад хвост, яны з пугавіцамі.* Гемзы Шальч.

ПАЎШО'РЫ *мн.* Тое ж, што і п а ў ш о́ р к і. *Паўшоры накладаюцца на каня, былі з вяровак.* Жодзішкі Смарг.

ПАЎШЧЫ'ТВАЦЬ *зак.* Павылічваць. *Паўшчытвалі той раз і гэты раз налогі.* Мсцібава Ваўк.

ПАЎЮ'ХА *ж.* Тое ж, што і п а ў з у́ х а. *Паўюха ўецца, ліпнецца да рук, расце ў збожжы, у льне, лісточкі дробныя.* Мсцібава Ваўк.

ПАФАРСАВА'ЦЦА *зак.* Пафанабэрыцца. *Дзяўчатам хочацца пафарсавацца.* Кудзялянцы Шальч.

ПАХ I *м.* Пах. *Цыбулі нажарыла, кап пах быў.* Гальшаны Ашм.

ПАХ II *выкл.* Бах (пра выстрал). *Патходжу, аш ляціць цецераў, і сеў, а я — пах! Ён і ўпаў.* Журыхі Віл.

ПА'ХА *ж.* 1. Паха. *Узяў пад паху.* Сакаляны Сакол. 2. *анат.* Падуздышная ўпадзіна ў жывёлы. *Наелася карова, аж пахаў ня відна.* Рагулішкі Даўг.

ПАХАВА'ННЕ *н.* Пахаванне. *Пашла наказваць на пахаванне.* Лісна В.-Дзв. *Пойдзім на пахавання.* Ністанішкі Смарг. *Дохтар прыехаў с пахавання.* Альхоўка Навагр.

ПАХАВА'НЫ, ПАХО'ВАНЫ *дзеепрым.* Пахаваны (пра памёршага). *Бацька памёр у вайну, пахаваны ў канцы магілак. Як прышло паведамленя, што памёр сын, яны не паказалі бацьком, а ён там пахаваны.* Альхоўка Навагр. *Мае мамо і тато тут пахованы.* Малахоўцы Бар. *Там яго бацька пахованы.* Вецярэвічы Пух. *Людзі не пахованы былі.* Альхоўцы Лях. *Мае дзеці там пахаваны.* Гальшаны Ашм.

ПАХАВА'ЦЦА *зак.* Пахавацца. *Абкрадзе мяне, ня буду мець за што пахавацца.* Кудзялянцы Шальч.

ПАХАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а х а в а́ ц ц а. *Яна тры мужыкі пахавала.* Альхоўка Навагр. *Даюць вячэру, як пахаваюць нябожчыка.* Вялікія Баяры Шчуч. *«Я цябе пахаваю на нашых магілках»,— гаварыла сынавая свякрыві.* Паляцкішкі Воран. *Ён пахаваіць дарам.* Саланое Віл. *Яе ў Таўсах пахавалі.* Рагулішкі Даўг. *Нябожчыка пахавалі і справілі жалобны абет.* Магуны Паст. *Яна два мужы пахавала.* Малі Астр.

ПАХАДЖА'ЦЬ *незак.* 1. Хадзіць. *Яна зноў прыехаўшы пахаджая па полю.* Альхоўка Навагр. *Яна пахаджая па вуліцы.* Малахоўцы Бар. 2. Рухацца. *У клякоццы было падвешана тры пальцы, яны пахаджалі, стукалі аб карыцца, і*

*здалёк чуеш, дзе карова.* Мсцібава Ваўк. *Устаўляецца прэнцік* [у плузе], *кап пахаджала. У церніцы ест язык, ён пахаджая.* Малахоўцы Бар.

ПАХАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Пахадзіць. *Пахадзіла столькі па лесе.* Мярэцкія Глыб. *Як па расе паходзіш босы — парэпаюцца пяты.* Солы Смарг. 2. Апладніцца. *Карова пахадзіла.* Саланое Віл.

ПАХАДЗЯ'КА *ж. зневаж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пахадзяка ты! Абскакала ўсю дзярэўню, а ў печы не паліла.* Мішневічы Шум.

ПАХАДНЯ' I *ж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пахадня пушла па хатах.* Лука Нараўк.

ПАХАДНЯ' II *ж.* Падмосткі. *Пахадня, як крыюць крышу.* Мярэцкія Глыб.

ПАХАДЫ' толькі *мн.* Дарожкі. *Бачу ўсе сцежкі, пахады.* Вецярэвічы Пух.

ПАХАДЫ'КА *м.* і *ж.* 1. *устар.* Жабрак. *У пахадыкі не было хаты, хадзіў ад вёскі да вёскі. Даўней казалі: «Замыкай ты хату, а то тут пахадыка ходзіць».* Груздава Паст. 2. *экспр.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пахадыка гэта ўзяла маю сетку.* Солы Смарг.

ПАХАЛО'ДАЦЬ *зак.* Астыць. *Бліны пахалодалі.* Пасека Ст.-Дар. *Пахалодаюць картошкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пахалодала вада, трэба памыць пасуду.* Альхоўцы Лях.

ПА'ХАНІЦА *ж.* Ворыва. *Зямлю пахаім — гэта паханіца.* Саланое Віл.

ПА'ХАНЬ *ж.* Выкарчаваны ўчастак сярод лесу. *Пахань зрабіў, а кругом лес.* Дзяніскавічы Ганц.

ПА'ХАР *м.* Араты. *Пахар дзеля вола хадзіў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАХАРА'НІВАЦЬ *незак.* Хаваць. *Даўней золата харанілі, пахаранівалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАХАРА'ШВАЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Пахарашваесся, па дзярэўні ходзіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАХАРО'Н *м.* Тое ж, што і п а х а в а́ н н е. *Была на пахароні.* Ахрэмаўцы Брасл. *На пахарон хадзіў.* Рагулішкі Даўг. *Баба памерла, пахарон быў.* Крэва Смарг. *Квашніну рабілі, як пахарон або вяселле.* Ракаўскія Швянч.

ПАХАРО'НКІ *мн.* Тое ж, што і п а х а в а́ н н е. *Пахаронкі тут былі, баба памёрла.* Валынцы В.-Дзв. *На пахаронкі хадзілі.* Альхоўцы Лях.

ПАХАРО'НЫ *мн.* Тое ж, што і п а х а в а́ н н е. *Пайду ў пахароны, людзі плачуць, а ў мяне слёзы ня йдуць.* Кураполле Паст. *Яны ездзілі на пахароны.* Вецярэвічы Пух.

ПА'ХАТ I *м.* Тое ж, што і п а́ х а р. *Добры быў пахат, сільны.* Ухвала Круп.

ПА'ХАТ II *м.* Тое ж, што і п а х I. *Як зацвіце рабіна — пахат такі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПА'ХАТА *ж.* Тое ж, што і п á х а н і ц а. Рудня Астравітая Чэрв. *Пахата — паханае поле, машына на пахату ўз'ехала.* Саланое Віл. *Послі пахаты — дзіскоўка, ці кульціваныя.* Кузьмічы Люб.

ПАХАТКІ' *прым.* Зручны для работы. *Зубы стругаюць, каб граблі былі пахаткія.* Курапалле Паст.

ПАХА'ТНІЦА *ж.* Тое ж, што і п а с а л ý х а. *Пахатніца па хатах лётае.* Пасека Ст.-Дар.

ПАХА'ЦЦА *незак.* Арацца. *Як некалі было, то папар не пахаецца: летам аддыхае, а ўв°осень пад жыта.* Дзяніскавічы Ганц. *Зімля там ні пахаіцца, пашня.* Саланое Віл.

ПА'ХАЦЬ *ж.* Тое ж, што і п á х а н і ц а. *З аднае стараны пахаць была.* Альхоўцы Лях.

ПАХА'ЦЬ *незак.* 1. Араць. *Кто зямлю пахаў, тот і сеяў. Ён на карове пахаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Карова бывая гарбатая, як пахаеш ёю.* Альхоўцы Лях. *Аржыска пахалі.* Стральцы Шальч. *Там, дзе пахаюць, альшэўнік быў.* Саланое Віл. *Плугам пашуць, патом драпаком ілі бараной.* Індра Красл. *Конем пахалі.* Навікі Лудз. *Пахалі два раза, другой раз перапахвалі на зіму.* Істра Лудз. *Зямлю нада было пахаць.* Пярэкі В.-Дзв. *Дзе вышэй, там і пахаюць, сеюць.* Азяраны Раг. *Картошку пахалі.* Рагулішкі Даўг. 2. Прыносіць мёд (аб пчолах). *Воск, дзе пчолы мёд пашуць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПА'ХАЦЯ *ж.* Тое ж, што і п á х а н і ц а. *Па пахаці ходзіш.* Мярэцкія Глыб.

ПАХВАЛДАВА'ЦЬ *зак.* Пашыць у складкі. *Пахвалдавала сама сваю спадніцу.* Ракаўскія Швянч.

ПАХВАЛЕ'ЙКО *м.* і *ж. неадабр.* Хвалько. *Пахвалейко ты!* Старое Сяло Зэльв.

ПАХВАЛІ'ЦЦА *зак.* Пахваліцца. *Мы пахваліліся, што купілі соль.* Гальшаны Ашм. *Чым ён можа пахваліцца.* Малі Астр.

ПАХВАЛІ'ЦЬ *зак.* Пахваліць. *Паздароўкаліся дзеці, я іх пахваліла.* Солы Смарг.

ПАХВАРБО'ВАНЫ *дзеепрым.* Пафарбаваны. *У мяне ёсць пахварбованыя нгкалі ніткі.* Дакудава Лід.

ПАХВАРЭ'ЦЬ *зак.* Захварэць (пра ўсіх, многіх). *Мушчыны пахварэлі.* Дакудава Лід.

ПАХВАТА'ЦЬ *зак.* Схапіць (усіх, многіх). *Сарока пахватала трох пісклят.* Саланое Віл.

ПАХВАТНО'Е *н.* Дэфіцыт. *Як што пахватное выкінуць, то зараз разбяруць.* Мсцібава Ваўк.

ПАХВІ'НА *ж. анат.* Пахвіна. *Карові прабілі пахвіну.* Мішневічы Шум. *Цялуся пахвіну разадрала рогам, аш валё*

*паднялося, кішкі вышлі пад скуру.* Саланое Віл. *Пахвіна ў каровы.* Дакудава Лід. *Пахвіны ў каровы поўныя.* Азяраны Раг. *Як паядая карова добро, то пахвіны малыя.* Пасека Ст.-Дар. *Грыжа ў пахвіня.* Магуны Паст. *Кароста скрозь, у пахвінах найбольш.* Лука Нараўк.

ПАХІЛІ'ЦЬ *зак.* Нахіліць. *Плот пахілілі. На плот яго пахіліла.* Лісна В.-Дзв.

ПАХІ'ЛЫ *прым.* 1. Які пахілены. *Пахілая дрэва.* Старыя Смільгіні Воран. *Пахілае дзерава вырастае і расце.* Бакшты Іўеў. *Там стаіць дуб пахілы, і там кумова магіла.* Кузьмічы Люб. 2. Пакаты. *Пахілая страха.* Глівін Барыс., Беразіно Докш.

ПАХІНУ'ЦЦА *зак.* Пахіснуцца. *Я пахінулася, і чую, як трэснула,— і спіна забалела.* Вецярэвічы Пух.

ПА'ХЛАПЕНЬ *м.* і *ж. асудж.* Хто неакуратны. *Пахлапень ты, чаму ў цябе ягады нячыстыя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАХЛЁБКА *ж. кулін.* Поліўка. *Нарваў травічку і варыў пахлёбку.* Альхоўцы Лях.

ПАХЛІБА'ЦЬ, ПАХЛЯБА'ЦЬ *зак. экспр.* Паесці. *Можа, макаронаў цёплых пахлібаіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сухая яда надаела, каб кваску пахлябаць.* Баброўнікі Гарад.

ПАХЛЫ'СКАЦЬ *зак. экспр.* Паесці. *Кату дай капусты пахлыскаць.* Саланое Віл.

ПАХЛЮ'СТАЦЬ *зак. экспр.* Памыць. *Пахлюстаю грыбы ў двух водах.* Парэчча Гродз.

ПАХМУРНЕ'ЦЬ *зак.* Пацямнець. *Патом гляджу — пахмурнело, ды старому кажу: «Мусіць, зацьменё сёня».* Пяронім Сл.

ПА'ХМУ'РНЫ *прым.* 1. Хмурны. *Дзень пáхмурны.* Ністанішкі Смарг. *Цігаюцца хмары, як дзень пáхмурны.* Старыя Смільгіні Воран. *Пахмýрная пагода.* Старыя Трокі Трак. 2. Які мае хваравіты выгляд. *Карова пахмýрна, з оч невясёла, відаць, захварэла.* Мсцібава Ваўк.

ПАХМЫ'ЛА *м.* і *ж.* Хто пануры. *Пахмыла злуе, не гавора.* Малі Астр.

ПАХМЫ'ЛІШЧА *м.* і *ж.* Тое ж, што і п а х м ы́ л а. *Такі пахмылішча, прыдзя, ні рохня, ні прывітаяцца.* Малі Астр.

ПАХНЁНЦЫ *прым.* Пахучы. *Пахнёнцы перац кладуць у кілбасу і пасыпаюць паляндвіцы, і ў вотку, як п'юць, усыплюць.* Кіралі Шчуч. *Язвін пахнёнцы, натта добра пахня.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *pachnący* 'тж'.

ПА'ХНУЦЬ, ПА'ХНУТІ *зак.* Пахнуць. *Лажылі кмін — і хлеб пахне.* Стральцы Шальч. *Добра пахнець сенам.* Ністанішкі Смарг. *Пахне зайцам.* Паляцкішкі Воран. *Пахне харашо.* Жылі Іўеў. *З лашчыны сена не пахне.* Альхоўка Навагр. *Некаторы квіткі гожэ пахнут. Голодному хліеб здалека пахнэ.* Курашэва Чыж. *Яварy парэжаш, пасыпіш у хаце, каб*

*пахла.* Латыгаль Віл. *Натта ш запах, пахне хораша.* Гальшаны Ашм. ◊ *Пахнуць панам* — добра пахнуць. *Вы сёння пахнеце панам.* Мсцібава Ваўк.

ПАХНУ'ЧЫ, ПАХНЮ'ЧЫ, ПАХНЮ'ШЧЫ *прым.* Пахучы. *Перцу пахнучага дабаўлю.* Солы Смарг. *Пахнючы жысьмін, скора будзіць цвісці.* Валынцы В.-Дзв. *Табака пахнючая.* Магуны Паст. *Мята пахнюча, як канфеты.* Гальшаны Ашм. *Пахнючая мята.* Плябанцы Ашм. *Оркі перац пахнюшчы.* Быстрыца Астр. *Румянак — палявая рамашка, а што здаюць у апцеку, пахнюшчая дужа.* Крэва Смарг.

ПАХО'ВІНЫ *мн.* Тое ж, што і п а х а в а́ н н е. *Паховіны, як чалавек памрэ.* Гальшаны Ашм.

ПАХО'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Быць родам адкуль-н. *Ён паходзіць з Магілёву.* Солы Смарг. 2. Быць падобным на каго-н., што-н. *Апалонічак* [Вялікая Мядзведзіца] *на небя паходзя на палонік, што наліваюць.* Крэва Смарг. *Яна на бацьку паходзіць.* Солы Смарг.

ПАХО'ЖЫ *прым.* Падобны. *Пахожы на мацяру ці на бацьку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дырса расце ў жыця, да жыта пахожа.* Старыя Трокі Трак.

ПАХО'ПАМ *прысл.* Ахвотна. *Бабоўнік гаркавы, свіні яго ядуць пахопам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАХРАБАСТА'ЦЬ, ПАХРАБУСТА'ЦЬ, ПАХРАПУСТА'ЦЬ *зак. экспр.* 1. Пабіць. *Пахрабастаў усю пасуду.* Саланое Віл. *О, ужэ пахрабустоў плытку талёрку.* Галубы Маст. *Усю пасуду пахрабустаў.* Кіралі Шчуч. *Пахрапустала ўсю пасуду.* Вецярэвічы Пух. 2. Паламаць. *Пахрабустаў косці табе?* Пацаўшчына Дзятл. 3. Разбіць. *Пахрабустала ўжэ яйко.* Вялікія Баяры Шчуч. 4. Патаптаць. *Пахрабустаў усё ў гародзе.* Міратычы Карэл.

ПАХРАСЦІ'ЦЦА *зак.* Прарасці. *Трэба, каб пахрасціліся гурке.* Дзяніскавічы Ганц. *Пахрасцілася картофля, моцно велькія храшчэ.* Міратычы Карэл. *Пахрасцяцца гурке, гарбузэ — і садзім.* Пацаўшчына Дзятл. *Буракі пахрасціліся, нада садзіць.* Рыбчына Віл. *Бульба пахрасцілася.* Пасека Ст.-Дар.

ПАХРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Прарасціць. *Пахрасціла дужа рана гуркі.* Масілавічы Сл.

ПАХУ'К *м. анат.* Яйцо. *У кнура выкладаюць пахука.* Асавец Віл.

ПАХУ'ШЧЫ *прым.* Пахучы. Масілавічы Сл. *Бэс цвіце — пахушчы.* Малахоўцы Бар. *Пахушчая дзерава елавец.* Галубы Маст. *Аер паткладалі, пахушчы хлеб тады быў.* Дакудава Лід.

ПА'ХЦІ *зак.* Смярдзець. *Пачыная пахці рыба.* Азяраны Раг.

ПАХЦЮ'Р *м.* Кіпцюр. *Пахцюрэ ў ката, у сабакі, у каршуна бывая.* Кіралі Шчуч.

ПАЦ *м.* Пацук. *Каты пацаў ні бяруць.* Рудня Чэрв., Крэва Смарг. *Сланіну на гары вешалі, пацы завядуцца і ўсё паядуць.* Кудзялянцы Шальч.

ПАЦАЛУ'ШНІЦА *ж.* Улюблівая жанчына. *Пацалушніца — то кабета, якая любіць мушчын.* Граўжышкі Ашм.

ПАЦАНІ'ЦЬ *зак.* Аціаніць. *Дарага пацанілі зямлю, то ніхто не сядаў.* Парэчча Гродз.

ПА'ЦАРКІ *гл.* ПА'ЦЕРКІ

ПАЦЕРАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Абцерабіць. *Вецер асіну зламаў, трэба пацерабіць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Разадраць. *Я прышчык пацерабіла, раскулапала — і нарываець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАЦВІСЦІ' *зак.* Пакрыцца плесняй. *Пацвіла адзежа, нада пэрэсушываць.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ПАЦЕ'ПАЦЦА *незак.* Чухацца. *Ён як сядзеў, так і сядзіць, сядзіць і пацепаецца.* Вецярэвічы Пух.

ПАЦЕ'ПЛІЦЬ *зак.* Напаліць (печ). *Пацяплела, як пацеплілі.* Магуны Паст. *Мы бапцы сказалі, што прышлі пагрэцца, дый яна зарас пацепліла печ, спякла бліноў, дала нам гарачых ізьесці.* Мацясы Мядз. *Ён і печ так-сяк пацепліць.* Кураполле Паст.

ПА'ЦЕРАБ, ПАЦЯРО'Б *м.* Участак, ачышчаны ад кустоў. *Пацераб — дзе пацярэбяць кусты.* Азяраны Раг. *Харошы пацяроб, а ўглыб — балота.* Рудня Чэрв. *Пацяроб — там мокрая пожня.* Мачаск Бярэз.

ПА'ЦЕРКІ, ПА'ЦІРКІ, ПА'ЦЮРКІ, ПА'ЦЯРКІ, ПА'ЦАРКІ, ПАЦЁРКІ, ПА'ТЭРКІ *мн.* Каралі. *Пацеркі доўгенькія.* Гемзы Шальч. *Пацеркі на шыю вешалі.* Навікі Лудз. *Пацеркі ўсялякія бываюць: і жоўтыя, і белыя, і сінія.* Кіралі Шчуч. *Паціркі насілі на танцы, медальёны — на ўточкі.* Рагулішкі Даўг. *Пацюркі падарыў мне красівыя.* Ухвала Круп. *Дзіця праглынула пацяркі.* Малахоўцы Бар. *Пацяркоў навешана.* Ахрэмаўцы Брасл. *Начапляла пацярок.* Рудня Чэрв. *Пацаркі — такія бусы.* Пасека Ст.-Дар. *Патэркі — то бусы.* Азарычы Пін. *Гапка купіла собе гожы пацёркі.* Курашэва Чыж. ◊ *Цячы (выступаць, капаць) пацеркамі* — струменіць (пра кроў, слёзы). *Як далі яшчэ дваццаць пяць розак, кроў пацякла пацяркамі, усё цела паднялося.* Анкуды Ашм. *Кроў пацеркамі выступаіць с цела, як накусаюць камары.* Кураполле Паст. *Слёзы капалі пацеркамі.* Курашэва Чыж.

ПАЦЕ'РПНУЦЬ *зак.* Здранцвець. *Пацерпнуць рукі ад работы.* Бакшты Іўеў. *Пацерплі ногі.* Вострава Маст.; *параўн.* літ. *tir̃pti* 'дранцвець'.

ПАЦЕ'РХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а ц е́ р п н у ц ь. *Не*

*магу кароў даіць, пацерхлі рукі, як бы мурашкі па іх бегаюць.* Жылі Іўеў.

ПАЦЕ'РЦІ *зак.* Памазаць. *Патрэць падмаскай скавараду і бліны пячэць.* Рагулішкі Даўг. ◊ *Пацерці квігу* — паказаць кукіш. *Я яму квігу пацёрла.* Саланое Віл.

ПА'ЦЕРЫ толькі *мн.* Малітва. *Наша бабуля пацеры гаварыла.* Альхоўка Навагр. *Некалі пацеры мовілі.* Груздава Паст. *Пацеры і малыя дзеці гаварылі.* Солы Смарг. *Стары шчэ пацеры гаварыў.* Альхоўцы Лях. ∇ *З п'яным гаварыць, што з кабылай пацеры мовіць.* Кураполле Паст.

ПАЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Палашчыцца. *Некалі ішла жаць і дзіця брала с сабой, прыбяжыць, пацешыцца каля яго і пойдзя зноў жаць.* Дакудава Лід. *Я пацешуся, скаціна да міне туліцца.* Малькуны Ігн. *Яна пацешылася да дачкі.* Малі Астр.

ПАЦЁКІ *мн.* 1. Рагі. *На вокнах пацёкі.* Мачаск Бярэз. 2. Кровападцёкі. *Пацёкі крыві на целе засталіся.* Ухвала Круп.

ПАЦЁЛАК *гл.* ПАТЦЁЛАК

ПАЦЁМНІК *м.* Хто маўклівы, негаваркі. *Пацёмнік нейкі. Такі чалавек ні разбяры-бяры.* Калядзічы Ваўк.

ПАЦЁНГЛАВЫ *прым.* Прадаўгаваты. *Пацёнґлавы твар.* Быстрыца Астр. *Яна доўгаліцая, твар пацёнґлавы.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *pociągły* 'прывабны, прынадны'.

ПАЦЁС *м.* Столь. *Скрабуцца мышы на пацёсе.* Галубы Маст.

ПАЦЁХЦІСЯ *зак.* Пачаць расці. *Пацёхся сівец, такая нізенькая і сівая трава.* Вецярэвічы Пух.

ПАЦІЛЯ'ГАЦЬ *зак. экспр.* Памыць абы-як. *Седзячы, трохху паціляагала бялізну, ні так памыла, як паціляагала.* Рыбчына Віл.

ПАЦІНКАВА'ЦЬ *зак.* Патынкаваць. *Пацінкаваць сцяны трэба.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЦІПА'ЙЛА *гл.* ПАЦЮПА'ЙЛА

ПАЦІ'РА *ж.* Страта. ∇ *Меўшы скаціну, будзіш мець паціру.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *потеря* 'тж'.

ПАЦІРА'ЦЬ *зак.* Згубіць. *Дачка паціряла ключ.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *потерять* 'тж'.

ПА'ЦІРКІ *гл.* ПА'ЦЕРКІ

ПА'ЦІРЫК *м.* Ручнік. *Пацірыкі ткалі ў пасачкі.* Жодзішкі Смарг.

ПАЦІ'СКАЦЬ *зак.* Пацерці. *Паціскаў ягады ўсе.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЦІ'ХАЙ *прысл.* Ціха. *Сяжу паціхай.* Масілавічы Сл.

ПАЦІХАМІ'РЫЦЦА *зак.* Уціхамірыцца. *Сідзеў, пака паціхамірыўся.* Саланое Віл.

ПАЦІ'ШАЦЬ *зак.* Пацішэць. *Вецер, можа, і пацішае за ноч.* Ухвала Круп.

ПАЦКАВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Пацкуй сабакамі.* Быстрыца Астр.

ПАЦУБА'ЙЛА *м.* і *ж.* Хто непаваротлівы. *Пацубайла гэты здаровы.* Саланое Віл.; *гл.* п а ц ю п а́ й л а.

ПАЦУГА'ЦЦА *зак.* Пагушкацца. *Пацугайся на цугайках.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАЦУ'К *м.* Тое ж, што і п а ц. *Пацук вялікі, а шчур малая.* Грыкені Вільн. *Пацук — такі длінны, хвост бальшушчы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пацук вадны і сухапутны.* Галубы Маст. *Пацука забіў.* Воўкуш Ліпск. *Пацукі былі завёўшыся.* Гемзы Шальч. *Пацуке занадзіліся ў хату.* Парэчча Гродз.

ПАЦУРБА'ЛАК *м. перан.* Вялікі кавалак. *Адваліў пацурбалак сала.* Альхоўка Навагр.

ПАЦЦЯПЛЯ'ЦЬ *незак.* Паліць у печы. *Хлеб замяшу і печ пацыпляю.* Талейкі Швянч.

ПА'ЦЦЯРАЧКІ *мн. памянш.* да п а́ ц е р к і. *Пацярачкі находзім на могліцах, даўныя-прадаўныя.* Саланое Віл.

ПАЦЦЯ'ШКА *ж.* Кола з зубцамі ў пярэднім навоі красён. *Пацяшка, што навойчыка з палатном круціць.* Дзяніскавічы Ганц. *Пацяшка для накаткі палатна.* Рудня Чэрв.; *парайн.* п а ц я́ ж к а.

ПАЦЫ'ГАЦЬ *зак. экспр.* Хутка пайсці. *Пацыгаў па вуліцы.* Азяраны Раг.

ПАЦЫ'РКАЦЬ *зак.* Падаіць. *Пайду я карову пацыркаю.* Вялікія Аўцюкі Калінк. *Пацыркай кароў.* Каменка Стара Сакол.

ПАЦЬ *ж.* Падзь. *Паць на травах, салоткая, часамі пчолы бяруць.* Глівін Барыс.

ПАЦЭ'ПНІЦА *ж. ткац.* Памылка, дапушчаная пры ўвядзенні асновы ў бёрда. *Як укінеш дзве пары разам, на адном ніце — то пацэпніца.* Вецярэвічы Пух.

ПАЦЮ'КАЦЬ *зак.* Пастукаць. *Малатком пацюкая.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЦЮЛЁЗАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п а ц і л я́ г а ц ь. *Пацюлёзаеш троху ў начоўках і на рэчку нясеш.* Кураполле Паст.

ПАЦЮПА'ЙЛА, ПАЦІПА'ЙЛА *м.* і *ж. зневаж.* Хто гультаяваты. *Пацюпайла такі, нераха на ўсе стораны.* Кураполле Паст. *Пацюпайла ляніцца хадзіць, ідзець ці стаіць, не ўгадаеш, робіць, што з рук работа ляціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пацюпайла марудна робіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Такі паціпайла: яна дрэўкі сячэ, а ён спіць.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* п а ч у п а́ й л а.

ПАЦЮ'ПІЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Індычынята пацюпіліся, яны баяцца страшна холаду, могуць паздыхаць.* Мсцібава Ваўк.

ПА'ЦЮРКІ *гл.* ПА'ЦЕРКІ

ПАЦЯ'ГАВІЧ *м.* Тое ж, што і п а ц ц я́ ж к а. *Пацягавіч на аборачку надзяецца, як палатно навіваюць на навой.* Саланое Віл.

ПАЦЯГА'ЧКА *ж.* Тое ж, што і п а с а л у́ х а. *Пацягачка брандая, цягаецца.* Азяраны Раг.

ПАЦЯ'ГІСТЫ *прым.* Лянівы. *Мой хазяін пацягісты быў, усюды трэба было самой.* Вецярэвічы Пух.

ПАЦЯ'ГНУТЫ *дзеепрым.* Абшыты зверху чым-н. *Кажух сукном пацягнуты.* Беразіно Докш.

ПАЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. *крав.* Абшыць зверху чым-н. *Пацягнулі кажух сукном.* Малахоўцы Бар. 2. Сцебануць. *Як пацягнеш пугаю, то на целі пісак.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЦЯГУ'ХА *ж. бат.* Дзераза. *Пацягуха ў лесі расцець.* Рагулішкі Даўг.

ПАЦЯ'ЖКА *ж.* Кажух, пацягнуты зверху сукном. Альба Нясв.

ПАЦЯ'ЖЫЦЦА *зак.* Надарвацца. *Можа, дзе я пацяжылася.* Міратычы Карэл.

ПАЦЯМЕ'ШЫЦЬ *зак.* Пачухаць. *Пацямешу за вухам пальцамі.* Граўжышкі Ашм. *Пацямешыла мама спіну.* Кураполле Паст.

ПАЦЯРА'ЦЦА *зак.* Згубіцца. *Я пацяралася, як давалі мне білет.* Старыя Трокі Трак.

ПА'ЦЯРКІ *гл.* ПА'ЦЕРКІ

ПАЦЯРО'БКІ *мн.* Пацяробкі. *Як пачысцяць капусту — пацяробкі, абрэзкі ад бульбы.* Глівін Барыс.

ПАЦЯРУ'ХА *ж.* Дробныя рэшткі сена, саломы. *Пацяруха ат сена, палова ат саломы.* Лука Нараўк., Рудня Чэрв.

ПАЦЯ'ЦЦА *зак.* Падацца назад. *Але як сталі крычаць людзі, дык воўк пацяўся назад у лес.* Адамава Валож.

ПАЦЯЧЫ' *зак.* 1. Пачаць цячы. *Пацікець вада ў маю яму.* Лісна В.-Дзв. 2. Ацячы. *Пацякала нага мая.* Паляцкішкі Воран.

ПАЧА'ДЗІЦЬ *зак.* Учадзець. *Уцякайця, а то пачадзяць галовы.* Старыя Трокі Трак.

ПА'ЧАК *м.* Пасылка. *Два пачкі было.* Парэчча Гродз.

ПАЧАКА'ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Пачакайце, я прынясу.* Дзераўное Стаўб.

ПА'ЧАРАЦА, ПА'ЧАРЫЦА *ж.* Падчарыца. Лісна В.-Дзв. *Пачарыца адна ў міне.* Пасека Ст.-Дар. *Пасынак і пачарыца.* Міратычы Карэл. *Мая ўнучка мачыся пачарыцай прыходзіцца.* Дакудава Лід. *Пачарыца з мачыхаю добра жывуць, а бывая і дрэнна.* Кіралі Шчуч. *Пачарыца гаварыла, што бацька не любіў яе, яна мае цяпер пяцёра дзяцей.* Ёдлавічы Брасл.

ПАЧАРВЕ'ЦЬ *зак.* Счарвівець. *Яблыкі пачарвелі.* Альхоўка Навагр.

ПА'ЧАРКА, ПА'ЧЧАРКА *ж.* Тое ж, што і п а́ ч а р а ц а. Пасека Ст.-Дар. *Пачарка — гэто нinfранародная дачка.* Малахоўцы Бар. *Паччарка дрэнна жыве.* Багушэвічы Бярэз.

ПА'ЧАСІ, ПА'ЧАСЫ, ПА'ЧАСЯ, ПА'ЧАССЕ, ПА'ЧАССЯ *мн.* Пачаскі. *Пачасі — послі другіх грабушкоў.* Быстрыца Астр. *Пачасі на шчотках.* Стральцы Шальч. *Пачасі лепшыя.* Ліпнікі Вільн. *У нас пачасі зовяцца.* Рагулішкі Даўг. *Пачасы — трэцяя кудзеля, бяс цярмяці.* Стральцы Гродз. *Пачасы палучаюцца, калі трэці рас на шарсцяную шчэтку чэшуць.* Дакудава Лід. *Пачасы беруцца, як шымо на кашулі.* Кіралі Шчуч. *Пачасы астаюцца на шчотках валасоў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пачасы часалі на шчоткі з свіной шэрсці.* Старыя Смільгіні Воран. *Пачасы — другі рас ачэша.* Паляцкішкі Воран. *Пачася пралі на воркі.* Кудзялянцы Шальч. *Палаценца с пачасся на кожды дзень.* Навікі Лудз. *Пачасся лепшая, яно з другой дзеравянкі.* Магуны Паст. *Пачасся — калі трэці рас чэшуць.* Асавец Віл. *З пачасся ткалі пачасніцу.* Лайпушкі Ігн. *Пачасся таней, пралі на кашулі.* Груздава Паст.

ПА'ЧАСНІКІ *мн.* Тое ж, што і п а́ ч а с і. *Пачаснікі — кудзеля, часалася другі рас свіной шчоткай, гэта кудзеля тонкая, з яе ткалі ручнікі.* Стральцы Гродз.

ПА'ЧАСНІНА *ж.* Палатно, вытканае з пачаскаў. *Спадніцы ніжнія шылі з пачасніны.* Быстрыца Астр. *З пачасніны порткі шылі.* Жылі Іўеў. *Датачыла кашулю пачаснінаю, бо не хваціла.* Кіралі Шчуч.

ПА'ЧАСНІЦА *ж.* Тое ж, што і п а́ ч а с н і н а. *Пачасніца з пачасяў.* Старыя Смільгіні Воран. *Прадзём і пачасніцу, тчом.* Стральцы Шальч. *Пачасніца — палатно з пачася.* Руднікі Шальч. *Пачасніцу выткалі.* Лайпушкі Ігн.

ПА'ЧАСНЫ *прым.* Вытканы з пачаскаў. *Ручнікі пачасныя, што ўціраліся.* Жодзішкі Смарг. *Пачасная палатно.* Малахоўцы Бар. *З пачаснага палатна шылі штаны.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЧА'ТАК *м.* Пачатак. *Ні канчатку, ні пачатку.* Гальшаны Ашм.

ПАЧАЎПІ'ЦЬ *зак.* Патаўчы. *Пачаўпіця бульбу.* Магуны Паст.

ПАЧА'ХНУЦЬ *зак.* Астыць. *Пачахла пойла.* Азяраны Раг.

ПАЧВА'РА *м.* і *ж.* 1. Хто жартаўлівы. *От пачвара ўдаўся, толькі ўсё ўгадуе і ўгадуе, штобы людзі смяяліся.* Малькуны Ігн. *Пачвара любіць шуціць, смяяцца.* Гемзы Шальч. *Пачвара — чалавек, што ўмеіць прастаўляцца, усяк выранджацца.* Ёдлавічы Брасл. 2. *абразл.* Хто брыдкі. ∇ *Каждая пачвара найдзіць сабе пару: багата чы будзіць, а жаната будзіць.* Кураполле Паст. *Выглядае, як пачвара, ні тоё ні сёе.* Мсцібава Ваўк.

ПА'ЧКА *ж.* 1. Тое ж, што і п а́ ч а к. *Пачку зрабілі і паслалі сыну.* Парэчча Гродз. *Занёс на пошту і здаў пачку.* Курашэ-

ва Чыж. 2. *перан.* Група людзей, аб'яднаных адной мэтай. *Крав не сам, там іх цела пачка. Як ідуць на мужыка, то цэлай пачкай.* Курашэва Чыж.

ПАЧКІ' *прысл.* Амаль. *Клець і свіран пачкі адно.* Валынцы В.-Дзв. *Пачкі год будзіць, як ён лісьніком.* Лісна В.-Дзв. *Пачкі такой парой памёрла.* Рагулішкі Даўг. *Цяпер аплачаваюць пачкі як тут.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шэсцьдзісят гіктар пачкі адным рукам можна уберыць.* Нерушова В.-Дзв.

ПАЧО'М *прысл.* Колькі каштуе? *Пачом кілаграм?* Малахоўцы Бар.; *парайн.* руск. *почем* 'тж'.

ПАЧО'ПІСТЫ *прым.* Спрытны. *Хто прэнткі, быстры, кажуць пачопісты.* Парэчча Гродз.

ПАЧО'ПКА *ж.* Почапка. *У паленных вёдрах была пачопка.* Ухвала Круп. *Пачопка ў кашолцы зламалася.* Беразіно Докш.

ПАЧО'СКА *ж.* Частаванне. *Быў у суседзяў на пачоскі.* Ухвала Круп.

ПАЧО'СЫ *мн.* Тое ж, што і п а́ ч а с і. *Пачосы — то чысты лён.* Смаляніца Пруж.

ПАЧО'ТНЫ *прым.* Пачэсны. *Ні пачотная бапская работа, за дзень наробішся, рад, што прывалішся.* Саланое Віл. *Наш дзядзечка быў пачотны.* Дзераўное Стаўб.

ПАЧО'ШХАЦЬ *зак.* Пачасаць. *Знахар пачошхаў доўгу бораду і гаворыць: «Я ўсё магу!»* Дзямянаўцы Дзятл.

ПАЧТАВІ'ЦА *ж.* Жанчына-паштальён. *Пачтавіца почту носіць.* Мішневічы Шум.

ПАЧТАЛЬЁН, ПАЧТАЛІО'Н *м.* Паштальён. *Пачтальён разносіць газеты, пісьма.* Кіралі Шчуч. *Кагда-то пачтальёны не разнасілі пісьма, каму нада, той і палучаў.* Гемзы Шальч. *Дочка работала пачталіонам.* Саланое Віл.

ПАЧУПА'ЙЛА *м.* і *ж.* *экспр.* Хто марудлівы. Чычалі Швянч. *Пачупайла капаіцца і капаіцца.* Малькуны Ігн. *Пачупайла капаіцца.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *pačiupáila* 'тж'.

ПАЧУ'ХАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а ч о́ ш х а ц ь. *Свярбіць цело, пачухай.* Міратычы Карэл.

ПАЧУ'ЦЬ *зак.* 1. Пачуць. *Ласкавага слова яна ад яго не пачуя.* Гальшаны Ашм. 2. Учуць. *Пачуе, дзе не па яго конь, толькі вушамі стрыжэ.* Чуркі Ашм.

ПАЧЦІ' *прысл.* Амаль. *У скрыні верх пачці знімаўся.* Судэрва Вільн.

ПАЧЫ'НАК *м. ткац.* Вялікае верацяно з пражай. *Пачынак — поўнае верацяно, на яго пераматвалі з двух, маглі і с трох верацён.* Стральцы Гродз. *Пачынак — поўнае верацяно пражы.* Лісна В.-Дзв. *Напрадзеная верацяно — гэта пачынак.* Гайна Лаг. *Пачынак навілі тоўсты.* Саланое Віл. *Верацяно з пражай звалі пачынак.* Рыбчына Віл., Навасёлкі Свісл., Жылі Іўеў. *Пачынак — верацяно нітак наматана.* Магуны Паст. *На-*

*прала пачынак із зачынак, наснавала губку, шчэ й на крук, пашыла андракі і хвартух.* Мачаск Бярэз. *Пучок на верацяно, пасоў васма, пачынак.* Кіралі Шчуч. *Два-тры верацяне — пачынак.* Малахоўцы Бар. *Пачынак — шмат ніток наўеш, ручок з тры, з чотыры.* Галубы Маст. *Дзве верацяне напрадуць, тады саўюць з аднае на другое — і гэто пачынак.* Міратычы Карэл. *Пачынак — ручаяк чатыры.* Тухавічы Лях. *Нескалька рукавядак на адзін пачынак, а з пачынка — на клубок.* Беразіно Докш. *Чатыры ручэйкі і пяць ручэек — пачынак.* Глівін Барыс. *Як напрадзеш боляй, саўеш, тады — пачынак.* Рудня Чэрв.

ПАЧЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Адрамантаваць. *Ён радзіволы пачыняіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Хату пачыняць ні стараіцца.* Пярэкі В.-Дзв. 2. Пачысціць (рыбу). *Нада рыбу пачыніць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПАЧЫ'НКА *ж.* Тое ж, што і п а ч ы́ н а к. *На адно верацяно звіваюць з двух пачынкаў.* Быстрыца Астр.

ПАЧЭ'КАЦЬ *зак.* Пачакаць. *Мінуту толькі пачэкаю.* Старыя Смільгіні Воран. *Пачэкай, разам паедзім.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *poczekać* 'тж'.

ПАЧЭ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Пайсці. *Куды гэта Марылька пачэпала?* Вецярэвічы Пух.

ПАЧЭ'РПАЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Паесці. *Пачэрпайце трохі цёплага.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Змясціць рой у раёўню. *Трэба пачэрпаць рой у ройніцу.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЧЭ'СТКІ *мн.* Тое ж, што і п а́ ч а с і. *З пачэсткаў кашулі шылі.* Гемзы Шальч.

ПА'ША *ж.* 1. Выпас. *Добрая паша.* Рудня Чэрв., Альба Нясв., Груздава Паст. *Паша — дзе пасуць коні, каровы.* Альхоўка Навагр. *У нас сёлета дрэнная паша, каровы рыкаюць і равуць, разраўліся.* Ёдлавічы Брасл. *Паша ў нас благая, каровы галонныя.* Саланое Віл. *Пагнала карову на пашу.* Гемзы Шальч. 2. Корм для пчол. *Трэба пакінуць пчалам пашы.* Азяраны Раг.

ПАШАВЭ'ЛАК *м.* і *ж.* Хто неахайны. ∇ *Ходзіш тут, як пашавэлак.* Малі Астр.

ПАШАЛЯХЦЕ'ЦЬ *зак.* Патрэсці. *Пашаляхціш часы — ідуць, не пашаляхціш — стаяць.* Кіралі Шчуч.

ПАШАНАВА'ЦЬ *зак.* Паберагчы. ∇ *Пашануй адзежу дома, адзежа — цябе ў людзях.* Кураполле Паст.

ПАШАНЦІ'ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Ні пашанціла нам.* Міратычы Карэл.

ПАШАПТА'ЦЬ *зак.* Сказаць замову. *Як гадзіна ўкусе, старуха пашэпча на хлеб — і атойдзя.* Руднікі Шальч.

ПАША'РПАЦЬ *зак.* 1. Паскубці (пра пер'е). *Нада пёры пашарпаць на падушку.* Ліпнікі Вільн. 2. Падраць. *Пашарпаў на латы адзення.* Мсцібава Ваўк. *Пашарпаў свае штаны.*

Ракаўскія Швянч. 3. Пакусаць. *Ёй сабака руку пашарпаў.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *poszarpać* 'рваць, раздзіраць, тармасіць'.

ПАШАРУШЫ'ЦЦА *зак.* Заблытацца. *Пашарушыліся лейцы каля калень.* Рыбчына Віл.

ПА'ШАРЫ *мн.* Кармы. *Пашараў навазілі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pašarai* 'тж'.

ПА'ШКА *ж.* Расшчэплены лазовы прут для пляцення кашоў. *Пашка — чым пераплятаюць кошык.* Альхоўка Навагр. *Ракіту раздзіраюць на пашкі і плятуць карзіны, а некалі плялі палукашкі.* Навасёлкі Свісл.

ПАШКАДАВА'ЦЬ *зак.* Пашкадаваць. *Баба яе не пашкадуя.* Малі Астр.

ПАШКО'ДЗІЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Такі чалавек натта ўракая, як паглядзіць, так і пашкодзіць.* Малі Астр.

ПАШКО'М *прысл.* Пехатой. *Пашком пайшоў.* Ухвала Круп.; *парайн.* руск. *пешком* 'тж'.

ПАШКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Гадзіць. *Гані адсюль катоў, пашкудзяць.* Стральцы Шальч. *Куры пашкудзят.* Парэчча Гродз.

ПАШКУ'СТВА *гл.* ПАСКУ'СТВА.

ПАШКУ'ЦТВА *гл.* ПАСКУ'СТВА

ПАШЛЁГАЦЬ *зак.* Пасцёбаць. *Вербачкай пашлёгаеш, як першы раз выганяеш у поле жывёлу.* Граўжышкі Ашм. *Пашлёгаў каня бічом.* Жылі Іўеў.

ПАШЛЁПАЦЬ *зак.* 1. Пахлопаць. *Пашлёпала мяне па плячу.* Бакшты Іўеў. 2. *экспр.* Пацягнуцца. *Пашлёпала, як кура па вадзе.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАШМАРАВА'ЦЬ *зак.* Намазаць. *Як паколяцца ногі, трэба масцямі пашмараваць.* Кемялішкі Астр. *Ногі пашмаравала.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлеб маслам ці шмэльцам пашмаруй.* Гемзы Шальч. *Пашмаруй варэнням.* Солы Смарг.

ПАШНЭ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і п а ш л ё п а ц ь 2. *Пашнэпалася баба, пашла павольна.* Груздава Паст.

ПАШНЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і п á ш а 1. *Пагнала кароў на пашню.* Альхоўка Навагр. 2. Ворная зямля. *Пашня — як поля засеюць.* Беразіно Докш. *Пашню нада бараніць.* Істра Лудз. *Пашня — засеяна поле.* Пасека Ст.-Дар. *Пашня — узаранае поле.* Малахоўцы Бар. *Пашня — поле, дзе пашуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Збіралі каменне на пашні.* Рудня Чэрв. *Я падгатовіў пашню пад жыта.* Кіралі Шчуч. 3. Від збожжавых культур. *Хороша пашня — жыта.* Хатынічы Ганц. *Злажылі ячменную пашню.* Рыбчына Віл. *Пашня — гатунак збожа. Усё адзельна, грэчка, авёс — каждая пашня.* Масілавічы Сл. 4. Агульная назва збожжавых культур. *Пашня — ячмень, жыта, авёс, гарох.* Дзяніскавічы Ганц. *Пашня — жыта, ячмень.* Вялікія Баяры Шчуч. *Грэчка, гарох, жыта—розная пашня была.* Рудня Чэрв. *Раней гаварылі пашня на ўсё збожа: авёс, ячмень,*

*грэчку, пшаніцу.* Азяраны Раг. *Пашню скасовалі статком.* Азарычы Пін. *Усякая пашня баіцца зелля.* Вецярэвічы Пух.

ПАШО′РПАЦЬ *зак.* Патрэскацца. *Пашорпаець цела да крыві.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *pašẽrpetoti* ’трэскацца’.

ПАШО′РХНУЦЬ, ПАШЭ′РХНУЦЬ, ПАШУ′РХНУЦЬ *зак.* 1. Пакрыцца крупкамі ад холаду (пра скуру). *Пашорхла скура — так холадно.* Кіралі Шчуч. *Пашорхла цела.* Дакудава Лід. *Такі холад праняў, што пашурхло цело.* Мсцібава Ваўк. 2. Сшэрхнуць, анямець (ад страху). *Як яго пачула, усё цела пашорхла.* Кіралі Шчуч. *Расказваю пра ўсялякія страхі, а рукі аж як не пашэрхлі.* Новіны Нясв. 3. Пакрыцца шаронам. *Снех пашорх, прама што крупы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *pašiur̃pti* ’зрабіцца шурпатым’.

ПАШО′РЫЦЦА *зак.* Прапасці. *У іх пашорыліся піскляты, вышлі два і тыя пашорыліся.* Саланое Віл.

ПА′ШПАРТ *м.* Пашпарт. *Пашпарт вываліўся яму з кармана.* Паляцкішкі Воран. *Я пашпарт маю.* Дзераўное Стаўб.

ПАШТА′НІКІ *мн.* Кальсоны. *У паштаніках раней касілі.* Рагулішкі Даўг.

ПАШТА′Р *м.* Паштальён. *Ты ходзіш, што паштар.* Лісна В.-Дзв.

ПАШТО′ *прысл.* Нашто. *Пашто дошч ёй патрэбен?* Граўжышкі Ашм.

ПАШУ′РПАЦЬ, ПАШУ′РПЦІ *зак.* 1. Тое ж, што і п а ш о р х н у ц ь 1. *Пашурпала цела ад холаду.* Парэчча Гродз., Чычалі Швянч. 2. Натапырыцца. *Натта куры пашурплі.* Гемзы Шальч.

ПАШУ′РХНУЦЬ *гл.* ПАШО′РХНУЦЬ

ПА′ШЧАНКА *гл.* ПАШЧЭ′НКА

ПАШЧАПА′ЦЦА, ПАШЧЭПА′ЦЦА *зак.* 1. Патрэскацца. *Пашчапаліся губы, чым ні мазала, не праходзіць.* Мішневічы Шум. *Рукі пашчапаліся.* Рудня Чэрв. *Пашчапаліся пяты, чорныя.* Жылі Іўеў. *Ногі пашчапаліся, трэба чым памазаць.* Саланое Віл. *Пашчапаліся ногі, аш пятухі.* Старыя Смільгіні Воран. *Пашчапаліся пяты.* Солы Смарг. *Бывала, толькі, здаецца, ляжаш, а ногі ныюць, пашчэпаюцца ат северу, вады — аш кроў дуткай б′ець.* Оцкавічы Паст. 2. Расшчапіцца. *Пашчапалася сучачка ў калаўроце.* Магуны Паст.

ПАШЧАСЛІ′ВІЦЦА *зак.* Пашанцаваць. *Яму пашчасцілівілосё.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАШЧА′СЛІЦЦА *зак.* Тое ж, што і п а ш ч а с л і в і ц ц а. *Мне пашчасліласа, і я паправілася.* Парэчча Гродз.

ПАШЧУЛА′КАЦЬ *зак.* Вылушчыць. *Я пашчулакала, а дзеткі выкінулі.* Рыбчына Віл.

ПАШЧЫТА′ЦЬ *зак.* Палічыць. *Пашчытай мне капейкі.* Міратычы Карэл.; *парайн.* руск. *посчитать* ’тж’.

ПАШЧЭ′НКА, ПА′ШЧАНКА, ПАШЧЭ′МКА, ПАШЧЭ′НЬ-

КА *ж.* Сківаца. *Пашчэнка ніжняя.* Солы Смарг. *І ў каня, і ў чалавека пашчэнка.* Воўкуш Ліпск. *Пашчэнкі і ў чалавека.* Магуны Паст. *Пашчэнкі ў каровы, свіні, авечкі.* Быстрыца Астр. *Кусаю, кусаю — пашчэнкі забалелі.* Малахоўцы Бар. *Пашчэнкі ў людзей.* Рагулішкі Даўг. *Выпаліць усе пашчэнкі.* Чычалі Швянч. *Пашчанку накруціла, як зубы балят.* Лука Нараўк. *Яму выбілі пашчэмкі.* Галубы Маст. *Пашчэмкі ў свіне, варацъ на квашаніну, выкідваюць.* Кіралі Шчуч. *Пашчэмкі ў чалавека.* Крэва Смарг., Вялікія Баяры Шчуч. *У свіне пашчэмкі, што разяўляе горла.* Парэчча Гродз. *Пашчэнькі ў свіней. Пашчэнькі павыбівалі, адныя санкі асталіся.* Ёдлавічы Брасл. *Пашчэнькі раззявіў, воўк велькі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПАШЧЭ'НІ *мн.* Тое ж, што і п а ш ч э́ н к а. *Пашчэні ў свіней, у каровы споднія.* Лука Нараўк.

ПАШЧЭПА'ЦЦА *гл.* ПАШЧАПА'ЦЦА

ПАШЫБНІ' *мн. кулін.* Галушкі. *С хлебнага цеста варылі пашыбні, галушкі такія, залівалі каноплямі.* Івашкаўцы Смарг.

ПАШЫБНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць. *Пашыбнула палкай.* Вецярэвічы Пух.

ПАШЫ'НА *зб. ж.* 1. Галлё, якім накрывалі лён пры замочванні. *Пашына была з алешніку, ёй прыціскалі лён.* Валынцы В.-Дзв. *Сначала лён ложаць, патом пашына, патом накачваліся памакі, каб не паплыў лён.* Мішневічы Шум. 2. Хваёвая і яловая ігліца. *Я награбу пашыны і ў хлеў нясу.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Стажар'е. *Пашыну нада класъ пад стох, алешнік сякуць і сцелюць, дзе будзіць стог.* Валынцы В.-Дзв. *Пашына падсцілаецца пад стог, бярэзніку, лазіну ссякуць, алешыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 4. Галлё, якое кладзецца ў выбоіны на дарозе. *Пашыну насцілаюць, дзе якая выбоіна, нізіна на дарозе.* Кураполле Паст.

ПАШЫ'РЫЦЬ *зак.* Пашырыць. *Вузкая хвальбонка, пашырацъ нада.* Асавец Віл.

ПАШЫРЭ'ННЕ *н.* Пашырэнне. *Дзелалі пашырэнне дарогі, і дзе гэтыя курганы — абнаружылі чалавечую косць.* Ухвала Круп.

ПАШЫТКАВА'ЦЬ *зак.* Пакрышыць. *Пашыткуюць баравік і солас робюць.* Валынцы В.-Дзв.

ПАШЫХАВА'ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Пашыхавала мне пагода, і я ўсё зрабіла, усе хусты, усе порткі памыла.* Кіралі Шчуч. *Як пашыхуе, то хутко прыедзе.* Мсцібава Ваўк. *Як пашыхуя, то ўвосянь вернецца.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *szykować się* 'рыхтавацца'.

ПАШЫ'ЦЦА *зак.* 1. Пабегчы. *Пашылася карова ў лес, бы вуш.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Падлезці. *Пашыліся пад курыцу кураняты.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Панамятацца (пра

снег). *Снег усюды пашыўся, у кожду шчылінку.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАШЭ'НЦІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п а ш ы х а в а́ ц ь. *Яму пашэнціла, паступіў у інстытут.* Магуны Паст. *Так пашэнціла мне, я і вочарадзь заняла.* Солы Смарг.

ПАЯВІ'ЦЦА *зак.* З'явіцца. *Адтуль мы і паявіліся.* Гемзы Шальч.

ПАЯДА'ЦЬ *зак.* Паесці. *Кот рыбу выцягнуў і паядаў.* Граўжышкі Ашм. *Паядаў добра бліноў.* Ністанішкі Смарг. *Туды пойдуць і паядаюць.* Пасека Ст.-Дар. *Ён сам ні паядаў усяго, прыяжджалі госці і жылі цэло лето.* Дзяніскавічы Ганц. *Паядаць усе ягады.* Груздава Паст. *Вот той год паядалі сліў.* Магуны Паст.

ПАЯДУ'ХА *ж.* Тое ж, што і п а т р а́ в а І. *Накрышу цыбулі і будзіць паядуха.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЯ'ЗД *м.* У выразе: *Ціхім паяздам* — цішком. *Ён ціхім паяздам запісаўся ў сельсавеце.* Галубы Маст.

ПАЯЗДЫ' *прым.* Выязны. *Гэты конь толькі паязды, для паяздоў.* Рыбчына Віл.

ПАЯНДО'РЫЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п а ш л ё п а ц ь 2. *Твая ўжо паяндорыла на медпункт шукаць здароўя.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАЯНЧЫ'НА І *ж.* Клок поўсці. *У каня паянчына каля капыта.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПАЯНЧЫ'НА ІІ, ПАЯНЧЫ'НЯ *ж.* Павуціна. *А пожня абцянута паянчынай белай.* Малькуны Ігн. *Танчэй за паянчыню тая хустка звязана.* Талейкі Швянч.; *параўн.* польск. *pajęczyna* 'тж'.

ПАЯ'С *м.* 1. Пояс. *Ад спадніцы атстрыжом на паяс.* Ёдлавічы Брасл. *Кужолная кашуля да паяса.* Кураполле Паст. 2. Перакладзіна ў драўляным ложку. *Мяне спхнулі на берах лошкі, там паясэ прыбіты, а па іх дошкі ўкладзены.* Кіралі Шчуч. 3. *буд.* Брус паміж кроквамі. *Паясамі кроквы збіты, каб яны не зыбаліся.* Гемзы Шальч.

ПАЯСАВА'ТЫ *прым.* Паласаты. *Паясаватыя п'яўкі і рабыя.* Старыя Смільгіні Воран.

ПАЯСНІ'ЦА *ж.* 1. *анат.* Паясніца. *Сільна баліць у паясніцы.* Паляцкішкі Воран., Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і п а я́ с 1. *Паясніца ў спадніцы.* Гемзы Шальч. *У штанох паясніца.* Вецярэвічы Пух. *Ужо порткі пашыла, трэба паясніцу прылажыць.* Кіралі Шчуч. 3. Нашыйнік. *Паясніца ў цяляці. Мы зрабілі паясніцу з лейцаў, з тасьмы.* Міратычы Карэл.

ПАЯСНІ'ЧКА *ж. памянш.* да п а я с н і́ ц а 3. *Паяснічку толькі маладым каровам вешалі.* Дакудава Лід.

ПАЯ'СТКА *ж.* Паездка. *Бурку адзівалі ў паястку, як на базар ці ў госці ехаць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *jazda* 'язда'.

ПАЯСЯ′СТЫ *прым.* Тое ж, што і п а я с а в а́ т ы. *Дзікі паясястыя.* Малі Астр.

ПЕ′ВЯНЬ *м.* Певень. *Певянь пяе.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕ′ГІ *мн.* Рагі. *Я ўся была ў копках, у пегах, пегі былі па твары.* Малі Астр.

ПЕ′КА *ж.* Пухір. *На нагах была пека, на пеках была ўся рука.* Старыя Трокі Трак.

ПЕ′КАТА′ *ж.* Пякотка. *Пе́ката пячэ.* Малахоўцы Бар. *Паката́ пячэ.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕКЕЛЯВА′ЦЬ *незак.* Пакутаваць. *Будзіш усю жызнь пекеляваць.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* п я к л а в а́ ц ь.

ПЕ′КЛА *н.* Пекла. ∇ *Каб яго душа ў пеклі гарэла!* Вецярэвічы Пух. *Бяз чорта пекла ня будзя.* Малі Астр.

ПЕ′КЛІЦЦА *незак.* Мітусіцца. *Я пеклюся, пеклюся, а толку няма.* Крэва Смарг.

ПЕ′КНА, ПЕ′КНЕ *прысл.* 1. Прыгожа, добра. *Старэнькая бапка ідзець у каптурку і пекна. Ні пекна хоць і старому паглядзець.* Саланое Віл. *Салавей спявае пекне.* Каўняны Гродз. 2. Здатна, лоўка. *Пекна прасці гэтыя вярхі.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *pięknie* 'тж'.

ПЕ′КНЫ *прым.* 1. Прыгожы. *Цяпер во і дзяцей пагадавала, дачка выдана замуш, сын нідаўна пашоў у войска, а прыслаў карточку, дык ні пазнаць — такі пекны, поўны — дык і дома такім ня быў.* Лаўцы Глыб. *Яна такая пекная была.* Парэчча Гродз. *Пекная дзяўчына, пекная баба.* Мярэцкія Глыб. *Пекны хлопец, пекна дзеўчына.* Мсцібава Ваўк. *Вырас пекны ўдалец.* Саланое Віл. *Была пекная місачка драўляна. Дзяцел пекны: і малінавы і зялёны.* Каўняны Гродз. *Такі пекны* [матэрыял]. Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дом пекны.* Пузыры Мядз. *У мяне голас быў пекны.* Саланое Віл. 2. Добры. *Праўда, пекныя грыбкі, у нядзелю і я схаджу ў лес.* Асавец Віл. *Пекныя буракі параслі.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *piękny* 'тж'.

ПЕ′КУН *м. заал.* Бакас. *Пекун пячэ* [крычыць] *на цяпло, жыве ў лесе; крычыць ён так: пеку, пеку.* Вецярэвічы Пух.

ПЕ′КУР *м.* Чалавек, які мае рабаціністы твар. *У яго ўсе дзеці белявыя, а меншы — пекур.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕЛЕНА′, ПЕ′ЛІНА, ПЕ′ЛЯНА′, ПЕ′ЛЯНЬ, ПІЛЯНА′, ПЯЛЯНА′ *ж.* 1. Прыпол. *Пасадзі дзіця на пелену́.* Ісерна Слуц. *Глядзіш ты пелены не апка́пай, фартушок прывяжы.* Кураполле Паст. *У пе́ліне прынясуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бяры шчоўе ў пе́ляну.* Вецярэвічы Пух. *Пе́ляну вымазала, намачыла пе́ляну.* Пасека Ст.-Дар. *Набрала ў пе́ляну агуркі. Агуркі выбіраеш у пе́ляну.* Вецярэвічы Пух. *У пеляне́, або ў прыпале, прынесла казлякоў.* Дзяніскавічы Ганц. *Прынясуць у пеляне дахаты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Усып мне яблык у пеляну.* Груздава Паст. *Адна пелянь.* Альхоўцы Лях. *Піляну агрэсту нашчыпаюць, і матка слова ні скажыць, рабяты распусныя.*

Мярэцкія Глыб. *Што ў цябе ўжо піляна падзёрлася ў спадніцы?* Груздава Паст. *Набрала зелля ў пяляну.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Падол у сарочцы, сукенцы. *Матка паклікала, ён скік з яго піляны. Ідзі на піляну.* Мярэцкія Глыб. *Я ш яе дзіржала на піляне. Хадзі ка мне на пеляну́.* Груздава Паст. *На пеляну́ пасадзіла дзіця.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* руск. *пелена* 'заслона, пакрывала', літ. *pelẽnė* 'палатно цадзіць луг'.

ПЕЛЕНГНЯ'РКА *ж.* Медсястра. *Вучыцца на пеленгнярку.* Лука Гайн.; *параўн.* польск. *pielęgniarka* 'тж'.

ПЕ'ЛІВА *н.* Поліва. *Сеня снуць няможно: пеліва.* Быстрыца Астр. *У мене дахалеры пеліва. Пеліва — гэта пялю і пялю гароды.* Гемзы Шальч.

ПЕ'ЛІКА, ПЕ'ЛЯКА *ж.* Няўдобіца. *Пеліка — пустая, запушчаная зямля, падзоль.* Беразіно Докш. *Пеліка — самая высокая зямля.* Мачаск Бярэз. *У пеліку ўсыпаў, не парасце.* Багушэвічы Бярэз. *На этай пеліке ўсё выгарае.* Глівін Барыс. *На пеляца нічога ні расце.* Рудня Чэрв. *Поле было благоя — пеляка. Там была такая пеляка, а цяпер расце добра.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* п я л е́ к а.

ПЕ'ЛІНА *гл.* ПЕЛЕНА'

ПЕ'ЛІЦЬ *незак.* Палоць. *Пасеялі лён і пелям рукамі.* Быстрыца Астр. *Апахуеш і рас, і два, а тады пеліш.* Старыя Трокі Трак.

ПЕ'ЛЬКА *ж.* Палонка. *Прасек пельку на раццэ і паставіў нераты ў проруп. На ўюны прасек пельку. У пельца ваду бралі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пельку прасеч трэба.* Багушэвічы Бярэз. *Пелька — рыбу лавіць.* Лапічы Асіп. *Пешняю прасякаюць пельку.* Вецярэвічы Пух. *Прасячы пельку, будам плацце праць.* Пасека Ст.-Дар. *Пелька не ўмерзая.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* літ. *pélkė* 'балота'.

ПЕ'ЛЮСЦЬ, ПЕ'ЛЯСЦЬ *ж.,* ПЕ'ЛЮСЦІ *мн.* 1. Чалеснікі. *Дым прас пелюсць — і далей кіруецца ў комін.* Галубы Маст. *Пакладом дрова, аш пат пелюсць ідуць.* Дакудава Лід. *Пелюсць у пячэ, закрываецца засланкай.* Грыцавічы Свісл. *Пелюсць абваліласа, трэбо ўставіць цагліну і замазаць глінаю.* Баброўнікі Гарад. *Пелясць прагарэла, нада паправіць. Пастаў гаршчок у пелясці.* Кіралі Шчуч. *У печы пелюсці, прыпяк, ток, паднябенё і скляпенё.* Малахоўцы Бар. *Пелюсці ў печы.* Масілавічы Сл. *У печы пелюсць, куды гаршке ўсоўваюць.* Збляны Лід. 2. Выступы ў ночвах, на якія клалі мыла, бялізну і інш. *У начоўках пелясць у канцы, на пелясць паложыш мыла.* Мярэцкія Глыб. *У начоўках пелюсці, дзе аджымалі бялізну.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пелюсці ў ночвах.* Вецярэвічы Пух. 3. Папярочная дошка, прыбітая зверху ў канцах лодкі. *Пелюсці ў чайцы — у канцох устаўлена папярочная дошка.* Вецярэвічы Пух.

ПЕЛЮ'ШКА I *гл.* ПЯЛЮ'ШКА I

ПЕЛЮ'ШКА II *гл.* ПЯЛЮ'ШКА II

ПЕ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і п е́ л ь к а. *Пелю прасякаюць і перуць плацця.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕ'ЛЯКА *гл.* ПЕ'ЛІКА

ПЕЛЯКАВА'ТЫ *гл.* ПЯЛЕКАВА'ТЫ

ПЕ'ЛЯНА' *гл.* ПЕЛЕНА'

ПЕЛЯНГАВА'ЦЬ *незак.* Даглядаць. *Вомплыя малыя гусі, трэба іх пелянґаваць.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *pielęgnować* 'тж'.

ПЕЛЯНТАВА'ЦЦА *незак.* Корпацца. *Пелянтуйся з імі, з гэтымі квятамі.* Гемзы Шальч.

ПЕ'ЛЯНЬ *гл.* ПЕЛЕНА'

ПЕ'ЛЯСЦЬ *гл.* ПЕ'ЛЮСЦЬ

ПЕ'ЛЯЧКА *ж. памянш.* да п е́ л я. *Рыба прыходзіць к пелячке.* Азяраны Раг.

ПЕ'НА *ж.* Пот (у каня). *Конь спацеў, аж пена белая ідзець. Каня прыгналі пат пенай.* Ёдлавічы Брасл. *Спарыў каня, увесь мокры, у пені.* Лісна В.-Дзв. *Пена с каня, конь сагрэўся, аш пат пенай.* Навікі Лудз. *Пат пенай конь.* Мачаск Бярэз. *Пена выступіла, так конь спарыўся.* Солы Смарг. *Конь у пені.* Беразіно Докш. *Пена — шум на кані.* Чычалі Швянч.

ПЕ'НАЧКА *ж. памянш.* да п е́ н к а. *Пеначку на малаку.* Солы Смарг. *Пеначка на малацэ зачырванея.* Вецярэвічы Пух.

ПЕНЁК *м. памянш.* да п е н ь I, 1. *Выдзіралі пенькі.* Лука Нараўк.

ПЕ'НІЦЬ *незак. экспр.* Есці са смакам. *Дзіцёнак есць гліну, аш пеніць. Так есць, аш пеніць.* Саланое Віл.

ПЕ'НКА *ж.* Пенка. *Паднялося малако, пенка жоўтая.* Мярэцкія Глыб. *Пенку ўсе любяць, яна смашна.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пенка ў малацы.* Рыбчына Віл.

ПЕННЁ *зб. н.* Пні. *Пення многа астаецца.* Якубова Рас.

ПЕ'ННЯ *зб. н.* Адросткі пер'яў. *Выдініла курыца, адно пення асталося. Пення многа, не абрала добра курыцы.* Лісна В.-Дзв.

ПЕ'НСІЯ *гл.* ПЭ'НСІЯ

ПЕНТЭ'ЛЬКА *ж.* Пятля для зашпільвання. *Пентэлька з нітак робіцца.* Малі Астр.

ПЕНЦІ'НА *гл.* ПАНЦІ'НА

ПЕНЬ I *м.* 1. Рэшткі камля ссечанага дрэва. *Пень — спілаваная дзерава. Асталіся адныя пні ў лесе.* Ёдлавічы Брасл. *З пня пушчай і складай.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гупка па пнёх расце.* Івашкаўцы Смарг. *Я іду праз кусты, а пні вялікія.* Гемзы Шальч. *Высокія і ніскія пні.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв., Палік Барыс. 2. Бервяно. *Пяць пнёў лесу купіў.* Паляцкішкі Воран. *Далі пяць пнёў лесу.* Рыбчына Віл. *Пяць пнёў лесу прывёз.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Дрэва наогул. *Далі пяць пнёў лесу на выруб.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сем пнёў*

*можна вырубіць.* Палік Барыс. 4. Куча галля, ламачча. *Пень — куча сукоў.* Ёдлавічы Брасл. 5. *перан.* Неразумны чалавек. *Пень ты, гаворыш, гаворыш — і хоць бы што дайшло да цябе.* Палік Барыс. ▽ *От ходзіць, як пень дурны.* Ёдлавічы Брасл. *Прыбяры, і пень будзе харашэйшы.* Ёдлавічы Брасл. *Пень-калода, ці будзя пагода? Калі будзя — акажысь, а ня будзя — захлісніся.* Бакшты Іўеў. ◇ *За пнём галава* — пра чалавека, які ні аб чым не клапоціцца. Ёдлавічы Брасл.

ПЕНЬ II *м.* Вулей для пчол, зроблены з камля дрэва. *Пень — калода пшчол.* Ёдлавічы Брасл. *Было моў дваццаць пнёў пчол.* Мсцібава Ваўк. *Пчалы было пяцдзясят пнёў. У мяне сем пнёў пчол.* Малахоўцы Бар. *У мяне було дваццаць пяць пнёў пчол.* Парэчча Гродз. *Сколькі пнёў пчол ён мае?* Мыто Лід.

ПЕНЬ III *м.* Адросткі пер'яў пасля лінькі птушак. *У куры адны пні тырчаць.* Беразіно Докш. *Пні на гусі. Вот пнёў многа, як вылінаіць!* Саланое Віл. *Пер'я нет, адны пні. У кур адны пні, так аблезлі.* Мішневічы Шум. *Пні ў куры тырчаць.* Мярэцкія Глыб. *Пні тырчаць, как сцержні.* Пасіене Лудз. *Пні тарчат.* Чарняўскія Лудз.

ПЕНЬЧУЧО'К *м.* Аб'едзенае шкоднымі насякомымі сцябло бульбы. *Жукі паелі картоплю, адны пеньчучкі засталіся.* Вецярэвічы Пух.

ПЕ'НЯЦЬ *незак.* 1. Пеніцца. *Малако пеняіць моцна — дрэнна, як быстра доіш і шырока ідзець, то пеняіць малако.* Ёдлавічы Брасл. 2. Пакрывацца пенай. *Пеняіць конь, як нядужы, конь морыцца ў пені.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕНЯ'ЦЬ *незак.* Скардзіцца. *Пеняла: што эта за доч, я яе радзіла, а яна не прызнае мяне.* Навікі Лудз.

ПЕРААСВЕ'РЫЦЦА *зак.* Перавесіцца праз зруб, дастаючы са студні ваду. *Пераасверыцца і дастаець ваду.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* п е р а с в ё р ы ц ц а.

ПЕРАБА'ВІЦЬ *зак.* Расказаць. *Перабавіла басні.* Кураполле Паст.

ПЕРАБАЛЕ'ЦЬ *зак.* Перахварэць. *Жаўтухай перабалелі — печань бальной стаў, пасаветавалі бярозавый грып піць.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАБАРАЗНІ'ЦЬ *зак.* Перапыніць (размову). *Перабаразнілі мяне.* Саланое Віл.

ПЕРАБАРО'ЦЬ *зак.* Перасіліць. *Хто каго пераборыць?* Чычалі Швянч.

ПЕРАБІВА'ЦЦА *незак.* Жыць у нястачы. ▽ *Перабіваемся з куля ў рагожку.* Юркава В.-Дзв.

ПЕРАБІ'РАВАЦЬ *незак.* Перабіраць што-н. *Не перабіравалі ўпярот бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАБІРА'НЕЦ *м.* Даматканы ручнік. *Перабіранцы на іконы вешалі.* Жодзішкі Смарг.

ПЕРАБІРА′НКА *ж.* Даматканая посцілка з узорамі. *Перабіранкі ткалі.* Стральцы Шальч. *Перабіранка ў пяць нічальніц, яе ў руках перабіраюць, такая лапатка ёсць.* Бeнякoні Воран. *І перабіранку ткалі.* Кухты Віл. *Перабіранка ткана ў дымкі, у лапкі, у скрынкі.* Вецярэвічы Пух. *Бабы перабіранкі ткалі.* Гемзы Шальч. *Тканыя перабіранкі красівыя, на іх узоры.* Малахоўцы Бар.

ПЕРАБІРА′НЫ *дзеепрым.* Сабраны ў фалды, у зборку. *Старынныя рубашкі мелі перабіраныя рукава.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАБІРА′ЦЦА I *незак.* Пераязджаць. *Ён меўса сюды перабірацца.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЕРАБІРА′ЦЦА II *незак.* Адстойвацца. *Малако нашай каровы не перабіраецца.* Груздава Паст.

ПЕРАБІРА′ЦЬ, ПЫРЫБЫРА′ТЫ *незак.* 1. Пластаваць сена. *Сена зграбаюць у валок, ілі ў копу перабіраюць, ілі на вос кладуць.* Альхоўцы Лях. *Пярэбіркі — сена перабіраюць.* Малахоўцы Бар. *Перабірае пярэбяркі ды к стогу носіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Нада перабіраць сена і ў капу класці.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Сартаваць. *Мама бульбу пачала перабіраць.* Рагулішкі Даўг. *Взавтра пырыбыратымо картоплі.* Сіманавічы Драг. *Прыходь до мынэ картоплі пырыбыраты.* Ушкавіца Кобр. 3. Чысціць (кішкі). *Перабіраюць кішкі дупчыкам, пераломяць яго і здзіраюць з кішок бруд.* Альхоўцы Лях. 4. Перабіраць. *Ён перабірае ядой.* Кузьмічы Люб. *Не перабірае ў ядзе, што падасі, тое і поесь.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. Выбіраць. *Всэ пырыбырае дывчятамы, нывыдомо якую вжэ собі выбырэ.* Сіманавічы Драг. ∇ *Сваночка горбатая, на горбі вырба ростэ, на вырбі сова сыдыть, лапкамы пырыбырае, свасы рот роздырае (шоб спывала). Ой, там на мыжі капуста родыла, ны взяв мынэ той, кого я любыла, а взяв мынэ той, кого я ны знала, гэто всэ за пырыборы, шо пырыбырала.* Сіманавічы Драг.

ПЕРАБІРА′ЧКА *ж.* Перабіранне. ∇ *За перабірачку дастала гарачку.* Сапоцкіна Гродз. *З перабірачкі дастаняш балячкі.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАБІ′РЛІВЫ *прым.* Вельмі патрабавальны да яды. *Дзеці перабірлівыя, ня хочаць есці. Да яды перабірлівы, абы што не будзя есці.* Гемзы Шальч. *Перабірлівы чалавек, і таго, і таго ня есць.* Івашкаўцы Смарг.

ПЕРАБІ′ТЫ *дзеепрым.* Разбіты (пра дарогу). *Конь толькі ідзе: дарога перабіта, як бурлёга.* Гемзы Шальч.

ПЕРАБІ′ЦІ *зак.* Пераламаць. *Перабіла пятуху ногу.* Парэчча Гродз.

ПЕРАБІ′ЦЬ *зак.* 1. Перапыніць (размову). *Я табе пераб'ю гаворку.* Вецярэвічы Пух. 2. Перабіць у ядзе. *Кушайце, а то я вам перабіла яду.* Солы Смарг. 3. Перашкодзіць. *Вайна ўсё*

*перабіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 4. Распляскаць (пра касу). *Пераб'е малатком* [касу] *і зробе лапатун.* Відаўцішкі Вільн.

ПЕРАБО'ЙКА *ж.* Перагародка. *Ёсць пліта за перабойкай.* Саланое Віл. *Не было ш перабоік у хаце.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАБО'Р. У выразе: ∇ *Маці — таўстуха, дачка — красуха, а сын — перабор пабег на двор* [печ, агонь, дым]. Саланое Віл., Ухвала Круп.

ПЕРАБО'РКА *ж.* Тое ж, што і п е р а б ó й к а. *Пераборку ў хаце разбівалі, вяселле спраўлялі.* Глівін Барыс.

ПЕРАБО'РНЫ *прым.* Тое ж, што і п е р а б í р л і в ы. *Не пераборны ў ядзе.* Жодзішкі Смарг.

ПЕРАБРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Перайсці ўброд. *Рэчку перабрадзілі, усе былі мокрыя.* Ёдлавічы Брасл.

ПЕРАБРАХА'ЦЬ *зак.* Пераказаць плёткі. ∇ *Ня той сабака, што брэша, а той, што перабрэша.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАБРА'ЦЦА I *зак.* Адстояцца. *Вячэрняя малако пераберыцца, як паставіш у халодную ваду.* Груздава Паст.

ПЕРАБРА'ЦЦА II *зак.* Перасяліцца. *Мо дачка сюды перабярэцца.* Альхоўка Навагр.

ПЕРАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Перабраць. *У грыбы паляцеў. Сам перабярэ, сам пасмажа.* Солы Смарг. *Сядзеця перабераце грыбы. Сягоння перабераць бульбу.* Ністанішкі Смарг. *Пераберым трап'ё і ў чыгун кладзем золіць. Пераберым трап'ё і здадзім анучніку.* Беразіно Докш. *Німа калі есці — трэба перабраць бульбы, буракоў.* Саланое Віл. 2. Перасіліцца. *За цэлы дзень работы перабяру. Як работы перабяру — баліць сярэдзіна.* Дакудава Лід. 3. Парабіць многае. *Учора і перабрала работы!* Дакудава Лід. 4. Аб'есціся. *Раз яны былі перабралі замнога канфет.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Прасаліцца. *Ужо соль пераберыць яго* [мяса] — *і ўкусна.* Індра Красл. 6. *перан.* Перапытаць. *Пераберыця нашу дзярэўню — мала старыкоў.* Магуны Паст.

ПЕРАБРО'С *м.* Самаробная кофта ў зборкі. *Пашыла каптан с перабросам. Пераброс свой пашыла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАБРЫДА'ЦЬ *незак.* Пераходзіць уброд. *Брадок перабрыдалі.* Альхоўка Навагр.

ПЕРАБРЫСЦІ' *зак.* Перайсці ўброд. *Едуць з вазамі, там брыдзём, ест мейсца, ест дзе перабрысці.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАБРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а б р ы с ц í. *Перабрэдзіла рэчку.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАБРЭ'ХАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а б р а х á ц ь. ∇ *Не той сабака, што брэша, а што перабрэхая.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАБЫТНО'. У выразе: ∇ *Перабытно, але незабытно.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАБЫ'ЦЬ *зак.* Пераначаваць. *Трудна перабыць тую ноч.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАВА'ЖАВАЦЬ *незак.* Навязваць у іншым месцы. *Нада карову пераважаваць.* Груздава Паст.

ПЕРАВАЖА'ЦЬ *зак.* Навязаць у іншым месцы. *Трэба цялё пераважаць.* Ністанішкі Смарг. *Хоць бы цяляты пераважалі.* Крэва Смарг. *Кароўку пераважала.* Граўжышкі Ашм.

ПЕРАВА'ЛАМ *прысл.* Ісці з перапынкамі (пра дождж). *Пераваламм дошч ідзе.* Рудня Чэрв.

ПЕРАВАРА'ЧЫВАЦЦА *незак.* Ператварацца ў каго-н., што-н. *Чалавек пераварачываўся ў д'ябла* [чорт, ваўкалак]. Жылі Іўеў.

ПЕРАВА'РВАЦЬ *незак.* Ператраўляць. *Але ш твой жывот пераварвая, што ў гусе.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАВАРО'Т КІШО'К *м. мед.* Заварот кішак. *Пераварот кішок, хадзіў скорчыўшыся і памёр.* Рагулішкі Даўг.

ПЕРАВАШАВА'ЦЬ *зак.* Перакапаць. *Картошка — цяжолая работа, сколькі зямлі нада перавашаваць.* Старыя Трокі Трак.

ПЕРАВЕ'РНЕНЫ *дзеепрым.* Павернуты. *Палачка перавернена ў другім канцу.* Саланое Віл.

ПЕРАВЕРНУ'ЦЦА, ПЕРАВЯРНУ'ЦЦА *зак.* 1. Уступіць у новы перыяд жыцця. *Як на васьмую дзясятку паераверніцца, так і ўсё.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ператварыцца ў каго-н., што-н. *Цяпер свет перавярнуўся на чарцей.* Груздава Паст. *Перавярнуўся на буцяна.* Пярэкі В.-Дзв. ▽ *Перавярнуўся чалавек: ні пес, ні выжал, хоць с хаты выжань.* Жылі Іўеў. 3. *экспр.* Здохнуць. *Чорт цябе павёў даць есці, сем штук перавярнулася парасят у хлеве.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАВЕ'С *м.* Лішак. *Тут хватая і с перавесам.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАВЕ'СІЦЦА *зак.* Перавесіцца праз што-н. *Перавесіўся і ўпаў у студню.* Мсцібава Ваўк. *Перавесілася праз калодзесь.* Кіралі Шчуч. *Гадзіна прас сук перавесілася і хапая свае дзеці, каторага ўхопя, то з'есь, а каторы на мох упаў — астаецца. Прас сук гадзіна перавесіцца і выкідая* [гадзянят]. Гемзы Шальч.

ПЕРАВЕ'СІЦЬ *зак.* Перагарадзіць. *Узяла гэтым мацерыялам перавесіла хату.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАВЕ'СЛА, ПЕРАВЕ'СЛО, ПЕРАВЁСЛА, ПЕРАВЯ'СЛА, ПЕРАВЯ'СЛО, ПЕРАЎЯ'СЛО, ПЕРЭВЕ'СЛО, ПЕРЭВЯ'СЛО, ПІРАВЕ'СЛА, ПІРАВЁСЛА, ПАРАВЯ'СЛА, ПЭРЭВ'Я'СЛО, ПЯРАВЁСЛА *н.* 1. Перавясла. *Перавеслам снапы вязалі.* Крэва Смарг. *Перавесла — чым вяжуць снапэ.* Кіралі Шчуч. *Перавесла моцна дзержыць сноп.* Асавец Віл. *Перавесла — снапы перавязваць.* Навасёлкі Лід. *Перавёслом сноп вязалі.* Лоск Валож. *Перавеслaмі снапы вязалі.* Вецярэ-

вічы Пух. *Перавеслы рабілі с саломы.* Латыгаль Віл. *Перавёслам вязалі снапы і цяпер вяжуць калі.* Жодзішкі Смарг. *Перавёслам сноп перавязваем.* Солы Смарг. *Перавёсла — сноп вязаць.* Кемялішкі Астр. *Жнуць аспадара, перавёслам перавяжа.* Быстрыца Астр. *Перавёсла скруціла.* Груздава Паст. *Перавёслам вязалі снапы: перавёслам пацягням, закруцім, ніякай палачкі ня трэба.* Магуны Паст. *Перавёслам вяжуць снапы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Крупная салома на перавясла ідзе.* Гемзы Шальч. *Зрабі перавясла снапэ вязаць.* Міратычы Карэл. *Скруцяць перавясла і звяжуць жыта.* Пацаўшчына Дзятл. *Перавясла скруціла.* Відаўцішкі Вільн. *Сноп перавяслам звязвалі.* Збляны Лід. *Перавяслам і вязалі снапы. Перавяслаў накруця і ідзе жаць.* Старыя Трокі Трак. *Перавясло скруціш і вяжаш снапэ.* Малахоўцы Бар. *Перавясло зрабіў і буду сноп вязаць.* Пасека Ст.-Дар. *Мае мамы мама рабіла паншчыну, бабы жалі, а дзеці перавясло круцілі.* Альхоўцы Лях. *Перавясло — сноп вязаць.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг. *Перайясло—сноп вязаць, моцнае перайясло.* Дзяніскавічы Ганц. *Круціць перэвесло і вяжа сноп.* Вострава Маст. *Перэвясло круцяць круцелём.* Навадворцы Васільк. *Піравеслам сноп звязваяш.* Рыбчына Віл. *Піравёсла— вязаць снапы.* Кураполле Паст. *Круціла паравясла і звязала сноп.* Пацаўшчына Дзятл. *Пэрэв'ясло — шчо снопы в'яжут.* Смаляніца Пруж. *Пяравёслам пяравязвалі.* Магуны Паст. 2. Вераўчаная ручка ў вядры. *Перавесла ў вядры вяраўчаная.* Магуны Паст. *Перавёсла — ручка з вероўкі ў вядры.* Мярэцкія Глыб. *Піравесла, ці почапка, у вядры парвалася.* Рыбчына Віл.

ПЕРАВЕ'СЛАЧКА *н. памянш.* да п е р а в е́ с л а 1. *Лён вязалі перавеслачкамі.* Гальшаны Ашм.

ПЕРАВЕ'СЦІ *зак.* 1. Перакласці. *Як брат прыехаў з Гдыні, то некаторыя нашы словы яму вытлумачы, перавядзі.* Дзераўное Стаўб. 2. *экспр.* Моцна ўдарыць чым-н. *Перавёў дзягай, аш слет астаўся.* Кураполле Паст.

ПЕРАВЕ'СЯЛКА *н.* Тое ж, што і п е р а в е́ с л а 1. *Перавесялкам вязалі боп.* Граўжышкі Ашм.

ПЕРАВЕ'ШАЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а в е́ с і ц ц а. *Змея перавешаіцца чэрэз сук, і выйдуць змяінята.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАВЕ'ШЫВАЦЦА *незак.* Перавешвацца праз што-н. *Перавесіўся на жардзіне.* Чычалі Швянч.

ПЕРАВЁСЛА *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРАВІВА'ЦЬ *незак.* Пераплятаць (плот). *Калкі перавіваюць віткамі.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАВІЖАВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Прышоў, перавіжавоў суседа і пашоў.* Дакудава Лід.

ПЕРАВІНАВА'ЦІЦЦА *зак.* Правініцца. *Як хто peравінаваціцца, таго на вісельніцу вешалі за панцычызнаю.* Кудзялянцы Шальч.

ПЕРАВО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Перавезены. *Наша хата перавожаная зрубам.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАВУ'ЗІНА *ж.* Месца, дзе звужваецца возера. *Перавузіна — сужаіцца азяро.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАВЭ'РСАЦЬ *зак.* Перагартаць. *Усю кнішку нада перавэрсаць.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *veřsti* 'перагортваць'.

ПЕРАВЯЗА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а в а ж á ц ь. *Анютачка, збегай каройку перавяжы.* Рагулішкі Даўг.

ПЕРАВЯ'ЗІСТЫ *прым.* Які з шыяпадобнай перацяжкай (пра жука). *Такі перавязісты жук.* Кудзялянцы Шальч.

ПЕРАВЯ'ЗЛІСТЫ *прым.* Тое ж, што і п е р а в я́ з і с т ы. *Мурашка перавязліста. У гусянят воля перавязліста.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАВЯРА'ЦЬ *незак.* Правяраць. *Прыяжджалі, перавяралі, ці ўпраўляюся я.* Дакудава Лід.

ПЕРАВЯРНА'ЦЬ *незак.* Араць па цаліне. *Перавярналі параніну на грэчку.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕРАВЯРНУ'ЦЦА *гл.* ПЕРАВЕРНУ'ЦЦА

ПЕРАВЯРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Перакуліць. *Кваты пераверне.* Старыя Трокі Трак. 2. Перавесці (у метрычныя меры). *А еслі перавярнуць, сколька маіць аршын мэтра.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Пераніцаваць. *Я гэтыя брукі перавярнула.* Гальшаны Ашм.

ПЕРАВЯ'СЛА *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРАВЯ'СЛО *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРАГАВАРЫ'ЦЦА *зак.* Коратка пагаварыць. *З бальшыні перагаварыліся.* Малі Астр.

ПЕРАГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Расказаць. *Пакуль перагавару я вам. Адзін рас учыцяль сціх перагаварый, і я расказала.* Солы Смарг. *Свякройка ўсё перагаварыла.* Дзераўное Стаўб. 2. Пагаварыць больш за іншых. *Але гдзе ш ты дурня перагаворыш.* Кураполле Паст.

ПЕРАГАВО'РВАЦЬ *незак.* Абгаворваць. *Яна перагаворвая ўсіх. Людзі перагаворваць будуць.* Міратычы Карэл.

ПЕРАГАВО'РШЧЫК *м.* Перакладчык. *Ён быў перагаворшчыкам пры немцах.* Ухвала Круп. *Немец, перагаворшчык, кажа: «Звары яец».* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Харошы быў перагаворшчык.* Гемзы Шальч.

ПЕРАГАНЯ'НКА *ж.* Адгон (пра малако). *Цялятам возяць пераганянку і пояць. Пераганянка — гэта малако с-пат апарата.* Кіралі Шчуч. *Пераганянку выліў свіням.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕРАГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Рассяляць (пчол). *Папка бу-*

*дзя пчолы пераганяць*. Вострава Маст. 2. Загнаць. *Перагонюць каня, абгон, конь хварэіць*. Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕРАГАРА'ДЖВАЦЦА *незак*. Перагароджвацца. *Канявая сцяна перагараджваяцца бервяном*. Гальшаны Ашм.

ПЕРАГАРА'ЦЬ *незак*. Хутка ператраўляць. *У яе, як у гусі, перагараіць*. Груздава Паст.

ПЕРАГІ' *мн. абрад*. Паездка гасцей нявесты да жаніха, пярэзвы. *Ехалі ў перагі*. Дзяніскавічы Ганц.; *парайн*. літ. *regéti* 'бачыць, глядзець'.

ПЕРАГЛЯДА'ЦЬ *незак*. Глядзець пчол. *Пераглядаць буду пчол кожны тыдзень*. Рыбчына Віл.

ПЕРАГЛЯ'ДЗІНЫ, ПІРАГЛЯ'ДЗІНЫ *мн. абрад*. 1. Тое ж, што і п е р а г і́. *Паехалі на пераглядзіны*. Быстрыца Астр. 2. Агледзіны. *Едуць на піраглядзіны, як жаніцца дагаворацца*. Солы Смарг.

ПЕРАГЛЯ'ДЫ *мн*. Тое ж, што і п е р а г і́. *На пераглядьі ездзяць*. Солы Смарг.

ПЕРАГНА'ЦЬ, ПІРАГНА'ЦЬ *зак*. Перагнаць (пра дождж, хмары). *Туча пірэйдзіць, перагоніць дошч*. Кураполле Паст. *Гаворуць*: *«Падажджы, ня ідзі, ніхай пірагоніць тучу»*. Лісна В.-Дзв. *Січас пірагоніць дошч*. Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАГО'Н, ПАРАГО'Н *м*. Тое ж, што і п е р а г а н я́ н к а. *Яны перагон прыпараць, кавы ўсыпіць і п'юць*. Рагулішкі Даўг. *Я парагону ўлію*. Дакудава Лід.

ПЕРАГО'НАМ, ПІРЯГО'НАМ *прысл*. Тое ж, што і п е р а в а́ л а м. *Перагонам перапрэць дошч*. Новіны Нясв. *Дождж пірягонам ідзець*. Мішневічы Шум.

ПЕРАГО'РАЦЬ *зак*. Перагараваць. *Пакуль матка перагорая смерць сына — час пройдзе*. Альхоўцы Лях.

ПЕРАГРАБА'ЦЬ *незак*. 1. Пералапачваць. *Змалоцяць і перагрaбаюць жыта да веяння*. Кураполле Паст. 2. Пераграбаць (пра курэй). *Няхай курыцы пераграбуць*. Гемзы Шальч.

ПЕРАГРЫ'ЖАНЫ *дзеепрым*. Пагрызены. *Усе доскі перагрыжаныя*. Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАГРЫ'СЦІ *зак*. Прагрызці. *Крышачку перагрызуць і вылазяць пчолкі*. Мыто Лід.

ПЕРАГРЫ'СЦІСЯ *зак*. Перасварыцца. *Жонка яго грызлівая, муся яна перагрысціся з усімі*. Гемзы Шальч.

ПЕРАГРЭ'БІНА *ж*. Пласт сена. *Перагрэбіны кладзём у капіцы, с капіцы носім да сцежара і падаем у стажок*. Навасёлкі Свісл. *Ежэлі грабсці граблямі сена — перагрэбіна. Занясі гэту перагрэбіну*. Лука Нараўк.

ПЕРАГУСЦІ'ЦЬ *зак*. Зрабіць празмерна густым. *Перагусціла кашу*. Кураполле Паст. *Баюся, каб суп не перагусціць*. Дварчаны Паст.

ПЕРАГУ'ШЧАНЫ *прым*. Празмерна густы. *Перагушча-*

*ная каша твая, перагусціла кашу, загуставатая каша.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕ́РАД I, ПЕ́РАТ *м.* 1. Адборнае зерне. *Пераду адабраў, каб пасеяць добрае.* Азяраны Раг. *Перат атабраў, на сяўбу пойдзіць.* Кураполле Паст. 2. Перадок (у возе). Грыкені Вільн., Беняконі Воран., Мешкінева Лудз., Чычалі Швянч.

ПЕ́РАД II, ПЕ́РАТ *прыназ.* Напярэдадні. *Перад летам прыехалі.* Кухты Віл. *Посная куця перат коляды.* Збляны Лід.

ПЕ́РАД III *прыназ.* Перад. *Перад печчу жэрдачка.* Мыто Лід.

ПЕ́РАДА *прыназ.* Тое ж, што і п е́ р а д II. *Веташок перада днём усходзіць.* Магуны Паст.

ПЕРАДАВО́Е ЗЯРНО́ *н.* Тое ж, што і п е́ р а д I, 1. *Буйное, перадавое зярно на семяно пакідалі.* Багушэвічы Бярэз.

ПЕРАДАВЫ́ *прым.* 1. Першы ў рабоце. *Ён перадавы і как перадавы!* Саланое Віл. 2. Прыгажэйшы за іншых. *Была я перадавая дзеўка.* Саланое Віл.

ПЕРАДА́ЦЬ *зак.* 1. Перадаць што-н. *Перадалі павесткі явіцца на сут.* Малькуны Ігн. 2. Паведаміць (на словах). *Перадалі нам.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАДЗЕ́ЛАЦЬ *зак.* Перарабіць. *Дыміць печка, перадзелаць нада.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *переделать* 'тж'.

ПЕРАДЗЫГА́ЦЬ, ПЕРАДЗЫҐА́ЦЬ *незак.* Пераскокваць праз што-н. *Перадзыгала свіння парог у хлеве — і паперла.* Пацаўшчына Дзятл. *Перадзыґаў прас плот.* Каўняны Гродз. *Хлопцы цяраз агонь перадзыґалі, нічога ім не сталасо.* Дзевяткаўцы Ваўк.

ПЕРАДЗЯВА́ЦЦА *незак.* Пераапранацца. *Я тры разы перадзеюсь.* Саланое Віл.

ПЕРАДЗЯЛА́ЦЬ *незак.* Перарабляць. *Перадзялаць летам будам печ.* Азяраны Раг.

ПЕРАДНЯ́ *ж.* Вяроўка на канцы рубля для ўвязвання воза з сенам. *Пераднюю закідваю на жэртку, не з'едзе за гэтай барадой.* Гемзы Шальч. *Перадня — вяроўка, накідаецца на парубень.* Рыбчына Віл.

ПЕРАДО́ЙКА *ж.* Карова-ялаўка. *Карова перадойка, год не цялілася.* Альхоўцы Лях. *Карова ў мяне перадойка.* Кіралі Шчуч. *На рагах у каровы рубцы, сколькі цялілася, столькі рубцоў, еслі перадойка, будзе прастранствачка.* Пасіене Лудз. *Перадойка — год не цялілася, ялаўка — два гады.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАДО́К, ПІРАДО́К, ПЯРАДО́К *м.* Тое ж, што і п е́ р а д I, 2. *Перадок з галоблямі.* Судэрва Вільн. *Перадок у возе.* Беняконі Воран., Чычалі Швянч. *Перадок — два каля-*

*са накладываецца.* Мыто Лід. *Дышаль накладаюць на перадок у возе.* Збляны Лід. *Пірадок — пярэдняя частка воза.* Істра Лудз. *Ён у пяратку сядзеў, а я ўзадзя.* Парэчча Пух.

ПЕРАДО'ЛЕЦЬ *зак.* Перамагчы. *Лекарства кроў перадолела.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАДО'ХНУЦЬ *зак.* Паздыхаць. *Куры перадохлі.* Збляны Лід.

ПЕРАДРА'ЖНІВАЦЬ *незак.* Перакрыўляць каго-н. *Яна перадражнівала калекаў і сама радзіла калеку.* Кудзялянцы Шальч.

ПЕРАДРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Перакрывіць каго-н. *Гэта ш даўней кап старэйшага перадражніў — якая ганьба!* Груздава Паст.

ПЕРАДУМЛЯ'ЦЬ *незак.* Перадумваць. *Лягу і ночыю перадумляю, як даўней што называлі.* Кураполле Паст.

ПЕРАДЫ' *мн.* 1. *шав.*, Перады. Грыкені Вільн. 2. Перад у кашулі. *Вышываны перады.* Грыкені Вільн.

ПЕРАДЫХНУ'ЦЬ *зак.* Зрабіць кароткі перапынак у рабоце. *Сядзь перадыхні гадзіну.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАДЫ'ШКА *ж.* Перапынак. *Я пашчу сіраду, пятніцу і суботу, нада даць перадышку жывату.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАЕ'ЖДЖАВАЦЬ *незак.* Перасяляцца. *Валоцька пераежджаваіць сюды.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАЕ'СЦІ *зак. экспр.* 1. Вельмі надакучыць. *Ты мне пераеў усё нутро.* Саланое Віл. 2. Пашкодзіць. *Табака горла пераела.* Номікі Бабіц.

ПЕРАЖАРГА'ЦЬ, ПЕРАЖЭ'РГАЦЬ *незак.* 1. Пераступаць цераз што-н., каго-н. *Ляжала драціна, пераржарґаў яе і пашоў.* Кураполле Паст. *Я пераржэрґаю тоя палена.* Парэчча Гродз. *Конаўку пераржэрґаў.* Магуны Паст. *Перажэрґала парог.* Галоўні Воран. *Я палажу палку, а ты пераржэрґай.* Гемзы Шальч. 2. Пераскокваць цераз што-н., каго-н. *Трэба пераржэрґаць праз плот.* Солы Смарг. *Перажэрґаў праз дзіця.* Быстрыца Астр.; *гл.* ж э́ р ґ а ц ь.

ПЕРАЖАРГНУ'ЦЬ, ПЕРАЖАРҐНУ'ЦЬ, ПІРАЖАРГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Пераступіць цераз што-н., каго-н. *Шоў, паваліўся, а ён пераржарґнуў.* Ракаўскія Швянч. 2. Пераскочыць цераз што-н., каго-н. *Перажарґнулі праз рэчку.* Саланое Віл. *Як піражарґнеш плот?* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* ж э́ р ґ а ц ь.

ПЕРАЖА'ХНУЦЬ *зак.* Сціхнуць (пра боль). *Памажу, кап яны крышку перажахлі, кап апала боль.* Масілавічы Сл.

ПЕРАЖА'ЦЬ *зак.* Памыць збольшага (пра бялізну). *Пеáражала плацця.* Семежава Кап.

ПЕРАЖЛУ'КЦІВАЦЬ *незак.* Пераржлукчваць. *Мама жлукціла, а дачка нанава перажлукцівала плацця.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ж л ý к ц і ц ь.

ПЕРАЖЫВА'НЁ, ПЕРАЖЫВА'НЯ *н.* Перажыванне. *У яе*

*пераэжыванё па сыну*. Альхоўцы Лях. *Усё пераэжываня ёсь гэтым бедным бабам: яны дзецям патрапляюць, мужыкам і ня могуць утрапіць*. Кураполле Паст.

ПЕРАЖЫВА'ЦЬ *незак*. Турбавацца. *Бацькі пераэжываюць, што ён з ей гуляіць*. Кураполле Паст. ▽ *Што баба пераэжывала — вол бы не павёс*. Саланое Віл.

ПЕРАЖЫВУ'ШЧЫ *дзеепрым*. Той, хто вельмі хвалюецца. *Кап я ні такая пераэжывушча была, усё было б іначай*. Вострава Маст.

ПЕРАЖЫГА'ЦЬ *незак*. Тое ж, што і п е р а ж а р ґ á ц ь 1. *Пераэжыґаў ды пашоў*. Крэва Смарг.; *гл*. ж э́ р ґ а ц ь.

ПЕРАЖЫГНА'ЦЦА *зак. царк*. Перахрысціцца. *Пераэжыгнаюся і малюся*. Пасіене Лудз.; *парайн*. польск. *przeżegnać się* 'тж'.

ПЕРАЖЫРДНУ'ЦЬ *зак*. Тое ж, што і п е р а б р ы с ц і. *Не падойдзеш і не пераэжырднеш рэчку, дужа топкая была*. Беразіно Докш.; *гл*. ж э́ р ґ а ц ь.

ПЕРАЖЫ'ТКІ *мн*. Хваляванне, турботы. *Былі ў яе пераэжыткі, адна эжыла*. Кураполле Паст.

ПЕРАЖЫ'ТЫ *прым*. Тое ж, што і п е р а ж ы в ý ш ч ы. *Асталася ўдовай, яна — пераэжытая эжэншчына*. Старыя Трокі Трак. *Я пераэжыты чалавек, мяне дабіла эжыццё*. Граўжышкі Ашм. *Ён пераэжыты і я пераэжытая*. Кураполле Паст.

ПЕРАЖЫ'ЦЬ *зак*. 1. Пражыць. *Дзень пераэжыў — хвала богу*. Кудзялянцы Шальч. *Пераэжывеш столькі гадоў, скольк і я*. Гемзы Шальч. 2. Пражыць больш за каго-н. *Буду эжыць — усех врагоў пераэжыву*. Кураполле Паст. 3. Спазнаць шмат гора. *А чалавек, што ён пераэжывець, што ён перанясець — машына не павязла п*. Саланое Віл. *Усякія карціны пераэжыўшы, усяго пераэжыў*. Латыгаль Віл.

ПЕРАЖЭ'РҐНУЦЬ *зак*. Тое ж, што і п е р а ж а р ґ н ý ц ь. *Пераэжэрґнула плот і пашла*. Ністанішкі Смарг.; *гл*. ж э́ р ґ а ц ь.

ПЕ'РАЗ *прыназ*. Цераз. *Пералезлі пераз плот*. Беразіно Докш. *Пераз дарогу рэчачка Вуэжніца*. Шавярнічы Бярэз. *Ён пераз хату ад яе эжыў*. Новіны Нясв. *Паляцелі пераз лясок каровы — і ў лубен*. Новіны Нясв. *Пераз яго перастуліў*. Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАЗІ'МАВА'ЦЬ *зак*. Пракарміць зімою (хатніх жывёлін). *Перазімуй паршука, то сала будзя*. Кіралі Шчуч. *Яна карову перазімýя*. Вецярэвічы Пух.

ПЕРАЗІ'МАК, ПІРАЗІ'МАК *м*. Пярэзімак. *Перазімак — эжарабук па першай зіме*. Кемялішкі Астр. *Мы перазімка прадалі*. Едлавічы Брасл. *Перазімак, ці патцёлак у нас завуць: і так, і так*. Рыбчына Віл. *Перазімак — цялё, як зіму перазімавала*. Грыкені Вільн. *Перазімак — як перазімуе*.

Гемзы Шальч. *Піразімак — як піразімуіць зіму цялюк.* Груздава Паст.

ПЕРАЗІ'МКА *ж.* Тое ж, што і п е р а з і м а к. *Перазімка перазімавала зіму.* Быстрыца Астр. *Яна перазімка, падходзіць да быкоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Перазімка — цялушка, якая перазімавала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цялушка — перазімка была.* Пярэкі В.-Дзв. *Перазімка — кагда год будзіць.* Пасіене Лудз.

ПЕРАЗІМО'ВАК *м.* Тое ж, што і п е р а з і м а к. *Як перазімавала цяля — перазімовак.* Глівін Барыс.

ПЕРАЗЫ'Ў *м.* Тое ж, што і п е р а г і. *На перазыў едуць бацькі маладых.* Магуны Паст.

ПЕРАЗЫ'ЎКІ *мн.* Тое ж, што і п е р а г і. *У следуюшчую нідзелю прыежджаюць на перазыўкі да нівесты.* Індра Красл.

ПЕРАЗЫ'ЎНІКІ *мн.* Тое ж, што і п е р а г і. *Пасля вяселля бацькі едуць у перазыўнікі.* Кураполле Паст.

ПЕРАІМА'ЦЬ *незак.* 1. Рухаючыся насустрач, спыняць каго-н. *Бывала, пераімалі ваўкі людзей.* Кураполле Паст. 2. Перапыняць размову. *Ён сядзіць і пераімаіць мяне.* Саланое Віл. 3. Лавіць. *Яна мячык пераімала.* Саланое Віл.

ПЕРАЙМА'ЦЬ *незак.* 1. Сустракаць. *Ён далёка хадзіў пераймаць.* Рагулішкі Даўг. *Стаў іграць на вечарынах, мяне пераймалі хлебам іс соллю.* Ракаўскія Швянч. *Пашоў ён пераймаць авечкі, кап у кветкі ні залезлі.* Груздава Паст. 2. Збіраць для ўжывання ў страву. *Цяпер ні пераймаюць крыві свіней.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЕРАЙСЦІ' *зак.* 1. Палягчэць. *Троха перайшло яму, боль сціх.* Парэчча Гродз. 2. Прайсці. *Войнаў веле перайшло.* Канюкай Вільн. *Тут толькі перайшла вайна, тады грабуншчыкі ідуць з другой вёскі.* Лайпушкі Ігн. 3. Перайсці праз што-н. *Ні пярэйдзяш балота.* Магуны Паст. *Перайдзе дарогу, і там клуп.* Стральцы Гродз. *Пярэйдзіць клатку.* Груздава Паст. 4. Перайсці на карысць другому. *Хай маё пярэйдзя.* Лісна В.-Дзв. 5. Перасяліцца. *Па смерці мужа я сюды перайшла.* Дзераўное Стаўб. 6. Забалець у іншым месцы. *Боль перойдзя ў другі кумпяк.* Гемзы Шальч.

ПЕРАЙХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Праходзіць. *Перайходзіла поле.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і п е р а б і р а́ ц ц а I. *Перайхоць ты сюды жыць.* Міратычы Карэл. 3. Перасякаць што-н. *Тры сцешкі да лесу і наўлево перайходзіць дарога, што вазамі ехалі.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАЙЦІ' *зак.* Тое ж, што і п е р а й с ц і 2. *Памох перайці чэрас гэту бому.* Івашкаўцы Смарг.

ПЕ'РАК I *прысл., прыназ.* Упоперак. *Перак браўна вясло паложана.* Кураполле Паст. *Лёх перак на пасцель.* Груздава Паст. *Нада перак забаранаваць.* Саланое Віл. *Дарога перак адна другой.* Азяраны Раг.

ПЕ'РАК II *м.* Кароткая папярочная баразна. Беразіно Докш.

ПЕРАКАВЕ'Ц *м.* Папярочны загон (на полі). *Перакавец пакуль пасадзіў; выкапаў на перакаўцы дзве баразны. На перакаўцы баразён пяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Добра табе, а я перакавец пака пасадзіў. На перакаўцы баразён пяць буракоў пасадзіў.* Рудня Чэрв.

ПЕРАКАВІ'К *м.* Тое ж, што і п е р а к а в е́ ц. *Перакавік засеяў бульбай.* Багушэвічы Бярэз.

ПЕРАКАВІЧО'К *м. памянш.* да п е р а к а в і́ к. *Перакавічок буракамі засеяў.* Багушэвічы Бярэз.

ПЕРАКАВЫ', ПІРАКАВЫ' *прым.* Папярочны. *Перакавая балка — скваэная балка.* Валынцы В.-Дзв. *Перакавыя барозны засталося выкапаць. Як засеіш бульбай перакавыя барозны, і па хатах можна расходзіцца.* Беразіно Докш. *На перакавыя барозны пасадзіла гарбузэ.* Вецярэвічы Пух. *І перакавыя барозны засадзіў бульбай.* Мачаск Бярэз. *Засаджу апошнюю піракавую баразну — і можна аддыхнуць.* Ухвала Круп.

ПЕРАКАЗА'НЫ *дзеепрым.* Перpredicated. Усё перaказана

ПЕРАКАЗА'ЦЬ *зак.* Перадаць. *Перакажу гэтыя словы, што яны гаварылі.* Ністанішкі Смарг. *Я ўжо пераказала, пераказаў ей.* Рыбчына Віл. *Я б мог пераказаць, мне бацька разказваў.* Латыгаль Віл.

ПЕРАКАНА'ЦЦА *зак.* Упэўніцца. *Я пераканалася, што так.* Бенякoні Воран.

ПЕРАКАСІ'ЦЬ *зак.* Скасіць лішняе. *Не бойся, не перакашу, тваё сено астанецца і табе.* Стральцы Гродз.

ПЕРАКАЦІ'ЦЦА *зак.* Перавярнуцца з боку на бок. ∇ *Як каню перакаціцца, дык яму заснуць* [настолькі хутка]. Ухвала Круп.

ПЕРАКВІ'ТНУЦЬ *зак.* Адцвісці. *Перaквітніць канюшына.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАКІ'ДВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п е р а в а р а́ ч ы в а ц ц а. *Можа, тая душа ў які відак перакідваецца.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАКІ'ДНІК *м.* Асоба, якая ў час размовы рэзка мяняе свае погляды. *Перакіднік ты, што ты перакідваяся, як цэп той?* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАКІ'ДНІЦА *ж.* Тое ж, што і п е р а к і́ д н і к. *Перакідніца ты!* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАКІ'НЕНЫ *дзеепрым.* Перакінуты. *Вяроўка перакінена была на той бок.* Малышы Лід.

ПЕРАКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Перавярнуцца на другі бок. *Як перакінусо на плечы, то засну.* Мсцібава Ваўк. 2. Перакуліцца. *Перакінуўся церас галаву.* Малахоўцы Бар.

ПЕРАКІ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Які перакіпеў. *Перакіплена вада.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАКІПЯЧО'НЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і перакіплены. *Перакіпячона вада.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАКЛАДА'ЦЬ *незак.* Перасцілаць. *Перакладалі падлогу ў хаця.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАКЛА'ДЗІНА *ж.* Жэрдка, якой замацоўвалі лён у сушні. *У лазні лён сушылі, ставілі на палаткі, перакладвалі перакладзінай.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАКЛА'ДЫ *мн.* Жэрдкі, якія кладуцца па перыметру саней пры перавозцы сена, саломы і інш. *Як возяць сено, салому, дрова — кладуць переклады на сані. Высекае переклады ў лесе.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЕРАКЛЕ'ЦЬ *ж.* Прыклецце. *Сядзіць на пераклеці.* Кураполле Паст.

ПЕРАКО'ЎКА *ж.* Папярочная града. *Гэта градка — перакоўка.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАКРО'СТАК *м.* Скрыжаванне. *Дайдзі да таго перакростка, там аўтобус становіцца.* Рудня Чэрв.

ПЕРАКРУ'Т *м.* Скручаныя яловыя галіны, пры дапамозе якіх звязваюць часткі плыта. *Яловыі віткі скручаваю і дзелаю перакрут, два, тры перакруты, кап не раз'ехаліся лайкі.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАКРЫЖАВА'ЦЬ *зак.* Перавязаць накрыж. *Перакрыжуеш так шнурком* [анучы]: *так, так і да кален.* Канюкай Вільн.

ПЕРАКРЫСЦІ'ЦЦА *зак.* Перахрысціцца. *Перакрысцілася і думала, што канцы.* Саланое Віл.

ПЕРАКРЭ'СЦЁ *н.* Тое ж, што і перакро́стак. *Як едзеш на Ляхавічэ, там перакрэсцё. Павярнуў з перакрэсця на Ляхавічы.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАКУЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і перакаці́цца. ∇ *Як каню перакуліцца, дык яму заснуць — так хутка.* Ухвала Круп. 2. Паваліцца (ад нечаканасці). *Як грымеў першы гром, наш гаспадар перакуліўся.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАКУЛІ'ЦЬ *зак.* Паваліць што-н., каго-н. *Перакуліць бочку ці каменя.* Чычалі Швянч. *Хапіў і перакуліў яго.* Гемзы Шальч.

ПЕРАКУПЛЯ'ЦЬ *зак.* Шмат накупляць чаго-н. *Сколькі я іх перакупляла ўсяго.* Альхоўка Навагр.

ПЕРАКУ'Р *м.* Перапынак у час работы. *Перакур делают мушчыны.* Рагулішкі Даўг.

ПЕРАКУСІ'ЦЬ *зак.* З'есці нямнога. *Дай чаго перакусіць, бо я пайду ўжо.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАКУ'СКА *ж.* Закуска. *Перакуска была ў місцы, а рабяты знішчылі.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАЛАБУ'НІЦЬ *зак.* Перавабіць. *Яна пералабуніла чужога мужыка.* Кураполле Паст.; *гл.* л а б у́ н і ц ь.

ПЕРАЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* Заперці (дзверы). *Дзверы на штабу пералажыў.* Дакудава Лід.

ПЕРАЛЕКАЦЕ'ЦЬ *зак.* Моцна перапалохацца. *Аш маё нутро ўсё пералекацела.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАЛЕ'ТАВАЦЬ, ПЕРАЛЕ'ТЫВАЦЬ *зак.* 1. Пражыць, перабыць лета. *Пералетавала карова і я прадаў і с цялюком забраў, выправіў да быдла, мучыўся з двайма цялятамі.* Гемзы Шальч. *Цёлка, якая пералетавала,—пералетак.* Груздава Паст. 2. Служыць пэўны перыяд (аб прыладах працы). *Пералетывая гэтат нош і ламаіцца.* Гемзы Шальч.

ПЕРАЛЕ'ТАК *м.* 1. Пералетак. *Пералетак — цёлка, якая пералетавала.* Груздава Паст. 2. *перан.* Хто неахайны, аброслы. *Ідзець, а сам с чарта пералетка абросшы.* Беразіно Докш.

ПЕРАЛЕ'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а л е́ т а в а ц ь 1. *Лета пералетую ды паеду.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАЛЕ'ТАЧАК *м. памянш.-ласк.* да п е р а л е́ т а к 1. *На пашу трэба выпусціць карову і пералетачка.* Беразіно Докш.

ПЕРАЛЕ'ТЫВАЦЬ *гл.* ПЕРАЛЕ'ТАВАЦЬ

ПЕРАЛЁЖЫВАЦЦА *незак.* Псавацца ад доўгага ляжання. *Як пералёжываіцца, валакно некрэпкая.* Кураполле Паст.

ПЕРАЛЁТ I *м.* Абсеў. *Пералёты бываюць, пераляціць, калі сеюць машынаю, дасяваюць тады.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЕРАЛЁТ II *м.* Прамежак паміж гадавымі кольцамі на рагах каровы. *Карова перадойка была, на рагу пералёт.* Крэва Смарг.

ПЕРАЛЁТ III *м. бат.* Пералёт. *Пералёт — трава ат спужання, а дайней казалі — ат пярэпалаху.* Груздава Паст.

ПЕРАЛЁТНІК *м.* Тое ж, што і п е р а л ё т III. *Пералётнік добра ад урокаў, яго свенцяць на Яна.* Дакудава Лід. *Пералётнік ад пуду.* Альхоўка Навагр.

ПЕРАЛЁТНЫ *прым.* Які ідзе з перапынкамі (пра дождж). *Дошч пералётны: тут быў, тут прашоў.* Дакудава Лід. *Пералётны дошч ішоў.* Новікі Гродз. *Пералётны дошч быў.* Лука Нараўк.

ПЕРАЛІВА'ЦЬ, ПІРЫЛІВА'ЦЬ *незак.* Пераліваць. ◇ *С пустога ў парожняя пераліваць.* Рагулішкі Даўг. *У каструлі пірыліваю.* Масішкі Красл.

ПЕРАЛІ'ЦЬ *зак.* Моцна прамачыць (пра дождж). *Во зліў, так зліў. Пераліў наскрозь.* Ракаўскія Швянч.

ПЕРАЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Палічыць. *Малады пералічыць грошы і дае музыкантам.* Збляны Лід.

ПЕРАЛО'МІЦА *ж.* Няшчасце. ▽ *Каб на іх халеры бох укінуў ды пераломіцы якою.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАЛО'Х *м.* Ялавіна. *Нада зямле пералох — ня сеіць гот ці два.* Стары Свержань Стаўб. *Пасеяў на пералогу.* Саланое Віл.

ПЕРАЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Пакахаць многіх. *Усіх дзевак не пералюбіш.* Кураполле Паст.

ПЕРАЛЯ'ТАЦЬ *незак.* Пералятаць. *Наша балота толькі вутка пералятала.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Пераламацца. *Як дала па гэтум месцы, то думала пераляціць костка.* Парэчча Гродз. 2. Перабегчы. *То спудзіцца конь, то воўк пераляціць.* Крэва Смарг.

ПЕРАМАГА'ЦЬ *незак.* Браць верх. *Жана перамагае яго.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАМАГЧЫ' *зак.* 1. Спыніць. *Але ш ні затрымаям, ні пераможам дошч.* Дакудава Лід. 2. Перамагчы. *Ён усіх пераміог.* Талейкі Швянч. *Як перамаглі белых, ён і дадому вярнуўся.* Чычалі Швянч.

ПЕРАМАЛО'ЦЬ *зак.* Змалоць (усё, многае). *Сколькі ў іх, у жорнах, перамалолі.* Шведы Вільн.

ПЕРАМЕ'НА *ж.* 1. Змена пагоды. *На перамену пагоды ломіць косці.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Змена настрою. *У яе на дзень многа перамена́ў.* Навасёлкі Свісл. 3. Змена ўлады. *Таварышы, перамена палучылася, поезд с красным флагам ідзець.* Пасіене Лудз.

ПЕРАМІТУЗІ'ЦЬ *зак.* Суняцца (пра боль). *Як баліць, возьміш парашок — і троха пераміту́зіць.* Кураполле Паст.

ПЕРАМО'ВІЦЦА *зак.* Перакінуцца словамі. *Два разы перамовіліся.* Гемзы Шальч.

ПЕРАМО'ВІЦЬ *зак.* Расказаць што-н. на памяць. *Чакай, я перамоўлю песню.* Талейкі Швянч.

ПЕРАМО'Т *м.* Памылка пры снаванні красён. *Як не на той калок паложыш нітку — перамот.* Лісна В.-Дзв. *Перамот — як снуе кросна і не так пакладзе нітку.* Альхоўцы Лях. *Перамот палажыла.* Жылі Іўеў. *Перамот зрабіла.* Груздава Паст. *Як снавала — перамот палажыла, не дайшла ў канец.* Вецярэвічы Пух. *Перамот зрабіла, не на той калок палажыла нітку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ці ні дайшла, ні ўмея снаваць, зробіць перамот.* Рудня Чэрв. *Перамот — як снуе, то пакладзе не там, дзе трэбо, нітка пераскочыт.* Лука Нараўк. *Перамот — як нітка не там ляжыць, дзе трэба.* Мачаск Бярэз.

ПЕРАМО'ТА *ж.* Тое ж, што і п е р а м о́ т. *Снавала кросна, палажыла перамоту.* Міратычы Карэл. *Калі снуеш, ні на тую губіцу паложыш, кажуць: «Зрабіла перамоту».* Стральцы Гродз. *Ты палажыла перамоту не на той калок; ат такой бяды я развяду.* Кіралі Шчуч. *Перамоту зрабіла, як снавала.* Навасёлкі Свісл., Альхоўка Навагр., Беняконі Воран. *Калі кепско паложыцца нітка, тады выступае перамота.* Баброў-

нікі Гарад. *Глядзі, перамотаў накладзеш! Я перамоты ўмею разводзіць.* Малахоўцы Бар.

ПЕРАМУ'ЧЫЦЬ *зак.* Ператаміць. *Перамучаеш каня, ён пакрываецца пенай.* Мыто Лід.

ПЕРАМЫ'ЦЬ *зак.* Памыць (усё, многае). *Гэтыя хусткі перамый.* Мыто Лід.

ПЕРАМЯНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Мігацець. *Зоркі перамяняюцца, добра пагода стаіць.* Малахоўцы Бар. 2. Тое ж, што і п е р а в а р а́ ч ы в а ц ц а. *Зязюлька пераменяіцца на каршуна.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАМЯША'ЦЬ *зак.* Апрацаваць зямлю плугам пасля баранавання. Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАНА'ЧВАЦЦА *незак.* Змяняцца. *А цяпер пераначваецца свет.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАНА'ЧЫЦЬ *зак.* Перавыхаваць. *Ён браўся пераначыць яё.* Саланое Віл.

ПЕРАНЕ'СЦІ I *зак.* 1. Зазнаць многа гора. *Што я перанёс!* Саланое Віл. *У сяле ніхто не перанёс, як я перанесла.* Вецярэвічы Пух. 2. Вытрымаць. *Серца было крэпкае і перанесла аперацыю.* Вецярэвічы Пух. 3. Перажыць што-н. *Перанясла дзве вайны.* Ністанішкі Смарг.

ПЕРАНЕ'СЦІ II *зак.* Перагнаць, разагнаць ветрам (пра хмары). *Хмара з ветрам ідзе, можа і перанясе.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАНЕ'СЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а н е́ с ц і I, 2. *Перанесь баба не магла, чаму сам не кажаш?* Гемзы Шальч.

ПЕРАНУ'ШКАЦЬ *зак.* Абшукаць. *Я перанушкала ўсе кяшэні — не нашла грошы.* Малі Астр.

ПЕРАНЭРВАВА'ЦЦА *зак.* Знервавацца. *Перанэрвавалася за яго — мох п'яны быць.* Солы Смарг.

ПЕРАНЯСЦІ'СЯ *зак.* Тое ж, што і п е р а б р а́ ц ц а II. *Як мы перанясліся сюды з дзярэўні Лельніца, усё было спалёна.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАНЯ'ЦЬ, ПІРАНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Перахапіць. *Сабака быў у бацькі, паляціць і пярэйміць яго.* Лайпушкі Ігн. *Як іду да іх, яна пярэйміць мяне.* Рагулішкі Даўг. *Карову перайму, падаю.* Лісна В.-Дзв. 2. Сустрэць. *Нам трэба знаць, як пераняць піянага, як пераняць і цвярозага.* Саланое Віл. 3. Прыняць пры родах. *Яна дзіцятка піраніла.* Саланое Віл. 4. Захварэць на панос. *Як жывот пярэймя, не ўспакоіш, цяшка тады.* Старыя Трокі Трак.

ПЕРАО'РВАЦЬ *незак.* Пераворваць. Чычалі Швянч.

ПЕРАПАВІ'ЦЬ *зак.* Перапавіць. *Перапаўеш дзіця, дасі цыцкі і зноў жаць.* Малахоўцы Бар.

ПЕРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Апалоць (усё, многае). *Перапаліў лён, і па ўсёй рабоце.* Гемзы Шальч.

ПЕРАПАЛО'ХАЦЦА *зак.* Спалохацца. *Я перапалохалася.* Дзераўное Стаўб.

ПЕРАПАЛО'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і перапаліць. *Усё перапалола: бураке, гурке.* Кіралі Шчуч. 2. Апалоць нанава. *Тваё перапалола, што ты рваў.* Саланое Віл.

ПЕРАПА'ЛЮВАЦЦА *незак.* Перагараць. *Таўстыя палены перапалююцца.* Азяраны Раг.

ПЕРАПА'ЎШЫ *прым.* Упалы. *Перапаўшыя бакі ў каровы.* Магуны Паст.

ПЕРАПАХА'ЦЬ *зак.* Пераараць. *На зіму загорэш аржынне, весной перапахаў і сеяш.* Івашкаўцы Смарг.

ПЕРАПАЦЕ'ЦЬ *зак.* Прапацець. *Перапацеў увесь.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАПЕ'РЦІ *зак. экспр.* Пераканаць. *Зуля ніхто не перапрэ.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАПЕ'ЦЬ *зак.* Праспяваць (песню). *Доўга чакаць, пакуль перапяюць песню.* Магуны Паст.

ПЕРАПЕ'ЧКА, ПІРАПЕ'ЧКА *ж.* Печыва з хлебнага цеста, бульбы, тоўчанага канаплянага семя. *Пяклі перапечку з гэтага хлебнага цеста, кап скарэй.* Старыя Трокі Трак. *Пірапечак паспрабуй.* Беразіно Докш. *Пірапечкі пяклі на ўсю патэльню і маленькія булачкі.* Мярэцкія Глыб. *Перапечкі пяклі з бульбы.* Рыбчына Віл. *Пірапечкі з бульбы пяклі.* Саланое Віл. *Пяклі з таўчонага семя семянную перапечку, елі с салоткім малаком, як хлеба не хватала.* Мярэцкія Глыб.

ПЕРАПЁЛАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да перапёлка 1. *Перапёлачка, яна каля крушняў.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАПЁЛКА, ПІРАПЁЛКА *ж.* 1. *заал.* Перапёлка. *Перапёлка шэранькая.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Перапёлка пяець.* Саланое Віл. *Перапёлка — птушка шэрая.* Грыкені Вільн. *Перапёлка — падобіе кнігаўкі, больш каля вады, у травы.* Чарняўскія Лудз. *Пірапёлкі спяваюць.* Істра Лудз. 2. *абрад.* Абрадавы хлеб. *Як дажыналі жыта, паложуць скрутак, у ім кусок хлеба, памазаны маслам, і называлі перапёлка. Скора будзім лавіць перапёлку: як дажнуць, возьмюць перапёлку, садзяцца і ядуць.* Лісна В.-Дзв. *Рабілі перапёлку: пакіне пук жыта, звяжа ўвярху, кваток упляце, гарабіну пасярэдзіне ўсаджвае, на землю кусок хлеба — як дажынают жыта.* Лука Нараўк. *Як канчаюць жыто, то ставяць кусцік жыта — гэто ў нас называецца перапёлка.* Кнышэвічы Бабіц. ∇ *Рада шэра перапёлка, што лета даждала, рада наша гаспадынька, што жыта дажала. Досіць па полю хадзіці, досіць гаршчочкі насіці* [з песні]. Кураполле Паст.

ПЕРАПІЛАВА'ЦЬ *зак.* Распілаваць. *Можа, памагу паленка якоя перапілаваць.* Малі Астр.

ПЕРАПІРЫ'НДЫВАЦЬ *незак. экспр.* Іграць на нервах. *Сідзіць і перапірындываіць, на нервах іграіць, а ты церпі.* Кураполле Паст.

ПЕРАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Выпіць (усё, многае). *Воткі ўсей не*

*пераn'еш.* Кураполле Паст. 2. Крыху выпіць. *Троха пера-п'юць, калі прыяжджаюць с касцёла.* Магуны Паст.

ПЕРАПЛЕ'ЦЦЕ *н.* Перапляценне ў бёрдзе. *Робяць пера-плецце ў бёрдзе.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАПЛЁТ *м.* Перапляценне, на якое кладуць жэрдкі (у агароджы). *Жэрткі кладуць на пераплёт.* Рыбчына Віл., Мя-рэцкія Глыб.

ПЕРАПЛО'Т *м.* Азярод. *Скосіш гарох, у пераплоты азя-рэдзіш, а тады змалоціш.* Рыбчына Віл.

ПЕРАПЛЫЎСЦІ' *зак.* Пераплысці. *Утануў маліц, пера-плыўсці не пераплыў і багром грабалі, шукалі.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАПЛЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а п л ы ў с ц і. *Яны туды пераплылі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАПЛЯТА'ЦЦА *незак.* Перавівацца (пра плот). *Пар-кан з яловых сукоў найболій пераплятаўся.* Солы Смарг.

ПЕРАПЛЯТА'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць лазовы плот. *Лазой пе-раплятлі* [плот]. Мярэцкія Глыб. 2. Плесці кошык. *Паска — чым пераплятаюць кошыка.* Альхоўка Навагр. 3. Рамантаваць (бёрда). *Ён бёрда пераплятая, панясу пераплятаць бёрда.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАПО'ЙСАЦЬ *зак.* Аддзяліць зерне ячменю ад восцяў. *Нада перапойсаць ячмень і перапойсаў.* Кураполле Паст. *Матка перапойсала ўсю ячмень.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *paisýti* 'тж'.

ПЕРАПО'ЛКА *ж.* Тое ж, што і п е р а п ё л к а 1. Пасіене Лудз.

ПЕРАПО'ЛНІЦЬ *зак.* Перавыканаць. *Той гот пераполні-лі план, а раней ня выпалнілі.* Збляны Лід.

ПЕРАПО'ЛЯЧКА *ж. памянш.* да п е р а п ё л к а 1. *Пе-раполячка сядзіць пад кустом.* Пацаўшчына Дзятл.

ПЕРАПО'НА *ж.* Дыяфрагма. *Перапона аддзяляе сэрца ад кішок.* Кіралі Шчуч. *Перапона ў свіні.* Мсцібава Ваўк.

ПЕРАПО'ЎЗІНЫ *мн. абрад.* Наваселле. *Перапоўзіны ся-гоння.* Мярэцкія Глыб.

ПЕРАПРАЦАВА'ЦЦА *зак.*Ператаміцца. *Пётрачка, мо-жа, аслабеў, можа, перапрацаваўся? Можа, ты перапрацаваў-ся?* Саланое Віл.

ПЕРАПРА'ШЫВАЦЬ *незак.* Перапрошваць. *Ідзі перапра-шывай бацька.* Саланое Віл.

ПЕРАПРЭ'ГЧЫ *зак.* Падсмажыць (на скавара дзе). *Пе-рапрэгла смятаны с сахарам.* Пасека Ст.-Дар.

ПЕРАПУ'ДА *ж.* Перашкода. *Нейкая перапуда, што ён не прыехаў.* Жыдзевічы Іўеў.

ПЕРАПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Перапужацца. *Мо перапудзілася дзіця, будзя перакідацца то туды, то сюды.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАПУСКА'ЦЦА *зак.* Пераходзіць на другі бок чаго-н. *Ты на той бок шашэ не перапускайся.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАПУСКНО'Я БЯРНО' *н. буд.* Бервяно, якое кладзецца на бэлькі для іх замацавання. *Паднімайця перапускноя бярно.* Рыбчына Віл.

ПЕРАПУСКНО'Я ПАЛЕ'НА *н.* Тое ж, што і перапускнóя бярнó. *Перапускныя палены клалі.* Рыбчына Віл.

ПЕРАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Прапусціць. *Тады нас перапусцілі на нямецкі бок.* Крэва Смарг. 2. Адагнаць малако. *Перапусціць малако.* Стральцы Гродз. 3. Ператапіць. *Сала перапускаюць і з бульбай ядуць.* Дакудава Лід.

ПЕРАПУ'Х *м.* Перапалох. *Можа, перапух яму паўрадзіў.* Малі Астр.; *парайн.* руск. *перепуг* 'тж'.

ПЕРАПЯЛЁСТЫ, ПІРАПЯЛЁСТЫ *прым.* Пярэсты. *Свіня бывая перапялёстая: ніжняя часць белая і, как посцілка, абкрыта чорным.* Гемзы Шальч. *Пірапялёсты кабан, і ўсяка скаціна можыць быць пірапялёстая.* Кураполле Паст.

ПЕРАПЯРЭ'КА *ж.* Тое ж, што і перапýда. *Вось якая перапярэка.* Ухвала Круп.

ПЕРАРАБІ'ЦЬ *зак.* Парабіць. ∇ *Тры работы за жыццё не перарабіць: гарэлкі не перапіць, дзевак не пералюбіць, работы да смерці не перарабіць.* Курополле Паст.

ПЕРАРАДАВА'ЦЬ *зак. перан.* Пералічыць (усіх, многіх). *І заацехніка, і брыгадзіра — усіх перарадуя, пяе пра іх.* Пасека Ст.-Дар.

ПЕРАРАСАВА'ЦЬ *зак.* Адкрасаваць. *Жыто перарасавало.* Тухавічы Лях.

ПЕРАРАСЦІ' *зак.* Перамагчы з узростам (пра хваробу). *Ня ссе, ня п'е, ён перарасце гэту хваробу.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАРВА'ЦЦА *зак.* 1. Зрабіць перапынак у рабоце. *Давай перарвёмся, троху атпачынім, ужо палову зрабілі.* Кіралі Шчуч. 2. Перапыніцца (пра работу). *Усіроўна перарвецца работа.* Дакудава Лід. *Перарвалася работа.* Рыбчына Віл.

ПЕРАРВА'ЦЬ *зак.* Перапыніць. *Перарваў абет мне.* Груздава Паст.

ПЕРАРО'БІСТЫ *прым.* Добра апрацаваны. *Пераробістае поле, рыхлае.* Галубы Маст.

ПЕРАРО'СЛЫ *прым.* Які з праслойкамі мяса. *Пераpослэ сало — сало з м'ясом.* Лука Нараўк.

ПЕРАРУ'П *м. буд.* 1. Бэлька. *Дзет ставіцца на пераруп.* Курополле Паст. *Бэлька паложана ў хляве, у таку — пераруп называецца.* Мярэцкія Глыб. 2. Папярочная сцяна, якая падзяляе трысцень на дзве палавіны. *Пераруп пасрэдзіні.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАРЫ'Ў *м.* Перарыў у рабочым стажы. *Перарыў у стажы работы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАРЫ'ЎНЫ *прым.* Кароткачасовы. *Дош перарыўны.*

Рыбчына Віл. *Дошч перарыўны ідзе: то пройдзе, то зноў падае.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАРЫ′ЦЬ *зак.* 1. Перакапаць. *Я лапатай перарыў.* Валынцы В.-Дзв. 2. *экспр.* Перавярнуць усё шукаючы. *Усе перарыла ў хаце і не нашла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАСА′ДЗІЦЦА *зак.* Перажываць. *Што я перасадзілася — усе абаберыць маё!* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАСАЛІ′ЦЬ *зак.* Перадаць солі. *Перасаліла ежу.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАСАРТАВА′ЦЬ *зак.* Рассартаваць. *Трэба дошкі перасартаваць.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАСВЕРАВА′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а в е́ с і ц ц а. *Перасверавайся, а то ўляціш у студню.* Кураполле Паст.; *гл.* п е р а с в е́ р ы ц ц а.

ПЕРАСВЕ′РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а в е́ с і ц ц а. *Перасверылася праз зруп, ваду даставала і ўпала ў студню.* Магуны Паст. *Перасверылась, ваду даставала і ўпала.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *pérsisverti* ’тж’.

ПЕРАСВІ′Р *м.* Рычаг-вага ў жураўлі. *Вілкі ўкопаны* [для калодзежа], *на вілкі кладзецца брайно — перасвір, вочап прычапляўся ў вядро.* Ухвала Круп.; *гл.* п е р а с в е́ р ы ц ц а.

ПЕРАСЕ′ДЗЕЦЬ *зак.* Перапячыся. *Як перасядзіць хлеп, скарынка паднімецца і ападзець.* Кураполле Паст.

ПЕРАСЕ′К *м.* Засек. *Былі і перасекі, куды ссыпалі муку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАСЕ′КАЦЬ, ПІРАСІКА′ЦЬ *незак.* 1. Перасякаць. *Трэбо перасекаць тапаром.* Тухавічы Лях. *Перасекалі брайно тоя.* Альхоўцы Лях. *Я пірасікаю брайно.* Мярэцкія Глыб. 2. Матычыць. *Два рас палолі, два рас перасекалі буракі.* Кузьмічы Люб.

ПЕРАСЕ′ЧКА *ж.* Разрыў ніткі пры тканні. *Перасечкі бываюць, як тчэш, перасечкі верхнія, блізна — як нітка парвецца.* Дакудава Лід. *Як ткуць кросны — перасечкі робяцца.* Рагулішкі Даўг.

ПЕРАСЕ′ЯЦЬ *зак.* Прасеяць (муку). *Я перасеяла муку.* Солы Смарг.

ПЕРАСІ′ЛАК *м.* Перанапружанне. *Баба аглохла с перасілку.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАСІЛЕ′ННЕ *н.* Зрушэнне ўнутраных органаў ад цяжкай работы. *Я думала: або нястрайнасць, або перасіленне, або вантроба.* Солы Смарг.

ПЕРАСІ′ЛЕЦЦА *зак.* 1. Перасіліцца. *Усё, ты перасілелася.* Вецярэвічы Пух. *Як перасілелася, то доўга хварэла.* Альхоўка Навагр. 2. Стаміцца. *Ты перасілелася, не аддыхала.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАСІ′ЛІЦЬ *зак.* 1. Стаміць. *Перасіліш сябе работай за*

*дзень*. Груздава Паст. 2. Сурочыць. *Бераш прадаваць пчол, то такому, хто не перасіліць*. Груздава Паст.

ПЕРАСКІ'КАЦЬ *незак. перан.* Пераскокваць. *Як карова гот не цялілася, то знак пераскікая*. Гемзы Шальч.

ПЕРАСКІКНУ'ЦЬ *зак.* Пераскочыць. *Пушок* [сабака] *прас плот пераскікнуў. Курыца пераскікня прас плот*. Солы Смарг.

ПЕРАСЛА'ЦЬ *зак.* Пасла́ць (пісьмо). *Мама, я ш табе пцічкай пісьмо не перашлю*. Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАСЛІБІЗАВА'ЦЬ *зак.* Прачытаць па складах. *Пераслібізую слова якое*. Мсцібава Ваўк.

ПЕРАСМА'ЖЫЦЬ *зак.* Падсмажыць. *Оляк с цыбулькай перасмажам*. Новікі Гродз.

ПЕРАСМАЛІ'ЦЬ *зак.* Апячы. *Мяне агнём перасмаліла*. Рагулішкі Даўг.

ПЕРАСМЕ'ШНІК, ПЕРАСМІ'ШНІК *м.* Насмешнік. *Не перасмешнік ён, не перасмяець нікога. Перасмішнік людзей перасміхаіць*. Малькуны Ігн.

ПЕРАСНАВА'ЦЬ *зак.* Наснаваць больш чым трэба. *Переснаваў — больш чым нада наснаваць*. Магуны Паст.

ПЕРАСНАСЦІ'ЦЦА *зак.* Перабрацца. *Послі пераснасцілась на другую клатку*. Кураполле Паст.

ПЕРАСО'Л *м.* Лішак солі ў чым-н. *Ніедобраго нагатавала перасолу такога, што не было як іго з'есці*. Баброўнікі Гарад. ▽ *Недасол на сталe, перасол на хрыпце*. Солы Смарг.

ПЕРАСО'ШЫНКА *ж.* Адзервянелая частка сцябла травяністай расліны каля кораня. *Вышы карэньчыка — перасошынка*. Азяраны Раг.

ПЕРАСПО'РЫЦЬ *зак.* Перамагчы ў спрэчцы. *Цібе не пераспорыш*. Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАСТА'ВІЦЬ *зак.* 1. Пераканаць. *Яе не пераставіш, як наважыла, так і будзя?* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Перайначыць. *Ніхто не пераставіць мяне*. Міратычы Карэл.

ПЕРАСТАРЭ'ЛЯЦ *м.* Жабрак. *Перастарэляц, ухадзі, чаго ты прышоў у маю хату?* Гемзы Шальч.

ПЕРАСТА'ЦЬ *зак.* Спыніцца. *Дошч, снех перастаў*. Ёдлавічы Брасл. *Выпісала парашочак, пігулачку, я выпіла і перастала балець*. Солы Смарг. *Перасталі рабіць*. Грыкені Вільн.

ПЕРАСТО'Й *м.* Тое, што пераспела. *Пара жаць жыта, будзя перастой, будзя сыпацца*. Гемзы Шальч.

ПЕРАСТРО'ІЦЦА *зак.* Перабудавацца. *Я па вайне перастроілася*. Крэва Смарг.

ПЕРАСТРЭ'ЛКА, ПІРАСТРЭ'ЛКА *ж.* Перастрэлка. *Перастрэлка была*. Альхоўка Навагр. *Як пачуў пірастрэлку, паляцеў на футар*. Літва Івян.

ПЕРАСТУПІ'ЦЬ *зак.* Пераступіць. *Пераступіў цераз па-*

*рох і сеў.* Кіралі Шчуч. *Пераступіў праз яго; не пераступай, а то расці ня будзя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАСТЫ'ГНУЦЬ *зак.* Перамерзнуць. *Дзяўчына перастыгла.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЕРАСТЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а с т ы́ г н у ц ь. *Ногі перастылі, забалела горла.* Шамялі Брасл.

ПЕРАСУВА'ЦЬ *незак.* Прасоўваць. *Перасуваю руку з віткай праз салому.* Гемзы Шальч.

ПЕРАСУШЫ'ЦЬ *зак.* Перасушыць. *Як пагода, перасушу сена — і ў гумно.* Гемзы Шальч.

ПЕРАСЦЕ'НАК *м.* Перагародка. *Перасценкі здзеланы с кірпіча ў хлеві.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАСЦЕРАХЧЫ' *зак.* Папярэдзіць аб небяспецы. *Перасцеражы яго.* Граўжышкі Ашм.

ПЕРАСЦЁЛ *м.* Мясная праслойка ў сале. *Сало с перасцёлам.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАСЦІ'ХНУЦЬ *зак.* Сціхнуць. *Быў кашаль, перасціх.* Вецярэвічы Пух.

ПЕРАСЦІХО'НКУ. У выразе: *Без перасціхонку* — бесперапынна. *Ён п'е без перасціхонку і ляжыць, як бэля.* Новіны Нясв.

ПЕРАСЫХА'ЦЬ *незак.* Рассыхацца. *Чуюся, жэ будзець перасыхаць* [кубіл]. Старыя Смільгіні Воран.

ПЕ'РАТ *гл.* ПЕ'РАД I, II

ПЕРАТАБЛЯВА'ЦЬ *зак.* Пракруціць адтуліну тэблем. *Трэба сцянуператабляваць гэтым тэблям.* Гемзы Шальч.

ПЕРАТАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Ператапіць. *Нада сала ператапіць, як колім кабана.* Груздава Паст. 2. Зварыць. *Каровяя мяса ператапіла.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАТАПЛЕ'ННЯ *н.* Ператопліванне. *Сколькі атходу ат ператаплення!* Дакудава Лід.

ПЕРАТАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Ператопліваць. *Будзем ператапляць сала.* Ліпнікі Вільн.

ПЕРАТВАРЫ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а в а р а́ ч ы в а ц ц а. *Перат Іванам* [Купала] *малако адбіралі бабы, баба ў жабу ператварылася.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАТКАВА'ЦЬ, ПІРАТКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Бегчы спераду. *Ехалі з базара, а ў Дзявіне ім ператкуіць жарабёначак, сцябыль яго, і прывязаў да аглоблі.* Кураполле Паст. *Котка піраткуіць цэлая рання.* Саланое Віл. 2. Забягаць наперад і выпрошваць што-н. [пра сабаку]. *Што ты ператкуіш?* Кураполле Паст.

ПЕРАТКНЕ'НЫ *дзеепрым.* Ператкнуты. *Букса ў возя пярэтачкай ператкнена.* Дакудава Лід.

ПЕРАТКНУ'ЦЬ *зак.* Замацаваць века кубла палкай. *Палку вазмі і ператкні кубял.* Кіралі Шчуч.

ПЕРАТО'ПКА *ж.* Паводка. *Ператопка была ў рацэ.* Латыгаль Віл.

ПЕРАТО'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Перасквараны. *Ператоплены тлушч.* Солы Смарг.

ПЕРАТО'Ч, ПЕРАТО'ЧА, ПЕРАТО'ЧЧА *ж.* Перагародка. *Маленька ператоч у засеку — там мякіна. Ператоча ў гумне была, дзе мякіну ссыпалі. Ператочча зусім пагніла.* Парэчча Гродз.

ПЕРАТРАПА'ЦЦА *зак. перан.* Расстроіцца. *У мане ўся нерўная сістэма ператрапалася.* Хатынічы Ганц.

ПЕРАТРАСА'ЦЬ *незак.* 1. Пераглядаць што-н. шукаючы. *Яна подушкі ператрасала, грошы шукала.* Кудзялянцы Шальч. 2. Размотваць пражу. Стральцы Шальч.

ПЕРАТРАСЦІ' *зак.* Абшукаць (усё, многае). *Усе вуглы мае ператраслі.* Парэчча Гродз.

ПЕРАТРАЯ'НІЦЬ *зак.* Узрыхліць. *Я сваю палоску ператраяніў і ўсяроўна цвёрда.* Мачаск Бярэз.

ПЕРАТРО'НЦІЦЬ *зак.* Перашкодзіць зрабіць што-н. *Я ператронціла ваўкам дабычу.* Рагулішкі Даўг.

ПЕРАТРУСІ'ЦЬ *зак.* Ператрэсці (пра адзенне і інш.). *Нямношка ператрусі, кап чыста было.* Солы Смарг.

ПЕРАТУ'ЖЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а с і л е ц ц а 1. *Ператужылася, перанэрвавала, думала, або нястраўнасць, або перасіленне.* Солы Смарг.

ПЕРАТУШЫ'ЦЬ *зак.* Патушыць (мяса). *Мы ператушылі мяса.* Саланое Віл.

ПЕРАТЫКА'ЦЬ *незак.* Патыкаць. *Ператыкалі шэрсцю.* Дакудава Лід.

ПЕРАЎЯ'СЛО *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРАХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Пераходзіць. *Яна перахадзіла з рук у рукі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАХІЛІ'ЦЬ *зак.* Пералажыць. *Аборачку праз казёлку перахіліш і прывяжаш да нітоў.* Лоск Валож.

ПЕРАХЛЯ'БІСТЫ, ПЕРАХЛЯ'БОСТЫ *прым.* З упалымі бакамі (пра жывёлу). *Перахлябістая карова.* Дакудава Лід. *Прышла яе карова зусім перахлябістая, галодная.* Пацаўшчына Дзятл. *Як упаўшыя бакі, то карова перахлябоста.* Альхоўцы Лях.

ПЕРАХЛЯ'БІЦЦА *зак.* Схуднець, змарнець. *Перахлябілася карова, страх глядзець.* Дакудава Лід. *Галодная скаціна прышла, перахлябілася, згаладала, патцягнулі бакі, сышліся бакі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конь перахлябіўся, бакі ўпалі. Карова перахлябілася, ня есць.* Рыбчына Віл. *Перахлябілася карова.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Яна перахлябілася зусім.* Азяраны Раг.

ПЕРАХЛЯ'БОСТЫ *гл.* ПЕРАХЛЯ'БІСТЫ

ПЕРАХЛЯ'ПШЫ *дзеепрым.* З упалымі бакамі. *Ці паеўшы, ці не паеўшы — усё перахляпшы.* Ракаўскія Швянч.

ПЕРАХО'Д, ПЕРАХО'Т *м.* Заражэнне. *Пераход — калі адна хвароба пераходзіць на другога чалавека. І Манька хворая, і Варка — мусіць, гэта пачаўся перахот.* Ухвала Круп.

ПЕРАХО'ДЗІНЫ *мн.* Тое ж, што і п е р а п о́ ў з і н ы. *Пераходзіны ў новую хату. Просяць на пераходзіны.* Рыбчына Віл.

ПЕРАХО'ДЗІЦЬ *незак.* Тое ж, што і п е р а б і р а́ ц ц а І. *Пераходзь ты сюды жыць.* Міратычы Карэл.

ПЕРАХО'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і п е р а р ы́ ў н ы. *Пераходны дожч.* Мярэцкія Глыб. *Будзіць і заўтра пераходны дожч.* Валынцы В.-Дзв. *Пераходны дожч: то ідзець, то сціхнець.* Беразіно Докш.

ПЕРАХО'ДЫ *мн.* Перапынкі. *Дожч ідзець з пераходамі.* Беразіно Докш.

ПЕРАХО'Т *гл.* ПЕРАХО'Д

ПЕРАХРО'СТАК *м.* Тое ж, што і п е р а к р о́ с т а к. *Там, дзе перахростак, спынішся.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАХРЫСЦІ'ЦЬ *зак.* Пераступіць цераз каго-н. ▽ *Перахрысціла нагою — не будзе расці* [чалавек]. Кузьмічы Люб.

ПЕРАХРЭ'СТ *м.* Тое ж, што і п е р а к р о́ с т а к. *Дом яе там, дзе перахрэст.* Беразіно Докш.

ПЕРАЦА'ЦКАЦЬ *зак.* Перарабіць (пра ўсё, многае). *Бабская работа за работу не шчытаецца, а сколькі яна перацацкаіць прас свае рукі.* Кураполле Паст.

ПЕРАЦВІ'СЦІ *зак.* Адцвісці. *Жоўтыя цвяты перацвітуць — і пухоўкі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПЕРАЦВІТА'ЦЬ *незак.* Адцвітаць. *Сірэнь перацвітаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАЦЕ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Прапалены. *У хазяйкі печ перацеплена.* Ракаўскія Швянч.

ПЕРАЦЕ'ПЛІЦЬ *зак.* Перапаліць. *Перацепліла печ.* Ракаўскія Швянч.

ПЕРАЦЕ'РПЕЦЬ *зак.* Дачакацца. *Перацерпела, стаю, выяжджая с кустоў.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАЦЕ'РЦІ *зак.* Памыць. *Я ператру блюскі.* Калядзічы Ваўк. *Трэба падлогу перацерці.* Солы Смарг.

ПЕРАЦІРА'ЦЬ *незак.* 1. Праціраць рэчыва праз рэшата. *Рэткая рэшата, натрэць, як чарвяка — гарох пераціралі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пераціраць рукамі муку з вадой для заціркі. *Зацірку пераціралі і варылі.* Стральцы Шальч.

ПЕРАЦІ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Сціхнуць (пра дождж). *Як пашоў дожч ды пераціх, то кажуць: дожч ідзе чатамі.* Альхоўцы Лях. 2. Перастаць хварэць. *Быў хворы, а да дахтароў не іду, пабаліць, пераціхне і ўсё.* Дзераўное Стаўб.

ПЕ'РАЦ ЛУГАВЫ' *м. бат.* Дзікі перац. *Перац лугавы ў*

*лузе, на лахчыні расце, запах дае перцу, цвіце беленькімі кветкамі, адзін сцябялёк, на вяршочку купінкаю красачкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАЦУВА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п е р а ц в і т а́ ц ь. *Як цваты перацуюць, так капаўшы былі п бульбу.* Ракаўскія Швянч.

ПЕ′РАЦЬ *незак.* Перыць (пранікам). *Плацё памыла, пранікам пераць.* Міратычы Карэл. *Пранікам пераць, потым палошчуць.* Багушэвічы Бярэз. *Пераць буду.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЕРАЦЯ′ГАВАЦЬ *незак.* Перавозіць на новае месца. *Перацягавалі хаты майстры.* Паляцкішкі Воран.

ПЕРАЦЯГНУ′ЦЬ *зак.* 1. Скапіраваць. *З бумагай можна перацягнуць рысунак.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *экспр.* Моцна ўдарыць чым-н. *Перацягнуў дзягай, аш слет астаўся.* Кураполле Паст.

ПЕРАЦЯ′ЖЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і п е р а с і л е ц ц а 1. *Цяжка падняла ворак, перацяжылася, і скулы пашлі.* Каўняны Гродз.

ПЕРАЦЯ′ЦЬ *зак.* 1. Перарэзаць. *Нада перацяць вяроўку.* Старыя Трокі Трак. 2. Патачыць салому, траву (пра мышэй). *Мышы пошар перацялі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕРАЧЫШЧА′ЦЬ *незак.* Прасейваць. *Напраста рош молъта, ена с коркай, а перачышчаюць, ена атходзіць ат зірна.* Філіпаўцы Красл.

ПЕРАШКАДЖА′ЦЬ *незак.* Замінаць. *Буду вам перашкаджаць.* Парэчча Гродз.

ПЕРАШТАРЦАВА′ЦЬ *зак. экспр.* Абняславіць. *Пераштарцуюць цябе, пераштарцовал на чтэры бокі.* Граўжышкі Ашм.

ПЕРАШЧЫ′КАНЫ *прым.* Тое ж, што і п е р а в я́ з і с т ы. *Аса дліна і перашчыкана.* Кузьмічы Люб.

ПЕРАШЧЫ′ПЛЕНЫ *прым.* Тое ж, што і п е р а в я́ з і с т ы. *Матка за іх* [пчол] *даўжэйшая, сярэдзінка тонкая, перашчыпленая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРАШЧЫТА′ЦЬ *зак.* ◇ ***Скобы перашчытаць*** — пра вельмі худога чалавека. *Худы, скобы можна перашчытаць.* Саланое Віл.

ПЕРАШЫ′ЦЬ *зак.* Скалануць. *Мяне аш перашыла, як сказалі, што бутылкі няма, перамянілі.* [illegible] Шальч.

ПЕРВА′К, ПІРВА′К *м. пчал.* Рой пчол, які першым пакідае вулей. *Первак — первый рой пчол.* Янова Рас. *Ад пірвака маткі ні пяюць.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕ′РВА-НА′ПЕРВА *прысл.* Перш-наперш. *Перва-наперва пашчытай, сколькі штук таго сідніку, а тады і варажы. Перва-наперва ядуць яйцо.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕРВАЦЁЛКА *ж.* Карова, якая ацялілася першы раз.

*Перваця̈лка ў яе і шчэ адна карова.* Пацаўшчына Дзятл. *Перваця̈лка — якая целіцца першы раз.* Рыбчына Віл., Пасека Ст.-Дар., Янова Рас. *Перваця̈лка ў хляве не стаіць.* Пасіене Лудз.

ПЕ′РВЕ, ПЕ′РВЕЙ *гл.* ПЯРВЕ′Й

ПЕ′РВІЦА *ж.* Сена першага ўкосу. *Накасілі первіцы, сена маладоя, харошая.* Вецярэвічы Пух. *Первіца — першы пакос.* Старое Сяло Зэльв.

ПЕ′РВЫ *прым.* 1. Самы лепшы. *Ён быў первым ковалем.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *ліч.* Першы. *Первым сортам поліўку дзелалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕ′РВЫ-НА′ПЕРВЫ *прым.* Самы першы. *Калі первы-напервы поезд пайшоў, бабы крычалі: «Хватай ікону, нячыстая сіла!»* Мішневічы Шум.

ПЕ′РВЯ *зб. н.* Пер'е. *Первя ў птушак.* Талейкі Швянч.

ПЕРГА′, ПЯРГА′ *ж. пчал.* Падкормка для маладых пчол. *Перга — клейкая такая.* Пацаўшчына Дзятл. *Пергой маладых пчол падкармліваюць.* Глівін Барыс. *Перга — маладых пчол карміць.* Бакшты Іўеў., Азяраны Раг. *Пярга — пчаліны хлябец.* Дакудава Лід., Масілавічы Сл.

ПЕ′Р'Е, ПЕ′Р'Ё, ПЕ′Р'Я *зб. н.* Сцяблы цыбулі, часнаку. *Пер'е ў цыбулі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пер'е цыбулі.* Дзяніскавічы Ганц. *Нашчыпай пер'я, с салам паядзім.* Беразіно Докш. *Пер'я нарвала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пер'ё часныку. Падзі нашчыпай с цыбулі пер'я.* Міратычы Карэл. *Пер'я ў цыбулі; нашчыпай пер'еў цыбулі.* Лісна В.-Дзв. *Пе́р'я цыбулі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕ′РЕЕДЗЬ *м.* Хто вельмі злосны. *Гэта не мужык, а переедзь.* Мішневічы Шум.

ПЕРЕПУСЦІ′ЦЬ *зак.* Дараваць. *Табе перепушчу ета, а другому — ніколі не.* Мішневічы Шум.

ПЕ′Р'Ё *гл.* ПЕ′Р'Е

ПЕ′РКІ *мн.* 1. Пер'е. *Яна пашла перкі драць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *памянш.* да п е́ р ы. *У краснапёры перкі красныя.* Быстрыца Астр.

ПЕ′РНІК *м.* Пернік. *Бяры цукеркі, пернікі, капалючку выпі.* Старыя Трокі Трак. *Пернікі пяклі: сода, смятана, мука, раскачаю, пакрою — і на патэльню.* Гемзы Шальч.

ПЕ′РСІ, ПЕ′РСЦІ *мн.* Грудзі (у каня). *У каня персі, як баханэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Так грудзі, а ў каня — персі.* Сака[illegible] Сакол. *У каня персці.* Дзяніскавічы Ганц., Калясное Міхал.; *параўн.* літ. *pìršys* 'тж'.

ПЕ′РУ′Н *м.* Пярун. *Трэснуў пе́рун — астаўся старчак.* Паляцкішкі Воран. *Пе́рун паб'е яловая дзерава.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пе́рун страляя.* Рудня Чэрв. *Пе́рун стукнуў.* Вецярэвічы Пух. *Пе́рун убіў.* Пасека Ст.-Дар. *Трэснуў перу́н.* Крынкі Крын.

ПЕРУНО'К *м. памянш.* да п е́ р у́ н. ▽ *Кап цібе першы перунок не мінуў!* Ёдлавічы Брасл.

ПЕ'РУЧ *прысл.* 1. Даўней. *Перуч білі ўчанікоў ў школі.* Заполле Маст. 2. Спачатку. *Парцізанаў у нас было много. Яны ночу перуч хадзілі, а потым пачалі былі і днём хадзіці.* Заполле Маст.

ПЕ'РУШКІ *мн. памянш.* да п е́ р к і 2. *У рыбы перушкі.* Якубова Рас.

ПЕ'РХАЎКА *ж.* Перхаць. *Завілася перхаўка ў галаве.* Мярэцкія Глыб.

ПЕ'РХАЦЬ, ПЕ'РХАТЬ, ПЯ'РХАЦЬ *ж.* Тое ж, што і п е́ р х а ў к а. *Перхаць у каровы вясною.* Пасіене Лудз. *Перхаць белая, я пастрыгла валасы.* Валынцы В.-Дзв. *Дзе бальная галава, там перхаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У галаве перхаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Перхаць на свіні, напалі паршы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Перхаць у каровы.* Пасека Ст.-Дар. *Жолтая перхать у лошаді.* Рагулішкі Даўг. *Пярхаць з галавы.* Ухвала Круп.

ПЕ'РЦІ I *незак. экспр.* 1. Ісці. *Пыл прэ праз вокны.* Пацаўшчына Дзятл. *Сажалі адну постаць і жалі далей. А цяпер адзін шнур бяруць і прэ праз увесь шнур.* Солы Смарг. ▽ *Як пяць, то гаршке кіпяць, як чатэры, то гаршке ўмеры, як тры, то дахаты пры, яґ два, то кушаць пара.* Номікі Бабіц. 2. Несці. *Прэць чумадан.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Есці. *Качкі зеля цэлым горлам пруць.* Кіралі Шчуч. 4. Спаражняцца. ▽ *Німа чым воўку апраўляцца, дык яго лыкам прэ.* Міратычы Карэл.

ПЕ'РЦІ II *незак.* Тое ж, што і п е́ р а ц ь. *Пранікам пяраць. Я пру, а вы пяраця?* Мярэцкія Глыб.

ПЕ'РЦІСЯ *незак. экспр.* 1. Лезці куды-н., не зважаючы на перашкоды. *Чаго моцно прэсся?* Малахоўцы Бар. *Куды ты нагле прэсся ў гэту рыбу?* Солы Смарг. *Каровы гілююць — хвасты дудой — прэцца ў кусты.* Кудзялянцы Шальч. 2. Падыходзіць (пра цеста). *Калі хлеп натта прэцца, ґузы на ём — гэто найлепшы хлеп.* Дакудава Лід.

ПЕРШ, ПЭРШ *прысл.* 1. Перш-наперш. *Нада, мусіць, перш курам даць.* Груздава Паст. *Перш дай карові есці, а потым даіць будзіш.* Мсцібава Ваўк. *Дай перш есць.* Паляцкішкі Воран. *Пэрш рукы помый, а тогді сядай за стіл.* Ушкавіца Кобр. *Пэрш буў мый.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і п е́ р у ч 1. *Перш хвалілася, а ціпер маўчыць.* Кемялішкі Астр. *Не, жаніхоў хватала, толькі адна была біда, што была бедная, дык пасагі ні было, а перш жа за зямлёй, за пасагай ганяліся болі, як за дзеўкамі.* Лазічы Глыб. *Кап перш быў прыехаў.* Ністанішкі Смарг. *Перш начальство паны былі.* Грыкені Вільн. *Ён мне гаварыў перш.* Чычалі Швянч.

ПЕ'РША, ПЭ'РШЭ *прысл.* 1. Тое ж, што і п е р ш 1.

*Перша едуць да маладога.* Магуны Паст. *Пэршэ я дам свынюм, бо вжэ аж в гушях ляшчыть од йіхого квычяння, а вжэ после корову выдою.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і п е́ р у ч 1. *Віткай перша аглоблю да саней прывязвалі.* Лука Нараўк.

ПЕРША′К *м.* 1. Выдатнік вучобы. *І першаком тожа трудна ўчыцца. Першаком трудна, а як прывыкнеш, то нічога.* Саланое Віл. 2. Першая самагонка з затору. *Першаку налій, ня вытраваць.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРША′ТКА *ж.* Тое ж, што і п е р в а ц ё л к а. *Карова — першатка спанатравалася бегаць у шкоду.* Азяраны Раг. *Першатка ў поле пашла.* Лука Нараўк.

ПЕРШАЦЁЛКА *ж.* Тое ж, што і п е р в а ц ё л к а. *Мая карова — першацёлка.* Дакудава Лід.

ПЕРША′ЧКА *ж.* Тое ж, што і п е р в а ц ё л к а. *Першачка карова, мала малака дае.* Кіралі Шчуч. *Ета старая карова, а ета — першачка.* Беразіно Докш. *Першачка першым целям.* Гемзы Шальч.

ПЕ′РШ-НА′ПЕРШУ, ПЕРШ-НА′ПЯРШ *прысл.* Тое ж, што і п е р ш 1. *Перш-напершу маладога пеюць.* Саланое Віл. *Каміндант перш-напярш папытоўся ў мяне, хто ён.* Веркалы Пух.

ПЕ′РШЫ *ліч.* 1. Тое ж, што і п е́ р в ы 2. *Ён і з першай плоха жыў — такі лайдак.* Саланое Віл. *Як грымеў першы гром, наш гаспадар перакуліўся.* Кіралі Шчуч. *З першага грэбяня — вярхі і камлі.* Магуны Паст. *Першы рас віджу.* Стральцы Шальч. 2. *прым.* Тое ж, што і п е́ р в ы 1. *Чыстацел ад язвы перша лякарства.* Солы Смарг. *Першы пекар у Крынках.* Крынкі Крын.

ПЕРШЫ′НА, ПЯРШЫНА′ *ж.* 1. Цаліна. *Першына́ — тое, што толькі ўспахалі.* Дакудава Лід. *Першыну́ аруць.* Быстрыца Астр. *На першыну́ пасеіў лён. Лён добра расцець на першыне́.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гарэ пяршыну, адгоруе другі раз і сее жыта.* Паляцкішкі Воран. 2. Упершыню. *Ім гэты не першына.* Малькуны Ігн. *Гэта нам не першына́.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мне не першына́.* Альхоўцы Лях. *Гэта не першына́.* Збляны Лід. ▽ *Ці ні першына́, калі свайго так біць каня?* Валодзькі Маладз.

ПЕ′РЫ *мн.* Тое ж, што і п е́ р к і 2. *Анагда бывая судак, перы мая, хышная рыба.* Быстрыца Астр.

ПЕ′РЫНА′ *ж.* 1. Пяро. *Адна пе́рына.* Асавец Віл., Вецярэвічы Пух., Вострава Маст. 2. Адно сцябло цыбулі. Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕРЫ′НКА *ж.* *памянш.* 1. да п е́ р ы н а́ 1. *Адна перынка, перына.* Асавец Віл. *Перынка адна.* Альхоўцы Лях., Вялікія Баяры Шчуч. 2. да п е́ р ы н а́ 2. *Адна перынка.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕРЫНЯ'ЦЬ ДЗІЦЯ'ТКА *зак.* Прымаць роды. *Бабулька дзіцятка перыняла.* Саланое Віл.

ПЕРЫ'СТЫ *прым.* Пёрысты (пра воблакі). *Сегодня перыстыя аблака.* Скрудалена Даўг.

ПЕРЫСЦІРЫЗАВА'ЦЦА *незак.* Пастэрызавацца. *Ужо малако перысцірызавалася.* Ухвала Круп.

ПЕ'РЫЦЬ I *незак.* Тое ж, што і п е́ р а ц ь. *Палатно перыць пранікам.* Дакудава Лід. *Колісь плацё перылі пранікам.* Малахоўцы Бар. *Пранік — бялізну перыць.* Солы Смарг. *Трэба перыць пранікам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пойдзем кужаль перыць. Пранікамі перым кужаль.* Бяброўнікі Гарад. *Бяльё пяруць пранікам. Пранікам перыць.* Гайна Лаг., Глівін Барыс. *Пяруць пранікам.* Пасека Ст.-Дар.

ПЕ'РЫЦЬ II *незак. экспр.* Моцна струменіць (пра дождж). *Аж брыдко, дошч перыць.* Новіны Нясв. *Такі ж дошч перыў!* Бяброўнікі Гарад.

ПЕРЭ'ВЕСЛО *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРЭВЕРНА'ЦЬ *зак.* Перагледзець што-н. шукаючы. *Чаго шукаеш, усе перэвернала?* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕРЭВЯЗЦІ' *зак.* Перавезці. *Яна была сюды перэвязла хату.* Крынкі Крын.

ПЕРЭВЯ'СЛО *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЕРЭДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. *Страх перэдумаць, такі боль быў.* Крынкі Крын.

ПЕРЭЖЫ'ЦЬ *зак.* Пражыць. *Перэжыла сорок лет.* Крынкі Крын.

ПЕРЭКУЛІ'ЦЬ *зак. абрад.* Перакуліць шмат разоў курыцу (якая спявае) па хаце, і што трапіць на парог,— хвост ці галава, адсячы. *Перэкуліць курыцу нада — пяе.* Гемзы Шальч.

ПЕРЭ'ПАЛАХ *м.* Спалох. *Яна с перэпалаху моцна захварэла.* Сакаляны Сакол.

ПЕРЭТА'ПЛІВАЦЦА *незак.*Ператопліваццa (пра сала). *Сало — нутрэнное, перэтапліваецца.* Крынкі Крын.

ПЕ'Р'Я *гл.* ПЕ'Р'Е

ПЕРЯТКІ' *мн.* Пярэднія калёсы воза. *Перяткі нада памяняць у возе.* Скрудалена Даўг.

ПЕС *м.* Сабака. *Буда для пса.* Кемялішкі Астр.; параўн. *польск. pies* 'тж'.

ПЕ'САК *м.* Пясок. *Як сыпнуў песак яму ў вочы! Кругом песак, не прайсці да магазіна, каб не набраць поўныя туфлі яга.* Беразіно Докш.; *параўн.* польск. *piasek* 'тж'.

ПЕ'СЕЛЬНІЦА *ж.* Спявачка. *Ты, песельніца, едзьма ў Москву.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕСКАВЫ' *прым.* Пясчаны. *Там пескавая зямля, а ў нас тарфянік.* Кузьмічы Люб.

ПЕ'СНЯ, ПІ'СНЯ *ж.* Песня. *Песень, ой, было!* Курaполле Паст. *Панавучвала песянь.* Рыбчына Віл. *Я памармычу песні.* Дзераўное Стаўб. *Песян многа знаю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Устым'я вэльмы мныго старінных пісінь знае.* Ушкавіца Кобр. *Тая Хвыдора, бало, як почнэ спываты, то пісня за піснію.* Сіманавічы Драг. ∇ *На чыім вазе еду, таму песні спяваю.* Малі Астр.

ПЕСО'К, ПЫСО'К *м.* Тое ж, што і п е́ с а к. *Песок в хаце, нанасілі.* Кемялішкі Астр. *Воны шэ малыі булы, шэ пысок пырысыпалы.* Сіманавічы Драг., Ушкавіца Кобр.

ПЕ'СТА *м.* і *ж.* Пястун. *Малая песта ты!* Вецярэвічы Пух. *Песта ты!* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЕ'СТАВАЦЬ *незак.* Песціць. *Як матка натта пеставала, нічога яна ў яе не рабіла, толькі ў хаці сядзела.* Кіралі Шчуч.

ПЕ'СТАК *м.* Малады воўк. Мярэцкія Глыб.

ПЕ'СТАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п е́ с т а в а ц ь. *Яна пестаіць дачку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕ'СТУН *м.* 1. Тое ж, што і п е́ с т а. *Пестун ён пестун!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і п е́ с т а к. *Воўкі пестуна дзержуць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕ'СЦІЦЦА *незак.* Пеставацца. *Не было пры кім песціцца.* Снягяны Смарг.

ПЕ'СЦІЦЬ *незак.* Тое ж, што і п е́ с т а в а ц ь. *Меня яны песцілі.* Гемзы Шальч.

ПЕТЛЯ', ПІТЛЯ' *ж.* 1. Пятля. *Дайней былі дзверы на пітлях.* Лісна В.-Дзв. 2. Прарэшак. *Пітля ў адзежы.* Рагулішкі Даўг. ∇ *Яму аш петля ложыцца, кап выпіць* [вельмі хочацца]. Мсцібава Ваўк.

ПЕ'ТЛЯЧКА *ж. памянш.* да п е т л я́ 2. *Аплік — кручок, а петлячка для кручка.* Крэва Смарг. *Петлячкі праразалі і апкідалі.* Кудзялянцы Шальч.

ПЕ'ТНА *мн.* Плямы на твары. *Петна красные.* Альхоўцы Лях.

ПЕ'ТНАЧКА *н. памянш.* Плямачка. *Укусіць, толькі петначка астаецца.* Дакудава Лід.; *гл.* п е́ т н а.

ПЕТРАЧО'К *м. памянш.-ласк. заал.* Божая кароўка. ∇ *Петрачок, петрачок, куды замуш пайду: ці ўніс, ці ўверх, ці ў Лапічы, ці ў Граву?* Лапічы Асіп.

ПЕ'ТРЫЦЬ *незак. экспр.* Разумець. *Нічого не петрыць ён у гэтым.* Гарадзішча Глуск.

ПЕТУХО'ВЫ *прым.* Петушыны. *Зайтра я петуховага мяса звару.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЕТУ'ШАЧКА, ПІТУ'ШАЧКА *ж. памянш.* Маленькі гаршчочак ёмістасцю да аднаго літра. *У петушаццы парыла малако для дзяцей. Пітушачка як гаршчок гліняны, але маленькая, кашу дзецям варылі.* Мсцібава Ваўк.

ПЕТУШКІ′ *мн. бат.* Капытнік. *Петушкі, як вуха, растуць у нас.* Беразіно Докш.

П'Е′ЎКА, П'Ё′ЎКА *ж. заал.* П'яўка. *П'ейка ўпілася ў ногу.* Малыя Аўцюкі Калінк. *П'ёўка прысасалася да нагі.* Мачаск Бярэз.

ПЕ′ЎНА, ПЕ′ЎНЯ *прысл.* Пэўна. *Пейна, гасударственная зямля.* Палік Барыс. *Пейня, будзя начаваць у сястры.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *pewno* 'тж'.

ПЕ′ЎНЕВЫ *прым.* Тое ж, што і п е т у х о́ в ы. *Пейнева мяса.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕ′ЎНЯ *гл.* ПЕ′ЎНА

ПЕХАТО′Й, ПІХАТО′Й *прысл.* Пехатою. *Пехатой трыццаць кілёмятраў насіла прадаваць тканае.* Снягяны Смарг. *Пехатой прышоў.* Альба Нясв. *Пехатой да Сарафінішак хадзілі.* Старыя Трокі Трак. *Нада ісці піхатой.* Мярэцкія Глыб. *Са школы піхатой ішлі.* Кураполле Паст. *Піхатой хадзілі да Вільня.* Гемзы Шальч. *Я піхатой была прышоўшы.* Рагулішкі Даўг.

ПЕХАТО′М, ПІХО′ТОМ *прысл.* Тое ж, што і п е х а т о́ й. *Пашла пехатом у Слуцак.* Пасека Ст.-Дар. *Як пэказс до сёла ходіт, то ніхто до міеста піхотом ніяк нэ хочэ іті.* Курашэва Чыж.

ПЕХАЎЁ *н.* Дзяржанне. *Пехаўё на рагачы.* Бакшты Іўеў.

ПЕ′ЦЕЛЬКА *ж. памянш.* да п е т л я́ 2. *Пецелькі рабілі з нітак, а як праразалі — дзіркі.* Кураполле Паст.

ПЕЦЬ *незак.* Спяваць. *Пятух пяець.* Пасіене Лудз. *Ён умея пець.* Стральцы Шальч. *Яна красіва пела.* Гальшаны Ашм. ▽ *Курыца пяе на бяду — на нябошчыка ці на пажар.* Малі Астр.

ПЕ′ЦЯРА *зб. ліч.* Пяцёра. *Даччыны пецяра дзяцей.* Дакудава Лід.

ПЕЦЯРЭ′НЯ *ж.* Мянушка каровы, якая нарадзілася ў пятніцу. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЕЧ, ПІЧ *ж.* і *м.* Печ. *Злась с халоннай пячы, ідзі сюды, дзе я, тут нагрэесся. На печэ сушылі лён.* Мсцібава Ваўк. *Паліцца мой печ.* Старыя Смільгіні Воран. *Шмат вужоў пат печай.* Солы Смарг. *На печы схавалася.* Талейкі Швянч. *Кала печы абраблюся.* Канюкай Вільн. *У печы сушылі лён, хлеб пяклі ў печы. Печы з гліны былі.* Грыкені Вільн. *Дзве печы ў хаці.* Смаляніца Пруж. *Саджают хліб у піч. Ужэ всадэла хліб у піч.* Дзмітравічы Кам. *Тыклюсё, позыч но мні квача, хочу взавтра піч покалыты, а то гадко дывытыся вжэ.* Ушкавіца Кобр. ▽ *Добра хата, добра піч, нам Манічка добра річ: мы ж іі годовалы, то й за ею погулялы, мы Надічку годуімо — собі гулькы готуімо.* Сіманавічы Драг.

ПЕ′ЧАВЫ *прым.* Пячны. *Курата з дыму печавага.* Номікі Бабіц. *Печавы венік з хвайніку рабілі.* Альхоўка Навагр.

ПЕЧАЛІ'СКА *н.* Месца, дзе стаяла печ. *Дзе стаяла печ — печаліска.* Жылі Іўеў.

ПЕЧАНЕ', ПЕ'ЧАНІ', ПЕ'ЧЭНІ *мн.* Печань. *Печане глядзела, у трыбуху, нічога ні ўеўшы: жоўць з'ехаўшы была з печаней.* Асавец Віл. *Нада абрэзаць с пе́чанямі жоўць.* Ракаўскія Швянч. *Пе́чані, лёгкія, каса — у трыбух ідуць.* Кураполле Паст. *Вялікія пе́чані.* Малькуны Ігн. *На печаня́х жоўць ёсць.* Кіралі Шчуч. *Заколіш паршука, то пе́чані здзесь.* Старыя Смільгіні Воран. *Пе́чані тануць, а лёхкія — выплываюць.* Альхоўка Навагр. *Пе́чані балявыя.* Альхоўцы Лях. *Пры печаня́х жоўць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баляць печані.* Вялікія Баяры Шчуч. *Печані я ўжо прадаў.* Лісна В.-Дзв. *Жоўць пры печаня́х.* Парэчча Гродз. *Велькія пе́чані — матыліцы ў печэнёх. Пе́чэні малые.* Сакаляны Сакол.

ПЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Печаны. *Скваркі печаныя.* Тухавічы Лях. *Кішкі печаныя.* Быстрыца Астр. *Печаныя кішкі, с кроўю і крупою пячэш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Печана бульба, пякуць у печы, як дрова пагараць.* Кіралі Шчуч. *Печаныя яблыкі з малаком.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скваркі печаныя стаяць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЕ'ЧАНЬ *м., ж., н.* Печань. *Печань бальной стаў.* Валынцы В.-Дзв. *Печань вялікі, натта смачны.* Курaполле Паст. *Печань бальны, даўленя высокая.* Вялікія Баяры Шчуч. *На почкі і на печань хварэў.* Альхоўка Навагр. *Печань у авечкі бальны.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Гэту печань лячыла.* Гемзы Шальч. *Печань разбалелася с апрэля месяца.* Рагулішкі Даўг. *Печань бальная.* Саланое Віл. *Печань балела ў мяне, камушкі на печані.* Вецярэвічы Пух. *У міне печань — бальное; сколька перабалеўшы, сколька ў бальніцы лежаўшы.* Скрыпчына Лудз. *Уся печань була на гнаі.* Кузьмічы Люб.

ПЕЧА'РКІ *мн. бат.* Шампіньёны. *Печаркі по балоці растут.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *pieczarka* 'тж'.

ПЕЧАЯ' *ж.* Тое ж, што і п е́ к а т а. *Печая пячэ.* Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Печая смаліт.* Ялова Пруж.

ПЕ'ЧКА *ж.* Печ. *На печкі шукала.* Старыя Трокі Трак.

ПЕ'ЧНІК *м.* Пячнік. *Печнік — хто печы робіць.* Грыкені Вільн.; *гл.* п я ч н і́ к.

ПЕ'ЧНЯ *ж.* Пешня. Ахрэмаўцы Брасл. *Многа печняў.* Мярэцкія Глыб.

ПЕЧЫВО' *н.* Печыва. *Я не ўстрэчала такога печыва.* Індра Красл.

ПЕ'ЧЫШЧА, ПЕ'ЧЫШЧО *н.* Тое ж, што і п е ч а л і́ с к а. *Печышча звесці, убраць трэба.* Рудня Астравітая Чэрв. *Печышчо — дзе стаяла печ.* Альхоўцы Лях.

ПЕ'ЧЭНІ *гл.* ПЕЧАНЕ'

ПЕЧЭНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і п е ч а н е́. *Я люблю печэніцу.* Гемзы Шальч.

ПЕЧЭ'НКА *ж.* Тое ж, што і печане́. *Еш печэнку.* Гемзы Шальч.

ПЕШАКО'М, ПІШАКА' *прысл.* Тое ж, што і пехато́й. *Ішлі пешаком.* Альхоўцы Лях. *П'ять кіломытрув пішака йшла, покіль машына ны йіхала і ны пудобрала мынэ.* Ушкавіца Кобр.

ПЕ'ШКАМ *прысл.* Тое ж, што і пехато́й. *Яна пешкам пашла.* Вецярэвічы Пух.

ПЕ'ШНЯ *ж.* 1. Прылада для выдоўбвання ночваў, вулляў, прасякання лёду і інш. *Пешня — завостраная такое залеза, праломку прарубалі.* Парэчча Гродз. *Пешня — ночвы выдзелваць, дзелана кручком.* Тухавічы Лях. *Пешня — прабіваць лёд.* Мярэцкія Глыб. *Пешня, як далато, прасякаюць прадуху пешняй.* Рыбчына Віл. *Пешня для лёда.* Дакудава Лід. *Пешняй у зімні час лункі прабіваюць.* Беразіно Докш. *Пешня — долата на доўгай палцы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пешня — ступу, вуль дзеравянную выдоўбывалі.* Мачаск Бярэз. *Пешня — лёт калоць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пешня — прабіваць дзюркі ў лёдзе.* Ёдлавічы Брасл. *Пешня — ета палка, насоджаная на жалезіну вострую, прабіваць лёд, зямлю.* Мішневічы Шум. *Пешня — пролапку прасякаць зімой.* Янова Рас. *Пешня — лёт сякуць.* Палік Барыс. *Лёд прасякаць — пешня з жалезным наканечнікам.* Мельнікі Лудз. *Пешня — тонкая, гострая, лёд прасякаць, тонка, як дастане вады, то не бырзгала ў вочы.* Лука Нараўк. *Пешня — лёт далбаюць, жалеза далгоя, а качан дзераўляны.* Малькуны Ігн. *Пешняй вуллі дзелаюць для пчол, шула робяць ёю ў хлеў.* Хатынічы Ганц. *Пешня — на палцы далато, можна секці вулы.* Азяраны Раг. *Пешня, бы долато паўкругла, насаджавалася на чаранок дліинны, пешня прамая.* Дзяніскавічы Ганц. *Пешнямі прасякаюць лупку.* Мыто Лід. 2. *перан. экспр.* Хто неразумны. *На чалавека кажуць пешня, як заругаюцца.* Ёдлавічы Брасл.

ПЕ'ШО, ПЕ'ШУ, ПЕ'ШШУ, ПЕ'ША, ПІ'ШО *прысл.* Тое ж, што і пехато́й. *Пешо хадзіў.* Альхоўцы Лях. *Ішлі пешу.* Навасёлкі Свісл. *Пешшу іці.* Рудня Чэрв., Мярэцкія Глыб. *Пешшу хадзілі ў Дрысу.* Валынцы В.-Дзв. *Пешшу прайдуць.* Пасіене Лудз. *Я пеша ішла.* Стральцы Гродз. *Далёко хадзіла пеша.* Вострава Маст. ∇ *А я молодэнькая за ім пішо йшла, малую дытыночку на руках нысла.* Сіманавічы Драг.

ПЕШЧУГА', ПІШЧУГА', ПЫШЧУГА' *ж.* Пясчаная глеба. *Што вурасце на гэтуй пешчузе?* Кузьмічы Люб. *Пешчуга велікая, нельго іcті по сэлу.* Азарычы Пін. *Там пішчуга ў іх.* Вострава Маст. *Такая пышчуга, шо ны можна воза вытягты.* Сіманавічы Драг.

ПЕ'ШШУ *гл.* ПЕ'ШО

ПЕЮ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і п е́ с е л ь н і ц а. *Што за пеюлей была я!* Саланое Віл.

ПЕЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п е ц ь. *Як жыта сажнуць, пеялі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЁНТАК *м.* Пятніца. *У пёнтак прыходзіў сын.* Курамполле Паст. *Старыя ў пёнтак не елі з мясам, пасцілі.* Старыя Трокі Трак. *У гэты пёнтак мыю бялізну, а на той — можа, у зямлі буду.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *piątek* 'тж'.

ПЁНТРА *н.* Паверх. *Жывець на другім пёнтры.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* польск. *piętro* 'тж'.

ПЁРКА *ж. памянш.* Тое ж, што і п ѐ р ы н а́ 2. *Прынясі адну пёрку цыбулі.* Солы Смарг.

ПЁРЦІ *незак. экспр.* Тое ж, што і п е́ р ц і І, 2. *Мыш пёрла на хвасце троя мышанят.* Граўжышкі Ашм.

ПЁРЫ *мн.* 1. Пер'е. *Хазяйка пёры скубець.* Магуны Паст. *Велькія пёры растуць у павы, пёры ладныя.* Кудзялянцы Шальч. *Нада пёры абдзёрці на падушку.* Ліпнікі Вільн. *Я вас пёрамі апсыпала.* Скрудалена Даўг. *Пёры як дзьмухня, яны разляцяцца. Як курыца цыплят укрывала пёрамі.* Старыя Трокі Трак. 2. Плаўнікі ў рыбы. *Пёры — «крыльья» ў рыбы.* Чычалі Швянч. *У плоткі пёры чырвоныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *У краснапёркі красныя пёры.* Магуны Паст. *Два пёры ў рыбы, распускае і плыве.* Кіралі Шчуч. *У рыбы пёры, распусціць ї плаваіць.* Вострава Маст. *Пёры ў рыбы, мама казала, нада атразаць.* Рагулішкі Даўг. 3. Лісце цыбулі. *Пёры цыбулі ідзі нарві.* Гемзы Шальч.

ПЁРЫШКІ *мн. памянш.* да п ё р ы 2. *Рыба пёрышкі мая пад брухам, на спіне.* Солы Смарг.

ПЁСКА *ж. памянш.* Палоска. *Пёскі пад жыватом у гадзіны.* Новікі Гродз.

ПЁСТРЫ *прым.* Пярэсты (пра масць жывёлы). *У мяне пёстрая карова.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЁТРУК, ПЁТРУСЬ *м. царк.* Рэлігійнае свята, якое святкуецца 12 ліпеня па н. ст. *Прыдзе Пётрук. Пётрусь дай.* Паляцкішкі Воран.

ПІ'ВА, ПЫ'ВО *ж., н.* Піва. *На Літве робяць моцную піву.* Малькуны Ігн. *Піва ў барылках было.* Судэрва Вільн. ∇ *Шо тобі, зятьку, в тэстя сподыбнэ: чы мэд, чы выно, чы пшанычнэ пыво?* Сіманавічы Драг.

ПІВА'РНЯ *ж.* Піваварня. *Яна піварню дзяржала.* Парэчча Гродз.

ПІВІ'КА *ж. заал.* Кнігаўка. *Прыляцела півіка.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *pyvìkė* 'тж'.

ПІ'ВНІЦА *ж.* Склеп. *У півніцы бульба.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *piwnica* 'тж'.

ПІВО'НІЯ, ПІВО'НЯ *ж. бат.* Півоня. *Півонія ў мяне прапала.* Быстрыца Астр. *Півоня і сірэнь цвіце.* Пасіене Лудз.

*Півоня была — выкапалі дзеці.* Кудзялянцы Шальч. *Півоня ў мяне ў гародзе расце.* Дзераўное Стаўб.

ПІГА'РКІ *мн.* Прыгаркі ў бульбе. *Мамо, дай мне пігаркі.* Тухавічы Лях.

ПІ'ГАЎКА, ПІ'ҐАЎКА *ж. заал.* Тое ж, што і півіка. *Пігаўкі, што ў балотах лётаюць і да галавы прыпадая.* Гемзы Шальч. *Піґаўка кігіча.* Дакудава Лід.

ПІ'ГІЦА *ж. заал.* Тое ж, што і півіка. *Пігіца моцна крычыць.* Граўжышкі Ашм. *Пігіца па балоця бегая.* Жылі Іўеў. *Пігіца ў нас называяць, а дзе — чайка.* Кудзялянцы Шальч.

ПІГОНО'К *м. заал.* Труцень. *Пігонкоў пчолы выкідаюць на зіму.* Валынцы В.-Дзв.

ПІҐУ'ЛАЧКА *ж. памянш.* да піґўлка. *Выпісала парашочак, піґулачку, я выпіла і перастала балець.* Солы Смарг.

ПІҐУ'ЛКА *ж.* Таблетка. *Піґулкі п'ю ад галавы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бэз піґулак яна не бываіць, усё хварэюць.* Малькуны Ігн. *Сколькі перапіла піґулак, цяпер аб млеку жыву.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *pigułka* 'тж'.

ПІҐУ'ТКА *ж.* Тое ж, што і півіка. *Піґутка: пігі, пігі.* Гемзы Шальч.

ПІДЗІСЯ'Т *ліч.* Пяцьдзесят. *Пат підзісят ужо бярэцца.* Івашкаўцы Смарг.

ПІДНАВА'ЦЬ *незак.* Пільнаваць. *Піднуя і піднуя качанята.* Вецярэвічы Пух.

ПІ'ЖМА, ПІ'ЗЬМА *ж. бат.* Піжма. *Нарвала піжмы.* Вялікія Баяры Шчуч., Альба Нясв., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Чэрв. *Піжма — ад глістоў, як панос, жывот баліць, жоўтым цвіціць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Піжму п'юць як гліснік, ад глістоў, яна вісока расцець.* Валынцы В.-Дзв. *Піжма зялёна расце каля платоў, цвіце жоўтым цветам.* Кіралі Шчуч. *Піжма ад пуду.* Саланое Віл. *Піжма ат жывата.* Солы Смарг., Рудня Астравітая Чэрв. *Піжма ад глістоў і ад жалутка.* Навікі Лудз. *Піжма — як у аптэках цытвор.* Старыя Трокі Трак. *Піжма — жоўтая, ад глістоў.* Беразіно Докш. *Піжма ля дарогі расце, ад глістоў яна.* Глівін Барыс. *Піжма ад жывата памагае.* Баброўнікі Гарад. *Пізьма, даюць дзецям ад рабакоў, яна моч мае ад рабакоў.* Альхоўцы Лях. *Пізьма ад чарвей.* Міратычы Карэл.

ПІ'ЙЛО *гл.* ПО'ЙЛА

ПІЙСЯ'Т *ліч.* Тое ж, што і підзісят. *Шчэ добра, што ўцёк, а ў домя пуль піўсят мо праляцела.* Цеплень Уздз.

ПІ'КА *ж. ваен.* Піка. *Конніца ішла с пікамі.* Латыгаль Віл.

ПІ'КАЦЬ *незак.* Падаваць па радыё сігналы дакладнага часу. *Мусіць, восім часоў пікала.* Кіралі Шчуч.

ПІ'КАЎКА *ж.* Тое ж, што і півіка. *Пікаўка — самая*

*плахая пташка, не дасць прайсці, пытая: «Дзе быў?»* Гемзы Шальч.

ПІ'КЕР *м.* Дзіцячая гульня, у якой ігракі, знаходзячыся за праведзенай рыскай, збіваюць кіёк, аддалены ад іх на пэўную адлегласць. *Дзеці гулялі ў пікер.* Жылі Іўеў.

ПІКЛАВА'ЦЬ *незак.* Гараваць. *Бяднота была, во як даўно піклавалі ўсе.* Саланое Віл.; *гл.* п е́ к л а.

ПІ'КНУТІ *гл.* ПІ'КНУЦЬ

ПІ'КНУЦЬ, ПІ'КНУТІ *зак.* 1. Падаць голас. *Мая малая добрая: раз казала ей, яна і не пікнець.* Саланое Віл. 2. Сказаць. *Я тобе сказала про сіетэ, але ты буольш нікому нэ пікні. О туом нэ можна нікому пікнуті.* Курашэва Чыж.

ПІ'КРА *прысл.* Прыкра. *Нудна і пікра, от печець згага.* Старыя Смільгіні Воран.

ПІЛА' *ж.* Піла. *Не чалавек, як німа пілы і тапара.* Вецярэвічы Пух. *Пілой стучаць: брэнь, брэнь, кап пчолы агалавелі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Калісьці бэз пілэ рабілі будынкі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПІЛАВА'ЦЬ *незак.* Пілаваць. *Пілаваў лес.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Бацька хадзіў пілаваць доскі.* Гемзы Шальч. *Перш трэба пілкай пілаваць, а потым сакераю патсякаць.* Кіралі Шчуч. *Дровы пілавалі бярозавыя.* Канюкай Вільн. *Дошкі сабе пілавоў.* Дакудава Лід. *Дровы пілуюць.* Лісна В.-Дзв. *Падоўжная піла — удваіх пілаваць.* Солы Смарг. *Трэ доскі пілаваць.* Дзяніскавічы Ганц. *Трэбо было купіць лес і папілаваць. Калісь трэбо было ўручную пілаваць.* Баброўнікі Гарад.

ПІЛАВЕ'НЬЕ *гл.* ПІЛАВІ'ННЕ

ПІЛАВІ'НА *ж.* Пілавінне. *Рэзалі дровы, пілавіны насыпалася.* Малькуны Ігн.

ПІЛАВІ'ННЕ, ПІЛАВІ'ННЯ, ПІЛАВЕ'НЬЕ, ПІЛАВІ'НЯ *н.* Тое ж, што і п і л а в і́ н а. *Пілавінне на подсціл пойдзе.* Беразіно Докш. *Набяры пілавіння.* Рыбчына Віл., Багушэвічы Бярэз. *Пілавенье навазіў на патсцёл у хлеў.* Дзяніскавічы Ганц. *Пілавіня навазіў.* Альхоўка Навагр.

ПІЛАВІ'НЫ, ПІЛО'ВІНЫ *мн.* Тое ж, што і п і л а в і́ н а. *Калі рэжуць дровы — пілавіны.* Чычалі Швянч. *Пілавіны сыпюцца, як дзерава пілюць.* Старыя Смільгіні Воран. *Пілуюць і пілавіны сыпюцца.* Ёдлавічы Брасл. *Пілавіны — дзе лес пілуюць, прынясі пілавін.* Ліпнікі Вільн. *Піловіны вазілі ў хлеў.* Міратычы Карэл. *Рэжуць дровы — ляцяць піловіны.* Малахоўцы Бар. *Ой, много піловін!* Альхоўцы Лях. *Шопля на чаранку загнутая, пілавіны збіраці, смецё.* Лука Нараўк.

ПІЛАВІ'НЯ *гл.* ПІЛАВІ'ННЕ

ПІЛАРА'МА *ж.* Піларама. *Піпараму меў сваю.* Мсцібава Ваўк.

ПІЛАУНЯ' *зб. ж.* Тое ж, што і п і л а в і н н е. *Як пілуюць*

*дрова, пілайня сыплецца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як пілуюць, дак пілайня сыплецца с пілэ.* Кіралі Шчуч.

ПІЛЕ'ЧНІК *м.* Пільшчык. *Пілечнікі доскі пілілі, тартакоў не было.* Мсцібава Ваўк.

ПІЛІ'КАТІ *незак. экспр.* Тое ж, што і п і л а в á ц ь. *Тупою пілкою чуть пілікаем, такое грубэ дэрэво.* Курашэва Чыж.

ПІЛІМО', ПІЛЬМО' *н. экспр.* Вялікі страўнік. *Вот насадзіла пілімо, як ты яго пераварыш.* Груздава Паст. *Набій сваё пільмо.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ён глядзіць, каб толька сваё пільмо насадзіць.* Kураполле Паст.; *параўн.* літ. *pýlimas* 'месца, куды наліваюць што-н'.

ПІЛІ'ПАЎКА, ПІЛІ'ПОЎКА *ж. царк.* Пост перад калядамі. *Мой дзед пам'ёр у піліпаўца.* Пасека Ст.-Дар. *Піліпаўка— то перат коляды, можа с постам елі.* Баброўнікі Гарад. *Окна ўстаўлялі ўжэ ў піліпоўку.* Смаляніца Пруж.

ПІЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п і л а в á ц ь. *Двох пілілі дрова на зіму.* Старое Сяло Зэльв. *Еслі не пілаваўшы, не будзіш піліць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Лаяць. *Жана яго піліла без пілы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІ'ЛКА *ж.* Футбол. *Благі зусім, каб не гроў у пілку, не быў бы такім.* Галубы Маст.; *параўн.* польск. *piłka* 'мяч', *piłka nożna* 'футбол'.

ПІЛНАВА'ЦА *незак.* Пільнавацца. *Такія гаткія куранята, ані не пілнуюца курыцы.* Малышы Лід.

ПІЛНАВА'ЦЬ, ПІЛЬНАВА'ЦЬ, ПІЛЬНЯВА'ЦЬ, ПІЛЬНОВА'ТІ *незак.* 1. Падпільноўваць. *Сяць на шашы і пілнуй.* Парэчча Гродз. *Нада пілнаваць, кап пчолы ня выляцелі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пілнавай кот мышэй.* Альхоўка Навагр. *Кот мыш пілнуіць.* Беразіно Докш. *Котка пілнуя мыш.* Дакудава Лід. *Котка мыш пілнуіць.* Саланое Віл. *Кошка пільнуіць мышэй.* Мярэцкія Глыб. *Кошка сядзіць і мышэй пільнуя. Пільнуіць, кап карова пасцель ні з'ела.* Кіралі Шчуч. *Пільнуіць кошка мышэй.* Мішневічы Шум. *Кот мышэй пільнуя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Котка лавушча, пільнюіць мыш.* Быстрыца Астр. *Я пільнюю, дзе курыца ўпадабая мейсца.* Кудзялянцы Шальч. 2. Сачыць (пра пчол). *Як рой — я пілнавай.* Саланое Віл. *Аш пад высоку гару, пат сакала ідзе, на лес уцякаюць, трэба пілнаваць, як відзіш зойдуць.* Альхоўка Навагр. *Мы пілнуем карову, скора павінна цяліцца.* Вецярэвічы Пух. *Я пільнюю пчол.* Саланое Віл. 3. Вартаваць. *Пілнуіш амбар.* Лісна В.-Дзв. *Трэба пілнаваць.* Жыдзевічы Іўеў. *Нейкіх равоў пільнуіць.* Груздава Паст. *Мы сада пільнавалі.* Лісна В.-Дзв. *Сабака пільнуя дому.* Старыя Трокі Трак. *Сабака хаты пільнюіць.* Рагулішкі Даўг. *Ляснік лес пільнюіць. Ідзі папільнюй каня.* Ёдлавічы Брасл. *Ціелу нуоч пільновав збуожэ, коб ніхто нэ ўкрав.* Курашэва Чыж. 4. Пасціць. *Пільнуй коруов, коб в шкоду нэ вліезлі.* Курашэва

Чыж. 5. Няньчыць. *Я ў сына пілнавала хлопчыка.* Парэчча Гродз. *Сядзіць баба ў вёсцы і дзіця камусь пільнуя.* Паляцкішкі Воран. 6. Марудзіць. *Шчо ты ўсэ пільнуеш плаце нэсці до швачкі?* Смаляніца Пруж. 7. Старанна працаваць і трымацца гаспадаркі. ∇ *Пільнуй гаспадарку і будзеш мець у гаршку скварку.* Ухвала Круп. ◊ *Пільноваті, як ока в голові* — пільна ахоўваць што-н. *Пільноваті свого носа* — не ўмешвацца ў чужыя справы. Курашэва Чыж.

ПІЛО'ВАНЫ *дзеепрым.* Распілаваны. *Штука — брайно пілованая.* Збляны Лід.

ПІЛО'ВІНЫ *гл.* ПІЛАВІ'НЫ

ПІЛСЦЬ, ПІЛЬСЬЦЬ *ж.* Поўсць. *Сабака мяняе пілсць.* Гемзы Шальч. *Пільсьць — шэрсць ад ката, жывёлы.* Гайна Лаг. *Пільсьць — шэрсць, поўсць.* Беняконі Воран.

ПІЛЬМЕ'НІ *мн.* Пельмені. ∇ *Ніхай робіць пільмені, у каго работы мені.* Кураполле Паст.

ПІЛЬМО' *гл.* ПІЛІМО'

ПІ'ЛЬНА, ПІ'ЛЬНО, ПІ'ЛЬНЯ *прысл.* 1. Тэрмінова. *Пільна нада здзелаць. Мне пільна нада схадзіць у магазін.* Валынцы В.-Дзв. *Хадзі, пільна нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мне нешта пільня трэба.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *pilno* 'пільна, спешна, тэрмінова'. 2. Не падымаючыся з гнязда (пра хатніх птушак). *Курыца ня есць і ні злятая, пільна сядзіць.* Дакудава Лід. *Гусь пільно сядзіць на яйках чатыры нядзелі.* Мсцібава Ваўк. 3. Не адрываючыся. *Я пільна раблю: раблю і раблю, пакуль ня кончу работу. Калі пільна ткаць, так нядзеля нада на посцілку.* Ракаўскія Швянч. *А я палола пільня і не відзела, як яна прышла.* Рагулішкі Даўг. ∇ *Як рабіць будзеш пільня, то і тут будзе Вільня.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *pilnie* 'старанна, рупліва'.

ПІЛЬНАВА'ЦЬ *гл.* ПІЛНАВА'ЦЬ

ПІ'ЛЬНАСЦЬ *ж.* Уважлівасць. *Пільнасці гэтай няма, яны цябе акружаць, кап мяшок ухапіць.* Гемзы Шальч.

ПІ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і п і л е́ ч н і к. *З яго добры пільнік палучыцца.* Рыбчына Віл.

ПІ'ЛЬНІЦА *ж.* 1. Час уборкі ўраджаю. Мярэцкія Глыб. *Ужо пільніца засцігаіць.* Груздава Паст. *У пільніцу ўсе заняты: і мужыкі, і бабы. Дужа вялікая пільніца настала.* Беразіно Докш. 2. *перан.* Спешка ў рабоце. *У цябе вечне пільніца і пільніца, гэта таму, што ты пільніцай радзілася.* Кураполле Паст. 3. у знач. *прысл. пільніцай.* У час уборкі ўраджаю. *Чаго ты пільніцай сядзіш з імі?* Кураполле Паст.

ПІ'ЛЬНО *гл.* ПІ'ЛЬНА

ПІ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Напружаны. *Пільная пара настае.* Жылі Іўеў. *Як жытняя жніва пачынаецца — пільная работа.* Індра Красл. *Пільная работа, як косяць, жнуць.* Ракаўскія

Швянч.; *парайн.* польск. *pilny* 'тж'. 2. *перан.* Дасціпны. *Ён пільны, цукярок ні прапусціць.* Стральцы Гродз.

ПІ'ЛЬНЯ I *гл.* ПІ'ЛЬНА

ПІ'ЛЬНЯ II *ж.* Лесапільня. *На пільні парэзалі доскі. Зрабілі пільні, па балатах атпрайлялі доскі.* Вецярэвічы Пух.

ПІЛЬНЯВА'ЦЦА *незак.* Прытрымліваецца. *Дрэнны сявец, не пільнявайся сваго следа.* Гемзы Шальч.

ПІЛЬНЯВА'ЦЬ *гл.* ПІЛНАВА'ЦЬ

ПІЛЬСЬЦЬ I *гл.* ПІЛСЦЬ

ПІЛЬСЬЦЬ II *ж.* То ж, што і п і л а в і́ н а. *У гатары набрала пільсьці.* Семежава Кап.

ПІ'ЛЬЧЫЦЬ *незак.* Разумець. *Па-польску пільчыць.* Пацаўшчына Дзятл.

ПІЛЬШЧ *м.* Тое ж, што і п і́ л а в і́ н а. *Пільшч у жалезную печку напіхалі і палілі. Рэзай дровы і пільшч у вока папай.* Ухвала Круп.

ПІ'ЛЬШЧЫК *м.* 1. Тое ж, што і п і л е́ ч н і к. *Пільшчыкі апілоўвалі дзерава, каму нада — наймалі.* Кіралі Шчуч. *Пільшчык — хто пілуе дошкі.* Грыкені Вільн., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Пільшчыкі на сталюгах клалі брайно, сталюгі.* Альхоўцы Лях. *Пільшчыкі дошкі пілуюць.* Ліпнікі Вільн. *Пільшчыкі пілавалі дошкі.* Гемзы Шальч. *Пільшчыку трэба стромкім быць, добра сагінацца.* Азяраны Раг. 2. Рагавы стрыжань пяра птушкі. *Пільшчыкі — грубы канец пяра с скрыдлай, с хваста.* Магуны Паст.

ПІЛЯВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Каровы пілююць.* Гайна Лаг.

ПІЛЯНА' *гл.* ПЕЛЕНА'

ПІЛЯНДВІ'ЦА *гл.* ПАЛЯНДВІ'ЦА

ПІЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Пілаваць. *Піляць лес марудне.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Няўмела іграць. *Піляіць на гармоніку.* Груздава Паст.

ПІ'МПА *ж. заал.* Тое ж, што і п і в і́ к а. *Пімпу злавіла.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *pémpė* 'тж'.

ПІ'МПЛІ *мн.* Тое ж, што і п е н ь III. *Як вырастаіць, так у пімплях, выраслі — пёры добрыя.* Ракаўскія Швянч. *Пімплі вылятаюць і новыя вырастаюць. Пімплі на курацы, як ліняюць.* Лайпушкі Ігн. *Пімплі растуць курам.* Малькуны Ігн.; *гл.* п і́ п л і.

ПІНАВЕ'Я *ж. бат.* Тое ж, што і п і в о́ н і я. *Пінавея расцвіла.* Старыя Смільгіні Воран.

ПІНДЖА'К *м.* Пінжак. *Расперазай пінджак.* Грыкені Вільн.

ПІНДУ'ЛЬ *м.*, ПІНДУ'ЛЯ *ж. экспр.* Прымак. *На прымака скажуць піндуль — прызвання такоя.* Дакудава Лід. *Узяла*

*сабе піндуля.* Пацаўшчына Дзятл. *Піндуля дурная!* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* літ. *pindùkas* 'чорт'.

ПІНЦАЦІ'Т *м. мед.* Апендыцыт. *Яму пінцаціт.* Старыя Смільгіні Воран.

ПІНЧУКІ' *мн.* Тое ж, што і п е н ь III. Альба Нясв.

ПІ'НЧЫЦЬ *незак.* 1. Прымушаць. *Ён пінча людзей ісці да работы.* Гемзы Шальч. 2. Прасіць. *Начала дачка пінчыць матку, каб купіла кароўку.* Гемзы Шальч.

ПІНЬКА' ◇ *Пінька даць* — даць выспятка. *Як дам пінька яму!* Ухвала Круп.

ПІНЯВЕ'Й *м.* Тое ж, што і п і в о́ н і я. *Пінявей пахне.* Кіралі Шчуч.

ПІПАКА'ШКА *ж. кулін.* Зацірка. *Мучаную піпакашку зварыў.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *pȳpas* 'малако (у дзіцячай мове)'.

ПІ'ПКА *ж.* Люлька. *Піпку курыў.* Валынцы В.-Дзв. *Піпка гэтыя зыхывалася ат майго дзеда.* Якубова Рас. *Закурыў піпку.* Ухвала Круп. *Піпку курыў ацец.* Пасіене Лудз.

ПІ'ПЛІ *мн.* Тое ж, што і п е н ь III. *С піплёў і пёра зробіцца, вырасціць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *pyplȳs* 'тж'.

ПІПЛІ'ВЫ *прым.* Марудны. *От мая работа піплівая.* Гемзы Шальч. *Вот піплівая работа — марудная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Піплівая ваша работа.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. pìplioti 'калупацца'.

ПІПЛІ'С *м.* ◇ *Голы, як піпліс* — вельмі бедны. Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *pyplȳs* 'тж'.

ПІ'ПЛІЦЦА *незак.* Марудна працаваць. *Што ты там піплісся?* Мсцібава Ваўк. *Пінліцца, лянівы чалавек, марудна робіць. Пінліцца на рабоці, ня можыць скарэй зрабіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што ты там пінліся так памалу?* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *pìplioti* 'тж'.

ПІ'ПНІЦЦА *незак. экспр.* Тое ж, што і п і п л і ц ц а. *От піпніца мне, так марудна.* Гемзы Шальч.

ПІРАБА'БІЦЬ *зак. устар.* Прыняць роды. *Дзіцё радзілася, трэба пірабабіць, пуп адрэзаць.* Саланое Віл.

ПІРАБІРА'ЦЬ *незак.* Чысціць (рыбу). *Яна рыбу пірабіраіць.* Мярэцкія Глыб.

ПІРАБРА'ЦЦА *зак.* Адстояцца (пра малако). *Вячэрняя малако пірабралася ў халоднай вадзе.* Груздава Паст.

ПІРАВЕ'СЛА *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПІРАВЁСЛА *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПІРАГЛЯ'ДЗІНЫ *гл.* ПЕРАГЛЯ'ДЗІНЫ

ПІРАГНА'ЦЬ *гл.* ПЕРАГНА'ЦЬ

ПІРАГО'М *прысл.* Згарнуць зерне ў кучу. *Ячмень пірагом згорнем на таку.* Азяраны Раг.

ПІРАДО'К *гл.* ПЕРАДО'К

ПІРАЖАРГНУ'ЦЬ *гл.* ПЕРАЖАРГНУ'ЦЬ

ПІРАЖО'К *м. бат.* Спарынне. *Піражок у жыці.* Магуны Паст. *Пірашкі ў яравым жыце.* Мачаск Бярэз. *Піражкі чорныя ў жыце.* Ухвала Круп.

ПІРАЗІ'МАК *гл.* ПЕРАЗІ'МАК

ПІРАКАВЫ' *гл.* ПЕРАКАВЫ'

ПІРАНО'СНЫ *прым.* Нахабны. *Яна піраносная баба.* Груздава Паст.

ПІРАНЯ'ЦЬ *гл.* ПЕРАНЯ'ЦЬ

ПІРАПЕ'ЧАЧКА *ж. памянш.* да перапечка. *Пірапечачку патскрабеш і ўсадзіш у печ дзяцём на куццю.* Саланое Віл.

ПІРАПЕ'ЧКА *гл.* ПЕРАПЕ'ЧКА

ПІРАПЁЛКА *гл.* ПЕРАПЁЛКА

ПІРАПУ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Ператоплены. *У банцы пірапушчаны свіны жыр.* Асавец Віл.

ПІРАПЯЛЁСТЫ *гл.* ПЕРАПЯЛЁСТЫ

ПІРАСІКА'ЦЬ *гл.* ПЕРАСЕ'КАЦЬ

ПІРАСТАВА'ЦЬ *незак.* Пераставаць. *Ні пірастаець дошч.* Валынцы В.-Дзв.

ПІРАСТРЭ'ЛКА *гл.* ПЕРАСТРЭ'ЛКА

ПІРАСЯ'ТКА *ж.* Перасадка. *У Віцебску пірасятка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПІРАТКАВА'ЦЬ *гл.* ПЕРАТКАВА'ЦЬ

ПІРАХО'ДАМ *прысл.* З перапынкамі. *Боль піраходам — возьміць і піраціхніць.* Мярэцкія Глыб.

ПІРАШТУПУВА'ЦЬ *зак.* Прастрачыць (шво). *Піраштупуваць нада шво.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* ням. *stopfen* 'цыраваць'.

ПІРВА'К *гл.* ПЕРВА'К

ПІРГА'ЦЦА *незак.* Штурхацца. *Сядзіць і піргаяцца.* Вязынка Маладз. *Дзеці піргаюцца, яны дрыжэлі.* Саланое Віл.

ПІРГА'ЦЬ *незак.* Штурхаць. *Ні піргай дзіця!* Жодзішкі Смарг. *Піргаць бочку.* Гайна Лаг.

ПІРГНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Ён піргнуў мяне.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Як піргнуў мяне, чуць не паляцела.* Вязынка Маладз. *Як піргнулі — і душы німа.* Саланое Віл. *Ён мяне піргнуў. Не піргні яго.* Рыбчына Віл. *Добра піргнуў.* Солы Смарг.

ПІ'РМА ◊ *Даць пірма* — даць выспятка. *Даў ёй пірма.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Даў яму пірма.* Саланое Віл.

ПІРО' *н.* Пюрэ. *Картафляную кашу цяпер называюць піро.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПІРО'Г I, ПІРО'Х *м.* Бохан чорнага ці белага хлеба. *Пірагe пяклі.* Парэчча Гродз. *Вялікі пірог хлеба на ўсю лапату. Спякла тры пірагі хлеба.* Мярэцкія Глыб. *Пірог хлеба.* Беразіно Докш. *Пірох спячом толькі к вяліканню.* Латыгаль

Віл. *Пірог з пшанічнай мукі.* Грыкені Вільн. *Пірог — белы хлеб.* Чычалі Швянч.

ПІРО'Г II *м.* Скручаная ці сплеценая пасма апрацаванага ільновалакна. *Лён чэсалі, скручвалі ў пірагі, сплятали пірог, можа, сорак і пядзесят жменяў.* Грыкені Вільн. *Лён вязалі пірагамі.* Парэчча Гродз.

ПІРО'ГІ *мн. абрад.* Частаванне праз тыдзень пасля вяселля. *Ужэ за тыдзень пірогі робяць.* Баброўнікі Гарад.; *гл.* п е р а г í.

ПІРО'НА *ж.* Перон. *Вышаў я на пірону, дзе есць піва, а пояст пашоў.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПІРО'Х *гл.* ПІРО'Г I

ПІ'РУС *м. бат.* Бузіна. *У піруса ягады салоткія, саладзей за чарніцы, а як дошч не праходзіць, яны дробныя, несалоткія.* Беразіно Докш.

ПІРША'К *м.* Адборнае зерне. *Піршак далей усіх зірнят адлятаіць.* Беразіно Докш.

ПІРШЧЭ'ЦЬ *незак.* Пячы. *Дроснік — длугія к губам прыложыць — піршчыць.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *perštėti* 'тж'.

ПІРЫЛІВА'ЦЬ *гл.* ПЕРАЛІВА'ЦЬ

ПІ'РЫЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п е́ р а ц ь. *Яна пірыць плацё пранікам. Хадзем пірыць.* Старое Сяло Зэльв. *Трэба пірыць пранікам. Некалі я ўсё папірыла.* Вялікія Баяры Шчуч. *На пранік і ідзі пірыць.* Кіралі Шчуч. 2. *экспр.* Моцна сячы. *Град сечэ, пірыць.* Вострава Маст. 3. Кідаць што-н. *Я камень набяру і буду пірыць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПІРЭ'ЧКІ *мн.* Папярочныя барозны. *Пірэчкі былі.* Валынцы В.-Дзв.

ПІРЯГО'НАМ *гл.* ПЕРАГО'НАМ

ПІРЯДО'К *м.* Невялікі ўслон. *Падай мне пірядок сесці.* Мішневічы Шум.

ПІРЯСО'ЎКА *ж.* Планка, якая злучае ножкі стала ўнізе. *Стол с пірясоўкамі, што на ногі ставіць.* Мішневічы Шум.

ПІСА'Г, ПІСА'К, ПІСА'Х *м.* 1. Пісага. *Выгналі карові пісаг.* Пацаўшчына Дзятл. *Распісала карова маю карову, адны пісагі.* Пасека Ст.-Дар. *Пісак астаецца ў каня на скуры, весь конь у пісакох.* Кіралі Шчуч. *Як пацягняш пугаю, то на целі пісак.* Вялікія Баяры Шчуч. *Некаторая карова пісах зрабіла.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Рага. *Пісагі гэтыя на шклe.* Вецярэвічы Пух. 3. Сляды бруду на дрэнна вымытай бялізне. *Не вымытая кашуля, пісагі на рукавах, і вездзе брудна кашуля.* Гемзы Шальч.

ПІСА'ННЕ, ПІСА'НЯ *н.* Пісанне. *Яна такая заўзентая да пісання.* Сейлавічы Нясв. *Гэта нецікавая пісаня.* Кіралі Шчуч.

ПІ'САР *м. устар.* Пісар. *За Мікалая быў рускі валасны пісар.* Дзераўное Стаўб.

ПІСА'Х *гл.* ПІСА'Г

ПІСА'ЦЦА *незак.* Рэгістравацца. *Хацелі пісацца, а ёй ні даюць — бацька а ні бліска.* Сакаўшчына Валож. *За польскім пісалася.* Старыя Смільгіні Воран.

ПІСА'ЦЬ *незак.* 1. Пісаць. *Пішэце, ні пішэце, а я вам гэто гавару.* Дзераўное Стаўб. *А яны ўсё пішаць і пішаць.* Ністанішкі Смарг. 2. Маляваць. *Яна квяточкі пісала.* Рагулішкі Даўг. ◇ *Пісаць каляду* — збіраць каляду. *Парылі боп і ішлі пісаць каляду.* Малахоўцы Бар.

ПІСЁГІ, ПІСО'ГІ, ПІСО'ҐІ, ПІСЯ'ГІ, ПІСЯГЕ' *мн.* 1. Тое ж, што і п і с а́ г 3. *Пісёгі асталіся на мытым бяллі.* Азяраны Раг. *Пісогі — як ня вымыта рубашка.* Лісна В.-Дзв. *Пісоґі асталіся, нядобра вымыла. Усё рукаво ў пісоґах.* Кураполле Паст. *Вот памыла бяльё, нераха, пісягі на бяльі.* Вецярэвічы Пух. *Пісяге на мацерыі.* Багушэвічы Бярэз. 2. Тое ж, што і п і с а́ г 1. *У каровы на баку пісягі.* Багушэвічы Бярэз. 3. Выступы ў ночвах, на якія клалі мыла. *Раней мыла клалі, калі дзе пісягі.* Багушэвічы Бярэз.

ПІСКА'ТЫ *прым.* Плаксівы. *Піскатая дзіця.* Номікі Бабіц.

ПІСКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Вішчэць. *Як свіня піскацяць!* Стральцы Гродз.

ПІСКЛЁНАК *м.* Кураня. *Пісклёнак цяжанькі ўжо.* Саланое Віл. *Пісклёнак недзе здырдзіўся — не знайсці.* Беразіно Докш.

ПІСКЛЮКІ' *мн.* Кураняты. *Душуцца самі сабой пісклюкі.* Мярэцкія Глыб.

ПІСКЛЯ'ТА, ПІСКЛЯ'ТЫ *мн.* Тое ж, што і п і с к л ю к і. *Давай, кажу, купім з машыны пісклят.* Саланай Валож. *Гэтыя піскляты папрадавала. Ніяк пісклят не ўзгадуеш.* Саланое Віл. *Клухала, клухала—і піскляты за ёй.* Беразіно Докш.

ПІСКЛЯ'ТКІ *мн. памянш.-ласк.* да п і с к л я́ т а. *Вышлі піскляткі.* Саланое Віл.

ПІСКЛЯ'ТЫ *гл.* ПІСКЛЯ'ТА

ПІСКУ'Н *м. заал.* Уюн. *Піскун — круглы, да змяі падобны. Піскун, як змей, круглы, чорны, палосы ёсь, пішчыць, жабраў нет, падобны да ўгорыча.* Ахрэмаўцы Брасл. *Піскун паласаценькі.* Лісна В.-Дзв. *Злавілі піскуна, рыба такая, яна, праўда, пішчыць.* Палік Барыс. *Кагда сольдю пасыплеш, піскун очынь пішчыць.* Пасіене Лудз. *Піскуны, как змеі, кароткія.* Шкаўна Лудз.

ПІСКУ'Р *м.* Тое ж, што і п і с к у́ н. *Піскур дліны, тонкі.* Вострава Маст. *Піскурэ ў мулу хаваюцца.* Стральцы Гродз. *Піскуры такія, яны пляскуюць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПІ′СНУТІ *зак.* Тое ж, што і п і к н у ц ь 2. *Я тобіе сказав в сэкрэті, але ты нікому нэ пісні.* Курашэва Чыж.

ПІСО′ГІ, ПІСО′ГІ *гл.* ПІСЁГІ

ПІ′СНЯ *гл.* ПЕ′СНЯ

ПІСТАНО′ВАЖКА *ж.* Стрэльба, якую зараджалі пістонамі. Лапічы Асіп.

ПІСЬМО′ *н.* Пісьмо. *Брат прыслаў мне пісьмо.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пісьмо мне ці ёсь?* Ністанішкі Смарг. *Пісьма не было?* Старое Сяло Зэльв. *Буду да ее пісьма пісаць.* Граўжышкі Ашм. *По тры пісьмэ попрысылалі.* Горск Бяроз. *Ужэ, наверно, тры пісьме прыслаў з Урала.* Смаляніца Пруж. *Хоть бы раз у місяць прысылав пісьмо, і то б высылій жыты було б.* Ушкавіца Кобр.

ПІСЯГА′СТЫ *прым.* Паласаты. *Пісягастая мацерыя.* Багушэвічы Бярэз.

ПІСЯГЕ′ *гл.* ПІСЁГІ

ПІСЯ′ГІ *гл.* ПІСЁГІ

ПІТА′ *ж. пчал.* Ніжняя частка вулея. *У піце матка пяець.* Валынцы В.-Дзв. *Да піты давялі работу пчолы.* Лісна В.-Дзв.

ПІТАЛІ′ШКІ *мн. заал.* Бялян-капуснік. *Белыя піталішкі лятаюць ў капусця.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *peteliškė* ’матылёк’.

ПІТА′НЯ, ПІТА′ННЯ *н., ж.* Харчаванне. *Паехалі ў Брэст; сколькі дней там будуць і пітаня будуць палучаць.* Валынцы В.-Дзв. *Пітаня ў нас неслабоя.* Мсцібава Ваўк. *Плахая была пітання.* Рагулішкі Даўг.

ПІТА′ЦЕЛЬНАЯ ГО′РЛА, ПІТА′ЦІЛЬНАЯ ГО′РЛА *н. анат.* Страваход. *Пітацельная горла ў свіней.* Азяраны Раг. *Пітацільная горла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІТА′ЦЦА I *незак.* Пытацца. *Ні ў каго не пітайся: як сама зробіш, так і добра.* Кураполле Паст.

ПІТА′ЦЦА II *незак.* Харчавацца, карміцца. *Пасля вайны людзі гнілышкі збіралі па полю, варылі і піталіса.* Кузьмічы Люб. *Окунь, шчука, судак пітаецца рыбай-мальгой.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *питаться* ’тж’.

ПІТАЧО′К *м. памянш.-ласк.* Канец лыча ў свінні, «пятачок». ∇ *У свіні нос пітачком, хвост кручком.* Рагулішкі Даўг.

ПІТВО′ *н.* Пітво. *Пітво з соладу.* Мішневічы Шум.

ПІТЛЁЎКА *ж.* Пытляваная мука. *Пітлёўку дзелалі.* Валынцы В.-Дзв.

ПІТЛІВА′НЫ *прым.* Пытляваны. *Бывая шатраваная мука і пітліваная.* Солы Смарг.

ПІТЛЯ′ *гл.* ПЕТЛЯ′

ПІТЛЯВА′ЦЬ *незак.* Пытляваць. *Тата пітлявау муку, пяклі хлеп белы і чорны.* Солы Смарг.

ПІТЛЯ′К *м.* Тое ж, што і п е т л я́ 1. *Даўней былі вароты на*

*пітляке: на палку і да шулы дзеравяннай душкай прыкрапля-лі.* Лісна В.-Дзв.

ПІТО'МА ГО'РЛА *н.* Тое ж, што і п і т а́ ц е л ь н а я г о́ р л а. *Горла ў каровы пітома і ядома.* Дакудава Лід.

ПІ'ТРА *мн. заал.* Малькі. Лісна В.-Дзв.

ПІТРУ'ШКА *ж. бат.* Пятрушка. *Пітрушка душыстая.* Навікі Лудз.

ПІТУ'Н *м.* Тытунь. *Папушка лістоў пітуна.* Солы Смарг.

ПІТУ'Х *м.* Певень. *Пітухі пяюць.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* руск. *петух* 'тж'.

ПІТУХІ' *мн.* ◇ *Пітухі пяюць* — пасіверылі ногі [да крыві]. *Ногі патрэскаліся, і пітухі пяюць, не хадзі па вадзе.* Лісна В.-Дзв.

ПІТУ'ШАЧКА *гл.* ПЕТУ'ШАЧКА

ПІТУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Які п'е гарэлку. *Яна не пітушчая баба.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІХАНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Трэбо яго ў яму піхануць, ніхай света ні паганіць. Піхануў яго, адляцеў да дзвярэй.* Номікі Бабіц.

ПІХАТА' *ж.* у знач. 'хадзіць пешшу'. *Даўней піхата была.* Граўжышкі Ашм.

ПІХАТО'Й *гл.* ПЕХАТО'Й

ПІХА'ЦЦА *незак.* Штурхацца. *Што ты піхаешся?!* Беразіно Докш. *Ні піхайся?* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПІХА'ЦЬ *незак.* Штурхаць. *Піхай мацней яго!* Малахоўцы Бар. *Не піхай яга!* Беразіно Докш.

ПІХА'Ч *м. экспр.* Хто пераборлівы ў ядзе. *Піхач гэты, напіхаецца абы-чаго — і не худы.* Пацаўшчына Дзятл.

ПІХО'ТОМ *гл.* ПЕХАТО'М

ПІХТЭ'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Аддаваць усё. *Усё піхтэляць дзіцям: ежнае і адзежнае, і грошы.* Кураполле Паст.

ПІХЦЕ'ЛЬ *м.* Пяхцер. *Піхцель з аборак звязаны буйнымі вочкамі, напіхалі сена.* Саланое Віл.

ПІЦА'Г *м.* Тое ж, што і п і с а́ г 3. *На бялы піцагі, як ты мыла?* Ухвала Круп.

ПІЦЁ *н.* Выпіўка. *Пачалосе ў іх піцё.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПІЦО'ГІ *мн.* Тое ж, што і п і с а́ г 3. *Піцогі на кашулі, як ня вымыта, пот цячэ раґамі.* Мярэцкія Глыб.

ПІЦЦЁ *н.* Пойла. *Ня любіць цялушка гэтага піцця.* Кураполле Паст.

ПІЦЬ, ПЫ'ТЫ *незак.* Выпіваць. *Ён вотку дужа п'ець.* Рагулішкі Даўг. *Хто п'е?* Старыя Трокі Трак. *Шкадую здароўя марнаваць — ня п'ю.* Солы Смарг. *Він вжэ тыпэр зусім горілку ны п'е, і в горло навыть ны бырэ.* Ушкавіца Кобр. ∇ *Пі, пакуль у чапе — куй жалеза, пакуль гарачае.* Солы Смарг. *Быда п'е воду, а рызыка — выно.* Сіманавічы Драг.

ПІЧ *гл.* ПЕЧ

ПІЧА'ЙКА, ПЫЧЯ'ЙКА *ж. мед.* Пякотка. *Мяне пічайка пячэ.* Івашкаўцы Смарг. *Пічайка пікла, а цяпер німа; нада есці ад блїной, што прыстае да патэльні, то кажуць пірастаніць пічайка.* Мярэцкія Глыб. *Пічайка пячэ.* Мсцібава Ваўк. *Пічайка пячэ, прама аш разня ў грудзях.* Гемзы Шальч. *От пычяйка пычэ, аж ны вытрыматы.* Ушкавіца Кобр. *Цілу ныч пычяйка пыкла, заснуты ны могла.* Сіманавічы Драг.

ПІЧАНЁВЫ *прым.* Які зроблены з вантробаў. *Пічанёвая кілбаса.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІЧАНЁЎКА *ж.* Каўбаса з вантробаў. *Пічанёўка смачная.* Саланое Віл. *Зрабіла смашную пічанёўку.* Мярэцкія Глыб.

ПІЧАНЯ' *гл.* ПЕ'ЧАНЬ

ПІЧА'РКА *ж.* Тое ж, што і п е ч а́ р к і. *Пічарка вунь расце.* Мсцібава Ваўк.

ПІЧАЯ' *ж.* Тое ж, што і п і ч а́ й к а. *Пічая пячэць.* Мачаск Бярэз. *Пічая пячэ.* Кузьмічы Люб.

ПІШАКА' *гл.* ПЕШАКО'М

ПІ'ШКАЦЬ *незак.* Грымець. *Пішкаіць вядро ў студню.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *pyškėti* 'тж'.

ПІ'ШКІ *мн. заал.* Вусені. *Ужэ пішкі на капусту напалі.* Мсцібава Ваўк.

ПІШНЯ' *ж.* Тое ж, што і п е́ ш н я 1. *Насаджваюць далато на палку — і пішня палучаецца, палонкі прарублівауь, мёрзлую зямлю.* Глівін Барыс.

ПІ'ШО *гл.* ПЕ'ШО

ПІШЧ, ПІ'ШЧА *ж.* Ежа. *Ніяка пішч нэ ышла.* Азарычы Пін. *Усе садзяцца і адну пішчу ядуць.* Гемзы Шальч. ∇ *Бох дась дзень, бох дась і пішч.* Парэчча Гродз.

ПІШЧАВІ'К *м. анат.* Страваод. *Завяжы пішчавік.* Азяраны Раг.

ПІШЧАВО'Я ГО'РЛА *н.* Тое ж, што і п і т а́ ц е л ь н а я г о́ р л а. *Пішчавоя горла.* Кіралі Шчуч.

ПІШЧА'ЛКА *ж.* 1. *бат.* Зялёнка. *Пішчалкі восенню растуць, прабіваюць скалу, у пяшчынах растуць. Пішчалкі — устойчывыя, цвердзенькія, таўстыя.* Саланое Віл. *Пішчалкі зялёныя, увосень растуць, мыць трудна іх.* Беразіно Докш. 2. *заал.* Берасцянка. *Пішчалка як станя крычаць — будзя дажджаваць.* Каўняны Гродз.

ПІШЧА'ЦЬ, ПІШЧА'ЦІ *незак.* Вішчэць. *Свіння пішчыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пачалі пішчаць свіні і парасяты.* Ёдлавічы Брасл. *Парасята пішчаць пачалі.* Кіралі Шчуч. *Пішчыць свіня.* Вялікія Баяры Шчуч. *Свінні пішчаць.* Мярэцкія Глыб. *Пішчаць парасяты.* Лука Нараўк. *Свіня пішчыт.* Парэчча Гродз.

ПІШЧУГА' *гл.* ПЕШЧУГА'

ПІ'ШЧЫКІ *мн.* Тое ж, што і п е н ь III. *Пішчыкі — як скубуць куры, маленькія адросткі пер'я ў птушак.* Палік Барыс.

ПІШЧЭ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і п і с к у́ н. *Пішчэль — рыба, дзе граская места. Пішчэлі, што змеі, еслі солі ўсыпаць, то вытруцца, такія чыстыя зробяцца.* Саланое Віл.

ПІШЧЭ'ЦЬ *незак.* ◊ *Пішчэць у яйцэ* — спяшацца. *Гэта не ў яйцэ пішчыць.* Саланое Віл.

ПІЯ'ВЫ *прым.* Працавіты. *Піявая жанчына.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *pýti* 'размакаць (пра зямлю), станавіцца мяккім (пра характар)'; *papìjęs* 'добры, мяккі, які ўвесь аддаецца рабоце, дабраце і г. д.'

ПІЯ'К *м.* П'яніца. *Ён такі піяк.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *pijak* 'тж'.

ПІЯ'НІЦА *м.* Тое ж, што і п і я́ к. *Не ўмеіш жыць з піяніцам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён крэпка піяніца быў.* Саланое Віл.

ПІЯ'НІЦЫ *мн. бат.* Буякі. *Піяніц набралась — як паясі, то галава і баліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІЯ'НЫ-РАСПІЯ'НЫ *прым.* Вельмі п'яны. *Піяны-распіяны прышоў дамоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІЯНЮ'ГА *м. экспр.* Тое ж, што і п і я́ к. *Такі піянюга вечны.* Гемзы Шальч.

ПІЯ'ТЫКА *ж.* Папойка. *Піятыка была ўчора.* Альхоўка Навагр.

ПІЯ'ЦЬ *незак.* Спяваць. *Яе сын піяў на сцэне.* Груздава Паст. *Піяе матка. Як была маладая, дзень і ноч піяла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Папіяў бы і паплакаў, піяць умеіць.* Саланое Віл. *Цяпер жыць стала добра, піяць смутных песень не хочацца.* Якубова Рас. *Наша мама піяла песні старыныя.* Рагулішкі Даўг. *Петух пяець.* Пасіене Лудз. *Есць такія людзі, што ўмеюць піяць.* Вострава Маст. *Я ні хачу піяць.* Дзевятні Смарг. *Піяла меншая дзяўчына. Бабы стаялі цярас хаты і піялі.* Магуны Паст.

ПЛАВА' *ж.* Балота (возера), якое моцна зарасло мохам, а паднізам вада. *Балота дунецца роўна с табою, ня лесь на плаву, а то ўтопіся.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *plovà* 'тж'.

ПЛА'ВАМ *прысл.* Уплаў. *Іх не ў гайку бралі, а плавам да берага.* Збляны Лід.

ПЛА'ВАЦЬ *незак.* 1. Плаваць. *Ён плавая туды-сюды.* Ністанішкі Смарг. *Дзеці плаваюць у лушку, плыве ўжо добра.* Кіралі Шчуч. 2. Знаходзіцца на паверхні вады. *А вясной і жабы вядуцца, жабурынне плавае.* Солы Смарг.

ПЛАВЕ'ЛЬНІК *м.* Плывец. *Яны добрыя плавельнікі, яе хлопцы.* Жылі Іўеў.

ПЛАВІ'НА *ж.* Зыбкі дзірван па берагах возера. *Плавіна каля возіра, там растуць журавіны.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* п л а в а́.

ПЛА′ВІЦЬ *незак.* Сплаўляць (лес). *Лес плавілі па Дрысе.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Іх не ў гайку бралі, а плавілі да берага.* Збляны Лід.

ПЛАВУ′ЖНІК, ПЛАВУ′ШНІК *м.* Плытагон. *Плавужнікі ганялі ганкі. Ганкі плавушнікі гналі.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛАВУ′К, ПЛЫВУ′К *м.* 1. *рыб.* Паплавок. *Плавук пры вудаццы.* Дакудава Лід. *Плывук і вуда: плывук — штоб нітка не тонула.* Гемзы Шальч. *У трыгубіцы плавукі з бярösты.* Рыбчына Віл. *Плывуке дзержаць сетку, простаюць яе. Плывуке с кары бярозавай.* Збляны Лід. *Плавукі рабілі з бярозавай кары.* Мсцібава Ваўк. 2. Плаўнік. *Плавукі ў рыбы.* Мсцібава Ваўк. 3. Тое ж, што і п л а в е́ л ь н і к. *Добры плавук, і на бок ляжа — плыве, і дагары ляжа — плыве.* Жылі Іўеў.

ПЛАВУ′Н *гл.* ПЛЫВУ′Н

ПЛАВУНО′К, ПЛЫВУНО′К *м. памянш.* Плавальны пузыр. *Плавунок у рыбы, як таўкачок бываіць.* Валынцы В.-Дзв. *Плывункі ў рыбіны, як таўкачыкі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛАВУ′ЧЫ *прым.* Плывучы. *Самая плавучая ёлка, сасна, альха, асіна.* Вецярэвічы Пух.

ПЛАВУ′ШКА *ж. бат.* Насеннік дзеразы. *Плавушка на дзеразе расце, у ей пылок дзюрачкамі бяжыць на руку.* Кіралі Шчуч.

ПЛАВЭ′ЧНІК *м. бат.* Белы гарлачык. *Плавэчнік сцеліцца на вадзе, белая краска.* Мярэцкія Глыб.

ПЛАДЗІ′ЦЦА *незак.* Распладжвацца. *Воўк, дзе плодзіцца, не парушыць быдла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там ваўкі пладзіліся ў дзікіх мястах, пад вывараццю якой у балоця, у гушчарах, дзе сушэйшая места ў галлі.* Саланое Віл. *Там ваўкі пладзілісь.* Курапалле Паст. *Сарокі плодзюцца, гнёзды павіўшы на лазе.* Валынцы В.-Дзв. *Галубы на месяцы тры разы плодзяцца.* Солы Смарг. *Там у ставах шчупакі плодзяцца.* Рыбчына Віл. *Шчуры плодзяцца ў крусні.* Малькуны Ігн. *Пладзілася сям'я, не глядзеласа таго.* Кузьмічы Люб. *Лісіцы плодзяцца ў норах.* Пераброддзе Міёр.

ПЛАДНЫ′ *прым.* Пладавіты. *Матка пладная* [у пчол]. Груздава Паст.

ПЛАЗ *м.* Плоскі бок якога-н. прадмета. *Дошчку можна положыті на кант або на плаз.* Курашэва Чыж.

ПЛАЗАВА′ЦЬ *незак.* Склюдаваць. *Дзерава плазуюць, абрубаюць плашкі.* Кіралі Шчуч.

ПЛА′КАЦЬ, ПЛА′КАЦІ, ПЛА′КАТЭ *незак.* 1. Плакаць. *Ідзі да дзіцяці, бо дзіця плача.* Кіралі Шчуч. *Дзеці плачаць у калысцы.* Гемзы Шальч. *Ні плацце, дзеткі.* Кухты Віл. *І бяжыць, і плачыць: малец пагіп.* Юркава В.-Дзв. *Бабы па ім плачуць. Як малая была, мяне жаль не бярэ, а людзі плачуць.*

*Як зазлую, магу плакаці.* Парэчча Гродз. *Плакатэ ны буду.* Дзмітравічы Кам. *Мы плачэмо, шчо на войне забілі.* Ялова Пруж. ∇ *Нашто п па сваіх плакалі, калі п былі чужыя добрыя.* Вецярэвічы Пух. *Калі я плакаў — то бох еднакаў, як стаў спяваць — стаў мне бох даваць.* Парэчча Гродз. *Земля плакала — яны не рабілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сталэ мана сватата, а я стала плакатэ; ой, вы мої старостэ, дайта крохэ пыдростэ.* Парэ Пін. 2. Жаліцца. *Кума плача: вае, кумок, зуб баліць.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *перан.* Запацець. *Можаць быць у каго гаворана, а ў нас плачуць вокны.* Рагулішкі Даўг.

ПЛАКСІ'ВЫ *прым.* Плаксівы. *Плаксіво дзіця.* Старое Сяло Зэльв. *Плаксіва дзіця: плача і плача.* Вялікія Баяры Шчуч., Кіралі Шчуч. *Натта плаксівая дзіця, слёска пацякла, баязлівы ён.* Альхоўка Навагр. *Плаксівая баба.* Навасёлкі Свісл. *Плаксівы, усе плача.* Паляцкішкі Воран. *Плаксівы хлопяц.* Міратычы Карэл.

ПЛАКСНІ'НКІ *мн.* Вейкі. *У Паўліны такія плакснінкі чорныя!* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *blakstienos* 'тж'.

ПЛАКСУ'Н *м.* 1. Плакса. *Ну й плаксун ты, ходыш завшы нюні попустывшы.* Ушкавіца Кобр. *Гэтой плаксун вжэ знов пызі попустыв.* Сіманавічы Драг. 2. Старадаўні танец. *Шэ колысь плаксуна гулялы: тако мызыка грае жялосно, а дывчята тако ступають помаленьку, пудходеть до ёго, с платочкамы ідуть, гочы втырають, нэбысь плачуть; а посля, як заграе высёло, а воны як пыйдуть хутко-хутко гуляты.* Сіманавічы Драг.

ПЛАКСЭ'ТА *м.* і *ж.* Плакса. *Плаксэта ты, ні плач!* Ністанішкі Смарг.

ПЛАМІ'ДНЫ, ПЛАМІ'ННЫ *прым. экспр.* Зайздросны чалавек. *Ён такі пламідны (памінны).* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЛАНО'К *м. ткац.* Узор. *Гляджу на планок, як ткаць.* Ракаўскія Швянч.

ПЛАНЭ'ТА *ж. астр.* Поўня. *Лучшая планэта на поўнаты.* Лайпушкі Ігн.

ПЛАСКА' *ж. бат.* Брыца. *Пласка, як лаза.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛА'СКІ' *прым.* 1. Пакаты. *Пласкі берах.* Жылі Іўеў. *Пла́скі бераг.* Лука Нараўк. *Пла́скі дах.* Номікі Бабіц. 2. Плоскі. *На пласкія каменні клалі балькі, а патом падлогу.* Магуны Паст. *Злапав шчупака довгого і пла́ского.* Курашэва Чыж.

ПЛАСКО'НІ, ПЛАСКО'ННІ, ПЛО'СКУНІ *мн.* Мужчынскія асобіны канапель. *Трэба ісці пласконі выбраць, бо пасохлі. Пласконі — канаплі, каторыя раней сохнуць.* Гемзы Шальч. *Грудолкі і пласконі ў каноплях. Пласконі без семяна, а грудолкі сяменныя.* Старыя Трокі Трак. *Пласконі светленькія пралі, пласконныя абрусы ткалі.* Саланое Віл. *Вязалі ў*

*пучкі пласконні.* Рыбчына Віл. *Пласконі сухія.* Кемялішкі Астр. *Зара бабы плоскуні рвуць, выбіраюць.* Цярэшкі Ваўк. *Плоскуні — каноплі, каторыя без насення; плоскуні мякчэйшыя.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* літ. *pleiskãnės* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 283.

ПЛАСКО'НКА *ж.* Даматканая хустка з канаплянага валакна. *Пласконкі не мая на галаву.* Лісна В.-Дзв.

ПЛАСКО'ННЕ *н. зб.* Валакно з мужчынскіх асобін канапель. *Як вымакнуць пласконня, сушаць і прадуць.* Лісна В.-Дзв. *Пласконне ў канапле, сухое, выбрасвалі вон.* Пасіене Лудз. *З пласконня вяроўкі вілі.* Янова Рас.; *гл.* п л а с к о́ н і.

ПЛАСКО'ННІ *гл.* ПЛАСКО'НІ

ПЛАСКУ'РКА *ж. заал.* Падлешчык. *Пласкурка — маленькая рыпка.* Магуны Паст.

ПЛАСКУ'ХА' *ж. бат.* Тое ж, што і п л а с к а́. *Пласку́хаю гуркі зараслі.* Альхоўка Навагр., Гемзы Шальч. *Пласкуха караніста.* Галубы Маст. *Пласкуха́ сушы не баіцца. Трава пласкуха́ расцець на нізінах, мяхкая, длінная, гусі любяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЛАСТ *м.* 1. Пласт сена. *Пласт сена.* Жодзішкі Смарг. *Грабліма збіў сена ў пласт.* Гемзы Шальч. *Пласт пласціць.* Мярэцкія Глыб. *У пласт збілі сена.* Беняконі Воран., Рыбчына Віл. *Зб'юць пласт, кладуць у вос і ў адрыну вязуць.* Паляцкішкі Воран. *Збіваяць пласт сена.* Лісна В.-Дзв. *Пласты пласцілі, збівалі, берым пласт і ў копны ложым.* Пасіене Лудз. *Збіваць нада пласты.* Мішневічы Шум. *Пласты білі граблямі.* Кіралі Шчуч. *Пласты робіць, то лепей складаць сена.* Відаўцішкі Вільн. *Пласты збіваеш і в кучы кладём, пласты делам, граблям і ло́жым.* Рагулішкі Даўг. *Пластэ грабуць і ў копы кладуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Сена пластамі носяць на капу.* Гемзы Шальч. 2. Спосаб складвання палатна ў час бялення (гармонікам). *Палатно як паляжыць на пожанькі, высахніць, яго зберыш у пласты.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У пласты зберыш палатно, памочыш яго.* Пярэкі В.-Дзв.

ПЛАСТАВА'ЦЬ *незак.* Збіваць сена ў пласты. *Сена пластуя ў пласты, пласт спластаваны.* Паляцкішкі Воран. *Пласт пластаваць і ў копку складаць.* Вострава Маст.

ПЛА'СТАЧКІ *гл.* ПЛАСТО'ЧКІ

ПЛА'СТКІ' *гл.* ПЛАСТО'К

ПЛАСТКО'ВЫЯ ПА'ЧАСІ *мн.* Пачаскі. *Пачасі пластковыя на шчотках астаюцца.* Стральцы Шальч.

ПЛАСТО'К I *м. памянш.* да п л а с т 1. *Страсуць трасянку і па пластку носяць у рэзьгінях.* Кудзялянцы Шальч.

ПЛАСТО'К II *м.*, ПЛА'СТКІ' *мн.* 1. Тое ж, што і п л а с т к о́ в ы я п а́ ч а с і. *Трэці рас ачэша — пласткі.* Паляцкішкі Воран. *З шарсцяной шчоткі пла́сткі.* Старыя Смільгіні Воран. *Часалі на шчэткі і пласткі снімалі.* Лісна В.-Дзв. 2. Тое ж,

што і п л а с т 2. *Пласток паложыш на пласток. Пласткі — аснова на штаны мушчынам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЛАСТО'ЧКІ, ПЛА'СТАЧКІ *мн. памянш.* да п л а с т 2. *Палатно ў пласточкі зложыш, пранікам паб'еш і выпалашчыш, пасцеліш на сонцы — і белая дзелаецца; як сонца пячэць, дужа беліцца.* Валынцы В.-Дзв. *Як палатно высахніць, яго саберыш пластачкамі, памочыш, тады расцягаваіш роўненька па траве, яно беліцца.* Лісна В.-Дзв.

ПЛАСТУХА' *ж.* Тое ж, што і п л а с к á. *Пластуха шырока развіваецца па загоне, па картосцы, цэлым кустам вялькім расце.* Кіралі Шчуч.

ПЛАСЦІ'НА *ж. буд.* Плаха. *Сцяна с пласцінамі.* Гемзы Шальч. *Калі ставяць кароткіе пласціны, то ставяць лонткі.* Баброўнікі Гарад.

ПЛАСЦІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п л а с т а в á ц ь. *Мы сена пласцілі.* Рыбчына Віл. *З валкоў пласціш пластам.* Палік Барыс. *Мы сена пласцім.* Асавец Віл. *Сена пласцяць у копы.* Жодзішкі Смарг. *Пласцяць пласты і носяць у копы.* Саланое Віл. *Пласціць сена ў копы, пласты кладуць.* Рудня Чэрв. *Сена ў пласты пласціць.* Мярэцкія Глыб. *Сена пласціў у пласты.* Мачаск Бярэз. *У пласты пласціць сена. Пласціць копы.* Беразіно Докш. *Ідзі, будзеш пласціць сена ў пласты.* Глівін Барыс. *У пласты пласцілі, збівалі, берым пласт і ў копны ложым.* Пасіене Лудз. *Сена ў пласты пласцілі.* Ракаўскія Швянч.

ПЛАТ *м.* Хустка. *Баба зав'яжэ свого плата і нычого ны чуе.* Брады Пруж.

ПЛА'ТА *ж.* Зарплата. *Плата больша, хто на зямле працуя.* Альхоўка Навагр. *Небальшая плата, але хватаіць.* Рагулішкі Даўг.

ПЛАТА'ЦЦА *незак. неадабр.* Сноўдацца. *Ён платаўся па маім гародзе.* Магуны Паст.

ПЛАТА'ЦЬ *незак.* Развяваць. *Вецер маю рубашонку платая.* Гемзы Шальч.

ПЛАТВА' *ж. заал.* Плотка. *У нашым возеры есць платва.* Істра Лудз. *Рыба ўсялякая: шчукі, окунь, платва, лешч, карасі, ліны.* Швэды Вільн. *Платва — белая рыба.* Мельнікі Лудз. *Платва — белая, больш кілаграма не расцёт.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *плотва* 'тж'.

ПЛАТІЕ'НЕ *н.* Аплата. *Товар забрав, а с платіенём трэба пождаті.* Курашэва Чыж.

ПЛАТКІ' *мн.* Даматканыя ручнікі. *Платкі на абразы ткалі. Платкі на бога свайго іздзелля, перабірана пад дошчачку.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛА'ТНА *прысл.* Выгадна. *Платна трымаць цяля.* Парэчча Гродз.

ПЛАТНІ'ЦКІ *прым.* Цяслярскі. *Платніцкія сякеры былі.* Кудзялянцы Шальч.

ПЛАТО'К *м.* Тое ж, што і п л а т. *Далі гэнай дзеваццы платок.* Лісна В.-Дзв. *Чэсік платок малюя.* Ракаўскія Швянч. *Платкоў многа маю, унучкам думала даваць.* Рагулішкі Даўг.

ПЛАТО'ЧАК *ж. памянш.* Хустачка. *Ей платочак купіла.* Пасіене Лудз.

ПЛАТУ'ШКА I *ж. памянш.* да п л а т в а́. *Платушка — тонянькая рыба.* Магуны Паст.

ПЛАТУ'ШКА II *ж.* Хустка, у якую ўвязвалі ежу, што бралі ў поле. *У платушку хлеб увязуваці.* Ялова Пруж.

ПЛАТЫ' *мн. рыб.* Ез. *Колісь платы ставілі на рэчцы.* Альхоўцы Лях.

ПЛА'ТЬТЕ *н.* Бялізна. *Трэба платьте праті.* Азарычы Пін.

ПЛАУ'К *м.* Тое ж, што і п л а в у́ к. *Плаук турзяне рыба.* Каўняны Гродз.

ПЛАЎ *м.*, ПЛАВЫ' *мн. 1.* Зыбкі дзірван на возеры. *Плаў бываіць на возеры.* Саламір'е Пол. *Дзе плавы — там зыбіцца, прабуеш дзірван, а дна німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каля ракі косюць, дзе плавы, зыбліцца, як ідзеш. На азярэ плавы, дзе плаў, там згібаесся, накосіш сена на пловах і з бярэмам выкупаесся.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *plovà* 'тж'. ◊ *Як плаў плыв'е.* Граўжышкі Ашм. 2. *мед.* Белі. *Жоўтая і белая лілія — першае лекарства ад белых плаваў у жанчын.* Кіралі Шчуч.

ПЛА'ЎВАЦЬ *незак. перан.* Здрыгацца. *Вот сыта свінья, пат шыяю ажны плаўвае сало і пат чэравом.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЛА'ЎКІ I *прым.* 1. Тое ж, што і п л а́ с к і 1. *Плаўкая крыша ў хаці.* Лісна В.-Дзв. *Плаўкая крыша і крутая крыша.* Скрудалена Даўг. 2. Слізкі. *Казлякі плаўкія, як зварацца.* Масілавічы Сл. *Грап — плаўкае дзерава, яно на марозе, як жалезо.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Слабкі (пра нітку, вяроўку). *Нітка плаўкая.* Кнышэвічы Бабіц. *Твая нітка плаўка, аш разлазіцца.* Кіралі Шчуч.

ПЛА'ЎКІ II *мн.* Тое ж, што і п л а в у́ к 1. *Зверху сеткі аборы, на аборы плаўкі, зробленыя з бярозавай кары, а знізу топкі, зробленыя з гліны, выпаленыя ў печы, кап ні размоклі.* Альхоўка Навагр. *Плаўкі з дасочак рабілі.* Янова Рас.

ПЛА'ЎНА *прысл.* Павольна. *Трэба плаўна прыпускаць пілу, як рэжаш доскі.* Азяраны Раг.

ПЛА'ЎНЫ *прым.* Павольны, без ветру (пра дождж). *Плаўны дошч, ідзет бяз ветру.* Рагулішкі Даўг.

ПЛАЎСЦІ' *незак.* Плысці. *Плаўсці там няможна.* Мярэцкія Глыб.

ПЛА'ЎШЫ *толькі мн.* Перхаць. *У алаве дужа плаўшаў і чэшэцца.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *plaušà* 'тж'.

ПЛА́ХА *ж.* 1. Рама, аснова драўлянай бараны. *Дайней уже вясна наступая, дык уже плахі дзелаюць. Ну, але толькі гэтая плаха, дык яна ламаецца, а бораны, дык яны яшчэ быстрэй.* Грабёнка Чэрв. 2. Частка сахі. *Саха рабілася так: выкопваяцца елка, дзве лапы роўныя, як у плузі, ручкі. Гэты корань паміш вілачак выдзяўбаяш пасяротку. Кусок бярэзіны ў дзірку заробліваюць — гэта плаха.* Касцюкі Уздз. 3. Драўляны каркас лежака. *У лежаку плаха атымаецца.* Кураполле Паст. 4. у выразе: *Як плаха* — вельмі вялікі. *Сыр ляжыць, як плаха.* Вецярэвічы Пух.

ПЛАХАВА́ТЫ *прым.* Няздольны, няўмелы. *Ён плахаваты, не ўмеў танцаваць вальца.* Парэчча Гродз.

ПЛАХІ́ *прым.* 1. Спакойны, добры. *Ён плахі: такі спакойны, што сам сібе не адгаворыцца.* Кіралі Шчуч. *Плахі чалавек не даб'ецца, не можа пастаяць за сябе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён плахі, міласцівы, дабрадушны, не можа скарбіць чалавека. Карова плахая: пайду даіці, то вана стаіць, не б'ецца.* Ялова Пруж. 2. Дрэнны. *Плахі чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плахі чалавек. Плахая скаціна, у полі яна бяжыць, у шкоду аткрадзецца.* Вецярэвічы Пух. *Я плахая была.* Рагулішкі Даўг. 3. Непрыстойны. *Ён плахіх слоў не гаварыў.* Саланое Віл.

ПЛА́ХТА *ж.* 1. Посцілка. *Плахту пасцілалі, і маладыя кленчылі.* Новікі Гродз. *Сено ў плахтах насілі. Зрэбніну вытку і плахту зраблю.* Сапоцкіна Гродз. *Плахты можна ткаті разно: в пэрэбуор, в тры нічэніці, можна вышываті; літом плахтою можна накрыватісе, а зімою пэрыною або одіялом; як дошч ідэ, то можна плахтою охілітісе.* Курашэва Чыж. 2. Вялікая хустка. *У моеі бабы шчэ е плахта.* Горск Бяроз. *Я дала плахту дзеўчыне.* Парэчча Гродз. 3. у знач. *прысл.* *пла́хтой.* Спосаб складвання дошак у выглядзе трохвугольніка. *Однэ на однэ — это положыла плахтой доскі, поклалі на плахту.* Горск Бяроз.

ПЛАЦ *м.* Участак зямлі. *Плац зямлі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛА́ЦЕ *гл.* ПЛА́ЦЁ

ПЛАЦЕ́НАК, ПЛУЦЕ́НАК *м.* Даматканае палатно ў палоску або клетку. *І я плаценак ткала.* Чычалі Швянч. *Нада плаценак выткаць на порткі.* Быстрыца Астр. *Плаценак ткалі, у сем сартоў пафарбаваць трэба было.* Рыбчына Віл. *Плуценак — матэрыял у палоску.* Беразіно Докш.

ПЛАЦЕ́НАЧАК *м. памянш.* да п л а ц е́ н а к. *Плаценачак ткалі і спадніцы шылі.* Гемзы Шальч.

ПЛАЦЕ́НАЧКА, ПЛАЦЕ́НЯЧКА *ж. памянш.* да п л а ц е́ н к а 1. *Плаценачкі ўсякія, як сарганізаваўся: і ружовая клетка, і чырвоная.* Магуны Паст. *Падыспат плаценачку ткалі.* Саланое Віл. *Плаценячкі ткалі ценянькія, у клетачкі і ў пасачкі.* Ракаўскія Швянч.

ПЛАЦЕ'НАЧНЫ *прым.* Які зроблены з даматканага палатна. *Плаценачная ішло на верхнюю адзежу.* Магуны Паст.

ПЛАЦЕ'НКА, ПЛАЦЕ'НЬКА *ж.* і *н.* 1. Тое ж, што і плаце́нак. *Я плаценку ткала.* Гайна Лаг., Чычалі Швянч. *Плаценка ткалі.* Парэчча Гродз. *Вытчаш плаценка якое, куплёнага ня насілі.* Ракаўскія Швянч. *Ткалі сваёй работы на спадніцы ў клеткі, палоскі — называлася плаценка. Плаценка на спадніцы, на сукні.* Пацаўшчына Дзятл. *Упроста плаценку ткалі.* Саланое Віл. *Выткала плаценку і пашыла спадніцу.* Курaполле Паст. *Плаценка ткалі ў палоскі, у дзюжачкі.* Дакудава Лід. *Пачасы спрадзеш і начэш дзве сцянэ плаценка, бывая пашыеш спадніцу і каптан.* Кіралі Шчуч. *Наткала плаценка, пашыю спадніцу.* Галубы Маст. *У клеты вялікія плаценка ткалася. Плаценка ткалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Плаценку ткалі.* Старыя Трокі Трак. *Шарачак на мушчынскія штаны, плаценка — жанчынам на спадніцы, на сукенку.* Крэва Смарг. *Плаценка — дробныя клетачкі, спадніцы шылі. Плаценку бабам ткалі.* Рыбчына Віл. *Плаценкі вытчыць і колдры шылі.* Лайпушкі Ігн. *Плаценькі ткалі.* Гемзы Шальч. 2. Спадніца з даматканага палатна. *Плаценку пашыла.* Гайна Лаг.

ПЛАЦЕ'НКО *н.* Тое ж, што і плаце́нак. *Плаценко злажыла ў складачкі.* Магуны Паст. *Ткуць кужаль і плаценко.* Вострава Маст. *Плаценко ткуць у клетку.* Малахоўцы Бар.

ПЛАЦЕ'НЬКА *гл.* ПЛАЦЕ'НКА

ПЛАЦЕ'НЯЧКА *гл.* ПЛАЦЕ'НАЧКА

ПЛА'ЦЁ, ПЛА'ЦЕ, ПЛА'ЦЬЕ, ПЛА'ЦЦЕ, ПЛА'ЦЦЁ, ПЛА'ЦЦЯ, ПЛА'ЦЯ *зб. ж.* і *н.* 1. Бялізна. *Трэба плацё мыць у цёплай вадзе, а палакаць у халоднай.* Старое Сяло Зэльв. *Плацё мылі ў цёплай вадзе, паласкалі ў халоднай.* Малахоўцы Бар. *Буду кутаці плаце.* Смаляніца Пруж. *У нас плацце кажуць.* Багушэвічы Бярэз. *Плацце зоўтра буду мыць.* Мачаск Бярэз. *Пашла праць плацце. Атжымала плацце.* Пасека Ст.-Дар. *Плаццё перылі пранікамі.* Малахоўцы Бар. *Цяслою выдзеўбалі карыта мыць плаццё.* Альхоўка Навагр. *Плацця паласкаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плацця жлукцілі, кладзем у жлукта, паліш каменя, ліеш воду, і вада балбоча.* Вецярэвічы Пух. *Трэба плацця мыць.* Азяраны Раг. *Нада плацця мыць, пайду лух рабіць.* Валынцы В.-Дзв. *Дайней казалі: «Памыла плацця».* Вострава Маст. 2. Адзенне. *Світка і кажух — гэта пара плацця.* Ухвала Круп. 3. Сукенка. *У мое сэстрэ было хорошэ плаце.* Смаляніца Пруж. *Скіньмо плацье.* Дзяніскавічы Ганц. *Адно плацце справіла.* Пасіене Лудз. *Плацця палатняная шылі і красілі.* Азяраны Раг. *Я адзела плацця.* Пасіене Лудз. *Я сабе якую плацю пашыю.* Рагулішкі Даўг. *Дайга плацця ў цябе.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛАЦІ'НА *ж.* 1. Жэрдка ў плоце. *У плоце плаціны прыбіты.* Быстрыца Астр. *Жорткі ў плоця называлі плаціны.* Магуны Паст. 2. Плаціна. *Прарвала плаціну і вадой залілі лух.* Лісна В.-Дзв.

ПЛАЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Плаціць. *Мне плаці сабе грошы, а ты сваю прадай.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён плаціў трыцаць капеек у дзень.* Швэды Вільн. 2. Дарыць у час вяселля. *Нявесца добра плоцяць.* Магуны Паст. ∇ *За добрае злым плаціш.* Кураполле Паст.

ПЛАЦФО'РМА *ж.* Від падэшвы. *На плацформе туфлі.* Быстрыца Астр.

ПЛА'ЦЦЕ *гл.* ПЛА'ЦЁ

ПЛА'ЦЦЁ *гл.* ПЛА'ЦЁ

ПЛА'ЦЦЯ *гл.* ПЛА'ЦЁ

ПЛА'ЦЬЕ *гл.* ПЛА'ЦЁ

ПЛА'ЦЯ *гл.* ПЛА'ЦЁ

ПЛАЦЯ'НКА *ж.* Збудаванне з лазы для захоўвання сена. *Плацянка аплятаная з лазы, лажылі сена.* Рыбчына Віл.

ПЛАЦЯНКО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і п л а ц ё н а ч н ы. *Плацянковыя спадніцы насілі, тканыя з парцяных нітак у пасы.* Лісна В.-Дзв. *У іх наўлечкі плацянковы.* Старыя Трокі Трак. *Ткалі плацянковае палатно.* Малахоўцы Бар. *Плацянковая спадніца.* Рыбчына Віл. *Плацянковую выткала спадніцу.* Курaполле Паст. *Андарак плацянковы ў сем полак.* Рудня Чэрв.

ПЛАЧ *м.* Плач. *Плачу нарабіла ў ранні.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◊ *З плачу сысці* — захварэць. Кузьмічы Люб.

ПЛА'ЧУЧЫ *прысл.* З плачам. *Прышла дамоў плачучы.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Той прожывэ вік скачучы, а той — плачучы.* Сіманавічы Драг.

ПЛАШАНІ'СКО *н.* Хто непаслухмяны. *Плашаніско ты!* Ялова Пруж.

ПЛА'ШКА *ж.* 1. Вялікая трэска. *Плашкі, як дзерава чэшуць, велькія плашкі адбіваюць.* Кіралі Шчуч. *Крупныя трэскі называюць плашкі. Плашак нанасіў у хату.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сякерай шчэпя калоткі на плашкі.* Гемзы Шальч. 2. Палавіна качана капусты. *Нарэзала плашак і на дно капусты паклала. Ты клала плашкі ў капусту?* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЛАШЧ *м.* Плашч. *Бяры плашч, а то змокнеш, як пагоніш у поле.* Кіралі Шчуч. *Одягні плашча, бо на дворыэ зімно.* Курашэва Чыж. *Зложы плашчя, а то бач дошч почынае тырусыты.* Сіманавічы Драг. *Возьмы плашчя с собою до коров, бо шось вэльмы хмурыцця зрання.* Ушкавіца Кобр.

ПЛАШЧА'К *м.* 1. Абсклюдаванае з двух бакоў бервяно. *Плашчакі — шырокія бярвёна, восям цаль.* Быстрыца Астр. *Плашчакі апчэсаныя.* Альхоўцы Лях. 2. Грунтвага. *Дзе во*

*плашчак палажыў?* Старыя Трокі Трак. 3. *бат.* Сорт бобу. *Боп плашчак, а не ўрадзіў сёліта.* Лісна В.-Дзв.

ПЛАШЧУГА', ПЛАШЧУХА' *ж. бат.* 1. Тое ж, што і п л а с к у х á. *Плашчуга, як просо, лісты доўгянькія, і выпуская, праўда, мяцёлку.* Малахоўцы Бар. *Плашчуга на полі расце.* Альхоўцы Лях. *Плашчуха па лугах расце.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Асака. *Па-за рэкамі расце плашчуга, на луках расце, на багнах.* Новікі Гродз.

ПЛАШЧЫНА' *ж.* Вузкая, прадаўгаватая дошка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вулеі. *Плашчына застаўлялася ў вуллі.* Кураполле Паст.

ПЛАШЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Горшы. *Звесці былі плашэйшыя, як раней.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Плашэйшы кабан астаўса.* Кузьмічы Люб. *Дарошкі ткалі с плашэйшага, а кужаль— на салфеткі ішоў.* Салады Лудз. *Зубы плашэйшыя сталі.* Вялікія Баяры Шчуч. ▽ *Плашэйшая ізвесць, калі сарока сакочыць і ў акно хвастом, а галавой у поле.* Дзёрнавічы В.-Дзв.


**СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКИХ ГОВОРОВ СЕВЕРО-ЗАПАДНОЙ БЕЛОРУССИИ И ЕЕ ПОГРАНИЧЬЯ, т. 3**

Издательство «Наука и техника». На белорусском языке

Рэдактар Н. М. Царова. Мастак В. В. Сіманенка. Мастацкі рэдактар В. Ф. Грынкевіч. Тэхнічны рэдактар І. В. Валахановіч. Карэктар Н. В. Кудрэйка

ІБ № 1489

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 11.05.82. Падпісана ў друк 18.10.82. АТ 14130. Фармат 60×90[1]/16. Папера друк № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 33,5. Ум. фарб.-адб. 33,8. Ул.-выд. арк. 34,8. Тыраж 1300 экз. Заказ № 865. Цана 2 р. 40 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

